НАЦЫЯНАЛЬНАЯ АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСІ
Інстытут мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы

# *БЕЛАРУСКАЯ ДЫЯЛЕКТАЛОГІЯ*

*матэрыялы і даследаванні*

**Зборнік навуковых артыкулаў**

Заснаваны ў 2010 годзе

*Выпуск 1*



Мінск
«Беларуская навука»
2010

УДК 811.161.3'28(082)

Зборнік змяшчае падборкі дыялектных слоў з розных рэгіёнаў Беларусі. Матэрыял афармлены ў выглядзе слоўнікавага артыкула, да кожнага слова падаецца багаты ілюстрацыйны матэрыял. У раздзеле «Навуковыя даследаванні» прадстаўлены артыкулы па розных мовазнаўчых праблемах. Акрамя таго, у зборніку змяшчаюцца матэрыялы па фразеалогіі і анамастыцы. Адметнай часткай кнігі з'яўляецца раздзел «Тэксты з беларускіх гаворак».

Разлічана на моваведаў, этнографаў, гісторыкаў, а таксама ўсіх, хто цікавіцца родным словам.

Рэдактары:
кандыдаты філалагічных навук
Л. П. Кунцэвіч, В. М. Курцова

Рэцэнзенты:
доктар філалагічных навук В. П. Лемцюгова,
кандыдат філалагічных навук Л. В. Леванцэвіч

# ПРАДМОВА

Дыялекталагічны зборнік «Беларуская дыялекталогія. Матэрыялы і даследаванні» з'яўляецца працягам публікацыі дыялекталагічных зборнікаў[1], падрыхтаваных да друку супрацоўнікамі аддзела дыялекталогіі і лінгвагеаграфіі, у якіх асвятляюцца важнейшыя пытанні дыялектнай лексікаграфіі, лексікалогіі, фразеалогіі, фанетыкі, анамасіялогіі і інш.

Матэрыялы ў зборніку размеркаваны па пяці раздзелах: «З лексікі народных гаворак», «Тапанімія», «Фразеалогія», «Навуковыя даследаванні», «Тэксты з беларускіх гаворак».

Раздзел «З лексікі народных гаворак» з'яўляецца традыцыйным і самым прадстаўнічым у зборніку, яго складаюць пераважна слоўнікавыя артыкулы (тлумачальныя па характары падачы матэрыялу), падборкі дыялектнай лексікі, якія запісаны самімі аўтарамі ў розных рэгіёнах Беларусі: у Мядзельскім, Драгічынскім, Столінскім, Любанскім, Валожынскім, Лунінецкім і іншых раёнах. Лексіка размешчана ў алфавітным парадку, пры кожным слове падаецца ілюстрацыя.

Упершыню ў дыялекталагічным зборніку ў асобны раздзел вылучаны працы, прысвечаныя даследаванню беларускай народнай анамастыкі, найперш праблемам тапаніміі, паколькі ў апошнія гады ўсё большая ўвага вучоных скіроўваецца на вывучэнне менавіта гэтага пласта абазначальных сродкаў, якія ўяўляюць сабой адметную групу найменняў.

Традыцыйным для зборніка становіцца раздзел «Фразеалогія», у якім падаюцца матэрыялы як пастаянных аўтараў гэтага выдання, так і маладых даследчыкаў дадзенай галіны беларускага мовазнаўства.

У раздзел «Навуковыя даследаванні» ўключаны навуковыя артыкулы па розных мовазнаўчых праблемах: даследаванне пэўных тэматычных груп лексікі, фанетычных асаблівасцей гаворак, матывацыі, якая легла ў аснову назваў найменняў, удакладненне групоўкі гаворак і інш. Усе працы падрыхтаваны на дыялектным матэрыяле, сабраным аўтарамі, або выбраным з лексікаграфічных крыніц па беларускай дыялекталогіі.

У раздзеле «Тэксты з беларускіх гаворак» змешчаны ўзоры дыялектнага маўлення мясцовых жыхароў з розных куткоў Беларусі. Запісы зроблены пераважна ў час дыялекталагічных экспедыцый або сабраны аматарскім чынам. У тэкстах адлюстраваны разнастайныя структурныя асаблівасці беларускіх народных гаворак пачатку XXI ст. Гэтыя матэрыялы – крыніца цікавай і змястоўнай інфармацыі для любога чытача: тых, хто спецыяльна вывучае матэрыяльную і духоўную культуру беларусаў, навакольны свет, і тых, для каго яна з'яўляецца захапляльным аматарскім заняткам.

У канцы кнігі падаецца алфавітны індэкс дыялектных слоў, змешчаных у падборках лексікі і навуковых даследаваннях, з указаннем старонкі, на якой ужыта слова. Акрамя таго, у зборніку змяшчаецца агульны спіс скарачэнняў раёнаў Беларусі, каб пазбегнуць іх шматразовага паўтарэння ў працах розных аўтараў. Матэрыялы, уключаныя ў зборнік, цалкам захоўваюць абраны аўтарам спосаб падачы інфармацыі, а таксама паметы, якія суправаджаюць слова. Акрамя таго, у тэкстах застаюцца нязменнымі графічныя сродкі, якія прыняты даследчыкамі пры перадачы асаблівасцей маўлення. У сувязі з гэтым у зборніку непаслядоўна і неаднастайна

---

[1] З народнага слоўніка. Мінск, 1975; Народнае слова. Мінск, 1976; Народная лексіка. Мінск, 1977; Народная словатворчасць. Мінск, 1979; Жывое народнае слова. Мінск, 1992; Гавораць чарнобыльцы. Мінск, 1994; Жывое наша слова. Мінск, 2001; Скарбы народнай мовы. Мінск, 2005; Народныя скарбы. Мінск, 2008.

адлюстроўваецца наяўнасць націску ў словах. Неаднастайным з'яўляецца таксама адлюстраванне некаторых асаблівасцей у рэалізацыі гукаў і пісьмовая адаптацыя дыялектных запісаў. Пры выяўленні пэўных адметнасцей у аўтарскім матэрыяле, у тым ліку і пры выкарыстанні асобных абраных графічных сродкаў, на гэта спецыяльна зважаецца ў спасылцы да працы.

Зборнік будзе цікавым не толькі для моваведаў, але і для этнографаў, фалькларыстаў, гісторыкаў і ўсіх, хто з павагай адносіцца да роднага слова. З яго публікацыяй у навуковы ўжытак будуць уведзены новыя дыялектныя матэрыялы, якія стануць запатрабаванымі пры стварэнні зводнага слоўніка беларускіх народных гаворак, тэкставага нацыянальнага корпусу сучаснага маўлення, а таксама пры падрыхтоўцы тэарэтычных абагульняючых прац па нацыянальнай і славянскай дыялекталогіі.

Наступныя дыялекталагічныя зборнікі будуць выходзіць пад назвай «Беларуская дыялекталогія. Матэрыялы і даследаванні». Вып. 2, 3 і г. д.

# З ЛЕКСІКІ НАРОДНЫХ ГАВОРАК

*Н. М. Бунько, Ю. В. Маліцкі*

## З ЛЕКСІКІ ГАВОРАК ПАЎНОЧНАГА ЗАХАДУ БЕЛАРУСІ

Прадстаўленая ў падборцы лексіка была запісана аўтарамі падчас дыялекталагічных экспедыцый у Браслаўскі, Валожынскі, Ваўкавыскі, Зэльвенскі, Лагойскі і Шчучынскі раёны. Паводле традыцыйнага падзелу беларускіх народных гаворак пералічаныя раёны адносяцца да паўночна-заходняй зоны, асобныя з іх размешчаны на яе перыферыі (Смалявіцкі, Мінскі раёны).

Падборку склалі як словы, так і фразеалагізмы розных тыпаў і структурных мадэляў. Матэрыял, запісаны ў 2005–2008 гг., ярка ілюструе асноўныя лексіка-семантычныя тэндэнцыі развіцця вясковага маўлення апошняга часу. Сярод іх актыўнае пашырэнне тэматычнай разнастайнасці лексічнага запасу, узбагачэнне спектра фармальна-прагматычных сродкаў (значна багацейшага ў параўнанні з літаратурнай мовай), істотнае павелічэнне колькасці сацыялектных запазычанняў і г. д.

Значнае месца ў падборцы займаюць эмацыянальна-ацэначныя і экспрэсіўныя словы. Яны выступаюць паказчыкам самабытнасці і непаўторнасці дыялектаў як лакальных сацыяльна-камунікатыўных сістэм. Яркая знешняя форма і арыгінальная зместавая спецыфіка абумоўліваюць высокую оказіянальную запатрабаванасць дыялектных эматываў і экспрэсіваў у літаратурным маўленні. Эмацыянальна-ацэначныя словы выражаюць каштоўнаснае стаўленне моўцы да аб'екта намінацыі. У маўленні яно рэалізуецца, як правіла, за кошт адметных каранёў і афіксаў, а таксама прагматычна выніковых тыпаў пераносу значэння. Экспрэсівы ў сваім значэнні падкрэсліваюць максімальна высокую ступень рэалізацыі пэўнай якасці прадмета (напрыклад, *маразяка* 'вельмі моцны мароз').

**АББІВА́ЦЬ: БАКІ́ АББІВА́ЦЬ**. Часта ляжаць, знаходзіцца (у бальніцы). *Гэ́ля ім усё аддала́, зь дзёткамі па бальні́цах бакі́ аббіва́ла.* Кандакі Зэльв.

**АБДАРЫ́ЦЬ** *зак.* Ашчасліві́ць; зрабіць дабро каму-небудзь. *Мяне́ яшчэ́ Бог абдары́ў, што я была́ двайня́ткай. Вáся, хло́пчык, памёр.* Дзякаўцы Шчуч.

**АБЛІВА́НЦЫ** *мн.* Гумавы абутак, падобны да туфляў. *Накупля́ла не́чага: абліва́нцы – кароціенькіе, пахожые як туфлі, рэзі́навые, блісце́лі. Так называ́ліся – абліва́нцы.* Кандакі Зэльв.

**АБМА́НСТВА** *н.* Падман, несправядлівасць. *Так і не́калі было́ абма́нства: ніхто́ ніко́го ні глядзе́ў, ці ты працава́ў, ці ты бе́дны. Пазабіра́лі ды ўсё!* Кандакі Зэльв.

**АДДО́РВАЦЬ** *незак.* Адарыць, дарыць у знак удзячнасці. *Я тады́ прые́хала і кажу́: «Глянь, у вас часы́ но́выя». А сын ка́жа: «Жо́нка хрысьці́ла дзіця́, дык да́лі ёй часы́ ў пада́рак, што яна́ ку́май была́». А ў нас няма́ мо́ды тако́й – аддо́рваць.* Вішнева Валож.

**АДКО́РМАЧНІК** *м.* Адкормачнік, кормнік; вялікі бык, якога спецыяльна адкормліваюць на ферме. *Пасле́днае ўрэ́мя была́ на фе́рме на аткорма́чніках, на быка́х па шэсьсо́т кілагра́м.* Прыстромы Смал.

**АДПРАЦАВА́ЦЬ** (каго-небудзь) *зак.* Накіраваць на работу. *Пато́м ад рабо́ты адпрацава́лі нас у го́рад Кастраму́, на лесаразрабо́так.* Лагаза Лаг.

**АДШЛЕ́ІЦЬ** *зак., эмац.* Моцна пабіць чым-небудзь. *Я гавару́ табе́ адкры́тай душо́й: я цябе́ так адшле́ю, што по́йдзеш без паго́н.* Лагаза Лаг.

**АКАСЕ́ЦЬ** *зак., эмац.* Стаць п'яным. *Ру́мка за ру́мкай льецъ. Ён ужо́ і акасе́ў.* Лагаза Лаг.

**АТТЫ́РЫЦЬ** *зак., эмац.* Пабіць. *Яго́ там атты́рылі до́бра, дзе́ньгі адабра́лі.* Лагаза Лаг.

**БАЎТА́ЦЦА** *незак., эмац.* Хадзіць без справы. *Рабо́таць не рабо́таюць, а баўта́юцца.* Густаты Брасл.

**БАХМА́ЦЕНЬКІ** *прым., памянш.-ласк.* Махнаты. *Ваўня́нка – така́я бахма́ценькая. Ці́па валасі́стая така́я.* Дзегцяры Брасл.

**БЕ́ЛАЯ** *ж.* Гарэлка. *Прыно́сіла буты́лкі бе́лай, кака́ву, ко́хвею, шакала́ткі, пі́во, пячэ́ньне длі́ннае, пра́ньнікі.* Лагаза Лаг.

**БО́ЎТНУЦЬ** *зак.* Крыху ўліць. *А другі́ раз як за-ці́рка ́якая як забе́ліць, то яно́ што заме́тно, што ўлі́ла туды́, бо́ўтнула малака́.* Кандакі Зэльв.

**БУ́ХАЦЦА** *незак., эмац.* З цяжкасцю хадзіць, правальваючыся ў снег. *Тады́ на ху́тары ў ле́се жыла́. Па снягу́ зімо́й у шко́лу бу́хаюся... Гу́рбіна – выка́чываюся.* Дзегцяры Брасл.

**ВАЛТЭ́ЖЫЦЬ** *незак., эмац.* Абражаць, крыўдзіць. *А ма́церу ён то́жа папавалтэ́жыў. Ско́лька яна́ ні начава́ла ўдо́ма!* Цяглевічы Зэльв.

**ВЫ́ЧУХАЦЬ** *зак., эмац.* Ачуняць, ачухацца. *Мéсіц ляжáла на кáпельніцы, тóлька на кáпельніцы. І вы́чухала, жы́ва асталáся.* Прыстромы Смал.

**ГАРЧЫЯ́** *ж.* Горыч. *А рассалí вады́ трохлітрóвую бáнку, éсьлі мнóга качанóў ты накрышы́ла, тады́ ўсю капýсту зал'éш і памішáй, памішáй лóшкай, пáлачку ўтыркáй і кáжны дзень мішáй, каб гарчыя́ схадзíла.* Лагаза Лаг.

**ГÁХНУЦЬ** *зак., эмац.* Моцна грукнуць (пра выбух). *Проціта́нкавы гранáты – от яны́ такíе длíнные былí. Я адкрýціў вінт, а там шнур такí. Я кíнуў, зямлёй хацéў* [засыпаць]. *Як гáхнула там!* Драгічаны Ваўк.

**ДАСЦÍГНУЦЬ** *зак.* Дабіцца свайго; дасягнуць, ажыццявіць задуманае. *Янá і пагавóрыць глáдко, і сьхітрýе – усю́ды дасьцíгне.* Кандакі Зэльв.

**ДАСЦІЖНЫ́** *прым.* Актыўны чалавек, які заўсёды ажыццяўляе задуманае. *Бáцько хоць не багáты, а дасьціжны́ быў.* Цяглевічы Зэльв.

**ДВАЙНЯ́ТКА** *ж.* Адзін з блізнятаў. *Мянé яшчэ́ Бог абдары́ў, што я былá двайня́ткай. Вáся, хлóпчык, памёр.* Дзякаўцы Шчуч.

**ДЗЕВУЛЯ́** *ж., эмац.* Пра дарослую, але бесталковую дзяўчыну. *Двáццаць чацьвёрты год – во якáя дзевуля́!* Лагаза Лаг.

**ДЗЕРАВЯ́НКІ** *мн.* Від самаробнага абутку ў пасляваенны час. *А на бýдні дзень – дзіᵉравя́нкі: з дзéрава вы́сячана падашвá, як нéмцы давáлі вýзьнікам.* Кандакі Зэльв.

**ДАЦЬ ДЗЁРУ.** З'ехаць, уцячы, пакінуць. *У калхóзах óчэнь нíзкія зарплáты. Патамý лю́дзі ўсе дáлі дзёру.* Кандакі Зэльв.

**ДЗÉСЯЦЬ РАБÓТ НАНЯ́Ў, А ЗА АДНÝ НОЧ АДДÁЎ.** Пра чалавека, які шмат зарабляе, але і лёгка траціць грошы. Лагаза Лаг.

**ДЗЁЎБАЦЦА** *зак., эмац.* Хадзіць марудна, паціху. *Каля́ хáты дзёўбаюся, скóлькі хачý ляжý.* Густаты Брасл.

**ДЗІЖЎР: ДЗІЖЎРАМ ДЗІЖЎРЫЦЬ.** Працаваць сторажам. *Рабóтае ў Мíнску: дзіжýрам дзіжýра і аўтóбусы раманцíравае.* Лагаза Лаг.

**ДЗІРВÁНАК** *м.* Дзірван; зарослы ўчастак зямлі. *Лугí бóльшы былí, тапéр – дзірвáнкі. Усé зараслí зямлёй.* Мацяшы Брасл.

**ДЗÍРСА** *ж.* Счарнелыя каласкі пшаніцы. *Больш ячмéня былó, пшанíца ў нас не вéльмі. Янá былá на пóлі і то казáлі – дзíрса.* Кандакі Зэльв.

**ЁЙ ГАВАРЫ́ «КÓШАНА», ЯНÁ ГАВАРЫ́Т «БРЫ́ЧАНА».** Пра вельмі ўпартага чалавека, які сцвярджае сваю думку, не зважаючы на меркаванні астатніх. Лагаза Лаг.

**ЖЫТЎХА** *ж., эмац.* Жыццё. *У нас тóжа жытýха былá, хай бог крые, лю́дзі!* Кандакі Зэльв.

**ЗÁБЛАЦЬ** *ж.* Мулінэ, каляровыя ніткі для вышывання. *У мянé вышывáць харашó палучáлась. Нíткі былí такíя – зáблаць называ́лісь.* Лагойск.

**ЗАГРЎЗЦІ** *зак.* Завязнуць, забуксаваць (пра аўтамабіль). *На другýю вýліцу нáда былó éхаць, па э́тай ні праéдзе: трáсу перакапáлі. Мой* [муж] *éхаў на другýю вýліцу і загрýз.* Лагаза Лаг.

**ЗАПÓЗНА** *прысл.* Надта позна. *Бáчыце, як Лукашэ́нко старáецца, каб дзіᵉрéўню вастанавíць. Запóзна аглéдзіліся.* Кандакі Зэльв.

**ЗАРАНЁ** *прысл.* Вельмі рана. *Устаём заранё, трэ́ба памагáць, мáці ж адна́ ні дасць рáды.* Кандакі Зэльв.

**ЗАТÁРВАЦЦА** *незак., эмац.* Запасаць ежу. *Партызáны былí прыéгджіе. Днём, прімéрна, яны́ в лісáх, а нóчью éдуць затáрвацца в дзірэ́ўню.* Драгічаны Ваўк.

**ЗБЫТКАВÁЦЬ** *незак.* Прыдзірацца, прымушаць кагосьці рабіць адну і тую ж справу некалькі разоў. *Я-то тýю хáту папакрáсіла. А ён усё зь мянé збыткáваў.* Цяглевічы Зэльв.

**ЗДАЙ БÁБУ Ў ЛÓМКУ, А САМ – У САЛÓМКУ.** Пра нежаданне дапамагчы каму-небудзь. *Ён гавóрыць: «Перадавáйце кварцíру пад раíіспалкóм, і ўсё». Я ямý атвéціла: «Што? Здай бáбу ў лóмку, а сам – у салóмку?»* Лагаза Лаг.

**ЗМЯЯ: ЗМЯЯ́ І З ЗМЯÍ ВОН.** Пра вельмі дрэннага чалавека. Лагаза Лаг.

**ЗНÁЙДА** *агульн., эмац.* Злодзей, зладзейка. *У дóме прыстарэ́лых пóйдзе мыць бáбак у вáнну і там грóшы аббірáла. Во, якáя знáйда!* Лагаза Лаг.

**КАЛЯ́НДРА** *ж.* Карыяндр. *Тады́ я яé* [паляндвіцу] *дастаю́, качáлачкай зб'ю, пéрчыка, часначкý, каля́ндры. Каля́ндра свая́ расцé.* Драгічаны Ваўк.

**КАСЦЮ́РЫНА** *ж., эмац.* Вельмі вялікая костка. *Óсенню, пéрад зімóй як выкáпываць гэ́тыя гладзіóлусы, тут калá гáнка, пяць касьцю́рын – сьвíньы́я ці якíя яны́ там.* Гатава Мін.

**КАЧЎЛАЧКА** *ж.* Галушка. *Мáма стакáн вады́ пастáвя на печ і цéста скры́ша мáленьку качýлачку, скрýця – і ў гэ́ту вадý.* Лагаза Лаг.

**КАШЭ́ЛЬ** *м.* Кошык. *І я бéгала зарабля́ла. Камý бýльбу пасаджý – кашэ́ль бýльбы дадýць.* Прыстромы Смал.

**КÍСНУЦЦА** *незак.* Кіснуць (пра малако). *Як кíснецца гэ́та малакó, акíснецца, пóтым стáвіцца дзенябýдзь у цяплó.* Драгічаны Ваўк.

**КЛЮКÁ** *ж.* Качарга. *Качаргá такáя, што пацця́гваць дрóвы, у іх называ́ецца клюкá.* Мацяшы Брасл.

**КРУЖАВÍНЫ** *мн.* Месца на целе паміж рэбрамі і паясніцай. *Бальны́е ўжо: і ён балéе і я балéю. Як увязáлася што-та тут у éтай кружавíны балéць.* Мацяшы Брасл.

**КРУПÉНЬКА** *ж.* Маленькі кавалак чаго-небудзь; крошка. *Цéста апáла на ніз, па крупéньке падымáецца.* Лагаза Лаг.

**КРУЧÓК** *м.* Маленькая чарка для гарэлкі. *На тáнцах хлóпцы мýзыку закáзывалі, а дзяўчáтам трэ́ба пачаставáць музыкáнта. Нíᵉслі ядý, самагóнку, кры́шку, па кручкý.* Кандакі Зэльв.

**КЎДЛЫ** *мн., эмац.* Доўгія кучаравыя валасы. *Кýдлы гэ́тыя ні хóча адразáць. Фáйныя валасы́ ў ягó былí, дóўгія, кучарáвыя.* Цяглевічы Зэльв.

**КУ́РНІК** *м.* Куратнік. *Такая хата была: надворак і сразу хлеў і хата – усё разам было. Кутачак хаты, калідорчык і хлеў, курнік.* Цяглевічы Зэльв.

**ЛЕ́ЗЦІ** *незак., эмац.* З цяжкасцю ўзнімацца па лесвіцы. *Палезла ў Дом правіцільства на сядзьмы атаж з малою.* Лагаза Лаг.

**ЛЯПЯ́НКА** *ж.* Драўляная хата, звонку абмазаная глінай. *Не вельмі было тады замахнуцца на велькія грошы. Хацелі ліапянку якую зляпіць, каб жыць было дзе.* Кандакі Зэльв.

**МАРАЗЯ́КА** *м., эмац.* Вельмі моцны мароз. *У Комі АССР такі маразяка – госпадзі, невазможна!* Кандакі Зэльв.

**МАРКО́ШКА** *ж., эмац.* Морква. *І маркошку на цёрачку нацярэш. Не на гэту цёрку, што цёрці бульбу, а буракі есь цёрка цярэць.* Лагаза Лаг.

**МАХО́ТКА** *ж.* Маленькі гарлачык для прыгатавання ежы ў печы. *Маленькі такі гарлачык, ета называлась ні гаршочык, а махотка. У махотачках дзелалі очынь укусную бапку.* Лагойск.

**МЫ́ТКІ** *мн.* Рэчы, пажыткі. *Немцы выехалі з хаты, а там, кажа, бяры што хочаш у хаце, столькі было адзёжы, дабра. Мыткаў набрала, а тут ужэ ў Лоўжы ўсё адабралі, савецкіе салдаты ці хто там, усе тые лахманы, адно, каторо не гожа, пааткідалі.* Кандакі Зэльв.

**НА СВЕТ ПУСЦІ́ЦЬ.** Нарадзіць. *Гэта ж у мацеры кажды год – дзіця. На тое ўрэмя адно за адным шасцёра дзяцей на сьвет пусьціла.* Цяглевічы Зэльв.

**НАЗВАНІ́ЦЬ** *зак., эмац.* Моцна ўдарыць. *Чаму цябе ніхто ні назвоніць у галаву.* Лагаза Лаг.

**НАПА́СЦІ** *зак.* Пачацца (пра хваробу). *А калі ўжо завязьлі ў бальніцу, у Зэльве сказалі, што ўжэ позна лячыць – туберкулёз напаў.* Цяглевічы Зэльв.

**НАЎКРУ́ГА** *прысл.* Вакол. *Свае тыля зямлі блізко, наўкруга вёскі.* Сарокі Шчуч.

**НЯГО́ЖА.** Не патрэбна. *Немцы выехалі з хаты, а там, кажа, бяры што хочаш у хаце, столькі было адзёжы, дабра. Мыткаў набрала, а тут ужэ ў Лоўжы ўсё адабралі, савецкіе салдаты ці хто там, усе тые лахманы, адно, каторо нягожа, пааткідалі.* Кандакі Зэльв.

**НЕ ЗНАЦЬ, У ЯКІ́ БОК ПАВАРО́ЧВАЦЦА.** Пра чалавека, якога моцна аблаялі, насарамацілі. *Вот толька прыйдзі да мяне ў хату! Ня будзіш знаць, у які бок паварачывацца. Гавару табе аткрытай душой, што я цібе так атшлею, што пойдзіш біс пагонаў.* Лагаза Лаг.

**НЕ́КО** *прысл.* Нեяк. *Зімой німа дзе паставіць: неко прахладно ўсё ў хаці.* Кандакі Зэльв.

**НЕМУДРА́ЧЫ** *прым.* Просты, сціплы. *Там свой дом мы пастроілі – немудрачая была такая халупа.* Гатава Мін.

**НЕЧАГА ДАЦЬ, А ЁСЦЬ ШТО ДАЦЬ – НЕ Ў ШТО ЎВЯРНУЦЬ.** Пра актыўнага, але несумленнага чалавека. *«Харошая» дзеўка: нечага даць, ёсь што даць, неўшта ўвярнуць.* Лагаза Лаг.

**НІ ЛА́ХІ НІ МА́ХІ.** Пра чалавека, які не выконвае сваіх службовых абавязкаў, не робіць нічога. *Када той прыдсідаціль быў, ён у міне тры раза быў у хаце. А гэты ні знае, дзе я і жывў. Ну, ні лахі ні махі!* Лагаза Лаг.

**НІ СВЕ́ТУ НІ ЯДЫ́ НІ ЦВЕ́ТУ.** Нічога. *А што завідаваць, што памёр і ня відзіў ні сьвету ні яды ні цьвету?* Лагаза Лаг.

**НЯДУ́МАНА** *прысл.* Нечакана. *Тут во жыў брат і ўмёр. Как жа ш умёр нядумана.* Мацяшы Брасл.

**О́СТАЛАПЕНЬ** *агульн., эмац.* Дурань, бесталковы чалавек. *А я і сама, кажа, сядзела, як осталапень.* Цяглевічы Зэльв.

**ПАБЕ́Г: ЗДЗЕ́ЛАЦЦА Ў ПАБЕ́Г.** Збегчы адкуль-небудзь. *А я гавару: «Мы ўцікаем. У пабег зьдзелаліся. Спасіба, што давязіцё».* Лагаза Лаг.

**ПАВЕ́СЦІ** (каго-небудзь) *зак.* Заблудзіцца ў лесе. *Калі хто заблудзіўся, кажа: недзе павяло яго.* Гародзькі Валож.

**ПАДВО́ДНІЦА** *ж., эмац.* Пра п'яную жанчыну. *Яна прышла п'яная. Сама сабе нешта гавора, крычыць. Я гавару: «Знаіш што, падводніца, закрый дзьвёры!»* Лагаза Лаг.

**ПАДМЯТА́ЙЛА** *агульн., эмац.* Чалавек, які выконвае дробную, некваліфікаваную работу. *Ён казаў: «Папа, я хоць за падмятайлу там буду, але на карабаль стану». Ён дабіўся сваяго: стаў капітанам карабля.* Дзякаўцы Шчуч.

**ПА́РАНКА** *ж.* Гарачае і вільготнае паветра. *Бывала, ідзёш, дых такой – паранка.* Мацяшы Брасл.

**ПАТРО́СЕ** *прысл.* Патроху. *Усё сеіалі патросе. Эта ўжэ ў калхозах паявілася ўдабрэня.* Кандакі Зэльв.

**ПЕРАСЫ́ПАЦЬ** *зак.* Перабудаваць. *Кагда тая* [хата] *ўжо ўстарэла, перясыпалі – на хлеў зьдзелалі.* Мацяшы Брасл.

**ПЛЯЦ** *м.* Участак зямлі. *Як-то троха грошай сабралі, купілі пляц.* Кандакі Зэльв.

**ПРАЖО́РА** *агульн.* Абжора; прагны да яды. *Пражоры былі каровы – елі многа.* Мацяшы Брасл.

**ПРА́ННІК** *м.* Пернік. *Прыносіла бутылкі белай, какаву, кохвею, шакаладкі, піво, пячэньне длінное, праньнікі.* Лагаза Лаг.

**ПРЫКРА́СІЦЦА** *зак.* Прыгожа апрануцца. *Бацька так прыкрасіўся, прыяжджаў да цябе сюды.* Лагаза Лаг.

**ПРЫЦВІ́ЧЫЦЬ** *зак., эмац.* Накіраваць чалавека на добрыя паводзіны. *Яна як закадзіравалася, то баба як баба стала. У хаце рамонт зрабіла. Кажа, чаму мяне ранеій гэдак ніхто не прыцьвічыў?* Вішнева Валож.

**ПЯРЭ́ПАЛАХ** *м.* Спалох. *Пярэпалахі лячу дзеткам і маленькім, і бальшым.* Дзякаўцы Шчуч.

**РАЗНЕ́ЦІЦЬ** *зак.* Разбурыць. *Палац не быў разнечаны, а цяперака яго зусім разнецілі.* Вішнева Валож.

**РАТА́Й** *м.* Араты. *Ратай ездзіт плугом-канём, втарой – у барозны садзіт-кідае.* Мацяшы Брасл.

**СЕ́ННЯ НЕ ЕШ, А ПАЕШ ЗАЎТРА.** Пра часовую работу без аплаты, на перспектыву. *Праpаб гаворыць: «Мы вам дадзім работу, а када паспарты*

*прывязўць, бўдзім вам дзéньгі выдавáць». Я гаварў: «Агá, ты сёньня ня еш, а паéш зáўтра».* Лагаза Лаг.

**СПРÁЖЫЦЦА** *зак.* Спражыць, пасмажыць. *Éсьці не было чагó, бо пагарэла і бўльба. Тóлька боб не спрáжыўся, дык тады мы гэты боб лўшчылі і éлі.* Вішнева Валож.

**СТАР'Ё** *зб.* Старыя людзі. *Мáла тут у нас людзéй: пааставáлася тóлька стар'я.* Прыстромы Смал.

**СТРАГÁЧ** м. Зняволенне ў калоніі строгага рэжыму. *Ён, падлéц, маё піў, еў і міне ш пабіў. Дáлі тры гóда страгачá. Мáла такім людзям. Іх ні нáда выпускáць, ён апяць што-то зьдзéлае.* Лагаза Лаг.

**СУХАПЎЦЬ** *м.* Сухая мясціна. *Далжнó в прырóдзе быць балóта балóтам, сухапўць быць далжнó сухапўць, лес – лéсам.* Мацяшы Брасл.

**СЦІБАНЎЦЬ** *зак., эмац.* Украсці. *У мінé сóрак тысіч у цітрáдзі ліжáла. Янá іх з цітрáдзі сьцібанўла, а цітрáдзь захавáла.* Лагаза Лаг.

**СЯННІ́К** *м.* Матрац, набіты сенам ці саломай. *Загарэўся сяньнік – саламяны матрáс калá пéчы. Чуць не пагарэлі ўсе ў той хáце!* Кандакі Зэльв.

**ТРУДАВЫ́: ТРУДАВÁЯ РАБÓТА**. Вельмі вялікая, цяжкая работа. *На карóву нáда тóны две сéна. Каб яé халéра, такáя трудавáя рабóта!* Дзегцяры Брасл.

**ТУДÁКА** *прысл.* Туды. *А патóм нéйкі дурны, бальшавік які-та, прышóў да тáта: «Ой, пáне Стасюкéвіч, што вы? Аднá дóчка і тудáка вайнá, і тудáка вучóбы».* Дзякаўцы Шчуч.

**ТУРЗЯНЎЦЬ** *зак., эмац.* Тузаць, торгаць. *Суcéд адкруціў, турзянўў за шнур, услухáецца. Пачўў, што янá* [граната] *«шых-шых-шых» і ішчэ ўспеў атталкнўць.* Драгічаны Ваўк.

**УБІ́ЦЦА** *зак.* Пачацца (пра хваробу). *Задышка ў яé сільна былá, патóм áстма ўбілася.* Цяглевічы Зэльв.

**УДЗÉЛАЦЬ** *зак., эмац.* Забіць. *Дзік рáнены ідзёт на цібя. А струсіш – удзéлае.* Драгічаны Ваўк.

**УЗДЎМАЦЬ** *зак.* Уявіць. *Алé, бóжа, як уздўмаю, якáя там бальніца?!* Кандакі Зэльв.

**УЛЯПЁТЫВАЦЬ** *незак., эмац.* Ад'язджаць, мяняць месца жыхарства. *Паўстрáйваліся ўсе ў Валкавыск, у Грóдна, у Брэст. Хто як змог, паўляпётывалі сь сёлаў людзі.* Кандакі Зэльв.

**УПУСЦІ́ЦЬ** *зак.* Уступіць. *Патхóдзя да нас палкóўнік і гаварыць: «Рабяты, упусьціця мéста гэтым мáльчыкам».* Лагаза Лаг.

**УСЛУХÁЦЦА** *незак.* Падпарадкоўвацца. *Áле мы бáцька свайгó баяліся. Мы прыхóдзілі іс школы, кáжнаму-кáжнаму свая рабóта былá: мне, дапўсьцім, карóву напаіць, камў сéчкі нарэзаць – усім былó распрэдзеленó. Усé ўслухáюцца.* Цяглевічы Зэльв.

**ФАКТÓВЫ: ФАКТÓВЫ ЧАЛАВÉК**. Чалавек з прэстыжнай прафесіяй. *Гэта цяпéр шафярóў, бугалцярóў усякіх. А тады шафёр – фактóвы чалавéк шчытáўся.* Вішнева Валож.

**ХАВÁЛЬ** *м., эмац.* Кавалер, ухажор. *Бáцька прыяжджáў, выганяў хавалёў тваіх.* Лагаза Лаг.

**ХАДЗІ́ЦЬ: ГÓЛАЙ ГАЛАВÓЙ ХАДЗІ́ЦЬ**. Пра вельмі кароткую стрыжку. *А я гаварў: «Éта дзéвачка, а ні мáльчык. Есьлі мáльчык, зьнімі сваю фурáшку, гóлай галавóй хóдзіш.* Лагаза Лаг.

**ХРАБЫСТÁЦЬ** *незак.* Хрумстаць, хрусцець. *Тады ўжо яблыкі былі, зялёныя такія. Я гэтымі яблыкамі храбыстáла.* Прыстромы Смал.

**ЦÉРАС** *прыназ.* Праз. *Я дзéда свайгó як цéрас турмáн пóмню.* Кандакі Зэльв.

**ЦÓПАЦЬ** *незак.* Выкопваць бульбу капачом (матыкай). *Нацóпаеш два кашалі – на карóмісла. Так і прынóсілі.* Лагаза Лаг.

**ЦЫРК: ЦЫРК НА ДАРÓЗЕ**. Пра нешта вельмі смешнае, недарэчнае. Лагаза Лаг.

**ЧАРАДÁ: ПРАЙСЦІ́ ЧАРАДÓЙ**. Прайсці адно за адным. *Вот мая жызь. Прайшлá чарадóй: і ні відзіла, і ні жылá, і пражылá. Ужó вóсемсят дзéвяць гадóў.* Лагаза Лаг.

**ЧАЦВЯРТÁК** *м.* Мера зямлі, роўная тром гектарам. *Зямлі ў нас пасля вайны мáла былó. Чацьвяртáк, назывáлі. Гактáра тры.* Кандакі Зэльв.

**ШАЙМÓРЫ** *мн.* Гнілая бульба. *Шаймóры éлі. Эта бўльба гнілáя, катóрая на зімў астаéцца і перагнівáе.* Лагаза Лаг.

**ШÁМНУЦЬ** *зак., эмац.* Моцна штурхнуць. *Ішóў я – мяне шáмнулі, ад бáцькі адагнáлі.* Мацяшы Брасл.

**ШАРАВÁРКА** *ж.* Будаўніцтва дарогі. *Дарóгі стрóілі, канáвы капáлі каля дарóгаў, прáвілі дарóгі, брук клáлі, камéньне вазілі – гэто шаравáрка былá.* Кандакі Зэльв.

**ШУГÁЦЬ** *незак., эмац.* Шугаць, моцна палыхаць (пра агонь). *Хлявы і хáта гарыць усё рáзам. Я бягў на двор, а агóнь кругóм шугáя.* Прыстромы Смал.

**ШЎРХНУЦЬ** *зак.* Зашалясцець. *Ідзём мы праз бор – ходзь бы што шўрхнула.* Дзякаўцы Шчуч.

**ШЎТАЧКА: НЕ ШЎТАЧКА**. Пра нешта важнае, істотнае. *Это цяпéр паўзўнчыкі, а тады якія пялёнкі былі – не шўтачка.* Кандакі Зэльв.

**ШЧЫКАЦÉЦЬ** *незак.* Шумець, утвараць шум, шыпенне. *Янó зашчыкацéла – я дўмаў эта ракéта.* Драгічаны Ваўк.

*Т. А. Ганчук, В. М. Касцючык*

## МАТЭРЫЯЛЫ ДА СЛОЎНІКА ЖАБІНКАЎШЧЫНЫ

Словы, прапанаваныя ў гэтай лексічнай падборцы, занатаваны ў г. Жабінка Брэсцкай вобласці і яго наваколлі. Гаворка гэтага кутка Палесся яшчэ дэталёва не вывучана. Даследчыкамі праводзіліся назіранні толькі над экспрэсіўнымі моўнымі адзінкамі. Словы, якія маюць статус ацэначных, таксама змяшчаюцца ў падборцы.

**БАНДЎРЫСКА** *агульн.* Вялікі, але неразумны чалавек. *Бандўрыска вы́росла, а як обі́д зготóвыты ны знáе.*

**БЛУКАНЯ́ТЫСЯ** *незак.* Блукаць. *Блуканя́йіцця дэ́ся твуй мужы́к, до повнóчы нымá.*

**БРАКОВА́ТЫ** *незак.* Не хапаць. *Бракýе мні тых нытóк на кóфту.*

**БРЫХЛО́** *агульн.* Падманшчык. *Ны сказáв, шо трэ́ба і́ты за молокóм, брыхлó.*

**БУБНА́Ч** *м.* Бурклівы, сярдзіты чалавек. *Бубнáч вроды́вся, всё ны по ёго.*

**БУБОНІ́ТЫ** *незак.* Паціху, невыразна гаварыць. *Шо ты там собі́ бубоны́ш, кажы́ громчі́й, бо ны понятнó.*

**БЭ́ЙБУС** *м.* Гультай. *Бэ́йбусом ріс і бэ́йбусом вы́рос.*

**ВМОСТЮ́ХАТЫСЯ** *зак.* Зручна сесці. *Нарэ́шті я вмостю́халася на гэ́тому дівáновы.*

**ВОРОТЫ́ЛО** *агульн.* Марудлівы чалавек. *З такы́м воротьі́лом ныц за дэнь ны зрóбыш.*

**ВО́ШКАТЫСЯ** *незак.* Вельмі доўга нешта рабіць. *Вóшкаюся я за прядí́ннем.*

**ВТЭРЭБЫ́ТЫСЯ** *зак.* Улезці ў што-небудзь. *Втэрэбы́лыся кýры в чужы́й горóд.*

**ВХАЙДО́ХАТЫ** *зак.* Вельмі многа з'есці. *Вхайдóхав всю вэчэ́ру за оды́н раз.*

**ВЫ́ЗВЫРЫТЫСЬ** *зак.* Моцна накрычаць. *Вы́звырывся чогóся бáтько на дытэ́й, а воны́ дэ́ся похавáлыся і змóвклы.*

**ВЫКАБЭ́НЮВАТЫСЯ** *незак.* Задавацца. *Выкабэ́нюйіцця хлóпэць пы́рыд ді́вчэною, хóчэ спонарáвытыся.*

**ВЫ́МАНЫТЫ** *зак.* Выпрасіць. *Вы́манывто вы́маныв, а колы́ отдавáты бýдэ – ны знáе.*

**ВЫМУХО́ВЛЮВАТЫСЯ** *незак.* Выходзіць. *Вымухóвлюйтэся хучі́й з хáты, то я начнý убырáты.*

**ВЫ́РАЧЫТЫСЯ** *зак.* Моцна раззлавацца. *Вы́рачывся на бі́дну дівчы́ну, шо вонá ны знáе кýды і бі́гчы плáкаты.*

**ГА́РКАТЫСЯ** *незак.* Агрызацца, сварыцца. *Всёй дэнь гáркалыся воны́ помі́ж собóю, ды й такы́мы словáмы!*

**ГАРЦОВА́ТЫ** *незак.* Гуляць. *После обі́да ді́ты пошлы́ гарцовáты на двір і вырнýлыся ажнó пуд вэ́чор.*

**ГАСЫ́ТЫ** *незак.* Многа піць. *Солёного найі́лася, то вжэ другы́й дэнь вóду гашý.*

**ГА́ХНУТЫ** *зак.* Моцна засмяяцца. *Ох, і травы́в він байкы, áлы по-настоя́шчому всі гáхнулы оды́н ті́ко раз.*

**ГІ́РА** *ж.* Доўгія непадстрыжаныя валасы. *Хрысты́нын хлóпэць такýю гі́ру отпусты́в, аж гáдко ды́выться, і ны стыдáеця так ходы́ты.*

**ГЛУШКО́** *м.* Глухаваты чалавек. *Шо-шо, пытáе глушкó.*

**ГОРЛОПА́Н** *м.* Крыклівы чалавек. *От, вжэ горлопáн, ны мóжэ змóвчаты.*

**ГОРЛОПА́НЫТЫ** *незак.* Моцна крычаць. *Анýка замовчі́тэ, горлопáнытэ тýтыка.*

**ДОВБЭ́ШКА** *ж.* Галава. *Довбэ́шка твоя́ ныро́зýмна, раз ны зумі́в колысó почины́ты.*

**ДОТЎРКАТЫСЬ** *зак.* Дасягнуць, дабіцца да чаго-небудзь. *Наконéц-то оны́ до чогóся дотýркалыся.*

**ЗАМАШНО́** *прысл.* Вельмі добра. *Замашнó мы так устрóйілыся под дэ́рвом.*

**ЗДРА́ВНЫНЬКЫЙ** *прым.* Немалады, але яшчэ здаровы. *В годáх зáра тая тётка з Нывосі́лок, áлэ шчэ здрáвнынька.*

**КО́ПСАВКА** *агульн.* Той, хто доўга нешта робіць. *До вэ́чора просыды́в з робóтою, той кóпсавка.*

**КО́ПСАТЫСЬ** *незак.* Павольна працаваць. *Хучі́й вжэ вставáй, а то кóпсайіся, ны мóжыш доробы́ты.*

**КОПЎХА** *агульн.* Маруда. *Заночýе, мýсыть, тая́ дóчка з пырыбырáннем, копýха і е. Копýха твуй Кóля, за дэнь ны мóжэ і гря́дкы скопáты.*

**ЛАКОМЫ́НКЫ** *мн.* Смачная ежа. *А я лакомы́нок з магазі́на прынысла́.*

**ЛЫДА́ЧЫЙ** *прым.* Не хуткі ў справах, гультаяваты. *Лыдáча сусі́дка, а йі́йі мужы́к до нóчы на улі́цы.*

**МАТЛАШЫ́ТЫ** *незак.* Моцна біць каго-небудзь. *Встрéтылыся на улі́цы двóе і стáлы матлашы́ты одён одногó.*

**НАЛЫЗА́ТЫСЯ** *зак.* Моцна напіцца (спіртнога). *Налызáвся вжэ, мýсыт, на гуля́нці.*

**НАПХА́ТЫСЯ** *зак.* Добра наесціся. *Напхáлася я на ноч, шо спáты ны змогý.*

**НАРАЧКОВА́ТЫСЯ** *зак.* Фізічна напрацавацца. *Нарачковáлыся до повсмэ́рті на огорóдовы.*

**НАСТРОПАЛЫ́ТЫ** *зак.* Падбухторыць, дрэнна настроіць каго-небудзь. *Хлóпця настропалы́лы ны йты на заня́тія.*

**НАТРЫПА́ТЫ** *зак.* Набіць каго-небудзь. *Натрыпáв взяв своего́ дрýга лýчшого, а спросы́ за шчо – і ны скáжэ.*

**НЫНА́ВЫДНЫЙ** *прым.* Вельмі брыдкі. *Нынáвыдный туй собáка, хай ліпш быжы́ть, кýды біг.*

**НЫФЫНТІКУЛЬТЯ́ПЫСТЫЙ** *прым.* Абы-які, непрыгожы. *Якы́йся в мынэ́ получы́вся пырóг ныфынтікультя́пыстый.*

**НЭ́ТРА** *агульн., іран.* Непаседлівы чалавек. *От, нэ́тра! Ны мо́жэ всэ́дыты на одному́ мі́сцёвы.*

**НЮ́ЦЬКАТЫ** *незак.* Прасіць, упрошваць каго-небудзь. *Ню́цькала-ню́цькала до врача́ сходы́ты, алы́ він ны вы́трымав і пошо́в.*

**ОБМОЛОТЫ́ТЫ** *незак.* Зусім абабраць што-небудзь. *Обмолоты́лы всю вы́шню, і на кампо́т ны оста́вылы.*

**ОДГА́КАТЫ** *зак.* Многа прайсці. *Одга́калы за дэнь кіло́мэтрув два́ццать.*

**ОТПАНА́ХТАТЫ** *зак.* Адрэзаць вялікі кавалак чаго-небудзь. *На по́ле отпана́хталы вылы́кый кусо́к хлі́ба.*

**ОТТАРА́ШКАТЫСЯ** *зак.* Адчапіцца. *Ныя́к ны оттара́шкатыся було́, як смола́ прычыпы́вся.*

**ОТЧЫХВО́СТЫТЫ** *зак.* Насварыцца на каго-небудзь. *Отчыхво́стыла нача́льніца но́вого рабо́тніка.*

**ПА́ЙСЫ** *толькі мн.* Доўгія валасы. *Хай-но пры́йдэ брат, ты ёго ны позна́йіш – такы́йі па́йсы одросты́в!*

**ПЛУ́ТО** *агульн.* Той, хто ўвесь час недзе ходзіць, не займаецца карыснай справай. *Плу́то прышло́ пуд вэ́чор.*

**ПОВЗЮ́РА** *агульн.* Той, хто недзе доўга ходзіць. *О, повзюра, як ра́нком пошо́в, то ті́ко за́ра прышо́в.*

**ПОДЮ́НДЫТЫ** *зак.* Падгаварыць каго-небудзь. *Под'ю́ндылы взялы́, а я ж ны хоті́ла так робы́ты.*

**ПОДСТЫ́РЫТЫ** *зак.* Падгаварыць каго-небудзь. *Подсты́рыла мэнэ́ сусі́дка сходы́ты в го́род на я́рмарку.*

**ПОКУПТІ́ТЫ** *зак.* Хутка пайсці. *Колы́ він і покупті́в, шо ныхто́ ны ба́чыв ёго?*

**ПОПЫХА́Ч** *м.* Той, каго ўвесь час выкарыстоўваюць у сваіх мэтах. *Якы́й гэ́то брыгаді́р, попыха́ч і ті́лько.*

**ПО́ПЭРЭДНЯ** *агульн.* Чалавек, які перабівае іншых. *Ны лізь пырыд ста́ршымы, по́пэрэдня.*

**ПОХАТНЫ́ЦЯ** *ж.* Жанчына, якая любіць хадзіць па хатах. *Ны була́ б то похатны́ця, всю́ды побува́ла.*

**ПРОКУШМО́РЫТЫСЯ** *зак.* Доўга займацца нейкай маруднай справай. *Прокушмо́рылася за гэ́тым шыттём і ныць ны зробы́ла.*

**ПУЖГЫНУ́ТЫ** *зак.* Выгнаць каго-небудзь. *Ба́тько пужгыну́в соба́к і воны́ бульш ны появля́лыся.*

**ПЭЙСА́Ч (ПЭЙСМА́Ч)** *м.* Той, хто носіць доўгія раскудлачаныя валасы. *Пэйсачо́м став О́льгын сын.*

**РАЧКОВА́ТЫ** *незак.* Цяжка працаваць. *Рачкова́лы мы всі на по́лі, шо аж ны встоя́ты.*

**РОСКАРДА́Ш** *м.* Непарадак. *Роскарда́ш мні ту́тыка устро́йілы, шо ны мо́жна пройты́.*

**РОСКУТО́РХАТЫСЯ** *зак.* Прачнуцца. *Роскуто́рхалыся дэ́ся под обі́д.*

**РОСПОПЫРЭ́ЧЫТЫСЯ** *зак.* Рассесціся недзе, займаць многа месца. *Роспопырэ́чылыся посэрэ́д доро́гы, ны пройты́.*

**РОСТРЫ́НЬКАТЫ** *зак.* Неразумна патраціць грошы. *Ростры́нькала я знов всі гро́шы.*

**РОШЧЫ́ХАТЫСЯ** *зак.* Нарэшце закончыць справу. *Нарэ́шті я рошчы́халася з гэ́тымы бурака́мы.*

**СВЫСТЁЛ** *м.* Падманшчык. *А вжэ свысте́л, ныко́лы пра́вды нэ ска́жэ.*

**СНО́ВДАТЫСЯ** *незак.* Хадзіць без справы. *Всёй дэнь сно́вдайіцця по дворі́.*

**СО́ВГАЛО** *агульн.* Валацуга. *Со́вгало-со́вгало! І́ дэ ты так ходы́ла?*

**СПАРАЗА́ТЫ** *зак.* Моцна набіць каго-небудзь. *Як спаражу́ па́ру раз, то бульш ны бу́дытэ вре́днічаты.*

**СУХОСТО́ІНА** *агульн.* Вельмі высокі і худы чалавек. *Тэбэ́ трэ́ба ліпш кормы́ты, бо насто́яшча сухосто́іна, вітёр ду́нэ – і впадэ́ш.*

**СЦІ́БРЫТЫ** *зак., груб.* Украсці. *Сці́брылы мойі́ окуля́ры, а быз йіх я ныць ны ба́чу.*

**ТВЭРДОЛО́БЫЙ** *прым.* Якога не пераўпэўніць. *Ну й твэрдоло́бым вроды́вся, і в кого́ такы́й?*

**ХРО́СНУТЫ** *зак.* Моцна ўдарыць каго-небудзь. *Як хро́снув, то вжэ хро́снув по-настоя́шчому то́му во́рувы.*

**ХУ́РА** *ж.* Нерасчасаныя валасы. *Хы́ба з тако́ю ху́рою на людя́х пока́зыватыся. Сты́дно!*

**ЦВЫ́ГНУТЫ** *зак.* Хутка збегаць за чым-небудзь. *Ма́ты вжэ попросы́ла когóся цвы́гнуты наве́рх.*

**ЧВЭ́НДАЛКА** *ж.* Дзяўчына, ці жанчына, якая курыць. *Чвэ́ндалкы пособыра́лыся на скаме́йіццы, шо ны вы́дыхаты.*

**ЧВЭ́НДЫТЫ** *незак.* Курыць. *Дывы́ся, коб твуй сын ны став чвэ́ндыты.*

**ШАХА́ЙКА** *ж.* Жанчына, якая патраціла ўсе грошы ўпустую. *До́бра шаха́йка, всі гро́шы потра́тіла.*

**ША́ХВОРОСТ** *м.* Неакуратна апрануты чалавек. *І́ды-но сюды́, я тэбэ́ застігну́, бо хо́дыш, як той ша́хворост.*

**ШЛЮ́НДРА** *агульн.* Той, хто ўвесь дзень недзе ходзіць. *Дэ ты всёй дэнь ла́зыв, шлю́ндра ты!*

**ШМАКОДЯ́ВКА** *ж., ласк.* Малая істота. *Кыцькыць-кыць! Ходы́ сюды́, шмакодя́вка ма́ленька, молочко́ пы́ты! Шмакодя́вкы, шо віте́ там ро́бытэ?*

**ШОЛО́ТА** *агульн.* Чалавек, які гаворыць многа і абы-што. *Про такы́х в нас ка́жуть: шоло́та вы́лызла з боло́та.*

**ШОЛОТЫ́ТЫ** *незак.* Гаварыць многа і абы-што. *Хоть бы тэ́йі помо́чніцы ны було́, бо як поя́выцця, то ны пырыста́нэ шолоты́ты.*

**ШЫРМА́ТО** *прысл.* Вельмі шырока. *Шырма́то шчэ оста́лося карто́шкы сады́ты.*

**ШЫРМА́ТЫЙ** *прым.* Вельмі шырокі. *Шырма́тый-шырма́тый получы́вся пыре́днік.*

**ЯЗЫКА́ТЫЙ** *прым.* Які любіць пагаварыць. *Языка́тый мужы́к до добра́ ны довыдэ́.*

*І. А. Гапоненка, В. П. Трайкоўская*

## З АБРАДАВАЙ ЛЕКСІКІ ВЁСКІ КАМАРОВА МЯДЗЕЛЬСКАГА РАЁНА

Словы, запісаныя аўтарам ў 2001 г. ад карэнных жыхароў Ю. Б. Міхневіч (1930 г. н.), Г. М. Лапашынскай (1925 г. н.), абазначаюць назвы сямейных абрадаў. Сямейная абраднасць ахоплівае найбольш важныя вехі ў жыцці чалавека – нараджэнне, вяселле, пахаванне і памінанне нябожчыка – якраз усе тыя моманты, якія былі найбольш значнымі і адказнымі, з'яўляліся пэўнай мяжой на жыццёвым шляху.

Лексіка, што падаецца ў дадзенай падборцы, уключае назвы, звязаныя з абрадам вяселля (падрыхтоўчага перыяду вяселля, уласна вясельныя, паслявясельныя); абрадам радзін (дародавага перыяду, родавага і пасляродавага); абрадам пахавання.

Вёска Камарова знаходзіцца ў Мядзельскім раёне Мінскай вобласці. Размяшчаецца за 40 км ад Мядзеля, за 200 км ад Мінска па аўтамабільнай дарозе Полацк – Вільнюс. На тэрыторыі Мядзельскага раёна сутыкаюцца, мяжуюць гаворкі полацка-мінскай групы паўночна-ўсходняга дыялекту і сярэднебеларускія гаворкі.

**АДВЕ́ТКІ** *мн.* Наведванне парадзіхі. *Знаіць бацька пра адветкі, калі ражаюцца дзеткі.*

**АНЁЛАК** *м.* Дзіця, памерлае да хрышчэння. *Анёлак – святое дзіця. Бох забірае іх да сябе.*

**БА́БА** *ж.* Замужняя жанчына. *Бабы сядзяць, прыйшоўшы, чакаюць, калі будзіць сваццьба.*

**БАГАТЫ́РКА** *ж.* Нявеста з добрым пасагам. *Казалі людзі: «Вось узяў сабе гэтую багатырку».*

**БА́ПКА** *ж.* Жанчына, якая прымае дзяцей у час родаў. *Пачакай радзіць, дай па бапку схадзіць.*

**БЛАГАСЛАЎЛЕ́ННЕ** *н.* Перахрышчанне каго-небудзь са словамі малітвы, з пажаданнем удачы, шчасця. *Благаслаўленне на шлюп даюць бацькі.*

**ВО́ЛІН** *м.* Вэлюм; галаўны ўбор нявесты, лёгкая белая накідка. *Волін не такі кароткі быў, як цяпер, а доўгі, аш да пят.*

**ВЫ́КУП** *м.* Плата, грошы, якімі выкупліваюць нявесту на вяселлі. *Кап выкуп палучыўся добры ды вясёлы, трэба падгатовіць перашкоду, праз якую п жаніх не сразу перайшоў.*

**ВЯНЧА́ННЕ** *н.* Царкоўны абрад шлюбу. *Вянчанне было ў нашым касцёле, далёка мы не ехалі.*

**ГАДАЎШЧЫ́НА** *ж.* Угодкі; дзень, у які спаўняецца адзін год з часу смерці чалавека. *Прас гот пасля смерці ўсе сваякі нябошчыка збіраюцца на гадаўшчыну, памінаюць памёршага і заказваюць імшу ў касцёле.*

**ГАСПАДЫ́НЯ** *ж.* Жанчына, якая на вяселле гатавала каравай. *Добра на сваццьбе быць за гаспадыню, уважыцільна.*

**ГОСЦЬ** *м.* Чалавек, запрошаны сваімі блізкімі на ўрачыстасць, частаванне. *Калі сваццьба вялікая, то гасцей многа завуць.*

**ГУЛЯ́ШЧАЯ** *ж.* Жанчына, якая нарадзіла дзіця па-за шлюбам. *Гуляшчую ніхто не хацеў браць у шлюп з дзіцём.*

**ДАРАВА́ННЕ** *н.* Надзяленне падарункамі; дарэнне. *Пры дараванні ўсе госці выказваюць свае пажаданні маладым.*

**ДОЛ** *м.* Магільная яма. *Калі выкапвалі дол, то сваякі кідалі туды грошы, кап аткупіць нябошчыку мейсца.*

**ДУХ** *м.* Дыханне. *У нашай вёске гавораць: «Памёр чалавек – і дух выйшаў».*

**ДУША́** *ж.* Душа. *Калі чалавек паміраіць, яго душа трыццаць дней лётаіць па зямлі, а патом толька паяўляецца на сут Божы.*

**ДУ́ШЫ** *мн.* Усе памерлыя родзічы, продкі. *Хто душаў не ўважаіць, таму ўсяк бываіць.*

**ЖАЛО́БА** *ж.* Стан смутку з прычыны смерці. *Жалобу па нябошчыку ў нас маці, жонка і дзеці насілі доўга, пачці гот.*

**ЖАЛО́БНЫ: ЖАЛО́БНЫ АБЕ́Т.** Памінальны стол. *На пачатку жалобнага абеду ўсе госці, стоячы за сталом, маліліся Богу і прасілі раю нябеснага душы нябошчыка.*

**ЗА́ПАВЕДЗІ** *мн.* Адрэзак часу перад вянчаннем (3 тыдні), у час якога маладыя павінны прытрымлівацца рэлігійна-маральных правіл паводзін. *У час запаведзей маладыя маглі перадумаць ап сваццьбе.*

**ЗАРУ́ЧЫНЫ** *мн.* Абрад аб'яўлення каго-небудзь жаніхом і нявестай. *На заручынах маладыя заручаюцца, даюць абяцанні.*

**ЗЁЛКІ** *мн.* Свянцоныя кветкі, якія клалі ў труну і на магілку. *Зёлкі свянцілі ў касцёле і вешалі каля іконы, а калі трэба клалі ў труну.*

**ЗЭ́ДАЛЬ** *м.* Услон, на якім ляжыць нябожчык. *У нас памёршы да пераносу яго ў труну ляжыць на зэдалі пат абразамі, але мушчын клалі на лаўцы, якая стаяла ў правы бок ад абразоў.*

**КАЛЫ́СКА** *ж.* Дзіцячы ложак. *Калыску падвешвалі да столі каля маці, абвешвалі маццерыялам, які закрываў малога ат урокаў.*

**КАПТУ́Р** *м.* Дзіцячы галаўны ўбор, які завязваецца пад падбародкам і пакідае адкрытым толькі твар. *Кума абавязкова прыносіла для свайго хрэсніка дзіцячую адзежу: каптур, падгузнікі, полкі.*

**КАРАВА́Й** *м.* Вясельны абрадавы пірог круглай формы. *Каравай яшчэ выпякаецца, а дзеўка да шлюбу збіраецца.*

**КА́ША: БА́БІНА КА́ША**. Рытуальная страва на хрысцінах. *Бабіна каша – гэта ячня, якую жарыць бапка на хрэсьбіны.*

**КО́СЦІ: КО́СЦІ ПА́РЫЦЬ**. Астанкі, прах, цела нябожчыка. Калі *чалавек памёр, то ў нашай вёске гавораць, што ён ужо косці парыць або лёх касцьмі.*

**КУБЕ́ЛЬНІК** *м.* Чалавек, які адвозіў прыданае нявесты. *Для пасагу наймалі кубельніка, які на кані адвозіў пасах у новую хату дзяўчыны.*

**КУМ** *м.* Хросны бацька ў адносінах да бацькоў хросніка і да хроснай маці. *Каго добра паважаюць, таго і ў кумы выбіраюць.*

**КУМА́** *ж.* Хросная маці ў адносінах да бацькоў хросніка і да хроснага бацькі. *Гнісь кума, не гнісь, а каля кішэні павярнісь.*

**МАГІ́ЛКА** *ж.* Магіла. *Кап зберахчы магілку ат нячыстага, ксёнс яе апячатваіць святой вадой і храстом.*

**МАГІ́ЛЬНІК** *м.* Могілкі. *Вісельнікаў, ведзьмароў і нехрысцей хавалі за магільнікам, бо яны не дапускаюцца Богам на той свет.*

**МАЛАДА́Я** *ж.* Нявеста ў час заручын і пасля вяселля. *Калі малады з маладой варочаюцца з вянчання і ўяжджаюць у вёску, то ім перагародждваюць дарогу: ставяць стул, на якім ляжыць хлеп і соль.*

**МАЛАДЫ́** *м.* Жаніх пасля заручын і ў час вяселля. *Пасля вянчання малады і маладая ехалі разам, з імі сядзелі і сват са сваццяй.*

**МАРША́ЛАК** *м.* Той, хто кіруе вясельнай цырымоніяй. *Сватаць дзеўку ехаў маршалак – першы сват.*

**МА́РШЫ** *мн.* Своеасаблівая дапамога маладым на вяселлі ў выглядзе заказу песні ў музыкантаў. *Маршы на цукеркі пачынаюць іграць на другі дзень свацьбы.*

**МУЖЫ́К** *м.* Муж. *Зборная субота – паследні вечар дзявоцтва, бо наступны дзень пасля вянчання дзяўчына стане жонкаю свайго мужыка.*

**НАДО́МНІК** *м.* Прымак; муж, які пасяліўся пасля жаніцьбы ў доме сваёй жонкі. *Надомнік ідзець жыць пасля свацьбы ў хату да сваёй жонкі.*

**НАМІ́ТКА** *ж.* Жанчына, якая згубіла цнатлівасць да вяселля. *На другі дзень пасля шлюбнай ночы бабы аглядалі прасціну, і калі дзяўчына захавала сваю непарушнасць да свацьбы, то ёй налівалі чырвоную наліўку, а калі была наміткай, то налівалі белай гарэлкі.*

**НАРАДЖЭ́ННЕ** *н.* Дзень, дата, калі хто-небудзь нарадзіўся. *Прас некалькі дней пасля нараджэння дзіцяці бацькі павінны былі выбраць хросных.*

**НЕ́ХРЫСЦЬ** *м.* Чалавек, якога не ахрысцілі. *Нехрысцей, як і вісельнікаў, самагупцаў, хавалі па-за магільнікам.*

**НЯБО́ШЧЫК** *м.* Нябожчык. *Тады, калі нябошчыка праводзяць прас дзярэўню, нялзя спаць, бо спячага чалавека можа забраць с сабою смерць.*

**ПАКО́ЙНІК** *м.* Мёртвы чалавек. *Бабам у палажэнні нельзя глядзець на пакойніка, бо дзіця будзіць белае, як смерць.*

**ПАЛАЖЭ́ННЕ: У ПАЛАЖЭННІ**. Цяжарная жанчына. *Калі баба ўва сне ўбачыла рыбу, то, значыць, яна ў палажэнні.*

**ПАСА́ГА** *ж.* Пасаг, маёмасць, якую даюць бацькі ці родзічы маладой, калі яна выходзіць замуж. *А колькі за мной той пасагі далі: кот наплакаў, бо жылі ш то тады бедна.*

**ПАСА́Т** *м.* Пасад; месца, куды садзілі нявесту. *Маладых на свацьбе садзілі на пасат – вывернуты кажух, кап добра жылі, кап было многа грошай.*

**ПАСКРЭ́БАК** *м.* Паследак; апошняе дзіця ў сям'і. *Апошняя дзіця ў бацькоў – паскрэбак. Яго больш за ўсіх любілі і песцілі.*

**ПАСЦЕ́ЛЬ** *ж.* Паслед. *Бапка закапвала пасцель каля хаты.*

**ПАХАВА́ННЕ** *н.* Пахаванне. *Пахаванне робяць раніцай, да поўдня.*

**ПА́ЦЕРЫ** *мн.* Малітва. *Калі паставяць хрэст, ксёнс апячатваіць магілку: акрапляіць свянцонай вадой і чытаіць пацеры.*

**ПЕРАГЛЯ́ДЫ** *мн.* Паслявясельны абрад, калі бацькі маладой едуць у дом зяця, каб адведаць дачку. *Калі бацькі дзяўчыны едуць на перагляды, маці павучае дачку сямейным адносінам, патказвае, як знайсці паразуменне с свякрухай.*

**ПЕРАЗЫ́ЎКІ** *мн.* Паслявясельны абрад, калі бацькі маладых запрашаюць адзін аднаго ў госці з мэтай больш цеснага знаёмства. *Калі прыяжджалі госці на перазыўкі, то гаспадар рабіў стол ш чаркай і шкваркай.*

**ПЕ́СЕЛЬНІЦА** *ж.* Жанчына, якую наймалі плакаць па нябошчыку. *На пахаванне прыходзілі песельніцы, якія плакалі па нябошчыку.*

**ПО́ДРУЧКА** *ж.* Першая свацця на вяселлі. *Подручка на свацьбе павінна была быць разам з маладой, дапамагаць ёй.*

**ПО́ЛКА** *ж.* Прасціна для ўкручвання, спавівання грудных дзяцей. *Раней дзіця да хрышчэння не спавівалі ў полкі, а ўкручвалі ў паношаную кашулю бацькі ці маці, кап засцерахчы ат злых сіл.*

**ПРЫДА́НКА** *ж.* Першая свацця на вяселлі. *У прыданкі бралі жанчыну, вострую на язык.*

**РАДЗІ́НЫ: БА́БІНЫ РАДЗІ́НЫ**. Гулянка, якая ладзілася кожны год бацькамі дзіцяці для ўшанавання бабкі. *На бабіны радзіны бапке красілі шчокі, павязвалі хусткі, уторквалі перье, а патом цягалі на баране і везлі да рэчкі тапіць.*

**РАДЗІ́ХА** *ж.* Парадзіха; жанчына, якая раджае або толькі што нарадзіла дзіця. *Пры цяшкіх родах бапка рашпіляла на радзіхе ўсе гузікі.*

**РАЖА́НЕЦ** *м.* Белая вязаная павязка, якой перавязвалі рукі нябошчыку. *Рукі нябошчыку складваюцца храстом і перавязваюцца ражанцам.*

**РУБА́ШКА** *ж.* Менструацыя. *Як рубашка, бабе нельзя хадзіць у адветкі да радзіхі.*

**РУШНІ́К** *м.* Ручнік. *Маладая рыхтавала да заручын рушнік, спецыяльна вышываны для сватоў, якім яна*

*абвязвала старэйшага свата нахрэст прас плячо пат паху.*

**СВАТ** *м.* Сват. *Сват ухваляе жаніха і яго хазяйства, кап вытаргаваць больш пасагу.*

**СВАТЫ́** *мн.* Передвясельны абрад, калі бацькі маладой дамаўляюцца пра вяселле з бацькамі маладога. *Калі сваты прыехалі, то дзеўка ўжо точна замужжам будзіць.*

**СВА́ЦЦЯ** *ж.* Сваццця. *Падзяліўшы каравай, сваццця запрашала ўсіх гасцей сесці за сталы.*

**СВА́ЦЬБА** *ж.* Вяселле. *На свацьбе – вяселле, пасля свацьбы – пахмелле.*

**СТУ́ШКІ** *мн.* Стружкі; палоскі дрэва, якія заставаліся пасля стругання труны. *На дно труны ўсцілалі стушкі, кап мякка было ляжаць нябошчыку.*

**СУБО́ТА: ЗБО́РНАЯ СУБО́ТА.** Вечарына перад вяселлем у нявесты. *На зборную суботу падрушкі маладой прыбіралі і падганялі ёй адзенне: белую сукенку, волін, які павінен быў спераду закрываць твар.*

**СУСЕ́Т** *м.* Чалавек, які прыйшоў на вяселле без запрашэння. *Суседзямі на свацьбу прыходзілі маладыя хлопцы і дзяўчаты, якім хацелася пагуляць, ды якія-небуць п'янчукі.*

**ТРУНА́** *ж.* Труна. *Колькі чалавеку не лікаваць, а па смерці труны не мінаваць.*

**ХРЭ́СНІК** *м.* Хроснік; хросны сын у адносінах да хросных бацькоў. *Калі хросныя бацькі са сваім хрэснікам заходзілі ў хату с касцёла, адразу называлі маці і бацьку імя іх дзіцяці.*

**ХРЭСТ** *м.* Крыж. *Хрэст і труну майстра рабіў на дворы нябошчыка, калі ў хазяйстве яго не было чорнага пеўня.*

**ХРЭ́СЬБІНЫ** *мн.* Хрысціны. *На хрэсьбінах бацькі даюць падаркі бабке і кумам: куме – плаццця, куму – рубашку, а бабе на плацце мацерыялу.*

**ХУ́СТКА** *ж.* Галаўны ўбор, які павязваюць маладой на другі дзень вяселля. *На наступны дзень свацьбы маладой завязваюць хустку, гэта азначала, што яна ўжо замужняя.*

**ЧЭ́ПЧЫК** *м.* Абалонка, у якой нараджаюцца некаторыя дзеці. *Калі дзіця нарадзілася ў чэпчыку, то, значыць, яно будзіць шчаслівым.*

**ШЛЮП** *м.* Шлюб. *Калі дзеўка бярэць шлюп і не плачыць, то, пэўна, замужам не паскачыць.*

**Я́ЛАЎКА** *ж.* Бясплодная жанчына. *Ялаўку або Бох пакараў, або нехта насурочыў.*

*Ф. Д. Клімчук*

## НАЗВЫ ТРАВЯНІСТЫХ РАСЛІН У ГАВОРЦЫ ВЁСКІ СІМАНАВІЧЫ ДРАГІЧЫНСКАГА РАЁНА

**БА́БНЫК** *м.* Трыпутнік вялікі; рус. подорожник большой; Plantago major L.

**БАРВІ́НОК** *м.*, **БЫРВІ́НОК** *м.*, **БАРВІ́НЭЦЬ** *м.*, **БЫРВІ́НЭЦЬ** *м.*, **БАРВІ́НКА** *ж.*, **БЫРВІ́НКА** *ж.* Барвенак; рус. барвинок; Vinca L. (Гл.: Ф. Д. Климчук. Традиционная свадьба полесского села Симоновичи // Полесский этнолингвистический сб.: материалы и исслед. М.: Наука, 1983. С. 268).

**БІ́ЛА Я́ТЫЛЫНА** *ж.* Дзяцеліна, канюшына паўзучая; рус. клевер ползучий; Trifolium repens L.

**БІ́ЛЫ КВЫТОЧКЫ́ ВЫСНЯ́НЫ.** Гл. **КОНО́ЗДРЫЦЯ.**

**БІ́ЛЫ КВЫТОЧКЫ́ ГОСІ́ННЫ** *мн.* Галінзога дробнакветкавая; рус. галинзога мелкоцветковая; Galinsoga Ruiz et. Pav.-parviflora Cav. *Воны́ го́сыню чы пуд го́сэнь появля́юцьця, на пры́болоттях. Дэ́хто ска́жэ, шо як їх пы́ты, то ны вмрэш.*

**БОБЫ́ВНЯК** *м.* Шальнік трыпутнікавы; рус. частуха обыкновенная; Alisma plantago-aquatica L.

**БОГОРО́ДНЫК** *м.* Святаяннік звычайны; рус. зверобой обыкновенный; Hypericum perforatum L.

**БО́ЖА РОСА́** *ж.* Расіца круглалістая; рус. росянка круглолистая; Drosera rotundifolia L.

**БЫ́ЗДОРОВЙЕ** *н.* Божае дрэўка, палын мяцёлчаты; рус. полынь, божье дерево, полынь метельчатая; Artemisia abrotanum L. (Artemisia paniculata Lam.)

**БЫРІ́ЗКА** *ж.* Бярозка палявая; рус. вьюнок полевой, березка; Convolvulus arvensis L.

**БЫССМЭ́РТНЫК** *м.* Агаткі; рус. кошачья лапка; Antennaria Gaertn.

**ВАСЫ́ЛЬКА** ж. Аксамітнік мяцёлчаты; рус. щирица метельчатая; Amaranthus paniculatus L.

**ВАСЫ́ЛЬКА СВЫННЯ́ЧА.** Аксамітнік сіняваты; рус. щирица синеватая; Amaranthus lividus L.

**ВІ́ТРАНЫК** *м.* Дуброўка серабрыстая; рус. лапчатка серебристая; Potentilla argentea L. *На дырывя́нку похо́ж.*

**ВОВК** *м.*, **ВОВКЫ́** *мн.* Ваўчкі трохраздзельныя; рус. череда трехраздельная; Bidens tripartitus (tripartita) L.

**ВОЛО́ШКА** *ж.* Васілёк сіні; рус. василёк синий; Centaurea cyanus L.

**ВОРКУ́Н** *м.* Баркун белы; рус. донник белый; Melilotus ablus Desr.

**ВРА́ЗНЫК** *м.* Парушэнец парасоністы; рус. зимолюбка зонтичная; Chimaphila umbellata (L.) Nutt. *Од жывота́.*

**ВЫРЫДОВНЫ́К** *м.* Мальва; рус. просвирник, мальник (лесной или мавританский); Malva silvestris L. (лясная); Malva mauritiana L. (садовая).

**ВЭ́РБНЫК** *м.* Драсён земнаводны; рус. горец земноводный; Polygonum amphibium L.

**ВЭ́РОС** *м.* Верас; рус. вереск; Calluna Salisb.

**ГНЫ́ДА[1]** *ж.* Сіт жабіны; рус. ситник лягушачий; Juncus bufonius L.

**ГНЫ́ДА[2]** *ж.* Свінакроп; рус. торица полевая; Spergula arvensis L.

**ГОРЧЯ́К** *м.* Драсён шурпаты, перцавы; рус. горец шереховатый, перечный; Polygonum scabrum Moench, -hydropiper L.

**ГРУДОВЫ́Й РЫЗА́К.** Асака прасяная; рус. осока просяная; Carex panicea L.

**ГРУШЫЧКЫ́ ЛІСОВЫ́ЙІ** *мн.* Рамішыя аднабокая; рус. рамишия однобокая; Ramischia secunda (L.) House.

**ДРЫСТЫЛЫ́НЬНЯК** *м.* Паслён (ліснік) чорны; рус. паслён чёрный; Solanum nigrum L. *Йідéть свыны́.*

**ДУРМА́Н** *м.* Блёкат; рус. белена; Hyoscyamus L.

**ДЫВОСЫ́Л** *м.* Дзівасіл; рус. девясил; Inula Helenium L.

**ДЫ́КА МО́РКВА.** Бядрынец каменяломкавы; рус. бедренец камнеломковый; Pimpinella saxifraga L.

**ДЫРОЗА́** *ж.* Дзераза; рус. плаун; Lycopodium L.

**ДЫРЫВЯ́НКА** *ж.* Дуброўка прамастаячая; рус. лапчатка прямостоячая, калган, дубровка; Potentilla erecta (L.) Räusch.

**ЖАБРІ́Й** *м.* Зябер звычайны; рус. пикульник обыкновенный; Galeopsis tetrahit L.

**ЖУРАХЛЫ́НЫ** *мн.* Журавіны; рус. клюква; Oxycoccus Adans.

**ЖЫ́ТЫЦЯ** *ж.* Жыцік многагадовы, райграс англійскі; рус. плевел многолетний, райграс английский; Lollum perenne L.

**ЗВЕРОБО́Й** *м.* Святаяннік звычайны; рус. зверобой обыкновенный; Hypericum perforatum L.

**ЗОЗУ́ЛІН ЛЁН.** Казялец; рус. лютик едкий; Ranunculus acer L.

**ЗОЗУ́ЛІН РУЧНЫЧО́К.** Ятрышнік, зязюлька; рус. ятрышник; Orchis L.

**ЗОЛОТУ́ШНЫК** *м.* Васілёк лугавы; рус. василёк луговой; Centaurea jacea L.

**КОБЫЛЬНЯ́К** *м.* Шчаўе конскае; рус. щавель конский (густой); Kumex confertus Wild.

**КО́ВОРОТ** *м.* Піжма звычайная; рус. пижма обыкновенная; Tanacetum vulgare L.

**КОКЫ́ЛЬ** *м.* Куколь; рус. куколь; Agrostemma L.

**КОНО́ЗДРЫЦЯ** *ж. Конóсдрыця, конóздрыці – такы́йі бíлы квыточкы́ хвáйны, воны́ вэ́льмы рáно навыснí по корчя́х появля́юцьця.*

**КОСТЫРО́ВА** *ж.* Брыца; рус. ежовик, куриное просо; Echinochloa L.

**КРЫВАВНЫ́К** *м.* Крываўнік звычайны: рус. тысячелистник обыкновенный; Achillea millefolium L.

**КРЫВАВНЫ́К БА́БСЬКЫЙ.** Цвінтарэй звычайны; рус. золототысячник обыкновенный. *З рóзовымы квыткáмы.* Гл. **РО́ЗОВЫ КВЫТОЧКЫ́, КРЫВАВНЫ́К МУЖЫ́ЦЬКЫЙ**

**КРЫВАВНЫ́К МУЖЫ́ЦЬКЫЙ.** Цвінтарэй звычайны; рус. золототысячник обыкновенный. *З бíлымы квыткáмы.* Гл. **РО́ЗОВЫ КВЫТОЧКЫ́, КРЫВАВНЫ́К БА́БСЬКЫЙ.**

**КЫ́РЗА** *ж.* Каласоўнік, касцёр; рус. костёр; Bromus L.

**ЛІЛІ́Я** *ж.* Лілея; рус. лилия; Lilium L.

**ЛОКА́ТТЕ** *н.* Лотаць; рус. калужница болотная; Caltha palustris L.

**ЛОПУ́Х** *м.* Лопух (вялікі, малы, павуціністы); рус.: 1) лопух малый; Arctium minus (Hill.) Bernh. 2) лопух большой; A. lappa. 3) лопух паутинистый или шерстистый; A. tomentosum Mill.

**ЛЫ́СНЫК** *м.* Піжма звычайная; рус. пижма обыкновенная; Tanacetum vulgare L.

**МОКРЭ́ЦЬ** *м.* Зоркаўка, макрыца; рус. мокрица, звездчадка средняя; Stellaria media (L.) Vill.

**МОЛОЧЯ́Й** *м.* 1) Малачай; рус. молочай; Euphorbia L.; 2) Адуванчык; рус. одуванчик; Taraxatum Wigg.; 3) Гіпахерыс самаўкараняльны; рус. гипохерис укореняющийся; Hypochoeris radicata L.

**МУ́ЧАНЫК** *м.* Талакнянка звычайная; рус. толокнянка обыкновенная; Arctostaphylos Adans. -uvaursi (L.) Spreng.

**МЫЖЫ́ПЫРСНЫК** *м.*, **МЫЖЫ́ПОРНЫК** *м.* Цяцюшнік прамастаячы; рус. очанка прямостоячая; Euphrasia stricta L. Wolfex J. Lehm.

**ОКРІ́П** *м.* Кроп; рус. укроп; Anethum graveolenis L.

**ОРГІ́НЯ** *ж.* Вяргіня; рус. георгина; Dahlia Cav.

**ОТСТУ́ПНЫК** *м.* Крынічнік лекавы; рус. вероника лекарственная; Veronica officinalis L. *Од жывотá.*

**ПАЦЁРНЫ́К** *м.* Мальва нізкая; рус. просвирник (малый или низкий); Malva pusilla Smith.

**ПЛЫ́СНЯ́К** *м.* 1) Аер; рус. аир; Acorus calamus L.; 2) Плюшчай, рус. ежеголовик; Sparganium L.

**ПОДОРО́ЖНЫК** *м.* Спарыш; рус. спорыш; Polygonum avuculare L.

**ПОЛЫ́НЬ** *м.* Палын; рус. полын; Artemisia absinthium L.

**ПОПЛАВУ́ХА** *ж.* 1) Раска; рус. ряска; Lemna L.; 2) Травяністая расліна, расце ў неглыбокіх вадаёмах, лісці «сплываюць» па паверхні вады; 3) Разнавіднасць ранняй асакі, расце пры балоце, любяць каровы, коні.

**ПРОКЫ́ВА** *ж.* Крапіва; рус. крапива; Utrica L.

**ПРОКЫ́ВА ЖЫЖКА́Я.** Жыгучка; рус. крапива жгучая; Urtica urens L.

**ПРОКЫ́ВА МАЛЁНЬКА.** Зюзнік еўрапейскі; рус. зюзник европейский; Lycopus europaeus L.

**ПРОСТУ́ДНЫК** *м.* Вятроўнік вязалісты; рус. лабазник вязолистный; Filipendula ulmaria (L.) Maxim. *Простýдных – дэ́сэть чы дэ́вэть сыл мáе од простýды.*

**ПЫ́РЭЙ** *м.* Пырнік; рус. пырей; Agropyron Gaertn.

**РАННЫ́К** *м.* Трыпутнік ланцэталісты; рус. подорожник ланцетолистный; Plantago lanceolata L. *Як пáльці попáрецьця, то прыкладáють.*

**РО́ЗОВЫ КВЫТОЧКЫ́** *мн.* Цвінтарэй звычайны; рус. золототысячник обыкновенный; Centaurium vulgare Raf. Гл. **КРЫВАВНЫ́К БА́БСЬКЫЙ, КРЫВАВНЫ́К МУЖЫ́ЦЬКЫЙ.**

**РОМАНЭ́ЦЬ** *м.* Рамонак, рамон; рус. ромашка; Matricaria L.

**РЫЗА́К** *м.* Разак; асака; рус. телорез; осока: Stratiotes L.; Carex L. *Рыза́к – там, дэ вода́ залыва́е го́сыню і до высны́ вона́; йім порі́затысь лёгко.*

**СВЫРІ́ПА** *ж.* Свірэпа; рус. сурепка; Barbarea Beck.

**СМЫРДЮ́ШКА** *ж.*, **СМЫРДЯ́ЧКА** *ж.* Эльсгоцыя; рус. эльсгоция, шандра; Elsholzia ciliata (Thunb.) Hyl.

**СОБА́ЧЧА МНЯ́ТА** *ж.* Мята палявая; рус. мята полевая, собачья; Menitha arvendis (L.) Huds.

**СОЛОНЭ́ЧНЫК** *м.* Купальнік горны; рус. арника горная; Arnica montana L. *Од жывота́.*

**СОСО́НКА** *ж.* Хвошч палявы; рус. хвощ полевой; Equisetum arvense L.

**СТАНОВНЫ́К** *м.* Парушэнец парасоністы; рус. зимолюбка зонтичная; Chimaphila umbellata (L.) Nutt. *Од жывота́.*

**СТРАМЫНКЫ́** *мн.* Дуброўка; рус. лапчатка, гусиная лапка; Potentilla anserina L. *Страмынкы́ – драпчя́стэ зілле.*

**СЫНЮГА́** *ж.*, **ЧОРНОГОЛО́В** *м.* Від асакі светлазялёнага колеру з блакітным адценнем, расце ў прыбалотных мясцінах.

**СЫНЯ́ВЫНЬКЫ КВЫТОЧКЫ́** *мн.* Незабудка; рус. незабудка; Myosotis L.

**СЭ́РПНЫК** *м.* Чорнагалоў звычайны; рус. черноголовка обыкновенная; Prunella vulgaris L. *Од порі́зу.*

**ТУРЫ́ЦЯ** *ж.* Шабельнік балотны; рус. сабельник болотный; Comarum palustre L.

**ТУТІ́Н** *м.* Тытунь; рус. табак; Nicotiana L.

**ТЫ́ПЭЦЬ** *м.* Сівец; рус. белолус; Nardus L.

**ХВОШЧЯ́ЙКА** *ж.* Хвошч балотны; рус. хвощ болотный; Equisetum palustre L.

**ХМІЛЬ** *м.* Хмель; рус. хмель; Humulus L.

**ЧОРНОГОЛО́В** *м.* Асака прасяная; рус. осока просяная; Carex panicea L. Гл. **СЫНЮГА́**.

**ЧОРТОПОЛО́Х** *м.* Бадзяк звычайны, чартапалох; рус. бодяк обыкновенный; Cirsium Adans vulgare Airy-Scav. *Вэ́льмы ко́лыцьця, вэ́льмы колю́чый.*

**ЧЫБЫРЭ́ЦЬ** *м.* Чабор; рус. чабрец; 1) Thymus ucrainicus (Klok. et. Schost.) Klok.; 2) Th. serpyllum L.

**ЧЫМЫРЫ́ЦЯ** *ж.* Чамярыца; рус. чемерица; Veratrum L.

**ЧЫРВО́НЫ КВЫТОЧКЫ́** *мн.* Вочны цвет палявы; рус. очный цвет полевой; Anagallis arvensic L.

**ЧЫРО́Т** *м.*, **ЧЫРІ́Т** м. Чарот; рус. камыш; Scirpus L.

**ШЧАВЭ́Й** *м.* Шчаўе; рус. щавель; Rumex L.

**ШЫЛЁХТУ́Н** *м.*, **ШЫЛЁСТУ́Н** *м.* Званец; рус. погремок большой; Rhinantus major L.

**Я́ТЫЛЫНА** *ж.* Дзяцеліна; рус. клевер луговой белый; Trifolium repens L.

*С. С. Клундук*

## ЛЕКСІЧНЫЯ АСАБЛІВАСЦІ ГАВОРКІ ВЁСКІ ФЯДОРЫ СТОЛІНСКАГА РАЁНА

Вёска Фядоры знаходзіцца ў заходняй частцы Столінскага раёна Брэсцкай вобласці, прыкладна на аднолькавай адлегласці як ад Століна, так і ад Пінска. Як паказваюць фанетыка-марфалагічныя асаблівасці мовы, гаворка вёскі адносіцца да групы заходнепалескіх гаворак. Заўважана, што ў лексіцы в. Фядоры прысутнічаюць элементы розных славянскіх моў. Таму ў першую чаргу намі зафіксаваны словы, якія адлюстроўваюць рэгіянальныя асаблівасці гаворкі і якія структурна і семантычна адрозніваюцца ад літаратурных адпаведнікаў. У зборніку навуковых прац «Прыроднае асяроддзе Палесся: асаблівасці і перспектывы развіцця» (Брэст, 2006. С. 534–537) была надрукавана нізка лексічных адзінак, запісаная ў в. Фядоры. У гэтым артыкуле мы прапануем новыя словы, якія адлюстроўваюць асаблівасці гаворкі, побыту людзей названай вёскі, мудрасць палескага народа. Прыведзеныя моўныя адзінкі могуць быць выкарыстаны на спецкурсах, спецсемінарах, практычных занятках па дыялекталогіі, а таксама на разнастайных мерапрыемствах, прысвечаных вывучэнню і даследаванню краязнаўства.

**АБЦЭ́НЬКЫ** *мн.* Абцугі. *Гвоздя абцэнькамы выймы.*

**АКЫ́ША** *выкл.* Выкарыстоўваецца для адгону курэй, куранят. *Акыша пошлы з города, всэ пырыгрыблы.*

**АЛЭ́** *часц.* Так. *Алэ ж, він-такі зробыў, шо казаў.*

**АНЫВЖЭ́Ш** *прысл.* Вядома, безумоўна, канечне. *Ты прыйдэш? Анывжэш, прыйду.*

**АНЫВЖЭ́Ш** *часц.* Няўжо ж. *Анывжэш я буду протів її нішо казаты.*

**АРЫШТА́НТ** *м.* Свавольнік, неслух. *Ах ты, арыштант малы! Ныц ны слухае.*

**БА́БКА**[1] *ж.* Бабуля. *У бабкы своей спытай, вона всэ роскажэ.*

**БА́БКА**[2] *ж.* Грыб, падбярозавік. *А бабок наросло на канавах под бэрозамы!*

**БА́БКА**[3] *ж.* Прылада для кляпання касы. *Косу бабкою наточы.*

**БА́БКА**[4] *ж.* Страва (запечаная нацёртая бульба з пасмажанымі салам і цыбуляй). *Сёння на вычэру будэ бабка.*

**БАВУ́К** *м.* Завялены свіны страўнік, папярэдне напханы мясам з прыправамі. *Злізь на покіт, одріж кусок бавука, остатні хай на паску будэ.*

**БАДЫ́ЛЛЕ** *н.* Сцябліны раслін. *Якэ хорошэ бадылле в бульбы!*

**БАЛІ́Я** *ж.* Металічная пасудзіна для мыцця чаго-н. *Возьмы балію, налый воды, хай грієцца.*

**БА́ЛО** *прысл.* Даўно, калісьці. *Бало батькы жыныха шукалы.*

**БА́НКА** *ж.* 1. Слоік, шкляная пасудзіна. *Банкі знымы з покота.* 2. Кансерваваныя прыпасы. *То вжэ і банок вы наробылы за літо!*

**БАСО́ТА** *ж., ласк.* Дзеці. *Ох і наробыла ж делов гэтая басота.*

**БАТУ́Г** *м.* Пуга; драўляная палка, якая выкарыстоўваецца ў якасці пугі. *Поіхалы, а батуга по дорозы выламнэм.*

**БА́ЯТЫ** *незак.* Гаварыць, казаць. *На сылі баялы про гэтых людэй.*

**БІБ** *м.* Фасоля; боб. *Бібу насады багато, то ж зыма пырымэле.*

**БІ́ГАТЫ** *незак.* У адносінах да перыяду палавой актыўнасці ў кароў. *Наша корова бігае, бігае, а ныяк ны покрыецца.*

**БІ́ЛЫЙ** *прым. у знач. наз.* Белы грыб. *А ў нас за хлівом білых тьма-тьмушчая наросла.*

**БІТО́НЧЫК** *м.* Металічная або пластмасавая пасудзіна цыліндрычнай формы з накрыўкай. *Бітончык молока трэба ў молочарню занысты.*

**БЛЯ́ХА** *ж.* Бляха. *На бляху высып грыбы, хай сушацца.*

**БОВТУ́Н** *м.* Ненайгранае яйка, што сапсавалася пры наседжванні курыцай. *Под гэтою курою одны бовтуны.*

**БОЛЯ́ЧКА**[1] *ж.* Прышч. *На морді знов нійкая болячка выскочыла.*

**БОЛЯ́ЧКА**[2] *ж.* Хворае месца, хвароба. *В гэтого чоловіка одны болячкы.*

**БРАТКІ́** *мн.* Фіялка трохколерная, якая расце ў полі. *Раньшэ пононосылы браткі мышкамы, поноздавалы ганучныку, грошы за іх малы.*

**БУ́БА** *ж.* Ягады *(дзіц.). На, внучэнько мій, поіш смачнэі бубы.*

**БУ́ДКА** *ж.* Драўляная невялікая пабудова для гаспадарчых патрэб. *Торф знысэм у будку, ныц з ім там ны станэ.*

**БУ́СЬКІВ ГРЫ́Б** *м.* Порхаўка. *Як пачурыцы збыраеш, то і буськовы грыбы е, а воны ж білыі, так і обманьваешса.*

**БУ́СЬКО** *м.* Бусел. *Мусытька, бусько гужа в город кынуў.*

**БУ́СЯТЫ** *незак.* Цалаваць. *Як малы хорошэ бусяецца з бабою.*

**БУ́ТЭЛЬ** *м.* Вялікая бутэлька. *Цілы бутэль вына получыўса з вынограда.*

**БЫ́** *злуч.* Быццам, нібыта. *Ты встав і бы ны жывы.*

**БЫЛО́** *н.* Спінка жалезнага ложка. *Было ў лыжку вэльмы ж высокэе – ны пэрэлізэш.*

**БЫРЭ́М'Е** *н.* Бярэмя. *Чымалэ бырэм'е дров прынысы ў піч.*

**БЭЗУРО́КУ** *прысл.* На шчасце, на радасць. *Бэзуроку добра бульба вродыла.*

**БЭЗУСВІ́ТНО ЯК** *прысл.* Вельмі. *Бэзусвітно як хочэцца спаты.*

**БЭ́РВА** *ж.* Драўляная кладка цераз вузкую рэчку ці канаву. *Ны спышы, осторожно іды по бэрвы, то ішчэ впадэш.*

**БЭ́ЦЬКА** *ж.* Памянш.-ласк. назва каровы. *Во і нашу бэцьку прыгналы з пашы.*

**ВА́ВА** *ж.* 1. Хвароба. 2. Ранка *(дзіц.). Ох і вава ж у тыбэ вылыка ж.*

**ВА́ЖКО** *прысл.* Цяжка. *Бульбу вручную важко копаты.*

**ВА́ЖКЫЙ** *прым.* Цяжкі. *Няка важка сумка, мо камні тамэка.*

**ВАЗО́Н** *м.* Пакаёвая расліна, кветка. *У іх чымало вазонов ростэ.*

**ВАРАКУ́ЗЫЦЦА** *незак.* Плакаць, хныкаць без прычыны (звычайна да дзіцяці). *Малэ варакузыцца, спаты трэ ёго класты.*

**ВЗНАЧКЫ́** *прысл.* Уручную, пазначаючы радкі (садзіць). *Бульбу посадылы взначкы, так вона скорій взыйдэ.*

**ВІ́Н** *м.* Займеннік 'ён'. *Він у нас ныяк ны пырыробыўса.*

**ВОБРА́ТЫСА** *зак.* Прыгожа апранууцца. *Дывкы вобралыса, пошлы на сыло.*

**ВО́ВЧЫІ Я́ГОДЫ** *мн.* Любыя ядавітыя ягады. *Воўчыі ягоды ны трэбаісты, бо отравышса.*

**ВО́ЛА** *мн.* Валлё, пашыраная частка страваводa ў птушак. *Да в гэтых качок ужэ вола трышчать од іды.*

**ВОЛОЧЫ́ТЫ** *незак.* Баранаваць. *Бульбу трэба скорій волочыты.*

**ВОХКОВА́ТЫ** *прым.* Сыраваты, трошкі вільготны. *Сіно шчэ вохковатэ.*

**ВО́ХКЫЙ** *прым.* Сыры, вільготны. *Годэжа добрэ ны высохла, вохкая.*

**ВПРАГТЫ́** *зак.* 1. Набіць. 2. Насварыцца. *За гэту шкоду батько тобі вправжэ то вправжэ.*

**ВПРІ́ТЫ** *зак.* Добра зварыцца. *Куття в пічы вэльмо добрэ впріла.*

**ВРОБЫ́ТЫСА** *зак.* Вымазацца. *Чы ж так вжэ ж вробытыса.*

**ВСКЛАД** *у знач. прысл.* Спосаб арання зямлі ад сярэдзіны да краёў. *Добрэ вксклад згоралы.*

**ВУ́ЛІ-ВУ́ЛІ-ВУ́ЛІ** *выкл.* Падзыванне качак. *Вулі-вулі-вулі, вулькы-вулькы-вулькы, ідітэ поіштэ.*

**ВЫБЫВА́ТЫ** *незак.* Вышываць дываны і інш. *Мы кэдысь багато выбывалы коврів, двацать годов назад воны ж модныі булы.*

**ВЫГО́ДА** *у знач. прысл.* Добра. *От вам выгода, сонцэ гріэ, тыпло.*

**ВЫДЕ́ЛВАЦЦА** *незак.* Задавацца. *Вона выделваецца більш, чым трэба.*

**ВЫ́ДЛО** *прыназ.* У параўнанні з. *Выдло того году бульбы тыпэр до холеры.*

**ВЫКАБЭ́ЛЬВАННЕ** *н.* Дрэнныя паводзіны, непаслухмянасць; фанабэрыстасць. *Мні надоіло гэтэе выкабэльванне.*

**ВЫКАБЭ́ЛЬВАЦЦА** *незак.* Паводзіць сябе не так, як трэба, з фанабэрыстасцю. *Ты выкабэльваешса – то скоро довыкабэльваешса.*

**ВЫЛКЫ́** *мн.* Вілы. *Сіно можна і вылкамы подгрыбты.*

**ВЫЛЫКДУ́Р** *м.* Дарослы, але неразумны чалавек; звычайна – на падлеткаў. *Школу закончыў вылыкдур, а в голові вітёр свышчэ.*

**ВЫ́РАЧЫТЫ** *зак.* Шырока расплюшчыць вочы. *Ны вырачвай вочы, так воно получылоса.*

**ВЫ́РОБЫТЫСА** *зак.* Вымазацца. *Шчэкороть в ягоды выробылаcа.*

**ВЫ́САДКЫ** *мн.* Высадкі. Пасаджаныя клубні морквы, буракоў і інш. для атрымання насення. *Высадкы подвязаты трэба, а то обсыплюцца.*

**ВЫСЯКА́ТЫ** *зак.* Высмаркваць нос. *Высякай ніс, ны шморгай, а то вжэ ны мыло.*

**ВЫТІ́ПВАТЫ** *незак.* Распускаць тканіну і г. д. *Нашэ радно зусім повытіпвалосо, дыркамы підэ.*

**ВЫ́ЧВЭРЫТЫ** *зак.* Зрабіць, учыніць нешта дрэннае. *Ох і вычвэрылы діты, всёй загін вытопталы.*

**ВЫ́ШКЫ** *мн.* Верхняя частка хлява пад дахам. *Трэ глянуты на вышках, мо тамэка вылкы лыжать.*

**ВЫШЭ́Й** *м.* Сухая балотняя трава для насцілання ў хляве. *Поіду в Стыкаву выш'ю накосю.*

**ГА́ДКО** *прысл.* Брыдка. *Гадко на тыбэ дывытыса, якый ты стаў.*

**ГАЛАЙДА́** *агульн.* 1. Чалавек, які шмат гаворыць, прычым няпраўду. 2. Шумлівыя, крыклівыя дзеці. *Ны слухай ты гэтую галайду.*

**ГАЛАЙДІ́ТЫ** *незак.* 1. Шмат гаварыць. 2. Шумець. *Божэшкы, скількі можна вжэ так галайдіты?*

**ГА́МАТЫ** *незак.* Есці (звычайна да дзяцей). *Гамай-гамай – будэш вылыкы росты.*

**ГАНУ́ЧА** *ж.* 1. Старое адзенне. 2. Старая тканіна, ануча. *Возьмы шэрсцяну ганучу, ею добрэ мыты подлогу.*

**ГАНУ́ЧНЫК** *м.* Чалавек, які займаецца збіраннем старога адзення, ануч. *Кэдысь ганучнык нам шарыкы прывозыў – во шчасце було.*

**ГАРБУЗЫ́ННЕ** *н.* Гарбузовае націнне. *Гарбузынне поросло, шо аж на плоты позалазыло.*

**ГАРУ́НКЫ** *мн.* Карункі. *Радно спэрва вышывалы, а потом обвязвалы гарункамы.*

**ГА́ЧКА** *ж.* Цяпка. *Гачкы трэба нагострыты, а то ныяк ны гачкують.*

**ГЛІ́ЗЕВЫ** *прым.* Недапечаны, глейкі. *Тісто ны вдалосо, нійкії глізевыі коржы получылыса.*

**ГО́БРАЗ** *м.* Ікона. *На гобраза трэба хорошого рушныка повісыты.*

**ГО́ДЭ** *прысл.* Хопіць, даволі. *Годэ грыбты, натомылыса, поідэм дохаты.*

**ГОМОНІ́ТЫ** *незак.* 1. Абурацца, сварыцца. 2. Размаўляць. *Ны робы так, бо баба будэ гомоніты.*

**ГО́НЬДЭ, ГО́НЁ, ГО́НЬДЭВО, ГО́НЬДЭКА, ГО́НЬДЭЧКІ** *прысл.* Тут, менавіта тут. *Всі гоньдэ собралыса, коло шопы.*

**ГО́ЦАТЫ** *незак.* Бегаць, насіцца, шумець. *Скількы можна в тэй хаты гоцаты гэтым дітям.*

**ГРУ́БА** *ж.* Грубка. *Мы зымою два раза топым грубу, бо холодновато.*

**ГРУДО́К** *м.* Луг з малой зялёнай травой. *Куры на грудку за хлівом пасуцца.*

**ГРУ́ЗКО** *прысл.* Гразка, топка. *Ты глянь, як в болоті грузко, вода стоіть.*

**ГУ́КАТЫ** *незак.* Пастаянна напівацца. *Наш ужэ ніділю гукае, ны просынаецца.*

**ГУ́ЛЬКА** *ж.* Шышка. *Ты бач, якую вылыку гульку набыў.*

**ГУСЮ́К** *м.* Гусяня. *Гусюків од гэтэй гусі чымало вывылосо.*

**ГУ́ТАНКА** *ж.* Арэлі. *Мо хватыть на тэй гутанцы гутацца.*

**ГУ́ТАЦЦА** *незак.* Катацца на арэлях. *Діты гутацца хочуть, алэ ж гутанка порвалаcа.*

**ГУ́ЦАЛКІ** *мн.* Танцы. *Як стымніло, так молодёж на гуцалкі повалыла.*

**ГЫБЛЁВКА** *ж.* Вясельны абрад частавання маладымі чужых, не запрошаных на мерапрыемства людзей. *Зноў, мусытька, нашыі хлопцы на гыблёвку пошлы.*

**ГЫ́ДКО** *прысл.* 1. Непрыемна. *Гыдко на гэтэ всэ дывытыса.* 2. Непрыбрана. *Гыдко на кухні, трэба прыбраты.*

**ГЫДО́ТТЕ** *н.* Нешта непрыемнае, непрыгожае. *Якэе ж в хаты гыдотте розвылы!*

**ГЫ́ЛЬ-ГЫ́ЛЬ-ГЫ́ЛЬ** *выкл.* Зварот, падзыванне гусей. *Гыль-гыль-гыль, ідітэ вжэ на свое сыдало!*

**ГЫ́НЬЧЫ** *займ.* Іншы. *Гыньчы дэнь всэ добрэ, гыньчы – хоть задавыса.*

**ГЫ́ЧКА** *ж.* Бацвінне. *Наріж гычкы кабану і качкам намышай.*

**ГЭ́** *прысл.* Гэтак, так. *Правільно, гэ трэба робыты.*

**ГЭ́ЛЬКО, ГЭ́ЛЬКІ** *прысл.* Столькі. *Гэлько ягід богато назбыралы.*

**ГЭ́ТТАКА** *прысл.* Тут. *Діты ныкуда ны пошлы, гэттака грають.*

**ГЭ́ЦЬКАТЫ** *незак.* Часта ездзіць куды-небудзь. *Сусідка знов у Пінск гэцькала.*

**ГЭШЭ́ВТ** *м.* Гешэфт; справа, адносіны, стасункі. *Вона мае з ім гэшэвт.*

**ГЭШЭВТОВА́ТЫ** *незак.* Распараджацца. *А шо ій, вона тылькі і гэшэвтуе грошыма налево і направо.*

**ДАКО́Б** *часц.* Так. *Дакоб, я коровая спычу, алэ ж коб він удавса.*

**ДЗЫГЛЫНА́ТЫЙ** *прым.* Тонкі, худы, нязграбны. *Бо буракы зіллем зарослы, то і дзыглынатыі.*

**ДЗЮ́НЬ-ДЗЮ́НЬ-ДЗЮ́НЬ** *выкл.* Зварот, падзыванне свіней. *Дзюня-дзюня-дзюня, йдітэ істы.*

**ДОВБЭ́НЯ** *агульн.* Дурань, неразумны чалавек. *Довбэня нійкы ростэ – і всэ.*

**ДОПІ́РЫКА** і **ДОПІ́РО** *прысл.* Толькі што, цяпер. *Допірыка воны тут булы.*

**ДОСТІ́ГНУТЫ** *зак.* Дастаць, дабіцца чаго-небудзь. *Гэты хлопэц всёго достігнэ.*

**ДОТЫНА́ТЫ** *незак.* Патрабаваць, дапякаць, папракаць. *Шо ты од мынэ всэ гэтыі грошы дотынаеш.*

**ДОХОДЫ́ТЫ** *незак.* Патрабаваць, дапякаць, папракаць. *Доходыш, доходыш, а воны всё ровно довг ны аддають.*

**ДО ХОЛЕ́РЫ** *прысл.* Вельмі; многа, багата. *До холеры хороша нывістка ў сусідкы.*

**ДРУЧО́К** *м.* Кій. *Ох, возьмуно я дручка да надаю тобі.*

**ДУБЭ́Ц** *м.* Тонкі прут. *Вырыжы дубца, а то ныма чым погоняты коня.*

**ДУ́ЛЬКА** *ж.* Фіга. *Малому чытыры місяцы, а вжэ дулькы крутыть.*

**ДУ́РБАЛО** *н.* Звычайна з адценнем пяшчоты, ласкальнасці ў адрас чалавека, які нешта не так зрабіў ці не зразумеў. *Ны бійса, дурбало, я ны буду сварытыса.*

**ДЫВЫ́ТЫСА** *незак.* Глядзець. *Скількі можна дывытыса гэтого телевізора.*

**ДЫ́ЧКА** *ж.* 1. Дзікія грушы. *Тыпэрыка тылькі дычка на тому хуторы ростэ.* 2. Маленькія грушы, якія гніюць, гнілушкі. *Дычкы падають і гнывють, становяцца рыжымы, во тоді воны смачныі.*

**ДЭ́ШЧО** *займ.* Што-небудзь, штосьці, нешта. *Дэшчо гудэ в стороні.*

**ДЯ́ЛКА** *ж.* Надзел зямлі, засеяны буракамі. *Добру дялку тыпэрыка обробылы, ны то шо вчора.*

**Е** *дзеясл., незак.* Ёсць. *Чы е хто в хаты?*

**ЁРЗАТЫ** *незак.* Ёрзаць. *Ты довго будэш ёрзаты?*

**ЕРЭПЕ́НІТЫСА** *незак.* Паводзіць сябе не так, як трэба, супрацiўляцца. *Ны ерэпеньса, робы як трэба – і всэ получыцца.*

**Е́СЬЦЯ, Е́СЬЦЕКА, Е́СЬЦІКА** *дзеясл.* Ёсць. *Ягоды в гэтому лісы есьця, можна браты.*

**ЖА́БСКЫІ ГРЫБЫ́** *мн.* Неядомыя грыбы. *У нас «зонтікы» счытають жабскымі грыбамы і їх ны буруть.*

**ЖМОТ** *м.* Скупы чалавек, скнара. *Воны такыі люды, шо ныкому нычого ны дадуть – всі жмоты.*

**ЖМЫНДА́** *агульн., неадабр.* Гаварлівы чалавек. *Дай божэ, які він жмында.*

**ЖМЫНДІ́ТЫ** *незак.* 1. Гаварыць абы-што, пляткарыць. *Ой, ны жмынды ерунду всякую.* 2. Многа гаварыць жмынды. *Колы-нэбудь ты дожмындышса.*

**ЖМЫНДІ́ТЫ** *незак.* Сварыцца. *Скількі вжэ можна на її жмындіты.*

**ЖО́ВТЛЯК** *м.* Пераспелы агурок. *Гуркы попырыросталы в жовтлякы.*

**ЖОНО́ЧЧЫНА** *ж.* Жанчына. *До нас нійка жоноччына заходыла.*

**ЖЫДЫ́ВСКІ КУ́ЧКЫ** *мн.* Халодны перыяд надвор'я перад бабіным летам. *Мусыть жыдывскі кучкы наступылы, шо так холодно стало.*

**ЖЫ́ЖА** *ж.* Угнаенне. *Мы гній на соткы ны повэзэм, польем полэ жыжою.*

**ЖЫ́ТКА** *ж.* Дрэннае жыццё. *От жытка в їх собача.*

**З УПА́ДКОМ** *прысл.* Вельмі, добра. *З упадком слывкы вродылыса.*

**ЗАБОЖЫ́ТЫСА** *зак.* Паклясціся. *Забожыса, што гэтэ ны казаў.*

**ЗАБРУДО́ЧЧЭ** *н.* Невядома куды, невядома дзе. *Ходылы, ходылы по лісы і знов в нійкэ забрудоччэ попалы.*

**ЗАВО́ЗЬВАТЫ** *незак.* Вымазваць. *От завозылы годэжу, шо зубамы трэ оддыраты.*

**ЗАВЭДЁНКА** *ж.* Звычай. *То ж у нас такая завэдёнка: на другы дэнь вылыкдня ходыты на моглыца.*

**ЗАГІ́ДЬВАТЫ** *незак.* Вымазваць. *Діты за дэнь загідьвають одэжу, шо хоть ты зубамы її дыры.*

**ЗАГІ́Н** *м.* Вузкая паласа ворнай зямлі. *На сотках нагоралы загінов, то тэ-се посадым.*

**ЗАГЭ́ЦЬКАТЫ, -СА** *зак.* Вымазаць, -цца. *Трускавкамы загэцькалы майкы, ны одмыты.*

**ЗА́ЇД** *м.* Герпес. *Пэрэд вісіллем як на зло і заіды повыскаквалы.*

**ЗАЇ́ЧЫТЫСА** *зак.* Вымазацца. *Чы ж так ужэ заічытыса.*

**ЗАКОМА́НДОВАТЫ** *зак.* Захацець, загадаць. *Діты закомандовалы купыты їм в Пінску якого гостынца.*

**ЗАПНУ́ТЫСА** *зак.* Зашпіліцца, завязацца, добра апрануцца; накінуць на сябе што-небудзь. *Ты ж запныса, а то в такі холод ходыш наросхрыст.*

**ЗАПО́ІНЫ** *мн.* Абрад сватання жаніха да нявесты. *Дядына чымало людэй позвала на запоіны.*

**ЗА́ПЫНКА** *ж.* Фартух. *Завяжы запынку, а то ж обольесса і вымажэсса.*

**ЗАРОБЫ́ТЫ** *зак.* Зрабіць брагу на гарэлку. *Трэ со слывок брагу заробыты, а то ж пропадають.*

**ЗА́РЭ (ЗА́РЭЗКІ)** *прысл.* Зараз, цяпер, зараз жа. *Зарэ добрэ жывэцца, всэ е.*

**ЗА́СІКА** *ж.* Аддзел у хляве, падвале, звычайна для бульбы, буракоў, морквы. *В лёху повныі засікы насыпалы бульбы, на зыму хватыть.*

**ЗА́СТУП** *м.* Лапата; рыдлёўка. *Возьмы заступа і ны мучайса.*

**ЗАХОДЫ́ТЫСА** *зак.* Ускіпець, занервавацца. *Чы ж так вжэ заходытыса, шо аж колотыцца.*

**ЗАЯВЫ́ТЫСА** *зак.* З'явіцца. *От жэ хлопчык, так і ны заявывса на бульбы.*

**ЗБЭ́ЙДАТЫ** *зак.* Згубіць. *Гэта шчэкороть нідэ збэйдала всі ручкы.*

**ЗЛЯКА́ТЫСА** *зак.* Спужацца. *Чы ж так ужэ гэтэ дытя злякаты!*

**ЗНА́ДЫТЫСА** *зак.* Прызвычаіцца, узяць звычку нешта рабіць; учапіцца. *Куры знадылыса проз дырку в плоту в огорід лазаты, спасу од їх ныма.*

**ЗНАТУ́РЫТЫСА** *зак.* Прызвычаіцца, узяць звычку нешта рабіць. *Знатурывса з маленства по вычорах ходыты.*

**ЗНАЧНЫ́К** *м.* Прылада працы, з дапамогай якой пазначаюць радкі для пасеву любога насення. *Под значнык і бульбу посадымо.*

**ЗУСІ́МА** *займ.* З усімі. *Вона за словом в карман ны лізэ – зусіма ўспіла побаяты.*

**ЗЮ́ЗЯ** *м.* Мароз, холад (дзіц.). *На гулыцу мы ны підэм, там вылыкі зюзя.*

**КАЛІ́КА** *агульн.* 1. Няздатны ні на што чалавек. 2. Інвалід. *Вучы-вучы гэтого каліку – всё ровно ны доходыть, як трэба гораты.*

**КАЛЮ́ГА** *ж.* Лужына. *Знов после дошчу по всій гулыцы калюгы стоять, шо ны пройты.*

**КАПО́РЭ** *часц.* Няхай, хай сабе. *Пропала в нызынцы бульба, а капорэ іі быры.*

**КАПУ́СТЫНА** *ж.* Галоўка капусты. *Сынку, вырыж на загону капустыну.*

**КАРА́КА** 1. Раскірака. 2. Няўмека. *Ах ты, каракa, нычого ны вміеш робыты.* 3. *ласк.* Да малога дзіцяці. *Забыры в хату гэту малую караку.*

**КА́ЎКАТЫ** *незак.* Ванітаваць, давіцца ядой. *Да кількі ж можна каўкаты?*

**КА́ША** *ж.* Пюрэ з бульбы. *На вычэру кашы зробым да з рыбою поімо.*

**КВЭ́ЛЯТЫ** *незак.* Рабіць нешта нехаця. *Хлопэц ныц ны ів, от поквэляв крохы бульбу і всё.*

**КІ́ЛЯ** *ж.* Кілаграм. *Возьмы кілю сечкі – і хватыть.*

**КІ́МЛЯ** *ж.* Сетка для лоўлі рыбы. *Мы цыплюкы годовалы под кімлёю.*

**КІСЕ́Т** *м.* Кашалёк. *Внучко, подай но мні мій кісет, чы е там грошы?*

**КЛУ́НЯ** *ж.* Пуня; прыбудова ў хляве для складвання прылад працы і іншага набытку. *Мо граблі в клуні стоять.*

**КЛЫНДА́ТЫ** *незак.* Кульгаць. *Чы ж так клындаты, нывжэ так болыть?*

**КЛЫНДА́ТЫ** *прым.* Касалапы. *Нійка вона клындатая, ныяк ногы ны выпраўляцца.*

**КЛЫ́ШАВЫ** *прым.* Касалапы. *А малыі діты почті всі клышавыі, потом выправляюцца.*

**КЛЮЧНУ́ТЫ** *зак.* Закіпець. *Як тылькі варэнне ключнэ – одразу выключай.*

**КНУР** *м.* Кныр. *Пора кнура пускаты до свынні.*

**КОВТУ́Н** *м.* Зблытаныя валасы. *Позагодоввала якіі ковтуны.*

**КОЗЛЯКЫ́** *мн.* Грыбы. *Ат у лісы трохы назбыралы козлякыв.*

**КОМСА́** *ж.* Хамса; засоленая дробная марская рыба (анчоус). *Комсы добрэ поісты з пэчаною бульбою.*

**КОНЭ́Ц** *м.* Невялікая частка поля. *Добры конэц морквы мы насадылы в гэтому году.*

**КОПАНЫ́ЦА** *ж.* Капач; прылада для капання бульбы. *Сем копаныц е, то всім хватыть.*

**КОСТЫРО́ВА** *ж.* Пласкуша. *Костыровою затянуло всэ полэ.*

**КОЦЮБА́** *ж.* Качарга. *Танё, подай коцюбу, трэба жар выгрыбты.*

**КОШЫ́ЛЬ** *м.* Кош. *Кошылі у нас вжэ мало хто плытэ, ныма тых майстрів, всі повмыралы.*

**КРАСНЮ́К** *м.* Падасінавік. *Краснюків тыпэрычка наросло в дубках морэ.*

**КРУТНУ́ТЫСА** *зак.* Паспрабаваць выехаць – заехаць, выйсці – зайсці з пэўнай мэтай. *Крутнулыса по лісы туды-сюды, ягід ныдэ ны знайшлы – і дохаты.*

**КРЫШАНЫ́** *мн.* Суп з бульбы і падсмажаным салам. *Крышанів тыпэрыка навару, дый годэ.*

**КУБЛО́** *н.* Гняздо. *В кублі чымало яіц лыжало.*

**КУДЭ́Ю** *прысл.* Куды, якім шляхам. *Кудэю мы пійдэм в ягоды?*

**КУРНУ́ТЫСА** *зак.* Паспрабаваць выехаць – заехаць, выйсці – зайсці з пэўнай мэтай. *Ну-ка курныса до Лысэй горы, мо там які ягоды найдэм.*

**КУРЫ́НА СЛІПОТА́** *ж.* Лугавая расліна з жоўтымі кветкамі. *На курыну сліпоту ны трэба дывыцца, бо осліпнэш.*

**КУ́ТЛІТЫ** *незак.* Тлець. *У грубы трохы кутліе, люхту покуля ны закрывай.*

**КУ́ТНЫЦА** *ж.* Страўнік. *Твоя кутныца, мусыць, цукэрок хочэ.*

**КУТТЯ́** *ж.* Каша з проса. *Тыпэр з молодых мало хто куттю варыць, іі ж в пічы варать.*

**КУФА́ЙКА** *ж.* Фуфайка, ватоўка. *Тыпэр куфайкы ныхто ны носыть, мусыть, іх і ны шыють.*

**КУ́ЧКА** *ж.* Куча. *Складзітэ гэтыі буракы в кучку.*

**КЫЛОВА** *прым.* Бязродная. *Капуста ростэ кылова.*

**КЭ́ДЫСЬ** *прысл.* Калісьці, вельмі даўно. *Кэдысь важко було жыты, алэ здоровыі булы, а тыпэр – во всіх болячкы.*

**КЭ́ШКАТЫ, -СА** *незак.* 1. Доўга займацца чым-н.; кешкацца. *А воны цылы дэнь на пыску кэшкаюцца.* 2. Грэбціся (звычайна да курэй). *Куры надоілы: кэшкаюцца і роскэшкалы всёй загін.*

**КЭ́ШКАЦЦА** *незак.* Кешкацца, корпацца. *Шо ты там кэшкаешса, скорій ходы.*

**ЛА́ВКА** *ж.* Паласа ворнай зямлі. *Лавку бураків насіялы, лавку – бульбы і лавку – на капусту, моркву.*

**ЛАГО́ДКЫ** *мн.* Прысмакі, смакоцце. *Вона ість тыкі лагодкы.*

**ЛЁХ** *м.* Лёх, склеп, спецыяльна пабудаваны падвал. *Всі кампоты в лёху стоять.*

**ЛЕ́ЦКАТЫ** *незак.* Часта ездзіць, хадзіць па штонебудзь. *Знов лецкала в ягоды.*

**ЛОХА́НЯ** *ж.* Гультайка. *Тая лоханя сыдыть в хаты, ны хочэ шо-нэбудь помогты.*

**ЛУШПАЙКЫ́** *мн.* Шалупінне. *Лушпайкы ны выкідвай, свынням оддамо.*

**ЛЫЖА́ТЫ** *незак.* Хварэць. *Наша баба скількі вжэ лыжыть, мо год.*

**ЛЫТІ́ТЫ** *незак.* Хутка прыязджаць, ісці, бегчы. *Родня як бач прылытіла, хоть і дэ в чорта жывэ.*

**ЛЫ́ШАНЫ** *прым.* Кастрыраваны. *Кабанчыкы в нас всі лышаныі.*

**ЛЫША́ТЫ** *незак.* Кастрыраваць кабана. *Кабана ввэчэры будуть лышаты.*

**ЛЭ́ЖМА: ЛЭ́ЖМА ЛЫЖА́ТЬ** *прысл.* Гультайнічаць. *Цылы дэнь він в хаті лэжма лыжыть.*

**ЛЮ́СТРО** *н.* Люстэрка. *Закрый люстро, бо грыміты стало.*

**ЛЮ́ХТА** *ж.* Юшка, засланка ў грубцы, печцы. *Ны забудь люхту закрыты, а то всэ тыпло выйдэ.*

**ЛЯКА́ТЫСА** *незак.* Баяцца. *Ны трэба грому лякатыса.*

**МА́ЗАТЫСА** *незак.* Ныць, плакаць без прычыны (звычайна да дзяцей). *Кладітэ малого спаты, бо так вжэ мажэцца.*

**МА́ТЫРА** *ж.* Маці. *До матыры сходы, вона всэ пэрэжывае і плачэ по тобі.*

**МО́НЬКАЛО** *агульн.* Вельмі павольны, марудлівы чалавек. *Тэе монькало ныколы ны поспывае зробыты роботу.*

**МО́НЬКАТЫСА** *незак.* Вельмі павольна, марудліва працаваць. *Скількі можна тамэка монькатыса.*

**МУЛЫ́КА** *агульн.* Павольны, марудлівы чалавек. *Мулыка цілы дэнь хату прыбырае.*

**МУЛЫ́КАТЫ** *незак.* Павольна, марудна што-небудзь рабіць. *Скількі можна мулыкаты тую корову.*

**МУ́ЛЯНЫК** *м.* Мазоль. *По всій нозі пошлы муляныкы.*

**МУ́ЛЯТЫ** *незак.* Муляць, ціснуць. *Гэтыі туфлі мні муляють.*

**МУТЫ́ТЫ** *незак.* Маніць. *Раз мутыш, то мутюн.*

**МУ́ШНЫК** *м.* Гультай. *Ну і мушнык ростэ, світ ны бачыў.*

**МЫНТЫ́ТЫ** *незак.* Умяць. *Гляньтэ, малы цылу мыску змынтыв шчав'ю.*

**МЫНТЫ́ТЫ** *незак.* Мянціць. *Ны мынты багато своім языком.*

**НАБРА́ТЫСА** *зак.* Напіцца гарэлкі. *Ну то вжэ набравса як жабы мулы.*

**НАБЫРУ́ХА** *ж.* 1. Посцілка з любой тканіны для збірання ягад (часцей журавін). 2. Слоік, глечык ці іншая пасудзіна для збірання ягад. *Ты гляды, набырухы взяты ны забудь.*

**НАВІСНІ́** *прысл.* Вясной. *Зарэ тыпло, а навісні мороз будэ.*

**НА́ВЭТЬКА** *часц.* Нават. *Всі діты позбыралыса бульбу копаты, навэтька внукы прыіхалы.*

**НАДЮ́БЫТЫСА** *зак.* Надзьмуцца. *Знов ты ны за шо надюбывса.*

**НАЙГРА́НЫ** *дзеепрым.* Аплоднены. *Ны ўдалыса яйца, половына ны найграных.*

**НАКОДЮ́РЫТЫСА** *зак.* Нахмурыцца, надзьмуцца. *Крыкны трошкы на іі – накодюрыцца і пошла собі.*

**НАПАЛЮШОВА́ТЫ** *зак.* Многа і хутка нарваць чаго-небудзь. *Гычкы напалюшовалы на два дня.*

**НАПРЫКРО́ННЫ** *прым.* Упарты. *Якая ж гэта дівчіна напрыкронна.*

**НАСІ́ННІК** *м.* Насеннік. *Хай насіннік шчэ полыжыть, поспіе.*

**НАСТЫ́ЛЬНІК** *м.* Абрус, настольнік. *На гэты хорошы стыл можна і ны застылаты настыльніка.*

**НАТЫРБУ́ЧЫТЫСА** *зак.* Многа напіцца чаго-небудзь. *Воды натырбучывса, шо жывіт болыть.*

**НАХУРОВА́ТЫ** *зак.* Вельмі многа накласці, набраць, назбіраць чаго-небудзь. *Повну нішку нахуровала сывэнького.*

**НАЦЮ́ПЫТЫСА** *зак.* Надзьмуцца, раззлавацца. *Знов нацюпылаcа, губу нічого свою отставыла.*

**НІ́КОТРЫ** *займ.* Нейкі, некаторы, нехта. *Нікотрэ взяло і ны прызнаецца.*

**НІ́ШЧО** *займ.* Нешта, штосьці. *Нішчо воны казалы, а шо я ны розобрала.*

**НЫМАЛАДУ́ СКІ́ЛЬКІ** *прысл.* Вельмі многа. *Нымаладу скількі наросло слывок, шо з імы робыты?*

**НЫХОРІ́ЗНЫ** *прым.* Непрыгожы чалавек. *Ох якая ж вона ныхорізная*!

**НЫШЧО́** *займ.* Нічога. *Нышчо я ны кажу.*

**НЫШЧО́** *прым.* Добры, прыгожы. *А хлопэц то гэты – нышчо: і хорошы, і добры, і слухае всэ.*

**НЭ́БЭСЬТО** *часц.* Нібыта, быццам бы. *Нэбэсьто пололы вчора, сёння всэ зілле стоіть.*

**НЭ́ТРА** *ж.* 1. *неадабр.* Дзеці. *Ох і нэтра, доігралыса вжэ.* 2. *неадабр.* Тое, што робіць шкоду (жывёлы, птушкі, насякомыя). *Вжэ гэтая нэтра надоіла, лізэ й лізэ в вочы.*

**НЮШКОВА́ТЫ** *незак.* Вынюхваць, выведваць. *Та баба ходыть по сылі і всэ нюшкуе.*

**НЯ́КА** *займ.* Нейкая. *Няка жоноччына до нас заходыла.*

**ОБГОНЯ́ТЫ** *незак.* Акучваць бульбу і інш. *Мы вжэ два раза абогналы бульбу, мо полоты ны трэба будэ.*

**ОБОПНУ́ТЫСА** *зак.* Накрыцца, захінуцца чым-небудзь. *Обопныса радюгою – ны так выробышса.*

**ОБЦЭ́НЬКЫ** *мн.* Абцугі. *Гвоздя обцэнькамы зогны.*

**ОБЭРНУ́ТЫ** *зак.* Абвярнуць, загарнуць у што-небудзь. *У хвартух обэрны гэтэе зілле, коб ны высыпалосо, і нысы.*

**ОДНА́КОВЭ** *прым.* Аднолькавы. *Ныхто тут ны полов, навэтька і ны почыпав, однаковэ зілле як стояло, так і стоіть.*

**ОДНО́МАШНЫ**[1] *прым.* Адзінарны. *Двэры в прыхожую трэба одномашныі ставыты.*

**ОДНО́МАШНЫ**[2] *прым.* Аднолькавы. *Цыплюкы всі адномашныі.*

**ОКА́ЗІЯ** *агульн.* Непрадказальны чалавек. *Ны хлопэц, а настоящча оказія.*

**ОКУ́ЧНЫК** *м.* Акучнік. *То ж можна вручную окучныком обойты бульбу, тут іі ны багато.*

**ОНЁ** *прысл.* Тут. *Онё всэ лыжыть, ныхто ёго ны брав.*

**ОНЬ** *часц.* Вось. *Станьмо онь тамэка.*

**ОНІ́ВОШЧО** *займ.* Нешта. *Онівошчо воны тыпэрыка роблять, хоть і свято вылыкэ.*

**ОНО́ШЧО**[1] *прысл.* Толькі што. *Діты со школо оношчо прышлы.*

**ОНО́ШЧО**[2] *часц.* Але, аднак. *Ныц батько ны сказав, оношчо попырэдыв.*

**ОПОРОСЫ́ТЫСА** *зак.* Апарасіцца. *Свыння, мусыть, вночі опоросыцца, бо вжэ лыжыть, ны встае.*

**ОПЫКТЫ́СА** *зак.* Зведаць дрэннае жыццё. *От тыпэр і вона апыкласа, ато ходыла, ныкого ны прызнавала.*

**ОСІ́ННЕ** *н.* Галінзога драбнакветкавая – пустазелле, якое расце і цвіце з лета да зімы. *Полэ засіянэ осіннім, спасу од ёго ныма.*

**ОТПУСТЫ́ТЫ** *зак.* Выздаравець; ачуняць, трошкі паправіцца. *Трохы бабу отпустыло, вжэ ходыть сама.*

**ОТЯГА́ЧКА** *ж.* Спецыяльны бідончык для адстойвання малака. *Мы кэдысь отягачкы з молоком в колодязы, в самэі воді, дыржалы.*

**ОЧАМРІ́ТЫ** *зак.* Ачмурэць. *Очамріеш за дэнь од гэтого пыску й крыку.*

**ПА́ВА** *агульн.* Добра апрануты, дагледжаны чалавек; ганарысты чалавек. *Там ужэ пава выростэ добрая – тыпер носа ны достаты, а шо будэка после.*

**ПАЗЮ́Р** *м.* Пазногаць. *От відно, шо ныц ны робыть: пазюры повыгодоввала мытровыі.*

**ПА́КШЫ** *мн., груб.* Ногі, рукі. *Прыбыры свої пакшы, воны мні мышають.*

**ПАЛЮШОВА́ТЫ** *незак.* Рваць што-небудзь. *Напалюшовалы сосонкы аж тры вылыкыі мышкы, а як высохнэ, то будэ поўмышка.*

**ПАЛЯ́ТЫ** *незак.* Страляць. *Зрання булы грымоты і добрэ паляло.*

**ПАПІРІ́ВКА** *ж.* Сорт яблыкаў «Белы наліў»; яблыня. *Папірівок вродыло тьма тьмушчая, алэ ж вэльмо ж гныють.*

**ПАПРУ́ГА** *ж.* Рэмень, звычайна скураны. *От, зарэзка попруга походыть по тобі.*

**ПАСАМА́НЫ** *мн.* Палоскі; адбіткі ад чаго-небудзь на целе. *По малыны ходылы, набралы, а тыпэр всі рукы в пасаманах.*

**ПА́СКА** *ж.* Вялікдзень. *На паску всі з'іжджаюцца дохаты, до батьків.*

**ПА́СОК** *м.* Рэмень, можа быць і з тканіны. *Паском подвяжыса, ны ходы росхрыстаная.*

**ПАЦІЯ́Т** *м.* Франтон. *Паціят всій згныў, трэ мыняты.*

**ПАЧУРЫ́ЦЫ** *мн.* і **ПАЧУРЫ́ЦА** *ж.* Шампіньёны, грыбы, якія растуць на пашах. *Раньшэ, покуда пасэш коровы, морэ пачурыц назбыраеш, відрамы іх носылы, а тыпэрыка ныма: пашы всі пырыгоралы.*

**ПЕ́ПЕНКА** *ж.* Сорт яблыкаў; яблыня. *Пепенкы вылыкыі ны ростуть, а тыпэра мало в кого воны е.*

**ПЕРВОТЁЛКА** *ж.* Карова першага ацёлу. *Рідко якая первотёлка дае багато молока.*

**ПІДЧЭРЭ́ВЫНА** *ж.* Падчарэўе, у свінні частка цела пад жыватом. *На підчэрэвыны було однэ сало.*

**ПЛЕМЕ́НІ** *мн.* Пельмені. *Племенів дывкі накрутылы цілу гору.*

**ПЛІТ** *м.* Плот, агароджа. *Пліт увэсь погныв, трэба мыняты, алэ ж зарэз штахету ны достаты.*

**ПЛЫТЁНКА** *ж.* 1. Падоўжаная вітая белая булка. *Плытёнкы часто прывозять в магазін, алэ ж іх хутко і розбырають.* 2. Пляцёнка; цыбуля, сплеценая на вяроўку. *Плытёнкы з цыбулёю вісять коло пічы.*

**ПЛЫШНЯ́К**[1] *м.* Аер. *Мы на трійцу завсюды рвэм плышняк і роскідваем по дворі, в хаты.*

**ПЛЫШНЯ́К**[2] *м.* Касач вадзяны жоўты. *У нас такі плышняк ішчэ называють ліліею жовтэю.*

**ПЛЯ́ШКА** *ж.* 1. Бутэлька. *Нішо багато назбыралосо пустых пляшок, трэба заныcты здаты.* 2. Бутэлька алкагольнага напою. *Купы в магазіны пляшку, мужыкам трэба поставыты.*

**ПОБІ́ЛКА** *ж.* Фарба з мелу, вапны. *Колысь пліт красылы побілкою, а тыпэр ужэ красять краскою.*

**ПОБРА́ТЫСА** *зак.* Пажаніцца. *Мусытька, воны вжэ побыруцца, стылькі годов ходять.*

**ПОВЫТІ́ПВАНЭ** *дзеепрым.* Распушчанае, якое разлезлася. *Ковёр у нас гэты повытіпваны дошчэнту, на смэрть.*

**ПОВЫТУ́ХА** *ж.* Любое пустазелле-ўюн. *Росплодыласа на гэтый лавцы одна повытуха, ны можна шо зробыты.*

**ПОГІДЫ́ТЫ** *зак.* Сапсаваць. *Куры кукурузу ны поілы, а тылькі погідылы.*

**ПОДДУ́БНІК** *м.* Від умоўна ядомых пласцінчатых грыбоў карычневага колеру. *Ны було в лісы ныякіх грыбів, то хоть поддубніків назбыралы, на ікру підуть.*

**ПО́ДЗЕЛЕНКА** *ж.* Падзялёнка, ядомы грыб з пласцяністай шэра-зялёнай шапкай і зеленаватай ножкай. *На подзеленкі е похожыіі ядовытыі грыбы, то трэба на ножку дывытыса, вона должна буты зеленоватого цвету.*

**ПОДЛЫ́ВКА** і **ПОДЛЫ́ВА** *ж.* Гуляш. *До кашы трэбака подлывку зварыты.*

**ПОДПІ́ЧОК** *м.* Падпечак, падпечча. *В подпічок трэба дров наложыты, хай сохнуть.*

**ПОДЫВЛЯ́ТЫСА** *незак.* 1. Пазіраць, глядзець. *Шо-то бабы́ сюда подывляюцца.* 2. Звяртаць на каго-небудзь увагу. *А брат на сусідку трохы подывляецца.*

**ПОЗАВО́ЗЬВАТЫ** *зак.* Вымазацца. *Гэто ж трэба було так позавозьваты годэжу.*

**ПОКА́МЫСЬ** і **ПОКА́МЫСЬКА** *прысл.* Пакуль; пакуль што. *Покамысь суд да діло, то мы успіем в ліс збігаты.*

**ПОКВЭ́ЛЯТЫ** *зак.* Дакрануцца; перамяшаць. *Батько крышаны поквэляв і ны ів.*

**ПОКІДІ́НКА** *ж.* Жанчына, якую кінуў муж. *У покідінкі дочка вжэ вылыка, хутко замуж підэ.*

**ПОКІДІ́НЭЦ** *м.* Мужчына, якога пакінула жонка. *Він тыпэрыка покідінэц – важко ёму будэ.*

**ПОКІ́Т** *м.* Гарышча. *Злізь на покіт, достань трохы цыбулі.*

**ПО́КЛАД** *м.* Месца, дзе нясуцца куры. *Трэба в кучцы зробыты поклад, а то куры нысуцца абы-дэ: то в зіллі, то в корчах.*

**ПО КРА́ЙНІ МІ́РЫ** *ў знач. прысл., прым.* Як трэба; добра, добры; цудоўна, цудоўны. *Пшыныца по крайні міры тутэка выросла: высокая, товстая, густая.*

**ПОКРЫ́ТЫ** *дзеепрым.* Пакрыты, апладнены (пра жывёлу). *Корова давно покрытая, то скоро, якраз под зыму, отілыцца.*

**ПОКРЫ́ТЫСА** *зак.* Пакрыцца, апладніцца (пра карову). *Трэба, шо б тылушка вжэ покрыласа, а вона ныяк.*

**ПОЛІ́ННЕ**[1] *н., зб.* Палéна. *Набыры поління в хату, хай сохнэ.*

**ПОЛІ́ННЕ**[2] *н.* Праполка. *А якэ можэ буты тыпэрыка полінне, цілы дэнь доич вальцуе.*

**ПОЛОВЫ́К** *м.* Палавік. *Вынысэм з хаты всіі половыкы, выб'ем іх, потом помыем хату.*

**ПОЛУ́ЧКА** *ж.* Зарплата. *До вэчора всі получку получать, а потом будуть галівудыты.*

**ПО́ЛЫВКА** *ж.* Зацірка. *Маты, навары заўтра полывкі.*

**ПОЛЫ́ШАНЫ** *дзеепрым.* Кастрыраваны. *Поросючкі у нас всі полышаны.*

**ПО́ЛЬСКІЙ** *у знач. наз., м.* Падгрыб, ядомы. *Нішо польскіі в нас ны быруть, всэ ногамы подкідають.*

**ПОМАРА́ТЫ** *зак.* Вымазаць. *Діты помаралы всёго ковра, ны одмыты будэ.*

**ПОНАГІ́ДЬВАТЫ** *зак.* Забрудзіць смеццем, насмеціць. *От, дітвора, понагідьвала скрізь по дворі.*

**ПОНА́ДЫТЫСА**[1] *зак.* Унадзіцца. *Качкы понадылыса в город лазыты, спасу ныма од іх.*

**ПОНА́ДЫТЫСА**[2] *зак.* Паспадзявацца. *Понадылаcа на дытэй, шо поможуть, а тут у іх ны получылосо.*

**ПО́НОЧЫ** *прысл.* 1. Цёмна. *Вжэ поночы стало, як воны в Коляду пошлы.* 2. Позна. *Сыстра поночы прышла дохаты.*

**ПОПУСТЫ́ТЫСА** *зак.* Апусціцца, не глядзець сябе. *Брат быз братыхы зовсім попустывса.*

**ПОПЭРО́Д** *прысл.* 1. Наперад. *Попэрод батькы ны лізь.* 2. Спачатку, перш. *Попэрод зробы, а потом кажы.*

**ПО́РХІВКА** *ж.* Порхаўка, белы шарападобны грыб, мякаць якога пры высыханні ператвараецца ў цёмны пыл. *Думаеш, шо пачурыца, быжыш, коб скурій вырызаты іі, а гэто – порхівка.*

**ПОСТОЛЫ́** *мн.* Чобаты; любы стары абутак. *Обувай якыі постолы да поіхалы скурій.*

**ПОСЫДІ́ЛКЫ** *мн.* Час, праведзены разам з кімнебудзь; вячоркі. *Бабы собралыса на посыділкы.*

**ПОХА́ТНЫК** *м.*, **-ЫЦА** ж. Чалавек, які не сядзіць дома, а ходзіць па хатах. *Гэтая похатныца волочыцца і волочыцца по хатах, не коб дома шо зробыла.*

**ПРА́ВЫДНЫК** *м.* Правільны, справядлівы чалавек. *Ну, шчэ одын правыдник нашовса.*

**ПРА́ВЫТЫ**[1] *незак.* 1. Гаварыць толькі пра адно і тое ж. *А вона мні всэ про гэтэ правыть і правыть.* 2. Рабіць адно і тое ж. *Скількі можна одну роботу правыты.*

**ПРА́ВЫТЫ**[2] *незак.* Даглядаць каго-небудзь. *Хлопэц сам правыть всэе хозяйство.*

**ПРО́БКА** *ж.* Корак, закупорка для бутэлек. *Пробкі лыжать в стольныцы.*

**ПРО́ВОДЫ** *мн.* Провады, застолле з нагоды адпраўлення на службу ў армію. *Нас тожэ позвалы на проводы.*

**ПРОПАСТЫ́ТЫ** *зак.* Сапсаваць, знішчыць, згубіць. *Стылькі цыплюкыв пропастылы, ны вгледылы.*

**ПРОТІ́НЬКАТЫ** *зак.* Нічога не зрабіць за пэўны прамежак часу. *Поўдня протінькалы коло гэтых поросюків, ныц ны зробылы.*

**ПРОТРЫ́НЬКАТЫ** *зак.* Нічога не зрабіць за пэўны прамежак часу. *Протрынькала дэнь з дытьмы.*

**ПРО́ТЭ** *прыназ.* Для. *Матэра протэ дядыны нішо казала.*

**ПРОХОДІ́МКА** *ж.* 1. Баявітая, дзелавая жанчына. *Од гэтэі проходімкы ныц ны втэчэ.* 2. Нягодніца, прахвостка. *З тэю проходімкою ліпш ны звязвацца.*

**ПРОХОДІ́МЭЦ** *м.* 1. Баявіты, дзелавы мужчына. *Проходімэц дэржыть вухо на чэку.* 2. Нягоднік, прахвост. *Гэты проходімэц чэрэз людэй пырыступыть.*

**ПРОШМАНДА́** *агульн.* 1. Чалавек, які дабіваецца ўсяго; баявіты чалавек. *Прошманда наш брат, всёго доб'еццa сам.* 2. Гуляка.

**ПРОШМАНДІ́ВКА** *агульн.* 1. Гуляка. 2. Баявіты чалавек. *Дівчынка гэтая добрая прошмандівка, всім дасть отпор.*

**ПРЫБУВА́ТЫ** *незак.* Распухаць, павялічвацца, прыбаўляцца. *В хаты гарачэ́ вэльмы ж, то й в ныбожчыка прыбувае.*

**ПРЫВЫСТЫ́** *зак.* Даць прыплод, нарадзіць. *Кішка которы раз за год коцюків прывыла.*

**ПРЫКА́ЗВАТЫ** *незак.* Гаварыць, загадваць. *Маты прыказвала ныкуды ны йты, дождатыса іі.*

**ПРЫПЫ́ЛЕНЫ** *прым.* Прыдуркаваты, неразумны. *Ты прыпылены чы прыкідваесса.*

**ПРЫПЭРТЫ́** *зак.* Прывезці, прынесці чаго-небудзь у вялікай колькасці. *Ох, і прыпэрлы ж зяті сіна – цылы віз.*

**ПРЫ́СЫ** *мн.* 1. Вусны (у чалавека). *Зноў свої прысы наставыў і пойшов слова ны сказавшы.* 2. Губы (у жывёлы). *Корова прысы пораныла.*

**ПРЫЧЫ́НА** *ж.* Важнае свята з застоллем (вяселле, хрэсьбіны, провады, дзень нараджэння і інш.); любое мерапрыемства з нагоды сумнай падзеі (пахаванне, памінкі і інш.). *За гэты год маты зробыла аж тры вылыкіі прычыны.*

**ПУ́ЛЬХАТЫ** *незак.* Есці што-небудзь вадкае. *Свынням натэрты кабаків, добавыты мукы з водою – і хай пульхають.*

**ПУСТА́К** *м.* Газасілікатны блок. *Лёх з пустаків можна злыпыты.*

**ПУСТЫ́** *прым.* Нішчымны. *Наварыла баба пустого шчав'ю, шо в рот ны вбыты.*

**ПУ́ТАНКА** *ж.* Сетка для лоўлі рыбы. *Мо путанкою трохы наловым рыбы.*

**ПУТЬ-ПУТЬ** *выкл.* Падзыванне курэй. *Путь-путь-путь, ідітэ сюда, путь-путь-путь.*

**ПУТЭРУ́ХА** *ж.* Пацяруха. *Гэто ны солома, а одна путэруха, нашо іі грыбты.*

**ПУ́ШКА** *ж.* Каробка для запалак. *Возьмы пушку і туда насып солі.*

**ПЫ́КАВЫЙ** *прым.* 1. З моўным дэфектам. *Він нійкі пыкавый, чы шо.* 2. *У знач. наз.* Які маніць, хлусіць. *Ты вірыш гэтому пыкавому.*

**ПЫКУ́ЧКА** *ж.* Крапіва-жыгучка. *Наросло пыкучкы, шо світ ны бачыў.*

**ПЫ́ПА** *ж.* (*дзіц.*). Вада. *Ой, якая пыпа смачная!*

**ПЫРЫБА́ЙВАТЫ** *незак.* Абгаворваць, пляткарыць. *По сылі пырыбайвалы, якэе в сусідэй высілле було.*

**ПЫРЫБЫРА́ТЫ** *незак.* Доўга выбіраць нешта, некага. *Будэш вэльмо хлопцыв пырыбыраты – в дівках останэсса.*

**ПЫРЫКА́ЗВАТЫ** *незак.* Перадаваць камусьці праз каго-небудзь словы. *Цітка твоя пырыказвала, шо б ii на высілле позвалы.*

**ПЫРЫЛАМА́ТЫСА** *зак.* Перапрацавацца. *Да вжэ ж вы на гэтых бураках пырыламалыса.*

**ПЫРЫПЫВА́ТЫ** *незак.* Сватаць. *В гэту суботу нашу дочку будэм пырыпываты.*

**ПЫРЫРВА́ТЫСА** *зак.* Перапрацавацца, многа папрацаваць (звычайна з іроніяй). *Думаю, ны пырырвалыса вы коло кныжок.*

**ПЫРЫРОБЫ́ТЫСА** *зак.* Перапрацавацца, многа папрацаваць (звычайна з іроніяй). *Ты вжэ так тыпэрыка пырыробывса, што дальшэй ныма куда.*

**ПЫРЫСКО́ЧЫТЫ** *зак.* Хутка з'ездзіць, схадзіць, збегаць. *Пырыскоч скурій до бабы і прывызы ii сюды.*

**ПЫ́СА** *ж.* 1. Пыса, морда. *Тылючок пысою своею тыкаеціца в руку.* 2. Вусны (у чалавека), губы (у жывёлы). *Пысы свої ны роставляй.*

**ПЫЧА́ЙКА** *ж.* Пякотка, адчуванне пякучага болю ў страваводзе. *Зновыка страшная пычайка мынэ мучае.*

**ПЫЧКУ́Р** *м.* Маленькая рыба. *Ніколы марлёю мы пычкурів на канавы ловылы.*

**ПЭ́НЬКНУТЫ** *зак.* Прагнуць, вельмі хацець чаго-небудзь. *Ну, то вжэ зарэ пэнькнэш быз воды.*

**ПЭРВА́К** *м.* Пяршак, першая выгнаная гарэлка, самагонка. *Ніякый пэрвак ны вдавшыйса.*

**ПЭРО́Д** *прысл.* 1. Перш, спачатку. *Пэрод подумай, посля скажы.* 2. Наперад. *Пэрод іх ны попрэш.*

**ПЭРЭЛЯ́К** *м.* Спалох, перапуд. *Дытя, мусытька, пэрэляком хворіе.*

**РАДНО́** *н.* Любое пакрывала, часцей тканае. *Накрый бацька хотя б радном, хай трохы поспыть.*

**РАДЮ́ГА** *ж.* Дяружка, пакрывала, якое выкарыстоўваецца для гаспадарчых работ. *Ны забудь на соткы радюгу взяты.*

**РА́ЖКА** *ж.* Цэбар. *Бульба свынням зварылася, в ражцы трэба ii потовкты.*

**РАЧКОВА́ТЫ** незак. Добра працаваць. *Ох і рачкують зяті коло сіна.*

**РОВЧА́К[1]** *м.* Вузкая баразна ў выглядзе раўчукоў. *Зробыно ровчакы, посадым бульбу взначкы.*

**РОВЧА́К[2]** *м.* Ручай. *Дошч пошов, ровчакы кругом побіглы.*

**РО́ВЭР** *м.* Веласіпед. *Матыры на юбілей подарым ровэра, хай іздыть.*

**РОЗ'І́СТЫСА** *зак.* 1. Стаць тоўстым. *Бач, як роз'івса брат коло жінкі.* 2. Стаць багатым. *Нашэ начальство добрэ роз'ілосо коло колхозного.*

**РОЗБЭ́СТА** *агульн.* Разбэшчаны чалавек. *Тыпэр діты розбэстамы ростуть.*

**РОЗВЫДЭ́НЭЦ** *м.* Мужчына, які развёўся з жонкай. *Моя двоюродна сыстра побраласа з розвыдэнцэм.*

**РО́ПА** *ж.* Пена. *З рота в його і ропа вжэ тычэ.*

**РО́СКАРАЧКЫ** *прысл.* Ісці няроўна, шырока расстаўляючы ногі (часцей да п'яных людзей). *Глянь ты, воны вжэ роскарачкы ідуть.*

**РОСКВЭ́ЛЯНЫ** *дзеепрым.* Раскалупаны. *Діты росквэлялы пырога, а істы ны ілы, тыпэрыка росквэляного ныхто істы ны будэ.*

**РОСКВЭ́ЛЯТЫ** *зак.* Раскалупаць. *Мэд росквэлялы по столі і ны прыбралы после сыбэ.*

**РУ́ЖКЫ** *мн.* Карункі. *Баба кручком вывязала на платте ружкы.*

**РЫ́ХТЫК** *прысл.* Якраз. *Рыхтык і кончылы полоты.*

**РЫШЭ́ТНІК** *м.* Рашэтнік. *Рышэтнікі як зварацца, то чорныі становяцца.*

**СВЫНА́РНЫК** *м.* Беспарадак. *Свынарнык розвылы в хаты.*

**СВЫРБЫ́ТЬ** *незак.* 1. Свярбіць. *Нішо рука покрасніла і свырбыть.* 2. Хацець нешта зрабіць, сказаць. *Тобі так і свырбыть шо-ныбудь нычогэ зробыты.*

**СВЭ́ДЭР** *м.* Світэр. *Одінь свэдра, бо на гулыцы стало холодно.*

**СВЯТКОВА́ТЫ** *незак.* Нічога не рабіць у працоўны дзень. *А воны каждый дэнь святкують, от жызнь-малына.*

**СВЯТО́К** *м.* Самае важнае рэлігійнае свята ў пэўнай вёсцы. *На сплытэнне ў нас святок.*

**СЕ́ЧКА** *ж.* Мука грубага памолу. *Сечку трэба роспарыты кіпятком і тылькі потом даваты свынням.*

**СІ́КАТЫ** *незак.* (*дзіц.*). Мачыцца. *Вучыса в горшок сікаты, вжэ пора.*

**СІ́НІ** *мн.* Сені. *В сінях у бабы завсюды прохладно.*

**СІ́НІЙ** *у знач. наз., м.* Польскі грыб. *Сініх тьма тьмушчая наросло.*

**СІТРО́** *н.* Салодкі безалкагольны напітак. *В магазіны багато всякого сітра.*

**СІ́ЧКА** *агульн.* Чалавек, які ўмее усім даць адказ. *Да вона з маленства була січкою, усім дасть отпор.*

**СІ́ШКА** *ж.* Акучнік, сошка. *Бульбу коло хаты можна і сішкою обогнаты.*

**СІ́ЯНКА** *ж.* Сеянка, насенная бульба. *Сіянкы хвать всі нашыі соткы засадыты.*

**СКЛАД** *м.* Склад, пласты зямлі, складзеныя адзін да аднаго. *На складу посадым гарбузы.*

**СКОПЭ́Ц** *м.* Капец. *Всёй город в скопцах: то бульба, то буракі, то морква.*

**СКО́ЧЫТЫ** *зак.* Хутка збегаць, схадзіць. *Скоч у лавку, хліба купы.*

**СКУ́ДОВА** *прысл.* Адкуль. *Скудова гэты качук появывса?*

**СКУ́ЛІКА** і **СКУ́ЛЯ** *прысл.* Адкуль. *Скуля я знаю, дэ воно поділосо.*

**СЛЫ́НЧЫК** *м.* Услончык, невялікая пераносная лаўка. *Подстав слынчыка, я на піч залізу.*

**СМОКТУ́ЛЬКА** *ж.* Цукерка-ледзянец. *Купы у лавцы якіх-нэбудь смоктулёк.*

**СМЫ́КАЦЦА** *незак.* Хадзіць туды-сюды, без справы. *Дітвора цылый дэнь смыкаецца по сылі.*

**СОБА́ЧКЫ** *мн.* Кветкі, падобныя на твар сабакі. *Як дотронэсса до ны роспустывшэйса собачкы, то вона розрываецца.*

**СОКІ́РА** *ж.* Сякера. *Як йдэш в ліс трэба завсюды браты сокіру.*

**СО́ПУХА** *ж.* Попел; гар. *Бач, шо сопухы наросло в пічы.*

**СО́СОНКА**[1] *ж.* Хвошч. *Сосонкы нарвалы нікількі мышків, а высохнэ – будэ повмышка.*

**СО́СОНКА**[2] *ж.* Сасна. *За фермою в сосонках тожэ ростуть козлякы.*

**СО́ТКА** *ж.* Цвік даўжынёй 100 мм. *Шыфэр прыбывають соткамы.*

**СО́ТКІ** *мн.* Поле, выдзеленае калгасам для вяскоўцаў. *Соткі нам одбылы вэльмо ж далэко, аж в Стыкавы.*

**ССЮ́ЛЯ** *прысл.* Адсюль. *Ссюля ныц ны відно.*

**СТА́ВЫТЫСА** *незак.* Выхваляцца, ганарыцца. *Носа ны достаты, так вжэ ж ставыцца гэта дівчына.*

**СТАРЫ́К** *м.* Месяц, які ўбывае. *На старык ліпш ныц ны садыты, бо ны выростэ.*

**СТО́ЙЛО** *н.* Месца ў хляве для свойскай жывёлы. *В стойлі у коровы сіно лыжыть, більш даваты ны трэба.*

**СТОЛЯ́РКА** *ж.* Вырабы з дрэва. *Батько в столярню пошов столярку робыты.*

**СТРАМЫ́НА** *ж.* Лесвіца. *Возьмы страмыну і іды оборвы вышні.*

**СТУ́ЛІКА** і **СТУЛЬ** *прысл.* Адтуль. *Нідэ стуліка біглы куры.*

**СТЫГНО́** *н.* Сцягно. *Однэ стыгно засолым і подвісым на покоты до паскы.*

**СТЫРЧАНЫ́** *мн.* Голыя сцёблы. *Одны стырчаны од бульбы стырчать, всю жукы з'ілы.*

**СТЫРЧА́ТЫ** *незак.* Тырчаць. *Косы после шапкі стырчать в разныі бокы.*

**СТЭ́ЖАР** *м.* Стажар'е. *Стэжара зробылы, а сіна ныяк ны прывызэмо.*

**СТЭ́ЖКА** *ж.* Сцяжынка. *От гэтая стэжка і завыдэ нас в болото.*

**СТЭ́ЧЫ** *прым.* Здатны да ўсяго. *Гэта дівчінка стэча до всёго: і до ягод, і до вучобы, і до любэі роботы.*

**СУ́ВОЛОЧ** *ж.* Травяністая расліна з доўгімі каранямі; трава, якая валочыцца, цягнецца. *На сотках одна суволоч всю бульбу затянула.*

**СУВЫЛЯ́ТЫСА** *незак.* Хістацца. *А чого ты так сувыляешса?*

**СУКНЯ́НКЫ** *мн.* Буркі; жаночы зімовы абутак з сукна. *Тыпэр сукнянкы ныхто ны носыть.*

**СУХО́ПАРОМ** *прысл.* Усухамятку, без нічога. *Да він мясо однэ сухопаром йість, більш нычого.*

**СЦУЛЬ**[1] *м.*, **-ЛЛЯ** ж. Баязлівы чалавек. *Шо ты за сцуль, всёго боісса.* 2. Недарослы чалавек. *Ты ішчэ сцуль.*

**СЦУЛЬ**[2] *м.*, **-ЛЛЯ** ж. Дзіця, якое мочыцца. *Ах ты, малы сцуль, знов штаны повныіі.*

**СЫ́ВЭНЬКЭ** *н.* Лекавая расліна. *Сывэнькэ ростэ по нызкым місцям.*

**СЫ́ДАЛО** *н.* 1. Памяшканне, месца, дзе начуюць свойскія птушкі, а таксама іх гняздо, кубло. *На сыдалы аж дві куры сыдыть.* 2. Ложак, месца, дзе спіць, адпачывае чалавек. *Побаяла трохы з дочкамы і пошла спаты на свое сыдало.*

**СЫДНО́** *н.* Задняя частка штаноў для сядалішча. *Гэтыі штаны вылыкыі, онь як сыдно высыть.*

**СЫКА́Ч** *м.* Сякач; спецыяльная прылада, інструмент для драблення ежы жывёле. *Сыкачом гарбузы посычы і дай коровы.*

**СЫКУ́Н**[1] *м.* Мачавы пузыр. *У свынячы сыкун напхаем мяса і на вэсну будэ смачны бавук.*

**СЫКУ́Н**[2] *м.* Той, хто мочыцца ў ложак (звычайна дзіця). *Ах ты, малэнькі сыкун, пора вжэ на горшок просытыса.*

**СЫР** *м.* Тварог. *На дорогу напычэм булочок з сыром.*

**СЫ́РНЫК** *м.* Блінчык з тварагом. *Сырныкі вэльмо ж довго робыты.*

**СЫЧКА́РНЯ** *ж.* Сельскагаспадарчая машына для рэзкі агародніны, саломы, травы на корм жывёле. *В сычкарні буракы хутко поріжуцца.*

**ТА́МЭКА** і **ТА́МЭЧКА** *прысл.* Там. *Тамэка ніошчо лыжыть.*

**ТАРА́СКАТЫСА** *незак.* 1. Важдацца. *Нашо з ею тараскацца, сказав – і всэ.* 2. Мецъ з кім-небудзь стасункі. *Воны між собою нішо тараскаюцца.*

**ТІ́ЛЬНАЯ** *прым.* Ацельная. *Годна́ корова ўжэ тільная, друга нэбэсьто побігала, а толку мало.*

**ТІ́ЧКА** *ж.* Мядзведка. *Тічка всэ полэ поточыла, всэ посохнэ.*

**ТКОЛЭ́** *прысл.* Калі. *Тколэ посадым на горі трускавкы, а мо й выростуть.*

**ТОВА́Р** *м.* Свойская скаціна. *Тэмно, трэ товар вжэ кормыты.*

**ТОВКАНЫ́ЦА** *ж.* Бульбяное пюрэ. *У нас на товканыцу ішчэ кажуть просто каша.*

**ТОВКА́Ч** *м.* Таўкач; прылада, якой таўкуць, сякуць звараную для свіней бульбу. Тое ж, што і **СЫКА́Ч**. *В балії товкачом потовчы свынячую бульбу.*

**ТОДІ́** *прысл.* Тады. *Тоді важко жылосо, алэ ж болілы мэнш.*

**ТОК** *м.* Месца для апрацоўкі збожжа. *Вася на току багато грошэй заробыв.*

**ТО́РБА** *агульн.* Тоўсты чалавек. *Да він жэ – торба, такій товсты став.*

**ТОРО́ЧЫТЫ** *незак.* Тлумачыць, даказваць нешта; увесь час гаварыць. *А він мні всэ нішо торочыть і торочыць про ліс.*

**ТОСМА́ТЫ** *прым.* Распаўнелы. *О, якій він як жынывса – тосматы стаў.*

**ТРАПАЛЯ́СЫ** *мн.* 1. Лахмоцце. *Трапалясы валяюцца по всій будцы.* 2. Распушчаныя валасы. *Прычышыса, а то трапалясы вісять.*

**ТРУСКА́ВКЫ** *мн.* Клубніцы; трускалкі. *Трускавкы цвытуть і цвытуть, дохолеры ягід будэ.*

**ТРЫНА́ЦЦАТАЯ** *прым. у знач. наз.* Прэмія за 12 месяцаў працы. *Добрую трынаццатую дав колхоз в гэтому году.*

**ТРЫ́НЬКАТЫ** *незак.* Гультайнічаць. *Трынькаем всёй дэнь быз роботы.*

**ТРЭ́БАЛО** *мадальн. сл.* Трэба было. *Трэбало вам смішкі строіты?*

**ТУДЭ́Ю** *прысл.* Тым шляхам, той дарогай; там. *Як тудэю підэм, то можэм заблудытыса.*

**ТУ́ТОВА** *прысл.* Тут, блізка. *Тутова, коло хаты, бігають всі качукы.*

**ТЫЛЭ́ВЫТЫ** *незак.* Кеміць. *Трохы тылэвыш в тілівізору.*

**ТЫПЭ́РЫКА** *прысл.* Цяпер, зараз. *Тыпэрыка у нас дошч лье шо з выдра.*

**ТЫРБУ́ЧЫТЫСА** *незак.* Ісці павольна. *Пошлы скурій, тырбучышса, як на заўтра.*

**ТЫ́ЧКА** *ж.* Тоўсты кій, палка. *Трэба ж навырізваты на памыдоры тычок, а то ныма до чого іх прывязваты.*

**ТЫ́ШКОМ** *прысл.* Ціха. *В лісы нішо здохло, шо діты так тышком сыдять.*

**ТЭ́НЬДЭ** і **ТЭ́НЬДЫКА** *прысл.* Там, недалёка. *Выдро тэньдэ стоіть, коло клуні.*

*Л. У. Крывецкая, Г. А. Маціюк*

## З ЛЕКСІКІ ВЁСКІ БРАШЭВІЧЫ ДРАГІЧЫНСКАГА РАЁНА

Вёска Брашэвічы (мясц. *Брашывэ́чэ*) Драгічынскага раёна Брэсцкай вобласці знаходзіцца за 13 км на паўночны захад ад г. Драгічына. Цэнтр Брашэвіцкага сельсавета. У мінулым з'яўлялася цэнтрам Брашэвіцкай воласці (з XVIII ст.), затым Брашэвіцкай гміны. У пісьмовых крыніцах упершыню згадваецца ў 1554 г.

Гаворка в. Брашэвічы адносіцца да тараканскіх гаворак. Тараканскія гаворкі – гэта адна з групы брэсцка-пінскіх (загародскіх, заходнепалескіх) гаворак.

**БА́БКА** *ж., бат.* Трыпутнік ланцэталісты. *На рану прыложэ бабку і вона хутко загойіца.*

**БАГУ́Н** *м., бат.* Багун. *Багун тежко пахнэ, аж голова од його болэть.*

**БАЗ** *м., бат.* Бэз. *Чым більш баз ламайіш на букетэ, тэм він ліпш роста.*

**БАРКУ́Н** *м., бат.* Баркун лекавы.

**БЗІК** *м.* Гіз. *Бзік на коровэ напав.*

**БІБ** *м.* Фасоля, боб. *Матэ на кухні лушчыла біб.*

**БІ́ЛА КОНЮШЭ́НА** *ж., бат.* Канюшына паўзучая. *Білу конюшэну лёгко косэтэ.*

**БРАТКЭ́** *толькі мн., бат.* Фіялка палявая. *Вонэ – брат і сыстра, або ша называлэ йіх браткэ, ростуть у полэ.*

**БУЕ́Н** *м.* Некастрыраваны бык. *Буен був вальмэ злэй.*

**БУ́СНЯВКА** *ж., бат.* Порхаўка (грыб). *Дітэ люблять буснявкэ ростоптуватэ.*

**БУСЬКО́** *м.* Бусел. *Буськэ ужа прылытілэ, ужа высна.*

**БЫЗСМЕ́РТНІК** *м., бат.* 1. Цмін пясчаны. *Бызсмертнік баба рвала на лікарство.* 2. Птарміка звычайная.

**БЫ́ЛЛЕ** *н.* Быллё; сухая трава. *Быллe загорылося од окурка.*

**БЫЛО́К** *м.* Бялок у яйку. *Роздылэ отдельно былок од жовтка.*

**БЫРА́ЗЫНА** *ж.* Бяроза. *Вітёр зламав быразыну, шо росла за хатыю.*

**БЫРЫЗНЕ́К** *м.* Бярэзнік. *У бырызняку завшэ мнэга краснюків.*

**БЫЧО́К** *м.* Малады бык. *Бычок порвав лынцуга і утік.*

**БЭ́ЦЮ-БЭ́ЦЮ** *выкл.* Падзыўныя для кароў.

**ВІЛ** *м.*, **ВОЛЭ́** *мн.* Вол. *Колэсь воламэ полэ горалэ.*

**ВІ́ТЁР** *м.* Вецер.

**ВІ́Я** *ж.* Павека. *На війі вэскочыв ячмінь.*

**ВОВЧЕ́К** *м.* Неядомы грыб. *Вовчакэ я ны брала, бо я грыбэ знаю добрэ.*

**ВОВЧКЭ́** *толькі мн., бат.* Астранцыя вялікая. *Вовчкамэ зарыс ува́сь горо́д.*

**ВО́ВЧЭ ГРЫБЭ́** *мн.* Неядомыя грыбы. *Ясон назбырав вовчых грыбів, добрэ шо баба йіх провірыла.*

**ВО́ЛО** *н.* Валляк (у курыцы). *Воло у курыцэ забэлось травою, траба напойітэ йійі самогонкію.*

**ВСКЛАД** *прысл.* Спосаб арання: ад сярэдзіны да краёў. *Шоб був загін, то вскла́д горалэ.*

**ВУ́ХА** *мн.* Вушы.

**ВЫЛКЭ́** *толькі мн.* Вілы. *Постав вылкэ на місце, шоб ныхто ны напоровся.*

**ВЫПРУ́К** *м.* Кабан. *Выпрука дедько ошмалэв соломыю, шоб сало було смачнішэ.*

**ВЫРБА́** *ж.* Вярба. *Колэсь дорогу обсажувалэ вырбою, шоб людэ зымою ны блудэлэ.*

**ВЫСНА́** *ж.* Вясна. *Птушкэ прылытілэ, значыть, высна прышла.*

**ВЭ́ШНЯ** *ж.* Вішня. *Вышні ужа́ поспілэ, пора рватэ.*

**ГАРБУ́ЗЫКЭ** *мн.* Насенне гарбуза, гарбузікі. *Мэ вальмэ любэлэ лушчытэ гарбузыкэ.*

**ГАРБУЗЭ́ННЕ** *н.* Гарбузнік.

**ГА́ЧКА** *ж.* Матыка. *Мітя гачку зламав, так полотэ старався.*

**ГА́ЧЫК** *м.* Качарга; металічнае прыстасаванне выграбаць жар з печы. *Батько сам зробэв нового гачыка.*

**ГЛУХА́Я ПРОКЭ́ВА** *бат.* Зюзнік еўрапейскі. *Глухая прокэва од сусідкэ лізэ до нас в город.*

**ГОРЫ́Х** *м.* Арэх. *Горыхэ матэ сушэла на пычы.*

**ГОРЫ́ШНЫК** *м.* Арэшнік. *Горышныка батько посадэв од дорогэ, шоб пэл од машэн ны лытів в хату.*

**ГО́СЫНЬ** *ж.* Восень. *Госынь я ны люблю, бо дань вальмэ короткі.*

**ГРАБЛІ́** *толькі мн.* Граблі. *Постав граблі пуд стыну, шоб ны наступэтэ.*

**ГРУ́ДА** *ж.* Груда; замёрзлая зямля без снегу. *На Покрову груда стала, а сніг вэпав тылько чырыз місяц.*

**ГРУ́ДКА** *ж.* Груда. *Матэ крычела на Матвія за тойе, шо в школэ кэдався грудка́мэ.*

**ГРУ́ШКА** *ж.* Груша, дрэва і плод. *Ек горыло сыло, то мына́ посадэлэ пуд грушку, шоб людэ ны затопталэ.*

**ГРЫБСТЭ́** *незак.* Грэбці. *Сіно траба хутчы грыбстэ, шоб ны задожджэлось.*

**ГРЫБЫШО́К** *м.* Грэбень у курыцы. *У нашого півня в ночы́ одмарз грыбышок, прышлося ёго в хату забратэ.*

**ГРЫБЭ́** *мн.* Грыбы. *Грыбэ моя баба сушэла коло комына.*

**ГУЛЛЕ́** *мн.* Галлё. *Порубай гулле і звяжэ в пучкэ́.*

**ГУРО́К** *м.* Агурок. *Гуркэ мойі батькэ солэлэ бочка́мэ.*

**ГУРЧЕ́К** *м.* Від пустазелля. *Насінне гурчака чыплейіцца за ода́жу.*

**ГУСЬ** *ж.*, **ГУСА́К** *м.*, **ГУСЫНЕ́** *н.* Гуска, гусак, гусяня. *Гусак до свойіх гуса́й чужэх гусаків ны пускае.*

**ДАНЬ** *м.* Дзень. *Дань став довшы, пора сіятэ па́рыц на росаду.*

**ДА́РЫВО** *н.* Дрэва, дрэвы. *Дарыво на хату батько возэв з лісу зымою санкамэ.*

**ДВІР** *м.* Двор. *Дітэ згрыблэ траву на дворы.*

**ДОКО́ПЫНЭ** *мн.* Частаванне пасля заканчэння ўборкі бульбы. *На докопынэ траба люда́й накормэтэ і напойітэ, шоб на другэй рык помоглэ.*

**ДОМОВЭ́НА** *ж.* Труна. *Домовэну дідовэ зробэлэ в колхозныйі мастырскайі.*

**ДУ́ДКА** *ж.* Сухое, пустое ў сярэдзіне сцябло травы.

**ДУ́ЛЯ** *ж.*, **ДУЛЬКЭ́** *мн.* 1. Гатунак груш. *Дулькэ на зэму сушэлэ.* 2. Фіга. *Дытэна ша ны ходыть, а дулю з пальцув скрутэла.*

**ДЫЖЭ́** *ж.* Дзежка. *Накрэй дыжу рушныком.*

**ДЫРКА́Ч** *м.* 1. Драч (птушка). *Дыркач у полэ крычев, аж за душу шкрыбло.* 2. Дзяркач (стары сцёрты венік). *Дыркачом сыстра шаровала пудлогу, шоб була чэста.*

**ДЫРНО́** *н.* Дзёран. *Дырно копалэ на Загорыдді.*

**ДЫРЫВЭ́НА** *ж.* Спілаванае дрэва.

**ДЯ́ЛКА** *ж.* Участак зямлі, выдзелены калгасніцы ці калгасніку для апрацоўкі. *Дялку матырыну пололэ всі дітэ.*

**Е́БЛЫКО** *н.* Яблык. *Еблык нападало вальмэ мнэга, бо ныччу був вылікі вітёр.*

**Е́БЛЫНЯ** *ж.* Яблыня. *Еблыню зламав вітёр, бо вальмэ старая була.*

**Е́ЙЦА** *мн.* Курыныя яйкі. *Молодэйі курэ нысуть малэйі ейца.*

**ЖЕ́БА** *ж.* Жаба. *Жеба в емэ еблыко качела, наступэло поросе, жеба чевкнула.*

**ЖУ́ЙКА** *ж.* Жвачка. *Корова пырыстала жоватэ жуйку, прышлось вызыватэ вітірынара.*

**ЖЫЛЫЗНЕ́К** *м.* Рыдлёўка, лапата. *Жылызнек зламався, бо зымне вальмэ тварда.*

**ЖЫРЫБЕ́** *н.* Жарабя. *Жырыбе дурное, ны пудходь блэзько.*

**ЖЭ́ТО** *н.* Жыта. *Жэто полыгло од вылікого дошчу.*

**ЗАВІ́Я** *ж.* Мяцеліца. *Завія так вэйе, аж страшно стало.*

**ЗАГІ́Н** *м.* Градка. *Загонэ кажды рык матэ копала на другому місті.*

**ЗАГРА́НЭ Е́ЙЦА** Аплодненае яйка. *Загранэ ейца матэ пудложэла пуд курыцу.*

**ЗАКЛУ́ННЕ** *н.* Частка агарода, якая знаходзіцца за гумном. *На заклунні посадэлэ картоплі.*

**ЗБАНО́ЧКЭ** *толькі мн., бат.* Гарлачык жоўты.

**ЗІ́ЛЛЕ** *н.* Пустазелле. *Зілле в городэ, пора полотэ.*

**ЗОЗУ́ЛЬКІН ЛЁН** *бат.* Зязюлін лён.

**ЗОЗУ́ЛЯ** *ж.* Зязюля. *Зозуля куковала, а мэ рокэ шчыталэ.*

**ЗЫМНЕ́** *ж.* Ворная зямля. *Зымню батьковэ вэдылылэ на горы, одэн пысок, тому нычого ны родэло.*

**КАПЛУ́Н** *м.* Ежа з хлеба, сала, прыправ, залітая кіпенем.

**КАРТО́ПЛІ** *мн.* Бульба. *Пора картоплі копатэ.*

**КА́ЧОР** *м.* Качар. *Качор більшы за качку.*

**КВА́ШЫЛНА** *ж.* Квашаніна, студзіна. *Квашылна смачна, усім понаравылася.*

**КІТ** *м.*, **КІ́ШКА** *ж.*, **КОТЫНЕ́** *н.* Кот, кошка, каценя. *Колэ кіт трохцветны, то гато кішка.*

**КЛУ́НЯ** *ж.* Гумно. *У діда була клуня вальмэ выліка.*

**КЛЮ́ЧКА** *ж.* Трохзубая матыка. *Ключкэ́ траба нагострэтэ, бо хутко картоплі копатэ.*

**КНУР** *м.* Кныр. *Кнур обгрэз всю стыну в хлыві.*

**КОЗЛЕ́К** *м.*, **КОЗЛЯКЭ́** *мн.* Ядомыя грыбы, акрамя баравікоў. *Козлякэ – грыбэ второсортнэ.*

**КОМО́РА** *ж.* Камора, кладоўка. *Баба завыда́ мына́ в комору, дасть хліба і ма́ду і закрэе, шоб ныхто ны побачыв.*

**КОПЭ́ЦА** *ж.* Капа сена. *Копэцу сіна дітэ нычаянно спалэлэ.*

**КОРЧ** *м.*, **КОРЧЫ́** *мн.* Куст, кусты. *Рыв зарыс корчамэ, траба вэрубатэ.*

**КОСТЫРО́ВА** *ж.* Брыца, пласкуша. *Костырову рвала, зарэ рукэ болеть.*

**КО́ТЫКЭ** *мн.* Канюшына пашавая. *Котыкамэ дітэ любять гратыся.*

**КРАСНОГОЛО́ВЫЦ** *м.* Падасінавік.

**КРАСНЮ́К** *м.* Падасінавік. *Краснюкэ́ гатого року хоть косою косэ́, так мнэга йіх в лісэ.*

**КУ́ПА** *ж.* Куча. *Купа гною розогрылась і стала парытэ.*

**КУ́ЧКА** *м.* Пячурка, паглыбленне ў печы, дзе захоўвалі запалкі, лучыну і інш.

**ЛА́ЙЦЭ** *мн.* Лейцы. *Кудэ хочыш коне повырнутэ, за тую лайцыну дёргай.*

**ЛАТА́ТЬ** *ж.* Лотаць. *Латать рватэ ны траба, вона хутко в'енэ в букетах.*

**ЛІСАПЕ́Д** *м.* Веласіпед. *Лісапед (ро́вып) колэсь, ек зарэ машэна.*

**ЛІ́ТЮСЬ** *прысл.* Летась, у мінулым годзе. *Рыгір прыйізджев літюсь.*

**ЛОЗЭ́НА** *ж.* Галіна лазы.

**ЛУГ** *м.* Луг, шчолак – настой з попелу для мыцця бялізны і валасоў. *Колэсь голову мэлэ лугом і косэ булэ вальмэ густэйі.*

**ЛЫБЫДА́** *ж., бат.* Лебяда. *Постав хату з лыбыдэ, а в чужую ны выдэ, чужа хата такая, бы свыкруха лыхая* (з песні).

**ЛЫНЦУ́Г** *м.* Ланцуг. *Собака зорвався з лынцуга і злякав дытэну.*

**ЛЫПЫСТО́К** *м.* Пялёстак. *Лыпысткэ з вэшні опалэ, а вышні ны зав'язалысь.*

**ЛЫСТЭ́НА** *м.* Ліст. *На лыстэнах з дуба баба пыкла хліб.*

**ЛЭ́ПЫНА** *ж.* Дрэва ліпы. *Лэпыну, шо роста́ на мыжы́ посадэв ша мій прадід.*

**ЛЭЧ** *м.* Лыч (у свінні). *В лэч свынні вставлелэ дротэну, шоб ны рэла.*

**ЛЯ́СКОЛКА** *ж., бат.* Скрыпень вузкалісты.

**МАД** *м.* Мёд.

**МА́ЛПА** *ж., экспр.* Непрыгожы чалавек. *У сусідкэ дочка – чыста малпа.*

**МАНЮ́ШЧЫ** *прым.* Пахучы. *Манюшчэ лысткэ матэ кэдала в чай.*

**МАСЛЕ́К** *м., бат.* Масляк.

**МО́ГЛЫЦЭ** *толькі мн.* Могілкі. *Моглыцэ у нас на трэ сылі.*

**МОКРА́Ц** *м.* Від пустазелля. *Мокрац в голод людэ йілэ.*

**МОЛО́ЗЫВО** *н.* Малодзіва. *Блынэ з молозыва я ны любэла.*

**МУРЧЭ́ТЭ** *незак.* Муркаць (пра ката). *Кіт мурчэть, колэ найівся.*

**МУ́ЧАНЫЦА** *ж.* Каўбаса са свіной крыві, грэцкіх круп і сала.

**МЫДВІ́ДЬ** *м.* Мядзведзь. *Мыдвідь вальмэ любыть мад.*

**МЫДО́ВЫ СПАС.** Свята 14 жніўня.

**НА́БО** *н.* Неба. *Набо еснэ в ночы́ – ранком будэ заморозок.*

**НАРУ́ЧЧЭ** *н.* Абярэмак. *Наруччэ ны кладэ вылікэ.*

**НО́ЧВЭ** *толькі мн.* Начоўкі. *Ночвэ постав пуд сток, хай вода з стрыхэ наллецца.*

**НЫ́ШКА** *ж.* Ношка (вязанка за спіной). *Мала́ю носэла тежкэ нышкэ з травою, а зарыз спэна горбата.*

**НЮ́ХТІК** *м.*, **НЮ́ХТІКЭ** *мн., бат.* Наготкі. *Нюхтікэ сіялысь самэ.*

**ОБОГНА́ТЭ КАРТО́ПЛІ.** Акучыць бульбу плугам. *Обгонэ картоплі зразу после дошчу.*

**ОВА́С** *м.* Авёс. *Насэп овса кона́вэ.*

**ОВА́ЧКА** *ж.* Авечка. *Овачка зламала ногу, прышлось прырызатэ.*

**ОГОНЁК** *м.* Пакаёвая кветка бальзамін. *Огонёк полывай більш, він любыть воду.*

**ОГОРНУ́ТЭ КАРТО́ПЛІ.** Акучыць бульбу ўручную. *Огорнэ картоплі ключкыю, бо радкэ гузкэ.*

**ОГРЫ́Х** *м.* Агрэх, пропуск пры аранні. *Трактурыст був пъены, наробэв на полэ огрыхув.*

**ОПА́НЬКЭ** *мн., бат.* Апенькі. *Опанькамэ увась пынёк обрыс.*

**ОСЫ́Т** *м., бат.* Асот. *Картоплі зарослэ осотом.*

**ПАВУТЭ́ННЕ** *н.* Павуцінне. *Павутэнне лытае на бабынэ літо.*

**ПА́ДАЛКЭ** *мн.* Апад. *Порыж падалкэ.*

**ПАЖУРЫ́** *мн.* Пазногці. *Обрыж малому пажуры.*

**ПАРШУК** *м.* Кабан. *Паршука дід ошмалэв соломыю.*

**ПАРЭ́ЧКА** *ж.* Парэчкі белыя. *З парэчкэ Катырэна варэла компот.*

**ПІ́ВЫНЬ** *м.* Певень. *Півынь б'е дытэну, прэдыца зарубатэ.*

**ПІ́ЖНЯ** *ж.* Іржышча. *Піжня колыть ногэ.*

**ПІ́ШЧЫКЭ** *мн.*, **ПІ́ШЧЫК** *м.* Цвёрдая частка пяра ў птушкі; «зародак» пяра. *Курыцу рано зарубалэ, однэ пішчыкэ заміст пір'я.*

**ПЛЭ́СНЯК** *м., бат.* Аер. *Плэсняком застылалэ пудлогу в хатэ на Трыйцу.*

**ПОВО́ЙКА** *ж., бат.* Іпамея. *Повойка вэлась по стыні.*

**ПО́НОЧЭ** *прысл.* Цёмна. *Ужа́ поночэ на дворы, дітэ ідіта в хату.*

**ПОПЫРЫЧНЕ́К** *м.* Папярочны загон у канцы поля. *Попырычняка́ засадэлэ буракамэ.*

**ПОСТОЛЭ́** *мн.* Лапці. *Постолэ плылэ з лэповыйі корэ.*

**ПУДСТІ́Л** *м.* Подсціл. *Прывызэ опілок на пудстіл.*

**ПШАНЭ́ЦА** *ж.* Пшаніца. *Пшанэца полыгла од бурэ.*

**ПЫНЁК** *м.* Пень. *Пынёк обрыс грыбамэ.*

**ПЫРО́** *н., зб.* Пер'е. *Добав пыра в подушку.*

**ПЫРУ́Н** *м.* Маланка. *Шоб тыба пырун леснув.*

**ПЫЧУ́РКЭ** *мн., бат.* Шампіньёны. *Пычуркэ на Осалыцэ ны рослэ.*

**ПЭ́ЛКА** *ж.* Піла. *Достань пэлку, підымо дрова рызатэ.*

**РАДО́К** *м.* Рад буракоў, бульбы на полі. *Радкэ пуд буракэ нарызалэ вчора.*

**РА́ЙКЭ** *мн.* Гатунак яблыкаў. *Райкэ рослэ у Міті.*

**РА́НОК** *м.* Раніца. *Ранком піду до діда.*

**РАПУ́ХА** *ж.* Жаба рапуха. *Рапуха сыділа пуд піччу.*

**РОЗО́РА** *ж.* Разора. *Я хавалась в розору, шоб почытатэ кніжку.*

**РО́ХКАТЭ** *незак.* Падаваць голас (пра свінню). *Чого рохкаіш, бы свынне.*

**РЫВ** *м.* Канава. *Рыв зарыс травою, траба обкосэтэ.*

**РЫШЫТНЕ́К** *м., бат.* Рашэтнік. *Рышытнякэ тітка ны бырá.*

**СВЫННЕ́** *ж.* Свіння. *Свынне закнуровала.*

**СЛЫПАК** *м.* Сляпень. *Слыпакэ кусаюць корыв.*

**СЛЭ́ВКА** *ж.* Сліва. *Малáю я вáльмэ любэ́ла слывкэ́.*

**СОКІ́РА** *ж.* Сякера. *Нагострэ сокіру, бо тупая.*

**СТРАМЭ́НА** *ж.* Драбіны. *Хлопыц упав з страмэнэ.*

**СТРЫ́ХА** *ж.* Страха. *Колэсь стрыхэ крэлэ соломыю.*

**ТЫЛЕ́** *н.* Цялё. *Тыле обійілось і здулось.*

**ТРЫСКЭ́** *мн.* Трэскі. *Назбырай трысок на розпал.*

**ТЫЛУ́ШКА** *ж.* Цялушка, маладая карова. *Тылушка побігала.*

**ТРАВЭ́НА** *ж.*, **ТРАВЭ́НКА** *ж.* Травіна, травінка. *Гостра травэна проколола ногу.*

**ТЭ́ПЫЦ** *м., бат.* Сівец.

**ТЫК** *м.* Ток. *Тока пудмаж глэныю, да вэбывся.*

**УШЧЕ́ПА** *ж.* Прышчэпленае дрэва. *Ушчепэ у нас рослэ за хатыю.*

**УКРЫ́П** *м., бат.* Кроп. *Укрып вальмэ любэла моя матэ.*

**ЦА́РСКА КОРО́НА** *ж., бат.* Лілія кучаравая. *Царска корона росла пырыд старáю хатыю.*

**ЦЫБУ́К** *м.* Цвёрдая часта пяра. *Цыбукамэ колэсь пысалэ.*

**ШВО́РАБ** *м.* Верабей. *Шворабэ розчыбыталысь пуд окном.*

**ШІ́ПКА** *ж.*, **ШЫ́ПКА** *ж.* Прыбудова да хлява, дзе захоўваюць дровы. *Прыныссэ дров з шыпкэ.*

**ШУЛЕ́К** *м.* Каршун. *Шулек покрав курынет.*

**ШЧАЎЮ́Х** *м., бат.* Шчаўе. *Нарвэ шчав'юху́.*

**ШЧУР** *м.* Пацук. *Шчур одійв курыцэ голову.*

**ЯГНЕ́** *н.* Ягнё. *Наша овачка одганее свое ягне.*

**ЯГОДНЭ́К** *м.* Чарнічнік. *Траба найтэ вылікы ягоднэк.*

*М. Н. Крыўко*

## З ДЗІСЕНСКАЙ ГАВОРКІ

Матэрыял, што падаецца ў гэтым артыкуле, выбраны з картатэкі «Слоўніка Дзісеншчыны», які рыхтуецца аўтарам да друку.

**АЗЯРО́** *н.* Возера. *Тут некалі було азяро, а тады балотам стала, а послі і усём высахла.*

**АКУ́ШАЦЦА** *незак.* Асмакавацца. *Спірва рабяты ні хацелі гэтага есці, а тады як акушалісі, елі і хвалілі дажа.*

**АПЕ́КУШ** *м.* Пра моцнага, здаровага, паўнатварага маладога чалавека. *Маліц крэпкі, такі апекуш.*

**АХ'ЕЙ** *выкл.* Ай-яя (выражае захапленне, ухвалу). *Ах'ей, йікая смаката. Ах'ей, які слаўны маліц.*

**АЦЯРО́БКІ** *мн.* Астаткі, недаедкі. *Нада сабраць у кучу гэныі аціяробкі. Усё пазйідалі, і аціяробак ні асталося.*

**БЕ́ЛАЯ** *ж.* Магазінная гарэлка. *Купі бутылку белый.*

**БУБЫ́ХНУЦЬ** (бубы́хнаць) *зак.* Упасці, зваліцца (пра малых). *Што, бубыхнуў, малышок? Ні бубыхні, глядзі, із лавы, а то лоп разаб'еш.*

**ВЫ́БРАЗІЦЦА** *зак.* Здацца. *Ай, ні було так, гэта табе выбразілася.*

**ВЫ́ҐРАЦАВАЦЬ** *зак.* Выпалаць ґрацкай (матыкай). *Я адна увесь гарот выґрацавала*[1].

**ҐАНДЗЮ́РЫ́ЦЬ** *незак., неадабр.* Гаварыць, весці пустую, беззмястоўную размову. *Ай, сядзелі тамака, ґандзюрылі.*

**ҐЛА́ЎНА.** 1. Не, ды не. 2. Ды ну. *Можа, й ты туды з йімі з'ездзіла? – Ґлаўна.*

**ҐУЛДА́** *ж., асудж.* Пра асобу, якая вядзе пустую, беззмястоўную гаворку. *Ай, я ні люблю слухаць гэну ґулду.*

**ДАЎГІ́** *прым.* Высокі (пра чалавека). *Такі даўгі мужчына, пэўні, болі як два мэтры.*

**ДУРНЁХА** *ж.* Дурніца. *Йіна ш вот, дурнёха, ні паслухала нас тады – паехала у свет.*

**ЗАВАДО́ВЫ** *прым.* Удалы, спрактыкаваны, вопытны. *Лідзя ж завадовая работніца.*

**ЗАВО́ДНЫ** *прым.* Новага гатунку, новай пароды. *Гэта бульба нейкая заводная. Заводныі каровы.*

**ЗАЙГРА́НЫ** *прым.* Аплоднены (пра яйцо). *Пад курыцу, гусь, вутку, йіндычку нада падкладаць толькі зыйграныі яйкі, а ні баўтуны.*

**ЗАСТАРО́НАК** *м.* Месца паміж двума будынкамі, якія стаяць побач, над якім ёсць страха, дах. *Жыта злажылі у застаронак, хай ляжыць да малацьбы.*

**ЗБЛА́ЖЫЦЬ** *зак., безас.* Званітаваць, вырваць. *Малога нечага зблажыла.*

**ЗБУРБУЛІ́ЦЬ** і **ЗБУРБО́ЛІЦЬ** *зак., асудж.* Зліць, ссыпаць, змяшаць. *Збурбуліў новая жыта, са старым, тухлым. Збурболілі тут усё разам, цяпер ня поймі́ш, што тутака дзе.*

[1] Літарай ґ перадаецца гук г выбухны.

**ЗГА́НІЦЬ** *зак.* Не адобрыць; зганьбаваць. *Ай, бабы зганілі мой мацір'ял на сукенку. Дзеўкі зганілі Марусінага жаніха.*

**ЗДРЫГНУ́ЦЬ** *зак.* Нечакана рушыць з месца, пайсці. *Народ як здрыгнуў у цэркву, дык мяне там чуць ні затапталі.*

**ЗМА́ЛКУ** *прысл.* З маленства. *У мальца змалку гэткая прывычка.*

**І́КАЎКА** (йі́каўка) *ж.* Ікота. *Халера, нешта во йікаўка апанавала.*

**ІСПАДЛО́Б'Я** *прысл.* Спадылба. *Што ты глядзіш на мяне іспадлоб'я?*

**КАДЗЬ** *ж.* Невялікая дзежка, кадушка. *Кадзь капусты нашаткавалі. Ёсь йішчэ цэлая кадзь салёнага сала.*

**КАРЖЭ́Й** *м., пагард.* Пра бруднага, у каравай, бруднай адзежы чалавека. *Ай, які каржэй, страх глянаць.*

**КРЭ́СКА** *ж.* Рыска (на тэрмометры). *У мальца была палёнка пасьці на сорак крэсак.*

**КУРДУЯ́ЧЫЦЬ** *незак.* Гаварыць, вучыцца гаварыць (пра маленькіх дзяцей). *Што ж тут курдуячыць гэтат малінькі?*

**ЛАГУ́Н** *м.* Пра чалавека, які многа п'е, выпівае. *Такому лагуну нада два літры выпіць.*

**ЛА́ЗІК** *м., неадабр.* Пра таго (часцей падлетка, хлопчыка), хто ўсюды лазіць, шнырыць. *Гэнаму лазіку усюдых нада лазіць.*

**ЛАЙНІНА́** *ж.* Адзежына. *Якую лайніну на плечы – ды ляці скарэй.*

**ЛУХУ́-ЛУХУ́** *гукаперайм. у знач. прысл.* Хутка (ісці, хадзіць, бегчы). *Парасачка луху-луху калі хаты.*

**НАВЫ́СКАЧКІ** *прысл.* Наўскач. *Што ты ўсё лётаіш навыскачкі?*

**НАДАЯ́ДЛЫ** *прым.* Надаедлівы. *Такі надаядлы гэнан маліц.*

**НЯЎСТРУ́Й** *м., асудж.* Нецярплівы, паспешлівы, неспакойны чалавек. *Падажджы ты, няўструй. Во няўструй, усё спішацца яму.*

**ПА́ТРУХА** *ж.* Дробныя астаткі ад саломы, сена і інш., пацяруха. *Усё там пацёрлі, патапталі, адна патруха асталася.*

**ПАХА́БНЫ** *прым., неадабр.* Грубы (у дзеяннях, рабоце, пры ядзе і г. д.). *Такі пахабны, глядзіці, як ён есць.*

**ПЕКАТА́** (пікатá) *ж.* Спякота. *Йікая пікота на дварэ.*

**ПЕРАМЫВА́НЫ** (пірамувáны, -ый) *прым.* У выразе: *як перамываны.* Поўны, паўнакроўны, чысты. *Лілька здаровая, красівая, як пірамуваная.*

**ПЕРАХО́ДАМ** (пірахóдам) *прысл.* З перапынкамі (ісці – пра дождж). *Сягоння дождж ідзець піраходам.*

**ПО́КНУЦЬ** (пóкнаць) *зак.* Упасці з дрэва (пра плод). *Во, яблык покнуў.*

**ПУКТА́ЦЬ** і **ПУКЧЭ́ЦЬ** *незак.* Бурчаць. *Што ты там пукчыш?*

**ПУЛЬНУ́ЦЬ** *зак.* Кінуць, шпурлянуць. *Пульні камом у варанне, хай ня вешаюцца тутака.*

**ПУ́СТКІ** *толькі мн.* Холадна (у памяшканні). *Сягоння у хаці пусткі, думаю вечарам пліту пратапіць.*

**РАҐЯЗО́Й** *прысл.* Убеспарадку, непрыбрана, абыяк. *Кінала адзежу рагязой. Пасцель цэлы дзень стаяла раґязой, некалі було заслаць, ляцела на работу.*

**РАЗМАЗҐАТА́ЦЬ** *зак.* Разбіць. *Такую красівую талерку размазгатала.*

**РАСШАПО́РТАЦЦА** *зак.* Пачаць актыўна, інтэнсіўна з шумам варушыцца, чым.-н. шапацець, шкрэбціся і пад. *Нешта старая рашшапорталася, што йіна тамака робіць? Во мышына рашшапорталася за шпалерый.*

**РАХМАЧЫ́** *мн.* Махры. *Гэна ж хустка была з рахмачамі.*

**САШЧУ́ПІЦЦА** (сушчу́піцца) *зак.* Счапіцца, пачаць (сварыцца, біцца, бадацца). *Як сушчупілісі бабы сварыцца. Сушчупілісі мальцы біцца. Як сушчупілісі каровы басціся прама у вуліцы.*

**СВЭ́ТАР** *м.* Світэр. *Надзень сягоння гэнан лепшый свэтар.*

**СВЯРБЯ́ЧКА** (свірбя́чка) *ж.* Сверб. *Халера, нейкая свірбячка напала.*

**СЕ́ДНЯ** *ж.* Сядзенне. *Ай, йіна шануіць сябе – у яе толька седня ды лежня.*

**СПРЫ́ХАДЗІ** і **СПРЫ́ХАДУ** *прысл.* Спераду, з бліжэйшага месца каля праходу. *Ты ж спрыхадзі усё бяры, а ня лесь у далейшая. Нада корм спрыхаду браць.*

**СТАЛЬНІ́ЦА** *ж.* Верхняя частка стала. *А нашто ты стальніцу снімаіш?*

**СТАРАСАВА́ЦЬ** *зак.* Стаптаць, здратаваць. *Глянь-ці, як коні старасавалі пшаніцу.*

**СЫР'Ё** *н.* і **СЫРЫ́ЗНА** *ж.* Пра няспелую, зялёную садавіну. *Ні жарыці вы, рабяты, гэта сыр'ё, жываты будуць балець. Якійі гэта яблыкі, гэта ш йішчэ сырызна.*

**ТАНАНА́** і **ТУНЮНЯ́** *ж., пагард.* Пра надакучлівую, не да месца размову, хлусню, фальшывае ігранне. *Развялі там танану, праціўна слухаць. Ай, ня слухый, гэта ужо нейкая тунюня. Ай, ягоная іграння – адна тунюня.*

**ТАНІНА́** *ж.* Тонкі дубец, галіна. *Замаўчы, бы зараз – гэтый таніной заробіш!*

**ТРУШЧЭ́ЛІЦЬ** *незак.* Трушчыць. *Нашто ж було трушчэліць вешч, а цяпер што з яе?*

**ТЫ́БЛІЦЬ** *незак., ацэн.* Ісці. *Куды ты ўжо тыбліш, Любка?*

**ТЫ́ХАЦЬ** *незак.* Моцна біцца (пра сэрца). *Сягоння сэрца нешта тыхаіць, тыхаіць.*

**УРУ́ЧКІ** *прысл.* Роўна з верхам драбін павозкі, калёс. *Што гэта за воз, уручкі сена паклаў і вязець.*

**ЦО́ХЛІЦЬ** *незак.* Ссаць, смактаць, піць з прыцмокваннем. *Во як лоўка парасяткі цохлюць малачко.*

**ЦІМА́ЛА** *прысл.* Многа. *Цімала гэтых кніжак маліц пірачытаў, ай-яй.*

**ЦУБРЫ́ЦЬ** *незак.* Ліць, ісці (пра дождж). *Ай, такі дождж цýбрыць.*

**ЧО́ХАЎКА** *ж.* Чханне. *Як напала нечага чохаўка, чхаў а чхаў.*

**ЧО́ХЛІЦЬ** *незак., неадабр.* Выліваць без патрэбы многа вады. *Што ты стока вады чохліш, ты што!*

**ШАЛЫ́ХНУЦЬ** (шалы́хнаць) *зак.* Шмыгнуць, шуснуць, юркнуць. *Ай, нада шалыхнаць пад коўдру ды троху пагрэцца, падрамаць.*

**ШАПО́РТАЛА** *агульн.* Пра таго, хто з шумам варушыцца, чым-н. шапаціць і пад. *Шапортала наш, усё там шапортайіцца і шапортайіцца.*

**ШКА́ПЧЫК** *м.* Маленькі столік, тумбачка. *Хлеб бяры у шкапчыку.*

**ШПАКО́ЎНІЦА** *ж.* Шпакоўня. *Мальцы прыстроілі шпакоўніцу на бярозіну, можа, і ў нас шпачкі завядуцца.*

**ШЧЭ́ЛКА** *ж.* Шчыліна. *Іголка можа дзе у шчэлку заляцеўшы.*

*П. І. Кулік*

## ЛЕКСІКА ВЁСКІ ГАЛОЎЧЫЦЫ

Гэта падборка з'яўляецца працягам артыкулаў: Матчына слова // Жывое наша слова. Мінск, 2001. С. 78–91; Мова майго дзяцінства // Скарбы народнай мовы. Мінск, 2005. С. 88–95; З гаворкі вёскі Галоўчыцы // Народныя скарбы. Мінск, 2008. С. 64–70.

**БАЛИ́Я** *ж.* Вялікая нізкая драўляная або металічная пасудзіна для мыцця бялізны. *Іван Макарів мывся в балії, бо більш нычого ны було.*

**БА́ЛЬКА** *ж.* Брус, які апіраецца на сцены і служыць падтрымкай насцілу (падлогі, столі і пад.). *Старыї кулыкы з соломы. Тычэ вода в хату в міцный дошч. Навіть балька каля пэчы пудгныла.*

**БАРА́НЫЦЯ** *ж.* Авечая скура. *Бобэлько Коля взев бараныцю, накрывся ею і каля клуба лякав дывчет.*

**БАРЗДЭ́** *прысл.* Хоць бы што. *Одрізалы Понталю каля хаты соткы пуд кукурюзю, а ёму й барздэ.*

**БОЛВА́Н** *м.* Прыстасаванне для расцягвання шапак. *Трэба схадыты до Кузьмы Мынтузового, кыб на болваны ростягнув шепку.*

**БЛЫСКО́ТКА** *ж.* Спінінг. *Федя Бочка, наш сусід, на блыскотку зловыв вылызного шчупака.*

**БРО́ХАТЫ** *незак.* Шумна ліць. *Всю нїч брохав дошч. Так розвызло гулыцю, шо стало калу по коліна.*

**БРЫКА́ТЫСЬ** *незак.* Біць, ударацъ заднімі нагамі (пра капытных жывёл). *Сцёпа! Ны пудходь до кобылы ззаду, бо вона брыкаїця і можэ вытяты.*

**БУ́РКЫ** *мн.* Буркі, абутак накшталт ботаў, сшытыя з тканіны, пракладзенай ватай. *Трэба сходыты до Качорыхы і попросыты, кыб пошыла міні буркы, а то ныма в чому ходыты.*

**БУ́СЫНЬ** *м.* Бусел. *Бусынь, бусынь, клёкотун тягнув жэбу за коўтун.*

**БУ́ТЛЯ** *ж.* Ёмістасць на 5–20 літраў. *Трэба браты бутлю і йты за газыю: ны сыдіты ж у тымноті.*

**БЫЕ́НКА** *ж.* Бойка, ёмістасць для збівання масла. *За нову быенку я оддала повну быенку жыта і добрій кусок сала.*

**БЭ́РОСТ** *м.* Вяз. *Бэрост міцный. Можна на його лізты, ны зламаїця.*

**ВА́КСА** *ж.* Мазь для чысткі скуранога абутку. *Ныма грошій на ваксу, чобуты почішчу мокрыю онучію.*

**ВБУЗЫ́РЫТЫ** *зак.* Уліць што-н. без патрэбы. *Таня! Якога смутку ты вбузырыла в томачі всэ сало з шкваркамы?*

**ВТЕ́ТЫ** *зак.* Ударыць. *Учітіль Ваврук добрэ быв по затылку, алы ж Федю Бобрыка ны втев, бо він голову накрыв кожухом.*

**ВУ́ЧЫПКА** *ж.* Прузук у конскай зброі. *Опцызнык так быв бычэм коне, што аж вучыпка порвалась.*

**ВЫЛКЫ́** *мн.* Вілы для сена на доўгім дзяржанні. *Дав Пырдэлю вылкы з дэрва. І ек гэто він зуба зламав?*

**ВЫ́ЛЫВОК** *м.* Вылівак, знесенае яйка без цвёрдай шкарлупіны. *Трэба даты курум глынкы, а то сталы нысты вылывкы.*

**ВЫЛЫҐДУ́РА** *агульн.* Чалавек высокага росту. *Во вылыґдура Іван Кырычок! З-за гэтого у волейбол добрэ грае.*

**ВЫРСТА́Т** *м.* Сталярны стол. *Од батька остався добрый вырстат, а Гріша його на дрова порубав.*

**ВЫ́СМАГНУТЫ** *зак.* Выпарыцца. *Ну то добрэ, шо Мыхалко Кравэць жывэ на хуторы: можна у його напоїты корів, а то в ямах вода давно высмагнула.*

**ГА́НЫТЫ** *незак.* Груба сварыцца. *Попа забыв ката і закынув його у колёдаз Пэхты. Попу Пэхта ганыла, а ёму всэ до одного місьця.*

**ГАНЬБОВА́ТЫ** *незак.* Ігнараваць. *Кузьма Мынтузів шось мынэ ганьбує. Поклыкала його на высілле. А він шось ны прышов.*

**ГАТЫ́ТЫ** *незак.* Уцяпляць сцены хаты вышарам. *Кыб добрэ гатыты хату, прыйшлося накосыты цілу копыцю вышару в Довгому каля Гудыла.*

**ГЕ́РАХЫ** *мн.* Кучаравыя валасы. *У Руського такыї вылызны герахы одраслы. І ек він іх росчосує?*

**ГЛА́ДКІЙ** *прым.* Тоўсты, мажны, тлусты. *Борма выробывся такый гладкій, ныбійсь ісьць смакы, ны робэ у колхозы, а тілько знае, шо командуе у Сыныв ычах.*

**ГОЇ́ТЫСЬ** *зак.* Загаіцца, зацягнуцца, зарубцавацца, зажыць (пра рану). *Не бійся, шо получыв бычэм по спыны. До высілля загоїця.*

**ГО́ЙДАТЫСЬ** *незак.* Гайдацца. *Добрэ гойдатысь, ек ныма чого робыты.*

**ГОЛЫ́ТЫСЬ** *незак.* Галіцца. *У войну голытысь ны було чым. Прыходылось бороду ножныцямы обрізуваты.*

**ГО́НОБ** *м.* Спакой. *Мій внук Вовік из Мінска цілу ныділю просыв якуюсь пычэню і гонобу міні ны давав.*

**ГОНО́ПА** *агульн.* Фанабэрысты, ганарлівы чалавек. *Балаховіць сыдів за партыю, ек гонопа. Ну то Ваврук и гахнув його по карку, кыб ліпш слухав урок.*

**ГО́ПША** *агульн.* Фанабэрысты, ганарлівы чалавек. *Иван Козэлышь сыдів, ек гопша на собранії батістов.*

**ГЫДА́** *агульн.* Дрэнны чалавек. *Во гыда Брытан! Вучыв пастушків ананізму.*

**ГЫКА́ТЫ** *незак.* Ікаць. *Добрэ мама накормыла Грішку Чырыпка. Вылазяты з-за стола так гыкнув, шо я злякався.*

**ҐАҐА́ВІЦЯ** *ж.* Гусіная шыя. *Потракач такый худый. У його ны шыя, а ґаґавіця.*

**ҐЕ́ҐНУТЫ** *зак.* Памерці. *Аркадий Пэхтын дэсь напывся шклоочыстіталя, то ґеґнув якраз каля моглыць.*

**ҐОЙ** *прым.* Вялікі, здаровы, моцны. *Во Мыгыцько ґой! Робіть за трох, ну то й добрэ получае.*

**ҐУ́ЗА** *ж.* Гуз, нарыў. *Бэрко зліз на лыпыну сухую, а на лыпыны смола, Бырко скотывся і набыв вылызну ґузу на голові.*

**ҐЫЗОВА́ТЫ** *незак.* Дурэць, сваволіць. *Мої діты ґызовалы, покы ны выбылы шыбу у вокні.*

**ДЗЕ́ВГАТЫ** *незак.* Гаварыць абы што. *Ны дзевгай, шо у нас ныма бані. Е у нас баня, алы ж закрылы, бо ныхто ны пушов мытыся.*

**ДРА́ТВА** *ж.* Тоўстая насмоленая або навошчаная нітка для шыцця абутку, конскай вупражы і пад. *После вайны крамных ныток ны було. Чобуты шылы дратвію.*

**ДУКОВА́ТЫ** *незак.* Пераконваць. *Ек Шыблычка дуковав своїм дітюм, кыб воны вучылысь, то тыпэр воны с пыром, а ны с косою.*

**ЖЫРО́БНА** *прым.* Жаробная кабыла. *Петя – брыгадір давав міні жыробну кобылу гораты города. Я ны взев, бо навіть слабую собаку і то шкода.*

**ЗАБЛЁНТАТЫ** *зак.* Заблытаць. *Знайшлы Мазэпу сноваты прежу! Вона одну нытку заблёнтае, шо ны розвежыш.*

**ЗАВЫ́ДЛЫВІЙ** *прым.* Зайздросны. *Алы ж якый завыдлывій Кокудірка! Всё стогнав, шо Слава Пачісных мныго получае.*

**ЗАГРЕ́ЗНУТЫ** *зак.* Загрузнуць. *Машына Васі Брекавіцы так загрезла у Чырэтянцы, шо трэба було трактаром вытегуваты.*

**ЗАКАПЁРШЧЫК** *м.* Арганізатар, завадатар. *До Ивана Мыхасё ходыла молодёж танцёваты. А закапёршчыком був Сцёпа Бэбіль.*

**ЗАКОВІ́ЗЫТЫ ГУБУ́**. Надзьмуцца, насупіцца. *Таць выгорував міні картоплы. Їжа була добра, а горілкы ны було. Ну то він заковізыв губу.*

**ЗАМІЛЬДОВА́ТЫ** *зак.* Данесці на каго-н. *Хтось замільдовав полякам, шо Шабас вдома ночуе. Воны зранку прыйшлы, окружылы хату, а Шабас втік с хлыва.*

**ЗАХАМУ́ЛЬКАТЫ** *зак.* Забраць. *Козубыха захамулькала свэдру і схавала. Вона ны прызналася навіть тогді, ек знайшлы свэдру у її сундуку.*

**ЗАШЭ́РНУТЫ** *прым.* Зашэрхнуць, пакрыцца тонкім слоем лёду. *Шэ ны вспіла каля Муляра зашэрхнуты вода в рові, ек туды збіглысь всі діты с Копанів.*

**ЗБЫЁТКАТЫ** *зак.* Забіць. *У войну Спудкабэрыць разом з німцамы збыеткав мныго людэй. Партізаны за гэто забылы його з сымнёю і хату спалылы.*

**ЗВЭ́РГНУТЫ** *зак.* Ацяліцца раней часу (пра карову). *У Прузыны, моя долынька, звэргла корова, то трэба її заныcты хоч трохы молока.*

**ЗДЫ́САТЫ** *зак.* Знайсці ў цяжкадаступным месцы. *Колысь косылы мы сіно у Выжарах, і Выглёнда дэсь здысав дэсыць їєць дыкиї качкы.*

**ЗЛЫ́ГНУТЫ** *незак.* Памяншацца. *Можэ вжэ і будэ высна. Морозы злыгнулы, шо можна ходыты в чобутах.*

**ЗЛЮЗОВА́ТЫСЬ** *зак.* Патанчэць, сцерціся. *Трэба у цыганів купыты ножэ, а то мій зусім злюзовався.*

**ЗМАРНОВА́ТЫСЯ** *зак.* Змарнавацца, здохнуць. *І вітінар лічыв, алы ж мое поросятко змарновалось. Проплакала я всю ныділю. Шо я буду їсты зымою, колы грошій ныма?*

**ЗМЫ́ЛОК** *м.* Змылак, змылены кавалак мыла. *Трэба сходыты у лавку купыты мыла, а то зусім малэнькій змылок остався.*

**ЗЫ́КАТЫ** *незак.* Лаяцца, сварыцца. *Шо, шо, а зыкаты Понталь уміе. Навіть на коне крычыць і його б'е.*

**ЗЫЛЫПА́ТЫ** *незак.* Быць у цяжкім фізічным стане, ледзь дыхаць. *Мусыть, Гантоній Козэлыць умрэ, бо вжэ трэтий дэнь зылыпае.*

**ЗЫ́ЧЫТЫ** *незак.* Пазычаць. *Прышла до нас Праська позычыты хоч окрушчык хліба, а мы її далы цілу булку.*

**КАНЦЭ́РВЫ** *мн.* Кансервы. *На высіллі у Штуманыхы з Боровыцы булы навіть канцэрвы з рыбію.*

**ХЫКА́ТЫ** *незак.* Кашляць. *Гэто ж мій дурынь купався у емы, дэ шэ був лід. Ну то довго кахыхакав до самого тыпла.*

**КВЫЧЕ́ТЫ** *незак.* Вішчаць. *Мучыць Мадрыхоныха, ны кормыть своїх поросет, бо воны квычеть на всэ сыло.*

**КЛЕ́МКА** *ж.* Клямка, прыстасаванне, з дапамогай якога зачыняюць і адчыняюць дзверы. *Гріша так трахнув двырыма, шо аж клемка вылытыла.*

**КМЭ́ТЫТЫ** *незак.* Меркаваць. *Гонот колхоз організовав і кмэтыв довго кіроваты, алы ж хутко знялы, бо нычого ны відав.*

**КОЛО́ШВА** *ж.* Калашына. *Бовша. Одна колошва корочча, друга – довша.*

**КОРО́ЛЬ** *ж.* Галёнка. *Злодый кобылу пудводыть, кобыла ны встала, королі подрыстала.*

**КУ́МЫЛА** *прысл.* Дагары нагамі, кубарам. *Полытів кумыла Пачісның, ек на повному ходу выскочыв з машыны.*

**КЭ́ЛЬЗЫ** *мн.* Цуглі. *Брытан заложыв кэльзы у рот кобылы, кыб ны поносыла, ек він будэ хутко їхаты.*

**ЛА́ХТАТЫ** *незак.* Есці з прыцмокваннем. *Во, ек добрэ лахтае поросетко. Трэба его купыты.*

**ЛОМА́ЧЭ** *н.* Ламачча, зламаныя галіны. *Бура вывалыла у Черкы вылызного тополе, і ломаччэ скрізь валелось.*

**ЛЯКОТІ́ТЫ** *незак.* Дрыжаць. *Капытуля з Ярошчыком зымою їздылы в сыло Дівное за пшаныцыю. Пополякотілы воны в дорозы, покы прывезлы її в Головчычы.*

**МАРА́ТЫЙ** *прым.* Брудны. *Якый жэ твій хлопіць маратый! Шо, его послідный раз батюшка купав?*

**МАТЮКА́ТЫСЯ** *незак.* Лаяцца, сварыцца. *Матюкатыся уміють всі, а ны матюкаюця тілько Балаховіць і Коля Пэлько.*

**МОЛОЧЕ́Й** *м.* Дзьмухавец. *Надя Брытанова ны тілько полывала цвыты каля школы, алы шэ й рвала молочей у траві.*

**МО́РХЛЫЙ** *прым.* Зморшчаны. *Высною картоплы сталы такыї морхлы, ек Бонька пырыд смэртю.*

**МУ́ЛЯ** *ж.* Глей. *У Трыповынныках колысь було вэльмэ мныго в'юнів. Бало зачырпным у емы мулю кошыком і вытягным пару в'юнів.*

**МУ́ЛЯТЫ** *незак.* Муляць, націраць (мазоль). *Бэбіль Суёпа на Місты купыв міні чобуты, аны ж одын міцно муляе.*

**МУТЫ́ТЫ** *зак.* Ілгаць. *Хоч ты і Мутун, алы ж мутыты зусім ны вміїш.*

**МЫ́СА** *ж.* Пыса, морда. *Взяла у Яшчыхы кота, а він пуд кроватамы наробыв. Я его мысыю туды совгынула и выкынула у сіны.*

**НАГАВЫ́ЦЫ** *мн.* Штаны. *Ты ж бач! Брашівка форсыць! Купыв нагавыцы в магазіны.*

**НАГЭ́ЛНЫЦЯ** *ж.* Якога ліха, нечаканасць. *Якая нагэльныця понысла тыбэ в кіно? Вытрышкы куплеты?*

**НАКАПУ́ЗЫТЫСЬ** *зак.* Надзьмуцца. *Вася Брекавіця шось накапузывся. І шо я ёму зробыв?*

**НАРУ́ЧЧЭ** *н.* Матэрыял, які можна ўзяць абедзвюма рукамі. *Петя! Прынысы хоч наруччэ гулле, трыба вычэру на жылізках зварыты.*

**НЫЦ** *прысл.* Нічога. *У Мухы згоріла хата. Ныц він ны зміг спасты. Навіть партбілет згорів.*

**ОДУ́Р** *м.* і **ОДУ́РА** *ж.* Дурнота. *І якый одур напав на Ярошчыка? На пэршый дэнь Паскы дрова рубав.*

**О́ЖУГ** *м.* Рэмень хамута. *Прыстав до моеї Мані сківаторшчык, шо од ёго одганейся хоч ожугом, а він ны кыдае її.*

**ОКОТЫ́ТЫСЬ** *зак.* Акаціцца. *Окотылась моя овэчка. Ну то шо? Овэчку хтось украв. Добрэ, шо хоть ягнетко осталось.*

**ОКРЫЕ́ТЫ** *зак.* Акрыяць, паправі́цца пасля хваробы. *На якый смуток тая горілка? Во, Коля Пэлько так напывся, шо лэдь окрыев.*

**ОТТАРА́СКАТЫСЬ** *зак.* Адкараскацца, адвязацца ад каго-н. *Суёпа Лявінчык прыставав до моеї жінкы, шо лэдь удалось од ёго оттараскатысь.*

**ПЕ́РНАХ** *м.* Пярына. *Зымою, ек протопыш грубку, то вэчуром тыпло, а пуд ранок хоч пуд пернах лізь.*

**ПОНОЧЭ́** *прысл.* Цёмна. *Вжэ стало поночэ. Підым до Павліны Дымыччыковыї на вычоркы.*

**ПЫ́ЛНЫЙ** *прым.* Напружаны. *Качорыха ны схотіла міні пошыты рубашку, бо зары літо, пылный чес.*

**ПЫРЫЙМА́ТЫ** *незак.* Замяняць. *Йдэ чорна хмара. Будэ дошч з градом. Трэба будэ пуйты пырыйнеты Петю, бо на Гали ныма дэ схаватыся.*

**ПЫРЫЛА́З** *м.* Пералаз, частка невысокай загародкі ў хляве, праз якую можна пералезці. *І ек тая свыне пырылізла чырыз пырылаз? Дывлюсь, лыжыть каля коровы.*

**ПЫЧУ́РКА** *ж.* Шампіньён. *Якыї пычуркы у Чырэтянцы? Там одны корчи ростуць.*

**ПЭ́ЧЫВО** *н.* Печаныя вырабы з аднаго замесу мукі. *Ек пычы хліб, то трэба напалыты піч, розвысты повну діжку тіста, кыб пэчыво було булок дэсыть.*

**РАДНО́** *н.* Самаробная коўдра, якая складаецца з 2–3 слаёў даматканага палатна. Ватных коўдраў не шылі з-за адсутнасці ваты. *Зымою ны вэльмэ пуд радном будэ тыпло. Навэрх жэ трэба кожуха кынуты.*

**РОЗВІ́ДНЯТЫ** *незак.* Світаць, развідняцца, днець. *О, Божэ мій! Вжэ добрэ розвідняло, а у мынэ шэ корова ны дояна.*

**РОЗО́РА** *ж.* Разора, канаўка паміж градамі. *Такый міцный дошч влыв, шо у Опцызныка стоеть повны розоры воды.*

**РЫКА́ТЫ** *незак.* Рыкаць (пра карову). *Наша корова Роза у стады завжды йдэ пэрша и каля Пэхты завжды рыкае.*

**СІ́ЧКА** *ж.* Сечка. *Добрэ, шо у Вавріна е сычкарня. Наріжыш січкы і її скотына добрэ їсьць.*

**СКА́ЛКА** *ж.* Скалка, кропля тлушчу на вадзе. *Лый у булён більш сала, кыб тілько одна скалка осталась. З'їшы нышчымного картопля, гораты ны будыш.*

**СКАПУ́ТЫТЫСЬ** *зак.* Памерці. *Кацап довго хірыв, покы на вісні ны скапутывся.*

**СКАСОВА́ТЫ** *зак.* Ануляваць, ліквідаваць. *Просыла Дударчыка, шо жыве на хуторы каля каналу, кыб він міні выгнав горілкы на высілле. Навіть дрожжы занысла. Алы ж він скасовав нашу домову.*

**СКОРО́МНЭ** *н.* Надзвычайна смачная страва. *Батэцькій любіть скоромнэ. А хто ж его ны любіть? Во Рачко якое юкло наїв.*

**СКРЫ́НЯ** *ж.* Скрыня, вялікая драўляная ёмістасць для захавання збожжа. Ёсць і малыя скрыні. *Ек була зымле, то всэ було. Помытаю, шо повну скрыню насыпалы жыта.*

**СМОКТА́ТЫ** *незак.* Смактаць. *Прыбышенка смокчэ горілку, ек воду. Горілка ны дала навіть хату накрыты шыфером.*

**СМУ́ТОК** *м.* Смутак. *І шо за смуток на Промотора напав? Можэ, з Букрабію захотів поговорыты?*

**СОБОРСНУ́ТЫ** *зак.* Праваліцца (пад лёд). *У Чырэтянцы діты козвалыся на гнущцы, а Пітюк став скакаты, покы ны соборснув пуд лід по коліна.*

**СОЛІ́ТЫ** *незак.* Засольваць. *Ны бійся, Гантоній, класты сіль у сало. Хай соліе, а лышну сіль потом ножэм очыстыш.*

**СПУСТ** *м.* Фуганак. *Хто дав спуста Ярошчыку? Він жэ нычого ны оддае, покы дэсыць раз до його ны сходыш.*

**СТУКА́Н** *м.* Хованкі. *Каля Галушкы діты гралы в стукана, алы ж Марковскій прогнав.*

**СТЫЛЮ́ГА** *ж.* Падстаўка, на якой уручную распілоўваюць бярвенні на дошкі. *Мыкыта, давай пуднысем стылюгу до хлыва, завтра будым роспускаты ліс на доскы.*

**СУПО́НЯ** *ж.* Раменьчык для сцягвання клешчаў хамута. *Конюх Сяндо дав міні коне, кыб прывысты сіно, а в хамуті ны було супоні.*

**СЦЮРА́ТЫСЯ** *незак.* Цурацца, адмаўляцца. *А дэ зары Марковскій? – Сцюрався нас. Люды казалы, шо поїхав у Гоміль.*

**СЫРО́ВАТКА** *ж.* Вадкасць, якая застаецца пасля ўзбівання масла. *Грішка Чырыпок, ходячы по старцях, зайшов до мынэ и попросыв чого-ныбудь поїсты. Прышлося даты окрушчык хліба и кварту сыроваткы.*

**СЫЧКА́РНЯ** *ж.* Сельскагаспадарчая машына для здраблення сена ці саломы. *Ныма чым корову кормыты, трэба сходыты до Мыгыцька, на сычкарны нарізаты січкы.*

**ТОПІ́РО** *прысл.* Зараз. *Топіро вжэ зусім ны тое, шо колысь було. Навіть Рыкля і тая жывэ в добрый хаты.*

**ТРЫПЫТІ́ТЫ** *незак.* Дрыжаць. *Мы, пастушкы, послалы Ивана Барбарыного до возыра за товкочемы. А колы він іх прыніс, то мы трыпыталы од шчесьця.*

**ТЫЛЫПА́ТЫ** *незак.* Рухацца туды-сюды. *Дваццать п'еть натылыпало і шэ тылыпае.*

**ТЫ́РКАТЫ** *незак.* Хадзіць туды-сюды. *Таня, шо ты тыркаєш туды-сюды? Сходы на лужок нарвы зілля поросетовы.*

**ТЫ́ЧКА** *ж.* Галінка, доўгая палка, увагнутая ў зямлю. *Стыпан Галушка ставіть тычкы на гредках, кыб хміль ріс увэрх.*

**ТЭ́РТКА** *ж.* Тарка. *Хочыш оладок з картоплю? Сядай, обрізуй картоплы, тэртка в кучцы. Натры, а я спыку.*

**УДО́СВЫТА** *прысл.* На світанні, на золку. *Всю ніч пэрыв дошч, грыміло, а удосвыта я бачу, шо горыть хата у Коломбуза.*

**ХРА́ПА** *ж., груб.* Твар. *Моя Галя крала ейця і куплела канфеты. Ну то я їй добрэ напыкла рукы прокывію. А їй барздэ. Шэй храпу заковізыла.*

**ЧЫРІ́НЬ** *ж.* Чарэнь, ляжанка на рускай печы. *Таня! Положы на чырінь лён, кыб просох, а то ныма чого тэрты.*

**ШВЫ́ҐА** *ж.* Фіга. *Сказала я Тепілю, шо вин п'еный, ну то накрутыв міні швыгів.*

**ШВЫ́ДКІЙ** *прысл.* Хуткі. *Гэто Борма був такый швыдкій, купола здыймав.*

**ШІ́ПЛЯ** *ж.* Шуфлік, драўляны шуфлік для зерня. *Од того жыття, шо колысь було, одна шіпля осталась.*

**ШТРЫ́НЬҐАТЫ** *незак.* Дрэнна касіць. *Пріську вкаралы. Ны далы травы, кыб накосыты сіна коровы. Штрыньгав її сын Суёпа, дэ хоч трохы е трава. Навіть на Хэрмы косыв.*

**ШУ́РХНУТЫ** *зак.* Хлынуць. *У Трыповынныках Трымбук копав торф. Шэ йому добрэ тотыховало. Ек він став вылазыты з емы, шурхнула туді вода.*

**ШЧІТЬ** *м.* Франтон. *Хутко робіть свою хату Швараб. Вжэ й шчіть поставыв.*

**ШЫЛЁХАТЫ** *незак.* Шамацець, шапацець. *Прочнулася я вночі, колы чую, шо шылёхае дошч. І ек тое сіно згрыбсты?*

**Ю́ШЫТЫ** *зак.* Пайсці. *Зав'езуй рану, покы кров міцно ны пуйшла.*

*А. І. Лапуцкая*

## З ЛЕКСІКІ АДНОЙ ВАЛОЖЫНСКАЙ ГАВОРКІ

Лексічны матэрыял быў сабраны падчас дыялекталагічнай практыкі ў вёсцы Камень Валожынскага раёна Мінскай вобласці ў ліпені 2009 г. Сваімі асноўнымі рысамі маўленне мясцовых жыхароў адносіцца да сярэднебеларускіх гаворак.

**АБАБІ́ЎКА** *ж.* Абцяжка. *У дзіва́не ўжо абабі́ўка працёрлася.*

**АБАЗМЕ́Н** *м.* Бязмен. *Адва́ж абазме́нам зярня́т.*

**АБІРА́КА** *агульн.* Грабежнік. *Гэ́ныя абіра́кі ўсё забра́лі.*

**АБО́РА** *ж.* Пуня для сена. *А гумно́ вялі́кая, от адгэ́туль дзве́ры і праз усю або́ру е́хала на во́зе.*

**АХА́ПАК** *н.* Камяк. *Ва́ліць снех вялі́кімі аха́пкамі.*

**ВАЖАЧАНЁ** *н.* Дзіця вожыка. *Я ле́тась мале́нькая важачанё знайшо́ў.*

**ВО́БРУЦЬ** *ж.* Аброць. *Калі́ збіра́юцца запрага́ць каня́, яму́ на галаву́ надзяю́ць во́бруць.*

**ВО́ДУМ** *м.* Стан разважання, паглыблення ў свае думкі. *Во́дум мяне́ ўзяў.*

**ВЫПЛЫВА́ЦЬ** *незак.* Выпускаць колас (пра збажыну). *Глянь, ко́лас выплыва́е, жы́цечка расце́.*

**ВЭ́НДЗАЦЦА** *незак.* Хадзіць без справы, швэндацца. *Нямáямý чагó рабí́ць, дык вэ́ндзаецца па хáтах.*

**ГАТÓВІ́ЦЦА** *незак.* Рыхтавацца. *Пачáў бáцька, пачалá мáтка гатóвіцца да гэ́нага вясéлля.*

**ГЛІНЯ́НЫ** *прым.* Руды, колеру гліны. *Не былó тагó, а гэ́ны глінянага кóлеру.*

**ГЭ́НЫ** *займ.* Той. *Паглядзí на гэ́ны слуп.*

**ДÓЛЯ** *прысл.* На зямлі, на падлозе, унізе. *Не сядзí дóля, зямля́ халóдная.*

**ДРАБÍНА** *ж.* Драўляная лесвіца. *Патстáў драбíну, на гарý я́блыкі трэ́ба усцягнýць.*

**ДУРЫ́ЦЬ** *незак.* Надакучаць, тлуміць. *Сеў кáля плóту і дýрыць мне галавý.*

**ЖАНÁЦІК** *м.* Жанаты мужчына. *І наш жанáцік ні аднóй вечары́нкі ні прапýсціць.*

**ЖАРÓБНЫ** *прым.* Жарэбны (пра кабылу). *У нас тут чаты́ры жарóбныя кабы́лы.*

**ЖЭРДЗЬ** *ж.* Рубель для ўціскання снапоў, сена, саломы на возе. *Жэрдзь мóцная, дóўгая, гэ́тай жэ́рдзяй уціскáюць вос.*

**ЗБАГАЦЕ́ЦЬ** *зак.* Разбагацець, стаць заможным. *Гэ́ны ýжо як збагацéў, дык на лю́дзі і вóчы не кáжа.*

**ЗБРЫ́ЗГВАЦЬ** *незак.* Апырскваць (вадой). *Падляцí збры́згні гэ́ную капýсту.*

**ЗГÁНІЦЬ** *зак.* Аблаяць, моцна насварыцца. *Кагó чáсам згáняць і зазрá.*

**ЗУСЁМ** *прысл.* Зусім. *У нас дзя́цька зусём благí.*

**ЗЫ́ЧАНЫ** *м.* Суджаны. *Смяю́ся свайму́, што вунь ягó зы́чаная пашлá.*

**ЗЭ́ДАЛЬ** *м.* Услон. *Садзíся во на зэ́даль.*

**КАЗЕ́ЛЬЧЫК** *м.* Конік. *У травé стóлькі казéльчыкаў стракóча.*

**КАЛЯСНЫ́** *прым.* Калёсны. *Каляснь́і трáктар паéхаў.*

**КАМÁШЫ** *мн.* Жаночыя чаравікі. *За гэ́ныя грóшы купíла камáшы.*

**КАРЧЫ́СТЫ** *прым.* З вялікім, магутным карэннем. *Гэ́ны дуп больш карчы́сты.*

**КРАПІ́ЦЦА** *незак.* Бадзёрыцца, мацавацца. *Ну, усё крапíцеся тут!*

**КУСМÁН** *м.* Кавалак. *За рабóту мне лáдны кусмáн сáла далí.*

**ЛÁДНЫ** *прым.* Вялікі, прыгожы, значны і г. д.

**ЛÁПІНА** *ж.* Кавалак, значная частка чаго-небудзь. *Цэ́лая лáпіна garóду вы́гарала ат салéтры, бесталкóва сы́палі, не разбірáючыся.*

**ЛЕДЗЬ-НЯЛЕ́ДЗЬ** *прысл.* Насілу, з вялікай цяжкасцю. *Ледзь-нялéдзь завялí ягó дамóў.*

**ЛІСÍЦА** *ж.* Спецыяльная калодачка з дзірачкамі, праз якую прадзяюць шнуркі ад панажоў. *Мне нóвая лісíца трэ́ба, бо гэ́на старáя зламáлася.*

**ЛУНÁЦЬ** *незак.* Хадзіць павольна. *Ён лунáе, бо хвóры.*

**ЛЯПÝН** *м.* Насценны гадзіннік з маятнікам. *Прывéзлі мне ляпунá лéтась.*

**МАЛАДЗЯ́Ж** *ж., зб.* Моладзь. *Даўнéй маладзя́ш ідзé на тáнцы і зáраз хóдзіць.*

**МÉДЗЯНЫ ПÁЛЕЦ.** Мезенец. *Мéдзяны пáлец у мянé пасля́ тагó шчэ балíць.*

**МЭ́ЛЬНІЧАК** *м.* Бабка з дзесяці снапоў. *Пасля́ тагó як прóйдзе дошч, раскрывáюцца па вёсцы мэ́льнічкі.*

**НАЛІВÁНКА** *ж.* Страва з цёртай засквaранай бульбы, налітая ў кішку і падсмажаная. *Отó ш дзéці налівáнку ахвóтна ядýць.*

**НАШАРАВÁЦЬ** *зак.* Намазаць, змазаць, нацерці маззю. *Як нашарýю, о-ой, ужó ш пóкуль перапячэ́, дак, здэ́цца й вóчы павы́скачуць.*

**НАШЭ́ЙНІК** *м.* Ашыйнік. *Да нашэ́йніка прывя́зваіцца цэп.*

**ÓБМЕШКА** *ж.* Запараная сечка з мукой. *Жывёле óбмяшку з мукóй даю́ць.*

**ПАВÁДЗІЦЦА** *зак.* Пасварыцца. *Ён ні мóжа, калí с кім ні павáдзіцца.*

**ПАВАДЗЭ́ННЕ** *н.* Знак увагі. *І расказáў, хто камý давáў павадзэ́ння.*

**ПАВÁРА** *ж.* Вялікая лыжка, якой наліваюць страву. *Былá ýчора на базáры ў Венцы́, купíла сабé павáру.*

**ПАВЕ́К ВЯКÓЎ.** На ўсё жыццё, заўсёды. *Павéк вякóў ягó бýду пóмніць!*

**ПАДЛЯЦЕ́ЦЬ** *зак.* Імкліва падбегчы. *Падляцí карóву развярнí.*

**ПАДÝШАЧКА** *ж.* Мочка (вуха). *Падýшачкі пракóлваюць для завушнíц.*

**ПАЛÓК** *м.* Палок, нары з дошак ля печы. *Ідзí на палóк і спі!*

**ПАПІХÁЙЛА** *агульн.* Чалавек, якім панукаюць, кіруюць. *Ну, ты, і папіхáйла!*

**ХРÓСНЫ** *м.* Хросны бацька. *І сказáў мой хрóсны, што, напэ́ўна, ад гэ́тага кáміня і пашлá нáзва Кáмінь.*

*П. А. Міхайлаў*

## У СЛОЎНІК ПАЎНОЧНАЙ ВІЦЕБШЧЫНЫ

Словы, пададзеныя ў гэтым артыкуле, запісаны 16–25 красавіка 1984 г. і 9–16 ліпеня 1985 г. у час збірання матэрыялаў па другім апытальніку «Лінгвістычнага атласа Еўропы» ў вёсцы Якубава Клясціцкага сельсавета Расонскага раёна Віцебскай вобласці. У складзе дыялекталагічнай экспедыцыі было дзве асобы: аўтар гэтай публікацыі і яго фактычны навуковы настаўнік,

аўтарытэтны беларускі вучоны А. А. Крывіцкі. Зразумела, што пры выкананні канкрэтнага навуковага задання ў свабодных гутарках з мясцовымі жыхарамі ў рабочых сшытках экспларатараў занатоўваюцца не толькі адказы на абавязковыя пытанні праграмы даследавання, але і ўсё цікавае, арыгінальнае, што прамаўляецца носьбітамі мясцовай гаворкі. Вось такія, на наш погляд, вартыя ўвагі навукоўцаў мясцовыя лексічныя, граматычныя і фанетычныя адметнасці маўлення жыхароў і змешчаны ў публікацыі.

Нашымі інфарматарамі (і фактычна сааўтарамі артыкула) з'яўляліся цудоўныя мясцовыя людзі Дабраедаў Іван Міхайлавіч, 1914 г. н., і яго жонка Стасёнак Надзея Андрэеўна, 1919 г. н., якім наш нізкі паклон і шчырая ўдзячнасць.

**АҐІ́Р** *м.* Аер. *Пахýчая тръвá аґір, на аґíраві хлеп пéксі.*

**АДБÉРЫЦЬ** *зак.* Адабраць, пазбавіць. *У мянé ты гарóт ні адбéрыш.*

**АДЗÉЖА** *ж.* Адзенне. *Грып – ні éжа, а шляпа – ні адзéжа* (прыказка).

**АПКРАПІ́ВІЦЬ** *зак.* Апячы крапівой. *Апкрапíвіла ўсé рýкі жгýчай крапíвай.*

**АПСТЫ́ЦЬ** *зак.* Астыць. *Ёсь кіпітóк, хлóпцы, алé ён апсты́ў.*

**АСВÁ** *ж.* Аса. *Асвá вывóдзіцца ў пузыры́ асвíным.*

**АЎТАРÓНЯ** *н.* Цяля, народжанае ў аўторак.

**АЦЦÉПЕЛЬ** *ж.* Адліга. *Усю зімý аццéпелі ні былó.*

**АШАКІ́** *мн.* Высеўкі.

**БÁБІЦЬ** *незак.* Прымаць роды. *Бáбка бáбіла ръбят.*

**БАЛЯ́: ПАСАДЗІ́ЦЬ БАЛЯ́.** Пасадзіць на плечы. *Пъсадзíў бъля́ стáрую і панёс.*

**БÉГАЦЬКІ** *незак.* Бегаць. *Я ж ні магý за табóй бéгацькі.*

**БЕЛЬ-БÉЛЛЮ** *прысл.* Белым колерам. *Цвіцéлі бель-бéллю, а марóс як цюкнуў!*

**БІРАЗНЯ́ГА** *м., зб.* Бярозавы лес, бярэзнік.

**БЛАГАÉЖЛІВЫ** *прым.* Пераборлівы. *Нáша карóва бльгаéжлівая, ласýшкі ёй дай!*

**БРАЦЮ́ЛЯ** *м., памянш.-ласк.* Брат.

**БРЫЛÉЎНІК** *м.* Лопух. *У нас брылéўніку пóўна!*

**БЎЧА** *ж.* Рыбалоўная прылада з лазы і абручоў. *Бýчу стáвілі і лавíлі рыбу.*

**БЫ́ЗАЎКА** *ж.* Гіз. *Бызъўка есь тькáя, карóвы як пъднялí хвасты́ і загізъвáлі.*

**БЯЛЁНЯ** *ж.* Карова з белай шэрсцю.

**ВАЛÓЖАВАЦЬ** *незак.* Паліваць, заліваць прыправай, закрасай. *Накрышý цыбýлькі, смітáна ёсь, бýдзіць чым валóжъваць.*

**ВАСКАДЗІ́НА** *ж.* Выварацень. *Так такóе нáзвішча – въскадзíна.*

**ВÓДРЫЦА** *ж.* Адзёр. *Вóдрыца кьчáіць людзéй. Як рукáм зняло вóдрыцу.*

**ВУЦЯ́К** *м.* Качар.

**ВЫДЗІРЖÁЦЬ** *незак.* Вытрымліваць, трываць. *Ёжык калючый, як начнéць кьчáцца, змія ні выдзіржáіць.*

**ВЫ́СМЯГНУЦЬ** *зак.* Высмагнуць. *Вы́смяг мой хъладзéц, аннó мяса.*

**ГАЛЬКÓМ** *прысл.* Без цукру (пра гарбату). *А чагó ты так галькóм п'еш, біс сáхару?*

**ҐІҐÉЛЬ** *м.* Хвошч. *У пóле як гъня́лі, збірáлі і éлі гэ́ныя ґíґялí.*

**ГІЛЬ** *м.* Чарада (рыбы). *Гíлем хóдзіць рыба.*

**ГЭ́НЫ** *займ.* Гэты. *Там на пóжні гэ́най німá ягó.*

**ДЗІЦІ́НУХА** *ж.* Квактуха. *Клóхаіць дзіцíнуха.*

**ДЗЯННІ́К** *м.* Жывёльны двор. *Павілá карóву пакрывáць на дзяннíк. Дзяннíк завём, дзе карóву выпушчáім.*

**ДЗЯЎЧÓША** *ж.* Дзяўчынка-падлетак ва ўзросце 12–13 гадоў. *Купíла плáцце сваёй дзяўчóшы.*

**ЖАГÁЦЬ** *незак.* Джаліць, кусаць. *О, шчамéль жагéць!*

**ЖЫВÉЦ** *м.* Жывая рыбка, якую насаджваюць на кручок як прынаду. *Шчýку лавíлі на жыўцá.*

**ЖЫ́ЦЬКІ** *незак.* Жыць. *Ай ё, дзéткі мае́, ужо дóсыць мне жы́цькі!*

**ЗАСНІГÁЦЬ** *незак.* Пакрыць, засыпаць снегам. *Зімóй заснігáіць рóўна.*

**ЗÁТАХЛЯ** *ж.* Пратухлы вадаём. *Зáтахлі – затýшаныя бяз вóздуху.*

**ЗАТÓХНУЦЦА** *зак.* Задыхнуцца. *Вóсім чълавéк затóхлісі там.*

**ЗБÓЙКА** *ж.* Маслабойка. *Збóйка біць мáсла, бíла-бíла і ніяк ні збíла.*

**ЗЯ́ПКА** *ж.* Берасцянка, зяблік. *Зя́пка закрычы́ць – то гэ́та ўжэ пагóда змéніцца, гэ́та ўжэ на хóлат.*

**ІЛЬНЯ́ГА** *м.* Яловы лес, ельнік.

**ІСТРЫ́ЦЬ** *незак.* Вастрыць. *Ся́ду і съмá істрý пілý.*

**КАЖЫ́НЫ** *прым.* Кожны. *За кажы́ный кільгрáм – дзéсіць рублёў.*

**КÁІЦЦА** *незак.* Каяцца. *Ні кáйсі, што рáна ўстáў, і ні кáйсі, што рáна жаніўсі* (прыказка).

**КАЛАТÓЎКА** *ж.* Кіёчак у маслабойцы. *У збóйцы къатóўка ё.*

**КІСЛІ́ЦА** *ж.* Шчаўе.

**КЛÓХАЦЬ** *незак.* Квактаць.

**КÓЛІ-ЯК** *прысл.* Неяк, нейкім чынам. *Алé кóлі-як пірьбрáлісі былí ў хáту.*

**КРАМІНÁ** *ж.* Спелая драўніна. *Тут вы́ръзалі крамінý – стары́нны лес, крамінá лес.*

**КРАПÁНІЦА** *ж.* Сяннік. *Кръпáніцу салóмай свéжай аржанóй як наб'éш!*

**КУРУЯ́** *м.* Гермафрадыт (у курэй).

**КЎТНІЙ: КЎТНІЙ ЗУП.** Карэнны зуб. *Кýтній зуп балíць.*

**ЛІМÉНЬ** *м.* Алюміній. *Лімéнь гбáіцца, мя́хкі.*

**МІДЗЯ́К** *м.* Мезенец. *Ні бальшы́ пáліц парэ́зъла, а мідзя́к.*

**НАБУ́ЦЬ** *зак.* Абуць. *Прынясі́ набу́ць што на но́гі.*

**НАВУ́ЖҐАЦЬ** *зак.* Нацкаваць. *Наву́жґалі съба́ку на яго́.*

**НАКРАПА́ЦЬ** *зак.* Напоўніць, напхаць сяннік (саломай, сенам). *На́да іці́ кръпа́ніцу нъкръпа́ць.*

**НАРАТО́К** *м., памянш.* Нерат, верша. *Нърато́к з ні́так плялі́.*

**НІ́ВА** *ж.* Поле. *Чыя́ сі́ла, таго́ й ні́ва* (прыказка).

**НЯДЗЁНЯ** *н.* Цяля, народжанае ў нядзелю.

**ПАВІЛІ́ЦА** *ж.* Павітуха (пустазелле).

**ПАВУ́ЖҐАЦЬ** *зак.* Нацкаваць. *А дзе й съба́кам паву́жґаюць.*

**ПА́ЛІЦЦА** *незак.* Пра перыяд палавой актыўнасці ў кабылы. *Кабы́ла па́ліцца, пры́ступу німа́, е́хаць ня мо́жна.*

**ПАНЯДЗЁНЯ** *н.* Цяля, народжанае ў панядзелак.

**ПАРАША́ЦЦА** *незак.* Парасіцца. *Рас ста́ла драць, зна́чыць бу́дзе пъръша́цца свіння́.*

**ПАЦІП** *м.* Гушчар.

**ПІК** *м.* Касцявы мозг. *Пік па касці́ ідзе́ць.*

**ПІРАКРАПА́ЦЬ** *зак.* Замяніць на новае, свежае (пра сяннік). *Піръкръпа́ў кръпа́ніцу све́жай сало́май.*

**ПЛАДЛІ́ВЫ** *прым.* Пладавіты. *Хрэн так быў спладзі́ўшы, вон жа пладлі́вы.*

**ПЛІ́НЧЫК** *м.* Плінтус. *Зрабі́ плі́нчыка ка́ля пе́чы.*

**ПО́РАМ** *м.* Плыт. *Ръбя́ты по́рам здзе́лалі і кълта́юцца на і́м.*

**ПРО́СТКІ** *прысл.* Проста. *Про́сткі жы́рнъя зімля́ тут.*

**ПРЫМАНУ́ЦЬ** *зак.* Прывабіць. *Іна́ так прыману́ла мъладо́га ма́льца!*

**ПРЫХЛІ́БЫВАЦЬ** *незак.* Сёрбаць. *Мълако́ кі́слае прыхлі́бываіць с клёцкамі.*

**ПЫР** *м.* Пырнік. *Пы́ру по́ўна ёсь!*

**ПЯКО́ЛКІ** *мн.* Ніша збоку прыпечка, куды зграбаюць вуголле. *Ръбя́ты ў пяко́лках пъгарэ́лі.*

**ПЯЦЁНЯ** *н.* Цяля, народжанае ў пятніцу.

**РАШТО́ВІК** *м.* Падсвінак. *А вы ш рашто́віка ці гаду́іце к Ръжджаству́?*

**РО́БІЦЬ** *незак.* Рабіць. *Ро́біла й ро́біла, ні сідзе́ла.*

**РО́ДЗЕЎКА** *ж.* Мука з мякіны, васількоў і інш., што дадавалі ў рошчыну.

**РОСТ** *м.* Расток. *Ужо́ два разы́ расты́ абіра́лі ў бу́льбі.*

**САРАПО́НЬКА** *ж.* Сыракваша.

**СЕРАДО́НЯ** *н.* Цяля, народжанае ў сераду.

**СІМІНА́** *ж.* Насенне. *У міне́ сіміна́ тъка́я.*

**СКАЛО́ЦВІНЫ** *мн.* Маслёнка. *Ма́сла збіў і скало́цвіны папі́ў.*

**СЛІ́ВІНА** *ж.* Сліва (дрэва). *Слі́віны круго́м тут былі́.*

**СЛО́НКА** *ж.* Кулік.

**СТЫ́КВІНЫ** *мн.* Маслёнка.

**СУБО́НЯ** *н.* Цяля, народжанае ў суботу.

**СУВО́РЫНА** *ж.* Упарты чалавек. *Суво́рына тъка́я, на сваём хоць ты яе́ ўбі́й!*

**СУМЯРЭ́ЧЫЦЬ** *незак.* Змяркацца. *Со́нца зайшло́, пъчало́ сумярэ́чыць.*

**СУХАДРЭ́ЎКА** *ж.* Бузіна. *Сухадрэ́ўка пусці́ла ато́жылкі.*

**СЫ́РНІЦА** *ж.* Клінковы мяшочак, клінок. *Сыр у сы́рніцу і пад ка́мнем пало́жыш.*

**ТАБА́КА** *ж.* Тытунь. *Я ш яму́ нърасці́ла тъба́кі ле́тась.*

**ТАПЛЁНКА** *ж.* Кіпень, запраўлены малаком. *Кіпято́к забе́ліш – таплёнка заве́цца.*

**ТАРГАВЕ́Ц** *м.* Гандляр. *На́да ш і търгаўцу́ капе́ічку заро́біць.*

**ТРО́ПАЦЬ** *незак.* Варушыцца, рабіць рухі. *Звалі́ўсі як сноп і ні тро́паіць.*

**УКРЭНЬ: ВЕ́СЦІ (ПАВЕ́СЦІ) НА Ў́КРЭ́НЬ.** Хістацца,ківацца (пра слабога, старога чалавека). *Ну й пъвяло́ дзе́да на ўкрэ́нь як таўсту́ю ялу́шку.*

**УЛО́ГЛАВІНА** *ж.* Лог, лагчына. *А тут ўло́главіна ідзе́ць крутая, круго́м го́ры.*

**УПІРЛІ́ВЫ** *прым.* Упарты. *У нас быў такі́ ўпірлі́вы конь!*

**УСЕ́РДЗІЦЦА** *зак.* Раззлавацца, узлавацца. *А ён пагэ́таму ўсе́рдзіўсі на на́с.*

**УЧУ́ЦЬ** *зак.* Пачуць. *Ён учу́іць, а міне́ хоць забі́, не ўчу́ю, такі́й крэ́пкій сон.*

**ХВАСЦЕ́ЛЬ** *агульн.* Выхваляка. *Хвасце́ль, іна́ ўжэ́ здра́стуіцца.*

**ХМЫЗА́** *ж.* Хмызняк. *Ох і заці́снъла хмызо́й!*

**ЦВІЦЕ́ЦЬ** *незак.* Цвісці. *А я́блыні, слі́вы, ві́шні як цвіця́ць!*

**ЦЭ́ЛЬНЫ** *прым.* Цэлы. *Цэ́льную нядзе́лю но́ччы рэ́йкі рвем, а днём у заса́дзі.*

**ЦЮ́ЛІК, ЦЮ́ЛІЧАК** *м., памянш.-ласк.* Сабака. *Цю́лічак мі́лінькій ты мой!*

**ЦЯ́ЖБА** *ж.* Цяжкасць, клопат. *І мы ш за ця́жбу ні шчыта́лі, шлі і ро́білі.*

**ЧАЦВЯРО́НЯ** *н.* Цяля, народжанае ў чацвер.

**ШАРПУ́-ШАРПУ́** *выкл.* Перадае шум ад трэння аднаго прадмета аб другі. *Як то́лькі спаць лажы́цца – шарпу́-шарпу́, наці́рае но́гі.*

**ШНІ́ТКА** *ж.* Снітка. *Шні́тка тъка́я со́пкъя тръва́.*

**ШТЫРНУ́ЦЬ** *зак.* Стукнуць, ударыць. *Не́міц як шты́рніць яе́ прыкла́дам: «Нясі́!».*

**ШЧАМЕ́ЛЬ** *м.* Чмель.

**ШЫ́ПКА** *прысл.* Хутка. *Я шы́пка жа́ла, мно́га нажына́ла.*

**Я́БЛАЧКА** *н.* Адамаў яблык.

**ЯНО́ТА** *ж.* Янот. *Яму́ ш съба́чка яно́ту дъста́ў.*

*П. А. Міхайлаў, С. І. Фацеева*

# ГАВОРЫЦЬ СЕННЕНШЧЫНА

Важнай адметнасцю развіцця беларускай дыялекталагічнай навукі ў другой палове XX ст. з'яўляецца станаўленне і актыўнае развіццё лексікаграфіі, якая ў 80-я гады заслужана вылучылася ў самастойную галіну айчыннай дыялекталогіі. Гэта стала магчымым дзякуючы планамернай і мэтанакіраванай рэалізацыі слоўнікавай праграмы сектара дыялекталогіі Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа АН БССР. У дадзеную працу актыўна ўключыліся не толькі прафесійныя навукоўцы (П. У. Сцяцко, Т. Ф. Сцяшковіч, Т. С. Янкова, Ф. М. Янкоўскі і інш.) і кафедры беларускай мовы ўніверсітэтаў і педагагічных інстытутаў, але і шэраг звычайных аматараў роднай мовы (А. П. Цыхун, Г. Ф. Юрчанка, Р. М. Яўсееў і інш.). У выніку былі выдадзены шматлікія слоўнікі дыялектнай лексікі розных рэгіёнаў нашай краіны. Пры гэтым вяршыняй дадзенай тытанічнай дыялекталагічнай працы, на нашу думку, стала публікацыя пяцітомных «Тураўскага слоўніка» (1982–1987) і «Слоўніка беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча» (1979–1986), а таксама «Лексічнага атласа беларускіх народных гаворак» (1993–1998), якія з поўным правам неабходна адносіць не толькі да лінгвагеаграфічных, але і лексікаграфічных прац своеасаблівага тыпу.

Аднак, нягледзячы на відавочныя поспехі беларускай дыялектнай лексікаграфіі, некаторыя рэгіёны краіны ў гэтым аспекце па-ранейшаму заставаліся недастаткова даследаванымі. Таму ў сярэдзіне 80-х гадоў XX ст. у аддзеле дыялекталогіі было вырашана распачаць працу па стварэнні слоўніка гаворак жыхароў паўднёва-ўсходняй Віцебшчыны. У кастрычніку–лістападзе 1986 г. ажыццёўлены першы выезд у Лепельскі, Чашніцкі, Бешанковіцкі і Сенненскі раёны з мэтай удакладніць межы задуманага слоўнікавага праекта. Тэрыторыя даследавання абрана невыпадкова: у адпаведнасці з матэрыяламі «Дыялекталагічнага атласа беларускай мовы» (1963) і «Лінгвістычнай геаграфіі і групоўкі беларускіх гаворак» (1968–1969) адзначаны рэгіён абмежаваны пучкамі ізаглос моўных з'яў розных узроўняў і ў моўных адносінах утварае кампактную аднародную зону.

Планамернае абследаванне абранай тэрыторыі было распачата з Сенненскага раёна ў сакавіку 1987 г. На працягу 1987–1990 гг. удалося ажыццявіць у гэты рэгіён 8 навуковых экспедыцый групы акадэмічных дыялектолагаў (па дзве кожны год у сакавіку і ліпені месяцы). На жаль, у сувязі з эканамічным крызісам, што ўзнік на пачатку 90-х гадоў у СССР, і распадам самой краіны гэтыя даследаванні былі спыненыя.

Прапануем увазе навуковай грамадскасці невялічкую падборку лексічных рэгіяналізмаў Сенненшчыны, што былі занатаваны ў вышэйназваных экспедыцыях і захоўваюцца ў нашым уласным архіве. Матэрыял падаецца ў спрошчаным графічным запісе, асаблівасці дысімілятыўнага акання і якання паслядоўна адлюстраваны ў прыкладах.

**АББЯЛІ́ЦЬ** *зак.* Аблупіць, зняць скуру. *Каро́ву, аве́чку зарэ́заў, а тады́ аббялі́ў.* Гарадзец.

**АБЛО́Г** *м.* Паляна ў лесе. *Былі́ абло́гі сяро́д ле́су, пашчі́ чы́ста, мъладзёж на Купа́ла там гуля́ла.* Рэчкі.

**АБЯСЦІ́ЦЬ** *зак.* Паабяцаць. *Ім абясці́лі тут ко́лькі бу́льбы.* Лeснікі.

**АДЗЕ́РЖАЦЬ** *зак.* Затрымаць, запыніць. *А ў Лук'я́наві паліца́яў адзе́ржалі і каро́ў атнялі́.* Запруддзе.

**АПО́ХНУЦЬ** *зак.* Апухнуць. *Гарэ́лкі вы́піў і да ве́чъра апо́х.* Багданава.

**АПСУ́НУЦЦА** *зак.* Састарэць, саслабець. *Я ж ужо́ апсу́нулъся, во́чкі маі́ ня ві́дзюць.* Дольдзева.

**АРАШО́К** *м., памянш.* Арэшак. *Со́нца, со́нца с тарэ́лачку, зъкаці́ся за е́лачку, со́нца, со́нца з араш́о́к, зъкаці́ся за лясо́к* (прыгаворваюць, калі колюць свіней). Нямойта.

**АСІГНАВА́ЦЦА** *незак., абрад.* Ахвяраваць. *На́да асігнъва́цца – пра́сці, ткаць, здзе́лаць за ноч і ў цэ́ркву зане́сці* (традыцыйны звычай ахвяравання ў час эпідэміі). Аляксандраўскі.

**АСТРО́ЎКІ** *мн.* Пярэплат. *Гаро́х касі́лі, наб'ю́ць гэ́тых астро́вак і су́шуць. У нас гаро́х у астро́ўках склъда́лі.* Гарадзец.

**АТ** *прыназ.* З. *Учо́ра ат ра́ння пъка́звълъся ня ду́жа, а пато́м паго́да была́ і лю́дзі се́на сушы́лі.* Багданава.

**АТКАЗА́ЦЬ** *зак.* Завяшчаць. *Ты мне хоць што пе́рад сме́рцю аткажы́!* Рэчкі.

**АТКАЛО́ЦЬ** *зак.* Уратаваць, вылечыць уколамі. *Цяпер урачы́ атко́люць, рэ́тка хто ўміра́е.* Багданава.

**АТРАЗА́ЦЬ** *незак.* Зрэзваць, касіць. *А тады́ атръза́юць куркуру́зу і дзе́лаюць сіна́ж.* Запруддзе.

**АТСА́ДЖВАЦЬ** *незак.* Засаджваць асобныя лапіны. *Лю́дзі атса́джвалі бурука́мі бу́льбу.* Запруддзе. *Бу́льба вы́мікла, прышло́ся атса́джваць.* Багданава.

**АТУШЫ́ЦЬ** *зак.* Патушыць, затушыць, пагасіць. *Пъка́ яго́ атушы́лі, на во́сімдзісят працэ́нтаў згарэ́ў і памёр.* Ракаў-Засценак.

**БАСЦЯ́ЦЦА** *незак., экспр.* Хадзіць без работы, лындаць. *Бъсця́цца па лю́дзях – што гэ́та за рабо́та.* Багданава.

**БЁРНА** *н.* Бервяно. *Но́гі там, што бёрны былі́!* Запруддзе.

**БУЗА́** *ж.* Смецце. *Бо́лей нядзе́лі ні міла́, буза́ ў ха́ці.* Леснікі.

**ВАР** *м.* Кіпень. *Ва́рам пъзъвары́лі ніб́ыта францу́заў, але́шнік на тых кургъна́х расце́ць.* Чуцькі.

**ВЕ́РНА** *прысл.* Мусіць, відаць. *К нам сюды́ ве́рна студэ́нтаў пасе́люць, ха́ту наво́дзюць.* Багданава.

**ВІТКАВА́НЫ** *прым.* Перавіты (пра агароджу). *Іна́ ш ні віткъва́нъя гэ́тъя згаро́да, іна́ ш прыбі́та.* Торбінка.

**ВО́БАЎ** *м.* Абутак. *І во́бъва ні было́, ла́пці плялі́.* Багданава.

**ВО́БЖЫ** *мн.* Аглоблі ў сасе. *Дзве до́ўгія жардзі́ны зъпръга́ць къня́ ў сасе́ во́бжы зва́лісі.* Гарадзец.

**ВО́ШТА-НІБУ́ДЗЬ** *займ.* Што-небудзь. *Ён такі́ жа́дны на во́шта-ніб́удзь.* Запруддзе.

**ВУЖА́КА** *ж.* Гадзюка. *Узіла́ къчаргу́ і пор у яе́, ду́мъла вужа́ка.* Багданава.

**ВУЖАЧО́НАК** *м.* Дзіця гадзюкі. *Трына́ццацъ вужачо́нкаў было́ ў вужа́кі.* Багданава.

**ВЫ́ГЛЯДЫ** *мн.* Агледзіны. *Ба́цька ў вы́гляды прыіжджа́ў, такі́ пъля́к!* Рэчкі.

**ВЫХА́ЖАВАЦЬ** *незак.* Выходзіць. *Дым праз дзве́ры выха́жъваў у чо́рнай ба́ні.* Нямойта.

**ГАЛУБІ́ЦЦА** *незак.* Кахацца. *Ла́дна жыву́ць, як галубы́ галубя́цца.* Багданава.

**ГАНЧА́РНЯ** *ж.* Ганчарны горан. *Так тро́шку во́даль у яго́ гънча́рня была́.* Апечкі.

**ГАРЛА́НАМ** *прысл.* Узор пры вязанні. *Яшчэ́ ні ра́зу ні віза́ла гърла́нам.* Леснікова.

**ГНАЁВІКІ** *мн.* Калёсы для вывазу гною. *Гной на гнаёвіках во́зюць, скіда́юць ку́чкамі на по́лі.* Гарадзец.

**ГРАБІ́ЛНА** *н.* Грабільна. *Грабі́лна і брусо́к у гра́блях.* Гарадзец.

**ГУСЁНАК** *м.* Гусяня. *Крэ́пкі, харо́шы гусёнак, бальшы́, і машы́на забі́ла.* Багданава.

**ГЭ́СТЫ** *займ.* Гэты. *Мы там жылі́ на ху́тары, але́ з гэ́стае дзярэ́ўні.* Міцюкова.

**ДАБРО́** *н., зб.* Збожжа. *У ёўні то́пюць і су́шуць дабро́, жы́та ці ячме́нь, а по́тым мало́цюць.* Запруддзе. *Каб у на́шым дабры́ кало́ссе вяло́ся і на́шым мълады́м хърашо́ жыло́ся* (пажаданне на вяселлі). Багданава.

**ДАКАРЭ́ЦЬ** *зак.* Дажыць, даіснаваць. *Нядо́ўга наш век тут жыць, не́ік дъкарэ́ім.* Марозаўка.

**ДАЦЬ** *зак.* Даць. *Каб табе́ даў Бох у ру́чкі, у но́жкі і ў жывато́к тро́шкі* (пажаданне дзіцяці). Багданава.

**ДЗІРГАНУ́ЦЬ** *зак.* Праліцца, пайсці (пра дождж). *До́жджык, до́жджык, дзіргані́, ба́баў с по́ля пръгані́!* (дзіцячы жарт). Нямойта.

**ДЗІЎБА́НЫ** *дзеепрым.* Выдзеўбаны. *Каро́мысла с пле́чкамі дзіўба́нае, с кало́дзізя ваду́ но́сюць.* Каралевічы.

**ДЗІЦЁНАК** *м.* Дзіця. *Ваду́ ба́пка на за́хат со́нца ліла́, як дзіцёнка пакупа́іць.* Багданава.

**ДЗІШАВЫ́** *прым.* Танны, недарагі. *Была́ ш дзішъва́я гарэ́лка, ні тъка́я, як за́рас.* Чуцькі.

**ДО** *прысл.* Досыць, дастаткова. *До мне ўжо гадо́ў, уміра́ць ні сты́дна.* В. Азярэцк.

**ДРАЎНІ́К** *м.* Дрывотня. *У драўнікý сухі́я дро́вы ліжа́ць.* Серкуці.

**ДРУГІ́** *прым.* Іншы. *У Ле́пілі зусі́м до́жджу ні было́, як другі́ край.* Запруддзе.

**ДУРО́НЫ** *прым.* Свавольны (пра дзіця). *Ай, ты дуро́нъя, Ка́ця, ба́луісся і ба́луісся.* Торбінка.

**ДУША́ЦЦА** *незак.* Клясціся. *Душа́юся, што ніч́ога ня дзе́лъла, ні бра́ла і рук ні прыклъда́ла!* Багданава.

**Ё.** Ёсць. *У дзярэ́ўні ё сваё, то зьясі́, а німа́ – то не.* Гарадзец.

**ЁСІТКА.** Ёсць. *Ёсітка такі́я ха́ты, што ў іх ні ро́ду, ні пло́ду.* М. Азярэцк. *Не, уважэ́ніе ёсітка.* Ульянавічы.

**ЁСТУЛЬКІ** *прысл.* Столькі. *Хоць ёстулькі скъза́ла, і то хърашо́!* Багданава.

**ЖА́БІЦА** *ж.* Рэгулятар камянёў у жорнах. *А як апу́сціш жа́біцай ка́мінь, тады́ змало́ць не́ік.* Запруддзе.

**ЖВАЦЬ** *незак.* Жаваць. *Жыві́ і хлеп жві!* (прымаўка). Багданава.

**ЖЫГА́ЛА** *н.* Джала. *А жыга́ла ў въдня́ во тут, як ужа́ліць жыга́лам!* Серкуці.

**ЖЫ́ЛЫ** *прым.* Карэнны жыхар, тубылец. *Гэ́та на́да, сыно́к, кап тут хто жы́лы быў.* Буй.

**ЖЫЦІ́НА** *ж.* Адно зерне жыта. *Адну́ жыці́ну ўкі́неш, а ко́лькі адро́сткаў іна́ дасць!* Самсоны.

**ЗАБУРЫ́ЦЦА** *зак.* Разбурыцца, разламацца, рухнуць. *Ле́тась узіла́, сыно́к, і пе́чка забуры́лъся.* Буй.

**ЗАВАЛІ́ЦЦА** *зак.* Паваліцца. *А я ні магу́ так стъя́ць, каб ні зъвалі́цца, так нагну́лъся на шчыке́т.* Дольдзева.

**ЗАВУЧА́ЦЦА** *незак.* Пачынаць вучыцца, асвойваць што-н. *Завуча́лісі ад чацвёртъга кла́са танцъва́ць.* Каралевічы.

**ЗАВЯДЗЁНКА** *ж.* Звычка. *Тъка́я зъвядзёнка была́, кап крапчэ́й бэ́лькі трыма́лісі, тра́му кла́лі.* Гарадзец.

**ЗА́ГАВІНЫ** *мн.* Свята, якое адзначаецца 21 лютага. *Пе́ршая нядзе́ля пъсля́ за́гавін – збо́рніца.* Міхнава.

**ЗАЛІВЕ́НЬ** *м.* Лівень. *Го́спадзі, пра́ма, ка́жам, пръръва́лъся не́ба, такі́ заліве́нь!* Міцюкова. *Чаго́ ш такі́я заліўні́ ста́лі йці, іллець, іллець, і кънца́ німа́ і кра́ю.* Ракаў-Засценак.

**ЗАЛУЖО́ННЫ** *дзеепрым.* Сеяны, не дзікарослы. *А ціпе́р залужо́нную траву́ цімафе́еўку се́юць.* Багданава.

**ЗАПРО́ШЛЫ** *прым.* Які папярэднічаў мінуламу; пазамінулы. *Запро́шлы гот я́блык было́ – сукі́ лъма́лісі.* Гарадзец.

**ЗАПУ́ТНЫ** *прым.* Закінуты, які знікае. *Расхо́дна – тъка́я запу́тнъя дзярэ́ўня, там мо́жа пяць хъзя́інаў жыве́ць.* Нямойта.

**ЗАПЯТЛІ́ЦЦА** *зак.* Трапіць у пятлю. *За́іц зъпятлі́ўся, я яго́ нагóю – і во прынёс.* Рэчкі.

**ЗАРАДЗІ́ЦЬ** *зак.* Урадзіць. *Пасе́юць жы́та – адзі́н бур'я́н заро́дзіць, нія́кай по́льзы с таго́ бало́та.* Ракаў-Засценак.

**ЗАСІПЕ́ЦЬ** *зак.* Зашыпець. *Вуго́ль атва́ліцца ў ваду́ і засіпі́ць.* Гарадзец.

**ЗАТАПІ́ЦЦА** *зак.* Утапіцца. *Мужы́к у адно́й зътапі́ўсі.* Каралевічы. *Не́хта спіхну́ў ло́тку ў во́зіра, іна́ і зътапі́лъся; дзе́ці ве́рна!* Багданава.

**ЗАЮРЫ́ЦЬ** *зак.* Захацець, закарцець. *Гады́ чаты́ры пажыла́ ў мяне́, а тады́ заюры́ла дамо́ў.* Рэчкі.

**ЗБО́РНІЦА** *ж.* Свята-кірмаш у апошнюю нядзелю перад Вялікаднем. *Пъръся́т вязу́ць пръдъва́ць на збо́рніцу, іна́ пі́рат Вялі́каннем бува́іць.* Міцюкова. *На збо́рніцу пае́халі на бъза́р, въда́ разлі́лася, дае́хаць ня мох.* Міхнава.

**ЗБУРЫ́ЦЬ** *зак.* Разбурыць. *Як збуры́лі цэ́ркву, так я і не была́.* Чуцькі.

**ЗДЗЕЦЬ** *зак.* Зняць, распрануцца. *Здзень гэ́ты, што, німа́ больш піджако́ў?* Рэчкі.

**ЗІ́КАЦЦА** *незак.* Гізавацъ. *Каро́ва зі́каіцца, хвост на пле́чы і ляці́ць у хлеў.* Серкуці.

**ЗІКУ́Н** *м.* Гіз. *Зікуны́ нъпа́лі, яны́ то́жа ду́жа кусалі каро́ў.* Жохава. *Зікуны́ пра́ма на пчалу́ пахо́жы, жыву́ць за ко́жай, чо́рныя.* Там жа.

**ЗМАГЧЫ́СЯ** *зак.* Стаміцца, аслабець. *Я гадо́ў дзе́сіць мълако́ вазі́ў, а тады́ змо́хся.* Рэчкі.

**ІГЛІ́ЦА** *ж.* Адзін з двух брусоў, да якіх прыбіваюцца дошкі на дзвярах. *До́скі сыглі́чываюць і іх называ́юць іглі́цы.* Міцюкова.

**І́ННЫ** *займ.* Іншы, некаторы. *А і́нны сі́льна баі́цца хо́ладу.* Торбінка.

**КАГА́Л** *м.* Група людзей. *Къга́л стъя́ў там і сълда́та ўхапі́лі, а на трэ́ці дзень прывялі́ на то́е са́мае ме́ста.* Запруддзе.

**КАЗА́** *ж.* 1. Сажань. *Як ста́ну казо́й ме́рацъ, так лісапе́дам ні даго́ніш.* Града. 2. Дзіцячыя саначкі-палазы з дроту. *Дзе́ці з гары́ на казе́ кътаюцца, с про́вълакі рабі́лі.* Міцюкова.

**КА́ЛА** *прыназ.* Каля. *Я ка́ла сваёй ма́ткі ні вучы́лъся, а ка́ла людзе́й.* Чуцькі.

**КАЛАНУ́ЦЬ** *зак.* Страсянуць, скалануць. *Къланўла куст калі́ны, а ат яе́ па́чкамі мя́тлікі.* М. Азярэцк.

**КАЛІ́-ТА** *прысл.* Некалі, калісьці. *Калі́-та ш і мы былі́ мъладэ́і, да і рабо́талі ш як!* Ракаў-Засценак.

**КАЛО́ЦЦА** *незак.* Бадацца. *Кало́ўся бык, баб ні любі́ў.* Запруддзе.

**КАЛТЫХА́ЦЬ** *незак.* Ісці. *Пе́шкі калтыха́іш да До́льдзева, а каб аўто́бус хадзі́ў, зае́хъла п.* Торбінка.

**КАМЯ́ГА** *ж.* Лодка, выдзеўбаная з кавалка дрэва. *Къмя́га заве́цца ры́бу лаві́ць, а з до́шчак – ло́тка.* Багданава.

**КАПАЦЕ́ЛКА** *ж.* Капцёлка. *А я ўро́кі вучы́ла пры къпаце́лцы.* Багданава.

**КАПТУ́ШКА** *ж.* Капцёлка. *Капту́шка – буты́лъчка, ссу́чъна кудзе́лі, у кърасі́н абмо́чъна і гары́ць.*

**КАПЯ́К** *м.* Узгорак, пагорак. *Там чэ́разь па гэ́тых гъра́х стъя́лі къпякі́.* М. Азярэцк.

**КАРАХВА́ШКА** *ж.* Двухместная каляска на рэсорах, зробленая на аснове калёс. *Бува́ла е́дзіць на кърънхва́сцы ў Се́нна.* Сукрэмна.

**КАСЦЁР** *м.* Брыца, курынае проса. *Жы́та, пшані́ца – зъграні́ца, ячме́нь, аве́с – МТС паве́с, а касцёр з засе́ку смяе́цца, што калхо́зу зъстае́цца.* Кляпчэва.

**КАЦЮ́Х** *м.* Калода. *Ако́нцы ў ку́рнай ха́ці затыка́лі кацюхо́м; кусо́к дзе́рърва атрэ́жуць – і такі́ кацю́х.* Гарадзец.

**КАШАЛА́ПЫ** *прым.* Касалапы. *І чъла́ве́к жа быва́іць къшъла́пы, калі́ но́гі так у ку́чу.* Буй.

**КВАСЬ** *ж.* Кіслата. *Паку́ль дзе́шка квась сваю́ во́зьме!* Аляксандраўскі.

**КОМ** *м.* Ком, камяк. *Ма́сла късма́мі, каб і нам дъва́лі* (пажаданне, якое прамаўляецца госцем, калі гаспадары б'юць масла). Каралевічы.

**КРА́МНІЦА** *ж.* Прадаўшчыца. *Іна́ кра́мніца тъка́я.* Падворыца.

**КРУПІ́НА** *ж.* Крупінка. *Ані́ хле́ба, ні крупі́ны, пъцця́гне́цца пуп да спі́ны* (жарт). Леснікі.

**КРУЦЁЛКА** *ж., экспр.* Здрадлівая, няверная жанчына. *Мушчы́на быў ці́хі, харо́шы, а іна́ была́ круцёлка.* Запруддзе.

**КРУШ** *м.* Гліністая глеба. *Там зве́рху круш, зімля́ тъка́я, а пад ні́зам – глі́на.* Кавалі.

**КРУША́К** *м.* Тое ж, што і **КРУШ**. *Як паго́да, то круша́к ро́дзіць, а як дошч – ні паро́дзіць.* Кавалі.

**КУКШЫ́Н** *м.* Збан. *Цэ́лы кукшы́н яе́ц назбіра́ла.* Расвет.

**КУЛЬДА́ЦЦА** *незак.* Куляцца, перакульвацца. *Як пе́ршы гром, кульда́юцца тры разы́. Кульда́цца на́да іці́ на лух.* Запруддзе.

**КУТ** *м.* Покуць. *До́браму чъла́ве́чку хърашо́ і ў запе́чку, а блъгацэ́ дрэ́нна і на куце́* (прыказка). Леснікова.

**ЛА́ВАЧНЫ** *прым.* Крамны, куплёны. *Не было́ ла́въчнъга ніч́ога, усё свае́.* Цесішча.

**ЛА́ДНЫ** *прым.* Добры. *Па́ра ла́днъя, жыву́ць ла́дна, як галубы́ галубя́цца.* Багданава.

**ЛАЗҐУ́Н** *м.* Вылушчаны арэх. *Арэ́хі, като́ры палу́шчуцца, лазґуны́. Ка́жуць, пъръся́ты як лазґуны́.* Каралевічы.

**ЛА́ЙБА** *ж.* Параход. *Къгда́-та ла́йбы па ёй хадзі́лі, а цяпе́р пъзърасло́.* Міхнава.

**ЛА́ТКА** *ж.* Аладка. *Лі́пніку нарву́ць, насу́шуць, пътаўку́ць і ла́ткі пяклі́, і е́лі.* Самсоны.

**ЛАХДАРЫ́** *мн., экспр.* Адзенне. *Скарэ́й накі́нула лъхдары́ і пъшла́.* Ульянавічы.

**ЛАЦВЕ́Й** *прысл.* Лепш. *Цяпе́р лацве́й рабо́тать у калхо́зі.* Града.

**ЛЕ́ТНІК** *м.* Летняя дарога праз балота. *Наўпрамку́ ле́тнікам у Замо́шша ня про́йдзіш.* Ульянавічы.

**ЛУСКАНО́К** *м.*: *як лускано́к.* Укормлены, гладкі, прыгожы (пра парася). *Во які́я харо́шыя пърся́ткі, як лусканкі́!* Леснікі.

**ЛУ́ТКІ** *мн.* Дзвярныя вушакі. *Лу́ткі яло́выя ро́бюць, з бярэ́зніку ш ня бу́дзіш рабі́ць.* Міцякова.

**ЛЯХА́** *ж.* Града. *На ляхе́, што пасо́дзіш, то й расце́ць.* Торбінка.

**ЛЯШЧЭ́ЎНІК** *м.* Арэшнік. *Схо́дзіць у лес, ссячэ́ць ляшчэ́ўніку і зро́біць ро́звіны.* Гарадзец.

**МАДЗЕ́ЦЬ** *незак.* Жыць дрэнна, абы як. *Купі́ў хацёнку і мадзе́ў у ёй, а цяпе́р памёр.* Ульянавічы.

**МА́ІНКА** *ж.* Бярозавая галінка з упрыгожання на Сёмуху. *Тэй ма́інкай выгъня́юць каро́ву ў по́ле.* Запруддзе.

**МАСКА́ЛЬ** *м.* Старавер. *У мъскалёў і ръзгаво́р ні такі́, як наш.* Івоні.

**МАЎДУ́ЦЬ** *м.* Маўклівы, нямы чалавек. *Пыльным мяшко́м уда́раты, маўчы́ць як маўду́ць.* Багданава.

**МІТЛА́** *ж.* Мятлюг (расліна). *Радзі́, Бо́жа, с къніца́ ў кане́ц мітла́, зване́ц* (праклён). Нямойта.

**МО́ЎЧАЦЬ** *незак.* Маўчаць. *Хто ўмеў, той пеў, а хто ні ўмеў, той мо́ўчаў.* Чуцькі.

**МУЧЫ́НА** *ж., экспр.* Мука. *Ві́га – гэ́та ж ні гніла́я бу́льба, усё ікая мучы́на, мало́лі і е́лі.* Чуцькі.

**МЯЧЭ́ЎНІК** *м.* Сіт. *Мячэ́ўнік рва́лі на бало́ці і плялі́ хамуці́ны. Плату́ць пляце́нь такі́ з мячэ́ўніку.* Гарадзец.

**НАВЕ́СЦІ** *зак.* Адрамантаваць, паправіць. *Сын прые́дзіць і нъвядзе́ць варо́ты. К нам сюды́, ве́рна, студзе́нтаў пасе́люць, ха́ту наво́дзюць.* Багданава.

**НАЛЕ́ЦЦЕ** *н.* Будучы год. *Мо́жа ўжо да нале́ццямпамру́.* Алёхнава. *Жыла́ю табе́ зо́лъта бо́чку, а каб к нале́ццю сы́на і до́чку!* (вясельнае пажаданне). Багданава.

**НАРА́ВІЦЬ** *незак.* Падабацца. *Е́слі ў каго́ не́ік убіра́ць, то нъйма́й за свае́ гро́шы, я нъра́віў гэ́та.* Кляпчэва.

**НЕ́МА** *прысл.* Моцна, гучна, з усіх сіл. *Каро́ва не́ма раве́ць, як до́йдзе да ха́ты.* Каралевічы.

**НЕМУДРА́ШЧЫ** *прым.* Неразумны; псіхічна хворы. *Ё немудра́шчы сын адзі́н.* Кавалі.

**НІ́ВА** *ж.* Ніва. *На вяку́ як на даўге́й ні́ве* (прыказка). Ульянавічы.

**НІНАЧЫНА́ТЫ** *прым.* Непачаты, цэлы. *Бутылка ма́сла ніначына́тъя стаі́ць.* Ульянавічы.

**НЯЛЮ́БА** *прысл.* Непрыемна, непрыгожа; агідна. *Ду́жа нялю́ба, як ба́ба вып'е́ць.* Багданава.

**ПАБУДЗЯ́ЎКА** *ж.* Жанчына, якая скасавала шлюб. *Сыно́к, сыно́к, мо́жа до́ля твъя́ тъка́я, дзе ікая пабудзя́ўка, – усё тва́е.* Кляпчэва.

**ПАВЕ́ТКА** *ж.* Павець. *Ско́лькі ні жыві́: паве́тка – ні ха́тка, свякро́ўка – ні ма́тка, мътра́с – ні паду́шка, а няве́стка – ні дачу́шка* (прымаўка). Каралевічы.

**ПАВЫ́ІХАЦЬ** *зак.* Павыязджаць. *Усе́ дзе́ці з Іво́нь павы́іхалі.* Івоні.

**ПАВЯ́ТЫ** *прым.* Завялы. *А я гляджу́ і бо́шкаю: ляжы́ць та́я куркуру́за пъвя́тъя.* Запруддзе.

**ПАЛА́НАЧКІ** *мн.* Начоўкі для палання. *Такі́я пъла́начкі з дзе́ръва дзе́лаюць, кары́цца тако́е, і пъла́юць.* Запруддзе.

**ПАЛЯНЕ́ЦЬ** *зак.* Зленавацца. *Дзе́ці ўжо пълянелі ў го́радзі.* Запруддзе.

**ПАНАЛІ́ЦЬ** *зак.* Паналіваць. *Зва́рыць суп і пъналле́ць у спарышкі́.* Запруддзе.

**ПАПЕ́РАДУ** *прысл.* Перш, спачатку. *Ты схадзі́ папе́раду на хаўту́ры, а я по́тым.* Ульянавічы.

**ПАРАЗБУРЫ́ЦЬ** *зак.* Разбурыць. *Мно́га было́ цэ́ркваў, так іх жа пъразбуры́лі.* Чуцькі.

**ПАСЕ́Ў** *м.* Мінеральнае ўгнаенне. *А пасе́ву ско́лькі гэ́тъга піраелі, ім салі́лі е́жу.* Самсоны.

**ПАСКАННІ́** *мн.* Мужчынскія асобіны канапель. *Кано́плі ё і пъсканні́, яны́ цвіту́ць і пусты́я, іх адзе́льна выбіра́юць.* Леснікова.

**ПАСО́РЫЦЬ** *зак.* Згубіць. *Ба́ба пасо́рыла дакуме́нты свае́, німа́ нідзе́.* Торбінка.

**ПАТРА́ПІЦЦА** *зак.* Удацца. *Не́ік ні пътра́пілъся ёй жызнь, разышлі́сі.* Ракаў-Засценак.

**ПАТСМЕ́ЦІННЕ** *н.* Адходы пасля ператоплівання масла. *Ма́сла саб'ю́ць, пірато́пюць, і тое, што астае́цца, патсме́цінне заве́цца.* Кляпчэва.

**ПАТТО́ПА** *ж.* Тое, чым распальваюць дровы; распал. *Ма́ма, дай мне патто́пу.* Міцюкова.

**ПАЎДЗЁН** *м.* Апоўдні. *Руса́лку пяю́ць у паўдзён, іду́ць у жы́та і пяю́ць.* Торбінка.

**ПІ́ПКА** *ж.* Люлька. *Пі́пка гліня́нъя была́, тъба́ку насыпа́лі і куры́лі.* Кляпчэва.

**ПІРАЕ́СЦІ** *зак.* Паесці многа. *Піра́елі ўся́кую халеру.* Самсоны.

**ПІРАКУКУВА́ЦЬ** *зак.* Перакукаваць. *Нъчна́я зязю́ля усі́х піракуку́іць, як ма́тку ні слу́хаў – жо́нку бу́дзіць слу́хаць.* Запруддзе.

**ПІШЧУРА́** *ж.* Пясчаная глеба. *Во, і ка́жыцца пішчура́, а ні расце́ць!* Багданава.

**ПЛІТУХА́ЦЬ** *незак.* Пляткарыць. *По́йдзіш на ву́ліцу і бу́дзіш там плітуха́ць.* Сянно.

**ПЛЯЦЁНКА** *ж.* Вянок цыбулі. *Су́шыш цыбу́лю, а тады́ пляце́ш у пляцёнку.* Леснікова.

**ПО́СПА** *ж.* Вотруб'е. *По́спу палуча́юць для ціля́т.* Торбінка.

**ПРАЖА́ЛІЦЬ** *зак.* Пракусіць. *Пръжа́ліць вадзе́нь, аш кроў по́йдзіць.* Серкуці.

**ПРАЗВА́ННЯ** *ж.* Назва. *Сало́ткі руччэ́й – пръзва́ння тъка́я.* Пурплева.

**ПРАТА́ЛКА** *ж.* Праталіна. *Абы́ пърта́лкі ста́лі – буслы́ яўля́юцца.* Чуцькі.

**ПРАТУ́ХАВАЦЬ** *незак.* Псавацца, станавіцца непрыгодным (пра ваду ў калодзежы). *Пратýхъваіць въда́ ў усе́ткі, іна́ яе ні выбіра́іць.* Кляпчэва.

**ПРО́ГЛАПКА** *ж.* Палонка. *Ранёй про́глапку ў лёдзі прасіка́лі і пълъска́лі бяллё.* Торбінка.

**ПРЫ́ЗВІШЧА** *н.* Мянушка. *Іна́ ка́ждаму пры́звішча дъва́ла, а цяпе́р умірла́ та́я ба́ба.* Багданава.

**ПРЫЛА́ДЗІЦЬ** *зак.* Прыгатаваць, згатаваць. *А ты ж мне прыла́дзіла е́сці, су́ткі стъя́ла.* Дольдзева.

**ПРЫЯ́ЦЬ** *незак.* Спрыяць; жадаць, зычыць дабра. *Ён ужо ж прыя́іць сваёй сям'і́.* Запруддзе.

**ПЯРНУ́ЦЬ** *зак.* Ударыць (пра маланку). *Гэ́та, верна, пяру́н ляці́ць; ду́маю, мо́жа тут пярне́ць, то хоць жывы́ вы́скачыш.* Торбінка.

**ПЯХЦЕ́ЛЬ** *м.* Сплецены з вяровак мяшок, напханы сенам. *Ся́дзець на пяхце́ль – і мя́кка е́хаць; пудо́ў два се́на ўле́зіць у гэ́ты пяхце́ль.* Гарадзец.

**ПЯ́ЦІРКА** *зб., памянш.-ласк.* Пяцёра. *Было́ пя́цірка гусёнкаў, ды аднаго́ маши́на забі́ла.* Багданава.

**ПЯЮ́ХА** *ж.* Спявачка. *Яны́ такі́я пяю́хі!* Забор'е.

**РАДЗІ́ХА** *ж.* Парадзіха. *Ка́шу пръдаю́ць, а ба́ба тыя гро́шы аддае́ць радзі́хі.* Багданава.

**РАДЗІ́ЦЦА** *зак.* Нарадзіцца. *Не ў той дзень радзі́ўся, каб бъга́тым быць* (прыказка). Кляпчэва.

**РАДО́ЎКА** *ж.* Чарга пасвіць кароў. *Якра́с па́свілі радо́ўку і атлъма́ў на тры ве́нічкі бярэ́знічку.* Міцюкова.

**РАЗА́РВАЦЦА** *незак.* Разрывацца. *На табе́, вяжы́, гэ́та ні́тка не ръза́рваіцца.* Міцюкова.

**РАЗВА́ЖАВАЦЬ** *незак.* Развважваць. *Мех круп мы ў мъгазі́ні ръзва́жъвалі.* Запруддзе.

**РАЗІ́НУЦЦА** *зак., экспр.* Раскрыцца, адкрыцца. *Каб на цібе́ я́ма разі́нулъся* (праклён). Запруддзе.

**РАЛЁВЫ** *прым.* Прызначаны для арання. *Вяро́вачны гуж рабі́лі то́лькі ў ралёвы хаму́т.* Гарадзец.

**РАШШАШЭ́ЦЬ** *зак., экспр.* Разбалавацца (пра дзіця). *Ръшшашэ́ла ты ў дзярэ́ўні, Ка́ця.* Торбінка.

**РО́ЗГАРЫ** *мн.* Апошні дзень Русальнага тыдня, у які неабходна што-небудзь рассячы. *На Ро́згары сяку́ць гале́нь або́ тры лазі́ны.* Торбінка.

**РО́ЗВІНЫ** *мн.* Рэзгіны. *Скосіш там тро́ху і на ро́звінах пъднясе́ш.* Будзішча.

**РУЖАВЫ́** *прым.* Прыродны, дзікарослы (пра сена). *Ружаво́е се́нца дро́бнінькае, гэ́та аве́ччае се́на, паху́чае, як чай.* Багданава.

**РЭЗЬ** *ж.* Сечка. *Рэзь дъва́ў каро́ві, то́лькі тро́шку муко́й пасыпа́ў.* Дольдзева.

**САМАТКА́ЛЬНЫ** *прым.* Даматканы. *Ме́тар мануфакту́ры сто́іў со́рак яе́ц, так съмъткальнае насі́лі.* Кляпчэва.

**СА́МЫ** *займ.* Указвае на крайнюю ступень. *Гэ́та было́ па са́мой во́сіні, як іна́ й жы́ва астъла́ся.* Запруддзе.

**СВЕТ** *м.:* ***свет калі́.*** Вельмі даўно. *Гэ́та даўно́ было́, свет калі́!* Чуцькі.

**СВЕ́ТАЧ** *м.* Лучнік. *Све́тач спецыя́льны быў, зъпа́ліш лучы́ну і ўста́віш у све́тач.* Гарадзец.

**СВО́ЙЛІВЫ** *прым.* Свойскі. *Каціня́ты, ду́мъла, дзі́кія, а яны́ сво́йлівыя, іна́ й съма́ ма́тка была́ харо́шъя, ня дзі́късь.* М. Азярэцк.

**СІ́ЛІЦЦА** *незак.* Вешацца. *Цвяро́зыя яны́ ня сі́люцца, а п'я́ныя, во ско́лькі дурны́х людзе́й на све́ці.* Запруддзе.

**СЛІЖ** *м.* Яшчарка. *Слі́ж то́жа стъра́іцца скарэ́й у ваду́, як уку́сіць.* Жохава.

**СО́СНІК** *м.* Сасоннік. *Казе́йкі* 'масляты' *ужо́ ёсь; як со́снік пъра́дашны, тады́ яны́ расту́ць.* Торбінка.

**СПІЦА́К** *м.* Завостраная палачка для падплятання лапцей. *Спіца́к – ко́стка аве́чъя, кане́ц ацёшуць і ла́пці плету́ць.* Нямойта.

**СТРУ́ЧЧА** *н., зб.* Струкі. *Гаро́х падыміш – стру́ччa ні піралі́чыш.* Каралевічы.

**СТУПЕ́НЬ** *м.* Ступня. *Капы́л на ла́пці з дзе́ръва зрабі́ў як на ступе́нь.* Гарадзец.

**СУДНО́** *н.* Параход. *Ла́йба – гэ́та судно́, як ся́нні пъраходы.* Міхнава.

**СУ́ДЫ** *мн.* Два вядры вады, прынесеныя за адзін раз. *Вады́ прынясу́ с кало́ддца су́ды які́я.* Буй.

**СУ́ЧКА** *ж.* Сука. *Мъя́ су́чка ні за съба́чку* (прыказка; гаворацць пра чалавека, які не карыстаецца павагай). Рэчкі.

**СХАДНЕ́Й** *прысл.* Зручней, лягчэй, працей. *От вам е́здзіць чуць схадне́й у къмандзіро́ўку, чым ёй, дзяў́чы́не.* Парэчча.

**СЫГЛІ́ЧЫВАЦЬ** *незак.* Сшываць брускамі дошкі ў дзвярах. *До́скі сыглі́чываюць і іх называ́юць іглі́цы.* Міцюкова.

**СЫТЫ́** *прым.* Поўны, тлусты. *Маі́ ру́кі і з мълало́сці ні сытэ́і, а худэ́і.* Торбінка. *А сытэ́і, зъра́ззі, яно́ты, хоць ты бры́тву на іх тачы́!* Марозаўка.

**СЮСЯ́** *ж.* Грудзі жанчыны; сасок. *Ты зна́іш сюсю́ і ту́ю ня ўсю* (прыказка). Марозаўка.

**ТЛУ́ХАЦЬ** *незак., экспр.* Павольна, з цяжкасцю ісці. *Стары́ ўжо, і ход ня той, тлу́хаіш, як каро́ва та́я.* Запруддзе.

**ТО́Е** *займ.* Так. *А было́ то́е, што бсяко́м тънцъва́лі.* Цесішча.

**ТРАВІ́НА** *ж.* Зёлка. *Так я зна́ю ту́ю траві́ну, а як зваць – забы́лъся.* Чуцькі.

**ТРА́ПІЦЬ** *зак.* Патрапіць. *Як на дух тра́піш, то памо́жыць зъгаво́р.* Багданава.

**ТРУБЁЛКА** *ж.* Трубка, скрутак. *Лі́сце пакруці́лъся ўжо́ ў трубёлку, шо ты хоч?* Кавалі.

**ТХОР** *м.* Шашок. *Тхаро́ў мно́га ё, гэ́тых хоць адба́ў.* Марозаўка.

**УГО́ТКІ** *мн.* Гадавіна; памінанне памерлага. *Дзяды́ і ўго́ткі для свае́ гло́ткі* (прымаўка). Аляксандраўскі.

**УЗЛЕ́ЗЦІ** *зак.* Залезці, узабрацца. *Не, ня ўзле́зіць кот туды́, высо́ка.* Чуцькі.

**УЗРАСЦІ́ЦЬ** *зак.* Вырасціць, выгадаваць. *Дзяце́й узрасці́ла, а по́мачы ні ат ко́га німа́.* Ракаў-Засценак.

**УКАХА́ЦЦА** *зак.* Закахацца. *Ні ў мълъдзя́ла, дак у свата ўкъха́іцца.* Леснікі.

**УЛАВІ́ЦЬ** *зак.* Злавіць. *Ай, кот, што ён за бума́гай уло́віць мы́шыну?* Чуцькі.

**УЛО́ННЕЙКА** *н., памянш.* Абярэмак дроў. *Прынясі́ мне анно́ ўло́ннейка дроў.* Самсоны.

**УПО́МНІЦЬ** *зак.* Запомніць, запамятаць. *Ну, забува́іш, дзе тут яго́ упо́мніш усё.* Міцюкова.

**УРАСКІ́Д** *прысл.* Спосаб ворыва ў загоны з разорай між імі. *Гаро́д у мяне́ ні́скі, я яго́ ўсё ўрэ́м'я ўраскі́д ару́.* Дольдзева.

**УРО́ДНЫ** *прым.* Урадлівы. *Вып'ем усе́ сто́я, каб было́ жы́та ўро́днае, і мъладым жыло́ся, і было́ся, і вяло́ся як стру́чча ў гаро́сі* (вясельнае пажаданне). Каралевічы.

**УСПА́СЦІ** *зак.* Напасці, накінуцца, насварыцца. *Як успаду́ на іх абаі́х калі́.* Кляпчэва.

**УСЯДНО́** *прысл.* Усё роўна. *А жукі́ ўсядно́ сёліта нъпладзі́лісі.* М. Азярэцк.

**ХАРЧЫ́ЦЦА** *незак.* Харчавацца. *Я ха́ты ні жале́ю, але́ Вы са́мі харчы́цеся.* Запруддзе.

**ХАЦЁНКА** *ж.* Невялікая несамавітая хата. *Гадо́ў два́ццаць, як я пастро́іў гэ́тую хацёнку сваю. Мёртвъя стаі́ць та́я хацёнка, ніхто́ ў ёй не жыве́ць.* Латыгала.

**ХЛЕБ** *м.* Збожжа. *Ні радзі́ўся хлеб, а радзі́ўся такі́ касцёр.* Багданава.

**ХУДЭ́Й** *прым.* Худы. *Яго́ хоць ты ў за́секу садзі́, ён худэ́й і худэ́й!* Багданава.

**ХУТУРШЧЫ́К** *м.* Хутаранін. *Мы ўсе́ хутуршчыкі́.* Кімейка.

**ЦАПКІ́** *мн.* Насціл з дошак у лазні. *Лесь на цапкі́, а я табе́ бо́лі ду́ху пъдда́м.* Нямойта.

**ЦАЦЭ́НЬ** *м.* Праснак. *Цацэ́нь на́да мясі́ць, каб ён густы́ быў як хлеп.* Жохава.

**ЦВІСЦІ́** *незак.*: ***цвісці́ як ка́ша.*** Квітнець багата, густа, пышна. *Цвіце́ла я́блыня як ка́ша, аж бе́ла, а пато́м апсы́пълься.* Галашчакіна.

**ЦЕ́ПІРСЯ** *прысл.* Вельмі даўно. *Я ўжо́ забы́лься – гэ́та ш це́пірся было́.* Чуцькі.

**ЦІРАБНУ́ЦЬ** *зак.* Моцна пайсці (пра дождж). *Як цірабну́ў лі́вень – страхо́цце.* Кавалі.

**ЦЯКУ́Н** *м.* Сыпучы пясок. *Такі́ пясо́к – цяку́н, ме́ленькі-ме́ленькі, як пыль ця́нецца.* Кляпчэва.

**ЦЯ́ПКА** *ж.* Лыч у парасяці. *Ат суро́цы трэ́ба ў забі́тъга пъръся́ці адрэ́заць ця́пку і пралі́ць ваду́.* Багданава.

**ЦЯЦІ́ЎЕ** *н., зб.* Бульбоўнік. *За нядзе́лю цяці́ўе звалі́лься, не́шта пъўрадзі́ла бу́льбі.* Леснікі.

**ЧАПА́ЦЦА** *незак.* Чапляцца, зачэпліваццa. *Там у лу́ткі дзе́лаюцца заве́сы і чъпа́юцца дзве́ры.* Леснікова.

**ЧАЦВІРГАВА́ЦЬ** *незак.* Пасціцца. *У чацве́р, як пъвячэ́раюць, і да нядзе́лі ні́чо́га ні е́лі, чацвіргъва́лі.* Буй.

**ЧМУРА́** *ж.* Зараснікі. *Пъзърасло́ чмуро́ю ўся́кай, лъза́, бало́та тако́я.* Запруддзе.

**ЧЫМ** *прысл.* Як. *Забы́лъся, гэ́ту гару́ чым заву́ць.* Рай.

**ЧЭ́РАЗЬ** *прысл.* Скрозь. *І от чэ́разь так калі́на аб'е́дзіна.* М. Азярэцк.

**ШАР** *м.* Рад. *Дак збяро́мся во́сім баб, стано́вімся па дзве ў шар, ця́гнем і аро́м.* Гарадзец.

**ШАСЦЁХ** *прысл.* Ушасцярых. *Ні было́ ко́ней, так склъда́ліся па шасцёх і ара́лі.* Запруддзе.

**ШАХА́** *ж.* Пабудова для дроў. *Дро́вы пат шаху́ пълажы́ў.* Серкуці.

**ШПАРО́К** *м.* Рад. *Агуркі́ са́дзім у два шпаркі́.* Торбінка.

**ШУМЕ́ТНЫ** *прым.* Смеццевы, прызначаны для смецця. *На за́хат у шуме́тнае ме́сца высыпа́лі сме́цце ў чы́сты чэ́цвер.* Аляксандраўскі.

**ШЧЫКЕ́Т** *м.* Шчыкет. *Уна́дзілься ку́рыца ў буракі́ праз шчыке́т!* Багданава.

**ШЧЫТ** *м.* Печка. *Шчыт учо́ра ні тапі́ла, цёпла было́.* Торбінка.

**ЯК** *злучн.* Як, калі. *Як пры́дзіць прыка́з – ступа́й ура́с* (прыказка). Нямойта.

**Я́РАЧКА** *ж.* Маладая авечка. *Я́рачка – аве́чъчка, мълъда́я, го́да німа́.* Запруддзе.

*А. Палачыч*

## З НАРОДНАГА СЛОЎНІКА ВЁСКІ ЖОЛКІНА ПІНСКАГА РАЁНА

**АЛЬБЫ́** *часц.* Толькі б. *Ёму альбы найістыса і добрэ поспаты, більш ёму ныц ны трэба.*

**БАНОЧКЫ́** *мн.* Жоўты гарлачык. *Воды стало мало, то й баночкы ны hэтак*[1] *цвытуть.*

**БІ́ДКА** *ж.* Сцяблінка. *З такэю доўhэю і тоўстэю бідкою я зілле шчэ ны бачыла – ужэ, мусытя, някэ новэ насіялосо.*

**БІ́ЛУХА** *ж.* Каўпак кольчаты. *Сымэновыч прыніс цілый кошіль білухэй.*

**БЛОХ** *м.* Блыха. *Мэнэ як блох укусыть, то зразу тэе місцэ опухнэ.*

**БЛЯ́ХА** *ж.* Пасудзіна для выпякання пірагоў і булак. *Зарэ я піду повымываю бляхы да напычу пыроhгіў.*

**БРОДО́К** *м.* Невялікі, звычайна неглыбокі вадаём, багаты на расліннасць. *Ны йды туды, там бродок!*

**БУЛЬБО́ВЫСКО** *н.* 1. Сцябло бульбы. *Тра бульбовыско з поля прыбраты.* 2. Бульбянішча. *Кажуть, шчо помыдоры ны хочуть добрэ росты на бульбовыску, алэ там, дэ булы буракы, я моркву посіяла.*

**БУЯ́Н** *м.* Бык. *Шчэ зроду такоhо вэлыкоhо буяна ў колхозы ны було.*

**БЭ́БЫХЫ** *мн., груб.* Рэчы. *Ныхай забырае свої бэбыхы і йдэ туды, куды хочэ.*

**БЭ́РВА** *ж.* Кладка. *Зарэ пэрэйдэм чырыз бэрву і ўжэ будэм у лісы.*

**БЫ́ЛЛЕ** *н.* Сцябло. *Хороша бульба коло Мартына – былле тоўстэ, зылэнэ.*

[1] Літарай ***h*** перадаецца гук *г* заднеязычны.

**БЫ́ТТЕ** *мн.* Тое ж, што і **БЫ́ЛЛЕ.** *Куды ты hэтэ бытте понысэш?*

**БЫЦКЫ́** *мн.* Кветкі вольхі. *Ой, шчо быцкіў на ольшыны!*

**БЫЧЭ́ЙКА** *ж.* Адтуліна ў жорнах, куды сыпалі збожжа. *Унучко, у бычэйку зірно сып, алэ дывыся ны россыпай.*

**ВІК** *прысл.* Заўсёды. *Мы вік так спымо.*

**ВОРВА́ТЫ** *зак.* 1. Схапіць. *Алы як вона ўспіла ў ёho на ходу тую банку ворваты!* 2. Набыць. *Мосій саму ліпшу дзялку ворваў.*

**ВУЗДЭ́ЧКА** *ж.* Аброць. *Кінь порваў нову вуздэчку.*

**ВЭ́ДЛУК** *прыназ.* У параўнанні з. *Маня вэдлук Олі шчэ молодая.*

**ВЭ́ПРЫК** *м.* Кастрыраваны самец свінні. *До Ганны тыпэр усі поз'їжджалыся – вэпрыка будуть колоты.*

**ВЫБЫРА́ТЫ** *незак.* Вязаць. *hанна так хутко свэдра выбрала, колы й успіла.*

**ВЫДЁН** *прым.* 1. Вінаваты ў чым-небудзь. *То я ж ны выдна, шчо Сірожа з Тэклёю жыты ны хочэ!* 2. Павінны камусьці грошай. *Мосій Толіку hрошы выдён, алы, мусыть шчэ ны оддаў.*

**ВЫЛКО́ВЫСКО** *н.* Дзяржанне ў вілах. *А він так тымы вылкамы махаў, шчо вылковыско пырыламалосо.*

**ВЫРАЧКОВА́ТЫЙ** *прым.* З вялікімі вачыма. *Сірожа ў Мані някый вырычковатый.*

**ВЫРХОЛЁДЫКЫ** *мн.* Малёк. *Ныма рыбы, ныма. Навытя вырхолёдыкы ны плавають.*

**ВЫ́ЧАЎКЫ** *мн.* Мякаць гарбуза. *Маты намышала бульбы, вычаўкиў і понысла свынням.*

**ВЫШЭ́Й** *м.* Віша, старая няскошаная трава. *Артоном усіх побраў вышэй косыты.*

**hАЛАЦУ́Н** *м.* Птушаня без пер'я. *Пытро доўho розглядаў кубло, у якому було п'ять hалацуниў.*

**hАЛАШКОВА́ТЫЙ** *прым.* Прыдуркаваты. *Таня ў Сашы няка hалашковата, чоho він на їій ожыныўса?!*

**hАПЭ́ЛЬКА** *ж.* Пятля. *От хозяін! І hапэлькы ны скрутыть!*

**hАРАБЭ́Й** *м.* Верабей. *Од hэтых hараб'їў ныякоho спасу ныма.*

**ҐАРЫ́ҐА** *ж.* Дурніца. *Ах ты ґарыґа чортова!*

**hАТО́К** *м.* Бервяно з вертыкальна прымацаванымі да яго кіёчкамі, якое служыць для пераходу цераз невялікі вадаём. *Пылып ны знаў, што там е hаток, дай пошоў бродыты.*

**hА́ЎКНУТЫ** *зак.* Сапсавацца. *Тыпэр уранцы у Васыля тілівізор hаўкнуў.*

**hА́ЧКА** *ж.* Матыка. *Там такый бур'ян поріс, шчо й hачкою ты ёго зроду ны высычэш.*

**ҐВОЗДО́К** *м.* Цвік. *Стыпан повісыў шапку на ґвоздок і пошоў у кухню.*

**ҐО́ЛДА** *ж.* Тое ж, што і **ґарыґа**. *Ах ты. Ґолда! Дэ ты смычышса?*

**hОЛОВА́Ч** *м.* Апалонік. *Діты наловылы ў бродку hоловачіў.*

**hОЛОВЭ́НЬКА** *ж.* Абгарэлае палена. *Добрэ зачыны hрубу, а то выпадэ hоловэнька і хата зhорыть.*

**hОЛОСОВА́ТЫ** *незак.* Моцна крычаць. *А чоho ты hэто hаласуеш?!*

**hО́ПНУТЫСА** *зак.* Упасці. *Маня як hопнуласа об лід і ноhу скрутыла.*

**hОРІ́Х** *м.* Арэх. *Таня пошла рваты hоріхы.*

**hОРШКОЛЭ́П** *м.* Ганчар. *hоршколэп ты нышчасный! Тилькы й знаеш свої hоршкы выробляты.*

**hРАБЛЁВЫСКО** *н.* Дзяржанне ў граблях. *Маня hрыбла сіно і поламала hраблёвыско.*

**hРАМІ́ЎКА** *ж.* Кубак. *Дід выпыў hраміўку водкы.*

**hРЫ́ПА** *ж.* Грып. *У його hрыпа. Ны сыды з йім!*

**hУ́СКА**[1] *ж.* Лілея. *Піду hуску зорву.*

**hУ́СКА**[2] *ж.* Засохлае сцябло ў гарбуза. *Кажу ны быры hарбузы за hуску, а то одламнэцца, да hныты будуть.*

**hУ́КАТЫ** *незак., абразл.* П'янстваваць. *Пытро кажон дэнь hукае, скількы тэі водкы можна пыты!*

**hЫЛЯ́РА** *ж.* Лодка. *Шура шчэ ныколы на hыляры ны плавала.*

**hЫ́НЯК** *прысл.* Інакш. *Зачышы косы ніяк hыняк, а то так тобі ны хорошэ.*

**hЫРhЫТА́ТЫ** *незак., груб.* Смяяцца. *А воны hырhэчуть шчо тыі дурні!*

**hЫ́ЧКА** *ж.* Лісце буракоў. *Піду ў буракы – hычкы свынням наламню.*

**ҐЭ́ҐНУТЫ** *зак., груб.* Памерці. *Учора Стыпан ґэґнуў.*

**ДЗВОН** *м.* Звон. *У цэрквы правыцца, у дзвоны б'ють.*

**ДЗЮ́РА** *ж.* Вялікая дзірка. *Подывыся, якую дзюру мышы пройілы у свэдру.*

**ДЗЯ́МКАТЫ** *незак.* Гаварыць абы-што. *Ны дзямкай альбы шчо.*

**ДОПЭ́ТРЫТЫ** *зак.* Дадумацца, дамысліць, здагадацца. *А він думаў, шчо я ны допэтру, шчо тут такэе.*

**ДОТЫНА́ТЫ** *незак.* Дакараць. *Доўho ты мні будэш hэтэ дотынаты?!*

**ДОЎБЭ́НЬКА**[1] *ж.* Палка з тупым канцом. *Дай мні hэту доўбэньку.*

**ДОЎБЭ́НЬКА**[2] *ж.* Някемлівая жанчына. *Ну ты і доўбэнька!*

**ДРОВІ́ТНЫК** *м.* Месца, дзе ляжаць дровы. *Чоho ты поліз у той дровітнык?*

**ДУ́ЖЫЙ** *прым.* 1. Здаровы. *hанна ужэ дужая – на тий ныділі з больніцы выпысалы.* 2. Моцны. *Васыль такый дужый, подывыся, якыі ў ёho плэчы.*

**ДУХ** *м.* 1. Паветра. *hэтой шарык порваный. Бачыш, дух выходыть.* 2. Пах. *Тут такый дух нычоhый – у мынэ зразу hолова заболіла.* 3. Душа. *Я зарэ тобі як дам, то зразу з тыбэ дух выйдэ!*

**Е́ЖЫК** *м.* Вожык. *Діты нашлы ежыка і цілый дэнь ёho мучылы.*

**ЖАРЫ́НА** *ж.* Вугалёк. *Дывыся, коб жарына з пэчы ны выпала.*

**ЗА́ЕДЬ** *ж.* Мошкі, камары, мухі і інш. *Стикы заеді, як тыі коровы выдэржвають!*

**ЗА́hОРОДЬ** *ж.* Агароджанае месца, дзе пасецца жывёла. *Постаўлю корову ў заhородь да пойду hний выкыдаты.*

**ЗАЛІ́ЗКО** *н.* Пастка. *Трэба залізко поставыты, мо, мыш улізэ.*

**ЗАЛІ́ЗО** *н.* Жалеза. *Нашчо тобі һэтэ залізо?*

**ЗАМАНУ́ТЫСА** *зак.* Захацець чаго-небудзь. *Замануласа Тэкля на клубнікы да ўжэ ўсёй һород йімы засадыла.*

**ЗАНЫДУ́ЖАТЫ** *зак.* Захварэць. *Нішчо мій Іван заныдужаў.*

**ЗАПІ́Л** *м.* Падол. *Тэкля нысла цілый запіл яблык.*

**ЗАПОМОҺТЫ́СА** *зак.* Зрабіць што-небудзь сабе на карысць. *Запомоһласа вона тэю копыцою сіна!*

**ЗАПРА́ВА** *ж.* Спецыі, прыправы. *Пойду ў маһазін, якэі заправы куплю.*

**ЗАТЫНА́ТЫ** *незак.* 1. Закрываць фіранкай. *Унучка, ны затынай окна, бо ў хаты будэ тымно.* 2. Замінаць. *Ны затынай мні, я тобі кажу!*

**ЗАХОДЫ́ТЫСА**[1] *незак.* Моцна чагосьці хацець. *А Манька як заходыласа – купы штаны і ўсё!*

**ЗАХОДЫ́ТЫСА**[2] *зак.* Моцна ўзрушыцца. *А чоһо ты заходыўса һэто, һа? Цілый дэнь крычыш!*

**ЗАХОДЫ́ТЫСА**[3] *незак.* Моцна плакаць. *Сіроожка як заходыўса. Цілый дэнь плакаў, шчо цяцьку одобралы.*

**ЗАЧЫЧУ́РЫТЫ** *зак.* Задумаць нешта зрабіць. *Мосій ужэ зачычурыў летнюю кухню робыты.*

**ЗБОБО́ЎЧЫТЫ** *зак.* Пабіць. *Пылып збобоўчыў учора свою Маню аж страх.*

**ЗБЭ́СТЫТЫ** *зак.* Знікнуць. *Колхозныі коровы збэстылы буракы.*

**ЗВЭ́РҺНУТЫ** *зак.* Дачасна ацяліцца. *У сусідкы быда – корова друһый раз звэрһла.*

**ЗДУ́ЖАТЫ** *незак.* Мець сілы. *Я ўжэ ныц ны здужаю, старая ўжэ.*

**ЗЛІ́ЗТЫ** *зак.* 1. Залезці. *Унучка, злізь на піч.* 2. Злезці. *Унучка, злізь з пэчы.*

**ЗРОДУ** *прысл.* Заўсёды. *Оньдэ зроду һрыбы рослы.*

**КАБЛУ́Ч** *м.* Абруч. *Стыпан вэчор каблучі робыў, мусытя, коші плыстымэ.*

**КАЖО́Н** *займ.* Кожны. *Кажон жэ ёһо чыпае!*

**КАКАРУ́ЗЯ** *ж.* Кукуруза. *Тыпэр увэчыры һанна будэ варыты какарузю.*

**КАЛЭ́ВОРОТ** *м.* Калаўрот. *Ны лізь пуд калэворот!*

**КАЛЮ́ҺА** *ж.* Лужына. *На вулыцы посля дошчу стылькы калюһэй стало.*

**КА́ПА** *ж.* Пакрывала. *Капа һэта ўжэ старая, застылы кроваты һынчыю.*

**КАЧАВЫ́ЛО** *н.* Месца, дзе качаўся конь. *Кажуть, шчо по качавылу ны можна ходыты, бо жывіт будэ боліты.*

**КВАЧ** *м.* Пэндзаль. *Рая ўзяла квача і пошла плота былыты.*

**КВЫТО́К**[1] *м.* Кветка, якую чапляюць маладым на вяселлі. *Якый хорошый у тыбэ квыток.*

**КВЫТО́К**[2] *м.* Квітанцыя. *Почтальён забуў даты мні квытка.*

**КІ́ЗКА** *ж.* Конік. *Сіроожка зловыў у траві кізку да һраецца.*

**КІ́МЛЯ** *ж.* Крыга рыбалоўная. *Хлопцы кімлёю рыбу лоўлять.*

**КІШ** *м.* 1. Кош. *Маня прынысла кіш бульбы.* 2. Сплеценая з лазы рыбалоўная снасць. *Ныма рыбы, ныма. Одын онно в'юн у кіш уліз.*

**КНЮТ** *м.* Драўляная частка пугі. *Плётка то ў тэбэ добрая, алы кнют нычоһый.*

**КОЛО́К** *м.* Кіёк, палка. *Пытро ўзяў колка і пошоў у ліс.*

**КОЛОСЮ́Н** *м.* Невялікі шчупак. *Андрэй прыніс з пуўвыдра колосюниў.*

**КОЛЫСНЫ́К** *м.* Воз сена. *Стыпан колыснык сіна прывіз.*

**КОРОҺВЫ́** *мн.* Вялікае царкоўнае палотнішча на дрэўку з выявай святых. *Піп новыі короһвы купыў.*

**КОСНЫ́К** *м.* Стужка. *Маруся зроду ў косы хорошы коснікы заплітала.*

**КОСТЁР** *м.* Сціртa, складзеныя ў доўгую граду дровы. *Пылып за зыму спалыў два кострі дроў.*

**КОСТОМА́ХЫ** *мн., груб.* Ногі. *Прыбыры свої костомахы, а то наступлю!*

**КОСТЫРО́ВА** *ж.* Брыца. *Усёй һород заріс костыровою.*

**КОСТЯ́НОЧКЫ** *мн.* Касцянiцы. *Я ўжэ даўно ў лісы костяночок ны бачыла.*

**КО́СЫ** *мн.* Валасы. *Прыбыры косы з очэй!*

**КОШЛА́ТЫЙ** *прым.* Касматы. *һэто ўжэ такый кіт кошлатый.*

**КРІЛЬ** *м.* Трус. *Стыпан можэ з трыццать кроліў һодуе.*

**КРО́ВАТЫ** *мн.* Ложак. *У хаты стоялы кроваты, засланыі новэю просціною.*

**КРОПЭ́Ц** *м.* Укроп. *Таня прынысла з һорода жмэньку кропцю.*

**КРЫЖО́ВА ДОРО́ҺА**. Скрыжаванне дарог. *На крыжовій дорозы трэба, коб крэст стояў.*

**КРЫШАНЫ́** *мн.* Суп з бульбы. *Маты ўранцы наварыла крышаниў.*

**КУЛЁВЫ́К** *м.* Мяшок бульбы. *Нычоһая тыпэр бульба – з двацчаты соток усёһо нно трыццать кулёвыкіў.*

**КУНДЫ́БЫ** *мн.* Хадулі. *Ты ў һэтых туфлях бы на кундыбах.*

**КУ́ХЛЫК** *м.* Збан. *Маруся прынысла з віранды кухлык молока.*

**КЭ́ДЫСЬ** *прысл.* Калісьці. *Кэдысь ў мынэ буў вэльмы добрый собака.*

**КЭ́ЎЦЯТЫ** *незак.* Есці з неахвотаю. *А хыба ж вона йість – кэўцяе!*

**ЛА́ПЫТЫ** *незак.* Цыраваць. *Мні шчэ штаны лапыты трэба.*

**ЛА́СЫЦА** *ж.* Ласка (жывёла). *У Оліся ў хлыві завылыса ласыца.*

**ЛАХВЫ́НЫ** *мн.* Буякі. *Тыпэр усі жонкы пошлы по лахвыны.*

**ЛЁХ** *м.* Склеп. *У мынэ ў лёху зроду бульба мэрзнэ.*

**ЛЫСТЫ́НА** *ж.* Ліст паперы. *Таня ўзяла лыстыну і стала пысаты пісьмо.*

**ЛЫ́ТКА** *ж.* Галёнка. *Корова ўдырыла Раю прамо ў лытку.*

**ЛЫША́ТЫ** *незак.* Кастрыраваць. *Увэчыры прыйдэ Забурчык поросюкіў лышаты.*

**ЛЯЛЬКЫ́** *мн.* Аер. *Дыўкы полізлы ў воду по лялькы.*

**МАТЭ́РЫЯ** *ж.* Тканіна. *Кэдысь ны було такэі матэрыі – шылы з һынчыі, хушчыі.*

**МЛЫНЭ́Ц** *м.* Блін. *Ніна напыкла млынціў.*

**МО́hЛЫЦЫ** *мн.* Могілкі. *Жонкы пошлы пуд свято моһлыцы прыбыраты.*

**МО́ЗКЫ** *мн.* Мазгі. *Стыпан так міцно ўдырыўса һоловою, шчо думаў, шчо мозкы повылітають.*

**МОЛО́ЗЫВО** *н.* Малодзіва. *Молозыво багато пользітельнішэ за молоко, алы воно ны смачнэ.*

**МОРКА́Ч** *м.* Малады самец авечкі. *Батько тыпэр будэ різаты моркача.*

**МУДРОВА́ТЫСА** *незак.* Сваволнічаць. *Хватыть мудроватыса!*

**МЫЛЬНУ́ТЫ[1]** *зак.* Прамільгнуць. *Нішчо ў нэбы мыльнуло і пропало.*

**МЫЛЬНУ́ТЫ[2]** *зак.* Махнуць нагой. *Васыль як мыльнуў ноһою, то й һоршчыка пырывырнуў.*

**МЫЛЬНУ́ТЫ[3]** *зак.* Упасці. *Сядь, а то зарэ мыльнэш на зэмлю.*

**МЫНТА́** *ж.* Мянташка. *Хлопэц дэсь зһубыў мынту.*

**МЫНТЫ́ТЫ** *незак.* Вастрыць касу мянташкай, бруском. *Трэба косу намынтыты, а то ны ріжэ.*

**МЫТЭ́ЧКА** *ж.* Драўляны пруцік, на які нанізваюць рыбу для сушэння ў печы. *Маня нанызвала в'юны на мытэчку і ўстаўляла іх ў піч.*

**МЫРЭ́Ц** *м.* Нябожчык. *Жонкы пошлы мырця мыты.*

**МЯККЫ́Ш** *м.* Мяса без касці. *Сынок, ззіж мяккыша.*

**НАБЭ́ДРЫКЫ** *мн.* Раменная або вяровачная частка вупражы, якая накладваецца на тулава каню. *Коля новыі набэдрыкы своій кобылы пошыў.*

**НАБЫ́РУХА** *ж.* Пасудзіна для збору ягад. *Люба пошла по чырныцы і заһубыла набыруху.*

**НАВЫ́ЛНЫК** *м.* Сена, узятае віламі за адзін раз. *Я ўжэ зусім ны здужаю, навыть навылнык сіна ны пудыму.*

**НАВ'ЯЗА́ТЫ** *зак.* Прывязаць. *Дід нав'язаў коня і зноў стаў косыты.*

**НАГОЛОБІ́СКУ** *прысл.* На босую нагу. *Света змэрзла – наһолобіску туфлі обула.*

**НАДУ́РКОВАТЫЙ** *прым.* Прыдуркаваты. *Васыль някый надурковатый, бо чорт знае шчо робыть.*

**НАКОЗЮ́БЫТЫСА** *зак.* Пакрыўдзіцца. *Діты смыялыса, а Коля так накозюбыўса, аж страх.*

**НАЛА́ПЛЯНЫЙ** *прым.* Зацыраваны, з заплатай. *Він зроду шчэ ны прыходыў на сыло ў налапляных штанах.*

**НА́ЛПА** *ж.* Малпа. *Марына вэчор скакала, шчо тая налпа.*

**НАМКНУ́ТЫ** *зак.* Павесіць на дзверы замок, але не зачыніць яго. *Маня намкнула хату і пошла ў һород по моркоў.*

**НАЎКО́ЛЫНКАХ** *прысл.* На каленях. *Сарахімыха вік бульбу наўколынках копае.*

**НАСТРАПАЛЁНЫЙ** *прым.* Наравісты (пра каня). *Алы һлянь, якый він настрапалёный.*

**ННО** *часц.* Толькі. *Куры за ныділю нно дэсять яец знысы.*

**НИ́ШКА** *ж.* Вязка (сена, травы). *Поможы мні нишку за плэчы закынуты.*

**НЫhОДЯ́ШЧЫЙ** *прым.* Дрэнны. *Бульба ў һэтому һоду ныһодяшча.*

**НЫРО́ТА** *ж.* Венцер. *Якоў поніс нырoты ставыты.*

**НЫШЧО́[1]** *прысл.* Добра. *Як жывэш? – Нышчо.*

**НЫШЧО́[2]** *займ.* Нічога. *Нышчо ёму ны трэба! Шчо за чоловік!*

**НЭ́ТРА** *ж.* Людзі, што жывуць ў нястачы і сквапныя да ўсяго чужога. *һэта нэтра ўсэ пойість.*

**ОБhО́РВАТЫ** *незак.* Абганяць бульбу. *Батько пойіхаў обһорваты бульбу.*

**ОБ'ЕҐО́РЫТЫ** *зак.* 1. Падмануць. *Об'еґорыть він тыбэ, побачыш.* 2. Абабраць куст з ягадамі, яблыню. *Так хутко воны того корча з малыными об'еґорылы.*

**ОhНЁВЫЙ** *прым.* Аранжавы. *Шура шла по дорозы ў білый кухайцы і оһнёвый споднычы.*

**ОhО́НЬ** *м.* Касцёр. *Діты роскладлы оһонь і һріюцца.*

**ОКОЛА** *прыназ.* Вакол. *Куры тыпэр дэнь һрыбуцца окола хаты.*

**ОКРУ́ЧВАНКА** *ж.* Вельмі цёплая вялікая хустка. *Маты ўзяла окручванку і пошла на двір.*

**ОЛЫ́ВА** *ж.* Алей. *На сылі мыняють бульбу на олыву.*

**ОНЬ, О́НДЭ, О́НЬДЭ** *прысл.* Тут. *Оньдэ стояло выдро. Дэ воно?*

**ОПУ́ДАЛО** *н.* Пудзіла. *У клубніках стояло опудало: коб пташкы боялыса.*

**ОПЦЭ́НЬКЫ** *мн.* Абцугі. *һандзя пошла до Толіка по опцэнькы: своі дэсь заһубыла.*

**О́ТТЯК** *прысл.* Вось як, вось так. *Оттяк Стыпан з Марылёю обыйшоўса.*

**ПАЛЬ** *м.* Слуп. *Там, дэ кончаецца посадка, стоіть высокый тоўстый паль.*

**ПАРАЛЕ́С** *м.* Кашалёк. *Баба достала з паралеса һрошы і дала йіх ўнуку.*

**ПРА́ТЫ** *незак.* Мыць бялізну. *Нывістка пырэ одэжу.*

**ПІ́РА** *мн.* Плаўнікі рыбы. *Баба чыстыла окуні да об піра порізала рукы.*

**ПІ́ЎЗЫНЫ** *мн.* Галінкі бярозы ці маладыя бярозкі, якімі накрываюць стог для ўмацавання сена. *Трэба йіхаты піўзын насікты.*

**ПЛАВУНЫ́** *мн.* Тое ж, што і ***піра***. *Бач, якыі ў ёһо плавуны.*

**ПОhО́ДА** *ж.* 1. Надвор'е. *Поһоду по радіву ны пырыдавалы?* 2. Добрае надвор'е. *Учора була поһода, і мы зһрыблы усэ сіно.*

**ПОЗА́ЛЫТЮСА** *прысл.* Пазалетась. *Позалытюса було вэльмы баһато малын.*

**ПОКІ́Т** *м.* Гарышча. *Батько поліз на покіт по цыбулю.*

**ПО́КЛАД** *м.* Яйка, якое звычайна кладуць для прыманкі курыцы. *У курніку ны було поклада, то кура знысласа дэсь у зіллі.*

**ПОКУ́ТОК** *м.* Ваколіца. *Вітя так зазлыўса, шчо крычаў на ўсёй покуток.*

**ПОКЫДІ́НЭЦ** *м.* Чалавек, ад якога пайшла жонка. *Мар'яна пошла замуж за покыдінца.*

**ПОПА́С** *м.* Луг. *Хутко коровы пожынуть на попас.*

**ПОРОДЫ́ТЫСА** *зак.* Нарадзіць дзіця. *Люба Васылёва ўчора ўранцы породылаcard.*

**ПОРЭ́ПАНЫЙ** *прым.* Падрапаны. *Свякроў утяhнула ў хату някого порэпаноhо шкафа.*

**ПРА́ВЫТЫ[1]** *незак.* Плённа займацца якой-небудзь справай. *Мосій одны вуллі правыть і ўсё. Бы то більш ныякыі роботы ныма.*

**ПРА́ВЫТЫ[2]** *незак.* Упарта стаяць на сваім. *Дэ ты ёhо пырыпрэш! Він свое правыть і ўсё!*

**ПРІ́ПЫК** *м.* Прыпечак. *Стэпа поставыла на пріпык сковородь з млынцямы.*

**ПРОКЫ́ВА** *ж.* Крапіва. *Пуд плотом росло баhато прокывы.*

**ПРО́ТЫ** *прыназ.* Для. *Оксэня ўзяла і сказала проты Колі, шчо Сірожа ў школы ны буў.*

**ПРЫ́ВАРКЫ** *мн.* Крупы. *Тра някых прываркиў купыты, мо, супу звару.*

**ПРЫСКРЫ́НЁК** *м.* Палічка ў куфры. *Маты вічно клала hрошы ў прыскрынёк.*

**ПРЫСЫ́ПАНКА** *ж.* Каша з таўчонай бульбы з просам і цыбуляй. *Баба зварыла прысыпанкы і позвала діда йісты.*

**ПРЫ́ТОРЧ** *ж.* Нізка зрэзаны ці зламаны малады куст ці дрэўца. *Дывыса ны окалічса на пръторч.*

**ПУДМО́ВЫТЫ** *зак.* Падгаварыць. *Рыhір пудмовыў Оліся пойіхаты ў ліс накрасты дроў.*

**ПУДПАРАЗА́ТЫСА** *зак.* Падвязаць адзенне поясам ці інш. *Ева пудпаразаласа старэю хусткою і пошла ў буракы.*

**ПУ́РХАЎКА** *ж.* Порхаўка. *Діты ўсі пурхаўкы поросчаўлялы.*

**ПУЎСА́НКЫ** *мн.* Падсанкі. *Дід запріh коня ў пуўсанкы і поіхаў у ліс по дрова.*

**ПУ́ШКА[1]** *ж.* Скрынка. *Таня зловыла мурашку і посадыла йіі ў пушку.*

**ПУ́ШКА[2]** *ж.* Тупы канец яйка. *У яйці пушка росколята.*

**ПЫРШЫ́НКА** *ж.* Карова першага ацёлу. *Тыпэр і Таня свою пыршынку поhнала на пашу.*

**ПЫРХОТА́** *ж.* Перхаць. *Ой, шчо ў тыбэ пырхоты!*

**ПЫРЫПЫТУ́ЛЯ** *ж.* Жартаўлівы зварот да жанчыны. *Ох ты, моя пырыпытуля!*

**ПЫЧУРЫ́ЦА** *ж.* Шампіньён. *У траві було вэльмы багато пычурыц*

**ПЭ́ЙЛОХ** *м.* Гарэза. *Ах ты, пэйлоху, малый!*

**ПЭ́КАЧ** *м.* Бакас. *Чуеш, як у лісы пэкач крычыть?*

**РА́ПОТЫЦЫ** *мн.* Капыт у каровы. *Дэ тыі коровы ходылы, шчо hэтак рапотыцы позбывалы?*

**РАПТО́ВЭ СІ́НО**. Яшчэ не высахлае сена. *Сымэн пойіхаў сіно hрыбты, алы ны зhріб, бо воно раптовэ.*

**РОЗДЗЯ́НДЫТЫ** *зак., груб.* Расчыніць дзверы. *Чого ты двэры роздзяндыла, а сама пошла?*

**РОЗМЫСЫ́ТЫ** *зак.* Разбіць што-небудзь. *Васыль як нап'еццa, то вічно тарылкы розмісыть.*

**РОПА́[1]** *ж.* Кіпень. *Жонкы понакладалы hуркіў у банкы і залылы йіх ропою.*

**РОПА́[2]** *ж.* Вельмі салёная вада. *Ну як так можно було борчш насолыты?! Шчо ропа!*

**РЫДЗЫҐУЛЬ** *м.* Від сумкі. *Пошла ўжэ тая форсуха з рыдзыгулём.*

**САМОШЭ́ДШЫЙ** *прым.* Звар'яцелы. *Света вэчор крычала, шчо тая самошэдшая.*

**СІ́КТЫ[1]** *незак.* Моцна лаяцца. *Він на йіі крычыть, а вона сычэ ёму в ответ.*

**СІ́КТЫ[2]** *незак.* Кусаць. *Як тая скотына выдэржвае?! hэтак мухы сычуть.*

**СІ́КТЫ[3]** *незак.* Сячы. *Васыль сычэ дрова.*

**СКАЛЬКЫ́** *мн.* Ракавінкі. *Бродок высох, одны скалькы на пыску валяюцца.*

**СКАЛЛЯ́** *ж.* Пчаліная разведка. *Олеhу ў ловушку скалля сіла.*

**СКО́ВОРОДЬ** *ж.* Патэльня. *Баба поставыла сковородь з салом на стил.*

**СКОЛО́ТЫСА** *зак.* Пакалечыцца. *Дывыса пуд ноhы, а то сколышса.*

**СЛОБО́ДНЫЙ** *прым.* Вольны. *Марыля тыпэр дорвэ буракы і будэ слободна.*

**СОЛО́М'ЯНКА** *ж.* Матрац, набіты саломай. *Ніколы мы на солом'янцы спалы.*

**СПАС** *м.* Выратаванне. *Од hэтых собак ныма ныякоhо спасу.*

**СПРА́ВНЫЙ** *прым.* 1. Які не патрабуе рамонту. *У Наді тілівізор хоть і старый, алы справный.* 2. Жвавы, рухавы. *Надя і ніколы була така спраўна.*

**СПЫРТЫ́СА** *зак., груб.* Узлезці. *Люба спырласа на віз і сыділа там, покуль йіі ны проhналы.*

**СУ́КРОВЫЦА** *ж.* Паўпразрыстая вадкасць, што выцякае з раны. *hлянь, як сукровыца з раны тычэ.*

**СЫ́ВЫЙ** *прым.* Шэры, сівы. *На плоту сыдіў сывый hолуб.*

**СЫ́ТЫЙ** *прым.* Укормлены. *Бач, яка корова ў Сірожы сыта!*

**ТРАПАЛЯ́СЫ** *мн.* Шматкі тканіны. *Собакы так розорвалы діўчыны сподныцу, шчо одны трапалясы вісять.*

**ТРУСЫ́ТЫСА** *незак.* Дрыжаць. *Стойіть Рая, кроўна, і трусыцца од холоду.*

**ТРЫБУ́Х** *м.* Страўнік жывёлы. *Здохла наша корова. Як зарізалы, то побачылы, шчо ў йіі повэн трыбух сухого сіна.*

**ТЬМА́НЫЙ** *прым.* Бурачковы. *Надюшка купыла тьману хустку.*

**ТЫЛЫПА́ТЫСА** *незак.* 1. Вельмі марудна ісці. *Стыпан так напыўса, шчо і ны йшоў, а тылыпаўса.* 2. Матляцца. *Стоіть корова спокойно, онно хвіст тылыпаецца.*

**ТЫ́ЧКА** *ж.* Палка. *Надя ўзяла тычку і поhнала козу на пашу.*

**ТЭ́НУТЫ** *незак.* Рэагаваць. *Крычу, крычу, а він ныц ны тэнэ!*

**ТЭ́ЧКА** *ж.* Сумка. *Я ніколы ў школу з такэю моднэю тэчкою ходыла.*

**УВОБРА́НЫЙ** *прым.* Апрануты па-святочнаму. *Маруся шла така увобрана, мусытя, нішчо святковатымэ.*

**УҺРІ́ТЫСА** *зак.* Упасці. *Андрэй шоў п'яный да так уһріўса на порозы!*

**УҺРЫПЭ́НЫТЫСА** *зак.* Упасці. *Люба як угрыпэныласа, думала, шчо й ноһу зламала.*

**УДО́СВЫТА** *прысл.* На досвітку. *Пылып шчэ ўдосвыта ўстаў і пошоў по һрыбы.*

**УКОТЫ́ТЫ** *зак.* Пакараць. *Коля страмыну зламаў – ужэ батько ёму ўкотыть.*

**УЛІ́ТЮС** *прысл.* Летась. *Улітюса Толікова свыння прывыла нно два поросюкы.*

**УЛІ́ТЮСА** *прысл.* Тое ж, што і **УЛІ́ТЮС**.

**УРІ́ЗАТЫ** *зак.* Адрэзаць. *Сашка, уріж мні скыбку хліба.*

**УЦВЫ́ТЫТЫ** *зак.* Пакараць. *Утыкай, а то батько тобі ўцвытыть.*

**УЧВЭ́РЫТЫ** *зак.* Зрабіць нешта дрэннае. *Ужэ нішчо учвэрыў?*

**УШКРЫБТЫ́** *зак.* Уцячы. *һаля побачыла Кольчыного собаку да як ушкрыбла!*

**ХАЛУ́ПА** *ж.* Невялікая няякасна збудаваная пабудова. *Хыба ж то хата, то ж няка халупа.*

**ХАЛЯ́ВА** *ж.* Калашына. *Саша купыў чорныі штаны з доўгымы халявамы.*

**ХА́ТА** *ж.* 1. Дом. *Сарахімчыкы ўжэ пырыбралыса ў нову хату.* 2. Пакой. *Возьмы у тий хаты ножныцы і прынысы мні.*

**ЦЫБА́Х** *м.* Кветканоснае сцябло цыбулі. *Светка побіһла ў һород і нарвала цыбахіў на салат.*

**ЦЫБУ́ЛНЫК** *м.* Лісце цыбулі. *Мы яйца цыбулныком красымо.*

**ЦЫПЛЮ́К** *н.* Кураня. *У Толячыхы кура вывыла трынаццать цыплюкіў.*

**ЧАПАЛДА́** *ж., абразл.* Дурніца. *Куды ты полізла, чапалда?*

**ШАБЭ́ТКА** *ж.* Кашалёк. *Тоня получыла получку і зразу понысла хаваты ў шабэтку.*

**ШАМРІ́ТЫ** *незак.* Шалясцець. *На плоту вісыў цалафановый мышок і шамріў на вітры.*

**ШВЭ́НДАТЫСА** *незак.* Хадзіць. *Іван жэ ж ныц ны робыть – швэндаецца туды-сюды.*

**ШО́ПА** *ж.* Невялічкая прыбудова. *Батько пошоў у шопу по буракы.*

**ШПЫ́ЧКА** *ж.* 1. Стрэмка. *Нішчо ў мынэ пальца нарвало, мусытя, шпычку заһнаў.* 2. Назола. *От шпычка гэта Надька!*

**ШУШВА́РОК** *м.* Шкварка. *Маты прынысла на стил вылыкую сковородь з шушваркамы.*

**ШЧОЛКУ́НІ** *мн.* Пазногці. *Алы ў тыбэ й шчолкуні, шчо ў совы.*

**ШЧЫТОВЫ́ННЕ** *н.* Асмаленая шкура свінні. *Гэто ж такэ һустэ шчытовынне на һэтому вэпрыку!*

**ШЫЛЫКТА́ТЫ** *незак.* Казытаць. *Дід шылыктаў унучку, а тая аж заходыласа од сміху.*

**Ы́ҺЛЫЦЫ** *мн.* Калючкі елкі, сасны. *һрыбы ў хвійныку браў? Я бачу, шчо ыһлыцы ў кошылю.*

**Ы́М'Е** *н.* Вымя. *Нішчо ў коровы ым'е роспухло, коб хоть ны захворіла.*

**Э́НЬДЭ** *прысл.* Там. *Эньдэ вылкы стоять, побыжы прынысы.*

**Ю́ШЫТЫ** *незак.* Цячы. *һэто ж чуть онно пальца драпнуў, а кроў так і юшыть.*

**Я́СЛА** *мн.* 1. Дзёсны. *Оля ныц ны йість – так у йіі роспухлы ясла.* 2. Кармушка для жывёлы. *Я наклаў коровы ў ясла сіна і зачыныў хлыва.*

*К. М. Панюціч*

## З ЛЕКСІКІ ГАВОРАК УШАЧЧЫНЫ

Гэта падборка лексікі – працяг публікацый, змешчаных у дыялекталагічных зборніках «Жывое наша слова» (2001), «Скарбы народнай мовы» (2005), «Народныя скарбы» (2008). Зроблены запісы гаворак Ушацкага раёна Віцебскай вобласці.

**ПАДРУ́ЧНЫ** *прым.* Зручны. *Мáлінькія гáрчыкі сáмыя падру́чныя: мукá пад рукóй, як захацéў, то і ўзяў.* Вялікія Дольцы.

**ПАДСЛЁПАВАТЫ** *прым.* Падслепаваты, блізарукі. *Пат стáрась патсьлёпаватая стáла: ні́тку ў йігóлку ні ўцягну́.* Наваселле. *Свáцця патслёпаватая: за два мéтры ўжо ня ві́дзіць.* Арэхаўна.

**ПАДСТРУ́НІСТЫ** *прым.* Стройны. *Дзяўчы́на прыгóжая, сму́глая, патстру́ністая.* Наваселле. *Патстру́ністы мáліц, алі́ худы́.* Мажэйшчына.

**ПАДХО́ДЛІВЫ** *прым.* Які ўмее знайсці падыход, згаварыцца з кім-н. *Гэ́ны мáліц патхóдлівы, кагó хóчаш угавóрыць.* Арэхаўна. *Патхóдлівая маладзі́чка, лі́стам сьцéліцца, як лі́ска.* Вялікія Дольцы.

**ПАДШЧЭ́НКІ** *мн.* Сківіцы. *У падшчэ́нкі як даў ён Сьціпáну, цяпéр апóхшы.* Арэхаўна. *Падшчэ́нкі былі́ разышлі́ся, рот баўтáўся.* Судзілавічы.

**ПАЗАЎГО́ЛЛЮ** *прысл.* За вугламі, абы-дзе. *Бéгайіць пазаўгóллю, мáццы ні пумагáйіць.* Арэхаўна. *Нічагу́тка ня рóбіць, пазаўгóллю хóдзіць.* Кублішчана.

**ПАЗА́ЎТРА** *прысл.* Паслязаўтра. *Паза́ўтра паеду ў По́лацак.* Арэхаўна. *Паза́ўтра, сва́цька, праве́дайім цябе́.* Судзілавічы.

**ПАЗА́ЎТРАМУ** *прысл.* Тое ж. *Така́я ве́я, ня едзь за́ўтра, паедзіш паза́ўтраму.* Старына. *Да цёткі паеха́ў, ве́рніцца паза́ўтраму.* Наваселле.

**ПАЗНІХІ́Р** *м.* Той, хто позна ўстае. *Пазьніхі́ры вы, ране́й на́да ўстава́ць, лю́дзі ўжо на рабо́ту йдуць.* Судзілавічы. *Пазьніхі́р ты! По́зна ўста́ў, а цяпе́р пэ́цкайісься, рабо́ты ня ро́біш.* Вялікія Дольцы.

**ПАЛАДНЕ́ЦЬ** *зак.* Папрыгажэць. *Дачка́ йіх ста́ла спраўне́йшая, паладне́ла.* Арэхаўна.

**ПАЛА́НКІ** *мн.* Невялікія начовачкі для ачышчэння зерня ад мякіны і пылу; апалушкі. *Зярно́ ў пала́нках ачышча́лі. Не́дзіка на гары́ і цяпе́р ліжа́ць пала́нкі.* Арэхаўна.

**ПАЛЁГЛІЦА** *ж.* Палеглае збожжа, лён (расліны). *Па со́вісьці лён йірва́ла, ні с фа́льшу – і палёгліцу вы́рвала.* Слабада. *Ця́шка ўбіра́ць палёгліцу, канба́йн ні бярэ́ць.* Арэхаўна. *Натру́дзіла ру́кі на гэ́тым лёні – адна́ палёгліца.* Шчарбёнкі.

**ПАЛЁНКА** *ж.* Запаленне, высокая тэмпература. *Асла́п уну́чык пасьля́ палёнкі, ні жа́ртачкі, агнём гарэ́ў.* Вялікія Дольцы. *Зму́чыла яе́ палёнка, зялёпухай хо́дзіць.* Чэрсвя.

**ПАМІ́ЖДЫ** *прыназ.* Паміж. *Памі́жды мясьцэ́чкам і дзярэ́ўняй кірма́ш бы́ў.* Мажэйшчына.

**ПАМО́СТ** *м.* Падлога. *Памо́ст пашарава́ла гальнём.* Вялікія Дольцы.

**ПАМО́СЦІНА** *ж.* Дошка падлогі. *Тут памо́сьціна сла́бая, на́да бу́дзіць до́шчачку ўтачы́ць.* Мажэйшчына.

**ПА́МЯТУШЧЫ** *прым.* Памятлівы. *Бог зна́йіць які́ па́мітушчы: рас прачыта́ў – і ўсё по́мніць.* Судзілавічы. *Ка́ску напа́мяць вы́вучыў, па́мітушчы.* Арэхаўна.

**ПАНАРАВІ́ЦЬ** *зак.* Пачакаць. *Хто ўжо купі́ў парасёнка, а мы яшчэ́ панараві́м, мо́жа, падзішаве́юць.* Арэхаўна. *Панараві́ць на́да было́, ня е́хаць у таку́ю ве́ю.* Судзілавічы.

**ПАНІ́КЛІВЫ** *прым.* Падслепаваты, блізарукі. *Ат пррыро́ды ма́ліц пані́клівы, то́лькі блі́ска ві́дзіць.* Вялікія Дольцы. *Чыта́йіць блі́ска, а далёка – не, пані́клівая ўну́чка.* Судзілавічы.

**ПАПЕ́РАДУ** *прысл.* Уперадзе. *Папе́раду йішо́ў маладзён з пад – маладзе́нцам, а за йі́мі маладу́ха з нат-ко́сьнікам.* Судзілавічы.

**ПАПУ́ЦІНА** *агульн.* Маруда. *Ця́гніцца гэ́та папу́ціна, лю́дзі даўно́ ўжо ў Ку́блічы зайшлі́.* Судзілавічы. *Які́ зь яго́ хадо́к, папу́ціна не́йкая.* Арэхаўна.

**ПАПЯРЭ́ЧКА** *ж.* Папярочная баразна. *Вы́капала бу́льбу на папярэ́чках.* Вялікія Дольцы.

**ПАРА́ДНІЦА** *ж.* Дарадчыца. *Пара́дніца ты ма́я, маму́лька ро́дная! Усё с тabо́й мы абра́дзілі.* Слабада.

**ПАРЫСАВА́ЦЬ** *незак.* Бегаць, мітусіцца, шукаючы чаго-н. *Уляце́лі ма́льцы ў ха́ту, парысава́лі, гро́шы ў старо́й атабра́лі.* Судзілавічы. *Ката́ то́лькі кінь на ноч у ха́ці, ні дась засну́ць, усю́ ноч парысава́ць бу́дзіць.* Арэхаўна.

**ПАСЕ́ЙКІ** *мн.* Высеўкі. *Пала́йіш зярно́, а пасе́йкі астаю́цца.* Арэхаўна. *Пасе́йкі кура́м.* Кублішчана.

**ПАСІ́ЛІЦЬ** *зак.* Пабароць, перамагчы. *Як завялі́ся бы́кі́ басьці́ся – ні той таго́, ні гэ́ты гэ́тага ніяк ні пасі́ліць.* Слабада.

**ПАСТРАМІ́ЦЦА** *зак.* Пасаромецца. *Хаце́ла зайсьці́ к яго́ бацька́м, алі́ пастрамі́лася.* Судзілавічы. *Пастамі́ўся п ты гавары́ць такі́я сла́вы на цётку!* Чэрсвя.

**ПАСТРАМІ́ЦЬ** *зак.* Пасароміць. *Пастамі́ў сы́на, кап шанава́ўся, ні гавары́ў абы-чаго́.* Чэрсвя.

**ПАСУ́ЧЫЦЬ** *зак.* Пасунуцца, пайсці. *Цыга́н к тыня́нцы пасу́чыў, се́на хаце́ў узя́ць, а мы са́мі купля́йім, два бе́ркаўцы прывязьлі́.* Арэхаўна.

**ПАСЯДУ́ШКІ** *мн.* Пасядзелкі. *У сьвя́та на пасяду́шкі зьбіра́ліся, на сяло́ хадзі́лі.* Вялікія Дольцы.

**ПАТАІ́ЦЬ** *зак.* Утаіць. *Ні патаі́йла п йіна́ ат нас, каб дрэ́нна з мужыко́м жыла́, му́сіць, нагавары́лі лю́дзі.* Судзілавічы.

**ПАТАЛА́НІЦЬ** *зак.* Пашанцаваць. *Патала́ніла яму́, жо́нка до́брая.* Арэхаўна.

**ПАТРЭ́БА** *ж.* Бяседа, урачыстасць. *У цябе́ патрэ́ба ско́ра бу́дзіць: дачку́ за́муж аддае́ш. Ці пазаве́ш?* Вялікія Дольцы.

**ПАТРЭ́П'Е** *н.* 1. Адыходы пры трапанні лёну. *Лён мнуць, патрэ́п'я ляці́ць.* Арэхаўна. 2. Палатно з адыходаў лёну. *С патрэ́п'я мяшкі́ і дзяру́гі шы́лі.* Вялікія Дольцы.

**ПАТРЭ́ПНЫ** *прым.* Зроблены з патрэп'я. *Кужэ́льныя рушнікі́, бе́лінькія, ве́шалі на абразы́, а патрэ́пныя, грубе́йшыя, былі́ для пасу́ды.* Вялікія Дольцы.

**ПАЎДЗЁНЯШНІ** *прым.* Надоены ў поўдзень (пра малако). *Паўдзёнішнія малако́ ў се́нцах, а ра́нішнія ў ха́ці.* Судзілавічы. *Паўднёвішнія малако́ ў халадзі́льніку, налі́ці сабе́.* Арэхаўна.

**ПАЎДНЁВІШНІ** *прым.* Тое ж, што і **ПАЎДЗЁНЯШНІ**.

**ПАЎДНЯВА́ЦЬ** *незак.* Знаходзіцца дзе-н. у поўдзень. *Па́сьцілі каро́ў на йі́льнянішчы, а паўднява́ць сю́ды, на гумно́, прыгна́лі.* Мажэйшчына.

**ПАЎКО́ЛАК** *м.* Кароткая тоўстая палка. *Сяго́ння лі́сіца падбіра́лася к ку́рам. Я бех за ей, папусьці́ў паўко́лкам, алі́ ні пупа́ў.* Слабада.

**ПАХО́ЖЫ** *прым.* Відны, прыгожы. *Пахо́жы чалаве́к: высо́кі, здаро́вы, ла́дны.* Судзілавічы. *– А ці пахо́жая яго́ дзе́ўка? – А ніч́ога: спры́тная, стан красі́вы!* Арэхаўна.

**ПАЦЫ́РКАЦЬ** *зак.* Падаіць. *Ма́мка пацы́ркала малака́, дась вам папі́ць.* Судзілавічы.

**ПАЦЯГА́КА** *агульн.* Цягака. *Палёна дроў ні пасячэ́ць, пацяга́ка, па ха́тах хо́дзіць.* Арэхаўна. *Ці вярну́лася пацігáка?* Судзілавічы.

**ПАШТАВІ́ЧКА** *ж.* Паштальёнка. *Аню́та до́ўга паштаві́чкай ро́біла.* Слабада. *Паштаві́чка йдзе́ць у двор – мо́жа, ат Лю́бы пісьмо́ нам?* Чэрсвя.

**ПЕНЦЯЛЕ́Й** *м.* Няўдалы чалавек. *Які́ яе́ мужы́к? Пінцяле́й, ніпаваро́тлівы, мару́да.* Арэхаўна. *Такі́-сякі́ пінцяле́й, а жыць на сьве́ці вісяле́й (прык.).* Судзілавічы.

**ПЕРАБАРО́ЦЬ** *зак.* Перайначыць, пераставіць. *Падбухто́рвала йіна́ мужыка́, каб дзіця́м гро́шы ні сла́ў, алі́ яго́ ні піраба́рыш, сваё ро́біць, жале́йіць дзяце́й.* Вялікія Дольцы.

**ПЕРАБА́ЧЫЦЬ** *зак.* Прабачыць. *Хай Але́на пірабáчыць: ня мо́жам усі́х запрасі́ць на вясе́лля, то́лькі свайі́х набіра́йіцца шэ́сьдзісят чалаве́к.* Арэхаўна.

**ПЕРАДКАВА́ЦЬ** *незак.* Бегчы наперадзе, выхваляцца, паказваць сябе. *Ніякі́ ўну́к ста́ў: бу́дзіць піраткава́ць, каб на яго́ глядзе́лі, ні люблю́ гэ́тага.* Міхалкаўшчына. *Но́сіцца, піратку́йіць, такі́ ві́сус!* Вялікія Дольцы.

**ПЕРАЖЫ́ТАК** *м.* Пераживанне. *Той мáліц хадзíў-хадзíў, а тады́ другýю ўзяў. І дзяўчы́ні, і мáццы піражы́так.* Судзілавічы.

**ПЕРАЗÓЎКІ, ПЕРАЗЫ́ЎКІ** *мн.* Прыезд бацькоў маладой у госці да сватоў праз тыдзень пасля вяселля. *У піразóўкі к сватáм éзьдзілі.* Наваселле. *Ці былí на піразóўках?* Судзілавічы. *Учóра піразы́ўкі былí.* Арэхаўна.

**ПЕ́РЦІ** *незак.* Перыць, біць (пранікам). *Тчэш, а тады́ палатнó прáнікам пярэ́ш-пярэ́ш, у лýжыні мóчыш, пакýль ні стáніць бéлая.* Вялікія Дольцы.

**ПЕ́ХАМ** *прысл.* Пяшком. *Ляксéй цяпéр слабóдны, паéдзіць у бальні́цу правéдаць мáтку, а назáт пéхам пры́дзіць.* Судзілавічы.

**ПЕЧАНЁЎКА** *ж.* Каўбаса з вантробаў (печані, лёгкіх і інш.). *У нас пічанёўку дýжа лю́бяць.* Судзілавічы. *Вазьмí паéш пічанёўкі.* Арэхаўна.

**ПЕ́ЧАНЬ** *м.* Печань. *Кáжуць, пéчань у ягó разышóўся, паклáлі ў бальні́цу.* Судзілавічы. *Ат пічаня́ дóбра травá падарóшка.* Вялікія Дольцы.

**ПІ́КАР** *м.* Дзіцячая гульня, у час якой вядучы павінен даткнуцца да ўдзельніка палкай (пікай). *Цэ́лы дзень у пі́кара гуля́юць дзéці.* Арэхаўна. *У пі́кара згуляéм.* Астраўляны.

**ПІ́КАРШЧЫК** *м.* Вядучы ў гульні ў пікар. *Пі́карычык мóжыць укалóць пáлкай тагó, хто выручáйіць йігракóў.* Мажэйшчына. *Хто вóдзіць – той пі́карычык.* Наваселле.

**ПІ́ЛНА** *прысл.* Старанна, шчыра. *Пíлна рóбіць, мінýткі ні пірадыхнé.* Арэхаўна. *Сьпірвá пíлнінька былí ўзя́ліся стрóйіць, а пóсьлі чýйім: кналéццю атлажы́лі.* Астраўляны.

**ПІ́ЛНІЦА** *ж.* Час гарачай летняй працы; прыпар. *І лён рвём, і ячмéнь нáда касíць – такáя пі́лніца цяпéр.* Мажэйшчына. *У пі́лніцу ўсе на пóлі.* Арэхаўна.

**ПІ́ЛНЫ** *прым.* Старанны, шчыры, працавіты. *Нáша дзя́дзіна пі́лная, усё да тóлку рóбіць.* Слабада. *Пі́лны мушчы́нка: за дзень усé ты́я дрóвы піравёс.* Арэхаўна.

**ПІСКЛЁНАК** *м.* Кураня. *Пісклёнка аднагó німá, нéдзіка згубíўся.* Арэхаўна. *Ні быó сёліта ў нас піскля́т.* Судзілавічы.

**ПІСКУ́Н** *м., заал.* Уюн. *Піскуны́ ў грáзі вóдзюцца, рабя́ты рукáмі йіх лóвюць.* Арэхаўна. *Налавíлі піскунóў.* Слабада.

**ПІ́ТКІ** *прысл., дзіц.* Піць. *Дай дзяцёнку пі́ткі, во прóсіць.* Судзілавічы. *Пі́ткі захацéў унýчык.* Арэхаўна.

**ПІТУ́Н** *м.* Піток. *Па такíх пітунáх уся́ гарэ́лка стая́ць бýдзіць: упяцёх ня вы́пілі паўлі́тра.* Арэхаўна. *Які́ зь ягó піту́н?* Судзілавічы.

**ПІТУ́ХА** *ж.* да **ПІТУН**. *Такáя пітýха, што і аднóй чáркі ня вы́піла.* Судзілавічы.

**ПІЦАВА́ЦЬ** *незак.* Працаваць напружана, многа, да знямогі. *Піцýю й піцýю, німá пірады́ху.* Мажэйшчына. *Піцýйіць зрáнку і да цімнá.* Арэхаўна.

**ПІЦУ́ГА** *агульн.* Той, хто многа працуе, да стомы, да знямогі. *Мужы́к такí піцýга, а ей усё мáла.* Наваселле. *Увéсь век, як піцýга, біс пірады́ху рóбіла.* Арэхаўна.

**ПІЦЬХЕ́ЛЬ** *агульн.* Няўдалы, нерашучы чалавек. *За сябé ні пастайíць гэ́ты піцьхéль.* Чэрсвя. *Піцьхéль і ніўдáліца дзéўка.* Міхалкаўшчына.

**ПІШЧÓЛКА**[1] *ж.* Піскля (пра дзяцей). *А вóхенька! У вас А́нька пішчóлка, цэ́лны дзень пішчы́ць і плачы́ць.* Арэхаўна.

**ПІШЧÓЛКА**[2] *ж., бат.* Зялёнка (грыб). *Пішчóлкі салóткія, жóўцінькія зь зялёным, прóста ў пяскý растýць.* Арэхаўна. *Прынісла кашóлку пішчóлак.* Шчарбёнкі.

**ПЛА́ЗДАЦЦА** *незак.* Хадзіць, цягацца. *Лéтам тóлькі і знай, што плáздайся і плáздайся па агарóдзі, па пóлі – збірáй ахрáп'я сьвінням.* Мажэйшчына. *Дзе ты плáздаўся?* Арэхаўна.

**ПÓЙКА** *ж.* Пойла. *Занясí карóві пóйку.* Арэхаўна.

**ПÓЙСАВАЦЬ** *незак.* Паўторна малаціць, аддзяляць зерне ад асцюкоў (пра ячмень). *Бóльшую салóму страсýць, а тады́ пóйсаваюць, б'юць цапáмі па каласкáх.* Арэхаўна. *Пóйсавалі ячмéнь.* Кублішчана.

**ПÓЛЫНЬ** *ж.* Полымя. *Пóлынь сь пéчы шугáйіць.* Наваселле. *Ні паткідáй дроў, і так пóлынь бальшáя.* Арэхаўна.

**ПÓМАК** *м.* 1. Намочаны куль саломы. *У сáжалцы мóчаць, а тады́ нясýць пóмак на пóля, піравя́слы зь ягó крýцяць.* Чэрсвя. 2. *перан.* Поўны, грузны, непаваротлівы чалавек. *Паклі́ч тагó пóмака, дóсіць ямý ліжáць.* Слабада. *Вóзьміш дзяцёнка на рýкі, дык цяшка дзіржáць – такí пóмак.* Чэрсвя.

**ПÓЎНАТА** *ж.* Поўня. *Цяпéр пóўната, на вýліцы вíдна.* Арэхаўна.

**ПÓХЛЫ** *прым.* Апухлы. *Састáрыцца чалавéк, цяшкі зрóбіцца, пóхлы, нядýжы.* Вялікія Дольцы.

**ПÓХНУЦЬ** *незак.* Пухнуць. *Стáлі нóгі пóхнуць, зрóбіліся як калы́.* Судзілавічы.

**ПÓШЛІНА** *ж.* Пошасць, эпідэмія. *Пóшліна гры́бу хóдзіць цяпéр.* Вялікія Дольцы.

**ПÓШЛЫ** *прым.* Здаровы, дужы. *Вялíкі éйны мужы́к, здаровы, пóшлы.* Арэхаўна. *Яшчэ́ дýжы, пóшлы чалавéк.* Вялікія Дольцы.

**ПРАВАРÓЎКА** *ж.* Гатунак бульбы. *У пáна, пóмню, садзíлі праварóўку і сьлізóўку. Праварóўка бальшáя расла́, па тры разы́ піравóрвалі.* Старына.

**ПРА́ВЕДЫ** *мн.* Разведванне. *Гэ́ты лю́дзі ў прáвіды прыйíжджáлі: ці мóжна тут у нас лéтам пажы́ць.* Кублішчана.

**ПРАЖЫЎЛЕ́ННЕ** *н.* Пражытак, пражыццё. *Хóчыць пéнсіі дайсьцí, нáда пражыўлéння.* Кублішчана. *Дзяцéй ні гадавáў, басьця́ўся па сьвéці, а цяпéр хóчыць атсудзі́ць грóшы на пражыўлéння.* Арэхаўна.

**ПРАКУ́ДЗІСТЫ** *прым.* Ахвотны да жартаў, пракудлівы. *Чагó тóлькі ні раскáзвала, пракýдзістая былá.* Наваселле.

**ПРАМІРГНУ́ЦЬ** *зак.* Прамаргаць, не заўважыць. *Вот жа й прамíргнула: мáльцы ў выйгрýшы залéзьлі, абарвáлі.* Наваселле.

**ПРАПЫ́ШНЫ** *прым.* Багаты, заможны. *Хвáліцца, што радня́ ў ягó прапы́шная: дóбра жывýць, у пляме́нніка свая́ машы́на.* Арэхаўна. *Такí́я яны́ прапы́шныя! І мáтка разадзéтая, і дóчкі ў нóвых плáццях.* Шчарбёнкі.

**ПРАСМІ́ШНІК** *м.* Насмешнік. *Прасьмі́шнік нéйкі, апсьміхáйіць усíх, а хай бы на свайíх дзяцéй палядзéў!* Наваселле.

**ПРАСТРÓЧЫЦЬ** *зак.* Прапусціць, не заўважыць. *Загаварылася і машы́ну прастрóчыла.* Чэрсвя.

**ПРАСЯ́НКА** *ж., бат.* Радоўка (грыб). *Прася́нкі – са́мыя по́зныя грыбы́, пат са́мую во́сінь, такі́я зялёнінькія.* Арэхаўна. *Назьбіра́ла ру́дачак, падбяро́завікаў, прася́нак.* Кублішчана.

**ПРАХАДЖА́ЙКА** *ж.* Прахожая. *Дзе́ўка-прахаджа́йка пыта́лася даро́гі на До́льцы.* Старына.

**ПРАЦАЎНЫ́** *прым.* Працавіты. *Ба́цька йі́хні працаўны́ быў, усё для дзяцёй стара́ўся.* Судзілавічы. *Ахрэм ніко́лі працаўны́ ня быў, на пуп ду́жа нідзе́ ні бярэ́ць.* Арэхаўна.

**ПРАЧХНУ́ЦЦА** *зак.* Прачнуцца. *Прачхну́ўся ўну́чык.* Слабада. *А кап твая́ вадзі́ца ні пліхну́лася, а кап мая́ сьвякро́ўка ні прачхну́лася (з песні).* Арэхаўна.

**ПРАЧЫХА́ЦЦА** *незак.* Прачынацца. *Прачыха́йіцца ён і чу́йіць: страляю́ць кругом.* Слабада.

**ПРА́ШТУКА** *ж.* Прадвесце. *Сьвіння́ чэ́шацца – во́ табе́ й пра́штука: атлі́га бу́дзіць, а кот дзярэ́цца – на ве́ю.* Старына.

**ПРО́ЗВІШЧА** *н.* Мянушка. *Ко́лтун – про́зьвішча. – Култунава́тыя былі́.* Судзілавічы.

**ПРО́ЛАБКА** *ж.* Палонка. *Зімо́й прасяка́юць на во́зіры про́лапку і ваду́ бяру́ць.* Арэхаўна. *Ні ўвалі́ся ў про́лапку!* Чэрсвя.

**ПРУ́ДЗІЦЬ** *незак.* Праграваць пры высокай тэмпературы. *По́сьлі вайны́ пру́дзілі бяллё, па́рылі ў ба́ні, каб ніхто́ ні заво́дзіўся.* Арэхаўна.

**ПРЫБА́ННІК** *м.* Прылазнік. *У прыба́нніку разьдзіва́ліся, адзе́жу ве́шалі.* Арэхаўна. *Пасядзі́ ў прыба́нніку.* Вялікія Дольцы.

**ПРЫБО́РЫ** *мн.* Уборы, прыгожае адзенне. *У яе́ сто́лькі прыбо́раў.* Арэхаўна. *Наспраўля́ла прыбо́раў.* Кублішчана.

**ПРЫГРУ́НІЦЬ** *зак.* Ушчуць, насварыцца. *На́да дачку́ прыгру́ніць, каб давышыва́ла гэ́ты цьвяты́.* Судзілавічы. *Прыгру́нь ты ма́льца, хай так ня лёта́йіць па сяле́.* Чэрсвя.

**ПРЫГУ́КВАЦЬ** *незак.* Прыгаворваць. *Надо́вінь па ра́дзіві піялі пе́сьню і не́йік ду́жа сьме́шна прыгу́квалі.* Наваселле. *Пла́чыць жо́нка і прыгу́квайіць, як ей дрэ́нна жыць.* Слабада.

**ПРЫДА́НКІ** *мн.* Удзельнікі вяселля з боку маладой, якія вязуць яе пасаг. *Прыда́нкі – радня́ маладо́й і яе́ тава́рышкі.* Арэхаўна. *З маладу́хай усе́ прыда́нкі ла́дныя паехалі, ня сты́дна бу́дзіць бацька́м.* Шчарбёнкі.

**ПРЫДА́НЫЯ** *мн.* Тое ж, што і **ПРЫДА́НКІ**. *Прыда́ных вазо́ў пяць было́, усе́ сталы́ заня́лі.* Судзілавічы. *Прыда́ныя ад маладо́й е́дуць к маладзёну.* Арэхаўна.

**ПРЫЙІ́МЧЫВЫ** *прым.* Прыветлівы, прыхільны, уважлівы. *Такі́ прыйі́мчывы чалаве́к: паве́ў нас у ха́ту, даў е́сьці.* Слабада. *Як біда́ йіка́я – ужо́ тут йіна́, памо́жыць, прыйі́мчывая.* Судзілавічы.

**ПРЫЛЮ́ДЗІЦЬ** *зак.* Прыбраць, навесці парадак. *Скажы́ці Таця́ні, хай у ха́ці прылю́дзюць: сваты́ ў субо́ту пры́дуць.* Судзілавічы.

**ПРЫНА́ДА** *агульн.* Дакучлівы чалавек, назола. *А во́ прына́да, прыкаса́ўся, ідзі́ атсю́ль!* Слабада. *Дзе́ўка на яго́ глядзе́ць ня хо́чыць, а ён, прына́да, ко́жны ве́чар прыхо́дзіць.* Чэрсвя.

**ПРЫНО́СНЫ** *прым.* Народжаны па-за шлюбам. *У ма́чыхі прыно́сная дачка́ была́, у дзе́ўках радзі́ла, а по́сьлі за на́шага ба́цьку вы́йшла.* Мажэйшчына.

**ПРЫ́ПАРНІЦА** *ж.* Прыпар, час напружанай летняй працы. *Сын у во́тпуск у са́мую пры́парніцу прые́хаў, а я на канба́йні, ня кі́ніш.* Арэхаўна. *Хай са́ла паляжы́ць – бу́дзіць касца́м у пры́парніцу.* Чэрсвя. *Усё на по́лі пасьпе́ла, убіра́ць на́да, са́мая пры́парніца.* Слабада.

**ПРЫПІ́РЫШЧА** *н.* Прыстанішча. *Ха́та стара́я, алі́ ўсё ш сваё прыпі́рышча.* Вялікія Дольцы.

**ПРЫРО́ДА** *ж.* 1. Род, кроўная радня. *У ко́жнага прыро́да вялі́кая, і блі́ская радня́ ёсь, і далёкая.* Наваселле. *Усю йіх прыро́ду «ры́бачкамі» заву́ць.* Судзілавічы. 2. Парода. *Глідзя́ць, каб до́брае прыро́ды дзе́ўку ўзяць.* Наваселле. 3. Спадчынныя рысы чалавека. *Ён высо́кі пу ба́цьку, прыро́да ў йіх така́я.* Арэхаўна.

**ПРЫСІВІ́ЦЬ** *зак.* Крыху заправіць малаком. *На́да прысіві́ць крупе́ню.* Арэхаўна.

**ПРЫСЛА́БНУЦЬ** *зак.* Аслабнуць. *Така́я ве́я, конь прысла́б, усяк дабіва́ліся да Вуша́чы, чуць дае́халі.* Судзілавічы.

**ПРЫ́СМЕРК** *м.* Змярканне. *Цямне́йіць, зьміркайіцца – такі́ пры́сьмірк на дварэ́.* Арэхаўна.

**ПРЫСТА́РАК** *м.* 1. Стары, нямоглы чалавек. *Дзет наш пры́ста́рак, чуць хо́дзіць.* Вялікія Дольцы. 2. *зневаж.* Старая дзеўка, векавуха. *Аню́ці ўжо тры́ццаць пяць, пры́ста́рак, ня вы́йшла за́муш.* Кублішчана.

**ПРЫСТРЫГАВА́ЦЬ** *зак.* Прышыць буйнымі шыўкамі, прыфастрыгаваць. *Прыстрыгава́ла рука́вы ў пла́цці.* Вялікія Дольцы.

**ПРЫСТУ́ПНА** *прысл.* Зручна, лёгка. *У та́пачках табе́ присту́пна бу́дзіць йі́сьці.* Арэхаўна.

**ПРЫТЭ́НПІЦЬ** *зак.* Прыйсці, прытупаць. *Назьбіра́лася на вічары́нку людзей, аш са Стары́ны ма́льцы прытэ́нпілі к нам.* Судзілавічы.

**ПРЫХАДЖА́ЛЫ** *прым.* Прышлы, нетутэйшы. *Не́йкія ніна́ськія, прыхаджа́лыя лю́дзі.* Старына.

**ПРЫХІНУ́ЦЦА** *зак.* 1. Прытуліцца. *Прыхіну́лася дзе́вачка да ма́ткі.* Арэхаўна. 2. Падтрымаць, дапамагчы. *І радня́ ёсь, а як біда́, дык ніхто́ й ні прыхіну́ўся.* Судзілавічы.

**ПРЫЧМУРО́НЫ** *прым.* Дзівакаваты. *Не́йкі прычмуро́ны дзя́цька, усё ў яго́ ні так, як у людзе́й.* Судзілавічы. *Прычмуро́ная ба́ба: і пра́ўду ска́жыць, і здума́йіць.* Наваселле.

**ПРЫЧО́ПКА**[1] *ж.* Прычэпка. *У цябе́ прычо́пка ў пінжаку́ парва́лася, дава́й, прышы́ю.* Чэрсвя. *На́да прычо́пку ў каро́місьлі паміня́ць.* Слабада.

**ПРЫЧО́ПКА**[2] *ж.* Зачэпка, прычына. *То́лькі прычо́пка, што сёліта ні хадзі́ла на рабо́ту, паві́нны даць пе́нсію, сто́лькі гадо́ў ро́біла.* Вялікія Дольцы.

**ПРЫЧЫ́НА** *ж.* Бяда, напасць. *Па прычы́ні плач, галасі́ – ра́ды ні дасі́.* Судзілавічы. *У йіх сёліта ўсе прычы́ны: хлеў згарэ́ў, каро́ва прапа́ла.* Арэхаўна. *Што за прычы́на – захварэ́ў мужы́к і памёр.* Слабада.

**ПРЫШЧУ́РА** *агульн.* Той, хто прышчурваецца. *Прышчу́ра ты!* Вялікія Дольцы. *Змалі́ така́я прышчу́ра была́.* Арэхаўна.

**ПТУША́РНЯ** *ж.* Птушнік. *Мы ў па́на жы́та жа́лі. Двор быў далёка ат нас, там і начава́лі, у птуша́рні нас кла́лі.* Наваселле. *По́ўна курэ́й у птуша́рні.* Арэхаўна.

**ПУК** *м.* Сцябло цыбулі з суквеццем. *Дрэ́нная цыбу́ля, адны́ пукі́.* Арэхаўна. *У пукі́ цыбу́ля пайшла́.* Наваселле.

**ПУЛЬКА́ТЫ** *прым.* З вачыма на выкаце. *У йіх ро́дзе ўсе пулька́тыя, во́чы выпу́кліваюць.* Вялікія Дольцы. *Чорт ты пулька́ты!* Судзілавічы.

**ПУЛЬКАЧЫ́** *мн., груб.* Вочы. *Што́ ты сваé пулькачы́ казéліш?* Арэхаўна.

**ПУЛЯ́ТКА** *ж.* Жанчына з вачыма на выкаце. *Ніпрыго́жая дзéўка, пуля́тка.* Шчарбёнкі.

**ПУЛЯ́ТЫ** *прым.* Тое ж, што і **ПУЛЬКА́ТЫ**. *Нéйкі ма́ліц пуля́ты, вы́ставіў сваé во́чы.* Міхалкаўшчына.

**ПУ́РХЛЫ** *прым.* 1. Пухлы, тоўсты. *Пу́рхлы дзяцёнак расьцéць, по́ўнінькі.* Міхалкаўшчына. *У мало́га ру́чкі пу́рхлыя.* Судзілавічы. 2. Апухлы. *Дзе ўжо нам éхаць к дзіця́м, стары́ саўсі́м пу́рхлы, хвар́эйіць ча́ста.* Вялікія Дольцы. *Усё цéла ста́ла пу́рхлая, асла́п чалавéк.* Арэхаўна.

**ПУСТАЛÉПІЦА** *агульн.* Пусты, несамастойны чалавек; пустальга. *Вядзéць абы-што́, то́лку німа́, пусталéпіца.* Вялікія Дольцы. *Чаго́ ты, пусталéпіца, лапо́чаш?* Арэхаўна. *Гавары́ў: усё зро́блю для вас, машы́ну даста́ну, дроў прывязу́. Пусталéпіца: як прыйшло́ся – ні само́га, ні дроў.* Судзілавічы.

**ПУСТАМО́Л** *м.* Пустамеля, балбатун. *Ён увéсь век пустамо́лам быў, ня вéрці яму́.* Арэхаўна.

**ПУСТАСМÉШНІЦА** *ж.* Пустасмешка. *Ужо́ й вялі́кая дзéўка, а така́я ш пустасьмéшніца, як і мала́я была́.* Вялікія Дольцы. *То́лькі п і сьмія́лася, дурэ́ла, пустасьмéшніца расьцéць.* Старына.

**ПУЦА́ТЫ** *прым.* З поўным тварам. *Мужы́к яé пуца́ты, по́ўны, здаро́вы.* Арэхаўна. *Пуца́тая дзéвачка.* Мажэйшчына.

**ПУ́ЦКА** *ж.* Шчака. *Пу́цкі кру́глінькія, ло́ўкі дзяцёнак.* Арэхаўна. *Пу́цку вы́мазаў.* Кублішчана.

**ПУЦКАВА́ТЫ** *прым.* Тое ж, што і **ПУЦА́ТЫ**. *Пуцкава́тая ўнучка, шчо́чкі кру́глінькія, наду́цінькія.* Вялікія Дольцы.

**ПУЦКÉЛЬ** *м.* Круглатвары, поўны чалавек. *Такі́ ма́льчык пуцкéль, по́ўнінькі, шчо́чкі кра́сьнінькія.* Арэхаўна.

**ПУ́ЧЧА** *н., зб.* Сцяблы цыбулі з суквеццем. *Шэсь вёдзір цыбу́лі, алі́ пасьці́ ўся ў пу́чча пайшла́.* Слабада.

**ПУ́ШКА** *ж.* Каробка. *Палажы́ гу́зікі ў пу́шку, хай ні валяюцца тут.* Вялікія Дольцы. *Канхвéты ў пу́сцы.* Арэхаўна.

**ПЫКЛІ́ВЫ** *прым.* Марудны. *До́ўга адно́ й то́я ро́біць, пыклі́вы, нэры́хлы чалавéк.* Мажэйшчына.

**ПЫ́РГАЦЬ** *незак.* Капрызнічаць, злавацць. *І ма́ліц, здаéцца, ла́дны, а та́я дзéўка пы́ргайіць, ня хо́чыць зь йім хадзі́ць, усё ні па ей.* Судзілавічы.

**ПЯКО́ЛАК** *м.* Ніша ў печы; пячурка; прыступка лезіці на печ. *Паста́ў ва́лінкі на пяко́лак, дык за́ўтра сухі́я бу́дуць.* Чэрсвя. *Пяко́лак – така́я прысту́пка лéсьці на печ.* Слабада.

**П'ЯНЦЮ́ГА** *м., асудж.* П'янчуга. *На сваю́ галаву́ п'янцю́гу знайшла́, апасьлéднію капéйку вы́цігніць.* Арэхаўна.

**ПЯРХÉКАЦЬ** *незак.* Перхаць. *Стары́ ўжо éйны мужы́к, усё пярхéкайіць: кхе-кхе-кхе!* Арэхаўна.

**ПЯРХЛЯ́К** *м., асудж.* Стары, нямоглы; той, хто часта кашляе. *Нашто́ табé гэ́ны пірхля́к? Ты маладая, ла́дная, ні раўня́ яму́.* Слабада. *Пірхля́к, німа́ здаро́ўя.* Чэрсвя.

**ПЯРША́К** *м.* Першы сын у сям'і. *Пірша́к мой, Сьцёпка, пірад вайно́й ужо́ вялі́кі быў, а дзéвачка ў вайну́ радзі́лася.* Вялікія Дольцы. *Пірша́к – гэ́та пéршы дзяцёнак.* Старына.

**ПЯРША́ЧКА** *ж.* Першацёлка. *На́ша каро́ва – пірша́чка, пéршым цялёнкам была́.* Арэхаўна. *Каро́ва – пірша́чка, ма́ла малака́ даéць.* Астраўляны.

**ПЯРЭ́КАЦЦА** *незак., безас.* Мяшацца, блытацца. *У мянé ў галавé пярэ́кайіцца, як узду́маю пра мужыка́, – с паралічá памёр.* Старына.

**ПЯТНАСТО́ЎКА** *ж.* 1. Дзяўчына-падлетак гадоў пятнаццаці. *Дачка́-пітнасто́ўка, вы́расла ўжо.* Чэрсвя. 2. Немаладая жанчына, якая паводзіць сябе не адпаведна ўзросту. *Прычапуры́лася, як пітнасто́ўка, зьмёрзьніш, маро́с ці́сніць.* Арэхаўна. *Пайшла́ і Алéся на вічары́нку, така́я пітнасто́ўка!* Вялікія Дольцы.

**ПЯ́ЦІЦЦА** *незак.* Напружвацца, цягнуцца. *Я ўчо́ра пя́цілася, вéшала занавéску, а кот парва́ў.* Судзілавічы.

**ПЯЮ́ЛЛЯ** *ж.* Жанчына, якая любіць і ўмее спяваць. *У Слабадзé са́мыя пяю́ллі: і жні́ўныя зна́юць, і талаку́, і купа́лку.* Наваселле. *У нас Хрысты́ня пяю́лля, у яé пупыта́йці пéсінь.* Слабада.

**РАБО́ТНІК** *м.* 1. Працаўнік. *Які́ зь яго́ рабо́тнік, стары́, нямо́глы.* Арэхаўна. 2. Працавіты чалавек. *Мужы́к рабо́тнік, ні за́валінь які́.* Астраўляны.

**РАБО́ТНІЦА** *ж.* 1. Працаўніца. *Рабо́тніца была́, стара́лася для сям'і́.* Кублішчана. 2. Працавітая жанчына. *І рабо́тніца, і ру́пніца, а шча́сьця німа́.* Судзілавічы.

**РАБО́ЧЫ** *прым.* Працавіты. *Ба́цька ру́пны, рабо́чы быў, і дзéці па йім.* Слабада. *Услу́хаюцца даўнéй: ці ччэць, ці прадзéць дзéўка – ці рабо́чая, а тады́ ўжо сватоў шлюць.* Наваселле.

**РАВУ́К** *м.* Плакса. *Такі́ раву́к, го́ра з уну́кам.* Судзілавічы.

**РАГАЧА́** *прысл.* Няроўна, крыва. *Скварада́ рагача́ стайі́ць, піраку́ліцца.* Судзілавічы.

**РА́ГІ** *мн.* Пацёкі на запацелых вокнах, на твары. *Запацéла акно́, і ра́гі пацяклі́.* Арэхаўна. *Пот па йім сьціка́йіць ра́гамі.* Наваселле.

**РАДЗІ́ЛЬНЯ** *ж.* Радзільны дом. *Хапі́ў яé жыво́т, у радзі́льню пувязьлі́, ма́льчыка радзі́ла.* Слабада.

**РАДЗІ́ХА** *ж.* Парадзіха. *Радзі́ха яшчэ́ сла́бая.* Судзілавічы. *Радзі́ха ба́бі на ку́рту шаці́н купля́йіць.* Шчарбёнкі.

**РАДО́ВІКІ** *мн., бат.* Радоўкі (грыбы). *Радо́вікі растýць раткамі.* Вялікія Дольцы. *Радо́вікаў назьбіра́ла.* Судзілавічы.

**РАДО́ЎКА** *ж.* Чарга пасвіць кароў. *За́ўтра на́ша радо́ўка, паго́нім каро́ў на па́сту.* Арэхаўна. *Дзьве радо́ўкі адбылі́.* Шчарбёнкі.

**РАЗА́НКА** *ж.* Хвароба жывата; рэзь. *З раза́чкі памёр.* Арэхаўна. У выразах-кленічах: *Хай йіх раза́нка (раза́чка) во́зьміць! Лéзуць у чужо́я, хай йіх раза́нка во́зьміць!* Арэхаўна. *Ха́й яé раза́чка! Муштру́йіць мужыка́!* Чэрсвя.

**РАЗА́ЧКА** *ж.* Тое ж, што і **РАЗА́НКА**.

**РАЗБІВА́ЦЦА** *незак.* 1. Трэскацца, расколвацца. *Алюмі́нівая мі́ска ня бу́дзіць разьбіва́цца.* Арэхаўна. 2. *перан.* Вельмі перажываць, непакоіцца. *Ляжу́ ў бальні́цы, а дзяўчы́на мая па мне разьбіва́йіцца, бáйіцца, каб ні памéрла.* Наваселле. *Сын у сьвет паéхаў, разьбіва́лася па йім.* Слабада.

**РАЗВАДЗЯ́ГА** *агульн.* Той, хто скасаваў шлюб. *Сва́таўся адзі́н развадзя́га, алі́ ні пайшла́ за яго́.* Судзілавічы. *Яны́ развадзя́гі, разьвялі́ся з мужыка́мі.* Арэхаўна.

**РАЗВАДНЫ́** *прым. у знач. наз.* Разведзены. *За разваднóга вы́йшла, ні пубая́лася.* Арэхаўна. *Які́ е́йны за́муш? За развадно́га пайшла́, на тро́я дзяцэ́й.* Кублішчана.

**РАЗВО́ДКА** *ж.* Разведзеная жанчына. *Ня ўдо́вы яны́, а разво́ткі.* Арэхаўна.

**РАЗВО́ДНІК** *м.* Разведзены мужчына. *Не́йкага развóдніка знайшла́ сабе́!* Астраўляны. *Разво́днік хо́чыць яе́ ўзя́ць.* Міхалкаўшчына.

**РАЗГУКА́ЦЦА** *зак.* Разгаварыцца. *Разгука́ліся са сва́цццяй.* Старына.

**РАЗДАЛІКА́ЦІЦЦА** *зак.* Распесціцца, стаць вельмі далікатным. *Цяпе́р раздаліка́цiліся: калі́ ячшэ́ бу́дзіць раджа́ць, а ўжо на рабо́ту ня хо́дзіць.* Судзілавічы.

**РАЗДРУ́ЗНУЦЬ** *зак.* Стаць друзлым, апоўзлым. *Зало́ўка так раздру́зла, чуць хо́дзіць, мо́жа, аптыка́рка яе́ пале́чыць.* Вялікія Дольцы.

**РАЗІ́НЬКА** *агульн.* Разява. *Му́сіць, у аўто́бусі гро́шы згубі́ла, вагэ́ткая разі́нька!* Арэхаўна. *У ліцы́ яго́ ро́бюць, а ён, разі́нька, ні пані́ма́йіць.* Наваселле.

**РАЗІНЬКАВА́ТЫ** *прым.* Няўважлівы, разявака. *Разінькава́ты чалаве́к, праваро́ніў машы́ну, цяпе́р пяшко́м по́йдзіць дзе́сіць кіламе́траў.* Судзілавічы.

**РАЗЮ́КА** *агульн.* Разявака. *Ён увесь свой век такі́ разю́ка: сваё ўпу́сьціць, ні зьбіра́жэ́ць.* Чэрсвя. *З разю́кай ні хачу́ пуска́цца ў даро́гу.* Слабада.

**РАЗЮ́ТА** *агульн.* Тое ж. *Стая́ла разю́та, па бака́х глядзе́ла, а гро́шы прапа́лі.* Арэхаўна.

**РАЗЯВА́ТЫ** *прым.* Няўважлівы. *Разява́ты мушчы́на: на ла́ўцы сядзе́ў, а ку́ры ў яго́ пад но́сам забе́глі ў вагаро́т.* Судзілавічы.

**РАЗЯКО́М** *прысл.* Расчынена, адкрыта. *Хай ба́ня разяко́м пастаі́іць, уну́ка прывяду́ мы́цца.* Слабада.

**РАМЁНКІ** *мн.* Шлейкі ў жаночай сарочцы. *Рамёнкі с плеч спаўза́юць, падвяжы.* Вялікія Дольцы. *Рамёнкі парва́ліся.* Старына. *Рамёнкі ву́скія пашы́ла, на́да было́ шырэ́й.* Судзілавічы.

**РАМІ́З** *м.* Ганьба. *Гэ́та ж рамі́с – ажані́ць ме́ншага сы́на ці́раз бо́льшага.* Наваселле.

**РАМІ́ЗІЦЬ** *незак.* Ганьбіць. *Што́ ты мяне́ рамі́зіш пірад людзьмі́!* Чэрсвя. *У нас у ко́жнага я́блыкі ёсь, чаго́ мы пале́зім у чу́жыя, чаго́ бу́дзім сябе́ рамі́зіць?* Слабада.

**РА́ННЫ** *прым.* Ранні. *Ма́ла ра́нных я́блыкаў.* Слабада.

**РАСАМА́ХА** *ж.* 1. Жывёліна з сямейства куніц з доўгім грубым футрам. *У ле́сі во́дзяцца расама́хі.* 2. *перан.* Неахайная, непрычасаная жанчына. *Ні глядзі́ць сябе́ ба́ба, у кара́вым хо́дзіць, ве́чна валаса́тая, расама́ха.* Вялікія Дольцы.

**РАСКО́Л** *м.* Неслух, свавольнік. *Біз ба́цькі гаду́іцца, такі́ раско́л стаў, ніко́га ні баі́цца, ро́біць напірако́р.* Арэхаўна. *Гразі́лася ма́льцу: таўко́лкай наб'ю, калі́ бу́дзіш такі́ раско́л.* Міхалкаўшчына.

**РАСКО́Т** *м.* Качанне. *Ху́стка сьве́жая, то́лькі з раско́ту, завяжы́ яе́ з ба́ні.* Судзілавічы.

**РАСКРЫПА́ЦЬ** *зак.* Разблытаць. *Раскрыпа́й ні́ткі!* Арэхаўна. *Ні́як ні раскрыпа́ць ні́так.* Судзілавічы.

**РАСПАСО́РЫЦЬ** *зак.* Растраціць. *Распасо́рыла гро́шы, а цяпе́р хо́дзіць, пазыча́іць.* Судзілавічы.

**РАСПУШЧО́НЫ** *прым.* Раздураны. *Распушчо́ны, ня слу́хаіць баццько́ў.* Слабада.

**РАССКІПА́ЦЬ** *зак.* Раскалоць. *Расскіпа́й пале́на на лучы́нкі.* Арэхаўна.

**РАССЦЯРВІ́ЦЦА** *зак.* Раззлавацца, раз'ярыцца. *Хава́йцеся! Бык рассцярві́ўся, мо́жыць забі́ць каго́.* Арэхаўна.

**РАСШЭ́ЎКА** *ж.* Прошва. *Насто́льнік з рашшэ́ўкамі.* Вялікія Дольцы. *З ні́так рашшэ́ўкі плялі́.* Судзілавічы.

**РАШО́ТКІ** *мн., бат.* Рашэтнікі. *Рашо́ткі – нібальшэ́нькія грыбы́, ру́дзінькія, а зні́зу як се́тачка.* Арэхаўна. *І рашо́так, і ваўне́нак назьбі́ралі. Кублішчана.*

**РО́ДЗІЛЬНЫ** *прым.* Без дабаўлення мякіны (хлеб). *Ле́пшыя зірня́ты адбі́ралі на сіміну́, а са́мі е́лі хлеп ро́дзільны.* Арэхаўна.

**РО́ЗВАЛКІ** *мн.* Розвальні. *Са́ні былі шыро́кія, ро́звалкі.* Вялікія Дольцы.

**РО́ЗГЛЯДЫ** *мн.* Агледзіны. *Сьпірва́ ў ро́згліды пае́дуць, пагліздзя́ць, ці ёсь куды́ дачку́ аддава́ць.* Слабада.

**РО́ЦІК** *м.* 1. Памянш. да рот. *Вы́тры ро́цік мало́му.* Арэхаўна. 2. Няўважлівы чалавек, разявака. *У яго́ ўсё прапада́іць, такі́ ро́цік.* Судзілавічы.

**РО́ЦЬКА** *агульн.* Тое ж, што і **РО́ЦІК**. *Ня буць такі́ ро́цька, глядзі́, каб ні сьцягну́лі што.* Арэхаўна. *Дзе́ўкаро́цька, заглядзе́лася, а гро́шы прапа́лі.* Шчарбёнкі.

**РУБІ́НКА** *ж.* Рубец, шво. *Хоць бы яны́ ні выпраўля́ліся ў даро́гу: такі́ дошч, рубі́нкі сухо́й ня бу́дзіць на іі́х.* Судзілавічы.

**РУДА́** *ж.* Балотная рыжая вада. *На бало́ці руды́ по́ўна.* Арэхаўна. *Рудо́й фарбава́лі адзе́жу.* Судзілавічы.

**РУДА́К** *м.* Рыжы чалавек. *Чаго́ гэ́ты рудзя́к у го́рат сабра́ўся?* Судзілавічы. *У іі́х сям'і́ ўсе рудзякі́.* Вялікія Дольцы. *Ба́цька быў руда́к, і дзе́ці па і́м.* Арэхаўна.

**РУ́ДАЧКІ** *мн., бат.* Грыбы-мачонікі рудога колеру. *Намачы́ла цэ́лую дзе́жачку ру́дачак.* Судзілавічы. *Тро́шку ру́дачак сабра́лі, тро́ху лісі́чак.* Арэхаўна.

**РУДЗЯ́К** *м.* Тое ж, што і **РУДА́К**.

**РУКА́ТЫ** *прым.* Умелы, спрактыкаваны, здатны да працы. *Дзе́ўка рука́тая была́: й кару́нкі, й ўся́кую ўся́чыну ўме́ла ро́біць.* Судзілавічы. *Ба́цька рука́ты: і кува́ль, і сталя́р.* Наваселле.

**РУ́МЗАЛА** *агульн.* Румза. *Цэ́лы дзень пла́чыць, такі́ ру́мзала.* Арэхаўна. *Гэ́та ру́мзала то́лькі за ма́мінай спадні́цай хо́дзіць.* Міхалкаўшчына.

**РУ́ПНІК** *м.* Старанны, дбайны, клапатлівы чалавек. *Дзе мужы́к ру́пнік, там жо́нцы до́бра жыве́цца.* Вялікія Дольцы.

**РУ́ПНІЦА** *ж.* да **РУ́ПНІК**. *Сама́ ру́пніца, і дзе́ткі стара́ліся.* Арэхаўна.

**РУХА́ЦЦА** *незак.* Кранацца, ісці. *Не́чага й руха́цца, така́я ве́я на дварэ́: нагу́ стаў – нагу́ вы́стаў.* Старына. *І ня ду́май руха́цца, ні пушчу́ ў таку́ю не́пагадзь.* Судзілавічы.

**РУ́ЧАНКА** *ж.* Жменя лёну. *Атарва́ла ру́чанку ат па́смы.* Вялікія Дольцы. *Як мнуць лён, бяру́ць ру́чанкі.* Судзілавічы.

**РЫ́ДЗЕЛЬ** *м.* 1. Драўляная лапата, акантаваная жалёзам. *У се́нцах ляжы́ць ры́дзіль.* Арэхаўна. *Вазьмі́ ры́дзель, ускапа́й ляху́.* Судзілавічы. 2. *перан.* Здаровы, чырванашчокі чалавек. *Такі́ ры́дзіль калаву́рыць?* Арэхаўна. *Яе́ мужы́к здаро́вы, ры́дзіль, усю рабо́тачку до́ма ло́міць.* Шчарбёнкі.

**РЫЗЗЁЎКА** *ж.* Посцілка з рыззя. *Нада рыззёўку пасла́ць на са́нкі, так і завязём бабу ў ба́ню.* Судзілавічы. *З рыззя ткалі і паднóжнікі, і грубыя пóсьцілкі – рыззёўкі.* Вялікія Дольцы.

**РЫСКО́ВЫ** *прым.* Рызыкоўны. *Рыскóвая маладзі́ца: паехала з мужыкóм у сьвет.* Арэхаўна. *Ва́лька рыскавейшая за цябе: пайшла за тагó чужóга ма́льца – і дóбра жывéць.* Судзілавічы.

**РЫ́ХЛЫ** *прым.* Увішны, хуткі. *Ры́хлая дзеўка, усё ў руках яе гары́ць.* Арэхаўна. *Ры́хлы мушчы́на, усé ты́я дрóвы за дзень піравёс.* Вялікія Дольцы.

**РЫШТА́НТ, РЫСТА́НТ** *м., асудж.* Нягоднік. *Што гэта за ры́ста́нты? Дзьве баразны́ нáшай бульбы вы́капалі!* Арэхаўна. *Ай, рыштáнт расьцéць! Пагáны дзяцёнак, усё наўрóшні рóбіць!* Слабада.

**РЭ́ЗКА** *ж.* Сечка. *Салóму запáрваюць і рэ́ску рóбяць.* Вялікія Дольцы. *Карóві рэ́ску давалі.* Кублішчана.

**РЭ́ХВІНА** *ж.* Рэхва; маленькае колца, што адзяецца на канец восі. *Ці ня рэ́хвіна вы́круцілася? Стáла вось псавáцца.* Чэрсвя.

**САДЖА́ЛКА** *ж.* Жанчына, якая садзіць бульбу; саджальшчыца. *Наймáлі пяць саджáлак, скóра бульбу пасадзілі.* Вялікія Дольцы. *Саджáлкі ў нас абéдалі.* Арэхаўна.

**САЗВО́ДЗІЦЬ** *незак.* Выдумляць. *Сазвóдзіў, што ў шкóлі быў, а сам уцікáў з урóкаў.* Слабада.

**САЛЁНКА** *ж.* Сальніца. *Падáй салёнку.* Арэхаўна.

**СА́ЛЬНІК** *м.* Кабан-кормнік. *Сы́ты парсю́к, сáльнік, бýдуць біць на калядЫ.* Арэхаўна. *Вы́гадавалі сáльніка пудóў на дзьвінáццаць.* Вялікія Дольцы.

**СА́ЛЬНІЦА** *ж.* да **СА́ЛЬНІК**. *Такýю сáльніцу забілі! Дзе яны́ сáла бýдуць дзівáць?* Міхалкаўшчына.

**САМАВО́Л** *м.* Самавольнік. *Што ўдýмайіць гэ́ны самавóл, тóя й рóбіць, ня слýхайіць мáтку.* Арэхаўна.

**САМАВО́ЛЕЦ** *м.* Тое ж, што і **Самавол**. *Самавóлец быў, ні с кім ні рáйіўся, усё сам рóбіў.* Судзілавічы. *У вáрмійі ні нáда такі́я самавóльцы, як ён, прагóнюць.* Вялікія Дольцы.

**САМАВО́ЛКА** *ж.* да **САМАВО́Л**. *Дзéўка-самавóлка, бацькóў ня слýхайіць.* Наваселле.

**САМАДУ́М** *м.* Той, хто робіць усё па-свойму, не лічыцца з іншымі. *Самадýм ні ў кóга ні пытáйіцца, свайі́м óдумам жывéць.* Арэхаўна.

**САМАДУ́МЕЦ** *м.* Тое ж. *Дзя́цька наш быў самадýмец, ні ўкáжаш ямý: як што задýмаў, так і зрóбіць.* Вялікія Дольцы.

**САМАДУ́МКА** *ж.* да **САМАДУ́М**. *Ні парáдзіўшыся, паехала к цёццы, во самадýмка.* Слабада.

**САСІ́ЦЬ** *незак.* Карміць грудзьмі. *Сасіла дзяцёнка, дóсіць былó малакá.* Судзілавічы.

**САСНАВА́ЦЦА** *зак.* 1. Зрабіцца асновай палатна. *Саснавáліся ні́ткі на сьцянý, а тады́ вытыкáлі.* Судзілавічы. 2. *перан.* Пакрыцца лёдам. *Рэ́чка тóлькі-тóлькі саснавáлася, а дзéці ўжо пайшлі́ катáцца, ні пускáйці йіх!* Арэхаўна.

**САЎСІ́М, САЎСЁМ** *прысл.* Зусім. *Саўсі́м зьнілюбéла мне гэ́та пустáя хадня́.* Арэхаўна. *Саўсём забы́ўся, калі́ гэ́та былó.* Судзілавічы.

**СВАЙСТВО́** *н.* Радня; роднасць. *Усё свайствó там жывéць.* Старына. *Якóя яны́ вам свайствó?* Арэхаўна.

**СВАЯ́К** *м.* 1. Сваяк. *У сваякóў жылá.* Арэхаўна. *Сваякі́ паехалі ры́бу лаві́ць.* Вялікія Дольцы. 2. Муж жончынай сястры. *Мужыкі́ рóдных сясцёр – сваякі́.* Астраўляны.

**СВЕСЦЬ, СВЕСЬ** *ж.* Жончына сястра. *Там у ягó цéшча і тры сьвéсьці, сёстры жóнчыны.* Слабада. *Сьвесь у нас былá заўчóрых.* Арэхаўна.

**СВЕТАВЫ́** *прым.* 1. Нетутэйшы, са свету. *Хто ягó вéдайіць, аткýль ён, нéйкі ні наш, сьвітавы́.* Арэхаўна. *Мікалáй прыéжджы, сьвітавы́, увáжыць ягó нáда.* Вялікія Дольцы. 2. Які многа дзе быў, пабачыў свет. *Кацяры́на – сьвітавáя бáба, усю́дых былá, мнóга вам нагукáйіць.* Старына.

**СВЕ́ЧКА**[1] *ж.* Свечка. *У царквé пастáвіла сьвéчку.* Арэхаўна.

**СВЕ́ЧКА**[2] *ж.* Капелька тлушчу на паверхні стравы. *На капýсьці мáла сьвéчак, мя́са ні былó тлýстага.* Судзілавічы. *Бацьві́ння са свéчкамі.* Арэхаўна.

**СВІ́НКА**[1] *ж.* Свіння. *Далá сьві́нцы éсьці.* Арэхаўна.

**СВІ́НКА**[2] *ж., бат.* Падгруздак. *Сьві́нак намачы́ла, такі́х сівы́х мачóнікаў.* Арэхаўна.

**СВІНУ́ХА** *ж.* Тое ж, што і **СВІ́НКА**[2]. *Бýду сьвінýхі вары́ць і мачы́ць.* Кублішчана.

**СЕКРЫВО́** *н.* Крэсіва. *Брáлі сікрывó і білі па крэ́міні – агóнь так высікáлі.* Чэрсвя. *Камянькóм ап сікрывó б'еш – йіскрá пырсь! – і гатóва, агóнь запáліш.* Слабада.

**СЕ́ЛІЦА** *ж.* Аселіца; нізкая мясціна за вёскай, каля возера. *Скасілі травý на сéліцы.* Арэхаўна. *Карóвы на сéліцы, хай пахóдзяць.* Кублішчана.

**СЕМЯНА́** *ж.* Зерне, прызначанае на пасеў. *Сімінý адбірáлі, вéйілачкай прасéйвалі, сáмыя адбóрныя зірня́ты.* Арэхаўна. *Сушы́лі снапы́ на сімінý ні ў вóсіці, а на дварэ́.* Кублішчана.

**СЕ́МЯННЫ** *прым.* Прызначаны на семя. *Сёліта ў нас німá ні сéміннай, ні éміннай бýльбы, усяя замóкла.* Арэхаўна.

**СЕРАДАВЫ́** *прым.* Сярэдні, у сярэдніх гадах. *Сірадавáя бáба: ні старáя, алі й ні маладáя.* Вялікія Дольцы. *Мушчы́на ў сірадавы́х гадáх, ні стары́.* Арэхаўна.

**СЕ́РАН** *м.* Шарпак; абледзянелая скарынка на паверхні снегу. *Быў сьнех мя́ккі, а сягóння марóс – вот і сéран, па йім павéрху ідзі́, скрось дзіржáць бýдзіць.* Судзілавічы. *Наўпрамікá па сéрану завязём дзяцéй у бáню.* Чэрсвя.

**СЕ́ЧАВА** *н.* Вялікае карыта, у якім сякуць траву. *Пасячы́ ахрáп'я ў сéчаві.* Арэхаўна. *Укі́нь бацьві́ння ў сéчыва.* Астраўляны.

**СЁЛЕТАК** *м.* Жывёла гэтага года. *Бычкá-сёлітка гадýюць.* Наваселле. *На цілят «сёліткі» кáжуць, яшчэ́ гóда німá.* Слабада.

**СЁЛЕТНІЦА** *ж.* да **СЁЛІТАК**. *Цялýшку-сёлітніцу бýдзім здавáць: німá чым кармі́ць.* Мажэйшчына.

**СІЛА́К** *м.* Моцны, дужы чалавек. *Такі́ быў здарóвы, сілáк, а цяпéр пастарэ́ў, аслáп.* Арэхаўна.

**СІЛЮТАВА́ЦЬ** *незак.* Бегаць, спяшацца, мітусіцца. *Жэ́нька сілютавáла, а ніхтó й ні прыéхаў зь яé радні́.* Астраўляны.

**СКА́БА** *ж.* Рабро. *Схуднéў, адны́ скáбы тырчáць.* Слабада.

**СКАБЛІ́ЦЬ** *незак.* Чысціць (бульбу). *Чым маглá, пасабля́ла дацця́: бýльбу скаблíла, пáранку таўклá, парсюкá кармíла.* Судзілавічы.

**СКАКУ́ЛЛЯ** *ж.* Скакуха. *І пяюлля, і скаку́лля, вясёлая.* Судзілавічы.

**СКАСЦІ́ЦЬ** *зак.* Груба аблаяць, зняважыць. *Скасьці́ла на́шу дачку́.* Судзілавічы. *Чаго́ то́лькі ні ска́жуць, кап скасьці́ць чалаве́ка.* Арэхаўна.

**СКАШАЛІ́ЦЬ** *зак.* Навыдумляць, нагаварыць няпраўды. *Ён вам скашалі́ць, то́лькі слу́хайці.* Арэхаўна. *Му́сіць, скашалі́ла ўжо не́шта, сядзі́ць і ўсьміха́йіцца.* Судзілавічы.

**СКІПА́ЦЦА** *незак.* 1. Шчапацца. *Ні скіпа́йіцца пале́на.* Арэхаўна. 2. Трэскацца. *Печ халаднава́тая, хлеп ні запіка́йіцца, а сьціпа́йіцца.* Вялікія Дольцы.

**СКІПА́ЦЬ** *незак.* Шчапаць. *Сьціпа́й скарэ́й лучы́ну, а то пату́хніць у пе́чы!* Арэхаўна.

**СКЛЕ́ЗЕНЬ** *м.* Кволае, хваравітае, капрызнае дзіця. *Уну́к-склёзінь, пла́чыць і пла́чыць.* Слабада. *Я й ма́ленькая крэ́пінькая была́, а ўнук во склёзінь.* Судзілавічы.

**СКЛЯ́ЦІЦА** *ж.* Слота. *Атлі́га, мо́кры сьнех, тума́н – даўно́ гэ́та скля́ціца.* Чэрсвя. *Праз скля́ціцу ка́шаль схапі́ў.* Слабада.

**СКНЫ́ГА** *агульн.* Хваравітае плаксівае дзіця. *Няўда́лы дзяцёнак, скны́га, то́лькі й пла́чыць.* Чэрсвя.

**СКНЫГАТА́** *агульн.* Тое ж, што і **СКНЫ́ГА**. *Адна́ скныгата́ ў ха́ці: адзі́н пла́каў, цяпе́р другі́ завёў! Надаела з гэ́тай скныгато́й вазі́цца.* Слабада.

**СКНЫ́ГАЦЬ** *незак.* Дакучліва хныкаць, плакаць. *Сын такі́, як ба́цька быў: скны́гайіць біс канца́.* Вялікія Дольцы.

**СКНЫГО́ЦЦЕ** *агульн.* Тое ж, што і **СКНЫ́ГА**. *Во́ скныго́ццяг: то ў яго́ но́гі, то галава́ балі́ць, хны́кайіць цэ́лы дзень.* Судзілавічы.

**СКО́МШАНЫ** *дзеепрым.* Скамячаны, змяты. *Няго́ ты ў такі́м ско́мшаным пла́цці по́йдзіш на віча́рынку?* Чэрсвя.

**СКО́МШЫЦЬ** *зак.* Скамячыць. *Ужо́ ско́мшыла пла́ццяг.* Арэхаўна.

**СКУПЯЛЕ́КА, СКУПЯЛЕ́ЧЫНА** *агульн., асудж.* Скупы чалавек, скнара. *Ай, скупяле́чына, ні даў дзе́вацы пірага́!* Судзілавічы. *Ня будзь, уну́чка, скупяле́ка, дай я́блыка.* Наваселле.

**СКУПЯНДЗЯ́, СКУПЯНДЗЯ́ГА** *агульн., асудж.* Тое ж. *Дзіця́м апа́ткаў ні даў, прагна́ў – во́ скупіндзя́! Арэхаўна. Такі́ скупіндзя́га: лёду зімо́й ні дась, а ты хо́чаш мукі́ пазы́чыць у яго́.* Наваселле.

**СКУПЯРДЗЯ́ГА** *агульн., асудж.* Тое ж. *Ня будзь скупірдзя́гай, цётка, дай ма́льцам па йгру́шыні!* Вялікія Дольцы. *І на кіно́ ня хо́дзіць гэ́ты скупірдзя́га, гро́шы жале́йіць на бяле́т.* Судзілавічы.

**СЛЯДНІ́К** *м.* Пратаптаная сцежка на свежым снезе. *Па сьледні́ку йішлі́.* Арэхаўна. *Сьледніч́ок ёсь, памале́ньку пату́паю дамо́ў.* Судзілавічы. *Сьледні́чко́м пайду́.* Вялікія Дольцы.

**СЛЯПЦЫ́** *мн., абразл.* Вочы. *До́ўга ні магла́ к сьве́ту прывы́кнуць, ду́мала, гэ́ты сьвет апасьле́днія сьляпцы́ вы́паліць.* Судзілавічы. *Ці табе́ сьляпцы́ засланіла, свайі́х ні пазнае́ш?* Арэхаўна.

**СМО́РГАЦЬ** *незак.* Шморгаць. *Смо́ргала брусьні́цы, цэ́лная вядро́ насмо́ргала.* Арэхаўна.

**СНУ́ЛЛЯ** *ж.* Снавалка. *Кро́сны снава́лі на сну́ллях.* Вялікія Дольцы. *Захо́дзісься за дзень ля той сну́ллі, паку́ль саснуе́ш кро́сны.* Міхалкаўшчына.

**СО́ВЕСНЫ** *прым.* Сумленны. *Наш сын ні круця́ка які́, а со́вісны, ніко́га ні амма́ніць.* Арэхаўна. *Со́вісны чалаве́к: знайшо́ў мае́ гро́шы – і аддаў.* Судзілавічы.

**СОСНІК** *м.* Сасоннік. *У со́сьніку грыбы́ зьбіра́лі.* Арэхаўна.

**СО́ЎМА** *прысл.* Настырна, напралом. *Ле́зуць со́ўма ка мне: вы́пі ды вы́пі! А калі́ я ні магу́?* Чэрсвя. *Авадні́ со́ўма ле́зьлі, ні змагла́ падайі́ць каро́ву.* Наваселле.

**СО́ЎНІНЬКА** *н.* Сонейка. *На со́ўнінька ўну́чку пувяду́.* Судзілавічы.

**СПАДМА́НВАЦЬ** *незак.* Падманваць. *І нашто́ было́ яе́ спадма́нваць?* Арэхаўна.

**СПАСІ́БАВАЦЬ** *незак.* Дзякаваць. *До́раць маладо́й пада́ркі, а йіна́ спасі́бавайіць.* Наваселле.

**СПЕ́ШКА**[1] *ж.* Спешнасць. *Куды́ такая сьпе́шка? Пасьпе́йіці на аўто́бус.* Арэхаўна.

**СПЕ́ШКА**[2] *ж.* Бульба-скараспелка. *Сьпе́шку ўжо капа́йім.* Кублішчана. *Ня се́йілі сьпе́шкі.* Арэхаўна.

**СПО́ДНІК** *м.* Ніжняя спадніца. *Но́вы спо́днік пашы́ла.* Судзілавічы. *Чу́ю: гру́кайіць не́хта, вы́бігла ў спо́дніку ў се́нкі.* Вялікія Дольцы.

**СПО́РНЫ** *прым.* 1. Эканомны. *Дама́шні хлеп спо́рны, надо́ўга хвата́йіць.* Судзілавічы. 2. Часты (пра дождж). *Пасядзі́м, ба́бы, дошч спо́рны, змо́кнім.* Арэхаўна. 3. Здаровы, поўны. *Гэ́ты сын ме́ншы, алі́ спо́рны, а той драбне́йшы. Дык на камі́сіі йіх двайнюка́мі паста́вілі.* Слабада.

**СПО́РЫВАЦЬ** *незак.* Спрачацца. *Спо́рываюць ба́бы са мной, у нажы́ рэ́жуцца, што ні даду́ць нам пе́нсію, а я зна́ю: бу́дзіць.* Старына. *Ні пабая́лася са старшыно́м спо́рываць.* Вялікія Дольцы.

**СПРА́ЎКА**[1] *ж.* Даведка. *Спра́ўку ў сільсаве́ці ўзіла́.* Арэхаўна.

**СПРА́ЎКА**[2] *ж.* Упраўка. *У нас спра́ўка ў рабо́ці: лён падня́лі, ата́ву скасі́лі.* Судзілавічы. *Жы́та пажа́лі, се́на пакасі́лі, спра́ўка.* Вялікія Дольцы.

**СПРАЎЛЯ́ЦЦА** *незак.* 1. Паспяваць зрабіць. *Ні спраўля́ліся се́на скла́сьці.* Арэхаўна. 2. Уходжвацца па гаспадарцы. *По́зна ўжо, пубягу́ спраўля́цца, каро́ва ня до́йіна.* Вялікія Дольцы. *Заба́вілася тут з ва́мі, а на́да ш спраўля́цца: парсюка́ карміць, курэ́й загна́ць у хлявок.* Арэхаўна.

**СПЯШЧО́НЫ** *дзеепрым.* Спешчаны, раздураны. *Сьпяшчо́ны дзяцёнак: куды́ ма́тка, туды́ й ён.* Арэхаўна.

**ССІЛІЦЬ** *зак.* Асіліць, змагчы. *Ня сьсі́лю ў грыбы́ схадзі́ць.* Астраўляны. *Яшчэ́ сьсі́лю се́на павару́чаць.* Судзілавічы.

**СТАВЫ́** *мн.* Кросны. *Наво́дзіш ставы́ і ччэ́ш.* Судзілавічы.

**СТАЖА́РНІШЧА** *н.* Стажарышча. *Сто́га німа́, аста́лася то́лькі стажа́рнішча.* Арэхаўна.

**СТА́РКВАЦЦА** *незак.* Сутыкацца, быць дзе-н. *Уну́чка ні ста́ркывайіцца ў ха́ці: су́пу хлібану́ла – і на ву́ліцу.* Вялікія Дольцы.

**СТАРЧМАКА́** *прысл.* Старчма, уніз галавой. *Старчмака́ паляце́ў с пло́та, нагу́ пудвярну́ў, галаву́ пабі́ў.* Арэхаўна.

**СТАРШЫНА́** *м.* Старшыня. *Старшына́ сказа́ў так.* Арэхаўна. *Са старшыно́м гавары́ў.* Вялікія Дольцы.

**СТА́РЫЦА** *ж.* Месца, дзе раней была сядзіба; селішча. *Е́зьдзілі мы на сваю ста́рыцу, там усё траво́й зарасло́, дзе ха́та стая́ла, а залато́я было́ ме́ста, там*

*грыбы і ягады самі ў хату лезьлі.* Вялікія Дольцы. *Ладзімірава старыца лі нашага футара была.* Судзілавічы.

**СТАЎБУН** *м.* Гарлач. *Поўны стаўбун малака.* Арэхаўна. *Памый стаўбун.* Шчарбёнкі.

**СТАЎПЕНЬ** *м.* Частка грабляў, у якую насаджваюць зубы. *Стаўпень у граблях зламаўся.* Вялікія Дольцы.

**СТАЦЯКА** *прысл.* Старчма. *З маста стацяка паляцеў.* Арэхаўна. *Стацяка паваліўся з ганка.* Вялікія Дольцы.

**СТАЦЯКОМ** *прысл.* Тое ж, што і **СТАЦЯКА**. *У рацэ берага німа, зразу стацяком паляцім, гэта ня возіра.* Судзілавічы.

**СТВОЛКА** *ж.* Кветканоснае сцябло (у цыбулі). *Марос хапіў, прамёрзла цыбуля, у стволкі пайшла, адны цыбукі на лехах.* Чэрсвя.

**СТОЦЬ** *прысл.* Уніз галавой. *Прыпадак зь йім быў, паляцеў стоць з лоткі і захліпнуўся.* Арэхаўна.

**СТОЦЬМА** *прысл.* Тое ж, што і **СТОЦЬ**. *Стоцьма паляцела ў крапіву.* Арэхаўна. *Стоцьма зваліўся.* Вялікія Дольцы.

**СТРАМ** *м.* Сорам. *Страму ні маііць: гоніць сьвякроўку с хаты!* Вялікія Дольцы. *Німа ў дзеўкі страму, сама к дзіцюку ў хату пайшла!* Судзілавічы.

**СТРАМАТА** *ж.* Тое ж, што і **СТРАМ**. *Стараматы набраліся.* Судзілавічы.

**СТРАМІЦЬ** *незак.* Сароміць. *Пры ўсіх страміла дзеўку, чаго з яе сынам ноччы ходзіць.* Судзілавічы.

**СТРАМЛІВЫ** *прым.* Сарамлівы. *Такі страмлівы мальчык – нізашто ні хацеў узяць гасьцінца.* Вялікія Дольцы. *Унук баявейшы, а ўнучка дужа страмлівая.* Наваселле.

**СТРАМНІК** *м.* Бессаромнік. *Ай, страмнік, патслухаць хацеў, што мы гукаім!* Вялікія Дольцы.

**СТРАМНІЦА** *ж.* Бессаромніца. *Чаго ты ноччы цігаісься, страмніца?* Судзілавічы. *На чужоя пагаліласся, страмніца!* Вялікія Дольцы.

**СТРУДЗІЦЦА** *зак.* Змучыцца. *Доўга хварэла, струдзілася бапка наша.* Кублішчана. *Струдзіўся за ноч, ня мог заснуць.* Астраўляны.

**СТРЫКАЦЦА** *незак.* Апякаць скуру (пра крапіву). *Ня лесь, дзетка, там крапіва стрыкаіцца.* Арэхаўна.

**СТРЭЛКА** *ж.* Страказа. *Стрэлкі лётаюць над вадой.* Арэхаўна.

**СТРЭНЧЫЦЬ** *незак.* Дагаджаць. *Стрэнчыла мужуку, а ён з'ехаў некуды.* Арэхаўна.

**СТЫД** *м.* Сорам. *Стыду ні маііць.* Арэхаўна.

**СТЫДАЦЦА** *незак.* Саромецца. *Стыдаіцца папрасіць грошай.* Арэхаўна. *Стыдаюся на людзі паказацца.* Астраўляны.

**СТЫДЛІВЫ** *прым.* Сарамлівы. *Стыдлівая дзевачка, ні ўзяла гасьцінца.* Наваселле.

**СТЫДНІК** *м.* Бессаромнік. *Во стыднік! На дзяціныя грошы пагаліўся!* Арэхаўна.

**СТЫДНІЦА** *ж.* Бессаромніца. *Чаго ты, стыдніца, прыйшла?* Судзілавічы.

**СУБОР** *м.* Збор, мноства людзей. *Сабраўся субор ды на Нінчын двор, уся яе радзіна (з песні).* Міхалкаўшчына.

**СУВІРЛА** *агульн.* Няўдалы, недарэка. *Сувірла ў хату забярэцца.* Судзілавічы.

**СУВЯРЭКА** *агульн., асудж.* Няспрытны, нязграбны чалавек. *Сувярэка, ніпаваротлівы, за йім піраробляць нада.* Старына. *Няўдалая дзеўка, сувярэка.* Вялікія Дольцы.

**СУДАВІК** *м.* Чыгун на два вядры. *Даўней судавік падымала, а цяпер няўздолая стала.* Арэхаўна. *Судавік пастаў у печ, хай вада сагрэііцца.* Судзілавічы. *Даўней судавік бацьвіння наваруць і ядуць цэлы дзень.* Слабада.

**СУДНІК** *м.* Паліца для посуду. *Уся пасуда ў суднiку.* Вялікія Дольцы.

**СУДНО** *н.* Пасудзіна. *У сенцах цячэць, пастаў якоя судно.* Арэхаўна.

**СУДЫ** *мн.* Два вядры вады. *Малы, а ўжо такі здаравец: суды вады нясець.* Вялікія Дольцы. *Троя судаў прынісла, нада агуркі паліць.* Арэхаўна.

**СУКРЫСТЫ** *прым.* Кучаравы. *Ладная дзеўка, сукрыстая.* Арэхаўна. *Валасы ў бабы віліся, сукрыстая была.* Судзілавічы.

**СУПРАДКІ** *мн.* Попрадкі. *На супраткі дзеўкі хадзілі.* Судзілавічы. *На супратках пралі.* Арэхаўна.

**СУПРАЖАНКА** *ж.* Удзельніца супрадак. *Што майім супражанкам даць, якой ежы?* Вялікія Дольцы. *То ў адных, то ў другіх супражанкі зьбіраліся.* Наваселле. *Супражанкі пралі і піялі.* Арэхаўна.

**СУРОЎКА** *ж.* Суравое палатно. *Суроўка рудая, алі ні біда, спрáвіць пранік і вада.* Вялікія Дольцы.

**СУРОЦЫ** *мн.* Сурокі. *Можа, яму стала дрэнна ат суроцаў? Буваііць, ніпрыхільна хто пагглядзіць і сурочыць.* Наваселле. *Адна баба загаварывала суроцы.* Слабада.

**СУСВЕТ** *м.* Далёкія мясціны, свет. *К гэтаму знахару едуць с сусьвету.* Судзілавічы. *Чалавек с сусьвету, радні тут німа, жывець адзін.* Арэхаўна. *Увесь сусьвет аб'ехаў, многа дзе пабываў.* Судзілавічы.

**СУСВЕТНІ** *прым.* Не тутэйшы, з далёкага краю. *Чалавек сусьветні, нашых прывычак ні знаііць, ты яму паткажы.* Вялікія Дольцы. *Вы з маткай баяліся, што ён сусьветні, ня свой, а тая дзеўка пайшла за яго – і добра жывець.* Судзілавічы.

**СУХАПЯТКА** *агульн.* Худы чалавек. *Прывёз здалёку нейкую сухапятку, малую, худую, а тут, у нас, столькі дзевак ладных, спраўных.* Арэхаўна. *Сам жывот адгадаваў, а жонка сухапятка.* Кублішчана.

**СУХАПЯТЫ** *прым.* Худы. *Піpaxвapэў, сухапяты стаў.* Наваселле.

**СУШКА** *ж.* Засуха. *У йіх там макрата, а ў нас с палавіны лета сушка, усё ў агародзі пасохла.* Вялікія Дольцы.

**СЦЕНЬ** *м.* 1. Цень. *Сьцень малы.* Слабада. 2. *перан.* Худы, змарнелы чалавек. *Чуць сьцень Агапка, адны косьці.* Судзілавічы. *Доўга хварэла, трудзілася, сьцень стала.* Судзілавічы.

**СЦІПЧЫЦЬ** *зак.* Сцягнуць, украсці. *Глядзі, каб ня сьціпчыў што гэны даўгарукі.* Вялікія Дольцы.

**СЦІДЗЁНЫ** *прым.* Сцюдзёны. *Сягоння сьцідзёны дзень, адзеньця цяплей.* Астраўляны.

**СЦІСКАЦЬ** *незак.* Ашчаджаць, эканоміць, скупіцца. *Страх які скупы, усё сьціскаііць, нічога ні дась радні.* Слабада. *Некаліс людзі ўсё сьціскалі, даражылі грашмі, сярнічкі ні купляли, ад жару лучыну запальвалі.* Старына.

**СЦІСКЛІ́ВЫ** *прым.* Тое ж, што і **СЦІ́СКЛЫ**. *Сьціскліваяя матка, мальцу сьмітаны жалейіць, усё на масла піраводзіць, прадаець.* Астраўляны. *Адвеку сьціскліваяя Васіліна, я й пазычаць у яе ні хачў. Па мне – ні дай і ні лай.* Старына.

**СЦІ́СКЛЫ** *прым.* Скупы, эканомны, ашчадны. *Наш сват сьціеклы, завідны, у яго зімой лёду ні дастаніш.* Вялікія Дольцы. *Сьціеклая Домна, сь пляменніка грошы брала, што на кварціры жыў.* Арэхаўна.

**СЦЮ́ДЗЕНЬ** *м.* Халадзец. *З'еў міску сьцюдзіню.* Мажэйшчына.

**СЦЮ́ДЗІНКА** *ж.* Тое ж, што і **СЦЮ́ДЗЕНЬ**. *Варыла сьцюдзінку на сьвята.* Старына. *Смашная сьцюдзінка.* Кублішчана.

**СЦЮ́ПІЦЬ** *зак.* 1. Скрышыць, здрабніць. *Агуркі дўжа дробна парэзала, сьцюпіла – як ііх цяпер есьці?* Чэрсвя. 2. *перан.* Знішчыць. *Як сталі немцы банбіць – усіх сьцюпілі, толькі бацька жывы астаўся.* Слабада.

**СЦЮЦЮ́РЫЦЦА** *зак.* 1. Скурчыцца. *Прамок на пасьці, сьцюцюрыўся, на тых карбў і ні глядзіць, а яны ў шкодзі.* Чэрсвя. 2. Сцішыцца. *Пакрычыць (дзіця) троху, а посьлі сьцюцюрыцца і засьнець.* Судзілавічы.

**СЦЯНЯ́ЦЦА** *незак.* Бадзяцца, хадзіць без мэты. *Дзе ты цэлы дзень сьціняйісься? Ідзі маццы пумажы сена скласьці!* Арэхаўна.

**СЫРАПО́НЯ** *ж.* Сыракваша. *Сырапоні паеш.* Арэхаўна. *Ці смашная ваша сырапоня?* Судзілавічы.

**СЯДУ́Н** *м.* Дзіця, якое позна пачынае хадзіць. *Іх сын сядун быў, доўга ні хадзіў, сядзеў, ногі ў калітку, а посьлі шустры мальчык стаў.* Судзілавічы. *Калі сядун, яго абсяваюць калапнямі.* Наваселле.

**СЯДУ́НЬКА** *ж.* Тое ж, што і **СЯДУ́Н**. *Да пяці гадоў дзевачка ні хадзіла, сядунька была, сядзела, ногі закруціўшы.* Слабада.

**СЯДУ́ХА** *ж.* да **СЯДУН**. *Меншая дачка сядуха была, позна стала хадзіць.* Вялікія Дольцы.

**СЯРНІ́ЧКА** *ж.* Запалка. *Запалі сярнічку.* Арэхаўна. *Ні давай маломў сярнічкі.* Судзілавічы.

**СЯРТО́ЛІЦЦА** *незак.* Пераджываць, спачуваць. *Паланея сярtoліцца, што ў сястры мужык дрэнны, б'еца.* Мажэйшчына.

**СЯСТРУ́ХА** *ж.* Дваюрадная сястра. *Сяструха Нюшка, цётчына дачка, нідалёка ат нас жывець.* Арэхаўна. *І сяструху, і брацеыніка праведала.* Судзілавічы.

*І. У. Сацута*

## СА СЛОЎНІКА ЯНАЎСКІХ ЛАБАРАЎ

*Янаў* (*Янава, Янова, Яні́в*) – такое найменне меў сучасны палескі горад Іванава ў дакументах Вялікага Княства Літоўскага, а затым Рэчы Паспалітай. Русіфікаваная назва *Іванава* ў гаворцы мясцовых жыхароў і навакольных вёсак да гэтага часу так і не прыжылася. Вядома, што ў XIV ст. на месцы цяперашняга горада знаходзілася вёска *Порхава*, якую ў 1423 г. вялікі князь літоўскі Вітаўт падараваў Луцкаму кафедральнаму сабору. У 1465 г. воляю луцкага епіскапа Яна Ласковіча вёска была абвешчана горадам з назваю *Янаў*. Жыхары наваяўленага горада атрымалі самакіраванне, а таксама поўную і ўсебаковую вольнасць ад усіх пабораў, транспартных і іншых павіннасцяў агульных і асобных на працягу часу да 20 гадоў. Ім дазвалялася варыць піва за невялікую плату, лавіць рыбу ў р. Буг і ва ўсіх вадаёмах каля Янава. За атрыманыя прывілеі жыхарам загадвалася выплачваць па 16 польскіх грошаў да дня Святога Марціна. У 1497 г. літоўскі князь Аляксандр Ягелончык дазволіў праводзіць у горадзе тры кірмашы ў год. Луцкія епіскапы ператварылі Янава ў сваю другую рэзідэнцыю. Аднак пажары 1525 і асабліва 1575 гг. амаль поўнасцю знішчылі горад. Жыхары перасяляліся ў навакольныя вёскі, а рэзідэнцыя епіскапа на доўгі час прыйшла ў запусценне. Пасля 1529 г., калі Пінскае княства ўвайшло ў склад Пінскага павета Трокскага ваяводства, Янаў на працягу некалькіх дзесяцігоддзяў быў сталовым маёнткам польскіх каралёў. У гэты час янаўскія сяляне мелі пэўныя прывілеі. Галоўнай з іх была свабода ад паншчыны. Янаўцы адбывалі толькі *мілявое*: у прызначаны час яны павінны былі паставіць каралеўскай адміністрацыі адпаведную колькасць падвод. Жыхары Янава часта бывалі ў Варшаве, у другіх гарадах, куды вазілі на продаж розныя прадукты харчавання. Асаблівым попытам карысталася сметанковае масла, якое ў Варшаве называлі *літоўскім*. Потым Янавам валодалі літоўскія, польскія, рускія князі і памешчыкі – Дмухоўскія, Аржэшкі, Шуйскія, Кружэцкія. Замест *мілявога*, якое адбывалася раней фурманствам, быў уведзены грашовы падатак у 15 капеек за мілю. Акрамя таго, янаўскія сяляне павінны былі выходзіць на работу да памешчыка ў так званыя *згонныя* дні.

Пасля трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай Янаў з 1795 г. у складзе Расійскай імперыі: мястэчка ў Слонімскай, з 1797 г. – у Літоўскай губерні, а з 1801 г. – у Кобрынскім павеце Гродзенскай

губерні. Паводле рэвізіі 1816 г., мястэчка з навакольнымі вёскамі належала Ганне Аржэшкавай, але знаходзілася ў закладзе ў памешчыка Здзяхоўскага. У 1848 г. на сродкі Францішка Паўла, сябра рускага цара Мікалая І, у Янаве быў пабудаваны мураваны касцёл. У першай палове XIX ст. Янаў разам з вёскамі Накла і Магільна ўваходзіў у склад маёнтка Магільна, які належаў І. Дмухоўскаму. Ва ўласнасці памешчыка было 1310 рэвізскіх душ, з іх цяглых сялян – 1256, агароднікаў – 59, дваровых людзей – 38.

У 1867 г. у Янаве была пабудавана драўляная праваслаўная царква, працавалі народнае вучылішча, станавая кватэра, валаснoе праўленне, аптэка. У наступным годзе купец І. Валавельскі заснаваў вінакурны завод, абсталяваны паравой машынай. Яму ж належалі цагельня і гарбарны завод. Вялікія страты Янаву наносілі пажары: у 1870 г. згарэлі 85 дамоў, у 1871 г. – 141 дом, у 1879 г. – 126 дамоў, валасная ўправа, аптэка.

У 1862–1884 гг. будавалася чыгунка Брэст–Пінск–Гомель, якая прайшла за кіламетр ад горада. Была пабудавана невялікая станцыя (цяпер Янаў-Палескі) з драўляным вакзалам, складскімі памяшканнямі, рамонтнымі майстэрнямі. Станцыйны пасёлак у хуткім часе зліўся з мястэчкам. У 1885 г. у Янаве, цэнтры воласці, было 148 двароў, 2437 жыхароў, валаснoе праўленне, праваслаўная царква, касцёл, капліца, 4 яўрэйскія школы, 6 піцейных дамоў, гарбарны і вінакурны заводы, праводзіліся кірмашы. У 1867–1868 гг. у янаўскім штатным народным вучылішчы навучаліся 46 хлопчыкаў і 7 дзяўчынак, з якіх 25 свабодна валодалі рускай і царкоўнаславянскай мовамі, правільна пісалі пад дыктоўку, добра ведалі чатыры правілы арыфметыкі і ўмелі карыстацца лічыльнікамі. Хор вучылішча з 22 хлопчыкаў лічыўся лепшым вясковым хорам Кобрынскага павета. У 1886 г. 95 янаўцаў былі заняты рознымі рамёствамі: у горадзе працавалі булачнікі (3), млынары (5), мяснікі (5), краўцы (10), майстры галаўных убораў (2), шаўцы (15), гарбар, муляры-печнікі (6), сталяры (2), цесляры (10).

Самі янаўскія жыхары ніколі не мелі больш за тры дзесяціны зямлі на двор. Недахоп зямлі, а таксама свабода ад паншчыны прывялі да паяўлення своеасаблівага промыслу – *лáбарства* – збор падаянняў на пабудову або рамонт касцёлаў і цэркваў. Яшчэ і сёння слова *лáбар* (*лáбур, лабýрка*) можна пачуць як у янаўцаў, так і ў іх суседзяў. А ў XVIII – першай палове XX ст. *янавец* і *лабар* былі словамі-сінонімамі.

Само слова *лабар* паходзіць з лацінскай мовы (*labor* – у перакладзе «праца»). Сярод жыхароў Янава працяглы час была распаўсюджана легенда аб утварэнні яго ад імя памешчыцы *Лабáрыні*. Аднак існавала ці не легендарная Лабарыня – невядома. Больш верагодным здаецца лацінскае паходжанне слова. Зборшчыкаў ахвяраванняў на карысць царквы святары маглі называць працаўнікамі, вымаўляючы гэта па-лацінску.

Першыя збіральнікі ахвяраванняў на царкоўныя патрэбы з'явіліся на Беларусі ў канцы XV ст. У XIX ст. збіранне ахвяраванняў на рамонт і будаўніцтва храмаў было звычайнай з'явай. Яшчэ і ў наступным стагоддзі на кірмашах, пастаялых дварах і ў іншых шматлюдных месцах можна было сустрэць сялян, мяшчан, манахаў, адстаўных салдат, якія гэтым займаліся. У рознай месцах іх называлі па-рознаму: *кубракáмі, лáбарамі, прашакáмі*. Янаўскіх сялян на гэты промысел скіравалі езуіты, якія з мэтай атрымання дадатковых сродкаў на пабудову касцёлаў у Бездзежы, Гарадцы, Любяшове, Пінску пасылалі янаўцаў за зборам падаянняў. Лабар-працаўнік павінен быў сабраць пэўную суму грошай. Усё, што яму ўдавалася сабраць вышэй за ўказаную дагаворам суму, заставалася ў кішэні самога лабара. Янаўцаў-лабараў можна было сустрэць не толькі на Беларусі, але і ў Літве, Расіі, Польшчы, Украіне і нават у Вугоршчыне і Малдове. З цягам часу слова *лабар* пашырыла сваё першапачатковае значэнне і стала ўжывацца як для абазначэння патомных жыхароў Янава, так і для абазначэння чалавека хітраватага, гатовага дзеля асабістай выгады на любы падман. Як сцвярджае Ф. Стаўровіч, «этимъ промысломъ занимаются все жители-христіане местечка Янова, за исключеніемъ несколькихъ должностныхъ лицъ, которымъ нельзя оставить своихъ обязанностей, женщинъ, детей и еще трехъ человекъ-хозяевъ, не любящихъ почему-то лаборства. Занятіе оригинальное. Переходя отъ отца къ сыну, оно наложило особую печать на всю бытовую сторону яновскихъ крестьянъ и дало яновцамъ особую, имъ од-

нимъ известную, физіономію. Само слово *лаборь*, как видно, утратило своё первоначальное значеніе, и въ настоящее время, по смыслу самихъ яновцевъ, означаетъ сборщика пожертвованій на нужды церкви, по смыслу же соседей ихъ, означаетъ пройдоху человека, который, под маскою набожного странника скрываетъ свои корыстолюбивыя цели и, для достижения ихъ, готовъ всякого обмануть и обойти всякий законъ. Есть мнение, что обычай лаборствовати взятъ отъ восточныхъ странниковъ, христіанъ, состоящихъ подъ турецкимъ владычествомъ. Многие изъ нихъ, какъ известно, ходятъ по разнымъ странамъ и испрашивают подаянія на нужды своихъ убогихъ церквей. Въ некоторыхъ местностяхъ они называются *лодырями*, въ другихъ, какъ, напримеръ, въ Молдавіи и смежной съ нею Каменецъ-Подольской губерніи, *лобурями*. Говорятъ, что съ незапамятныхъ временъ одинъ изъ владельцевъ именія Янова, котораго поместья были также въ Каменецъ-Подольской губерніи, на пограничной черте съ Молдавіею, переселилъ одного изъ этихъ сборщиковъ въ Яново, где онъ и распространилъ свой любимый промыслъ съ самымъ названіемъ промышленниковъ лобурями. Не известно, насколько достоверно это мненіе. Гораздо вероятнее другое предположеніе что лаборство распространено въ Янове вліяніемъ римско-католического духовенства... Если верно, что местечко Яново существует не более 300 летъ, то этому промыслу его жителей, согласно съ мненіемъ сторожиловъ местечка, можно положить 200 летъ» [1, с. 120, 121].

На свой промысел лабары адпраўляліся групамі па 3–4 чалавекі, як правіла, позняй восенню, пасля заканчэння асноўных сельскагаспадарчых работ. Своеасаблівым быў знешні выгляд лабара. Звычайна на ім быў кароткі кажушок з раменным поясам, боты з высокімі халявамі, чорная суконная шапка з казырком, па якой і пазнавалі лабара. На свята лабар апранаў шэрую сярмягу з чырвонымі адваротамі на рукавах, вялікую шапку з сівой аўчыны.

Мала хто з лабараў умеў пісаць і чытаць. Тым не менш кожны з іх вазіў з сабою так званую *падло́жную кнігу*, у якой спецыяльнымі значкамі павінен быў фіксаваць усе грашовыя падаянні, што, праўда, рабілася імі далёка не заўсёды. Лабары не цураліся любых ахвяраванняў: прымалі пяньку, лён, воўну, markнае зерне, сала, хлеб, якія везлі ў бліжэйшы горад, дзе і прадавалі часткова на сваю карысць. «Ни одинъ лаборь не выдастъ своего собрата. Товарищество понимается ими какъ некоторого рода священный союзъ, обязывающій ихъ поддерживать и защищать другъ друга до последней возможности. Всё то, что они говорятъ или делаютъ *въ дороге*, остаётся у нихъ тайною на всю жизнь. Разве ужъ очень близкіе къ лаборямъ соседи ихъ со временемъ узнаютъ о какой-либо проделке лаборей, и то не вполне. Самый судъ надъ лаборемъ, кроме голыхъ уликъ въ бродяжничестве по чужому паспорту, въ утайке денегъ, подлоге книгъ, ничего более не сделаетъ» [1, с. 130].

Янаўскія лабары па этнічнай прыналежнасці, несумненна, былі аўтахтонным палескабеларускім насельніцтвам. Хаця ў самім горадзе захаваліся звесткі, што некалі даўно адзін з уладальнікаў Янава перасяліў сюды некалькі чалавек ці то з-пад Луцка, ці то з Малдавіі, якія, уласна кажучы, і былі першымі лабарамі. Роднай для янаўскіх лабараў была мова насельніцтва Брэсцка-Пінскага рэгіёна. Аднак яны мелі і сваю асобую штучную, але даволі развітую мову – *ліберскую гаўры́дню (гаврі́дню)*, якой карысталіся ў асноўным сярод чужых людзей.

Штучныя тайныя мовы – не такая ўжо рэдкая з'ява. Здаўна яны мелі пэўнае распаўсюджанне ў розных народаў. Прычына ўзнікнення гэтых моў заключаецца ў жаданні пэўных груповак грамадства захоўваць свае прафесійныя сакрэты. На тэрыторыі Беларусі, напрыклад, існавалі штучныя мовы крычаўскіх рамеснікаў, дрыбінскіх шапавалаў, жабракоў Слуцкага і Гомельскага паветаў Магілёўскай губерніі, кубракоў Мсціслава і інш. Мова янаўскіх лабараў уяўляе сабой набор слоў з самых розных моў і дыялектаў. Многія яе словы былі запазычаны з грэчаскай, лацінскай, нямецкай, польскай і іншых замежных моў, некаторыя з'яўляліся вузкалакальнымі і сустракаліся толькі ў якой-небудзь адной мясцовасці. Былі тут і проста скажоныя словы, наваўтварэнні. Яны набліжалі гаворку янаўскіх лабараў да мовы жабракоў, таму яе яшчэ называлі мовай старцаў.

Лабарствам янаўцы займаліся ажно да 30-х гадоў XX ст., і толькі кардынальныя змены сацыяльна-палітычнага характару прывялі да знікнення лабарскага промыслу. Аднак у нава-

кольных вёсках да нашага часу карэнных жыхароў Янава называюць *лабурамі.* Слова прадаўжае жыць.

Прапануемы слоўнік лабарскай гаворкі складзены з прыцягненнем матэрыялаў, сабраных на працягу некалькі гадоў супрацоўнікамі Іванаўскай цэнтральнай бібліятэкі імя Ф. Панфёрава, Я. В. Шэмет і Г. П. Валавень, якім вялікую дапамогу аказалі мясцовыя жыхары Л. С. Базюк, Р. В. Беразоўскі, Т. М. Куліч, Ф. А. Лагодзіч, Т. В. Мікітчук.

**БАШТЫ́Й, БАШТЭ́Й** *м.* Бацька.
**БАШТЭ́ЙСТВО** *н.* Імя па бацьку.
**БІ́СЫЙ** *займ.* Гэты.
**БІЧ** *займ.* Ён.
**БІЯ́К** *займ.* Ты.
**БІЯ́ЧКА** *займ.* Яна.
**БО́МКАТЫ** *незак.* Званіць.
**БЫСЫСКЫ́Л** *м.* Небяспечны чалавек.
**БЭ́КАСЫ** *мн.* Папіросы.
**БЭ́НЫТЫ** незак. Курыць.
**ВЖЫГА́РЫТЫ** *зак.* Выкінуць.
**ВКЛУ́ЖЫНА** *ж.* Лямпачка.
**ВОЛОСТЫ́ЧЭНЬ** *м.* Хлеў, аўчарня.
**ВОЛО́Т** *м.* Конь.
**ВО́ЛЫТЫ** *незак.* Хацець.
**ВОЛЫТЬБА́** *ж.* Жаданне.
**ВОЛОТЯ́ЖКА** *ж.* Машына.
**ВУЛЬТ** *м.* Начальнік.
**ВЫГУВА́НКА** *ж.* Жыццё.
**ВЫ́ЕЛО** *н.* Сметаковае масла.
**ВЫ́ЛЫЦЫ** *мн.* Сківіца.
**ВЫТРЫВА́ЛКА** *ж.* Ручнік.
**ВЫХРО́** *н.* Сена.
**ГАВЭ́НДА** *ж.* Размова.
**ГАВРЭ́ДАТЫ** *незак.* Гаварыць.
**ГАВЭ́НДАТЫ** *незак.* Размаўляць.
**ГАЛЕ́МЫЙ** *прым.* Вялікі.
**ГА́ЛЬМА** *ж.* Сіла.
**ГАЛЬМО́** *н.* Малако.
**ГАРЦЫ́МА** *ж.* Гарэлка.
**ГІ́ЦЭЛЬ** *м.* Жулік.
**ГО́ГЫ** *мн.* Гусі, качкі, індыкі.
**ГО́НЭК** *м.*, **ОМЫЛЯ́С** *м.* Мёд.
**ГО́ЦАТЫ** *незак.* Скакаць.
**ГУРА́ТКА** *ж.* Медаль.
**ГЭ́ЙМАТКА, ГЭ́МАТКА** *ж.* Карова.
**ГЭ́МЫТЬ** *м.* Цяля.
**ДВІ́НЯ, ДЫВІ́НЯ** *ліч.* Два.
**ДЖЭ́ГЫ** *мн.* Канечнасці.
**ДО́СТЫ́ЧЫТЫ** *зак.* Дасягнуць.
**ДОХМУ́РЫТЬ** *м.* Вецер.
**ДЫ́ВЕР** *ліч.* Дзевяць.
**ДЫКО́Н, ДКО́НА** *ліч.* Дзесяць.
**ДЭ́ЛЬКА** *ж.* Вада.
**ЕМА́ТЫ** *незак.* Мецць.
**Е́НЫЙ, Ё́НЫЙ, О́НЫЙ** *ліч.* Адзін.
**Е́ПАТЫ** *незак.* Есці.
**ЁРКА** *ж.* Бабулька.
**ЁРЧЫТЫ** *незак.* Ехаць.
**ЁРЫЙ** *прым.* Стары.
**ЁРЫК** *м.* Дзед.
**ЖМО́КАТЫ** *незак.* Мяць.
**ЗАКА́ПСКА** *ж.* Корак.
**ЗАТРО́ЙКА** *ж.* Закуска.
**ЗАЯПА́РЫТЫ** *зак.* Забраць.
**ЗІ́БРА** *мн.* Рот.
**ЗІТКО́** *н.* Жыта.
**КАБУ́ЛЯ, МОРОЗУ́ЛЯ** *ж.* Цыбуля.
**КАЛГА́Н** *м.* Галава.
**КАМЕЛА́ВКА** *ж.* Кепка.
**КАМЕ́СЯ, КАМЭ́СЯ** *ж.* Шапка.
**КАНТЫ́Й** *м.* Расказчык.
**КА́НТЫТЫ** *незак.* Расказваць.
**КАРЫ́ВОНЬКА** *ж.* Дзяўчына.
**КАТА́НЬКА** *ж.* Карэта.
**КАТА́НЬКО** *м.* Фурман.
**КЕРХ** *м.* Кабан.
**КЕ́РХАТЫ** *незак.* Кашляць.
**КЕРХУ́НЧЫК** *м.* Парася.
**КЕРХУ́НЯ** *ж.* Свіння.
**КІМА́ЛКА** *ж.* Ложак.
**КІРНЯ́К** *м.* П'яніца.
**КІРУХА** *м.* Сабутыльнік.
**КІРЫТЫ** *незак.* Піць.
**КІ́ТО** *мн.* Яйка.
**КІТО́ШНЫКЫ** *мн.* Яйкі.
**КІТО́ШНЫЦА** *ж.* Яечня.
**КЛА́ВЫТЫ** *незак.* Валодаць гаворкаю лабара.
**КЛЕ́ВА РЫ́ГУС** *м.* Пан.
**КЛЫМТУ́Р** *м.* Немец.
**КЛЫ́ПАТЫ** *незак.* Маргаць.
**КЛЭ́ЦКА** *м.* Невялікі нож.
**КНЫШ** *м.* Невысокі чалавек.
**КОЛЮБА́** *ж*, **СКОЛЮБА́ННЕ** *н.* Любоў.
**КОЛЮБА́ТЫ** *незак.* Любіць.
**КО́ПСАЧ** *м.* Гром.
**КО́ПСПНКА, КО́ПСАЛКА** *ж.* Малаток.
**КО́ПСПТЫ** *незак.* Біць, грымець.
**КО́ПША** *агульн.* Неахайнік, неахайніца.
**КО́РСОНЬКА** *ж.* Любімая дзяўчына.
**КОРХ** *м.* Святар.
**КО́ТЭНЬ** *м.* Воз.
**КРОМСА́ЛКА** *ж.* Сячкарня.
**КРО́МСАТЫ** *незак.* Ірваць, секчы.
**КРЫСО́** *н.* Сала.
**КРЭ́ЙДА** *ж.* Мел.
**КУДЛА́Й** *м.* Яўрэй.
**КУДЛА́ЙСКА ПЛІ́СА**. Сінагога.
**КУДЛА́ЙСКА ПОХА́ЗА**. Дом яўрэя.
**КУЛА́ННЫЙ** *прым.* Ваенны.

**КУЛАНЫ́НА** *ж.* Вайна.
**КУЛЫПОВА́ТЫЙ** *прым.* Падслепаваты.
**КУМСА́** *м.* Хлеб.
**КЫЛ** *м.* Мужык.
**КЫМ** *м.* Злодзей.
**ЛАНЬКО́** *м.* Паляк.
**ЛАХВА́** *ж.* Выгада.
**ЛЫПА́ТЫЙ** *прым.* Зоркі.
**ЛЫ́ПКЫ** *мн.* Вочы.
**ЛОБУ́НЬСК** *м.* Пінск.
**ЛО́КШЫ** *мн.* Каштоўныя паперы.
**ЛО́СКОТЬ** *м.* Палатно.
**ЛЫПА́Ч** *м.* Назіральнік.
**ЛЫПКО́** *н.* Акно.
**ЛЫТЮ́ГА** *м.* Самалёт.
**МАКЛА́К** *м.* Кліент.
**МАКУ́ЛЬКА** *ж.* Чарнільніца.
**МАНЬКО́**[1] *займ.* Я.
**МАНЬКО́**[2] *займ.* Мой.
**МА́НЫЦА** *ж.* Маці.
**МАРАКОВА́ТЫ** *незак.* Думаць.
**МАХА́ЛКА** *ж.* Каса.
**МЕ́НДЭЛЬ** *м.* Мельнік.
**МІРУ́ЛЯ, КЕНТРУ́ЛЯ** *ж.* Нядзеля.
**МОРО́КА** *ж.* Турбота.
**МОСКО́ТНІ** *мн.* Зубы.
**МЫ́КРО** *прысл.* Мала.
**МЫ́КРЫЙ** *прым.* Малы.
**МЫСЛУ́ГА, МЫСЛЮ́ГА** *ж.* Салома.
**МЫШУЛЫТЫ** *незак.* Падманваць
**МЭТЬ** *м.* Мясцовы жыхар.
**НАЕ́РЧЫК** *м.* Ворчык.
**НА́КАП** *м.* Дождж, снег.
**НАКЛЮ́ЖА** *ж.* Кашуля.
**НА́СТЫГЫ** *мн.* Штаны.
**НАТРО́ІЦЦА** *зак.* Наесціся.
**НЫ́ГА** *ж.* Дробязь.
**НЭХУХО́** *прысл.* Нядобра.
**НЮ́ХО** *м.* Нос.
**ОБОЛЫ́ТЫ** *незак.* Дагаджаць.
**ОДЯГМА́РКА, ОТЯГМА́РКА** *ж.* Вопратка.
**ОКА́ПШЫТКЫ** *мн.* Дзверы.
**ОКЛАВЫТЫ** *зак.* Абгаварыць.
**ОКОВЛА́ЧЫТЫ** *зак.* Падмануць.
**ОКСЫ́М** *м.* Лес.
**ОКСЫ́МНЫЙ** *м.* Ляснік, ляснічы.
**ОКТЫ́ЖЭР** *ліч.* Восем.
**ОНІ́КА, ОНЫ́КА** *ж.* Вяселле.
**О́ПУК** *м.* Абутак, боты.
**ОПУ́ЛА** *ж.* Магазін.
**ОПУ́ЛЫТЫ** *зак.* Купіць.
**ОПУ́ЛЬНАЯ ХА́ЗА**. Гандлёвы рад.
**ОПУ́ЛЬНЫК** *м.* Пакупнік.
**ОПУ́ЛЯ** *ж.* Кірмаш.
**ОРБУ́Т** *м.* Цырульнік.
**ОРБУ́ТА** *ж.* Цырульня.
**ОТО́ПКА** *ж.* Печ.
**ОХВЭ́С** *м.* Бог.
**ПАНДІКА́ЛА** *ж.* Бальніца.
**ПА́ТЛЫ** *мн.* Валасы.
**ПЕ́ЦКЭЛЬ** *м.* Дзелавы чалавек.
**ПІ́ТЭР** *м.* Мяшок.
**ПЛАВУ́ХА** *ж.* Рэчка.
**ПЛЫ́СКАТЫ** *незак.* Пырскаць.
**ПЫСКА́ТЫЙ** *прым.* Плоскі.
**ПЛЮ́СА** *ж.* Царква.
**ПЛЮ́СНАЯ РЭ́ПСАНКА**. Царкоўны запіс.
**ПЛЮ́СНЫЙ ПОХА́ЗНЫК**. Царкоўны стараста.
**ПЛЯ́ХА, ПЛЯ́ХТА** *ж.* Бутэлька.
**ПНА́ТЫ** *незак.* Ісці.
**ПОПУЛЬНЫК** *м.* Прадавец.
**ПОРУ́ТЫТЫ** *зак.* Кінуць, пакінуць.
**ПОСКОЛЮБА́Й, ПОХВАЛЯ́Й** *м.* Пацалунак.
**ПО́СО, СКІ́РОХ** *прысл.* Многа.
**ПОСОСКО́РНОС** *м.* Агарод, сад.
**ПОХВАЛЯ́ТЫ** *незак.* Цалаваць.
**ПОХА́ЗА** *ж.* Гаспадарка, хата.
**ПРОПУ́ЛЫТЫ** *зак.* Прадаць.
**ПСО́ТЫТЫ** *незак.* Смярдзець.
**ПЯ́НДЖА** *ліч.* Пяць.
**РА́ПСАНКА, РЭ́САНКА** *ж.* Кніга.
**РГУВА́ТЫ, РЫГУВА́ТЫ** *незак.* Жыць.
**РУ́ГАТЫ** *незак.* Кідаць.
**РУСА́Н** *м.* Рубель.
**РЭ́ЙСАНКА** *ж.* Сшытак.
**РЭ́МЗАТЫ** *незак.* Ныць.
**РЭ́ПСАТЫ** *незак.* Пісаць.
**РЭПСАНЫ́НА** *ж.* Пісьмо.
**СА́ПА** *м.* Маўчун.
**СА́ПАТЫ** *незак.* Маўчаць.
**СЕВРУ́К** *м.* Грамацей.
**СЕВРУ́ЧНЫЙ** *прым.* Адукаваны.
**СЕМТЫ́НЯ, СЕМЫ́ТНЯ** *ліч.* Сем.
**СІ́ВРЫТЫ, ТЫЛЭ́БЫТЫ** *незак.* Разумець.
**СКІЛ** *м.* Сабака.
**СКІ́ЛЬНЫЙ** *прым.* Сабачы.
**СКІ́РА, ТРЫ́НЯ** *ліч.* Тры.
**СКІ́РНЯ** *ж.* Смех.
**СКІ́РЫТЫ** *незак.* Скаліць.
**СКІТА́ТЫ** *незак.* Уцякаць.
**СКІ́ТЭНЬ** *м.* Уцякач.
**СКЛЮТ** *м.* Худы чалавек.
**СКО́КОРЫ** *мн.* Танцы.
**СКЫ́МЛЫТЫ** *незак.* Плакаць.
**СКЫ́ТНЯТЫ** *зак.* Уцячы.
**СЛУХОМО́РКА** *ж.* Радыё.
**СЛУХОМО́РЫТЬ** *ж.* Пацеха.
**СТАВЭ́РКА** *ж.* Кілішак.
**СТО́ДЭНЬ, СТУ́ДЭНЬ** *м.* Багацей.
**СТРОКА́** *ж.* Дарога.
**СТЫКІ́Т** *м.* Стол.
**СТЫ́ЧЫНЬ** *м.* Каравульны.
**СТЫ́ЧЫТЫ** *незак.* Стаяць.
**СХА́ЛЕНЫ** *мн.* Пахаванне.
**СХО́ЛЫТЫ** *зак.* Памерці.
**СЫСКО́Р** *м.* Стул.

**ТАРАБА́НЫТЫ** *незак.* Несці.
**ТРОЙКЫ́** *мн.* Садавіна.
**ТРОЙНЯ́** *ж.* Ежа.
**ТРО́ІТЫ** *незак.* Есці.
**ТРЫ́ДОСА** *ж.* Каўбаса.
**ТРЫ́ЖНЫЙ** *прым.* Палявы.
**ТРЫПЭ́ЛЫЙ** *прым.* Малады.
**ТЫРЫ́ГА, ТРЫ́ГА** *ж.* Зямля, поле.
**ТЫРЫ́ЖНЫКЫ** *мн.* Бульба.
**ТЫСЫМО́НЫЦА** *ліч.* Тысяча.
**ТЭРЭ́С** *м.* Касцёл.
**ТЯ́ГМАРКА** *ж.* Кош.
**УГУРА́ТЫ** *незак.* Даваць.
**ХА́ВАЛО** *н.* Глотка.
**ХА́ЗА** *ж.* Дом, хата.
**ХАРАХО́ЛЬ** *м.* Селянін.
**ХВА́ЦКЫЙ** *прым.* Спрытны, паваротлівы.
**ХЕ́ВРА** *ж.* Кампанія.
**ХІРГАНІ́ЦА** *м.* Чалавек.
**ХОДНЯ́** *ж.* Нага.
**ХОРО́** *н.* Вёска.
**ХРУШЧ** *м.* Злоты.
**ЧМУРКО́** *м.* Дурань.
**ЦАПОВА́ТЫЙ** *прым.* Флегматычны.
**ЦУ́БА** *ж.* Дзяўчына, жанчына.
**ЦЫ́ЗА** *ж.* Вош.
**ЦЫ́РКАТЫ** *незак.* Ка́паць.
**ЦЫСА́РА, ЦЫСО́РА** *ліч.* Чатыры.
**ША́НДРА** *ліч.* Шэсць.
**ШАНДРА́К** *м.* Бядняк.
**ШАХТА́** *ж.* Сумка.
**ШВО́РЫТЫ** *незак.* Вязаць.
**ШКНЫ́РА** *м.* Скнара.
**ШМОРГО́ЛЕЦ** *м.* Смаркач.
**ШМУ́ЛЯТЫ** *незак.* Церці.
**ШНА́ЙДАТЫ** *незак.* Пілаваць.
**ШУ́ДЯ** *ж.* Школа.
**ШУЛІ́ЦЫЯ** *мн.* Паліцыя, міліцыя.
**ШУРПА́** *ж.* Курыца.
**ШУСТО́** *н.* Горад, мястэчка.
**ШУЯНОВО** *н.* Іванава.
**ШЧУПЛІ́Й** *м.* Авёс.
**ШЭ́ПША** *ж.* Авечка.
**ЯЛО́ШЫТЫ** *незак.* Чысціць кішэні.
**ЯПЭ́РЫК** *м.* Злодзей.
**ЯПЭ́РЫТЫ** *незак.* Браць, красці.
**ЯШНА́РКА** *ж.* Канюшына.
**Я́ШПОРК** *ж.* Пшаніца.

**Літаратура**

1. Ставрович, Ф. Лабори / Ф. Ставрович // Виленский сб. – Вильно, 1869.

*Г. М. Стральчук*

## З ЛЕКСІКІ АДНОЙ СТОЛІНСКАЙ ГАВОРКІ

Матэрыял для артыкула быў сабраны падчас дыялекталагічнай практыкі ў вёсцы Вялікі Лес Столінскага раёна Брэсцкай вобласці ў ліпені 2009 г. Сваімі асноўнымі рысамі маўленне мясцовых жыхароў адносіцца да заходнепалескай групы гаворак.

**БАБЗНО́** *ж.* Старая жанчына. *Таке́ бабзно́, а ныц нэ тэле́віть.*

**БА́ЛО** *прысл.* Бывала. *Ба́ло мы як збэрэ́мса гурто́м да пу́йдэм до ко́го на вэчоркі́, то прыхо́дым додо́му, як ужэ́ розві́дняе і това́р на па́шу жэну́ть.*

**БАЛЯВУ́ХА** *ж.* Калюга, лужына. *По́сле дожджу́ ўся доро́га на посёлку ў балявýхах, а шчы машы́намі да ку́ньмы порозбіва́ють, то й зусы́м гра́зко.*

**БАТУ́Г** *м.* Пуга. *До́брого ты мны батуга́ зробі́ў: як ля́снэ, то коровы́ голо́вы пуды́муть і ныдэ́ нэ іду́ть.*

**БІЛО́** *н.* Спінка ў жалезным ложку. *Нэ трыбушы́ ко́йку за біло́, бо ў мэнэ́ голова́ болі́ть.*

**БІ́ЛЬМА** *мн.*, *экспр.* Вочы. *Шчы нэ ўспі́ў усэ́ бі́лле скосы́ты, як ужэ́ ны́дэ бі́льма залі́ў.*

**БО́ЎТАТЫСА** *незак.* Рухацца, перамяшчацца без пэўнай мэты; швэндацца. *Дэ ты бо́ўталаса до гэ́той поры́? Я каза́ла, коб у п'ять ты ўжэ́ була́ ўдо́ма!*

**БО́ХНУТЫ** *зак.* Ударыць. *Коро́ва с па́шы прыбі́гла, а ў її́ пасама́н на боку́. Му́сыть, ны́хто бо́хнуў.*

**БРА** *часц.*, ж. *Ны ў ко́го бра на посёлку гэ́тым го́дом бу́льба нэ ўроды́ла, а ў про́шлому – шчо дро́ва була́.*

**БРЫ́ЖЫ** *мн.* Маршчыны. *Як була́ молода́, то і ліцо́ було́ ла́дке, а постары́ла, то ў брыжа́х ста́ло.*

**ВА́ЎКА** *ж.* Невялікая ранка. *Нэ ўспі́ла ўста́ты ўра́нцы, подыві́тыса ў лю́стро, як у мэнэ́ на гу́бі ва́ўка сэды́ть.*

**ВІЗ** *прыназ.* Паўз. *Віз доро́гу ростэ́ гарабі́на, яку́й гро́мом одсы́кло голі́ну.*

**ВЫ́КОПАТЫСА** *зак.* Стаць вельмі падобным да каго-небудзь. *Муй сын вы́копаўса ў поко́йного ба́тька: і до робо́ты стэ́чы, і ско́ры, і ныко́лі вун нэ полєнова́ўса.*

**ВЫРАЧКОВА́НЭЦ** *м.* Зіркаты чалавек. *Гэ́ты вырачкова́нэц оно́ ба́чыть, шчо ў другі́х ро́біцца, а сам ны до чо́го нэ зда́тны.*

**ВЭСТЫБ'ЮЛКА** *ж.* Жанчына лёгкіх паводзін. *Коб гэ́ту вэстыб'юлку на по́ле загна́ў, то нэ булі́ б у її́ такі́е ну́гты да і нэ тяга́ласа б зо ўсы́мі пудра́д.*

**ГАЛЯ́ТЫ** *незак.* Бегаць без мэты, гойсаць. *Гэ́тэ дытя́ галя́е од ра́нку до вэ́чора, але́ ўночы́ спіть, бэз уро́ку, як трэ́ба.*

**ГО́ЛУМ'Е** *н.* Чыстая мясціна, на якой нічога не расце. *О́то ў нас по́ле: зра́зу трава́ ў колі́на, а с то́го кра́ю однэ́ го́лум'е.*

**ГО́НДЭ** *прысл.* Вось тут. *Го́ндэ е така́ кно́почка, яку́ тра нажыма́ты, коб холоді́льнік заробі́ў.*

**ГОФЭ́РМА** *агульн.* Неахайны чалавек. *Хай бы гэ́та гофэ́рма ко́сы до ладу́ довэла́, а то хо́дыть роспу́шана бы гіндю́к.*

**ГУ́ДЛА** *мн.* Цуглі. *Ужэ́ як коню́ ў зу́бы гу́дла ўсу́нэш, то на возу́ сэды́ш пэўні́й: хоч і злякаецца машы́ны, але́ мо́жна прыпіні́ты.*

**ГУ́ШКА** *ж.* Пятля з вяроўкі ці скуры, пры дапамозе якой хамут злучаецца з дугой і аглоблямі, гуж. *Нэ послабля́й гу́шкі, бо гэ́то кунь нэнадёжны: мо́жэ понэсты́.*

**ДАКО́Б** *часц.* Так. – *Як шчы і на тум ты́жні бу́дуть дожджы́, то погные́ ўсэ сы́но, а коро́ву хоч бэры́ да сні́гом кормі́ зымо́ю. – Ну, дако́б.*

**ЖОНЧВА́** *н., зб.* Жанчыны. *Одна́ жончва́ тэпэ́р на посёлку осталася, як дэ́сэть мужчы́н назбіра́еться, то і то до́брэ.*

**ЖЫ́ТКА** *ж.* Жыццё. *Нэ довэдь, Бо́жэ, ныко́му таку́й жы́ткі бы ў мэнэ́: тры разы́ стро́іліса, чэ́твэро дэтэ́й похороны́ла, чоловіка, а за́рэ сама́ ледь ла́заю.*

**ЗАЛУ́ХА** *ж.* Цішыня. *Ужэ́ наш посёлок вы́мэр: ба́ло вы́йдэш на гу́ліцу, то і співа́ють, і гра́ють, а за́рэ – залу́ха.*

**ЗАЛЯКОТІ́ТЫ** *зак.* Змер'нуць, акалець. *Трэ́ба ў шу́бы ходы́ты ў таку́ по́ру, бо ўвэ́чэры нэ шту́ка і залякоті́ты: на двоpы́ холодно́ – страх.*

**ЗАНОЗДА́ТЫ** *зак.* Зацугляць. *Я б сама́ занозда́ла коня́, але́ бо́юса, коб па́льца нэ одкусы́ў.*

**ЗА́ЎШЭЙ** *прысл.* Заўсёды. *За́ўшэй каза́лі, шчо як у кого́ боля́ть но́гі, то трэ́ба зра́нку бі́гаты по росы́.*

**ЗДРА́КА** *ж.* Пужлівы (пра жывёлу). *О́то купы́лі коро́ву: бу́йса пудыйты́ до гэ́тоі здра́кі, бо ж злякаецца да побэжы́ть у світ.*

**ЗЛУПІ́ТЫ** *зак.* Хутка з'есці. *Вун злупі́ў мі́су боршча́, ззы́ў пуўкостру́лі тоўканы́цы з м'ясом і ка́жэ, шчо голо́дны.*

**ЗМАЛЕНКО́СТЫ** *прысл.* Змалку, з малых гадоў. *Змаленко́сты ста́ла сырото́ю, ны од ко́го нэ чу́ла до́брого сло́ва, а за́рэ, дя́ку Бо́гу, пра́ўнукуў бу́ду жэны́ты.*

**КАПО́РЭ** *выкл.* Ліха з ім; ну і што. *Капо́рэ, шчо пропа́ў той нэшча́сны рубэ́ль, але́ шко́да труда́.*

**КЕ́ДЫСЬ** *прысл.* Калісьці, некалі. *Ке́дысь мы своі́х батькуў на «Вы» называ́лі, поважа́лі, а за́рэ молодёж – розбэ́ста, і рэвэ́ про́тіў ма́тэры, і ба́тька за гру́дкі бэрэ́.*

**КІРДУ́ПЭЛЬ** *м.* Кароткае адзенне. *Нэмэ́дленно скінь з сэбэ́ гэ́ты кірду́пэль, бо хо́дыш бы позо́рныца, усы́ лю́ды смію́цца.*

**КЛЕ́ПКА** *ж., перан.* Розум. *У тэбэ́ нэма́ кле́пкі, колі́ ты хво́ра, а ро́біш усю́ робо́ту. Нэха́й здороўцы́ па́шуть, а ты опочы́нь.*

**КО́ЙКА** *ж.* Ложак. *Ко́лісь довэло́со нам спа́ты ў хлеву́ на вы́шэчках. Сы́но вэ́льмо пахны́ло, і лежа́ты було́ мя́кко, бы на ко́йцы.*

**КО́ЛЮХ** *м.* Расліна з калючкамі (асот, лопух і інш.). *Ты ж поба́, ку́лько ко́люхуў вы́росло на боло́ту! У тум году́, мны здае́цца, було́ мэнш.*

**КОНДЫ́БЫ** *мн., экспр.* Абутак на высокіх абцасах. *Страх, як нэ люблю́, колі́ стара́ жоно́чына ідэ́ на канды́бах.*

**КОЎЗО́ТА** *ж.* Слізгота. *Як Язубчы́ха ру́ку злама́ла? – Нэсла́ свіння́м по гэ́туй коўзо́ты да і бу́хнула ра́зом з ві́драмі.*

**КОЦЮБА́** *ж.* Качарга. *Тут жэ ў кутку́ нэда́ўнэчко стоя́ла коцюба́. Туды́-сюды́ ўжэ́ ії́ нэма́. Куды́ вона́ ды́ласа?*

**КОЦЮ́БКА** *ж.* Кіёк з круглай ручкай для хады. *До́хтор насвары́ўса, коб я ходы́ла з коцю́бкою і нэ було́ напражэ́ння на но́гу.*

**КОЦЮ́К** *м.* Каццяня. *На́ша ку́шка прывэла́ бага́то коцюку́ў, але́ ны́шчо ўсы воны́ попро́падалі.*

**ЛІ́ШКА** *ж.* Градка. *Шчо нэ посадю́ на гэ́туй лі́шцы, усэ́ вы́махае бы ко́ны, а на гі́нчых, ня́кого ўпа́дка, ныц нэ ро́дыть.*

**ЛЫ́СЦЯГА** *ж., экспр.* Сцягно. *Накла́ла коро́тку сподны́цу да повыстаўля́ла го́лі лы́сцягі, шчо аж га́дко дыві́тыса.*

**ЛЬГА** *прысл.* Можна. *Як льга бу́дэ іты́, то на Спа́са пойду́ ў цэ́ркоў да сві́чку поста́ўлю за тэ, шчо жы́ва осталася.*

**МО́ЛІЦА** *мн.* Могілкі. *Пэ́рэд Вэлі́коннем тра сходы́ты на мо́ліца да довэсты́ ўсэ до ладу́: траву́ покосы́ты, покра́сыты забо́ра, квэткі́ но́вые прынэсты́.*

**МО́НЬКАТЫСА** *незак.* Павольна, марудна збірацца куды-небудзь, поркацца. *Скуры́й мо́нькайса там, бо спо́знымоса на гаўто́бус, то ма́ты нас і роздэрэ́.*

**МУТЫ́ТЫ** *незак.* Хлусіць. *Я ныко́лі нэ ўмі́ла муты́ты: то ста́ну чырво́на, бы бура́к, а то зроблю́са бі́ла, бы полотно́. От усы́ і познають, шчо мутю́.*

**НАВІДО́ЦЫ** *прысл.* Навідавоку. *Хварту́х лежы́ть навідо́цы, а я, слепа́ ку́ра, усю́ ха́ту зры́ла, ёго́ шука́ючы.*

**НАГА́БАТЫ** *зак.* Назбіраць, набраць (многа). *Ну, ты, Катры́на, і ягу́д нага́бала ў лі́су, а мны і на зуб нэ дала́ покоштова́ты.*

**НЫЦ** *займ.* Нічога. *Га́нька, я ныц тобі́ нэ зроблю́, оно́ скажы́ пра́ўду: дэ ты ўзяла́ ту́лько гро́шэй?*

**НЯ́КІ** *займ.* Нейкі. *Ня́кі чорт погна́ў мэнэ́ на по́ле ў дождж – вы́мокла бы та су́чка.*

**ОКЕ́ЖАТЫСА** *зак.* Вылечыцца, паправіцца. *Ужэ́ мны гэ́та хворо́ба надоі́ла. Коб як скуры́й окéжатыса да робо́ту робі́ты.*

**ОНЁ-О́** *часц.* Вунь там. *Твоя́ соро́чка онё-о́ ві́сыть, а ты сві́та бі́лого нэ ба́чыш, усю́ годэ́жу со шкапа́ вы́кінула.*

**ОПО́РКІ** *мн.* Абутак. *У дерэ́ўні ўсы лі́том хо́дять бо́сы, а на́шчо ма́заты опо́ркі, як шчы й гарачэ́ ў но́гі.*

**ОСТО́ПОК** *м.* Чаравік. *У мэнэ́ на зы́му нэма́ осто́пкуў, бо старые, шчы кéдышніе, ужэ́ прорва́ліса, да па́лцы выла́зять.*

**ПАСАМА́Н** *м.* Глыбокі і шырокі шрам (на шкуры жывёлы). *Як тэлу́шка молода́я пэ́ршы раз выго́ныцца на па́шу, то знай, шчо прыйдэ дохаты с пасама́намі на ўсюй шку́ры: пока́ гэ́то ії коровы́ прызна́ють!*

**ПАХНЫ́ТЫ** *незак.* Прыемна і моцна пахнуць. *Ба́ло мы з дэўка́мі збіра́емо квэткі да ро́бімо вэнкі́, а по́сля іх су́шымо, коб доўжы́й пахны́лі.*

**ПІЛЬГУ́ЧЫТЫ** *незак.* Няўмела, неакуратна рэзаць. *Га́нё, нэ пільгу́ч так хліб! Дай я сама́ одрі́жу, бо ты спо́ртыш усю́ бу́лку.*

**ПЛЯВІ́ЦА** *ж.* Надакучлівая жанчына. *Ой, пляві́цо, оччэпі́са од мэнэ́! Чого́ ты лі́зэш нэ ў своé ды́ло?*

**ПЛЯ́ЖЫТЫ** *незак.* Моцна ісці, ліць (пра дождж). *То за́суха була́ – усэ́ посо́хло, а за́рэ дожджы́ско пля́жыть і пля́жыть, то усэ́ чы́сто повыкіса́е.*

**ПОКА́МУСЬ** *прысл.* Пакуль. *Пока́мусь со́нцэ сві́тыть, то тра цыбу́лю вы́браты, коб посо́хла, бо там ско́ро Ілля́ нэго́ду прынэсэ́: прыйшо́ў Ілля́ – наробі́ў гныллЯ.*

**ПОНАТУ́РЫТЫСА** *зак.* Звыкнуцца, прывыкнуць. *Ты ўжэ́ так понату́рыўса, коб я і мужчы́нску, і жоно́цку робо́ту вэрну́ла.*

**ПОПРУТЫ́ТЫ** *зак.* Ахалодаць (часцей пра ежу). *Ды́ўчынко, іды́ сады́са і́сты, бо поку́ль ты вы́монькаесса, то ўся бу́льба попруты́е.*

**ПОСЭДЮ́НКІ** *мн.* Вячоркі. *Жонкі́ каза́лі, шчо пры́йдуть до нас на посэдю́нкі, бо ўза́ўтрэй сэрэўно́ свя́то, робо́ты ныя́кой нэма́.*

**ПОХА́ТНЫЦА** *ж.* Пахатуха. *А гэ́та поха́тныца, як нэ оббэжы́ть усы́х, як нэ наба́еццa, то і нэ жы́ва.*

**ПРОКІ́ВА** *ж.* Крапіва. *Гіндюка́м намэша́й прокі́вы с кі́слым молоко́м, усы́п ка́плю зэрна́ і заганя́й у хліў.*

**ПЭРЭ́ХОТКА** *ж.* Эпідэмічная хвароба, якая хутка распаўсюджваецца. *Пра́ўда твоя́: гэ́то ўжэ ня́ка пэрэ́хотка на сэло́ напа́ла, бо во ўсых жыву́т болі́ть і ў голові́ моро́чыть.*

**РАДЮ́ГА** *ж.* Даматканае радно, якое выкарыстоўваюць для пераноскі дроў, сена, зелля або для сушкі чаго-небудзь. *Тра на ка́жды конэ́ц радю́гі прыяза́ты шпага́тынку, коб льга було́ сы́но пэрэтягну́ты, шчо на боло́ту лежы́ть, бо конём туды́ нэ ўі́дэш.*

**РО́БАКІ** *мн.* Глісты, паразітычныя чэрві. *Нэ носы́са з гэ́тым прыблу́дным соба́кою, бо рук нэ помы́еш з мы́лом і набэрэ́сса ро́бакуў.*

**РОЗБЭ́СТА** *агульн.* Разбалаваны чалавек з вялікімі запатрабаваннямі. *Лю́ды часцяко́м говóрать, шчо однэ́ дытя́ ў сэм'ї ростэ́ розбэ́стою.*

**СВЭ́ДЭР** *м.* Світэр. *Наклады́ свэ́дра, як пу́йдэш на по́ле, бо ві́тёр росхо́дьваецца му́цны.*

**СКОПЭ́Ц** *м.* Капец. *У скопэ́ц зако́ппаем і мо́ркоў, і буракі́, і бу́льбу, а коб нэ помэ́рзло ўсэ, то накрыва́ем соло́мою чы сухі́м лі́сцем.*

**СКО́РОМ** *м.* Скароміна, мясная ці малочная ежа, якую забаронена ўжываць у час посту. *Як со скóромом есы́ ў пуст, то ты́ло нэ очышча́еццa, а, наоборо́т, бэрэ́м гріх на ду́шу.*

**СТРАМІ́НА** *ж.* Лесвіца. *Гэ́тою го́сэнню я́блікі до́брэ зароды́лі, але́, холе́ра, доста́ты ва́жко. Му́сыть, бэз страмі́ны нэ бу́дэ ды́ла.*

**СЫЛОМУ́ТТЕМ** *прысл.* Вельмі моцна, старанна, актыўна. *Вона́ сылому́ттем заступа́ецца за своéю сэстро́ю, бо гэ́то ж ру́дна кроў. У іх сэм'ї́ ўсы дру́жно жыву́ть, заўсегда́ помага́ють оды́н одному́.*

**СЭЛНЫ́К** *м.* Месца ў хляве, дзе захоўваецца сена. *Трэ́ба гіндюку́ў з сэлныка́ пэрэвэсты́ ў хліў, бо ско́ро бу́дэм сы́но пэрэво́зыты.*

**ТКОЛЕ́** *часц.* Жа. – *Трэ́ба гокно́ знадво́рку покрасы́ты, бо ў со́нцэ воно́ хучы́й вы́сохнэ. – Покрасы́ тколе́!*

**ТЫ́ШКОМ-НЫ́ШКОМ** *прысл.* Ціха, нячутна, тайна. *Вэсы́лле було́ малэ́: ты́шком-ны́шком роспіса́ліса, повэнча́ліса, на кро́хі сы́лі за столы́ – да й усэ́.*

**ТЭЛЕ́ВІТЫ** *незак.* Разумець. *Коб тэле́віты, як ро́біть гэ́та машы́нка, то тра кны́жку прочыта́ты, шчо з е́ю продава́ласа.*

**ТЭЛЮРНО́** *н., экспр.* Вялікае цяля. *Хоты́ла молока́ ка́плю ўкра́сты до ка́шы, то ж тэлюрно́ ўсэ вы́ссаў.*

**ТЭ́ЧКА** *ж.* Сумка. *Шчо ўлі́зэ ў твою́ тэ́чку? Хіба́ оно́ ру́чка да тэлехво́н, а кны́жкі з цытра́дямі бу́дэш у паке́ту носы́ты.*

**ТЯ́ПАТЫ** *незак.* 1. Даіць, цыркаць (карову, казу). *Побэжу́ скуры́й коро́ву тя́паты, а то за́рэ нуч насці́гнэ.* 2. Палоць (бульбу, буракі). *Трэ́ба потя́паты горо́да, бо вун зоўсы́м зы́ллем зару́с – ныя́куй ра́ды нэма́.*

**УЛІ́ТЮСА** *прысл.* Летась. *Улі́тюса мы пэрэбра́ліса ў но́ву ха́ту, а стару́, дя́куй Бо́гу, з выго́доюзбулі́.*

**ХВА́ЙНО** *прысл.* Добра. *Хва́йно дэўкі́ тэпэ́р убра́ліса і ко́сы хорошэ́ наза́д зачэса́лі.*

**ХО́ДНЫК** *м.* Палавік. *Хва́йные ў тэбэ́, кумо́, хо́днык: ужэ́ ку́лько годо́ў слу́жать, а шчы нэ вы́трэпаліса.*

**ХОДЫ́ТЫ** *незак.* Сустракацца (пра адносіны паміж нявестай і жаніхом). *Ка́тя з Кру́пою нэдо́ўго ходы́лі: вун прышо́ў з га́рміі, да й няк зра́зу побра́ліса.*

**ЦЫБА́Х** *м.* Пяро цыбулі. *За́рэ пойду́ на лі́шку, нашчыпа́ю цыбашку́ў, да зро́бімо сала́ту. Поемо́ за мі́лу ду́шу.*

**ЧОЎПТЫ́СА** *незак.* Павольна ісці, сунуцца. *Моя ма́ты стара́, але́ ху́тко хо́дыть, а тобі́ дэв'ятна́ццать, а чоўпэ́шса ззаду.*

**ШНО́БЭЛЬ** *м., экспр.* Вялікі нос. *Ны ў ко́го ў роду́ нэма́ тако́го шно́бэля, бы то ў Гондрі́я. У когó вун уда́ўса?*

**ШОЛО́ХАТЫ** *незак.* Гаварыць няпраўду, пляткарыць. *Гэ́та жончва́ збэрэ́цца ўвэ́чэры на ла́ўцы ў садку́ і шоло́хае про тэ, про се. І кума́р, ты скажы́, іх нэ куса́е.*

**ШУ́ЛЕР** *м.* Коршун, шуляк. *Зноў шу́лер мою́ ку́ру задра́ў. Хай бы ту́ю, шчо ледь ла́зае, а то, нэчы́ста сы́ла, нэсу́шку задаві́ў.*

**ШЭ́ЛЕКТ** *м.* Казытанне. *Я на п'я́тах шэ́лекту ныя́к нэ бо́юса, а як во́зьмэ хто за бо́кі шэлекта́ты, сміх бэрэ́ дай го́ды.*

**ШЭЛЕКТА́ТЫ** *незак.* Казытаць. *Му́сыть, ня́ка сэны́на запа́ла за соро́чку, бо вэ́льмо шэле́кчэ спі́ну.*

**Я́ЛОЎКА** *ж.* Маладая жывёла, якая яшчэ не прыносіла прыплоду; ялавіца. *Прыйшо́ў муй чолові́к да ка́жэ, шчо я́лоўка ў лі́зла головóю мэ́жду шчыкéтом у плоту́ і засы́ліласа.*

**ЯСЁНКА** *ж.* Асенняе паліто. *Понэсу́ ясёнку до сусы́дкі, коб зала́піла мны да кро́хі зны́зу пудшы́ла її́.*

*А. В. Трафімчык*

## ДЫЯЛЕКТНЫЯ СЛОВЫ ГАВОРКІ ВЁСКІ ВЯЛІКІЯ КРУГАВІЧЫ ГАНЦАВІЦКАГА РАЁНА

(Працяг публікацыі: А. В. Трафімчык, В. Я. Чабатарэнка. Словы з вёскі Вялікія Кругавічы Ганцавіцкага раёна // Скарбы народнай мовы: дыялектал. зб. Мінск, 2005. С. 144–156).

**АШТЭ** *выкл.* Ну вось! Бач! Прымяняецца звычайна для перадачы эмоцый адабральнага здзіўлення (*«Грэбнуўся аб асфальт – і не царапінкі» – «Аштэ!»*) або, наадварот, для выражэння меркавання, што так яно і павінна было б быць (*«Не паслухаў прагнозу ды пайшоў у грыбы – змок увесь» –Аштэ! Казала ж і я яму!*), ці ў некаторых іншых выпадках.

**БАЙСТРУКІ́** *мн.* Кураняты, якія вывеліся без ведама гаспадыні, звычайна позна восенню. *Ужэ прымаразкі браліся, а наша кура байструкоў прывяла. Высядзяла просто на голуй зямлі.*

**БІ́ЛО** *н.* Жалезная стойка ложка.

**БУ́СЬКО** *м.* Бусел. *«Бусько-калода, што заўтра будзе – дождж ці пагода?!»* – дзеці пыталі ў кружляючага ў небе бусла. Калі той махаў крыламі – на дождж, калі не – на пагоду. Дзіцячы вершык:

*Бусько, бусько-клякатун!*
*Узяў бабу за каўтун,*
*Па балоці валачыў*
*І ў карыці намачыў.*

**ВАЛАКЧЫ́** *незак.* Валачы.

**ВАНЮ́ЧЫ ГРЫБ** *фраз.* Вясёлка. *Ванючыя грыбы трэ збіраць, як яны яшчэ не палопаныя. Ды настойваць на спірці: ад багато якіх хвароб памагая.*

**ВЫ́КАЎЗАЦЦА** *зак.* Выпацкацца. *Недзі выказаўся ды цалы-цалюткі дзень ходзіць мурзаты.*

**ВЭ́РЛАХ** *м.* Вэрхал.

**ГАЛЯВЕ́ЦЬ** *незак.* Свабаднец. *Зараз да Агарэвіч даедзям, ды там пагалявея.* (З размовы жанчын у маршрутным аўтобусе.)

**ДРА́ЧКА** *ж.* Дошчачкі, якімі крылі дах.

**ДУБІ́ЦЬ** *незак.* Валачы, несці нешта цяжкае ці з цяжкасцю. *Сёлета грыбоў-грыбоў: кажан раз як пайду ў лес, то ледзь прыдублю здаравенныя кашы з коптурам.*

**ЖУРАЎЛІ́НЫ** *мн.* Журавіны.

**ЗАСЛО́НЧЫК** *м.* Лавачка. *Сядзь на заслончык, пасядзі пагамані трохі са старым чалавекам.*

**ЗАЦЕ́РКА** *ж.* Зацірка.

**ЗДАРО́ЎКАЦЦА** *незак.* Вітацца. *Задраў нос, дый ні здароўкаяцца ўжэ.*

**ЗЕ́НКІ** *мн., груб.* Гл. **ЗЕ́КРЫ**. Вочы.

**ЗОБ** *м.* Хвароба шчытавіднай залозы. *Ён хварэя на зоб.*

**ІГЛЕ́ЦЬ (ЗАІГЛЕ́ЦЬ)** *зак.* Моцна захацець, карціць (закарцець). *Заіглеў, каб машынку купілі, і раве ў магазіні ў адны канцы.*

**КАРО́НКІ** *мн.* Карункі.

**КІТА́ЙКА** *ж.* Тканіна, якой аббівалася труна.

**КІЯХІ́** *зб.* Чарот. *На беразі сажалкі ўжэ кіяхі павыросталі.*

**КЛЫ́НДА** *ж.* Тоўчанае семя лёну, апаранае кіпнем. Ужываецца ў якасці падлівы. *Некалі паясі клынды з паранаю картопляю – ды сыты.*

**КУ́ЗЁ-КУ́ЗЁ-КУ́ЗЁ** *выкл.* Так клічуць жарэбчыкаў.

**КУПА́ЙЛО** *н.* Свята Купалле. *На Купайло сонцо купаецца.*

**МАКАЦЁР** *м.* Вялікая гліняная міска, у якой цёрлі мак.

**МЛІН** *м.* Млын (у Кругавічах быў вятрак).

**НАБІ́РЫЧ** *м.* Невялікая пасудзіна, у якую бралі ягады.

**НАБІ́РЫЧЫК** *м.* Тое ж, што і **НАБІ́РЫЧ**.

**НАДЛУ́ПАЦЬ** (ягад ці да т. п., калі іх мала) *зак.* Навыбіраць, назбіраць.

**НАПРУ́ТКО** *прысл.* Дакладна, гарантавана. *Ці прыеду да цябе сёння, напрутко не абяцаю. Там пабачым.*

**НАШАРКУ** *прысл.* Прыцемкамі, калі пачынае шарэць.

**НАЎМЫ́СЛЯ** *прысл.* Наўмысна.

**НА́ЧЧЫ** *прым.* Інакшы.

**ПАВАРОТКА** *ж.* Дарожны паварот. *Шафёрко, станьця мне на дзяніскаўскуй паваротцы.*

**ПАГО́ДА** *ж.* Добрае надвор'е. *Па радзіві перадавалі, што заўтра будзя пагода.*

**ПЕРАБАЛЕ́ЦЬ** (пра сена) *зак.* Трохі, ледзь-ледзь падгніць перад тым, як высахнуць, пасля чаго зрабіцца зеленаватага жоўтым. *Пераболяная сено і смачнейшая карові, і ляжыць лепш, ні парыцца.*

**ПІЯ́ЎКА** *ж.* 1. П'яўка, прэснаводны чарвяк. *Некалі ў канавах было багато піявак, а зараз – нігоднае.* 2. Шчаўбан, які б'ецца туга адцягнутым сярэднім пальцам пасля шчыльнага прыкладання далоні звычайна да лба. *Ён біў такія пякучыя піяўкі, што ажно ў галаве звінело.*

**ПРЫБРА́ЦЦА** *зак.* Святочна апрануцца. *Ты куды йдзеш такі прыбраны?*

**ПЫ́РАМ** *прысл.* Наском нагі. *Па мячыку лепей бі ні пырам, а шчоткаю, каб ён падкручваўся.*

**РАБІ́ЦЬ** *зак.* 1. Рабіць; 2. Працаваць, быць заангажаваным на працу. *Спярша рабіў на цагельні, о зараз раблю ў ДОЗі.*

**РА́ДЗІВО** *н.* Радыё. *Па радзіві казалі, што сёння будзя добра пагода.*

**РАЖЭ́НЬЧЫК** *м.* Шампур, выразаны з галінкі, для нанізвання звычайна сала, каб спячы яго на кастры. *Некаторыя любяць пячы сала на ражэньчыку завернутым у газету, каб засталосё больш тлушчу.*

**РУМЯ́НАК** *м.* Рамонак. *Некалі з румянкаў варылі адвар ад жывата.*

**САКАВІ́К** *м.* Дзірка і клінок у бярозе для спуску соку. *Некалі бярозы былі такія, што з аднаго сакавіка па вядру й больш соку давалі.*

**СВІ́НУХ** *м.* Пабудова для ўтрымання свіней. *На старом свінуху зняслася кура.*

**СВІНУ́ШНІК** *м.* Тое ж, што і **СВІ́НУХ**.

**СЕ́МСЯТ** *ліч.* Семдзесят.

**СМА́ЛІЦЬ** *незак.* 1. Смаліць; 2. Палавыя зносіны з жанчынай (жартаўліва-грубая форма). *Гром грыміць, маланка паліць. Дзед на печы бабу смаліць* (народны жарт).

**СПАНІ́ЦА** *ж.* Спадніца.

**СТРЭ́ЧА** *ж.* 1. Сустрэча. 2. Абазначае ступень роднасці братоў і сясцёр. *Мы з ім стрэчныя, аля адно ў трэйцюй стрэчы.*

**СТРЭ́ЧНЫ** *прым.* Стрыечны, дваюрадны.

**СЦЭ́КІ** *мн.* Мача.

**СЫБОТА** *ж.* Субота.

**ТАВАРЫ́СТВО** *н.* Кампанія прыяцеляў-пагодкаў. Гл. **ТАВА́РЫШ, ТАВАРЫШАВА́ЦЬ**. *Наш сын з суседавым – адно таварыство.*

**ТАВА́РЫШ** *м.* Пагодак, равеснік, які, як правіла, з'яўляецца сябруком, прыяцелем.

**ТАВАРЫШАВА́ЦЬ** *незак.* Сябраваць, прыяцельстваваць, як правіла, пагодкам, равеснікам. *Мы з ім некалі таварышавалі.*

**ТАМ** *прысл.* 1. Там. 2. Пасля, пазней. Звычайна выкарыстоўваецца з дзеясловамі зроку, напрыклад: *там пабачым, там будзя відаць.*

**У АДНЫ́ КАНЦЫ́** – вельмі ўпарта. *Заіглеў, каб машынку купілі, і раве ў магазіні ў адны канцы.*

**УЗДУ́МАЦЬ** *зак.* 1. Задумаць (хутчэй з негатыўнай канатацыяй). *Бач! Што ён сабе ўздумаў! На страху залез!* 2. Успомніць (часта са спазненнем). *Адно па дарозі дадому ўздумала, што запалак ні купіла.*

**УТАМІ́ЦЦА** *зак.* Стаміцца.

**ХАДЗІ́ЦЬ** *незак.* 1. Хадзіць. 2. Сустракацца (пра хлопца і дзяўчыну). *Яны доўго хадзілі, аля так і ні пажаніліся.*

**ХАЛАДЗІ́ЛЬНІК** *м.* Змеявік для перагонкі брагі ў гарэлку, які ахалоджваецца ў цэбры са сцюдзёнай вадой.

**ХАЛАДНІ́К** *м.* Салат з агуркоў, памідораў, цыбулі і іншых інгрэдыентаў, густа запраўлены смятанай. *Летам само лепей гэто халадніку паесці.*

**ЧЫ** *займ.* Чый. *«Чы ты?»* – пытаюць часта ў дзяцей, каб даведацца, хто бацькі.

**ШНУРУ́Й** *заг. лад.* 1. Шнуруй. 2. Ідзі куды-небудзь. *Зара шнуруй у школу, а вечарам разбяромся.*

**ШЧО́ТКА** *ж.* Унутраны бок ступні (звычайна выкарыстоўваецца ў якасці прыслоўя – шчоткай. Гл. для параўнання таксама **ПЫ́РАМ**).

**ШЭ́ЙСЯТ** *ліч.* Шэсцьдзесят. *Яму ўжэ пад шэйсят.*

**Ю́ЗДРЫКА** *ж.* Юрысдыка (пляц вакол царквы).

*Т. М. Трухан*

## ЛЕКСІКА ВЁСКІ ЗАМОШША ЛЮБАНСКАГА РАЁНА

Словы запісаны ад В. Г. Трухан у 2008 г.

**АБАРВА́ТЫ** *прым.* Абарваны. *Ну і ўжэ парцізаны злыя ехалі, абарватые.*

**АБГАНА́НЕ** *н.* Абганянне. *Як яны ўзышлі, доббрэ ўзышлі, мо перад абгананем узяў да вядро рассеяў етаго краснага ўдабрэня.*

**АБЛАКАЦІ́ЦЬ** *зак.* Палажыць. *Аблакаціло гэтую смуродзіну, як мы з бацькам у Любані былі, вельмо ж бура была вяліка.*

**АБЛІ́Ч'Е** *н.* Твар. *Абліч'е такое, што на шмат старэйша выдае, хоць яна і ні старая.*

**АБЫ́ДВА** *ліч.* Абодва. *Абыдвом кварціры наймаюць і плацяць вялікія грошы.*

**АБЯРЭ́МЯ** *н.* Бярэмя. *У мяне тые разы абярэмямі ўкроп цягаю. А то па бураках шчарнеў увесь.*

**АДЗЁЖА** *ж.* Адзенне. *Маракі насілі чорную адзёжу, сукно вельмі моцнэ.*

**АЛЕ́ШАВЫ** *прым.* Альховы. *Алешавые дрова вельмо гараць доббрэ.*

**АПА́ЛУШКІ** *мн.* Невялікія начоўкі для зернеачысткі. *Мама зварыць етых картошак чаганчык і ў ночаўкі высыпле, як бывало казалі апалушкі.*

**АПЕ́ШАЦЬ** *зак.* Вельмі стаміцца. *Як самашэдшы гарцаў па загону, мабіць, ужэ апешаў быў.*

**АСО́БЯНО** *прысл.* Асобна. *Ету мелач* (дробная бульба) *убіраць'му асобяно ў мяшкі.*

**АТРЫВА́ЦЦА** *незак.* Адлучацца. *Ні вельмо атрываецца ад работы, толькі ш пашла на работу.*

**АШАЛУ́ШВАЦЦА** *незак.* Шалушыцца. *Цыбуля прасыхае трохі, ашалушваецца.*

**ВО́ЖАХ** *м.* Дзяржальна вілак, качаргі і г. д. *А сухая стала, як тые важагі, высахла ў ражна, страшно глядзець.*

**ВАЛАСЫПЕ́Д** *м.* Веласіпед. *Сабе купіла валасыпет, то яму праехаць ні дась: ні прапівай, да купі, кажэ.*

**ВО́БМАРАКА** *ж.* Галавакружэнне. *Вобмарака ў мяне ў галаве – марочыць вельмо.*

**ВЫ́БРЫЦІЦЬ** *зак.* Добра выкасіць. *Пазнаў Колька, што выбрыцілі двор.*

**ВЫ́ПУСЦІЦЬ** *зак.* Сказаць. *Я ш такая, што нідзе слова ні выпушчу, дак ён мяне любіць, ходзіць к нам.*

**ВЫСКРЭ́БАЦЬ** *незак.* Выскрабаць. *Хто выскрэбае міскі да каструлі, дак сарочка скорэ парвецца* (прыкмета).

**ВЫ́ТРАЛЯВАЦЬ** *зак.* Вывезці. *Вытралеваць кірпіч трэба было ў двор, а патом забіраць яго, а каня далі толькі ў выхадны дзень.*

**ГАВЯ́ДА** *мн.* Каровы. *Хоць і мы, трое гаўят дзяржалі – это толькі падумай!*

**ГАЛАДАВА́ЦЬ** *незак.* Галадаць. *Я шчытаю, што бацько шчас галадаваў, у бальніцы слабо кормяць.*

**ГАМАНА́** *ж.* Шумная размова. *Паўстаўлялі жалезные дзьверы, дак якая ў калідоры гамана – усе ў кварціры чутно.*

**ГАМАНІ́ЦЬ** *незак.* Гаварыць. *Я за што і гаманю на яе.*

**ГАМАНКІ́** *прым.* Гаваркі. *Яна ж гаманкая такая, кажэ, дома хоць с куркамі пагаманю.*

**ГРУБЫ́** *прым.* Грубы. *Грубая ваша дочка, ні памаўчыць.*

**ДАЎБСЦІ́** *незак.* Біцца. *Пакуль даўбе серцэ, то хай дзяўбе, я ў бальніцу не паеду.*

**ДБАЦЬ** *незак.* Клапаціцца. *Ён сам а сябе, ён ні па ком ні дбае.*

**ДВО́ІЦЦА** *незак.* Дваіцца. *У вачах двоілас: ідзе чалавек, а мне кажацца, што два ідуць.*

**ДЗЕРАЎЛЯ́НЫ** *прым.* Дзеравяны. *Даёначкі рабілі дзераўляные, нівялікие, тыя годы, с клёпак, як кубельцы, такога віда.*

**ЖАНА́** *ж.* Жонка. *Муж і жана – адна сатана, удзень паленам, а ночы каленам* (прыказка).

**ЖЫВІ́ЦА** *незак.* Карміцца. *Яны і жывіліса ні мало ў Саветкі: яна ж карову дзяржала і соткі сеяла.*

**ЖЫ́ЦЕЙКО** *н., памянш.* да жыта. *Трэба тое жыцейко ўпараткаваць: мяшкі дасыпаць і змалоць.*

**ЖЫЦЬ НА ВЫ́ГАДЗЕ.** Вельмі добра. *Нацька на выгадзе жыла, як вышла замуж за Бопку.*

**ЗАБА́ВІЦЬ** *незак.* Займаць гаворкай. *Могуць абое прыляцець, яна забавіць бацька, а ён апшалёстае ўсю хату.*

**ЗАБО́ЙЛІВЫ** *прым.* Ліўневы, касы. *Дож ні забойлівы, такі роўнянькі.*

**ЗАГАРО́ДКА** *ж.* Невялікае загароджанае месца для курэй. *Прышла, пагляздзела і ў адно место, і ў другое, і ў адну загаротку, і ў другую – німа куры. Я і ў ету зыгаратку, дзе яны тупалі і карміла, – німа нідзе на сьвеце.*

**ЗАЗНАКО́МІЦЦА** *зак.* Пазнаёміцца. *Да лясьнік быў с Хаціннава, зазнакоміліса мы, у сярэдніх гадах.*

**ЗАМО́РАЧАК** *м.* Вельмі малы. *Заморачкі-сасуды ў галаве і тые точаць, як мурашкі бегаюць.*

**ЗАНАЧА́ЛЬНА** *прысл.* Спачатку. *Дак вот дзе заначальна патсеяў удабрэня, дак і картаплянік лепшы і картоплі лепшые былі.*

**ЗАСМІХНУ́ЦЦА** *зак.* Усміхнуцца. *Я кажу: «Коля, патчапі сёня эту дзевачку». Дак ён:»Ага, я думаю». Дай засьміхаўса.*

**ЗАЧУ́ЦЬ** *зак.* Пачуць. *Ето ён ні зачуў доббрэ, а тоб быстро ўсхапіўса с палка.*

**ЗА́ЯДЗЬ** *зб.* Камары, авадні. *А за́ядзь была́ ў ле́се, конь ні мох стая́ць на ме́сьце.*

**ЗБА́БЕЦЬ** *зак.* Састарэць. *Зба́бела, як грып ста-ры́, у адны́х маршчы́нах, страх глядзе́ць.*

**ЗДАРО́ЎКАЦЦА** *незак.* Вітацца. *То́лькі ўсе зда-ро́ўкаюцца гэ́тые дактары́.*

**ЗНА́ЦЦА** *незак.* Падтрымліваць адносіны. *Яна́ зь і́мі зна́яцца, яе́ сёстры ўсе ў Салігорску жывуць.*

**ЗНЕ́РВІЧАЦЬ** *зак.* Знервавацца. *Я ге́тых паездак ні люблю́, ні дай Бо́жэ, то́лькі зьне́рвічаеш, дай усе́.*

**ЗНЕ́ХЦІЦЬ** *зак.* Прынізіць. *Яны́ яе́ зьне́хцілі: што яна́ нідзе́ ні ро́біць, што яна́ гульта́й.*

**ЗЬІГАРАДКА** *ж.* Тое ж, што і **ЗАГАРО́ДКА**.

**ЗЯЛЁНЕЙШЫ** *прым.* Зелянейшы. *Марко́ўнік тро́шкі зялёнейшы, то́жэ ўжэ чарне́е.*

**КАРАМЗА́ТЫ** *прым.* Няроўны. *Адна́ хвоя пра-ма́я, а другая карамза́та ў ле́се: ні ўраўнава́ў Бог ні ле́су, ні людзе́й.*

**КАРАСІ́НА** *ж.* Газа. *І рабі́ла, мой ты по́мніш, як от на Урэ́чэ ўе́дзеш, па пра́ву сто́рану не́йкі як магазі́н быў, ізра́зу ото́ на асфа́льту, карасі́ну прадава́лі.*

**КАРЫ́ЦЬ** *незак.* Здымаць кару. *Сушы́ла, цяга́ла і кары́ла до́скі.*

**КАСЕ́ЦЬ** *незак. Касіцца. Дзве́ры касе́юць, як ві́-сяць, на дзень трэ́ба закрыва́ць, хаця́ б на́ ноч аткрыва́ць.*

**КА́СІР** *м.* Касір. *Ві́ціна жо́нка ка́сірам ро́біць у Дарасіно́ ці аканамі́стам.*

**КАЎЦЯ́К** *м. Касмыль. Ге́то то́е адзія́ло, яко́е зьбіва́ецца ў камякі́, каўцякі́. Там каўцякі́ ў се́не, трэ́ба павярну́ць.*

**КАШЛЯЦЕ́ЦЬ** *незак.* Моцна кашляць. *Бальны́, кашляці́ць і нічо́го ні ро́біць, ні ле́чыцца.*

**КЛІ́ШАВАТЫ** *прым.* Крываногі. *Яна́ не́йка была́ клі́шавата, усе́ ўрэ́м'е но́гі ўрось у калёнях.*

**КРАВА́ЦЬ** *ж.* Ложак. *Чаго́ ў цябе́ цюхля́к ляжы́ць скру́чаны, хай бы ты яму́ на крава́ць палажы́ла.*

**КРУГЛО́ВІНА** *ж.* Круглае месца. *Лес бальшы́, а кругло́віна ў ле́се, там се́но было́ і граблі́ яго́.*

**КРУ́ПЧЫК** *м.* Крупінка. *Тво́раг ужэ́ кру́пчыкамі, зь яго́, ма́біць, сыр ні зро́біш.*

**КРУТНЯ́** *ж.* Знаходжанне ў клопаце. *У Ко́лі і сваёй крутні́ хапа́е, кру́ціцца з ра́ніцы да ве́чара.*

**КРУЧКАВА́НЫ** *прым.* Кручкаваты. *Адзі́н дош лю́дны ні прайшо́ў. Агуркі́ не́йкіе кручкава́ные.*

**КРЫВЕ́ЛЯ** *ж.* Крывы, няроўны. *Яму́ крыве́лі які́я паастава́ліса, а ні калы́.*

**ЛАЗНІ́К** *зб.* Лазняк. *Тут бало́то было́ і лазьні́к е́ты, нівялі́кі лес, але́ лазьні́к быў.*

**ЛЕ́ЦЯЧКО** *н., памянш.* да ле́та. *Ле́цячко во́ду грэ́ла му́сарам, жукаці́ць у пе́чцы.*

**ЛУ́СТАЧКА** *ж.* Невялікі плоскі кавалачак. *Пя-чэ́не лу́стачкамі ў мага́зіне.*

**ЛЯГКАВА́ТЫ** *прым.* Лёгкі. *Спадні́ца ляхкава́та не́йка, трэ́ба на разі́нку ўзяць і ле́там до́брэ адзява́ць.*

**МАЛАДАВА́ТЫ** *прым.* Малажавы. *Шчэ ж і ма-ладава́та до́ктар, а паня́тліва, зра́зу на зьёмку пі́шэ – дзьве ж зьёмкі рабі́лі.*

**МАЛАДНЯ́К** *зб.* Дзеці. *А маладня́к, по́драстач-кі, – увесь сьвет забо́лены.*

**МАРКО́ТНА** *прысл.* Маркотна. *Не́што ў галаве́ марко́тно: і табле́ткі вы́піў, і ні сьціха́е ў галаве́.*

**МУ́РАВА** *н.* Мурава. *Ма́ло ўжэ я му́раво натапчу́, до́чка. С ко́жным днём к зямлі́ кладзе́.*

**МЯНТАВА́ЦЬ** *незак.* Мянціць. *Дава́й касу́ мян-тава́ць, да двор свой трэ́ба абко́шваць.*

**НАДГАРЭ́ЦЬ** *зак.* Некаторы час пагарэць. *Над-гара́ць у пе́чцэ дро́ва, а пато́м зноў даба́ўлю, кап пе́чка была надо́ўго цёпла.*

**НАНАВО́З** *м.* Дарога для хадзьбы і язды за за-гонамі. *Ты хадзі́ла па нанаво́зу? Паля́дзі, у мяне́ за-го́ны ро́ўныя.*

**НАПАМПУ́РЫЦЬ** *зак.* Наліць зверх меры. *На-пампу́рыла цэ́лу мі́ску макаро́ны, нашто́ сто́лькі ліць.*

**НАПО́РА** *ж.* Напор. *Каза́ў, што і е́та рука́ ба-лі́ць, усе́ ш бо́льша напо́ра на пра́ву ру́ку.*

**НІБО́ШЧЫК** *м.* Нябожчык. *Брат жані́ўся ні-бо́шчык, мо ў пійся́тум гаду́.*

**НІВЫСО́ЧКІ** *прым.* Невысокі. *Нівысо́чкі такі́ па́мятнік зрабі́ў і ба́цьку, і ма́цяры.*

**ПАБЯЛЁНЫ** *прым.* Эмаліраваны. *Трэ́ба капу́сту шынкава́ць у пабялёну кастру́лю, тады́ ніўрэ́дно.*

**ПАДЗЯБЕ́ЛЯЦЬ** *зак.* Паздаравець. *Нек падзя-бе́леў Ко́ля: ку́ртку чы́сту аде́не, на веласыпе́т сядзе́ і е́дзе.*

**ПАДСО́БІЦЬ** *зак.* Дапамагчы. *І ўко́лы патсо́білі, дзя́куй Бо́гу.*

**ПАДХО́ЧВАЦЬ** *незак.* Не вельмі хацець. *Я ні патхо́чваю лажы́цца ў бальні́цу.*

**ПАЛЮ́БЛІВАЦЬ** *незак.* Любіць. *Ён су́пу ні па-лю́блівае, а тарко́ванку ве́льмі лю́біць.*

**ПАХВАЦІ́ЦЬ** *зак.* Пахватаць. *Былі́ пахваці́лі паўшу́ткі, плашчы́ бліску́чыя, На́дзя ўсе паспра́ўляла.*

**ПЕРАКУПО́ЎВАЦЬ** *незак.* Шмат купляць. *Ско́ль-кі мы перакупо́ўваем макаро́ны ўдва́іх душэ́ю, то на се́м'ю ні ка́жды сто́лькі купля́е.*

**ПРЫСЛЯДЗІ́ЦЬ** *незак.* Назіраць, сачыць. *Калі́ мо дзе ку́ра сёня і зьнясла́са ці што, то яна́ ж і за́ўтрэ бу́дзе ўцяка́ць. То я ўжэ прысьля́джу яе́.*

**ПРЫЧУ́ЦЬ** *зак.* Учуць. *Ні прычу́ла ты, што я та-бе́ каза́ў.*

**РА́ЗНІЦКА** *ж., памянш.* да ро́зніца. *Сьвіня́м без ра́зьніцкі што е́сьці: ці бальшу́ю карто́шку, ці дро́бну.*

**РАСКІ́ПЛЕНЫ** *прым.* Распараны. *Ты стара́йса паку́ль ні раскі́пленые карто́плі мне кі́даць.*

**НАСТРАПЯЛІ́ЦЬ** *зак.* Настроіць. *Алёшка мяне́ настрапялі́ў, ка́жэ: конь гуля́е, ідзі́ бяры́ друго́го і сей сабе́.*

**ПАБУ́ЦЯЦЬ** *зак.* Сатлець. *Дро́вы даўно́ ляжа́ць, мо́жа ў хляве́ ўжэ́ і пабу́цялі.*

**ПАЗМІРА́ЦЬ** *зак.* Памерці. *У яго́ двое дзяце́й бы-ло́, але́ пазьміра́лі і дзе́ці. Браў гро́шы, але́ ўсе прапа́ло.*

**ПА́ЛІВА** *н.* Паліва. *Што́-то ў цябе́ за па́ліво, калі́ но́гі паста́ўлю к пе́цэ і но́гі хало́дные.*

**ПАНАРАБЛЯ́ЦЬ** *зак.* Нарабіць. *І засло́наў до́ўгіх панарабля́ў аб стало́х.*

**ПАНАХО́ДЗІЦЬ** *зак.* Знайсці. *Панахо́дзіла твае́ плячукі́ і апшы́ла стары́е валёнкі, цяплёй ста́ло і нага́м.*

**ПАПА́Р** *м.* Сухая трава, якая расце на папары. *Ару́ць по́ле і ўжэ нічо́га ні се́яцца. Гот се́юць, а тады́ папа́р дзі́кі расьце́. Каля́скамі яго́ цяга́лі.*

**ПАЎЛЕ́ТА** *н.* Палавіна лета. *Калі́ ты ўжэ свой рамо́нт зако́нчыш, ат паўле́та пачала і яшчэ́ ні зако́нчыла.*

**ПАХАЦЕ́ЦЬ** *незак.* Вельмі пахнуць. *Зварыла суп, прынясла́ ў ха́ту, дак ён ве́льмо ж пахаці́ць уку́сно.*

**ПАХУДА́ЦЬ** *зак.* Пахудзець. *Тро́хі спаў, пахуда́ў, дак і ле́пшы стаў.*

**ПАШУМЕ́ЦЬ** *зак.* Хутка пайсці. *С касо́ю за пле́чы і пашуме́ў апко́шваць, дзе касі́лка ні заняла́.*

**ПЕРАКІ́НУЦЦА** *зак.* Хутка прайсці. *Ото́ ме́сяц тут-сют перакі́нецца, гро́шы зноў прынясу́ць.*

**ПЕРАП'Я́ЦЬ** *зак.* Перапяць. *Ха́тка ж нівялі́чка, яшчэ́ і мацяр'я́лам перап'я́та.*

**ПЕ́РВО** *прысл.* Перш. *Пе́рво ш папрывя́звалі каро́вы за кусты́, а тады́ аге́ньчыку наклалі, палягалі ля агню.*

**ПІТА́** *ж.* Розныя напіткі. *Цяпе́р паглядзі́, дак усяго́ хапа́е: і адзёжы, і яды́, і піты́, і со́каў, напі́тку – чаго́ ты хо́чаш.*

**ПРАВАРЫ́ЦЬ** *зак.* Зварыць. *То́лькі хай е́сьці права́рыць жо́нка, а астально́е я зраблю сам.*

**ПРАД** *прыназ.* Перад. *Каза́лі прат тым, як хлеў згарэ́ў.*

**ПРАДУ́МАЦЬ** *зак.* Передумаць. *Трава́ стаі́ць – пазі́раеш, да то́лькі праду́маеш усё, да нервніча́еш бес то́лку.*

**ПРАМО́ВІЦЦА** *зак.* Пасварыцца. *І мы ніка́гда́ ні прамо́вілiса са́мі сабо́ю, мы ні зна́лі, як глядзе́ць ту́ю браці́ху.*

**ПРАМЯЖУ́ТАК** *м.* Прамежак. *На том прамяжу́тку пам́іж Бяро́заўкай і Гра́матай схва́тка была́.*

**ПРО́ЛЯЖЫ** *мн.* Пролежні. *Кажу́: у цябе́ ско́рэ про́ляжы бу́дуць на плячах, пазаміра́е ўся кроў.*

**ПРО́ЧНЫ** *прым.* Плотны, моцны. *Тымі гада́мі, по́сьле вайны́, былі́ про́чные такі́е шарсьця́ные тара-но́вачкі, красі́вые-красі́вые.*

**ПРЫДУМО́ЎВАЦЦА** *незак.* Узгадваць. *Нек я сама́ сабе́ прыдумо́ўвалася: трэ́ба было́ схадзі́ць к Вало́дзі да даве́дацца.*

**ПУ́ПАШАЧКА** *ж.* Пупышка. *На́да сьлі́вы абраба́тываць, як то́лькі пу́пашачкі пая́вяцца.*

**РАЎНАВА́ЦЬ** *незак.* Параўноўваць. *Раўну́й гаспадаро́ў да гаспадаро́ў. Адны́е стая́ць, каб вы́піць, а другі́е рабо́ты шука́юць.*

**РЭ́ПШЧЫЦЬ** *незак.* Наракаць. *А ўсе лю́дзі рэ́пшчуць, ні ве́даюць чаго́ хо́чуць, адно́ на адно́.*

**САМАВІ́ТЫ** *прым.* Разумны. *По́лымя шуга́е с пе́чкі, а ён сядзі́ць. Ну што ты зро́біш, калі́ ні самаві́ты чалаве́к!*

**САЎГАНУ́ЦЬ** *зак.* Усунуць у што-небудзь. *Я пама́цаю: руку́ саўгану́ ў пашню́, рука́ ле́зе – зна́чыць, ячме́нь харо́шы.*

**СКАПА́ЦЬ** *зак.* Выкапаць. *На агаро́дзе карто́плі скапа́ла, дак патсява́ла ўкроп.*

**СКІЛЕ́Т** *м.* Шкілет. *Худы́е каро́вы паўганя́юць, то скіле́ты адны́е.*

**СКЛЯКЦІ́СЯ** *зак.* Сплесціся. *Так пасадзі́ла гарбузы́, то усе́ скля́кло́со: касьцяро́віца, как пасе́яно, як пашня якая.*

**СЛУ́ЧАЙ** *м.* Здарэнне. *І по́сьле таго́ ў мяне́ ўжэ ні было́ ніка́гда́ тако́го слу́чая.*

**СЛЫ́ХІ** *мн.* Чуткі. *У нас слы́хі ідуць, што два нулі́ аткіда́ць бу́дуць у грашах.*

**СЛЮТА́** *ж.* Слота. *Ве́льмо ж сьлюта́ на ву́ліцы была́ ўчо́рэ, ні мо́жно было́ ў двор вы́йці.*

**СМАЖАКІ́** *мн.* Нарэзаная кавалачкамі бульба і запраўленая салам. *Чысьці́м е́ту карто́шку так бы як на смажакі́ на дзень.*

**СОЛЬ У ПА́ЛЬЦЫ**. Драбок; невялькая колькасць солі, якая бярэцца ў тры пальцы. *Вазьмі́ со́лі ў па́льцы і пасалі́ карто́плі.*

**СПАДО́БІЦЦА** *зак.* Спадабацца. *Тады́ кісе́ль спадо́біўса, а ён мі́сачкі і ня вы́яў.*

**СПАЛО́СКВАЦЬ** *незак.* Паласкаць. *Ні правяра́й, я спало́сквала ўсю пасу́ду і палаце́нцам паўці́ра́ла.*

**СУШЫНЯ́** *ж.* Суш. *То́лькі на чарда́к цыбу́лю высыпа́ць, там жа сушыня́.*

**ТАЛХАВА́ЦЬ** *незак.* Марна траціць. *Адно́ на адно́ пазіра́юць, гро́шы талху́юць, дай так і жыву́ць.*

**ТРОХСЦЕ́НЕК** *м.* Прыбудова з трох сцен каля сянец; трысцен. *Там жэ ха́цінка і се́нцы, і тады́ трохсьце́нек прыкі́нуты, як хляве́ц.*

**ТРО́ХУ** *прысл.* Трохі. *Тро́ху Ва́ра по́мніць, як вайна́ была́.*

**ТРУХЛЯ́ВЫ** *прым.* Мяккі і пусты ў сярэдзіне. *Трухля́вые бато́ны і ніўку́сные.*

**УВЕ́ЧЫЦЬ** *зак.* Знявечыць. *Бу́дзеш піць каньяк, то, калі́ хоч, се́рцэ ўве́чыш.*

**УЗДЗЯЦІ́НЕЦЬ** *зак.* Здзяцінець. *Кажу́: хіба́ ты ўзьдзяці́неў, а ў мяне́ паглядзі́, ні́ма сі́няго на руках.*

**УКУПІ́ЦЦА** *зак.* Купіць за грошы. *У чужо́е шча́сьце ні ўку́піса* (прыказка).

**УЛЯТА́ЦЬ** *незак.* Адлятаць. *Пчо́лы ні ўлята́лі нідзе́ ў пале́ткі, дзе ве́рас цьвіце́, а на адно́м са́хару і сядзе́лі.*

**УМЫШЛЯ́ЦЬ** *незак.* Выстранчаць. *Я ўжэ́ ні ўмышля́ю, што прыгато́віш, то́е і ем.*

**УПАВА́ЦЬ** *незак.* Спадзявацца. *Я ўпава́ла на то́е, што яны́ прыяжджа́лі ма́цяру харані́ць.*

**УПО́МЕЖ** *прысл.* Побач. *Ра́зам, упо́меж і ідо́м.*

**УРА́ІЦЬ** *зак.* Параіць. *Баро́вец ура́іў Стаха́наваго к ёй, і сьце́рліса або́е: і ён, і яна́, і ха́та стаі́ць пуста́я.*

**УРУ́БВАЦЦА** *незак.* Рабіць рубец на целе. *Ето такі́ це́сны лі́фік, што аж уру́бваецца ў пле́чы.*

**УТРА́ЦІЦЬ** *зак.* Прапусціць, прагледзець. *Патхо́дзім мы туды́ ўжэ блі́ско пад іх, і яны́ ўжэ е́дуць наўстрэ́чу. А то магла́ і ўтра́ціць.*

**УТУ́ПАЦЬ** *зак.* Змардаваць. *Е́ты дзет вас уту́пае, глядзі́ сама́ сябе́.*

**УШЧЫ́ПВАЦЦА** *незак.* Брацца за адзенне. *Тако́е зе́лье, што чапля́ецца за спадні́цу, ушчы́пваецца ў пярэ́днік, як гарашо́к.*

**ФАМІ́ЛЯ** *ж.* Прозвішча. *Ро́уда до́ктар – фамі́ля: во́пытны, паніма́ючы, харо́шы.*

**ХАДНЯ́** *ж.* Хадзьба. *Што ето за хадня́, калі́ два шагі́ ступі́ і ў галаве́ во́бмарак.*

**ХАРА́КЦЕР** *м.* Характар. *У яго́ хара́кцер саўсі́м другі́, ён рабо́ту сваю́ зна́е, а калі́ вы́п'е, то і бу́дзе засіна́ць, се́дзячы і дрэ́мле ўжэ.*

**ЦЯГЦІ́** *незак.* Жыць. *Такі́е, што ні бале́юць, быва́е забале́юць і пераку́ляцца, а ты́е, што бале́юць, то ця́гнуць до́ўго.*

**ЦЯПЛІНЯ́** *ж.* Цеплыня. *Удво́х ідýць у ха́ту. То се́лі б у віра́ньдзе цяплі́ні е́тае.*

**ШАВЯЛЬНУ́ЦЦА** *зак.* Даваць знаць пра сябе. *Ні дась шавяльну́цца ні́дзе хваро́бе, абы́ чуць – сра́зу скóру вызыва́е.*

**ШАМАТНУ́ЦЬ** *зак.* Утварыць шум. *Ці е́то ў вуша́х шаматну́ло, ці е́то што?*

**ША́ПАЦЬ** *незак.* Ціха біцца. *Твой пульс яшчэ́ ша́пае, ця́гне тро́хі яшчэ́.*

**ШАРАШЫ́ЦЬ** *незак.* Уздымаць пыл пры хадзьбе. *Абяза́цельно ў ха́ту пры́дзе да шарэ́шыць туды́-сюды́.*

**ШТА́БЛІК** *м., памянш.* Невялікі пласт адходаў (лісце, бацвінне, маркоўнік і г. д.). *Шта́блік мо перапрэ́е, то гной, як торф зро́біцца, і яго́ до́брэ на заго́н.*

**ШЧЫ́ЛЬКА** *ж.* Невялікая шчаліна. *На ком шчы́льку ўба́чыш, а на сабе́ і бярвіна́ ні відно́* (прыказка).

**ШЧЫ́ЛЯЧКА** *ж., памянш.* Шчылінка. *У дзве́рцах шчы́лячку зраблю́, а паддува́ла і гра́ма ні аткрываю́.*

**ШЧЭ́ЗНУЦЬ** *зак.* Памерці; знікнуць. *І не́йка хваро́ба напа́ла і ўся сям'я́ шчэ́зла.*

**ШЧЭ́МАЧКА** *ж.* Невялікі кавалачак чаго-небудзь. *Шчэ́мачку даў адну́ дзегаксі́ну, а больш ні даў.*

**ШЧЭ́МКА** *ж.* Невялікая трэска. *Дзе шчэ́мкі які́я пасабіра́ю – і ў пе́чку, ці шчэ́мачкі.*

**ШЫПУ́ЛЯЧКА** *ж., памянш.* Шыпулька. *Хвóю зрэ́жам, пацярэ́бім і шыпу́лячкі пазьбіра́ем.*

**ЯЗЫКАВА́ТЫ** *прым.* Языкаты. *Яны́ бы́стрые, языкава́тые, але́ і дру́жные.*

**Я́МЧЫНКА** *ж.* Невялікая ямка. *Ні аднаго́ во́чка ў карто́плі німа́, адна́ я́мчынка не́йка.*

*Л. В. Яцукевіч*

## З ЛЕКСІКІ ГАВОРКІ ВЁСКІ ДВАРЭЦ ЛУНІНЕЦКАГА РАЁНА БРЭСЦКАЙ ВОБЛАСЦІ

Вёска Дварэц (дыял. *Дворэ́ц*) уваходзіць у склад СПК «Дварэцкі» Лунінецкага раёна Брэсцкай вобласці. На думку І. Сербава, назва гэтага населенага пункта ўтворана ад наймення памешчыцкага «двара», які знаходзіўся непадалёку ад вёскі на беразе ракі Цна. Сябе жыхары называюць *дворча́не, дворча́нін, дворча́нка.*

Асноўныя моўныя асаблівасці гаворкі мясцовых жыхароў наступныя:

1. Яркай асаблівасцю мясцовага маўлення з'яўляецца захаванне ў вымаўленні этымалагічных галосных ***о, э, а*** ў ненаціскным становішчы: *копані́ца, вэсна́, олёс, огоро́д, вэчэ́ра, сьвэкро́ў.*

2. Наяўнасць дзекання і цекання: *дзя́цька, нае́здзіўса, браці́ха, найці́.*

3. Пераважнае ўжыванне пратэтычнага ***в*** перад пачатковымі ***о, у***: *во́бмаль, во́но, ву́хо, ву́ліца.* У асобных словах сустракаецца прыстаўны ***г***: *го́стры.* Разам з тым шэраг слоў у дадзенай фанетычнай пазіцыі выкарыстоўваецца без пратэтычных зычных: *о́строў, у́сце.*

4. Зычны ***р*** у любой фанетычнай пазіцыі вымаўляецца толькі цвёрда: *корэ́ц, рэ́заць, упрысту́п, урэ́дны.*

5. Цвёрды зычны ***с*** у складзе постфіксе ***-ся*** зваротных дзеясловаў: *умы́ўса, узяла́са, наробі́ласа, набе́галосо.*

6. Адсутнасць падоўжаных зычных: *сёня, зе́ле* (*зе́лье*), *боцьві́не.*

7. Наяўнасць сцягнутай сінкрэтычнай формы будучага часу дзеясловаў: *робі́цьму, грузі́цьму, е́сціму, косі́цьму, ора́цьму.*

8. Вымаўленне цвёрдых губных зычных перад галосным ***э***: *вэсна́, вэчэ́ра, вэдро́, бэда́, во́зьмэ, цебэ́, пробэрэ́.*

**БА́ЕШНІ** *прым.* Колішні, даўні. *Не́колі прышла́ я пе́рвы раз до ятро́ўкі, а ў іх ха́ці шчэ ба́лішні, мо пробáпкі, дубо́вы стол стоі́ць, але́ засла́ны і покра́шэны ло́ўко.*

**БА́ЛО** *прысл.* Калісьці, даўно. *От ба́ло было́ не так, бы за́рэ: та́нцы робі́лі ко́ло ха́ты, ко́ло ла́ўкі од доро́гі, скака́лі под гармо́нік, а то й потпэва́лі шчэ.*

**БРАТА́Ш** *м.* Стрыечны брат. *За́ўтрэ дзя́цько с цёткой у го́сці е́дуць, то мо й брата́ш бу́дзе.*

**БРАЦІ́ХА** *ж.* Жонка брата. *Садзі́ць бу́льбу з'е́халаса ўся родня́, то́ко брат з браці́хой не прые́халі.*

**БЭРЭ́МОК** *м.* Абярэмак. *Прынесі́ ў гру́бу і ў печ по бэрэ́мку дроў, хай тро́хі потсо́хнуць у ха́ці, бо ў ове́д затопі́ць трэ́ба бу́дзе.*

**ВАРОНКІ́** *мн.* Бульбяны суп. *Не́шо мы ўсе на ка́шу бу́льбяну напа́лі, не, коб варо́нок звары́ць, да такі́х рэ́дзенькіх.*

**ВО́БМАЛЬ** *прысл.* Мала, абмежавана, недастаткова. *Пое́хала зра́нку на бето́нку я́годы прода́ць, то не́шо ску́пшчыкоў там во́бмаль было́.*

**ВЫ́ВОЗІЦЬ** *зак.* Моцна запэцкаць. *Ты то́ко ж одзе́ў ма́йку, а ўгэ вы́возіў не́дзе.*

**ВЫ́РАДЗІЦЦА** *зак.* Апрануцца прыгожа, па-святочнаму. *От Ка́ця ўгэ й вы́радзілася, мо ў го́рот пое́дзе ці ў цэ́ркву еку́ по́йдзе.*

**ГА́ЛО** *н.* Бязлесная мясцовасць. *Сёня е́дом я́годы на да́чу поло́ць, а ў га́лі бу́дзе холодно́, бо ве́цер вэлі́кі й на дворэ́, тому́ коб ку́ртку ўзяла́.*

**ГА́ПКА** *ж.* Страўнік (у свіней). *Учо́рэ свіню́ заколо́лі, то ў ее́ така́ га́пка была́ вэлі́ка, шо салцысо́н бу́дзе до́бры.*

**ДЗЯ́ННА** *ж.* Жонка дзядзькі. *Не́шо дзя́нна ў го́сці даўно́ не е́дзе, своя́чка ш як-нія́к.*

**ЗАЦУГО́ЛЁНЫ** *прым.* Брудны, выпацканы. *На пяць міну́т цебэ́ оста́ў, то ўгэ зацуго́лёны, бы свіня́.*

**ЗБУЗОВА́ЦЬ** зак. Сапсаваць, зрабіць непрыгодным. *О́то ш неда́ўно мы тобе́ купі́лі гэ́тые часы́, а ты ўгэ іх збузова́ў.*

**ЗБЫВА́Ч** *м.* Вельмі стары чалавек. *Е ў нас на ху́торы одзі́н збыва́ч, дак ему́ без двух сто год.*

**ЗБЫТКОВА́ЦЦА** *незак.* Здзекавацца. *Шо ты збытку́есса с ко́шкі, вона́ й так до со́нца прыжа́рыласа і лежы́ць на полу́ бы нежыва́я.*

**ЗБЭ́СЦІЦЬ** *зак.* Насварыцца моцна. *Учо́рэ собаку збэ́сціла, бо на курэ́й кіда́еццa, як есць.*

**КАБА́Н** м. Певень. *Гэ́ты молоды́ каба́н так інцерэ́сно пое́, шо аш ку́ры на се́далі смэю́цца.*

**КАЛЮ́ГА** *ж.* Гразкая лужына. *Як то́ко дошч про́йдзе, то гэ́та калю́га заўсёгды́ ро́біцца под дзьвэры́ма.*

**КА́ПА** *ж.* Посцілка. *Ба́чу крова́ць у цебэ́ ўсегда́ помя́та, ты ка́пу ўме́еш до́брэ засціла́ць?*

**КВАС** *м.* 1. Боршч з квашаных буракоў. *Не́шо мы даўно́ ква́су не е́лі, і буракі́ ж е, і ўсе.* 2. Кіслы бярозавы або кляновы сок. *Бэро́з напрокру́чвалі мно́го, то ско́ро й ква́су нап'ёмса.*

**КЛУ́НЯ** *ж.* Пуня. *У гэ́том году́ клу́ня то́ко по полові́не се́но ма́е, бо вме́сто коро́вы – коза́.*

**КОЗЛЯКІ́** *мн.* Агульная назва ядомых грыбоў, акрамя баравікоў. *Пошла́ ў лес, а грыбо́ў не нашла́, то хоць козляко́ў набра́ла.*

**КОЛОТУ́ША** *ж.* Зацірка. *Быва́е на ско́ру ру́ку, як трэ́бо шо з'е́сці звары́ць, возьму́ мукі́ да молока́ – колоту́ша й гото́ва.*

**КО́ЛЬБА** *ж.* Калаўрот (у калодзежы). *Трэ́бо постро́іць ко́льбу, бо злама́ласа, і воды́ не набра́ць с коло́дзезя.*

**КОРЭ́Ц** *м.* Кубак. *Налі́ сьято́е воды́ ў корэ́ц і по чуць-чу́ць порозліва́й по вёдрах, ў коло́дзесь то́жэ не забу́дзь, коб вода́ сьята́я была́ круго́м.*

**КО́ЎЗЕЛІЦА** *ж.* Галалёд. *От пло́хо як про́йдзе дошч вэ́чэром, а зра́нку ко́ўзеліца ро́біцца, бо ўно́чы моро́зік невэлі́кі быў.*

**КО́ШКА** *ж.* Прыстасаванне даставаць з калодзежа ўтопленае вядро. *Нема́ ў нас ко́шкі – бэда́, бо трэ́ба йсці до сосе́да ці по ко́шку, ці по во́ду, але́ лепш ко́шку ўзяць, бо й вэдро́ доста́ць, і воды́ набра́ць.*

**КРОПО́ВЭЦ, ПРОКО́ВЭЦ** *м.* Пярсцёнак. *Ра́ньшэ то́жэ жэні́х прыежа́ў с кропо́ўцамі, екі́е купля́ў вон сам.*

**КУ́ЧА** *ж., экспр.* Валасы. *От і ку́ча ў ее́ на голове́: густа́, чо́рна, а як наста́віць ве́чно высо́ко і йдзе по доро́зі, бы па́ні ека́я.*

**ЛА́ЎКА** *ж.* Магазін. *Трэ́бо сходзі́ць у ла́ўку, хле́ба купі́ці, моло́ка, бо ўгэ е́сці нема́ чого́.*

**ЛЕЛЁШЫЦЬ** *незак.* Крычаць, лямантаваць. *Я ўгэ зробі́ла ўсе ў огоро́дзе: прополо́ла, полі́ла́, а ты ўсё лелёшэш.*

**ЛЕ́ЦЁН** *м.* Прыбудова да хаты (без вокнаў). *Ле́том і ле́цён – ха́та.*

**ЛЮ́ХТА** *ж.* Юшка. *Сёня гру́бу топі́ла, а лю́хту не закры́ла – холодно́ было́.*

**НЕМАНІ́Ц** *прысл.* Нічога страшнага. *«Я так мо́цно ўда́рыласа рукою, шо аж отняло́». – «Неманіц, до сва́дзьбы зажывэ́».*

**НІЧО́ГІ** *прым.* 1. Дрэнны, сапсаваны. *Ко́лькі гот гэ́ты нічо́гі годзі́ннік про́сто лежы́ць у шуфля́ццы!* 2. Злосны, нягоднік (пра чалавека). *Мой сосе́т нічо́гі чолове́к, на́ват дроў не помо́г вы́грузіць з машы́ны, хоць я і попросі́ла.*

**ОБРАДЗІ́ЦЦА** *зак.* Апрануцца. *На дворэ́ сёня холодно́, тому́ трэ́ба до́брэ обрадзі́цца, коб не змэ́рзнуць.*

**ОБ'Я́ЗВАНКА** *ж.* Суконная хустка з кутасамі. *У Хрысці́нкі така́ ло́ўка об'я́званка, шо як одзе́не, то бы молодзі́ца з ліца́.*

**ОДО́НЬЕ** *н.* Сена з самага нізу стога. *Ко́лькі гот гэ́ты стох се́на ўгэ стоі́ць не чэ́паны, аж одо́нье почорне́ло.*

**ОПІ́НЯНКА** *ж.* Вялікая суконная хустка. *Гэ́тою зімо́ю ешчэ́ як пона́добіласа опі́нянка: быва́ло, як йдзеш у магазі́н, уку́таесса і нія́кі моро́з не пробэрэ́ цебэ́.*

**ПАМ'ЯЖО́К** *м.* Невялічкае воблака. *Учо́рэ лежа́ла на траве́ і ў не́бо гледзе́ла, а там такі́ бэлю́сенькі пам'яжо́к плыў.*

**ПАНТО́ПЛІ** *мн.* Лёгкі абутак. *От і панто́плі купі́ла, не́кіе некрасі́вые да й све́тлые вэ́льмо – выма́звацца бу́дуць бы́стро.*

**ПАРО́НКА** *ж.* Спечаны гарбуз. *Наконе́ц-то гарбузы́ ўгэ пороблі́, ско́ро мо́жно бу́дзе паро́нок свіня́м навары́ць.*

**ПЛЯСКА́ЦЬ** *незак.* Гаварыць абы-што, пляткарыць. *Хва́ціць кото́ры час пляска́ць, я ўсёроўно́ тобе́ не ве́ру.*

**ПОКО́Т** *м.* Гара, гарышча. *Залéсь на покóт і погледзі́, ці немá там кровáткі дзéцкое, бо не пóмню: оддавáла комý ці не.*

**ПОКРО́М** *прысл.* Паасобку, асобна. *Квохтýха с цупэня́тамі хóдзіць до тых пор, покá вонь́і не начынáюць ходзі́ць покрóм.*

**ПОПА́С** *м.* Паша. *Зáўтрэ на попáсе коб не спаў, а за коровáмі гледзéў дóбрэ.*

**ПОСЁСТРАНКА** *ж.* Стрыечная сястра. *Я й моя посёстранка, як быль́і малы́е, з бацькáмі чáсто éздзілі рáзом то на сéно, то на бýльбу.*

**ПОСТО́ЛІ** *мн.* Лапці. *Сёня поéдом бýльбу полóць, алé ўсёроўнó обувáйце постóлі, бо там пэсóк гарáчы бýдзе.*

**ПОТПО́ВЭЦЬ** *ж.* Дрывотня. *Дрóва поколóлі, осталóсо іх тóко прыбрáць у потпóвэць.*

**ПЭРЭДЫ́НЬЕ** *н.* Гаспадарчы двор. *Хлéўчыкі для дроў і брыкéту розмэшчáюцца на пэрэды́нье недалёко.*

**ПЭЧО́НКА** *ж.* Спечаны гарбуз. *Я пáру гарбузóў почы́сціла, то трэ́ба жоўцéйшую екý ў пéчку постáвіць, коб пэчóнка булá.*

**РА́ШКА** *ж.* Карыта для жывёлы. *Трэ́ба напóўніць корóве рáшку і на рáнок, і на обéд, бо вонá сёня на попáс не пóйдзе.*

**РУ́ШЫЦЬ** *незак.* Кранаць, чапаць. *Не руш нікóлі пáмяці прóткоў дрэ́нным слóвом.*

**САЛЦЫСО́Н** *м.* Сальцісон, свіны страўнік, начынены мясам і субпрадуктамі. *Мы кáжды раз, як б'ёмо свіню́, рóбім салцысóн, бо гэ́то сáмы смак едá.*

**СЕРЭ́Д** *прыназ.* Пасярод. *Кóшка кáжды раз ля́гэ серэ́д хáты і обхóдзь ее, як ідзéш.*

**СМА́ЧНЫ**: ***смáчна гóлка.*** Вялікая іголка. *Лю́да, прынесі́ смáчну гóлку салцысóн зашы́ць.*

**СМА́ЖЭНІКІ** *мн.* Грыбы жараныя. *Ходзі́ла ў лес по грыбы́, а на вэчэ́ру смáжэнікоў зробі́ла, то от наéласа-наéласа.*

**СКРОЗЬ** *прысл.* Усюды. *Кудь́і ні глянь, скрозь зéлье ўгэ поросло́ – полóць трэ́ба.*

**СОКОТА́ЦЬ** *незак.* Сакатаць. *Éслі кýра сокóчэ, то скóро знесéцца ці ўгэ седзі́ць і несéцца.*

**СОЎЯ́К** *м.* Падасінавік. *Мэ́ньшы ўнук як пóйдзе по грыбы́, то одны́х соўякóў умудрáецца набрáць.*

**СПЛЕСЦІ́** *зак.* Прыдумаць, выдумаць. *Éслі шо сплесці́ трэ́ба, то Сáша – мáсцер у гэ́той спрáве, гэ́то ж не робóту робі́ць.*

**ТАРКОВА́НЦЫ** *мн.* Дранікі. *З молодóй бýльбы, говóрáць, таркова́нцы вэ́льмо ж смáчные.*

**ТОБОЙТО́** *прысл.* Вось іменна. *«Сосéдзі ўгэ даўнó своéй копáлкой бýльбу выкопалі». – «Тобойтó ж!»*

**ТО́ЎЧА** *ж.* Бульба, тоўчаная на корм жывёле. *Трэ́ба бýльбы зварь́іць у котлé, бо на рáнок ўгэ тóўчы не бýдзе.*

**УГЭ́** *часц.* Ужо. *Мо хвáціць ўгэ пісáць, ці шо?*

**УПРЫСТУ́П** *прысл.* Удосталь. *Трэ́ба корóве ўпрыстýп сéна на ноч наклáсці, бо, бáчно, за дзень не напáсціласа – молокá мáло далá.*

**УЦІРА́ЛЬНІК** *м.* Ручнік. *Я йду ўмывáцца, а ты слéдом прынесі́ мне ўцірáльнік.*

**УШЫХОВА́ЦЦА** *зак.* Дагледзець, накарміць хатні статак. *Мне сёня на ноч на робóту, то тобé трэ́ба бýдзе ў шэсць часóў ушыховáцца, я́йца зобрáць, усё позачыня́ць і собáку отвязáць.*

**ХІЗО́К** *м.* Вышкі. *Сходзі́ ў хлеў, злазь на хізóк і погледзі́, ці не окоці́ласа кóшка.*

**ХРА́ПА** *ж.* Мёрзлая зямля. *Трэ́ба ўзяць лопáту і почы́сціць гэ́ту хрáпу на дорóшцы от калі́ткі до гáнка.*

**ХУДО́БА** *ж.* Жывёла (свойская). *Самá повэчэ́рала, а худóбу покормі́ла? Вонá ж самá не вóзьмэ, бы ты.*

**ЦЁСКА** *ж.* Трэска. *Дрóва порэ́залі, поколóлі, а цёскі не позбірáлі.*

**ЦІ́ХОЦЕ** *прысл.* Ціха, цішэй. *Шо вы роскрычáліса, бы кýры на сéдалі, а ну ці́хоце!*

**ЦУПЭНЯ́** *н.* Кураня. *Куні́ца цупэня́т быстрэ́й поéсць, чым мы еéц дождóмса.*

**ЧЭПЛЯЯ́** *ж.* Чапяла. *Вáся, прынесі́ чэплею, коб чыгýнчык з грýбы достáць.*

**ШЛАПА́ТЫ** *прым.* Шырокі, вялікі. *У Кóсці такá шлапáта ногá, шо мы ёгó не пускáемо выбірáць я́годы, бо потóпчэ больш, чым назбірáе.*

**ШО** *злучн.* Што. *Я бáчу, шо харáкцер у цебэ́ ешчэ́ ого-гó!*

**ШУ́ХЛЯ** *ж.* Вялікая шырокая лапата. *Трэ́ба сходзі́ць дорóшку почы́сціць, але котóрэ врэ́мя шукáю шýхлю і не могý найці́, мо Андрэ́й знáе.*

**ЯТРО́ЎКА** *ж.* Жонка брата мужа. *От мы з мýжом прыéхалі до сьвэкрóві помогáць бýльбу садзі́ць, а ятрóўка с чоловэ́ком і ў вус не подýлі, мáбыць.*

# ТАПАНІМІЯ

*І. Д. Осіпаў*

## МІКРАТАПОНІМЫ НАВАКОЛЛЯ ВЁСКІ АБАКУМЫ

Вывучэнне мікратапонімаў наваколля вёскі Абакумы, што размешчана ў Лоеўскім раёне Гомельскай вобласці, было пачата яшчэ дзесяць гадоў таму (напрыканцы 90-х гадоў XX ст.).

Геаграфічнае становішча – некаторая «закрытасць» мясцовасці – абумовіла лакалізацыю мікратапонімаў. Назвы адзначаюцца пераважна ў межах галоўных геаграфічных аб'ектаў: рэк Сож і Дняпро, урочышча Вялікае Балота, а таксама іншых малапраходных мясцін.

Інфармантамі сталі мясцовыя жыхары. Найперш тыя з іх, хто «даследуе» наваколле па розных асабістых прычынах, – рыбакі, паляўнічыя, леснікі, а таксама тыя, хто ведае наваколле, але наведвае знаёмыя мясціны час ад часу: пры зборы грыбоў і ягад, выпасе жывёлы і іншых гаспадарчых справах.

Галоўнай асаблівасцю лакалізацыі мясцовых мікратапонімаў з'яўляецца іх уключанасць у буйнейшыя геаграфічныя аб'екты: меншыя ўрочышчы размяшчаюцца на тэрыторыі большых. Заўважана намі і тое, што сёння адны назвы замяняюцца на іншыя. Асабліва часта такое адбываецца, калі ўрочышча значна змянілася ці зусім знікла.

**АБАКУ́МЫ** *мн.* Вёска. Пра назву мясцовыя жыхары расказваюць: *«Ішлі́ тры браты́ Карп, Хамі́н і Абаку́м. Хамі́н збудава́ў ха́ту і ста́лася дярэ́ўня Хамі́нка, Карп пабу́даваў ха́ту і паяві́лася Ка́рпаўка і Абаку́м зрабі́ў ту́така ха́ту і аснава́ў Абаку́мы».*

**АБЛО́ГА** *ж.* Наваколле за вёскай, малады лес.

**АВЕ́РКАВЫ РАГІ́ (СТРЭ́ЛКІ)**. Забалочаная нізіна возера (сенажаць). Кажуць, што мясціна належала Аверкавым.

**АКО́ЛІЦА** *ж.* Возера дугападобнай формы. Мае высокія берагі, парослыя дубамі і вольхай.

**АЛЕ́СЦЫ** *мн.* Месца, на якім быў пасаджаны малады хвойнік. Раней быў мешаны лес з далінамі і нізінамі.

**АРЛО́ВЫ ГРА́ДЫ**. Поле, засаджанае хвоямі. Раней былі дзялянкі жыхароў суседняй вёскі Арол.

**АРСЕ́НЕВА БУ́ДКА**. Поле ля самага берага Сожа. Невялікая пляцоўка (агароджанае поле і маленькая хатка), дзе раней жыў і працаваў бакеншчык, які наглядаў за рачнымі бакенамі.

**АРЭ́ХАЎКА** *ж.* Возера-старыца. Частка ўрочышча Смёт. Расказвалі, што ў возеры было шмат вадзяных арэхаў, якія збіралі.

**АСАКА́** *ж.* Частка забалочанага берага возера, сенажаць.

**АХВО́СЦЕ** *н.* Возера клінападобнай формы, якое парасло вадзянымі арэхамі. На яго дне ляжаць карчы, пні і дубы.

**БАГДА́НАЎ ВО́СТРАЎ**. Урочышча (балотная даліна і выспа на ёй). Зараз пазнаць ўрочышча цяжка: яно вельмі змянілася. Пра назву мясцовыя жыхары расказваюць: *«Е́тае было́ даўно́, мне дед Лаўрэ́н каза́ў е́тае, шо на Вы́гане жыў – а яму́ яго́ны ба́цька, а ба́цьку яго́ны… пасля́ staро́й вайны́ ўхо́ділі адсю́ляка салда́ты. У адно́й жанчы́ны не было́ мужыка́. Так яна́ папрасі́ла аднаго́ салда́та, каб аста́ўсь ў яе́, памага́ў ёй. Ён і аста́ўсь, а зва́лі яго́ Багда́н. Рабо́таў, памага́ў жанчы́не – а калі́ памёр, то назва́лі во́страў той у яго́ чэ́сць, шо недалёка быў ад ха́ты тае́ жанчы́ны».*

**БАЛАБА́ХАЎКА** *ж.* Частка вёскі. Пра назву мясцовыя жыхары расказваюць: *«Жыў ту́така Балаба́ха, так ён ха́ту сабе́ пастро́іў ці што – так і ста́лі называ́ць Балаба́хаўка».*

**БАЛГА́Н** *м.* Урочышча ў маладым хваёвым лесе. Пра назву мясцовыя жыхары расказваюць: *«Мне то́е дед Лаўрэ́н каза́ў, шо ту́така на Вы́гане яго́ная ха́та стая́ла. Ўжо яе́ няма́шака – згарэ́ла яна́. Так, от ра́ньшэ Абаку́мы начына́ліся ў Балга́не, шо ў Кру́глым ле́се. Лю́ді та́мака жылі́, пастро́ілі каплі́чку і ўсё тако́е. А была́ вялі́кая ва́да ўвясну́ і патапі́ла ка́пку людей – та́ка яны́ пачалі́ шука́ць друго́е ме́ста. І знайшлі́ бугóр ту́така, де цяпе́р Абаку́мы стая́ць. Перацягну́лі ха́ты, павыко́пвалі паме́рлых і перацягну́лі на на́шы мо́гілкі. Ту́така і пасялі́ліся – де цяпе́рака Абаку́мы стая́ць, бугóр ту́така высакі́ быў, вада́ не тапі́ла яго́».*

**БАЛО́ННЕ** *н.* Луг на месцы выцерабленага лесу.

**БАЛО́ТЦА** *н.* Поле. Сёння гэта невялікі кавалак поля, які выкарыстоўваецца пад агароды і для сяўбы збожжа.

**БАРАВО́Е** *н.* Забалочанае возера ў дуброве. Мае адзін высокі бераг, другі далёка цягнецца ў глыб лесу.

Раней возера было праточнае, зараз яно зарастае балотнай травой і лесам.

**БАРАЎНЯ́** *ж.* Частка вёскі, якая размешчана ля дубровы і ляснога возера. Пра назву мясцовыя жыхары расказваюць: «*Дык то́е Бараўня́ ля са́мага Барао́га. Ад таго́ і называ́ецца Бараўня́*».

**БАРЫ́САЎ РОГ** Возера. Невялікіх памераў неглыбокае возера з выхадам ў раку Дняпро. У тэрыторыю ўваходзяць абодва берагі і прылеглыя нізіны.

**БЕЛАВО́Д** *м.* Нешырокі рукаў ракі Сож, невялікая рэчка. Кажуць, што раней тут было шмат камення, якое скарыстоўвалася для гацей.

**БІЧЭВА́Я**. Частка берагавой мяжы ракі Сож, парослая лесам і алешынамі. Раней паўз раку праходзіла сцежка і цягнулася дарога.

**БЛІ́ЖНІ СО́БАЛЯ**. Ручай. Невялікі ручай працягласцю ўсяго 40–50 метраў. Раней не перасыхаў, цяпер напаўняецца вадой толькі часова і пры адносна вільготным леце. На рацэ ставіліся нераты.

**БЛО́ЖКІ** *мн.* Поле. Раней было месца пад лесам, потым выкарыстоўвалася пад палі і лугі.

**БО́РАК** *м.* Высокі пагорак з маладым пасаджаным лесам.

**БРАДО́К** *м.* Адносна высокае месца (бугор пасярод далін і балотаў, ручаёў), выкарыстоўвалася для праходу. Зараз часткова засяваецца.

**БУСЛІ́НАЕ КУБЛО́**. Месца, дзе яшчэ 15 гадоў таму стаяў дуб з вялікім гняздом. Пра назву мясцовыя жыхары расказваюць: «*Ось та́мака на го́рцы ста́іць дуб, на ім ба́ч яко́е кубло́. Ка́жуць то́е, шо кубло́ то́е гадо́ў сто, мо бо́лей за ста таму́ бу́сел сдэ́лаў... пасяліўсь ту́така бу́сел, звіў кубло́ і так ко́жан год прылята́ў і сяліўсь. По́тым дру́гія прылята́лі і сяліліся. З таго́ то́е Бусл́інае кубло́ ста́лася ця́жкім і агро́містым*».

**БЯРО́ЗАВАЯ ГРАДА́**. Мяжа лісцевага лесу, бярозавых пасадак.

**БЯРЭ́ЗІНА** *ж.* Мешаны лес, размешчаны на прыгорку на беразе Дняпра.

**ВАЛАКА́** *мн.* Поле. Невялікае поле на самым беразе Дняпра. Раней выкарыстоўвалася пад сенажаці.

**ВАЛО́ЧКІ** *мн.* Невялікі луг на беразе Сажа.

**ВАЎЧУГІ́** *мн.* Урочышча, якое аб'ядноўвае невялікае возера, прыгоркі і рэшту дубровы.

**ВЕ́РБУЖ (ВЕ́РБУШ)** *м.* Дуброва на беразе Дняпра.

**ВЕ́ТАЧКА** *ж.* Месца, парослае лазой і высокай травой на беразе Дняпра. Ва ўрочышчы знойдзена старажытная стаянка.

**ВО́ТМУТ** *м.* Частка ракі. Раней было доўгае возера са сцюдзёнай вадой. На берагах знаходзілі чарапкі, рэшткі посуду, манеты.

**ВУЖЫ́НАЕ КУБЛО́**. Невялікая нізіна ў лесе, зарослая травой і маладняком; раней выкошвалася. Пра назву мясцовыя жыхары расказваюць: «*А ў той ось нізінцы вужа́чча таго́ ого-го. Аж глядíшь, та́мака трава́ варушы́цца – кубло́ íхняе та́мака. Так і заве́цца Вужы́нае кубло́*».

**ВЫ́ГАН** *м.* Частка вёскі. Раней у гэтым месцы размяшчалася яе значная частка, зараз засталося некалькі хат. Пра назву мясцовыя жыхары расказваюць: «*А ось ту́така на Вы́гане ха́ты стая́лі і ву́ліца была́, па ёй і выганя́лі каро́ў па́сціся*».

**ВЯЛІ́КАЕ БАЛО́ТА**. Сёння вялікае вузкае поле, якое з'явілася пасля меліярацыі балота. Паўз урочышча праходзіць некалькі каналаў, але яно займае значна большую частку чыстага поля (адкрытай пляцоўцы), частку межавага лесу з усіх бакоў. Пра назву мясцовыя жыхары расказваюць: «*Калі прыхо́дзілі не́мцы – так ётае мы ў бало́це хава́ліся. Ту́така ране́й лаза́ непрала́зная была́ і вада́ – до́бра было хава́цца ту́така. Але́ не́мцы зна́йшлі нас і ў плен ўзя́лі. А так яно́ было́ вя́лікае і ўсягда́ ту́така вада́ была́*».

**ГА́ЛЬЦЫ** *мн.* Частка берага Дняпра, косы на рацэ. Месца, парослае густым *хмырэзнікам* (хмызняком).

**ГАРБА́ТЫЯ**. Невысокія хвалепадобныя горы, якія цягнуцца ўздоўж краю сасновага лесу.

**ГЛІ́НІШЧА** *н.* Поле. Сёння частка поля, занятая пад сялянскія агароды. Глеба цвёрдая, асабліва ў спякотнае лета, а ў дажджы тут становіцца вельмі гразка.

**ГО́РЫ** *мн.* Гл. **ГАРБА́ТЫЯ**.

**ГРЫ́ВЫ** *мн.* Невысокія ўзвышшы. Дугападобныя выспы ў дубовым лесе пасярод забалочаных далін.

**ГУ́ЛІНА** *н.* Урочышча, якое аб'ядноўвае бераг ракі Сож, старыцу і забалочаныя даліны.

**ДА́ЛЬНІ МОСТ**. Мост праз міліярацыйны канал. У мінулым тут бег ручай і праз яго быў пабудаваны драўляны мост.

**ДА́ЛЬНІ СО́БАЛЯ**. Ручай. Шырокі ручай, які выцякае з нетраў пушчы. Раней улетку ручай мялеў, цяпер перасыхае ў жніўні ці раней.

**ДУГА́** *ж.* Клінападобная выспа пасярод балотных ручаёў, якая цягнецца доўгаю дугою. Заўсёды выкарыстоўвалася як брод, дарога да сенажацей.

**ЖАЎРАНО́К** *м.* Забалочаная нізіна. Раней было мелкае возера, якое злучалася з іншымі такімі ж азярцамі.

**ЗА БАРАВЫ́МІ**. Урочышча, што знаходзіцца далей за возерам Баравым. Размяшчаецца ў пушчы.

**ЗАГРА́ЗЗЕ** *н.* Поле-сенажаць. Выцерабленая ад лесу ў 20-х гадах XX ст. частка луга.

**ЗА́ЙЦАВА** *н.* Лес. Невялікі дубовы лес паміж вялікай дарогай і ракой Дняпро.

**ЗА КАРА́ШЫНАМ**. Урочышча, у склад якога ўваходзяць усе мясціны (палі і лясы), што ідуць за лесам пад назвай *Карашын.*

**ЗА КУ́ПШАЙ**. Урочышча, якое знаходзіцца за ўрочышчам *Купша.*

**ЗА ПЛЕ́ТНІКАМ**. Урочышча. Раней у гэтым месцы быў *плетнік* (мосцік) праз ручай, каб прайсці ў лес.

**ЗЛАМЕ́ЙКІ** *мн.* Невялікае поле на беразе Дняпра.

**ІВА́НАВА ГА́ЛА**. Частка пушчы, часткова выцерабленая ад лесу. Выкарыстоўвалася пад сенажаць.

**КАБАЧО́К** *м.* Глыбокая яміна пасярод невялікага верхавога балота. Выкарыстоўвалася раней як копанка для вады.

**КАЛО́ДАВІЦА** *ж.* Дугападобнае возера ля самай ракі, якое адным бокам выцякае з ракі. Сёння возера неглыбокае і малое. Раней выкарыстоўвалася як стойла для валоў.

**КАМАРО́ВА ДАЛІ́НА**. Глыбокая яміна. Пра назву мясцовыя жыхары расказваюць: *«Пaслі́ ра́зам з ся́брам вало́ў, малы́я былі́, захаце́лі пазна́ць, ко́лькі бу́да кама́р жы́ці без крыві́, злаві́лі камара, пакла́лі ў каро́бачку і ў я́міну ту́ю кі́нулі. Прайшло́ ко́лькі дён – аткры́лі каро́бачку, аж кама́р і паляце́ў. Саўсі́м жывы́ быў. Та́мака мы ту́ю я́міну, де камара́ дяржа́лі, і назва́лі Камаро́вай далі́най».*

**КАНАПЛЯ́НАЕ БАЛО́ТА**. Асушанае балота (поле, якое парасло маладым лесам). Пра назву мясцовыя жыхары расказваюць: *«Пасля во́йны мы та́мака шчэ про́са се́ялі, а саўсі́м даўно́ кано́плі».*

**КАРА́ШЫН** *м.* Невялікая дуброва на беразе Дняпра.

**КАРДО́Н** *м.* Возера-старыца, старарэчышча Дняпра. Урочышча мае дугападобную форму з высокім левым берагам. Пра назву мясцовыя жыхары расказваюць: *«Мне мая́ ба́ба каза́ла, шо па Кардо́не прахо́дiла грані́ца з По́льшчай і бег ту́така Дняпро́. На тым бе́разе ўжо По́льшча, яна́ была́ за кардо́нам».*

**КАРО́СТАЎ КАПТО́П**. Група азёр. Раней месца было часткай рэчышча Дняпра, дзе праходзіла мяжа падзелу Рэчы Паспалітай. Цяпер возера мае форму разгалінаванага шырокага ручая. Вада брудная. Таму, калі пройдзеш па ёй, утвараецца «кароста», якую вельмі цяжка адмыць.

**КА́РПАЎ ВО́СТРАЎ**. Урочышча-паўвыспа. Востраў заняты асінавым лесам з дамешкай дубовага і бярозавага. Пра назву мясцовыя жыхары расказваюць: *«Вясно́й, як вада́ разліва́ецца, та́ка на ім за́йцы, касу́лі і звяры́ ро́зныя жыву́ць. А так ён (востраў) быў акру́жаны ручая́мі і вазёрамі. Було́ то́е пасля́ вайны́. Вялі́кая вада́ – так я на чаўне́ се́ткі сюды е́хаў ста́віці, ажно́, ба́чу – ско́чыць па бугра́м касу́ля. Бугры́ ту́така такі́я ёсцяка».*

**КАСЦЮКО́ЎКА** *ж.* Лясное возера.

**КАЎПЕ́НІЦКАЕ**. Невялікі луг на невысокім беразе возера-старыцы. Выкарыстоўваўся як сенажаць.

**КАЎРО́ВАЕ**. Возера. Уваходзіць у групу азёр, якія раней злучаліся паміж сабой рачулкамі, але цяпер апошнія нагадваюць ручаі.

**КАЎРО́ЎЕ** *н.* Луг. Яшчэ ў 20-х гадах XX ст. мясціна была выцераблена ад лісцевага лесу. Выкарыстоўвалася яна для выпасу кароў, валоў, а таксама пад сенажаць.

**КЛЕ́ЦІШЧА** *н.* Поле. Невялікі кавалак поля. Раней на яго месцы была пушча.

**КО́НСКІЯ МО́ГІЛКІ**. Месца па-за вёскай, парослае хвойнікам. Як і ў мінулым, так і сёння, тут хаваюць коней.

**КО́ЎБАК** *м.* Дугападобнае возера. Раней возера было пасярод дубровы, сёння – пасярод поля, берагі якога парасліі лазой.

**КРУГАВІ́ШЧА** *н.* Возера, частка ўсяго ўрочышча *Смёт*. Мае форму, падобную на авал.

**КРУ́ГЛАЕ**. Возера.

**КРУ́ГЛЫ ЛЕС**. Невялікая частка лесу, які знаходзіцца на невысокай выспе.

**КУ́ЛІВА СТРА́ЖА**. Лес. Мясціна, дзе раней стаяла хата лесніка (стража), каля вялікай лясной дарогі.

**КУ́НАВЕДЬ** *ж.* Гара. Самае высокае месца па ўяўленнях мясцовага насельніцтва.

**КУ́ПІСТАЯ**. Частка берага Дняпра. Пра назву мясцовыя жыхары расказваюць: *«Шчэ пракалі́сть сюды́ купцы́ прыязжа́лі ды́й таргава́лі».*

**КУ́ПША** *ж.* Урочышча, якое аб'ядноўвае палі, лугі, даліны, малыя балоты і ручаі. Назва мясцовасці прыгадаецца як землі – «купчая» нейкіх людзей.

**ЛА́ВЫ** *мн.* 1. Луг, які перарэзаны глыбокімі невялікімі далінамі. 2. Частка ракі (косы на рацэ і прылеглы да іх бераг). Выкарыстоўвалася месца як стойла для свойскай жывёлы – кароў, валоў.

**ЛЕСНІКО́ВА**. Невялікае поле. У сярэдзіне XX ст. гэта частка лесу была выцераблена пад «палянкі».

**ЛУГО́ВАЕ**. Забалочанае возера.

**МАКА́РАВА РЭ́ЧКА**. Урочышча, якое аб'ядноўвае нізіны, балотцы, частку грэблі, невялікае возера. Раней рэчка пачыналася з азёраў каля вёскі. Зараз русла забалоцілася, парасло лазой і вялікай травой, чаротам.

**МА́КАЎЕ** *н.* Поле. Раней мясціна была занята дубовым лесам, праз мясціну заўсёды праходзіла дарога на бераг Дняпра, да Лоева.

**МАЛО́Е БАЛО́ТА**. Верхавое балота ў лесе.

**МАРЫНДЁШЫНА** *н.* Невялікае поле, якое знаходзіцца ля возера *Узлёхава*. Пра назву мясцовыя жыхары расказваюць: *«Адна́жды, ішо́ў мой дя́дька но́ччу з Свірэ́жы. Гало́дныя тады́ гады́ бу́лі, стамі́ўсь, захаце́лася адпачы́ць. Прылёг і засну́ў. А калі́ яго́ ўра́нні знайшлі́, ён ўжо без кры́ві́ быў – ўсю кроў камары́ вы́пілі».*

**МАШКІ́ ВЯЛІ́КІЯ**. Урочышча, якое аб'ядноўвае забалочаную даліну з ручаём, размешчана ў пушчы.

**МАШКІ́ МАЛЫ́Я**. Урочышча, якое аб'ядноўвае невялікае балота і даліну, размешчана ў пушчы.

**МЕРКВІ́ЦА** *ж.* Лясное возера-старыца дугападобнай формы. Калі на месцы старыцы бегла рака, ужо не памятаюць. У возеры вадзілася шмат баброў, было многа бабровых хатак.

**МЛІНКО́ЎСКІ КАЎТО́П (ЗА ХАДО́СКАЙ)**. Невялікае возера стужкападобнай формы пасярод лесу. Пра назву мясцовыя жыхары расказваюць: *«Та́мака не́йкая ве́дьма жыла́, Хадо́ска яе́ зва́лі. Так та́мака млы́н бы́ў і во́зера тако́е. Дык не́шта ка́жуць, шо яна́ патапі́лася ў ім. Та́мака шчэ чарапа́хі па кале́на та́кія вя́лікія. Я сама́ іх ба́чыла. Гляджу́: а паўз каўто́п той Млінко́ўскі бугры́ з ме́йста на ме́йста пасо́ўваюцца. Я так пералі́ка́лася і пабе́гла. Ка́жуць, шо ту́така*

*вéдьма жылá, Лякáла яé звáлі. Так янá як сяде на вóз – дык кóнь с мéста з'éхаць не мóжа, вáжка ямý. Éхаў нéяк ўначы нéхта з нáшай дярэўні – і тýтака, каля каўтóпа, спыніўсь конь, храпé, хвыркае, а éхаці не мóжа. Конь цягне воз, ўвесь мóкры, а з мéста з'éхаці не мóжа. Біў ягó той чалавéк дýбчыкам, а конь с мéста не мóжа двінуцца. Той чалавéк, пóняў, шо Лякáла сéла ямý на воз... Ды, віднó, слéзла чамýсь, дык конь і пабéг хутка».*

**МЛІНÓК** *м.* Ручай, які браў пачатак з Вялікага Балота і бег да Дняпра. Раней ён быў глыбокім, але вузкім. Назва звязана з вадзяным млыном, які, верагодна, стаяў некалі тут.

**МÓГІЛКІ** *мн.* Частка вёскі, размешчаная на пагорку, якая ніколі не залівалася вадой у час паводкі. Кажуць, што магілкам ўжо больш за 400 гадоў. Пра назву мясцовыя жыхары расказваюць: *«Кáжуць, шо Мóгілкі ў Абакýмах былí ля Грáкаў, а пóтым іх перанéслі на éтае мéсца – высóкае. Ягó нікóлі не тапíла ўвясну».*

**МУРАЖÓК** *м.* Невялікі забалочаны ручай з халоднымі крыніцамі.

**МУРÁШКАВА ГАРÁ**. Доўгая гара дугападобнай формы, якая знаходзіцца ля Вялікага Балота. Пра назву мясцовыя жыхары расказваюць: *«Тáмака на Мурáшкавай Гары вышка стаяла. Так от кáжуць, шо калí шчэ не былó свя́зі, тэлефóнаў, лю́ді перадавáлі саабшчэ́нія на другýю вышку, шо былá нéде далéй, ля Лóева».*

**МЫЛЬНІШЧА** *н.* Частка ракі, якая выкарыстоўвалася ў якасці стойла для свойскай жывёлы. Пра назву мясцовыя жыхары расказваюць: *«Хадíлі на Мыльнішча мы мыцца – ад тагó і завéцца тóе Мыльнішча».*

**НАЎСЦЯ́Х**. Урочышча, размешчанае паміж рэкамі Сож і Дняпро.

**ПАГÓНЫ** *мн.* Урочышча за вёскай, дзе раней быў вялікі *Сасновы Бор*, потым палі. Пра назву мясцовыя жыхары расказваюць: *«Ганялі на Пагóнах карóў. Тáмака íхнія сцéжкі былí».*

**ПАД ДУБКÓМ** Урочышча, якое аб'ядноўвае бераг старыцы, невялікую пляцоўку і само дрэва (дуб). Цяпер дрэва няма. Расказваюць, што *«прылятáў верталёт і валíў той дуб».*

**ПАД ІГРÝШКАЙ**. Урочышча, дзе расце дрэва, – груша-дзічка.

**ПА-ЗА ГÝЛІНАМ**. Урочышча. Расказваюць, што там праходзіла апошняя «мяжа».

**ПÁНСКІ ЛЕС**. Лісцевы лес у форме кліна. Пра назву мясцовыя жыхары расказваюць: *«Даўнéй ў Пáнскі Лес хадíць нельзя́ булó, бо ён (пан) накáзываў тады. Тáкама шчэ дубы тыя растýць, де сяля́н казнíлі, бíлі дубцáмі. Да нéмцаў Пáнскі Лес ажнó да дярэ́ўні дахóдіў, пóтым нéмцы ягó павалíлі, застáўсь тóлькі малéнечкі кавáлачак».*

**ПЕРАВÁЛ** *м.* Яміна. Круты спуск у нізіну пры лясной дарозе. Раней малапраходнае месца, якое цяжка было праехаць на вазу.

**ПЛЮШЧЫ** *мн.* Лясное возера, раней было праточнае і цягнулася паўз край дубровы; сёння моцна забалочанае.

**ПЯСÓЧКІ** *мн.* Доўгае возера, цягнецца паўз высокі бераг і мае выгляд глыбокай, але нешырокай канавы (шырыня прыкладна 3–4 метры). Вада ў возеры заўсёды вельмі сцюдзёная.

**РАМÁНАЎСКІ ПАЙ**. Невялікая нізіна, выкарыстоўваецца як сенажаць.

**РАЎЧÁК** *м.* Ручай, які злучае возера з ракой, старое рэчышча ракі Сож.

**САЛАНÉЦ** *м.* Дугападобнае возера-старыца. Пра назву мясцовыя жыхары расказваюць: «*Ў вóйну плылá тýтака бáржа з сóллю, нéмцы патапíлі яé і вадá ў рацэ́ былá салóнай*».

**САМЫНЯ** *ж.* Возера ля самага вусця ракі Сож. Раней вадзіліся ў гэтай мясціне самы, а мясцовыя жыхары бралі гліну на цэглу.

**САСНÓВЫ БОР**. Вялікі лясны масіў (сасновы лес) вакол вёскі і далёка за ёй. Пачынаецца ад вёскі, ідзе паўз Дняпро і вакол Вялікага Балота.

**СÉЛІШЧА** *н.* Урочышча, якое ўключае частку ракі, круты бераг ракі, раўчак. Раней яно займала толькі круты бераг ракі. Пра мясціну расказваюць: *«Кáжуць, шо тáмака русáлкі бéгалі».* Пра назву мясцовыя жыхары паведамілі: *«А лю́ді тýтака ранéй жылі, éтае вéльмі даўнó былó. Так янó і называ́ецца Сéлішча. Пракалíсь ў Сéлішчы былá вялíкая я́ма, тáмака былó багáта рыбы. Пасля нéмцаў быў гóлад вялíкі, і не былó чагó ясí. Сабралíся ўсёй дярэ́ўняй і пайшлí ў Сéлішча. Тáмака я́міна глыбóкая былá, да дееўяцí мéтраў. Кíнулі туды шáшку – паўсплывáла рыба: лешч, язь, самы, шчýкі – дый пачалí вазáмі рыбу вазíці, так і кармíліся рыбай».*

**СВІРЭ́ЖА** *ж.* Вялікая пушча, дуброва, размешчаная на правым беразе Сожа.

**СВІРЭ́ЖКА** *ж.* Лясное возера-старыца, якое мае дугападобную форму.

**СВЯТÓЕ**. Лясное возера, на якім былі бабровыя хаткі. Пра назву мясцовыя жыхары расказваюць: «*Калí татáры прыхóдзілі, дык – бáба Парáска казáла – хавáліся ў ім. Лапýшшам прыкрывáліся і ў вóзеры сідéлі, так і спасáліся ад татáр. Калí нéмцы былí, хто де хавáўся: хто ў Вялíкае балóта пайшóў, а мы во ў éтым вóзеры хавáліся. Але аглéдзелі нéмцы і ў плен ўзялí*».

**СКÝПКІН ПАЙ**. Поле пасярод лясоў, якое таксама выкарыстоўвалася пад сенажаць.

**СМЁТ** *м.* Частка ракі, на якой шмат вялікіх віроў і «*крутавертаў*». Пра мясціну мясцовыя жыхары расказваюць: *«У Смёце на чаўнé плывéш, гляді не ўпусцí вясло. Пастáвіш ягó, а янó не тóне, а бýдзе стаяць стаюнóм».* Па гэтай прычыне месца абплываюць бокам, бо можна перакуліцца ў ваду.

**СÓМАВА ВÓЗЕРА**. Глыбокае возера з чорнай вадой. Пра назву мясцовыя жыхары расказваюць: *«Даўнéй сюды жэ́ншчыны хадзілі сціраць. У палóнні зімóй паласкáлі сарóчкі, пóсцілкі бéлыя. Так аднáжды*

*палóшчуць сабé, а нéшта такóе схóпіць сарóчку ці анýчу і нямáшака яé. Пералякаліся бáбы і пабéглі ў дярэ́ўню, пазвáлі мужыкóў і ізнóў пачалí сцірáць. Калí такóе знóўку паўтóрылася, мужчыны ўзялí вíлы ды ў вóду іх, туды́ ў палóнне. А вяснóй нéхта пабáчыў, што нéшта ў вóзеры плáвае навéрсе. Прыйшлí мужыкí і выцягнулі вялізáрнага самá з вíламі ў гарбý. Ніхтó і ня пóмніць якí то быў сум (сом). Калí ягó на воз паклáлі, ягóны хвост цягнýўся па зямлí, а мóрда да кóнскага хвáста даставáла».*

**СÓМАВА ДАЛÍНА**. Глыбокая яміна. Пра назву мясцовыя жыхары расказваюць: *«Мы шчэ малы́я былí. Я з сябрам сваíм валóў пас тáмака і былá глыбóкая я́міна. Так тóе лéта гарáчае былó, вадá ў той я́міне вы́сыхла, а тáмака сум ляжáў. Ён ўжо стух... тáка мы з ся́брам тýю далíну і назвáлі Сóмава далíна – шо тáмака сум быў».*

**СПÁСЬКАЯ**. Гара ў лесе. Невысокае ўзвышша пасярод сасновага лесу.

**СТÁРАЯ ГРЭ́БЛЯ**. Узвышша. Высокае месца пасярод забалочаных далін, доўгае і вузкае.

**СТАРÁЯ РАКÁ**. Возера-старыца, былое рэчышча ракі Сож.

**СТАРЫ́К** *м.* Возера-старыца, былое рэчышча ракі Сож.

**ТÁМІН РОГ**. Урочышча-лагчына, мае выгляд катлавіны. Пра назву мясцовыя жыхары расказваюць: «*Тýтака за Мóгілкамі ўнíзе лес такí ж быў, як Свірэ́жа. Дубы́ вялічэ́зныя тýтака стаялі – ў шэсць-сем абхвáтаў яны былí*».

**ТАПЫЛÍ** *мн.* Возера, якое мае выхад ў раку і нагадвае сабой рог.

**ТАТÁРСКІ БРОД**. Частка ракі (косы на рацэ Дняпро, а таксама абодва берагі), месца, дзе ў сухое лета можна перабрысці раку. Пра назву мясцовыя жыхары расказваюць: «*Як прыхóдзілі сюды́ татáры і хацéлі чэрэз Днéпрó перайсцí, а не знáлі як. Прыйшлí ўсім атрáдам са ўсім сваíм зóлатам. Знайшлí сябé правадырá з тутэ́йшых, ён іх і павёў па éтае дарóзе. А як ішлí татáры чэ́рэз ракý з кóньмі і сваíм зóлатам, кóлькі іх патанýла тýтака і зóлата кóлькі патанýла. Кáжуць, шо дно на éтым мéсце залатóе*».

**ТАТÁРСКІ КАЎТÓП**. Катлавіна, яміна ў лесе (каля 3 метраў у глыбіню). Пра назву мясцовыя жыхары расказваюць: *«А, тó ось той Татáрскі каўтóп, шо ў Пáнскім лéсе. Так кáжуць, шо калí татáры прыхóдзілі сюды́, людí па лясáх хавáліся ад іх. І ўжо калí яны́ ўхадíць сабралíся, сустрэ́ліся ў лéсе малады́ хлóпча і татáрын, якí, віднó, ад атрáда атстáў. Дый той татáрын хацéў забíці хлапцá. Хлóпча і кáжа: ты ўсё ж аднó заб'éш мяне́, дай я памалюся перад смéрцю. Стаў на калéні і пачáў малíцца. Аж татáрын дастáў меч і замахнýўсь. Пабáчыў тóе хлапéц, ўстаў і гóлымі рукáмі ўбіў татáрына тагó. Ось з тагó чáсу на тым мéсцы éтая я́міна – Татáрскі каўтóп завéцца».*

**УЗВÁЛЛЕ** *н.* Пакаты схіл невысокай гары. Месца, якое ўзвышаецца над мясцовасцю, таму не залівается ў час паводкі.

**УЗЛЁХАВА** *н.* Возера дугападобнай формы, якое злучалася з іншымі азёрамі, ручаямі і балотамі. Сёння малапраходнае, раней было праточнае.

**У МУРАЖКÁХ**. Частка лесу, які размешчаны на высокім пагорку.

**УПЎДЫ НА ЗАВЕ́РБ'І**. Возера.

**УПЎДЫ НАЎСЦЯ́Х**. Возера, парослае лазой. Узгадваецца, што гэта месца – вялікая *каўдабаня* (глыбокая яміна).

**ХУТАРШЧЫ́НА** *ж.* Частка лесу. Раней мясціна была агароджана і засейвалася.

**ЦÉРАХАЎ РОГ**. Даліна, дзе раней быў брод і цёк ручай.

**ЦІМÓХАЎ КÁМЕНЬ**. Вялікі камень і месца, дзе ён ляжаў. Пра назву мясцовыя жыхары расказваюць: «*А ось тáмака, де плáн канчáецца Мíнавых, ляжáў такí камéнь, называлі ягó Цімóхаў кáмень. Тýтака, де ён ляжáў, Саснóвы бóр быў і высачэ́зныя сóсны раслí. Дык тóе: ён быў трóхугóльны і пакáзваў на саснý, пад якóй зóлата і грóшы закóпаны. А ніхтó ты́ех грóшай і не знайшóў. Малáя я былá і пóмню, як цыгáне прыяжджáлі і ўсялякае такóе пакáзвалі. Так аднамý на пýза той камéнь паклáлі і дóўбняй бíлі па ім – а цыганý нічóга. Ўстаў і далéй пайшóў. Ляжáў ён, той камéнь шчэ на тым мéсце, а пóтым ягó Бабкóвы пад хáту паклáлі, калí стрóіліся. Тáка ён тáмака і цяперака ляжыць*».

**ЦЫРКУНÓВА ДАЛÍНА**. Частка поля. Кажуць, што раней на гэтым месцы знаходзілася даліна, дзе было заўсёды шмат *цыркунóў* (конікаў).

**ЧÓРТАЎ КУСТ**. Парослая лазой нізіна. Аднолькава называюць тры ўрочышчы, які размешчаны недалёка адзін ад аднаго. Пра назву мясцовыя жыхары расказваюць: «*Тáмака па дарóзе ўпрáва той сáмы Чóртаў куст стаíць. А чагó ягó так назывáюць, я не знáю. Ён стрáшкі... Ці мóжа чорт там быў, не знáю*».

**ЧУМÁЦКІ ШЛЯХ**. Дарога. Пра назву мясцовыя жыхары расказваюць: «*Дак янó па éтае дарóзе éздзілі чумакí, таргавáлі гаршчкáмі, тканíнай ды шчэ чы́мся... так мо ад тагó і завéцца Чумáцкі шлях*».

**ШЫРÓКАЯ ДАЛÍНА**. Дугападобная нізіна на полі. Раней заўсёды запаўнялася вадой, а паўз яе берагі раслі алешыны.

**ЯКУБÓВА СТРÁЖА**. Месца ў лесе на скрыжаванні дарог. Раней на гэтым месцы стаяла невялікая хата лесніка.

А. Палачыч

# МІКРАТАПОНІМЫ І МЯНУШКІ ВЁСКІ ЖОЛКІНА ПІНСКАГА РАЁНА

Мікратапонімы

**БА́БЫНА hОРА́**. Частка лесу, дзе ўзвышаецца высокі насып.

**БАРАНО́ЎСКА hРА́ДКА**. Зараснік, дзе растуць грыбы.

**БОЛО́ТЦЭ** *н.* Невялікі луг, заліты вясной вадой.

**БОЛОХОВЫ́ЦА** *н.* Поле на месцы балота.

**БОРОВЫ́І**. Урочышча, дзе раней жыла сям'я *Боровых* (прозвішча атрымалі такое таму, што жылі ў самым канцы вёскі ля бору).

**БЭ́РОh** *м.* Частка вёскі ля балота.

**ВЫЛЫ́КЫЙ і МАЛЫ́Й ТРЫБУШЫ́Н**. Часткі лесу.

**hАЇ́ЎКА** *ж.* Месца ў лесе, дзе жылі гаёвыя (леснікі).

**hОРІ́ЛАЯ hРА́ДКА**. Зараснік, дзе растуць грыбы.

**ДЗЮ́БА** *ж.* Грыбное месца ў лесе, дзе жыў чалавек па мянушцы Дзюб.

**ДУБНЫКЫ́** *мн.* Частка лесу, дзе растуць маладыя дубы.

**ДУБО́ВА hРАДА́**. Частка лесу, дзе шмат дубоў.

**ЗАДУБОВА́ШЧЭ** *н.* Урочышча, што знаходзіцца за дубамі.

**КАЦАЛО́ВЭ** *н.* Месца ў лесе, дзе жыў Кацал.

**КО́ЛО АНЮ́ТЫ**. Поле, паблізу якога жыла Анюта.

**КО́ЛО СЛЫ́МЭНЯ**. Месца ў лесе, дзе жыве слымэнь (мядзянка).

**КО́ЛО ТЫМОШКА́**. Месца ў лесе, дзе жыў Тымошко.

**КО́ЛО ХА́ХЫ**. Поле, што знаходзіцца ля дома мужчыны па мянушцы Хаха.

**КО́СЦІКОВЫ ЯМКЫ́**. Месца ля дарогі, дзе калісьці Косцік закопваў бульбу.

**КРАМЫНУ́ХА** *ж.* Частка лесу, дзе шмат крэменю.

**КРУ́hЛА hРА́ДКА**. Зараснік, дзе растуць грыбы.

**КРУХО́ВЭ** *н.* Частка лесу, дзе шмат крушыны.

**КУ́ЗНЯ** *ж.* Поле ля кузні.

**КУ́ПКА** *ж.* Хутар сярод балота (параўн.: купіна).

**КУРІ́ЛКА** *ж.* Частка лесу, дзе знаходзіцца будынак для адпачынку.

**ЛУhО́ВЭ** *н.* Урочышча.

**ЛЫ́СА hОРА́**. Гл.: **БА́БЫНА hОРА́**.

**ЛЫ́СКА** *ж.* Частка дарогі з адкрытай мясцовасцю.

**ЛЭ́ЎЧЫКОВА hРА́ДКА**. Зараснік, дзе растуць грыбы.

**МА́Р'Я** *ж.* Месца ў лесе, дзе жыла Мар'я.

**МАЦЕ́ЮЎ ЛІС**. Зараснік, дзе жыў Мацей.

**МАЯ́К** *м.* Скрыжаванне дарог, дзе раней была шыльда «Калгас «Маяк».

**МЛЫНЫ́ШЧЭ** *н.* Урочышча, дзе быў млын.

**НА БУ́СЬКАХ**. Луг за вёскай, дзе часта бачаць буслоў.

**НА hО́РАХ**. Частка вёскі на ўзвышшы.

**ПА́ПОРОТНА hРА́ДКА**. Зараснік, дзе растуць грыбы.

**ПОЛЫ́ШЧЭ** *н.* Урочышча ў пачатку вёскі.

**ПО́ЛЯНКА** *ж.* Луг сярод балота (калісьці гэта было поле).

**ПОСТАЎНЫК** *м.* Месца ў вёсцы, дзе ставілі жывёл.

**ПОЯСО́ВЭ** *н.* Частка лесу, дзе расце трава па пояс.

**ПРОКЫ́ЎНЫЦА** *ж.* Урочышча, дзе расце шмат хвашчу.

**ПРУ́СЯ** *ж.* Зараснік, дзе жыла Пруся.

**ПУД hРУШКА́МЫ**. Поле, пасярод якога растуць тры грушы.

**ПУД ДУ́БОМ**. Поле ля вялізнага старога дуба.

**ПУД КУ́ПКОЮ**. Поле ля хутара Купка.

**ПУДДУБІ́ЎКА** *ж.* Частка лесу ля дубоў.

**ПУДСО́СНА** *ж.* Часка лесу ля сосен.

**РІ́ТЫНА Я́МКА**. Сажалка паблізу хаты Рыты.

**РОЗОРКЫ́** *мн.* Частка лесу, дзе было поле, ад якога засталіся барозны.

**РОМА́НОЎСКЭ БОЛО́ТЦЭ**. Балота ў лесе, ля якога жыў Раман.

**РЫМЧУКО́ВЭ** *н.* Частка лесу, дзе калісьці жыў Рымчук.

**СА́НЬЧЫН БРОДО́К**. Брод за вёскай, які гаціў Санька.

**СВЫ́НКА** *ж.* Месца ў лесе, дзе шмат чарніц.

**СОКІ́РЫНА ҺРА́ДКА**. Зараснік, дзе растуць грыбы.

**ХВОРОШЧОВА́ТА** *ж.* Частка лесу, дзе шмат хворасту.

**ЧЫРЫМХОВА́ТА** *ж.* Зараснік, дзе расце чаромха.

**Ы́ЛОВЭ** *н.* Поле на месцы балота.

**Ю́ХА** *м.* Былы хутар ў лесе, дзе жыў чалавек па прозвішчы Юха.

Мянушкі, мясцовыя варыянты імёнаў

**БОБЁР** *м.* Хлопец з вялізнымі зубамі.

**ВАСЮ́ТЫХА** *ж.* Васютава жонка.

**ВО́ЖЫК** *м.* У дзяцінстве любіў чытаць верш пра вожыка.

**ВЫЧЧА́НКА** *ж.* Жанчына з в. Вітчаўка (Украіна).

**Е́СЫПЫХА** *ж.* Есыпва (Іосіф) жонка.

**КО́ЎДРА** *м.* Мужчына, які нават летам ездзіць на возе, закруціўшыся ў коўдру.

**КРЫ́ЛЫХА** *ж.* Кры́лава (Кірыл) жонка.

**ЛЮ́БУХА** *ж.* Люба.

**МОЛОТУ́ЛЯ** *ж.* Жанчына, якая гаворыць абы-што пра ўсё і пра ўсіх.

**МОСІ́ЙКО** *м.* Маісей.

**МУХОЛО́ЎКА** *м.* Мужчына напіўся, і, калі ён спаў, у рот яму налезлі мухі.

**МЫТЭ́РКО** *м.* Дзмітрый.

**НАСЦЮ́РА** *ж.* Насця.

**НІБУДІ́** *м.* Чалавек сядзеў у турме і зрабіў там татуіроўку на павеках так, што, калі ён заплюшчваў вочы, можна было прачытаць «не буді».

**НОСОРО́Һ** *м.* Мужчына з доўгім гарбатым носам.

**НЫБО́ЖЫХА** *ж.* Ныбожава жонка.

**ПАЎЛУ́ША** *м.* Павел.

**ПЕ́ТІХА** *ж.* Пецева жонка.

**РУБЛЭ́ВЭЦ** *м.* Мужчына з в. Рубель.

**РУ́СКАЯ** *ж.* Жанчына, што прыехала з Расіі.

**РЫ́ЖЫЙ**. Мужчына з рыжымі валасамі.

**СА́НЬЧЫХА** *ж.* Санькава жонка.

**САРАХІ́МЫХА** *ж.* Сарахімава (Серафім) жонка.

**СЫРНЫЧА́НКА** *ж.* Жанчына з в. Сернікі (Украіна).

**ТАМО́ЖНІК** *м.* Мужчына пераапранаўся ў вайсковую форму і выдаваў сябе за прадстаўніка мытні, каб узяць з людзей грошы.

**ТОЛЯЧЫ́ХА** *ж.* Толева жонка.

**ТРАНДЫЧЫ́ХА** *ж.* Жанчына, якая шмат гаворыць.

*В. А. Шклярык*

## З ТАПАНІМІІ ПУХАВІЧЧЫНЫ

Прыведзеныя ніжэй тапонімы запісаны на працягу 2009 г. пераважна ад бабулі – Алены Іванаўны Шклярык, 1931 г. н. (нарадзілася і жыла ў вёсцы Падбярэжжа Ананіцкага сельсавета Пухавіцкага раёна. З 1954 г. пражывае ў вёсцы Пухавічы). Атрыманыя ад яе каментарыі наконт паходжання шэрагу найменняў падаюцца ў спрошчанай транскрыпцыі і прыводзяцца ў дужках (курсівам). У выпадках, калі напісанне загаловачнага слова не перадае ўсіх асаблівасцей вымаўлення назвы, у квадратных дужках пасля тапоніма прыводзіцца адпаведная транскрыпцыя.

Некаторыя найменні паведаміў дзядзька – Анатолій Міхайлавіч Шклярык, 1953 г. н. (жыў у вёсцы Пухавічы, з 1978 г. пражывае ў Мінску).

Усе назвы населеных пунктаў падаюцца ў адпаведнасці з нарматыўным даведнікам [2]. Мясцовыя варыянты айконімаў прыводзяцца ў заўвагах. Па прычыне наяўнасці ў Пухавіцкім раёне дзвюх вёсак Падбярэжжа, у кожным выпадку пры гэтым айконіме ўказваецца назва адпаведнага сельсавета. Згаданая ў падборцы вёска Калінаўка адносіцца да Талькаўскага сельсавета.

**БАБО́ЎСКАЕ БАЛО́ТА**. Балота каля вёскі Ільіч[1].

**БАРАВІ́ЦА** *ж.* Поле каля вёскі Падбярэжжа Ананіцкага с/с, быў лес (раскарчаваны).

**БАРУ́СЛАВА** *н.* Балота каля вёскі Міжрэчча.

**БАРЧАКІ́** *мн.* Лес каля вёскі Зацітава Слабада[2].

**БЕРАЗЯ́НКА** *ж.* Лес[3] каля вёскі Зацітава Слабада.

**БО́ЙНЯ** *ж.* Лес каля вёсак Пухавічы[4] і Маркаўчызна.

**БРА́НСКАЕ БАЛО́ТА**. Вялікае балота каля вёскі Падбярэжжа Пухавіцкага с/с.

**БУ́ННАЎКА** [бу́нна°ўка] *ж.* Балота каля вёскі Падбярэжжа Ананіцкага с/с.

**БЫ́КАВА** *н.* Лес каля вёскі Блужскі Бор.

**БЯЛІ́ВА**[5] *н.* Былая частка вёскі Падбярэжжа Ананіцкага с/с, зараз – поле.

**ВАЛЫ́** *мн.* Лес каля вёскі Зацішша[6].

**ВАНКО́ВІЧАЎ САД**[7]. Мясціна каля ракі Цітаўка[8] з боку вёскі Зацітава Слабада (на правым беразе).

**ВАЎКАЎНЯ́** [ва°ўка°ўня́] *ж.* Балота каля вёскі Падсобнае.

**ВО́СТРАЎКА / О́СТРАЎКА** [о́стра°ўка][9] *ж.* Лес паміж вёскамі Пухавічы і Зацішша.

**ВЯЖНЫ́** *мн.* Лес каля вёскі Падбярэжжа Ананіцкага с/с.

**ВЯЛІ́КАЯ ВО́СТРАЎКА**. Частка лесу Востраўка (гл.).

**ГЛІ́НІШЧЫ** *мн.* Лес каля вёскі Падбярэжжа Ананіцкага с/с (*глі́ну там капа́лі*).

**ГРАБАЎЁ** *н.* Поле[10] каля вёскі Зацітава Слабада.

**ГРАБАЎСКО́Е БАЛО́ТА**. Балота каля вёскі Зацітава Слабада. Гл. **ГРАБАЎЁ**.

**ГРАДА́** *ж.* Лес пасярод балота паміж вёскамі Глушка і Пухавічы.

**ДАЛГАБО́Р'Е** *н.* Лес каля вёскі Міжрэчча.

**ДВАЦЦА́ТЫ** *м.* Частка вёскі Падбярэжжа Ананіцкага с/с (*там када́-та была два́ццаць хат*).

**ДЗЯ́ТЛАЎКА** *ж.* Балота каля вёскі Падбярэжжа Ананіцкага с/с.

**ЗАРЭ́Ч'Е / ЗАРЭ́ЧЧА** *н.* Частка вёскі Пухавічы.

**ЗО́СІН** *м.* / **ЗО́СІНА** *н.* Поле[11] каля вёскі Зацішша.

**ІГРУ́ШКА** *ж.* Дарога каля вёскі Зацішша (*там ігру́шка паса́жана дзі́кая*).

**КАВА́ЛЬШЧЫНА** *ж.* Частка вёскі Пухавічы.

**КАЛІТА́** *ж.* Лес каля вёскі Падбярэжжа Ананіцкага с/с.

**КАМА́РНЯ** *ж.* Частка вёскі Зацішша.

**КАНА́ВА / ТА́НЬКА** *ж.* Невялікі ручай[12], левы прыток ракі Цітаўка. Працякае праз вёску Пухавічы.

**КАРЧЭ́ЎЕ** *н.* Вадаём каля вёскі Зацітава Слабада, зарослы па берагах дрэвамі і хмызняком. Старое рэчышча ракі Свіслач.

**КУ́БА** *ж.* Частка вёскі Пухавічы (*лю́дзі сюды́ пераехалі із Се́лецка*[13] *і стро́іліся*).

**КУРАНІ́** *мн.* Лес каля вёскі Красны Акцябр.

**ЛУГ** *м.* Вялікі заліўны выган паміж вёскай Пухавічы і ракой Цітаўка.

**ЛЫСАЯ ГАРА́**. Вялікі пясчаны абрыў, каля падножжа якога працякае рака Цітаўка. Знаходзіцца ў лесе Бойня (гл.).

**ЛЯВО́НАЎСКАЕ БАЛО́ТА**. Балота каля вёскі Лявонаўка.

**МАЛА́Я ВО́СТРАЎКА**. Частка лесу Востраўка (гл.).

**МЕ́ЛЬНІЦА** *ж.* Мясціна каля ракі Цітаўка, дзе раней стаяў вадзяны млын (*была када́-та тут ме́льніца по́сьле*[і] *вайны́*). Знаходзіцца недалёка ад лесу Бойня (гл.).

**МІХАЛЁВА** *н.* Балота каля вёскі Зацішша.

**НА́БАРКІ** *мн.* Лес каля вёскі Калінаўка.

**ПАДКА́МЕННЕ** *н.* Лес каля вёскі Балоча.

**ПАДКО́ВА** *ж.* Вадаём у форме падковы каля ПМК (гл.), старое рэчышча ракі Свіслач.

**ПАПО́ВА ГО́РКА**. Лес на ўзвышшы каля вёскі Блонь.

**ПАЎЛО́ВІЧАЎ ХУ́ТАР**. Поле каля вёскі Маркаўчызна (*быў ху́тар*).

**ПЕРАЛО́ГІ** *мн.* Поле каля вёскі Зацітава Слабада.

**ПЕ́СТУНСКАЕ БАЛО́ТА**. Балота і лес каля вёскі Пестун.

**ПМК**[14] [памка́, пэмка́] *н.* Частка вёскі Пухавічы.

**ПРЫТЫ́КА** *ж.* Частка вёскі Падбярэжжа Ананіцкага с/с (*там ха́ты сялі́ліся па дно́й і адна́ к адно́й прытыка́ліся*), а таксама вёсак Зацітава Слабада і Зацішша.

**РАЗЫ́** *мн.* Лес каля вёскі Падбярэжжа Ананіцкага с/с.

**РАЧА́ЛЫ** *мн.* Балота каля вёскі Глушка.

**РОГ** *м.* Мясціна на рацэ Цітаўка паміж вёскамі Пухавічы і Зацітава Слабада.

**СА́ЖАЛКА** *ж.* Невялікае штучнае возера ў вёсцы Зацішша.

**СМАЛЯ́РНЯ** *ж.* Кар'ер у лесе каля вёскі Міжрэчча (*дзёгаць гна́лі*).

**СТАРАСЕ́ЛЛЕ** *н.* Частка вёскі Пухавічы.

**ТАКАВІ́ШЧА** *н.* Балота[15] каля вёскі Хідра.

**ХЛЕ́БАЎКА**[16] [хле́ба°ўка] *ж.* Частка вёскі Падбярэжжа Ананіцкага с/с.

**ШАСТЫ́** *м.* Частка вёскі Падбярэжжа Ананіцкага с/с (*тут бы́ла шэсць дамо́ў то́лька*).

---

[1] Мясцовая назва гэтай вёскі – *Бабы́*.

[2] Мясцовыя жыхары і насельнікі навакольных вёсак звычайна выкарыстоўваюць скарочаны варыянт айконіма, без азначальнага кампанента – *Слабада́*.

[3] На гэтым месцы была вёска *Беразя́нка*, спаленая нямецкімі акупантамі ў Вялікую Айчынную вайну [4, с. 35].

[4] Паралельна з нарматыўным варыянтам айконіма *Пу́хавічы* ўжываецца і мясцовы варыянт – *Пухо́вічы*.

[5] Да 1968 г. – асобная вёска *Бе́ліва* [4, с. 34]. Варыянт айконіма – *Бялі́ва* [2, с. 391].

[6] Мясцовая назва гэтай вёскі – *Гарапа́шня*, у вымаўленні бабулі часам – *Грапа́шня* (*зе*[а]*мля́ была́ плаха́я, ціжо́лая, і вот када́ лю́дзі абрабатывалі, дык гаво́раць: «Го́ра па́ша»*).

[7] У XIX ст. вёска Пухавічы належала дваранін К. А. Ваньковічу [3, с. 79].

[8] Правы прыток ракі Свіслач (басейн Дняпра). Вусце знаходзіцца паміж вёскамі Пухавічы і Зацітава Слабада.

[9] Варыянт назвы з прыстаўным в- паведаміў дзядзька, варыянт назвы без пратэзы і з яўнай рэгрэсіўнай акамадацыяй у другім складзе – бабуля.

[10] Да 1978 г. на гэтым месцы была вёска *Грабаўё* [4, с. 74].

[11] Да 1972 г. на гэтым месцы была вёска *Зо́сіна* [4, с. 111].

[12] У «Блакітнай кнізе Беларусі» адзначаны як *Пу́хавіцкі кана́л* [1, с. 300].

[13] Вёска ў Пухавіцкім раёне, цэнтр Селецкага сельсавета [2, с. 383, 384].

[14] ПМК – перасоўная механізаваная калона. У вёсцы размешчана ПМК-70, якая займаецца асушваннем балот.

[15] На гэтым месцы была вёска *Такаві́шча*, спаленая нямецкімі фашыстамі ў Вялікую Айчынную вайну [4, с. 262].

[16] Да 1968 г. – асобная вёска *Хле́баўка* [4, с. 274].

### Літаратура

1. Блакітная кніга Беларусі: энцыкл. / рэдкал.: Н. А. Дзісько [і інш.]. – Мінск: БелЭн, 1994. – 415 с.

2. Назвы населеных пунктаў Рэспублікі Беларусь: Мінская вобласць: нарматыўны давед. / І. А. Гапоненка, І. Л. Капылоў, В. П. Лемцюгова [і інш.]; пад рэд. В. П. Лемцюговай. – Мінск: Тэхналогія, 2003. – 605 с.

3. Памяць: Пухавіцкі раён: гісторыка-дакументальныя хронікі гарадоў і раёнаў Беларусі / уклад. А. А. Пpановіч; рэдкал.: А. М. Карлюкевіч [і інш.]. – Мінск: Беларусь, 2003. – 749 с.

4. Рапановіч, Я. Н. Слоўнік назваў населеных пунктаў Мінскай вобласці / Я. Н. Рапановіч; рэд. П. П. Шуба. – Мінск: Навука і тэхніка, 1981. – 360 с.

*Н. Р. Якубук*

## З МІКРАТАПАНІМІІ ВЁСКІ ОЛТУШ МАЛАРЫЦКАГА РАЁНА

Лексіка-семантычны аналіз назваў урочышчаў вёскі Олтуш Маларыцкага раёна паказаў, што ў якасці ўтваральных асноў найменняў выкарыстоўвацца апелятывы і онімы. Большасць (65%) складаюць мікратапонімы апелятыўнага паходжання. Лексічны склад іх вельмі багаты і разнастайны, але пераважнае месца належыць геаграфічнай тэрміналогіі і земляробчай лексіцы. Так, можна адзначыць найменні, якія вызначаюць *прыродна-геаграфічныя асаблівасці мясцовасці.* Такія мікратапонімы маюць у аснове апелятывы, якія характарызуюць:

– *рэльеф*:

**ГУРА** *ж.* Невялікае ўзвышша.

– *водныя басейны, водмелі*:

**ОЗЭРЭЦЬКЭ** *н.* Поле каля возера.
**ПОД ПРІРВОЮ**. Водная паласа, якая з'яўляецца мяжой двух калгасаў.

– *якасць глебы і асаблівасці паверхні зямлі*:

**СУХОЕ**. Поле з неўрадлівай, сухой глебай.

– *лясныя масівы, зараснікі, хмызнякі; пароды дрэў, віды раслін і іх часткі:*

**БОР** *м.* Сасновы лес.
**БЫРЭЗЫНА** *ж.* Невялікі па памерах бярозавы гай.
**МОХЫ** *мн.* Нізкае месца, раней было балота.
**ОРІШНЫК** *м.* Хмызняк з арэшніку.
**ПОД ДУБАМЫ**. Дубовы лес.
**У ІВЫ**. Месца на пашы, дзе расце адзіночнае дрэва.
**УЛЬШЫНА** *ж.* Невялікі альховы лясок.

У мікратапаніміі в. Олтуш вылучаецца група найменняў, у аснову якіх пакладзены апелятывы, што ўзыходзяць да найменняў **зямельных участкаў**:

*– па форме ці размяшчэнні*:

**БЫСТРЫЦА** *ж*. Поле, якое размяшчаецца каля шашы.
**ДОВГОЕ**. Поле, на якім доўгія надзелы зямлі.
**КРУГЛАЯ**. Поле ў форме круга.
**ЛІНЕЙКА** *ж*. Доўгая, вузкая паласа поля.
**СТОГЕКТАРНАЯ**. Клетка плошчай 100 га.

*– па мэце гаспадарчага выкарыстання ўчастка*:

**ПАША** *ж*. Месца, дзе пасуцца каровы.
**ТОРФОПЛОШЧАТКА** *ж*. Частка балота, дзе раней бралі торф.

З іншых груп апелятыўнай лексікі ў якасці мікратапанімічных асноў выступаюць:

*– назвы дамоў, гаспадарчых, адміністрацыйных і культурных пабудоў:*

**КАНТУРЫШЧЫ** *мн*. Месца ў вёсцы, дзе пасля вайны размяшчалася кантора.
**НІЖЭ ФЕРМЫ**. Поле, якое размяшчаецца за фермай.
**ПАСЕКА** *ж*. Поле, дзе стаіць калгасная пасека.

Сярод назваў анамастычнага паходжання пераважную большасць складаюць мікратапонімы, у аснове якіх ляжаць уласныя імёны, прозвішчы і мянушкі:

**АНДРОСОВО** *н*. Месца, на якім знаходзілася гаспадарка арандатара Андроса.
**ЗЕЗЮКОВО** *н*. Зямля, на якой жыў арандатар па прозвішчы Зезюкоў.
**ПАВЛЫ** *мн*. Лес, які знаходзіцца за вёскай.
**РАМАНЫ** *мн*. Зараз поле, а назва пайшла ад прозвішча сям'і Раманавых.
**У ДЕМ'ЯНА**. Сенажаць, дзе раней жыла Дзям'янава сям'я.
**У МІШЫ**. Хутар, дзе жыў гаспадар па імені Міша.
**У ПАВЛА**. Месца, дзе жыў чалавек па імені Павел і яго сям'я.
**У СУЗА**. Поле пад сенакос, дзе раней стаяла хата чалавека па прозвішчы Суз.
**ХУТОР ВІКЕНЦІЯ**. Хутар, дзе жыў дзед Вікенцій.
**ЦАРІ** *мн*. Месца, дзе жыла сям'я па прозвішчы Цар.

Крыніцай мікратапаніміі з'яўляюцца і ўласныя геаграфічныя назвы:

**ЗЭЛЭНЫЦІ** *мн*. Частка поля, якая злучае Олтуш з вёскай Зеляніцы.
**КАРПІН**. Поле, якое злучае Олтуш з вёскай Карпін.
**МЕДВЕДОВО ДВОРЫШСКАЕ**. Поле каля вёскі Дворышча.
**МЕДВЕДОВО ОЛТУШСКАЕ**. Поле за вёскай Олтуш.
**У ЛАНСКОЙ**. Поле, што злучае вёску Олтуш з суседняй Ланской.

*Н. Р. Якубук*

## НАЗВЫ ЎРОЧЫШЧАЎ ВЁСКІ ПСЫШЧАВА І ЯЕ ВАКОЛІЦ

Мікратапонімы, што падаюцца ў дадзеным артыкуле, запісаны падчас дыялекталагічнай практыкі ў в. Псышчава Іванаўскага раёна Брэсцкай вобласці. Большая частка іх – найменні ўрочышчаў, размешчаных непадалёку ад в. Псышчава і суседніх вёсак.

**БА́ЗА** *ж*. Тэрыторыя, дзе размешчаны піларама, кузня, гаражы.

**БАЛАБА́НОВА СМУГА́**. Тое ж, што і **БАЛАБА́НОЎКА**.

**БАЛАБА́НОЎКА** *ж*. Топкае, гразкае месца на балоце, багна, дзе раней быў сенакос чалавека па мянушцы Балабан.

**БАНЬКО́ЎШЧЫНА** *ж*. Частка балота.

**БА́НЬЧЫН МЛЫН**. Месца за вёскай, дзе раней быў млын, які належаў чалавеку па мянушцы Ба́нька.

**БОЛО́ТО** *н*. Нізкае забалочанае месца.

**БРОДО́К** *м*. Невялічкая ўпадзіна, залітая вадой.

**БРЭЙКА́ЛОВЭ ПО́ЛЭ**. Тое ж, што і **БРЭЙКАЛЫ́ШЫН ХУ́ТОР**.

**БРЭЙКАЛЫ́ШЫН ХУ́ТОР**. Поле на месцы хутара жанчыны па мянушцы Брэйкалыха.

**БУ́ХТА** *ж*. Глыбокае месца ў рацэ.

**БЫРЫЗЫНА́** *ж*. Месца, зарослае бярэзнікам.

**БЫРЫСНЫКЫ́** *мн*. Частка балота.

**БЫЧУКІ́Ў ХУ́ТОР**. Тое ж, што і **БЫЧУКІ́ЎШЧЫНЭ ПО́ЛЭ**.

**БЫЧУКІ́ЎШЧЫНЭ ПО́ЛЭ**. Поле, дзе раней быў хутар селяніна па мянушцы Бычук.

**ВАРТЫ́ЦКІ ЛЕС**. Лес ля в. Вартыцк.

**ВЫ́ГОН** *м*. Месца, дзе пастух збірае статак.

**ВЫРБЫ́НА** *ж*. Луг, дзе раней раслі вербы.

**ВЫ́ШЧЭР** *м*. Месца ў лесе, дзе было многа карчоў.

**ГАЁК** *м*. Забалочаны луг ля лесу.

**ГІ́РКА** *ж*. Узгорак.

**ГЛЫБО́КІ БРОД**. Брод.

**ГЛЫНКЫ́** *мн*. Месца, дзе раней капалі гліну.

**ГО́ЗЫРО** *н*. Штучны вадаём.

**ГРЭБІ́НЬКА** *ж*. Сцежка ў лесе.

**ГРЭ́БЛЯ** *ж*. Дарога да лесу.

**ГЫРШЫКО́ВЭ ПО́ЛЭ**. Тое ж, што і **ГЫРШЫКО́Ў ХУ́ТОР**.

**ГЫРШЫКО́Ў ХУ́ТОР**. Поле на месцы хутара Гыршыка.

**ДВІ́РСКЭ** *н*. Месца, дзе некалі знаходзіўся маёнтак пана.

**ДОГОТЭ́РНЯ** *ж*. Частка лесу.

**ДО́ЎГЭ** *н*. Частка лесу, выцягнутая па форме.

**ДЫЛЕ́НКА** *ж*. Месца ў лесе, адведзенае пад вырубку.

**ДЫМЫ́ДОВЭ ПО́ЛЭ**. Тое ж, што і **ДЫМЫ́ДОЎ ХУ́ТОР**.

**ДЫМЫ́ДОЎ ХУ́ТОР** *м*. Поле, дзе раней быў хутар селяніна па імені Дымыд.

**ДЫСПУ́ДА** *ж*. Рэчка.

**ДЫХАВЫ́ЦА** *ж*. Гразкае, топкае месца, пакрытае расліннасцю.

**ДЯ́ЛКЫ** *мн*. Поле.

**Е́МА** *ж*. Невялікая ўпадзіна.

**Е́СЬКОВЭ ПО́ЛЭ**. Тое ж, што і **Е́СЬКОЎ ХУ́ТОР**.

**Е́СЬКОЎ ХУ́ТОР**. Поле на месцы хутара селяніна па імені Есько (Іосіф).

**ЖЫДЫ́ЎКА** *ж*. Канава, якую капаў яўрэй.

**ЗАГУМЭ́ННЕ** *н*. Поле за гумном у канцы агародаў.

**ЗАЙЦЁВЭ ПО́ЛЭ**. Тое ж, што і **ЗАЙЦЁЎ ХУ́ТОР**.

**ЗАЙЦЁЎ ХУ́ТОР**. Поле, дзе раней быў хутар чалавека па прозвішчы Заяц.

**ЗАКОВАЛЁВЭ** *н*. Месца за Ковалёвым полем (Коваль – мянушка ўладальніка поля).

**ЗАКУТО́К** *м*. Луг за Кутком (вугал пашы).

**ЗА ЛІ́СОМ**. Рака, якая працякае за лесам.

**ЗАЛІ́ССЕ** *н*. Месца, дзе знаходзілася некалькі хутароў.

**ЗАЛЬШЫ́ННЕ** *н*. Месца, зарослае вольхай.

**ЗА́СТАЎ** *м*. Паша за штучным возерам.

**КАБАНО́ВЭ ПО́ЛЭ**. Тое ж, што і **КАБА́НЫЎ ХУ́ТОР**.

**КАБА́НЫЎ ХУ́ТОР**. Поле на месцы хутара селяніна па мянушцы Кабан.

**КАЛЫ́ЛЬСКІ ЛЕС**. Лес ля вёскі Калілы.

**КАМА́ЧЫНА СА́ЖАЛКА**. Сажалка, якая раней належала чалавеку па мянушцы Камака.

**КАМА́ЧЫНА ШЫ́Я**. Месца, дзе раней быў надзел чалавека па мянушцы Камака.

**КАНА́ВА** *ж*. Неглыбокі капаны роў для сцёку вады.

**КАПЛЫ́ЦА** *ж*. Частка лесу, якая знаходзіцца недалёка ад Каплыцы (крыніцы).

**КАПЛЫ́ЦА** *ж*. Крынічка. Мясцовыя жыхары лічаць, што яе вада лекавая, называюць нават святой.

**КАПЛЫ́ЧНЫ ЛУГ**. Тое ж, што і **ЛУГ У КАПЛЫ́ЦЫ**.

**ЛУГ У КАПЛЫ́ЦЫ**. Частка лесу.

**КОВАЛЁВЭ** *н*. Поле, уладальнікам якога раней быў чалавек па мянушцы Коваль.

**КОВЭ́РЧЫНЭ** *н*. Папасак, які раней належаў селяніну па мянушцы Ковэрко.

**КОЛО́ЗІСКА** *н*. Месца на балоце, дзе раней быў калодзеж.

**КОЧУНО́ВЭ ПО́ЛЭ**. Тое ж, што і **КОЧУНЫ́Ў ХУ́ТОР**.

**КОЧУНЫ́Ў ХУ́ТОР**. Поле на месцы хутара, што належаў чалавеку па мянушцы Кочун.

**КО́ШЫЛІЎ** *м*. Грудочак (узвышанае месца) ад мянушкі Кошыль.

**КРЫВЫ́ЦЬКІ ЛЕС**. Лес ля в. Крывіца.

**КУЛЬБЭ́ДЫНЭ ПО́ЛЭ**. Тое ж, што і **КУЛЬБЭ́ДЫН ХУ́ТОР**.

**КУЛЬБЭ́ДЫН ХУ́ТОР**. Поле на месцы хутара, што належаў чалавеку па мянушцы Кульбэда.

**КУТО́К** *м*. Вугал пашы клінападобнай формы.

**КУЧО́Ў ЛУГ**. Тое ж, што і **КУЧО́Ў ХУ́ТОР**.

**КУЧО́Ў ХУ́ТОР**. Луг на месцы хутара, што належаў чалавеку па мянушцы Куч.

**КЫМЛЯКО́ВЭ ПО́ЛЭ**. Тое ж, што і **КЫМЛЯКІ́Ў ХУ́ТОР**.

**КЫМЛЯКІ́Ў ХУ́ТОР**. Поле на месцы хутара, што належаў чалавеку па мянушцы Кымляк.

**КЫЦЁВЭ ПО́ЛЭ**. Тое ж, што і **КЫЦЁЎ ХУ́ТОР**.

**КЫЦЁЎ ХУ́ТОР**. Поле на месцы хутара, што належаў чалавеку па мянушцы Кыць.

**ЛУЖКЫ́** *мн*. Некалькі маленькіх лужкоў, што размешчаны ў адным месцы.

**ЛЫМЖКЫ́** *мн*. Частка лесу.

**ЛЫ́ПЫНКЫ** *мн*. Месца на балоце, дзе раслі ліпы.

**ЛЫ́СА ГОРА**. Узвышанае месца без расліннасці.

**ЛЫСКЫ́** *мн*. Дрэнная паша.

**МА́РКАЎКА** *ж*. Частка балота, дзе раней быў сенакос Марка.

**МАРКО́ЎСКІ БРОД**. Мелкае месца ў р. Струга (ад імя Марко).

**МАЦВІЁЎ ХВІННЯ́К**. Месца, дзе некалі раслі хвоі (ад імя былога ўладальніка Мацвея).

**МАЦЁВА ШЫ́Я**. Месца, дзе раней быў надзел Мацея.

**МАЦІ́ЎСКЭ ПО́ЛЭ**. Тое ж, што і **МАЦІ́ЎСКІ ХЎТОР**.

**МАЦІ́ЎСКІ ХЎТОР**. Поле на месцы былога хутара Мацея.

**МОЛОХО́ВЫЧОВА КАНА́ВА**. Канава. Названа па мянушцы Молохо́выч, чалавека, які пільнаваў канаву, калі праводзілі меліярацыю.

**МОЛОЧА́РНЯ** *ж.* Месца ў вёсцы, дзе ў насельніцтва збіраюць малако.

**МО́ЛЫНЧЭ** *н.* Частка лесу недалёка ад могілак.

**МУРАЎІ́** *мн.* Папас, дзе было шмат мурашак.

**МЫХА́ЛІЎКА** *ж.* Частка балота, дзе раней быў сенакос Міхала.

**НАДІ́Л** *м.* Поле.

**НАДІ́ЛЫЧНЫ СЫНОКО́С**. Луг для касьбы, падзелены на ўчасткі і дадзены ў часовае карыстанне сялянам.

**НА́ША СА́ЖАЛКА**. Сажалка. Так яе называюць людзі, да якіх яна бліжэй знаходзіцца.

**НО́ВЫ ЛУГ**. Луг.

**НЫ́ЎКЫ** *мн.* Поле.

**ПА́НЬСКЫ КУТО́К**. Луг, уладальнікам якога раней быў пан.

**ПА́РКОВЫ ПЫРЫМІ́Л**. Мелкае месца ў рацэ.

**ПА́СІКА** *ж.* Месца, дзе стаялі вуллі.

**ПА́СІЧНЫ ЛУГ**. Луг, на якім размешчаны пчальнік.

**ПА́ЎЛІЧЫ** *мн.* Частка балота, дзе раней быў сенакос, што належаў сям'і Паўліч.

**ПОГО́НЯ ПСЫ́СЬКА**. Паша, на якую выганяюць скаціну жыхары в. Псышчава.

**ПОДЛЮ́ЖКЫ** *мн.* Частка лесу.

**ПОЖА́РНЫЦА** *ж.* Частка лесу, якая гарэла.

**ПСЫ́СЬКА БЎХТА**. Тое ж, што і **ПНЮ́СЬКА БЎХТА**.

**ПНЮ́СЬКА БЎХТА**. Сажалка, што знаходзілася ў в. Пнюхі, якая з часам увайшла ў в. Псышчава. Таму існуюць два варыянты.

**ПСЫ́ШЧАВА** *н.* Вёска. Раней на гэтым месцы было некалькі хутароў, якія называліся па імёнах, прозвішчах ці мянушках сваіх гаспадароў. Пасля аб'яднання асобных хутароў (кажуць, што пан загадаў сялянам перасяліцца са сваіх хутароў па адзін бок Грэблі – дарогі) узнікла вёска, якую назвалі Псышчава. Відаць, назва паходзіць ад мянушкі ці прозвішча Псышч.

**ПЫРЫМІ́Л** *м.* Мелкае месца на рацэ.

**РІЎ** *м.* Штучная глыбокая канава.

**РОВЫ́НА** *ж.* Частка балота, якая была вельмі гразкая, непраходная.

**РАПІ́ЛЬСКІ ЛЕС**. Лес.

**РУСНЯ́КІЎ ГРУДО́К**. Лужок на ўзвышаным месцы, які належаў чалавеку па мянушцы Русняк.

**РЫМЖУКО́ВЭ ПО́ЛЭ**. Тое ж, што і **РЫМЖУКІ́Ў ХЎТОР**.

**РЫМЖУКІ́Ў ХЎТОР**. Поле на месцы хутара, што належаў чалавеку па мянушцы Рымжук.

**СА́ХАРАВА САЖАЛКА**. Сажалка, дзе чалавек па прозвішчы Сахараў любіў вудзіць рыбу.

**СМОЛЯ́РНЯ** *ж.* Месца, дзе стаіць спецыяльная печ для гонкі смалы.

**СОЛОДЫ́ННЕ** *н.* Поле з цёплай глебай, на якой усё добра расце.

**СОСНІ́ЎКА** *ж.* Урочышча, дзе раней раслі сосны.

**СОСНІ́ЎКА МО́ТОЛЬСКА**. Сасновы лес ля в. Моталь.

**СОСНІ́ЎКА ПСЫ́СЬКА**. Сасновы лес ля в. Псышчава (лес на мяжы вёсак Псышчава і Погінька. Жыхары кожнай вёскі лічаць яго сваім. Адзін і той жа лес у в. Псышчава называецца Сосніўка Псыська, а ў в. Погінька – Сосніўка Погіньска).

**СОСНЫ́ЦА** *ж.* Месца на балоце, дзе раслі тры сасны.

**СО́ТКЫ** *мн.* Поле.

**СТРУГА́** *ж.* Рэчка, зарослая травой.

**СУБЭ́КТЫНЭ ПО́ЛЭ**. Тое ж, што і **СУБЭ́КТНЫ ХЎТОР**.

**СУБЭ́КТНЫ ХЎТОР**. Поле на месцы хутара, што належаў селяніну па мянушцы Субэкта.

**ТАРА́САЎ ХЎТОР**. Тое ж, што і **ТАРА́СОВЭ ПО́ЛЭ**.

**ТАРА́СОВЭ ПО́ЛЭ**. Поле на месцы хутара Тараса.

**ТОПОГІ́НЬКА** *ж.* Паша каля в. Погінька.

**ТУМАШЫ́ШЫНА КЎПА**. Невялікі ўзгорак, дзе пасвіла карову жынчына па мянушцы Тумашыха.

**ТУМАШЫ́ШЫШЭ** *н.* Папасак, які належаў жанчыне па мянушцы Тумашыха.

**У ПОТО́КАХ**. Рэчка.

**УПІ́РЫЎСКІ ЛЕС**. Лес ля в. Упірава.

**ХОЛОДНЫ́ЦА** *ж.* Поле з халоднай, неўрадлівай зямлёй.

**ХОМЫЧО́ВА ГО́ЛЬШЫНА**. Поле, дзе раней знаходзіўся надзел чалавека па прозвішчы Хомыч.

**ЧЫРТЫЖО́ВА ГОРА́**. Узвышанае месца за вёскай.

**ЧЫРЭ́ЦЯНЫК** *м.* Сажалка, парослая чаротам.

**ЧЭРЭ́МУШНЫ ГРУД**. Узвышанае месца на балоце, дзе расло шмат чаромхі.

**ШЫГЫРО́ВЭ ПО́ЛЭ**. Тое ж, што і **ШЫГЫРО́Ў ХЎТОР**.

**ШЫГЫРО́Ў ХЎТОР**. Поле, дзе раней быў хутар селяніна па мянушцы Шыгір.

**ШЭРШНЁВЭ ПО́ЛЭ**. Тое ж, што і **ШЭРШНЁЎ ХЎТОР**.

**ШЭРШНЁЎ ХЎТОР**. Поле, дзе раней быў хутар селяніна па прозвішчы Шэршынь.

**Ю́Р'ЕЎ ХЎТОР**. Тое ж, што і **ЮРКО́ВСКЭ ПО́ЛЭ**.

**ЮРКО́ВСКЭ ПО́ЛЭ**. Поле на месцы хутара чалавека па імені Юрый.

**ЯЛЭ́ЦКІ СЫНОКО́С**. Сенакос, на якім некалі расла яліна.

**ЯНО́ЎСКАЯ ДОРО́ГА**. Дарога на Янова (г. Іванава).

# ФРАЗЕАЛОГІЯ

*Т. А. Ганчук, В. М. Касцючык*

## МАТЭРЫЯЛЫ ДА СЛОЎНІКА ЖАБІНКАЎШЧЫНЫ

Невялічкая падборка ўстойлівых выразаў, занатаваная ў наваколлі Жабінкі, – гэта дадатак да лексічнай падборкі. Разам з апошняй тут раскрываецца багацце і змест сродкаў сучаснага маўлення жыхароў Жабінкаўшчыны.

**АЖ МО́ВУ ПЫРЫНЯЛО́** (у *каго*). Нехта рэзка замоўк ад страху, здзіўлення. *Аж мо́ву пырыняло́ от стра́ху в хло́пця.*

**БРЫНЬКОТІ́ТЫ ЯЗЫ́КОМ**. Гаварыць абы-што. *Ны могу́ я більш брынькоті́ты язы́ком, бо трэ́ба іты́ шо́ся робы́ты.*

**БЫ В ЛІ́СЫ ВЫ́РОСТЫ**. Быць дзікім, няветлівым. *Молода́я сусі́дка бы в лі́сы вы́росла, яка́яся ды́ка, ны поздоро́вайіцця ныко́лы.*

**БЫЗДО́ННЫЙ КОЛО́ДЭЦЬ** (*у каго*). Нехта вельмі многа есць. *В тэбэ́ там шо – быздо́нный коло́дэць, шо ныя́к ны мо́жыш найі́стыся.*

**БЫКА́М ХВОСТЫ́ ВЯЗА́ТЫ**. Працаваць фізічна. *Як ны пу́йдыш учы́тыся, то бу́дыш быка́м хвосты́ вяза́ты.*

**В ДЫЧ**. У невядомым накірунку (пайсці). *Надоі́лы вжэ мні всі гэ́ты пробле́мы, за́ра як пойду́ в дыч, а ві́тэ шо хо́чтэ, то́е й робі́тэ са́мы.*

**В МОСКВУ́ ПО РА́КЫ**. Абы-куды (пайсці). *Я пойшо́в в Москву́ по ра́кы.*

**ВЗЯ́ТЫСЯ НАЧЫРВО́НО**. Вельмі старанна, заўзята пачаць працаваць. *О, взя́вся начырво́но, му́сыт, до вэ́чора горо́да скопа́е.*

**ВО́ДУ ВЫЗУ́Т**. Хутка пачнецца дождж. *По́сля до́вгыйі жары́ наконе́ц-то во́ду вызу́т.*

**ВО́ШЫ ЗАЙІДА́ЮТ** (*каго*). Нехта займаецца маруднай, надакучлівай справай. *Во́шы зайіда́ют мынэ́ з пырыбыра́ннем гэ́тыйі малі́ны.*

**ГАДЮ́КА КУСАЕ** (*каго*). Нехта вельмі хоча нешта зрабіць. *От, гадю́ка йійі́ куса́е сходы́ты і погово́рыты.*

**ГЛУХЫ́Й НО́МЭР**. Бескарысна гаварыць, нешта рабіць. *Гэ́то глухы́й но́мэр е́го упро́шуваты.*

**ГОЛОВА́ ДВА У́ХА** (*у каго*). Нехта не дадумаўся да чаго-небудзь. *Як так сра́зу ны догада́тыся, от, голова́ два у́ха.*

**ГОЛОВА́ ПУ́ХНЭ** (*у каго*). Нехта мае шмат клопатаў, работы. *Стіі́лько пробле́м пособыра́лося за оды́н дэнь, шо голова́ пу́хнэ од йіх.*

**ГО́ЛОД ПЫРЫБЫ́ТЫ**. Злёгку перакусіць. *На обі́ды ті́лько го́лод пырыбы́лы.*

**ГО́РЛО ДРА́ТЫ**. Моцна крычаць на каго-небудзь. *Хва́тіт вжэ на дыты́ну го́рло дра́ты.*

**ДА́ТЫ СПО́КУЙ** (*чаму*). Адчапіцца ад чаго-небудзь, пакінуць на потым. *Дай спо́куй то́му вари́нню, по́тым шчэ раз попробу́йіш звары́ты.*

**ДАТЫ І В ХВОСТ І В ГРЫ́ВУ** (*каму*). Адлупцаваць каго-небудзь. *За тако́е де́ло дам і в хвост і в гры́ву.*

**ДВА МЭТРЫ СУХОСТО́Ю І ВСЁ НОГЫ** (*у каго*). Нехта вельмі высокі і худы. *Як тако́му й вы́росты – два мэ́тры сухосто́ю і всё но́гы!*

**ДО ПОБЕ́ДЫ**. Вельмі доўга (спаць). *Вчо́ра робы́лы, а за́ра спят до побе́ды.*

**ДО ПОВСМЭ́РТІ**. Вельмі моцна (напрацавацца). *За́втра ві́тэ бу́дытэ спа́ты до́вго, бо наробы́лыся до повсмэ́рті.*

**ДО́ЛЯ КАШЛЫ́ВА**. Той, хто часта і доўга хварэе. *Колы́ ты вжэ вы́здоровэйіш, до́ля кашлы́ва?*

**З ПО́ГРЫБА ВЫДНІ́Й** (*каму*). Нехта лепш ведае пра што-небудзь. *Тобі́ з по́грыба выдні́й, як ліпш зробы́ты.*

**ЗА Е́ДНЫМ ЗАСЯ́ДОМ ВЫЧЭ́РА З ОБЯ́ДОМ**. Усё адразу. *А мы і ны обі́далы, а за́ра за е́дным зася́дом вычэ́ра з обя́дом.*

**І КРЫМ І РЫМ (ОБІЙХАТЫ, ОБОЙТЫ)**. Усюды (пабываць). *І Крым і Рым обойшо́в за свою жызнь.*

**КІШ-МІШ ЖА́РЯНЫ ГВО́ЗДІ**. Абы-што. *Ны зна́ла, шо на вэ́чор нава́рыты. Кы́нула того́, того́, і получы́лыся кіш-міш жа́ряны гво́зді.*

**КОМЭ́ДЫЯ ПО́ЛЬСКА**. Дзіўнае здарэнне. *Дэ ты́йі ді́ты поді́лыся, ну, пря́мо комэ́дыя по́льска.*

**КОТЯ́ЧА ЖЫЗНЬ** (*у каго*). Хто не мае жыццёвых праблем, жыве бестурботна. *О, котя́ча жызнь у сусі́дув, ті́ко-но й йі́здят по куро́ртах.*

**КОТЯ́ЧЫЙ БА́ТЬКО (МА́ТЫ)**. Той, хто любіць іграцца з катамі. *Котя́чый ба́тько ідэ́, а кот і за йім. От жэ котя́ча ма́ты, дала́ молочка́ і спа́ты шчэ вложы́ла.*

**КОШЫЛІ́В НАПЛЫСТЫ́**. Падмануць каго-небудзь. *Шо ж ты мні кошылі́в наплі́в, шо хліі́ба в магазі́не ныма́.*

**МА́СТЕР КОЦЮ́БКЫН** *іран.* Умелы чалавек. *Молоде́ц ты, муй ма́стер коцю́бкын, вмі́еш пэ́чку злыпы́ты!*

**МО́ВЫ ЯК ПОЛО́ВЫ** *(у каго).* Хто шмат гаворыць. *Ну, прыйі́хав муй сту́дент, а вжэ мо́вы як поло́вы.*

**МОХ І БОЛО́ТО**. Усё поўнасцю (з'есці). *За́рано пры́дымо додо́му, поба́чым, як ты зйісы́ мох і боло́то.*

**НА МЫ́ГАХ**. Па мініцы і жэстах. *На мы́гах він ны по́няв, шо хоті́в його́ брат.*

**НА ПОЖА́РНІКА ЗДАВА́ТЫ** *іран.* Доўга спаць. *На пожа́рніка зда́е чолові́к – двіна́ццатый час.*

**НА СОПЛЯ́Х**. Слаба, абы-як (трымацца). *Всё прыхо́дыцця магазі́ннэ за́ново лата́ты, бо трыма́йіцца на сопля́х.*

**НАЙТЫ́ СОКІ́РКУ ПОД ЛА́ВОЧКОЮ**. Знайсці лёгкі выхад са становішча. *От нашо́в сокі́рку под ла́вочкою, ны мо́жэ ны йі́хаты дру́гэю доро́гою.*

**НЫ БА́ЧЫТЫ, ЯК СО́НЦЕ ПО НЭ́БОВЫ ХО́ДЫТЬ**. Быць вельмі заклапочаным, мець шмат работы. *Ны ба́чу, як со́нце по нэ́бовы хо́дыть за гэ́тою робо́тою.*

**НЫ ДАВА́ТЫ РУКА́М СПО́КУЮ**. Старанна працаваць. *Настоя́шча хозя́йка – ны дае́ рука́м спо́кую.*

**НЫПОЧЯ́ТЫЙ КРАЙ**. Вельмі многа (працы). *В мэнэ́ шэ ныпочя́тый край робо́ты. А за́втра вжэ Вылы́кдэнь.*

**ОДУ́РЫ КУСО́К**. Нехта вельмі надакучлівы. *Скі́ко мо́жна про гэ́тэ вжэ говоры́ты, оду́ры ты кусо́к.*

**ПОРО́ТЫ ГАРЯ́ЧКУ**. Неабдумана рабіць нешта, спяшацца. *Вжэ со спі́ху по́рыт гаря́чку, і ныць ны получа́йіцця.*

**ПОЧЫСА́ТЫ ЯЗЫКА́**. Пабалбатаць. *Прыходы́ла ныда́вно сусі́дка почыса́ты языка́.*

**РА́КОМ ПОВЗТЫ́**. Ісці ледзь не падаючы. *Ра́ком вжэ повзэ́ твуй мужы́к.*

**СПЫНЫ́ НЫ РОЗГЫНА́ТЫ**. Надзвычай старанна працаваць. *Спыны́ ны розгына́е тётка всей дэнь.*

**СЫ́ТУСЬ-МЫ́ТУСЬ**. Абы-як (зашпіліцца). *От смі́шно, шо сы́тусь-мы́тусь застёгнута руба́шка.*

**ФІНДІБО́БЭРЫ ВЫРОБЛЯ́ТЫ**. Дзіўна сябе паводзіць. *Шо́ся твуй сын фіндібо́бэры вырobля́е.*

**ХОТЬ ВО́ЗОМ ЗАЙІЖДЖА́Й**. Нехта моцна пазяхае. *О, взя́вся позяха́ты – хоть во́зом зайіжджа́й.*

**ХОТЬ ВЫКРУ́ЧУЙ** *(каго).* Нехта вельмі мокры. *Така́я жарі́шча, шо хоть выкру́чуй.*

**ХОТЬ РЕ́ПКУ СІЙ** *(дзе).* Вельмі брудныя (рукі, ногі). *Хоть ре́пку сій на твойі́х ногах.*

**ХОЧ СТУЙ ХОЧ ПА́ДАЙ**. Нехта вельмі здзіўлены. *Хоч стуй хоч па́дай по́сле такэ́йі но́вості.*

**ЦЭ́ПЫ В'ЯЗА́ТЫ** *(з кім).* Даводзіць каго-небудзь да спрэчкі, правакаваць лаянку, непрыязнасць. *Всёй дэнь воны́ ны змовка́лы, всё цэ́пы в'яза́лы.*

**ЯЗЫК ЗАПЛЫТА́ЙІЦЦЯ** *(у каго).* Хто-небудзь не можа выразна, членараздзельна сказаць слова. *Скажы́ так, коб було́ поня́тно, а то язы́к заплыта́йіцця.*

**ЯЗЫ́КОМ ЛЯ́СКАТЫ**. Гаварыць абы-што. *Ны зна́йіш, то ны ля́скай язы́ком.*

**ЯК БЫЗУ́Н**. Вельмі мокры. *Як бызу́н прышла́ вона́ после дождя́.*

**ЯК В'ЮН НА СКОВОРОДІ́**. Вельмі (круціцца). *Шо ты ны мо́жыш всадовы́тыся ныя́к, як в'юн на сковороді́ кру́тысся.*

**ЯК ЗА ПЛЭ́ЧЫ ВЫ́КЫНУТЫ** *(што).* Вельмі хутка з'есці. *Як за плэ́чы вы́кынув вчора́шній суп з го́лоду.*

**ЯК З-ЗА СВІ́ТУ**. Вельмі доўга (ісці, ехаць). *Як з-за сві́ту йідэ́ той чолові́к з хлібом.*

**ЯК КО́БРЫНСКЫЙ ГОСТЫ́НЭЦЬ** *(хто).* Здаро́вы, тоўсты. *Як ко́брынскый госты́нэць прыйі́хав сын.*

**ЯК КУ́РЫЦЯ ЛА́ПОЮ**. Непрыгожа (пісаць). *Первокла́снік пы́шэ як ку́рыця ла́пою.*

**ЯК КУ́РЫЦЯ НА Я́ЙЦЯХ**. Увесь час круціцца, быць непаседлівым. *Як ку́рыця на я́йцях ты на тому́ сту́ловы.*

**ЯК НА ЗА́ВТРА**. Вельмі павольна (рабіць). *Хучі́й робі́тэ, бо хма́ра нахо́дыть. Ідэ́тэ як на за́втра.*

**ЯК НЫ В СЫБЭ́**. Вельмі многа (есці). *Ты шо, в гостя́х, шо йі́сы як ны в сыбэ́!*

**ЯК НЫ СВОЙІ́М РО́ТОМ**. Вельмі павольна (есці). *Што́ся з твойі́м сы́ном ны так, шо йі́сць як ны свойі́м ро́том.*

**ЯК ПШЫНЫ́ЦЮ ПРОДА́ВШЫ**. Вельмі моцна (спаць). *Вэ́чором всі заснýлы як пшыны́цю прода́вшы.*

*М. А. Даніловіч*

## З ДЫЯЛЕКТНАЙ ФРАЗЕАЛАГІЧНАЙ СПАДЧЫНЫ

Раней у беларускую літаратуру прыходзілі пісьменнікі пераважна вясковага паходжання, якія добра ведалі родную мясцовую гаворку і выкарыстоўвалі яе фразеалагічнае багацце ў сваёй творчасці. Дзякуючы ім літаратурная мова насыцілася вялікай колькасцю народных фразеалагізмаў, непаўторных значэннем, вобразнай асновай, лексічным складам. Напрыклад, фразеалагізм *па самае (-ыя) годзе*, бытаванне якога акрэслена заходнебеларускім моўным арэалам, уведзены ў літаратурны ўжытак найперш такімі пісьменнікамі Гродзеншчыны, як Я. Брыль, А. Карпюк, Я. Лецка: *Ганна [...] увалілася недзе па самыя годзе ў ваду, спадніца на марозе ўдубянела, ідзе – брэм, брэм, як бляха...* (Я. Брыль); *Забярыце яго ў сваю гміну і ўсыпце халеры бізуноў па самыя годзе...* (А. Карпюк); *Шафёр, стараючыся нагнаць упушчанае, даваў газу па самае годзе* (Я. Лецка).

Усходнебеларускі фразеалагізм *пастухова Ганна* асвоены літаратурнай мовай праз творы пісьменнікаў з Віцебшчыны і Магілёўшчыны: *Эх ты... І пастухова Ганна ляснуць можа, а ты, галоўка твая яловая, дадумайся. Разумееш – дадумайся* (М. Лынькоў); *– Цяпер ні адзін аўтобус за намі не ўгоніцца. – Дык гэта і пастухова Ганна разумее, раз на легкавушцы* (І. Чыгрынаў). Фразеалагізм *гад печаны,* распаўсюджаны пераважна ў сярэдняй частцы Беларусі, сцвердзіўся як літаратурны дзякуючы творам С. Грахоўскага, Я. Коласа, Р. Сабаленкі, К. Чорнага і іншых аўтараў: *Я быў гад печаны, што не дбаў аб табе, сынку мой* (К. Чорны); *Што зрабіў ты, прызнавайся? Мусіць, печаны ты гад* (Я. Колас); *– Іроды, гады печаныя, не чапайце чалавека!– крычалі мужчыны* (Р. Сабаленка).

Можна прывесці яшчэ прыклады падобных фразеалагізмаў: *абсевак у полі, весці курну, ганяць гусей, голаму за пазуху, да новых венікаў, збор-каляда, з паходам, на кулаках вынесці, ні вала ні каня, ні на вочы, хахлы вязаць, хоць зубы выберы.* У апошнія дзесяцігоддзі рэалізацыя рэсурсаў гэтай шчодрай крыніцы – дыялектнай мовы, на жаль, прыкметна паслабляецца. Па прычыне актыўных дэмаграфічных і іншых працэсаў у пісьменніцкае асяроддзе ўліваецца ўсё больш асоб, якія выраслі ў горадзе і ведаюць пераважна літаратурную мову. Іх фразеатворчыя магчымасці пэўным чынам абмежаваныя, як правіла, зводзяцца да выкарыстання таго, што замацавана ў нарматыўных літаратурных даведніках. Каб увесці ў літаратурны ўжытак новыя адзінкі з народнай фразеалагічнай спадчыны, пісьменнікам неабходна дадаткова займацца дыялектнай мовай. Вялікую паслугу ў гэтым плане ім могуць аказаць апублікаваныя слоўнікі ці падборкі дыялектызмаў, сабраных і патлумачаных лінгвістамі. Прапануем падборку фразеалагізмаў, запісаных ў 2000–2008 гг. на Гродзеншчыне пераважна ад сельскіх жыхароў. Асноўны прынцып адбору фразеалагізмаў і фразеалагічных варыянтаў – адсутнасць іх у слоўніках літаратурнай мовы. У падборку не трапілі таксама фразеалагізмы, зафіксаваныя раней у нашым «Слоўніку дыялектнай фразеалогіі Гродзеншчыны» (Гродна, 2000).

**АБЕДЗВЕ РУКІ ЛЕВЫЯ** *(у каго), асудж.* 1. Нязграбны, не можа ўтрымаць якія-н. рэчы, прадметы. *Ізноў талерку разьбіла. Ну што ты зробіш, як абедзьвя рукі левыя.* Смаргонь Смарг. 2. Няўмелы. *Такога няўмеку я яшчэ ні бачыла. У цябе што, абедзьве рукі левыя?* Гервяты Астр.

**АДЗІН БОГ ДАГЛЯДАЕ** *(каго).* Хто не мае ніякой падтрымкі з боку іншых. *Цяпер жыву адна. Дзеці прыдуць, пагляняць і пойдуць, адзін Бох даглядае.* Улезлы Ваўк.

**АДЗІН БОГ І СВЯТАЯ КАРЧМА ВЕДАЕ.** Нікому невядома. *А як там будзя далей, адзін Бог і сьвятая карчма ведая.* Гродна.

**АДНО АДНАГО НЕ ПАДЫМАЕ.** Адзін за другога меншы (пра дзяцей). *Дзеці малыя, анно аннаго не падымае, а хату закрыеш і едзеш на цэлы дзень за Нёманам копы насіць.* Пагарэлка Карэл.

**АД СВЕТУ.** На світанні. *Гаспадарка велька. Як пойдзем ат сьвету, дык аш покуль слонца не зойдзя.* Парачаны Лід.

**АЖ ВУШЫ ТРАСУЦЦА.** З вялікім апетытам (есці). *А бацькі ўсё казалі, кап елі хлеп усей сухі, то не будзяця грымотаў баяцца. Мы елі аш вушы трасьліся.* Вялікая Бераставіца Бераст.

**АХ МАТАЧКІ МАЕ** *выкл.* Выказванне розных пачуццяў. *У студню была ўлешшы ў Юрацішках. Ах*

*матачкі мае, як глянула ўгору, дух у мяне перахваціло.* Лаздуны Іўеў.

**БІЦЬ У КАЦЮТЫ**. Выяўляць вялікае пачуццё радасці. *У парцізанаў, помню, было радзіво, а мы хадзілі і слухалі, ці далёко фронт. У пасьледні вечар пайшлі, ажно ў Мінску фронт. Расказалі нашым. Як пачалі біць у кацюты тыя ад радасьці.* Парэчча Гродз. *Ідзе бацька без рукі. Валя бяжыць, спатыкае, у кацюты б'е. А бацька ды адну дачку пацалаваў, ды другую.* Раманавічы Дзятл.

**БОГА ГНЯВІЦЬ ДЫ ЛЮДЗЕЙ СМЯШЫЦЬ** *асудж.* Рабіць што-н. кепскае. *Вон, гару, падляцы! Прышлі Бога гнявіць ды людзей сьмяшыць! І прагнала п'яніцаў.* Індура Гродз.

**БОГ СТАЯЎ**. На шчасце, нічога дрэннага не здарылася з кім-н., закончылася добра, пашанцавала. *Я ўзеў добры камушок, гэта паткрадуся, дам гэтай суцы. Як доў, а там ні сука, а Шымук. Енчыў-енчыў бедны, а я яму ў лэб з усяе сілы. Гэта Бох стаяў, што не забіў.* Амбілеўцы Шчуч.

**БОЧКУ І БОЧАЧКУ** *неадабр.* Вельмі многа і абы-чаго (нагаварыць, наплесці). *Паймеш тут цібе: наплёў бочку й бочачку – і папробуй разьбярыся што да чаго.* Шылавічы Слон.

**БРАТ (БРАТКУ, БРАЦЕ) ТЫ МОЙ** *выкл.* Выказванне розных пачуццяў. *О, брат ты мой, жызьня пашла, хай яе халера с такой жызьняй!* Аляксандраўшчына Зэльв. *Усе думалі, што ён цямця-лямця, а тут, братку ты мой, усім раты пазатыкаў.* Бабіна Гродз. *Я, браця ты мой, рабіў на фермі, выхадных нам мала пападала.* Пудзіна Лід.

**БУДЗЕ НЯМАЛА** *(каму).* Каму-н. дастанецца, хто-н. атрымае пакаранне. *І пачаў нас лавіці, ды злавіў, якрас міне злавіў за варатнік. Кажа: «Я зара паляну, чыя ты. А, брыгадзірава. Усё далажу бацьку, будзя табе німала».* Дружная Ваўк.

**БЯГУ І ПАДАЮ** *іран.* Адмаўленне выконваць чыю-н. просьбу, загад. – *Прынясі мне кнігу. – Ага, зарас, бягу й падаю, шчытай, што ўжэ прынёс. Знашла слушку.* Васілішкі Шчуч.

**ВАВІЛЁН ЗАРОС** *(у каго), іран.* У каго страцілася палавая актыўнасць. Пра мужчыну. *Э, ён ўжэ хіба на што здатны, у маго старого ўжэ даўно вавілён зарос.* Баляненты Гродз.

**ВАРЫЦЬ ЗАЦІРКУ** *іран.* Спаць моцна храпучы. *Паслухай, як зацерку варыць. І так кажду ноч, а я ніяк ні магу заснуць.* Ліцвінкі Гродз.

**ВЕНІК ВЯСКОВЫ** *неадабр.* Той, хто не любіць быць дома, часта бавіць час у суседзяў, аднавяскоўцаў. *Хоць адзін вечар у хаце паказалася п, венік ты вясковы.* Дайнава Воран.

**ВЕЦЕР ГУЛЯЕ** *(дзе).* 1. Пуста (у хаце ці іншым памяшканні). *Такая хароша хата, і вецяр у ёй гуляя, ніхто ні жыве.* Краснасельскі Ваўк. 2. Холадна (у хаце ці іншым памяшканні). *Ні паляно даўно, то ў хаце вецяр гуляя, за рукі бярэ.* Краснасельскі Ваўк.

**ВОКА ЦЕШЫЦЬ**. Выклікаць прыемныя ўражанні сваім выглядам, знешнасцю. *Па аднаму стапарыку выпілі, па другому, па трэцяму, пачалі другую бутэлячку, вока цеша і трэцяя.* Падольцы Астр.

**ВОЧЫ САБАЧЫЯ** *(чые).* Пра таго, хто не мае сораму, сумлення. *Што ты плешчаш, ці ш такоя было?! Вочы твае сабачыя!* Падольцы Астр.

**ВОЧЫ СВЕЦЯЦЬ** *(у каго).* Пра таго, хто яшчэ бачыць, мысліць нармальна, не страціў жыццёвыя сілы, актыўнасць. *Пакуль чалавек жыве, пакуль вочы сьвецяць, духам ні падаяш, тое думаяш яшчэ зрабіць і тое думаяш зрабіць.* Астрына Шчуч.

**ВУЖ ГАЛАВЫ НЕ ЎСУНЕ**. Што-н. вельмі зарасло зеллем, кустоўем, лесам. *На месьці нашых Засадаў усё зарасло. Ціпер там гуш галавы не ўсуня.* Парэчча Гродз.

**ВУШЫ АБВІСЛІ** *(у каго).* Пра таго, хто адчувае няёмкасць, вінаватасць. *Што стаіш, у вочы ні глядзіш, і вушы абвісьлі?* Краснасельскі Ваўк.

**ВЫБІЦЬ ПЫЛ З ГАЛАВЫ** *(каму), неадабр.* Уздзейнічаць на каго-н., адвучваць ад дрэнных звычак. *Я табе выб'ю пыл з галавы, калі ні ведаяш, як сібе вясьці!* Сланева Навагр.

**ВЫВІХ КУРЫНЫ** *груб.* Няўмелы, ні да чога не здатны чалавек. *Вывіх ты курыны! Што ні зробіш, усё ні так, як трэба.* Смаргонь Смарг.

**ВЫГНАЦЬ КАЗЛА НА КАЗІНКІ** *(каму).* Збіць чыю-н. пыху, фанабэрыстасць, капрызы. *Зарас мы табе выганім казла на казінкі, і ўсё стане добра.* Падольцы Астр.

**ГАНДЛЯВАЦЬ ЗУБАМІ** *асудж.* Смяяцца. *А яны там стаяць каля школы і гандлююць зубамі.* Ліцвінкі Гродз.

**ГОЛЫ-БОСЫ**. 1. Без нічога, без якой-н. маёмасці. *Усё на сьвяточку згарэла, засталіся такія, голыя-босыя.* Ваверка Лід. 2. Посны, без тлушчу, без мяснога навару (суп). *Як бывало, пытаюся, што гатовіць, дык сын любіць голы-босы суп і заказвая яго.* Аляксандраўшчына Зэльв.

**ДАЙ БОГ НЕБА** *(каму), выкл.* Добрае пажаданне нябожчыку. *Татачка, дай Бох яму неба, добры быў, але рана пайшоў на той сьвет.* Янапаль Воран.

**ДА КРЫШКІ**. Поўнасцю, цалкам. *Што было ў каго намалочано, забралі ўсё да крышкі.* Шурычы Свісл.

**ДА СВЕТУ**. Да світання. *Бывала, як ноч малая, цяплом, то да сьвету скакалі. Ідзём зь вечарыны, то й добра вывідняя, мама ўжо каровы доіць.* Мігдалы Воран. *Пайдзем на танцы і танцуям да сьвету, а заўтра наранку трэба ш уставаць раненька.* Астрына Шчуч.

**ДА СОНЦА**. Да світання. *А нараніцы да сонца як падаіла кароўку, то й да вечара не прыткнесься сапануць хоць трохі.* Пагарэлка Карэл.

**ДАЎ ЧОРТ** *незадав.* Трэба ж было. *А то доў чорт мне прагаварыцца, та во ціпер усе паляцелі туды па грыбы.* Бабіна Гродз.

**ДАЦЬ ДЗЕНЬ ДОБРЫ**. Павітацца. *А я падышла да яго, дала дзень добры, запыталася я ў яго, як жызьня.* Салтанішкі Воран.

**ДАЦЬ МЁДУ** *гумар.* Уджаліць (пра пчалу). *Ну што, наскакаўся, надзыгаўся, дала пчала мёду? Ідзі ў хату, ні раві.* Свіслач Свісл.

**ДАЦЬ ПАХВАЛЁНЫ** *(каму).* Павітацца з кім-н. *Яны далі яму пахвалёны, а ён маўчыць. Тады ўсім пахвалёны давалі, калі спатыкаліса.* Цідовічы Гродз.

**ДАЦЬ СМАЛЯНОГА ДУБА**. Памерці. *Жоўтых суравежак мы нігды ні жарылі. Што табе сказаць, глядзі, каб ад іх ні дала смаляного дуба.* Новая Руда Гродз.

**ДВА І ТРЭЦІ МАЛЕНЬКІ** *іран.* Нікольні, нічога (не даць). *– Бачу, малаток у цібе пат сьцяной валяяцца. Аддай мне яго. – Ага, зарас дам. Дам два і трэйці маленкі, што ні здужаяш панясьці.* Бабіна Гродз.

**ДЗЕНЬ ДОБРЫ**. Этап вясельнага застолля, калі музыкі па заказе прысутных выконваюць мелодыі, песні, прысвечаныя маладым ці іншым вясельнікам. *На васэлі ест таксамо дзень добры: госьці заказваюць маладым песьні і за гэто плацяць.* Галавенчыцы Гродз.

**ДЗЕ ПАПХНУЎ ТАМ І ПАВАЛІШСЯ** *асудж.* Несамастойны, без уласнай пазіцыі, залежны ад іншых. *Буць ты ўжо ш талкаўнейшы, а то дзе папхнуў там і паваліська.* Яцыны Астр.

**ДЗІРКА ДЗІРКУ ПАГАНЯЕ** *(у каго).* Хто-н. вельмі бедны. *У яго нічого німа – дзірка дзірку паганяя.* Пілкі Маст.

**ДЗЯГА ПЛАЧА** *(па кім) асудж.* Той, хто заслугоўвае пакарання. *Па табе, хлопчык, ужо даўно дзяга плача.* Галавічполе Шчуч.

**ДЗЯДЗЬКА АПАНАС ПАСТУКАЎСЯ** *(да каго), гумар.* Хто-н. захварэў на панос. *Чаго ты ўвесь час на двор лятаяш, хіба да цібе дзяцька Апанас пастукаўся?* Масты Маст.

**ДРАЦЬ ДУШУ** *(каму).* Моцна трывожыць, хваляваць каго-н. *Мне заўсёды дзярэ душу, як нешто павінна зрабіцца.* Нацкава Маст.

**ДУРНОЕ СЯЛО** *зневаж.* Дурань. *Ах ты, дурноё сяло! Як ты толькі мох да гэтаго дадумацца!* Скідзель Гродз.

**ДУХАМ ВЫПЕРЦІ** *(што).* Нягледзячы ні на што, даказаць, пераканаць. *С табой ні паспорыш, ты сваё духам выпраш.* Рыскі Шчуч.

**ЖЫЦЦЁ ПЯЮЧЫ**. Шчасліва, без турбот і клопатаў (пражыць). *Ты да Валі не раўняйся, у яе мужык залаты, за ім яна пражыла жыцьцё пяючы.* Моньнавічы Маст.

**ЗАВЯЗАЦЬ САЛА** *гумар.* Паляжаць пасля яды. *Так добра наелася, трэба ісьці паляжаць, сала завязаць.* Кямелішкі Астр. *От паеў, то тэрас пайду садла завяжу.* Дайнава Воран.

**ЗА КАПЕЙКУ ВОШ У БАРАНАВІЧЫ ЗАГОНІЦЬ** *іран.* Вельмі дробязны ў сваёй скупасці, прагнасці, сквапнасці. *Што ў яго прасіць – сёроўна ні дасьць, ён за капейку вош у Баранавічы загоніць.* Шылавічы Слон.

**ЗА ПАЗУХАЙ**. У наяўнасці, у запасе. *Казаў, што за пазухай хоць нейкія, але мая грошы.* Куляшы Шчуч.

**ЗА ПУСТОЕ КАРЫТА**. З-за дробязі, без якой-н. важнай прычыны (сварыцца). *І чаго ш яны ня міраціа, за пустое карыта свараціа.* Ардашы Смарг.

**ЗАПУСЦІЦЬ ЖУКА** *іран.* Хлусіць, гаварыць няпраўду. *Гаварыў, гаварыў, а ўжо пад канец такога жука запусьціў, што й слухаць німа што.* Балькуны Воран.

**ЗА СВАЁЙ ПАТРЭБАЙ**. Для адпраўлення натуральных рэчываў арганізма. *Выйду я ўжэ за сваёй патрэбаю ў лес – кругом кветкі цьвітуць, пташкі сьпяваюць.* Алешавічы Маст.

**ЗАЧАПІЦЦА ЯЗЫКОМ ЗА ПЛОТ** *іран.* Доўга займацца пустымі размовамі, пляткарыць (як правіла, на вуліцы). *Мая недзі зачапілася языком за плот, а на пліце бульба выкіпая.* Дзітва Лід.

**ЗВЕР КАПУСНЫ** *неадабр.* Злы, жорсткі чалавек. *А сьвекра я пабойвалася, такі ўжо, ліха яму, зьвер капусны быў, натта любіў, кап гадзілі яму.* Лаздуны Іўеў.

**З ДУБА НА КАКТУС ЗВАЛІЎСЯ** *неадабр.* Дурны, неразумны. *Ну што ты гаворыш, ты што, з дуба на кактус зваліўся?!* Скідзель Гродз.

**З'ЕСЦІ БОСКІ ЯБЛЫК**. Пазнаць сутнасць дабра і зла. *Анеля потымся яго кінула, гэтаго валацугу, позно, але зьзела боскі яблык.* Поразава Свісл.

**З НЕБА ГЛЯДЗЕЦЬ** *(на каго).* Быць на тым свеце. *Адна я асталася, мой Ваня даўно на міне зь неба глядзіць.* Навасады Свісл.

**З ПЕР'ЯМІ ПРАПАСЦІ**. Надоўга, зусім. *Паехаў нядзелю назат і прапаў с пер'ямі.* Алекшыцы Бераст.

**З ПОЛЯ НЕ СХОДЗІЦЬ**. Вельмі многа, заложна працаваць у полі. *Зямлі много, бацько і маці с поля ні сходзяць.* Крывічы Зэльв.

**З ПУДА**. З вынікаў сваёй працы. *А с пуда трэбало скаціну карміць. Коні зьядалі многа збожа, то, можа, на ўсю Беларусь хваціла п хлеба.* Галубы Маст.

**ЗРАБІЎ БОГ** *(каго)* **І ГОРКА ЗАПЛАКАЎ** *асудж.* Хто-н. дрэнны, нехарошы. *Што ты за чалавек! Адкуль ты такі ўзяўся?! Мусі, зрабіў цібе Бох і горка заплакаў.* Ёдкі Лід.

**З РУК**. Уручную. *Касіць, бывала, пойдзім, касцоў дзесяць – пятнаццаць ішлі, бабы нам тэш памагалі: грабалі, сушылі, насілі ў гумны, потым жывёлу кармілі. Цяшка было з рук рабіць, алі ш нікому ні пажаліся.* Кавалеўшчына Воран.

**ПАЙСЦІ І БОГА ЗАБЫЦЬ**. Доўга не вяртацца адкуль-н. *Але ш і лазіць недзі, пайшла і Бога забыла, і дахаты ёй ужэ ні трэба.* Варонча Карэл.

**ІСЦІ ДАХАТЫ**. Паміраць, канчаць жыццёвы шлях. *Сёньня добра жыць, але ўжэ годы падышлі, трэба ісьці дахаты, а хата на могілках.* Нацкава Маст.

**КАЖАН СУХІ** *асудж.* Худы чалавек. *Ах ты, кажан сухі, што ні звары, усё табе нісмашно.* Навасёлкі Слон.

**КАЛЫХАЦЬ ЧАРЦЕЙ**. Седзячы на чым-н., матляць спушчанымі ўніз нагамі. *Пасядзі ты спакойна! Хопіць ужо калыхаць чарцей!* Смаргонь Смарг.

**КАЦІНЫЯ СЛЁЗЫ**. Вельмі малая колькасць чаго-н. *Можаш сама выпіць гэтыя каціныя сьлёзы, а мне лі, як і ўсім.* Вялікія Эйсманты Бераст.

**КІШКІ ЗЛІПЛІСЯ** *(у каго), гумар.* Вельмі захацець есці. *Стаў на стол, а то ўжэ кішкі зьліпліся.* Індура Гродз.

**ЛЁГКІЯ РУКІ МЕЦЬ**. Быць схільным да бойкі. *Потамака пасватаўса да міне хлопяц, да багаты. Адно людзі казалі: вельміся ўжэ ніхарошы, лёхкія рукі меў.* Бераставічаны Бераст.

**ЛЫНДЫ ГОЛЫ** *(у каго).* Хто-н. вельмі бедны. *Ціпер ва ўсіх лынды голы, такі час.* Баліненты Гродз.

**МАЯ ТЫ** *пабочн.* Выказванне добразычлівых, даверлівых адносін да каго-н. (у размове з жанчынай, дзяўчынай). *– Ці залатвіла ш ты свае дзялы? – А мая ты! Надаела ўжо язьдзіць. Перш паперы с сальсавету трэбавалі, а ціперака німа начальніка гэтага – у вотпуску.* Косцевічы Астр. *Вой, мая ты, цяпер то, дзякуй Богу, а некалі то што за жыцьцё было.* Лаздуны Іўеў.

**МОЖА** *(каму)* **ЯШЧЭ І БУЛКУ ВАРЭННЕМ НАМАЗАЦЬ** *іран.* Адказ таму, хто просіць што-н. (як правіла, празмерна). *– Дай мне да палучкі паўмільёна. – Нічога сабе, можа табе яшчэ і булку варэням намазаць?* Зэльва Зэльв.

**ДОБРЫХ МЫШЫ ПАЕЛІ** *гумар.-іран.* Каго-, чаго-н. не стала. *Ай, якія тут хлопцы ў нашай вёсцы, адныя алкашы, добрых мышы паелі.* Жылічы Шчуч.

**НА КАРЭЛІЧЫ ПАЙШЛІ** *гумар.* Вельмі заношаныя, закарэлыя (шкарпэткі). *Памыйця мае шкапрпеткі, бо яны ўжэ на Карэлічы пайшлі.* Рутка II Навагр.

**НА СВЕЦЕ (НА СВЯТОЧКУ)**. Зусім, абсалютна. *Так спаць хацелася, што, кажацца, кап выспацца, нічога на сьвеці ні хацела п.* Галубы Маст. *І есьць ні было, то людзі прыносілі: то хлеба булачку, то малачка кісьленькага, і пасуда – усё на сьвяточку згарэла, засталіся такія голыя-босыя.* Ваверка Лід.

**НА ЎСЕ ЧАТЫРЫ**. Наўскач, галопам. *Калі немяц дазнавоўся, што хто з вясковых с партызанамі страчоўся, таго яны прывязвалі да галобляў за рукі і гналі коней на ўсе чатэры.* Рыскі Шчуч.

**НА ЧАТЫРЫ РАЖКІ**. Кавалкавы (цукар). *У нас у сям'і было ўчытырох, сядзям за стол есьці, матка насыпя на стол адному, другому цукру на чытыры рашкі. Мы ўжо ўглядаімся: Ірцы венцай насыпала, мне меняй. Плачу тады.* Сакалы Воран.

**НА ШЫЮ СЕСЦІ** *(каму)* **І НОЖКІ ЗВЕСІЦЬ** *неадабр.* Поўнасцю падпарадкаваць сабе, выкарыстаць каго-н. у сваіх інтарэсах. *Калі так будзяця паддакваць, то ён на шыю сядзя і ношкі зьвесіць.* Ёдкі Лід.

**НЕ Ў ДОЎЗІ**. У хуткім часе. *Мы трохі пачакалі, і ні ў доўзі аўтобус прышоў.* Бабіна Гродз.

**НІ Ў ПЛОТ НІ Ў ГАРОД НІ Ў КРЫВЫЯ ЛЯСКІ** *неадабр.* Няўдалы, нікуды не варты, ні да чога не здатны. *Ну й жаніх – ні ў плот ні ў гарот ні ў крывыя ляскі.* Рыскі Шчуч.

**НЯХАЙ САМ БОГ БАЧЫЦЬ** *выкл.* Выказванне катэгарычнага нежадання бачыць што-н. *Я гас выключыла, схапіла анучу, узяла гэты саган і вынясла. Як я яго аткрыла, так там ня поймяш што: пер'ё, мясо, вантробы, лапы. Няхай сам Бог бачыць!* Пагарэлка Карэл.

**ПАВЕСІЦЬ ШЧОКІ НА ПЛЕЧЫ**. Замаркоціцца, быць не ў настроі. *Што ўжо шчокі на плечы павесіў? Заўтра сходзіш і пашукаяш сваю шапку.* Дзітва Лід.

**ПАД СВЕТ**. Перад раніцай. *Рас пат сьвет прыходзіць Альбіна і гаворыць, што мацяру ўзяла.* Амбілеўцы Шчуч.

**ПАЙСЦІ ДА БОГА Ў ГОСЦІ**. Памерці, пакінуць гэты свет. *Мой даўно ўжо пайшоў да Бога ў госьці, а міне тут пакінуў.* Янапаль Воран.

**ПАЙСЦІ Ў ХОД**. Хутка пабегчы, уцячы. *Яны акно выбілі ды й пайшлі ў ход, ішлі-ішлі, заходзяць у лес і гаворaць: давай мы тут абначлежымся.* Свіслач Свісл.

**ПА КАЛЕНА**. Вельмі многа чаго-н. *Цяшка маё было жыцце, гора было па калена. У мамы было сем дзяцей. Сама яна вдавою засталаса.* Васілевічы Гродз.

**ПАЛЯЦЕЦЬ У КОСМАС** *гумар.* Памерці. *Стары ўжэ. Колькі тут яму засталося, скоро ў космас паляціць.* Сапоцкін Гродз.

**ПАСЯЧЫ НА КУСКІ** *(каго)* **– ЯНЫ ПАДСКОКВАЦЬ БУДУЦЬ** *асудж.* Хто-н. вельмі ўпарты, непакорлівы. *Знайшоў с кім спорыць. Ты ёй ніколі нічого ні дакажаш, яе пасячы на кускі – яны патскокваць будуць.* Красулі Шчуч.

**ПЕНЬ ЯЛОВЫ** *груб.* Тупіца, дурань, бесталковы чалавек. *Пень ты яловы, усё дзела мне заваліў!* Навасады Свісл.

**ПЕРАЕЗНАЯ СВАЦЦЯ**. Дзіця, якое прывыкла быць на руках, якое пераходзіць з рук на рукі старэйшых. *Ну хадзі да мяне, пераезная ты свацьця, толька й сядзела п на руках.* Косцевічы Астр.

**ПОЎНЫ СВЕТ** *(чаго).* Вельмі многа чаго-н. *Той работы ў мяне поўны сьвет.* Куцавічы Карэл.

**ПРАГРЭЦЬ ЛАВУ**. Праседзець доўгі час. *Бывала, ніхто цібе ні вывядзя танцаваць, то так і прагрэяш лаву цэлы вечар.* Мігдалы Воран.

**ПРАЗ ВУШЫ ПАЛЕЗЕ** *(каму), неадабр.* Будзе залішне (пра пераяданне). *Во, яшчэ просіш. А праз вушы ні палезя?* Краснасельскі Ваўк.

**ПЯРУН ПРЫНЁС** *(каго) неадабр.* Хто-н. недарэчы, не ў пару прыйшоў, з'явіўся. *Зноў яго пярун прынёс, ні хапала тут толькі яго.* Каркуцяны Воран.

**РОЗУМАМ РАГАТЫ** *неадабр.* Бесталковы, неразумны. *Усім стала вядома, што хлопец хоць і багаты, але розумам рагаты.* Хадзявічы Слон.

**РУКІ АГЛАБЛЁВЫЯ** *(у каго).* Хто-н. нязграбны, няўмелы. *Ото ш рукі аглаблёвыя, нат нітку ў голку ні зацягня.* Поразава Свісл.

**РУКІ ЗАЛАЖЫЦЬ** *(за што).* Заняцца чым-н., знайсці які-н. занятак для сябе. *Вы падумайця і рашчытайця, якая жысьць прыходзіць на старасьць, як*

*жыць, што рабіць, за што рукі залажыць.* Камяніца Ваўк.

**САЛАДЗІЦЬ ВОДКУ**. Цалавацца па загаду свата, музыкаў ці іншых удзельнікаў у час вясельнага застолля. *Тады марша загралі й селі за стол. Назаўтра, гэта панядзелак быў, вотку саладзілі, на лаву сталі й бралі першае мейсца.* Дайнава Воран.

**САМЫ ЧОРТ**. Вельмі энергічны, лоўкі, шустры чалавек. *Яшчэ я грала ў клубе на дарах і ўсіх хлопцаў зводзіла, была самы чорт.* Дайнава Воран.

**СВАІХ РУК НЕ ПАДЛОЖЫШ** *(пад каго).* Не дапаможаш, не выратуеш ад смерці каго-н. *Як каму суджана: як з доўгім векам, то выжывя, а як другому, то сваіх рук ні падложыш.* Забалаць Воран.

**СКЛАНІЦЬ СВАЮ ГАЛОВАЧКУ**. Памерці, загінуць. *Чалавек мой ні прышоў з вайны, тамака й скланіў сваю галовачку. Засталася я адна.* Сурынка Слон.

**СМАЛЯНАЯ МАМА**. Высокая і тоўстая, мажная жанчына. *Марыся як церас рэку ідзе, то клатка ўгінаецца, от жэ ж смаляная мама.* Поразава Свісл.

**СПАЦЬ ЗА ПЛУГАМ** *неадабр.* Быць няспрытным, непаваротлівым, упускаць зручны момант. *Не сьпі за плугам, бо адаб'юць дзеўку.* Гродзі Ашм.

**ССЯЧЫ КАПУСТУ**. Зарабіць многа грошай. *Калі паедзяш і знайдзеш добру работу, то сьсячэш капусту, але гэта рэтка каму ўдаецца.* Палубнікі Лід.

**СТРАЛА ІХ ЗНАЕ** *неадабр.* Невядома якія. *Алі во што за бабы ціпер, страла іх зная! Мая хату, дачку, і трэба перціся аш з Воранава сюдэ ніведама на чым.* Гурнофель Шчуч.

**СХАВАЦЬ ХВОСТ У ХВАРОСТ** *неадабр.* Стаць асцярожным, нерашучым, баязлівым. *Што, схаваў хвост у хварост. А казаў, што нікога не баіся.* Каркуцяны Воран.

**ТРАПЛО ВАВІЛОНСКАЕ** *неадабр.* Балбатун. *Замаўчы, трапло ты вавілонскае, сам нічога ні робіш і другім мяшаеш.* Кямелішкі Астр.

**ТЫМ КАНЦОМ ПА ТЫМ САМЫМ МЕСЦЫ**. Узаемна. *А яна яму тым канцом па тым самым месцы: кажа, як ты міне паслухаў, так і я цібе паслухаю.* Ліцвінкі Гродз.

**У АДНУ РУКУ**. Суладна, згодна, адзінадушна (жыць, дзейнічаць). *Відзіш, Літва натто мела ўсяго, а ім дастаўляла Амэрыка, бо яны ішлі ў адну руку, а нам, хто ў саветах быў, ніхто ні дастаўляў.* Поліпніца Воран.

**У ВАЧАХ МАТЫЛІ ЛЯТАЮЦЬ** *(у каго).* Хто-н. вельмі стомлены. *Сполаху я ні магу ніяк у сябе прысьці, у вачах матылі лятаюць, ногі паткошваюцца.* Леснікі Лід.

**У ДУШЫ ГАРЫЦЬ** *(у каго).* Хто-н. адчувае вялікае хваляванне. *У хату зайшлі дваём: жаніх мой Мікалай ды сват. А мама ды тато сваіх клікалі на вотку, на дагаворы. У душы тады гарэла, як сэрцайка наружу ні выскачыў.* Белевічы Лід.

**У ПАДОЛЕ ПРЫНЕСЦІ**. Нарадзіць не будучы замужам. *Пабегла з дзеўкамі ў суседню вёску, мацьы нічога ні сказала. Ту яна з дупцом прышла туды і пры ўсіх міне пабіла, тады баяліся, каб у падоле ні прынесла.* Янчукі Шчуч.

**У ПЯКЕЛЬНАЙ БРАМЕ СТАЯЦЬ**. Знаходзіцца ў перадсмяротным стане. *Чалавек мусі ўжэ ў пякельнуй брамі стаіць, бо нат есьці ні бярэ.* Поразава Свісл.

**УСЮДЫ ПОЎНА** *(каго).* Хто-н. рухавы, актыўны, энергічны. *Усюды працавала, усюды міне поўна было.* Пераганцы Воран.

**У ЦАГЕЛАЧКАХ**. Кавалкавы (цукар). *Як калі ў Вільню хадзілі, што-кольвяк куплялі: соль ці цукяр у цагелачках такі быў.* Вялікія Яцыны Астр.

**У ЧОРНЫМ ТВАРЫ**. Вельмі змарнелы, страшны з выгляду. *На клатцы як пачаў мне балець жывот, як нож усадзілі. Я кончыла, узяла ўсё на руку і на дзевачку кажу: «Маня, якая я?» Яна як глянула, зьбялела і кажа: «Ты ш у чорным твары». Гэдак мне жывот балеў.* Задворнікі Астр.

**ХАЙ ЯГО БОМБЫ** *выкл.* Выказванне папярэджання, засцярогі ад чаго-н. непажаданага. *Мушчыны сеялі лён, хіба баба так пасея? У сенажаць клалі, на атаўцы, сохнуць. Потым падбіралі, трапалі. Хай яго бомбы! Цячэ пот па лэбі. Выскачыш, бывала, падыхаяш – ды зноў.* Красулі Шчуч.

**ХАЙ ЯНО ВЫТАНЕ** *выкл.* Выказванне незадавальнення, роспачы, адчаю. *Вот такоё было, тады быў заўсем другі абычай. Бядней жылі, але былі вясёлыя, ніругаліся так, як ціперака, не-а, а ціпер страшна, хай яно вытаня.* Парэчча Гродз.

**ХАЛЕРНЫ КОНЬ** *груб.* Кепскі чалавек. *Пасьля нічога добрага ні бачыла за ім: піў, халерны конь, піў як цэмент воду. Едык мучылася.* Кавалічы Гродз.

**ХАЦЕЙ НЕ ДАЎ** *іран.* Не ўдалося здзейсніць тое, што хацелася. *Хацела паехаць на магілке пачысьціць, ды хацей ні даў.* Ліцвінкі Гродз.

**ХВІГУ ПАКАЗАЦЬ** *(каму).* Нічога не даць каму-н., не праявіць ніякай увагі да каго-н. *Я памагаю, а мне аткуль помачы чакаць, толькі хвігу пакажуць.* Малая Бераставіца Бераст.

**ХОЦЬ НА ХЛЕБ НАМАЗВАЙ** *(каго).* Хто-н. вельмі добры, лагодны, памяркоўны. *Гэта ціпер яны сталі хоць на хлеп намазвай.* Дарані Свісл.

**ХОЦЬ У СТРЭЛЬБУ ЗАКЛАДАЙ**. Вельмі дробныя (яблыкі). *У гэтым годзе яблыкі хоць у стрэльбу закладай.* Скробава Бар.

**ЦЁМНАЯ ХМАРА**. Цяжкае становішча, змрочны час. *Але пажыць хазяіну тут было мала, забіла токам яго. Добры чалавек быў. Засталася я адна, надышла над намі цёмная хмара.* Будраўцы Шчуч.

**ЦІ ТО ЕЎ ЦІ ТО РАДЗІВА СЛУХАЎ** *іран.* Не наеўся, не насыціўся. *Дай яшчэ чаго, бо наліла некаго супчыку, міску зьеў і ні паняў, ці то еў ці то радзіво слухаў.* Навасёлкі Слон.

**ЦУД ПАНСКІ** *выкл.* Выказванне здзіўлення, захаплення нечым незвычайным, неверагодным. *Ну цуд панскі, такі малы, а столькі ягат нашморгаў.* Бабіна Гродз.

**ЦЭЛАЕ БЯРЭМЯ**. Вельмі многа чаго-н. *Жыць добро, але маю лет цэлае бярэмя, але жыць ужэ не ўрэмя.* Талькаўцы Ваўк.

**ЧОРТ НА БАСІНЫ ПАНЁС** *(каго).* Куды-н. пайсці, паехаць і доўга не вяртацца. *І куды гэты Янка дзеўся? Дапраўды, чорт на басіны панёс.* Яцыны Астр.

**ЧОРТ ПАДСЫКНЕ (ПАДСЫКНУЎ)** *(каго).* Хто-н. можа трапіць у небяспечную сітуацыю. *Ні перагінайса ў калодзісь, ба чорт патсыкне, і паляціш уніс галавой. Якая прычына, цяшко сказаць. Ні ў добру мінуту чорт патсыкнуў, і накінуў чалавек на сібе пятлю.* Бабіна Гродз.

**ЧЭРЦІ ЗА БОКІ КУСАЮЦЬ** *(каго), неадабр.* Хто-н. паводзіць сябе не так, як трэба. *Што, чэрці за бокі кусаюць?! Скачаш тут, людзей пазорыш!* Падзітва Воран.

**ШЛЯХТА ЗАСЦЯНКОВАЯ** *іран.* Чалавек, які адмаўляе наяўнае, якога не задавальняе тое, што яму прапануюць. *Купіла рубашку, то ні адзеў нават, сама, кажа, насі гэтую рубашку. От шляхта засьцянковая.* Косцевічы Астр.

**ШТО ДУХ СТАІЦЬ**. Вельмі хутка (бегчы). *Я бегла што дух стаіць, думала, мо што там у хаці зрабіласа.* Замасцяны Шчуч.

**СКАЗАЎ ШТО ПЛЮНУЎ**. Абы-што, недарэчы. *Сказаў што плюнуў: кажа, у цябе вочы, як у кроліка.* Ляшчанка Шчуч.

**ЯЗЫК ДА ПУПА (ДА ПЯТАК)** *(у каго), неадабр.* Хто-н. вельмі балбатлівы. *У Мані язык да пупа, пра ўсіх ведая, пра ўсіх табе нагаворыць.* Дубна Маст. *А ў яе язык да пятак, толькі сядзіць і абгаворвая ўсіх.* Падлабенне Гродз.

**ЯК БОГ ДАЎ**. Неабавязкова, як прыйшлося, як сталася. *І вот мы ўсе сабіраліса прасьць па вочарадзі, па тыдню, у кожную хату, дзе была дзеўка ў хаце. Прасьць як Бох даў. Прыходзілі кавалеры, сьпявалі, танцавалі.* Парэчча Гродз.

**ПРАЎДА ЯК ВОШ БРЭША (КАШЛЯЕ)** *іран.* Зусім не (праўда). *Думаяш, ён табе скажа праўду. У яго такая праўда як вош брэша. Ні слухай ты яго, гэта такая праўда як вош кашляя.* Алекшыцы Бераст.

**ЯК ДЗІКІ АСЁЛ**. Вельмі многа (працаваць). *Хто працаваў як дзікі асёл, той такі і пеньсіі зарас палучаюць, што цяшка пражыць.* Астрына Шчуч.

**ЯК ДОЛ**. Вельмі п'яны. *Алі й напіўся як дол, языкам ні мох варочаць.* Войтаўцы Гродз.

**ЯК ЖАБА Ў ЛАПЦЯХ** *іран.* Недарэчна (выглядаць у якім-н. адзенні). *Купіла абноўку і хваліцца, ні бачыць, што ў ёй як жаба ў лапцях.* Навасады Свісл.

**ЯК КАЛОМ НАБІТЫ**. Поўны, цалкам запоўнены. *Цэрква сёння была як калом набіта.* Куляшы Шчуч.

**ЯК КАРОВА ПАЖАВАЛА І ВЫПЛЮНУЛА** *(каго).* Хто мае неахайны выгляд. *Ну й відок у цябе сёньня, як карова пажавала і выплюнула.* Навасёлкі Слон.

**ЯК КОШЫК** *неадабр.* Вельмі (тупы, неразумны). *Такі ўжо нідалёкі, тупы як кошык.* Кямелішкі Астр.

**ЯК КУЛЁМА**. Вельмі цёпла (апрануцца). *Ні крычы ты на дзіця, пусьці, хай ідзе, ні зьмерзьне, бачыш жа ш, адзелася як кулёма.* Гервяты Астр.

**ЯК МАЯ ДОЛЯ**. Дрэннае, няўдалае што-н. *Нажэ гэтыя як мая доля, мо ні разу нігостраныя.* Навагрудак Навагр.

**ЯК НА БАРАНЕ ПРАЕХАЦЬ**. Вельмі дрэнна, няўдала (пражыць). *А зажыла, дзеткі, усяго: голат, вайна, век пражыла як на баране праехала.* Адэльск Гродз.

**ЯК САД НА ПАГОДЗЕ**. Вельмі добра, у росквіце (жыць і пад.). *Нехта жывець як сад на пагодзе, а некаму ні шэньціць.* Косцевічы Астр.

**ЯК СВІННЯ МЫЛА** *неадабр.* Празмерна (наесціся, напіцца). *На нагах ні стаіць, ідзе і падая, наеўся як сьвіня мыла.* Шылавічы Слон.

**ЯК СТОЙ (ЯК СТОЯ)**. Без нічога, без рэчаў, без маёмасці. *Мы цябе бяром як стой, нічога ні нада, ні пасагі, нічога.* Альхоўка Астр. *Немец атступаў, спаліў міне, усё як стой асталася. Усё, праўда, было. І ўсё як стоя асталася: і боса, і гола, і вайна тут, і дзеці, двое малых дзяцей было.* Паляжын Зэльв.

**ЯК ТОКАМ ПРАБІЛА** *(каго).* Раптоўна ўразіла каго-н. *Ксёнц вычытаў запаведзі: «Букель Чэслава с Попішак». І мяне як токам прабіла з нох да галавы.* Попішкі Астр.

**ЯК ТОРБА ЖЫТА**. Зусім, бясследна (прапасці). *Можаш ні шукаць ножнаў, я ўжэ цэлы тыдзянь шукала, прапалі як торба жыта.* Драчаны Свісл.

**ЯК ТУЗ**. Нерухома (ляжаць). *Тут Язэпа павалілі, насадзілі фанароў, адлупілі так, як трэба, і пашлі самы дамоў. Ужо й пад бочкамі патухла, а Язэп ляжыць як тус.* Голдава Лід.

**ЯК У ТУМАНЕ**. У стане вялікай разгубленасці, глыбокай безразважнасці. *Вянчалася я зь ім як у тумане, не помню анічога. Пражылі гот, усяго было, хіба толькі шчасьця не ставала.* Лылойці Смарг.

**ЯК ЦЁМНЫЯ ХМАРЫ**. Канчаткова, назаўсёды (разысціся, расстацца). *А бацька ляжаў на печы, ён не змох болей этао відзяць, выскачыў і закрычаў: «Нашто ты яе б'еш? Рас яны любяцца, хай жэняцца». А матка не дала. Ён пайшоў. І разышліся мы як цёмныя хмары.* Вайкунцы Воран.

**ЯК ШЫЛА Ў МЫЛА**. Вельмі лёгка, спраўна, без перашкод. *Вазьмем землю, станям фермярамі, і дзяла нашыя пайдуць як шыла ў мыла.* Ранявічы Свісл.

**Скарачэнні**

Эмацыянальна-экспрэсіўныя і іншыя паметы: *асудж.* – асуджальнае, *выкл.* – выклічнікавае, *груб.* – грубае, *гумар.* – гумарыстычнае, *зневаж.* – зневажальнае, *іран.* – іранічнае, *насм.* – насмешлівае, *пабочн.* – пабочная канструкцыя.

*В. М. Касцючык*

# ФРАЗЕАЛАГІЗМЫ З РОДНАЙ ВЁСКІ

Фразеалагізмы, пададзеныя ў падборцы, занатаваны ў вёсцы Заазёрная Маларыцкага раёна, што знаходзіцца на мяжы з Украінай. Зафіксаваны яны былі пераважна ад маёй маці, Касцючык Вольгі Іванаўны, якая валодае здольнасцямі чараваць яркім словам.

**БО́ЧКУ ОРЫШТА́НТУВ** *(наговорыты)*. Вельмі многа і абы-чаго. *Він тобі́ наговóрыть бóчку орыштáнтув, тыко слýхай éго.*

**БУ́ТЫ НА КОНІ́ І ПОД КОНЁМ**. Зведаць цяжкасці ў жыцці, быць у розных жыццёвых абставінах. *Огó, то бач бáба! Онá булá на коні́ і под конéм, всё прошлá і всё бáчыла.*

**БЫЧКО́ВА КА́ШКА**. Малодзіва. *Я вас зáра, ді́ткы, покормлю́ бычкóвыю кáшкою.*

**В ЗАПОРІ́ЖЦЫ (ІТЫ́)**. (Ісці) глядзець вяселле, маладых. *Колы́ся всі шлы дывы́тыся высі́лле, в запорі́жцы.*

**ВЛІ́ЗТЫ В О́ЧЫ** *(каму)*. Спадабацца каму-небудзь. *От, влі́зла в óчы éму, ны подывы́вся, шчо ды́те е.*

**В ОДНУ́ ДУ́ДКУ ГРА́ТЫ** *(з кім)*. Дзейнічаць у адных інтарэсах з кім-небудзь, заадно. *Оны́ в однý дýдку грáлы, ім трэ́ба булó мэнэ́ вы́дворыты.*

**ВОДО́Ю НЫ РОЗЛЫЕ́Ш** *(каго)*. Вельмі дружныя, неразлучныя, заўсёды разам. *Такы́йі вжэ падрýгы стáлы, шо водóю ны розлыéш, хóдять, як спрéжоны.*

**В ПЛЭ́МЫТЫ ЛЫХЫ́ЙІ** *(побігчы)*. У невядомым кірунку. *Тáя Жýча такáя булá врыднюча тылýшка, як пíдэ в плэ́мыты лыхы́йі, шо і с собáкою ны догóныш.*

**ВЫ́ХАТЬКАТЫСЯ З БЫДЫ́**. Выздаравець, паправіцца. *То захворі́ты лэгкó, а як-то вы́хатькатыся з тэ́йі быды́.*

**ГА́КАМЫ НЫ ОТТЕНЫ́Ш** *(ад чаго)*. Ніяк не прымусіш некага адмовіцца ад чаго-небудзь прывычнага, любімага. *Шэ éйі і гáкамы ны оттены́ш ад тэ́йі вісовэ́йі.*

**ГОЛО́ВЫ ПОХЫЛЫ́ТЫ**. Загінуць. *Скі́лько йіх под Варшáвою голóвы похылы́лы, шчóту нымá.*

**ДА́ТЫ НЫ́ЦТУ** *(каму)*. Зняважыць каго-небудзь, знайсці загану ў кім-небудзь. *То бач і обі́да булá, шо онá далá ны́цту éму посля запóйін.*

**ДА́ТЫ ПРОЧУХА́НЦЯ** *(каму)*. Пабіць каго-небудзь. *За ты́йі грóшы ёму далы́ прочухáнця, шэй якóго.*

**ДА́ТЫ ПРЫПАЛЕ́НСКОГО** *(каму)*. Пакараць каго-небудзь. *Нымá комý надавáты по тэ́му горбóвы, дáты прыпалéнского.*

**ДУШУ́ ВЫМО́ТУВАТЫ** *(каму)*. Даводзіць каго-небудзь да знямогі, дапякаць, назаляць каму-небудзь. *Чогó ты мні душý вымóтуеш, мотýзыш мэнэ́?!*

**ЗАВ'Е́ЗУВАТЫ БІ́ЛЫЙ СВІТ**. Рабіць сабе жыццё несвабодным і бязрадасным. *І шэ хоті́лося іты́ за такóго п'éныцю зáмуж, зав'éзуваты бі́лый світ.*

**ЗАКРУНУ́ЛО В ГОЛО́ВІ** *(каму)*. Хто-небудзь надумаўся зрабіць нечаканы ход. *Закрунýло в голóві – пойі́хав в Éмыцю на похмі́лле.*

**ЗА́ ЧУБЫ ВОДЫ́ТЫСЯ** *(з кім)*. Біцца. *Шэ за ты́йі спáдкы будуть зá чубы воды́тыся.*

**ЗБЫ́ТЫСЯ З ПАНТАЛЫ́КУ**. Дайсці да замяшання, разгубленасці; заблытацца. *Я шось зусі́м збы́лася з панталы́ку, нычóго ны понімáю з тогó, шо ты кáжыш.*

**З ГО́ЛЫМЫ РУКА́МЫ** *(прыйты)*. Нічога не маючы пры сабе. *То ж з гóлымы рукáмы ны пі́дэш, трэ́ба шось купы́ты.*

**З'ЇІ́СТЫ СУХЫ́М РО́ТОМ**. Не скарыстаць, марна патраціць што-небудзь, не знайсці прымянення чаму-небудзь. *То якóесь воротáло... З'йів сухы́м рóтом тарéлку сýпу, всё на подлóзы.*

**З РУК НЫ СПУСКА́ТЫ** *(каго)*. Увесь час насіць на руках каго-небудзь. *Вжэ тогó Антóнчыка оны́ і з рук ны спускáлы, глядí́лы як óка в лобóвы.*

**ЗУБ НА ЗУ́БА НЫ ПОПАДА́Е** *(у каго)*. Хто-небудзь дрыжыць ад холаду. *Такáя холоді́на в тэ́йі пырэ́днійі – зуб на зýба ны попадáе.*

**І НА НЫ́ХОТЬ**. Зусім (няма). *Шэ тобі́ хóчыцця стóеты слýхаты, тут жэ прáвды і на ны́хоть нымá.*

**ІТЫ́ НА ГЫРУ́** *(з кім)*. Задзірацца, спрачацца з кім-небудзь. *Ны хóчу на гырý і́ты з ім, нашó мні врагі́в напы́туваты.*

**І У́ХОМ НЫ ВЫСТЫ́**. Ніяк не рэагаваць, не звяртаць ніякай увагі на што-небудзь. *А він і ýхом ны выдэ́, шо мóгуть робóты лі́шыты, вы́гнаты.*

**КОЗЛЫ́ НЫ ТОВКУ́ТЬ** *(каго)*. Недзе нядрэнна каму-небудзь. *І там козлы́ ны товклы́, мóжна булó робы́ты.*

**КОНЦІ́В ЗВЫСТЫ́** *(ны можна)*. (Нельга) разабрацца ў чым-небудзь, давесці да канца што-небудзь. *А шо ж я полочý ты́йі нышчáсныйі двéсте ты́сяч, ны мóжна конці́в звысты́, то там, то тут нáйдыцця ды́рка.*

**КОНЦІ́ З КОНЦЕ́МЫ НЫ СТЯГНУ́ТЫ**. Нельга задаволіць жыццёвыя патрэбы, знайсці выйсце з цяжкага матэрыяльнага становішча. *А шо ж хоті́ты, жывэ́м на однý зарплáту, конці́ з концéмы ны стягнýты.*

**КРОВА́ВЫМЫ СЛЁЗА́МЫ** *(плакаты).* Горка, няўцешна. *Шэ бу́дэш пла́каты крова́вымы слёза́мы, як умрэ́, ны ста́нэ его́.*

**КРЫШЫЧКЫ́ ПОЗБЫРА́ТЫ** *(з каго).* Быць вельмі падобным на каго-небудзь з бацькоў. *Алэ ж і похо́жа на ба́тёчка, крышычкы́ з его́ позбыра́ла.*

**МОРО́З ПО ТІ́ЛОВЫ ІДЭ́** *(у каго).* У каго-небудзь узнікае непрыемнае адчуванне ад раптоўнага страху, хвалявання. *Аж моро́з по ті́ловы ідэ́, як поду́маеш, скі́лько гро́шы трэ́ба бу́дэ на ту́ю стро́йку.*

**НА ГОЛОВІ́ ХОДЫ́ТЫ.** Вельмі сваволіць, дурэць; рабіць, што захочацца (звычайна пра дзяцей). *Як пособыра́ющя ты́йі вну́кы, то на голові́ хо́дять.*

**НА СВЭ́ЙІ ШКУ́РЫ** *(іспытаты).* Непасрэдна самому (адчуць, прайсці праз што-небудзь). *Я на свэ́йі шку́ры іспыта́ла, як тобо́ю ганьбу́ють, ты йім ны трэ́ба.*

**НА ТРІ́СКУ** *(высохнуты).* Вельмі моцна (схуднець). *Вжэ, му́сыть, ху́тко ду́ба дасы́, на трі́ску вы́сохла в тэ́му го́роде.*

**НА ЧЫРЫПКА́** *(высохты).* Вельмі моцна. *Обі́дьвы вы́сохлы на чырыпка́, худю́шчы такы́йі.*

**НО́ГА НЫ ПОСТА́НЭ** *(дзе).* Хто-небудзь не з'явіцца недзе. *Вжэ кажу́ так, як бу́дэ, зарыка́юся, шо моя́ нога́ ны поста́нэ на твэму́ поро́говы.*

**НО́ГЫ ВЫ́ХОДЫТЫ.** Моцна стаміцца ад доўгай хады, беганіны. *Но́гы вы́ходыла за ты́мы дытьмы́, так оны́ мэнэ́ вы́водылы шо вы́водылы.*

**НЫ НА́ ОЧЫ** *(каго).* Ненавідзець, зусім не хацець бачыць каго-небудзь. *Алэ пташкы́ і то. Як ты́ко ныздюбы́лы того́ калі́чку, про́сто ны на́ очы его́.*

**ОДНЫ́М КОРЖО́М.** Поўнасцю; вельмі моцна. *Ны зна́ю чого́, алэ одны́м коржо́м злыло́ выд.*

**ОДНЫ́ О́ЧЫ ТОРЧЕ́ТЬ** *(у каго).* Нехта вельмі худы, змарнелы. *Та́я Та́ня як с концла́гера, одны́ о́чы торче́ть.*

**ОДУРЫ́ТЫ ГО́ЛОВУ** *(каму).* Надакучыць каму-небудзь пастаяннымі просьбамі. *Так одуры́лы го́лову, шо, здае́щя, в світ бі́лый пошла́ б от вас.*

**ПА́ЛЫЦЬ О ПА́ЛЫЦЬ НЫ СТУ́КНУТЫ.** Анічога не зрабіць. *Шэ па́лыць о па́лыць ны сту́кнулы всі, за всё ба́тько отвіча́е.*

**ПОМЫНЕ́ТЫ ШЫ́ЛО НА МЫ́ЛО.** Зрабіць што-небудзь неабдумана, выбраць горшае. *А то та́я дру́га бу́дьбы лі́пша за жі́нку, помыне́в шы́ло на мы́ло.*

**ПОПОЗБЫВА́ТЫ КУЛАЧКЫ́.** Папапрацаваць, каб нешта набыць. *Попозбыва́в ба́тько кулачкы́ на ту́ю ха́ту, шоб поста́вытьі е́йі.*

**ПРОТЯГНУ́ТЫ НО́ГЫ.** Памерці. *Ты́ко як проте́гныш но́гы, тогді́ отдыхнэ́ш.*

**ПРЫ БУБНО́ВЫХ ІНТІРЕ́САХ** *(остатыся).* У тым самым становішчы, з тым, што было. *Ой, ны кыда́й, пока́ ны найшо́в дру́гу. Бою́ся, шо ты оста́нышся пры бубно́вых інтере́сах з тэ́ю робо́тою.*

**РУКА́МЫ НЫ СТЯГЧЫ́.** Што-небудзь высокае, густое, кусцістае (звычайна пра жыта, пшаніцу). *Ах, і жы́то-жы́то вроды́ло тогді́, рука́мы ны стягчы́.*

**СВОЙІ́МЫ ПЯТТЮ́ ПА́ЛЬЦЯМЫ** *(заробыты).* Сваёй працай, самастойна, без чужой дапамогі. *А мні ны сты́дно за сэбэ́, я на всё заро́была свойі́мы пяттю́ па́льцямы.*

**СТРОМ ГОЛО́М** *(побігчы, полытіты).* Вельмі хутка, імкліва. *Ды́ся з цэпу́ сорва́лыся, полыті́лы стром голо́м ты́йі дыты́ска.*

**ТЫ́КО ПТАШЕ́ЧОГО МОЛОКА́ НЫМА́** *(у каго).* Усяго ўволю, удосталь у каго-небудзь. *Ты́ко пташе́чого молока́ ў іх ныма́, жыву́ть в такэ́му доста́тковы.*

**ХОДЫ́ТЫ В ЗАВІВА́СЫ.** Быць у пастаяннай рабоце, руху; безупынна хадзіць. *За ці́лый дэнь ны спуска́лася з ныг, ходжу́ й ходжу́ в завіва́сы.*

**ХОДЫ́ТЫ ПО ПОСЫДІ́НКАХ.** Хадзіць ад хаты да хаты, нічога не рабіць. *Она́ прывы́кла ходы́ты по посыді́нках, ты е́йі ны заста́выш робы́ты.*

**ЦІ́ПЫ В'ЯЗА́ТЫ** *(з кім).* Даводзіць каго-небудзь да спрэчкі, правакаваць лаянку, непрыязнасць. *Ты́ко ці́пы в'е́жэ з малы́мы, пойіда́ещя з йі́мы.*

**ШКУ́РА ГОВО́РЫТЬ** *(на кім).* Хто-небудзь залішне рухавы, неспакойны, няўрымслівы. *Шку́ра гово́рыть на тэ́му хло́пцёвы, і міну́ты ны посыды́ть на мі́сцы.*

**ЯК ПО́ЧКА В СА́ЛОВЫ** *(жыты).* Прывольна, у поўным дастатку. *А які́йі в е́йі пробле́мы, всё чолові́к зро́быть, жывэ́ як по́чка в са́ловы.*

**ЯК У БУ́БЭН БЫ́ТЫ.** Гаварыць пра адно і тое ж, пастаянна даводзіць сваё. *Я ёму́ як у бу́бэн бы́ла, шо бу́дэ хо́лодно, трэ́ба ку́ртку бра́ты.*

*І. Д. Осіпаў*

# ЛЕКСІЧНАЯ СКАРБОНКА СОЖСКАГА ПАЛЕССЯ

Прыведзены матэрыял сабраны ў наваколлі роднай вёскі Абакумы Лоеўскага раёна Гомельскай вобласці. Наяўныя звесткі – частка асноўнай этнаграфічнай працы па вывучэнні лакальнай культуры «Суток Сажа з Дняпром». Яна рэпрэзентуецца невялікай вёскай Абакумы. Лакальнасць культуры вызначана геаграфічнымі ўмовамі: тэрыторыя знаходжання вёскі абмежавана рэкамі (*Дняпро, Сож*) і лесам – балотнымі масівамі (урочышча *Вялікае Балота*). Акрамя таго, мясцовасць была доўгі час па-за развіццём і ўздзеяннем «гарадскога» фактару з-за яе цяжкадаступнасці і адсутнасці нейкай прамысловай вытворчасці.

Вывучэнне культурных здабыткаў аднаго месца (лакальнай культуры) нібыта і прасцей, але ў сапраўднасці гэта больш адказная і цяжкая праца. Лакальная культура ахоплівае ўвесь матэрыяльны і духоўны пласт, таму яе асэнсаванне не можа ісці толькі ў адным напрамку: трэба бачыць і вывучаць усё адразу.

Даследаванне лакальнай культуры праз апісанне мясцовых традыцый і «філасофіі» тутэйшага насельніцтва дазваляе бачыць шматлікасць і складанасць узаемадзеяння паміж людзьмі ў абмежаваным прасторавым асяроддзі.

Адным з элементаў вывучэння лакальнай культуры міжрэчча Сожа і Дняпра з'яўляюцца малыя фальклорныя формы – прыказкі і прымаўкі і іншыя як адметныя ўзоры вусна-паэтычнай творчасці мясцовых людзей.

Асаблівасцю комплекснага даследавання культуры лакальнага рэгіёна з'яўляюцца пэўныя складанасці ў назапашванні матэрыялу: устойлівыя, адметныя сродкі маўлення не маюць рэгулярнага характару ўжывання. Толькі некаторыя прымаўкі і прыказкі выкарыстоўвацца ў паўсядзенным жыцці часта. Іншыя з іх ужываюцца толькі пры спрыяльных абставінах.

Для дадзенага рэгіёна характэрна мноства моўных асаблівасцей, але найбольш выразнай рысай выступае адсутнасць «дзекання» пры наяўнасці «цекання». Іншыя дыялектныя адметнасці з'яўляюцца такімі ж, як у большай частцы сярэднебеларускіх гаворак паўднёва-ўсходняй лакалізацыі.

**АДІ́Н З СО́ШКАЮ, А СЯМЁРА З ЛО́ЖКАЮ** *прык.* На працы аднаго гаспадара звычайна трымаюцца ўсе. *А ў іх во то́льки Іва́н за плу́гам і з касо́й. А яны́ да́йжа не памага́тыя! У іх, як каза́лі, аді́н з со́шкаю, а сямёра з ло́жкаю* [1].

**АДНА́ БЯДА́ НЕ ХО́ДІЦЬ – ДРУГУ́Ю ЗА САБО́Й ВО́ДІЦЬ** *прык.* Калі здараецца адна бяда, то цягне за сабой і другія няшчасці. *Дык то́е е́халі мы ўчо́ра – і аглО́бліна зламі́лася, тады́ знайшлі́ асі́навую, замяні́лі яе́ і дале́й паехалі. Ко́лькі ме́траў прае́халі – хаму́т развязаўся! Да са́май но́чы так і е́халі! – Так яно́ так, адна́ бяда́ не хо́діць – другу́ю за сабо́й во́діць*! [1].

**АЖ НЕ ПАСПЕ́ЕШ ПЛАТКО́М МАХНУ́ЦЬ.** Вельмі хутка, што і не паспееш вачыма павесці (міргануць). *Ён так праімча́ўсь, што а́ж не паспе́еш платко́м махну́ць*! [6].

**А НА ЗАКУ́СКУ – СЕ́РУ ГУ́СКУ** *прым.* Дадатак да нечага, асноўнага. *Ну што, по́йдам ўжэ на двор? – Не, яшчэ́ не ўсё, шчэ на заку́ску – се́ру гу́ску!* [15].

**А НЕ Ж НЕ** *выкл.* Чаму не? Канешне. *Ты ўжо за грыба́мі схаді́ў? – А не ж не! Я ўжэ сваі́ грыбы́ ўзяў*! [15].

**АПАНТА́ЛІ НЯЧЫ́СТЫЯ** *высл.* Пра нядобрыя сілы, што забралі да сябе чалавека. *Апанта́лі ягó нячы́стыя*! *П'ёць ён ко́жан дзень*! [13].

**А ТО Ж ТО** *выкл.* Дакладна так, менавіта так. *Яно́, віднó, тóе дóбра так ўзара́ць! – А тó ж то!* [15].

**А ТЫ, БО́ЛДА** *выкл.* Лаянка на чалавека, жывеліну. *А ты, бо́лда! Куды́ ле́зеш! Парэ́жу – і ў суп!* [15].

**БАЧ** *выкл.* Зварот звярнуць увагу на нешта. *Бач! Ля́ціць аро́л, ось та́мака!* [15].

**БО́ГУ НЕ ЎГАВО́Р** *высл.* Ужываюць ад урокаў. Кажуць таму, хто хваліць нешта (некага). *До́брая бу́льбачка ў вас, до́бра ўраді́ла сёлета. Бо́гу не ўгаво́р, як збяро́м, тады́ пагля́дам, хо́піць, а ці не* [10].

**БУ́СЕЛ, ДАЙ ЗАКУРЫ́ЦЬ** *высл.* Гавораць, каб не спужаць бусла і не наклікаць бяду [17].

**БУ́СЕЛ СКАЗА́Ў: ХОЦЬ СНЕ́ГАМ УДАЎЛЮ́СЯ, А НА БЛАГАВЕ́ШЧАННЕ ЯЎЛЮ́СЯ** *прым.* Прыляцелі буслы – прыйшла вясна [15].

**ВО́ЧЫ ВЫ́РАЗАЦЬ** *высл.* Сказаць усю праўду прама ў вочы. *Чаго́ ён ніचо́га табе́ не сказа́ў? Маўча́ў, маўча́ў, а калі́ по́зна ўжо було́, во́чы вы́разаў, ўсё як след расказа́ў* [15].

**ВУ́ХА АДАРВЕ́ЦЦА – ГЛЁК РАЗАБ'Е́ЦЦА** *прым.* Трэба быць асцярожным у любой справе. *Ты ціхенька е́тае рабі́! А то, як казалі, вуха адарве́цца – глёк разаб'е́цца*! [10].

**ГЛУХА́Я ЯК ПЕЧ!** *параўн.* Глухі, які дрэнна чуе. *Я ўжо нічо́га не чу́ю! Глуха́я як печ!* [15].

**ГЛЯДІ́, МЫ́ЛА!.. ГЭЦЬ ПАД РЫ́ЛА!** *забаўл.* Калі кажуць малым дзецям, праводзяць па шыі рукой (казычуць) [6].

**ГО́ЛАВУ ДУ́РЫЦЬ** (*ба́бе*). Надакучаць. *Да, прыхо́діла ба́ба Во́ля, дак я і не ўпарадкава́ла нічо́га. Папрыхо́дяць – го́лаву ду́раць ба́бе!* [15].

**ГО́РА ДЫ́Й ГО́ДЕ НАМ** *выкл.* Усё добра. Нічога страшнага. *Дождж бо́йкі не дае́ нам се́на пасушы́ць! Ды нічо́га, ка́жуць, зáўтра ўжо со́нейка вы́скаліцца. Го́ра дый го́де нам! Бу́дам за́ўтра ўжо се́на сушы́ць* [10].

**ГО́РА НЕ ЎХВА́ЦІЦЬ**. Астацца непакараным, мінаць бяду. *Яго́ го́ра не ўхва́ціць! Ўскрозь яму́ ўсё схо́діць!* [13].

**ГО́РА ЯГО́ ДУ́ШУ ЗНА́Е** *выкл.* А хто яго ведае! Чорт яго ведае! *Го́ра яго́ ду́шу зна́е, ад чаго́ так е́ты лес называ́ецца!* [13].

**ГРА́МАТУ ЗА ПЛЯЧЫ́МУ(А) НЕ НАСІ́ЦЬ** *прым.* Адукацыя ніколі не замінае. *Вучы́ся, вучы́ся – тады́ рабо́таць бу́деш! Ка́жуць, гра́мату за плячы́му не насі́ць!* [6].

**ГУ́ШЧА ДЯЦЕ́Й НЕ РАЗГО́НІЦЬ** *прым.* Разам лепей; у адзінстве – моц і сіла. *А вы ра́зам ідí́це, бу́да спарне́й рабо́та. Гу́шча дяце́й не разго́ніць. Упра́віцеся ско́ранька і пойдíце гуля́ць* [15].

**Е́ТА ХАЙ МЫША́М. А НАМ – СТА́ЛЬНЫЯ, КРЭ́ПЕНЬКІЯ**. Дзіцячая замова на новыя зубы [15].

**ДЮ́БКУ ЗВЯРНУ́Ў**. Пра чалавека, які шмат з'еў. *Шо, дю́бку звярну́ў! Каза́ла я табе́: не трэ, бо сто́лькі ясі́!* [15].

**Е, НЯМА́ – НІЧАЕ́ Е́ТА ДЕ́ЛА**. Кожны мае права на ўласнае жыццё. *Да шо́ вы ўсе яго́ му́чыце! Скажы́ е, нямá – нічае́ е́та де́ла! Адчапі́цеся ад яго́*! [20].

**Е́ТАЕ НІКО́МУ НЕ ЗЛАМА́ЦЬ – КЛЮЧ, ЗАМО́К, ЯЗЫ́К** *зам.* Канчатковая частка замовы [15].

**ЖЫВЫ́ ЖЫВЫ́М І ДУ́МАЕ (ЖЫВЫ́М ЖЫВО́Е І ДУ́МАЕ)**. Цяжкасці пераадольваюцца маладымі. *Ну вы малады́я, паку́ль малады́я вучы́цеся. Жывы́м жыво́е і ду́мае. А мы, стары́я, ужо́ як-не́будь* [15].

**ЗАГЛЯ́НЕ СО́НЦА І Ў НА́ША АКО́НЦА** *прым.* Усё будзе добра. *Яно́ то́е трэ́ба вялі́кай вады́ ў ле́се, а то ўсё заплыве́ бры́днем. Ка́жуць, вялі́кая вада́ бу́де. Загля́не со́нца і ў на́ша ако́нца!* [1].

**З ГРА́МАЦІ – ХЛЕ́БА НЕ ГА́МАЦІ** *прык.* Адукацыя нічым не дапаможа. *Пае́ду вучы́цца. – А яно табе́ то́е трэ́ба? Далёка ад ха́ты, ад ба́цькі. Э-эх, з гра́маці – хле́ба не га́маці. Астава́ўсь бо ту́така* [15].

**І АДСЮ́ЛЯКА ГО́РАЧА І АДТУ́ЛЯКА БО́ЛЯЧА** *прык.* Усюды існуе нешта адмоўнае. Там нешта не так зрабіў, тут нешта не так атрымалася. *Да й не ахо́та нічо́га рабі́ць – ўсе не́шта не магу́: і адсю́ляка го́рача і адту́ляка бо́ляча!* [1].

**ІВА́Н-БАЛАБА́Н КАЧАРЫ́ЖКІ КАВА́Ў – ЖЫДА́М ПРАДАВА́Ў, ЖЫДЫ́ НЕ КУПІ́ЛІ – ЙВА́НУ ЖО́ПУ АБЛУПІ́ЛІ** *дражн.* [3].

**ІВА́ШКА – КРА́СНАЯ РУБА́ШКА** *прым.* Кажуць малым дзецям. *А хто е́тае сяді́ць на пе́чы? Іва́шка – кра́сная руба́шка! Хадí сюды́, канхве́тачку дам* [16].

**(ІМЯ) ГУ! – НА ПРА́ВАЕ ВУ́ХА. (ІМЯ) ГУ! – НА ЛЕ́ВАЕ ВУ́ХА. ЛЯ́КУ, ЛЯ́КУ – ІДІ́ Ў...** Замова ад злякання (ад спуду) [6].

**І КО́ЗЫ СЫ́ТЫ – І СЕ́НА ЦЭ́ЛА** *прым.* Пагадненне. Вось і дамовіліся. *Ко́лькі аўчы́на бу́де мне каштава́ць? – Дак я і ня зна́ю! Ты сам глядí. Ко́лькі гро́шаў запла́ціш – сто́лькі і до́бра бу́да! І прыхо́дь тады́. Ска́жаш тады́, мы і дамо́вімся. Каб і ко́зы сы́ты – і се́на цэ́ла было́!* [12].

**І́ХНЯЯ МА́ТКА НЕ ЗДО́ХЛА** *выкл.* Усё добра, нічога страшнага няма. *І́хняя ма́тка не здо́хла! Хоць ры́ссю е́хаць ня бу́дам, а паціхе́ньку і табе́ давязё́м!* [20].

**КАБ ВАС П'Я́ЎКІ ПІЛІ́**. Лаянка на каго-небудзь ці што-небудзь. *Ізно́ў напілі́ся! Каб вас п'я́ўкі пілі́! Не прыхо́дзьце даха́ты! Не ачыню́*! [3].

**КАБ ТВАЕ́ РЭ́ЧЫ ТАБЕ́ Ў ПЛЕ́ЧЫ** *праклён.* Зло, адрасаванае чалавеку, вернецца самому моўцу. *Ты глядí, я́блыкі так не рэж, а то парэ́жыш па́льцы. – Каб твае́ рэ́чы табе́ ў пле́чы! Не кажы́ тако́е!* [11].

**КАБ Ў САМАГО́ ДУША́ ВЫ́ЛЕЗЛА** *праклён.* *Дак, е́нты п'я́ны ка мне ў двор залёз, я́блыню зламі́ў! Каб ў яго́ ў самаго́ душа́ вы́лезла!* [3].

**КАБ ЦЯБЕ́ ПРА́НЦЫ З'Е́ЛІ!** *праклён. Пра́нцы* 'сіфіліс'. Праклён праз пажаданне хваробы. *Е́тае яны́ я́блыкі кра́лі ў нас! Каб вас пра́нцы з'е́лі!* [14].

**КАЗА́ЛІ: ТРЫ КАРО́ЎКІ ХУДЫ́Я, ТРЫ ГЛА́ДКІЯ. КАЛІ ТРЫ ХУДЫ́Я З'ЯДУ́ЦЬ ТРЫ ГЛА́ДКІЯ – УСЁ РО́ЎНА ХУДЫ́МІ І ЗАСТАНУ́ЦЦА** *прым.* Што ні рабі, але нічога не зменіцца. *Ты ўжэ нічо́га ня зде́лаеш па-і́ншаму. Каза́лі: тры каро́ўкі худы́я, тры гла́дкія. Калí тры худы́я з'яду́ць тры гла́дкія – усё ро́ўна худы́мі і застану́цца* [10].

**КАЛІ ДО́ЎБНЯ, ТАДЫ З ДО́ЎБНІ НЕ ЗРО́БІШ ЧАЛАВЕ́КА** *прым.* У кожнага свая доля, свой лёс, свае магчымасці. *Шо з яго́ во́зьмеш! Калí до́ўбня, тады́ з до́ўбні не зро́біш чалаве́ка! Дурны́ ён і не мо́жа ні́як навучы́цца* [21].

**КАЎТАНУ́ЦЬ**. Хутка выпіць. *Каўтанí ка́пку – ле́пшай ста́не!* [15].

**КВО́КАЕ НА́ЧА ТО ДІРКА́Ч ПАД ГАРО́Й** *параўн.* Параўнанне з гукам птушкі ці падобным на гук скрыпам [7].

**КОЎЦЬ** *выкл.* 1. Глынуць нешта. 2. Перакуліцца. *Сеў то́е ён ў чо́вен, абапе́рся на вясло́ – а́ж яно́ ко́ўць! Дый ў во́ду, а за ім і ён сам каўтану́ўся. Чуць вы́браўся з вады́, харашэ́, шо не так далёка быў ад бе́рага* [15].

**ЛА́ДНЕНЬКАГА ЎЗЯ́Ў**. Шмат, многа. *А я сяго́дня ла́дненькага ўзя́ў! Воз грыбо́ў прывёз!*

**ЛІСІ́ЧКА-ПРАМУДРЫ́ЧКА Я́МАЧКІ КАПА́ЛА – КАМЕ́НЬЧЫКІ ХАВА́ЛА** *забаўл.* Казычуць і весяляць немаўлятак і маленькіх дзетак [15].

**ЛЫКІ ЎРЭ́М'ЕМ ДЯРУ́ЦЦА** *прым.* Любая праца павінна выконвацца ў адпаведны час. Лыка трэба драць да 12 чэрвеня, пазней яно ўжо не дзярэцца. *Сягодня лыка драць цяжка бу́да! Лыкі ўрэ́м'ем дяру́цца! На́да было́ нядэ́лю таму́ іх драць!* [15].

**ЛЯЦЕ́ЛІ ГРА́БЛІ ЧЭ́РЭЗ БАЛО́ТА... – ЯКА́ ПЛА́ТА – ТАКА́ І РАБО́ТА** *прык.* Кожная праца адпавядае яе кошту. *Ён так ейныя дро́вы пакало́ў, шо само́й шчэ́ раз прышло́ся за калу́н бра́цца! Ось які́ рабо́тнічак! – Дак яна́ ж то́лькі ча́рку і паста́віла! Каза́лі: ляце́лі гра́блі чэ́рэз бало́та... Яка́ пла́та – така́ і рабо́та* [6].

**МАЛА́НКА ПАЕ́ЛА (ПРАЙШЛА́).** Пра пашкоджаны маланкай лясны арэх. *Сёлета няма́шака арэ́хаў! Іх мала́нка пае́ла!* [15].

**МЯДЬВЕ́ДЬ! ІДІ́ СВАЕ́Й ДАРО́ГАЙ, А Я ПО́ЙДУ СВАЁЙ!** Замова ад мядзведзя. Кажуць, калі на дарозе выпадкова сустракаюць мядзведзя [17].

**НА ЕЎДО́КІ ВАЛА́М ВАДЫ́ ПА БО́КІ** *прым.* Прымеркавана да пачатку паводкі і таяння снегу (*на Еўдо́кі*). *Ось начало́ ўжо та́яці ўсё на два́ры, чуць дайшо́ў да вас. – Дык то́е бу́да на той нядэ́лі, калі́ Еўдо́кі пры́йдзе, як ка́жуць, на Еўдо́кі вала́м вады́ бу́да па бо́кі: пачне́ ўсё та́яці, во бу́де вады́ тады́* [15].

**НАНЯ́ЎСЯ ЯК ПРАДА́ЎСЯ** *прым.* Нічога добрага з гэтага не выйшла. *Памага́ў яму́, памага́ў... а ён мне: на ча́рку – і хо́піць! Я ж не наня́ўся як прада́ўся!* [1].

**НАРАБІ́ЛІ ТАКО́ГА КЛІ́КУ.** Нарабіць шуму, крыку, ляманту. *Нарабі́лі тако́га клі́ку! Усі́х ура́нні падня́лі́, а на дварэ́ дождж* [15].

**НАТАЎЧЭ́ШСЯ, ДАК І НАХАЎПЕ́ШСЯ** *прым.* 1. Да зімы рыхтавацца трэба ўлетку. 2. Калі добра папрацуеш, усяго будзе багата, тады сыты будзеш. *На касаві́цу се́на ўпарадку́ем. Дак яно́ і дабрэ́нна бу́де! Бу́да і малако́, і смята́нка. Сейча́с натаўчэ́шся – дак по́тым і нахаўпе́шся!* [6].

**НА ШТО ІГО́ЛКУ ЎКРАЎ? – КАЛІ́? – І́КАЎКУ СКАЛІ́!** Замова ад ікаўкі [15].

**НЕГА́ДКІ** *выкл.* Ага, так (не так). *Ну, нега́дкі, цяпе́рака іді́ гуля́й на двор, нічо́га табе́ ня стра́шка бу́де!* [6].

**НЕДАСО́Л НА СТАЛЕ́ – ПЕРАСО́Л ПАД СТАЛО́М (НА ГАЛАВЕ́)** *прык.* Пра недасоленую страву. *А сяго́дня ў цябе́ недасо́л на сталé – перасо́л пад стало́м (на галаве́)! Ну і так до́бра!* [15].

**НЕ ЛА́ЕМСЯ, НЕ ГАМО́НІМ І АДІ́Н ДА АДНАГО́ НЕ ХО́ДІМ** *прым.* Пра адносіны без асаблівай прыязнасці. *А, та́я ба́ба (баба Мархвачка) нам ро́дзіч, а прака́лісь яна́ нам шко́ду утвары́ла. Дак мы і сяго́дня не лае́мся, не гамо́нім і аді́н да адна́го не хо́дім* [15].

**НЕ СУЙ НО́СА НЕ Ў СВАЁ ПРО́СА** *прык.* Так гавораць на асобу, якая ўмешвацца не ў сваю справу. *Каза́ў я Рыго́ру ўсё, як то́е жакі́ ста́віць ды не́ратам лаві́ць, а е́тый ма́лы, Мі́цька, ле́зе дый ле́зе. Кажу́, не суй но́са не ў сваё про́са! А ён ўсё ле́зе дый ле́зе! Дак мы ра́зам папха́лі яго́, прэч!* [8].

**НІХТО́ НІЧО́ГА ТАКО́ГА.** Не прыгадаць, запамятаваць. *Так, яно́ то́е даўно́ было́, ў нас ў дярэ́ўні ніхто́ нічо́га тако́га і расказа́ць не мо́жа* [8].

**НУ ІХ К СМЕ́РТНЫМ ГО́РАМ!** *выкл.* Няхай адчэпяцца ад мяне. *Каза́лі яны́* (зламыснікі), *се́ццю сто́лькі ры́бы налаві́лі, іх пайма́лі, дак яны́ каза́лі, што е́тае мы (вяскоўцы) ім прада́лі! Ну́ іх к сме́рным го́рам!* [2].

**НУ ЦЯ К ХАЛЕ́РАМ** *выкл.* Адчапіся ад мяне. *Не чапа́й, адпу́сці! Ну ця к' хале́рам! А то палу́чыш!* [13]

**НЯХА́Й БУ́ДЕ ГРЭ́ЧКА, – КАЗА́Ў І ТОЙ!** *прык.* Не ўсё простае, як здаецца на першы погляд. *А шо то́е ён зрабі́ў? – Рашы́ў свой хлеў накры́ць рубер́ойдам! – Дак, яно́ ня харашэ́, няха́й бу́де грэ́чка, – каза́ў і той, во яка яно!* [8].

**ОСЬ ЛЯ́РВА** *выкл.* Лаянка. Гавораць, калі нешта не так, як мае быць. *Ось ля́рва! Куды́ ляці́ш?! Куды́ цябе́ панесла?!* [18].

**ОСЬ ПЕРАЛО́МА!** *выкл.* Тое ж, што і **ОСЬ ЛЯ́РВА.** *Ось перало́ма! Куды́ ідёш?! Вярна́й!* [15].

**ОСЬ ЎРА́ЖНЫЯ!** *выкл.* Тое ж, што і **ОСЬ ЛЯ́РВА.** *Ось ўра́жныя! Гракі́ наляце́лі і пае́лі ўсе гуркі́!* [18].

**ОСЬ ХАЛЕ́РА** *выкл.* Тое ж, што і **ОСЬ ЛЯ́РВА.** *Ось хале́ра! Чаго́ яно́ бу́рыцца!? (сці́рта дроў)* [15].

**ПАГУЛЯ́Й!** *выкл.* Пачакаць. *Пагуля́й! Не чапа́й яго́, хай ужо́ зро́біць!* [15].

**ПА-КУЧАРО́ЎСКІ АРА́ЦЬ** *параўн.* Рабіць ўсё разам, гуртам; рабіць спорна і хутка. *А мы во то́лькі адцю́ляка адыйшлі́, нíко́ганька не было́. А то гляді́ аді́н склад ужо́ пакапа́лі. – Дык то́е Ді́ма прыеха́ў, дык яны́ па-кучаро́ўскі ара́ць прыйшлі́, усё ра́зам сейча́с ху́ценька ско́нчаць і бу́дуці гуля́ці* [20].

**ПО́КУЛЬ БІЦЬ, НЕ БЫВА́Е** (*на дварэ́*). Лайдачыць, не дапамагаць. *Ягона́я ма́тка і на паля́нцы, і ў гаро́дзе, ўсё ро́біць. А ён на дварэ́, по́куль біць, не бывае!* [15].

**ПРО́ЦІЎ ВЕ́КУ ІСЦІ́.** Рабіць неабдуманыя ўчынкі, парушаючы традыцыі, звычаі. *Ране́й тако́га не было́! Про́ціў ве́ку ідеце́. Асталі́ся бо ту́така, жылі́ і работалі!* [15].

**ПРЫЙДЗЕ́ ІЛЛЯ́ – ПРЫНЯСЕ́ ГНІЛЛЯ́** *прым.* Пра дажджлівае надвор'е, якое пачынаецца пасля свята Ілы. *Ты ўжэ се́на пасушы́ў? – Не. – А наспе́еш? А то гляді́, каза́лі: прыйдзе́ Ілля́ – прынясе́ гнілля́! Усё тваё се́на згніе́!* [9].

**ПРЫЙДЗЕ́ ПЯТРО́ – ЗАБЯРЭ́ ЎСІХ МО́ШАК Ў ВЯДРО́** *прым.* Заўважалі, што пасля свята Пятра колькасць гнюсу (камароў, мошак) памяншаецца. *Мо́шкі ўжэ ўсю худо́бу пае́лі! – Не турбу́йся, ско́ра Пятро́ – тады́ мо́шак не бу́де! Прыйдзе́ Пятро́ – забярэ́ ўсіх мо́шак ў вядро́!* [15].

**ПРЫ́ЙДЕ ТРО́ІЦА – ВЫ́СЫПЕ МО́ШАК З ПРЫПО́ЛІ(ЛЬ)ЦА** *прым.* Заўважалі, што на Тройцу прыбаўлялася мошак і камароў. *Ось, ко́лькі мо́шак, няма́шака куды́ дэ́цца! – Дак е́тае шо, во бу́да, ось калі́ Тро́іца пры́йдзе. Ране́й то́е каза́лі: пры́йдзе Тро́іца – вы́сыпе мо́шак з прыпо́ліца* [6].

**ПРЫЙШОЎ ТО́ТА ПАД ВАРО́ТА ДА Й СПРА́ШЫВАЕ Ў ЛЕПЕ́ТЫ: «ПАНУ́РА ДО́МА?» А ЛЕПЕ́ТА АТВЯЧА́Е: «ПАНУ́РА ДО́МА – ДА НЕ ДАМ!». ТО́ТА** – воўк; **ЛЕПЕ́ТА** – сабака; **ПАНУ́РА** – кабан (свіння) [15].

**ПРЫЛАБУ́НІЦЦА**. Прыкласці намаганні, каб нешта давесці да канца. *Чаго́ боршч не даеў? Прылабу́нься! Тады́ по́йдеш на двор!* [15].

**ПЯЦЬ ЛУЧЫ́НАЎ** (*вязе́, сядзі́ць*) *параўн.* Вельмі мала; невялікая вага. *Да ко́лькі тут нас сядіць?... пяць лучы́наў на во́зе. Ніčо́га, Ва́ся (конь) давязе́*! [21].

**РА́ННЯЯ, КА́ЖУЦЬ, НЕ РО́ДІЦЬ І НАСЕ́ННЯ НЕ ВО́ДІЦЬ** *прым.* Пры ранняй сяўбе не варта чакаць добрага ўраджаю. *Не́шта сёлета ра́на се́ем бульбу́! – А шо рабі́ць? Хоць і ка́жуць: ра́нняя бу́льба не ро́діць і насе́ння не во́діць!* [10].

**РА́ННЯЯ ПЦІ́ЧКА ДЮ́БКУ ЦЯРЭ́БІЦЬ, А ПО́ЗНЯЯ – НО́СІК** *прык.* Хто рана ўстае, той заўсёды ўсё і ўсюды паспявае зрабіць. *Хо́піць спаць, устава́й! Трэ́ба кабану́ буракоў прыне́сць! Ра́нняя, ка́жуць, пці́чка дю́бку цярэ́біць, а по́зняя – но́сік!* [6].

**РУ́ПІЦЦА (ШТОСЬ МНЕ РУ́ПІЦЦА)**. Турбавацца, непакоіцца, клапаціцца. *Ўсё сабра́лі, мо́ркву, бураки́, капу́сту ўзялі́? Штось мне ру́піцца, каб вы ўсё ўзя́лі! Тады́ ўжо ў дру́гі раз прые́дзеце* [15].

**РЫ́БА ХВАСТО́М – РЫБА́ЛКА ВЯСЛО́М** *прым.* Кажуць, што рыба пачынае добра лавіцца пры надыходзе свята Аляксея. *Твой дед ўжэ з са́май зімы́ жда́ў Аляксе́я, бо, ка́жуць, калі́ Алексе́й прыхо́діць, дык ры́ба хвасто́м, а рыба́лка вясло́м. Ён ўжэ тады́ ў чо́вен ды ў рыба́лку пае́дзець* [15].

**СВЕТ ВЯЛІ́КІ, АЛЕ ДЕ́ЦЦА НЕ́ДЕ** *прым.* Некалі дарогі прывядуць ў адно месца (сустрэцца можна нават ў нечаканы момант). *Я ж то́е Хве́дара ба́чыў у Арле́! А што ён та́мака рабі́ў? – Ха́ту сабе́ купі́ў! Во яка яно́, свет вялі́кі, але́ де́цца не́де!* [15].

**СКАЗА́Ў ТАК – ЗНА́ЧЫЦЦА ТАК** *прым.* Слова галоўнага ў сям'і самае важнае. *Трэ́ба ж было́ малы́ плуг бра́ці! Сказа́ў так – зна́чыцца та́к! І ўсё тут – а не слу́хаць таго́ Гры́шу!* [15].

**СКАРЫ́НКУ АСТАЎЛЯ́ЕШ – СІ́ЛКУ ПАКІДА́ЕШ** *прым.* Трэба даядаць ежу, бо ў скарынцы (крошках) – уся сіла. *Чаго́ не дае́ў? По́йдеш ў грыбы́ – сі́лаў ня бу́де! Скары́нку астаўля́еш – сі́лку пакіда́еш! Скары́начку з малако́м даясі́ трэ́ба!* [15].

**СКО́ЛЬКІ ЎКЛЁКУ**. Пра дужага, здаровага чалавека. *Ён мяшо́к у дзьвух рука́х мне прынёс – во ско́лькі ўклёку ў яго́* [15].

**СКРЫПІ́ЦЬ, НА́ЧА ТО АВЕ́РКАЎ ВОЗ** *параўн.* *Што́сьці дзьве́ры ў хлеў скрыпя́ць, на́ча то Аве́ркаў воз* [15].

**СМЕРЦЬ І РАДІ́НЫ НЕ ГЛЯДЯ́ЦЬ ДО́БРАЙ ГАДІ́НЫ** *прык.* Усё здараецца выпадкова, нечакана. *А калі́ ёй ража́ць? – Дык ты шо не зна́еш? Яна́ ўжэ, мо, нядзе́лю таму́ радзі́ла ма́льчыка. – А я і ня зна́ла. Даўне́й быва́е по́йдеш на паля́нку, а прыхо́дзіш з ді́цём. Каза́лі: смерць і раді́ны не гляд́яць до́брай гаді́ны* [20].

**СМЕ́ШНА ДЫ І ТО́ЛЬКІ**. Пра нейкае глупства, кур'ёзны выпадак. *Ён учо́ра з каня́ ды ў гразь упа́ў! Сме́шна ды і то́лькі!* [8].

**СТА́РЦЫ З ТО́РБАМІ ПРЫ́ЙДУЦЬ І ЗАБЯРУ́ЦЬ**. Пагроза дзіцяці, якое не хоча спаць. *Ну, хо́піць! Лажы́ся спаць, а то ста́рцы з то́рбамі пры́йдуць і забяру́ць!* [6].

**«ТАБЕ́ ПРЫВЕ́Т АД МА́ШЫ!» – «АД ЯКО́Й МА́ШЫ?» – «АД СВІННІ́ НА́ШАЙ!»** *дражн.* [6].

**ТА́ТАЧКА МОЙ!** *выкл.* Зварот да дзіцяці ці роднага чалавека. *Та́тачка мой! Зачэ́м табе́ то́е сме́цце! Не цягні́ яго́ сюды́!* [15].

**ТРО́ІЦА-ПРЫПО́ЛІЦА** *прым.* Прымеркавана да свята Тройцы [15].

**У ПА́НА ЖЫЦЬ ПАГА́НА** *прым.* Лепей жыць дома пры поўнай нястачы, чым пад прыгнётам у панавых харомах [2].

**У ПО́ЛІ КРАДЕ́Ш – І ЛЕС БА́ЧЫЦЬ!** *прык.* Усё патаемнае становіцца вядомым. *Я ба́чыла, учо́ра ты сту́пу прыне́с у двор. Каб хто не паба́чыў! А то ў по́лі крадзе́ш і лес ба́чыць!* [15].

**УПРА́ВІССЯ НА ТОРГ: КО́ЗУ ПРАДАСІ́ – ГРО́ШЫ ПРАЯСІ́** *прык.* На таргу можа здарыцца ўсё, што заўгодна. *Як каза́лі, упра́вішся на торг: ко́зу прадасі́ – грошы праясі́. Як не по́йдеш на торг – усё прада́ш – а ніčо́га і не ку́піш* [10].

**УСЕ́ ТАКІ́Я І АДІ́Н АДНАМУ́ НЯ ВЕ́РАЦЬ**. Аднолькавыя, якія трымаюцца толькі сваёй думкі. *Ба́цька яму́ каза́ў: бо́лей рэж, а ён ўсё адно́ не так зрабі́ў. Усе́ такі́я і аді́н аднаму́ не ве́рацы!* [15].

**У РЭ́ДКУ Ў СЦЕ́ЖКУ** (*то́піцца печ*). Рэдка, нячаста. *У рэ́дку ў сце́жку то́піцца ту́така печ. Няма́шака ту́така ўжэ ніко́га! То́лькі прыезжа́е ле́там сын, да і то не ко́жан год* [15].

**ХАДІ́Ў БЫ Ў ЗО́ЛАЦЕ, КА́БЫ НЕ БЫЛО́ ДЫРЫ́ Ў РО́ЦЕ** *прык.* Трэба кіравацца розумам пры выкарыстанні грошай. *Ён жа ж добры хлапе́ц! І зарабля́е добра – а ўсё адно няма́ гро́шаў у іх! Ён бы хадзі́ў у золаце, ка́бы не было дыры́ ў роце!* [6].

**ХАЙ ГНІЕ́** *выкл.* Гавораць пры адсутнасці сілы, магчымасцей нешта зрабіць. *Няма́ сі́лаў ўжо жукоў* (каларадскі жук) *тых збіра́ць! Хай яно́ гніе́!* [15].

**ХОЦЬ ЛО́КАЦЬ БЛІ́ЗКА, АЛЕ НЕ ЎКУСІ́ЦЬ** *прым.* На першы позірк проста, але шмат намаганняў трэба прыкласці, каб нешта атрымалася. *Я ўчо́ра ду́мала: да каро́ў спраўлюсь, але да са́май вячэ́ры ў по́грабе прасядзе́ла. Хоць ло́каць блі́зка, але не ўкусі́ць, во табе́ і цыбу́ля!* [11].

**ХРЭСТ У ВО́ДУ – ДЕ́ЎКІ Ў МО́ДУ** *прым.* Прымеркавана да Вадохрышча (пасля гэтага свята пачыналі гуляць вяселлі). *Гуля́лі вясе́лле ўжо пасля́ Вадо́хрышча. Каза́лі: хрэст у во́ду – дзе́ўкі ў моду!* [15].

**ЦЕШЫ́ЦЕСЯ ТЫМ РО́ГАМ, ЯКІ́М ДАСТАЕ́ЦЕСЯ** *прык.* Разлічвайце на свае ўласныя сілы. *Яны́ то́е, машы́ну, і бага́та ящчэ́ чаго́ хаце́лі! А ім ко́жан раз кажу́: цешы́цеся тым ро́гам, які́м дастае́цеся! Не палуча́ецца – хай бу́дзе, што ёсцяка* [9].

**ЦІПЦЮ́ХА МАЛА́Я** *параўн.* [15].

**«ЦІТ, ІДІ́ МАЛАЦІ́ЦЬ!» – «А ЖЫВО́Т БАЛІ́ЦЬ!» – «ЦІТ, ІДІ́ КІСЕ́ЛЬ ПІЦЬ!» – «А ДЕ МАЯ́ БАЛЬША́Я ЛО́ЖКА!?»** *забаўл.* [15].

**ЦЯКА́Й!** Праганяць, калі нехта замінае. *Цяка́й адсюляка! А то конь зада́віць!* [15].

**ЧАГО́ ЦЯБЕ́ ГАРА́ЧКА БЯРЭ́?!** *выкл.* 1. Навошта, дзеля чаго крычаць, лямантаваць. 2. Выказваць незадавальненне, калі нешта не атрымліваецца. *Чаго́ ты ко́цішся* (*пра мяшок*)*?! Чаго́ цябе́ гара́чка бярэ́?!* [15].

**ЧАГО́ ЦЯБЕ́ ГО́РА ЗА КО́ЎБАК ДА́ВІЦЬ?!** *выкл.* Супакойваць (жывёліну, чалавека). *Чаго́ ты брэ́шаш? Каго́ пабачыў?.. Чаго́ цябе́ го́ра за ко́ўбак да́віць?!* [15].

**ЧАГО́ ЦЯБЕ́ ГО́РА ПАНЕ́СЛА?!** *выкл.* Навошта, дзеля чаго нешта рабіць. *Чаго́ цябе́ го́ра пане́сла! Стой, не ту́пай, перало́ма!* [15].

**ЧАГО́ ЦЯБЕ́ ХІ́МЦІ ЗА КО́ЎБАК ДА́ВІЦЬ!** *выкл.* Навошта, дзеля чаго крычаць, лямантаваць. *Куды́ ле́зеш* (*да сабакі*)? *Чаго́ цябе́ хі́мці за ко́ўбак да́віць?!* [3].

**ЧО́РНЫ ЯК ВУГО́ЛЛЕ** *пара́ўн. Валасы́ ў яго́ чорныя як вуго́лле* [15].

**ЧУДІ́ЛА – ДЕД ГАЎРЫ́ЛА** *дражн.* [15].

**ЧУЖА́Я НІ́ЎКА ПАЯДА́Е СІ́ЛКУ** *прым.* Найлепшай бывае праца ў родным краі. *Паеду ў Мінск працава́ць. Няхай чужа́я ні́ўка паяда́е сі́лку, але́ нічаго́ не паро́біш* [1].

**ШТО ЗГАРЫ́ЦЬ – ТО НЕ ЗГНІЕ́!** *выкл.* Калі наканавана прапасці, то неістотна, як гэта адбудзецца. *Дык, я ж яго́ (цяля) лечы́ў, лечы́ў, зімо́й у хату забіра́ў, а ўсё адно́ паме́рла яно́! Шкада́! – э-э што згары́ць – то не згніе́!* [3].

**ШТО Ў МЯНЕ́ КУЧАРО́ЎСКАЯ ПА́МЯЦЬ** (*што б я ўсё по́мніў*). Пра добрую памяць. *А ты по́мніш, як нас па рацэ́ да Ло́еву вазі́ў за каба́ньчыкам? – Не! У мяне́ што кучаро́ўская па́м'яць, штоб я ўсё по́мніў. Не было́ тако́га!* [19].

**ШТО ШУКА́Ў, ТО́Е І ЗНАЙШО́Ў** *прым.* Чаго жадаеш, тое рана ці позна здарыцца. *Яго́ кабыла капыто́м сту́кнула, дак ён перакулі́ўсь ко́лькі разо́ў, ды нічо́га, жывы́м аста́ўсь. – Кане́шне, ён жа ж ўскрозь ле́зе не туды́, куды́ трэ́ба, што шука́ў – то і знайшо́ў!* [11].

**Э, ТЫ, МОЙ САКО́Л** *выкл.* Зварот да дзіцяці ці да роднага чалавека. *Э, ты, мой сако́л! Табе́ е́тае трэ́ба, старыну́ ту́ю ўспаміна́ць!* [11].

**ЯКІ́СЯ АБЫ́-ЯКІ́СЯ.** Ніякі, ні тое ні сёе. *Што з таго́ кабана́? Ён жа ж які́ся абы́-які́ся, хай шчэ расце́!* [10].

**ЯК ТАЎКА́Ч.** Непаваротлівы, марудны. *Ён хо́дзіць як таўка́ч у сту́пе! Ту́пае з нагі́ на нагу́* [15].

**ЯК ТРЫВО́ГА – ТАДЫ́ ДА БО́ГА** *прым.* Пра бяссільнага чалавека, які шукае дапамогі. *Калі́ што, дык да твайго́ ба́цькі ўскрозь, са́мі нічо́га не мо́гуць. Як трыво́га – тады́ да Бога!* [15].

### Спіс інфармантаў

1 – Ганчарэнка Рыгор Іванавіч, 1925 г. н.
2 – Кавалёў Васіль Архіпавіч, 1929 г. н.
3 – Кавалёў Мікалай Іванавіч, 1945 г. н.
4 – Канавалаў Віктар Іванавіч, 1927 г. н.
5 – Краўчанка Алімпіяда Фёдараўна, 1933 г. н.
6 – Кукса Алімпіяда Іванаўна, 1935 г. н.
7 – Кукса Тамара Міхайлаўна, 1936 г. н.
8 – Леной Мікалай Раманавіч, 1927 г. н.
9 – Лук'яненка Васіль Гаўрылавіч, 1929 г. н.
10 – Лук'яненка Марыя Пятроўна, 1932 г. н.
11 – Лук'яненка Храня Станіславаўна, 1929 г. н.
12 – Маёраў Рыгор Панцелеевіч, 1936 г. н.
13 – Маёраў Мікола Іванавіч, 1923(22) г. н.
14 – Маёраў Якаў Кірылавіч, 1929 г. н.
15 – Осіпава Ганна Гаўрылаўна, 1927 г. н.
16 – Осіпаў Дзмітрый Фёдаравіч, 1916 г. н.
17 – Осіпаў Іван Фёдаравіч, 1930 г. н.
18 – Осіпава Марыя Фёдараўна, 1925 г. н.
19 – Сусла Раіса Сямёнаўна, 1944 г. н.
20 – Цімашэнка Вольга Мікалаеўна, 1938 г. н.
21 – Цімашэнка Мікалай Сямёнавіч, 1937 г. н.

### Скарачэнні

*Прык.* – прыказка, *прым.* – прымаўка, *выкл.* – выклічнік, *высл.* – выслоўе, *пара́ўн.* – параўнанне, *дражн.* – дражнілка, *зам.* – замова, *заба́ўл.* – забаўлянка.

# НАВУКОВЫЯ ДАСЛЕДАВАННІ

*Н. М. Бунько*

## АСАБЛІВАСЦІ МАТЫВАЦЫІ НАЗВАЎ ЖЫВЁЛ У БЕЛАРУСКІХ ГАВОРКАХ

У артыкуле аналізуецца корпус матываваных назваў жывёл, указваюцца асаблівасці распаўсюджання суадносных па матывацыйным вызначэнні назваў у межах беларускіх народных гаворак. Агульная колькасць прааналізаваных найменняў складае каля 1300 лексічных адзінак і спалучэнняў.

Найбольш прадуктыўнай для ўтварэння беларускіх народных фаўністычных найменняў з'яўляецца агульная матывацыйная прыкмета 'характэрная знешняя асаблівасць жывёлы' (каля 50% назваў). Акрамя таго, вылучаны наступныя матывацыйныя прыкметы ўтварэння назваў жывёл: 'характэрная асаблівасць паводзін і спосаб існавання жывёлы ў прасторы' (1/4 частка ад агульнай колькасці назваў), 'месца распаўсюджання', 'крыніца харчавання, характар ежы', 'час з'яўлення, найбольшай сутачнай актыўнасці'. У асобную групу вылучаюцца назвы з прагматычнай дамінацыяй (іх каля 2% ад усяго саставу найменняў). Пры вызначэнні фармальнай структуры назваў адрозніваюцца розныя тыпы афіксацыі (пераважна суфіксацыі) і асноваскладання. Назватворчы працэс забяспечваецца значнай колькасцю сінтаксічных намінацый, адзін з кампанентаў якіх пераважна валодае гіперанімічнымі адносінамі, з'яўляецца асноўным рода-відавым паняццем.

Назвы, матываваныя ***характэрнымі знешнімі асаблівасцямі жывёл***, узніклі ў выніку прамой прыкметавай матывацыі. Знешнія асаблівасці жывых істот успрымаюцца органамі пачуццяў, найменні ўзнікаюць па-за рознымі вобразнымі асацыяцыямі. Утварэнне народных назваў адбываецца на аснове саматычных прыкмет: па афарбоўцы знешняга покрыва ўсяго цела ці асобных яго частак, па памеры і пад. Корпус матывацыйных прыкмет вызначаецца наступным чынам: 'істота ці частка яе цела пэўнага колеру, памеру і пад.'. Па структуры з'яўляюцца аднаслоўнымі назвамі (*ру́дка*, *шэ́рка* 'вавёрка', *смаля́нка*, *смалянýха*, *смальня́нка*, *смаля́ч*, *смалю́га* 'пацук', *ма́лік* 'малады заяц', *маля́ўкі* 'дробныя казяўкі', *маля́шка* 'моль', *слімáк*, *слі́зень* 'смоўж, слімак', *пярэ́стая*, *стракáтая*, *паласáтая*, *перапялёсая*, *пёстрая*, *пасаватая* 'пярэстая карова'), назвамі, утворанымі ў выніку асноваскладання пры дапамозе суфіксальнага сродку (*чарнахвóсцік* 'гарнастай', *белагру́дка* 'ласка', *златабру́шка* 'муха') і сінтаксічнымі простымі састаўнымі найменнямі, якія ўзніклі па мадэлі 'назоўнік + прыметнік'. Заўважана, што назвы-кандэнсаты 'выціскаюць' іх сінтаксічныя аналагі і пашыраюцца ў гаворках, калі абазначаюць зайца-беляка і зайца-шарака: *бяля́к*, *бялю́к*, *русáк*, *шарáк*, *сярáк* у параўнанні з *шэ́ры зáяц*, *сéры зáяц*, *бе́лы зáяц*. У дачыненні да астатніх 'саматычных' найменняў можна канстатаваць адваротны факт. У мясцовым маўленні распаўсюджаны сінтаксічныя намінацыі, калі яны часцей за ўсё называюць віды жывёл ці асобную жывёлу (насякомае) на пэўнай стадыі развіцця: *ры́жсыя мурáшкі*, *крáсныя мурáшкі* 'маленькія чырвоныя мурашкі', *чóрныя мурáшкі* 'вялікія лясныя мурашкі', *малéнькія*, *дрóбныя мурáшкі* 'мурашкі', *вялі́кія мурáшкі* 'лясныя мурашкі', *зялёны чарвя́к* 'вусень', *бéлы чарвя́к* 'лічынка хрушча', *бéлы мя́тлік* 'матылёк-капуснік', *крáсненькі жучóк* 'чырванацелка', *жóўтая пчалá*, *чóрная пчалá*, *шэ́рая пчалá*, *гня́дыя пчóлы* – назвы відаў пчол, *чóрны жук* 'гнаявік', *зялёная му́ха* 'гнаявая муха', *чырвóная блыхá* 'лясны клоп'.

Да групы назваў, матываваных знешнімі асаблівасцямі, належаць таксама сінекдахічныя («партытыўныя») найменні, што характарызуюць жывых істот па адрознівальных, вылучальных асаблівасцях іх цела ці асобных частак. Па фармальнай структуры – гэта ў асноўным аднаслоўныя афіксальныя найменні: *вусякі́* 'насякомыя', *вусéль* 'рак', *ву́сень*, *ву́сеніца* 'вусень', *вусáты жук*

‘таракан’, *валасе́нь* ‘вусень’, ‘чарвяк’, *крыжаві́к* ‘павук, які мае крыжападобны малюнак на спінцы’, *масля́к* ‘слімак’, *рагаві́к, рага́ч* ‘жук-алень’, *рага́тая* ‘карова з вялікімі рагамі’, *лаба́тая* ‘бязрогая карова’; за рэдкім выключэннем – двухслоўныя найменні альбо назвы, утвораныя ў выніку асноваскладання: *плюшкано́с* ‘чарвяк’, *двухво́стка* ‘невялікае насякомае з дзвюма вострымі выпусткамі’, *стано́жка, саракано́жка, стано́гая казя́ўка, тысячано́жка* ‘сараканожка’. Акрамя таго, па асаблівасцях покрыва крылаў вызначаецца ў мясцовым маўленні начны драпежны звярок кажан: *кажа́н, каржа́н, каза́н, кожа́н, казане́ц, кажа́н-мыш, кажакры́л, парх* (ад *паршы́вы, пакрыты лішаямі*), *лыне́к* (ад *(з)ліня́лы*), *рамяні́ца, раме́ннік, палатня́нік, палатня́ная мыш, шкурацяна́я мыш, скура́нік, скура́т, скура́ч, шкура́ч*.

Назвы, што ўзніклі на аснове матывацыйнай прыкметы ***‘характэрная асаблівасць паводзін і спосаб існавання жывёлы ў прасторы’***, адлюстроўваюць базавыя функцыянальныя характарыстыкі жывёл: здольнасць перамяшчацца ў прасторы, спосабы існавання, здабывання ежы і пад. Адбываецца прамое выражэнне матывацыйнай прыкметы: у якасці ўтваральнай выступае назва (дзеяслоў), адпаведная зместу матывацыйнай прыкметы, – гэта спосаб прамой намінацыі: *вярця́чка* ‘вадзяная казяўка’, *вярту́н* ‘жук-шкоднік сасны’, *вы́паўзка, вы́паўзень* ‘дажджавы чарвяк’, *п’я́ўка, пля́ўка, п’я́віца, піва́лка* ‘п’яўка’, *плавуне́ц, плаву́к* ‘вадзяны жук’, *цёлка, не́цель* ‘маладая карова, якая не цялілася’, *перадо́йка* ‘карова першага ацёлу’, *баду́ха* ‘бадлівая карова’, *бры́нда* ‘збродлівая карова’, *вытво́рнік* ‘бык – непакладаны самец каровы’, *цягло́* ‘запрэжаны вол’, *лізу́н* ‘цяля’, *стрыгу́н* ‘двухгадовае жарабя’ і інш. Значэнне пералічаных найменняў складаецца з абагуленай семантыкі дзеяслоўных асноў і значэння афіксаў. Сярод каранёвых марфем, прыдатных для намінацыйнага афармлення розных жывёл, найбольш характэрнымі для гаворак беларускай мовы можна лічыць наступныя: *-лят-*, *-скак-*, *-тач-*; пашыранымі з’яўляюцца суфіксы *-к-*, *-ак* (*-ок*), *-ун*: *лятучая мыш, лята́к* ‘кажан’, *палётка, ляту́чка* ‘божая кароўка’, *то́чка* ‘крот, мядзведка, сараканожка’, *скачо́к* ‘конік’, ‘цвыркун’, ‘жук-дрывасек’, *скаку́н, скак* ‘конік’, *ско́чка, скачы́ха, скаку́н, скачо́к* ‘лясны клоп’, ‘блыха’. Параўнальна нязначнай можна лічыць групу сінтаксічных назваў, калі адзін кампанент назвы ўказвае на характэрныя асаблівасці паводзін жывёл, а другі з’яўляецца гіперанімічнай спасылкай: *ляту́чая мыш* ‘кажан’, *іскава́я пчала́, курашчы́пка, муро́шчапка* ‘мурашка’, *го́нны за́яц* ‘заяц, якога гоніць сабака’, *вы́шлая лісі́ца* ‘ліса, у якой разбурылі нару і забралі лісянят’, *кузу́лька та́я, што све́ціць* ‘светлячок’, *бара́н паклада́ны, бара́н лягча́ны, баран кла́дзены* ‘пакладаны самец авечкі’. Сюды ж адносяцца назвы, утвораныя ў выніку асноваскладання: у якасці апорнага кампанента выступае дзеяслоўная аснова тыпу *-ед*, *-еж*, *-жор-* (*-жэр-*), *-грыз*: *медае́д* ‘мядзведзь’, *мухае́д* ‘павук’, *карае́д* ‘жук-лістаед’, *рыбае́д* ‘вадзяны жук’, *пладае́жка, пладажо́рка* ‘ліставёртка’, *капустажэ́рка* ‘вусень, бялян-капуснік’.

Матывацыйная прыкмета па асаблівасцях паводзін характэрна і для найменняў, утвораных ад асноў *гукапераймальных дзеясловаў* тыпу *ры́каць, мыча́ць, жужэ́ць, бзы́каць, страката́ць, турча́ць, свісце́ць, зы́каць, цвы́ркаць* пераважна з ужываннем суфіксальных сродкаў. Такія назвы з’явіліся на аснове комплексаў гукаў, якія могуць выдаваць жывёлы пад час палёту, перамяшчэння і пад.: *жук, жу́жаліца, жу́жаль, жу́жалка* – назвы жукоў, *жужа́к* ‘авадзень’, ‘гнаявік’, ‘хрушч’, ‘вадзяны жук’, *зык* ‘авадзень’, ‘сляпень’, ‘муха’, *бздыр* ‘страказа’, *лапту́х, балаба́йка* ‘матылёк’, *стрыку́н, свірсту́н, свершчо́к* ‘конік’, ‘цвыркун’, *турка́ч, турчо́к* ‘мядзведка’, ‘цвыркун’, *цвырку́н, цырку́н* ‘цвыркун’, ‘конік’, ‘страказа’, *рыку́ха* ‘карова, якая часта мычыць’, *мычу́н* ‘малады бык’, *курня́ўка* ‘кот’, *дзю́шка, ю́ська, чу́шка* ‘свіння’ і інш. Наяўнасць гукапераймальнага выражэння матывацыйнай прыкметы характэрна для народных назваў насякомых і свойскіх жывёл і не ўласціва для найменняў іншых жывых істот, што абазначаюць дзікіх жывёл (сярод назваў дзікіх жывёл зафіксавана толькі найменне *гук* ‘дзік’).

Фаўністычныя найменні ўскоснага спосабу матывацыі ўзніклі на аснове пераасэнсавання асобных знешніх асаблівасцей жывёлы, па падабенству фукцыянальных або знешніх характарыстык жывёл да іншых жывых істот. Тут вылучаюцца назвы жывёл, утвораныя ў выніку антрапаморфнага пераносу: ва ўзнікненні фаўністычных найменняў удзельнічаюць назвы, якія характарызуюць функцыянальную сутнасць асобы (з’яўляюцца назвамі асоб па выконваемым дзеянні):

*нянькі* 'пчолы, якія выхоўваюць патомства', *дамахазяйка, зборшчыца, кармільніца, памошніца, работніца* 'маладая рабочая пчала', *вартаўнік, караул, охрана, оборона, стаража* 'пчолы, якія ахоўваюць вулей', *варо́ўка, грабежнік, злодзей, пабіраика* 'пчолы, якія крадуць мёд у чужых вуллях', *гультай, лянівец* 'труцень'. Да гэтай групы можна аднесці і назвы, заснаваныя на этнонімах, – *дзянісы* 'маленькія чырвоныя мурашкі', *жмодзь* 'машкара', *маскаль* 'страказа', *прусак* 'прусак', 'таракан', *швед* 'караед'. Сюды ж уключаны найменні, якія звязаны з антрапонімамі: *андрэйка, пётрык, пятро, петрачок, пятрушка, іванька, кандрацька, сідарка, хвёдарка, тодар, клямук, васілёк, калюк, матрунка, марыська, малаша* 'божая кароўка', *кацярынка* 'хрушч', *цярэшка* 'матылёк', *кандрат* 'тхор', *паўлюк* 'смоўж'.

Асобна вылучаюцца табуістычныя, або міфалагічныя, найменні. Спосаб жыцця і некаторыя іншыя эталагічныя і саматычныя характарыстыкі жывёл садзейнічалі ўзнікненню ў розных народаў вераванняў, міфічных уяўленняў, павер'яў аб гэтых жывёлах і знайшлі сваё адлюстраванне ў іх назвах. Так, у аснову ўсходнеславянскага наймення *бабачка* пакладзена ўяўленне аб тым, што душа памерлага (продка, бабулі) працягвае сваё існаванне ў выглядзе матыля. На аснове табу, калі ўлічыць наяўнасць розных павер'яў пра ласку, узніклі найменні *хляўнік* і *дамавік*.

Сярод найменняў жывёл вылучаюцца назвы, матывацыйную аснову якіх складаюць заонімы. Пашыраны гэтыя назвы ў гаворках усходняй і паўночна-ўсходняй дыялектных зон: *зязюля, кароўка* 'божая кароўка', *мядзведка, мядзведзік, мядзведзька* 'мядзведка', *чайка* 'страказа', *казёл, казялок, казлюк* 'цвыркун', 'конік', *казёл* 'слімак', *слонік* 'жук', *чарапаха, чарапашка* 'слімак', 'смоўж'.

Іншая ступень метафарызацыі праяўляецца ў назвах жывёл, звязаных з найменнямі розных прадметаў, з'яў рэчаіснасці: *спіцак, стрэлачнік* 'малады лось', *шып* 'шыцік', *жамяра, жамярыца* 'дробныя насякомыя', *люлька* 'чарва', *гугор* 'лічынка авадня', *мяшок* 'лічынка мурашкі', *кросны, сіта* 'павуціна', *шышак* 'сям'я пчол', *каладач* 'тоўсты кароткі чарвяк', *начоўкі, хаткі, гаршынкі, завітушка* 'малюскі', *жылка, куклянка* 'смоўж', 'слімак', *аганёк, агеньчык* 'светлячок', *верталёцік, страла, стрэлка, швайка* 'страказа', *пацерка, ядзерка, ляпошка, ляпошычка* 'божая кароўка', *сіто, мамэрля* 'павуціна', *крук, кручок* 'авадзень', *кукса, камель, таўкач* 'бязрогая карова'.

Да назваў, матываваных ***па месцы распаўсюджання жывёл***, найбольш прадуктыўным з'яўляецца метанімічны перанос: *барцявік* 'мядзведзь', *бароўка* 'дзікая пчала', *балотнік* 'камар', *бартуль* 'насякомае, якое жыве пад карой дрэва', *надворнік* 'парсюк', *дварак* 'дваровы сабака', *пячкур* 'кот, які не ловіць мышэй', *стаднік* 'племянны бык' і пад. Па структуры назвы могуць быць як аднаслоўнымі (афіксальнымі), так і сінтаксічнымі (простымі састаўнымі) утварэннямі, апошнія значна пераважаюць у гаворках: *вадзяны жук* 'жук-плывунец', *вадзяная казяўка, вадзяны павук, вадзяны камар* 'казяўка, якая бегае па паверхні вады', *вадзяная курка* 'страказа', *палявая мыш* (*пальная мыша*), *палявы клоп, палявая блыха* 'лясны клоп', *палявая мурашка* 'маленькая чырвоная мурашка', *земляны чарвяк* 'дажджавы чарвяк', *палявыя пчолы* 'дзікія лясныя пчолы', *земляныя пчолы* 'лясныя пчолы', *земляныя мурашкі* 'лясныя мурашкі', *земляны рак* 'мядзведка'.

На метанімічным пераносе заснаваны таксама назвы, агульная матывацыйная прыкмета якіх – 'крыніца харчавання, характар ежы': *сяннік* 'пражэрлівы конь', *малочнік* 'цяля, якое ссе карову', *траўніца* 'цяля мінулагодняга прыплоду'. Так, носьбіты гаворак адрозніваюць ваўкоў па крыніцы харчавання. Гэта не лічыцца асноўным паказчыкам вылучэння адзначаных прадстаўнікоў жывёльнага свету як асобнага біялагічнага віду. Воўк у гаворках беларускай мовы – гэта драпежная істота, якая нападае на коней, авечак, гусей і пад. Тэрытарыяльнае размежаванне характэрна для найменняў *канюх* (паўночна-заходняя зона), *конюх* (гаворкі цэнтральнага Палесся), *канеўнік, канятнік* (паўднёва-ўсходні дыялект); назвы *конскі воўк, канюр, конюх* паралельна ўжываюцца ў гродзенска-баранавіцкай групе гаворак. Акрамя таго, воўк у мясцовым маўленні можа называцца *авечы воўк, авячнік, аўчатнік, аўчарнік, аўчар, аўчур, гусятнік, свінар, свінарнік*.

Месца распаўсюджання і крыніца харчавання некаторых жывёл супадаюць. У такім выпадку мэтазгодна гаварыць аб двайной матывацыйнай аснове назваў. Выпадак аб'яднання пад адной назвай адбыўся пры ўзнікненні наймення *жытнік* для абазначэння коніка і палёўкі ў асобных раёнах сярэднебеларускіх гаворак. Сюды ж адносяцца народныя назвы гнаевіка – *гнаявік, гнойны жук, нагнойнік, гнаяк* і *навознік, навозны жук*, малінніка – *малінны жук*, мукаеда – *хлебны жук*. У адрозненне ад агульнапашыранага на тэрыторыі гаворак беларускай мовы наймення *каларадскі жук* у Віцебскім рэгіёне ўжываюцца назвы *бульбяны жук* і *бульбяны чарвяк* 'каларадскі жук і яго лічынка'.

Найменні жывёл могуць утварацца і на базе часавай метаніміі. Жывёла названа як істота, што з'яўляецца пасля дажджу, у начны час, у добрае надвор'е, у маі, апоўдні, у час красавання жыта і пад. Агульная матывацыйная прыкмета фармулюецца як ***'час з'яўлення, найбольшай сутачнай актыўнасці'***: *асянчук* 'асенняе ягня', *весянчук* 'веснавое ягня', *сёлетка, леташніца* 'цялушка сёлетняга прыплоду', *калядачка* 'авечка, якая нарадзілася ў калядную ноч' і інш. Па структуры такія назвы часцей выступаюць як аднаслоўныя, зрэдку – сінтаксічныя. Асноўная асаблівасць узнікнення і рэалізацыі «часавых» назваў – утварэнне іх на базе словазлучэнняў і слова- ці формаўтваральнае вар'іраванне ў гаворках. Так, на аснове выразу *начная істота* з'явіліся аднаслоўныя суфіксальныя дэрываты *начніца* 'чорны кудлаты вусень', *начніца, начнік* 'соўка, начны матыль', 'кажан', *ночка* 'кажан'. Акрамя таго, сустракаюцца назвы *дажджавы чарвяк* і *дажджаўнік, дажджавік* 'дажджавы чарвяк', *майская кароўка* і *маеўка* 'божая кароўка', *майскі жук* і *маеўка, майка* 'хрушч'. У сувязі з наяўнасцю наймення *ведра* (*ведра*) 'добрае сонечнае надвор'е' ў гаворках паўднёва-заходняга дыялекту і палескіх гаворках узніклі назвы божай кароўкі *ведрык, ведранец, вядронка.* Да гэтай групы належаць таксама наступныя назвы, якія па пашырэнні з'яўляюцца адзінкавымі ў гаворках: *ваўчаня-пералетак* 'малады воўк', *вяснянка* 'насякомае', *пагодка, пагодзіца* 'божая кароўка', *красавік* 'жучок на коласе ў час красавання злакаў', *іюньскі жук* 'хрушч', *налівашка* 'жоўтыя жучкі на коласе жыта', *паўдзённік* 'насякомае, якое гудзе ў гарачы поўдзень', *позняя муха* 'здрок'.

У асобную групу вылучаны назвы з прагматычнай дамінацыяй. Моўца вызначае жывёлу не столькі па пэўных функцыянальных і знешніх характарыстыках, колькі выказвае ацэначнае (а менавіта адмоўнае) стаўленне да яе. Па спосабу матывацыі падобныя найменні з'яўляюцца метафарычнымі, па структурных асаблівасцях – аднаслоўнымі: *нуда* 'вош', *гад* 'каларадскі жук', *паганка* 'мыш', *плюгаўства, нуда, чмура, паскудства* 'машкара', *бруд* 'вошы', *караўка* 'мяккацелае воднае насякомае', *паскуддзё, паскуства* 'насякомыя і гады', *гнус* 'куслівыя насякомыя', *каростаўка* 'клоп', *гаргара* 'вялікая нязграбная карова, якая не дае малака', *здохлік, дахляціна* 'слабы, знямоглы конь'. Гэтыя найменні маюць эмацыянальна-ацэначную афарбоўку і ўжываюцца ў гаворках для называння чалавека па розных якасцях, а таксама іншых рэалій.

У выніку адзначым, што для корпуса беларускіх народных назваў жывёл уласцівы пяць найбольш пашыраных матывацыйных прыкмет: 'характэрная знешняя асаблівасць жывёлы' (прамая матывацыя, ускосная матывацыя), 'характэрная асаблівасць паводзін і спосаб існавання жывёлы ў прасторы' (прамая матывацыя), 'месца распаўсюджання', 'крыніца харчавання, характар ежы', 'час з'яўлення, найбольшай сутачнай актыўнасці'. Даследаванні розных тэрміналагічных груп у анамасіялагічным напрамку з прымяненнем лінгвагеаграфічнага метаду вывучэння лексікі народных гаворак на матэрыяле як беларускай, так і іншых славянскіх моў, будуць карыснымі для стварэння шэрагу матывацыйных (тлумачальных) распрацовак (карт), для вылучэння агульных і прынцыпова значных крытэрыяў, якімі кіруецца моўная свядомасць пры абазначэнні асобных рэалій. Анамасіялагічны прынцып пабудовы карты заключаецца ў прыярытэце значэння слова перад яго формай. Прыдатным лічыцца менавіта аналітычнае картаграфаванне – дэталёвае пазначэнне асобных моўных з'яў: найменняў, аб'яднаных пад адной з агульных матывацыйных прыкмет, іншы раз нават адрозных па каранёвых марфемах. Гэты падыход дазволіць выявіць «вытокі» фарміравання моўнай з'явы, акрэсліць напрамкі пашырэння лексічнага арэала, прасачыць сувязі з традыцыйным занальным і дыялектным падзелам гаворак беларускай мовы.

*А. І. Забашганская*

# ФАНЕМАТЫЧНАЯ ВАРЫЯНТНАСЦЬ ПА ЗВОНКАСЦІ/ГЛУХАСЦІ Ў БЕЛАРУСКАЙ ДЫЯЛЕКТНАЙ МОВЕ

Для рускай і беларускай моў вар'іраванне звонкіх і глухіх мае характар пазіцыйнага чаргавання, якое стала магчымым пасля страты рэдукаваных. На думку К. В. Гаршковай, чаргаванні па цвёрдасці/мяккасці і глухасці/звонкасці адносяцца да тыпалагічных рыс рускай (і беларускай. – *А. З.*) мовы [1]. Калі дадзеныя змены адбываюцца ў становішчы перад галоснымі, іх трэба адносіць да нерэгулярных. Тым не менш азванчэнне глухіх у інтэрвакальнай пазіцыі можа мець акустычнае тлумачэнне, на што ўказвае даследаванне акустычнай дынамікі розных кансанантных прыкмет, праведзенае ў наш час рускімі фанетыстамі [2]. Даследчыкі старажытных пскоўскіх і наўгародскіх помнікаў адзначаюць змяшэнне звонкіх і глухіх на пісьме [3]. У дыяхранічным аспекце праблема нерэгулярнай фанематычнай варыянтнасці па глухасці/звонкасці ўзнята У. В. Колесавым, Т. М. Нікалаевай. У. В. Колесаў звяртае ўвагу на феномен паўночна-рускіх помнікаў XI–XIV стст., у якіх адлюстроўваецца мена глухіх і звонкіх у фанематычна моцнай пазіцыі [4], адмаўляючы пры гэтым уплыў фінскіх моў, якія не ведаюць супрацьпастаўлення глухіх і звонкіх: «... у такім выпадку мы чакалі б змяшэння глухіх са звонкімі незалежна ад якіх-небудзь фанетычных умоў» [5, с. 162]. Даследчык тлумачыць азванчэнне глухіх акустычнымі прычынамі (уплыў наступных санорных і галосных), а таксама выказвае думку, што ў пэўны перыяд карэляцыя па глухасці/звонкасці яшчэ не была сфарміравана [5, с. 162, 163]. У сваю чаргу Т. М. Нікалаева прыводзіць меркаванні некаторых індаеўрапеістаў мінулага стагоддзя (Ф. Шпехт, К. Шылдз) наконт мяркуемых архіфанем на месцы тых, што ў сучасных мовах утвараюць карэлятыўныя пары па глухасці/звонкасці, і ставіць пытанне пра шлях і магчымыя прычыны фанематычнай дывергенцыі і фаналагізацыі прыкметы звонкасці/глухасці, у прыватнасці, у дачыненні да фанемнай пары пары **t / d* [6].

Акрамя таго, азванчэнне глухіх перад галоснымі адзначалася ў шэрагу гаворак Магілёўшчыны [7]. Увогуле ж, у беларускай дыялектнай мове варыянтнасць па глухасці/звонкасці ахоплівае розныя артыкуляцыйныя тыпы зычных і характарызуецца больш значнай лінгвагеаграфіяй, што і будзе намі паказана ў дадзеным артыкуле. Матэрыялам для даследавання паслужылі карты ЛАБНГ і шэраг дыялектных слоўнікаў.

## 1. Варыянтнасць змычных

Пазіцыйныя чаргаванні па звонкасці/глухасці, пры якіх звонкія шумныя аглушаюцца ў пазіцыі перад глухімі і ў канцы слова, з'яўляюцца рэгулярнымі ў пераважнай большасці беларускіх гаворак. У той жа час фанематычная варыянтнасць у выніку змены губных па глухасці/звонкасці ўяўляе сабой адну з самых ілюстрацыйных змен нерэгулярнага характару ў беларускай дыялектнай мове. Гэтыя змены могуць адбывацца як у пачатку, так і ў сярэдзіне слова, закранаючы запазычаную і спрадвечна беларускую лексіку.

/п/ → /б/: дадзеная з'ява выразна рэалізуецца ў дзвюх пазіцыях.

1. Азванчэнне /п/ у пазіцыі перад галосным:

*шыпата́ – шы́бада́* 'ігліца' (ЛАБНГ, 1, к. 179; ДСБ), *рапу́ха – рабу́ха* (ЛАБНГ, 1, к. 346), *пало́нка – бало́нка* (ЛАБНГ, 1, к. 339), *пурга́ – бурга́* (ЛАБНГ, 2, к. 46), параўн. літ. *bur̃gė*, а таксама адзначанае ў Віл. р-не *бурга́* 'калатуша, негустая маса' (СПЗБ), *хля́па – хля́ба* 'слота' (ЛАБНГ, 2, к. 36), *по́хмарок – бу́хмарок* 'слота' (ЛАБНГ, 5, к. 286), *на цы́пачкі – на цы́бачкі* (ЛАБНГ, 2, к. 113), *пацу́к – бацу́к, пац – бац* 'пацук' (ЛАБНГ, 1, к. 88; СПЗБ), *цяльпу́х – цяльбу́х* 'кругляк' (ЛАБНГ, 1, к. 190), *парка́н – барка́н* 'агароджа з тонкіх кійкоў' (ЛАБНГ, 4, к. 123), *по́чкі – бо́чкі* 'ныркі' (ЛАБНГ, 3, к. 87), *драпа́ч – драба́ч* 'дзяркач' (ЛАБНГ, 3, к. 125; СПЗБ), *пуля́ты – була́ты* 'зіркаты' (ЛАБНГ, 3, к. 1), *пасале́не – басале́нё* 'фасольнік', *пасо́ля – басо́ля* 'фасоля' (ЛАБНГ, 2, к. 201), *клыпаты –*

*клыбаты* 'клыпаты, кульгавы' (ЛАБНГ, 3, к. 100; СПЗБ), параўн. літ. *klipytà, klìbis* 'тс'. Пашырэнне рэгіянальнае: *хляба* (Гомельшчына, Магілёўшчына) на фоне больш шырокага *хляпа* ў паўночна-ўсходнім дыялекце, адзначанага такама ў Стол.; *бацу́к* (астраўны характар у розных гаворках з найбольшай канцэнтрацыяй у Гродзенскай вобласці на фоне пашырэння варыянта *пацук* у асноўным масіве беларускай дыялектнай мовы), *бац* (лакалізуецца ва ўсходнім Панямонні: Лід., Іўеў., Карэл.), варыянт *пац* (адзначаецца ў гаворках цэнтральнай, паўночна-заходняй часткі Беларусі і ў некаторых палескіх гаворках у сярэднім цячэнні р. Прыпяць); *на цыбачкі* (параўн. *цыбаты*) спарадычна адзначаецца ў гаворках усходняй зоны на фоне шырока прадстаўленага ў гэтай зоне зыходнага варыянта); *клыбаты* (гаворкі Гродзеншчыны, зыходны варыянт *клыпаты* адзначаны ў Карэл., Пух., Гарадоц.). Вузкарэгіянальнае: *драбач* (Віл., Бял.) пры адсутнасці мяжы з гаворкамі Брэстчыны (Кам., Брэсц., Малар., Стол.), дзе адзначаецца немадыфікаваны варыянт *драпач*; *рабуха* (Ашм., Слуцк.; пры агульнабеларускім *рапуха*); *шыбада* (Кобр., Бяроз., Слон.; на фоне заходнепалескага *шыпата*); *булаты* (Ухвала Круп.). У шэрагу выпадкаў адзначана паралельнае ўжыванне абодвух варыянтаў: *хляба* (Клюкаўка Арш., Хізы Ветк.), *балонка* (Камянюкі Кам.), *на цыбачкі* (Ворнаўка Карм.), *бацук* (Валынцы Верхнядзв., Гай Кругл.), *бац* (Бакшты Іўеў.).

2. Азванчэнне /п/ у пазіцыі перад плаўным санорным:

*плу́ска – блу́ска* 'клоп', 'лясны клоп' (ЛАБНГ, 1, к. 359, 361; ДСБ), *плю́шнік – блю́шнік* 'трава, падобная да аеру, плюшчай', (ЛАБНГ, 1, к. 273), *плюшча́й – блюжджа́й* (СГВ), *праківа́ – броківа́* 'жыгучка' (ЛАБНГ, 1, к. 258), *пра́жка – бра́жка* 'спражка рэменя' (ЛАБНГ, 4, к. 241), *прэ́нзлі – брэ́нзалькі* 'махры' (ЛАБНГ, 4, к. 247; СПЗБ), параўн. польск. *frędzla* 'махор', *пла́нка – бла́нка* 'планка з адтулінай для млёна' (ЛАБНГ, 4, к. 295), *пле́шка – бле́шка* 'бутэлька' (ЛАБНГ, 5, к. 296), *паплу́таны – паблу́таны* (ЛАБНГ, 5, к. 190), *плута́юцца – блута́юцца* (ЛАБНГ, 4, к. 161), *плеву́зкаць – бле́ву́зкаць* (ТС, СГВ), параўн. *плевать – блевать*. Пашырэнне агульнабеларускае: *блута́юцца* (асноўная частка беларускага дыялектнага масіву). Рэгіянальнае: *бражка* (Магілёўшына, Гомельшчына) на фоне варыянта *пражка*, які сустракаецца на большай частцы беларускага дыялектнага масіву і ў заходнепалескіх гаворках. Вузкарэгіянальнае: *блуска* (Кам., Жаб., Кобр., Драг.) пры вузкарэгіянальным *плуска* (Брэсц., Жаб., Малар.); *броківа* (Лельч., Пін.) на фоне спарадычна адзначаемага *проківа* ў палескім рэгіёне; *бланка* (Чэрв., Ганц., Рэч., пашырэнне мадыфікаванага варыянта мае астраўны характар пры шырока прадстаўленым у гаворках усходняй зоны варыянце *планка*), *блевузкаць* (Стол., Лід.); *блюшнік* (Кам.), *блюжджай* (Шчуч.), *блешка* (Малар.), *басалянё* (Карэл.). Лакальнае: *брэнзалькі* (Саланое Віл.). У шэрагу выпадкаў адзначана паралельнае ўжыванне варыянтаў: *блуска* 'лясны клоп' (Аніскавічы Кобр.), *броківа* (Дзяржынск Лельч.), *бражка* (Забалоцце Мсцісл., Дуброва Рэч.), *блеву́зкаць* (Сямігосцічы Стол.).

/п'/ → /б'/: *пінжа́к – бінжа́к* (ЛАБНГ, 4, к. 228, КСУМ), *бінджа́к*, *бінча́к* (СПЗБ), *кунпя́к – кунбя́к* 'шынка' (ЛАБНГ, 4, к. 344, СПЗБ), 'вэнджанае мяса' (ЛАБНГ, 4, к. 345), *кумпя́к – кумбя́к* 'шынка' (ЛАБНГ, 4, к. 344), 'бядро ў чалавека' (СПЗБ); параўн. літ. *kum̃pis* 'сцягно', *кны́пяль – кны́бель* 'цурка для вязання снапоў' (ЛАБНГ, 2, к. 299; ДСБ; СПЗБ): параўн. ням. *Knüppel* 'кій'. Дадзеная змена зафіксавана ў словах небеларускага паходжання. Пашырэнне вузкарэгіянальнае: *бінжак* (Чэрв., Слаўг., Краснап.), *бінджак*, *бінчак* (Чэрв., Лях.) на фоне распаўсюджання варыянта *пінжак* ва ўсім беларускім дыялектным арэале, акрамя Усходняга Палесся; *кунбяк* 'шынка' (Глыб.; на фоне пашыранага ў паўночна-заходнім рэгіёне зыходнага варыянта *кунпяк*), *кунбяк* 'вэнджанае мяса' (Курапалле Паст.), *кумбяк* 'бядро ў чалавека' (Шчуч.), 'шынка' (Курапалле Паст.; на фоне распаўсюджанага ў розных гаворках Беларусі зыходнага варыянта), *кныбель* (Пін.).

/б/ → /п/: *бо́рацца – по́рацца* 'бадацца' (пра карову) (ЛАБНГ, 1, к. 48), *кубло́ – купло́* 'птушынае гняздо' (ЛАБНГ, 1, к. 98), *пэ́кач – бэ́кач* 'бакас' (ЛАБНГ, 1, к. 130), *бро́вар – про́вар* (ММГ). Пашырэнне рэгіянальнае: *порацца* (найбольшая канцэнтрацыя ў гаворках Міншчыны (Маладз., Нясв., Мін., Дзярж.), а таксама адзначана і ў суседніх гродзенскіх (Дзятл.) на фоне больш распаўсюджанага на захад ад Мінска варыянта *борацца*), *пэкач* (абодва варыянты лічацца гука-

пераймальнымі, пашыраны на поўдні Брэстчыны, ізаглоса праходзіць па лініі Камянец – Ганцавічы – Столін, і паходзяць ад фр. *bécasse*) [8, с. 74; 10, т. 1, с. 283]. Вузкарэгіянальнае: *купло* (Чач.) на фоне ўсходнепалес. *кубло*; варыянт *купяло* занатаваны ў гаворках Гродзеншчыны (Навагр., Карэл.), *прóвар* (Мін.).

/б'/ → /п'/: *лубя́нішча – люпя́нішча* 'поле пасля лубіну' (ЛАБНГ, 2, к. 172). Пашырэнне вузкарэгіянальнае: *лупянішча* (паўночна-заходняя частка Віцебшчыны: Паст., Рас., Верхнядзв.). Адзначана паралельнае ўжыванне варыянтаў: *люпянішча* (Сяляўшчына Рас., Валынцы Верхнядзв.).

З'ява азванчэння білабіяльных, відавочна, пераважае над адваротным працэсам, прадстаўленым адзінкавымі выпадкамі, хутчэй за ўсё, нефанетычнага характару. У цэлым варыянты з азванчэннем губных нераўнамерна размеркаваны ў беларускім дыялектным масіве. Радзей яны сустракаюцца на Віцебшчыне і Палессі ў басейне р. Прыпяць. Найбольшая канцэнтрацыя прыкладаў назіраецца ва ўсходнім Падняпроўі. Канцэнтрацыя азванчэння губных характэрна таксама для некаторых гаворак заходняй Брэстчыны, у меншай ступені для ўсходняга Панямоння.

/т/ → /д/: *скі́ртá – скі́рдá* 'застаронак у гумне', *сці́ртá – сці́рдá* 'сцірта сена, саломы, збожжа' (ЛАБНГ, 2, к. 225, 260; СПЗБ) (параўн. літ. *stìrta* 'стог сена, саломы, збожжа'), *строк – здрок* 'авадзень, вялікая муха', (ЛАБНГ, 1, к. 550; СПЗБ) (параўн. ст.-сл. стрѣкало, бел. *стрыкаць*, укр. *стрікати*), *каўтну́ць – ковдну́ты* 'глынуць' (ЛАБНГ, 4, к. 410), *макóтра – макóдра* 'макацёр' (ЛАБНГ, 5, к. 290), *ты́рса – ды́рса* 'пілавінне' (ЛАБНГ, 1, к. 196), *калаўрóтак – калаўрóдак* 'самапрадка' (ЛАБНГ, 4, к. 159; СПЗБ), *кута́сы – куда́сы* 'махры' (ЛАБНГ, 4, к. 242), *ку́тас – ку́дас* 'пучок нітак на поясе для ўпрыгожвання' (ЛАБНГ, 4, к. 240), *ку́даса – ку́таса* (ЛАБНГ, 2, к. 46; 5, к. 33; ДСБ), *тры́зніць – дры́зніць* (ЛАБНГ, 3, к. 208), *су́тачкі – су́дачкі* 'вузенькая прастора паміж будынкамі', 'вузенькі пакойчык у хаце' (ЛАБНГ, 5, к. 62; СПЗБ; ДСБ) (**tъka* звязана з '*тыкаць*, *стык*, параўн. укр. *сутки* 'вузкі праход', рус. наўгарод. *сутки* 'вуглы ў хаце' [9, т. 3, с. 811]). Семантычная дывергенцыя фанематычных варыянтаў з каранямі *куд-/кут-* адбылася ў праславянскую пару, параўн. *кутаць*, рус. *кудри*. Пашырэнне агульнабеларускае: *скірда* 'сцірта сена, саломы, збожжа'; рэгіянальнае *скірда* 'застаронак у гумне' (гаворкі Віцебшчыны: Гарад., Верхнядзв., Брасл.; Гомельшчыны: Касц., Буда-Каш., Гом., Рэч.; Міншчыны: Люб., Чэрв., Смарг.; Латвіі: Даўг.), *сцірда* (спарадычна ў паўднёва-заходнім дыялекце, адзначаны ў Пол.), *здрок* (канцэнтрацыя ў паўднёвай частцы асноўнага масіву беларускіх гаворак), *судачкі* (заходнепалескі арэал, а таксама адзначана ў некаторых іншых гаворках: Стаўб., Петр., Бабр., Слон.). Вузкарэгіянальнае: *кудас* (Жлоб., Светлагор., Калінк.), *кудасы* (Ельск.), *кутаса* (Пруж., варыянт *кудаса* распаўсюджаны ў гаворках Брэстчыны), *дрызніць* (Бял.), *дырса* (Петр.), *макодра* (Дзятл.), *калаўродак* (Шчуч., Зэльв., Крынк.), *судачкі* 'вузенькі пакойчык у хаце' (Пруж.), *судачкі* 'сцежка паміж пабудовамі, агароджамі' (Капыл.); лакальнае: *ковднуты* (Дружылавічы Іван.). Адзначана паралельнае ўжыванне з немадыфікаваным варыянтам *скірда́* (Дуброва Рэч.), *макодра* (Азяраны Дзятл.). Часам назіраецца азванчэнне зычных прыстаўкі перад галосным кораня: *атыма́лка – адыма́лка* 'ануча, якой бяруць гаршкі і чыгуны', *аты́мка – ады́мка* 'тс', *адыма́чка* 'тс' (ЛАБНГ, 2, к. 201, СПЗБ), *атóрак – адóрак* 'папярочка (пра баразну)' (ЛАБНГ, 2, к. 221), *атóр – адóр* 'заварот у канцы загона' (ЛАБНГ, 2, к. 140). Пашыраны дадзеныя варыянты ў паўночна-заходняй зоне.

/д/ → /т/: *падакóннік – патакóннік* (ЛАБНГ, 4, к. 60), *ла́ндуш – ла́нтуш, ла́нтыш* 'ландыш' (ЛАБНГ, 1, к. 231, СПЗБ). Пашырэнне вузкарэгіянальнае: назвы з коранем *лант-* (Глыб., Тал., Светлагор.). Лакальнае *патаконнік* (Ісерна Слуцк.).

/к/ → /g/: *курга́н – gурга́н*[1] 'сухадольная сенажаць' (ЛАБНГ, 2, к. 248); *шóркі – шóрgі* 'шамкі на шыі каня', *шуркуны́ – шурgуны́* 'тс' (ЛАБНГ, 1, к. 322); *ску́ла – зgу́ла* (ЛАБНГ, 3, к. 70), *краму́шка – gраму́шка* 'крэмень' (ЛАБНГ, 4, к. 100), *крэ́сіла – gрэ́сіла* 'крэсіва' (ЛАБНГ, 4, к. 98). Пры гэтым паралельна ў гаворках могуць ужывацца варыянты з фрыкатыўным /г/: *мóркава – мóргава – мóрgава* 'морква' (ЛАБНГ, 2, к. 193; СГЦР), *клю́ка – gлю́gа – глю́га* 'дзюба' (ЛАБНГ, 1, к. 90;

[1] Літарай g аўтарам перадаецца г выбухное.

СПЗБ); *клююць – ǵлююць – глююць* (ЛАБНГ, 1, к. 92), *маркоўнік – маргоўнік – марǵоўнік* (ЛАБНГ, 1, к. 170; СГЦР), *крумкач – грумкач – ǵрумгач* (ЛАБНГ, 1, к. 132): апошняе слова паходзіць ад гукаперaймальнага дзеяслова *крумкаць* [8, с. 83]. Арэал распаўсюджання гэтай з'явы – у асноўным гаворкі паўночна-заходняй дыялектнай зоны ці яе перыферыі. Аднак выпадкі такога вымаўлення адзначаны і ў населеных пунктах на іншай тэрыторыі: *заǵелзаць* (в. Спорава Бяроз., Сінькевічы Лун., Струга Стол.); *груǵан* (Машканы Сен.); *шорǵі* (Гай Кругл.).

/g/ → /к/: *ǵірса – кірза* 'калоўнік' (ЛАБНГ, 1, к. 250), *ǵаб – каб* 'граб' (ЛАБНГ, 1, к. 158), *ǵельня – кельня* 'палукаш' (ЛАБНГ, 4, к. 428), *заǵелзаць – закелзаць* 'надзяваць на каня аброць' (ЛАБНГ, 2, к. 322), *ǵазніца – казніца* (ЛАБНГ, 4, к. 110), *ǵуз – куз* 'жаўлак' (ЛАБНГ, 3, к. 69), *ǵузік – кузік* (ЛАБНГ, 4, к. 217), *мязǵа – мяска* 'мязга, мякаць пад карою дрэва' (ЛАБНГ, 1, к. 206), *жаўǵаць – жаўкаць* 'чмякаць бяззубым ротам' (СПЗБ), параўн. літ. *žiáugoti* 'тс'. Варыянтнасць *заǵелзаць – закелзаць* узнікла не на беларускай глебе. Мяркуемая этымалогія ўзыходзіць да зах.-балт. **gel'-z*, параўн. польск. *kiełzac*. Пашырэнне варыянтаў з /к/ у большасці выпадкаў характэрна для паўднёвай часткі беларускага дыялектнага масіву: гаворкі Брэсцкай, Гомельскай абласцей, паўднёвай Міншчыны, хаця адзначаецца іх наяўнасць па-за межамі акрэсленага арэала: *карсэт* (Іўеў., Карэл., Пух.); *жаўкаць* (Паст.), *мяска* (Кліч., Бял.); *кузік* (Лёзн., Хоц.). Адзначана паралельнае ўжыванне: *карсэт* (Бакшты Іўеў., Лукі Карэл.), *жаўкаць* (Магуны Паст.), *заǵелзаць* (Струга Стол., Махнавічы Маз., Сінкевічы Лун., Спорава Бяроз.). У шэрагу выпадкаў прысутнічае паралельнае ўжыванне варыянтаў з /г/ фрыкатыўным: *газніца, гуз, гарсэт, мязга.*

## 2. Варыянтнасць шчылінных

Прадстаўлена варыянтамі са зменай фанем /с/ – /з/, /с'/ – /з'/, /ш/ – /ж/, /х/ – /г/.

/с/ → /з/: *кірса – кірза* 'пілавінне' (ЛАБНГ, 1, к. 196; СГЦР), *бусы – бузы* (ЛАБНГ, 4, к. 249), *сачавіца – зачэвіца* (ЛАБНГ, 2, к. 169), *слокат – злокат* 'козыт' (ЛАБНГ, 3, к. 79), *слакатаць – злакатаць* 'казытаць' (ЛАБНГ, 3, к. 80). Назіраецца такая варыянтнасць і ў прыстаўках: *сурочыць – зурочыць* (ЛАБНГ, 3, к. 279; СПЗБ). Пашырэнне вузкарэгіянальнае: *кірза* (Стол.), *кірса* (Мін.), *зачэвіца* (Ганц.), *злокат, злакатаць* (Буда-Каш.), *зурочыць* (гаворкі Брэстчыны і сумежныя з імі); лакальнае: *бузы* (Маркоўскае Лельч.).

/с'/ → /з'/: *драсён – дрызён* (ЛАБНГ, 1, к. 236) (ад прасл. **drěstьnъ* [10, т. 3, с. 149]). Пашырэнне лакальнае: *дрызён* (Каробчыцы Гродз.).

/з/ → /с/: *мыза – мыса* (ЛАБНГ, 1, к. 10) (параўн. літ. *mūza*, укр. *мизя, мидзя, муся*), *агузак – агусак* 'ніжняя частка снапа' (ЛАБНГ, 2, к. 175). Пашырэнне рэгіянальнае: *мыса* (адзначаецца ў басейне Прыпяці з найбольшай канцэнтрацыяй на тэрыторыі сярэдняга цячэння). Вузкарэгіянальнае: *агусак* (Бял.). Лексікалізаваны варыянт *мыса* з'яўляецца нормай беларускай літаратурнай мовы.

/з'/ → /с'/: *зверабой – сверабой* (ЛАБНГ, 1, к. 234), *зіхацець – сіхацець* (ЛАБНГ, 2, к. 9), *казьлёнак – касьлёнак* (ЛАБНГ, 1, к. 40), *гузёл – гусёл* 'вузел' (ЛАБНГ, 4, к. 205), *газьнік – гасьнік* 'газоўка' (ЛАБНГ, 4, к. 110). Пашырэнне вузкарэгіянальнае: *сверабой* (Гарад., Дзятл.), *сіхацець* (Клім.), *касьлёнак* (Бых.), *гусёл* (Свісл.); лакальнае: *гасьнік* (Дзям'янкі Добр.)

/ш/ → /ж/: *смаршок – смаржок* 'смаржок канічны', 'смаржок звычайны' (ЛАБНГ, 1, к. 280, 281; СПЗБ), *паша – пажа* (ЛАБНГ, 1, к. 65), *падбрушша – падбружжа* (ЛАБНГ, 4, к. 337), *падбрушына – падбружына* (ЛАБНГ, 4, к. 337), *вышар – выжар* 'віш, старая няскошаная трава' (ЛАБНГ, 1, к. 278), *калошы – каложы* 'галёшы' (СПЗБ). Пашырэнне рэгіянальнае: *смаржок* (спарадычна па ўсім беларускім дыялектным арэале, акрамя Палесся), *пажа* (спарадычна ў басейне сярэдняй Прыпяці); вузкарэгіянальнае: *падбружжа* (Віц.), *падбружына* (Шум.), *каложы* (Швянч.). Лакальнае: *выжар* (Камянюкі Кам.). Адзначана паралельнае ўжыванне варыянтаў: *пажа* (Бярозаўка Гл.), *смаржок* (Клюкаўка Арш.).

/ж/ → /ш/: *жужма – шужмо, шушма* 'вязанка, многа чаго-н.' (ЛАБНГ, 5, к. 17; СПЗБ), параўн. рус. смал. *жушма*. Пашырэнне вузкарэгіянальнае: *шушма* (Віл.), *шужмо* (Малар.). Адзначана паралельнае ўжыванне варыянтаў: *шужмо* (Хацісла̌ў Малар.).

/х/ → /г/: *штурхáць – штургáць* (ЛАБНГ, 2, к. 116), *пéрхаць – пергá* (ЛАБНГ, 1, к. 8), *вéхаць – вéгаць* (ЛАБНГ, 5, к. 301; СПЗБ), *мархáль – маргáль* (ЛАБНГ, 1, к. 38). Фанематычныя варыянты суфіксаў: *рапýха – рапýга* (ЛАБНГ, 1, к. 346; СПЗБ), *сінюха – сынюга* 'ягджаль' (ЛАБНГ, 1, к. 267), *сіпýха – сіпýга* (пра глебу) (ЛАБНГ, 2, к. 132), *вэ́ртяха – вэ́рцяга* 'макацёр' (ЛАБНГ, 5, к. 290). Пашырэнне вузкарэгіянальнае: *рапýга* (асобныя гаворкі паўночна-заходняй зоны, у тым ліку на тэрыторыі Літвы: Астр., Ашм., Паст., Шальч., Трак., адзначана ў Люб.), *вегаць* (Ваўк., Капыл., Пін.), *маргаль* (Браг.). Адзначана паралельнае ўжыванне: *вегаць* (Семежава Капыл.).

/г/ → /х/: *пуглíвы – пухлíвы* 'пужлівы' (пра каня) (ЛАБНГ, 1, к. 45), *глéўкі – хлéўкі* 'ацеслівы (хлеб)' (ЛАБНГ, 4, к. 317); змена можа адбывацца і ў пратэзе: *гары́й – хары́й* 'аер' (ЛАБНГ, 1, к. 272), параўн. *гаер, агер* 'тс'. Пашырэнне вузкарэгіянальнае: *пухлíвы* (Саліг.), *хлéўкі* (Чэрв.). Лакальнае: *хары́й* (Пяркі Кобр.). Адзначана паралельнае ўжыванне: *хлéўкі* (Рудня Астравітая Чэрв.).

## 3. Варыянтнасць афрыкат

Наступнымі прыкладамі ілюструецца нерэгулярнае азванчэнне і аглушэнне пар афрыкат: /ч/ – /ž/, /ц/ – /z/, /ц'/ – /z'/.

/ч/ → /ž/: *чмель – джмель* (ЛАБНГ, 1, к. 319) (ад прасл. **čьmělь*, параўн. укр. *чміль, джміль* [11; 9, т. 4, с. 459]). Пашырэнне вузкарэгіянальнае: *джмель* (Шчуч., Уздз.).

/ц/ → /z/: *цы́ндра – дзы́ндра* 'апаліна' (СПЗБ), 'неўрадлівая глеба чырвонага колеру' (ЛАБНГ, 2, к. 134), *цýглі – дзýглі* (ЛАБНГ, 2, к. 321). Пашырэнне вузкарэгіянальнае: *дзындра* 'неўрадлівая глеба чырвонага колеру' (Брасл., Стаўб., Мін.), 'апаліна' (Брасл., Карэл., Ваўк., Шальч.), *дзуглі* (Петр., Маз.).

/ц'/ → /z'/: *цвік – дзвік* (ЛАБНГ, 2, к. 283), *шэ́нціць – шэ́ндзіць* 'шанцаваць' (ЛАБНГ, 3, к. 17). Пашырэнне вузкарэгіянальнае: *дзвік* (Шчуч.), *шэндзіць* (Астр.).

/z'/ → /ц'/: *хíндзя – хíнця* 'трасца' (ЛАБНГ, 3, к. 128), *дзяўкаць – цяўкаць* 'гаварыць абы-што' (ЛАБНГ, 3, к. 185, СПЗБ). Дадзеная змена зафіксавана ў адзінкавых лексемах іншамоўнага і гукапераймальнага паходжання. Пашырэнне вузкарэгіянальнае: *хінця* (Бабр., а таксама гаворкі Гомельшчыны ў ніжнім цячэнні Сожа), *цяўкаць* (Віл., Шум., Круп.).

У асобных выпадках аглушаюцца і азванчаюцца спалучэнні 'шчылінны + афрыката':

/шч/ → /жž/: *лýшчыць – лýжджыць*, 'лушчыць' (ЛАБНГ, 2, к. 214), 'церці лён' (СПЗБ), параўн. літ. *lùgždinti, lukšdénti* 'лушчыць'. Пашырэнне вузкарэгіянальнае: *лужджыць* 'лушчыць' (Гор.), 'церці лён' (Воран.).

/жž/ → /шч/: *мажджэ́р – машчэ́р* 'медная ступка' (ЛАБНГ, 5, к. 326, ДСБ). Слова запазычана з польскай мовы: *moździerz* [10, т. 6, с. 158], параўн. укр. *мастúти, мащý*. Пашырэнне вузкарэгіянальнае: *машчэр* (Лоеў., Браг., Слуцк.).

Аглушэнне можа суправаджацца спрашчэннем спалучэння 'шчылінны + афрыката':

/ž/ → /ч/: *ляжджáй – лячáй* 'ягджаль' (ЛАБНГ, 1, к. 267), параўн. літ. *lazdá* 'лугавая трава', *lizdáitė* 'балотная расліна' [10, т. 6, с. 116]. Пашырэнне вузкарэгіянальнае: *лячай* (Ганц.).

Такім чынам, дыялектныя матэрыялы, сабраныя ў XX ст., сведчаць, што вынікі нерэгулярных змен па прыкмеце звонкасць/глухасць з большай ці меншай канцэнтрацыяй пашыраны ва ўсім беларускім дыялектным кантынууме. Пры гэтым выпадкі азванчэння зычных відавочна пераважаюць над адваротным працэсам у прыкладных суадносінах 2:1. Найбольш ілюстратыўна нерэгулярныя змены прадстаўлены ў фанемнай пары *б / п*, для якой намі выяўлена 30 пар фанематычных варыянтаў, 26 з якіх складаюць выпадкі азванчэння. Для гэтай фанемнай пары адзначаецца таксама значная колькасць прыкладаў свабоднага вар'іравання [9]. Тым не менш канчатковы статус паказаных трансфармацый можна высветліць толькі пры дэталёвым аналізе рэгіянальных дыялектных матэрыялаў і пісьмовых помнікаў.

### Крыніцы даследавання

ДСБ – Дыялектны слоўнік Брэстчыны / склад. М. М. Аляхновіч [і інш.]. – Мінск: Навука і тэхніка, 1989. – 294 с.

КСУМ – Бялькевіч, І. К. Краёвы слоўнік Усходняй Магілёўшчыны / І. К. Бялькевіч. – Мінск: Навука і тэхніка, 1970. – 512 с.

ЛАБНГ – Лексічны атлас беларускіх народных гаворак: у 5 т. / Акад. навук Беларусі, Ін-т мовазнаўства; пад рэд. М. В. Бірылы, Ю. Ф. Мацкевіч. – Мінск: Бел. фонд фундамент. даслед.: Каміс. дзярж. знакаў, 1993–1998. – 5 т.

ММГ – Матэрыялы да слоўніка мінска-маладзечанскіх гаворак: у 3 вып. / пад рэд. М. А. Жыдовіч. – Мінск: Выд-ва БДУ, 1970–1977. – Вып. 1–3.

СГЦР – Слоўнік гаворак цэнтральных раёнаў Беларусі: у 2 т. / пад рэд. Е. С. Мяцельскай. – Мінск: Універсітэцкае, 1990. – Т. 1.

СГВ – Сцяшковіч, Т. Ф. Слоўнік Гродзенскай вобласці / Т. Ф. Сцяшковіч. – Мінск: Навука і тэхніка, 1983. – 671 с.

СПЗБ – Слоўнік беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча: у 5 т. / АН БССР, Ін-т мовазн.; уклад. Ю. Ф. Мацкевіч [і інш.], пад рэд. Ю. Ф. Мацкевіч. – Мінск: Навука і тэхніка, 1979–1986. – 5 т.

ТС – Тураўскі слоўнік: у 5 т. / Акад. Навук БССР, Ін-т мовазнаўства; склад. А. А. Крывіцкі [і інш.]; рэд. А. А. Крывіцкі. – Мінск: Навука і тэхніка, 1982 – 1987. – 5 т.

### Умоўныя абазначэнні[1]

бел. – беларускае
Гарадоц. – Гарадоцкая гміна (Рэспубліка Польшча)
Даўг. – Даўгаўпілскі (Латвія)
зах.-балт. – заходнебалтыйскае
к. – карта
Крынк. – Крынкаўская гміна (Рэспубліка Польшча)
літ. – літоўскае
наўгарод. – наўгародскае
ням. – нямецкае
параўн. – параўнаць
польск. – польскае
прасл. – праславянскае
рус. – рускае
смал. – смаленскае
ст.-сл. – стараславянскае
Трак. – Тракайскі (Літва)
укр. – украінскае
усходнепалес. – усходнепалескае
фр. – французскае
Шальч. – Шальчынінскі (Літва)
Швянч. – Швянчонскі (Літва)

### Літаратура

1. Горшкова, К. В. О фонеме в языке и речи / К. В. Горшкова // Slavia orientalis. – 1980. – № 1/2. – S. 79–83.

2. Кодзасов, С. В. Исследование акустической динамики взрывных, фрикативных и сонорных согласных в русском литературном языке / С. В. Кодзасов, Е. В. Щигель // Фонетика сегодня: материалы докл. и сообщ. V Междунар. науч. конф., Москва, 8–10 нояб. 2007 г. / Рос. акад. наук, Ин-т рус. яз.; под ред. Р. Ф. Касаткиной [и др.]. – М., 2007. – С. 115–117.

3. Пунтусова, О. П. Пролог XIII в. как древнейший псковский памятник / О. П. Пунтусова // I Междунар. конгресс исследователей рус. яз. «Русский язык: исторические судьбы и современность»: сб. тез. [Электронный ресурс]. – М., 2001. – Режим доступа: http:// www. philol. msu. ru/~rlc2001/abstract/files/ist_dial. doc. – Дата доступа: 23.12.2007.

4. Колесов, В. В. Севернорусские чередования согласных, парных по глухости – звонкости / В. В. Колесов // Вестн. Ленингр. гос. ун-та. Сер. 2: История. Языкознание. Литературоведение. – 1963. – Вып. 1. – С. 73–74.

5. Колесов, В. В. История русского языка / В. В. Колесов. – СПб.: Филол. фак. С.-Петерб. гос. ун-та. – М.: Академия, 2005. – 669 с.

6. Николаева, Т. М. Фонологизация пары *t/d в диахроническом поле славянского пространства / Т. М. Николаева // Фонетика сегодня: материалы докл. и сообщ. V Междунар. науч. конф., Москва, 8–10 нояб. 2007 г. / Рос. акад. наук, Ин-т рус. яз.; под ред. Р. Ф. Касаткиной [и др.]. – М., 2007. – С. 142–144.

7. Яшкін, І. Я. Узаемадзеянне рознадыялектных сістэм (фанетыка) / І. Я. Яшкін. – Мінск: Навука і тэхніка, 1976. – 176 с.

[1] Абазначэнні раёнаў Беларусі, паколькі яны змяшчаюцца ў зборніку асобна, не падаюцца.

8. Лексічныя ландшафты Беларусі: жывёльны свет / навук. рэд.: Ф. Д. Клімчук, І. Я. Яшкін. – Мінск: Навука і тэхніка, 1995. – 255 с.

9. Фасмер, М. Этимологический словарь русского языка: в 4 т. / М. Фасмер. – 4-е изд., стер. – М.: Астрель: АСТ, 2008. – 4 т.

10. Этымалагічны слоўнік беларускай мовы. Т. 1–12 / Акад. навук БССР; пад рэд. В. У. Мартынава, Г. А. Цыхуна. – Мінск: Навука і тэхніка, 1978–2008. – 12 т.

11. Бунько, Н. М. Назвы мурашкі, мурашніку і чмяля ў беларускіх народных гаворках / Н. М. Бунько // Беларуская лінгвістыка / рэдкал.: А. І. Падлужны (адк. рэд.) [і інш.]. – Мінск, 2003. – Вып. 53. – С. 85–91.

*Л. П. Кунцэвіч*

## ТЫПЫ НАЙМЕННЯЎ ЛЕКАВАЙ РАСЛІНЫ *PRUNELLA* (*ГАРЛЯНКА*) У НАРОДНЫХ ГАВОРКАХ УСХОДНЕСЛАВЯНСКІХ МОЎ

Лексіка жывой народнай мовы – гэта найбагацейшы матэрыял, які дае магчымасць асвятліць не толькі шматлікія пытанні лексікалогіі сучаснай беларускай мовы, дыялектнай і літаратурнай, але і пытанні гістарычнай дыялекталогіі, гісторыі беларускай літаратурнай мовы, а таксама культуры беларускага народа. Беларускае мовазнаўства, якое ў апошнія дзесяцігоддзі папоўнілася шэрагам прац у галіне дыялектнай лексікаграфіі, а таксама такімі фундаментальнымі працамі, як «Лексічны атлас беларускіх народных гаворак», «Агульнаславянскі лінгвістычны атлас» і «Лінгвістычны атлас Еўропы», выйшла на новы этап вывучэння слоўнікавага складу беларускай дыялектнай мовы. Назапашаныя матэрыялы дазваляюць вывучаць і паглыблена аналізаваць многія важныя з'явы, якія да гэтага часу не былі даследаваны. Зараз надзвычай актуальным з'яўляецца вывучэнне лексічнага складу дыялектнай мовы ў анамасіялагічным аспекце з прымяненнем лінгвагеаграфічнага метаду. Гэта дае магчымасць на фоне агульнага паказаць спецыфічнае як у структуры, так і ў семантыцы асобных лексем, размежаваць вузкалакальную лексіку і лексіку, пашыраную на значнай тэрыторыі.

У апошнія дзесяцігоддзі беларускімі дыялектолагамі даследаваны шматлікія групы слоў, аб'яднаных па тэматычным прынцыпе. Менавіта аналіз адназначнага і так або іначай абмежаванага кола намінатыўных знакаў, выдзеленых па іх дэнататыўнай функцыі, дазваляе вызначыць прыкметы, што ляглі ў аснову новых найменняў разнастайных аб'яднанняў слоў, і ўсебакова даследаваць матывацыйныя адносіны паміж лексічнымі адзінкамі [1, с. 13].

Беларуская народная батанічная наменклатура па сваім аб'ёме і значэнні займае важнае месца ў лексічным складзе мовы. Гэта вельмі багатая, старажытная і каштоўная для гісторыі мовы і культуры тэматычная група слоў. Жыццёвы вопыт чалавека, яго тонкія назіранні над акаляючым светам жывой прыроды знайшлі найбольш яркае адлюстраванне ў лексіцы флоры і фаўны.

Большасць наменклатурных найменняў раслін утворана на базе прыкмет, якія ўказваюць ***на форму расліны, месца росту, колеравыя або смакавыя якасці, сферу прымянення расліны***. У розных месцах і ў розныя часы адной і той жа расліне надаюцца розныя назвы, асабліва, калі расліна мае многа прыкмет. У такіх выпадках назва, пашыраная на пэўнай тэрыторыі, звычайна выражае тое ці іншае адценне значэння.

Агульнавядома, што ў аснове практычна кожнай незапазычанай назвы ў момант яе ўзнікнення ляжыць пэўны псіхалагічны момант: чалавек вылучае ў аб'екце называння адну базавую ці некалькі прыкмет, суадносіць названы аб'ект з ужо пазнанымі раней і названымі падобнымі аб'ектамі. З цягам часу матывацыя, якая ляжыць у аснове наймення, можа мяняцца, некаторыя ж найменні захоўваюць сваю першасную матывацыю, а іншы раз дадаткова набываюць яшчэ другасную матывацыю [2, с. 23]. Па той прычыне, што батанічная лексіка, будучы намінатыўнай па прыродзе, выклікае непазбежнасць апеляцыі да знешніх прыкмет і асаблівасцей раслін пры вызначэнні паходжання наймення, заўсёды пры апісанні павінна быць кароткая характарыстыка

рэальнай расліны [3, с. 12]. Як адзначаюць многія даследчыкі, ядро батанічнай наменклатуры любой славянскай мовы складаюць праславянскія назвы [4, с. 8], аднак вызначэнне этымалогіі і матывацый батанічных найменняў вельмі часта бывае немагчымым. Нярэдка таксама назвы раслін змешваюцца, пераносяцца з адной расліны на другую, асабліва ў межах аднаго батанічнага сямейства. Многія назвы ўтвараюць вялікія намінатыўныя рады, у склад якіх уваходзяць часам па 10, а то і значна больш найменняў. Некаторыя з іх з'яўляюцца агульнапашыранымі, іншыя ж – вузкамясцовымі, рэгіянальнымі. Прыкладам гэтага могуць служыць найменні лекавай расліны *чорнагалоў* (Prunella), дыялектныя назвы якой зафіксаваны ў гаворках усіх усходнеславянскіх моў.

Для абазначэння гэтай лекавай меданоснай травяністай расліны, якая расце пераважна ў лісцевых і мяшаных лясах, на лугах, трапляецца каля дарог і сцежак, на берагах рэчак, мае цёмнасінія або фіялетавыя кветкі, сабраныя ў густое, галоўчатае або коласападобнае суквецце, у беларускай літаратурнай мове існуюць дзве назвы: *чорнагаловік* і *чорнагалоў*. Абедзве гэтыя назвы шырока ўжываюцца як у спецыяльнай навуковай літаратуры, так і ў творах мастацкай літаратуры. У народнай медыцыне Беларусі ўжываюць водны адвар усёй расліны або надземнай яе часткі, сабранай у час цвіцення. Адвар п'юць і палошчуць ім горла пры ангіне, запаленні верхніх дыхальных шляхоў, кашлі.

У гаворках беларускай мовы зафіксавана звыш 20 найменняў (разам са словаўтваральнымі і фанетычнымі варыянтамі) гэтай расліны. Анамасіялагічныя матэрыялы па назвах *чорнагаловіка (гарлянкі)* у беларускіх народных гаворках падаюцца найбольш поўна ў каментарыях ЛАБНГ да карты № 237 «Гарлянка». Яны сабраны на аснове пытання № 1543 «*Як называецца чорнагалоў: брунэлька, бурнэлька, гарлянка, дзеравянкі...*» (ЛАБНГ, т. 1, 100). На лексічнай карце № 237 «Гарлянка» падаюцца наступныя найменні гэтай травяністай расліны: *гарля́нка, гарлаві́нка, гарля́чнік, гарла́шнік, гарля́начка, гарлада́ўка; жарля́нка; бруна́лька, бурна́лька, барна́лька, бурна́ляк, бруна́ляк; чарнагало́ў, чарнагало́ўка, чарнагало́ўнік, чарнагало́вец, чарнагало́віца, чарнагало́вік, чарнагало́ўчык, чорноголова́; дзерэвя́нка, дырывя́нка, дэрэвля́нка, дэрэв'я́нка; сэ́рпнык; купе́нка; о́рля о́чкі; бі(ю) здоро́в'е*. Дапаўняюць гэтыя звесткі матэрыялы шматлікіх дыялектных слоўнікаў і іншых лексікаграфічных прац. Дыялектныя матэрыялы па назве *гарлянка* абагульнены таксама ў тэматычным слоўніку «Раслінны свет» [5, с. 62]. Звесткі, прыведзеныя з розных крыніц, сведчаць пра тое, што найбольш пашыранымі і разнастайнымі па фармальных паказчыках для наймення гэтай расліны з'яўляюцца назвы *гарлянка* (і яе шматлікія словаўтваральныя і марфалагічныя варыянты) і *чорнагалоў* (і яго варыянты). Яны дамінуюць у гаворках беларускай мовы, з'яўляюцца значна больш пашыранымі, чым астатнія найменні.

Калі аб'ядноўваць дыялектныя найменні *чорнагало́ва (гарля́нкі)* па тоеснасці тыпаў матывацыйных адносін, то большасць з іх можна падзяліць на некалькі груп:

1. Аб'ектныя: *гарлянка, гарлавінка, гарлячнік, гарлашнік, гарляначка, гарладаўка, жарлянка.*
2. Атрыбутыўныя: *брунэлька, бурнэлька, барнэлька, бурнэляк, брунэляк.*
3. Складаныя найменні: *чарнагалоў, чарнагалоўка, чарнагалоўнік, чарнагаловец, чарнагаловіца, чарнагаловік, чарнагалоўчык, чорногалава, чарнагубка* (атрыбутыўны + метафарычны); *орля очкі* (суб'ектны + метафарычны).
4. Матывацыйна няясныя: *сэрпнык.*

Сярод шматлікіх дыялектных найменняў *гарлянкі* ў беларускіх гаворках найбольш распаўсюджанай з'яўляецца назва *чорнагалоў*. Намінацыя *чорнагалоў* і яе варыянты спарадычна пашырана на ўсёй тэрыторыі Беларусі. Гэта найменне ў беларускіх народных гаворках нярэдка ўжываецца для абазначэння розных іншых раслін, таму часта блытаюць гэту назву, напрыклад, з найменнем балотнай расліны *падвей* (Eriophorum latifolium Hoppe), параўн.: *Чарнаrаловік з вясны расце на выгалках, на сцябурчыках расце. Навярху як чорная шапачка, а тады беленькі пушок. Чорнагалоўнік расце па лугах, як чорнянькія цвяточкі* (СПЗБ). *Калі ета травіцка не цвіце, звом ее смучай, а колі цвіце – чорнагалоў* (ЖС).

Як паказваюць матэрыялы дыялектных слоўнікаў, абедзве расліны (Prunella і Eriophorum) атрымалі гэта найменне па адной з вызначальных прыкмет – колеру шышачкі (*чорная галоўка*),

на якой растуць кветкі. Вельмі часта найменні раслін, якія па нейкіх вызначальных прыкметах падобны паміж сабой, зблытваюцца, або назва пераносіцца з адной расліны на другую, асабліва, калі гэтыя расліны знаходзяцца ў межах аднаго батанічнага сямейства.

У Гродзенскім рэгіёне зафіксавана адзінкавае найменне *чарнагубка.* Гэта складанае метафарычнае найменне, утворанае так жа, як і *чарнагалоўка.*

Словаўтваральны варыянт *чарнагалоўнік* утварае кампактны арэал на поўначы Віцебскай вобласці (карта № 237 ЛАБНГ. Т.1). Зафіксаваны ён таксама і ў рускіх народных гаворках: «*черноголовник, растение Prunella, божья помочь, еромыч*». Словаўтваральны варыянт *чарнагаловец* пашыраны ў гаворках Магілёўшчыны і спарадычна на Брэстчыне. Як адзінкавыя найменні зафіксаваны лексемы *чарнагаловік* і *чарнагалоўчык.* Спарадычна практычна на ўсёй тэрыторыі Беларусі сустракаецца лексема жаночага роду *чорнагалоўка.*

Найменне *гарлянка* і яго варыянты пашырана ў асноўным ва ўсходняй зоне беларускіх народных гаворак. Яно зафіксавана ў большасці беларускіх дыялектных слоўнікаў: *Гарлянка цвіціць сіненькім, шышачкай. У гарлянкі галубы цвет, у лесе можна яе знайсці* (СПЗБ). *Горлянку от простуды п'юць* (ТС). *Як горла баліць, знайдзі ны мяжы цьвяток гырлянку. Бабы зьбіраюць яе і кажуць, што іна пымыгаіць, калі горла абкладзець* (Бялькевіч). *Напар гарлянкі мне – нешта горла забалела* (Касяровіч). *Гарлянку трэба парыць, як баліць горла* (Сцяшковіч). *Горлянка. Жабная трава* (*Prunella*), *отваром которой пользуют боль в горле* (Насовіч). У Столінскім раёне Брэсцкай вобласці адзначана адзінкавае найменне *гарладаўка* з тым жа значэннем.

Матэрыялы па гэтай назве пададзены таксама ў «Словаре русских народных говоров», дзе прыводзіцца памета, што пашырана гэта найменне амаль усюды. Адзначым, што пад назвай *гарлянка* ў гэтым слоўніку падаюцца дваццаць сем раслін (*лапчатка норвежская, манжетка обыкновенная, гравилат прибрежный, купальница европейская, икотник серый, вероника длиннолистая* і інш.*),* каля большасці з іх пазначана, што адварам гэтай травы лечаць боль у горле. Як паказваюць матэрыялы беларускіх народных гаворак, гэта найменне абазначае таксама некалькі раслін: *дуброўку, чорнагалоў, гарлянку* (рус. *живучка)* і інш. Асабліва часта *чорнагалоў (гарлянку)* блытаюць з *дуброўкай,* якую носьбіты дыялектнай мовы называюць *гартаннай травой* і *гарлянкай.* Назва *гарлянка* зафіксавана таксама ў гаворках украінскай мовы: «*горля́нка,* бот. суховершки, Prunella – похідне утворення від *горло;* назва зумовлена тим, що суховершки застосовують при лікуванні горла» [6, т. 1, с. 568]. Гэта ж найменне ва ўкраінскай мове нададзена іншай расліне – Filago arvensis – жабнік палявы. Як бачым, адна і тая ж матывацыйная прыкмета розных раслін – лекавая уласцівасць – паўплывала на назву расліны ва ўсіх усходнеславянскіх мовах.

*Гарлянка* – гэта аб'ектная намінацыя, утвораная ад назоўніка *горла* з дапамогай суфікса *-янк-а.* Назва дадзена расліне паводле яе лячэбных уласцівасцей: адварам гарлянкі лечаць боль у горле [7, т. 3].

Лексемай *гарлянка* ў беларускіх народных гаворках абазначаецца яшчэ хвароба горла – ангіна: *Унук часта хварэя гарлянкай, дык я гавару, кап сёрбаў цёплы крупнік з малаком* (СЦБ). З гэтым жа значэннем *гарлянка* ўжываецца і ў рускіх народных гаворках: *Враз трое горлянкой заболели* (СРНГ, т. 7). Тут мы назіраем перанос назвы хваробы на назву расліны (параўн.: *жаба – жабная трава, уро́к – урочная трава* і пад.).

Пры аналізе народнай батанічнай наменклатуры заслугоўвае ўвагі факт функцыянавання ў дыялектнай мове паралельных аднаслоўных і двухслоўных найменняў з аналагічным апорным кампанентам. Пры характарыстыцы такіх паралельных назваў, як лічаць многія даследчыкі, двухслоўныя найменні з'яўляюцца першаснымі, хаця на самай справе гэта не заўсёды так [8, с. 126)]. Так, у намінатыўным радзе дыялектных найменняў *гарлянкі* акрамя аднаслоўных ёсць і двухслоўныя намінацыі: у Смаленскім рэгіёне занатавана складаная намінацыя *гарлянка чорная,* а на Магілёўшчыне – *гарлянка палявая.* У першым выпадку матывам наймення з'яўляецца колер, а ў другім – месца росту, прычым матывацыя назвы вынікае з другога, атрыбутыўнага (на наш погляд, дадатковага) кампанента наймення расліны.

Кампактны арэал на поўдні заходняй зоны ўтварае найменне *бурнэлька* і яго варыянты: *Бурнэлькі – сініенькія кветачкі на такой шышацы, велічыні – як жалудок. Хто сіпая, то нада*

*піць брунэлькі – і памагая* (СПЗБ). *Брунэльку от горла п'юць* (ТС). *Барнэлька пры дарозе расьце, дык каровы ўсю паелі, як ідуць* (СЦБ). Зафіксавана гэта назва не толькі ў спецыяльнай літаратуры, але і ў мастацкіх творах: *На стале было лісце с каліны // Тут кракос і румянак, чабор // Мацярдушка,* ***бурнэлька****, маліны – // Чортпалохам услаў бы ўвесь двор* (Лявон Лобік. Лекар-вядзьмар). У «Слоўніку Гродзенскай вобласці» Т. Ф. Сцяшковіч намінацыя *бурнэлька* падаецца са значэннем ‘дзядоўнік’: *Бурнелька расце на мяжы, яе цяшка вырваць.* Як бачым, лексема *бурнелька*, як *гарлянка* і *чарнагалоў*, ужываецца таксама для абазначэння розных раслін.

Менш ужывальным у беларускіх гаворках з'яўляецца фанетычны варыянт *брунэлька*, такая форма пашырана ў рускіх і ўкраінскіх народных гаворках (параўнай: рус. *брунелька.* Растение Prunella; *черноголовка обыкновенная* (СРНГ. т. 1); укр. *брунелька.* бот. *суховершки,* Prunella (ЕСУМ, т. 1).

У «Словаре русских народных говоров» (вып. 3) для расліны Prunella акрамя назвы *брунелька* падаюцца яшчэ найменні *бронéц* і *брунéц*, на тэрыторыі беларускіх народных гаворак зафіксаваны намінацыі мужчынскага роду *брунэляк, бурнэляк,* але гэтыя найменні з'яўляюцца вузкамясцовымі, адзінкавымі. Намінацыя *брунэлька* ва ўсе ўсходнеславянскія мовы запазычана з польскай мовы – *brunelka* (з лацінскага Prunella, раней Brunella). У польскую мову найменне прыйшло з нямецкай мовы *Braunelle*. Параўн. ням. *braun* < *brūn* ‘фіялетавы’ (ЭСБМ, т. 1; ЕСУМ, т. 1; Фасмер, т. 1). У аснову гэтага наймення, хутчэй за ўсё, пакладзены фіялетавы колер кветак расліны.

Вузкай паласой на самым поўдні заходнепалескіх гаворак закартаграфавана намінацыя *дзеравянка* і яе варыянты. Гэта найменне, як паказвае даследаваны матэрыял, хутчэй за ўсё, перайшло з іншай расліны, што даволі часта назіраецца ў тэматычнай групе дзікарослых раслін.

Такім чынам, найбольш распаўсюджанай назвай для гаворак беларускай мовы з'яўляецца *чорнагалоў,* што магчыма падтрымліваецца і тым, што назва супадае з літаратурным найменнем. Пашырэнне гэтай лексемы паказана на вялікім масіве беларускіх народных гаворак, прычым у многіх месцах гэта найменне з'яўляецца адзіным.

Шырокае распаўсюджанне мае таксама найменне *гарлянка*, пашыранае, як ужо адзначалася, у асноўным ва ўсходняй зоне, вельмі часта сустракаецца паралельна з назвай *чорнагалоў.*

Найменне *брунелька* і яго варыянты адзначаны на значна меншай тэрыторыі – на паўднёвым захадзе заходняй зоны, але яны ўтвараюць даволі кампактны арэал і не зафіксаваны ў іншых месцах нават як адзінкавыя.

Намінацыя *дзеравянка* і яе варыянты *(дзеравянкі, дэрэвлянка, дырывянка, дэрэв'янка)* са значэннем ‘чорнагалоў’ не атрымалі шырокага распаўсюджання ў беларускіх гаворках. Размешчаны вузкай паласой на самым поўдні заходнепалескіх гаворак, на мяжы з украінскімі гаворкамі. Гэтым найменнем у беларускіх гаворках называюць некалькі раслін: *дуброўку, святаяннік, герань балотную* і інш. У нашым выпадку, відаць, змешваецца *чорнагалоў (гарлянка*) і *дуброўка.*

У двух населеных пунктах на тэрыторыі заходнепалескіх гаворак зафіксавана назва *сэрпнык.* Матывацыя гэтай вузкамясцовай назвы няясная.

Як адзінкавыя для назвы *чорнагалова (гарлянкі)* выступаюць метафарычныя найменні *орля очкі* і *бі(ю) здоров'е*. Назва *орля очкі,* відаць, утворана па форме кветак расліны. Намінацыі падобнага тыпу даволі часта ўжываюцца для наймення раслін, параўнай, *гусіныя лапкі, званецскавародка, ксяндзоў плеш, чортавы пазуры* і пад. У аснове назвы *бі(ю) здоров'е* ляжаць, хутчэй за ўсё, лячэбныя ўласцівасці расліны.

У слоўніку Кісялеўскага [9, с. 105] зафіксаваны найменні *хмялёк, хмель дзікі, купенка.* У гэтых выпадках мы таксама назіраем перанос назвы з адной расліны на другую.

***

Інтэрпрэтацыйная карта «Назвы гарлянкі паводле тыпаў базавых асноў», прысвечаная найменням лекавай расліны *гарлянкі* ў гаворках беларускай мовы, адлюстроўвае асаблівасці пашырэння гэтых назваў паводле тыпаў базавых асноў.

## НАЗВЫ ГАРЛЯНКІ ПАВОДЛЕ ТЫПАЎ БАЗАВЫХ АСНОЎ




Карта падрыхтавана Л. П. Кунцэвіч

### Літаратура

1. Павел, В. К. Лексическая номинация / В. К. Павел / АН МССР, Ин-т языка и лит-ры. – Кишинев: Штиинца, 1983. – 231 с.

2. Гриценко, П. Ю. Загальнослов'янський лінгвістичний атлас як джерело вивчення культуры слов'ян / П. Ю. Гриценко // Комплексне дослідження духовної культурі слов'ян. – Київ: Нац. акад. наук України, 2004. – С. 13–26.

3. Меркулова, В. А. Очерки по русской народной номенклатуре растений. Травы. Грибы. Ягоды / В. А. Меркулова. – Москва: Наука, 1967. – 258 с.

4. Сабадош, І. В. Формування української ботанічної номенклатури / І. В. Сабадош. – Ужгород: Ужгородський державний ун-т, 1996. – 190 с.

5. Раслінны свет: тэматычны слоўнік. – Мінск: Беларус. навука, 2001. – 654 с.
6. Етимологичний словник української мови: в 7 т. / склад.: Р. В. Болдирев [та ін.]; редкол.: О. С. Мельничук (голов. ред.) [та ін.]. – Київ: Наук. думка, 1983. – Т. 1: А–Г. – 631 с.
7. Этымалагічны слоўнік беларускай мовы: Т. 1–12 / пад рэд. В. У. Мартынава, Г. А. Цыхуна. – Мінск: Навука і тэхніка, 1978–2008.
8. Закревська, Я. В. Нариси з діалектного словотвору в ареальному аспекті / Я. В. Закревська. – Київ: Наук. думка, 1976. – 162 с.
9. Киселевский, А. И. Латино-русско-белорусский ботанический словарь / А. И. Киселевский. – Минск: Наука и техника, 1967. – 160 с.

**Спіс скарачэнняў**

Бялькевіч – Бялькевіч, І. К. Краёвы слоўнік усходняй Магілёўшчыны / І. К. Бялькевіч. – Мінск, 1970.
ЕСУМ – Етимологичний словник української мови: у 4 т. – Київ, 1982–2003.
ЖС – Жывое слова. – Мінск, 1978.
Каспяровіч – Каспяровіч, М. І. Віцебскі краёвы слоўнік / М. І. Каспяровіч. – Мінск, 1927.
ЛАБНГ – Лексічны атлас беларускіх народных гаворак: у 5 т. – Мінск, 1993. – Т. 1: Раслінны і жывёльны свет.
Насовіч – Насовіч, І. І. Слоўнік беларускай мовы / І. І. Насовіч. – Мінск, 1983.
СПЗБ – Слоўнік беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча: у 5 т. – Мінск, 1979–1986.
СРНГ – Словарь русских народных говоров. – Л., 1965–2006. – Вып 1–40.
СЦБ – Слоўнік гаворак цэнтральных раёнаў Беларусі: у 2 т. – Мінск, 1990. – Т. 1.
Сцяшковіч – Сцяшковіч, Т. Ф. Слоўнік Гродзенскай вобласці / Т. Ф. Сцяшковіч. – Мінск, 1983.
ТС – Тураўскі слоўнік: у 5 т. – Мінск, 1982–1987.
Фасмер – Фасмер, М. Этимологический словарь русского языка: в 4 т. / М. Фасмер. – М., 1964 – 1973.
ЭСБМ – Этымалагічны слоўнік беларускай мовы. Т. 1–12 / пад рэд. В. У. Мартынава, Г. А. Цыхуна. – Мінск: Навука і тэхніка, 1978–2008. Т. 1–12.

*Л. В. Леванцэвіч*

## ДА МАТЫВАЦЫІ СЕМАНТЫКІ МЯНУШАК (вёска Здзітава Бярозаўскага раёна)

Мянушка – пераходная моўная характарыстычная адзінка паміж уласным іменем і прозвішчам. Мянушкі ўжываюцца як яшчэ адно неафіцыйнае прозвішча пэўнага канкрэтнага чалавека. Універсальнасць іх у тым, што яны не толькі канкрэтна называюць асобу, але і трапна характарызуюць яе па нейкай адметнай асаблівасці.

Мянушкі з'явіліся тады, калі ў вялікай сям'і або родзе трэба было адрозніваць кожнага члена гэтай супольнасці. Да сённяшніх дзён у вёсках, дзе шмат аднолькавых афіцыйных прозвішчаў, шырока карыстаюцца «вулічнымі прозвішчамі-мянушкамі», каб растлумачыць, пра каго ідзе гаворка, вылучаюць аднаго з ліку суродзічаў, землякоў.

Даследчыкі лічаць, што прозвішчы-мянушкі ўзнікаюць у асноўным па дзвюх прычынах:

1) для абазначэння асоб з аднолькавымі прозвішчамі, асабліва ў вялікіх паселішчах з аднастайнымі прозвішчамі;

2) для выдзялення па якой-небудзь рысе пэўнай асобы з усіх астатніх жыхароў вёскі [5, с. 19].

У манаграфіі Г. М. Мезенкі, В. М. Ляшкевіч, Г. К. Семяньковай «Віцебшчына ва ўласных імёнах: мінулае і сучаснасць» (Віцебск, 2006) адзначаецца, што мянушкі «знікаюць разам з носьбітам, а не працягваюць існаваць і перадавацца нашчадкам, як прозвішча» [1, с. 61]. Гэту выснову нельга прымяніць да мянушак вёскі Здзітава Бярозаўскага раёна, бо існуюць мянушкі, якія перадаюцца ад бацькі да сына ці дачкі з пакалення ў пакаленне. Напрыклад, прадзед, дзед, бацька, сын і цяпер яго дочкі носяць мянушку Гладышóва, Цяврэ́цёва, Жумнíрова і інш. Калі ў сям'і некалькі дзяцей, то агульная мянушка захоўваецца, а для адрознення дадаецца імя: *Вера Цяврэ́цёва*, *Ваня Цяврэ́цюв*; *Ваня Гнáлькув*, *Коля Гнáлькув*. Адным з варыянтаў адрознення муж-

чыны і жанчыны ў сям'і была тая ж мянушка з суфіксам **-іх-** для жанчыны: *Жумні́р і Жумнірыха, Не́мко і Не́мчыха.* Выйшаўшы замуж, жанчына магла набываць мянушку, якая паходзіць ад імені ці мянушкі мужа: *Чыле́й і Чыле́іха, Гарасэ́м і Гарасэ́мыха, Я́нык і Я́нычыхы*; нярэдка да імені дадавалася мянушка мужа: *Люба́ша Ту́ркова, Ма́рточка Боры́скова*; магла таксама спалучацца мянушка жанчыны з мянушкай мужа (звычайна, калі некалькі сясцёр выходзілі замуж): *Цяврэ́ціха Гладышо́ва, Цяврэ́ціха Жды́нджырова* і *Цяврэ́ціха Яку́бчыкова.* І вельмі рэдка даросламу члену сям'і надавалася новая мянушка: *Вася, Сіро́жа Гладышо́вы*, а *Ваня – Кома́рык.*

У апошні час рэдка каму надаецца новая мянушка. Недзе ў другой палове XX ст. многіх у вёсцы пачалі называць па прозвішчы: *Міхайло́вскій, Антоно́вскій, Ізбі́цкій, Глазо́вскій, Гладко́вскій, Дубро́вскій, Ю́рскій, Глі́нскій, Катышку́в.* Адна мянушка звязана з тэлебачаннем: *Кашпіро́вскій.*

Мянушкі вёскі Здзітава Бярозаўскага раёна сістэматызуюцца ў наступныя групы, у аснове семантыкі якіх:

1) нематываваныя назвы;

2) розныя формы хрысціянскіх імёнаў;

3) характарыстыка паводзін чалавека, яго звычак, фізічных асаблівасцей, рысаў характару, фізічных недахопаў, знешняга выгляду, сямейнага стану;

4) зневажальнае значэнне;

5) назва былога месца пражывання;

6) назва прадстаўнікоў жывёльнага свету;

7) назва прадметаў паўсядзённага пабыту;

8) назва расліннага свету;

9) від/род заняткаў або прафесія;

10) прозвішча;

11) падабенства з вядомай асобай;

12) народнасць/нацыянальнасць.

1. Найбольшая колькасць мянушак першай групы, якія, відаць, і самыя архаічныя: *Мыкэ́ця, Калэ́нык, Ла́дік, Бось, Гузь, Бэнь, Гер, Прус, Шыш, Жур, Пліс, Бут, Грэч, Цёд, Шоб, Вуйт, Руль, Біть, Калэ́нык, Зэ́лько, Шмэ́шко, Гіге́шко, Хвэ́сько, Шмэ́рко, Хотько́, Пасько́, Волоско́, Ту́рко, Шанко́, Панко́, Не́мко, Гна́лько, Бурды́ло, Хо́йлыха, Ха́йка, Ля́пыха, Ба́бка, Ко́чка, Чу́ханка, Шпо́ка, Мэ́йчыха, Козі́ка, Вры́ньчына, Чу́йка, Ты́рка, Поро́хнявка, Чума́к, Клыму́к, Гіпсу́к, Халю́к, Лысю́к, Кардю́к, Марцу́к, Жытля́к, Самосю́к, Швытру́н, Гыру́н, Брыга́зін, Камыдо́н, Бо́рман, Го́пман, Поло́зім, Джы́нджэр, Ныштубэ́р, Жумні́р, Ойчэ́наш, Шу́рпа, Ку́ліш, Ба́быч, Чыле́й, Се́ец, Е́жыль, Ковзі́ль, Комы́сь, Цяврэ́ць, Божэмі́й, Банады́шчык, Рыбоцёл, Вале́т, Хо́нон, Ба́лах, Чэ́рах, Кашы́рный.*

На жаль, сучасныя носьбіты мянушак не ведаюць, чаму іх так называюць, і таму немагчыма вызначыць народную матывацыю. Мы можам толькі суаднесці (і то не ўсе) мянушкі з іх лексічным сэнсавым полем.

*Бут* – 'яма, траншэя з каменем; каменны падмурак печы ў хаце'. У рускай мове – 'дробнае каменне, шчэбень' [6, т. 1, с. 42]. У літоўскай мове існуе слова *bùtas* 'хата, сені' [4, т. 1, с. 247].

*Біть* – суадносіцца са славянскім *biti* 'разбіваць цэлае на часткі'. У беларускай дыялектнай мове ёсць словы *біта, бітка*, што значыць 'падбітае яйцо', 'снапы, раскладзеныя на таку для малацьбы', 'ахапак сухога лёну' [6, т. 1, с. 353]. Існавала абрадавая гульня на Вялікдзень «*біткі*» [4, т. 1, с. 188].

*Ба́быч* – суадносіцца з дыялектным *бабіч* 'падобны да бабы мужчына'; 'дзіця жанчыны, якая ўжо бабіла, была бабкай-павітухай'. Рускае *бабич* мае значэнне 'бабнік', украінскае *бабич* – 'лавелас, бабнік' [6, т. 1, с. 253]. Слова *бабыч* мае таксама значэнні 'той, хто робіць жаночую работу', 'той, хто зойдзе першы ў хату, дзе народзіцца дзіця' [4, т. 1, с. 144].

*Бось* – можна суаднесці са словам *басяк* 1. 'Бядняк', 2. 'Нядбайны, негаспадарлівы чалавек' [4, т. 1, с. 208].

*Бэнь* – у дыялектнай мове існуе слова *бэньсь* ‘байструк, пазашлюбнае дзіця’ [4, т. 1, с. 255].

*Гер* – у дыялектнай мове існуюць словы *гераш* ‘масць каня, дэраш’ і *гергуны* ‘мянушка людзей тых вёсак, дзе гавораць па-літоўску’. Паходзіць ад літоўскага *gérgėti* ‘балбатаць, невыразна гаварыць’ [4, т. 1, с. 440].

*Жур* – у дыялектнай мове лексема мае значэнні 1. ‘Рэдкая страва, прыгатаваная з рошчыны ці падкалочанай мукі з дабаўленнем розных прыпраў’, 2. ‘Страва, прыгатаваная з салоджанага цеста’, 3. ‘Рыбная юшка, поліўка’, 4. ‘Расольнік’, 5. ‘Рэдкі кісель’, 6. ‘Густы аўсяны кісель’, 7. ‘Пена’. Літоўскае *žiūrė* ‘рэдкая каша, рэдкі суп, рэдкая страва з жытняга квашанага цеста; аўсяны кісель’ [4. т. 2, с. 157, 158].

*Вуйт* – існуюць лексемы: *вуй* ‘дзядзька, брат маці’, украінскае *вуйко*, польскае ‘дзядзька, брат маці’ ад праславянскага **ujь*; *вуйе* ‘дышла ў сахі’ [6; т. 2, с. 218]; *войт* ‘валасны староста’, паходзіць ад польскага *wojt* [4, т. 1, с. 336].

*Пліс* – можна суаднесці са словам *плісэ* ‘спадніца ў складкі’ [4, т. 4, с. 12].

*Цёд* – існуюць словы *цэд, цэт* ‘працэджаная рошчына з аўсянай мукі’; *цэдлік* ‘зэдлік’ [4, т. 5, с. 375].

*Хотько́* – можна суаднесці са словамі *хотка* ‘хада’; *хоты́тэ* ‘хацець’ [4, т. 5, с. 318].

*Не́мко* – існуюць словы *немы* ‘пазбаўлены здольнасці гаварыць’; *нема* ‘моцна, роспачна (крычаць)’ [4, т. 3, с. 208].

*Панько́* – у дыялектнай мове існуюць словы *паністы* ‘пераборлівы ў ядзе’; *паніцець* ‘стаць кволым’; *панеті* ‘багацець’ [4, т. 3, с. 391].

*Ля́пыха* – слова *ляпша* мае значэнне ‘нязграбны, непаваротлівы чалавек’; *ляпціць* ‘беспадстаўна настойваць на сваім’; *ляпська* ‘слотна’; *ляпа* 1. ‘Пашча ад літоўскага lepa’, 2. ‘Нарасць на чым-небудзь; пухліна’, 3. ‘Слота, хлюпота’; *ляпаць* 2. ‘Трашчаць’, 3. ‘Клекатаць’, 4. ‘Ляскаць зубамі’; *ляп-ляп* ‘лясь, лясь’ [4, т. 2, с. 719].

*Шмэ́рко* – суадносіцца са словам *шмэркуль* ‘смаркач’ [4, т. 5, с. 488].

*Гіге́шко* – існуе слова *гігель* ‘хвошч’ [4, т. 5, с. 296].

*Шыш* – у дыялектнай мове 1. ‘Верхаводка’, 2. ‘Хто непаседлівы, вяртлявы; разбойнік; поўная адсутнасць чаго-небудзь’, 3. ‘Кыш’; *шышак* 1. ‘Гронка арэхаў’, 2. ‘Хто малога росту, недарослы, падлетак’ [4, т. 5, с. 355, 356].

*Руль* – можна суаднесці са словамі *рулі* 1. ‘Страва, прыгатаваная з накрышанага ў малако ці ваду хлеба’, 2. ‘Цвёрдыя кавалачкі бульбы ў кашы’, 3. ‘Бульба, якая празімавала на полі’; *рульба* ‘тоўстая трэска паходзіць ад літоўскага *liùrba’* [4, т. 4, с. 314].

*Ту́рко* – існуюць словы *туркаць* ‘цвыркаць’; *туркач* ‘мядзведка’; *туркотаті* ‘тарахцець’ ад польскага *turkotać*’ [4, т. 5, с. 148].

*Шпо́ка* – выклічнік *шпок* ‘шлёп, плясь’; *шпокаць* ‘плюскатаць’ [4, т. 5, с. 496].

*Ме́йчыха* – магчыма, ад *мэнчы* ‘меншы’; *мечыкі* ‘цюльпаны’ [4, т. 3, с. 63].

*Чу́йка* – ужываецца як мянушка ў іншых паўднёва-заходніх гаворках і паходзіць ад польскага *czujka*, што значыць ‘вартавы’. Лексема вядома таксама са значэннямі: 1. ‘Армяк’, 2. ‘Верхняе жаночае адзенне, падобнае на армяк’, 3. ‘Той, хто мае прыгнечаны, ашаломлены, неахайны выгляд’ [4, т. 5, с. 431].

*Маку́х* – у дыялектнай мове ўжываецца са значэннем ‘адходы, якія застаюцца пры адціскані алею’.

*Клыму́к* – існуюць словы *клымза, клыбзун, клыгун, клыбач* ‘той, хто кульгавы, крываногі’ [4, т. 2, с. 451].

*Гіпсу́к* – існуе слова *гіпка* ‘гнуткі шост, прымацаваны да столі, на якім падвешваюць калыску’ [4, т. 1, с. 445].

*Лысю́к* – у дыялектнай мове словы *лысак, лысач, лысун* маюць значэнне ‘лысы чалавек’; *лысоха* – ‘карова з плямай на лбе’; *лысуха* – ‘узвышанае пясчанае месца’ [4, т. 2, с. 697].

*Кардю́к* – існуе слова *кардэль* ‘лыка з галін дрэў’, ‘гуж з лазовых кустоў’ паходзіць ад польскага *kardel* ‘шнур, вяроўка з лыка’ [4, т. 2, с. 417].

*Жытля́к* – магчыма, ад дыялектнага *жыткі* 1. 'Рэдкі', 2. 'Нясопкі', 3. 'Жвавы' [4, т. 2, с. 168]. На Бярозаўшчыне існуе таксама вёска *Жытлін.*

*Гіру́н* – існуюць словы *гіра* 'мера вагі'; *гірка* 'збанок з адбітым горлам'; *гырэй* 'вырай' [4, т. 1, с. 445].

*Го́пман* – суадносіцца са словамі *гопа* 'праснак', 'бабка'; *гопаць* 1. 'Абіваць', 2. 'Моцна стукаць нагамі ў час хадзьбы' [4, т. 1, с. 464].

*Цяврэ́ць* – існуюць дзеясловы *цяўкаць* 'жаваць, чвякаючы'; *цеўкаць* 'гаварыць недарэчнае, лапатаць' [4, т. 5, с. 354].

*Банады́шчык* – існуюць лексемы *бандаш, біндас* 'цяслярская сякера', *бандыш* 'калун, сякера' [6, т. 1, с. 302].

*Ба́лах* – існуюць лексемы *балахон, балахна, балахня* 'палатняны плашч', 'верхняя доўгая мужчынская вопратка з даматканага сукна', 'няўмела сшытая вопратка' [6, т. 1, с. 289]; *балахан* 'армяк', *балахва* 'хвалько, балбатун' [4, т. 1, с. 156].

*Чэ́рах* – магчыма, ад *чэр* 'губа (грыб)' ці *чэр* 'чарва' [4, т. 5, с. 404].

*Гузь* – у дыялектнай мове існуюць словы *гузь* 'гузік' [2, с. 52]; *гуз, гус* 1. 'Грыж (жаўлак, гуз)', 2. 'Нарост на дрэве', 3. 'Драўляны гузік' [4, т. 1, с. 498].

*Бось* – суадносіцца са словам *босці* ад праславянскага *bosti* 'бадаць', беларускае *басці* 'рыць, капаць' [6, т. 1, с. 372].

*Буянэ́ц* – існуюць словы *буян, буен* 1. 'Непакладзены бык, слова паходзіць ад буяць 'бушаваць, шалець', 2. 'Птушка', 3. 'Дэбашыр' [6, т. 1, с. 430].

*Буга́й* – у старабеларускай мове слова мела значэнне 'кастрыраваны бык' [6, т. 1, с. 398]. Існуе таксама птушка «бугай».

2. Шмат мянушак узнікла на падставе розных формаў хрысціянскіх імёнаў: *Язэ́п* (Іосіф), *Грэ́па* (Агрыпіна), *Фома́* (Фама), *Анто́н* (Антон), *Пота́п* (Патап), *Дым'я́ныхы* (Дзям'ян), *Оста́пыха* (Астап), *Мала́шчыны* (Маланння), *Се́ня* (Арсенцій), *Пола́я* (Пелагея), *Кла́ра* (Клара), *Я́дзя* (Ядвіга), *Лі́ля* (Лілія), *Ду́ня* (Еўдакія), *Сымо́нко* (Сямён), *Ллян* (Ілья), *Гарасэ́м* (Герасім), *Пылы́пчык* (Піліп), *Катры́нка* (Кацярына), *Пытру́сь* (Пётр), *Мала́ша* (Маланння), *Пара́ша* (Праскоўя), *Хрысты́на* (Хрысціна), *Матру́на* (Матрона), *Домыны́ся* (Дамініка), *Порхі́рый* (Парфірый), *Само́н* (Самсон), *Нэ́сцёр* (Нестар), *Рыго́р* (Рыгор), *Мака́р* (Макар), *Ма́рко* (Марк, Марка), *Я́нко* (Іван), *Даны́ло* (Даніла), *Яны́ско* (Іван), *Вдо́ська* (Еўдакія), *Тоду́рка* (Фядора), *Гале́нка* (Алена), *Гры́шка* (Рыгор), *Ко́стык* (Канстанцін), *Пытру́сык* (Пётр), *Ма́нічка* (Марыя), *Мыха́сько* (Міхаіл), *Боры́ско* (Барыс), *Стыпа́ныкув* (Сцяпан), *Мыкола́йко* (Мікалай), *Лукашкі́* (Лука), *Па́вылко* (Павел), *Мар'яны́шка* (Марыян), *Мыкола́шка* (Мікалай), *Базыля́нчык* (Васіль), *Мака́рчык* (Макар), *Рома́нчык* (Раман), *Пылы́пчык* (Піліп), *Мар'янчу́к* (Марыян), *Семенчу́к* (Сямён), *Васе́й* (Васіль), *Ме́хал* (Міхаіл), *Катрыны́ца* (Кацярына), *Войва́н* (Іван), *Сыдо́рык* (Сідар), *Гале́нточка* (Галіна), *Катю́шын* (Кацярына), *Вдосю́ха* (Еўдакія), *Гану́ля* (Ганна), *Омылю́сь* (Емяльян), *Анто́хэсь* (Антон), *Оксэ́нін* (Аксана), *Бо́рчын* (Барыс), *Мі́шчын* (Міхаіл), *Ма́нечка* (Марыя), *О́лісь* (Аляксей), *Шу́рыха* (Аляксандра), *Ку́тя* (Кацярына), *Су́ра* (Сурыя), *Місе́й* (Маісей), *Лэ́вко* (Лявон), *Давыдо́с* (Давыд), *Наде́ха* (Надзея), *Максэ́мко* (Максім), *Прокопэ́ц* (Пракоп), *Мыронэ́ц* (Мірон), *Спірыдо́н* (Спірыдон), *Ляшко́* (Ілья), *Бовтру́к* (Варфаламей), *Мартыны́шка* (Марцін), *Грыпу́к* (Агрыпіна), *Домы́нка* (Дамінік), *Салімо́н* (Саламон), *Каля́й* (Мікалай), *Сціпа́ніч* (Сцяпан), *Сыргі́чык* (Сяргей), *Да́шчын* (Дар'я), *Ме́йшышын* (Маісей), *Лляш* (Ілья), *Э́лько* (Ілья), *Матэ́вко* (Мацей), *Вінцю́ля* (Вікенцій), *Мовшу́к* (Маісей), *Савчу́к* (Сава), *Барбарчукі́* (Барбара).

Сярод мянушак, што ўзніклі на аснове імені, вылучаецца падгрупа складаных імёнаў, калі да асабістага імені дадаецца мянушка ці імя бацькоў (для мужчыны) або мужа (для жанчыны): *Я́кув Войва́нув, Арка́дій Гарасе́мышын, Мыкы́та Ру́люв, Ліво́н Боўтру́к, Андрэ́йкув Дыны́с, Глы́ньського Васылёк, Жумні́рув Ва́нька, Мі́шынька Клымукі́в, Гану́лін Кузьма́, Ворфоломі́й Бовтрукі́в, Мыха́лочко Заку́раный, Камыдо́нув Андрэ́йко; Насту́ся Гу́сарова, Мар'я́нка Па́вылкова, Жэ́нька Жу́рова, Ма́рточка Боры́скова, О́лічка Шынкаро́ва, Люба́ша Ту́ркова.*

3. Мянушкі, што характарызуюць паводзіны чалавека, яго звычкі, фізічныя асаблівасці, рысы характару, сямейны стан. Іх колькасць невялікая: *Блышча́чый, Заку́раный, Сіме́йный, Лёгкій, Святы́й, Ры́жый, Кача́н, Су́дар, Гу́сар, Смэрть.*

4. Рэдка надаваліся мянушкі са зневажальным значэннем: *Чу́ханка, Порохня́вка, Холя́выха, Бурды́ло, Чума́к.*

5. Ад назвы былога месцапражывання паходзяць мянушкі: *Я́рцовка* (в. Ярцавічы), *Ны́влянка* (в. Нівы), *Хры́шанка* (в. Хрыса), *Пысо́чанка* (в. Пескі), *Жа́бырка* (в. Жабер), *Восхо́днянка* (в. Усходы), *Лысы́чанка* (в. Лісічыцы), *Спо́ры́вка* (в. Спорава), *Соколі́вка* (в. Сакалова), *Старомлы́нка* (в. Старамлыны), *Горо́днянка* (в. Агароднікі), *Горбы́вка* (Горбава – ранейшая назва цэнтральнай часткі вёскі Здзітава).

6. Мянушкі, што ўтвораны паводле назваў прадстаўнікоў жывёльнага свету. Не вылучаюцца асаблівай прадуктыўнасцю: *Шво́робув* (*шворобʼ* – дыялектная назва вераб'я), *Буянэ́ц* (*буян* 'бык, самец'), *Му́ха, Шуля́к* (*шуляк* 'коршак (ястраб)', а таксама: '1. 'Мяккі качан капусты', 2. 'Нарасць на корані капусты' [2, с. 265]), *Су́чка* (сабака, самка), *Буга́й* ('буйная балотная птушка сямейства чапляў са сплюшчаным з бакоў целам, шэра-бурым апярэннем і доўгай тоўстай шыяй'; 'бык, самец' [3, с. 24, 25, 38]), *Козе́л, Бу́сэнь, Вовчы́ха, За́йчык, Кі́цінька, Каба́нчык, Соловэ́сь, Качко́.*

7. Зрэдку надаваліся мянушкі, якія суадносяцца з прадметамі паўсядзённага быту: *Товка́ч* (*таўкач* 'прылада ў выглядзе качалкі з патоўшчаным круглым канцом, якой таўкуць штонебудзь'); *Копа́ч* (*капач* 'матыка'; *копачка, копашка, копушка* 'невялікая рыдлёўка для капання бульбы' [2, с. 104]), *Глады́ш* (*гладыш, гладышка, гладышык* 'гарлач, збанок без ручкі' ад *гладзіць* 'надаваць адпаведную форму, загладжваць паверхню', а таксама *гладышыкі* 'жоўтыя гарлачыкі' [4, т. 1, с. 447]), *Бая́н.*

8. Рэдкія мянушкі, што ўтвораны паводле назваў расліннага свету, з'яў прыроды: *Вэ́рос* (верас), *Лыбыда́, Цыбу́к* (*цыбук* 1. 'Тое ж, што і цаўё', 2. 'Кветканожка суквецця цыбулі', 3. 'Цвёрдая частка пяра', 4. 'Мунштук' [4, т. 5, с. 368]), *Ло́знюха* (*лознік* 'лазняк' [4, т. 2, с. 669]), *Мі́сяц.*

9. Непрадуктыўная група мянушак, звязаных з заняткам або прафесіяй: *Бо́ндар, Бо́цьман, Мэ́лнык, Во́йцік, Кова́ль, Шынка́р, Шахтёрка.*

10. Прыблізна ў 70–80-я гады ХХ ст. узніклі мянушкі, утвораныя на аснове прозвішчаў: *Міхайло́вскій, Антоно́вскій, Ізбі́цкій, Глазо́вскій, Гладко́вскій, Дубро́вскій, Ю́рскій, Глі́нскій, Катышку́в.*

11. Мянушкі, дадзеныя паводле якога-небудзь падабенства з вядомай асобай, утвораны, зразумела, у другой палове ХХ ст.: *Кашпіро́вскій, Бо́рман.*

12. Усяго некалькі мянушак, якія суадносяцца з народнасцю ці нацыянальнасцю: *Кіта́ец, Цыга́н, Ру́скій.*

На Бярозаўшчыне існуюць і мянушкі (ці агульныя назвы) у жыхароў асобных населеных пунктаў: *бараны́* (в. Вайцяшын), *около́ты* (в. Альшэва), *янды́кі* (в. Хрыса), *кіта́йцы* (в. Ярцавічы), *крышаны́* (в. Пескі), *кішкары́* (в. Сялец), *солоду́шныкі* (в. Рэчыца).

*Около́ты* – паходзіць ад дыялектнай назвы *околот* 'абмалочаны сноп, салома'.

*Янды́кі* – жыхары хутка і не зусім выразна гавораць (балбочуць, як *яндыкі* 'індыкі'), асабліва мужчыны.

*Крышаны́* – ад назвы супу, зваранага з дробна нарэзанай (накрышанай) бульбы.

*Кішкары́* – вёска была падорана ў 1570 г. Ганне з роду Радзівіла Кішкі, ваяводы віленскага. Сяляне гаварылі, што яны *кішчыны.*

*Солоду́шныкі* – магчыма таму, што адзін з заснавальнікаў вёскі быў па мянушцы *Півавар* – чалавек, які варыў піва. Для вырабу квасу, піва выкарыстоўваўся солад, адсюль – *солоду́шныкі.*

**Літаратура**

1. Мезенка, Г. М. Віцебшчына ва ўласных імёнах: мінулае і сучаснасць / Г. М. Мезенка, В. М. Ляшкевіч, Г. К. Семянькова. – Віцебск: УА «ВДУ імя П. М. Машэрава», 2006. – 238 с.

2. Дыялектны слоўнік Брэстчыны / склад. М. Аляхновіч [і інш.]. – Мінск: Навука і тэхніка, 1989. – 294 с.

3. Жывёльны свет: тэматычны слоўнік / склад.: В. Дз. Астрэйка [і інш.]. – Мінск: Беларус. навука, 1999. – 240 с.
4. Слоўнік беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча: у 5 т. / уклад. Ю. Ф. Мацкевіч [і інш.]; рэд. Ю. Ф. Мацкевіч. – Мінск: Навука і тэхніка, 1979 – 1984.
5. Шур, В. В. Уласныя імёны ў часе і прасторы / В. В. Шур. – Мінск: НІА, 2008. – 100 с.
6. Этымалагічны слоўнік беларускай мовы. Т. 1–12 / пад рэд. В. У. Мартынава, Г. А. Цыхуна. – Мінск: Навука і тэхніка, 1978–2008. – Т. 10.

*Ю. В. Маліцкі*

# БЕЛАРУСКАЯ ДЫЯЛЕКТНАЯ ІХТЫЯЛАГІЧНАЯ ЛЕКСІКА: АНАМАСІЯЛАГІЧНАЯ ХАРАКТАРЫСТЫКА ТЭРМІНАГРУПЫ

Тэрмін «рыбы» (Pisces) выкарыстоўваецца ў дачыненні да сківічнаротых пазваночных жывёл, якія жывуць у вадзе, валодаюць жаберным тыпам дыхання, канечнасцямі ў выглядзе плаўнікоў, а таксама шэрагам спецыфічных рыс у будове шкілета і ўнутраных органаў.

Рыбы – адны з першых жывых істот, што з'явіліся на нашай планеце. Менавіта ад іх вядуць свой род усе пазваночныя жывёлы, а разам з імі і чалавек. У вадаёмах Беларусі налічваецца 58 відаў рыб, якія належаць да 18 сямействаў [1]. З іх 47 відаў – абарыгенныя. Астатнія былі завезены ў прамысловых мэтах. Акрамя таго, у вадаёмы нашай краіны ў час нерасту заходзіць значная колькасць відаў марской рыбы, якая не водзіцца там пастаянна.

У плане размеркавання іхтыяфаўны Беларусь знаходзіцца на стыку двух буйных заагеаграфічных правінцый: Понта-Каспійска-Аральскай і Балтыйскай. У склад Понта-Каспійска-Аральскай правінцыі ўваходзіць Дняпро з прытокамі і прылеглымі азёрамі. Іх рыбнае «насельніцтва» адносіцца да чарнаморскай іхтыязоны. Да Балтыйскай правінцыі належаць Нёман, Заходняя Дзвіна і Заходні Буг з прытокамі і азёрамі. Пераважная большасць відаў рыбы ў вадаёмах Беларусі чарнаморскай і балтыйскай іхтыязон аднолькавая. Але ёсць у кожнай з іх і некаторыя занальныя асаблівасці. Так, толькі ў басейне Дняпра водзіцца **сцерлядзь**, **гальян азёрны**, **белавочка**, **сінец**, **чахоня**, **ёрш-насар**, **бычок-пясчанік** [1]. Тыповыя формы **падуста і вусача (мірона)**, якія жывуць у Нёмане і Заходнім Бугу, у дняпроўскім басейне замясціліся пераходнымі ў падвіды формамі. Спецыфічнымі для вадаёмаў басейна Балтыйскага мора з'яўляюцца **мінога ручаёвая**, **харыус**, **рапушка**, **сняток**, **вугор**, **дзевяціiглая** і **трохіглая колюшка** [1]. «Неаднастайнасць іхтыякомплексаў у мяжуючых беларускіх азёрна-рачных басейнах абумоўлена, вядома, розніцай у складванні гэтых комплексаў ва ўмовах пэўнай ізаляванасці адзін ад аднаго» [2, с. 94]. Трэба звярнуць увагу таксама на часам вельмі высокую ступень неаднастайнасці іхтыякомплексаў розных вадаёмаў у межах беларускай тэрыторыі адной правінцыі. Гэта, як правіла, залежыць ад біялагічных і экалагічных фактараў: тыпу і велічыні вадаёма, яго глыбіні, кормнасці, якасці вады і інш.

«Понта-Аральска-Каспійская правінцыя значна багацейшая відамі рыб, галоўным чынам за кошт форм даледніковай іхтыяфаўны, што захаваліся да сённяшняга часу. Да іх належаць шмат эндэмічных родаў і відаў, што сустракаюцца ў тым ліку і ў межах Беларусі (**бычок-пясчанік**, **ёрш-насар**, раней – **веразуб** і **асётр рускі**). Балтыйская правінцыя адрозніваецца параўнальна вялікай разнастайнасцю ласасёвых рыб і адсутнасцю эндэмічных родаў і відаў. Асаблівасцю Заходняй акругі гэтай правінцыі з'яўляецца наяўнасць **вусача** і **падуста** міжземнаморскага паходжання, якія адсутнічаюць ва Усходняй акрузе» [1, с. 34].

Побытавае і навуковае ўяўленні па пытаннях фаўны вельмі часта не супадаюць. І тым не менш традыцыйнае меркаванне беларусаў аб рыбах і сістэме іх відаў у цэлым адпавядае навуковаму. «У агульнапашыраным разуменні мясцовага насельніцтва Беларусі да рыбы адносяцца мясцовыя віды ўласна рыб роду Pisces, а таксама кругларотак роду Cyclostamata» [2, с. 94–95].

Кожны від рыбы па пэўных характарыстыках вылучаецца на фоне іншых істот, у выніку чаго народная сістэма відаў рыбы з'яўляецца сукупнасцю супрацьпастаўленых адзін аднаму элементаў.

У сувязі са спецыфічнымі ўмовамі існавання рыб і абмежаванасцю спосабаў непасрэднага назірання за імі асноўную частку звестак аб характарыстыках і звычках рыб чалавек атрымліваў дзякуючы аднаму з найбольш старажытных промыслаў – рыбалоўству. Таму значную долю корпуса іхтыялагічных назваў, асабліва рэгіянальных, склалі адзінкі, якія першапачаткова адносіліся да так званай рыбалоўнай лексікі.

Іхтыялагічная наменклатура – самая складаная ў плане сістэматызацыі і ўпарадкавання група фаўністычных назваў. Справа ў тым, што назвы рыб належаць да ліку слоў, што «найбольш нераўнамерна размяркоўваюцца па моўнай тэрыторыі і канкрэтныя значэнні якіх найменш дакладна засвойваюцца большасцю носьбітаў мовы» [3, с. 3]. Прычына гэтага заключаецца ў строгай лакалізацыі іхтыялагічных найменняў у залежнасці ад размяшчэння прыродных водных аб'ектаў і складу іх насельнікаў. «Асобныя найменні рыб актыўна функцыянуюць звычайна толькі там, дзе водзяцца адпаведныя віды ці разнавіднасці рыб, у той час як у мясцовасцях, аддаленых ад вадаёмаў, яны застаюцца цалкам невядомымі ці для асноўнай масы насельніцтва семантычна нявызначанымі» [3, с. 3]. Менавіта з гэтым, на нашу думку, звязана высокая ступень гіпераніміі дыялектных іхтыялагічных назваў. У розных мясцовасцях рыбы, што належаць да абсалютна розных відаў і падвідаў, могуць называцца аднолькава, а біялагічна ідэнтычныя рыбы маюць розныя назвы.

Да гэтага часу ў даследаваннях айчынных лінгвістаў іхтыялагічная лексіка літаратурнай і дыялектнай мовы разглядалася пераважна з этымалагічнага пункту погляду. Радзей закранаўся словаўтваральны аспект. Аб'ектам анамасіялагічнага вывучэння згаданая тэрмінагрупа выступае ўпершыню.

Сутнасць анамасіялагічнага аналізу заключаецца ў вылучэнні матывацыйных адносін, пакладзеных у аснову таго ці іншага наймення. Тыпалогія матывацыйных адносін з'яўляецца актуальнай задачай у практыцы даследаванняў, што ажыццяўляюцца на стыку дыялектнай лексікалогіі і лінгвагеаграфіі. У другой палове XX ст. уяўленне аб лексічнай матывацыі атаясамлівалася з паняццем семантычнай абумоўленасці значэння вытворнага слова значэннямі, якія яго складаюць. Анамасіялагічны падыход прапаноўвае больш шырокі погляд на моўны матэрыял. У якасці намінацыйных адзінак лексічная анамасіялогія разглядае не толькі афіксальна вытворныя, складаныя і невытворныя словы, але і выпадкі семантычнай дэрывацыі, словазлучэнні рознай структуры. Базавымі тэрмінамі анамасіялагічнага аналізу з'яўляюцца наступныя: анамасіялагічная дамінанта, тып матывацыйных адносін, матывацыйная прыкмета.

Пад анамасіялагічнай дамінантай мы разумеем «сукупнасць аднародных матывацыйных прыкмет, якая адлюстроўвае пэўнуюназватворчую накіраванасць» [4, с. 13]. Сукупнасць дамінант, што рэалізуюцца ў межах пэўнага тыпу матывацыйных адносін, называецца анамасіялагічным кантэкстам. Тып матывацыйных адносін «адлюстроўвае характар моўнага выражэння анамасіялагічнай дамінанты, з'яўляецца прамежкавай ступенню паміж анамасіялагічнай дамінантай і матывацыйнай прыкметай, з аднаго боку, і фармальна-структурным абліччам намінацыйнай адзінкі – з другога» [4, с. 13]. У якасці матывацыйнай прыкметы выступае «канкрэтная ўласцівасць аб'екта намінацыі» [4, с. 13]. Усе матывацыйныя прыкметы групіруюцца па катэгорыях, фарміруючы субдамінанты. У межах анамасіялагічнай дамінанты можа вылучацца адна ці некалькі субдамінант.

Корпус беларускіх народных іхтыялагічных найменняў быў вылучаны намі на матэрыяле тэматычнага слоўніка «Жывёльны свет» (на сённяшні дзень гэта найбольш поўны збор дыялектных іхтыялагічных назваў беларускай мовы). Агульны аб'ём прааналізаваных назваў і варыянтаў – больш за 600 адзінак. Гэтымі намінацыямі прадстаўлена 35 відаў рыб. Самай вялікай колькасцю народных найменняў рэпрэзентаваны такія віды, як **лешч**, Abramis brama (L.) – 57 назваў і варыянтаў; **ёрш звычайны**, Gymnocephalus cernua (L.) – 44; **пячкур**, Gobio gobio (L.) – 30; **верхаводка**, Leucaspius delineatus (L.) – 34; **плотка**, Rutilus rutilus (L.) – 33; **жэрах**, Aspius aspius (L.) –

27; **шчупак звычайны**, Esox lucius (L.) – 23. Меншай колькасцю назваў прадстаўлены **мянтуз**, Lota lota (L.) – 19; **мінога рачная**, Lampetra (L.) – 18; **уюн**, Misgurnus fossilis (L.) – 18; **гарчак звычайны**, Rhodeus sericeus amarus (L.) – 14; **краснапёрка**, Scardinius cerythrophthalmus (L.) – 14; **падуст**, Chondrostoma nasus (L.) – 13; **сліжык (галец)**, Noemacheilus barbatulus (L.) – 13; **язь**, Leuciscus idus (L.) – 13; **вугор еўрапейскі**, Anguilla Anguilla (L.) – 12; **акунь**, Perca fluviatilis (L.) – 10; **бычок**, Neogobius fluviatilis (L.) – 10 і інш. Такія віды рыб, як **галавень**, Leuciscus cephalus (L.); **карась (залаты**, ці **звычайны)**, Carassius carassius (L.), **срэбны**, Carassius auratus gibelio (L.)); **карп**, Cyprinus carpio (L.); **лінь**, Tinca tinca (L.); **сняток**, Osmerus eperlanus morpha spirinchus (L.); **мірон**, Barbus barbus (L.); **колюшка (трохіголкавая** і **дзевяціголкавая)**, Casterosteus aculeatus (L.), Pungitius pungitius (L.); **рапушка еўрапейская**, Coregonus albula (L.); **харыус звычайны**, Thymallus thumallus (L.); **чахонь**, Pelecus cultratus (L.); **шчыпоўка**, Cobitis taenia (L.); **ялец звычайны**, Leuciscus leuciscus (L.) і іншыя прадстаўлены колькасцю назваў, меншай за 10. Адзінкавымі назвамі вызначаюцца **выразуб**, Rutilus frisii (L.) і **сом**, Silurus glanis (L.).

Вылучаныя назвы рыб з пункту погляду матываванасці можна падзяліць на дзве вялікія групы: матываваныя і нематываваныя. Да нематываваных мы адносім «чыстыя» запазычанні (тыпу ***келб***, ***мінога***, ***харыус***) або этымалагічна цьмяныя ці на дадзены момант нявызначаныя найменні (напрыклад, ***карп***). Першыя выходзяць за межы аб'екта анамасіялагічнага даследавання, бо не з'яўляюцца прадуктам назватворчай дзейнасці носьбіта беларускай мовы. Прычыны іх запазычання на сённяшні дзень таксама з'яўляюцца неакрэсленымі. Колькасць такіх назваў адносна агульнага корпуса беларускай іхтыялагічнай лексікі невялікая – каля 10%. Усе астатнія намінацыі класіфікуюцца адносна анамасіялагічных дамінант, тыпаў матывацыйных адносін і матывацыйных прыкмет.

Як сведчыць матэрыял, беларуская народная іхтыянаменклатура базуецца на сямі анамасіялагічных дамінантах. Іншымі словамі, пры фарміраванні «рыбных» назваў беларус звяртае ўвагу на наступныя характарыстыкі:

1) характэрная знешняя асаблівасць;
2) характэрная асаблівасць паводзін;
3) характэрная фізіялагічная асаблівасць;
4) час нерасту;
5) пераважнае месца існавання;
6) спосаб здабывання;
7) спосаб спажывання.

Увесь корпус беларускай народнай іхтыялагічнай лексікі даволі раўнамерна размяркоўваецца па асноўных тыпах матывацыйных адносін. Найбольш распаўсюджаным з'яўляецца **аб'ектны тып** (27% ад агульнай колькасці матываваных намінацый). Да гэтага тыпу матывацыйных адносін належаць іхтыялагічныя назвы, што ў зместавым аспекце актуалізуюць спасылку на аб'екты жывой і нежывой прыроды. Марфалагічную аснову згаданага тыпу складаюць неадушаўлёныя назоўнікі і адносныя прыметнікі. Як правіла, назвы аб'ектнага тыпу матывацыйных адносін заснаваны на метаніміі. Кола матывацыйных прыкмет у межах гэтага тыпу акрэслена прадметнымі рэчамі, а таксама абстрактнымі часавымі паняццямі.

Анамасіялагічны кантэкст назваў згаданага тыпу складаюць тры дамінанты:

1) *характэрная знешняя асаблівасць* (у межах аб'ектнага тыпу рэалізуецца праз субдамінанту *«часткі цела рыбы»*: ***галавач*** 'бычок', ***глазач*** 'лешч', ***гарбыль*** 'буйны акунь');

2) *пераважнае месца існавання* (рэалізуецца праз субдамінанту *«натуральныя аб'екты, з якімі звязвана існаванне рыб»*: ***днянка*** 'плотка', ***падкаменічык*** 'бычок', ***багнік*** 'уюн' [ад *багна*]);

3) *час нерасту* (рэалізуецца праз дзве субдамінанты: *«расліны, у час цвіцення якіх адбываецца нераст»* (***альхоўка*** 'плотка', ***вярбовік*** 'лешч') і *«народныя каляндарныя святы і часткі астранамічнага года, калі адбываецца нераст»* (***юравіца*** 'мінога', ***марцоўка*** 'шчупак')).

Другім па рэпрэзентатыўных паказчыках з'яўляецца **атрыбутыўны тып** матывацыйных адносін (22%). Назвы атрыбутыўнага тыпу матывацыйных адносін звязаны з якаснай характа-

рыстыкай аб'екта паводле колеру, формы, памеру і да т. п. У пераважнай большасці выпадкаў такія назвы ўзнікаюць на базе якасных прыметнікаў, у адзінкавых выпадках – на базе дзеясловаў. Беларускія іхтыёнімы гэтага тыпу абумоўлены матывацыйнымі прыкметамі, звязанымі з апісальнымі характарыстыкамі рыб.

Спіс анамасіялагічных дамінант, характэрных для атрыбутыўнага тыпу, наступны:

1) *характэрная знешняя асаблівасць* (у межах атрыбутыўнага тыпу рэалізуецца праз дзве субдамінанты: *«колер»* (***сіняўка*** 'гарчак', ***залатоўка*** 'гарчак') і *«памер/форма»* (***болень*** 'жэрах'[ад рус. *большой*], ***кругляк*** 'судак', ***пласкуха*** 'плотка'));

2) *характэрная фізіялагічная асаблівасць* (рэалізуецца праз дзве субдамінанты: *«тактыльныя характарыстыкі»* (***сліж*** 'уюн' [ад *слізкі*]) і *«пах/смак»* (напрыклад, назвы гарчака – ***смярдзюха*** і ***гаркушка***)).

Намінацыі **дзейнаснага тыпу** складаюць 18% ад агульнай колькасці матываваных назваў. Да гэтага тыпу матывацыйных адносін належаць намінацыі, якія ўзнікаюць ад асноў дзеясловаў і дзеепрыметнікаў і рэалізуюць значэнне дзеянняў, што выконваюцца аб'ектам. У аспекце іхтыялагічных найменняў назвы згаданага тыпу ў асноўным або адлюстроўваюць паводзінскія характарыстыкі рыб, або паказваюць на тое, якім чынам аб'ект здабываецца і апрацоўваецца для выкарыстання ў ежу. Асноўнымі матывацыйнымі прыкметамі такіх назваў выступаюць фізічныя дзеянні, якія вызначаюць паводзінскія характарыстыкі рыб, а таксама спосаб здабывання і спажывання рыбы.

Анамасіялагічны кантэкст назваў дзейнаснага тыпу складаюць наступныя дамінанты:

1) *характэрная асаблівасць паводзін* (рэалізуецца праз субдамінанту *«фізічныя дзеянні»*: ***вілюн*** 'уюн' [ад *віляць*], ***вяртух*** 'мінога');

2) *спосаб здабывання* (рэалізуецца праз субдамінанту *«характар лоўлі»*: ***сялява*** 'рапушка еўрапейская' [ад рус. дыял. *сіляць* 'вудзіць']);

3) *спосаб спажывання* (рэалізуецца праз субдамінанту *«характар прыгатавання»*: ***сялёдка*** 'чахонь' [у некаторых мясцовасцях Беларусі чахонь засольваюць у бочках]);

4) *час нерасту* (у межах дзейнаснага тыпу рэалізуецца праз субдамінанту *«прыродныя працэсы, што адбываюцца ў час нерасту»*: ***наліўнік*** 'лін' [як сцвярджае В. Ц. Каламіец, лін нерасціцца ў канцы мая – пачатку чэрвеня, г. зн. у час, калі выспявае, наліваецца жыта, параўн.: польск. дыял. ***pszenicznik***, укр. дыял. ***пшеничник***]).

Даволі значную (прыкладна адну пятую) частку матываваных намінацый складаюць найменні, што ўзніклі ў выніку семантычнай дэрывацыі – **метафарычнага пераносу значэння**. Такі перанос можа засноўвацца на аб'ектнай або суб'ектнай базе. Большасць другасных іхтыялагічных найменняў прадстаўляюць сабой першы выпадак і звязаны з неадушаўлёнымі аб'ектамі (***кубар*** [назва дробнай плоткі паводле мясцовай назвы *глінянага збана* – падабенства па форме]) або з назвамі жывёл (***конь***, ***кароўка*** [экспрэсіўныя назвы паводле вялікага памеру] і інш.). Група метафарычных найменняў, заснаваных на суб'ектнай базе, звязана з назвамі людзей (***скамарох*** [назва паводле стракатай афарбоўкі], ***матросік*** [назва акуня паводле папярочных палос на целе, якія нагадваюць *матроскую цяльняшку*] і інш.).

Крыху менш за 10% іхтыялагічных найменняў прадстаўлена назвамі, што сумяшчаюць у сабе адзнакі двух тыпаў, напрыклад **аб'ектнага і прэдыкатыўнага** (***пескавод*** [водзіцца ў вадаёмах з пясчаным дном]), **атрыбутыўнага і прэдыкатыўнага** (***верхаплаўка***). Адзінкава сустракаюцца выпадкі метафарычна абумоўленых назваў складанага тыпу (***краснапёрка*** [назва ўзнікла ў выніку падкрэслівання чырвонага колеру плаўнікоў рыбы і атаясамлівання іх з пер'ем птушкі]).

**Літаратура**

1. Рыбы: популярный энциклопед. справ. / под ред. П. И. Жукова. – Минск: БелСЭ, 1989.

2. Крывіцкі, А. А. Народныя назвы відаў рыбы / А. А. Крывіцкі // Лексічныя ландшафты Беларусі: жывёльны свет. – Мінск: Навука і тэхніка, 1995. – С. 93–136.

3. Коломиец, В. Т. Происхождение общеславянских названий рыб / В. Т. Коломиец. – Киев: Наук. думка, 1983.

4. Шаблоўскі, А. І. Лексічная анамасіялогія: тыпы матывацыйных адносін / А. І. Шаблоўскі // Беларуская лінгвістыка / рэдкал.: А. І. Падлужны (адк. рэд.) [і інш.]. – Мінск, 2007. – Вып. 59. – С. 13–22.

*Н. А. Снігірова*

# ІНАВАЦЫЙНЫЯ ЗМЕНЫ Ў ФАНЕТЫЧНАЙ СІСТЭМЕ ПАЎНОЧНА-ЎСХОДНІХ ГАВОРАК ПОЛЬСКАЙ МОВЫ

Вывучэнне беларускамоўнага ўздзеяння на паўночна-ўсходнія польскія гаворкі, распаўсюджаныя па-за тэрыторыяй з моцным ўсходнеславянскім, пераважна субстратным, кампанентам, нярэдка правакуе дыскусіі. Аднак наяўнасць істотнай колькасці інавацыйных моўных з'яў на паўночным усходзе генетычна польскай тэрыторыі, за межамі кантактнага міжмоўнага рэгіёна Польшчы, патрабуе асаблівай увагі даследчыкаў. Дыялектныя асаблівасці, лакалізаваныя ў паўночна-ўсходніх гаворках польскай мовы К. Нічам, Ч. Кудзіноўскім, К. Дэйнам і іншымі вучонымі, складальнікамі лінгвагеаграфічных атласаў, могуць быць арэальна і тыпалагічна суаднесены з адпаведнікамі, характэрнымі для паўночна-заходніх беларускіх гаворак. Стымул для ўзнікнення або цэнтр ірадыяцыі некаторых значных, аддаленых ад кантактнай мяжы арэалаў інавацый, магчыма, знаходзіцца на Беларусі. Асабліва характэрныя змены адбываюцца ў фанетычнай сістэме паўночна-ўсходніх гаворак польскай мовы.

Найбольш паказальнымі для кансанантызму і вакалізму з'яўляюцца наступныя інавацыйныя працэсы: рэгрэсіўная палаталізацыя гука [z] (*źleść*); змяненні старажытнапольскіх мяккіх зычных [*ḿ*], [*ń*]: кантынуант старажытнапольскага [*ń*] перад *-s* у словах *pa*[*n*]*ski*, *ko*[*n*]*ski*, *świ*[*n*]*ski*, страта губнога зычнага ў групе *mń- ≤ -ḿ: ń-*; кантынуант старажытнапольскага [-*ḿ*] у канчатку творнага склону множнага ліку (*ręk*)*-ami*: *ręka*[*ń*]*i*; кантынуанты старажытнапольскіх галосных: кантынуант старажытнапольскага [*ō*] у слове *n͡uożka*, кантынуант старажытнапольскага [*ę*] у слове *zy-ⁱby*.

**Рэгрэсіўная палаталізацыя гука [*z*]: *źleść*.** Згодна з матэрыяламі MAGP, ізафона *źleść* 'zleźć' на тэрыторыі паўночна-ўсходняй Польшчы мае вертыкальны характар і вырысоўвае прыкметныя выступы ў паўднёва-заходнім і паўночна-ўсходнім напрамках (гл. карту-схему 1) [1, т. 3, к. 137]. Крыху меншыя зрухі заўважаюцца на ўсходзе і захадзе прасторы паўночна-ўсходніх польскіх гаворак. У адпаведнасці з картай MAGP, дадзены арэал астраўны. Аднак шырока вядомая на Беларусі рэгрэсіўная палаталізацыя гука [*з*] (асіміляцыйная мяккасць у беларускай мове набыла вельмі выразны, асаблівы характар, і назіраецца яна ў гаворках усіх раёнаў Беларусі [2, с. 105]) дазваляе працягнуць тэрытарыяльны адрэзак змяшчэння з'явы значна далей управа ад адзначаных меж. Гэта ілюструюць АПБ [3, с. 42, к. 20] і АББ [4, с. 42, к. 37], у якіх засведчана цвёрдасць – мяккасць [*з*], [*с*] перад мяккімі зычнымі.

Крытэрыямі вырашэння пытання інавацыйнасці ці архаічнасці названай ізафоны могуць быць дадзеныя гістарычнай фанетыкі. Прасл. **s'*, **z'* падвергліся ў польскай мове поўнаму змякчэнню ў *ś*, *ź*. Але ўстанавіць, калі дакладна яно адбылося, цяжка [5, с. 139]. Звычайна першапачатковыя *ś*, *ź* прыпадабняліся паводле звонкасці да наступнага (акрамя санорнага) зычнага [5, с. 140]. У сучаснай польскай мове зычны *z* у ролі прэфікса перад дзеясловамі, якія пачынаюцца на мяккія *j*, *ń*, *m'*, *w'*, *g'*, пры спантанным маўленні можа прыпадабняцца да наступнага зычнага па мяккасці і гучаць як злёгку памякчоны [*z'*] (не [*ź*]!), напрыклад: *zjeść*, *zjechać*, *znieść*, *zniknąć*, *zmiąć*, *zwiać*, *zgiać* [6, с. 89]. Перад *l* такі пераход не назіраецца. Адсюль зразумела, што прычыны змен у слове *źleść* носяць інавацыйны характар – не тоесны прыродзе перараджэння гука *z* у польскай літаратурнай мове. На падставе ўстаноўленых фактаў (пачатковы мякка вымаўлены *ź*, не характэрны для гукавой абалонкі слова, – на месцы звонкага шчыліннага сярэднеязычнага пярэднепаднябеннага гука *ź* павінен знаходзіцца звонкі шчылінны пярэднеязычны губны *ż*) быў вылучаны значны абшар вымаўлення *źleść*.

У беларускай мове прыпадабненне паводле мяккасці таксама лічыцца няпростай інавацыяй для гістарычнага апісання з-за адсутнасці ясных сведчанняў у кірылічных тэкстах. Часам у іх, пачынаючы з XVI ст., маглі пазначаць рэгрэсіўную палаталізацыю, напрыклад: *зьбирать*, *чысьл'* м. скл. адз. л. (XVI ст.) [7, с. 178]. У новы перыяд беларускай літаратурнай мовы рэгрэсіўную

палаталізацыю зычных *с, з, ц, і ӡ* пазначалі на пісьме да 1933 г. [7, с. 179]. Акрамя таго, як падкрэслівае П. Векслер, дадзены працэс адбываецца незалежна ад наяўнасці рэдукаванага перад зычнымі (параўн. прыклады з сучаснай беларускай мовы: «*бя*[*з'*]*дзейнічаць, пра*[*з'*]*зямлю,* [*з'*]*ліваць,* [*з'*]*няць,* [*с'*]*лед,* [*с'*]*нег,* [*с'*]*Сібіры, бе*[*с'*]*цэбе, кары*[*с'*]*ць,* [*з'*]*біць,* [*з'*]*месці,* [*с'*]*мятана,* [*с'*]*пелы*» [7, с. 178]). Такім чынам, прыпадабненне гука [*з*] па мяккасці да наступнага мяккага зычнага, у тым ліку і [*л'*], – даўно ўсталяваная асаблівасць беларускай мовы.

Згодна з думкай Ф. М. Янкоўскага, у агульнаславянскай мове цвёрды зычны *з* быў парны з памякчоным *з'*, паколькі цвёрдых і мяккіх зычных, уласцівых сучаснай беларускай мове, не было. Прыпадабненне цвёрдых зычных да мяккіх – фанетычнае змяненне пісьмовай эпохі, калі пасля страты рэдукаванага ъ цвёрды зычны апынуўся ў непасрэдным суседстве з наступным мяккім і, прыпадабняючыся да яго, супаў са сваім парным мяккім [2, с. 86]. Памякчоныя зычныя сталі мяккімі, у выніку чаго ўзніклі пары паводле цвёрдасці – мяккасці: *б – б', в – в', г – г', д – д', з – з'* і інш. У беларускай мове палаталізацыйныя працэсы працягваліся і адбылося далейшае памякчэнне свісцячых *з* і *с* [2, с. 86, 87]. Папярэдні цвёрды глухі перанёс падвойнае прыпадабненне да наступнага мяккага звонкага, у тым ліку да санорнага [2, с. 105]. Сярод прыкладаў, якімі Ф. М. Янкоўскі ілюструе гэта пераўтварэнне, ёсць і слова *злезці*: *сълѣзти → слѣзти → з'лез'ці (сьл' → сл' → з'л')* [2, с. 105].

Існаванне формы *źleść* – гэта прыклад рэгрэсіўнай кантактнай асіміляцыі па мяккасці, іншымі словамі – рэгрэсіўнай палаталізацыі. Беручы пад увагу апісаны раней арэальны малюнак і той факт, што для гаворак паўночна-заходняй Беларусі вышэйзгаданы фанетычны працэс таксама з'яўляецца характэрным [8, с. 167], можна зрабіць выснову: змена гука *z* на *ź* у межах фанетычнага слова *zleźć* магла адбыцца пад уплывам суседняй мовы, аднак ізафону *źleść* немагчыма трактаваць як інфільтрацыю, бо яна не з'яўляецца непасрэднай копіяй беларускага адпаведніка *злезці*. Ачагом ірадыяцыі прааналізаванай інавацыі, магчыма, будзе цэнтральная дыялектная зона гаворак беларускай мовы. Паводле А. А. Крывіцкага, «цэнтральную дыялектную зону ўтвараюць гаворкі, якія характарызуюцца якраз агульнасцю або блізкасцю некаторых сваіх дыялектных асаблівасцей» [8, с. 228]. Паколькі ў беларускай мове працэс памякчэння зычнага *з* у становішчы перад мяккімі зычнымі стаў агульнавядомым і на дыялектным, і на літаратурным узроўнях, трэба думаць пра моцную відавочную экспансію інавацыі, цэнтр якой лакалізуецца на тэрыторыі Беларусі. Разарванасць арэала можна патлумачыць тым, што з'ява ахапіла значны адрэзак лінгвістычнага часу, за які дзяржаўныя мяжы, праведзеныя на суцэльнай моўнай прасторы, паступова сталі аб'ектыўнай перашкодай на шляху пранікнення новаўтварэнняў.

Менавіта беларуская фанетычная асаблівасць паслужыла стымулам для новага гукавога афармлення польскага слова, паколькі: а) арэал інавацыйнай з'явы на польскай тэрыторыі займае значна меншы кампактны абшар у параўнанні з суцэльным арэалам адпаведнай з'явы на беларускай тэрыторыі; б) фанетычныя ўмовы для зараджэння інавацыі ў большасці гаворак польскай мовы, а таксама ў літаратурнай мове адсутнічаюць. З улікам адзначанага можна меркаваць, што рэгрэсіўная палаталізацыя [*z*] у слове *źleść* з'яўляецца сведчаннем беларускіх арэальных уплываў на паўночна-ўсходнія гаворкі Польшчы.

**Фанетычныя змяненні старажытнапольскіх мяккіх зычных [*ḿ*], [*ń*] Кантынуант старажытнапольскага [*ń*] перад -*s*: *pa*[*n*]*ski, ko*[*n*]*ski, świ*[*n*]*ski*.** У адпаведнасці з матэрыяламі MAGP, дадзеная ізафона ўтварае на паўночым усходзе Польшчы незамкнуты арэал, які прымыкае па ўсім дзяржаўным памежжы да Беларусі і часткова да Украіны (гл. карту-схему 2) [1, т. 7, к. 324]. Значная гарызантальная экспансія арэала назіраецца ў заходнім напрамку. З'ява ахоплівае паўночную частку тэрыторыі Беларусі: цвёрдае вымаўленне [*н*], [*с*] у слове *конскі* прыкладна вызначаецца лініяй Гродна – Радашковічы – Барысаў – Віцебск і далей па Заходняй Дзвіне да граніцы з РФ, а мяккія варыянты гукаў [*н*], [*с*] пераважаюць на поўдні і ўсходзе ад названай лініі, прычым сустракаюцца радзей і толькі ў прадстаўнікоў старэйшага пакалення [10, к. 58; 11, с. 476, 477]. Паводле ЭССЯ, беларускія варыянты прыметнікаў *конскі* і *коньскі* зафіксаваны ў Брасл., Лід., Шальч., Гродз., Пруж. раёнах [12, т. 11, с. 11]. Але словы *панскі* і *свінскі* (разам з адна-

карэннымі) ужываюцца толькі з цвёрдым *н* [13, т. 3, с. 391; 13, т. 4, с. 393]. Цвёрды [*н*] увогуле пануе ў фанетычным ланцугу марфем тыпу [*-нс'к'*], [*-нск*] на ўсходнеславянскай тэрыторыі. Складальнікі MAGP удакладняюць, што [*n*] характэрна і для некаторых пунктаў Памор'я і Сілезіі, але гэтыя факты – спарадычныя і, на нашу думку, могуць тлумачыцца ўплывам нямецкай мовы ці трактавацца як перыферыйныя. У прыватнасці, прыметнік *конскі* вядомы таксама балг. (*конски, конскый, конџьи*), славац. (*konsky, konskí*) мовам і чэш. дыялектам (*konský*), што ў дадзеным выпадку з'яўляецца вынікам паралельнага развіцця [12, т. 11, с. 11].

Важна адзначыць, што для сучаснага польскага літаратурнага вымаўлення такіх слоў, як *pański, koński, świński*, характэрна шчылінная артыкуляцыя зычнага *ń*, прычым, як звяртае ўвагу П. Бонк, зычныя *n, ń, j* – «паўадкрытыя», але гукам *ń, j* уласціва сярэднеязычная артыкуляцыя, у той час як гуку *n* – пярэднеязычна-дзясенная [6, с. 83, 91]. Магчыма, гэты факт фанематычнай блізкасці абумоўлівае змены ў словах не толькі на літаратурным, але і на дыялектным узроўнях. Аднак вядома, што, пачынаючы ад XI ст., у першай фазе дыспалаталізацыі адбываецца зацвярдзенне такіх мяккіх зычных, як *p', b', m', n', d', s', r', v', z'*, у выніку чаго дублет слова *kon'ny* з мяккім [*n*] мог трансфармавацца ў *konny*. Згодна з думкай Ф. М. Янкоўскага, зычны *н*, калі стаяў перад наступным *j*, меў мяккае гучанне і яшчэ ў перыяд агульнаславянскай мовы быў парным паводле цвёрдасці – мяккасці [2, с. 86].

У прыватнасці, лексема *konny*, паводле дадзеных NSEJP, у назоўнікавым значэнні 'той, хто едзе на кані', 'коннік, кавалерыст' датуецца ў польскай мове XVII ст. (вытворны *konnica* 'коннае войска, кавалерыя' – XVIII ст.), а прыметнікавае ўтварэнне *koński* ў значэнні 'тое, што звязана з канём, уласціва каню', напрыклад *mięso końskie* 'каніна', *końskie zdrowie* 'моцнае здароўе', – XV ст. [14, с. 239]. З гэтага вынікае, што на тэрыторыі Польшчы першасным быў мяккі варыянт *koński*.

На непасрэдную сувязь даследуемай ізафоны з усходнеславянскімі гаворкамі ўказвае К. Ніч: «ніводная з польскіх гаворак (акрамя тых, што адчуваюць моцны нямецкі ўплыў) не ведае страты палатальнасці *ń* перад зычнымі, сувалкаўскія ж *słonce, skoncy* (і што ўзніклі пасля – *pąski, tąsy, kąski*) спалучаюцца непасрэдна з рускімі [г. зн. усходнеславянскімі. – *Н. С.*]» [15, с. 26].

Іншай думкі прытрымліваецца З. Шчібер. Ён лічыць тып *na konci, panski, panstwo* характэрнай рысай паўночнага ўсходу тэрыторыі ўласна польскіх гаворак [16, с. 36, 37]. Такія формы з цвёрдым [*n*], хоць і гучаць па-беларуску, ёсць таксама ў прускіх мазураў [17, с. 438]. Вышэй названыя з'явы, на думку Шчібера, не архаізмы, бо «мазурскае насельніцтва прыбыло нядаўна, у часы, калі такія змены, як, напрыклад раскладанне мяккіх губных, напэўна, ужо адбыліся ў дыялектах Мазоўша» [17, с. 438].

З. Курцова мяркуе, што зыходным пунктам змен у словах *koński, pański* і іншых выступае «*сістэмная беларуская рыса*», якой у недастатковай ступені пазбавіўся беларус, што авалодвае пальшчызнай, і якая сутыкаецца з недастаткова засвоенай польскай нормай [18, с. 54]. У выніку паўстае іншая, трэцяя прымета, якая паступова пачынае вызначаць фанетычна-фаналагічную сістэму ўсяго дыялекту. Аўтар дадзенай гіпотэзы падкрэслівае, што «пунктам выйсця такой «трэцяй» рысы бывае заўсёды тэндэнцыя, што ідзе ад *беларускага* субстрату, мэтай якой з'яўляецца набліжэнне да агульнамоўнай нормы. Спыненне наступае як бы на паўдарозе, норма не дасягаецца, а ўтвараецца *інавацыйная* рыса» [18, с. 54, 55].

Акрамя гэтага, слова *panski*, утворанае ад назоўніка *pan*, можа лічыцца прыкладам узаемных польска-беларускіх уплываў. Беларуская лексема *пан* (уладальнік маёнтка, памешчык; асоба, якая належала да прывілеяваных слаёў грамадства) паходзіць з польск. *pan* 'тс'. Ст.-бел. *панъ* 'пан, памешчык, бог' < ст.-польск. *pan*. Само слова заходнеславянскага арэала [19, т. 8, с. 146]. А дыялектызм *panski* стаў ужывацца з цвёрдым [*n*] у польскай мове, верагодней за ўсё, пад уплывам беларускай мовы.

Такім чынам, [*n*] як кантынуант ст.-польск. [*ń*] перад *s* абавязаны сваім з'яўленнем у словах *pański, koński, świński* прымыканнем польскамоўнага арэала да Беларусі, на тэрыторыі якой і будзе лакалізавацца цэнтр ірадыяцыі інавацыі. Вызначыць яго больш дакладна цяжка з-за таго,

што такія лексемы, як *панскі, конскі* і пад., агульнаўжывальныя па ўсёй краіне. Неабходна падкрэсліць, што *-n-* на месцы *-ń-* сустракаецца на паўночным усходзе Польшчы неадзінкава, таму можна казаць пра пэўную ступень адаптаванасці новаўтварэння да фанетычнай *сістэмы* польскай мовы. Праведзены аналіз дазваляе аднесці разгледжаную вышэй з'яву дэпалаталізацыі [*-ń-*] перад *s* у словах *pański, koński, świński* да ліку паўночна-ўсходніх польскіх арэальных інавацый.

**Страта губнога зычнага ў групе *mń-* ≤ *-ḿ:ń-* – агульны стан**. Паводле карты, астраўны несуцэльны арэал, што адлюстроўвае агульны стан кансанантызму паўночна-ўсходніх польскіх гаворак пасля страты губнога зычнага ў групе *mń-* ≤ *-ḿ:ń-*, займае значную плошчу і мае выхад далёка на поўдзень (гл. карту-схему 3) [1, т. 8, к. 352]. Беларускія лінгвагеаграфічныя крыніцы таксама ілюструюць асаблівасці функцыянавання зычных на месцы мяккага губнога [*м'*], на падставе чаго даследуемы арэал фармальна можна кваліфікаваць як адкрыты. Так, на заходнім Палессі ў паўднёва- і сярэднезагародскім вымаўленні зычны [м] выступае ў спалучэнні з наступным [н']: *мн'ѐта, мн'ѐсо, врѐмн'е, плѐмн'е, мн'а̀хкий, мн'а̀со, симн'а* 'сям'я', *зимн'а̀* 'зямля' і інш. [20, с. 245, 248]. Мяккі губны **м'* рэалізуецца перад **ę* у лексемах *мнясто, тімне*, адзначаных на поўдні Бяроз. р-на, прычым малюнак экспансіі ізафон вызначаецца клінам у паўночным напрамку [4, с. 57, к. 52]. У Пруж. р-не зафіксаваны словы *мняса, мнята*, якія прадстаўлены толькі на поўдні, у шасці пунктах апытання [3, с. 51, к. 29]. Лексічныя адзінкі, структурна суадносныя з польскімі (з пачатковым спалучэннем *мн'*), запісаны на Брэстчыне: *мнетва, мнетны, мнюшка, мняло, мніло* [21, с. 134]. Дзеяслоў *мнець* 'разагравацца, расслабляцца (аб паветры)', у якім адбылася мена *л' > н'*, і назоўнік *мнея* 'жанчына, якая трэ лён' уключаны ў ЭСБМ [19, т. 7, с. 59]. Арэал распаўсюджання такіх слоў, як [*мн'*]*яса*, [*мн'*]*ята*, [*мн'*]*яць* і іншых, прымыкае да мяжы з Польшчай на паўднёвым захадзе: паўночная граніца гэтага арэала праходзіць прыкладна па р. Ясельдзе, усходняя – паміж рэк Стыр і Гарынь [10, к. 51]. Гэтаму факту варта надаць асаблівае значэнне, паколькі па р. Ясельдзе многія даследчыкі праводзяць старажытную балта-славянскую моўна-этнічную мяжу. Аднак, як тлумачыць Л. В. Леванцэвіч, рэкі ў старажытнасці звычайна не раз'ядноўвалі, а аб'ядноўвалі людзей, бо з'яўляліся галоўнымі шляхамі зносін, а гэта значыць, што насельніцтва, якое жыло па абодва бакі ракі, магло належаць да адной этнакультурнай групы [4, с. 4].

Нягледзячы на тое, што паводле формы арэал фанетычнай з'явы на польскай тэрыторыі інавацыйны (зафіксаваны на карце плаўны клін, які імкнецца на поўдзень ад Варшавы, можа адлюстроўваць экспансію інавацыі), агульны стан арэальнай сітуацыі ў паўночна-ўсходніх гаворках Польшчы пасля страты губнога зычнага ў групе *mń-* ≤ *-ḿ:ń-* выклікае сумненні наконт навізны дадзенага працэсу. Недастатковая пераканаўчасць навуковых поглядаў вучоных фактычна пакідае адкрытым пытанне яго генезісу.

На думку К. Дэйны, сведчаннем архаічнасці з'явы могуць выступаць наступныя аргументы: гэты тып спрашчэння павінен быў распаўсюдзіцца далей на поўдзень, на што ўказвае гіперкарэктнае замяшчэнне этымалагічнага [*ń*] гукам [*ḿ*] у словах *m'itka, do m'e* [22, с. 122]. Такі погляд падзяляе З. Клемянсевіч [5, с. 152]. Аднак Г. Фрыдрых лічыць, што: «з'яўленне другаснага [*-ń-*] мае фанетычнае паходжанне як альтэрнацыя *ń // j* (параўн., напрыклад, *Zamoński // Zamojski*), або марфалагічнае як памылковая дэкампазіцыя прэфікса **vъn + ide* ≥ * *vъ-nide*, ст.-польск. *wnidzie*, сучаснае дыял. *veńʒ'e*; адсюль аналагічным было б *odeńʒ'e, zańʒ'e* і г. д. Для Мазоўша магчымыя абедзве інтэрпрэтацыі» [23, с. 67].

У. Курашкевіч адзначае, што на паўночным Мазоўшы мяккасць губных зычных «замаруджаная» ў дачыненні да губной артыкуляцыі. Да прыкладу, на Вармії ў сувязі з гэтым узнікае другасны зычны: *m'ńasto / ńasto, mńila / ńila, ńitka /mńitka* [24, с. 91]. З. Канэчна страту зычнага [*-m*] у групе *mń-* тлумачыць расшчапленнем і наступным спрашчэннем у [*ń*] і [*n*]: *m'ńasto, mńasto, ńasto* і *nasto* [25, с. 153].

Агульнапольскія *mńisko, mńitka, mńecka, mńiżać* дазваляюць К. Нічу таксама трактаваць пераход [*ḿ*] у *mń* як змяшэнне [*ḿ*] з [*ń*] [15, с. 44, 46]. Прычыну адсутнасці ў падляшска-су-

валкаўскіх гаворках названай з'явы вучоны звязвае з наступным: у эпоху яе нараджэння гэтыя землі, відавочна, належалі Літве, бо «нядаўна паланізаваныя літвіны абавязкова перанялі б мову суседняга Мазоўша. На тое, што мінуўшчына ваколіц Аўгустава і Сувалкаў пераважна была беларуская, указваюць ускосныя і непасрэдныя доказы» [15, с. 25, 26].

Вышэй названыя факты падводзяць да высновы: разгледжаная інавацыя прадстаўлена і ілюстравана дастаткова разнастайна як польскім, так і беларускім матэрыялам. Кіруючыся арэальным фактарам, а таксама беручы пад увагу пазіцыю К. Ніча, можна лічыць цэнтрам зараджэння інавацыйных змяненняў у групе *mń-* ваколіцы Аўгустава і Сувалкаў. Прычыны, паводле якіх польска-беларускае сыходжанне з'явілася і пашырылася, знаходзяцца, на нашу думку, у звычайным змешванні (ці расшчапленні і спрашчэнні) гукаў у працэсе спантаннага маўлення.

**Кантынуант старажытнапольскага [-ḿ] у канчатку творнага склону множнага ліку (*ręk*)-*ami*: *ręka*[ń]*i*.** Згодна з матэрыяламі MAGP, астраўны несуцэльны арэал фанетычнай з'явы *ręka*[*ń*]*i* вызначаецца ступеньчатым рэльефам паўночна-заходняй часткі (гл. карту-схему 4) [1, т. 8, к. 356]. З'ява дыспалаталізацыі [*m*] у канчатку *-ami* шырока ахапіла Мазоўша, Памор'е і Малапольшчу (у паўднёва-заходняй і паўночна-ўсходняй частках Малапольшчы ізафона выступае ўжо толькі рэліктава) [1, т. 8, с. 32]. Часцей за ўсё кантынуантам ст.-польск. [*ḿ*] на ўсім гэтым вялікім абшары з'яўляецца [*m*]. Аднак на Мазоўшы побач з [*m*] сустракаецца таксама [*ń*] (на пагранiччы Варміі [*n*]) [1, т. 8, к. 356]. Для беларускага дыялектнага вымаўлення характэрна ўжыванне цвёрдага [*м*] перад канцавым галосным у назоўніках, прыметніках і займенніках у тв. скл. мн. л. (*рукамы*, *садамы*, *вокнамы*, *новымы*, *дарагімы*, з *усімы*...) [20, с. 238].

Падобны да апісанага ў папярэднім параграфе выпадак рэдукцыі ў групе зычных, якая ўтварылася з [*ḿ*] у выніку страты яе мяккага кампанента, змарфалагізаваўся ў канчатку тв. скл. *-aḿi* і ў дыялектных адпаведніках займеннікавых форм *m'i*, *m'ę*, *z nani*, *z wani*. Значна шырэйшую экспансію канчатка *-amy* можна патлумачыць працэсамі выраўноўвання на ўзор дуальных канчаткаў *-ama*, *-oma* (*rękoma // rękam'i*), дзе быў цвёрды [*m*] [22, с. 123].

Асобае месца канчатка *-ami* і энклітычных формаў займенніка *mi, mię* ў працэсе фанетычных змяненняў ст.-польск. мяккага губнога зычнага [*ḿ*] прызнаецца К. Нічам [15, с. 44, 46], З. Клемянсевічам [5, с. 152], С. Урбаньчыкам [26, с. 33–35]. Г. Фрыдрых падкрэслівае, што ў курпёўскіх гаворках тэндэнцыя развіцця *ḿ* ≥ *ń* «ахапіла нават канчатак *-mi*: *teńi nogańi*, а таксама займеннік *ńi* 'mi'» [23, с. 5], у старэйшых інфарматараў у сістэме кансанантызму была засведчана абсалютная адсутнасць [*ḿ*].

Зыходзячы з падрабязнага аналізу, праведзенага гэтымі вучонымі, і ўлічваючы абрысы арэала, можна сказаць, што [*ń*] ([*n*]) як кантынуант ст.-польск. [*ḿ*] у канчатку тв. скл. мн. л. *(ręk) ami* носіць інавацыйныя прыметы. Форма *rękani*/*nogani* з'яўляецца прыкладам дыстантнай рэгрэсіўнай дысіміляцыі. Цэнтрам распаўсюджання ізафоны, адпаведна матэрыялам MAGP, могуць быць вызначаны землі Падляшскага ваяводства.

**Кантынуанты старажытнапольскіх галосных**. **Кантынуанты старажытнапольскага [*ō*] у слове *nūożka*.** У адпаведнасці з картаграфаваным арэальным малюнкам у паўночна-ўсходніх гаворках польскай мовы ізафона *nŷożka* 'nóżka', працягнутая з поўначы на поўдзень, утварае адкрыты на ўсход арэал (гл. карту-схему 5) [1, т. 5, к. 240]. Арэал з'явы мае выгляд накіраванага на захад плаўнага выступа, які не выходзіць далёка за агульнапрынятыя межы ўсходнеславянскіх уплываў. Гаворкам беларускай мовы, якія належаць да асноўнага масіву, дыфтангічнае вымаўленне [*о*] – дыфтонга [*ô͡у*] – пад націскам ў закрытых складах не характэрна, за выключэннем паўднёва-заходняга тыпу. Яно адзначаецца галоўным чынам у заходнепалескіх гаворках беларускай мовы. Паводле матэрыялаў П. А. Бузука, паўночная мяжа дадзенай з'явы (ілюстравана лексемамі *нŷожкі*, *тŷолькі*, *бŷог*, *дŷом*, *гŷоркаю*...) праходзіць прыблізна цераз Гродна, Ліду, на поўдні ад Мінска праз Чэрвень і Бабруйск [27, с. 21]. У паўночназагародскім вымаўленні дыфтонг [*ŷо*] назіраецца як факультатыўны варыянт [*у*] [20, с. 249]. Паміж рэкамі Ясельда і Мухавец, у заходняй частцы Бяроз. р-на Брэсц. вобл. адзначаюцца лексемы *вŷоз*,

*кўонь, стўол* [3, с. 26; 28, с. 21]. У гаворках Лоеўшчыны дыфтангічнае вымаўленне *о* засведчана ў гістарычна новых закрытых складах слоў *вўол, кўонь, стўог, сўон* і інш. [29, с. 3]. На поўдні Беларусі арэал распаўсюджання дыфтонга *ўо* зліваецца з паўночна-ўкраінскімі гаворкамі, дзе дыфтангізацыя дадзенага тыпу зафіксавана ў словах *в[ўо]з, хв[ўо]ст, т[ўо]к, ст[ўо]л, р[ўо]л* і інш. [9, к. 51]. Згодна з думкай П. А. Бузука, украінскія дыфтонгі з'яўляюцца несапраўднымі ў звычайным сэнсе (г. зн. злучэнне двух галосных фанем у адным складзе), а ажыццяўляюць паступовы і безупынны пераход ад [*у*] да [*о*], таму ў дачыненні да іх ужываецца тэрмін «поліфтонгі» [27, с. 21].

Паводле сцвярджэння Н. Ананьевай, фанетычная самастойнасць *ó* стала слабець ужо ў XVI ст., у выніку чаго гук [*о*] вымаўляўся бліжэй да [*и*], чым да [*о*]. Такое вымаўленне даследчыца тлумачыць уплывам палякаў з паўднёва-ўсходніх «крэсаў», польская мова якіх развівалася на ўкраінскім субстраце і пры трывалым кантакце з украінскай мовай, у якой [*о*], што развіўся ў выніку «замяшчальнай працягласці», вымаўляўся ў XVI ст. як [*ио*] [30, с. 137].

Сучасная польская літаратурная мова і ўсе яе цэнтральныя гаворкі звужэнне першаснага [*ō*] атаясамліваюць з [*и*], хаця ў арфаграфіі захаваўся для яго знак *ó* [25, с. 101]. Але ў адрозненне ад літаратурнай мовы ў польскіх дыялектах [*о*] – пераважна лабіялізаваны гук. Вядома, што асабліва моцнай лабіялізацыя будзе на пачатку слова, а яе ўзмацненне ўнутры слова залежыць, у першую чаргу, ад характару суседняга зычнага.

Адсутнасць лабіялізацыі ў паўночна-ўсходніх і некаторых іншых гаворках Польшчы з'яўляецца, па словах С. Урбаньчыка, адметнай асаблівасцю гэтай тэрыторыі і вынікам чужых уплываў (украінскіх, славацкіх і чэшскіх) [26, с. 24]. На думку Г. Здуньскай, наяўнасць у мазавецкіх гаворках польскай мовы пераходу *о* → *ö* → *и* абумоўлена ўплывам фанетычнай сістэмы беларускай мовы [31, с. 122]. К. Дэйна таксама настойвае на тым, што лабіялізацыя гука [*о*] у мазавецкіх і сілезскіх гаворках – з'ява чужародная [32, с. 180]. Акрамя таго, вучоны сцвярджае, што тэндэнцыя да дыфтангізацыі – «характэрная і некалі ўсеагульна распаўсюджаная з'ява ў вялікапольскіх і паўночна-заходніх кашубскіх гаворках» [32, с. 181]. Згодна з арэальным малюнкам, разглядаемая з'ява ў паўночна-ўсходняй Польшчы мае інавацыйную прыроду.

Л. Э. Калнынь тлумачыць трансфармацыю гукаў тым, што «губныя і заднепаднябенныя ўзмацняюць лабіялізацыю наступнага галоснага *о*, што выражаецца ва ўтварэнні прыгуку *ŭ* перад *о*… Падобная сітуацыя вызначаецца як «антыцыпацыя лабіялізаванасці»« [33, с. 39]. Такія змены абумоўлены кантактнай сувяззю галоснага з папярэднім зычным і могуць асацыіравацца з больш архаічнай арганізацыяй гукавой паслядоўнасці, калі полем рэалізацыі сінтагматычных сувязей быў склад. У той жа час змены галосных могуць быць як праявай сінхроннай гукавой сінтагматыкі, так і ўсяго толькі фактамі гістарычнай фанетыкі [33, с. 40].

Магчымым цэнтрам ірадыяцыі інавацыі *nŭożka*, якая пашырана на захадзе, усходзе і поўдні ад польска-беларуска-ўкраінскага памежжа, з'яўляецца зона распаўсюджання паўднёвых гаворак беларускай і паўночна-заходніх гаворак украінскай мовы. На гэта ўказвае арэальны малюнак з'явы, у адпаведнасці з якім фанетычнае новаўтварэнне займае на польскай тэрыторыі перыферыйнае ў адносінах да адпаведных арэалаў на Беларусі і Украіне становішча. Мяркуецца, што ў паўночна-ўсходніх гаворках Польшчы інавацыя была актывізавана ўплывам фанетычнай сістэмы беларускіх і ўкраінскіх дыялектаў.

**Кантынуанты старажытнапольскага [*ę*] у слове *zy*$^{i}$*by*.** У адрозненне ад разгледжаных вышэй паўночна-ўсходніх арэальных інавацый у польскай мове астраўны несуцэльны арэал фанетычнай з'явы *zy*$^{i}$*by* 'zęby' размяшчаецца больш кампактна і мае вертыкальны характар лакалізацыі (гл. карту-схему 6) [1, т. 6, к. 269].

Паводле дадзеных С. Урбаньчыка, у паўночнай Польшчы агульнапольскі галосны гук *y* вымаўляецца як [*y*$^{i}$] або проста як [*i*], аднак на самым паўночным усходзе сувалкаўскага дыялекту заўважаецца розніца паміж галоснымі *y*, *i* і *ė* [26, с. 19]. Насавы рэзананс знікае на паўночна-ўсходняй, мазавецка-падляшскай, перыферыі незалежна ад пазіцыі ў слове. На іншых частках тэрыторыі Польшчы вымаўленне гука *y* ці *i* вызначаецца месцазнаходжаннем. Так, у паўднёвай

Вялікапольшчы (у меншай ступені ў паўночнай) рэзананс ліквідуецца перад шчылiннымі зычнымі: літаратурным лексемам *gęsi*, *mięso*, *książka* адпавядаюць тут *gyśi*, *m'yso*, *kśůška*, у той час як перад змычнымі захоўваецца назальнасць у выглядзе асобнага зычнага (*zump*, *zymby*, *pynta*) [26, с. 28].

У беларускім заходнепалескім вымаўленні галосны гук [*и* (*і*)] не толькі больш пярэдні адносна аналагічнага гука [*ы* (*і*)] у разнавіднасцях беларускага дыялектнага вымаўлення асноўных тыпаў [20, с. 238]. У параўнанні з [*ы* (*і*)] ён «зрушваецца па раду» ў становішчы пасля цвёрдых і мяккіх зычных. Выразная розніца паміж [*и* (*і*)] і [*ы* (*і*)] заўважаецца «пры параўнанні, напрыклад, рэалізацыі [*и* (*і*)] у словах [*си'тий*] і [*с'і'но*] у заходнепалескім вымаўленні і [*ы* (*і*)] у словах [*сы'ты*] і [*ас'і'на*] у разнавіднасцях вымаўлення асноўных дыялектных тыпаў (або аналагічна [*ли'ко*] і [*л'і'с*] – [*лы'ка*] і [*л'и'па*], [*ми'*] і [*м'і'сто*] – [*мы'*] і [*м'и'ска*] і г. д.)» [20, с. 238]. Акрамя таго, у паўднёвазагародскім вымаўленні галосны гук [*и* (*і*)] вымаўляецца пад націскам перш за ўсё ў марфанематычных умовах у адпаведнасці з мінулым *l*: *л'іс*, *хл'іб*, *челов'ік*, *с'м'іх*, *б'ілий*, *д'ід* і г. д., а таксама ў закрытых складах у марфанематычных умовах, у якіх у адкрытых складах мае месца, як правіла, галосны *о*: *б'ір*, *в'із*, *м'іст*, *м'ічно*, *сх'ід*, *ж'інка*, *пч'ілка* і г. д. [20, с. 242]. Націскны вакалізм сярэднезагародскага вымаўлення мае такія ж, як і паўднёвазагародскі, асаблівасці ў адносінах пашырэння галоснага [*и* (*і*)] [20, с. 245]. У паўночных гаворках беларускай мовы, па сведчанні П. А. Бузука, можна пачуць гук [*ы*] на месцы ненаціскнога [*у*] у шэрагу слоў (*замыж*, *коршын*, *скіныць*, *воздых*, *пазыха*, *вырычка*, *сыбота*...) [27, с. 30]. Адзначаныя вышэй фанетычныя з'явы маюць месца таксама ва ўкраінскай мове: *віз*, *тік*, *поріг*, *пій* і г. д. [9, к. 51].

З улікам наяўных звестак адносна размеркавання адпаведных ізафон на беларускай, украінскай і польскай тэрыторыі можна дапусціць, што паўночна-ўсходняя арэальная інавацыя $zy^ib y$ атрымала стымул для ірадыяцыі з беларускіх гаворак. Верагоднасць прапанаванай гіпотэзы дастаткова вялікая з прычыны таго, што насавыя ў польскай мове павінны былі знікнуць, расшчапіцца (*zymby*, *dump*) у выніку аслаблення назальнай артыкуляцыі, да чаго адносіцца і звужэнне [*ę*], [*ǫ*] у [*į*], [*y̨*], [*ų*] [34, с. 83, 84]. Вядома, што гук [*о*] звужаўся (напр., *kosać*, *kůsać*) ужо з XV ст. У сярэдзіне слова перад самкнутым зычным або афрыкатай галосны [*о*] мог расшчапляцца ў дыялектным маўленні на *óN*, *oN*, *ůN* (*kont – kónt – kůnt*, *zomp – zómp – zůmp*) [5, с. 108], прыводзячы да інавацыйных змен у фанетыцы польскіх дыялектаў.

Фанетычная інавацыя $zy^iby$ значна адрозніваецца ад з'явы-стымулу: замена насавога [*ę*] ўскладненым [$y^i$] ўзнікла пад уплывам своеасаблівага беларускага дыялектнага вымаўлення гука [*ы* (*і*)] (гл. вышэй). Беручы пад увагу адасобленасць і кампактнасць арэала $zy^iby$, можна канстатаваць, што ён мае перыферыйны характар размяшчэння і выяўляе паўднёва-заходні кірунак экспансіі на тэрыторыі паўночна-ўсходніх польскіх гаворак.

Праведзены аналіз асобных ізафон паказвае, што фанетычная сістэма паўночна-ўсходніх арэальных інавацый у польскай мове мае незакрыты характар і знаходзіцца ў цесным кантакце з дыялектамі суседніх усходнеславянскіх моў, якія разам утвараюць на памежжы т. зв. зону інтэнсіўнага ўзаемадзеяння. Пры гэтым кожны выпадак, калі адбывалася адаптацыя або трансфармацыя фанем, меў сваю спецыфіку. Згодна з прапанаванай інтэрпрэтацыяй, плошча, на якой развіваюцца паўночна-ўсходнія гаворкі Польшчы, неаднолькава прадуктыўна выкарыстоўваецца і як цэнтр, і як перыферыя ў адносінах да ўзнікнення фанетычных інавацый. Так, тэрыторыя Падляшскага ваяводства, наваколлі Аўгустава і Сувалкаў з'яўляюцца *цэнтрам* ірадыяцыі такіх інавацый, як страта губнога зычнага ў групе *m̄ń*- ≤ -*m̄:ń*- – агульны стан; кантынуант ст.-польск. [-*m̄*] у канчатку тв. скл. мн. л. (*ręk*)-*ami*: (*ręk*)-*ańi*. Арэалы такіх з'яў, як рэгрэсіўная палаталізацыя [*z*]: *źleść*; кантынуант ст.-польск. [*ń*] перад *s*: [*n*] на месцы [*ń*] у словах *pański*, *koński*, *świński*; кантынуант ст.-польск. [*ę*]: $zy^iby$; кантынуант ст.-польск. [*ō*]: *nūożka*, фарміруюць зону *перыферыйнага* распаўсюджання фанетычных новаўтварэнняў у паўночна-ўсходніх польскіх гаворках. На тэрыторыі Беларусі знаходзяцца цэнтры ірадыяцыі трох з'яў: рэгрэсіўнай палаталізацыі [*z*] у слове *źleść*; [*n*] на месцы [*ń*] у словах *pański*, *koński*, *świński*; кантынуанта ст.-польск. [*ę*] у форме $zy^iby$. Інавацыя *nūożka* пашыралася пад уздзеяннем беларускіх і ўкраінскіх дыялектаў.

Пераважная большасць прааналізаваных ізафон уяўляе сабой пераўтварэнне сваямоўнай лексемы праз адаптацыю чужых фанетычных асаблівасцей [35, с. 556] і мае працяг на ўсходзе польскага моўнага кантынуума, утвараючы адкрытыя, значныя па памеры арэалы. Палова з агульнай колькасці разгледжаных тут паўночна-ўсходніх арэальных інавацыйных асаблівасцей польскай мовы інспіравана беларускімі фанетычнымі асаблівасцямі, у адпаведнасці з чым можна зрабіць выснову аб значным беларускамоўным уплыве на працэс фанетычнай эвалюцыі гаворак паўночна-ўсходняй Польшчы.

### Скарачэнні

***Абрэвіятуры***

АББ – Атлас гаворак Бярозаўскага раёна Брэсцкай вобласці
АПБ – Атлас гаворак Пружанскага раёна Брэсцкай вобласці і сумежжа (Верхняга Над'ясельдзя)
ЭСБМ – Этымалагічны слоўнік беларускай мовы
ЭССЯ – Этимологический словарь славянских языков
MAGP – Mały atlas gwar polskich
NSEJP – Nowy słownik etymologiczny języka polskiego

***Мовы***

балг. – балгарская
ням. – нямецкая
польск. – польская
прасл. – праславянская
славац. – славацкая
ст.-бел. – старабеларуская
ст.-польск. – старажытнапольская
чэш. – чэшская

***Граматычныя катэгорыі і іншыя спецыяльныя скарачэнні***

адз. л. – адзіночны лік
дыял. – дыялектнае
м. скл. – месны склон
мн. л. – множны лік
р-н – раён
тв. скл. – творны склон

### Літаратура

1. Mały atlas gwar polskich: mapy: w 12 t. / pod kier. M. Karasia / Pracownia Atlasu i Słown. Gwar Pol. Zakł. Językoznawstwa PAN w Krakowie. – Wrocław [etc.]: Zakł. Nar. im. Ossolińskich: Wydaw. PAN, 1957–1970. – T. 12.

2. Янкоўскі, Ф. М. Гістарычная граматыка беларускай мовы: вучэб. дапам. / Ф. М. Янкоўскі. – 3-е выд., выпр. – Мінск: Вышэйш. шк., 1989. – 301 с.

3. Босак, А. А. Атлас гаворак Пружанскага раёна Брэсцкай вобласці і сумежжа (Верхняга Над'ясельдзя): фанетыка і марфалогія / А. А. Босак, В. М. Босак; адк. рэд. Ф. Д. Клімчук / НАН Беларусі, Ін-т мовазнаўства імя Я. Коласа. – Мінск, 2005. – 94 с.

4. Леванцэвіч, Л. В. Атлас гаворак Бярозаўскага раёна Брэсцкай вобласці. Фанетыка: вучэб. дапам.: у 2 ч. / Л. В. Леванцэвіч / Брэсц. дзярж. пед. ін-т. – Брэст, 1993. – Ч. 1. – 50 с.

5. Klemensiewicz, Z. Gramatyka historyczna języka polskiego / Z. Klemensiewicz, T. Lehr-Spławiński, S. Urbańczyk. – Warszawa: Państ. Wydaw. Nauk., 1964. – 596 s.

6. Bąk, P. Gramatyka języka polskiego / P. Bąk. – Warszawa: Wiedza Powszechna, 1997. – 508 s.

7. Вэкслер, П. Гістарычная фаналогія беларускай мовы / П. Вэкслер; пер. з англ. А. Літвіноўскай, М. Раманоўскага; навук. рэд., пер. Г. Цыхун. – Мінск: Выд. Логвінаў, 2004. – 256 с.

8. Крывіцкі, А. А. Дыялекталогія беларускай мовы: дапам. / А. А. Крывіцкі. – Мінск: Вышэйш. шк., 2003. – 294 с.

9. Атлас української мови: в 3 т. / АН УССР, Ін-т мовознавства ім. О. О. Потебні. – Київ: Наук. думка, 1988. – Т. 2: Волинь, Наддністрянщіна, Закарпаття и сумежні землі. – 522 с.

10. Дыялекталагічны атлас беларускай мовы: у 2 ч. / АН БССР, Ін-т мовазнаўства імя Я. Коласа; пад рэд. Р. І. Аванесава, К. К. Крапівы, Ю. Ф. Мацкевіч. – Мінск: Выд-ва АН БССР, 1963. – Ч. 1. – 338 с. з карт.

11. Дыялекталагічны атлас беларускай мовы: у 2 ч. / АН БССР, Ін-т мовазнаўства імя Я. Коласа; пад рэд. Р. І. Аванесава, К. К. Крапівы, Ю. Ф. Мацкевіч – Мінск: Выд-ва АН БССР, 1963. – Ч. 2: Уступныя артыкулы, даведачныя матэрыялы і каментарыі да карт. – 971 с.

12. Этимологический словарь славянских языков: праславянский лексический фонд / О. Н. Трубачёв [и др.]. / Акад. наук СССР, Ин-т рус. яз.; под ред. О. Н. Трубачёва. – М.: Наука, 1974. – Вып. 33.

13. Слоўнік беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча: у 5 т. / Акад. навук БССР, Ін-т мовазнаўства імя Я. Коласа; уклад.: Ю. Ф. Мацкевіч [і інш.]; пад рэд. Ю. Ф. Мацкевіч. – Мінск: Навука і тэхніка, 1979–1986. – Т. 5.

14. Długosz-Kurczabowa, K. Nowy słownik etymologiczny języka polskiego / K. Długosz-Kurczabowa. – Warszawa: Wydaw. Nauk. PWN, 2003. – 660 s.

15. Nitsch, K. Dialekty języka polskiego / K. Nitsch. – Wrocław [etc.]: Zakł. Nar. im. Ossolińskich, 1957. – 122 s., 3 m.

16. Stieber, Z. Sposoby powstania słowiańskich gwar przejściowych / Z. Stieber // Świat językowy Słowian / Z. Stieber; red.: A. Obrębska-Jabłońska [et al.]. – Warszawa, 1974. – S. 36–37.

17. Stieber, Z. Z pogranicza językowego polsko-białoruskiego / Z. Stieber // Świat językowy Słowian / Z. Stieber.; red.: A. Obrębska-Jabłońska [et al.].–Warszawa, 1974. – S. 435–439.

18. Lehr-Spławiński, T. Wzajemne wpływy polsko-ruskie w dziedzinie językowej / T. Lehr-Spławiński // Studia i szkice wybrane z językoznawstwa słowiańskiego. – Ser. 2 / T. Lehr-Spławiński. – Warszawa, 1966. – S. 130–142.

19. Этымалагічны слоўнік беларускай мовы: у 12 т. / пад рэд. В. У. Мартынава, Г. А. Цыхуна / Акад. навук БССР, Ін-т мовазнаўства імя Я. Коласа. – Мінск: Навука і тэхніка, 1978–2008.

20. Крывіцкі, А. А. Фанетыка беларускай мовы: вучэб. дапам. / А. А. Крывіцкі, А. І. Падлужны. – Мінск: Вышэйш. шк., 1984. – 269 с.

21. Дыялектны слоўнік Брэстчыны / склад.: М. М. Аляхновіч [і інш.]. – Мінск: Навука і тэхніка, 1989. – 294 с.

22. Dejna, K. Atlas polskich innowacji dialektalnych / K. Dejna. – Warszawa; Łódź: Państ. Wydaw. Nauk., 1981. – 60 s., 100 s.: m.

23. Friedrich, H. Studia nad nosowością w gwarach Mazowsza / H. Friedrich // Biblioteka prac filologicznych. – Warszawa: Fundusz Kultury Nar., 1937. – 248 s.

24. Kuraszkiewicz, W. Podstawowe wiadomości z gramatyki historycznej języka polskiego z wyborem tekstów staropolskich do ćwicień / W. Kuraszkiewicz. – Warszawa: Państ. Zakł. Wydaw. Szkolnych, 1970. – 228 s.

25. Koneczna, H. Charakterystyka fonetyczna języka polskiego na tle innych języków słowiańskich / H. Koneczna. – Warszawa: Państ. Wydaw. Nauk., 1965. – 208 s.

26. Urbańczyk, S. Zarys dialektologii polskiej / S. Urbańczyk. – Wyd. 2, zm. i rozsz. – Warszawa: Państ. Wydaw. Nauk., 1962. – 100 s.

27. Бузук, П. Спроба лінгвістычнай геаграфіі Беларусі / П. Бузук. / Ін-т бел. культуры. – Мінск, 1928. – Ч. 1: Фанетыка і марфалогія. Вып. 1: Гаворкі Цэнтральнай і Усходняй Беларусі і суседніх мясцовасцей Украіны і Вялікарасіі ў першай чвэрці XX ст. – 111 с.

28. Леванцэвіч, Л. В. Атлас гаворак Бярозаўскага раёна Брэсцкай вобласці. Фанетыка: вучэб. дапам.: у 2 ч. / Л. В. Леванцэвіч; Брэсц. дзярж. пед. ін-т. – Брэст, 1993. – Ч. 2: Карты 1–60. – 65 с.

29. Янкова, Т. С. Дыялектны слоўнік Лоеўшчыны / Т. С. Янкова. – Мінск: Навука і тэхніка, 1982. – 432 с.

30. Ананьева, Н. Е. История и диалектология польского языка: учеб. пособие для студентов вузов / Н. Е. Ананьева. – М.: Изд-во Моск. ун-та, 1994. – 301 с.

31. Zduńska, H. Opisy fonologiczne polskich punktów «Ogólnosłowiańskiego atlasu językowego» / H. Zduńska. – Wrocław [etc.]: Zakł. Nar. im. Ossolińskich, 1984. – Z. 3: Mazowsze. – 142 s.

32. Dejna, K. Dialekty polskie / K. Dejna. – Wrocław [etc.]: Zakł. Nar. im Ossolińskich, 1973. – 283 s., 70 s.: m.

33. Калнынь, Л. Э. Фонетическая программа слова как пространство фонетических изменений в славянских диалектах / Л. Э. Калнынь; Рос. акад. наук, Ин-т славяноведения. – М.: Ин-т славяноведения РАН, 2001. – 131 с.

34. Rospond, S. Gramatyka historyczna języka polskiego / S. Rospond; nauk. red. R. Łobodzińska. – Warszawa: Wydaw. Nauk. PWN, 2005. – 221 s.

35. Siatkowski, J. Kryteria ustalania wpływu języków bliskospokrewnionych / J. Siatkowski // Festschrift für Herbert Bräuer zum. 65. Geburtstag am 14. April 1986 / Hrsg.: R. Olesch, H. Rothe. – Köln, 1986. – S. 551–563.

## ДАДАТАК




Карта-схема 1. Рэгрэсіўная палаталізацыя гука [z]: źleść. Тут і на наступных картах-схемах пункцірнай лініяй паказана мяжа максімальнага распаўсюджання ўсходнеславянскіх гаворак (паводле «Atlas gwar wschodniosłowiańskich Białostocczyzny»)




Карта-схема 2. Кантынуант старажытнапольскага [ń] перад -s: pa[n]ski, ko[n]ski, świ[n]ski




Карта-схема 3. Страта губнога зычнага ў групе mń- ≤ -ḿ:ń- – агульны стан




Карта-схема 4. Кантынуант старажытнапольскага [ḿ] у канчатку творнага склону множнага ліку (ręk)-ami: ręka[ń]i




Карта-схема 5. Кантынуанты старажытнапольскага [ō]: nu͡ożka




Карта-схема 6. Кантынуанты старажытнапольскага [ę]: zy$^{i}$by

*В. В. Урбан*

# АЦЭНАЧНЫЯ СУБСТАНТЫВЫ З ФАРМАНТАМІ *-уй (-юй), -ук (-юк), -ун (-юн), -ух (-юх)* У БЕЛАРУСКАЙ ДЫЯЛЕКТНАЙ МОВЕ

Дыялектная мова – гэта жывая сістэма, якая мае шэраг асаблівасцей лексічнага, фанетычнага, граматычнага, словаўтваральнага планаў і якая існуе і развіваецца паралельна з літаратурнай мовай. На думку вядомага беларускага даследчыка А. А. Крывіцкага, «беларускія гаворкі выступаюць выразнай структурнай агульнасцю, адзінствам па некаторых сваіх важных асаблівасцях, адрозным ад падобных адзінстваў гаворак іншых моў, у тым ліку роднасных суседніх рускай і ўкраінскай, а таксама польскай і літоўскай. Разам з тым яны не раскіданыя па частках, а ўтвараюць суцэльны і акрэслены тэрытарыяльна масіў з больш-менш выразным, хоць і ў некаторых месцах адносна шырокім сумежжам з адпаведнымі міжмоўнымі гаворкамі» [1, с. 26]. Менавіта таму дыялектная лексіка – гэта вялікі пласт нацыянальнай мовы і культуры, які патрабуе дэталёвага даследавання і адлюстравання ў лінгвістычнай навуцы.

У лексіцы народных гаворак выразна вылучаецца вялікая тэматычная група ацэначных слоў-назваў асоб, што характарызуюць чалавека паводле знешняга выгляду, фізічнага і псіхічнага стану, паводзін, адносін да працы і іншых людзей. Таму, як адзначае К. М. Панюціч, «збіранне і даследаванне гэтага лексічнага пласта можа даць новыя факты для высвятлення ўзаемаадносін паміж народнымі гаворкамі і літаратурнай мовай, для вывучэння багатай і невычарпальнай сінанімічнай разнастайнасці народна-дыялектнай мовы, яе вялікіх словаўтваральных магчымасцей» [2, с. 58].

У нашым артыкуле апісаны разнастайныя дэрывацыйныя тыпы і падтыпы дыялектных ацэначных субстантываў, якія ўтвараюцца пры дапамозе фармантаў ***-уй* (*-юй*), *-ук* (*-юк*), *-ун* (*-юн*), *-ух* (*-юх*)**.

Ацэначныя назоўнікі, утвораныя пры дапамозе фармантаў ***-уй* (*-юй*)**, прадстаўлены ў беларускай дыялектнай мове двума тыпамі:

1. Адсубстантыўныя дэрываты называюць асоб мужчынскага полу па негатыўнай прыкмеце і маюць ацэначныя адценні грубасці, неадабрэння. У якасці матывавальных выступаюць асновы ацэначных назоўнікаў агульнага роду:

балда – *балдýй* ‘вялікі дурань’ (ЗНС),

мярло – *мярлýй* ‘дурнаваты чалавек’ (ВКС),

рабза – *рабзýй* ‘рабы чалавек, чалавек з воспінамі’ (СРЛГ, БДС).

Націск у адсубстантыўных дэрыватах, утвораных пры дапамозе фармантаў ***-уй* (*-юй*)**, прыпадае на суфікс.

2. Пеяратывы, матываваныя дзеясловамі, характарызуюць асоб паводле працэсуальнай прыкметы або паводле ўласцівага ім дзеяння. Субстантывы ў маўленні набываюць экспрэсію грубасці, асуджэння, іроніі. Суфікс ***-уй*** выступае пасля асновы на цвёрды зычны, ***-юй*** – пасля *л*. Пры дэрывацыі магчыма адсячэнне афіксаў *-ав-*, *-е-*, *-ы-*, *-а-* ўтваральных асноў дзеясловаў. Націск заўсёды на фарманце:

абалдзець – *абалдýй* ‘вялікі дурань, асталоп’ (ЖС, ЗНС),

гізаваць – *гізýй* ‘абібок’ (БНС),

махляваць – *махлю́й* ‘ілгун’ (ЖНС) і ‘дурнаваты’ (ЗНС),

міргаваць ‘махляваць, круціць’ – *міргýй* ‘жулік, круцель’ (МКТ),

папсаваць – *папсýй* ‘партач, няўмека’ (МКТ),

шаламшыцца ‘гаварыць попусту з дурнем’ – *шаламшýй* ‘някемлівая, няўмелая, нязграбная асоба’ (НВС ІІІ).

Некаторыя ацэначныя субстантывы, утвораныя пры дапамозе фармантаў ***-уй* (*-юй*)**, могуць суадносіцца з дзеясловамі цяперашняга часу (*махлюјэ – махлюй, папсујэ – папсуй*). На думку П. У. Сцяцко, «іх можна было б кваліфікаваць як нульсуфіксальныя ўтварэнні. Аднак рад

дэрыватаў на *-уй* не мае такой суадноснасці. Прымаючы пад увагу, што ўтваральнай звычайна выступае аснова інфінітыва, а не цяперашняга часу, заканамерна будзе для ўсіх слоў на *-уй* словаўтваральнай лічыць аснову інфінітыва (з выпадзеннем фіналі *-ава-*) і фармант *-уй*. Безумоўна, што суфікс *-уй* склаўся ў выніку ўзаемадзеяння словаўтваральнай асновы цяперашняга часу з асновай інфінітыва» [3, с. 67].

Характарыстычная лексіка з фармантамі ***-ук (-юк)*** прадстаўлена адпрыметнікавымі, аддзеяслоўнымі і адназоўнікавымі ўтварэннямі мужчынскага роду, якія маюць разнастайныя ацэначныя адценні:

1. Дэрываты з націскам на суфіксе, матываваныя прыметнікамі, абазначаюць асоб паводле маральных якасцей і выразных знешніх прыкмет. Пры дэрывацыі магчыма чаргаванне парных цвёрдых зычных утваральнай асновы з мяккімі:

брузлы – *брузлю́к* 'празмерна поўны' (СНЛ),

красны – *красню́к* 'здаровы чалавек з чырвоным тварам' (ТС),

рахманы – *рахманю́к* 'спакойны, рахманы чалавек' (НЛ),

тоўсты – *таўсцю́к* 'поўны, тоўсты мужчына' (ЗНС, НЛГФ).

Дэрываты ў залежнасці ад семантыкі маюць ацэначныя адценні асуджэння або спагадлівасці.

2. Аддзеяслоўныя назоўнікі характарызуюць асоб паводле стану або схільнасці да негатыўнага дзеяння. Утваральныя – асновы інфінітываў:

драмаць – *драмлю́к* 'той, хто ўвесь час дрэмле' (СПЗБ),

жэрці – *жэрлю́к* 'абжора' (НЛ),

знайсці – *знайду́к* 'падкідыш' (СПЗБ) і *знайдзю́к* 'пазашлюбнае дзіця' (СГВ),

капашыцца – *капшу́к* 'целяпень' (ЖС, ТС),

момрыць – *мамру́к* 'маўчун' (МКТ) і 'надзьмуты, незадаволены чалавек' (НВС II),

маніць – *ману́к* 'ілгун, манюка' (ДСБ) і *маню́к* 'ілгун' (СПЗБ),

маўчаць – *маўду́к* 'маўклівы чалавек' (СПЗБ),

прагнуць – *прагню́к* 'ненаедны' (ДС II),

смярдзець – *смярдзю́к* 'той, хто смярдзіць' (СПЗБ, КСУМ) і *смердзю́к* 'неахайны, бедны чалавек' (ТС),

хваліцца – *хвалю́к* 'хвалько' (ДСБ),

целяпацца – *цяльпу́к* 'чалавек, якога вельмі цяжка разварушыць, захапіць працай' (ЗНС) і *цельпу́к* 'таўстун' (ТС).

Націск на суфіксе. У маўленні дэрываты набываюць экспрэсію абразлівасці, зневажальнасці, грубасці, асуджэння.

3. Утваральнымі для суб'ектыўна-ацэначных назоўнікаў з націскам на ўтваральным фарманце выступаюць асабовыя назоўнікі са значэннем роднасці (мама – *мамлю́к* 'пястун', *л* – нарашчэнне; МКТ) або пеяратывы:

бэнсь – *бансю́к* 'байструк' (ЗНС),

блазен – *блазню́к* (КСУМ),

брыда – *брыдзю́к* (чаргаванне д//дз') (СЦР),

копша – *капшу́к* 'целяпень' (ЖС, ТС),

лоб – *лабу́к* 'нехлямяжы чалавек' (СПЗБ, СЦР).

Пеяратывы маюць адценні непахвальнасці, неадабрэння.

Пры дапамозе фармантаў ***-ун(-юн)*** у беларускай дыялектнай мове ўтвараюцца ацэначныя назоўнікі ад дзеясловаў, прыметнікаў, назоўнікаў і маюць адценні асуджэння, зневажальнасці, іроніі:

1. Аддзеяслоўныя ўтварэнні складаюць самую вялікую групу ацэначнай лексікі з фармантамі ***-ун(-юн)***. У якасці матывавальных слоў выступаюць дзеясловы незакончанага трывання з асновай на галосны, у тым ліку і ў складзе суфікса, і -ава-. Пры дэрывацыі магчыма марфаналагічна абумоўленае чаргаванне:

- передсуфіксальных парных мяккіх зычных з цвёрдымі:

бузіць – *бузу́н* ‘забіяка’ (ДСБ),
вярцецца – *вярту́н* ‘непаседа; вяртлявы чалавек’ (СЦР, НЛГФ, КСУМ),
глядзець – *гляду́н* ‘падглядач, злодзей’ (СЦР),
зводзіць – *звaду́н* ‘зводнік’ (ВКС),
сіпець – *сіпу́н* ‘хваравіты, які часта кашляе, цяжка дыхае’ (ЗНС),
малаціць – *молоту́н* ‘брахун, балбатун’ (ТС),
пасядзець – *пасяду́н* ‘асоба, якая любіць хадзіць па дварах і заседжвацца там’ (ЗНС),
пахадзіць – *пахаду́н* ‘чалавек, які ходзіць без справы, мэты’ (ЗНС),
песціць – *пясту́н* ‘пястун’ (ВКС, СПЗБ) і *пе́стун* ‘тс’ (СПЗБ),
піць – *піту́н* ‘піток’ (ЖС),
фарсіць – *фарсу́н* ‘той, хто любіць фарсіць’ (ЗНС, СПЗБ);
• чаргаванне шыпячых з заднеязычнымі:
бурчэць – *бурку́н* ‘заўсёды незадаволены, злы, бурклівы’ (ЗНС, ЖС, МДСГ),
крычаць – *крыку́н* ‘крыклівая асоба’ (МДСГ, СЦР, НЛ);
• чаргаванне с’//т:
плесці – *пляту́н* ‘чалавек, які плявузгае абы-што; пляткар’ (НС-Т, МАСМ);
• чаргаванне с’//д:
есці – *яду́н* ‘аматар добра паесці’ (ЗНС, ДСЗ);
• чаргаванне шч// ск:
пішчаць – *піску́н* (ЗНС);
• чаргаванне ў//в:
раўці – *рэву́н* ‘крыкун’ (ТС);
• чаргаванне ц//т:
біцца – *біту́н* ‘драчун’ (ВКС).
У некаторых ацэначных субстантывах можа адбывацца нарашчэнне ўтваральнай асновы:
брахаць – *брахту́н* ‘хлус’ (БДС, ДСЛ) і *брэхту́н* ‘тс’ (ТС),
дзерціся – *дзярбу́н* ‘той, хто драпаецца’ (ЖНС),
маніць – *манту́н* ‘ілгун’ (НЛ),
капацца – *капку́н* ‘капун, маруда’ (СЦР),
хлябаць – *хлябту́н* ‘пустамеля’ (ВКС).
Ацэначныя дэрываты, матываваныя дзеясловамі, абазначаюць асоб:
* паводле іх дзеяння або схільнасці да адпаведнага дзеяння, працэсуальнай прыкметы:
балбатаць – *балбату́н* ‘хто залішне многа гаворыць’ (СПЗБ, ЗНС, ТС),
балматаць – *балмату́н* ‘гаварун; пустазвон’ (МДСГ, СНЛ, КСУМ),
балтаць – *балту́н* ‘балбатлівая асоба’ (ЗНС),
барматаць – *бармату́н* ‘варчун’ (ВКС),
боўтаць – *боўту́н* ‘балбатун’ (БДС),
брахаць – *браху́н* ‘вялікі балбатун; ілгун’ (ЗНС, СПЗБ, СЦР, ВКС, КСУМ) і *брэху́н* ‘тс’ (ТС),
выркатаць – *выркату́н* ‘барматун, чалавек, што вечна бармоча’ (КСУМ),
вядзгаць – *вядзгу́н* ‘чалавек, які гаворыць недарэчна, не да месца’ (ЗНС),
гаварыць – *гавару́н* ‘асоба, якая любіць пагаварыць’ (ЗНС, НЛ) і *говору́н* ‘тс’ (НЛ, ТС),
гагатаць – *гагату́н* ‘рагатун’ (СГВ),
дзяржаць – *дзяржу́н* ‘гадавалае дзіця, якое прывыкла ўвесь час быць на руках’ (СРЛГ),
джыгаць – *джыгу́н* ‘вяртлявы чалавек’ (ВКС) і *джыгу́н* ‘праныра’ (НВС),
жартаваць – *жарту́н* ‘жартаўнік’ (СРЛГ, ТС, ДС II),

жыгаць – *жыгу́н* ‘балаўнік, распуснік’ (НВС) і ‘няўрымслівы чалавек, вечна неспакойны, нават без прычыны’ (СЦР),

жэрці – *жэру́н* ‘абжора’ (ТС),

звягаць – *звягу́н* ‘той, хто надакучае сваімі просьбамі, патрабаваннямі; звяглівая, крыклівая асоба’ (СПЗБ, НВС),

ірзаць ‘балавацца, груба сваволіць’ – *ірзу́н* ‘гарэза, свавольнік’ (НВС),

капацца – *капу́н* ‘вельмі марудлівы чалавек’ (ЗНС),

лапатаць – *лапату́н* ‘чалавек, які лапоча без перастанку’ (ЗНС, НЛ),

лапаць – *лапу́н* ‘той, хто хапае, лапае’ (СНЛ) і ‘нягоднік, валацуга’ (ТС),

ласкатаць – *ласкату́н* ‘балбатун’ (НВС),

лётаць – *лату́н* ‘непаседлівы чалавек’ (МДСГ) і *ляту́н* ‘чалавек, які вельмі шпарка ходзіць, бегае’ (ЗНС),

лепятаць – *лепяту́н* ‘балбатун’ (ДСБ),

лізаць – *лізу́н* ‘чалавек, які вельмі мала есць, толькі смокча’ (ЗНС) і ‘ласун’ (КСУМ, МКТ, СПЗБ),

лыгаць ‘ілгаць’ – *лыгу́н* ‘ілгун’ (СПЗБ),

мазацца ‘капрызнічаць’ – *мазу́н* ‘капрызун, пястун’ (ТС, ДСБ, ЗНС),

маркатаць – *маркату́н* ‘мармытун, хто невыразна гаворыць’ (НВС ІІ),

марматаць – *мармату́н* ‘мармытун’ (СПЗБ),

мармытаць – *мармыту́н* ‘той, хто гугнявіць; хто сам з сабой гаворыць’ (СПЗБ),

маўчаць – *маўчу́н* ‘маўклівы чалавек’ (МДСГ) і *моўчу́н* ‘тс’ (ТС),

муціць – *мутю́н* ‘ілгун’ (ДСБ),

пісаць – *пісу́н* ‘пісака’ (КСУМ),

плакаць – *плаку́н* ‘плакса’ (НВС ІІ),

рагатаць – *рігату́н* ‘рагатун’ (КСУМ),

сапці – *сапу́н* ‘сапун’ (КСУМ),

смакаваць – *смаку́н* ‘ласун’ (СГВ),

смактаць – *смакту́н* ‘чалавек, які вельмі мала есць, толькі смокча’ (ЗНС) і ‘п’яніца’ (ЖС), *смокту́н* ‘смактун’ (ТС),

смяяцца – *смяю́н* ‘рагатун, смяшлівы чалавек’ (НЛГФ),

сердаваць – *сярду́н* ‘той, хто сярдуе, злуецца’ (НВС ІІІ),

таптацца – *тапту́н* ‘той, хто топчацца на месцы ў працы, марудзіць’ (ЗНС),

трэпетаць – *трэпесту́н* ‘трапло’ (ТС),

хадзіць – *хаду́н* ‘чалавек, які ходзіць без справы, мэты’ (ЗНС), ‘хадок’ (ДСЗ), ‘чалавек, які хутка ходзіць’ (ДС ІІ),

хваліцца – *хвалю́н* ‘хвалько’ (БДС),

хапаць – *хапу́н* ‘хабарнік, хапуга’ (КСУМ, ТС),

хахатаць – *хахату́н* ‘аматар пасмяяцца’ (НВС ІІІ),

хварсіць – *хварсу́н* ‘франт, фарсун’ (НВС ІІІ, ДС І) і *хворсу́н* ‘тс’ (ТС),

хвастаць – *хвасту́н* ‘хвалько, выхваляка’ (НВС ІІІ, СПЗБ, ДСЛ, СГВ),

хлехатаць – *хлехату́н* ‘аматар пасмяяцца’ (ВКС),

хлехацець ‘моцна злавацца’ – *хлехату́н* ‘той, хто вельмі злуе, гневаецца’ (НВС ІІІ),

цмыгнуць – *цмыгу́н* ‘той, хто старанна шукае там, дзе не трэба’ (НВС ІІІ),

шалаціць ‘гаварыць абы-што’ – *шолоту́н* ‘чалавек, які гаворыць многа і абы-што’ (ДСБ),

шчабятаць – *шчэбету́н* ‘гаварун’ (ТС),

шапялявіць – *шэпелю́н* ‘той, хто шапялявіць’ (ТС),

якатаць – *якату́н* ‘той, хто моцна стогне, крычыць’ (ВКС),

ёрзаць – *ярзу́н* ‘той, хто ёрзае, круціцца, не сядзіць на месцы’ (СПЗБ) і інш.;

* характарызуюць асоб паводле стану, здароўя:

боўтацца – *баўту́н* ‘чалавек, у якога галава хістаецца з боку на бок’ (КСУМ),

гамзаць ‘гугнівіць, гаварыць у нос’ – *гамзу́н* ‘гугнівы чалавек’ (ВКС, НС, МКТ),

дыбаць – *дыбу́н* ‘кульгавы чалавек або дзіця, якое пачынае хадзіць’ (НВС),

карачоваць ‘ісці ў развалку’ – *карачу́н* ‘крываногі чалавек’ (ТС) і ‘празмерна пакрыўлены, з крывымі нагамі’ (НЛ),

кашляць – *кашлю́н* ‘той, хто часта кашляе, прастуджваецца’ (ЗНС, НЛ, СПЗБ),

клэпаць – *клапу́н* ‘той, хто шлэпае нагамі’ (ТС),

клыгаць ‘кульгаць’ – *клыгу́н* ‘той, хто кульгавы, крываногі’ (СПЗБ),

перхаць – *пярху́н* ‘той, хто часта кашляе, прастуджаецца’ (ЗНС),

поўзаць – *паўзу́н* ‘дзіця, якое не ходзіць’ (МДСГ),

сіпець – *сіпу́н* ‘хваравіты, які часта кашляе, цяжка дыхае’ (ЗНС),

сядзець – *сяду́н* ‘дзіця, якое доўга не ходзіць’ (СПЗБ, МДСГ, СГВ) і *седу́н* ‘тс’ (ТС),

топаць – *тапу́н* ‘дзіця-хлапчук, які нядаўна навучыўся хадзіць’ (НВС ІІІ),

хварэць – *хвару́н* ‘той, хто часта хварэе’ (ЗНС).

Націск ва ўсіх прадстаўленых ацэначных адзінках – на ўтваральным суфіксе, выключэнне – *пе́стун*. У маўленні дэрываты набываюць адценні зневажальнасці, асуджэння, неадабрэння, непахвальнасці. Адценні спагадлівасці, спачувальнасці маюць толькі некаторыя ацэначныя субстантывы, якія характарызуюць асоб паводле стану, здароўя.

2. Адпрыметнікавыя назоўнікі абазначаюць асоб па характэрных для іх прыкметах, названых утваральным словам. Афіксы -ат-, -к-, -лів- вытворных матывавальных асноў адсякаюцца; магчыма чаргаванне канцавога зычнага асновы (кароткі – *карачу́н* ‘нізкарослы чалавек’ (НС, СГВ), крэпкі – *крапчу́н* ‘фізічна моцны чалавек’ (СНЛ), ціхі – *ціху́н* ‘ціхоня’ (СПЗБ) і інш.). Націск у матываваных словах толькі на ўтваральным фарманце:

бальшы – *бальшу́н* ‘вялікі, дарослы; хлапец, які трымае сябе або робіць што-небудзь недапушчальнае для свайго ўзросту’ (КСУМ, МКТ, МДСГ, ТС, СЦР),

вясёлы – *весялу́н* ‘вясёлы чалавек, жартаўнік’ (МДСГ) і *веселу́н* ‘тс’ (ТС),

гладкі – *гладу́н* ‘сыты, поўны чалавек’ (НС, НС-Т, ТС, ДС ІІІ),

далікатны – *даляктун* ‘вельмі выпеставаная асоба, з якой трэба абыходзіцца далікатна’ (ЗНС),

дзікі – *дзіку́н* ‘дзікун’ (КСУМ),

здаровы – *здараву́н* ‘здаравяка’ (НВС),

ласы – *ласу́н* ‘ласы на ежу; той, хто вельмі любіць прысмакі’ (ЗНС, СПЗБ, ТС) і ‘чалавек, які любіць часта хадзіць у госці’ (ММГ),

ліслівы – *лісу́н* ‘ліслівец, падлізнік’ (ТС),

лысы – *лысу́н* ‘лысы чалавек’ (СПЗБ),

ніцы – *ніцу́н* ‘пануры чалавек’ (КСУМ),

рэзкі – *разу́н* ‘востры на язык, сварлівы, гарачы чалавек’ (НВС ІІІ),

сівы – *сіву́н* ‘стары халасцяк’ (МКТ, ТС),

слабы – *слабу́н* ‘слабы чалавек’ (МАСМ),

сляпы – *сляпу́н* ‘хто няўважлівы’ (КСУМ),

тоўсты – *таўсту́н* ‘тоўсты чалавек’ (ЗНС) і *тоўсту́н* ‘тс’ (ТС),

трапятлівы – *трапяту́н* ‘рухавы, утрапёны’ (ЗНС), ‘вельмі рухавы, вёрткі чалавек, здольны выкручвацца з непрыемнага становішча’ (НВС ІІІ), ‘чалавек, які знешне стараецца, а па сутнасці абыякава адносіцца да сваёй справы’ (СГВ),

харошы – *хорашу́н* ‘прыгажун’ (НС-Т) і *хорошу́н* ‘тс’ (ТС),

хітры – *хітру́н* ‘хітры чалавек’ (ЗНС).

3. Адсубстантыўныя ацэначныя дэрываты з націскам на ўтваральным фарманце маюць адценні непахвальнасці, неадабрэння і складаюць два падтыпы:

а) назоўнікі, якія маюць значэнне ‘асоба мужчынскага полу’, утвараюцца ад ацэначных назоўнікаў жаночага, мужчынскага і агульнага роду:

біза – *бізу́н* ‘чалавек, у якога нічога няма, вельмі бедны’ (МСД, ДСЗ),

бі́ржа – *біржу́н* ‘высокі чалавек’ (КСУМ),

глузд – *глузду́н* ‘чалавек, які недачувае’ (СРЛГ),

кіжла – *кіжлу́н* ‘той, хто марудна і няўмела што-небудзь робіць’ (НС),

крыкса – *крыксу́н* ‘аматар пакрычаць, гучна пагаварыць, крыкун’ (ЗНС, МКТ, МАСМ, ДСЗ, СЦР),

плакса – *плаксýн* ‘плакса’ (СПЗБ),
пукта – *пуктýн* ‘заўсёды незадаволены, злы, буркліві’ (ЗНС),
хлабастá – *хлабастýн* ‘рухавы, утрапёны’ (ЗНС),
шавярда – *шавярдýн* ‘шапялявы чалавек’ (НС-Т);

б) дэрываты, утвораныя ад неасабовых назоўнікаў, абазначаюць асоб паводле таго, што названа матывавальным словам:
вірлы – *вірлýн* ‘вірлавокі чалавек’ (НС),
горб – *гарбýн* ‘чалавек з гарбом’ (ЗНС, КСУМ),
кіла – *кілýн* ‘чалавек з грыжай’ (МАСМ),
кішкі – *кішкýн* ‘прагны, ненаедны чалавек’ (ЖС, СРЛГ),
раскарака – *роскаракýн* ‘раскарака, у каго ногі кляшчамі’ (ТС),
смех – *смяхýн* ‘жартаўнік; чалавек, што любіць смяяцца і пасмяшыць’ (КСУМ, МДСГ),
стоўб – *стаўбýн* ‘пра высокага чалавека’ (НС-Т).

Дэрываты з ацэначнымі адценнямі абразлівасці, зневажальнасці, пагардлівасці, утвораныя пры дапамозе фармантаў ***-ух (-юх)***, складаюць тры тыпы:

1. Назоўнікі з рухомым, свабодным націскам, матываваныя дзеясловамі. Маюць значэнне ‘асоба–суб’ект дзеяння’ або ‘асоба–носьбіт працэсуальнай прыкметы’, суправаджаюцца адценнямі грубасці, зневажальнасці, абразлівасці. Пры дэрывацыі адбываюцца марфаналагічна абумоўленыя чаргаванні зычных асновы л’//л, дз’//д, п//пл’ і інш.:
абалдзець – *абэ́лдух* ‘дурань’ (МДСГ),
аплываць – *аплэ́вух* ‘непаваротлівы, неахайны чалавек’ (ММГ) і ‘някемлівы, няспрытны чалавек’ (СЦР),
валяцца – *вáлух* ‘нерухавы чалавек’ (ЖНС) і *вáлюх* ‘тс’ і ‘гультаяватая асоба’ (НЛ),
мантычыць ‘марнатравіць’ – *мéнтух* ‘гультай’ (ДСЛ),
пленціць ‘гаварыць абы-што’ – *плéнтух* ‘балбатун’ (ЖС),
плесці – *плыцю́х* ‘балбатун’ (ДСБ),
смярдзець – *смярдзю́х* ‘смярдзючы, у брудным адзенні чалавек’ (ЖНС),
спаць – *сплю́х* ‘той, хто любіць спаць’ (СПЗБ),
целяпацца – *цяльпýх* ‘цюхцяй, цяльпук’ (НЛГФ),
шкодзіць – *шкодю́х* ‘шкадлівец’ (ЖНС).

2. Дэрываты, якія называюць асоб па выразнай прыкмеце, утвараюцца ад якасных прыметнікаў і маюць ацэначныя адценні неадабрэння, пагардлівасці:
п’яны – *п’яню́х* ‘п’яніца’ (НЛ),
тоўсты – *таўсцю́х* ‘таўстун’ (БНС),
чорны – *чарню́х* ‘чорнавалосы’ (БНС),
чысты – *чысцю́х* ‘чысцёха’ (ДСЗ).

Пры дэрывацыі парныя цвёрдыя зычныя асновы чаргуюцца з мяккімі. Націск заўсёды на ўтваральным фарманце.

3. Адназоўнікавыя субстантывы з адценнямі зневажальнасці, неадабрэння называюць асоб па прыкмеце, што абазначае ўтваральнае слова. Матывавальнымі выступаюць:

• асновы ацэначных дэрыватаў:
лонтра – *лáнтрух* ‘вялікі гультай’ (ЗНС) і ‘аматар паспаць’ (НЛ),
цянця – *цянцю́х* ‘тоўсты, непаваротлівы чалавек’ (КСУМ);

• асновы неадушаўлёных назоўнікаў:
лапці – *лапцю́х* ‘лапатнік; апушчаны, занядбаны чалавек’ (СПЗБ).

Націск на суфіксе, зрэдку на корані (*лáнтрух*).

Такім чынам, фарманты ***-уй (-юй), -ук (-юк), -ун (-юн), -ух (-юх)*** у дыялектнай мове маюць шырокія канструкцыйныя магчымасці: яны спалучаюцца з разнастайнымі тыпамі ўтваральных асноў і набываюць шырокае кола дэрывацыйных значэнняў.

### Літаратура

1. Крывіцкі, А. А. Дыялекталогія беларускай мовы: дапам. / А. А. Крывіцкі. – Мінск: Вышэйш. шк., 2003. – 294 с.

2. Панюціч, К. М. Лексіка народных гаворак / К. М. Панюціч. – Мінск: Вышэйш. шк., 1976. – 127 с.

3. Сцяцко, П. У. Беларускае народнае словаўтварэнне: афіксальныя назоўнікі / П. У. Сцяцко. – Мінск: Навука і тэхніка, 1977. – 320 с.

### Умоўныя скарачэнні

БДС – Шаталава, Л. Ф. Беларускае дыялектнае слова / Л. Ф. Шаталава; пад рэд. Г. У. Арашонкавай. – Мінск: Навука і тэхніка, 1975. – 208 с.

БНС – Сцяцко, П. У. Беларускае народнае словаўтварэнне: Афіксальныя назоўнікі / П. У. Сцяцко. – Мінск: Навука і тэхніка, 1977. – 320 с.

ВКС – Касьпяровіч, М. І. Віцебскі краёвы слоўнік (матар'ялы) / М. І. Касьпяровіч; пад рэд. М. Я. Байкова, Б. І. Эпімаха-Шыпілы. – Віцебск: Выд. Віцебскага акруговага таварыства краязнаўства і выдавецтва «Заря запада», 1927. – 368 с.

ДС I – Янкоўскі, Ф. М. Дыялектны слоўнік / Ф. М. Янкоўскі. – Мінск: Выд-ва Акад. навук БССР, 1958. – 230 с.

ДС II – Янкоўскі, Ф. М. Дыялектны слоўнік II / Ф. М. Янкоўскі. – Мінск: Выд-ва Акад. навук БССР, 1960. – 235 с.

ДС III – Янкоўскі, Ф. М. Дыялектны слоўнік III / Ф. М. Янкоўскі. – Мінск: Навука і тэхніка, 1970. – 172 с.

ДСБ – Дыялектны слоўнік Брэстчыны / склад. М. М. Аляхновіч [і інш.]. – Мінск: Навука і тэхніка, 1989. – 294 с.

ДСЗ – Сцяцко, П. Дыялектны слоўнік: з гаворак Зэльвеншчыны / П. Сцяцко. – Мінск: Выд-ва БДУ імя У. І. Леніна, 1970 – 184 с.

ДСЛ – Янкова, Т. С. Дыялектны слоўнік Лоеўшчыны / Т. С. Янкова. – Мінск: Навука і тэхніка, 1982. – 432 с.

ЖНС – Жывое народнае слова: дыялекталагічны зб. – Мінск: Навука і тэхніка, 1992. – 271 с.

ЖС – Жывое слова / рэд. Ю. Ф. Мацкевіч, І. Я. Яшкін. – Мінск: Навука і тэхніка, 1978. – 288 с.

ЗНС – З народнага слоўніка / рэд. А. А. Крывіцкі, Ю. Ф. Мацкевіч. – Мінск: Навука і тэхніка, 1975. – 352 с.

КСУМ – Бялькевіч, І. К. Краёвы слоўнік усходняй Магілёўшчыны / І. К. Бялькевіч. – Мінск: Навука і тэхніка, 1970. – 512 с.

МАСМ – Матэрыялы да абласнога слоўніка Магілёўшчыны. – Мінск: Навука і тэхніка, 1981. – 128 с.

МКТ – Яўсееў, Р. М. Маці казала так... З гаворкі Бялыніцкага раёна / Р. М. Яўсееў. – Мінск: Навука і тэхніка, 1978. – 112 с.

ММГ – Матэрыялы для слоўніка мінска-маладзечанскіх гаворак: у 3 вып. – Мінск: Выд-ва БДУ, 1970–1977. Вып. 1–3.

МСД – Матэрыялы для слоўніка народна-дыялектнай мовы / пад рэд. Ф. Янкоўскага. – Мінск: Выд-ва БДУ імя У. І. Леніна, 1960. – 199 с.

НВС – Юрчанка, Г. Ф. Народнае вытворнае слова: з гаворкі Мсціслаўшчыны. А – Л / Г. Ф. Юрчанка. – Мінск: Навука і тэхніка, 1981. – 280 с.

НВС II – Юрчанка, Г. Ф. Народнае вытворнае слова: з гаворкі Мсціслаўшчыны. М – Р / Г. Ф. Юрчанка. – Мінск: Навука і тэхніка, 1983. – 304 с.

НВС III – Юрчанка, Г. Ф. Народнае вытворнае слова: з гаворкі Мсціслаўшчыны. Р – Я / Г. Ф. Юрчанка. – Мінск: Навука і тэхніка, 1985. – 366 с.

НЛ – Народная лексіка / рэд. А. А. Крывіцкі, Ю. Ф. Мацкевіч. – Мінск: Навука і тэхніка, 1977. – 288 с.

НЛГФ – Анічэнка, У. В. Народная лексіка Гомельшчыны ў фальклоры і мастацкай літаратуры: слоўнік / У. В. Анічэнка, В. А. Горленка, Л. І. Злобін, Д. А. Лявончанка; пад рэд. У. В. Анічэнкі. – Мінск: Выд-ва БДУ, 1983. – 174 с.

НС – Народнае слова / пад рэд. А. Я. Баханькова. – Мінск: Навука і тэхніка, 1976. – 355 с.

НС-Т – Народная словатворчасць / рэд. А. А. Крывіцкі, І. Я. Яшкін. – Мінск: Навука і тэхніка, 1979. – 336 с.

СГВ – Сцяшковіч, Т. Ф. Слоўнік Гродзенскай вобласці / Т. Ф. Сцяшковіч. – Мінск: Навука і тэхніка, 1983. – 671 с.

СНЛ – Юрчанка Г. Ф. Сучасная народная лексіка: з гаворкі Мсціслаўшчыны: слоўнік. А – Н / Г. Ф. Юрчанка. – Мінск: Навука і тэхніка, 1993. – 304 с.

СПЗБ – Слоўнік беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча: у 5 т. / АН БССР, Ін-т мовазнаўства імя Я. Коласа; рэд. Ю. Ф. Мацкевіч. – Мінск: Навука і тэхніка, 1979 – 1986. Т. 1–5.

СРЛГ – Слоўнік рэгіянальнай лексікі Гродзеншчыны / пад рэд. М. А. Даніловіча, П. У. Сцяцко. – Гродна: ГрДУ, 1999. – 152 с.

СЦР – Слоўнік гаворак цэнтральных раёнаў Беларусі: у 2 т. / пад рэд. Е. С. Мяцельскай. – Мінск: Універсітэцкае, 1990. – Т. 1. – 287 с.

ТС – Тураўскі слоўнік: у 5 т. / склад. А. А. Крывіцкі [і інш.]. – Мінск: Навука і тэхніка, 1982–1987. Т. 1–5.

*С. І. Фацеева*

## НАЦЫЯНАЛЬНЫЯ ЭТАЛОНЫ Ў БЕЛАРУСКІХ НАРОДНЫХ ПАРАЎНАННЯХ

Чалавек як носьбіт пэўнай нацыянальнай ментальнасці, мовы, маралі прымае ўдзел у сумеснай дзейнасці з іншымі прадстаўнікамі нацынальнай супольнасці і ўсведамляе сябе актыўным прадстаўніком этнасу. У сваю чаргу грамадства, у якім жыве і дзейнічае чалавек, стварае нормы, правілы, якія абавязкова ўплываюць на фарміраванне асноўных рыс і станаўленне асобы. Нацыянальнае светабачанне і светаўспрыманне адлюстроўваюць эталоны. Эталон – гэта сутнасць, якая вымярае ўласцівасці і якасці прадметаў, з'яў, аб'ектаў. Эталоны з'яўляюцца вынікам прыватнага, нацыянальна-тыповага сувымярэння з'яў і ўзорам для вымярэння, стандартам [3, с. 44]. Гісторыя, культура, традыцыі народа і аб'ектыўная рэчаіснасць прапануюць значную колькасць прадметаў і з'яў, якія могуць служыць эталонамі пэўных якасцей у свядомасці носьбітаў мовы. Часцей за ўсё эталоны існуюць у мове ў выглядзе ўстойлівых параўнанняў (*злы як сабака, хітры як ліса, моцны як дуб* і г. д.). Асаблівы статус устойлівага параўнання абумоўлены характарам структурнай і семантычнай злітнасці яго кампанентаў. Словы, якія ўваходзяць у склад параўнальнага выразу, маюць пэўную агульную тоеснасць, канкрэтныя семы, пры дапамозе якіх і ўсталёўваюцца асацыятыўныя сувязі паміж кампанентамі параўнання (суб'ектам і аб'ектам). Межы паміж устойлівымі, свабоднымі і індывідуальна-аўтарскімі параўнаннямі, на думку навукоўцаў, вельмі невыразныя. Даследчыца Л. А. Лебедзева адзначае, што ўстойлівыя параўнанні ўяўляюць сабой такую фігуру маўлення, якой карыстаюцца ўсе, хто гаворыць на дадзенай мове, і якая звычайна стала вынікам шматвяковага ўжывання [1, с. 4–5]. Параўнанне прызнаецца даследчыкамі найбольш простым і больш эксплiцытна выражаным сродкам апісання вобразу, чым метафара, найбольш старажытным працэсам адлюстравання ў свядомасці чалавека аб'ектыўных адносін падабенства (тоеснасці) паміж пэўнымі прадметамі, з'явамі або падзеямі. [5, с. 167]. Задача дадзенага артыкула – вызначыць асноўныя кірункі, у якіх найбольш ярка выяўляецца нацыянальная спецыфіка беларускіх народных параўнанняў. Матэрыялам даследавання з'яўляюцца ўстойлівыя і свабодныя параўнанні, зафіксаваныя ў слоўніку Ф. М. Янкоўскага [7], а таксама сабраныя выкладчыкамі і студэнтамі БДПУ імя Максіма Танка падчас дыялекталагічнай практыкі [4].

Аналіз фактычнага матэрыялу паказвае, што прыкладна 90% устойлівых выразаў у якасці аб'екта параўнання маюць канцэпт «чалавек»: яго знешнасць, фізічны стан і дзеянні, псіхалагічная характарыстыка і г. д. Напрыклад, даследчыца Л. А. Лебедзева ў рускай мове для характарыстыкі чалавека выдзеліла 16 ідэаграфічных палёў: знешнасць, фізічныя якасці, фізіялагічны стан, фізічныя дзеянні, рысы характару, маральныя якасці, здольнасці, паводзіны, адносіны паміж людзьмі, пачуцці, разумовыя здольнасці, маўленчая дзейнасць і інш. [2]

Сабраны і прааналізаваны намі матэрыял сведчыць, што часцей за ўсё ў якасці эталонаў параўнання выкарыстоўваюцца вобразы жывёльнага свету. Некаторыя заонімы, што выступаюць у ролі эталона ў беларускіх народных параўнаннях, могуць ужывацца ў трох і больш параўнальных зваротах, прычым з рознымі падставамі для параўнання. Такія словы ў навуковай літаратуры даследчыкі называюць поліэталонамі [6, с. 62]. У беларускіх народных параўнаннях поліэталонамі можна лічыць заонімы ***бусел*** (*цыбаты як бусел, нос як у бусла*), ***заяц*** (*палахлівы як заяц, вушы як у зайца, хуткі як заяц*), ***сабака*** (*злы як сабака, аблезлы як сабака, нюх як у сабакі*),

***мядзведзь*** (*дужы як мядзведзь, лахматы як мядзведзь, непаваротлівы як мядзведзь*). З ліку разглядаемых эталонаў трэба асобна вылучыць заонімы, якія ўжываюцца ў блізкіх па значэнні, г. зн. сінанімічных параўнаннях. Пра чалавека моцнага і дужага гаворацъ: *здаровы як вол, здаровы як тур, дужы як мядзведзь*. У такіх параўнаннях моц жывёлы становіцца эталонам сілы і моцы чалавека. У беларускіх народных гаворках гаротнае, цяжкае жыццё адлюстравана ў наступных параўнаннях: *як старой авечцы, як сарока на калу, як муха ў кішэні, як чарвяку на вяку, як кручаны сабака*: *Адна я, даўно адна, жывецца як старой авеццы, і вады прынесці няма каму* (Восава Капыл.); *Замуж у Рэдкавіч прышла, думала, што спраўно жыцьмем, ото ж нагаравалася, нажыла як сарока на калу* (Рэдкавічы Люб.); *Ой, як ён там жыве! Як муха ў кішэні* (Морач Клецк.); *Мне жылося як тому чарвяку на вяку* (Сінягова Капыл.); *Нагараваласа за свой век як кручаны сабака* (Рэдкавічы Люб.). У большасці народных параўнанняў заонімы становяцца эталонамі або дээталонамі фізічных характарыстык, дзеянняў, знешняга выгляду чалавека або яго паводзін: *глухая як цяцера, як лесніковы сабака, як воўк у каноплях, як уюн на скавaрадзе, языкаты як сабака, стараццa як мядзведзь у мёдзе, гарлачыць як сарока*: *Маня, ты глухая як цяцера, ніколі цябе не дазваццa* (Гарадзея Нясв.); *Пастрыжы Паўліка, бо аброс ужо як лесніковы сабака* (Каралёва Уздз.); *Чаго ты развылася як воўк у каноплях?* (Байлюкі Гл.); *Ну, у мяне і суседка языкатая як сабака* (Кляпчаны Слуцк.); *Наш аграном стараецца як мядзведзь у мёдзе* (Восава Капыл.); *Мірончыха ўсю жызню гарлачыць як сарока* (Ячава Слуцк.). Разам з тым, нягледзячы на шматлікія супадзенні асацыятыўных характарыстык заонімаў у беларускай мове, можна прывесці прыклады значнага разыходжання ў тым наборы якасцей, якія з'яўляюцца эталонамі. Некаторыя заонімы, арыентаваныя на адну і тую ж жывёлу, могуць уяўляць яе эталонам розных якасцей. Напрыклад, параўнаем: *няўклюдны як мядзведзь* ('фізічнае дзеянне'), *лахматы як мядзведзь* ('знешнасць'), *дужы як мядзведзь* ('фізічная якасць').

У беларускай мове часта ў якасці эталона параўнання выступаюць найменні расліннага свету: *сінія вочкі як васілёчкі, вочкі як пралескі, чырвоны як бурак, губкі як малінкі, дзеўка як кветка, дзяўчына як тапoля* [7]. У аснову параўнання пакладзены асаблівасці знешняга выгляду чалавека.

Аналіз фактычнага матэрыялу, звязанага з канцэптам «чалавек», паказаў, што асаблівасці светаўспрымання і светаразумення носьбітаў мовы асабліва ярка праяўляюцца ў вобразных параўнаннях. У іх у якасці эталонаў параўнання могуць выступаць розныя спецыфічныя з'явы побыту, этнакультуры (посуд, начынне, прылады працы і інш.). Дадзеныя рэаліі часцей за ўсё з'яўляюцца эталонамі параўнання пры апісанні знешнасці чалавека. Пра нязграбнага чалавека гавораць *як віламі скіданы*: *Хадзілі аднаго разу ў царкву на вянчане глядзець, дык малады як віламі скіданы, нейкі нязграбны натта* (Восава Капыл.). У аснову параўнання могуць быць пакладзены якасныя прыкметы эталона: форма (*тоўсты як вулей, броўкі як сярпочкі, круглы як бервяно, рукі як граблі*), колер (*чырвоны як самавар, бледны як палатно*), памер (*худы як палка*). У народных параўнаннях тыпу *бы польска вэрста, як цыбала, як палка, што польскі ровэр* на аснове асацыятыўных сувязей выражаецца агульнае значэнне 'чалавек вельмі худы, высокі': *Вырос сын бы польска вэрста, але розуму нэма* (Зарэчча Бяроз.); *Вырас як цыбала, дык ніколі табе нічога не дабярэш* (Лясное Капыл.); *От, які ён зрабіўся худы, як палка* (Турок Люб.); *Во сусетка зяця займела: доўгі, худы, што польскі ровэр* (Морач Клецк.). У якасці асновы параўнання выступаюць экзістэнцыяльныя прыкметы прадметаў побыту, напрыклад, асаблівасці іх выкарыстання, прызначэнне: *Што ты круцішся* ***як калаўрот****? Сядзь аддыхні* (Варонічы Віл.); *Я на танцах* ***як сякера на возе*** *была, цяжка мяне ўвярнуць было* (Каты Смарг.); *Усё жыцё сваё пражыла* ***як у ступе пратаўкласа*** *і нічога не дабіласа, вось цяпер гарую* (Гольчыцы Слуцк.); *У мэне е сусідка, у ее* ***язык бы помыло*** (Людвінава Драг.). Падставай для параўнання могуць выступаць экзістэнцыяльныя прыкметы значымых частак хаты, напрыклад, печы. Пра чалавека зморанага, вялага гавораць: *як з печы выняты*: *Ну, што ты ходзіш як з печы выняты? Лепш ляж ды выспіся* (Восава Капыл.).

Блізкімі да сферы побыту з'яўляюцца словы, што называюць адзенне, абутак. Выкарыстанне іх дыферэнцыяльных прыкмет у якасці параўнання служыць для апісання характару чалавека,

яго разумовых і маральных якасцей: *Ото ж яны дружбавалі* ***як у адной кашулі хрышчаныя*** (Нарэйкі Іўеў.); *Сам* ***дурны як бот,*** *а ходзіць па вёсцы і ўсім саветуя* (Машніца Дзярж.); *Ён жа двух слоў не звяжа,* ***дурны як бот з левай нагі*** (Лясное Капыл.); *Сядзіш ты на лаўцы, іржэш* ***як валянак сібірскі,*** *заняўся б якой-нібудзь работай* (Байлюкі Гл.); *От сказала* ***як лапцем па вадзе ляпнула*** (Лясное Капыл.).

Прааналізаваныя эталоны ўстойлівых народных параўнанняў у беларускай мове выяўляюць іх нацыянальную спецыфіку. У беларускіх народных гаворках для характарыстыкі чалавека выкарыстоўваюцца параўнанні з назвамі жывёл, раслін, прадметаў побыту, адзення і інш. Разгледжаныя ў артыкуле эталоны параўнанняў дазволілі вызначыць толькі асноўныя кірункі выяўлення нацыянальнай спецыфікі параўнання.

**Літаратура**

1. Лебедева, Л. А. Словарь устойчивых сравнений русского языка / Л. А. Лебедева. – Краснодар, 1996.
2. Лебедева, Л. А. Устойчивые сравнения русского языка во фразеологии и фразеографии / Л. А. Лебедева. – Краснодар, 1999.
3. Маслова, В. А. Лингвокультурология: учеб. пособие для студ. высш. учеб. заведений / В. А. Маслова. – М., 2001.
4. Матэрыялы дыялекталагічнага архіва кафедры беларускага мовазнаўства БДПУ імя Максіма Танка.
5. Мокиенко, В. М. Славянская фразеология / В. М. Мокиенко. – М., 1984.
6. Шмелёва, Т. В. Существительные полиэталоны в английских устойчивых сравнениях / Т. В. Шмелёва // Актуальные проблемы психолингвистики. – Тверь, 1996.
7. Янкоўскі, Ф. М. Беларускія народныя параўнанні: кароткі слоўн. / Ф. М. Янкоўскі. – Мінск, 1973.

*Ю. В. Чарнякевіч*

## ЛІНГВАГЕАГРАФІЧНАЯ ГРУПОЎКА ГАВОРАК ПАЎНОЧНА-ЎСХОДНЯЙ БРЭСТЧЫНЫ

Паўночна-ўсходняя Брэстчына – тэрыторыя на памежжы гістарычна-этнаграфічных рэгіёнаў Панямоння і Палесся. Мясцовыя гаворкі знаходзяцца ў зоне міждыялектных кантактаў. На поўдні названага рэгіёна навукоўцы праводзяць мяжу паміж асноўным масівам беларускіх гаворак і заходнепалескімі гаворкамі [7, карта № 75].

Лінгвагеаграфічнае вывучэнне маўлення жыхароў паўночна-ўсходняй Брэстчыны дазволіла ўстанавіць групоўку гаворак рэгіёна і прааналізаваць іх адрознівальна-вылучальныя асаблівасці на ўсіх узроўнях мовы. На гэтай тэрыторыі выразна супрацьстаўляюцца два асноўныя арэалы: паўночны і паўднёвы, або гаворкі з аканнем і гаворкі з оканнем. Гэтыя два арэалы вылучаюцца не толькі на фанетычным, а таксама на марфалагічным і лексічным узроўнях дыялектнай мовы.

Гаворкі з аканнем паўночна-ўсходняй Брэстчыны з'яўляюцца часткай гродзенска-баранавіцкай групы гаворак паўднёва-заходняга дыялекту [1, с. 393–394].

Згодна з ранейшымі даследаваннямі беларускіх дыялектолагаў, у арэале гаворак з оканнем вылучаюцца гаворкі асноўнага масіву беларускай мовы, або паўночнабрэсцкая група, пераходныя, ці сярэднебрэсцкая група, і брэсцка-пінскія, або сярэднезагародская [4, с. 7–11]. Паўночнабрэсцкая група гаворак была ўпершыню выдзелена ў 1968 г. Н. Т. Вайтовіч [3, с. 81]. Астатнія групы гаворак вылучаны Ф. Д. Клімчуком [4, с. 7–11], а пазней удакладнены і канкрэтызаваны Л. В. Леванцэвіч у межах Бярозаўскага раёна Брэсцкай вобласці і А. А. Босак – Пружанскага раёна Брэсцкай вобласці [2; 6].

На думку шэрагу навукоўцаў, паўночнабрэсцкія гаворкі па сваіх моўных асаблівасцях даволі блізкія да так званых заходнегомельскіх гаворак слуцка-мазырскай групы паўднёва-заходняга дыялекту і, бясспрэчна, адносяцца да гаворак асноўнага масіву беларускай мовы [4, с. 8; 5,

с. 202–203]. Гаворкі з оканнем паўночна-ўсходняй Брэстчыны, акрамя гаворкі в. Сакалоўка Пінскага раёна, з'яўляюцца пераходнымі ад гаворак асноўнага масіву беларускай мовы да брэсцка-пінскіх (загародскіх). Іх падрабязную класіфікацыю, заснаваную выключна на фанетычных асаблівасцях, прапанаваў Ф. Д. Клімчук [4]. У нашай працы гэта класіфікацыя пераходных гаворак з оканнем значна дапоўнена і пашырана дадзенымі не толькі фанетычнага, але і марфалагічнага і лексічнага ўзроўняў, а галоўнае – навукова сістэматызавана.

Насуперак меркаванням шэрагу навукоўцаў (Н. Т. Вайтовіч, Ф. Д. Клімчук) пры лінгвагеаграфічным аналізе намі вызначаны ў арэале гаворак з оканнем падгрупы гаворак і асобныя гаворкі, а не групы гаворак (паўночнабрэсцкая падгрупа, верхнеясельдская падгрупа і г. д.). Паводле нашай класіфікацыі, на тэрыторыі даследавання прадстаўлены дзве групы гаворак: гаворкі з аканнем і гаворкі з оканнем. Вынікі лінгвагеаграфічнай стратыфікацыі гэтых гаворак рэпрэзентуюцца ў прапанаваным артыкуле. Спасылкі на карты, якія падаюцца ў дужках, – з аўтарскага «Атласа гаворак паўночна-ўсходняй Брэстчыны» [8].

Нягледзячы на тое, што гаворкі з аканнем і гаворкі з оканнем супрацьпастаўляюцца адна адной па шэрагу моўных асаблівасцей, у іх ёсць і агульныя рысы. Так, напрыклад, на большай частцы тэрыторыі паўночна-ўсходняй Брэстчыны вызначаюцца такія моўныя адметнасці, як: наяўнасць закрытых галосных [**ô**], [**ê**] у новых закрытых складах: *кôт, л'êс* (карты № 4, 10); наяўнасць пераходу націскнога галоснага [**'і**] у [**'э**] у аснове слова: *зац'эрка, павуц'эн'йэ* (*павуц'эн'э*) (карта № 14); наяўнасць мяккіх свісцячых [**з'**], [**с'**] у пазіцыі перад галосным пярэдняга рада [**і**]: *з'ім́а, с'іла* (карта № 57); наяўнасць [**й**] у становішчы пасля губнога: *пйац'* (карта № 60); вымаўленне на месцы этымалагічна мяккіх [**т'**], [**д'**] мяккіх свісцячых зычных [**ц'**], [**дз'**] у становішчы перад наступным галосным [**е**] у адпаведнасці з *[**ѣ**]: *дз'эд, ц'эло* (карта № 83); вымаўленне гука [**л'**] у спалучэнні **льц**: *крыл'цы* (карта № 89); назоўнік мужчынскага роду адз. ліку **луг** у форме М. склону ўжываецца з націскным канчаткам **-у**: *на лугу́* (карта № 101); выкарыстоўваецца сінтаксічная канструкцыя *пайс'ц'і́ па ваду́* (карта № 114); вымаўленне на месцы этымалагічнага галоснага [**о**] гука [**а**] у націскных канчатках назоўнікаў мн. ліку ў форме Д. і М. склонаў: *пастуха́м, па л'эса́х* (карты № 125, 126); адсутнасць [**й**] у корані прыналежных займеннікаў мужчынскага роду адз. ліку ў форме Р. склону (карта № 140): *маго́, тваго́, сваго́*; ужываюцца словы і словазлучэнні *капыты́* (карта № 170), *лятýча мыш* 'кажан' (карта № 188), *п'і́жма* (карта № 210), *ба́бка* (карта № 217), *кало́да* (карта № 222) і інш.

Аналіз сабранага фактычнага матэрыялу дазваляе вылучыць на тэрыторыі паўночна-ўсходняй Брэстчыны дзве групы гаворак: гаворкі з аканнем (гродзенска-баранавіцкія) і гаворкі з оканнем. Гэтыя групы гаворак падзяляюцца на шэсць падгруп, у тым ліку ў межах гаворак з аканнем тры падгрупы: сялявіцкая, коўбавіцка-альхоўская і альшаніцка-боркаўская, і ў межах гаворак з оканнем – тры падгрупы: паўночнабрэсцкая, верхнеясельдская, аброўска-рудненская. Гаворка жыхароў вёскі Сакалоўка адносіцца да сярэднезагародскіх (брэсцка-пінскіх) гаворак.

У сваю чаргу, у межах коўбавіцка-альхоўскай падгрупы гаворак вылучаецца коўбавіцкая і альхоўская гаворкі, у альшаніцка-боркаўскай – адпаведна альшаніцкая і боркаўская гаворкі. У гаворках з оканнем паўночнабрэсцкая падгрупа прадстаўлена трыма мясцовымі гаворкамі: корачынскай, бабровіцкай, хатыніцкай; верхнеясельдская – дзвюма мясцовымі гаворкамі: плехаўшчынскай, сакалоўскай; аброўска-рудненскую падгрупу гаворак складаюць таксама два віды гаворак: аброўская і рудненская (карта № 365).

Адзначым асноўныя моўныя асаблівасці, што характарызуюць кожную вышэйназваную групу ці падгрупу гаворак у адпаведнасці з іх лакалізацыяй у межах акаючага ці окаючага тыпу гаворак.

### Акаючыя гродзенска-баранавіцкія гаворкі (гаворкі з няпоўным недысімілятыўным аканнем)

На ўсёй тэрыторыі пашырэння гаворак акаючага тыпу адзначаны наступныя, **пераважна агульныя для гаворак гэтага арэала**, асаблівасці: адбываецца пераход галоснага [**'э**] у [**'о**]

у каранёвых марфемах некаторых слоў і асобных марфалагічных формах: *м'од, м'орзлы, б'ордо, н'эс'ом* (карты № 5, 6, 8, 150); вымаўленне этымалагічнага [**ы**] у становішчы пасля губнога пад націскам, а таксама ў першым і другім складах перад націскам: *мы, пыл, высок'і, выб'івац'* (карта № 12); вымаўленне этымалагічнага [**ы**] у становішчы пасля губнога пад націскам і ў першым складзе перад націскам: *быў, была* (карта № 13); наяўнасць моцнага якання ў паслянаціскных складах: *вос'ан'* (карта № 22); наяўнасць фрыкатыўнага [**дж**]: *джало, хаджу* (карты № 29, 30); вымаўленне гука [**ф**] на месцы [**х**] у слове **хутар**: *футар* (карта № 36); ужыванне асабовых займеннікаў без пратэтычнага [**в**]: *йон, йана, йано, йаны* (карта № 50); вымаўленне мяккага зычнага [**н'**] перад этымалагічным [э] (карта № 55): *н'эхто, н'эбо*; наяўнасць мяккіх свісцячых [**з'**], [**с'**] у пазіцыі перад галосным пярэдняга рада [э]: *з'эрн'е, с'эло* (карта № 58); наяўнасць [**й**] у становішчы пасля губнога: *мйасо* (карта № 59); адсутнасць эпентычных [**л'**], [**й**] у формах дзеясловаў абвеснага ладу цяперашняга часу 3-й асобы мн. ліку I спражэння з асновай на **губны**: *роб'ац', сп'ац', корм'ац'* (карта № 80); вымаўленне на месцы этымалагічна мяккіх [**т'**], [**д'**] мяккіх зычных [**ц'**], [**дз'**] перад *[**і**], *[э]: *ц'іхо, хадз'іла; дз'эн', м'ас'ц'эчко* (карты № 81, 82); назоўнікі жаночага і мужчынскага роду адз. ліку ў форме М. склону ўжываецца з націскным канчаткам **-ы**, як і ў літаратурнай мове: *на шашы, на нажы* (карта № 94); назоўнікі ніякага роду адз. ліку ў форме М. склону прадстаўлены з націскным канчаткам **-э**: *на пл'ачэ, у в'адрэ* (карта № 110); назоўнік ніякага роду адз. ліку **цяля** ў форме Тв. склону ўжываецца з ненаціскным канчаткам **-ем**: *з ц'эл'эм* (карта № 119); наяўнасць канчатка **-амі** ў назоўніках мн. ліку ніякага роду ў форме Тв. склону: *пл'ачам'і, вачам'і* (карта № 127); адзначана сцягнутая форма прыметнікаў жаночага роду Н. склону адз. ліку: *нова хата* (карта № 129); наяўнасць ненаціскнога канчатка **-ум** у прыметніках мужчынскага роду адз. ліку ў форме М. склону: *у новум* (карта № 133); прыналежныя займеннікі жаночага роду адз. ліку ў форме Тв. склону ўжываюцца з канчаткам **-ею**: *з майэйу, з твайэйу* (карта № 142); колькасныя лічэбнікі ў форме Тв. склону прадстаўлены канчаткам **-мі**: *п'ац'м'і* (карта № 149); наяўнасць суфікса **-ць** у формах інфінітыва з асновай на галосны: *жац', хадз'іц'* (карта № 162); наяўнасць мяккага зычнага [с'] у постфіксе **-ся** зваротных дзеясловаў 1-й асобы адз. ліку: *байус'а, купайус'а (байус'о, купайус'о)* (карта № 158); ужываюцца словы *драс'он* (карта № 207), *авадз'он* (карта № 229), *боты* (карта № 322) і інш.

**Сялявіцкай падгрупе гаворак** (лічба 1 на карце № 365, нумары 3–7, 11, 12, 18–21, 30, 35) характэрна: наяўнасць галосных [**о**], [э] у закрытых складах: *кот, л'эс* (карты № 4, 10); адсутнасць пераходу галоснага ['**э**] у ['**о**] у каранёвых марфемах некаторых слоў і асобных марфалагічных формах: *б'эрдо, дал'эко, н'ас'эм* (карты № 8, 9, 150); вымаўленне гука [э] на месцы [**а**] у слове **скнара**: *скнэра* (карта № 2); вымаўленне этымалагічнага галоснага [э] у канчатках назоўнікаў мужчынскага роду мн. ліку: *ваўк'э, стаг'э* (карта № 122); наяўнасць моцнага якання ў пераднацісных складах: *в'арац'ано* (карта № 21); адсутнасць [**й**] у становішчы пасля губнога: *м'асо, п'ац'* (карты № 59, 60); назоўнік мужчынскага роду адз. ліку **луг** у форме М. склону ўжываецца з ненаціскным канчаткам **-е**, як у літаратурнай мове: *на луз'э* (карта № 101); выкарыстоўваюцца сінтаксічныя канструкцыі *пайс'ц'і за вадой, йэхац' кан'ом* (карты № 114, 115); назоўнікі жаночага роду мн. ліку ў форме Р. склону прадстаўлены з націскным канчаткам **-оў**: *хатоў, сц'аноў* (карта № 124); наяўнасць формаў інфінітыва тыпу *п'акчы, таўкчы* (карта № 163); ужываюцца словы *галавач* 'апалонік' (карта № 228), *расуйэ* 'красуе (жыта)' (карта № 248), *гачка* 'матыка (з зубцамі)' (карта № 272), *л'іхарадка* 'малярыя' (карта № 294) і інш.

На тэрыторыі Пружанскага раёна Брэсцкай вобласці існуе падгрупа гаворак, падобная да сялявіцкай. Паводле класіфікацыі гаворак Пружаншчыны (А. А. Босак), яны належаць да варанілавіцкай падгрупы ў складзе гродзенска-баранавіцкай групы гаворак паўднёва-заходняга дыялекту. Варанілавіцкая падгрупа гаворак была апісана А. А. Босак у 2006 г. [2], аднак яна вылучана на падставе значна меншай колькасці фанетычных і марфалагічных асаблівасцей у сувязі з даволі абмежаванай праграмай даследавання аўтара. Такім чынам, нашы дадзеныя на больш шырокім фактычным матэрыяле пацвярджаюць правамернасць выдзялення на гэтай тэрыторыі асобнай падгрупы гаворак, якую мы прапануем умоўна назваць варанілавіцка-сялявіцкай.

**Коўбавіцка-альхоўскай падгрупе гаворак** (лічбы 2а і 2б, нумары 1–2б на карце № 365, 8–10, 13–17, 22–27, 29) уласціва: вымаўленне гука [ы] на месцы [у] у слове **субота**: *сыбóта* (карта № 27); назоўнікі ніякага роду адз. ліку ў форме М. склону прадстаўлены з націскным канчаткам **-ы**, як і ў літаратурнай мове: *на пл'ачы́, у в'адры́* (карта № 110); назоўнікі жаночага роду мн. ліку ў форме Р. склону прадстаўлены з ненаціскным канчаткам **-аў** (ці нулявым): *хáтаў, сц'э́наў; хат, сц'эн* (карта № 124); наяўнасць [й] у корані прыналежных займеннікаў мужчынскага роду адз. ліку ў форме Р. склону: *майгó, твайгó, свайгó* (карта № 140); колькасныя лічэбнікі ў форме Т. склону прадстаўлены як з канчаткам **-мі**, так і з канчаткам **-ю**: *п'ац'м'í, п'ац'йý* (карта № 149); наяўнасць формаў інфінітыва тыпу *п'ачы́, таўчы́* (карта № 164); ужываюцца словы *бáбка* 'грыб' (карта № 212), *маты́ка* 'матыка (з зубцамі)' (карта № 272), *барадá* 'нязжаты пасмык жыта' (карта № 301) і інш.

**Коўбавіцкая гаворка** (лічба 2а, нумары 2а на карце № 365, нумары 8–10, 13–16, 22, 23) характарызуецца наступнымі моўнымі асаблівасцямі: наяўнасць пераходу [а] націскнога ў [о] націскное ў межах асновы перад [ў]: *казóў, брóў, настóўн'ік* (карта № 1); адсутнасць пераходу галоснага ['э] у ['о] у слове **бердо**: *б'э́рдо* (карта № 8); адсутнасць пераходу націскнога галоснага ['і] у націскны ['э] у межах асновы: *зац'і́рка, павуц'і́н'йэ* (*павуц'і́н'э, павуц'і́на*) (карта № 14); ужываецца сінтаксічная канструкцыя *йэ́хац' кан'óм* (карта № 115); прыналежныя займеннікі жаночага роду адз. ліку ў форме Тв. склону выступаюць з аднаскладовым канчаткам **-ёй**: *з майóй, з твайóй* (карта № 142); ужываюцца словы *п'ісáк* 'шрам у жывёлы' (карта № 183), *галýза* 'бязрогая карова' (карта № 184), *пух'і́р* 'вадзяны пухір (на скуры ў чалавека)' (карта № 288) і інш.

**Альхоўскай гаворцы** (лічба 2б на карце № 365, нумары 1, 2, 2б, 17, 24–27, 29) уласціва: адсутнасць пераходу націскнога галоснага [а] у націскны [о] у межах асновы перад [ў]: *казáў, браў, настáўн'ік* (карта № 1); назоўнікі мужчынскага роду ў форме М. склону адз. ліку ўжываюцца як з канчаткам **-э**, так і з канчаткам **-ы**: *на нажэ́, на нажы́* (карта № 104); выкарыстоўваецца сінтаксічная канструкцыя *йэ́хац' на кан'і́* (карта № 115); вымаўленне этымалагічнага гука [о] у націскных канчатках назоўнікаў у форме Д. і М. склонаў мн. ліку: *пастухóм, па л'асóх* (карты № 125, 126); прыналежныя займеннікі жаночага роду адз. ліку ў форме Тв. склону выкарыстоўваюцца з канчаткам **-ёю**: *з майóйу, з твайóйу* (карта № 142); ужываюцца словы *апалóн'ік* (карта № 228), *красýйэ* (жыта) (карта № 248), *мазóл'* 'вадзяны пухір (на скуры ў чалавека)' (карта № 288), *трáсца* 'малярыя' (карта № 294) і інш.

**Альшаніцка-боркаўскай падгрупе гаворак** (лічбы 3а і 3б на карце № 365, нумары 28, 31–34, 36–46, 49, 50) характэрна: захаванне этымалагічнага [э] у канцавым адкрытым складзе ў слове **гора**: *гóрэ* (карта № 24); ужыванне на месцы фрыкатыўнага [дж] зычнага [ж]: *жáло* (карта № 30); вымаўленне гука [х] у слове **хутар**: *хýтар* (карта № 36); назоўнікі мужчынскага, жаночага і ніякага роду ў форме М. склону адз. ліку ўжываюцца з націскным канчаткам **-э**: *на шашэ́, на нажэ́* (карты № 94, 104); выкарыстанне сінтаксічнай канструкцыі *пайс'ц'і па ваду́* (карта № 114); наяўнасць суфікса **-ці** ў формах інфінітыва з асновай на галосны: *жáц'і, хадз'íц'і* (карта № 162); наяўнасць цвёрдага зычнага [с] у постфіксе **-ся** зваротных дзеясловаў 1-й асобы адз. ліку: *байýса, купáйуса* (*байýсо, купáйусо*) (карта № 158); ужываюцца словы *буслóўка* 'гняздо бусла' (карта № 197), *дрывóтн'ік* 'месца на двары, дзе сякуць дровы' (карта № 203), *званк'í* 'шамкі' (карта № 278) і інш.

**Альшаніцкай гаворцы** (лічба 3а на карце № 365, нумары 31–34, 36, 37, 40–46, 49, 50) уласціва: адсутнасць пераходу націскнога галоснага ['э] у ['о] у некаторых каранёвых марфемах і асобных марфалагічных формах (карты № 5, 6, 8, 9, 150): *б'э́рдо, м'эт, дал'э́ко, м'э́рзлы, н'ас'э́м*; вымаўленне этымалагічнага гука [у] у слове **субота**: *субóта* (карта № 27); назоўнік ніякага роду адз. ліку **цяля** ў форме Тв. склону ўжываецца з ненаціскным канчаткам **-ем**: *з ц'э́л'эм* (карта № 119); назоўнікі жаночага роду мн. ліку ў форме Р. склону прадстаўлены з націскным канчаткам **-оў**: *хатóў, сц'анóў* (карта № 124); наяўнасць формы на **-ма** назоўнікаў мн. ліку ніякага роду ў форме Тв. склону: *пл'ачы́ма, вачы́ма* (карта № 127); наяўнасць формаў інфінітыва тыпу *п'ачы́, таўчы́* (карта № 164); ужываюцца словы *л'і́сн'ік* 'піжма' (карта № 210), *падб'арóзн'ік* 'бабка (падбярозавік)' (карта № 217), *вады́р* 'вадзяны пухір (на скуры ў чалавека)' (карта № 288) і інш.

**Боркаўская гаворка** (лічба 3б на карце № 365, нумары 28, 33, 34, 38, 39) характарызуецца наступнымі моўнымі асаблівасцямі: вымаўленне гука [**ы**] на месцы [**у**] у слове **субота**: *сыбóта* (карта № 27); назоўнік ніякага роду адз. ліку **цяля** ў форме Тв. склону ўжываецца з ненацiскным канчаткам **-ем**: *з ц'ел'áц'эм* (карта № 119); назоўнікі жаночага роду мн. ліку ў форме Р. склону прадстаўлены ненацiскным канчаткам **-аў**: *хáтаў, сц'э́наў* (карта № 124); вымаўленне гука [**о**] у нацiскных канчатках назоўнікаў мн. ліку ў форме Д. і М. склонаў: *пастухóм, па л'асóх* (карты № 125, 126); адсутнасць формаў на **-ма** назоўнікаў мн. ліку ніякага роду ў форме Тв. склону: *пл'ачáм'і, вачáм'і* (карта № 127); колькасныя лічэбнікі ў форме Тв. склону прадстаўлены канчаткам **-ю**: *п'ац'йý* (карта № 149); наяўнасць формаў інфінітыва тыпу *п'акц'í, таўкц'í* (карта № 164); ужываюцца словы *кóн'ік* 'страказа' (карта № 232), *шчын* 'пласт сена' (карта № 265), *ман'э́* 'манюка, хлус' (карта № 282), *дз'ýха* 'халадзец' (карта № 329) і інш.

### Окаючыя гаворкі

На ўсёй тэрыторыі распаўсюджання окаючых гаворак адзначаны наступныя, **пераважна агульныя, для гаворак гэтага арэала** асаблівасці: няма пераходу нацiскнога галоснага ['**э**] у ['**о**] у некаторых каранёвых марфемах, у канцавых адкрытых складах і асобных марфалагічных формах: *мэд, м'э́рзлы, бэ́рдо, гóрэ, н'эс'э́м* (карты № 5, 6, 8, 24, 150); вымаўленне на месцы этымалагічнага [**ы**] у становішчы пасля губных пад нацiскам, а таксама ў першым і другім складах перад нацiскам галоснага [**і**]: *м'і, п'іл, в'ісóк'і, в'іб'івáц'і* (карта № 12); вымаўленне на месцы этымалагічнага [**ы**] у становішчы пасля губнога галоснага [**у**] пад нацiскам і ў першым складзе перад нацiскам: *буў, булá* (карта № 13); вымаўленне на месцы фрыкатыўнага [**дж**] зычнага [**ж**]: *жáло* (карта № 30); вымаўленне гука [**х**] у слове **хутар**: *хýтар* (карта № 36); ужыванне асабовых займеннікаў з пратэтычным [**в**]: *вон, вонá, вонó, воны́* (карта № 50); вымаўленне цвёрдага зычнага [**н**] перад этымалагічным [э]: *нэ́хто, нэ́бо* (карта № 55); наяўнасць цвёрдых свісцячых [**з**], [**с**] у пазіцыі перад галосным пярэдняга рада [э]: *зэ́рн'е, сэлó* (карта № 58); наяўнасць эпентычнага [**н**] пасля губнога: *мн'áсо* (карта № 59); вымаўленне цвёрдага губнога зычнага перад этымалагічным [э]: *пэ́ршы* (карта № 61); захаванне этымалагічна звонкіх зычных перад глухімі ў сярэдзіне і на канцы слова: *кáзка, дуб* (карты 70, 71); наяўнасць эпентычнага [**л'**] у формах дзеясловаў абвеснага ладу цяперашняга часу 3-й асобы мн. ліку І спражэння з асновай на **губны**: *рóбл'ац', спл'áц', кóрмл'ац'* (карта № 80); вымаўленне этымалагічна мяккіх [**т'**], [**д'**] перад *[**і**]: *т'íхо, ход'íла* (карта № 81); вымаўленне на месцы этымалагічна мяккіх [**т'**], [**д'**] цвёрдых зычных [**т**], [**д**] перад *[**э**]: *дэн', мэстэ́чко* (карта № 82); назоўнік жаночага роду адз. ліку ў форме М. склону ўжываецца з нацiскным канчаткам **-э**: *на шашэ́* (карта № 94); назоўнікі ніякага роду адз. ліку ў форме М. склону прадстаўлены з націсным канчаткам **-у**: *на пл'ачý, у в'адрý* (карта № 110); назоўнік ніякага роду адз. ліку **цяля** ў форме Т. склону ўжываецца з ненацiскным канчаткам **-ем**: *з ц'эл'áц'эм (тэл'áт'эм)* (карта № 119); назоўнікі жаночага роду мн. ліку ў форме Р. склону прадстаўлены нацiскным канчаткам **-эй**: *хатэ́й, сц'энэ́й* (карта № 124); наяўнасць формы на **-ма** ў назоўніках мн. ліку ніякага роду ў форме Тв. склону: *пл'ачы́ма, вачы́ма* (карта № 127); адзначана поўная форма прыметнікаў жаночага роду Н. склону адз. ліку: *нóвая хата* (карта № 129); наяўнасць прыметнікаў мужчынскага роду адз. ліку Н. склону з канчаткам **-ій**: *сух'íй* (карта № 130); наяўнасць суфікса **-ці** ў формах інфінітыва з асновай на галосны: *жáц'і, хадз'íц'і* (карта № 162); наяўнасць формаў інфінітыва тыпу *стры́гц'і* (*стры́гт'і, стры́гты*) (карта № 164); наяўнасць цвёрдага зычнага [с] у постфіксе **-ся** зваротных дзеясловаў 1-й асобы адз. ліку: *баю́са, купáйуса* (*баю́со, купáйусо*) (карта № 158); ужываюцца словы *гарчáк* 'драсён' (карта № 207), *óвад* 'авадзень' (карта № 229), *чóбаты* 'боты' (карта № 322) і інш.

**Верхнеясельдскай падгрупе гаворак** (лічбы 4а і 4б на карце № 365, нумары 47, 48) уласціва: наяўнасць эпентычнага [**й**] у формах дзеясловаў абвеснага ладу цяперашняга часу 3-й асобы мн. ліку І спражэння з асновай на **губны**: *рóбйац', спйáц', кóрмйац'* (карта № 80); назоўнікі мужчынскага роду адз. ліку ў Д. склоне адзначаны з канчаткам **-ові**: *брáтов'і, сы́нов'і* (карта № 108); назоўнік ніякага роду адз. ліку **цяля** ў форме Тв. склону ўжываецца з ненацiскным канчаткам **-ом**: *з тэл'áтом* (карта № 119); наяўнасць эпентычнага [**й**] у формах дзеясловаў цяперашняга часу 1-й асобы адз. ліку І спражэння з асновай на **губны**: *драмйý* (карта № 154); наяўнасць формаў інфінітыва тыпу *пэчы́, тоўчы́* (карта № 164); ужываюцца словы *кáдоўб* 'круглы вулей, які стаіць вертыкальна' (карта № 222), *прáчык* 'апалонік' (карта № 228), *шóхля* 'малярыя' (карта № 294) і інш.

**Плехаўшчынская гаворка** (лічба 4а на карце № 365, нумар 47) вылучаецца наступнымі асаблівасцямі: вымаўленне этымалагічнага [**ы**] у становішчы пасля цвёрдых губных пад націскам, а таксама ў першым і другім складах перад націскам: *мы, пыл, высо́к'і, выб'іва́ц'і; быў, была́* (карты № 12, 13); назоўнікі мужчынскага роду адз. ліку ў форме М. склону ўжываюцца з націскным канчаткам **-у**: *на нажу́* (карта № 104); наяўнасць націскнога канчатка **-ое** ў прыметніках ніякага роду адз. ліку ў форме Н. склону: *старо́йэ* (карта № 131); наяўнасць націскнога канчатка **-ому** ў прыметніках мужчынскага роду адз. ліку ў форме М. склону: *об молодо́му* (карта № 132); наяўнасць формаў інфінітыва тыпу *стры́гчы* (карта № 164); ужываюцца словы *хра́пы* 'пыса (у каровы)' (карта № 167), *пало́ска* 'шрам у жывёлы' (карта № 183), *сту́жка* 'шнурок (для крыжыка, медальёна)' (карта № 321), *подполо́нок* 'скавароднік' (карта № 326) і інш.

**Сакалоўскай гаворцы** (лічба 4б, нумар 48 на карце № 365) уласціва: наяўнасць цвёрдых свісцячых [**з**], [**с**] у пазіцыі перад галосным пярэдняга рада [**і**]: *зыма́, сы́ла* (карта № 57); вымаўленне гука [**л**] у спалучэнні **льц**: *кры́лцы* (карта № 89); назоўнікі мужчынскага роду адз. ліку ў форме М. склону ўжываюцца з націскным канчаткам **-э**: *на нажэ́* (карта № 104); наяўнасць націскнога канчатка **-эе** ў прыметніках ніякага роду адз. ліку ў форме Н. склону: *старэ́йэ* (карта № 131); наяўнасць націскнога канчатка **-ом** у прыметніках мужчынскага роду адз. ліку ў форме М. склону: *об молодо́м* (карта № 132); ужываюцца словы *пэршоц'о́лка* (карта № 177), *пас* 'шрам у жывёлы' (карта № 183), *л'ап'о́шка* 'скавароднік' (карта № 326) і інш.

Паводле класіфікацыі Л. В. Леванцэвіч, гаворка жыхароў в. Плехаўшчына належыць да верхнеясельдскай групы гаворак, а гаворка жыхароў в. Сакалова – да стрыгінскай. Верхнеясельдская група гаворак выдзелена Ф. Д. Клімчуком у 1983 г. [4, с. 7], а стрыгінская – Л. В. Леванцэвіч у 1996 годзе [6, с. 98]. Такім чынам, нашы дадзеныя, заснаваныя на большай колькасці фактычнага матэрыялу, пацвярджаюць правамернасць вылучэння ў гэтым рэгіёне асобных груп гаворак.

**Паўночнабрэсцкай падгрупе гаворак** (лічбы 5а, 5б і 5в на карце № 365, нумары 51–56, 58–60) уласціва: вымаўленне этымалагічнага [**ы**] у становішчы пасля губных пад націскам, а таксама ў першым і другім складах перад націскам: *мы, пыл, высо́к'і, выб'іва́ц'і* (карта № 12); вымаўленне галоснага [**а**] у становішчы пасля цвёрдага губнога ў першым складзе перад націскам на месцы этымалагічнага [э]: *бада́, вадро́* (карта № 18); вымаўленне мяккіх зычных [**з**], [**с**], [**н**] перад галоснымі пярэдняга рада [**і**], [э]: *н'і́ткі, н'э́хто, з'іма́, с'эло́;* (карты № 54, 55, 57, 58); вымаўленне на месцы этымалагічна мяккіх [**т'**], [**д'**] зычных [**ц'**], [**дз'**] перад *[**і**], *[**е**]: *ц'і́хо, дз'і́к'і; дз'эн', мясц'эчко* (карты № 81, 82); наяўнасць націскнога канчатка **-эе** ў прыметніках ніякага роду адз. ліку ў форме Н. склону: *старэ́йэ* (карта № 131); ужываюцца словы *цв'іры́кус* 'цвыркун' (карта № 238), *бу́л'каўк'і* 'бурбалкі (на вадзе)' (карта № 240), *часно́к* (карта № 254) і інш.

**Корачынаўскай гаворцы** (лічба 5а на карце № 365, нумар 56) характэрна: вымаўленне этымалагічнага [**ы**] у становішчы пасля губнога пад націскам, а таксама ў першым складзе перад націскам: *быў, была́* (карта № 13); вымаўленне галоснага [э] пасля мяккага губнога ў першым складзе перад націскам на месцы этымалагічнага [э]: *б'эда́, в'эдро́* (карта № 18); назоўнікі мужчынскага роду адз. ліку ў форме М. склону ўжываюцца з націскным канчаткам **-у**: *на нажу́* (карта № 104); наяўнасць формы на **-амі** назоўнікаў мн. ліку ніякага роду ў форме Тв. склону: *пл'ача́м'і, вача́м'і* (карта № 127); наяўнасць націскнога канчатка **-ым** у прыметніках мужчынскага роду адз. ліку ў форме М. склону: *об молоды́м* (карта № 132); наяўнасць формаў інфінітыва тыпу *п'эчы́, тоўчы́* (карта № 163); наяўнасць формаў інфінітыва тыпу *стры́гчы* (карта № 164); ужываюцца словы *па́ршы* 'перхаць (у жывёл)' (карта № 166), *гэтаго́дн'айэ* 'веснавое цяля' (карта № 178), *о́вадз'эн'* 'авадзень' (карта № 229) і інш.

**Бабровіцкая гаворка** (лічба 5б на карце № 365, нумары 51–53, 58, 60). Гаворцы ўласцівы наступныя асаблівасці: вымаўленне на месцы этымалагічнага [**о**] галоснага [э] у закрытых складах: *кэн'* (карта № 4); вымаўленне цвёрдага зычнага [**л**] у спалучэнні **льц**: *кры́лцы* (карта № 89); назоўнікі мужчынскага роду адз. ліку ў форме М. склону ўжываюцца з націскным канчаткам **-э**: *на нажэ́* (карта № 104); наяўнасць націскнога канчатка **-ым** у прыметніках мужчынскага роду адз. ліку ў форме М. склону: *об молоды́м* (карта № 132); наяўнасць у аснове дзеясловаў I спражэння ў форме 1-й асобы

адз. ліку цяперашняга часу чаргавання заднеязычных з шыпячымі: *стрыжу́, п'эчу́* (карта № 153); наяўнасць формаў інфінітыва тыпу *пэкц'і́, тоўкц'і́* (карта № 163); ужываюцца словы *п'ілов'ін'н'э, п'ілов'эн'н'э* (карта № 201), *ко́пачка* 'матыка (з зубцамі)' (карта № 272), *стаў* 'кросны' (карта № 319) і інш.

**Хатыніцкай гаворцы** (лічба 5в на карце № 365, нумары 54, 55, 59) уласцівы: наяўнасць пераходу этымалагічнага [э] у [о] у некаторых каранёвых марфемах і марфалагічных формах: *мйод, бйо́рдо, н'эсо́м* (карты № 5, 8, 150); ужыванне асабовых займеннікаў без пратэтычнага [**в**]: *йон, йона́, йоно́, йоны́* (карта № 50); наяўнасць [**й**] пасля губных: *мйа́со* (карта № 60); назоўнікі мужчынскага роду адз. ліку ў форме М. склону ўжываюцца з канчаткам **-э**: *на нажэ́* (карту 104); вымаўленне этымалагічнага гука [**о**] у складзе націскных канчаткаў назоўнікаў мужчынскага роду мн. ліку ў форме Д. і М. склонаў: *пастухо́м, па л'эсо́х* (карты № 125, 126); наяўнасць націскнога канчатка **-ом** у прыметніках мужчынскага роду адз. ліку ў форме М. склону: *об молодо́м* (карта № 132); наяўнасць суфікса **-ць** у формах інфінітыва з асновай на галосны: *жац', ходз'і́ц'* (карта № 162); наяўнасць формаў інфінітыва тыпу *пэкц'і́, тоўкц'і́* (карта № 163); ужываюцца словы *м'ак'і́на* 'адходы пасля выціскання алею з ільнянога семя і канопляў' (карта № 257), *сц'і́рта, сц'ірта́* 'сціртa сена' (карта № 267), *доўбэ́н'ка* 'доўбня' (карта № 269) і інш.

**Аброўска-рудненская падгрупа гаворак** (лічбы 6а і 6б на карце № 365, нумары 57, 61) характарызуецца наступнымі моўнымі асаблівасцямі: наяўнасць пераходу націскнога галоснага [**'э**] у [**'о**] у слове **далёка**: *дал'о́ко* (карта № 9); наяўнасць цвёрдых заднеязычных у былых спалучэннях ***гы**, ***кы**, ***хы**: *тугы́й, городскы́й, сухы́й* (карта № 38); вымаўленне цвёрдага зычнага [**н**] перад этымалагічным [**і**]: *ны́ткы* (карта № 54); наяўнасць цвёрдых свісцячых [**з**], [**с**] у пазіцыі перад галосным пярэдняга рада [**і**]: *зыма́, сы́ла* (карта № 57); вымаўленне этымалагічна мяккіх [**т'**], [**д'**] перад галоснымі ў адпаведнасці з ***ѣ**: *д'эд, т'э́ло* (карта № 83); наяўнасць ненаціскнога канчатка **-ом** у прыметніках мужчынскага і **-ой** у прыметніках жаночага роду адз. ліку ў форме М. склону: *у но́вом, у но́вой* (карты № 133, 135); прыналежныя займеннікі ***мой, твой, свой*** у форме Р. і Тв. склонаў ужываюцца з канчаткам **-ей**: *мойэ́й, з мойэ́й* (карты № 141, 142); наяўнасць у аснове дзеясловаў І спражэння ў форме 1-й асобы адз. ліку цяперашняга часу чаргавання заднеязычных з шыпячымі: *стрыжу́, п'эчу́* (карта № 153); ужываюцца словы *стро́ка* 'здрок' (карта № 230), *страб'і́ны* 'лесвіца' (карта № 306), *ро́шчына* (карта № 323) і інш.

**Аброўская гаворка** (лічба 6а на карце № 365, нумар 57). Гаворцы ўласцівы: наяўнасць пераходу націскнога галоснага [**'э**] у [**'о**] у слове **мёд**: *мйод* (карта № 5); адсутнасць пераходу націскнога галоснага [**'і**] у [**'э**] у межах асновы: *зат'і́рка, павут'і́на* (карта № 13); вымаўленне мяккага губнога зычнага перад этымалагічным [э]: *п'э́ршы* (карта № 61); наяўнасць асіміляцыі па глухасці ў сярэдзіне слова: *ка́ска* (карта № 70); назоўнікі мужчынскага роду адз. ліку ў форме М. склону ўжываюцца з націскным канчаткам **-ы**: *на нажы́* (карта № 104); назоўнік ніякага роду адз. ліку **цяля** ў форме Тв. склону ўжываецца з націскам на корані і канчаткам **-ом**: *з тэл'о́нком* (карта № 119); наяўнасць націскнога канчатка **-ое** ў прыметніках ніякага роду адз. ліку ў форме Н. склону: *старо́йэ* (карта № 131); націскны канчатак **-ом** у прыметніках мужчынскага роду адз. ліку ў форме М. склону: *об молодо́м* (карта № 132); наяўнасць формаў інфінітыва тыпу *п'эчы́, тоўчы́* (карта № 163); ужываюцца словы *коржа́н* 'кажан' (карта № 188), *пласт* 'пласт сена' (карта № 265), *кл'у́ка* 'матыка (з зубцамі)' (карта № 272), *ула́з'іны* 'ўваходзіны' (карта № 302) і інш.

**Рудненская гаворка** (лічба 6б на карце № 365, нумар 61) характарызуецца наступнымі моўнымі асаблівасцямі: назоўнікі мужчынскага роду адз. ліку ў форме М. склону ўжываюцца з націскным канчаткам **-у**: *на нажу́* (карта № 104); наяўнасць націскнога канчатка **-эе** ў прыметніках ніякага роду адз. ліку ў форме Н. склону: *старэ́йэ* (карта № 131); наяўнасць націскнога канчатка **-эм** у прыметніках мужчынскага роду адз. ліку ў форме М. склону: *об молодэ́м* (карта № 132); наяўнасць формаў інфінітыва тыпу *п'экт'і́, тоўкт'і́* (карта № 163); ужываюцца словы *драпа́ч* 'матыка (з зубцамі)' (карта № 272), *водэны́к* 'вадзяны пухір (на скуры ў чалавека)' (карта № 288), *крэ́с'іло* 'крэсіва' (карта № 316), *ла́тн'ік* 'палавік' (карта № 320) і інш.

Паводле класіфікацыі Ф. Д. Клімчука, гаворка жыхароў в. Аброва належыць да паўднёва-целяханскай групы гаворак, а гаворка жыхароў в. Рудня – да паўночналагішанскай [4, с. 10–11].

Такім чынам, нашы дадзеныя пацвярджаюць правамернасць вылучэння на гэтай тэрыторыі асобных відаў гаворак, але іх варта аб'яднаць у адну аброўска-рудненскую падгрупу з-за вялікай колькасці агульных фанетычных, марфалагічных і лексічных асаблівасцей.

**Загародская (заходнепалеская) гаворка** (лічба 7 на карце № 365, нумар 62) характарызуецца наступнымі моўнымі асаблівасцямі: наяўнасць галосных [**ы**], [э], [**і**] у адпаведнасці з этымалагічным [**о**] у новых закрытых складах: *кыт* (*кэт*), *л'іс* (карты № 4, 10); наяўнасць пераходу націскнога галоснага [ʻэ] у [ʻ**о**] у слове **далёка**: *дал'óко* (карта № 9); наяўнасць цвёрдых заднеязычных у спалучэннях ***гы**, ***кы**, ***хы**: *тугы́й, городскы́й, сухы́й* (карта № 38); вымаўленне цвёрдага зычнага [**н**] перад галосным пярэдняга рада [**і**]: *ны́тк'і* (карта № 54); наяўнасць цвёрдага зычнага [**л**] у пазіцыі перад галосным пярэдняга рада [э]: *пóлэ* (карта № 56); наяўнасць цвёрдых свісцячых [**з**], [**с**] у пазіцыі перад галосным пярэдняга рада [**і**]: *зымá, сы́ла* (карта № 57); вымаўленне на месцы этымалагічна мяккіх [**т'**], [**д'**] цвёрдых зычных [**т**], [**д**] перад *[**і**]: *ты́хо, ды́к'і* (карта № 81); вымаўленне на месцы этымалагічна мяккіх [**т'**], [**д'**] мяккіх зычных [**т'**], [**д'**] перад галоснымі ў адпаведнасці з ***ѣ**: *д'эд, т'э́ло* (*д'ід, т'íло*) (карта № 83); назоўнікі мужчынскага роду адз. ліку ў форме М. склону ўжываюцца з націскным канчаткам **-у**: *на нажý* (карта № 104); назоўнікі мужчынскага роду адз. ліку ў Д. склоне маюць канчатак **-у** або **-овэ**: *брáту, сы́ну*; *брáтовэ, сы́новэ* (карта № 108); назоўнікі ніякага роду адз. ліку ў форме М. склону ўжываюцца з націскным канчаткам **-э**: *на плэчэ́* (карта № 110); наяўнасць націскнога і ненаціскнога канчатка **-ым** у прыметніках мужчынскага роду адз. ліку ў форме М. склону: *об молоды́м, у нóвым* (карты № 132, 133); наяўнасць націскнога канчатка **-эе** ў прыметніках ніякага роду адз. ліку ў форме Н. склону: *старэ́йэ* (карта № 131); прыналежныя займеннікі жаночага роду адз. ліку ***мой, твой, свой*** у форме Тв. склону ўжываюцца з націскным канчаткам **-ею**: *мойэ́йу* (карта № 142); наяўнасць у аснове дзеясловаў I спражэння ў форме 1-й асобы адз. ліку цяперашняга часу чаргавання заднеязычных з шыпячымі: *стрыжý, пэчý* (карта № 153); наяўнасць формаў інфінітыва тыпу *пэкты́, тоўкты́* (карта № 163); ужываюцца словы *позурэ́* 'капыт' (карта № 170), *голомóўза* 'бязрогая карова' (карта № 184), *шкурáт* 'кажан' (карта № 188) і інш.

Паводле класіфікацыі Ф. Д. Клімчука, гаворка жыхароў в. Сакалоўка належыць да брэсцка-пінскай (а менавіта сярэднезагародскай) групы гаворак, што пацвярджаецца нашымі дадзенымі.

Такім чынам, на тэрыторыі паўночна-ўсходняй Брэстчыны намі вылучаны наступныя новыя падгрупы гаворак: у межах акаючых гродзенска-баранавіцкіх гаворак – сялявіцкая, коўбавіцка-альхоўская, івацэвіцка-боркаўская, у паўночнабрэсцкай падгрупе гаворак – корачынаўская, баброўіцкая, хатыніцкая. Акрамя таго, не толькі на фанетычным, але і на граматычным і лексічным узроўнях дыялектнай мовы пацверджана правамернасць выдзялення пэўных падгруп гаворак, асобы статус якіх абгрунтаваны ў навукова-даследчых працах Ф. Д. Клімчуком, Л. В. Леванцэвіч, А. А. Босак.

**Літаратура**


1. Аванесаў, Р. І. Групоўка дыялектаў беларускай мовы / Р. І. Аванесаў // Нарысы па беларускай дыялекталогіі / пад рэд. Р. І. Аванесава. – Мінск: Навука і тэхніка, 1964. – С. 382–403.
2. Босак, А. А. Дыферэнцыяцыя і арэальныя сувязі гаворак Верхняга Над'ясельдзя: дыс. ... канд. філалаг. навук: 10.02.01 / А. А. Босак – Мінск, 2006. – 257 с.
3. Вайтовіч, Н. Т. Ненаціскны вакалізм народных гаворак Беларусі / Н. Т. Вайтовіч. – Мінск: Навука і тэхніка, 1968 г. – 219 с.
4. Клімчук, Ф. Д. Гаворкі Заходняга Палесся: фанетычны нарыс / Ф. Д. Клімчук. – Мінск: Навука і тэхніка, 1983. – 127 с.
5. Крывіцкі, А. А. Дыялекталогія беларускай мовы / А. А. Крывіцкі. – Мінск: Вышэйш. шк., 2003. – 294 с.
6. Леванцэвіч, Л. В. Лінгвагеаграфічная групоўка гаворак Бярозаўскага раёна: дыс. ... канд. філалаг. навук: 10.02.01 / Л. В. Леванцэвіч. – Мінск, 1996. – 291 с.
7. Лінгвістычная геаграфія і групоўка беларускіх гаворак / пад. рэд. Р. І. Аванесава, К. К. Атраховіча (Крапівы), Ю. Ф. Мацкевіч. – Мінск: Навука і тэхніка, 1969. – 80 карт.
8. Чарнякевіч, Ю. В. Атлас гаворак паўночна-ўсходняй Брэстчыны / Ю. В. Чарнякевіч. – Мінск: Тэхналогія, 2009. – 255 с.

# ТЭКСТЫ З БЕЛАРУСКІХ ГАВОРАК

*В. Д. Астрэйка, В. І. Крупко*

## ТЭКСТЫ З ВЁСКІ ПЯЧКАВІЧЫ МСЦІСЛАЎСКАГА РАЁНА

***Расказвае Г. І. Зіноўева, 1951 г. н.*** *(ураджэнка в. Шпачча Краснапольскага р-на); запіс зроблены ў 2009 г.*

Пръработала ў калхо́зе, пе́ньсія во, па́спарт у мяне́ но́вы даю́ць, вы́дадуць пе́ньсію, бу́ду палуча́ць.

Ма́ма мая́ сама́ ізь Зялёнай Дубра́вы, ну с Хо́дас, калі́ зна́іця, а па́пка сам Краснапо́льскі, с Краснапо́льля. [Нарадзі́лася] ў Краснапо́льлі, Краснапо́льскі раён. По́тым мы переа́ехалі ў семідзіся́тым го́дзе сюды́, ма́ма сама́ зялёнская, зь Зялёнай Дубра́вы, піряе́халі вон ў Зялёнаю сюды́ жыць. Тут жылі́, ужэ́ па́пка памёр, быў ваенны, памёр, гадо́ў два́ццаць ужо́ німа́, с вайны́ прышо́ў, пабы́ў тро́ху, пажы́ў ну і памёр, а ма́ма ўжо шасты́ год ляжы́ць, памёрла то́жа, німа́ ў міне́ ўжэ ніко́га, ну во як.

Рабо́тала везьдзе́ ўжо: то каро́ў даі́ла, то цілят глядзе́ла, ну така́я мая́ рабо́та, так прарабо́тала, так во пражыла́, а жы́зьня як скла́лася...

Жыць ужэ́ не́ сь кем ту́та, німа́ ніко́га, трі́ ха́ты э́та нішча́сныя, дак на́да ўціка́ць куда́-то паблі́жы, ну пра́ўда, во так ці забале́іш зімо́ю – ні даро́гі, ніч́огенька. Яшчэ́ асва́льт тро́ху прачы́сьцюць, даду́т тра́ктар, прачы́сьцюць, а сюды́ во не зае́дзеш нічо́га, ня чы́сьцюць нічо́га ніякага – так во то́пчам нага́мі. А калі́ ўжо ду́жа забале́іш, дык мо́жна і паме́рці, ніхто́ ні прые́дзе, пака́ дато́пчуць сюды́, дык і кане́ц бу́дзець. Ня чы́сьцюць, дык і людзе́й німа́. Вот я тут пасьле́дняя, і там пасьле́днія: Лю́да і бап То́ня жы́вець, – і ўсё, і бо́льш ніко́га німа́. Ха́ты стая́ць, і ніко́га німа́, во така́я во ву́ліца. Асва́льт далёка, вона дзе асва́льт – у сьве́це: і атсю́да далёка, і атту́да далёка. О дапры́ся, пака́ та́я пры́йдзець ўрачы́ха к бально́му чалаве́ку, дык і памрэ́ць. Во дзе мы жывём. На́да во ўбіра́цца атсю́да, куда-нібу́ць паблі́жы: дзе аўто́бусы, дзе по́ест, дзе врачы. Во к Хо́дасам, там у нас ужо́ ўсё на ме́сьці.

Э́ты калхоз быў, Успо́льле, э́ты быў міліяне́р, во э́тат калхо́з быў. О-о-ой! Была́ бальша́я тут – усё на сьве́це было́ ў дзяре́ўні: шко́лы, клу́бы былі́, а-я-яй было́! А січа́с во аш стра́шна, во скажы́, што э́та міліяне́р быў, я ба сказа́ла: «Ідзі́ ты, не дуры́ ма*ю́* галаву́. Няпра́ўда э́та». Во што было́, а цяпе́р нічо́га нет – трі кале́кі на ўс*ю́* дзяре́ўню, і больш ніко́га німа́. І ты́я во па се́мсят, па во́семсят гадо́ў, лю́дзі аджылы́я мо́жна сказа́ць, аджы́лыя лю́дзі ўжо – сёдня-за́ўтра памру́ць.

Ма́ма раска́звала – па́па ўзяў яе́... Ну, я са́мая ста́ршая ў яе́ была́, дак яна́ каза́ла: «Ой, а гу́ліў, а та́нцаў, а маладзёжы – сто́лька ў го́радзе ні было́, во яке́я дзяре́ўня была́». Зялёная Дубра́ва. Во Хо́дасы – быў аддзе́льна рабо́чы пасёлак, рабо́чы, зна́чыць, січа́с параcтро́іліся та́ма – і скле́ілася і рабо́чы пасёлак уме́ста, і Зялёная Дубра́ва, усё ўме́ста, во так ба пастро́іліся лю́дзі. А йна́ вун о-о-ой ідзе́ць туды́ унь у дзяре́ўню пуд Лупа́ціна, калі́ вы зна́іця, а вы мо́жа ні зна́іця, пу́д Лупа́ціна туды́ – така́я дзяре́ўня длі́нная. Гаво́рі$^{ы}$ць: «Бывáла, тут маладзёжы – у го́радзе сто́лька не было́, дачу́шачка! Во, з яко́й я дзяре́ўні!» А тады́ прышло́ся і само́й [маці] переяе́хаць ужо́ сюды́. А січа́с жа то ўміра́юць, то выіжжа́юць, то до́чкі забіра́юць, ну дзе́ці забіра́юць: то тэ́я, то тэ́я. Ну але́ се́люцца, ха́ты купляю́ць лю́дзі, каму́ на́да, дык сюды́ паблі́жа ўжо, у Зялёнаю купля́юць ха́ты, купля́юць, во як. Было́ вясёла, красі́ва і харашо́ было́.

Я жыла́ – Краснапо́льскі раён, а дзяре́ўня Нава́ельня, но вы ні зна́іця та́ма, ат Краснапо́льля э́та бу́дзець кіло́мітраў, наве́рна, пітна́ццаць, а я жыла́ дзяре́ўня Шпа́ч$^{ь}$'я. Нава́ельня – э́та сельсаве́т наш быў, а ў Шпа́ч$^{ь}$'е – э́та мы жылі́ та́ма. Былі́ яны́ ря́дам дзяре́ўні: Шы́рі$^{ы}$чын та́ма дзяре́ўня ря́дам. А ў лясу́ было́, там ду́жа мно́га грібо́ў было́, я́гат, ой, ні хаце́лі мы атту́да е́хаць! Ду́жа. Во вы́йдзем, пака́ па́пка з ма́май та́ма спра́вяцца с скато́м, пака́ вы́тапяць печ, мы вядро́

я́гат чо́рных прінясём, мы грібо́ў прінясём, ма́ма выта́пліваіць печ, мы апя́ць пашлі́ туды́. Ду́жа лясы́ бальшы́я, вы ні былі́ там, вы ні зна́іця ніхто́. А там жа лясы́ бальшы́я, во ў ляса́х пря́ма дзіре́ўні стая́лі, красі́ва было́, усяго́ мно́га было́, о-ё-ё-ё-ёй! Быва́ла, з Масквы́ как прі$^{ы}$е́дуць… Па́па – любі́цель баравікі́ сабіра́ць: во такі́я зялёныя, во такія вот бе́лыя эці баравічкі́. Дык панасу́шыць. Папрі$^{ы}$е́дуць на машы́нах лехкавы́х, разузна́ють – ну, там жа лясы́-лясы́! Хто туды́ е́зьдзіў – і атсю́да ўсе гавcaptureśць, і зь Зялёнай Дубра́вы, дзе ма́ма сама́ ро́дам атту́да. Раска́зваюць – сье́зьдзілі туды́ ў лес, мы зна́ем які́я там лясы́, ско́ка та́м грібо́ў. Я гавару: хто там быў, той зна́іць. Дык, быва́ла, папрі$^{ы}$е́дуць на машы́нах, на лехкавы́х, разузна́лі: ага́ – і к па́пу. Пазнако́міліся, Нікала́евіч. Па́па ўсігда́ ба́ню прато́піць, набяре́ць баравіко́ў: бе́ленькія ў пе́чачку су́шыць, а ў ба́ню ўжо зялёненькія баравічькі́ су́шыць. Такі́ ён быў ду́жа любі́цель па э́таму дзе́лу, о-о-ой – ні кармі́ яго́, нядзе́лю бу́дзець гало́дны хадзі́ць, то́лька каб былі́ грібы́, так любі́ў ён. Разузна́лі гэ́та ўжо лю́дзі, дык прыяжжа́лі на лехкавы́х машы́нах. Кілагра́м бе́ленькых грібо́ў, су́шаных – два́ццаць пяць рубле́й на ты́я гро́шы былі́, та на ты́я гро́шы – на э́тыя, я ні зна́ю. Ого-о-о! На ты́я гро́шы дарагаві́зна – два́ццаць пяць рубле́й: сто́ка што́-та ку́піш на два́ццаць пяць рубле́й! А тады́ было́ – е́зьдзілі, е́зьдзілі:

– Су́шыця, дзядзь Ва́ня (ці Нікала́евіч яны́ яго́ – э́та аце́чэства яго́ тако́е было́), сушы́ця, яшчэ́ прые́дзім.

– Да$^{у}$бро́, ма́льцы! – ён такі́ быў, па́пка. – Да$^{у}$бро́, ма́льцы, бу́дуць – машы́ны загружу́!

Пра́ўда, пака́ прыяжжа́юць, у яго́ ку́ча грі$^{ы}$бо́ў: бе́лых баравіко́ў су́шаных і ку́ча зялёных.

– Так, бяры́ця!

Яны́ – і тэ́я, і тэ́я. Гаво́рáць:

– І тых хо́чам, і тых хо́чам.

І забяру́ць усё. Гро́шы – на стол.

– Дзядзь Вань, яшшо́, яшшо́ прі$^{ы}$е́дзім, там, че́рас ско́ка – дзьве нядзе́лі дае́м, – ці ско́ка яны́ там ужо́ дагаво́рацца, – яшчо́ прі$^{ы}$е́дзім.

Ой, было́ харашо́, на шчот э́тага было́ харашо́. А дзяре́ўня, кала дзяре́ўні па ляса́х былі́, лясы́ бальшэ́нныя. Дапу́сьцім, ря́дам че́$^{э}$рас трі$^{ы}$ кіло́метры ад нас, ат Шпа́ч$^{ь}$’я, было́ Шы́рі$^{ы}$чын, дзяре́ўня, у другу́ю сто́рану – Няміі́льна была́, там Асі́наўка. Ну, ўсё па ляса́х было́. Ну, красі́ва было́, вабшчэ́ краса́та́, пры́ро́да! Вы́йдзеш – пці́чкі пао́ць, краса́та́! О-о-о! Там было́ ду́жа красі́ва. Тады́ ўжо жылі́-жылі́, пат кане́ц ужо́ ста́лі лю́дзі хто паміра́іць, хто выіжжа́іць, каго́ забіра́юць дзе́ці, к сабе́ ўжо жыць ста́рых такі́х – дзяре́ўня на́ша ста́ла Шпа́ч$^{ь}$’я ўжо ма́ленька дваро́ў. Ну, ста́лі нас пірісіля́ць к сільсаве́ту, к Нава́е́льні. У Нава́е́льні ў нас быў сільсаве́т. К сільсаве́ту. А ма́ма мая́ ўжо гаво́рі$^{ы}$ць на па́пку: «Ва́ня, – гаво́рі$^{ы}$ць, – дава́й-та мы піряе́дзім, ўсё раўно́ ш піріжжа́ць, ужо́ пірігружа́цца, дава́й-та мы піряе́дзім, пірявязём сва́ю ха́тку сюды́, у Зялёнаю – я сама́ зь Зялёнай». Радзі́целі яе́ ту́та, у Зялёнай, яна́ ту́та зь Зялёнай. Дык гаво́рі$^{ы}$ць: «Пае́дзім, дава́й-та ужо́ піряе́дзім туды́, у Зялёнаю, к маі́м паблі́жэ». Ну, тут яе́ сістра́ шчэ жыла́ – яна́ ўжэ цяпе́р памёрла, то сістра́ жыла́, ага́, ўсё тако́е. Ну, і па́пка рашы́ўся, так мы у сямідзіся́тым го́дзе сюды́ піряе́халі, па́пка сюды́ піряе́хаў. Ну, ён і тут, па́пка, памёр. Я ўжо няве́ста была́ ла́дная. С то́га гадо́ў я ту́та і жыву́. Жыла́ ў Зялёнай, а тады́ во пашла́ за́муш у Пя́чькавічі$^{ы}$. Дзяре́ўня была́ – міліяне́р быў, дзяре́ўня! Ўсё было́! А во ўсё павы́жылася: і лю́дзі выжыва́юцца, і дзяре́ўня выжыва́іцца, – што тут зьдзе́лаіш…

***

Ай, мужы́к мой пашо́ў у грібы́, стары́к мой пашо́ў. Пашо́ў у грібы́, а як жа! А як пазнако́мілася? Вы зна́яця што, во гля́ньця: ма́ма мая́ зь Зялёнай, а па́па с Краснапо́льскага раёна, – во паглядзі́ця. А як яны́ пазнако́міліся – я ні зна́ю, не́дзе ж устрэ́ціліся. Ну, так і я ўстрэ́цілася. Не́як... Дзе́-та мы былі́? А-а-а, е́халі ўдвае́х [з сынам] зь Зялёнай, а ён якра́с у дварэ́ быў. А дож быў. А мы якра́с кала́ яго́ так-во е́халі. І тады́ мой Дзі́ма, мой сын (ён сёдня пасе́ць цілят), мой сын гаво́рі$^{ы}$ць:

– Ма́ма, пайдзём ды за́йдзім к е́таму, я зна́ю э́тава мушчы́ну – дож ідзе́ць, – а мы на кані́ е́халі ізь Зялёнай. – Пайдзём за́йдзім.

Я гавару́:

– Ай, мóжа мушчы́на якí чужы́ – наштó э́та éта мне! Ці ты адурэ́ў?!

А ён:

– Хадзí! Ну дык што, калí ён чужэ́й?! Я жа с табóй – чагó ты баíсься ўжо?! Ты ўсех баíсься!

Я і такáя былá і дзяўчóначка, такáя – быя́лася я ўсех: я ні сь кéм, ні гуля́ла я. Я ні с хлóпцамі ні гуля́ла, я зь íмі, як січáс – і цалýюцца, і, як тэй сказáў, і балýюцца, прáўда што. А я іх быя́лася – я і зь íмі ні гуля́ла. Так я ўсех быя́лася. Ну дак, ён мяне́ і пацянýў, Дзíма, мой сынóк, каня́ э́тага прівязáў там за бярёску, кала дарóгі, гаворі$^{ы}$ць:

– Мáма, ніхáй дош пярёйдзіць, тады́ ўжо... Яшчэ́ éхаць трí кілóмітры – мы́ ж мóкрыя бýдзем ўсé. Пайдзём, ня бóйся!

Ну, мяне́ ён [угаварыў] – і пашлí. Пашлí: як слóва за слóва, як слóва за слóва, як слóва за слóва – так і нашóўся мне хазяін. Ну, во такáя ўстрéча. Ну, палядзíця, як я ж гаварý: пáпка мой с Краснапóльскага раёна – аж дзе вон, за вірáмі, мáма зь Зялёнай. А як яны́ пазнакóміліся?!

*За вірáмі* – э́та у нас такоя слóва, я ні знáю, што такóя. ‘Далёка’, навéрна, *за вірáмі* – э́та далёка, навéрна, ўхóдзіць, ці як ужó. Ну, мы так гавóрі$^{ы}$м, я ні знáю... Я вабшчэ́ інцірéсна гаварíла – я аттýда, та зáпадная тáя старанá як гавóрі$^{ы}$ць. Я вабшчэ́ разгавáрівала, дык сьміялíся ўсе тýта. Як мы піряéхалі сюды́, ўсе сьмія́ліся. Я гаварý:

– Чагó э́та вы сьміíцёція? Я што, дурнáя, ці што? Чагó э́та вы?

Так гавóрі$^{ы}$ць:

– Гáлічка! Ні $^{а}$біжáйся! То ат твайгó разгавóру.

Так я дáжа і разгавáрівала мáла – знáю, што сьмія́цца бýдуць калá міня́.

– Ідзíця вы к чóрту! – Што спрóсяць: – Пашлíця вы к чóрту!

Дóбры хазя́ін. Во пашóў у грібы́, во зáўтра дýмаім у Хóдасы іцí – нáда схадзíць ў Хóдасы. А пашóў у грібы́. Гавóрі$^{ы}$ць: «Пайдý, пахажý».

***

Ой, у пічáх ўкýсны хлеп! Оў, што éты хлеп, у магазíне, э́та ня хлеп! Дзéжа такáя былá бальшáя, дзéжа во такáя крýглая. Мáма замéсіць... Учы́ніць сначáла, а патóм ýтрам рáна ўстаéць – замясíць тадá вот так рукóй, э́та цéста, во так во нáда. А патóм пастáвіць апя́ць: памéсіць – о-о-о, харашó! – на пéчку апя́ць пастáвіць, накры́ўшы ягó, кап паднялóсь анó, а патóм сьнімáя. А патóм... У нас лапáта былá такáя дзірівя́нная, лапáта. На э́ту лапáту ды лóжаць лістóк капýсты, с качанá, і патóм éта цéста бярёць вынімáіць: ну, там на бýлачку хлéба, якáя лапáта – і стóка цéста бярé$^{э}$ць. На éта бярéць во так во памáжыць, ўсё. Вадзíчка стаíць у яé, у мíсачке, штоб мачы́ць рýкі, штóбы ні прілíпала цéста к рукáм. Знáчыць, бярéць éта – на бýлачку, патóм лóжыць, а патóм рýкі: шчас памóчыць, шчас абглáдзіць, штоб крýгленькі быў – красáвіца, – і ў пéчачку, у лёхкую, у лёхкую печ. Кадá вы́тапіць ужó, разгóрніць э́та ўсё, залý этý па бакáх, а ўжо тады́ на лістóчку і хлеп пячэ́цца. Паляжы́ць там ён няхáй, часóк ён – ну, і скóка анá там тóпіць ужó, дроў спáльваіць (ёй нáда, каб жа ні згарэ́ў), а патóм чэ́рас часóк шчас вынімáіш с пéчы, шчас... У нас быў такí, як рáньшэ гаварí$^{ы}$лі, слон – ну, такáя лáўка дапýсьцім, як сказáць лýчшэ ўжэ, лáўка такáя длíнная былá. Шчас янá вынімáіць, шчас янá палацéнца на ніс палóжыць, знáчыць, шчас вы́ніць ягó, палóжыць, палóжыць, рýкі памóчыць у вадзíчку – апя́ць па вéрху ягó [хлеб] вадзíчкай рукóй мóкрай, рукóй мóкрай, знáчыць. І éтых бýлкі чаты́рі хлéба –крýглы, красíвы! Вы́пічаны – зáпах! Кáжацца б, і наéўся, ня éўшы, наéўся хлéба! О-о-о ўкýсны хлеп с пéчы быў! Ах, мíленькія маé, кап пакýшаць, кап січáс во! Я п, кáжацца, і ні бéлага, ні сéрага ні брáла, ні б я́кага з магазíна, а лýчшэ б із пéчкі хлеп. Вот, і патóм накры́юць пóверху, па э́таму хлéбу, палацéнца апя́ць, сьнíзу і сьвéрьху палацéньчыкам накры́юць, і ён паляжы́ць там часóк – ну, пакá асты́ніць, карóча, пакá асты́ніць. Ўсё, хлеп палажы́ла ўжо – чаты́рі бýлкі, мы ядзíм, ўсё. Хлеб дýжа ўкýсны с пéчы, óчэнь дáжа ўкýсны!

І бýлкі пяклí, і бýлкі пяклí. Бы́лі такíя во, во такíя во, выпікáнкі такíя чугýнныя, ну такíя. Дык, бывáла, зьдзéлаіць э́ту бýлку – туды́, у éту карóбачку (ну, такáя, як чугýнная былá, такáя во былá, агá, во такáя во, у нас не аднá анá былá), палóжыць туды́ і ў пéчачку тóжа ў лёхкую. Там

ўсё, сьпячэ́цца, вынімáіць і с э́тага сáмага выкі́дываіць – кубы́рк ягó. Ён вы́валіўся аттýда – і харашó. Бýлкі пяклí, калí захóчацца. Канéшне. Мукá ж і бéлая былá, і ўсё ш сваё ж былó, ўсё ш сваё былó.

***

А на Пáску саўсéм э́та другóе ўжо. Там ужó прідзéлаюць такýю бýлку, што ты! На Пáску! Красáвіцу! Усяк пяклí. А чагó ні пяклі́?! Ну, чагó ні пяклі́?! На Пáску што, на Пáску што: вóкарка харóшага, дапýсьцім, тáма, бýлкі, там, я́йцы, я́йцы э́ці [фарбаваныя. – *В. А.*], дапýсьцім, там, халадзéц – усё на сьвéці, усё, што у кагó ёсьці. Ну, як вáряць халадзéц: пабóльшэ кóстачак, пабóльшэ кóстачак тудá, у чугýн, у чугýн, у чугýн туды́, наклáў туды́, ну, падварі́ў ягó нямнóшка, нямнóшка падварі́ў ягó ў пéчы, вы́ніў, вы́ніў, дапýсьцім, там ужó далі́ў і пастáвіў у печ, карóчэ, лаўрóвы лі́сцік туды́, усягó. Звары́лася – вы́нілі, дапýсьцім, разлівáць нáда, чысначкý тудá нáда, ну, пéрчыку нямнóшка вот такóга з бубы́чак, нямóлаты (як ягó сказáць?), тудá, чысначкý ад душы́. Ну, чамý не?!

На Пáску, э́та ізьвéсна, і чáрачка, як усé людзі. Ну, там жа, канéшне, вéсела – прáзьнік такí, чагó ня вéсела бýдзіць! Такі́ гадавы́ прáзьнік, нáда ж ягó прáзнаваць, раз у гот. Так што, усё ш там жа дзéлаіцца. Бывáла, мáма, як былá, хадзі́ла у цэ́рькву нá нач, хадзі́ла. Янá бярé$^{э}$ць, дапýсьцім, там пáру яéц – мнóга477 наштó янó, тóка разгавéцца. Ну, пáру яéц янá бярé$^{э}$ць, дапýсьцім, вóкарка бярé$^{э}$ць, дапýсьцім, бýлку бярé$^{э}$ць, у сýмку лóжыць – і пашлá у цэ́рькву нá нач. Стаі́т на нóжачках, цэ́лую ноч! Тóжа рабóтаіт цэ́рква цэ́лую ноч – і да утрá ні уйдзёш. Мы, бывáла, шчэ мáлыя былі́, я пóмню, шчэ ляжы́м – ну, ждзём жэ мáму.

– Глядзі́ця, штоп пакá я прішлá, штоб ня éлі ні грáма нічóга, я пасьвяцóнае прінясý, пасьвяцóнае!

Раз брáла ўжо, ну, нáда пасьвяцóнае – бýдуць сьвяцéць там, бáцюшка ўжо. Ну, яна пóйдзіць, ждзём, ляжы́м. Што ж, дзéлаць нéчага: скот янá – самá прідý. Ну, лáдна, ляжы́м, ждзём. Глянь, ідзёт! Прíхóдзіт – шчас стол накрывáім. Яды́ там: і ў пéчы там, і... Ну, хто што хóчыт дзéлаіт, што хóчыт дзéлаіт: мя́са на мя́сі. І разгаўля́імся. Узрóслыя ужó, радзі́целі, дык і чáрачку вы́п'юць, і разгавéюцца – ну, э́та ж як абы́чна, усé лю́дзі так дзéлаюць, стáрыя. Агá, разгавéюцца. Нам ужó па яéчачку пакрóшкі парэ́жуць, так во, усі́м пакрóшачкі – э́та пасьвяцóнае. Дапýсьцім, там бýлачкі даéцца ўсем во, пакрóшачкі ўсем – пасьвяцóнае. Дапýсьцім, вóкарачка бярéць адрéжаць свайгó ужó, пасьвяцáць тóжа, тóжа, глядзі́ця во, усі́ бярі́ця – э́та пасьвяцóнае. А тадá ўжо кýшайця, дáльшы – што хто жэлáіць і што. І пéсьні пéлі. А ня го не?! А ня пéцца – такі́ прáзьнік! Які́ там ужó прáзьнік бяс пéсен! Ну, што вы! Ды такі́я во – дапýсьцім, як мáма мая́ былá старýшка ўжо, як запяю́ць, дак аж душá разлягáіцца! Во, як пéлі рáньшэ. А цяпéря: нéшта то закрічáт, то за... А як рáньшэ як запяю́ць э́тыя бáпкі, дык пря́ма ба слýхаў ба і éсьць ба, кáжацца, ні хацéў ба – так усё ба слýхаў ба éта! Іньцярéсна былó, і краcі́ва былó, і на маладзёш пасматрé$^{э}$ць красі́ва былó, во. А січáс што йна ідзёт, маладзёш!

Лю́дзі на Пáску хадзі́лі? А мáмачкі! Ды прóбавалі шчэ як! Знáют жа: ну, кáжды жа разгавéйваіцца, у кáждага ўсё ёсьць, і кýпіць – калі́ ў кагó чагó німá – усё э́та. Дык і чамý не? Ды панадзéнуцца: уся́кую такý во на сябé – лахмацьцё ўся́кая. Ну, чудзі́лі так. Так жа ня прі$^{ы}$'йдзеш, дак ужó надзяю́цца, чýдзюць тáма, лахмáтыя э́та такі́я – шýбу павы́вернут, лахмáтыя такі́я і ідýць. Нахалю́гі! Дык ужó б бая́ліся лю́дзі дык і ні аткрывáлі і дзьвéрі. Во які́я! Так жа сабярéсься так во нармáльненька, пашóў, дапýсьцім, к сасéду, пашóў, там ці радня́, дзе жывéць, там пашлі́ – так э́та па-чалавéчаскі. А éта ўжо такі́я брадзя́гі! Ды ў нас яны́ такі́я тýта ёсьць. У нас вун такі́ тут ёсьць: сóрак гадóў, а па хáтах ідзéць – тóка дай ямý! Ён жа ні сéіць нічёга сабé. А сóрак гадóў апусьці́ўшы такі́, ну, такі́ во – бомш ці як іх завýць, бомш такі́ як. Вот дык такі́х пускáць – пашлі́ яны́ к чóрту! Ніхáй рабóтают на зямлé, на зямлé нáда рабóтаць дýжа! Пéсьні – та рáньшэ былó, мáма раскáзавала. Як цяпéр, дак ня пéлі, як я пóмню, тóка так во уварвýцца – тут жа ні закрывáліся нéяк. А тады́ як нáчалі э́тыя бамшы́ хадзі́ць – стáлі закрывáцца. Ну, так во стол зьдзéлаюць, лю́дзі сідзя́ць: і выпівáюць, і ядýць, і ўсё э́та, і пяю́ць – хáта закры́та. Хто там такі́ па вýліцы –

спрóсіш. Éсьлі ўжо учýеш хто па гóласу – ідзí атсюдва. І ўсё, і пашлí на сваё мéста. А éсьлі чалавéк па дзéлу ідзéт, дак ужó ж адкрыеш чалавéку, во. А баялíся – ўсякія былí!

***

Нóвы гот? Ой! Вясёла! Ой, вясёла! Тут што па цілявíзару вясёла, што сам знáіш – дýжа харашó! Харашó! І Каляды, і ўсё, і ўсё. Я раз дáжа éхала у Каляды, у сáмыя у éтыя, што во хóдзюць пóсьлі Нóвага гóда, хóдзюць і танцýюць, з гарéлкаю хóдзюць. Паéхала я ў Гóркі, эта мне рас прі<sup>ы</sup>шлóся. І такóя раскажý дáжа. У Гóркі паéхала я. Ну, з Гóрак пріéхала да Пагóдзіна да этага – тут жа пóест, садзíцца мне і сюды éхаць нáда. Лянь! Тóлька вылезла с аўтóбуса (ну, з Гóрак пріéхала да Пагóдзіна сюды, да вакзáла даéхала: мне ж нáда білéт брацьна пóест – сюды éхаць, дамóй) – Гóспадзі! Лянь: ідýць, танцýюць сáмыя Каляды. Танцýюць, гармóнь, мушчына у бáбу пераядзéўся, а бáба – у мушчыну. Адзін нясéць гарéлку, бéлый, – і чáрка на тарéлкі так. Танцýюць, гармóнь, пяюць, ўсё. Гóспадзі! Вылезла я і вот, знáіця, так ка мне прі<sup>ы</sup>стáлі! Гавóрацьь:

– Жэньшчына, нас ні прахадзí! Эта грех!

Я гаварý:

– А вы знáіця што, я панімáю ўсё. Ну, як эта – вы ўсе чужыя, а я аднá?

Папáлась – пряма, як на тóе. Ну, сьлéзла с аўтóбуса, ну, ці я хацéла – я ж ні хацéла.

– Нет, нет, у нас біз рáзніцы аткýда Вы бýдзіця, а Вы ні далжны нас прайцí – абізáцільна Вы далжны выпіць з нáмі сто грам.

І што. Я кажý:

– Я ж на пóест паéду, людзечкі дóбрыя!

Ну, я ж нікóганька ні знáю. А там табýн іх: штук, навéрна, трíццаць чалавéк! І гармóнь, і бáба ў мушчыну, мушчына ў бáбу пераядзéлі – ну, красатá былá! І вы дýмаіця што? Мне цэлую чáрачку налілí – і насíліем. Дýмаю, рáдзі прáзьніка ўжо – Бох сь нім! Дык я тады пабéгла скарé<sup>э</sup>й, выпіла ды скарé<sup>э</sup>й пабéгла эта сáмага, марóжанага скарé<sup>э</sup>й – дýмаю: кап хоць ба ні ап'янéць. Во эта надýмалі мяне, во эта надýмалі! Ну, ужэ й прáзьнік, ні хацéла і людзéй падвéсьці, і, дýмаю, і прáзьнік жа такí бальшы. І дýмаю – Бох сь нім! Дык я і марóжанага, тóе-сёе паéла-паéла і харашó і пріéхала. Кажý:

– Во, ня пíўшы, а застáвілі.

– Ну, ты саўсéм! Зьéздзіла ў гóрат, дáжа і прáзьнік атпрáзнавала.

Я гаварý:

– Во, як палучылася. Ну, ці дýмала я! А застáвілі. Во так і палучылася, ну.

На Каляды варажылі? Ой, мне ўжэ варажыць! Я рас палажыла сабé – эта мне ўжэ так гаманíлі, што, Гáля, гаварі<sup>ы</sup>'ць, палóжыш, як лажыцца спаць бýдзеш, дык памыйся, ліцó памый, тóка ні выцірáйся і, гаварíць, éтым палацéнцам, катóрым выціралася, палóш сабé пат падýшку, гавóрі<sup>ы</sup>ць, пад галавý і скажы трі рáзы: «Мой сýжаны-наряжэны, прі<sup>ы</sup>дзі мяне выртрі, мой сýжаны-наряжэны, прі<sup>ы</sup>дзí мяне вытрі». І я, дурнáя, так і зьдзéлала! Дýмаю, вот ці прáўда, што бýдзіць эта. І вы знáіця што, ні прісьнíўся! Абíдзілась крéпка, што ні прісьнíўся. Ой, ні магý! Да éта былó – ні прісьнíўся. Дýмала, мóжа ў мяне які, мóжа ганяецца за мной пат стáрасьць гадóў, дык дýмаю: ніхáй-ка ён мне прісьнíцца. А ён мне і ні прісьнíўся! О, гадáла, папрóбавала пат стáрасьць гадóў. Ой, яй-Бóгу, ну што ты зьдзéлаіш!

Мáма мая, як былá жывáя яшчэ, дык раскáзавала, гавóрі<sup>ы</sup>ць, як хто зáмуш шлі дзяўчóначка (ну, дапýсьцім, вы – дзяўчóначка яшчэ малóдзенькая, ну, зáмуш хóчаш), дык гаварí<sup>ы</sup>ць, бывáла мне сьпячэць – ай, дзяўчáтачкі маé, век не забýду éта, мая ты мáмачка, да, сьпячэць, а рáньшэ ж людзі стáрыя ўставáлі рáна дýжа, сьпячэць блін: «Дачýшачка!» А рáньшэ ш карóў ганялі ў дзярэўні, ды на рáнкі – дужá рáна, ужó як часы, ужó выганялі, пагнáлі. Вадні [авадні] былí éтыя, вадні, дык яны рáна ýтрам [выганялі], патóм прі<sup>ы</sup>ганяюць у абéт – карóвы стаяць, а тады ўжо, пóслі абéда, к вéчару ўжо, вадні ўжó схóдзюць, німá, тады апяць выганяюць. Так мáма, бывáла, рáна ўстáніць, пéчку ўжо вытапіць:

– Дачу́шачка, на́ пе́рвы блін, на́ пе́рвы блін – куды́ ты за́муш по́йдзіш. І вы́йдзіш і паслу́хай, атку́да, а дзе саба́ка забрэ́шыць, на якой старанé. Мне пры́йдзіш ска́жыш.

Ну, я так во вы́бігла зь е́тым блі́нам, ну і пачу́ла там. Прібе́гла:

– Ма́мачка, там саба́ка брехáў.

– Во, дачу́шачка, туды́ по́йдзіш за́муш.

Да, э́та пра́ўда. Во е́та пра́ўда. А во е́та, што варажы́ла, – ні прісьні́ўся. Вот ні прісьні́лась і ўсё. А мо́края лягла́, ду́маю: ну, уш прі^ы'йдзіць – наве́рна, вы́ціріць мяне́ ўжо... Але́ не прі^ышо́ў, саба́ка! Не прі^ышо́ў.

***

Трі хло́пцы ў мяне́, трі хло́пцы. Ўсі́ хло́пцы. Дачу́шак німа́, дак сама́ во пе́таюся і ў зямле́. Хоць ба дачу́шка была́, дык хоць ба пакапа́лася п тро́шку ці памы́ла, як той сказа́ў, ды пасьціра́ла п што-ніб́удзь ба, а так усё сама́ – адні́ ў мяне́ хло́пцы, хло́пцы. Два халасцякі́, са́мы мла́чшы жані́ўся, жані́ўся у Расіі, ужэ́ і дачу́шка ўжо́ ў яго́, во бу́дзіць ужо́, наве́рна, паўго́дзіка, да – Ан*ю*тка. Во як. А е́тыя – ў нас ніко́га маладзёжы тут паблі́зісьці німа́. А рабо́таюць! Э́тат ціля́т па́сьвіць – усё ту́та пе́тайся-пе́тайся ў е́там калхо́зі. Кап куды́ праеха́ў ці што-ніб́удзь яко́я, дык ба ужо́ можа б і дзяфча́ты малады́я ж уся́кія ёсьці. А е́та ту́та ў нас ніко́га ж німа́, вы ж ба́чыце, што ту́та. То яшчэ́ на Ўспо́ллі, дык та́ма наро́ду мно́га, мно́га наро́ду, а ту́та ж во трі чалаве́кі, трі кале́кі, я ж гаварю́^у, што німа́ наро́ду ў нас.

Трі хрі́шчаныя ў мяне́. А как жа! Ма́леньках! Ма́ленечках! Да́жа такі́я былі́ ма́ленькія, па паўго́дзіка былі́, яшчэ́ пуўзункі́ прарі^ыза́лі, каб ужо́ не разьдзіва́лі іх у цэ́ркві – ба́цюшка ўсё гаварі^ы'ў: «Ні разьдзіва́йця. А то халаднаві́та – э́та рібёначак. Каб ужо ні хало́днінька было́». Дык пуўзункі́, дзе но́жачкі, дык пуўзуно́чкі прарі^ыза́лі – ма́заць но́шкі на́да бу́дзе ім. А как жа! Трі хрі́шчаныя ў мяне́. Мы ўсе хрі́шчаныя – ма́ма нас ўсех хрісьці́ла. У нас ду́жа мно́га дзяце́й, дык ду́жа э́та са́мая... Кане́шне, э́та радзі́целі далжны́, э́та радзі́целі далжны́, кане́шне. А як жа? Прі́ехалі damо́й, ўсё спра́вілася, ўсё падзе́лала, усё, лю́дзей сазва́ла – кумаў́я, усе́ э́та, усе́ ш. А как жа? Усё было́, как пало́жана. Мы ўсе і у ма́мы крі́^ышчаныя. І кре́зьбіны ўсё дзе́лалі е́тыя, усё э́та, ўсё на сьве́ці. І па́пка нам усе́м дзе́лаў, дзе́лаў дзіця́м, і я – усе́м. А як жа? Во кре́зьбіны. Дапу́сьцім, пакрі^ысьці́лі рібёначка – кре́зьбіны, ну, гуля́ім, дапу́сьцім, ну, назна́чылі на васкре^эсе́ньне ўжо. Як пріі́жжа́юць іс цэ́рьквы, само́ сабо́й зьдзе́лаім сто́лік: там кумаў́я, усе́ сва́е – і сабіра́ім э́ты стол. А тады́ ўжо ждзём, дапу́сьцім, чэраз нядзе́льку, штоп сабра́цца – на́да ж загато́віць ўсё, праду́кты, ўсё, дзе які́я, там усё. Ну, дапу́сьцім, у васкре^эсе́ньня. Ну, дапу́сьцім, вот ка́шу: ба́пка, ужо́ ба́пка – бяру́ ба́бу, дапу́сьцім (цяпе́р жа ража́юць усё ў бальні́цы, э́та ра́ньшы дак на даму́ ба́пкі былі́, а січа́с жа усё ў бальні́цы), – ну, дапу́сьцім, у васкре^эсе́ньня ба́пка ва́рі^ыць кашу́ у такі́м у глі́ня́ным у гаршо́чку такі́м ніба́льшэ́нькім. Садзі́мся, гуля́ім, выпіва́юць лю́дзі, яду́ць, гамо́нюць, сьмяю́цца, пяю́ць, ўсё дзе́лаюць тады́. Ну, а тады́, як ка́шу ўжэ на́да біць, зна́чыць, э́тага рібёначка бяру́ць (дапу́сьцім, майго́ сы́на), ну, рібёначка бяру́ць і во так во – ба́пка ўжо с ка́шаю так сталі́ць, а ўжо кума́ із э́тым с сваі́м ужо́, с кре́сьнікам ужо́ на рука́х э́так, дапу́сьцім, ма́мка хро́сная ўжэ рібёначка, крі^ычы́ць:

– Маё вы́шэй!

А йна крі^ычы́ць, ба́пка, ужо́ сталі́ць і с сваі́м гаршко́м ска́ча, крі^ычы́ць:

– Нет, маё вы́шэй!

А йна паткі́дываіць е́тага рібёначка ўжо, кума́, ма́тка хрёсная:

– Нет, маё вы́шэй!

А йна:

– Нет, маё вы́шэй!

І на тре́^эці раз ужэ́ кума́ крі^ычы́ць:

– Фсё равно́ маё вы́шэй!

А йна [бабка] – бах ап стол ка́шу! Гаво́рі^ыць:

– Маё!

І тут э́ту ка́шу ўсе ку́шаюць, сьмяю́цца, ку́шаюць: ці сла́тка, ой, яка́я сма́шная! Пря́ма по́ўна ха́та людзе́й ля сталу́ – і ўсе ку́шаюць ка́шу.

– Ну і как?

– Ба́пка ма́ла зварі́$^{ы}$ла, ба́пка ма́ла зварі́$^{ы}$ла!

– Дава́йця жа тапі́ць печ – яшчэ́ зварю́ вам тако́й!

Сьмяю́цца, рыго́чуць. О́чэнь красі́ва, о́чэнь красі́ва. Во так вот, во так. Я бра́ла і кумо́ў, і ку́мачку. Адна́ ку́мачка во уту́та у За́балацьці бы́ла – бе́дная, памёрла. Аднаго́ хло́пца. А другу́ю куму́ бра́ла – іна́ сама́ іс, вы, мо́жа, ні зна́іця, Бязво́дзічы, во ту́та, за Шы́йкамі, Бязво́дзічы дзярэ́ўня, ря́дам, тут нідалёчка, бра́ла атсю́да. Дык яны́ вы́іхалі ву́на у Літву́. І бра́ла – тут ён, са́ма, украі́ніц, бра́ла яго́ за ку́ма. Дык ён – трах ды на е́тай куме́ маёй жані́ўся і зьвёз яё, і пае́халі ў Літву́, зье́халі. С адно́й ха́ты [кум і кума] – у нас тако́га ні было́, ні было́, ні было́. Во, дапу́сьцім, е́сьлі, дапу́сьцім, мая́ сістра́ дзе́-то жыве́ць, дапу́сьцім, дык, дапу́сьцім, мо́жна ўзяць, мо́жна ўзяць. Дзе́-то жыве́ць – ну, ніха́й, дапу́сьцім, Крі́чяў во́зьмем, ў Крі́чяве жыве́ць – во так во мо́жна брацькь. А так, с адно́й ха́ты – я ні зна́ю, я тако́я ня чу́ла. Мо́жа і бяру́ць хто дзе. Цяпе́ря ўжо ні зна́юць лю́дзі так, дык, можа, і бяру́ць. Ну, я ні зна́ю, ня по́мню, ужо пражыла́ то́жа і я тако́га ня по́мню, штоп с адно́й ха́ты, я ні зна́ю.

***

Ой! Ня го не?! Ой, ды сві́ньні былі – во! І каро́вы, і ко́ні былі́, ўсё, і ку́ры – а ўсё было́, каро́ўкі і ўсё было́. Былі́ ўсе: і ціля́ткі былі́, ўсё было́. А ма́мачкі! Ні паесьць, ні папі́ць было́, як яно́ ўступа́лі [у калгас]! Го́спадзі! Што тады́ по́сьле вайны́, як па́па прі$^{ы}$шо́ў с вайны́, што было́?! Ўсё разьбі́тая, дзе яка́я зярні́нка... Рабо́талі на па́лкі, на па́лкі рабо́талі (а как на па́лкі сказа́ць – трудадзе́нь), я сама́ яшчэ́ хадзі́ла. Іду́ на рабо́ту, ай, іду́ на рабо́ту, шко́льніца ж была́, а ле́там жэ ш што ж – гуля́іш, а е́сьці-то хо́чацца. Хоць дадуць, мо́жа, яко́га зерна́, дык хоць ба по́сьле вайны́ зье́сьці. Дай Бох. За што хадзі́лі, за што хадзі́лі? Што е́лі?

***

Ну, як сва́дзьба была́? Сва́дзьба... Харашо́ гуля́ць сва́дзьбу: сядзе́ць у вянку́ за сталом... Чаму́ не? Красіве́й усе́х была́, ну, і відне́й усе́х была́. Красі́вае купля́лі мне пла́цьце. Красі́вае, красі́вае пла́цьце было́. І вяно́к такі́ – не такі́, як дык цяпе́рь, я паляжу́ во – як фата́, ну, як ра́ньшэ, мы называ́лі 'фата́', ну, фата́ была́. Дык яна́ ш красі́ва, пы́шна – ой, ну красі́вая! А цяпе́рь жа тро́шку накі́нуць на маку́шку – і ўсё. Усё было́, усё было́. Гуля́ць сва́дзьбу – вы ж усе́, наве́рна, за́мужам. Мо́жа, шчэ не, яшчэ́ дзе́вачкі? Жані́х быў красі́вы – гля́ньця, чаму́ не?! І сама́ краса́віца была́. А лю́дзі гуля́лі, выпіва́лі, гуля́лі, е́лі, танцава́лі. Карава́й дзялі́лі і грызлі́. Ой, уся́к было, уся́к было́. Ну, а лю́дзі: тро́шка і вы́піць, і сьмія́ліся, і грызлі́ хто – ну, на́да было́ сьме́ху надзе́лаць ўся́кага ра́знага. Красі́ва было́. Ну, сва́дзьба ёсьць сва́дзьба, сва́дзьба ёсьць сва́дзьба.

***

А ма́мачкі! А Купа́лу е́тага ту́та, ту́та як надзе́лаюць дзяло́ў, дак ну іх к чо́рту! О, як надзе́лаюць – чо́рта два! І ране́й так было́. Ма́мачкі! Мне рас прі$^{ы}$шло́ся, што па́лку – берьвяно́ тако́е – паста́вілі у дзьве́рі, патпёрлі. Ну як, яны́ паста́вілі, штоб аткры́лась дзьве́рі, а я ж ні зна́ла, ду́маю: «Го́спадзі, што э́та тако́я патпёрта? Патпёрлі – наве́рна, кане́ц, ня вы́лізу, калі́ хош прі$^{ы}$дзёцца сьцякло́ біць, у вакно́ ды выла́зіць». А е́та – с усяго́ ма́ху! Ну, ду́маю: «Ну што-та патпёрта, ня мо́жа жа быць, штоб я ня вы́лізла с ха́ты, е́та мо́жа так во што-ні́будзь насу́пілі, каб я ня вы́лізла». А я – с усяго́ ма́ху! Ла́дна, а там бервяно́, ды тако́я бервяно́ таўсцю́чая – чуць мне не ў ліцо́! Е́сьлі б у ліцо́... Э́та ла́дна, як Бог даў, што падві́нулася яно́ ў другу́ю сто́рану, а кап сю́ды, як дзьве́рі аткрыва́юцца – так бы мне і па ліцу́, берьвяно́м ба е́тым ба. Во як. Удзе́лаюць дык чаго́ то́ка ня ўдзе́лаюць! Во загарадзі́лі, во́на ніда́лёка, во загарадзі́лі, пазагарадзі́лі ўсё ш, і сталбы́ пазакапа́лі, та сталбо́ў, наве́рна, дзе́сяць пазакапа́лі. Наўтра пашлі́ – ўсе сталбы́ ліжа́ць. Ну, ці чу́лі чу́да, ну?! Такі́ ўред зьдзе́лаць, ну! Га́ды. Да ніха́й бы ўжо адзі́н вы́рвалі, а то ж э́так дзе́сяць – і ўсе ліжа́ць, павы́рваныя ліжа́ць. Тако́я твяра́ць – дак ужо́ ну іх к чо́рту! Ўрет такі́ дзе́лаць нільзя́, э́та ж ні дай Бох!

***

Жыды́, ну яўрэ́і е́ты, дык яны́ ёсьці. Жыву́ць, чаму́ не. А такі́х [літоўцаў, палякаў. – *В. А.*], я ні зна́ю пра такі́х. Я сама́ чыстакро́ўная правасла́ўная. У Хо́дасах, у Хо́дасах у нас цэ́ркаў, яе́ ні было́ ра́ньшы, а тады́ аткры́лі ў нас цэ́ркву, ужо у Хо́дасах – так у Хо́дасах цэ́ркаў. Манастырёў ту́та ні было́, манастырёў. Ту́та ні было́ нідзе́. Я ні зна́ю – Пя́чкаві́чы атку́да яна́ [назва. – *В. А.*] пашла́. Я е́та ні зна́ю. Назва́лі Пя́чкавічы – і ўсё. А атку́да ана́ пашла́ – я ні зна́ю, я е́тага ні зна́ю.

Калхо́з быў. Не, жаць я ні жа́ла, ні жа́ла я – я бая́лася се́рпа: як браць, я бая́лася, каб ні паре́зацца. Я ні хадзі́ла жаць. Сірпа́мі? Ды ня го не?! У мяне́ ўжо трі шту́кі вісяць. Ня го не?!

***

Сыр-тваро́к? Е́та мы ня дзе́лалі. Не́йкія ў нас хло́пцы ду́жа яго́ ні любі́лі, дак і ня дзе́лалі. Ну, тваро́к дзе́лалі, а як жа! Ну, ма́ма сы́рой то́жа, ду́жа яна́ і ня е́ла тако́ва. Не́як малачко́ кіпячо́ная, суп мало́чны – во яна́ ужо́ бясі́лась па е́таму. Во ссы́пець сабе́ літро́вую кру́шку малака́ – о, яна́ ужо́ і нае́лася. Яна́ ду́жа э́тага ні любі́ла. Ну, тво́рагу так во са сьміта́най, дык і зье́сьці, а так э́та во... Я і січа́с сваі́м хло́пцам калі́ і куплю...

Ну, я́йцы: і с маінэ́зам я́йцы, то яі́шніцу, то то́е, то то́е, то у бліны́ я́йцы даба́віш, то у бу́лку даба́віш, – ну, як хто любі́ў, ну. Хто ў шча́вель – мы ж у дзяре́<sup>э</sup>ўні лю́бім шча́вель, у шча́вель калі́ я́йцы, у шча́вель на́да – ну, візьдзе́, ну, што заду́маіш, то і зьдзе́лаіш, ну, што каму́ панра́віцца. А з мукі́? А ма́мачкі! І блінцы́, і ўся́кія каржы́ такі́я, як ра́ньшы называ́лі іх – ну, на скаваро́тку такі́я то́ўстыя, ну, каржы́, як мы ўсё называ́лі ў дзяре́<sup>э</sup>ўні, ко́ржык: «Ма́ма, сьпячы́ ко́ржык». Ко́ржык, дык яна́ такі́ то́ўсты учы́ніць яго́, ён падні́міцца – харо́шы, ко́ржык, і пяклі́. Ну, ўсяк, бліны́, усё з мукі́, што, усё што. Куле́ш зна́ю. Ой, ма́мачкі! Ну во, вада́ закіпе́ла, дапу́сьцім, у пе́чкі у таплёнай, шчас во ваду́ пуўчугуно́чка налі́ць там, пуўчугуно́чка, яна́ закіпі́ць, там со́лькі даба́ўлю туды́, закіпі́ць яна́, шчас там во бяру́ кастру́льку яку́ю, разбаўта́ю яе́ – на вадзе́ хало́днай, а тады́ сюды́ даба́ўлю, перекіпі́ць, перева́ріцца, зажа́рьваю туды́ што хачу́: хачу́ ма́сла накладу́, хачу́ са́ла нажа́рю – туды́ накладу́, – любо́я, што ў каго́ ёсьць, ну.

А як жа! А вы ня ўме́іце [каўбасу свойскую рабіць. – *В. А.*]?! Уме́іце ўсё! О-о-о, пра́ма ня ўме́іце! О-о-о, сво́йская яка́я ўку́сная! О, я забі́ла про́шлы гот [кабанчыка. – *В. А.*], дык во – вісе́лі, во на е́тай па́лачкі да́жа, калба́сы. Сыма́ надзе́лала, дзе́лаю сыма́. Ой, яна́ ўку́сная ду́жа, сва́я. Што вы! Е́та я называ́ю, магазі́нную, э́та ва́та, э́та ні калбаса́ – э́та ва́та. А сваю́ зьдзе́лаіш – ўкусьня́ціна! О, ўкусьня́ціна! Дык во вісе́лі на е́тай па́лачкі калба́сы мае́ – про́шлы гот бі́ла. Сёлета то́жа па во́сені бу́ду біць – на́да надзе́лаць. А во, бяру́ шчас, дапу́сьцім, накручу́ на машы́нку – чапля́ю на стол, сюды́, тако́я вядро́ харо́шая (там, дапу́сьцім, у мяне́ стаі́ць пусу́дзіна – ва́нна харо́шая, стаі́ць там), шчас вядро́ сюда́, за стол цапля́ю е́ту машы́ну, сюды́ – шчас сюды́. Мя́са, мя́са накручу́-накручу́-накручу́ – вядро́ мя́са. Накручу́ во́пшчам. Са́ла – то́жа, по́лвідра́ накру́чываю туды́, у ва́нну. А тады́ прыпраўля́ю, на́нач, на́нач прыпраўля́ю: туды́ і пе́рцу, туды́ усяго́ на сьве́ці, часначку́ – ну, ўсю прыпра́ву, яка́я у мяне́ ёсьці, ду́жа харо́шую прыпра́ву, ну, ўсю. Яка́я ў магазі́ні, така́я і ў мяне́ ёсьць. І да́жа яшчэ́ і пятру́шку сваю́ се́ю. Да. І ўсё туда́. І ноч пастаі́ць, ноч пастаі́ць. Тады́ бяру́ што – бяру́ машы́нку апя́ць чапля́ю, на е́та надзяю́ – така́я у мяне́ ёсьць тру́бачка жале́зьнінькая, у машы́нку, во сюды́, атку́да ідзе́ць мя́са э́та, цапля́ю тру́бачку ту́ю, а на тру́бачку кішку́ надзе́ну, кішку́. Дапу́сьцім там, ці мужы́к, ці сын дзяржы́ць за э́ту кі́шачку, папраўля́іць мне, тама, як я набіва́ю, а я па́льцам – пі́ханая. Як ка́жуць, па́льцам пі́ханая. Во так наб'ю-наб'ю-наб'ю-наб'ю туды́, туды́, а ён там папраўля́іць ужо́ мне, а ззадзі стаі́ць – там ужо́ глядзі́ць, каб яна́ ро́ўнінькая йшла, каб яна́ ўжо, калба́ска. За час я дзе́лаю два́ццаць кале́ц, ве́шаю – ўсё, вісі́ць калбаса́, гато́ва. А ма́мачкі! О-ёй-ёй, і мя́са сьве́жая бу́дзіць, і то́е, і э́тае. Ці то калбасу́ адну́ бу́дзіш е́сьці! С ахо́ткі тако́й зьясі́. А так жа: і то́я ёсьць, і то́я ёсьць – усё ёсьць, о Го́спадзі, ну, усё ёсьць. Сла́ва Бо́гу!

***

Дзяржа́ла я кралéй дужа́ мно́га. Падыха́юць – така́я здыхата́, стра́шная дзе́ла! Дык во адна́ кральчы́ха аста́лася. Падыха́юць ду́жа. Яны́ ду́жа кво́лыя ці бале́зьня мо́жа яка́я хо́дзіць.

У сасе́дзей то́жа спра́шывала – гаво́рыць: «У мяне́ то́жа чаты́рнаццаць штук пагі́бла,» – гаво́рыць. «Ай, ды бальшы́я,» – гаво́рыць. На́да зьве́сца зь іх – і к чо́рту ма́церы іх! На чо́рта яны́ мне! Пра́ўда, адна́ аста́лася, така́я бе́лінькая, дык я яе́ жале́ю. Ка́жа, а мо́жа ўзяць дык ей яшчэ́. Не́шта упако́юсь тро́ху – растро́ілася, што падыха́юць. Ні лю́блю, што гаду́ю-гаду́ю – а яны́ падыха́юць. Жа́лка. Ну дык, і друзья́ былі́, і падру́гі былі́ [у трусіхі. – *В. А.*] – і ўсё адно́. Ві́дзіма, бале́зьня яка́я. Ну, а свіньне́й дзяржу́, свіньне́й дзяржу́. Во бу́ду біць па во́сені – бальша́я ёсьць, і мала́я ёсьць. Хачу́ шчэ́ во – мо́жа пазьне́й тро́шку куплю́. Ой, ку́рачкі, э́ты са́мый – усё я́стреп пае́ў! Не́як узялі́ся рваць і на куре́й, на пітухо́ў – на ўсё. Во лес, зялёныя э́тыя, як яны́ – я́стребы, во, такі́я бальшы́я пці́цы лётаюць, зялёныя, усё пе́рьечко зялёная. Я́стребы ўсех перавалілі, перабі́лі – і малады́х, і ста́рых, ўсех. Дык во і лю́дзі мне гаво́рац: «Га́ля, ні валну́йся, ні адна́». Ну, е́та харашо́ – хоць мяне́ ні адну́ яны́ абі́дзілі, хоць і ў вас тро́ху ўкраду́ць [смяецца. – *В. А.*], а то мне абі́дна: у вас ёсьць, а ў мяне́ ўжо пае́лі. Гаво́рац: «Не гаварі́ ты! Перабра́лі ўсех нам!» Во які́я га́ды! Э́та пці́ца дужа́ ўре́дная – я́стреп, во.

Пры́хо́дзяць во́жыкі, по́ўзаюць, по́ўзаюць. Другі́ раз вы́йду, дык по́ўзаюць пря́ма па траве́. Я гавару́: «Гля́ньце, во́жык, во́жык!» Той мой хло́пец раз дак прынасі́ў да́жа у ха́ту. Я гавару́: «Вы́кінь ты яго́, а то но́ччу яшчэ́ мо́жа успо́ўсьць куды́-ні́бу́ць». А ён жа калю́чы! Во́зьміць укру́ціць во так – і нясе́ць. Я гавару́: «Ідзі́ ты к чо́рту! Ніха́й пабе́гаіць, ды выкіда́й – ну яго́ к чо́рту. А то яшчэ́ ўспаўзе́ць – дык но́ччу прако́лісься». А ён жа мо́жа по́ўзаіць, я ж ні зна́ю, мо́жыць і на крава́ць куды́ запо́ўсьці. Ага́!

Ліс ба́чыла. Пря́ма к ха́ці падбіга́юць. То́ка яны́ баяцца людзе́й ду́жа: як во лю́дзі, яны́ чу́юць здалека́, так тады́ – кр-р-руць – і фціка́ць, туды́ – у лес, во. Ліс ба́чыла ско́ка мно́га! О-о-о, лі́сы бе́гаюць і ўсе бе́гаюць. І бе́лкі бе́гаюць. О, во пайдзі́-ка ў лес – ско́ка іх, на ёлкі́ то́ка сідзя́ць. Бе́лка, бе́лка, да. Ну, у нас, як мы ка́жам, ужо́ другі́ чалаве́к, ста́ры, гаво́рыць «вавёрачка», вавёрачка, да, вавёрачка. І я другі́ рас ска́жу то «вавёрачка», то «бе́лка», ну. Вавёрачка: вон ужо́ сядзі́ць вявёрачка – шы́шачку грызе́ць. Ёсьць, чаму́ німа́.

***

Ну, як каро́ў купля́юць, хто яго зна́іць, мо́жа ка́жды па-ра́знаму. Я дак так зна́ю: што, гаво́рыць, у каго́ длі́нны хвост, у каро́вы, ну длі́нны (у друго́й жа каро́вы ёсьць хво́сьцік каро́ткі, то такі́ во), ну, гаво́рыць, і штоб булдо́вачка была́ на хво́сьціку на канцы́ – ну, така́я во пло́ская, булдо́вачка, булдо́вачка – ну, ко́стачка така́я, ну, як сказа́ць. І, зна́чыць, гаво́рыць, длі́нны штоб быў хвост. Гаво́рыць – э́та мало́шная каро́ва, э́та мало́шная каро́ва. Ну, так гавары́т. Ну, мо́жа ка́жды па-сво́іму, ну, хто зна́іт, ну, мы так.

Саба́ка ёсьці – Ша́рык. І ёсьць ко́цік – ко́шачка ёсьць, Ка́ця. Іна́ то́ка радзі́ла дзяцэ́й, чатыро́х штук. Уро́длівая, а-я яка́я! Да чятыро́х штук! Во ты скажы́! А ло́віць! Як во ў ха́ці, дык як во зімо́ю мы́шы – січа́с дык яны́ пачці́ ўсе у паля́х, мы́шы, а як цяпе́ря, дык яны́, э́та са́мая, пашлі́ у по́ля, а зімо́ю у ха́ці), дык ло́віць. Во да́жа сьпіш, дык слу́шаіш – прышка́мі пры́гаіць. Ло́віць, харо́шая ко́шачка, харо́шая ко́шачка. А ўжо ў гада́х, у гада́х, ну, але́ яшчэ́ радзі́ла во. А ры́жынькая така́я, і се́рінькія пя́тнышкі, і ры́жынькія, така́я во ко́шачка.

***

Не, я́гад німа́, а гры́бо́ў хвата́іць уся́кіх: і падасі́навікі, і аба́бачкі, і ўся́кія, бъравікі́, ну ўся́кія, рядо́ўкі, уся́кія ёсьць, апе́нкі, во, гавару́шачкі, уся́кія ёсьць. Мы ўжо у е́тым гаду́ дык і бъравічо́к ужо́ нашлі́, і падасі́навічык. Ужо́ і грібо́ў гавару́шачак пае́лі, сьве́жаньках – с су́пам. Яны́ на пнях расту́ць, мо́гут да́жа, як вот вясе́ннія, яны́ і пракі́дываюцца да́жа і па зямле́. Ну, такі́я вот, во такі́я кру́глінькія, е́сьлі старе́йшыя, дык яны́ і бо́льшынькія мо́гуць быць – во такі́я во, такі́я жо́ўцінькія і ў сярёдачку сьве́там такі́м во пакры́та, у сярёдачку, а сама́ яна́ жо́ўцінькая така́я. На пнях, асо́ба [асабліва. – *В. А.*] – на пнях. Во так па во́сіні мо́гуць яны́ так во пракі́дывацца па зямле́, па лі́сьцю. А так – на пнях асо́ба. Мы ўжо паку́шалі грібо́ў. Пашлі́ не́як, глянь – на суп набра́лі сто́лька харашо́. І аба́бачкаў ужо́ нашлі́, і ўжо су́пу пае́лі. І бъравічо́к ужо́ нашлі́. Гавару́шачкі – у суп, о́чынь бы́стра ва́рыцца, у суп, у суп іх. А рядо́ўкі – гэта́ па во́сені. Рядо́ўкі

ёсьці бе́лыя такі́я – ну, ня бе́лыя сафсе́м, а такі́я як сівава́тыя, сі́вінькія такі́я. Ну, е́сьлі маладзінькія, так ужо́ мо́жэт такі́я быць, а як ужо́ бо́льшэ пасядзі́ць – ён ужо́ бальшэ́й таке́й. Сі́вінькі ёсьць радо́вачка, і ёсьць фіяле́тавая така́я, фіяле́тавая то́жа така́я – яны́ то́ўстыя такі́я, рядо́ўкі, то́ўстыя аны́, як мы называ́ім, мясны́я, мясны́я. Лісі́чкі грібы́ ёсьць, уся́кія ёсьць у нас грібы́, уся́кія ўсе.

***

У шко́лу хадзі́ла. Далёка хадзі́ла. Я ш там хадзі́ла ў шко́лу, дзе жылі́ мы – дзяре́вня Шпа́чьчя, Краснапо́льскі раён. Ды хадзі́ла далёка: туды́ сем кіло́метраў было́ іці́. Во ма́лінькія, як мы хадзі́лі! Набу́ць-паесьць не́чага, а мы хадзі́лі ў шко́лу. А шчас учы́цца ня хо́чуць – на́да кол брацъ да па плiча́х! Во так во – хто ня хо́чыць учы́цца ў шко́ле січа́с. Сем кіло́метраў туды́ ідзём чэ́раз лес у шко́лу. Зімо́й – бу́рі, заве́і, а мы – во такі́я шке́цікі. Ідзём, заме́рзнім, ідзём. Пры́дзем у шко́лу – ля́жым на па́рту і сьпім. Прабу́дзіш, када́ ўжо на́да іці́ дамо́й. А мы сьпім на па́рці, вы́бімся – дзе́ці ш, ма́лыя. Вы́сьпімся на па́ртах. Нас ня тро́гаюць ні учыцiля́… Ну, глянь ты, дзе́ці прішлі́ сем кіло́метраў, наза́д на́да ш сем іці́ – што іх трыво́жыць! То́ка ужо́ запі́шуць учы́цільніцы, прі^ы^дуць – ужо́ када́ канча́юцца уро́кі, дамо́й іці́, прі^ы^дуць: «Дзе́тачкі, во э́та напішы́це упражне́ньня, во е́та пачыта́йце, во е́та во бу́дзіця раска́зываць,» – ўсё тако́е во. І е́ты са́мый, туды́ сем, наза́т сем, вы́сьпімся, ска́жуць нам уро́кі – і ўсё. І так мы і учы́лісь – му́чыліся, а не ўчы́ліся. Я – во́сем [класаў скончыла. – *В. А.*]. А вучы́лася я, дак я вучы́лася, про́ста учы́лася у Гро́дна – год учы́лася [пасля заканчэння школы. – *В. А.*], два рабо́тала, і ўсё. А тады́ ў калхо́с, калхо́с, калхо́с – мы ўсё ў калхо́с.

***

Шпа́ч^ь^’е – чэ́раз мя́нькі знак. Там уся́кіх пту́шак хвата́іць. Мо́жа і ат пту́шак э́та так пашло́ – така́я на́зва Шпа́ч^ь^’е. Шпа́ч^ь^’е – чэ́раз мя́кькі знак. Мо́жа і шпакі́. Дык во да́жа прыляцэ́лі да Со́рак. На́да бы́лі, каб на Со́ркі прыляцэ́лі, а яны́ да Со́рак. Да, на Со́ркі. Э́та Со́ркі – э́та і́хны пра́зьнік, аны́ абіза́цільна далжны́ прыляцэ́ць на іх. А яны́ сёліта – за нядзе́лю і́лі бо́льша да́жа прыляцэ́лі, ра́ньшэ прыляцэ́лі. Жылі́ во на стаўбу́ [буслы. – *В. А.*] – ві́дзіма, ён і йна́, ма́тка з ба́цькай. А цяпе́р чаго́ ім не панра́вілася – ушлі́. Хъзя́йка – во жыла́, цяпе́рь яна́ памёрла, жыла́, дык мо́жа аны́ ушлі́, што ана́ памёрла, дык ужо́ мо́жа абі́дзіліся. А жылі́, на стаўбу́ жылі́, гнязно́ было́, жылі́ яны́ тут, а цяпер німа́. Пту́шак е^э^тых я называ́ю, дапу́сьцім, бу́слы, бу́слы, ну, а як іх называ́юць – я ні зна́ю.

*Н. М. Бунько, Ю. В. Маліцкі*

## ХЛЕБ І ДА ХЛЕБА: НАРОДНЫЯ РЭЦЭПТЫ ТРАДЫЦЫЙНЫХ БЕЛАРУСКІХ СТРАЎ

Кулінарныя стравы і спосабы іх прыгатавання найбольш устойліва і поўна захоўваюць звесткі аб старажытнай матэрыяльнай культуры народа. У традыцыйных народных рэцэптах прыгатавання ежы знайшлі адлюстраванне як спрадвечныя, так і часава зменлівыя рысы жыцця беларусаў, арыгінальныя спосабы вядзення гаспадаркі, адметныя асаблівасці побыту. З даўніх часоў земляробства і жывёлагадоўля з'яўляліся асноўнымі працоўнымі заняткамі беларусаў. Таму не дзіўна, што асноўную ролю ў нацыянальным рацыёне харчавання займаюць хлеб, стравы з мяса, бульбы і малака, а таксама ежа, прыгатаваная з розных відаў гародніны.

У дадзенай падборцы прыведзены народныя рэцэпты беларускіх страў. Яны былі запісаны ў 2005–2008 гг. пад час дыялекталагічных экспедыцый у Браслаўскі, Валожынскі, Ваўкавыскі, Зэльвенскі, Лагойскі і Шчучынскі раёны. Большасць гаворак гэтага рэгіёна прадстаўляе вялікую цікавасць, абумоўленую актыўнымі міжэтнічнымі кантактамі.

Згодна з традыцыйным падзелам гэтыя раёны належаць да паўночна-заходняй зоны беларускіх народных гаворак з выхадам у межы яе перыфірыі на поўнач.

### Хлеб

***Расказвае Станіслава Іосіфаўна Стасюкевіч,*** **1924 г. н.** *(ураджэнка в. Дзякаўцы); запіс зроблены ў г. Шчучыне ў 2008 г.*

Жы́тня мука́, прасе́яно ў сі́тачко. Ло́жым на лапа́ту, сце́лім на лісто́к, а тады́ гэ́ты хлеб закла́дваем і – туда́, шух у пе́чку. На заква́ску трэ́ба бурачо́к це́рці, цібу́льку це́рці. Дабавіць вадзі́чкі, мукі́. І пато́м ужэ́ з гэ́тай заква́скі – хлеб. А хлеб пу́льхны, фа́йны!

***Расказвае Алімпіяда Фёдараўна Стасяловіч,*** **1942 г. н.**; *запіс зроблены ў в. Вішнева Валожынскага р-на ў 2005 г.*

У ха́ця не́калі хлеп пяклі́. Хлеб гэ́ты як сьпячэ́ш, а тады́ зава́рыш мукі́ жы́тняй і паста́віш на пры́печку. Хлеб пастаяў у дзяжы́, падышоў. На ра́ніцы шчэ падме́сіш тро́хі – не́калі бы́лі лапа́ты такі́я, дзерaвя́нныя. Ма́ма застаўля́ла, по́йдзем з бра́там, кляно́вых лісто́ў або я́веру нанясе́м, насу́шым, нані́заем на дро́цікі, кругом паве́шаем, тады́ ўжо зімо́й ма́ма сце́ле на лапа́ту – і гэ́нак пяклі́ гэ́ты хлеп.

***Расказвае Лідзія Паўлаўна Качура, 1929 г. н.***; *запіс зроблены ў в. Лагаза Лагойскага р-на ў 2008 г.*

Хлеб са́мі пяклі́. Ма́ці во́зьме не́скалькі бу́льбін, здзярэ́ на цёрку і ско́ка-нібу́дзь ло́жак усы́пя мукі́, вады́ дабаўля́е. Ста́вя на печ, каб пракі́сла. А пато́м дабаўля́е мукі́ бо́льшэ, ужо́ карто́шкі ні дзярэ́, бо э́та каб закісьле́ньне бы́ла. Гэ́тага це́ста ма́ці пасадзі́ла на лапа́ту і́лі дубо́вы ліст лажы́ла, і́лі хрэн. Хрэн – бальшы́я лі́сьця бы́лі. І це́ста пало́жа, рука́мі абдзе́лае, на лапату – і ў печ. А печ – по́ўнасьцю вы́гарнуць жар, а там вы́міцюць і хлеб кі́даюць. А часо́ў жа ні было́. Ма́ма стака́н вады́ паста́вя на печ і це́ста мале́ньку качу́лачку скры́ша, скру́ця – і ў гэ́ту ваду́. Це́ста апа́ла на ніз, па крупе́ньке падыма́ецца. Усё ўзні́мецца на ваду́ – хлеп сьпёкся. Як печ бальша́я, тры сра́зу пасо́дзіш. На надзе́лю хвата́ла.

### Саладуха
#### *(страва з запаранага квашанага цеста, разведзенага вадой)*

***Расказвае Алімпіяда Фёдараўна Стасяловіч,*** *1942 г. н.; запіс зроблены ў в. Вішнева Валожынскага р-на ў 2005 г.*

Саладу́ха – ва́дкая стра́ва, як квас, жаўтава́тая така́я. Не ве́даю, чаму́ яе́ саладу́хай называ́лі. Як зва́рыць у пе́чы, накры́е скрывадо́й ма́ма, дык яна́, як ста́не па́рыцца ў пе́чы. Тады́ такі́я прыга́ркі ў той скрывадзе́ уку́сныя былі́. Саладу́ху е́лі ў пост не́калі.

***Расказвае Феліцыя Гіляраўна Капуцкая,*** *1940 г. н.; запіс зроблены ў в. Дзегцяры Браслаўскага р-на ў 2007 г.*

Раўге́ню (сладуху) ро́біла. Тро́хі мукі́чкі, тады́ чуць кіпятку́. Бу́льбачку лажы́ла на заква́ску. Пастаі́ць. Тады́ – засаладжа́ць. І на́да паста́віць тушы́ць у духо́ўку. А тады́ ўкі́дваеш ко́рачку хле́ба... Сяво́дня рашчы́ніш, а пяке́ш за́ўтра. А цяпе́рака прывы́клі, во пашо́ў набра́ў усякай хале́ры... Такі́я лапа́ты бы́лі дзерaвя́нныя. Тады́ кляно́вых лісткоў нало́жыш. Пе́рвы дзень стаі́ць, а тады́ наза́ўтра начне́ падыма́цца. Печ як вы́тапіцца, вугалькі́ рассу́неш і – туды́.

### Бонды
#### *(печыва з хлебнага кіслага ці прэснага цеста з дамешкай (ці без) бульбы)*

***Расказвае Часлава Людвікаўна Граздзей, 1930 г. н.***; *ураджэнка в. Кандакі Зэльвенскага р-на; запіс зроблены ў г. п. Зэльва ў 2008 г.*

Ма́ці бо́нды пякла́. Надзярэ́м карто́шкі і – на капу́сны ліст. Уво́сень загата́ўлівалі той ліст, сушы́лі, зрэ́жам ча́сьць, като́ра то́ўста. Тады́ ма́ці вы́міце печ і це́ста ло́жыць пра́ма на той ліст.

А ў бо́нды што йшчэ́ дабаўля́лі? Калі́ мука́ есьць, то мукі́ падсы́плюць. Муку́ як рабі́лі: абдзіра́лі ўперш шалуху́ (як куцця́, пярло́ўка) і гэ́даку муку́ сы́палі ў бо́нды, ячме́нная. Бо пшані́чная дарагáя быля́. А гэ́та – прасты́ памо́л. Дзі$^{а}$шэ́ўлі палуча́лася. А калі́ мукі́ няма́ ш, то яшчэ́ нава́раць карто́шкі і ва́ранай карто́шкі ў цёртую накладу́ць. Яна́ запячэ́цца, кра́сьненька сьве́рху така́я. А той ліст по́тым адзьдзіра́ецца-аднімáецца во́чынь харашо́. Наса́дзіць ма́ці ты́е бо́нды на лапа́ту драўля́ную. Мя́хка са́ла было́ не́калі, рэ́жуць са́ла на кусо́чкі, склада́юць у чыгуно́к. Па́хла на ўсю ха́ту. У бо́нды ніч́óга ні дабаўля́лі: соль, це́ста, карто́шка – і ўсё. Адно́ тым са́лам сьве́рху вы́мажуць. Гэ́та ўжэ по́сна, като́ра не ма́жыцца. Але́ і ўку́сныя бо́нды ты́я былі́. Э́тыя бо́нды запо́мніліся мне на ўсю жызьнь. Ці$^{а}$пе́р ста́лі на бля́хах пякчы́. Э́та ўжэ́ называ́юць ба́бкі.

***Расказвае Алімпіяда Фёдараўна Стасяловіч, 1942 г. н.****; запіс зроблены ў в. Вішнева Валожынскага р-на ў 2005 г.*

С пытлява́най мукі́ ўсё бо́нды пяклі́: бу́льбу запа́равалі, тады́ муко́й яе́, ста́вяць на́нач і кі́сьне. Раўну́йце, як сі́тні хлеп цяпе́рака ёсьць, прасты́ і сі́тні. Вот такі́я бо́нды палуча́ліся. На нядзе́лю напяка́лі. Мясі́лі це́ста ў дзяжы́. Са́мі і дзяжу́ рабі́лі, усё бальшынство́ за дубо́вай дзе́шкай гна́ліся.

## Ламансы
## *(печыва з мукі на вадзе з дабаўленнем мёду і маку)*

***Расказвае Часлава Людвікаўна Граздзей, 1930 г. н.****; ураджэнка в. Кандакі Зэльвенскага р-на; запіс зроблены ў г. п. Зэльва ў 2008 г.*

Ламáнсы – э́та такі́ то́неныкі блін, пячэ́цца з мукі і вады́. Це́ста – як макаро́ны ў сяле́ рабі́лі. Сыпячэ́цца той блін, без ніч́óга, по́сны. Тады́ ло́міцца на кусо́чкі, кладзецца ў міску. Не́калі былі́ мі́скі чо́рные, гліня́ные, бальшы́е. І паліва́ецца сало́ткім ма́кам. Расо́л на лама́нсы рабі́лі так: мак ме́ліцца мя́лачкай (не́калі се́ялі мно́го ма́ку сваго́, э́то цяпе́р ужэ́ ка́жуць нарко́цікі), у мак – са́хар, ваду́ кіпячо́ную падліва́лі.

## Тварог

***Расказвае Валянціна Яўгеньеўна Лапцёнак, 1935 г. н.****; запіс зроблены ў в. Драгічаны Ваўкавыскага р-на ў 2008 г.*

На тваро́г – кі́сьне малако́. Ста́ўлю на плíту́, як у нас там, пе́чка. Яна́ то́піцца. Такі́ кліно́чак – на касу́ю, льняно́е, каб яно́ прахо́дзіла. Вазьму́ вы́лью туда́, прыжму́ каме́ньчыкам які́м, чы́сьценькім. А зімо́ю – лю́бяць усе́ – вазьму́ твараж́óк е́ты ў маразі́лку, у цалафа́навы мяшо́чак. Ён там бу́дзе ляжа́ць. Яны́ прые́дуць і ку́шаюць. На́тта ім уку́сно.

***Расказвае Раіса Іосіфаўна Зарурская, 1938 г. н.****; запіс зроблены ў в. Драгічаны Ваўкавыскага р-на ў 2008 г.*

Тваро́х на́да дзе́лаць так. Як кі́снецца гэ́та малако́, акі́сьнецца, по́тым ста́віцца дзе-някбу́дзь у цяпло́. Цадзі́лку бярэ́ш, што малако́ працэ́джваць, ма́рлю мо́жна. Э́ту цадзі́лку бяру́т, прыда́вят і ве́шают пака́ ні сьцячэ́ ўсё. А там – пажа́луста, сыр дзе́лай, тваро́г.

## Грыбы

***Расказвае Часлава Людвікаўна Граздзей, 1930 г. н.****; ураджэнка в. Кандакі Зэльвенскага р-на; запіс зроблены ў г. п. Зэльва ў 2008 г.*

Храшчы́ ў нас салі́лі. Абва́рвалі іх, перш выма́чвалі, со́лі сы́палі. Заты́м яны́ стая́лі. І стая́лі до́ўга, патаму́ шта ў іх со́лі мно́га было́. І тады́ як патрабля́ць, іх то́жэ выма́чвалі. Выма́чвалі і выва́рвалі йшчэ. Э́то на куцьцю́ і на Ко́ляды. Мачы́лі, і сто́лькі до́ўга мачы́лі, каб вы́мачыць, а по́сьлі йшчэ пракіпяця́цца. Ліст з хрэ́на кла́лі, і йшчэ там зе́льля кла́лі. Ліст ві́шні – на агурцы́ кла́лі. Агурцы́-то ж не́калі не рабі́лі ба́начкамі. А бо́чка была́ ві$^{а}$лі́зарная. Дубо́выя ўсё стара́ліся.

### Гарэлка

***Расказвае Часлава Людвікаўна Граздзей, 1930 г. н.***; *ураджэнка в. Кандакі Зэльвенскага р-на; запіс зроблены ў г. п. Зэльва ў 2008 г.*

Ба́ба ўсё ўме́е. І самаго́нку гнаць уме́е. Баха́нка хле́ба, са́хару на біто́н дзе́вяць кілагра́м, кілагра́м дражджэ́й – і бо́ўтаецца. Як вы́стаіцца до́бро, дык тады́ до́бра самаго́нка. Зь нядзе́ль чаты́ры стаі́ць, калі́ не бо́лей. Як забуду́сё, дык йшчэ стаі́ць. Вады́ падліва́ю, каб не ўцяка́ла. Падыма́ецца. Тады́ вы́жану – і ўсё. Вы́варка, абыкнаве́нна жысьця́ная, біто́н, што до́яць каравы́, тру́бачка прахо́дзіць. Накладу́ туды́ бі́нту, ва́ты – у ле́ічку. Ка́пае чэ́раз э́тыя ўсе мае́ фі́льтры. Як зь біто́на – укі́ну дзе́віªць кілагра́м са́хару, – то вы́йдзе сем лі́траў і бо́лей. На шэ́сьдзісят. Но, кане́шна, як на со́рак ці на підзіся́т, то і бо́лей, а гэ́ты раз я ўжэ сабе́ на ліка́рства, то і во́сімдзісят пакі́нула. Пе́ршы літр ідзе́ як во́сімдзісят. Я ні раблю́ ча́ста. Калі́ во на сваі́ ляка́рства, калі́ хто пры́дзе…

***Расказвае Марыя Міхайлаўна Макеева, 1927 г. н.***; *запіс зроблены ў в. Гародзькі Валожынскага р-на ў 2005 г.*

Пры По́льшчы самаго́нку не гна́лі, бо было́ стро́га. А по́сьля – гна́лі. Не́калі я й сама́ рабі́ла: расьці́ла рож, тады́ мало́лі – былі́ такі́я жо́рны, у нас вон там ляжа́ць два ка́мні такі́я – уручну́ю. Ва́рым сага́н карто́шкі, сы́пім гэ́ту муку́ ў гара́чае, ме́сім, тады́ вадо́й – ахалада́е, дро́жжы апуска́ем і ўсё, і стаі́ць. Атсто́іцца [брага], вада́ навярху́ – у чыгу́н і гна́лі. У каго́ сла́ба, у каго́ крэ́пка – як хто разьвядзе́. Пярша́к – гэ́та мо́цны са́мы для націра́ньня, націра́ць ру́кі.

***Расказвае Еўдакія Пракопаўна Марчанка, 1919 г. н.***; *запіс зроблены ў г. Лагойску ў 2008 г.*

Самаго́нку гна́лі з бу́льбы. У біто́н – дро́жжы. Гуля́юць. І сы́варатку туда́. Стаі́ць ме́сяц. Мо́жна і бу́льбу туды́. Бу́льбу вары́лі, таўклі́, кіда́лі ў біто́н. У пе́чы грэ́лі ка́мні дакрасна́, а пато́м іх – у біто́н. Зірно́ дабаўля́лася мо́латае. Е́та зава́рвалася ка́мнямі. Атгуля́ла – тады́ гані́. Апара́т быў: чыгу́н на чыгу́н. Бальшы́я чугуны́. Адзі́н бо́льшы, а другі́ перавара́чываўся наве́рх, лі́траў дзе́сяць-два́ццаць. Сьве́рху ў чыгунке́ ды́рка, заля́пывалась це́стам і сьве́рху атхадзі́ла чэ́рас ахладзі́цель. І тру́пка – зьмеевí́к. І ціčо́т-ка́паіт. Як хле́бная яна́ палуча́лась кре́пкая, но мя́хкая. А ціпе́р с са́харам, дык яна́ ядаві́тая. Сра́зу пе́рвая, като́рая ідзёт, е́та пярша́к называ́іцца. Літр-два, піршачо́к, гра́дусаў се́мсят-во́семсят.

### Каўбаса

***Расказвае Феліцыя Гіляраўна Капуцкая, 1940 г. н.***; *запіс зроблены ў в. Дзегцяры Браслаўскага р-на ў 2007 г.*

Паліндві́ца і кумпя́к – любо́вае мя́са, любо́віна. Кумпячкі́ заса́льваюць. У місару́бку во́зьміш, запра́віш або́ рэ́залі но́жыкам. Лазінку́ во́зьміш, у кішку́ ўстаўля́іш, гэ́так усё і ро́біш, калі́ місару́бкі няма́. Хто ў трыбушо́к піха́іць. хто з бакаві́нкі зрэ́жыць плёначку, закру́ціць. На шо́снік, шастя́я нідзе́ля по́слі Па́схі, ва́раць но́гі (свіны́я), лі́веру тро́хі даба́віш, ву́шкі... Прыціска́іш усё гэ́та.

Смалі́лі кабана́ сало́май. Тады́ ўжо паяві́ліся пая́льныя ла́мпы. Ціпе́р га́зам паўстра́йвана, правады́ з бало́на. З сало́мы пучо́к, такі́ пу́генькі, каб ён гарэ́ў.

### Паляндвіца

***Расказвае Валянціна Яўгеньеўна Лапцёнак, 1935 г. н.***; *запіс зроблены ў в. Драгічаны Ваўкавыскага р-на ў 2008 г.*

Паляндві́чка – така́я то́ненькая, шырыны́, як мая́ ладо́нь. Дзед усігда́ нямно́жачко са́ла пакіда́е, яна́ не так усыха́е. Пасо́лім дней пяць, чаты́ры. Тады́ я яе́ дастаю, кача́лачкай зб'ю, пе́рчыка, часначку́, каля́ндры. Каля́ндра свая́ расьце́. Яна́ вызрае́, я яе́ памялю́. І тады́ я яе́ ўкручу́, павешаю во́зьлі пе́чкі – вы́сахне.

### Вараная капуста

***Расказвае Лідзія Паўлаўна Качура, 1929 г. н.****; запіс зроблены ў в. Лагаза Лагойскага р-на ў 2008 г.*

Капу́сту вары́лі. Лі́сьця аткіда́еш шэ́рыя, а тады́ с шэ́рымі скры́шыш. Ма́ма вы́мые чы́сьценька яе́, тады́ со́ляй рассо́ля. У каду́шачку закрыва́ла і вары́ла. У каго́ каро́ва была́ – забе́люць, сьмята́на не́кая зьбярэ́цца. А ў каго́ німа́, так зажа́ра. По́сна ма́сла тада́ са́мі рабі́лі. Се́мя лёну таўклі́. У сту́пе таўклі́, аш пе́на пуска́ецца. І тады́ э́тым запраўля́лі.

### Квашаная капуста

***Расказвае Лідзія Паўлаўна Качура, 1929 г. н.****; запіс зроблены ў в. Лагаза Лагойскага р-на ў 2008 г.*

Е́сьлі бе́лые вілкі́ – гэ́та ра́ньняя капу́ста. Яе́ пакрышы́, пакрышы́, маркві́ туды́. Пераміша́й маркву́, со́лі мо́жна тро́шкі дабаўля́ць, мо́жна – не. Капу́сту ні на́да цёрці, патаму́ шта яна́ мя́хкая бу́дзя. А рассалі́ вады́ трохлітро́вую ба́нку, е́сьлі мно́га качано́ў ты накрышы́ла, тады́ ўсю капу́сту зальёш і пераміша́й, пераміша́й ло́шкай, па́лачку ўтырка́й і ка́жны дзень міша́й, каб гарчы́я схадзі́ла. Хоць дзе хай стаі́ць яна́, на́да каб аткры́та стая́ла, на́нач мо́жаш закрыва́ць, кап што не ўзьляце́ла, ці мо́шка, ці што, газе́ткай прыкры́й, а тады́ пераміша́й і каб было́ аткры́та. Як укі́сьне, расклада́й у ба́нкі. То́лька мно́га вады́ туды́ ня лі, патаму́ шта кры́шкай закры́еш, яно́ бу́дзя прасо́чывацца, цячы́ і цячы́, сцэ́жывай. Э́та ра́ньню так то́лька рабі́. А е́сьлі капу́ста зялёная – по́зьняя, яе́ перацíра́й, сваі́м со́кам каб яна́ была́, вады́ не на́да, сваі́м со́кам сьперва́ ўцяры́, цяры́ рука́мі, таўчы́ таўчако́м тады́. І марко́шку на цёрачку нацярэ́ш. Не на гэ́ту цёрку, што цёрці бу́льбу, а буракі́ есь цёрка цярэ́ць. Качаны́ ёсь бе́лые-бе́лые – э́та ра́ньнія, а като́рыя зялёныя лі́сьця – по́зьнія.

### Лапуны
### (*бліны з тоўчанай бульбы*)

***Расказвае Еўдакія Пракопаўна Марчанка, 1919 г. н.****; запіс зроблены ў г. Лагойску ў 2008 г.*

Бу́льбу зва́рыш, тады́ ў сту́пе таўкачо́м патаўке́ш. Пе́чку вы́мецеш. Мукі́ патсыпа́лі – і на пот. І тады́ раска́тываеш. Бы́ла мо́жна са сьміта́най іх е́сьць і́лі с канапля́ным ма́слам.

*І. У. Кандраценя, Л. В. Леванцэвіч*

## ТЭКСТЫ З ГАНЦАВІЦКАГА РАЁНА

***Расказвае А. П. Кандраценя, 1921 г. н., адукацыя пачатковая****; запіс зроблены І. У. Кандраценяй у в. Будча ў 2008 г.*

Мяне́ заву́ць Аксе́ня. Я з 1921 го́ду. Мяне́ па ба́цьку Па́ўлаўна, Кандраце́ня Аксе́ня Па́ўлаўна. Пражыла́ я до́ўгія го́ды, аля́ дабра́ ні ба́чыла. Гарава́ла, бо забі́лі му́жа на вайне́ майго́, Йва́на, Кандраце́ню Йва́на Марці́навіча. Забі́лі на вайне́, а я гарава́ла адна́, ніко́го ні захаце́ла друго́го, бо сваго́ му́жа любі́ла Іва́на. То я гарава́ла: і касі́ла сама́, і ара́ла, уся́к быва́ло, гарава́ла, страда́ла бяз мужыка́. А цяпе́р прыжда́ла зя́ця, вы́гадавала дачку́ О́лю да прыжда́ла зя́ця Алёшу. Да мне ста́ло до́бра ўжэ жыць із йм. Ужэ́ хаджа́ін прышо́ў ік нам. Пажані́ліса с О́лькаю, з мае́ю дачко́ю. А ге́то ўжэ прыжда́ла і ўну́каў, і пра́ўнукаў прыжда́ла, і пажані́ла ўжэ йіх, і за́муш аддала́, далёко ўну́чку аддала́, у Ха́ркаў. І я туда́ е́зьдзіла, два ра́зы была́ ў Харка́ве, харо́шы го́рат, і лю́дзі до́брыя.

***

Жыла́ я ашчэ́ ў ба́цька ак за́муш ні выхо́дзіла. Нас было́ пяцёро дзяце́й. Адзі́н пашо́ў брат за грані́цу, і сёньня німа́, ні зна́ям, дзе ён і што. А другі́ пашо́ў дай прышо́ў наза́т, атпра́вілі да

казáлі палякі: «От дóбра вы папáлі, наштó вы пашлі́ тудá, за граніцу, а так ужэ́ прашчáям, бо прáзьнік у нас», – да ні бíлі ўжэ іх. Булá ў нас чацьвёрта часьць пóля. Да й кóнь быў, і чаты́ры карóве былі́, алá малакá мáло давáлі: ні былó кармёшкі такóе, бо чацьвёро карóў, да мáло сéна, да купля́лі сянакóсы. Да наганя́лі цэ́ну хто больш дасьць грóшай за ты́я сянакóсы. Карóўкі чаты́ры былі́, а ў анну́ даёначку падóім, ні былó малачкá, бо ні былó харчóў йім дóбрых. Вадá булá кругóм, кругóм сялá вадá ў нас булá ў Бу́ччы.

***

Савéня Паўлю́к, мой бáцько, лаві́ў ры́бу ў рацэ́. Рабі́ў э́такія кашэ́ да стáвіў, прасéкаў палóнку зімóю да стáвіў. Туды́ лéзла ры́ба, і рáкі лéзьлі, éлі ты́я рáкі, шы́йка аннó, шы́йка там, а то лáпы ты́я німá, вы́кінулі, аннá шы́йка адсталáса, то й я éла. Уюны́ лаві́ў, э́так кашэ́ такі́я стáвіў. Ры́ба такáя ўюны́, яны́ пахóджыя бы́то на гадзю́кі на які́я. Да ак прынясé, да сушы́лі ты́я ўюны́, на ні́скі нізáлі, да ў печ, да сушы́лі, да засóльвалі, да гэ́так éлі смáчно. Грыпкі́ зьбірáлі, я́гады. І я любíла, хадзі́ла ў грыпкí. Сушы́лі, ты́я гóды ні знáлі гэ́тых вары́ць, ні панімáлі, сушы́лі грыпкі́, да варылі, і капу́стачку, і квáсу навáрыш іс грыпкáмі да гэ́так éлі дóбрэ, смáчно. І сьві́ньня гадавáлі, у майгó бáцька, я ш кажу́, і чаты́ры карóве, і сьвінéй гадавáлі, і сáло éлі. Ак запу́сьцяцца ты́я карóўкі, то ўжэ хóчуць малакá, ўжэ́ сáла ні хóчуць éсьці, да кап малакá. Пóйдуць малакá к каму́, у кагó дóіцца карóва, а пóсьля яму́ да*ю́*ць, таму́ ўжэ́, ў кагó брáлі, да ге й жылі́.

***

Нажынáлі жы́та, да малаці́лі жы́то, да прасéям тóя жы́то, да вы́сушым. Малóлі ўручну́ю, такі́я жóрна былі́, кáжуць жа жóрна, малóлі ў жóрна дай хлеп пяклі́ свой. Напякóм у пéчы, лапáту, на лапáту лі́сту дубóваго, на ліст хлеп ужэ́ клáлі. Цéстачко ў печ усáджвалі. Напякóм свайгó хлéба, да мéлі свой хлеп. Хлéба хватáло. У кагó часьць малáя, то мо й ні хватáло. А то ш намалóцяць да насы́плюць німаладу́ які́я каду́шкі, бóчкі такі́я дзераўля́ныя.

***

Ік Калядáм хáту прыбірáлі. На куцью́ – куцью́ вары́лі пóсну, – а скарóмну ўжэ на Нóвы гот. Пéрат Нóвы гóт куцья́ – то скарóмна. А Крашчэ́ньня тóжэ пасьці́лі, ні скарóміліса. У пост éлі ўюны́ су́шаныя, нéке вазі́лі салóдке гэ́таке – цыры́пус, саладзі́лі вóду да éлі, пасьці́лі; квас з грыбóў вары́лі, капу́сту вары́лі із грыбáмі. Засалóджвалі вóду, ак куцью́ пóсну вары́лі да іс салóдкаю вадóю ту́ю куцью́ éлі. Вячэ́ралі на куцью́ сваéю сям'ёю.

***

На Вялі́кдзянь бу́лкі пяклі́. Купля́лі муку́, на Вялі́кдзянь мы тóлькі бéлы хлеб éлі, пяклі́ бу́лкі, я́йца крáсілі, пасьвяцáлі, насі́лі ў цэркаў да й прáзнавалі Вялі́кдзянь. Цэ́ркаў у нас булá заўсягдá, хадзі́ла, аля́ ні кáжну нядзéлю хадзі́ла. І на ўсюнóчну хадзі́ла. Цэ́лу нóчку вы́стаім, бáцюшко мóліцца і мы мóлімса. Стаімó цэ́лу ноч, а пóсьлі ўжэ пасьвяцáе нам. У карóпках насі́лі, такі́я плéценыя с салóмы карóпкі. Накладу́ць ужэ́ й сáла, й калбáс туды́, й яéц, і бу́лку. Бáцюшко пасьвяцáў. Пры́дам ўжэ, да ямó, і вы́п'ям па чáрацци. Éлі сьвянцóнэ ўсе тóя. А то сем нядзéль да Вялі́каньня пасьці́лі, нічóго ні éлі пóснаго, карóвы былі́, а малакá ні éлі. Малакó атагравáлі, да сы́рчыкі сушы́лі, да су́шаныя пóсьлі ўжэ éлі.

***

На Кóляды ўсе былó: і сáло, і м'ясо, і калбáскі. Прыбірáям ужэ́ ік Калядáм, кап усé было. Верашчáку рабі́лі: накры́шым м'яска, да пакіпі́ць, а пóсьля паткалóтку рабі́лі э́таку, мукóю паткалóчвалі, грыпкі́ туды́ кі́далі. Э́то верашчáка гэтáка булá. А сь сéм'я рабі́лі клы́нду: таўклі́ сéм'я, прасявáлі на сі́тко, да ў тóе сéм'яйко прасéянэ, цыбу́лькі, вады́, накалóцім – э́то клы́нда булá ісь сéм'я. Тóжэ éлі іс картóпелькамі. Напáрым картóпеляк, парэ́жам палаві́нкамі, пасóлім ты́я картóпелькі да с тым сéм'ям. Гéто ўжэ пасьці́лі гéтак. Ак пасты́ былі́, клы́нду ўжэ гэ́таку éлі сь сéм'я. І так мачáлі картóплялькамі сéм'яйко тóя прасéянэ, таўклі́, паджáрым ягó – пáхня. У печ на бля́шку сéм'яйко. Таўклі́, сту́пы былі́ такі́я да таўкачэ́, да таўкóм. І куцью́ ге: ячмéнь сéялі,

свой ячмéнь быў. Насýшым ячмéню, таўкóм у стýпе, куцы́ нарóбім, да й куцья́ палучáласа, куцью вары́лі.

***

Кап адзéцца, гадавáлі авéчкі, вóўну прáлі, суконó ткáлі да вале́лі тóе сукнó ў Гáнцавіч. Звáльвалі, тóе сукнó зрóбіцца тóўстэ, да шы́лі жукéткі. На дóшч адзявáлі, ні прамакáюць. С авéц аўчы́ны выраблялі, кажухі́ шы́лі. Аўчы́ны і тут нéкі выраблáў, а то ў другóе сялó вазíлі, выраблялі да кажушкí шы́лі.

***

Ак я дзéўкаю былá, то хадзíлі на збóрню. Зьбірáліса багáто дзяўчáт сваíх, і хлóпцы пры́дуць, мýзыку прынясýць. Пакíдаям прáсьніцы да гé ў лáпцях танцýям. Лáпці абувáлі на нóгі, аннó ў прáзьнік нéкія бацíнкі былí, сапóшкі, а штодзéнь у лáпцях хадзíлі. Бéлыя анýчкі, лáпцікі, чóрныя валóчкі, валóкі такíя, што дзяржáць лáпця. Зацягáяш у вýшкі лáпця ты́мі валóкамі, да і нóгу наапкрýчваяш. Бéлу анýчку іс палатнá зь бéлаго, ужэ́ што знóшанэ, сарóчкі падзярóм на анýчы. Бéлянькія анýчкі, а тыя валóкі чóрнянькія, да гéтак танцýям у тых лáпцях.

***

Як малады́я былí, на гýліцы зьбірáліса, і гармóшка ігрáя, ні наймáлі гармóшкі, сáмі хлóпцы, катóрыя ўмéлі йграць, то пры́дуць да ігрáюць, а мы танцýям бóсыя лéтам. Цяпéр трэ́ба ўжэ óбуй усякі, а тагды́ бóсыя, гóлыя, танцýям. Шырóкія спанíцы, прыбірáліса. Цяпéр гóлыя хóдзяць, тóжа мне ні нарáвіцца. Швáчкі былí да шы́лі, як закамáндуям, у склáдачкі, гэ́так хóрашэ шы́лі, нам нарáвіласо. Цяпéр мне ні нарáвіцца, гóлыя, пупы́ вы́ставяць. Лéтам на гýліцы зьбірáліса дзяўчáта, к нам і хлóпцы прыхóдзяць. Да й пазнакóміліса, я с Івáнам іс сваíм пазнакóмілаcа. П'яць гот я любíласа зь йм, пакá ўзяў мянé зáмуш.

Як любóў? Правядзé, на дварэ́ пастаімó, да й ён дадóму, й я дадóму. П'яць гот любíласа, да ўжэ прышóў у сваты́. Я гуляла на гýліцы, а ён кáжа: «Ідзí дадóму, мы ўвéчар зь Яўхíмам пры́дам у сваты́ к табé». Пашлá ш я ўжэ дадóму, прышлí яны́. Мой бáцько пастáвіў, і яны́ прынясьлí гарэ́лкі, паклíкаў майгó дзя́цька, свайгó брáта і нявéстку ён сваю прывёў. Пілí вéчар той ўжэ, запóіны рабíлі. Яўхíм – э́то ягó (майгó мужыкá Івáна) сястры́ мужы́к, зь йім прышлí ў сваты́, вы́пілі, да ўжэ ш ён ні пашóў дадóму, ў нас адстáўса. А ў нас сям'я, на лáве спáлі, і ён ужэ́, паслáлі сяльнікá гэ́таго. Я з мáмаю ўсе спáла, а то ён адстáўса, ўжэ мáма пашлá ў другí бок, ён ля мянé лёх. Сям'я на палý: брат і нявéстка нáша, й дзéці. Пол такí дóўгі быў, а я на лáве, і заслóна прыстанавíлі, кап шы́рай былó, да так і начавáлі ўжэ ў нас ізь йім.

***

На вясéлье мой бáцько купíў нéкі, нéка гарэ́лка былá, сырэ́ц звáласа, купíў я́шчык гарэ́лкі таé, сырцý тагó, ды́ й зрабíлі мне вясéлье. Да ге панапівáліса, ге панапівáліса ўсе, да танцавáлі. Гéрац Антось ігрáў нам вясéлье. Хóрашэ йігрáў ўсякія тáнцы. Такóе вясéлье харóшэ былó, вясёлэ. Аля́ мáло пажылí, маé дзéткі. Тры гóдзікі пажылá, да й вайнá. Вáляна ні былó, рубáшка былá, спанíца былá, і лéнтачак навéшала на плéчы, навéшалі мне, а вáляна ні былó. Ак мая́ й Óлька жанíласа, то вáляна ні былó, не, быў вянóчак і ізь бíнту пашы́лі ёй, а ў мянé ні былó вáляна. Абувáла тýхлі гумóвыя іс папрýжачкамі і бéлыя шкарпэ́тачкі, от які́ óбуй быў. Я лéтам зáмуш ішлá, на Трóйцу. Гуля́лі на гýліцы і ў сéнях. У майгó бáцька сéні вялíкія былí, да гуля́лі ў сéнях. А дáле на гýліцу ўжэ вы́шлі, жáрко былó, да гéтак Антóсь хóрашэ іграў на гармóніку, ягó звáлі Гéрац Антóсь.

***

Мáло я пажылá, маé дзéткі, тры гóдзікі, да й вайнá, абíдзіла мянé вайнá. І ні ўзялá нікóго, і случáліса мне, і жанíх прыхóдзіў з-за Мóрачы. Хадзíла я, ільнý зьбірáлі мы, ягаткі насíлі сухíя, аттýль лён прынóсілі. Да ўлюбíўса ў мянé, у удавý, да й прыхóдзіў ік нам, а я ні захацéла, нікóго ні захацéла. І ўдавéц хацéў мянé, то ні захацéла за нікóго, бо свайгó Івáна любíла. Гадавáла Óльку аннá ўжэ, пакá зя́ця прыждáла. Да пажылí, мáло, зя́ця пахаранíлі, сем гот ужэ́ ляжы́ць.

***

У мужыка́ маго́ былі́ браты́ – Рыго́р, Мікала́й. От до́бра й ні зна́ю, ко́лькі ў їх было́ зямлі́. Зе́млю мне ба́цько падары́ў. У нас быў свой конь і воз. Ха́ту ўжэ будава́ла бес свайго́ му́жа, без Іва́на. Як пажані́ліса, жыла́ іс сьвякру́хаю, іс сьвёкрам. Ха́та была́ з адно́й ко́мнаты, печ. Спа́лі на ло́шку, ло́жак быў. Ак прапа́ла По́льшча, мой мужы́к прыўёс атту́ль ло́шка жале́знаго, мы на ло́шку й спа́лі зь йім, а яны́ на палу́ спа́лі. Пол із до́шчак до́ўгі такі́ ізро́блены. Я шы́ла с палатна́ шастуна́ – сяльнікі́ такі́я. Напіха́лі се́нам, да й кла́лі на ло́жак, паду́шку, адзія́ло. Адзія́л ні было́, ко́ўдры тка́лі, тка́ныя ко́ўдры, адзява́ліса ты́мі ко́ўдрамі. Про́стыні кужэ́лныя с палатна́ шы́лі да засьціла́лі свайго́ матра́са, што се́нам напха́ны. Напіха́лі сяльнікі́ і сало́маю, аля́ сь се́нам лепш. Се́но ге́тэ, што плюшна́, дак вы́сахне, да па́хне то́я се́но.

***

Пажыла́ я тры го́дзікі із му́жам, да вы́гадавалі О́льку, ашчэ й ні вы́гадавалі, але́ ўрадзі́ла О́льку анну́ за тры го́ды, да начала́са вайна́, да забра́лі му́жа майго́ на во́йну, а мяне́ с О́лькаю пакі́нулі з дачко́ю. Адста́ўса зруп, като́ры мой мужы́к зрубі́ў, да ўжэ той зруп канча́лі, ха́ту ту́ю. Ні было́ і ле́су, да прасі́ла, кап прывязьлі́. Прывязьлі́ ле́су, да ко́нчылі, ко́нчылі і столь. А кры́шу с сало́мы, зьбіра́ла куле́ па сяле́: дава́лі ўсе па кулю́, да накры́лі кры́шу саламля́ну. А ў ха́ці ток ізрабі́лі зра́зу, а по́сьле ўжэ расстара́ласа, пашла́ ў сельсаве́т, да далі́ мне ле́су, прывязьлі́ на ко́нях, дай разрэ́залі, пакла́лі пол ужэ́, падло́гу пакла́лі, ужэ́ с падло́гаю была́. А бес сяне́й жыла́, анно́ ха́тку ко́нчыла. Зрабі́ла шалаша́ тако́го: жэ́рткі, картапле́ннічкам прыкры́ла ты́я жэ́рткі, э́то такі́я се́ні былі́. А по́сьлі, ак зяць прышо́ў, ак пажані́ліся с О́лькаю, да ўжэ зрабі́ў ха́ту, дай на дзьве зрабі́ў ужэ́ і се́ні прыста́віў ізь дзе́рава. Прадалі́ каро́ўку, я адна́ гадава́ла дзьве каро́ўкі. Насі́ла й на пле́чах се́но, уся́к і на са́ньках вазі́ла. Мой дваю́радны брат дзяжу́рыў у Ко́лку, быў за сто́ража на сенако́се, да мне падка́жа, дзе се́но. Я паеду на са́ньках да накладу. Дзьве каро́ўкі гадава́ла. Ак прышо́ў зяць, прадалі́ каро́ўку да купі́лі ле́су. Пастро́ілі се́ні ік ха́це, і ха́ту перастро́іў, на дзьве зрабі́ў, пастро́іў до́брэ. Да жылі́, аля́ ма́ло пажылі́, пам'ёр, сем гот ляжы́ць ужэ́, а мы гару́ям с О́лькаю бяз мужыка́, бяз хаджа́іна.

***Расказвае Н. А. Муха, 1929 г. н., адукацыя пачатковая****; запіс зроблены І. У. Кандрацэняй у в. Круговічы ў 2008 г.*

Цэ́ркаў у на́шум сяле́ ніко́лі ні закрыва́лі, як пастро́ілі, ўсягда́ была́ яна́ аткры́та, называ́лася прыхацка́я, і яе́ ні ме́ў пра́ва ніхто́ спла́віць, і сёньня, ба́чыш, яна́ слу́жыць усягда́.

Вучы́цца сьпява́ць я пачала́ ашчэ́ мала́я. Дзе́цьмі хадзі́лі ў цэ́ркаў, да я ве́льмі ш любі́ла слу́хаць, як сьпява́юць. З двана́ццаці гот пачалі́ мы хадзі́ць ік ма́тушцы, ў нас была́ така́я, вро́дзі дзячы́ха. То нас было́ старэ́йшых бага́то, а то ш мы малады́я былі: я, да Гэ́ля, да Пата́пча, ашчэ́ Са́ўко, да Ко́сьця Цецярукоў, ды хадзі́лі, вучы́ліся. К ёй хадзі́лі на сьпе́ўкі, яна́ нас вучы́ла, і мы сьпява́лі. А по́тым ужэ́ ш падраслі́, быў самастая́цельны хор, ужэ́ старэ́йшыя павыхо́дзілі, а мы хадзі́лі і па нядзе́льках, і па сьвя́тах, гэ́то ў гадо́ў пятна́ццаць, да́жа ра́ньшэ. Ужэ́ як я пашла́ на фе́рму, ужэ́ я ма́ло хадзі́ла, патаму́ што слу́жба была́ зь дзевяці́ часо́ў, а на фе́рму на адзіна́ццаць трэ́ба йсьці, цяля́та ты́я паі́ць. У цэ́ркві адзі́н поп служы́ў і пры паля́ках, і пры Саве́тах, і пры не́мцах. Аля́ ён памёр, сы́на ўбі́лі, дачка́ была́ ўчы́цяльніцаю, паме́рла, і жо́нка паме́рла, ды пасьля́ гэ́тых быў Дзічко́ўскі. Ужэ́ Дзічко́ўскі заступі́ў і служы́ў. У яго́, ба́чыш, было́ во́сім дзяце́й, і ўсі́х ён пагадава́ў, і нас усі́х ён уважа́ў. Якоя сьвя́то, заўсю́ды нас клі́каў к сабе́ дадо́му, за стол, угашча́ў. По́тым ужэ́, як ён пае́хаў, стаў Хмару́к, гэ́ты сла́бянькі быў ба́цюшко, аля́ нічо́го. Гэ́тыя ш дзяўча́та о парасьлі́. А по́сьлі Хмарука́ быў той малады́ Са́ша, я ні по́мню яго́ фамі́ліі. Ужэ́, як ні ста́ла я рабі́ць, ста́ла хадзі́ць рэгуля́рно, ды і сьпява́лі ш от да гэ́таго ўрэ́мяні. Я ні магла́ атхілі́цца, прапусьці́ць, як слу́жба, стара́лася кап папа́сьці, кап пасьпява́ць. На Пакро́вы пасьле́дні разо́к хадзі́ла, да Пакро́ў ужэ́ ма́ло хадзі́ла, ко́лькі магла́. А на Пакро́вы ўжэ рашы́ла: сяраўно́ пайду́. Ды с па́лкаю йшла́, аддыха́ючы, а ш Шашко́ў адзі́н дзя́цько йшо́ў, хо́дзіць ён у цэ́ркаў. Я стаю́ с то́ю па́лкаю, аддыха́ю, ка́жа: «Ўжэ сі́лы німа́?» Тагды́ пасьпява́ла, ды от ужэ́ сяджу́. Цяпе́рашні ба́цюшко наш нічо́го, харо́шы такі́ чалаве́к, аля́ мы пастарэ́лі, да пахварэ́лі, німа́ ўжэ каму́ хадзі́ць сьпява́ць: Йі́ра сабе́ захварэ́ла, ляжа́ла ш о гэ́то два ра́зы ў бальні́цы, Гэ́ля то́жа хво́ра.

***

За Дзяні́скавічамі е ме́сто, дзе паяві́лася была́ Бо́жа Ма́цер, мо на яко́м дзе́раві ці дзе, ды там ста́лі стро́іць цэ́ркаўку, каб сахрані́ць ту́ю Бо́жу Ма́цер. На том ме́сьці быў о́браз яе́, а не́калі ш е́зьдзілі туды́ здалёк. Я ве́даю, што й я с та́там і з ма́маю на кабы́лі е́зьдзілі. Там пра́вілася імша́ на Ўсьпле́ньне, там зьбіра́ліся лю́дзі мо са ўсяе́ Белару́сі. Там і таргава́лі ўсім усяля́кім: і начы́ньня^е^м, і праду́ктамі, і ме́бляью. А слу́жба пра́вілася ў той бясе́ццы, цэ́ркаўцы. Таго́ до́міка я запо́мніла, дзя^е^раўя́ны стая́ў. Цяпе́р гэ́то ўжэ́ адышло́ да чу́дзінскаго ба́цюшка, наш ба́цюшко е́ю не^і^ ўлада́я. Ён каза́ў, што як паклі́чуць мяне́, то я прые́ду, а як ні паклі́чуць, то я ні пае́ду. То наш ба́цюшко там ужэ́ ні слу́жыць і ні быва́я. Цэ́ркаўкі той ужэ́ німа́, а йіко́ны забра́лі мо ў цэ́ркаў не́дзі, а тры красты́ там стая́ць, там ла́ўкі, дзе лю́дзі сядзе́лі. Я ш о^у^ гэ́то ў яга́дах была́, да была́ там. Там красты́ стая́ць, лю́дзі іх абслу́жваюць: ве́шаюць ле́нты, ручнікі́. І чця́ць лю́дзі Бо́жую Ма́цер, Бо́жае паяўле́ніе, яна́ ш спасла́ ўвесь сьвет, і яна́ заслу́жыла. А йіко́ну забра́лі не́дзі ў цэ́ркаў, но ні ў на́шу.

***

У шко́лу не́калі за По́льскаю ў во́сім гот начына́лі хадзі́ць ды ўжэ ш хадзі́лі два го́ды ў ту́ю шко́лу. Там былі́ два прадме́ты: пісьмо́ й мацяма́ціка, гэ́такія прадме́ты, а ка́жду сыбо́ту пры-хо́дзіў ба́цюшко вучы́ць нас малі́твы, па́ця^е^ры, як мы называ́ям. Вучы́ла нас Мачу́льская Зі́на, ба́цюшкава дачка́, малада́я-малада́я дзе́вачка. По́тым яна́ паме́рла, вро́дзі валнава́лася, вро́дзі сказа́лі се́рца^о^ дзе́ці разьбі́лі ёй. Яе́ пахарані́лі ля ба́цюшка, тут пахарані́лі ля цэ́ркві, і ма́цяру то́жэ. Вучы́лі нас чыта́ць і піса́ць па-по́льскі. Два го́ды прахадзі́лі ў ту́ю шко́лу, ды ўжэ прышлі́ Саве́ты, трэ было́ ш ужэ́ ў ру́ску ці белару́ску шко́лу хадзі́ць. Аля́ яка́я там ужэ́ была́ хадзьба́, за гот я мо два ме́сяцы пахадзі́ла, і то мо ці хадзі́ла два ме́сяцы. А ні хадзі́ла ні ве́даю чаму́, мо такі́я абстая́ця^е^льства былі́: ні было́ на чом піса́ць, ні было́ на чом чыта́ць. А по́тым ужэ́ ш вайна́, ужэ́ не́мцы, яка́я ш ужэ́ там вучо́ба, ужэ́ не́мцы. За не́мцамі мо тро́хі хадзі́лі. Пры Саве́тах па-белару́скі вучы́лі, аля́ ш я ма́лянько хадзі́ла, бо ўжэ трэ́ба было́ і на по́ля^е^ йсьці, і малаці́ць, і лён це́рці, і біць, і я ўжэ сусі́м ма́лянько хадзі́ла. І ўжэ ў каго́ было́ за кім хадзі́ць у шко́лу, то по́тым ужэ́ ш і на по́чці рабі́лі. А я ўжэ нікуда́ ні пашла́, бо ўжэ́ ш трэ было́ йсці малаці́ць да жаць. Аля́ я хоць ні вучы́лася чыта́ць і піса́ць па-белару́скі ці па-ру́скі, уся́ раўно́ чыта́ю то́лькі па-ру́скі і па-белару́скі, по́льскага я вабшчэ́ ні зна́ю. Ада́ле й пасьля́ вайны́, у нас ні закры́лі шко́лы, то е́зьдзілі к нам із Дзяні́скавіч хло́пцы. Дзяўча́та не, а хло́пцы е́зьдзілі, то цяпе́р і вучо́нымі паста́лі.

***Расказвае У. І. Муха, 1929 г. н., адукацыя базавая****; запіс зроблены І. У. Кандраценяй у в. Круговічы ў 2008 г.*

Я пры по́льскуй ко́нчыў адзі́н клас, а по́тым ўзімо́ю хадзі́ць ні было́ ў чом, а ўве́сну ўжэ займа́ў каро́ў, па́сьвіў па ле́сі. Займа́ў каро́вы чужы́я, каб было́ во́сім-дзе́сяць, і цэ́лая^е^ ле́то па́сьвіў, паніма́яш, каро́ў. Э́то было́ пры пана́м ашчэ́ по́льскім. Ды ўжэ́ ў тры́ццаць дзяўя́тум гаду́ бу́хнулі бальшавікі́ сюда́. От тагды́ ўжэ началі́ нас вучы́ць у шко́лі, аля́ ш ско́ро вайна́. Пры не́мцах хадзі́ў у не́кі клас, ні ве́даю. Бума́гі ні было́, не́дзі на чардаку́ ў шко́лі былі́ не́кія квіта́русы пазаліва́ныя, ды от така́я вучо́ба была́. Саве́цкая ўла́сьць прышла́ ўжэ ў со́рак чацьвёртум гаду́, нас заста́вілі ў шко́лу хадзі́ць, как хо́чаш ба́цько, кармі́ і адпраўля́й. Пры Саве́тах прынцыпія́льно нака́звалі бацько́ў, хто ні адпраўля́ў дзяце́й у шко́лу. Ну ды я ш чтэ́ры кла́сы ты́я мо́жа ко́нчыў у Малы́х ды хадзі́ў сюда́ ў Вялі́кія ў п'я́ты клас. Пе́рву чэ́цьверць атхадзі́ў ды ні пашо́ў бо́льш, анно́ да Каля́т. А ў сорак п'я́тум пашлі́ мы ўжэ ў прамхо́с, бо калхо́зы пачалі́ тут дзе́лаць, а мы, пацаны́, пашлі́ ў лес, зараба́твалі. Як у шко́лу хадзі́лі, мяне́ ўчы́цялям хлапцы́ зва́лі, бо сядзе́ў, уро́кі вучы́ў, як клі́калі гуля́ць. Была́ ў мяне́ мячта́ стаць учы́цялям, аля́ ні было́ як вучы́цца. Но я прасты́м рабо́тнікам пасьці́ ні рабі́ў: у а́рміі ско́ро яфрэ́йтара палучы́ў, ма́ло быў прасты́м салда́там; пасьля́ ў сельхосшко́лі быў камсо́ргам; як ко́нчыў, адра́зу назна́чылі памо́чнікам брыгадзі́ра, а пасьля́ тра́ўмы ўсё ш рабі́ў заве́дуюшчым фе́рмы пасьці́ тры́ццаць год.

***

Не́мцы ганя́лі нас гальё палі́ць, бу́нкер ту́така быў, а лес стая́ў з бу́нкерам ра́дам. Прапускáлі нас це́рас сі́то, прывялі́ пацанóў кармі́ць у бу́нкер унутры́, дóбру лу́сту давáлі, хлеб і сáло. А не́мя<sup>е</sup>ц, камяндáнт мо не́кі на крыльцы́ там сядзе́ў да сабáццы паказáў на мяне́, і сабáка падышóў пад мяне́ і забрáў лу́сту хле́ба й сквáрку ту́ю. Я стаю, а не́мец давóльны быў, што сабáка гэ́так зрабі́ў, ды мне ўжэ другу́ю пóрцыю далі́, бо нáда ж гальлё зноў у лес іці́ палі́ць. Мужыкі́, катóрыя былі́ з нáмі, рэ́залі, валя́лі лес, брóўна ўсе ш э́тыя закладáлі вакру́х бу́нкера: брóўна с аднóй старанı́ і з другóй, а ў срадзі́ні пясóк, байні́цы былі́ о такі́я парóбляныя вакру́х. А як ужэ́ ўцякáлі не́мцы адсюда, то ўжэ́ парцізáны з Гóрскай, с капцóў мінам'ётны агóнь кі́далі сюдá па сашы́, як яны́ ўцякáлі, па йіх хвастáлі.

***Расказвае М. І. Кісялевіч, 1947 г. н., малапісьменная;*** *запіс зроблены Л. В. Леванцэвіч у в. Люсіна ў 2008 г.*

Я рабі́ла на пуце́ тагды́. Мы рабі́лі ў Барáнавіч. Я ў субóту прыяжджáла с гэ́тых [Баранавіч], да прыяжджáла ў субóту ве́чарам ці у субóту рáно. До ўжэ ш у хáці прыбірáла, прыбірáла ў хáці, то сцірáла, то мы́ла. Ды бáчу ні́кі салдáт к' нам ідзе́. А мой тáто да і з маі́м брáтом рэ́залі дрóва гэ́таю, бе́нзаю, беньзапі́лаю на дварэ́. Ду́маю: ні́кі салдáт ідзе́, а мáма прышлá у хáту. Я кажу́: «А хтó-то гэ́то, мáмо, ні́кі салдáт?». Я́на кáжэ: «Гэ́то Язэ́п Малы́шчын ідзе́». Я: «А чагó ён?» – «Гэ́то ш, Хвадóрка, – кáжэ, – цябе́ хóчэ». Я: «Ой, атчапі́са, я ні хóчу за ягó». Ды прышóў у хáту, кáжэ: «Я прыду́ к тáбе увечар у сваты́, бо маёй мáцеры до ты ве́льмі панрáвіласа, і янá нікóго ні хóчэ, оннó цябе́, шоб я оннó цябе́ браў». Я кажу́: «Ні хóчу, у мяне́ Сяргéй, я з Сяргéём дружу́». Кажу́, што ні хóчу, ні пойду́. Так пагавары́лі ды нічóго. Уве́чэры ужэ́. Ве́чаром я убіралáся у клуб, ну, ці на плашчáдку. Плашчáдка, у нас жэш былá. Маладзёш уся́ на плашчáдку сабірáліса, маладзёш. Ну да.

А му́зыка былá барабáны, быў гармóнік. Гэ́то сённі нно усе́ не́кія тáнцы такі́е ме́дленые, а даўнó ш пóльку, сербія́нку, кракавя́ку, старадóске, спадаспáн, такі́е ўся́кіе.

Ой тады́ оннó пóлькі больш, быва́е ж холоднó до грэ́ліса на той плашчáдцы, пóлька до барабáн, до гармóнік.

Я ўбірáюса на ту́ю плашчáдку, прыхóджу, бáчу: О́ля йдзе і там з сястрóю своéю. А мáці гэ́та ўжэ Язэ́па, ягó звáлі Язэ́п, мáці прыхóдзяц:

– Мы, О́лька, у сваты́ к Мáні. Я ве́льмі хóчу Мáню за свайгó Язэ́па, хай ідзе́.

А мáці:

– О Хвядóрка, дóбрэ, ну й я хóчу, до хай іду́ц, хай ідзе́.

Янá, тáя, пастáвіла гэ́ты хлеб на стол, гэ́ту соль, буты́лку гэ́тае самагóнкі. Я адзе́ласа пашлá. Ну ўжэ гэ́ты тáто мой і мáма, яны́ ўдваі́х, гэ́та мáці, тогó жэніхá і з О́ляю – яе́, мáцеру, гэ́тага жэніха́, тогó Язэ́пка, звáлі Хвядóрка – з дачкóю, яны́ ж се́лі за стол. Мáці палажы́ла шчо на стол, ды ўжэ е́лі, а я пашлá на плашчáдку. Ягó пакі́нула, ён астáўса. Там жэ ш у мяне́ быў жані́х гэ́ты мой, з катóрым я дружы́ла, з ім, Сяргéём. Патóм ён прышóў. А ужэ́ ш усе́:

– О, да ты, Мáнё, ужэ́ ш за Язэ́пка ідзе́ш.

До давáй мяне́ на урá падымáць, шо я зáмуж іду́. Вот такі́е дзелá.

Бо шо ш, чагó хаце́ў? Даўнó ш выбірáлі шоб рабóча былá. Мацярáм даўнó нрáвілосо, шоб дзе́ўка былá рабóча, шоб усе́ уме́ла, а я усе́ уме́ла: і вышывáц, і ткяц, і я́годы брац, жураўлі́ны, усе́ такéе. До даўнó хоце́ла мáці хлóпца, шоб брац рабóчу сабе́. Неве́стка шоб былá рабóча ці вот жóнка сы́ну. А сёні ні выбірáе мáці, сёні ш выбірáе сын. Понрáвіласа дзе́ўка, ні выбірáе, ці янá гультáй ці янá якáя, ліш бы нрáвіласа хлóпцу, ні глядзя́ц, якáя янá: ці янá рабóча ці нірабóча. Даўнó ш выбірáлі шоб рабóчу, от, Алёнка, як. Такі́е дзелá, а шо шчы.

***

Вы́расла я, ужэ́ мне былó гадóў шаснáццац, до і ў мяне́ сястрá былá, Зóся звáласа. Ёй былó васемнáццаць гот, на тры гóды за мяне́ стáрша, ды янá хадзі́ла ў клуб на плашчáдку, і я ужэ́ хадзі́ла. І ў яе́ быў хлóпец, і янá правóдзіласа. Ду́маю: ну шо ж, я вы́расту і я ш бу́ду хадзі́ц,

і ў мяне́ бу́дзе хло́пец, а шо ж з ім гавары́ц. Адна́жды, там у нас была́ ла́вачка у дварэ́, яна́ прыхо́дзіц з тым сваі́м хло́пцам, з тым кавале́рам. Яны́ сядзе́лі на ла́вачцы. А я адзі́н раз ду́маю: ну шо ж яны́ гаво́рац? Мне ш было́ інцярэ́сно, шо гаво́рыц дзе́ўка з хло́пцам. А як мне паслу́хац, шо яны́ гово́рац? На двор жэш ні вы́лезу, бо ніўдо́бно, саро́маюса вы́лесці на двор. А ў нас вокьно́ былі́, вядо́мо ш даўно́... Сёні то во́кьна усе́ адчыня́юцца, а то ш ні адчыня́ліса, але́ стары́е былі́. Мы ўжэ ты́е ра́зы хо́чэм, до та́ко слабе́нько яны́ былі́ там цвічко́м адны́м, абы такі́ заго́рнеш цвічкі́. Цвічо́к дзяржа́ў ра́му. А ўно́чы, яны́ гаво́рац, чу́ю, шо яны́ гаво́рац. Я ду́маю: адкры́ю гэ́тэ акно́ ды й паслу́хаю, го́лаў усаджу́ ды й паслу́хаю, шо яны́ гаво́рац. Хаце́ла откры́ц, того́ цвічка́ атпе́рці, атпе́рці тэ́е окно́, а тэ́е ж, тэ́е сцякло́ ды вы́пало, та́я ра́ма з сцякьло́м. А ма́ма спа́ла, ду́мала гэ́то кёт ды й ка́жэ:

– Псі́ка, псі́ка.

А я туды́ го́лоў усадзі́ла, у туды́ [паказвае]. У гэ́то врэ́мя тэ́е сцякло́ вы́пало.

А я ду́маю: ну як ма́ма ўста́не і запа́ліц свет! Галава́ ж мая́ там, у той ра́мі! Сцякло́ упа́ло, а голова́ ж мая́ у ра́мі, там, ну засадзі́ла, хаце́ла паслу́хац. Выма́ю ту́ю го́лоў, выма́ю... До ву́шы ж, туды́ ву́шы ж усадзі́ла. Наза́д, выма́ю. До ву́шы такь о́ выма́еш! Ву́шы ж гэ́тые мяша́юц, да. Ой, бо́жэ ш мой, ду́маю, як жэш мне выма́ц: голова́ ні выла́зіц, ву́шы мяша́юц. Я і бо́ком кручу́ – ні выла́зіц голова́. До от так я праслу́хала. Усяго́ было́ за жы́зню. Оё, бо́жэ наш, усяго́ было́ такао́, й харо́ша'о і плохо́го. А сённі адчыні́ў ако́нечко ды і на, окно́ распахну́ў на дзве стороны́ ды й шо хоц ды й слу́хай. От така́я мая́ жы́зня была́.

***

Вот сёняшню узя́ц сва́дзьбу і даўно́ сва́дзьбу, шы і як я яшчэ́ была́ малада́я до ра́білі сва́дзьбу. До прыхо́дзілі ў сваты́ к дзе́ўцы. От ды ка мне прыхо́дзілі ў сваты́, ужэ́ сва́тацца прыхо́дзілі. Прыхо́дзіла ма́ці там з сястро́ю до прыно́сілі: у то́рбачку кла́лі бо́ханку хле́ба, буты́лку гарэ́лкі, гэ́тае самаго́нкі ды со́лі бра́лі. Для чаго́ та́я соль, я не зна́ю. Выкла́далі на стол. Прыхо́дзілі ў ха́ту ды каза́лі: «З хле́бам і з со́лью». До стаўля́лі на стол. Боха́нку хле́ба і ту́ю соль лажы́лі, ну до от і выпіва́лі: дагаво́рваліса з бацька́мі ўжэ калі́, калі́ сва́дзьба. Малада́я была́ ні пры чом, ужэ́ пачці́ договороно на калі́ сва́дзьба, це́раз ско́лько нідзе́ль там. Назнача́лі ужэ́ сва́дзьбу і гото́віліса к сва́дзьбі. Гна́лі гарэ́лку. Шчы ш як до́брэ ўда́сца гарэ́лка до ху́тко наго́ніш, ак пло́хо, до́ўго прыбіра́ліса. А сёні пашо́ў купі́ў у магазі́ні, гро́шай хвата́е. Тагды́ гро́шай ні было́ до гарэ́лку сваю́ рабі́лі. А заку́ска там? То са́ла напяку́ц з я́йкамі, то яко́е ка́шы нава́рац, то сялёдкі. Шчы там ку́пяц до ры́бы, до варэ́ння. У мяне́, як была́ сва́дзьба, не́ку ба́нку дзесяцілітро́ву варэ́ння [купілі], до на хлеб ма́залі, до е́лі з вадо́ю. Сёні які́х хоч праду́ктаў хвата́е... А шо ш ты́е ра́зы? Капу́сту кі́слу з гало́ўкі нарэ́жуц, до са́ла, агурко́ў з бо́чкі прынясу́ц. А выкупля́лі маладу́ю, до ўжэ сажа́лі каля́ маладо́е, сажа́лі дзе́вочкю. Акь ужэ́ такю́ю, гадо́ў дзе́сяц ці пяц, таку́ю прыме́рно ма́леньку дзе́вачку, до каза́лі гэ́то, прыка́звалі, шо каро́ву купля́юц з цялу́шкаю, до ўжэ больш дава́лі. Ту́ю дзе́вачку сажа́лі, да ўжэ больш гро́шай, бо гэ́то цялу́шачка была́, каро́ва з цялём. До ско́лькі ш? Пяц рубле́й даю́ц ужэ́. Гэ́то до́брэ. Як які́ бага́тае ад жэніха́, маладзёж, то ўжэ дзе́сяц даду́ц. А то тры, то пяц рубле́й за маладу́ю ды гэ́того. Вот так і выкупля́лі.

А е́халі к жэніху́ выкупя́ц маладу́ю, ды ужэ́ вы́купяц, до перахо́дзяц з аднае́ ха́ты. Малада́я сядзі́ц у анно́й ко́мнаці, а ш вы́купяц, і павядзе́ у другу́ю ко́мнату. Ужэ́ павяду́ц ты́е браты́ к маладо́му. На другі́ дзень сва́цьба была́ ў маладо́го, а пе́ршы дзень у маладо́е гуля́лі. От так.

## НАВУКОВЫ КАМЕНТАРЫЙ ДА ТЭКСТАЎ З ГАНЦАВІЦКАГА РАЁНА

Паводле вынікаў лінгвагеаграфічных даследаванняў тэрыторыя Ганцавіцкага раёна комплексам сваіх вызначальных асаблівасцей адносіцца да гродзенска-баранавіцкай групы гаворак паўднёва-заходняга дыялекту (ЛГ, карты 73, 75)[1]. Згодна з ізаглоснай занальнай стратыфікацыяй яна займае перыферыю ў межах паўднёва-ўсходняй, сярэдняй і заходняй дыялектных зон беларускай мовы (ЛГ, карты № 76, 78, 80).

[1] На тэрыторыі Ганцавіцкага раёна па праграме ДАБМ былі абследаваны н. п. № 748, 750–755, 757, 758.

У сістэме камунікатыўных сродкаў маўлення старэйшага пакалення мясцовага карэннага насельніцтва паводле наяўных тэкставых матэрыялаў маюць месца наступныя асаблівасці.

### У фанетычным ладзе ў сістэме галосных[1]

Гук [а] у становішчы пасля цвёрдых і няпарных цвёрдых зычных у пераднаціскных, у тым ліку і ў пачатковым непрыкрытым складзе, а таксама ў паслянаціскных неканцавых і канцавых закрытых складах пры рознай якасці акцэнтаванага галоснага і аддаленасці ненаціскнога складу ад націскнога: *завýць, накладýць, на чардакý, карóве, пажанíліса, чатыры, а ў срадзíні, пацаны, самá, хаджáін, малачкá, маладáя, страдáла, зрабíла шалашá, гаравáла, васемнáццац, пагадавáў, цялýшачка, капýстачку, прáзнавалі, цэ́ркаў, лéтам, вéчарам, шырай, с Óлькаю, с падлóгаю, іс салóдкаю, с тáтам, картаплéннічкам, лéнтачак, гóлаў, грóшай, па сьвя́тах, па нядзéльках, пар́эжам, Гéрац Антóсь, Алёнка, акóнечко, адзíн, адзéцца, аддалá, арáла, адрáзу, адсю́да*, але: *головá, договóроно, холоднó, готóвіліса, прослýхала, хоцéла, понрáвіласа, вéчаром, гóлоў, бóком, я́годы, нрáвілосо, окнó, оннó цябé, жэніхá, рэгуля́рно, увéчэры, хóчэм.*

Гук [а] або [о][2] у становішчы пасля цвёрдых і няпарных цвёрдых зычных у паслянаціскным канцавым адкрытым складзе: *верашчáка ѓэтака, жóнка, клында, цяля́та тыя, жóрна, забрáлі мýжа, тагó дóміка, Марцíнавіча, хлéба, рабóча дзéўка, чацьвёрта часьць, куцья́ скарóмна, нявéстка нáша, бáцюшкава дачкá, пóльскага, любíла, нáда ж, от дóбра, дáжа* і: *акóнечко, цéстачко, сáло, м'я́со, сéно, сéм'яйко тóя, мой бáцько, наш бáцюшко, чацьвёро карóў, пяцёро дзяцéй, гéто, э́то, дубóваго, зь бéлаго, такóго, мáло, стáло дóбра, жáрко, далёко, багáто, договóроно, прынцыпія́льно, быто* 'быццам бы, бы', *ні хватáло, нарáвіласо, стаíмо, хтó-то гэ́то, мáмо.* Але: *сéрца*[о], *дóбрэ, тóжэ, кáжэ, хóчэ, бóжэ наш, знóшанэ, суднó тóўстэ, сéм'яйко прасéянэ, éлі сьвянцóнэ, вясéлье харóшэ былó, вясёлэ.* Акрамя таго, рэалізацыя гука [о] у адпаведнасці з этымалагічным гукам [а] у складзе часціцы (злучніка) ***да***: *до скóлькі ш?*; *нар́эжуц... до сáла*; *до на хлеб*; *а выкупля́лі маладýю, до ўжэ сажáлі каля́ маладóе*; *пóлька до барабáн, до гармóнік.*

Гук [а] у пазіцыі першага пераднаціскнога склада ў становішчы пасля мяккіх зычных у межах фанетычнага слова: *вясёлэ, прынясýць, вялíкдзень, у мянé, цябé, цяпéр, вяч́эралі, яфр́эйтара, інцяр́эсно, дзяржáў, заўсягдá, дзяўчáт, прасявáлі, мячтá, камяндáнт, мацямáціка*, але: *невéстка, васемнáццаць.* Аналагічнае ў гэтых жа канструкцыйных умовах, але ў іншых пераднаціскных складах: *сянакóсы, сяльнікá, бяз мужыкá, бяз хаджáіна, сяраўнó пайдý*, аднак: *дзя*[е]*раўя́ны, сербія́нку, верашчáку, перастрóіў, Цецярукóў, бес свайгó мýжа, без Івáна, скóлько нідзéль.*

Гук [а] у становішчы пасля мяккіх зычных у занаціскных складах – у неканцавых закрытых і адкрытых, а таксама ў фінальных адкрытых, у тым ліку і ў асаблівых марфалагічных умовах: *дзéсяц, на Вялíкдзянь, мéбялью, картóпялькамі, ур́эмяні, бéляняькія, чóрняняькія, сéм'ям, стаць учыцялям, у лáпцях, на кóнях, прасéянэ, панімáяш, зацягáяш, вып'ям, прыбірáям, закамáндуям, прашчáям, ак запýсьцяцца, завýць Аксéня, Зóся, такáя мая́ жызня, янá тáя, дзяржáць лáпця, да Вялíканья, бáнку вар́эння, ісь сéм'я, пажанíліся, а Крашч́энья, у ѓэто вр́эмя, тóя сéно, ігрáя гармóшка, пáхня, бéляняькія, чóрняняькія, э́такія каш́э, бóсыя, тыя гóды, яны пахóджыя, ткáныя кóўдры, сёньня, а пóсьля*, але: *нéмя*[е]*ц, картóпелькі, у бýнкер, ізрóблены, Бóжую Мáцер, ц́элая*[е] *лéто, на пóля*[е], *у стýпе,* у *другóе сялó, т́эе сцяклó, Бóжае паяўлéніе, такíе мéдленые, усякіе, пáхне сéно, ні выбірáе, бывáе, Сяргéём.*

Галосны гук [і] у складзе адмоўнай часціцы ***не***: *ні пры чом, ні выбірáе, нірабóча, ні былó, ні нарáвіцца, ні хóчэ, карóвы німá, ніўдóбно*, але: *не знáю.*

Галосны гук [е] у становішчы пасля мяккіх і няпарных цвёрдых зычных у неканцавых і канцавых закрытых і адкрытых складах з флектыўным націскам у розных марфалагізаваных умовах: у *рац́э, у нáшум сялé, з сваéю, з маéю дачкóю, мянé, сабé, яé, éю не*[і] *ўладáя, у двар́э, такíя таўкач́э, кулé, бес сянéй, са ўсяé Белар́усі, маé дзéткі, т́эе окнó, ідзé, прынясé.* Акрамя таго, гук [е (ʻе)] у некаторых марфемах з наасноўным націскам: *ц́эркаў, захвар́эла, тр́эба, куж́элныя, шкарп́этачкі, ашч́э, нагаля́лі ц́эну, увéчэры ўж́э, зéмлю падарыў, яéц, на плéчах, умéла, у пéчы, прасéкаць* і інш.

Лабіялізаваны ненаціскны галосны гук [у] адпаведна галоснаму [ы (ʻі)] у іншых тыпах беларускага дыялектнага і літаратурнага маўлення ў флектыўнай частцы атрыбутыўных словаформаў у месным склоне адзіночнага ліку мужчынскага і ніякага роду пасля некаторых пярэднеязычных зычных, як: [т], [ш] і іншых перад гістарычна ўсталяваным губным гукам [м]: *у нáшум сялé*; *у трыццаць дзяўя́тум гадý*; *у сóрак чацьвёртум гадý*; *а ў сорак п'я́тум пашлí.*

---

[1] Згодна з наяўнымі дыялекталагічнымі звесткамі ў становішчы пад націскам у гаворках гэтага рэгіёна выступае сем гукаў [а], [о], [ô], [е], [ê], [ы (і)], [у]. Гл.: «Карта № 3. Закрытыя галосныя [ô] і [ê] у гаворках беларускай мовы» // Хрэстаматыя па беларускай дыялекталогіі. Цэнтральная зона. Мінск: Беларус. навука, 2009. С. 12.

[2] Пры вымаўленні галоснага гука ў становішчы пасля цвёрдых або мяккіх зычных як сярэдняга паміж галоснымі [а] і [о], [ʻа] і [ʻе] або [ʻе] і [ʻі] гэты гук перадаецца як галосны з дадатковым адценнем, тыпу [а$^{о}$], [ʻа$^{е}$], [ʻе$^{і}$].

Лабіялізаваны ненаціскны галосны гук [у] адпаведна гуку [а] у іншых тыпах беларускага дыялектнага і літаратурнага маўлення ў флектыўнай частцы атрыбутыўных словаформаў жаночага роду ў месным (патэнцыяльна і давальным) склоне адзіночнага ліку: *пры Польскуй.*

Лабіялізаваны націскны галосны гук [о] адпаведна гуку [ы (‘і)] у іншых тыпах беларускага дыялектнага і літаратурнага маўлення ў флектыўнай частцы прыметнікаў, а таксама граматычна суадносных з імі займеннікаў у месным склоне адзіночнага ліку ніякага (натуральна, і мужчынскага роду, але такія прыклады ў тэксце не выяўлены) роду: *на том мéсьці*; *на якóм дзéраві*; *ні быль́ на чом чытáць*; *хадзі́ць ні быль́ ў чом*; *былá ні пры чом*, але: *пры пóльскім.*

Лабіялізаваны галосны гук [о (‘о)] у канцавых закрытых і адкрытых складах з флектыўным націскам пераважна ў розных марфалагізаваных умовах: *малакó атагравáлі*, *гэ́тэ акнó*, *гальлё*, *з дачкóю*, *іс вадóю*, *з сястрóю*, *сям'ёю*, *з цялём*, *квас з грыбóў*, *з аднóй кóмнаты*, *с аднóй стараны́ і з другóй*, *каля маладóе*, *нікóго*, *другóго*, *усягó*, *бес свайгó*, *к маладóму*, *адышлó*, *падзярóм*, *таўкóм*, *стаімó*, *пастаімó*. Акрамя таго, у іншых умовах з наасноўным націскам: *прыхóдзілі*, *прóстыні*, *óбуй*, *такі́ ізрóблены*, *парóбляныя*, *загóрнеш цвічкі́*, *пóйдуць*, *ні хóчу*, *засалóджвалі*, *дагавóрваліса*, *на Пакрóвы*, *на Кóляды*, *пóсьлі*, *здалёк*, *Алёнка*, *маладзёш*, у *чацьвёртум*, *весёлэ вясéлье*, *сёняшню*, *іс сьвёкрам*, *прывеў*, *пам'ёр*, *прыўёз*, *ля мянé лёх*, *мінам'ётны* і інш.

Суфіксальная марфема **-ва-** ў становішчы пасля зычнага ў дзеясловах незакончанага трывання: *засалóджвалі*, *дагавóрваліса*, *прыкáзвалі*, *зарабáтвалі*, *накáзвалі*, *абслýжваюць*, *звáльвалі.*

Спалучэнне двух галосных гукаў [а] на марфемнай мяжы: *наапкрýчваяш*, але: *я вабшчэ́ ні знáю.*

Наяўнасць прыстаўнога гука [і] у складзе кансанантнага прыназоўніка, а таксама перад збегам зычных у пачатку слова ў фанетычна не абумоўленых умовах: *ік нам*; *ік хáце*; *ік Калядам*; *ісь сéм'я*; *Івáнам іс сваі́м*; *тры гóдзікі із мýжам*; *ізь бі́нту*; *éзьдзілі... ізь Дзяні́скавіч*; *жыць ізь йм*; *анýчку іс палатнá*; *жылá іс сьвякрýхаю*; *іс сьвёкрам*; *такі́ ізрóблены*, але: *іс палатнá зь бéлага*; *былá з аднóй кóмнаты*; *кужэ́лныя с палатнá*; *дагавóрваліса з бацькáмі.*

Ініцыяльны галосны [а] пасля галоснага папярэдняга слова ці на стыку слоў (ва ўмовах сандхі), а таксама пасля рэальнай паўзы: *бéлу анýчку*; *унýчку аддалá*; *дýмаю адкрыю*, *гадавáла Óльку аннá*; *малакó атагравáлі*; *гэ́тэ акнó*; *ужэ́ адышлó*; *гадавáлі авéчкі*; *лáпці абувáлі*; *ні адпраўля́ў*; *ні адчыняліса*; *нéмцы адсю́да*; *мінам'ётны агóнь*; *такія абстая́цяᵉльства*; *я аднá*; *Кандрацéня Аксéня*; *янá аткры́та*; *пачалá ашчэ́*; *на адзінáццаць*; *на анýчы*; *бéлянькія анýчкі*; *ні маглá атхілі́цца*; *шы́йка адсталáса*; *адзі́н пашóў брат за грані́цу*; *аўчы́ны і тут нéкі выраблія́ў*; *адстáўса зрýп*; *алі́ якáя*; *адзія́л ні быль́*, але: *сённі нно.*

Наяўнасць вакальных спалучэнняў на стыку слоў, за выключэннем, калі наступнае слова пачынаецца з ініцыяльнага націскнога галоснага [і]: *ужэ óбуй*; *гадавáла Óльку*, але: *Кандрацéню Йвáна*; *умéлі йгрáць*; *на пóляᵉ йсьці*; *трэ быль́ йсці малаці́ць.*

Іншыя гукавыя адметнасці: словаформы *жукéтка*, *алí* ‘але’ і інш.

### У сістэме зычных

Глухі зычны ў слабай пазіцыі ў межах фанетычнага слова: *гот*, *зáмуш*, *гóрат*, *дошч*, *хлеп*, *лёх*, *вакрýх*, *грыпкі́*, *у карóпках*, *жэ́рткі*, *дзя́цько*, *сапóшкі*, *я́гаткі*, *на лóшку* (‘ложак’), *наапкрýчваяш*, *іс папрýжачкамі*, *бес свайгó мýжа*, *цéрас сі́то*, *кап малакá*, *кап адзéцца*, *кап ужэ́*, *кап усé*, але: *воз*, *прыўёз*, *клуб*, *хлеб*, *на ні́зкі*, *сялёдкі*, *плашчáдка*, *вабшчэ́*, *абслýжваюць*, *абстая́цяᵉльства*. А таксама: *іс грыпкáмі*, *свáцьба*, *цéраз скóлько*, *бяз хаджáіна*, *каб сахрані́ць* і інш.

Гукі [д] або [т] у складзе прыстаўкі (прыназоўніка) ***ад***, ***пад*** і іншых перад наступным кансанантам рознай артыкуляцыйна-акустычнай якасці: *адрáзу*, *падраслі́*, *аддыхáю*, *аддыхáючы*, *аддалá*, *паджáрым*, *падкáжа*, *адсю́да*, *адсталáса*, *адкрыю*, *ні адпраўля́ў*, *ад жэніхá*, *пад мяне* і: *паткалóчвалі*, *атпрáвілі*, *атпéрці*, *аттýль*, *э́таку паткалóтку*, *аткры́та*, *откры́ц*, *атхілі́цца*, *атхадзі́ў*, *атчапі́са*, *пéрат Нóвы гóт*, а таксама: *атагравáлі.*

Непаслядоўнае адрозненне зычных па голасе ў пазіцыйна абумоўленых умовах пры ўжыванні службовых аднакансанантных слоў у становішчы паміж двума паўназначнымі або непаўназназначным і паўназназначным: *туды́ вýшы ж усадзі́ла*; *шо ж яны́ гавóрац*; *галавá ж мая́*; *нáда ж гальлё палі́ць*; *шо ж з ім гаварыц*; *быва́е ж холоднó*; *яны́ ж сéлі*; *пашлá ш я ўжэ*; *ужэ́ ш ён*; *вéльмі ш любі́ла*; *сёні ш выбірáе*; *бóжэ ш мой*; *гэ́тыя ш дзяўчáта*; *я ш кажý*; *напякýц з я́йкамі*; *стая́ў з бýнкерам*; *кі́слу з галóўкі*; *карóва з цялём*, *дзéўка з хлóпцам*; *я з Сяргéём*; *перахóдзяц з аднаé хáты*; *квас з грыбóў*; *казáлі*: *«З хлéбам і з сóлью»*; *там з сястрóю*; *я с Івáнам іс сваі́м пазнакóміласа*; *пажанíліса с Óлькаю*; *брóўна с аднóй старанéі*; *гарýям с Óлькаю*; *прыяжджáла с гэ́тых*; *ды с пáлкаю*; *плéценыя с салóмы*; *шы́ла с палатна*; *да с тым сéм'ям*; *с авéц.*

Цвёрдыя губныя [м], [п], [в] у адпаведнасці з мяккімі гукамі [м], [п], [в] у іншых тыпах беларускага дыялектнага маўлення і ў літаратурнай мове перад гукавымі спалучэннямі [ja], [jo] у складзе з націскнымі галоснымі [а], [о], а таксама ў гэтым жа становішчы, але перад неакцэнтаванымі галоснымі: *м'áсо*, *пам'ёр*, *мінам'ётны агóнь*, *п'яць*, *п'я́ты клас*, *сéм'яйко*, *сéм'я*, але: *ён памёр*, *у сóрак чацьвёртум гадý*, *пяць*, *кракавя́ку*, *па сьвя́тах*. Аналагічна і ў пераднаціскных складах: *пяцёро дзяцéй*, *вянóчак*, *пяклі́*, *сьпявáць*, *пасьпявáла*, *пясóк.*

Білабіяльны гук [ў] у пазіцыі перад ётаванымі націскнымі галоснымі [о] і [а] у адпаведнасці з мяккім гукам [в] у іншых тыпах беларускага дыялектнага маўлення і ў літаратурнай мове: *прыўёс, дзераўяны, у трыццаць дзяўятум гадў,* але: *дзераўляны.*

Наяўнасць спалучэнняў ***губны плюс л*** (тыпу мл, пл, ўл) у становішчы перад націскнымі галоснымі [а], [і] у адпаведнасці з мяккімі гукамі [в], [м], [п] у іншых тыпах беларускага дыялектнага маўлення і ў літаратурнай мове: *дзераўляны, саламляну крышу, жураўліны* 'журавіны'.

Мяккія свісцячыя зычныя [дз] і [ц] як вынік пераходу [д] і [т] перад наступнымі галоснымі [е] і [і]: *адзін, хадзіц, прахадзілі, езьдзілі, ідзе, павядзе, пасьцілі, на месьці, бацінкі, ік хаце, у анной комнаці.*

Гук [м'] у складзе флексіі ***-амі*** ў словаформах творнага склону множнага ліку іменных часцін мовы: *дзецьмі, іс грыпкамі, картопелькамі, іс папружачкамі, тымі коўдрамі, тымі валокамі, вучонымі* і г. д.

Мяккія свісцячыя зычныя [дз], [ц] у запазычаных (пераважна праз рускую мову), а таксама ў рускамоўных па іх зыходнай прыналежнасці словах: *мацямаціка, цілівізар, у цюрму, парцізаны, у парцізанах, чцяць, перву чэцьверць,* учыцялям, *сцякло, адзіяло, вродзі, маладзёш, такіе дзела.*

Мяккія свісцячыя ў становішчы перад наступным мяккім зычным: *дзьве, сьпяваць, посьля, пасьвяцаў, прасьніцы, Косьця, йсьці, празьнік, разьбілі, зьбіралі, запусьцяцца, часьць, чацьвёрта, зь белаго, зь дзевяці, ізь дзерава, із йім, зь Яўхімам, а сь сем'я, ісь сем'я, сь сенам,* але (пераважна ў в. Люсіна): *йсці малаціць, бес сяней, з ім, іс сьвякрухаю, з сястрою, з Сяргеем, сцірала, цвічком, інцярэсно, вылесці, свет, мая жызня, з яйкамі, варэння, з цялушкаю, з цялём.*

Гук [к'] у асобных словах і лексіка-граматычных групах слоў: *ткяц* 'ткаць', *вокьно* 'акно', *вокьна, з сцякьлом, гэто кёт* 'кот', *такь о, акь ужэ такюю, дзевочкю,* але: *такую прымерно маленьку дзевачку, карову купляюц, выкупяц, у другую комнату* і інш. А таксама гук [г'] у некаторых выпадках: у складзе часціцы ***ге***: *і куцью ге: ячмень сеялі; пакідаям прасьніцы да ге ў лапцях танцуям;* у складзе займенніка (часціцы) ***гета*** і суадносных з ім прыслоўях: *сено гетэ, што плюшна; а гето ўжэ прыждала і ўнукаў; гето ўжэ пасьцілі гетак; да гетак танцуям у тых лапцях; да гетак Антось хорашэ іграў,* але: *гэтэ акно, гэтого, гэтак елі, салодке гэтаке.*

Цвёрды або мяккі зычны [с] у складзе постфікса ***-ся*** (і яго фанетычных варыянтаў): *да ўлюбіўса, ён астаўса, адстаўса, Зося звала́са, я ўбіраласа, нарaвіласо, нравілосо, любіласа, зьбіраліса, до грэліса, пазнакоміліса, атчапіса, саромаюса вылесці* і: *пажаніліся с Олькаю, зьбіраліся людзі, служба правілася, ні вучылася чытаць, называлася прыхацкая, старалася кап, паявілася была.*

Цвёрды канцавы зычны гук зыходу асновы ў асабовай словаформе дзеясловаў I спражэння ў 1-й асобе множнага ліку: *прыдам ужэ, прыдам у сваты.*

Цвёрды канцавы зычны гук зыходу асновы ў сцягнутых формах слоў атрыбутыўнага тыпу ў назоўным і вінавальным склонах адзіночнага ліку ніякага роду: *гэтэ акно; тоўстэ сукно; весёлэ вясельe; хорошэ вясельe; у сем'яйко прасеянэ; мяхка сала; іс палатна... што зношанэ; сьвянцонэ елі,* але: *неке вазілі салодке гэтаке.* А таксама: *усе такее.*

Цвёрды зычны [ц] у канцы слова ў розных лексіка-граматычных групах слоў, у тым ліку і ў складзе асабовых канчаткаў дзеясловаў 3-й асобы адзіночнага і множнага ліку, а таксама ў форме інфінітыва: *шаснаццац, васемнаццац, шо хоц, яны гаворац, вўшы мяшаюц, прыходзяц, мама запаліц, гаворыц дзеўка, отрыц, умела вышываці, ткяц, ягады брац,* але: *гадоў пятнаццаць, ужэ ні служыць, любіла слухаць, як сьпяваюць, пакліччуць мяне, абслужваюць, вешаюць, красты стаяць, пачалі мы хадзіць, йсці малаціць да жаць, хадзіць сьпяваць.*

Адсутнасць падоўжаных зычных у інтэрвакальным становішчы: *Аксеня, паяўленіе, куцью, на вясельe, Крашчэнья, солью, гальe,* але: *гальлё, сьвіньня гадавалі, банку варэння, імша на Ўсьпленьне, начыньня<sup>е</sup>м.*

Адсутнасць інтэрвакальнага гука [j] і абумоўленае гэтым «сцяжэнне» галосных у канчатках прыметнікаў, а таксама граматычна звязаных з імі іншых часцін мовы ў назоўным склоне адзіночнага ліку жаночага і ніякага роду, а таксама ў вінавальным склоне адзіночнага ліку жаночага роду: *место найлепшо; мяхка сала; тоўстэ сукно; весёлэ вясельe; прасеянэ; зношанэ што; хорошэ вясельe; сьвянцонэ елі; салодке гэтаке; чацьвёрта часьць; посна куцья; белу анучку; крышу саламляну; цэлу ноч; этаку паткалотку; кажну нядзелю; на ўсюночну; сёняшню свадзьбу; капусту кіслу; неку банку дзесяцілітрову; куцью посну; куцью скаромну,* але: *цэлая<sup>е</sup> лето; савецкая ўласьць.*

Гук [j], які прыкрывае наступны націскны галосны [і]: *зь йім прышлі;* у *нас із йім; Йіра, харчоў йім добрых; па йіх хвасталі.* А таксама перад неакцэнтаваным гукам [і]: *хорашэ йіграў; а йіконы забралі.*

Гук [j] як вынік пераўтварэння галоснага [і] у поствакальнай пазіцыі перад наступным зычным пры адсутнасці паўзы паміж словамі: *ужэ й сала, й калбас туды, й яец, і булку; на лошку й спалі; пісьмо й мацямаціка; хлеба й скварку; адале й пасьля вайны; ды й послухаю; ды й зрабілі; ак мая й Олька; на поля<sup>е</sup> йсьці; умелі йграць; трэ было йсці малаціць; дзяцько йшоў; Кандрацёню Йвана.* У тым ліку і пры папярэднім зычным, але паводле наяўных тэкставых ілюстрацый, галоўным чынам у групе асабовых займеннікаў з адначасовым паглынаннем галоснага [і]: *жыць ізь йм; любіласа зь йм; колькі ў йх было.* А таксама ў межах марфемы: *на Тройцу.* Аднак у пазіцыі пасля паўзы: *брата і нявестку; с адной стараны і з другой; кончылі і столь; хорашэ іграў; гармошка ірая; правілася імша; любіла Івана.*

Гук [j], які з'яўляецца вынікам пераходу ненаціскнога [і] каранёвай марфемы і займае становішча пасля папярэдняга галоснага прыстаўкі: *ні пайду́, по́йдуць*, але: *прышо́ў у сваты́*; *пры́дам у сваты́*; *пашла́ ў другі́ бок.*

Адсутнасць гука [j] пераважна ў неазначальных займенніках і суадносных з імі займеннікавых прыслоўях: *не́кі выраблю́ў*; *ні́кі салда́т*; *не́ку ба́нку*; *не́кія баці́нкі*; *забра́лі... не́дзі.*

Адсутнасць гука [j] у прыналежных займенніках у родным склоне адзіночнага ліку: *маго́ мужыка́*, але: *свайго́, майго́ мужыка́.*

Адпадзенне гука [j] у складзе злучніка (часціцы) ***як***, прыслоўя ***яшчэ***: *ак прынясе́*; *ак запу́сьцяцца каро́ўкі*; *ак прапа́ла По́льшча*; *акь ужэ́ такю́ю*; *жыла́ я ашчэ́ ў ба́цька*; *я пачала́ ашчэ́ мала́я*; *ашчэ́ Са́ўко*, але: *любі́ла слу́хаць, як сьпява́юць*; *шы́лі, як закама́ндуям*; *як пажані́ліса*; *от, Алёнка, як*; *а як мне паслу́хаць*; *у мяне́, як была́ сва́дзьба.*

Гук [ц] адпаведна зыходнаму зычнаму асновы [к] у назоўніках жаночага роду ў давальным і месным склонах адзіночнага ліку: *прыхо́дзілі к дзе́ўцы, у той бясе́цы, цэ́ркаўцы, па ча́рацы, на той плашча́дцы.*

Асіміляваныя шыпячыя і свісцячыя, у тым ліку і шумныя зубныя гукі [д], [т] у становішчы перад шыпячым [ч] і свісцячым [ц]: *прыяжджа́ла, у Бу́ччы* (Будча – назва вёскі), *па ча́рацы, саба́цы паказа́ў*, у *той бясе́цы*, але: *атчапі́са, адчыні́ў, ні адчыня́ліса, на ла́вачцы, ік ма́тушцы, на той плашча́дцы.*

Увасабленне кансанантнага ланцуга ***-дск-*** (у адпаведнасці з яго арфаграфічным запісам) як спалучэння зычных ***-цк-***: *прыхацка́я.*

Прыстаўны гук [в] перад лабіялізаванымі галоснымі [о] і [у]: *ву́шы, вучы́цца, вучо́ба, вокьно́*, але: *стаць учы́цялям, і з О́ляю.*

Пратэтычны гук [г] адпаведна пратэтычнаму [в] у іншых тыпах дыялектнага маўлення і ў літаратурнай мове ў словах перад наступным лабіялізаваным галосным гукам: *на гу́ліцы.*

Прыстаўны гук [г] у складзе займенніка ***гэты*** і ў суадносных з ім прыслоўях: *гэ́ты, ге́то, гэ́тых, гэ́така, ге́так*, але: *е́ту, э́таку.*

Адсутнасць гука [г] ці рэалізацыя яго як прыгуку, які выступае пераважна ў складзе націкснога і ненацікснога канчатка ***-аго*** (***-ого***) слоў з атрыбутыўным значэннем: *усяго́ было́ такао́, й харо́ша'о*[1], аднак больш паслядоўна і рэгулярна: *усяго́, плохо́го*, у *маладо́го, ды гэ́того, ніко́го, друго́го, дубо́ваго.*

Адсутнасць канцавога гука [ц] у асабовых формах дзеясловаў абвеснага ладу І спражэння 3-й асобы адзіночнага ліку з розным характарам націску: *ідзе́, прынясе́, ні выбіра́е, хвата́е, уста́не, ні бывая́, ка́жа, ка́жэ, хо́чэ.*

Наяўнасць канцавога гука [ц] у асабовых формах дзеясловаў абвеснага ладу ІІ спражэння 3-й асобы адзіночнага ліку з наасноўным і флектыўным націскам: *хо́дзіць, слу́жыць, запа́ліц, ляжы́ць, пакіпі́ць.*

Білабіяльны зычны гук [ў] у становішчы перад наступным зычным, калі папярэдняе слова заканчваецца на галосны: *а ў ха́ці*; *насі́лі ў цэркаў*; *а то ў друго́е сяло́*; *да ге́ ў ла́пцях танцу́ям*; *анно́ ў пра́зьнік*; *като́рыя ўме́лі.* А таксама: *ве́чар той ўжэ*; *ігра́ў ўся́кія та́нцы*; *ў нас адста́ўся*; *пры́дам ўжэ*, але: *цэ́ркаў у нас*; *хлеп ужэ́ кла́лі*; *прышо́ў у сваты́.*

Вымаўленне гука [х] або [п] ці спалучэнняў зычных [хв (хв')] адпаведна нарматыўнаму [ф] у словах іншамоўнага паходжання: *ту́хлі, карто́пеляк, зь Яўхі́мам, Хвадо́рка, Хвядо́рка*, але: *яфрэ́йтара палучы́ў, заве́дуюшчым фе́рмы, ні по́мню фамі́ліі.*

Спалучэнне зычных [дн (дн')]: *с адно́й стараны́, з аднае́ ха́ты, дваю́радны брат, холодно́, адна́жды, пасьле́дні разо́к*, аднак: *анно́ ха́тку ко́нчыла, тады́ онно́ по́лькі, О́льку анну́, у анно́й ко́мнаці.* Акрамя таго, формы толькі з адным санорным гукам [н] або групай санорных зычных [нj] у адпаведнасці з [дн]: *шыро́кія спані́цы, сёні, Вялі́канья.*

Спалучэнне гукаў [чн (чн')]: *сма́чно, уручну́ю, на ўсюно́чну, ручні́кі́, назна́чылі памо́чнікам.*

Спалучэнне гукаў [с'ц'] на канцы слова, пераважна ў назоўніках жаночага роду з нулявым канчаткам: *саве́цкая ўла́сьць, часьць, больш дасьць.*

Скарачэнне складоў у асобных словах: *які́х хоч* 'хочаш'; *трэ было́ йсці* 'трэба'; *сяраўно́ пайду́* 'ўсё роўна'; *а шо шчы* 'яшчэ'; *мо са ўсяе́ Белару́сі* 'можа' і інш.

Іншыя гукавыя адметнасці: словаформы *кужэ́лныя, ілну́ зьбіра́лі мы, на са́ньках, беньзапі́лаю* (і: *бе́нзаю*), *саро́маюса, Хвадо́рка*, (і: *Хвядо́рка*) і інш.

### У марфалагічным ладзе

Націскны канчатак *-э*, націскны і ненаціскны ***-ы*** ў назоўніках жаночага роду ў давальным і месным склонах адзіночнага ліку І скланення (назоўнікі з асновай на *-а* (*-я*)) пры аснове на зацвярдзелы і зыходны заднеязычны зычны: у *рацэ́, ік ма́тушцы, саба́цы паказа́ў, прыхо́дзілі к дзе́ўцы, на гу́ліцы, па сашы́, у пе́чы, была́ ў Бу́ччы*, у *той бясе́цы, цэ́ркаўцы, па ча́рацы, на ла́вачцы, на той плашча́дцы.*

[1] Сімвал ' у такіх выпадках абазначае адсутнасць у вымаўленні гука [г] ці яго вельмі невыразнае вымаўленне.

Ненаціскны канчатак **-і** ў назоўніках жаночага роду ў давальным і месным склонах адзіночнага ліку пры аснове на мяккі зычны: *у сваты к Мáні, у áрміі.*

Двухскладовыя рознай акцэнталагічнай якасці канчаткі **-ою** (**-аю**), **-ёю** (**-ею**), **-яю** ў назоўніках і граматычна звязаных з імі займенніках жаночага роду ў творным склоне адзіночнага ліку, а таксама ў словах атрыбутыўнага тыпу: *з сястрóю сваéю, з дачкóю, іс салóдкаю вадóю, з мáмаю, дзéўкаю, іс сьвякрýхаю, с Óлькаю, с падлóгаю, з цялýшкаю, рэ́залі... гэ́таю, бéнзаю, беньзапíлаю, і з Óляю, сям'ёю, з маéю дачкóю, ёю неⁱ ўладáя.*

Канчатак **-е** або **-і** рознай акцэнталагічнай якасці ў назоўніках жаночага, мужчынскага і ніякага роду ў давальным і месным склонах адзіночнага ліку пры аснове на цвёрды зычны: *у стýпе, на лáве, на сенакóсе, у Хáркаве, у магазíне, па сялé, у нáшум сялé* і: *готóвіліса к свáдзьбі,* у *сельхосшкóлі, у аннóй кóмнаці, у той рáмі, вучы́ць у шкóлі, прыбірáла ў хáці, у цэ́ркві, а ў срадзíні, пáсьвіў па лéсі, у магазíні, на том мéсьці, на дзéраві,* але: *рабíла на пуцé.*

Націскны і ненаціскны канчатак **-у** ў розных групах назоўнікаў мужчынскага роду ў давальным і месным склонах адзіночнага ліку пры аснове на заднеязычны зычны: *éхалі к жэніхý, па бáцьку, нéдзі на чардакý, спáлі на лóшку, дзяжýрыў у Кóлку.*

Націскны канчатак **-у** (**-ю**) у назоўніках мужчынскага роду ў месным склоне пры цвёрдай або мяккай акцэнтаванай аснове: *у тры́ццаць дзяўя́тум гадý; у сóрак чацьвёртум гадý; на палý спáлі; давáлі ўсе па кулю́.*

Націскны канчатак **-ы** або **-э** ў назоўніках мужчынскага і ніякага роду ў месным склоне адзіночнага ліку пры аснове на няпарны цвёрды зычны: *на крыльцы́ там сядзéў; у дварэ́.*

Канчатак **-о** (**-ё**) у клічнай форме назоўнікаў жаночага роду, якія маюць значэнне асобы: *Мáнё, хтó-то гэ́то, мáмо,* але: *от, Алёнка, як; о Хвядóрка.*

Націскны канчатак **-э** (**-е**) у назоўніках мужчынскага роду ў назоўным і вінавальным склонах множнага ліку: *зьбірáла кулé; рабíў э́такія кашэ́; такíя таўкачэ́,* але: *браты́ былí; бýхнулі бальшавíкí; сушы́лі ўюны́; грыпкí зьбірáлі; сяльнíкí; тры красты́; пупы́ вы́ставяць; кажухí шы́лі; загóрнеш цвічкí.* Акрамя таго: *чаты́ры карóве.* Пры іншай акцэнталагічнай пазіцыі: *хлóпцы прыхóдзяць; нéмцы ганя́лі; сянакóсы; тры гóдзікі; два рáзы; два гóды; йігрáў... тáнцы.*

Канчатак **-а** ў назоўніках ніякага роду ў назоўным і вінавальным склонах множнага ліку: *цяля́та ты́я паíць; брóўна с аднóй старaны́; такíя жóрна; рэ́залі дрóва,* але: *вýшы ж усадзíла.* А таксама ў іншым выпадку: *зьбірáліса дзяўчáта; дзяўчáта о парасьлí; сьвíньня гадавáлі.*

Нулявы канчатак у родным склоне множнага ліку ў назоўніках I тыпу скланення, калі аснова заканчваецца на адзін зычны (і пры іншым гукавым характары асновы), а таксама ў назоўніках II тыпу скланення з розным кансанантным зыходам асновы: *накладýць ужэ́... й калбáс туды́, й яéц; с авéц,* але пры іншых умовах у гэтай жа граматычнай катэгорыі: *зь дзевяцí часóў, прывялí пацанóў, с капцóў.*

Канчатак **-ах** (**-ях**) з рознымі акцэнталагічнымі характарыстыкамі ў назоўніках меснага склону множнага ліку: *у карóпках, на плéчах,* у *ягáдах, на сáньках, пры нéмцах, пры Савéтах,* у *лáпцях, на кóнях.*

Ненаціскныя канчаткі **-э**, **-е**, **-о**, **-а** ў сцягнутых формах слоў атрыбутыўнага тыпу ў назоўным склоне адзіночнага ліку жаночага і ніякага роду: *чацьвёрта часьць; пóсна куцья́; мéсто найлéпшо; мя́хка сáла; тóўстэ суквó; весёлэ вясéльe; прасéянэ; знóшанэ што; харóшэ вясéльe; сьвянцóнэ éлі; нéке вазíлі салóдке гэ́таке,* аднак: *савéцкая ўлáсьць; бóжае паяўлéніе.* І ў становішчы пад націскам: *маладáя-маладáя дзéвачка; такáя вучóба; ры́ба такáя; якóя сьвя́то; такóе вясéльe.*

Ненаціскны канчатак **-у** (**-ю**) і націскны **-ую** ў прыметніках жаночага роду і граматычна звязаных з імі іншых часцінах мовы ў вінавальным склоне адзіночнага ліку: *бéлу анýчку, кры́шу саламля́ну, цэ́лу ноч, э́таку паткалóтку, кáжну нядзéлю, на ўсюнóчну, сёняшню свáдзьбу, капýсту кíслу, нéку бáнку дзесяцілітрóву, куцью пóсну, куцью скарóмну* і: *хáту тýю, у другýю кóмнату, Бóжую Мáцер, на тýю плашчáдку, тýю гóлоў, тýю дзéвачку, за маладýю.*

Двухскладовы канчатак **-ое** (**-ае**) у лексемах атрыбутыўнага тыпу, а таксама ў субстантывах жаночага роду ў родным склоне адзіночнага ліку: *з аднаé хáты, гэ́тае самагóнкі, са ўсяé Беларýсі, каля́ маладóе, у маладóе гуля́лі.*

Ненаціскны канчатак **-уй** у атрыбутывах жаночага роду меснага склону адзіночнага ліку: *пры Пóльскуй.*

Ненаціскны канчатак **-ум** у атрыбутывах мужчынскага і ніякага роду меснага склону адзіночнага ліку: у *тры́ццаць дзяўя́тум гадý;* у *сóрак чацьвёртум гадý; а ў сорак п'я́тум пашлí; у нáшум сялé.*

Націскны канчатак **-ым** (**-ім**) у прыметніках, а таксама ў марфалагічна звязаных з імі займенніках у творным склоне адзіночнага ліку мужчынскага і ніякага роду: *з маíм брáтом; з тым сваíм хлóпцам; з тым кавалéрам; таргавáлі ўсім,* але: *таргавáлі... усяля́кім.*

Націскны канчатак **-ом** (**-ём**) у прыметніках мужчынскага і ніякага роду, а таксама марфалагічна звязаных з імі займенніках у месным склоне адзіночнага ліку: *на том мéсьці; на якóм дзéраві; былá ні пры чом; ні былó на чом чытáць; хадзíць ні былó ў чом.*

Канчатак **-ыя** (**-ія**) у лексемах атрыбутыўнага тыпу ў назоўным і вінавальным склонах множнага ліку: *шырóкія спанíцы; сýшаныя сы́рчыкі; бóсыя, гóлыя танцýям; бéлыя анýчкі; чóрныя валóчкі; валóкі такíя; нéкія квітáрусы пазалівáныя; хадзíў у Вялíкія,* але: *такíе мéдленые, уся́кіе, стары́е.*

Канчаткі ***-аш***, ***-еш*** (фанетычна ***-яш***) у дзеясловах I спражэння 2-й асобы адзіночнага ліку: *вымáеш, загóрнеш, панімáяш, зацягáяш, наапкрýчваяш, хóчаш.*

Канчаткі ***-е*** (фанетычна ***-я***), ***-а*** (фанетычна ***-э***) з рознымі акцэнталагічнымі характарыстыкамі ў дзеясловах I спражэння 3-й асобы адзіночнага ліку: *ідзé, прынясé, правядзé, ні выбірáе, хватáе, пасьвяцáе, пáхня, кáжа, кáжэ, хóчэ.*

Флексія ***-ыць*** (***-іць***) (фанетычна ***-ыц*** (***-іц***)) у дзеясловах II спражэння 3-й асобы адзіночнага ліку: *ляжы́ць, пакíпіць, ні слýжыць, хóдзіць, запáліц, гавóрыц, дóіцца, мóліцца, зрóбіцца.*

Канчатак ***-мо*** ў 1-й асобе множнага ліку дзеясловаў абвеснага ладу: *ямó, стаімó, пастаíмо.*

Націскны канчатак ***-ом***, ненаціскны ***-ам*** (***-ям***) у дзеясловах I спражэння 1-й асобы множнага ліку: *напякóм, таўкóм, падзярóм, парэ́жам, пры́дам, знáям, прасéям, закамáндуям, прыбірáям, танцýям, вы́п'ям, прашчáям,* але: *хóчэм.*

Ненаціскны канчатак ***-ым*** (***-ім***) у дзеясловах II спражэння 1-й асобы множнага ліку: *насýшым, напáрым, паджáрым, накалóцім, вы́стаім.*

Дыферэнцыраваныя ў залежнасці ад тыпу спражэння канчаткі ў дзеясловах 3-й асобы множнага ліку: *даю́ць, дадýц, ні хóчуць, абслýжваюць, вéшаюць, насы́плюць, мяшáюц, стая́ць, наварáц, чцяць, намалóцяць, запýсьцяцца, гавóрац.*

Формы інфінітываў на ***-ці*** (патэнцыяльна і ***-чы***), інакш кажучы, з наяўнасцю абавязковага канцавога ***-і*** і з націскам пераважна на аснове: *вы́лесці, атпéрці, ні хóчуць éсьці, кап папáсьці,* але: *трэ́ба йсьці.*

Зваротны афікс ***-ся*** (і іншыя варыянты), а таксама ***-ца*** (***-цца***) у асабовых словаформах дзеясловаў цяперашняга і прошлага часу, а таксама ў форме інфінітыва: *называ́лася, валнавáлася, адстáўса, улюбíўса, нрáвілосо, дóіцца карóва, запýсьцяцца ты́я карóўкі, свáтацца прыхóдзілі* і інш.

Рэалізацыя дзеяслова ***ёсць*** у варыянце ***е***: *е мéсто.*

Злучнікі ***шоб***, ***аля́*** 'але', часціца ***ге***, злучнік (часціца) ***ак*** 'як' і іншыя асаблівасці.

### Сінтаксічныя асаблівасці

Дзеяслоў у спалучэнні з беспрыназоўнікавым назоўнікам мужчынскага роду, які ўжываецца ў функцыі прамога аб'екта ў форме назоўнага склону множнага ліку адушаўлёных назоўнікаў: *éлі ты́я рáкі; гадавáлі авéчкі; сушы́лі ты́я ўюны́.*

Пэўна-колькасныя лічэбнікі ***два***, ***тры*** і іншыя ў спалучэнні з адушаўлёным назоўнікам у форме назоўнага склону множнага ліку адпаведна роднаму склону ў літаратурнай мове: *дзьве карóўкі гадавáла.*

Дзеяслоў у спалучэнні з беспрыназоўнікавым назоўнікам мужчынскага роду ў форме роднага склону адзіночнага ліку ў сінтаксічнай функцыі прамога аб'екта канкрэтна-прадметных назоўнікаў: *валóкі дзяржáць лáпця; паслáлі сяльнікá; заслóна прыстанавíлі; ілнý зьбірáлі; шы́ла шастунá; зрабíла шалашá; тагó дóміка я запóмніла.*

Дзеяслоў у спалучэнні назоўніка ў форме назоўнага склону адзіночнага ліку з прыназоўнікам ***за*** пры адушаўлёных назоўніках мужчынскага роду адпаведна вінавальнаму ў іншых тыпах беларускага дыялектнага і нарматыўнага маўлення: *за Язэ́пка ідзéш.*

Дзеяслоў ***жаніцца*** (і вытворныя ад яго) у спалучэнні назоўніка ў форме творнага склону з прыназоўнікам ***з*** (фанетычна ***с***): *пажанíліса с Óлькаю, з маéю дачкóю.*

Дзеяслоў у спалучэнні назоўніка (займенніка) у форме вінавальнага склону адзіночнага ліку з прыназоўнікам ***пад*** адпаведна пашыраным у іншых тыпах беларускага дыялектнага маўлення канструкцыям з прыназоўнікам ***да*** і ***к*** (***ка***): *падышóў пад мянé.*

Дзеяслоў у спалучэнні назоўніка ў форме вінавальнага склону з прыназоўнікам ***у*** (***ў***), які ўказвае на сродак выканання дзеяння: *малóлі ў жóрна.*

Дзеяслоў руху ў спалучэнні назоўніка ў форме вінавальнага склону множнага ліку з прыназоўнікам ***у*** (***ў***) для выражэння аб'ектных адносін (указанне на мэту дзеяння): *хадзíла ў грыпкí.*

Дзеяслоў у спалучэнні назоўніка (займенніка) у форме давальнага склону з прыназоўнікам ***к*** (***ік***) пры ўказанні на аб'ект (на асобу, да якой скіраваны рух, дзеянне): *у свáты к табé; пóйдуць к камý; прыхóдзіў ік нам; павядýц к тамý маладóму; éхалі к жэніхý.*

Канструкцыя: назоўнік (займеннік) у форме назоўнага склону ў спалучэнні назоўніка (займенніка) у форме творнага склону з прыназоўнікам ***з*** для выражэння аб'ектных адносін (пры абазначэнні асобы (іншых жывых істот), якая ўзаемадзейнічае з іншай асобай (жывой істотай)): *я дружы́ла з ім, Сяргéём; карóва з цялём.*

Канструкцыя: назоўнік у форме вінавальнага склону ў спалучэнні з прыназоўнікам ***цераз*** для выражэння аб'ектных адносін (пры ўказанні на прастору, праз якую трэба праходзіць): *прапускáлі нас цéрас сíто.*

Назоўнікавыя канструкцыі з давальным прыналежнасці: *жóнка сы́ну.*

Канструкцыя: беспрыназоўнікавы назоўнік у форме творнага склону, які абазначае ўзрост суб'екта і разам з гэтым мае часавае значэнне: *дзéцьмі хадзíлі.*

Дзеяслоў у спалучэнні назоўніка ў форме давальнага склону з прыназоўнікам ***к*** (***ік***) для выражэння акалічнасных адносін (пры ўказанні на час, свята): *ік Калядáм хáту прыбірáлі.*

Канструкцыя: назоўнік у форме вінавальнага склону ў спалучэнні з прыназоўнікам ***перад***, які ўказвае на адносны час дзеяння: *пéрад нóвы год.*

Канструкцыя: назоўнік у форме роднага склону ў спалучэнні з прыназоўнікам ***да***, які ўказвае на адносны час дзеяння: *аннó да Калят́*; *да Вялі́канья*; *да Пакрóў ужэ́ мáло хадзі́ла.*

Канструкцыя: назоўнік у форме вінавальнага склону ў спалучэнні з прыназоўнікам ***на***, які ўказвае на адносны час дзеяння: *на Пакрóвы.*

Канструкцыя: назоўнік у форме творнага склону множнага ліку ў спалучэнні з прыназоўнікам ***за***, які ўказвае на адносны час дзеяння: *за нéмцамі мо трóхі хадзі́лі.*

Канструкцыя: назоўнік у форме вінавальнага склону ў спалучэнні з прыназоўнікам ***у***, які ўказвае на адносны час дзеяння: *у пост éлі.*

Канструкцыя: назоўнік у форме роднага склону ў спалучэнні з прыназоўнікам ***цераз***, які ўказвае на адносны час дзеяння: *цéраз скóлько нідзéль.*

Канструкцыя: беспрыназоўнікавы назоўнік у форме вінавальнага склону, які ўказвае на адносны час дзеяння: *а Крашчэ́нья тóжэ пасьці́лі.*

Канструкцыя: назоўнік з прыназоўнікам ***каля*** (***ля***) пры абазначэнні месца знаходжання і месца дзейнасці побач з іншай асобай: *каля́ маладóе, ля цэ́ркві, ля мянé, ля бáцюшка.*

Дзеяслоўная канструкцыя ў складзе назоўніка ў форме творнага склону ў спалучэнні з прыназоўнікам ***за***: *у кагó былó за кім хадзі́ць у шкóлу.*

Дзеяслоў у спалучэнні ўласнага множналікавага назоўніка ў форме роднага склону множнага ліку з прыназоўнікам ***у*** (***ў***) пры ўказанні месца адпаведна меснаму склону ў іншых тыпах беларускага дыялектнага і нарматыўнага маўлення: *валі́лі ў Гáнцавіч*; *рабі́лі тагды́ у Барáнавіч.*

Пытальная канструкцыя ў складзе з займеннікам ***што*** ў форме роднага склону: *а чагó ён?*

Іменны выказнік з назоўнікам у форме вінавальнага склону ў спалучэнні з прыназоўнікам ***за*** ў выказальнай частцы: *быў за стóража.*

Наяўнасць канструкцый: імя (дзейнік) і назоўнік у форме меснага склону ў спалучэнні з прыназоўнікам ***з*** (***із***) у прэдыкатыўнай функцыі: *ён з Пінску.*

Наяўнасць дзеепрыметнікаў прошлага часу залежнага стану, функцыянальны статус якіх вызначаецца выключна сінтаксічна: гэта азначэнне, выказнік у складзе двухсастаўнага сказа або выказнік безасабовага сказа: *засьцілáлі свайгó матрáса, што сéнам* ***напхáны***; *у тóе сéм'яйко прасéянэ, цыбу́лькі*; *ўжэ́ пачці́* ***догово́роно***, *на калі́ свáдзьбá.*

## У галіне лексікі

Ужываецца пераважная колькасць абазначальных сродкаў, якія характэрны для сучаснай беларускай літаратурнай мовы: ***адзéцца, адхілі́цца, арáць, аўчы́на, будавáць, вéдаць, вéльмі, верашчáка, вы́гадаваць, вялі́кі, вясéлле, вячэ́раць, гадавáць, гармóнік, гаравáць, даёначка, гумóвы, далёка, дваюрадны, дóбры, здалёк, зрабі́ць, зруб, кажушóк, кóўдра, лáва, лóжак, лу́ста, начы́нне, нядзéля, падкáзаць, падлóга, прáўнук, палóнка, паклі́каць, памóчнік, пáсвіць, паспявáць, пáхнуць, пóтым, прáсніца, ракá, ручні́к, сарóчка, свя́та, сенакóс, сéні, сёння, скарóміцца, сквáрка, смáчна, суннó, спявáць, татá, трэ́ба, туды́, уну́к, уручну́ю, усялякі, харч, хвастáць, хвóры, цвічóк, цяпéр, цяпéрашні, швáчка, шкарпэ́тачкі, яйка*** і інш.

Істотны пласт слоў складаюць лексічныя адзінкі, характэрныя для гаворак паўднёва-заходняга дыялекту, некаторыя з іх з'яўляюцца рэгіянальнымі набыткамі: *аля́* 'але', *атагравáць малакó* 'адтопліваць', *адстáцца* 'застацца', *вáлян* 'вэлюм', *валóкі* 'вяровачкі для трымання лапцей', *жукéтка* 'жакетка', *жураўлі́ны* 'журавіны', *заслóн* 'услон', *заўсю́ды* 'заўсёды', *збóрня* 'вячоркі', *каду́шка* 'бочка', *картаплéннічак* 'бульбянік', *клы́нда* 'назва стравы', *німаладу́* 'вельмі вялікую, немаленькую', *óбуй* 'абутак', *папру́жачкі* 'спражкі', *прыждáць* 'дачакацца', *плюшнá* 'аер', *сáнькі* 'санкі', *сусі́м* 'зусім', *сяльні́к* 'сяннік', *сы́рчык* 'сушаны сыр', *пол* 'палаці', *пóсьля* 'пасля', *пpыстанаві́ць* 'прыставіць', *узімóю* 'узімку, зімой', *хаджáін* 'муж, гаспадар', *шасту́н* 'сяннік', *рабóчая* 'працавітая' і інш.

Пэўную частку лексічных маўленчых сродкаў складаюць словы, якія па прыналежнасці адносяцца да рускамоўных адзінак, але з'яўляюцца іх мясцовым адаптацыйным варыянтам: *абі́дзець, адзія́ла, аддыхáючы, валнавáцца* (*валнавáлася*), *врóдзі, гармóшка* 'гармонік', *давóльны, дáжа, завéдуюшчы, заўсягдá* 'заўсёды', *інцярэ́сно, калбáса, калхóз, кóмната, ліш, мéсто* (*е мéсто*), *мéбяль* (*і мéбялью*), *накáзваць, нарáвіцца* 'падабацца', *пазнакóміцца* (*пазнакóміліса*), *пакá* 'пакуль', *палучáцца* (*палучáласа*), *панімáць* (*панімáяш*), *панрáвіцца* (*понрáвіласа*), *пастрóіцца, пахóджы* 'падобны', *пая́ўлéніе, прáзьнік, прашчáць* (*прашчáям*), *рáдам, рáньшэ, сахрані́ць, случáцца* (*случáліса*), *срадзі́на* (*а ў срадзі́ні*), *страдáць* (*страдáла*), *уся́ раўнó* // *сяраўнó* (*сяраўнó пайду́*) *такі́е дзелá, тóжа, уважáць* (*уважáў*), *угашчáць* (*угашчáў*), *уладáць,* (*éю не*[1] *ўладáя*), *улáсьць* (*савéцкая ўлáсьць*), *урэ́мя* (*да гэ́тага ўрэ́мяні*), *э́так, усягдá, чці́ць* (*чцяць*), *я́шчык* і інш.

***

Структурны аналіз занатаваных тэкстаў выявіў, што ў сучасным маўленні старэйшага пакалення вясковых жыхароў Ганцавіцкага раёна захавалася істотная колькасць рознаструктурных асаблівасцей уласнадыялектнага і занальнага характару, што мелі месца ў маўленні ў пяцідзесятыя гады мінулага стагоддзя. Так, у фанетычным ладзе ў адпаведнасці са звесткамі ДАБМ маюць месца наступныя вылучальныя рысы.

Яркай асаблівасцю ***сістэмы вакалізму*** мясцовай гаворкі з'яўляецца недысімілятыўнае аканне з адметнасцямі яго рэалізацыі ў розных канструкцыйных умовах (карты № 1, 4–8, 10–17, 19, 20). Практычна гэта азначае, што ў сучасным маўленні гэтак жа, як і было ў папярэдні час, рэалізуецца мадэль няпоўнага недысімілятыўнага акання. Рэгіянальную спецыфіку гэтай мадэлі складае захаванне ў вымаўленні ў канцавым адкрытым складзе ў становішчы пасля цвёрдых зычных галоснага гука [о]. Акрамя таго, у дадзеных гаворках функцыянуе тая адметная мадэль недысімілятыўнага якання, якое па прычыне вымаўлення ў ненаціскных складах, за выключэннем канцавога адкрытага, у становішчы пасля мяккіх зычных гука [а] мае вызначэнне моцнага. Але, нягледзячы на агульны характар увасаблення галосных няверхняга пад'ёму па мадэлі няпоўнага недысімілятыўнага акання, у мясцовым маўленні, паводле наяўных тэкставых звестак, рэалізацыя гука [а] у пазіцыі першага неакцэнтаванага склада пасля цвёрдага зычнага тэрытарыяльна неаднастайная. Так, у маўленні насельнікаў в. Люсіна ў гэтых умовах таксама выступае гук [о]. Аднак асаблівасць яго ўжывання ў тым, што гук [о] у дадзеным тыпе гаворкі не мае, за выняткам канцавога склада, ні выразнай пазіцыйнай абумоўленасці, ні лексіка-граматычнай аднесенасці. Галосны гук [о] у пазіцыі перад націскам часцей адзначаецца пры ўмове, калі ў слове ёсць яшчэ адзін галосны аналагічнай якасці, найперш націскны: *холодно́, догово́роно, бо́ком, го́лоў, хоро́ша'о і плохо́го.* Гук [о] таксама мае месца ў складзе прыстаўкі, тыпу *понра́віласа, послу́хац, откры́ц, прослу́хала*; фіксуецца і ў іншых умовах, як: *боха́нку, голова́, стороны́.* Але ўсе выпадкі рэалізацыі галоснага гука [о] у пералічаных пазіцыях маюць непаслядоўны характар ужывання, яны суіснуюць з больш тыповымі і характэрнымі для занатаванага ідыялекта маўлення варыянтамі рэалізацыі галосных няверхняга пад'ёму ў гуку [а]. Таму можна, відаць, гаварыць не пра функцыянальны, а пра адметны статус галоснага гука [о] у пераднаціскных складах у гаворцы в. Люсіна. У сувязі з гэтым нельга, зразумела, разглядаць рэалізацыю галосных няверхняга пад'ёму ў пераднаціскных складах у гэтым ідыялекце маўлення выключна па мадэлі окання. Адметным для гаворкі в. Люсіна з'яўляецца і тое, што гук [о] выступае тут і на месцы этымалагічнага [*а*]. У наяўных тэкстах галосны [о] зафіксаваны ў складзе часціцы (злучніка) ***да***, дзе ён ужываецца рэгулярна. Матэрыялы каментарыя да адпаведнай карты, наадварот, сведчаць, што замена пераднаціскнога этымалагічнага галоснага [а] гукам [о] – з'ява тыповая ў гэтай мясцовай гаворцы для яе стану ў сярэдзіне мінулага стагоддзя. Там зафіксавана: *зобо́та, зобо́р, доле́ко, содо́к, боря́н, трова́, коря́сь, скозя́ць, дова́й, моля́я, зодря́ўса* (с. 284). Неадрозненне пераднаціскных галосных [а] і [о] і супадзенне іх у гуку [о] не ведала, калі кіравацца ілюстрацыямі ДАБМ, нават паралельнага вымаўлення тыпу *дава́й.* З улікам падобных фактаў ёсць падставы для меркавання, што менавіта оканне вызначала характар сістэмы мясцовага вакалізму гаворкі в. Люсіна мінулым. Базуючыся на сучасных тэкставых ілюстрацыях, заяўляць адназначна пры тып вакалізму першага пераднаціскнога складу пасля цвёрдых зычных у мясцовай гаворцы нельга.

Далёкім ад аднастайнасці з'яўляецца і вымаўленне гука ['е] у фанетычна слабай пазіцыі. За выключэннем дастаткова вытрыманай яго рэалізацыі ў гуку ['а] у першым пераднаціскным складзе, рэалізацыя галоснага ['е] у іншых пазіцыях выглядае неаднастайнай і непаслядоўнай. Апошняе мае месца не толькі ў межах каранёвай марфемы, але і ў выпадках, калі гук з'яўляецца паказчыкам пэўнай марфалагічнай формы (прыклады тыпу: *у ха́[ц'и], у ле́[с'и]*: *у ха́[ц'е], у ле́[с'е]*; *у ха́[ц'а], у ле́[с'а]*; карта № 18; *на лу́зе, на сто́зе*; карта № 74; ***аб сы́не***; ***пры бра́це, аб сва́це***; карта № 79; ***маладо́е*** (*я*), ***маладэ́е***; ***но́ва*** (*е*) ***вядро́, но́вэе вядро́***; адпаведна карты № 114, 115; *малады́я* (*е*); ***но́выя ха́ты***; адпаведна карты № 127, 128; ***ка́жа, ме́ле, грэ́е***; карта № 149 і інш. карты). Праўда, калі кіравацца лінгвагеаграфічнымі звесткамі ДАБМ, рэалізацыя занаціскнога гука ў становішчы пасля мяккага зычнага ў асобных граматычных формах, як у форме дзеясловаў 3-й асобы, у форме прыметнікаў назоўнага склону множнага ліку і ў іншых, не ведала варыянтнасці. У становішчы ў першым пераднаціскным складзе, а таксама ў паслянаціскных складах сёння ў маўленні выступаюць розныя гукі. Аднак тэкставыя матэрыялы сведчаць пра некаторую тэрытарыяльную размежаванасць у выкарыстанні гука ['а] у маўленні жыхароў в. Будча і іншых вёсак, якія размяшчаюцца ў заходнім кірунку ад Ганцавіч, і ў гаворцы в. Люсіна. Гук ['а] у закрытых канцавых складах найбольш часта фіксуецца ў маўленні насельнікаў в. Будча і ў іншых паселішчах раёна заходняга кірунку. У маўленні вяскоўцаў в. Люсіна ў гэтым становішчы зафіксаваны як гук ['е], так і гук ['а]. Разам з тым, пры суіснаванні розных гукаў у аднолькавай пазіцыі і становішчы, тэндэнцыя да больш частага ўжывання гука ['а] у ганцавіцкіх гаворках відавочная.

Традыцыйным з'яўляецца ў дадзеным тыпе маўлення рэалізацыя націскнога гука [о] у асобных марфалагічных формах у становішчы перад наступным гістарычна ўсталяваным зычным [м]. Лабіялізаваны галосны [о] у адпаведнасці з гукам [ы] у іншых дыялектных тыпах беларускага маўлення і ў літаратурнай мове выступае ў мясцовым маўленні ў націскным канчатку меснага склону адзіночнага ліку мужчынскага і ніякага роду ў лексемах з атрыбутыўным значэннем (прыклады тыпу: *аб малад*о́*м*; карта № 117). У непасрэднай залежнасці

ад вымаўлення націскнога гука [о] знаходзіцца тут і ўжыванне ненаціскнога гука [у] у аналагічным становішчы і ў падобнай граматычнай форме (прыклады тыпу: *у жо́ўтум*; карта № 118; *к но́вуй*; карта № 122). Інакш кажучы, у мясцовым маўленні назіраецца ўзмацненне супрацьпастаўлення галосных па пад'ёме, у сувязі з чым рэалізацыя галоснага гука [ы] у некаторых марфалагізаваных умовах не характэрна для мясцовага маўлення. У адносінах да рэпертуару фанетычных сродкаў маўлення гэта сведчыць, па-першае, пра пазіцыйнае выключэнне фанемы [ы] з сістэмы вакалізму, па-другое, пра змяншэнне колькасці гукаў, якія выступаюць не пад націскам, і, нарэшце, пра больш моцную ступень лабіялізаванасці вакалізаваных сродкаў мясцовага маўлення.

Такім жа тыповым па ўвасабленні ў параўнанні з папярэднім перыядам сярэдзіны мінулага стагоддзя з'яўляецца ў мясцовым маўленні і адсутнасць пераходу ['е] у ['о] ці яго наяўнасць пад націскам у некаторых дзеяслоўных канчатках, напрыклад, у флексіі 1-й асобы множнага ліку дзеясловаў абвеснага ладу (прыклады тыпу: [*жн'ем*] ([*жн'е̂м*]), [*иг'е́м*] ([*иг'е̂м*]): [*жн'ом*] ([*жн'о̂м*]), [*иг'о́м*] ([*иг'о̂м*]); карта № 167). Вылучае гэты тып маўлення сцяжэнне галосных гукаў за кошт выпадзення гука [j] і рэалізацыя іх у гуку [а] у назоўным склоне адзіночнага ліку жаночага роду і ў назоўным і вінавальным склонах адзіночнага ліку ніякага роду ў прыметніках і граматычна суадносных з імі іншых групах слоў, а таксама ў гуку [у ('у)] у вінавальным склоне адзіночнага ліку жаночага роду. Гэта з'ява мае ў маўленні тэндэнцыю да стабільнасці дзякуючы дастаткова высокай рэгулярнасці свайго ўвасаблення. Праўда, згодна з матэрыяламі ДАБМ, ганцавіцкія гаворкі ў мінулым характарызаваліся пераважным выкарыстаннем поўнай ненаціскной флексіі ў прыметніках жаночага роду назоўнага склону адзіночнага ліку (прыклады тыпу: *но́вая*: *но́ва*; карта № 113), варыянтнасць мела месца ў прыметніках назоўнага склону адзіночнага ліку ніякага роду (прыклады тыпу: *но́вае* (*я*) *вядро́*, *но́вэе вядро́*: *но́ва вядро́*, *но́вэ вядро́* карты № 115). Наяўнасцю поўнага і сцягнутага канчатка вызначалася таксама і форма прыметнікаў вінавальнага склону адзіночнага ліку жаночага роду (прыклады тыпу: *но́вую ха́ту*: *но́ву ха́ту*; карта № 124). Аднак калі кіравацца матэрыяламі з запісамі сучаснага маўлення, то можна адзначыць, што менавіта сцяжэнне галосных у адзначаных лексіка-граматычных групах слоў з'яўляецца з'явай, тыповай для маўлення. Варыянтнасць, якая б сведчыла пра суіснаванне поўных і сцягнутых формаў у словах з атрыбутыўным значэннем, у сучаснай гаворцы не распаўсюджана. Інакш кажучы, шырокае ўжыванне сцягнутых формаў прыметнікаў у вышэйадзначаных марфалагічных умовах выступае паказчыкам іх уніфікаванасці ў мясцовым маўленні. Тыповасць сцягнутых формаў для мясцовага маўлення падтрымліваецца таксама іх экспансіяй на інавацыйныя ў сістэме забяспечвальных лексічных сродкаў словы – галоўным чынам рускамоўныя запазычанні.

***У галіне кансанатызму*** да ліку дыялектных асаблівасцей сістэмнага тыпу належыць карэляцыя зычных па звонкасці/глухасці (прыклады тыпу: *хле*[*б*], *го́ра*[*д*], *но*[*ж*], *плу*[*г*], *слу*[*п*], *ко*[*т*], *на*[*ш*], *мо*[*х*]; *ка́*[*з*]*ка*, *зага́*[*д*]*ка*, *но́*[*ж*]*ка*, *гу́*[*б*]*ка*, *ма́*[*с*]*ка*, *шчо́*[*т*]*ка*, *ко́*[*ш*]*ка*, *ша́*[*п*]*ка*; адпаведна карты № 45, 46). Згодна з матэрыяламі атласа супрацьпастаўленасць радоў зычных па звонкасці/глухасці ў слабай фанетычнай пазіцыі ў гэтым рэгіёне мае тэрытарыяльную размежаванасць. Пазіцыйнае адрозненне зычных па голасе тут назіраецца галоўным чынам у вёсках паўночнай часткі раёна, але вытрымліваецца яно не надта паслядоўна, асабліва на мяжы марфемных частак слова, найперш прыстаўкі і кораня. У напрамку на поўдзень (на Пінск, дзе якраз знаходзіцца в. Люсіна), аглушэнне звонкіх зычных на канцы слова і ў становішчы перад глухімі зычнымі пераважна не адбываецца. Гэта сведчыць, што ў мясцовым маўленні жыхароў в. Люсіна адсутнічае не толькі ўніфікацыя кансанантных спалучэнняў па ўдзеле голасу, але і звонкія шумныя захоўваюцца на канцы слова. Лінгвагеаграфічны матэрыял ДАБМ фактычна падмацоўваецца і новымі звесткамі. Аднак пры дастаткова выразнай мене звонкага зычнага ў слабай фанетычнай пазіцыі ў паўночнай частцы ганцавіцкага рэгіёна адначасова фіксуюцца выпадкі адсутнасці аглушэння звонкіх зычных. Асабліва часта гэта назіраецца, калі асобны кансанант з'яўляецца службовым словам. Пры гэтым канструкцыйныя ўмовы знаходжання самога кансананта, як паказваюць прыклады, не маюць вызначальнага характару: *каро́ва з цялём*; *мяне́ с О́лькаю*. Таму можна меркаваць: у мясцовым маўленні паводзіны аднагукавых звонкіх і глухіх зычных у становішчы паміж самастойнымі словамі не з'яўляюцца ўніфікаванымі, звонкі або глухі зычны тут можа мець альтэрнатыўны варыянт рэалізацыі. Што датычыць пазіцыі на стыку слоў, тыпу *кап усе́*, *бес свайго́ му́жа*, *це́рас сі́то*, то ў гэтым выпадку больш паслядоўна адлюстроўваецца характар рэалізацыі звонкіх зычных у межах слова. У сувязі з гэтым трэба заўважыць, што ў мясцовым маўленні рэалізацыя звонкіх шумных зычных у пэўнай ступені абумоўліваецца пазіцыйна, аднак далёка не заўсёды. Нарэшце, у сучасным маўленні жыхароў рэгіёна як яго адзінкавыя факты на месцы адпаведнага глухога зычнага ў іншых дыялектных тыпах маўлення і ў літаратурнай мове фіксуюцца выпадкі азванчэння зычнага ў пазіцыі паміж галоснымі (*гэ́дак* і *гэ́так*). Аднак ні выразнай пазіцыйнай фанетычнай, ні лексіка-граматычнай замацаванасцю дадзеная з'ява не вызначаецца, хутчэй можна гаварыць пра асобныя, магчыма, лексікалізаваныя выпадкі функцыянавання выяўленых слоў. Пэўная непаслядоўнасць у пазіцыйным размежаванні зычных гукаў па голасе ў ганцавіцкіх гаворках не з'яўляецца таксама і ідыялектна абумоўленай. Прыклады адноснай непаслядоўнасці ў карэляцыі зычных па звонкасці/глухасці сведчаць пра некаторую незавершанасць працэсу супрацьпастаўленасці гаворак па голасе. Інакш кажучы, супрацьпастаўленне зычных па звонкасці/глухасці ў мясцовым маўленні не з'яўляецца з'явай цалкам пазіцыйна рэгламентаванай, стабільнай і выключна рэгулярнай.

Сярод такой сістэмнай асаблівасці, як карэляцыі зычных па цвёрдасці/мяккасці, самым яркім паказчыкам мясцовага маўлення выступае, як і ў папярэдні час, цвёрдае вымаўленне губных зычных перад націскнымі і ненаціскнымі галоснымі [а], [о] (прыклады тыпу: [*авйóс*], [*ав'йóс*], [*аўйóс*]; [*мйод*]; [*бйóрда*]; адпаведна карты № 29–31; [*пй*]*аць*, [*вйá*]*не* і інш.; [*мйá*]*са*, [*мйá*]*та*, [*мйа*]*ць*; адпаведна карты № 50, 51). У гэтым тыпе маўлення адзначаецца больш шырокае ў параўнанні з іншымі тыпамі дыялектнага і беларускага літаратурнага маўлення чаргаванне губных зычных са спалучэннем губнога і санорнага [л]. Так, яно характэрна для дзеясловаў I і II спражэння з зычным асновы на губны (прыклады тыпу: [*драмл'у*], [*сыпл'у*]; [*дрéмл'еш*], [*сыпл'еш*]; [*дрéмл'е*], [*сыпл'е*]; [*дрéмл'ем*], [*сыпл'ем*]; [*дрéмл'ец'е*], [*сыпл'ец'е*]; [*дрéмл'уц'*], [*сыпл'уц'*]; [*лаўл'ý*], [*кармл'у*]; [*лóв'ац'*], [*кóрм'ац'*], а таксама [*лоўл'ý*], [*кормл'у*]; [*лóўл'ат'*], [*кóрмл'ат'*]; адпаведна карты № 159, 160). Акрамя марфалагізаваных формаў, губны ў спалучэнні з санорным [л] выступае таксама і ў словах з канцавым губным кораня перад акцэнтаванымі галоснымі [а], [о], [і], як у прыкладах тыпу: *саламляну крышу*, *дзераўляны*, *жураўліны*. Наяўныя факты сведчаць: у гэтым тыпе рэгіянальнага маўлення мяккія губныя зычныя не спалучаюцца непасрэдна з акцэнтаванымі галоснымі [а], [о], радзей з [е], [і]. Найчасцей цвёрдым з'яўляецца губны зычны, які займае пазіцыю перад націскнымі і ненаціскнымі галоснымі [а], [о]. Акрамя таго, цвёрдасць/мяккасць губных на тэрыторыі ганцавіцкіх гаворак выяўляецца неаднастайна. Чым далей на поўдзень, тым часцей у маўленні выступае спалучэнне губнога з [j] або з [л]. Улічваючы, што губныя гукі ў мясцовым маўленні, як і ў іншых дыялектных тыпах беларускага маўлення, заўсёды цвёрдыя на канцы слоў і ў становішчы перад наступным зычным, можна заключыць: пазіцыйная цвёрдасць губных зычных у гаворках гэтага рэгіёна – іх дыферэнцыяльная рыса. Таму група білабіяльных зычных у фаналагічнай сістэме мясцовай гаворкі выключана са складу карэляцыі па палаталізаванасці, аднак няпоўнасцю. Сёння дадзеная асаблівасць з'яўляецца такой жа паказальнай для маўлення, як і ў сярэдзіне мінулага стагоддзя. Але пад уплывам розных экстралінгвістычных чыннікаў, а, магчыма, і дзякуючы наяўнасці парных мяккіх губных у асобных пазіцыях у самой гаворцы і ў літаратурнай мове, у сучасным маўленні жыхароў Ганцавіцкага раёна губныя гукі ў становішчы перад націскнымі галоснымі [а], [о], [е] вымаўляюцца таксама мякка. Звернем увагу і на наступны факт. У мясцовым вымаўленні ператварэнне цвёрдага зычнага ў мяккі не рэалізуецца і ў асобных марфалагізаваных умовах. Граматычнай формай, дзе не адбываецца мена цвёрдага зычнага асновы на мяккі, з'яўляецца 1-я асоба множнага ліку дзеясловаў I спражэння (прыклады тыпу: [*идóм*] ([*идôм*]), [*кладóм*] ([*кладôм*]), [*н'асóм*] ([*н'асôм*]); карта № 150), а таксама аналагічная асабовая форма, але групы нетэматычных дзеясловаў (прыклады тыпу: [*йадóм*], [*дадóм*]; карта № 161). З'яўляецца агульнапрызнаным, што функцыянаванне цвёрдага зычнага асновы ў адзначаных марфалагізаваных умовах не абумоўлена фанетычна і звязана выключна з дзеяннем закона аналогіі. У любым выпадку відавочна, што парныя па цвёрдасці/мяккасці зычныя ў мясцовым маўленні не ахопліваюць усе пазіцыі ў межах асновы. Незавершанасць працэсу карэляцыі зычных па цвёрдасці/мяккасці ў ганцавіцкіх гаворках у параўнанні з іншымі дыялектнымі тыпамі маўлення, якая ўвасабляецца ў функцыянаванні няпоўнага раду зычных, супрацьпастаўленых па цвёрдасці/мяккасці, з аднаго боку, а з другога – тэрытарыяльнае размежаванне гэтай сістэмнай асаблівасці, падмацоўваецца таксама цвёрдым вымаўленнем свісцячага гука [с] у складзе постфікса ***-ся*** і яго фанетычных варыянтаў (прыклады тыпу: *баю*[*с'а*] (*баю*[*са*]) і інш.; карта № 164; *баюса*, *купáўса* і інш.; карта № 165). Ацвярдзенне гука [с] у зваротным афіксе дастаткова паслядоўнае, яго свабоднае вар'іраванне адсутнічае, тым самым ужыванне [с'], паводле наяўных запісаў, не складае тыповай асаблівасці маўлення. Сённяшнія звесткі, па сутнасці, адпавядаюць матэрыялам ДАБМ. Акрамя таго, цвёрдай з'яўляецца тут і рэалізацыя канцавога гука [ц]. Ілюстрацыі з сучасных запісаў паказваюць, што цвёрды фінальны гук [ц] выступае ў любым тыпе абазначальных сродкаў: *васемнáццац*, *шо хоц*, *гадóў дзéсяц ці пяц*, *шоб брац*, *отрыц*, *мáма... запáліц*, *прынясýц*, у тым ліку і ў дзеяслоўных словаформах – у форме інфінітыва, а таксама ў асабовых канчатках дзеясловаў II спражэння 3-й асобы адзіночнага ліку і 3-й асобы множнага ліку I і II спражэння. Гэта асаблівасць характарызавала маўленне і ў папярэдні час. Аднак, як паводле матэрыялаў ДАБМ (прыклады тыпу: [*мéл'уц*], [*кóл'уц*], [*кáжуц*], [*дрэ́мл'уц*], [*сыпл'уц*]; карта № 156), так і паводле сучасных звестак, такое вымаўленне зафіксавана толькі ў гаворцы насельнікаў в. Люсіна.

Такім чынам, пералічаныя выпадкі рэалізацыі цвёрдых зычных згодна з іх мяккімі адпаведнікамі ў іншых беларускіх гаворках і ў літаратурнай мове сведчаць, што ў гаворцы жыхароў Ганцавіцкага раёна карэляцыя зычных па цвёрдасці/мяккасці не атрымала поўнага ўвасаблення. Да таго ж супрацьпастаўленыя адносіны зычных тут, у адрозненне ад іншых тыпаў гаворак беларускай мовы, маюць шэраг рэгіянальных асаблівасцей. Асобныя з іх выступаюць як дыферэнцыяльныя рысы мясцовай сістэмы кансанантызму, іншыя вызначаюцца марфалагічнымі ўмовамі рэалізацыі.

Акрамя таго, вельмі асаблівае з пазіцыі зычных, суадносных па цвёрдасці/мяккасці, выглядае ў ганцавіцкім маўленні ўжыванне мяккага заднеязычнага гука [к]: *ткяц* 'ткаць', *вокьнó* 'акно', *вóкьна*, *з сцякьлóм*, *акь ужэ́ такúю*, *дзéвочкю*. Вымаўленне зычнага [к'] устаноўлена толькі ў ідыялекце маўлення в. Люсіна. Рэалізацыя мяккага заднеязычнага гука не з'яўляецца пазіцыйна дэтэрмінаванай, бо ў зафіксаваных прыкладах адсутнічаюць выпадкі прагрэсіўнай асіміляцыі заднеязычнага [к]: сярод тэкставых ілюстрацый няма ніводнай, дзе б заднеязычны гук [к] знаходзіўся ў становішчы пасля папярэдняга мяккага зычнага. Не выпадае гаварыць нешта

пэўнае і пра лексіка-граматычную абумоўленасць змякчэння [к] ці пра яго марфалагічны характар. Па сутнасці, устанавіць лінгвістычны статус [к'] у гаворцы, улічваючы наяўны матэрыял, складана. Ніякіх дадатковых матэрыялаў, якія б утрымлівалі спадарожную інфармацыю адносна мяккага заднеязычнага [к] у розных марфалагізаваных умовах ці пра яго мяккае вымаўленне ў некаторых лексіка-граматычных разрадах слоў, не змяшчаюць і навуковыя каментарыі да картаў ДАБМ. Праўда, нейкія мізэрнейшыя звесткі пра наяўнасць у ганцавіцкіх гаворках у марфалагізаваных умовах гука [к'] даюць каментарыі да карты № 115 «Ненаціскны канчатак назоўнага склону адзіночнага ліку прыметнікаў ніякага роду». Паводле інфармацыі, змешчанай у каментарыі, у самых блізкіх да в. Люсіна н. п. 750 (в. Боркі, Ганцавіцкі р-н), н. п. 803 (в. Дрэбск, Лунінецкі р-н) у сцягнутых формах прыметнікаў назоўнага склону адзіночнага ліку ніякага роду рэалізуецца гук [к']: *в'ел'ик'е с'ело́*; *дал'ок'е с'ело́* і інш. Якраз такія ж граматычныя формы выяўлены і ў наяўным тэксце: *не́ке вазі́лі сало́дке гэ́таке*; *усе́ такее*. Умовы ўжывання [к'] у адзначаных выпадках марфалагізаваныя: мяккі зычны [к] выступае ў назоўным і вінавальным склонах адзіночнага ліку ў сцягнутых формах прыметнікаў ніякага роду. Але адметнасць дадзенай граматычнай катэгорыі слоў у тым, што менавіта характарам вымаўлення мяккага гука [к] гэтыя формы супрацьпастаўлены аналагічным аднаскладовым словаформам з цвёрдым канцавым пярэдне-язычным зычным і канцавым галосным [е], з'яўленне якога ў лінгвістычнай літаратуры інтэрпрэтуецца вынікам страты [j], рэгрэсіўнай асіміляцыяй галосных і іх сцяжэннем: параўн. *то́ўстэ сукно́*, *весёлэ вясе́лье*, *прасе́янэ*. Акрамя таго, неістотная інфармацыя пра марфалагізаваны характар ужывання мяккага заднеязычнага гука [к] змяшчаецца на карце № 158 «Зычны асновы на заднеязычны ў парадыгме цяперашняга часу». Так, паводле звестак гэтай карты, у бліжэйшым да в. Люсіна н. п. № 793 (в. Лугі, Лунінецкі р-н) зафіксаваны формы, тыпу [*стрыγ'е́ш*], [*п'ак'е́ш*]. У іншых формах у гэтым жа н. п. мяккія заднеязычныя не выяўлены. Да таго ж, калі зважаць на каментарыі да ўказанай карты (с. 642), словаформа *с'ц'ераг'е́ш* ужываецца як паралельная да *с'ц'еражэ́ш*. Як відаць, паслядоўнага марфалагічнага раду, у якім бы мела месца супрацьпастаўленне заднеязычных зычных [г], [к] па цвёрдасці/мяккасці, гэтыя фанемы не ўтвараюць. Безумоўна, самі па сабе такія факты сведчаць не толькі пра наяўнасць у мясцовых гаворках карэляцыі заднеязычных [г], [к] па цвёрдасці/мяккасці, але і яе некаторыя асаблівасці ўвасаблення. Гукі [г], [к] у становішчы перад галоснымі пярэдняга раду (згодна з прыкладамі ў становішчы перад галосным [е]) у канцавых закрытых і адкрытых складах у асобных граматычных формах у мясцовым маўленні гучаць мякка. Але такая карэляцыя заднеязычных тут функцыянальна слабая і абмежаваная. Што ж датычыць непасрэдна інфармацыі з аналізуемай тэрыторыі, то падобныя лінгвагеаграфічныя звесткі з Ганцавіцкага раёна адсутнічаюць. Памятаючы, што прыклады ўжывання мяккага зычнага [к] у гаворцы в. Люсіна не маюць пазіцыйна абумоўленага характару, не вызначаюцца замацаванасцю за нейкай лексіка-граматычнай групай слоў ці марфалагічнай формай (формамі) і не з'яўляюцца адзінымі па рэалізацыі, можна асцярожна меркаваць пра наступнае. Магчыма, адметнае вымаўленне зычнага гука [к'] у дадзеным ідыялекце – гэта ўвасабленне факультатыўнага статусу гука [к'] у мясцовай гаворцы, не выключана і адваротнае – сацыяльны характар яго абумоўленасці, ці праява нейкіх індывідуальных асаблівасцей вымаўлення. Праўда, не адмаўляецца і яго іншая інтэрпрэтацыя[1]. Некаторая мясцовая спецыфіка захоўваецца тут і пры рэалізацыі заднеязычнага гука [г'], які выступае ў складзе часціцы *ге*, а таксама займенніка ***ге́ты***. Падагульняючы, заўважым: проціпастаўленне зычных па цвёрдасці/мяккасці ў гаворцы в. Люсіна мае шэраг адметнасцей у параўнанні з гаворкай іншых населеных пунктаў раёна. Да таго ж, калі характарызаваць ганцавіцкую гаворку наогул, можна канстатаваць: у мясцовай гаворцы, як сістэме забяспечвальных фанетычных сродкаў маўлення, працэс карэляцыі зычных па цвёрдасці/мяккасці не атрымаў свайго поўнага ўвасаблення, тут таксама выяўляецца шэраг лакальных асаблівасцей у сістэме палаталізаванасці зычных. Таму можна меркаваць, што ў параўнанні з іншымі дыялектнымі тыпамі беларускага маўлення ў гэтым рэгіёне ўсталяванне адносін паміж зычнымі па цвёрдасці/мяккасці пачалося ў іншую гістарычную эпоху, магчыма, больш познюю. Але хацелася б звярнуць увагу на наступную акалічнасць. Агульнавядома: у беларускай мове да ліку сістэмных асаблівасцей зычных па месцы ўтварэння супрацьпастаўленай з'яўляецца якасць лабіялізаваны/нелабіялізаваны зычны. Адносіны зычных гукаў па дадзенай якасці вызначаюцца бінарнасцю. Яны ў такой жа ступені значымыя для фаналагічнай сістэмы, як і іншыя яе супрацьпастаўляльныя асаблівасці. У сувязі з гэтым заканамерным падаецца пытанне: а ці не варта за выпадкамі з адсутнасцю карэляцыі зычных па цвёрдасці/мяккасці менавіта ў групе білабіяльных кансанантаў бачыць у мясцовай гаворцы выразнае праяўленне іх дыферэнцыяльнай адметнасці – лабіялізаванасці як адрознівальнай рысы фаналагічнай сістэмы? Пры такім падыходзе знойдзе сваё тлумачэнне і наяўнасць груп зычных (губны ў спалучэнні з [j] або губны ў спалучэнні з [л]) у вышэйадзначаных пазіцыях, якія ў аналагічных пазіцыях не вядомы іншым тыпам беларускага дыялектнага маўлення.

[1] Паводле дыферэнцыяцыі і групоўкі гаворак гэтай тэрыторыі Ф. Д. Клімчуком гаворка в. Люсіна аднесена да групы паўночнабрэсцкіх гаворак, якія маюць комплекс адрозных фанетычных асаблівасцей. Гл.: Клімчук Ф. Д. Гаворкі Заходняга Палесся: фанетычны нарыс / Ф. Д. Клімчук. Мінск: Навука і тэхніка, 1983. С. 39 і інш.

Вызначальным для маўлення сярэдзіны мінулага стагоддзя з'яўлялася адсутнасць падвоеных зычных гукаў у інтэрвакальным становішчы (прыклады тыпу: *насé[н'н']е*, *вóсе[н'н']ю*: *насé[н']е*, *вóсе[н']ю*: *насé[н'й]е*, *вóсе[н'й]ю* і інш.; карта № 64). Праўда, калі параўноўваць матэрыялы ДАБМ з сучаснымі ўзорамі маўлення, вынікае, што ў ганцавіцкай гаворцы, асабліва ў вёсках, размешчаных у заходнім кірунку, якраз пераважае падоўжаная рэалізацыя інтэрвакалізаваных зычных. Але, як устаноўлена, у сучасным маўленні непадоўжанасць зычных не з'яўляецца цалкам тэрытарыяльна супрацьпастаўленай і фанетычна аднастайнай. Сёння выкарыстоўваюцца лексічныя сродкі з наяўнасцю/адсутнасцю падоўжаных у засведчаных умовах пры некаторай прыярытэтнасці ў рэалізацыі непадоўжанага зычнага ў інтэрвакальным становішчы. Гэта сведчыць пра тое, што пры адноснай стабільнасці дадзенага фрагмента фанетычнай сістэмы гаворкі зараз тут таксама мае месца пераарыентацыя на іншыя інтэрвакалізаваныя сродкі.

Як выразная адметнасць маўлення захоўваецца асіміляцыйная пазіцыйная мяккасць свісцячых гукаў. Аднак у розных частках рэгіёна яна ўвасабляецца неаднастайна. У большасці ідыялектаў маўлення свісцячыя ў становішчы перад наступнымі мяккімі гукамі вымаўляюцца мякка, тыпу: *пасьвяцáў*, *прáсьніцы*, *ізь дзéрава*, *ізь йім*, *а сь сéм'я* і інш. Асіміляцыйная мяккасць свісцячых як з'ява рэгулярная і паслядоўная па ўвасабленні не засведчана ў ідыялекце маўлення в. Люсіна, напрыклад: *сцірáла*, *цвічкóм*, *вы́лесці*, *свет*, *мая́ жы́зня*, *з цялём* і інш. Як вядома, асіміляцыйнае змякчэнне свісцячых спецыяльна не разглядалася ў ДАБМ, таму нельга гаварыць, наколькі сістэмна ўвасаблялася гэта адметнасць у мясцовым маўленні ў папярэдні час. Устанавіць характар увасаблення гэтай з'явы дапамагаюць ускосныя звесткі. Так, у каментарыях да карт ДАБМ у в. Люсіна або ў бліжэйшых да вёскі н. п. засведчаны наступныя звесткі: *сц'еражý*, *сц'ераһý*, *сц'еражéш*, *сц'ераɣýць* (карта № 158, н. п. 756 (Бальшыя Чучавічы, Лунінецкі р-н); *зб'ережéмо* (карта № 169, н. п. 755 (в. Люсіна, Ганцавіцкі р-н); *сп'íмо* (карта № 169, н. п. 757 (в. Ялова, Ганцавіцкі р-н); *йесц*, *с'есц* (карта № 174, н. п. 755 (в. Люсіна); *абыйсц'и́* (карта № 176, н. п. 753 (в. Раздзялавічы, Ганцавіцкі р-н). Улічваючы гэтыя няпоўныя звесткі, можна меркавальна заўважыць, што адсутнасць мяккіх свісцячых у становішчы перад наступнымі мяккімі зычнымі гукамі была адметнай рысай маўлення гэтай часткі гаворак Ганцавіцкага раёна і раней. Сёння ў маўленні захоўваецца таксама прыпадабненне свісцячых да шыпячых і шыпячых да свісцячых, але працэс асіміляцыі не характарызуецца паслядоўнасцю. Асіміляваныя зычныя маюць свае альтэрнатыўныя варыянты з неасіміляванымі. Функцыянуюць у маўленні і пратэтычныя зычныя [г] і [в] (прыклады тыпу: *[в]óзера*, *[в]ýха*; *[вýл'ица]*; *[ɣ]э́ты*, *[ɣ]э́ны*; адпаведна карты № 47–49). Аднак рэалізацыя зычнага гука [г] у складзе займенніка ***гэты*** і вытворных ад яго поўнасцю матэрыялы ДАБМ не падмацоўвае (карта № 49). У сучасным маўленні засведчана як наяўнасць словаформаў без гука [г], так і розная якасць пачатковага зычнага, што, дарэчы, аб'ектывізуе іншыя звесткі ДАБМ (прыклады тыпу: *[ɣеты]*, *[ɣ'éны]* *[йéты]*; карта № 186). У сукупнасці падобная непаслядоўнасць, вырыятыўнасць ва ўжыванні/адсутнасці пратэтычнага зычнага гука сведчыць пра пэўную няўстойлівасць сістэмы кансанантызму ў дадзеным яе фрагменце.

Асаблівай увагі заслугоўвае і рэалізацыя гука [j], у тым ліку і ў якасці пратэзы ў розным становішчы[1]. Згодна з прыкладамі ў мясцовым маўленні [й] прыкрывае націскны галосны [і]: *Йíра*, *у нас із́ь йíм*, дзе ён мае статус прыстаўнога гука. Гук [j], акрамя таго, рэалізуецца ў пазіцыі пасля папярэдняга слова з канцавым галосным, а то і зычным і перад ініцыяльным ненаціскным галосным [і], напрыклад: *а йікóны забрáлі*. Аднак паралельна з наяўнасцю спалучэння [йі] таксама ўжываецца яго альтэрнатыўны варыянт, тыпу: *любíласа зь йм*, *кóлькі ў йх былó*. Відавочна, што у апошніх прыкладах адбываецца не выпадзенне галоснага гука [і], а яго замена гукам [й]. Такая замена сталася магчымай дзякуючы існаванню мінімальных адрозненняў паміж галосным гукам [і] і зычным [й][2], а менавіта дзякуючы адсутнасці шумавых складнікаў пры ўтварэнні гука [й]. З-за адсутнасці гукавога кантрасту паміж гэтымі гукамі па ўзроўні шуму адбылася іх рэалізацыя ў адным нескладовым галосным. Паколькі ў гаворцы існуюць выпадкі паралельнага суіснавання формаў тыпу *ізь йім* і *зь йм*, то можна меркаваць аб узаемазамяняльнасці гэтых гукаў. Такая ўзаемазамяняльнасць адлюстравана, відаць, і ў форме *на Трóйцу*. Тыповым выпадкам маўленчай кансанантызацыі ненаціскнога галоснага гука [і], характэрнай для мясцовага маўлення, з'яўляюцца выпадкі пазіцыйна абумоўленай рэалізацыі гука [й], тыпу *ак мая́ й Óлька*, *умéлі йгрáць*. Аднак падобная замена галоснага гука [і] у поствакальнай пазіцыі суіснуе з яе адсутнасцю. Назіраецца яна пры наяўнасці паўзы: *кóнчылі і столь*, *хóрашэ ігрáў*. Акрамя выпадкаў дэвакалізацыі ненаціскнога галоснага гука [і] у ганцавіцкім маўленні таксама мае месца поўная страта нескладовага гука [й]. Выпадзенне [й] адбываецца ў дастаткова абмежаванай колькасці слоў і граматычных формаў. Нескладовы галосны гук [й] адсутнічае ў вымаўленні пры ўжыванні неазначальных займеннікаў і суадносных з імі прыслоўяў, а таксама ў складзе канчатка роднага склону адзіночнага ліку прыналежных займеннікаў. Фактычна гэта мае месца пры суседстве заднеязычнага зычнага, інакш кажучы, абумоўлена пазіцыйна: *нéку бáнку*, *нíкі*

[1] У тэкстах гук [j] у складзе літар е, ё, ю, я, і не адлюстроўваецца, у фанетычна абумоўленых умовах ён перадаецца літарай й.

[2] Крывіцкі А. А. Фанетыка беларускай мовы / А. А. Крывіцкі, А. І. Падлужны. Мінск: Вышэйш. шк., 1984. С. 43.

*салдáт, магó мужыкá*, але адзінкава: *нéдзі*. Адсутнасць гука [й] у адзначаных выпадках нельга, відаць, вытлумачыць выключна фанетычнымі прычынамі або артыкуляцыйна-фізіялагічнымі характарыстыкамі нескладовага галоснага гука [й]. Магчыма, мелі месца і іншыя акалічнасці. Але, як і ў папярэдніх выпадках, ужыванне слоў без гука [й] не з'яўляецца ў мясцовым маўленні аднастайным. Як правіла, безварыянтныя формы функцыянавання маюць неазначальныя займеннікі тыпу *нéкі*. Словаформы накшталт *магó* не актуальныя і не рэпрэзентатыўныя для сучаснага маўлення. Яны саступаюць больш тыповым і пашыраным варыянтам, як *майгó*. Нарэшце, у ганцавіцкіх гаворках – пераважна ў маўленні насельнікаў в. Будча і іншых, што знаходзяцца ў бок на Пружаны, – зафіксаваны таксама такія формы слоў, як *ак* замест вядомага дыялектнага і літаратурнага ***як*** і *ашчэ́* адпаведна пашыранай у іншых тыпах беларускага маўлення формы ***яшчэ*** (і яе фанетычных варыянтаў): *а пóсьлі, ак зяць прышóў, ак пажанíліся с Óлькаю*; *жылá я ашчэ́ ў бáцька ак зáмуш ні выхóдзіла*; *ак прапáла Пóльшча*. Названыя словы з адсутнасцю ётаванага галоснага выступаюць не толькі ў поствакальнай пазіцыі, але і пасля рэальнай паўзы. Не выключана, што адсутнасць пачатковага [j] у адзначаных словах можа мець фанетычны характар.

Згодна з дыялектнымі тэкстамі, а таксама з матэрыяламі ДАБМ на тэрыторыі Ганцавіцкага раёна адсутнічае фанема ***ф***. У запазычанай лексіцы ў мясцовым вымаўленні яна перадаецца рознымі гукамі ці спалучэннямі гукаў – [х], [п], [хв], [кв] і іх мяккімі адпаведнікамі (прыклады тыпу: [*квасóл'*], [*квасóл'а*], [*хвасóл'*]; карта № 44). Выбар аднаго з гэтых гукаў ці іх спалучэнняў адпаведна фанеме ***ф*** не мае пазіцыйнай абумоўленасці і тым самым не залежыць ад канструкцыйных умоў свайго ўвасаблення. Відавочна, тут ёсць пэўная залежнасць ад характару мясцовай гукавой сістэмы ўвогуле, прынамсі, ад артыкуляцыйнай і акустычнай якасці гука [в]. Ужо заўважалася, што чужамоўныя лексічныя сродкі падлягаюць законам гукавой мадыфікацыі, трансфармацыі і адаптацыі не адвольна, а толькі згодна з асаблівасцямі фанетычнай сістэмы канкрэтнага тыпу мясцовай гаворкі. Пры ўстанаўленні фактаў увасаблення такой адметнай сістэмнай якасці зычных, як лабіялізаванасць, была звернута ўвага на спецыфіку рэалізацыі фанемы ***в*** у становішчы перад наступнымі акцэнтаванымі галоснымі [а], [о], [і] (прыклады тыпу *прыўёз, дзераўя́ны, жураўлíны*). Губны зычны [в] у гэтай пазіцыі выступае як білабіяльны [ў] у спалучэнні з сярэднеязычным [j] або як білабіяльны ў спалучэнні з санантам [л]. Прадэманстраваныя прыклады сведчаць, што ў сістэме кансанантызму мясцовай гаворкі мае месца ў першую чаргу білабіяльны зычны гук, а не губна-зубны. У сувязі з гэтым і адбываецца пераўтварэнне [ф] у яго фанетычныя адпаведнікі, але і лексемы з зычным [ф] таксама адзначаюцца ў сучасным маўленні.

Прыпадабненне запазычаных сродкаў адпаведна фанетычнай структуры мясцовай гаворкі, ці як мяккіх свісцячых гукаў [дз], [ц], выразна прасочваецца і ў выкарыстанні запазычанняў, якія ў нарматыўным беларускім маўленні рэалізуюцца з цвёрдымі зычнымі [д], [т], а таксама запазычанняў з рускай мовы, як у прыкладах тыпу *цілівізáр, у парцізáнах, адзіяло.*

Рэалізацыя спалучэнняў зычных, у тым ліку кансанантнай групы [с'ц'] (прыклады тыпу: *гос'ц', рáдас'ц'*; карта № 59), спалучэнняў [дн (дн')] (прыклады тыпу: *аднá, рóдны*; карта № 60) і [чн (чн')] (прыклады тыпу: *малó*[*чн*]*ы*: *малó*[*шн*]*ы*; *ру*[*чн'*]*ик*: *ру*[*шн'*]*ик*; адпаведна карты № 61, 62) у сённяшнім маўленні жыхароў рэгіёна, як і ў мінулым, з'яўляецца фактычна аднастайнай. Праўда ў адрозненне ад іншых груп зычных у спалучэнні [дн)] адзначана рэгрэсіўная асіміляцыя зычнага па назальнасці, але менавіта ў гэтай групе зычных яна мела месца, як сведчаць матэрыялы ДАБМ, і ў папярэдні час. Кансанантная група [нн] сярод зафіксаваных выпадкаў ужывання слоў з [дн] мае месца толькі ў формах слова ***адно***: *аннó хáтку кóнчыла, тады́, Óльку анну́, у аннóй кóмнаці.* Акрамя вымаўлення [нн] на месцы [дн] у мясцовым маўленні ў адпаведнасці з [дн'] выяўлены таксама і формы з адным санорным гукам [н] або з групай санорных зычных [нj] тыпу: *шырóкія спанíцы, Вялíканья.* Яны адзінкавыя. Разам з тым шматварыянтнасць у рэалізацыі гукаспалучэння [дн] сведчыць пра яго адметнасць у мясцовым маўленні.

З ліку ***марфалагічных асаблівасцей***, выяўленых у сучасным мясцовым маўленні і засведчаных у свой час на картах ДАБМ, выступаюць: двухскладовы канчатак у назоўніках творнага склону адзіночнага ліку жаночага роду I і III тыпаў скланення (прыклады тыпу: *сцянóю: сцянóй; мяжóю: мяжóй; хáтаю: хáтай; вíшняю: вíшняй*; адпаведна карты № 69–72; *гу́ссю: гусёю, гу́сяю; мы́шшу, мы́ш'ю: мышóю, мышэ́ю*; карты № 82, 83). Мадэль рэалізацыі адзначанай словаформы цалкам паўтараецца і ў лексемах атрыбутыўнага тыпу ў гэтым жа склоне (прыклады тыпу: *з маладóю*; *за нóваю* (*ою*); *за тóю, за таéю, за тэ́ю*; адпаведна карты № 125, 126, 137). Цікава, што выпадкаў суіснавання двухскладовага канчатка з аднаскладовым фактычна не адзначана, хоць у матэрыялах ДАБМ – гэта датычыцца рэалізацыі словаформы ўказальнага займенніка *тая* – аднаскладовыя формы адлюстроўваюцца. Рэгулярнае ўжыванне двухскладовага канчатка ў іменных часцінах мовы ў творным склоне адзіночнага ліку сведчыць, з аднаго боку, пра стабільнасць флексіі ў сістэме марфалагічных сродкаў маўлення, з другога – аб фармальнай супрацьпастаўленасці дадзенай формы іншым па колькасці складоў і тым самым пра адсутнасць працэсу выраўноўвання склонавай парадыгмы па колькаснаму складу канчатка.

У сучасным мясцовым маўленні жыхароў гэтага раёна ў сістэме іменнага словазмянення захоўваецца дыферэнцыяцыя канчаткаў згодна з характарам асновы, а таксама ў залежнасці ад тыпу акцэнтнай парадыгмы ў назоўніках I (жаночы род назоўнікаў на *-а*) і II скланення ў месным склоне адзіночнага ліку (прыклады тыпу:

*на дузé, на назé; на рацэ́, аб дачцэ́; на сцяне́; на мяжы́, у дзяжы́, на шашы́*; адпаведна карты № 65–68; *на быку́, аб ваўку́; на лу́зе, на сто́зе: на лугу́, на стагу́*; адпаведна карты № 73, 74; *на дварэ́; на канцы́, на ключы́: на канцэ́, на ключэ́; на пні: на пню: на пне; аб сы́ну, пры бра́ту: аб сы́не, пры бра́це*; адпаведна карты № 76–79). Аднак цалкам уніфікаванага ўжывання канчатка ў адпаведнасці з тыпам асновы ўсё ж не адзначаецца, можна гаварыць толькі пра адносна паслядоўную рэалізацыю флексіі **-е**. Для назоўнікаў I тыпу скланення жаночага роду з асновай на цвёрды зычны наогул характэрна суіснаванне канчаткаў **-е** і **-і**. Пры гэтым, згодна з прыкладамі, якраз словаформаў з флексіяй **-і** пры цвёрдым зыходзе асновы сёння большасць. Апошняе можна тлумачыць рознымі прычынамі: як уплывам канчаткаў з мяккім варыянтам скланення, так і існаваннем старых флексій ці неадрозненнем тыпу асновы. Разам з тым ужыванне ў назоўніках, адрозных па характары асновы, аднолькавых канчаткаў паказвае, што ў гаворцы мае месца працэс уніфікацыі канчатка ў дадзенай словаформе. Захаванасць дыялектных асаблівасцей у рэалізацыі канчаткаў выяўлена і ў іншых іменных формах. Так, вядомае гаворцы суіснаванне націскных і ненаціскных канчаткаў **-э**, **-е** і **-ы**, **-і** ў назоўніках назоўнага склону множнага ліку мужчынскага роду з асновай на цвёрды, мяккі і зацвярдзелы зычны і ў назоўніках жаночага роду з асновай на мяккі заднеязычны зычны падмацоўваецца фактамі з сучаснай гаворкі (прыклады тыпу: *сталы́, дубы́* і інш.: *сталэ́, дубэ́* і інш.; *кавалі́, нажы́: кавале́, нажэ́; дзе́ўкі, ху́сткі: дзяўке́, хустке́*; адпаведна карты № 95, 96, 99). А вось ужыванне канчаткаў у назоўніках гэтай жа формы, але ніякага роду не выяўляе падобнай тэрытарыяльнай і марфалагічнай аднастайнасці (прыклады тыпу: *сёлы, гнёзды* і інш.: *сёла́, гнёзда* і інш.; *бало́ты, бало́та, балата́*; адпаведна карты № 97, 98). У дадзенай граматычнай групе назоўнікаў адзначаюцца таксама флексіі, тыповыя для назоўнікаў мужчынскага і жаночага роду множнага ліку. Гэта сведчыць, што сёння ў гаворцы пад уплывам больш пашыраных і прадуктыўных флексій **-ы**, **-і** адбываецца ўніфікацыя канчаткаў у назоўным склоне множнага ліку. Тым самым мае месца разбурэнне архаічнай сістэмы склонавых канчаткаў.

Гаворку, як гэта было і ў папярэдні час, вызначае выкарыстанне канчатка **-ыя** (**-ія**) у розных лексіка-граматычных групах слоў з атрыбутыўнай сінтаксічнай функцыяй (карты № 127, 128). На картах ДАБМ рэалізацыя ў складзе канчатка гука [ʻа] або [ʻе] не дыферэнцыравана тэрытарыяльна. У сённяшнім маўленні выразнай тэрытарыяльнай супрацьпастаўленасці таксама не існуе. Паводле тэкставых ілюстрацый, канчатак **-ыя** (**-ія**) дастаткова паслядоўна выступае ў маўленні насельнікаў в. Будча і іншых навакольных вёсак. Ён мае месца якраз у тым тыпе гаворкі, якую характарызуе тэндэнцыя да моцнага якання. Пры выкарыстанні маўленчых сродкаў жыхарамі в. Люсіна такой аднастайнасці ў рэалізацыі канчатка не назіраецца, як, зрэшты, і ў характары рэалізацыі гука [ʻа] у першую чаргу ў паслянаціскных закрытых складах. У сістэме прыметніка існуе некалькі атрыбутыўных словаформаў, дзе мае месца іх знешняе ўпадабненне да назоўнікавых формаў. Але флексійнае выраўноўванне паміж сабой склонавых формаў атрыбутываў і субстантываў не мае ўзаемаабумоўленага характару. Яно выключна знешняе і выклікана фанетычнымі прычынамі. Да ліку знешне аднастайных формаў належаць: словазлучэнні, якія складаюцца са слова з азначальнай функцыяй у назоўным склоне адзіночнага ліку ніякага роду і адпаведнага назоўніка ніякага роду: *ме́сто найле́пшо, мя́хка са́ла*, а таксама назоўніка і прыметніка назоўнага і вінавальнага склонаў адзіночнага ліку жаночага роду: *пра́зьнічна ю́бка, абу́тка ле́пша; дзярав́яну падашву́, у са́му вайну́*. Колькаснае і гукавое падабенства канчаткаў тут – вынік фанетычнага спрашчэння (сцяжэння) адпаведнай формы прыметніка. Сцягнутым формам прыметнікаў і граматычна звязаным з імі іншым групам слоў з аднаскладовай флексіяй парадыгмы прыметнікаў жаночага роду адзіночнага ліку супрацьпастаўлена па колькасці гукаў у складзе канчатка форма роднага склону. Яна мае флексію **-ае** (**-яе**) з рознымі акцэнталагічнымі характарыстыкамі. Ужыванне ў мясцовым маўленні менавіта двухскладовай флексіі сёння нічым не адрозніваецца ад папярэдняга часу (прыклады тыпу: *но́вай ха́ты: но́вае ха́ты: но́ваі ха́ты*; карта № 120), аднак зафіксаваная ў ганцавіцкіх гаворках у мінулым стагоддзі флексія **-аі** запісамі сучасных узораў маўлення не падмацоўваецца. Акрамя таго, нельга нешта пэўнае адзначыць і наконт варыянтнага функцыянавання формаў з аднаскладовымі канчаткамі побач з двухскладовымі. З улікам супрацьпастаўленасці двухкампанентнага канчатка роднага склону адзіночнага ліку прыметнікаў жаночага роду канчатку давальнага і меснага склонаў можна заўважыць, што ў мясцовай гаворцы ў адрозненне ад іншых тыпаў беларускага маўлення ў парадыгме прыметніка жаночага роду сінкрэтычны канчатак ужываецца ў прыметніках у давальным і месным склонах. Наогул жа пры ўжыванні прыметнікаў жаночага роду ў гаворцы мае месца своеасаблівая ўніфікацыя. Яна выяўляецца ў папарным размеркаванні граматычных формаў: формы роднага і творнага склонаў выступаюць пераважна толькі з двухскладовымі канчаткамі, формы назоўнага і вінавальнага склонаў з наасноўным націскам знешне ўпадабляюцца адпаведным формам назоўнікаў, маючы аднаскладовы ненаціскны канчатак, формы давальнага і меснага склонаў у ненаціскной пазіцыі таксама ўжываюцца з аднаскладовым, але двухлітарным канчаткам з розным характарам галоснага ў іх складзе. Для апошняй групы граматычных словаформаў якраз характэрна варыянтнасць канчаткаў, абумоўленая рознай якасцю ненаціскнога галоснага ў іх складзе. Іншыя пары склонавых формаў па сутнасці не маюць канкурэнтных канчаткаў і функцыянуюць як адзіныя пры словазмяненні слоў з атрыбутыўным значэннем.

Пры аперыраванні дзеяслоўнымі абазначальнымі сродкамі мясцовыя насельнікі захоўваюць пераемнасць ва ўжыванні асабовых флексіі дзеясловаў I і II спражэння абвеснага ладу цяперашняга (простага будучага

часу) часу, а таксама загаднага ладу (карты № 148–179). Але найбольш выразна адрознасць гэтага тыпу маўлення выяўляецца ў дыферэнцыяцыі канчаткаў дзеяслова I і II спражэння ў 3-й асобе адзіночнага і множнага ліку. У формах I спражэння дзеясловаў 3-й асобы адзіночнага ліку ў канчатку адсутнічае гук [ц]. У гаворцы ён не быў адзначаны і ў абліччы гука [т] у складзе асабовай дзеяслоўнай флексіі – паказчыка граматычнай формы рускай мовы. Інакш кажучы, сёння ў маўленні застаюцца надзвычай устойлівымі тыя вымаўленчыя традыцыі, што характарызавалі гэту гаворку ў мінулым стагоддзі (прыклады тыпу: *ідзé* (*ідэ́*), *бярэ́* (*бэрэ́*), *нясé* (*нэсэ́*); *кáжа*, *мéле*, *грэ́е*; адпаведна карты № 148, 149; ён [*хóз'иц'*] ([*хóд'ит*]), [*нóс'иц'*] ([*нóс'ит*]), [*вóз'иц'*] ([*вóз'ит*]); карта № 153). Адрознае ўвасабленне тэматычных галосных як складнікаў флексіі асабовай дзеяслоўнай формы з'яўляецца невыпадковым. Як вышэй адзначалася, у фанетычнай сістэме сродкаў мясцовага маўлення мае месца адрозненне ў рэалізацыі галосных [о] і [е] у паслянацiскным становішчы ў адкрытым канцавым складзе. Адсутнасць ператварэння гукаў [о] і [е] у гук [а] якраз і выяўляецца ў дзеяслоўнай форме ў 3-й асобе адзіночнага ліку ў канцавым адкрытым складзе. У канцавым закрытым складзе такая мена застаецца пераважна тэрытарыяльна дыферэнцыраванай, свабодна варыятыўнай і непаслядоўнай. Найбольшая колькасць граматычных формаў, звязаных з наяўнасцю флексіі ***-е*** як паказчыка 3-й асобы адзіночнага ліку словаформаў дзеясловаў абвеснага ладу, устаноўлена ў ідыялекце маўлення в. Люсіна. Традыцыйнасць і ўстойлівасць у рэалізацыі марфалагічных дзеяслоўных формаў захоўваецца таксама ва ўжыванні націскных і ненацiскных канчаткаў у дзеясловах I спражэння 1-й асобы множнага ліку (прыклады тыпу: [*іz'éм*] ([*іz'éмо*]), [*клаz'éм*] ([*клаz'éмо*]), [*н'ас'éм*] ([*н'есéмо*]); [*м'éл'ем*] ([*м'éл'ам*]): [*м'éл'емо*]; [*м'éл'ом*]: [*м'ел'омо*]; [*с'аz'и́м*]: [*с'аz'имó*]; [*ямó*], *дамó*; адпаведна карты № 150, 151, 154) і інш. Такім чынам, адрозненне дзеяслоўных парадыгмаў у сучасным ганцавіцкім дыялектным тыпе маўлення застаецца і зараз. Змешванне ненацiскных галосных гукаў у складзе асабовых дзеяслоўных канчаткаў, а таксама ўніфікацыі флексій у 3-й асобе адзіночнага ліку за кошт ужывання ў складзе асабовага канчатка гука [ц'] тут не адбываецца. Відавочна, дыферэнцыраванне дзеяслоўных формаў па тыпу спражэння трымаецца па многіх прычынах. Адной з іх з'яўляецца і фанетычная, яна ўгрунтавана на спецыфіцы і характары вакалізму ў гаворцы наогул.

З устаноўленых асаблівасцей ***у галіне сінтаксісу*** ў сучасным маўленні насельнікаў гэтага рэгіёна выступаюць шматлікія структурна і функцыянальна адрозныя канструкцыі, што вызначалі характар і спосаб сувязі лексічных сродкаў у гэтым тыпе гаворкі ў папярэднія часы. Так, адметнай рысай маўлення з'яўляецца канструкцыя з назоўным склонам множнага ліку адпаведна роднаму склону множнага ліку ў іншых тыпах беларускага дыялектнага маўлення і ў літаратурнай мове пры абазначэнні жывых істот (прыклады тыпу: *падаíла карóвы: падаíла карóў; пагнáў валы́: пагнáў валóў*; адпаведна карты № 209, 210), а таксама канструкцыі з родным склонам адзіночнага ліку пры ўжыванні неадушаўлёных назоўнікаў мужчынскага роду (прыклады тыпу: *знайшóў грыб: знайшóў гры́ба*; карта № 211). Падобнае неразмежаванне склонавых формаў назоўнікаў з'яўляецца невыпадковым. Яно звязана з адсутнасцю дыферэнцыяцыі назоўнікаў па катэгорыі адушаўлёнасці/неадушаўлёнасці. Істотных змен у гэтым тыпе гаворак у канструкцыях з указаннем на прамы аб'ект не адзначаецца і сёння. У мінулым на тэрыторыі Ганцавіцкага раёна не было выяўлена ўжыванне дзеепрыслоўя ў якасці аднаго са складнікаў прэдыката як тыповай асаблівасці гаворкі (прыклады тыпу: *уся́ адзéжа былá намóкшы* і інш.; карта 205), тое самае мае месца і зараз. Адметнай тэрытарыяльнай рысай гэтага тыпу маўлення ў галіне сінтаксісу з'яўляецца шырокае выкарыстанне дзеепрыметніка ў складзе выказальнай часткі састаўнога іменнага выказніка. Але рэальны функцыянальны статус дзеепрыметных формаў дзеяслова залежнага стану прошлага часу вызначаецца толькі кантэкстуальна. Устойлівымі застаюцца і такія сінтаксічныя асаблівасці, як форма вінавальнага склону назоўніка ў спалучэнні з прыназоўнікам ***за*** ў выказальнай частцы іменнага дзеяслоўнага выказніка (прыклады тыпу: *вучы́цца за дóхтара*; карта № 212), пераважаюць ва ўжыванні і канструкцыі з прыназоўнікам ***к*** пры ўказанні на аб'ект накіраванасці дзеяння (прыклады тыпу: *пайшóў к бáцьку*; карта № 217). Дзеясловы са значэннем руху захоўваюць спалучэнне з назоўнікам вінавальнага склону пры дапамозе прыназоўніка ***у*** (***ў***) (прыклады тыпу: *у я́гады, у грыбы́, у дрóвы*; адпаведна карты № 215, 216). Зафіксаваны тут таксама канструкцыі: спалучэнне назоўніка ў вінавальным склоне з прыназоўнікам ***перад***, які ўказвае на час ажыццяўлення дзеяння, і канструкцыя, што складаецца з назоўніка ў форме роднага склону і прыназоўніка ***у*** (***ў***) з указаннем на месца выканання дзеяння тыпу *валíлі ў Гáнцавіч*. Але прыроду іх функцыянавання пакуль што немагчыма вызначыць з-за недастатковай вывучанасці беларускага дыялектнага сінтаксісу ўвогуле. У сувязі з гэтым нельга адназначна адказаць на пытанне, ці сапраўды словазлучэнне тыпу *малóлі ў жóрна* – гэта адрознівальная сінтаксічная рэгіянальная асаблівасць або агульнабеларуская архаічная рыса. Такім жа нявызначаным статусам характарызуецца і словазлучэнне тыпу *працавалі ў Баранавіч*.

Гаварыць пра ўстойлівасць ці пэўныя змены ў намінатыўных сродках маўлення мясцовага насельніцтва ў параўнанні са звесткамі, што адлюстраваны на картах ДАБМ або, значна шырэй, у ЛАБНГ, не ўяўляецца магчымым. Раскрыццё дынамікі змен у лексічных сродках моўнага забеспячэння насельнікаў Ганцавіцкага раёна правесці без спецыяльнага даследавання з адпаведным метадычным інструментарыем сёння немагчыма. Можна толькі заўважыць, што ў мясцовым маўленні актыўна выкарыстоўваецца істотны пласт традыцыйных найменняў са сферы побыту, прыватнага земляробства і сельскагаспадарчых прылад працы і шмат чым іншага.

Але вельмі многае з таго, што яшчэ ёсць у маўленні, пасіўна захоўваецца ў памяці мясцовага насельніцтва. Гэта абазначальныя сродкі, якія не маюць рэгулярнага выкарыстання з-за адсутнасці патрэбы ва ўжыванні самога прадмета. Адметнай рысай сучаснага маўлення застаецца таксама актыўнае аперыраванне моўнымі словаўтваральнымі сродкамі самой дыялектнай сістэмы, што, натуральна, сведчыць не толькі пра яе забяспечвальны моватворчы патэнцыял, але і жыццёвасць на дадзеным гістарычным этапе. Інавацыйныя сферы сельскага побыту (абслугоўвання) наогул – медыцына і наменклатура лекавых сродкаў, назвы прафесій, новых тэхнічных сродкаў, прадметаў побыту і інш. – суправаджаюцца актыўным увядзеннем у мясцовы лексікон новых лексічных адзінак. Аднак гэтыя абазначальныя сродкі па сваёй прыналежнасці звычайна не адносяцца да лексічных рэсурсаў беларускай літаратурнай мовы.

Устанаўленне разнастайных моўных асаблівасцей, характэрных для маўлення сучасных вясковых насельнікаў Ганцавіцкага раёна Брэсцкай вобласці і суаднясенне іх з моўнымі асаблівасцямі, засведчанымі найперш на картах ДАБМ, дазволіла выявіць наступнае.

Нягледзячы на дамінантнасць рускай мовы ў камунікацыйнай прасторы Беларусі, зыходная дыялектная база маўленчых сродкаў сёння яшчэ захавалася і дастаткова паслядоўна рэалізуецца ў сучасным маўленні вяскоўцаў. Аднак увасабленне комплексу дыферэнцыяльных асаблівасцей, які характарызаваў гэты тып маўлення ў сярэдзіне ці ў пачатку мінулага стагоддзя і якім вылучалася дадзеная тэрыторыя як структурна адрознае ад іншых тэрытарыяльна-моўнае ўтварэнне, у сваім, так бы кажучы, «чыстым» выглядзе зараз ужо не існуе. З аднаго боку, у сучасным маўленні назіраецца, як устаноўлена, захаванне значнай колькасці асаблівасцей, характэрных для забяспечвальных сродкаў папярэдняй дыялектнай моўнай сістэмы, з другога – мае месца варыянтнасць пры выкарыстанні фанетычных сродкаў у адных і тых жа пазіцыйных умовах на ўзроўні гукавой сістэмы або ў сістэме марфалагічных сродкаў за кошт пазіцыйнай неаднастайнасці ў рэалізацыі фанетычных. Інакш кажучы, за кошт варыянтнасці, угрунтаванай фанетычна. Акрамя таго, марфалагічная варыянтнасць у дадзеным рэгіёне пашыраецца за кошт наяўнасці асобных архаічных канчаткаў ці інавацыйных. Але і пры такіх акалічнасцях ступень марфалагічнай варыянтнасці вызначаецца ў многім фанетычна. Актуальнымі, найбольш выразнымі па ўспрыняцці і сацыяльнай ацэнцы сродкамі сучаснага маўлення з’яўляюцца лексічныя. Якраз на ўзроўні лексічнай структуры выяўляецца пэўная колькасць абазначальных сродкаў, якія з боку сваёй прыналежнасці беларускай дыялектнай ці нарматыўнай моўным сістэмам з’яўляюцца чужамоўнымі. Паводле іх кваліфікацыйнай ацэнкі ці па аднесенасці да стандартных сродкаў, яны зыходна належаць рускай мове. Прысутнасць апошніх у розных інварыянтах маўлення індывідуалізавана. У ідыялектах сёння выступае толькі тое, чым моўца карыстаецца ў сваёй аператыўнай маўленчай дзейнасці, а не тое, чым ён валодае пасіўна, што яму наогул вядома або было засвоена ў пэўны час пры мэтанакіраваным навучанні. Але разам з гэтым у любым інварыянце маўлення пэўная частка такіх рускамоўных па кваліфікацыйных паказчыках лексічных адзінак выступае як натуральны, камфортны сродак зносін. У спалучэнні з іншымі разнатыпнымі структурнымі сродкамі так бы мовіць «рускамоўныя» адзінкі ствараюць агульны рэпертуар забяспечвальных сродкаў маўлення моўцаў, ці сучасную камунікатыўную сістэму зносін вяскоўцаў. Як канкрэтна ўвасобленыя адзінкі на ўзроўні фанетычнай ці марфалагічнай структуры, па лінгвістычных крытэрыях уласна рускамоўнымі такія словы ўжо не з’яўляюцца: яны перастворaныя на мясцовы лад. Паводле фанетычных ці марфалагічных асаблівасцей – гэта лексічныя маўленчыя сродкі, якія адаптаваны да гукавых асаблівасцей мясцовага дыялектнага тыпу маўлення. Менавіта пра гэта сведчыць найбольшая колькасць зафіксаваных у тэкстах выпадкаў. Мясцовыя дыялектныя моўныя асаблівасці ў рэалізацыі тых ці іншых гукаў згодна з іх пазіцыйнай або незалежна ад пазіцыйнай абумоўленасці адлюстроўваюцца пры выкарыстанні ў маўленні новых засваяльных лексічных адзінак. У сувязі з чым нельга разглядаць фіксуемыя зараз у беларускім дыялектным маўленні інавацыйныя лексічныя сродкі пры нарматыўнай ацэнцы іх структурнага боку як уласна рускамоўныя. Яны, па сутнасці, пазасістэмныя па прыналежнасці рускай мове. Статус «рускамоўныя» яны не могуць мець, паколькі ў істотнай колькасці выпадкаў мадыфікаваныя і адаптаваныя на фанетыка-марфалагічным узроўні. Кваліфікаваць іх як «дыялектныя словы» на першы погляд немагчыма. Падобнаму вызначэнню пярэчыць наша лінгвістычная дасведчанасць. Але, як бы парадаксальна гэта не выглядала, словы тыпу *абі́дзець, адзія́ла, аддыха́ючы, чцяць, пазнако́міласа* і іншыя варта адносіць менавіта да новых інавацыйных лексічных набыткаў сучасных беларускіх гаворак. Іх уваходжанне ў рэпертуар дыялектных сродкаў проста адлюстроўвае тую маўленчую рэчаіснасць, якая сёння мае месца ў Беларусі і якая абумоўлена канкрэтным тыпам агульнай сацыялінгвістычнай сітуацыі ў нашай дзяржаве. Проста ступень інтэнсіўнасці засваення чужамоўных адзінак, іх спосабы набыцця і шляхі запазычання ў вясковым камунікатыўным асяроддзі сёння кардынальна адрозніваюцца ад папярэдняга часу. Гэта значыць, набыццё новых абазначальных сродкаў у сучасных гаворках абумоўліваецца рэальным комплексам экстралінгвістычных чыннікаў, характэрных для дадзенага гістарычнага перыяду. Менавіта новыя сацыяльна-лінгвістычныя ўмовы і стварылі адрозныя ад мінулых эпох адметныя магчымасці для пашырэння рэпертуару дыялектных лексічных сродкаў. Але з уласна лінгвістычнага, сістэмнага боку, гэта значыць паводле структурнага засваення, адаптацыя чужамоўных сродкаў – у адрозненне ад нядаўняга гістарычнага часу сёння перадусім рускамоўных – не мае нічога адметнага і ўнікальнага. Напрыклад, даўно вядомае ў частцы беларускіх

гаворак слова *скáцірка* 'скатерть' ці *паспасíбкаваць* 'поблагодарить' і шэраг іншых па характары свайго засваення абсалютна нічым не адрозніваюцца ад згаданых ілюстрацыйных прыкладаў тыпу *аддыхáючы* ці *пазнакóміласа*.

У любым выпадку пра адно можна гаварыць пераканаўча: пры засваенні носьбітамі беларускага дыялектнага маўлення лексічных сродкаў іншамоўнай сістэмы не адбываецца механічнага змешвання разнамоўных асаблівасцей – дыялектных і рускамоўных. Група моўцаў з арыентацыяй на дыялектныя сродкі маўлення прыстасоўвае новыя запазычанні да фанетыка-марфалагічных асаблівасцей мясцовых дыялектных гаворак. Вынікам адаптацыйнага засваення лексічных інавацый з'яўляюцца нібыта своеасаблівыя маўленчыя адзінкі. Вызначэнне іх лінгвістычнага статусу праз адпаведнае паняційнае апісанне сёння трактуецца ў навуковай літаратуры як сур'ёзная моўная праблема. Такая трактоўка сапраўды мае месца. Цяжкасці ў ацэнцы выкліканы, як мяркуецца, найперш тым, што вялікая частка беларускай грамадзянскай супольнасці ведае беларускую і рускую мовы як адрознівальныя нарматыўныя сістэмы ці валодае імі або мае высокую агульную лінгвістычную дасведчанасць. Зыходзячы з гэтага, дакладна вызначае статус слова – рускае або беларускае.

Маўленчыя ўтварэнні тыпу *пазнакóміласа* на першы погляд не што іншае, як адрозны ад дзвюх моўных сістэм прадукт. Згодна з характарам утварэння, па прыродзе свайго паходжання гэта як бы «трэція» лексічныя адзінкі. З-за адсутнасці адпаведных паняційных вызначэнняў іх пакуль што можна назваць лексічнымі гібрыдамі. Такія гібрыдныя ўтварэнні нельга, натуральна, разглядаць як вынік непасрэднага «скрыжавання» лексем. Механізм утварэння падобных спецыфічных асістэмных з боку нарматыўных ацэнак лексем адрозніваецца, відавочна, ад селекцыйнага мадэліравання. Але канцавы прадукт разнамоўнага ўзаемадзеяння па сваёй сутнасці такі ж. Гэта нешта новае, іншае, утворанае на базе дзвюх пачатковых велічынь. У адносінах да мовы – дзвюх блізкароднасных сістэм. Гэта моўнае гібрыднае ўтварэнне сваім гукавым аблíччам можа быць цалкам падпарадкавана фанетычным законам дадзенай дыялектнай сістэмы, прыклады рэпрэзентуюць таксама і яго частковую адаптацыю. У цяперашні час менавіта за кошт падобных гібрыдных інавацый інтэнсіўна пашыраецца рэпертуар сродкаў сучаснага мясцовага дыялектнага маўлення.

Такім чынам, улічваючы ўстаноўленыя асаблівасці сучаснага дыялектнага беларускага маўлення, можна канстатаваць: сучасная вясковая гаворка не тое, што змянілася, яна пакуль толькі ўскладнілася па прычыне ўнутранай варыянтнасці, непаслядоўнасці і паралельнага ўжывання розных маўленчых сродкаў у іх асаблівасцях, а таксама за кошт пашырэння яе гібрыднымі лексічнымі ўтварэннямі. Аднак і пры такіх акалічнасцях базавы характар маўлення, рэпертуар яго структурных фанетыка-марфалагічных сродкаў, як паказала супастаўленне з матэрыяламі ДАБМ, пакуль што застаецца дыялектным у прадстаўнікоў старэйшага пакалення мясцовых насельнікаў, якія маюць пачатковую ці базавую адукацыю.

*Падрыхтавала В. М. Курцова*

*Ф. Д. Клімчук*

## ТЭКСТЫ НА ТАРАКАНСКІХ ГАВОРКАХ ДРАГІЧЫНСКАГА РАЁНА

Тараканскія гаворкі ўтвараюць некалькі астравоў і невялікіх масіваў на поўдні Брэсцкай вобласці: Тараканска-Брашэвіцкі ў Драгічынскім раёне, Опальска-Лядавіцкі ў Іванаўскім, Арэхаўскі ў Маларыцкім, Лелікаўскі ў Кобрынскім, Парска-Ладаражскі ў Пінскім, традыцыйная гаворка вёскі Валавель у Драгічынскім раёне (захавалася часткова).

Найбольш значны па тэрыторыі Тараканска-Брашэвіцкі масіў. Ён поўнасцю ўключае Брашэвіцкі сельсавет (у 1950-я гады ўваходзіла 11 вёсак), вёскі Імянін (Таракань), Брадок, Вуліца, Татар'я Імянінскага сельсавета, вёскі Аляксеевічы, Сычы, Тыневічы Нямержанскага сельсавета, вёскі Бялынь і Ласінцы Вулькаўскага сельсавета (гаворка пераходная да паўднёвазагародскіх).

Аб асаблівасцях тараканскіх гаворак і іх пашырэнні гл.: Ф. Д. Клімчук. Гаворкі Заходняга Палесся. Фанетычны нарыс. Мінск: Навука і тэхніка, 1983. С. 25–27, 81–88, 122–123. Найбольш яркая іх асаблівасць: пераход **е* (< **е*, **ь*) > *а* (*дань* 'дзень', *нáбо* 'неба', *дáрво,* 'дрэва').

Тэксты запісаны спрошчанай транскрыпцыяй.

***Расказвае С. Ф. Хведанцэвіч, 1896 г. н., Ф. М. Хведанцэвіч, 1925 г. н., М. А. Хведанцэвіч 1926 г. н.;*** *запіс зроблены ў в. Субаты ў 1957 г.*

## Наш Субот

На́шэ сыло́ зова́цца Су́бот. Мо ёго́ так зова́м і в гэ́нчых сёлах тут наоко́ла нас так зову́ть. Мо́жа дась зову́ть і Су́ботэ, алэ ны в на́с. Су́бот – і всё. Пра́вда, колэ́сь ша й ны так зва́лэ, га́то старэ́йі лю́дэ так роска́зувалэ. Ек колэ́сь, ша до та́йі, га́то до Мыкола́ёвськыйі, войнэ́ на́шы мужыкэ́ ходэ́лэ на ба́лі, ліс сплавле́лэ. То от ек йіх спыта́ють: скіль выта́? То вонэ́ каза́лэ: мо з Бі́лыйі Ца́рквэ чы з Мало́го Торока́ня. З Бі́лыйі Ца́рквэ – бо в нас в сылі́ е ца́рква, ва́ймэ старэ́нна ца́рква, вона́ хоро́ша, муро́вана. То зва́лэ – Бі́ла Ца́рква. Вона́ побі́ляна – то бі́ла. Роска́зувалэ, шо в нас тут всі́гдэ булэ́ правосла́внэ, око́ла уные́тэ, а Су́бот дыржэ́вся правосла́вныйі ві́рэ. В Торока́нэ ша й пры По́льшчэ ввылэ́ уніе́цтво. А в Су́ботэ була́ правосла́вна ца́рква. Ну а чого́ Малэ́й Торока́нь? Бо е сыло́ Торока́нь, ко́ло (ко́ля) нас, вылі́кэ, сла́внэ сыло́, ёго́ всю́дэ ві́дають. В Торока́нэ клє́штор ша й за́рэ стоі́ть. Пра́вда, оно́ сті́нэ, бо в во́йну спалэ́лэ. В Торока́нэ колэ́сь стовп муро́ваны стое́в, высо́кы стовп. За́рэ він лыжэ́ть, впав. Ша в Мыкола́ёвську войну́ впав, і лыжэ́ть за́рэ. То Су́бот ко́ло (ко́ля) Торока́ня, то че́сом ёго́ зва́лэ Малэ́й Торока́нь. Алэ старэ́йі роска́зувалэ, шо Су́бот ва́ймэ старэ́ннэ сыло́. Ныхто́ того́ ны помыта́е, с чого́ він поче́вся. А Торока́нь мо́жэ й пузні́й появэ́вся. Су́бот – не́ка сыра́дына. С Су́бота всю́дэ йдуть дорогэ́: на Торока́нь доро́га, на Татар’ю́, на Брудо́к, на Паці́, на Тынывэ́чэ, на Сычі́, на Олыксі́ёвычэ, на Лосэ́нцэ, на Цэ́пкэ, на Брашывэ́чэ, на Гу́мнышча, на Шчурі́ [Дымск]. Роска́зувалэ, шо колэ́сь купці́ тут пройі́ждже́лэ, шо йі́халэ с Ко́брыня на Пэ́нськ чы на Хомськ. С Ко́брыня да на Антопі́лле (Гантопі́лле), на Торока́нь, на Су́бот. А да́лій на Брашывэ́чэ чы на Хомськ.

Роска́зувалэ, шо колэ́сь, ва́ймэ, ва́ймэ давно́, була́ не́ка война́. А тодэ́, ны то шо за́рэ, лі́су було́ мнэ́га. І тут не́кэ солда́тэ чужэ́йі, му́сыть дась шва́дэ чы шо, да прышлэ́ вонэ́ сюдэ́, в Су́бот. Да зайшлэ́ в одну́ ха́ту, с пі́камэ. Да ка́жуть на ба́бу: «Варэ́ нам, ка́жуть, йі́стэ, а то мо, ка́жуть, тыба́ зако́лымо». Та́я ба́ба – шо робэ́тэ, ка́жыть: «Варэ́тыму». Тэ́йі солда́тэ, одэ́н сів на ла́ўцэ, сыдэ́ть, а дру́ги пушо́в на двір, стоі́ть ко́ло (ко́ля) поро́га, варту́е. Той, шо в ха́тэ оста́вся, му́сыть, ста́ршы був. Ну шо робэ́тэ, та́я ба́ба ва́рыть вычá́ру. Ва́рыть і вылі́кого чыгуна́ водэ́ грі́е, ны то шо грі́е, а кып’ятэ́ть. А той солда́т сыдэ́ть на ла́вцэ. Він сказа́в тому́, шо вартова́в на дворі́, шо я тыба́ поклэ́чу, ек зва́рыцца вычá́ра. Сыдэ́ть той солда́т, сыдэ́ть, да й задрыма́в, опустэ́в го́лову. А та́я ба́ба жда, по́кэ він засна́. Такэ́ й засну́в той солда́т. Та́я ба́ба выйма́йіть чыгуна́ с па́чэ, да шубо́сь ёму́ кып’ятку́ на го́лову. То той солда́т оно́ о́йкнув кро́хэ. Ой, ка́жэ (ба́ба), тобі́ за то́е, шо тэ мына́ заколо́тэ хоті́в. А той солда́т, шо за двырмэ́, стоі́ть, ду́мае (ду́майіть), чого́ га́то ны клэ́чуть ёго́. Алэ стоі́ть, бо нача́льнік прыказа́в стое́тэ. Я вжа ны зна́ю, не́кого мышка́ накэ́нулэ на го́лову тому́ дру́гому солда́товэ. Ек ужа́ було́ да́лій, я ны зна́ю. А́лэ тэ́йі солда́тэ нэц ны зробэ́лэ та́йі ба́бэ, тэм лю́дюм, ны вдало́ся йім. Давно́ га́тэ було́.

А ек Торока́нь появэ́вся. Роска́зувалэ, колэ́сь лі́су було́ мнэ́го. І от йі́хала па́ні по тому́ лі́совэ. Йі́хала вона́, йі́хала, ша мо́жэ розбо́йнікэ якэ́йі наляка́лэ, і заблудэ́ла. До́вго йі́здыла і ны могла́ вэ́йіхатэ. І от в одному́ мі́сцэ судосэ́ла вона́ людáй. Тэ́йі лю́дэ вэ́вылы йійі́ на доро́гу. І от в тому́ мі́сцэ, да вона́ з людьмэ́ судосэ́лась, вона́ поста́выла стовпа́ муро́ваного, того́, шо стое́в в Торока́нэ, шо впав в ту́ю во́йну, а за́рэ лыжэ́ть. Ну і лю́дэ ста́лэ сылэ́тэсь. По́сля там клє́штора зробэ́лэ.

Ну а в ту́ю войну́ мо в бе́жынцэ йі́здылэ в Росе́ю. Набыдова́лысь. І прыйі́халэ, то го́лоду натырпі́лысь. І в га́ту войну́ набыдова́лысь. Сыло́ на́шэ спалэ́лэ ні́мцэ. Ек ста́лэ партіза́нэ, то вжа мо з лі́са ны выла́зылэ, бо бое́лысь. Бува́ло посыла́йімо кого́ одного́, шоб подывэ́вся, ек там сыло́, чы ша стоі́ть. А одного́ ра́зу спалэ́лэ. То шо мо. В нас жэ тут маёнток був, хоро́мэ ша й за́рэ стое́ть. То ек сыло́ спалэ́лэ, то всё сыло́, всі лю́дэ в тых хоро́мах булэ́. А да дыва́тысь. Па́ні Ка́тя ша й за́рэ там жыва́, і йійі́ своякэ́. По́сля і шко́ла там була́. По́сля зымне́нкэ поробэ́лэ, в зымне́нках булэ́. А по́том ужа́ хатэ́ постро́йілэ настое́шчэ. Вжа стро́йілэ, ек тра́ба. Розжылэ́сь посля́. Ну шо, хоро́шэ на́шэ сыло́. Нам вонэ́ ва́ймэ нара́выцца. Нывылі́кэ, а хоро́шэ. Тут і зымне́ до́бра, і ліс блэ́зько.

**Вясельная песня** (спявалі на дзявочніку)

Высíлна пíсня. Спывáлэ пуд вынкáмэ.

Збíрная субóта, збíрная, (2 р.)
Назбырáлося дывóчок, (2 р.)
Посядэ́лыся в градóчок, (2 р.)
Стáла мыж йи́мэ дíвонька,
Стáла мыж йи́мэ молодá.
Стáла йім гáдочкэ гадáтэ: (2 р.)
– Ой мойі́ ж вытá дывóчкэ, (2 р.)
Й одганíта мні гáдочкэ: (2 р.)
Хто в мойи́м садóчку рáно був, (2 р.)
Рáнную росэ́цу й обоыгнáв, (2 р.)
Кóныком зымнэ́цу й поранэ́ыв,
Воронэ́ым зымнэ́цу й поранэ́ыв?
Я й одозвáвся жынышóк,
Я й одозвáвся молодэ́й:
– Я в твойи́м садóчку рáно був, (2 р.)
Твою́ росэ́цу й обоыгнáв (2 р.),
Кóныком зымнэ́цу й поранэ́ыв,
Воронэ́ым зымнэ́цу й поранэ́ыв?

Запісана ў 1971 г. ад групы жанчын.

***Расказвае Н. І. Літвінчык, 1911 г. н. (выйшла замуж у суседнюю в. Ласінцы);*** *запіс зроблены ў в. Бялынь у 1971 г.* Тэкст песні на традыцыйнай гаворцы в. Бялынь (гаворка тараканскага тыпу).

**Вясельная песня**

Свáха ля свáхэ да дóбрую чэсть оддáе, (2 р.)
Свáха ля свáхэ навíкэ дочкý й оддáе. (2 р.)
– Глядэ́, свáночко, майі дíвчынэ, ек свáйі: (2 р.)
Коб ны стоéла тёмныйі ны́чкэ за окнóм,
Коб ны стоéла тёмныйі ны́чкэ за окнóм,
Коб ны втырáла дрíбных слёзóчок рукавóм, (2 р.)
Коб ны булá да стодóлонька за хáтку,
Коб ны булá да стодóлонька за хáтку,
Коб ны булá да сусíдочка за мáтку. (2 р.)

***Расказвае Е. А. Краўчук, 1911 г. н.;*** *запіс зроблены ў в. Ласінцы ў другой палове 1970-х гадоў.* Гаворка в. Ласінцы пераходная ад тараканскіх да паўднёвазагародскіх гаворак.

Ой у лíсэ высóка могэ́ла,
На могэ́лэ чырвóна калэ́на,
На калэ́нэ чóрныї вóрон крáчэ,
На чужбíні сыротэ́на плáчэ.
– Ны крач, ны крач, чóрна (чóрныї) воронэ́на,
Ны плач, ны плач, бíдна сыротэ́на.
– Ой ек жэ мні бíдныї ны плакáтэ –
Ны годовáв ны бáтько, ны мáтэ,
Годовáлэ всё чужэ́ї людэ.
– Вэ́йдыш зáмуж, то ліпш тобí бýдэ.
Ой я тýю дýмку подумáла,
Вэ́йшла зáмуж – гірш забыдовáла.

Вэ́йшла за́муж да й за п'янычэ́ньку.
П'янычэ́нька в корчмі́ п'е-гуля́е,
Прэ́дэ додо́м – жі́нку (мынэ́) забыва́е.
Ны гуді́тэ, голубэ́, на ха́тэ,
Ны (з)буді́та мэ́лого в крова́тэ.
А я зна́ю, ек ёго́ збудэ́тэ,
Ой ек ста́нэ со́ны(ч)ко сходэ́тэ.
– Встава́й, мэ́лый, встава́й, чорнобрэ́вый.
Встава́й, мэ́лый, тэ мое́ коха́нне, –
Вжэ зварэ́ла ра́нное сніда́нне:
На полэ́цэ стоя́ть палянэ́цэ,
На прэ́пычку вара́ныкэ в ма́слэ,
А на столі́ горі́лочка в пля́сцэ.
Ек став мэ́лый із крові́т встава́тэ,
Ста́ла мэ́ла чэ́рэз (круз) окно́ втыка́тэ.
– Чы ты, мэ́ла, моі́х жарт ны зна́їш,
Шо од мынэ́ чы́рыз окно́ втыка́йіш.
– Шоб я, мэ́лый, твоі́ жа́рты зна́ла,
То я б давно́ в сыры́ї зымні́ спа́ла.
Ой у лі́сы чо́рный во́рон кра́чэ;
Втыкла́ мэ́ла да й за окно́м пла́чэ.

У Кі́ёвы на ры́ночку
Там пыв чума́к горі́лочку.
Пропэ́в во́лэ, пропэ́в во́за,
Пропэ́в я́рма шэй зано́за –
Всё чума́цкое добро́.
Ой очну́вся чума́к ра́нці
Да ї пола́пав по карма́нці.
Всі кышэ́ні вывырта́е,
А там гро́шэй чорт їіх ма́е –
Ні́чым похмылы́тыся.
Скы́нув чума́к жупанэ́ну:
– Даї, шынка́рко, хоть чвырты́ну.
Шынка́рочка трэ́цца, мнэ́цца,
Одвырнэ́цца, засмые́цца
Всё с чума́ка-дурака́.
Пропы́в постолы́, ону́чы
Тай запла́кав, с корчмы́ йду́чы, –
Ныма́ в шчо обу́тыся.

**Дадатак**

Назіраюцца пэўныя сувязі паміж тараканскімі гаворкамі і паўднёваславянскім моўным арэалам. Параўнайце: тараканскія словы *вына́ц, дань, кона́ц, купа́ц, па́кло, слыпа́ц, тасть, та́шча, часть, чыпа́ц* і сербскія *венац, дан, конац, косац, купац, пакао, слепац, таст, ташта, част, чепац* (вянец, дзень, канец, купец, пекла, сляпец, цесць, цёшча, чэсць, чапец)[1].

Прыводзім цікавае назіранне, якое зафіксаваў В. А. Дзянейка.

[1] Пераход *е > [а] характэрны і для неславянскіх індаеўрапейскіх моў, параўн.: авест. *-da* 'дзе' (тарак. *да* 'дзе'), санскр. *dārava, dārva, dāru*, хецк. *taru*, стараж.-ірл. *daur* 'дрэва́ (тарак. *да́рво, да́рыво, да́раво* 'дрэва́), авест. *dasa*, скіф. *dasa* 'дзесяць' (тарак. *да́сить, да́сать* 'дзесяць'), санскр. *dvār, dvara*, авест. *dvar, dvara*, скіф. *dvara* 'дзверы́ (тарак. *два́рэ* 'дзверы́), авест. *madu-*, скіф. *madu* 'мёд' (тарак. *мад* 'мёд'), санскр. *nábhan* 'неба́ (тарак. *на́бо* 'неба́).

***Расказвае Л. Н. Аўсіенка, 1928 г. н.**; запіс зроблены ў 2008 г.*

### Пра сербаў і харватаў

Адна бабуля з вёскі (Вулька Чарнаўчычыцкага сельсавета Брэсцкага раёна) распавяла мне наступнае. Яе бацька Нікіфар Аўсіенка ў 1944 г. быў мабілізаваны ў рады Савецкая Арміі; у 1944–1945 гг. удзельнічаў у вызваленні Балкан і Будапешта. Вось як гэта гучыць у арыгінале на мясцовай гаворцы: *«Муй бáтько був на войні́, освобождáв гóрод Будапэ́шт і прыйшóвшы до хáты, казáв, шчо був сэ́рэд людэ́й, якыі́і говоры́лы почті́ як мы».*

Які гэта быў народ, яна мне адразу не сказала. Але калі я пачаў называць насельнікаў Балкан, дык бабуля сказала: «*Гэ́то булы́ сэ́рбы і хорвáты!*» Каб пацвердзіць гэты факт, я узяў падручнік сербскай мовы і прачытаў бабулі верш «Лети ласта...». Яна адразу ж зразумела дзесяткі слоў і адзначыла, што ёсць падабенства паміж сербскай мовай і мясцовай берасцейскай гаворкай.

*В. І. Крупко*

## ТЭКСТЫ З ВЁСКІ ПАЛЯНКІ БАБРУЙСКАГА РАЁНА

***Расказвае В. Л. Стратановіч, 1933 г. н., адукацыя 7 кл.**; запіс зроблены ў 2008 г.*

### З дзіцячых успамінаў

У бацькóў, ой мáмачка, скóлькі іх быló. У бáцькі чэ́цьвера, у мáцеры быló трóе, а тады́ шчэ нас трóе. Сашлі́ся ўмéстэ, тады́ шчэ нас трóе быló. Дык усіх дзяцéй дзéсяць. Ішчэ́ бáцька ўзяў пьлямя́нніцу гадавáў, і тáя былá нáша. Дык вот скóлькі нас быló, сем'я́ якáя былá. А жылі́ на хýтары. Цяпéр у нас дзярэ́ўня. Хутарá во: вон хáта, вон хáта, вон хáта і вон хáта. І там німá нідзé нічóга.

Тады́ калхóзы самаарганізóўваліся, а бáцька ў калхóз ні пашóў, дык яны́ ягó раскулáчылі. Дык там жа ш ні быló ні карóвы, ні сьвінéй, нічóга ні быló. Мы каня́ дзяржáлі і сьвінéй, і карóву, усё дзяржáлі. Раж жа раскулáчылі, дык быў багаты́р. Багаты́р жа быў.

А тады́ ўжэ перат сáмай вайнóй перавéзьлі сюдá нас. Наш бáцька сюды́ захацéў, пераéхалі, а тых усі́х у Панкрáтавічы нáшых загнáлі.

А тады́ ў вайнý ўсяк быló, усягó хватáла: і бéгалі, і хавáліся.

***

Кусóк аднамý сы́ну, кусóк другóму, да гэ́тага і кусóк трэ́цяму, тады́ кусóк аднóй дачкé, кусóк другóй. Мя́са абразáеш катóрае жырнéйшае на рóбрах, тáмака кускі́ ш бальшы́е, дзе баўтáецца, адразáеш. Тады́ кры́шым, тады́ бярóм лы́ка. Дзéлаем такýю трýпку і туды́ ў тýю лы́ку пáльцам паўпіхáем. Цяпéр жа ўсё жалéзнае, усё механізі́равана. А тады́ лы́ка адзьдзірáлі і скýрчавалі і тудá йіх. Напіхáем і тады́ к Каля́дам абезáцельна далжнá быць калбасá, к Пáске калбасá далжнá быць. А мя́са шчэ і цяпéрака, усё ж дзéлаюць зь мя́са. А тады́ што дзéлалі з тóга мя́са. Éсьлі такáя сям'і́шча, дак нáда жэ ўсіх накармі́ць. Тады́ жэ трóхі парасхóдзіліся, дзе хто зáмуш вы́шаў, дзе хто туды́, дзе хто туды́. А цяпéр сяджý аднá, дóбра, што хлóпец éты тýтака шчэ.

### Як сваталі

Пытáйся ты ў мянé сьмéла, дык я табé і сёньня ні скажý, як мянé свáталі, як я за той зáмуш вы́шла.

І сёньня скажы́, што, як ты йшла і хто свáтаў, я нічóга ні знáю. Бо я самá тады́ ў гóрадзі рабóтала шчэ. Прыéхала на выхадны́ дамóў, а тут ужó [сусед] кáжа: «К табé ш свáты пашлі́». –

«А хто там пашóў?» – «Да Мíшка Лайкóўскі павёў свáта, жаніхá». Прыхóджу, сядзяць удвóх. Ну дык не, штоп сказáць што не, я ж ягó пачцí што і ні знáла, я і маўчý, як пень, янó ш тады такáя былá. Алé ж вышла і во папражылá, сям'ю нагадавáла. Тады памёр. Я асталáся, дзéўка мéншая былá тóлькі тры мéсяцы. Самá на пóчці ўжо рабóтала тады. Нáда былó і дзіця гадавáць, і на рабóту іцьцí. І дóма німá сь кім кíнуць, дык кíну ягó, тады бягý ды скарэй пат платáмі гляджу: дзе-та янó мо дзе сьпíць пат плóтам. Усягó хватáла.

### З успамінаў пра вайну

Шчэ Нóвы гот у гэтай хáце [немцы] прáвілі. У нас жа тýтака стаялі нéмцы, тут за Пáрычамі быў фронт. Так яны ўрáньні éдуць на фронт, а вéчарам назáт. Тады папрыпірáюць вот такíе во клупкí, што бáбы во прáлі да снавáлі, да крáсілі, да ткаць гатóвіліся. Яны панакідáюць пóўненькую машыну тых клупкóў, папрыбірáюць і павыкідáюць на двор. А нам жа, дзéцям, іньцірэсна. Давáй перамáтваць эты клупкí, бо там зóлата хавáюць. Мы сядзíм і днямі перамáтваем клупкí. А тады ўжэ прышлí, тут жа стаяла багáта, пóўна ж дзярэўня былá. У кáждай хáці, тут о за Зíнаю зрáзу, стаяла хáтка, дак там пяклí этые ўсякіе здóбы, а тýтака ўжэ былí сталы стаялі кругóм. І кáждаму нéмцу бутылка піва, шчэ што там стаяла, вóбшчэм па тры бутылкі стаяла. І слáдасьці ўсе кáжные, ну а нас на печ пазаганялі, мы на пéчы сядзéлі. У нас шчэ тады бáцька быў, ён залёз на печ, лёг туды галавóй, а сюды нóгі выставіў дый пахрáпывае. Яны ўжо падзялíлі ўсё, усé сваé дзялá так. Ёлкамі ўсё выдзелалі і паталкí, і сьцéны, а нéйка была пагóда мóкрая, цячэ кругóм. Пóўненьку хáту вады нанéсьлі. Мáтка хóдзіць: штоп зь цябé так цяклá пáра, штоп зь цябé так пáра цяклá! Ён: мáтка, што сай шайзá? Дык янá: не-не, во пан, гуд, гуд, о красíва! Вóзьме табé пýлькне, вот табé і бýдзе шайзá.

Тады ўжэ нáшые, што стаялі ў нас нéмцы, прынóсяць нам канфéты даюць. А бáцьку панéсьлі выпівáць. Штырхалі-штырхалі ягó, ён зрáзу навéрна разы два ўзяў. А што ён бýдзя, што вас там пóўна, дык ён бýдзе ўсё піць? Дык ён ляжыць і храпíць, дык яны тады прынясýць на нóгі выльлюць дый дáлей ідýць. Ускóрасьці пагнáлі іх усíх. І мы так і зóлата тóга не найшлí.

Нéмцы там нікóга ні растрэльвалі, тýтака паліцáі ў аснаўнóм, нáшые дзéйствавалі. Мнóга, пачцí ўся дзярэўня.

Затó цяпéр яны былí сáмые, як іх называлі, рáнша стáрастам быў і цяпéрака ўжэ ён заслýжаны інвалíд вайны. О такíх, штóба інвалíды былí ці ваéнные, дык іх тут пасьцí што мáла і былó.

Парцізáны тут рáдам былí! Адзíн вон брат пашóў у парцізáны, а другí ў паліцáях быў. А тóга ўбíлі, ямý хто там дастáў дакумéнты брáта, ён цяпéр і памёр парцізáнам, а сам быў у нéмцах паліцáям. І ён цяпéрака заслýжаны парцізáн. Ну дык як ні абíдна. Да й багáта такóга былó.

Ішчэ ішлí рэйд парцізáнаў быў, ды й шлі па вýліцы. Дак яны [паліцаі] за пулямёт, прынéсьлі сюды, во на ґáнкі пастáвілі: бýдуць стралять парцізáнаў. Дак бáбы як набéглі, да як стáлі галасíць, да як стáлі штырхаць да ґóрсаць, дак узялі дый выгналі іх. Дык парцізáны сабé пашлí, а яны сáмі пашлí.

## ПРА ТРАДЫЦЫЙНЫЯ СЕЛЬСКІЯ ЗАНЯТКІ

### Прадзенне і ткацтва

Прáсьці шчэ прáлі, ды хлóпцы вóзьмуць да агóнь у кудзелёк. І вязáлі, і ткáлі, а патóм жа ўжэ пóсьле вайны нідзé ш нічóга ні мóжна была дастáць. Так даставáлі, ткáлі сáмі. І скáцеркі ткáлі, і палацéнцы ткáлі, і пасьцíлкі ткáлі – усё, патамý шта нідзé ні былó нічóга. Нáда ж былó вучыцца, нáда былó і ткаць.

Нéяк во тут сасéтка ў нас былá, дак янá гавóра, давáй выткам хоць па аднóй пасьцíлцы. Ты бýдзеш падымáць, а я бýду ткаць, ты жа ні ўмéеш, а я ўмéю. Ну й пайшлí. Янá мне паказáла, як эта дзéлаць, штоп я ёй камáндавала, янá там перабóры перабíрала. Я сяджý камáндую і гляджý,

хóчацца ш палядзéць, як яна́ дзéлала. Яна́ зьдзéлала рас, другі́ рас, мы вы́ткалі. Тады́ я прышла́: «Сястра́, зна́еш што, Вóльга, дава́й са́мі вы́ткам хоць па аднóй пасьці́лцы». – «Хто нам зьдзéлае?» – «Са́мі зьдзéлаем». Вот яна́ сéла, я ёй паказа́ла, як шчыта́ць, як кама́ндаваць, а я сéла перабра́ла, перабра́ла. Перабяру́, наніччу́ ды й далéй перабяру́. Ну і ста́лі ткаць. Так та́я тады́, чуць ні с'ума́[1] сышла́, што хлеп атабра́ла ў яé.

Éтые ш перабóры, дак яны́ ж абы́чна ткýцца ў два ніты́, а так і ў вóсем нітóў тка́лі палацéнцы такíе во, шчэ нéдзе во ляжы́ць цэ́лы рулóн, і ў чаты́ры ніты́ тка́лі ў éлку – э́та прасты́е такíе. Уся́кіе тка́лі. І прастóе палатнó тка́лі, бо на́да ш былí ба́цьку і шта́ны, і сарóчку сашы́ць і ўсё ш шы́лі. І зь éтаго свайгó, тады́ ж нідзé нічóга ні былó.

А мы былí шчэ малы́е, ма́тка наччэ́, тады́ вóзьме да пакра́сіць. У балóці пóйдзе іржы́ набярэ́ (гра́зі такóй), вады́ цёплай, прынясé мучанí чнік такí, як брусні́цы, ці́па брусні́ц, у лéсе набярэ́, тады́ жалéзьзе накіда́е ў тас. І янó стаíць мо нядзéлю, зьдзéлаецца чóрнае-чóрнае. Тады́ яна́ э́тае выкіда́е ўсё і туды́ э́тые палóтны свае́ зама́чвае. Яны́ як вы́красяцца, дак чóрненькіе-чóрненькіе. Шы́юць нам парценікí, спадні́цы такíе. Тады́, калí зьбіра́еш во так от э́ты парцéнік, во так зьбярэ́ш, на кóліна зачэ́піш і цэ́лы дзéнь гушка́есься. Як убá́чыць ма́тка, як дась кóпаці. Ёй жа, каб даўжэ́й насí лася, а нам што, нам пагушка́цца на́да на крэ́пкім.

### Апрацоўка льну

Лён сéялі. Сéюць, патóм ідóм палóць, патóм ідóм выбіра́ць рука́мі, снапóчкі вя́жам. Ён пасóхне, ягó абаб'éш, сéмя адзéльна ідзé ці ма́сла пóснае дзе гóняць, а йéта ўсё, хто зама́чвае лён, а хто так, сýшыць ягó. Сьцéлюць на расý, ён дзьве ня тры нядзéлі ляжы́ць, штоп кайстры́ца э́та атля́тывала. Тады́ бярýць ягó падбіра́юць, у снапкí вя́жуць, у ба́ню настаўля́юць і сýшаць. Ён там як у ба́ні пасóхне ўжэ, тады́ такíе цéрніцы былí, труць ягó, пацéрлі, тады́ ўжэ бярýць ягó трэ́плюць. Катóрае паставáліся кайстры́ца там, патрапа́лі, тады́ бярýць на такí грэ́бень абдзіра́юць. Паабдзіра́лі, йéта ўжо ідзé тóе, што трэ́плюць у патрэ́п'е. Йэ́та, што абдзіра́юць у зрэ́б'е, а йéта, катóрае ўжэ астаécца лён – кýжаль называ́ецца. Йéта ўжэ ідзé ў кýжаль, тóе ўжэ тóненька, лýччае што-нéбуць ткуць, а зрэ́б'е éта на ты́е штаны́ да на спадні́цы нам. А патрэ́п'е тóжа што-нéбуць на́да, нічóга ні прапада́ла, усё йшлó.

Папабра́ла я йéтага лёну. Пóсьле ў калхóзі была́, даю́ць учáсткі бальшы́е і тады́ ўжэ малаці́лкі былí (лён э́ты малацíць). А слаць хадзí лі, падбіра́ць ха́дзілі, цéрці хадзі́лі, а патóм ужó ста́лі вазí ць у Кíраўск. Та́мака льнозавóд такí быў, трастý э́ту ўсю забіра́юць, завязýць туды́, тады́ нам ляхчэ́й ста́ла.

## З МЯСЦОВЫХ КУЛІНАРНЫХ ТРАДЫЦЫЙ

### Як пяклі хлеб

І бýлкі цяпéр пякý. Дзéшка была́, у дзéшцы ўчыня́еш, тады́ ўстаéш ура́ньні там бýльбінкі ці вéчарам патóўчанай паткіда́еш ці ўтрам падзьдзіра́еш. Замéшваеш ягó, ён патхóдзіць. Печ выга́рвае. Наклада́еш ягó. Така́я лапа́та была́, з длí ннай [ручкай], штоб адсю́ль во туды́. На тýю лапа́ту якéе-нéбуць лí сьця наклада́еш і тады́ туды́ зама́зваеш акура́тненька, штоп тóкі красíва былó. А ўкýсна ці няўкýсна? Усягда́ стара́ліся, штоб укýсны быў хлеп.

І капýсту паткладáлі, і хрэ́на, і клянóвые, і дубóвые, усякіе лí сьце, катóрые бальшы́е такéе. Пасьцéлеш на э́ту лапа́ту і наклада́еш той хлеб, накла́ў – у печ. Ну і глядзí ш, штоб жа ні пагарэ́ў, штоб жóўценькі быў, акура́тненькі. Адзí н раз у ты́дзень [пякла]. А так абы́чна пяклі: той канча́ецца – тады́ другí глядзí ш штóбы сьпякцí, штоб жа бяс хлéба ні сядзéць, на́да ягó ісьпячы́. Тады́ вун там вон лýнку такýю прыдзéлывалі і туды́ ягó кла́лі. А ў вайнý, як пры́йдуць парціза́ны, так туды́ і лéзуць, пазабіра́юць хлеп. Нéмцы пры́йдуць, тóжа забіра́юць. А нам фí гу даю́ць.

[1] Надрадкоўны сімвал сведчыць аб злітным вымаўленні дадзенай словаформы.

***

Надаі́ малачка́ дый на́да жэ шчэ здаць. За ту́ю каро́ўку малака́ ско́лькі. Дык зра́зу дзе́лалі ўсё ма́сла са́мі бі́лі. Ста́віш, яно́ кі́сьне, ськіда́іш сьмята́ну э́ту. Такее бо́чачкі, бо́йкі былі́, у бо́йку забіва́еш, вымыва́еш і нясе́ш здава́ць. Ско́лькі там за кілагра́м ма́сла дава́лі, ні зна́ю то́чна, ужо́ ціпе́р забы́лася. Было́ выгадне́й ма́слам здава́ць, чым малако́м. А пато́м прыла́дзіліся ўжэ купля́ць ма́сла да здава́ць, так выгадне́й.

## Як рабіць тварог, сыр

Малако́ ста́віш, яно́ от укі́сла. Е́сьлі яно́ ўжо ўкі́сла, сьмята́ну ськіда́еш, ста́віш у печ, то́кі ні ў жа́ркую крэ́пка. Яно́ аттапліваецца, сыро́ватка ідзе́ сабе́, а йе́тае малако́, тво́раг астава́ецца нанізу́. Ён жа шчэ́ ні зусі́м, тады́ за яго́ вынiма́еш ісь пе́чы, ён асты́ў. Сьпецыя́льныя сы́рнікі такее былі́. Зьліва́ем у той сы́рнік, яно́ сьцяка́е і дзе́лаіцца цьвёрды такі́ тваро́х. Шчэ ні сусі́м такі́ харо́шы, тады́ яго́ ло́жаш пат ка́мень, ён ацьціска́ецца і ўжэ ён харо́шы тво́рах дзе́лаецца. А сыр туды́ ш са́ма дабаўля́еш які́е прыпра́вы, туды́ на́да што-ні́будзь тако́е жы́рнае. У сыр жа хо́чацца штоп сьмята́нкі тро́шкі дабавіць, штоп ма́сьліца тро́шкі дабавіць, штоб ён быў укусьне́йшы. І тады́ за яго́, наліва́еш сало́дкае малако́. Э́та я ўжэ дзе́лала, як у міне́ каро́ва была́ ды ніда́ўна. Ні было́ дзе дзява́ць, так я вазьму́ да тво́рагу бага́та. Я на пе́чку дваццацілітро́вы чыгу́н паста́ўлю да туды́ дзьве-тры ба́нкі малака́, яно́ закіпі́ць. Я йе́ты тво́рах туды́, яно́ перава́рыцца, тады́ бяру́ць яго́ зноў зьліва́юць. Йе́ту сыро́ватку ў мех які-не́буць, у сы́рнік той са́мы. І туды́ апя́ць жа зьдзе́лаеш, каб было́ ўку́сьней і жырне́й штоб быў. Сыро́к зьдзе́лаецца такі́. Дак я адзі́н раз як ізьдзе́лала на два́ццаць лі́траў чыгу́н, дак ён о такі́ во сыр палучы́ўся. Там на нядзе́лю мо́жна было́ е́хаць. Мне на́да бы́ла сы́ну ў По́лацк [зрабіць сыр]. Чым мале́нькіе такі́е, ужэ́ до́бры зь не́чага зьдзе́лаў дык зьдзе́лаў. Тады́ ш ча́ем і йе́лі.

***

Ра́нша ж мы ні гна́лі і купі́ць ні было́ за што. Так у нас тут кірма́ш на Іспа́са, а Васілёўка э́та кіламе́траў дзе́вяць ту́така. І на́шы ўзна́лі, што там е во́тка ў чаку́шачках. Вот яны́ й пашлі́, і ба́цька ўзяў дзьве ці чаты́ры чаку́шачкі йе́тые, буты́лачкі. Го́сьці прышлі́, і ён ужэ́ тады́ хо́дзіць і ка́пае па ка́пцы ў ру́мку. Ён ужо́ ру́мку ні ма́е як налівáць. Ну што адзі́н вы́п'е, другому ні хва́ціць, тады́ ўжэ сто́лькі было́ ра́дасьці, што Яўме́н дава́ў сваі́м гасьця́м гарэ́лку.

Ко́лісь то́жа гна́лі, но э́та адзьдзе́льные, а са́мае бальшо́е ні так даўно́ было́, як ні было́ дзе ўзяць. Бярэ́ш жы́та прара́шчваіш, яго́ су́шыш, ме́ліш, тады́ ва́рыш бу́льбы, два-тры чыгуны́ мо пятна́ццаці ці дваццацілітро́вые. Уве́рніш усё ў цэ́бар, ту́ю муку́, перата́лкваіш яе́, яна́ ш сало́дкая ўжэ, дык яна́ жы́ткая стано́віцца тады́. І ста́віш, яна́ стаі́ць, начу́е. Тады́ наза́ўтра ўжэ раскрыва́юць і разво́дзяць да тако́га, штоб яна́ ні гара́чая была́, штоб дро́жджы ні запа́рыла. У бо́чку зьліва́юць, туды́ дражджэ́й, яна́ й рабо́тае. Рабо́тае дак і рабо́тае крэ́пка. Е́сьлі до́бра рабо́тае, дык до́брая і самаго́нка. То́кі абы́чна ж, як хто хо́ча бо́лей – слабе́ньку дзе́лае. На чо́рта йна́ слабе́нька?! Е́сьлі зьдзе́лаў, дак ужэ́ зьдзе́лаў, штоб у маска́х трасану́лась. А тады́ ста́лі с са́хара гнаць, таму́ што зярна́ ні ста́ла. Са́хара кіда́юць сем кіло́ ў фля́гу і с кілагра́ма – лі́тар. Тады́ харо́шая. Е́сьлі бо́лей во́зьмеш – ні́чо́га, плаха́я выхо́дзіць. Гна́лі із буракоў, э́та даўно́ ўжэ было́, ні было́ жэ ш чаго́ гнаць, дык што сало́дкае, с таго́ й гна́лі. Ну яе́, яна́ ве́льмі сьмярдзю́чая, буражы́выя буракі́.

## Пра ягады, грыбы

Я́гады ў нас у аснаўно́м чарні́ка. Есьць і брусні́ка, есьць і малі́на. Но йе́тые гады́ малі́ны што-та не́ту, ежаві́кі то́жа не́шта ма́ла. А чарні́кі ўжэ сёлета мо тон тры́ццаць, а мо бо́лей ўзя́лі і здава́лі ўсё. Па пяць пяцьсо́т кілагра́мчык. По́йдзеш, карзі́ну набярэ́ш – пійся́т ты́сяч. Дак людзе́й! Паўзу́ць бяру́ць. А грыбы́ – падасі́навікі, махавікі́, баравікі́ і масля́та, і апя́та, а бо́жа мой, ско́лькі іх ту́така, я й ні перашчыта́ю. І рышкі́, во кары́то прынёс. Ра́нша сушы́лі ў аснаўно́м, хто дзе калі́

саліу̃, а цяпéрака дык усё дзéлаюць: і закрывáюць у бáнкі, і ў бóчкі сóляць, і жáраць закрывáюць. Цяпéр жа лю́дзі бóльш механізíраваные стáлі, як кóлесь былí.

Таксáма й я́гады. Я́гады ж ні здавáлі нікóлі, пóйдуць, набярýць вядрó малíн. Ні панімáлі, што зь íмі дзéлаць, ні варэ́ньне не вары́лі, нічóга. Пры́дуць, на стол вы́сыплюць цэ́лы тас, ся́дуць кругóм, паядзя́ць, паядзя́ць, вот табé ўся і праблéма. Яны́ ўжэ набрáлі я́гад.

Прынóсіш карзíну [чарніц], на печ высóўваеш, там чаты́ры-пяць дней – яны́ гатóвые, чóрненькіе. Тады́ ўжэ ў якýю-нéбуць сýмку, як нáда куды́. У аснаўнóм чарнíцамі пóльзаваліся сушóнымі. І грыбы́ тáкжа. У аснаўнóм сушы́лі, так яны́ і ўпатрабля́лі йіх. Э́та сáма лякáрственна – чарнíца булá. Завáрваеш іх крýта так і п’еш, і бы́стра астанáўліваецца.

У аснаўнóм дзе хто што знаў. Дзе якéя трáвы, дзе якýю карý, дзе якóе, во такíмі лякáрствамі і лячы́лі.

***

Вот гадзю́ка як укýсіць. Дык цяпéр жа ў бальнíцы, а рáнша ні былó. Éсьлі ні пасьпéіш нікудá – усё, ты ўжо ўмірáеш. Нікрэ́пка і даўнó, мо гадóў якíх дзéсяць, мо пятнáццаць, тут брáлі с Панкрáтавіч я́гады ці касíлі íлі яны́ сéна грэ́блі. І гадзю́ка ўкусíла, дык яé давéзьлі во да йéтай хáткі малéнькай. А тут бáба жылá такáя. Яé не былó дóма, тады́ прышлá, сéла, палячы́ла. Тáя бáба пасядзéла трóшкі, сабрáлася дый пашлá. Вот табé і ўсё. Знахарóў хватáла.

## ТРАДЫЦЫЙНЫЯ СВЯТЫ, ЗВЫЧАІ, АБРАДЫ

### Вялікдзень

Нáда былó і бýлак напячы́, і мя́са навары́ць, нáда былó і ўсё зьдзéлаць, штоб былó ш чым стрэ́ціць Пáску. Пáска – э́та прáзьнік, што лю́біць сáла і мя́са. Пячэ́ш бýлак, я й цяпéр сёлета тýю вáнну, што бéла такáя во, янá такáя высóкая і бальшáя. Тры лíтры малакá лéю, туды́ дражджэ́й сто грам кідáю, сáхару зь мíсачку сы́плю, разьмéшваю і на печ стáўлю. Яны́ за ноч там перахóдзяць раз, другí рас падымáюцца. Тады́ ўрáньні ўстаю, туды́ яéчкі б’ю, туды́ мáсла, сьмятáну, маянэ́с, сáхар, ванілíн... Усё ўжэ намясíў, намясíў, пасóліш, кáпельку сы́пліш, каб бýлка булá ўкуснéйшая, замéшваіш. Самá я ўжэ ні здалéю, дак я: «Мікалáй, ідзí мясí бýлкі». Той і пашóў мясíць іх, у ягó ш сíла ні такáя, як у мянé. Да часá паўтарá як папамéсіць. Ён як нажмé, янó й падымáіцца. Тады́ й зноў на печ стáвім, янó падымáіцца, вылáзіць с той вáнны, тады́ падпáльвае печ. Печ патпáляць, панавáрваеш, сьвіньня́м жа й ўсё [трэба зварыць]. Печ вы́гарала, вы́мялі яé. Тут панакладáлі пасýду, у якóй пячэ́ш. О так о трóшачкі кладзéш, як яны́ павырастáюць во такíе во бýлкі. Здарóвые, красíвые, і тады́ ў печ. Печ ўжэ зрáзу ні закрывáіш, штоб яны́ ні загарэ́лі, яны́ чуць-чуць зажаўцéюць і так ужэ́ стая́ць трóхі. Ужэ́ бáчыш: бóлей ні жаўцéюць, тады́ зáсланкай закрывáіш. Час прайшóў, глядзíш, шчэ мóжаш поўчасá даць. Тады́ ўжэ вынімáіш, накладзéш пóўненечкі стол. У нас абы́чна вун той раскладáны стол стáвяць, засьцілáюць скáцеркай і накладáюць дзéсяць-пятнáццаць бýлак. Ды й ні малéнькіе бýлкі, а бальшýшчые. Тады́ адзíн прыбяжы́ць схвáціць, другí прыбяжы́ць схвáціць – усё ш сваé. А я, гавóра, ні пяклá і я ні пяклá. Там сястры́, там дачцэ́, там пляме́ньніцы. І сам мо нядзéлю, мо дзьве ясí, пакýль і Пáска кóнчыцца.

***

За дні два цыбýлю зарáней перабірáеш, цыбýля ш плéценая, э́та лушпíньне накладáіш у чыгýн. Тады́ бярэ́ш вады́ закепяцíш і залівáіш ягó. І стаíць дзень-два. А тады́ пры́дзе тáя Сыбóта Крáсная, нáда я́йцы крáсіць. Бярэ́ш дзіся́ткі тры-чаты́ры-пяць, скóлькі табé нáда, у той чыгýн, у тýю крáску кладзéш і пастáвіш на агóнь. Яны́ й кіпя́ць. Кіпя́ць, кіпя́ць і кіпя́ць, тады́ трóхі пакіпéлі, чýствуеш, што яны́ ўжэ дóбра павáрацца. Усьмя́тку ж я́йца ні дасí на Пáску, тады́ паўнімáіш іх аттýль у якýю-нібýць карзíнку і стáвіш. Яны́ і стая́ць, пакýль асты́нуць, і яны́ тады́ ні бярýцца ні грáма, і крáсьненькіе. Інагдá крáскай крáсіш, ну ў аснаўнóм цыбýльнікам крáсяць у нас.

### Дзяды

Яны́ ш [Дзяды] е і Трае́цкіе, і во́сеньню йе – Дзьмі́траўскіе, і вясно́ю, ні зна́ю да́жа ско́лькі іх е. Но іх бага́та, мо чэ́цьвера.

У нас прыня́та хадзі́ць у чацьве́р – Мя́ртвых Вялі́кадня, дак у нас на йе́ты дзе́нь хо́дзяць. Хо́дзяць. І на Ра́даніцу [на могілках] по́ўна, і на́ дзень Мя́ртвых – по́ўна. І яны́ пе́рат Па́скай дык ужэ́ по́ўна-по́ўна й по́ўна то́е кла́дбішча. Ра́нша, як пахава́іш, дык і магі́лу згу́біш і ні зна́іш. Цяпе́рака дык сядзя́ць, сядзя́ць і сядзя́ць на тых магі́лах, бо ўсе ско́ра туды́ по́йдам.

### Каляды

Каля́ткі э́та асо́бенна. Каля́тка блі́ска, калба́ска ні́ска. І ў Шчо́дрыкі хадзі́лі, ме́ншые іду́ць у Шчо́дрыкі. Ідуць і пяюць пад вакно́м. А тады́ бо́льшые йду́ць, хто казу́ вядзе́, хто ў цыга́не йдзе́. Два чалаве́кі адзяюцца ў кажу́х, вывернаюць, у рукавы́ но́гі ці ру́кі, а другі́е рукавы́ но́гі[ы] ззаду. І ідуць, казу́ таку́ю дзе́лаюць, галаву́ ці́па казы́ зьдзе́лаюць і пры́дзя. А яна́ тады́ ўжэ бе́гае, абы́чна ўсё хло́пцы там. Яна́ ўжэ тады́ бе́гае: ме-ме-ме, ме-ме-ме. У ха́це ш пры́йдуць і ўсё за хазя́йкай бе́гаюць, штоп падары́ла што-ніб́уць. На́да ш калбасу́ даць, на́да са́ла даць, на́да й гарэ́лкі даць.

Такса́ма і цыга́ням. По́мню, адзі́н рас хадзі́лі мы (ды ту́така занялі́, паку́ль мы сабра́ліся). Паля́нкі ўжэ занялі́, ужэ́ друга́я кампа́нія йшла́. Нам німа́ дзе дзе́цца, дак мы тут во ў Панкра́тавічы, тры кіло́метры сабра́ліся і пашлі́. А ту́така што дзе сабра́лі, дык вы́пілі, закусі́лі, нам ужа́[э] мо́ра па кале́на, а ў заўчы́нку не́ба, пашлі́. Прыхо́дзім, прайшлі с ко́нчыка так ніб́ага́тка, а тады́ там не́йкае... ці там сва́дзьба была́, ці вечары́нка была, ні зна́ю што, гуля́лі во́пшчым. Мы прышлі́ туды́, пашло́ мо чалаве́к дзьвена́ццаць. Прыйшлі́, зайшлі́, папрасі́ліся, ужэ́ ў нас старшы́ быў – цы́ган, ён папрасі́ўся: разрашы́це нам пагуля́ць цыга́ням. Яны́: пажа́луста, пажа́луйца, гуля́йце. Там мы зайгра́лі цыга́ням, патанцава́лі, патанцава́лі, а тады́ той цы́ган, ён жа нам ні казаў, а то́лькі гуля́лі-гуля́лі, ён тады́: джа! Як ён кры́кнуў «джа», дык на́шы цыга́нкі ўсе – шлёп, і ўжо ў кругу́ сядзя́ць. Е́тые захо́дзяцца: во вы́вучыў цы́ган. Тады́ ён вы́няў сваю буты́лку, ста́ў дзялі́ць, е́тые ба́бы: дак што ш ты сваю дзе́ліш, сваю жа са́мі вы́п'еце. Дава́йце мы вас уго́сьцім. Нане́сьлі гарэ́лкі, заку́скі. А грась па кале́на, а мы жо́памі ў гразі́ сядзі́м. Там вы́пілі до́бра, патанцава́лі, паспасі́бавалі, сабра́ліся і пашлі́ дамо́ў. Вот табе́ і нагуля́ліся. А што дзе ўжэ астало́ся, наза́ўтра ў адну́ ха́ту [знеслі], дзе хто з до́му што папрыно́сіў. І зноў калядава́лі.

### Варажба

Пе́рат Каля́дамі вячэ́раеш, абы́чна пяклі́ бліны́. Ма́тка пячэ́ бліны́, а мы ўжэ так сталі́м да глядзі́м, штоп той пе́рвы блін укра́сьці. Тады́ пакра́лі ты́е бліны́, кладу́ць ты́е бліны́ о так у рад на пол і пуска́юць саба́к. Чый блі́н упяро́т саба́ка схва́ціць, зна́чыць та́я за́муш по́йдзя, а е́сьлі аста́нецца той блін, дзе́ўка та́я ні йдзе́ за́муш. О было́ го́ра. Тады́ выхо́дзім, забо́ры стая́ць, абніма́ем забо́ры, ско́лькі. Е́сьлі ў па́ру, зна́чыць по́йдзіш, е́сьлі ні ў па́ру – ні по́йдзіш.

Цяпе́р баці́нкі кіда́лі це́рас ха́ту. У які́ бок баці́нак ля́жа, у той бок за́муш по́йдзіш. У ба́ню запрэ́сься і сядзі́ш, там стра́шна. Э́та штоп таке́е се́лі спако́йные, а то ш ісьцяры́чкі які́е-не́буць ся́дуць. Як то́лькі агле́дзяць, што там ідзе́ ізза́ду мушчы́на, дык яны́ тады́ ля́пы разьдзяра́юць і ўцяка́юць. Ну закры́ў бы то́е зе́ркала і ўсё, і ўвесь бы й страх быў, дык не, пады́муць сканда́л, дык стра́шна глядзе́ць. Дык на э́та ма́ла гада́лі.

### Хрышчэнне

Як хрысьці́лі. Твой ба́цька ці мой ба́цька знаў ба́цюшку. Яны́ дагава́рваюцца, і ба́цюшка прыяжджа́е ўжэ ка мне. Я ўжэ саапшча́ю э́тай, като́рае дзе́ці, саапшча́ю, што ў тако́е-тако́е ўрэ́мя, у такі́-такі́ час, прые́дуць у дзе́сяць, у дзьвена́ццаць уно́чы, прыно́сьце хрысьці́ць дзяце́й. Е́тые ўжэ й гато́вяцца. Як то́лькі прыяжджа́е ба́цюшка сюды́, ім падаю́ць знак, яны́ ўсе ра́зам ні йду́ць, пачаро́дна, а то бу́дзе і таму́, што пазва́ў, і таму́, што хрысьці́ў, і таму́, што прынёс. Усі́м бу́дзе. Так і хрысьці́лі. А пато́м ужэ́ ста́лі вазі́ць па царквя́х.

Ба́пка ні далжна́ іцьці́ так. Як ро́дзіцца дзіця́, заву́ць жа ба́пку. Ба́пка набіра́е ўжэ аха́пак пялёнак, чаго́-не́буць там з гасьці́нцаў і йдзе́. Яна́ там яго́ ўжо абраба́тае, купа́е, мы́е і ўсё. Усе́ ж ба́бы ідуць у атве́ткі, атвяда́юць: ка́жны далжо́н не́сьці не ме́ней трох мі́сак заку́скі, хто дзе

бутылку, хто дзе што. Папрыно́сяць, усе́ ста́вяць, пап'юць, паядзя́ць ды й разо́йдуцца. Вот табе́ і атве́ткі.

А тады ўжэ хрысьці́ны. Ба́бы апя́ць гато́вяцца. Аднаму́ на сто́лькі ні нагато́віць, э́та цяпе́р мо́жа адзі́н насто́лькі нагато́віць, а тады ш ўсё ж на́да. Ты гату́іш адну́ па́рцію тры мі́скі, я другу́ю, а та́я – трэ́цію. Мы адные мі́скі гато́вам, на тваю до́лю, на яе́ і на маю. Ва ўсіх па тры мі́скі і ўсе ра́зные, во так было́. Е́сьлі я кісе́ль вару́, зна́чыць я тры мі́скі, е́сьлі ты бліны які́е пячэ́ш ці була́бушкі, ты то́жа тры мі́скі, і то́жа ўсё дзе́лаіш. Таму́ што ні было́ жа ш чаго́ тады, ну ўсё дзе́лалі. А тады ўжэ ба́бу расьпіна́юць за ка́шу. Ужэ́ пазьне́й ста́лі канфе́ты браць уме́ста ка́шы, а ра́нша абеза́цельна ка́ша далжна́ быць у гаршчо́чку. Пшо́нка, абеза́цельна пшо́нная ка́ша і туды мёт кі́даіш, і туды ма́сла, штоб яна́ вы́расла, штоб яна́ была́ така́я разва́растая́, во́пшчым, штоб ску́сная была́. А пато́м убіра́юць э́ты гаршчо́к ле́нтамі, цьвята́мі, тады ба́ба ка́шу прадае́. А кум далжо́н купля́ць, абеза́цельна купі́ць. Е́сьлі харо́шая ба́ба, дык яна́ шчэ прадзешаві́ць тро́хі, штоп ку́му ле́хчэ ста́ла, а като́рая ба́ба, дык яна́ зьдзярэ́ і чуць ні штаны. Купля́е, дзе ён дзе́нецца. Пато́м ужэ́ біць ка́шу. На сталé, хто бо́лей дае́ за ку́ма, кум сто́лькі і сто́лькі дае́. Е́сьлі ты ўжэ сказа́ла, што бо́лей на пяцёрку ці на дзіся́тку, усё – ка́ша твая́. Кум даўжо́н рашчэ́дрыцца, паднíма́ць ішчэ́ цану́. Вот ён падні́ме цану́ до́бра, тады ён б'е йе́ту ка́шу. Стано́віцца на стол на но́шку і э́ту ка́шу як дасьць, так яно́ то́кі гаршкí, а ка́ша і стаі́ць. А гаршчо́к паляцéў. Э́тые ба́бы ўжо тады зьбіра́юць і адна́ другой на гало́вы. На галаву́ надзе́не, зна́чыць, у цябе́ то́жа бу́дзе ка́ша.

**Вяселле**

Э́та ж быў пане́нскі ве́чар. Зьбіра́юцца ўсе дзе́ўкі пасьле́дні ве́чар с падру́гаю. Яна́ ўгашчэ́ньне ста́віць, панапіва́юцца, дзе хто пад забо́рам, дзе хто куды (тако́га ні было́, ну кане́шне ўся́кае быва́ла за век). Тады пяюць, гуля́юць да ра́ньняга. Наза́ўтра ўжэ пяюць пе́сьні, вяду́ць яе́ вяно́к надзява́ць, та́мака то́жа, усе́ ж дзе́ўкі, като́рые ша́феркі ўжэ ідуць туды зь ёю, ну ні ўсе ш там ша́феркамі. Е́сьлі ў нас два́ццаць, дык мы ўсе туды ні по́йдам, мо дзьве, мо чатыры, мо пяць, ці ско́лькі яна́ вы́бера. Тые іду́ць прыбіра́юць яе́ там, са́дзяць на дзяжу́, што хлеп ко́лісь пяклі́. Тады на дзяжу́ пасьце́люць кажу́х, штоп бага́тая была́, валаса́камі ўверх, штоб бага́тая была́ няве́ста. А тады ўжэ падыма́е жані́х прыхо́дзіць, зь яго́ то́жа вы́куп. Е́тые ж дзе́ўкі, като́рые гуля́лі, зь яго́ ж ужэ́ вы́куп трэ́буюць. Ён ім ужэ́ вы́куп дае́, дзе канфе́ты, дзе што трэ́ба.

Вы́куп [атрымалі] і паехалі ці за стол дзе пайшлі́, а тады ж ужэ́ вы́едуць туда́, а зра́зу ж яшчэ́ не хадзі́лі вянча́цца, дык так то́лькі. Як мі́не, дык круго́м ду́ба ля рэ́чкі павазі́лі дый прыве́зьлі наза́т. Дый ка́жа і до́бра бу́дзе. Бацькі́ далжны абеза́цельна ўстрэча́ць, ба́цька з ма́цер'ю. Яны далжны хле́бам-со́льлю. Даюць атку́сваць, хто бо́лей атку́сіць, той бу́дзе хазя́інам у ха́ці, у маладо́й сям'е́. Ды й до́бра, як які́-не́будзь сьцясьні́цельны, дак ён кусáе тро́шкі, а як які́-не́будзь раза́к пападзе́цца, так ён бярэ́ да ля́пу разя́віць да паўбу́лкі адло́міць. Так то́жа ўсё сьмяя́ліся, уся́кага хвата́ла. Пілі́ [маладыя], налівáлі йім, то́лькі што паме́ней.

Калі́ былі́ ўпрыго́жаны [булкі], а калі́ так было́, як папа́лася. І далжна́ быць бу́лка хле́ба, і далжна́ быць соль, і вы́піўка. І тут жа далжо́н вы́піць і закусі́ць.

Э́та ў цэ́ркві, як вянча́ліся, дык ішлі́ і дзе́ўкі ззаду наступа́лі на рушні́к, штоб рушні́к е́ты вярну́ўся, пае́хаў, што́бы бо́лей дзе́вак ішло́ за́муш. Як багаце́йшые, дак і гуля́лі і бо́лей. Сёньня гуля́лі ў няве́сты, а за́ўтра ў жаніха́, а тады ж е́дуць к няве́сьце ў го́сьці, а тады к жаніху́ ў го́сьці. Ужэ́ і чатыры, і пяць, як калі́ каму́ павязе́. А не, дык і на другу́ю нядзе́лю шчэ ў го́сьці е́дуць ат жаніха́ к няве́сьці, а тады ж ад няве́сты к жаніху́ шчэ пае́дуць, абеза́цельна далжны ж го́сьці спраўля́ць. Вот гуля́лі і гуля́лі.

***

У шко́лу хадзі́ла мо шэсьць ці сем [гадоў]. А тады ж ужэ́ пашла́ на рабо́ту. На пуці́ шла, шпа́лы паднімáла, ця́шка. Там тро́хі пабыла́, на́да было́ ніхаця́ туды за́муш уцяка́ць, штоп тро́хі ляхчэ́й ста́ла жыць. Таму́, як ні гавары, як пашла́ за́муш, я ж ні рабі́ла, а то́лькі ён рабі́ў, а я ужэ́ сядзе́ла до́ма да і ўсё. А капе́йка была́, е́сьці ж было́ што. Вот ніхаця́ на́да было́ іцьці́. Бох так даў.

***

Ста́вілі кра́сты́ на перакро́стак. Дзе на перакро́стках яны́ далжны́ стая́ць уро́дзе бы, ахраня́ць даро́гі. А што яны́ абазнача́лі то́чна, я так і ні зна́ю. Усё ўрэ́мя мяня́лі [ручнікі].

***

І жа́ла, і грэ́бла, і лён бра́ла, і пало́ла, і бу́льбу капа́ла. Жнеш ско́лькі хо́чаш. Ме́ншы сноп лучшэ́й жа, табе ш ляхчэ́й цягну́ць, а як бальшу́шчы нажне́м, дык на́да ў ба́бку ту́ю ста́віць, па дзе́сяць, па дзьвена́ццаць снапо́ў ста́вілі ў ба́пку. Жнеш, зно́сіш і ста́віш. Е́та цяжо́лае.

А тады́ пяць гадо́ў адрабі́ла на фе́рмі дая́ркай і пашла́ на по́чту рабі́ць. І вот на по́чце мая́ кар'е́ра і ко́нчылася. То́лькі што пятна́ццаць гадо́ў на по́чці прарабі́ла, за то́е і заплаці́лі, а там усё, што рабі́ла, ніддзе́ ніч́ога і німа́.

***

У Панкра́тавічах стая́лі дзьве зра́зу, а пато́м е́тые параськіда́лі, паста́вілі у Акалі́чах, была́, электры́чаская. У Ла́мпаве яна́ і цяпе́р е. Мы ўсё мало́ць во́зім, назьбіра́юць мяхо́ў, нагру́зяць воз, павязу́ць, зьме́люць, прывязу́ць. Дык цяпе́р жа то́лькі сьвіньня́м, а ра́нша сабе́ ўсё мало́лі. Тады́ ветраны́е [млыны] во ў Панкра́тавічах было́ дзьве́. Тут шчэ, по́мню, як у Ма́льля выхо́дзім, ме́льніца стая́ла. І як ў вайну́ не́мцы атступа́лі, так адзі́н туды́ залёз не́мец і атту́ль зьбіва́ў та́нкі зь ле́су. Як то́лькі высо́ўваюцца, дык ён іх зьбіва́ў. Дык е́тые ру́скіе забе́глі сюды́ во на Паля́нкі на той кане́ц, вы́гледзілі ў біно́кль, што ён там сядзе́ць, дык як мешкану́лі, дык ён там астаўся і ме́льніца, і ўсё там на ме́сьці ста́ла. Тады́ ўжо пашлі́ пра́ма, а то два ці тры та́нкі зьбіў та́мака.

**Кірмаш**

У нас Спас прахо́дзіў, дзевятна́ццатага а́ўгуста, у Ма́льлі – Ушэ́сьця, у Панкра́тавічах – Міха́йла, і ра́нша шчэ было́ Ю́р'еў дзень – два, у Ла́мпаве – Тро́йца, у Тажы́лавічах – Са́вы, там у Цялу́шы – Міко́ла, у ко́жнага сваё. Як дзярэ́ўня, так і пра́зьнік.

Ну як адбыво́ўся? Упраўля́лісься, і штоп паабе́даць сходзі́ць у Тажы́лавічы на́да іцьці́ дзе́сяць кіло́метраў, штоб зье́сьці. Лу́чшай бы ту́ю бу́льбіну зьеў ды сядзе́ў бы, нет усе раўно́ на́да іцьці́ туда́. По́мню, так во са́ма пае́дзеш у го́рат, бе́гаіш-бе́гаіш, траскі́ набярэ́ш мо кіло́ дзе́сяць, мо два́ццаць, паміда́р карзі́ну, камсы́. Па адзёшкі ш праця́гвалі но́шкі. Тады́ прыхо́дзяць, дзе́сяць часо́ў ужэ́ го́сьці явілі́ся. Садзя́цца, п'юць, гарэ́лкі наго́ніш, тады́ наганя́лі. А заку́сваць… Дзе ры́біну э́ту пажа́рыш, дзе яку́ю памідо́рыну, дзе які́ агурэ́ц. Што было́, то́е і йе́лі, то́жа стара́ліся, штоп лу́чшэй тро́хі дзе было́.

Тады́ адну́ па́рцыю атпра́віш, другу́, трэ́цю, пя́ту, дзеся́ту. К ве́чару сусі́м німа́ ніддзе́ ніч́ога [есці]. Усё пае́лі, гато́віліся-гато́віліся – і німа́ ніддзе́ ніч́ога. До́бра, што ўсе й пайшлі́. А сам то́жа по́йдзіш, сеў пад'е́ў у аднэ́й ха́ці. Ну хва́ціт жа. Не, на́да шчэ ў ту́ю схадзіць і ў ту́ю, на́да і ў вун ту́ю. Захо́дзіш, а што та́мака.

Я адзі́н рас пашла́ ў го́сьці і по́сьле таго́ ні ста́ла хадзі́ць і ў го́сьці. Прыхо́дзяць ка мне с Тажы́лавіч, дзе́сяць часо́ў, яны́ ўжэ тут. Пяюць, вы́п'юць, пад'ядзя́ць, пяю́ць, гуду́ць. Ну гудзі́це, мне ж німа́ калі́: дая́ркай была́. Папе́лі, пагудзе́лі, пашлі́ ў другу́ю ха́ту, ка мне другі́е прышлі́ і так цэ́лы дзень.

Адзі́н рас сабра́лася ўсё-такі і я [у госці на свята]. На веласыпе́дах пае́халі з мужыко́м. Прыяжджа́ем, ён мяне́ ўжо заво́дзіць туды́, я ж ні зна́ю дзе. У йіх мёду бага́та, дык яны́ мёдам накормяць. Я кажу́: не́шта ні віда́ць, штоб яны́ цябе́ мёдам накармі́лі. Бо прые́халі, німа́ ніддзе́ ніко́га, ніч́ога німа́ і самі́х німа́. Ну до́бра, сядзі́м, той хазя́ін пашо́ў прынёс буты́лку ліманада. Што мне той ліманад, е́сьлі я е́сьці хо́чу? Вы́піла тро́ха ліманаду, сяджу́. Ну, кажу́, ско́ра тваё го́сьці бу́дуць, мёд той твой? Ні зна́ю, ты́е ра́зы ў іх было́ ўсё гато́ва, а э́та я ні зна́ю сам. Вот пагуля́йце тро́шкі, січа́с пашлі́ туды́-туды́, шчас прыду́ць сюды́ і бу́дам е́сьці. До́бра, прыхо́дзіць там не́йкая ба́ба, сказа́ла, гляджу́, ужэ́ стол разьдзьвіжны́ так о адзі́н і другі́ ста́вяць, во так о ў за́дняй ха́ці, два сталы́ длі́нные такі́е. А ста́вяць заку́ску на адзі́н стол, а на другі́ – пусты́.

І мне папа́ла, што я на той пусты́ се́ла. Ну і што? Ты́е ш п’я́ные, пад’е́ўшые, яны́ вы́пілі, схваці́лі тое́, што было́, закусі́лі, а я й сяджу́. А я сяджу́ ні пі́ўшы, ні е́ўшы, мне да́жа ні нале́ялі. Бо я ж ні ка́жны раз зь і́мі. Пасядзе́ла я во так тро́шкі, яны́ ўстаю́ць, і мне ж на́да ўстава́ць іцьці́. Яны́ ужэ́ шчэ пабе́глі не́куды, я то́жа сабіра́юся да йіду́. Мой мужы́к ка́жа: «Да падажджы́, мо што-не́буць даду́ць, у цябе́ ж нічо́га німа́, ты ж ні е́ла». – Я гавару́: «Пашлі́ ў мага́зін, ку́пім пра́ніка, перакушу́ да й пае́халі дамо́ў». – «Ні мо́жа быць тако́га». – Я: «Паба́чым, шчэ падажджу́ тро́хі». Падаждала, яны́ сабра́ліся і пашлі́ с ха́ты і са́мі. Я гавару́: «Ну што, бу́дзеш ждаць?» – «Ды куда́ ўжэ ждаць, ужэ́ німа́ куды́ ждаць». – «Так, – гавару́, – пашлі́ ў мага́зін». Пашлі́ ў той мага́зін, узялі́ пра́нікаў. Се́лі і пае́халі. Ат’е́халіся, ну цяпе́р станаві́ся, я хоць перакушу́ пра́нікамі, бу́ду іцьці́ ды йе́сьці. На веласыпе́дзе я ж ні бу́ду е́сьці. Ішлі́-ішлі, я йе́ты пра́нік дае́ла. Атхо́джу да кажу́: «Ну ўсё, станаві́ся тут». – «А ты куды́?»— «Я пайду́, – гавару́, – у кусты́ сюды́ схаджу»́. Падышла́ к куста́м, ды ён жа ба́чыць, што нічо́га ні дзе́лаю. Падышла́ к куста́м і ламлю галіну́. Дак: «А што ш ты дзе́лаіш?» – «Зала́мліваю асі́нку, штоп сюда́ бо́лей ні папада́ць». – «Да, і за мяне́ там ламі́, я то́жа бо́лей сюды́ ні пападу́». І по́сьле таго́ мы ні хадзі́лі. Яны́ шчэ про́бавалі прыцьці́, но ў іх ужо́ со́весьці ні хапі́ла, пабылі́ тро́шкі і сабра́ліся й пашлі́. А то ж прыду́ць, дзень ляжа́ць, пяю́ць, гуду́ць, заку́скі ш хвата́е і ўсё.

***

Я ні пе́ла ніко́лі, былі́ старэ́йшые ба́бы, вот яны́ «Зажы́нкі» пе́лі і «Дажы́нкі» дзе́лалі, бараду́ не́сьлі. Дажына́еш, тады́ астанаўля́еш о такі́ кусо́к жы́та, зьвя́зваеш, убіра́іш цьвята́мі, пато́м жжына́ем. Е́ты сно́п нясе́м на ме́ста, што́бы паста́вілі, што́бы стая́ла там. У калхо́зі былі́, дак у брыга́ду нясе́ш, брыгадзі́ру нясе́ш. А ён далжо́н дава́ць не́шта гуля́ць на йе́ту бараду́. Гуля́нка была́. Было́ і тако́е, нажне́ш э́ту бараду́, прынясе́ш, дык ён, сёлета ні красі́вая барада́ ва́ша. Шчэ дзе́лаіш бараду́ красіве́йшую, цьвято́ў жа хвата́ла, убіра́іш жы́та сноп. Там у аснаўно́м снапо́к жы́та такі́ небальшы́.

## НАВУКОВЫ КАМЕНТАРЫЙ ДА ТЭКСТАЎ З БАБРУЙСКАГА РАЁНА

Паводле вынікаў лінгвістычнага вывучэння прасторавых адносін паміж дыялектнымі гаворкамі беларускай мовы гаворкі тэрыторыі Бабруйскага раёна аднесены да сярэднебеларускіх. З улікам арэальнага, але ў межах міжмоўнага кантактнага ўзаемадзеяння, інакш занальнага, падзелу яны ўваходзяць у склад цэнтральных і паўднёва-ўсходніх гаворак[1]. Па лакалізацыі ў межах занальных моўных згрупаванняў бабруйскія гаворкі займаюць прыблізна сярэдзіннае становішча. Яны амаль аднолькава аддаленыя і ад цэнтра, і ад ускраінных беларускіх гаворак у іх устаноўленых культурна-гістарычных згрупаваннях (ЛГ, карты № 76, 78). Лінгвагеаграфічна вылучаныя ў сярэдзіне мінулага стагоддзя два тыпы маўленчых сродкаў адпаведна іх паходжанню: дыялектны, ці этнагенетычны, і занальны, або культурна-гістарычны – склалі сукупную сістэму мовазабяспечвальных сродкаў мясцовага беларускага дыялектнага маўлення. Сёння ў рэпертуары сродкаў мясцовага маўлення, акрамя статусна дыялектных па комплексе сваіх дыягнастычных асаблівасцей, таксама маюць месца лексічныя адзінкі, якія, калі кіравацца іх прыналежнасцю да нарматыўнай сістэмы моўных сродкаў, нельга вызначыць як беларускамоўныя. Гэта запазычанні з дамінантнай у агульнанацыянальнай камунікатыўнай прасторы моўнай сістэмы – рускай мовы. Па прычыне дакладнай нявызначанасці навуковага моўнага статусу лексічных інавацый у дыялектах беларускай мовы сукупная сістэма сродкаў моўнага забеспячэння маўлення мясцовага насельніцтва будзе вызначацца намі як рэгіянальная камунікатыўная сістэма сродкаў зносін дыялектнага тыпу.

У дыялектнай сістэме камунікатыўных сродкаў забеспячэння маўленчай дзейнасці вяскоўцаў старэйшага ўзросту, карэнных мясцовых жыхароў Бабруйскага раёна, на падставе тэкставых запісаў устаноўлены наступныя моўныя асаблівасці[2].

### У фанетычным ладзе ў сістэме галосных

Гук [а] у становішчы пасля цвёрдых і няпарных цвёрдых зычных у розных складах у адносінах да націску і пры рознай якасці націскнога галоснага, у тым ліку ў пераднаціскных, а таксама ў неканцавых і канцавых закрытых складах: *забо́ры, спако́йные, жале́знае, чарні́цамі, баці́нак, гадзю́ка, хазя́ін, хава́ліся, аха́пак, абра-*

[1] У апорную сетку ДАБМ з Бабруйскага раёна былі ўключаны н.п. пад № 563, 565, 566, 568, 569, 854, 855, 856.

[2] Вёска, дзе зроблены запіс, знаходзіцца на паўднёвай ускраіне раёна на мяжы з тэрыторыяй Глускага раёна.

*бáтае, дакумéнты, багатыр, разрашыце, накармíць, парцізáны, малакá, папабрáла, нагадавáла, і ўпатрабляли, жырнéйшае, упрыгóжаны, выкрасяцца, электрычаская, лýччае, вéчарам, цыбýльнікам, лýчшай бы, мёдам, хóчаш, лóжаш, але: устрэчáць, вóбшчэм.*

Ненаціскны гук [а] у канцавым адкрытым складзе ў становішчы пасля цвёрдых і няпарных цвёрдых зычных: *хáта, мáла, бáцька, нічóга, сабáка, клáдбішча, дóбра, гóра, кáжа, рáнша, дáжа*, але: *зь éтаго, во карыто, лéхчэ.*

Гук [ʻа] у першым складзе перад націскам пры любым галосным гуку пад націскам: *вядрó, ягó, упярóт, бягý, няўкýсна, сям'íшча, сьпякцí, сьцясьнíцельны, ісьцярычкі, дзярэ́ўня, маянэ́с, цяпéр, яé, дзяцéй, бяс хлéба, янá, дзяржáлі, прыяжджáе, сядзяць, плямяннíцу, усягдá, дзялá.* А таксама: *разьдзярáюць*, але: *сем'я́, выверна́юць, дзьвенáццаць, абезáцельна, у кудзелёк, не мéней, мінé, ціпéр, дзіся́ткі тры, нікрэ́пка, іньцірэ́сна, німá, нідáўна, ні éўшы; éсьлі ні ў пáру – ні пóйдзіш; ну ні ўсе ш там.*

Гук [е][1] у становішчы пасля мяккіх зычных у другім і іншых складах перад націскам пры рознай якасці націскнога галоснага: *ветраные, ежавíкі, парценікí, механізíравана, закепяцíш, перабярý, прадзешавíць, небальшы, не былó, не варылі, не найшлí*, але пераважна ў складзе адмоўнай часціцы: *ніхацяа́, ні казáў, ні пяклá, ні пасьпéіш, ні перашчытáю; рáнша ні былó; як ніабíдна; я ж ні рабíла*, а таксама: *калядавáлі.*

Гук [е] у становішчы пасля мяккіх зычных у занаціскных складах – у неканцавых закрытых і адкрытых і канцавых закрытых: *чэ́цьвера, тыдзень, хлóпец, у мáцеры, скáцеркі, жóўценькі, пóўненечкі, плéценая, акурáтненька, асóбенна, выгледзілі, ш чáем, учыняеш, падзьдзірáеш, накладáеш, зьлівáем, астанáўліваецца, астáнецца*, але: *дзéсяць, быў... паліцáям, выняў, накладáіш, убірáіш, дзéлаіш, дзéлаіцца.* Пры асаблівых марфалагізаваных умовах у гэтай пазіцыі выступае галосны гук [ʻа]: *зайгрáлі цыгáням, кусóк трэ́цяму, у зáдняй хáці, прынóсяць, развóдзяць.*

Ненаціскны гук [а] ці [е] у становішчы пасля мяккіх зычных у канцавых адкрытых складах галоўным чынам у пэўных лексіка-граматычных формах: *цыбýля плéценая, нéйкая бáба, пагóда мóкрая, урóдзе бы, пóсьле, канéшне, к нявéсьце, у гэ́тай хáце, у лéсе, зрэ́б'е, жалéзьзе, у патрэ́п'е, трóе, мáсла пóснае, катóрае жырнéйшае, клянóвые, дубóвые, усякіе лíсьце, э́тые, катóрые бальшые, такéе спакóйные, выгáрвае, накідáе, пасóхне, прынóсьце*, але: *Мáртвых Вялíкадня, Ушэ́сьця, якéе-нéбуць лíсьця, прыдзя, бýдзя, у хáці, у калхóзі, у балóці.*

Адсутнасць гука [а] або [ы] у суфіксальнай марфеме *-ва-* ў становішчы пасля папярэдняга зычнага ў дзеясловах незаконченага трывання: *высóўваеш, выгáрвае, дагавáрваюцца, замáчвае, падпáльвае, панавáрваеш, перамáтваць,ператáлкваіш, разьмéшваю, ні растрэ́львалі, але: пахрáпывае, атлятывала.*

Інтэркансанантны ўстаўны галосны гук [а][2] другаснага характару ў лексемах тыпу: *тáмака: тáмака тóжа, усé ж дзéўкі; тýтака: тýтака шчэ; ды тýтака занялí; цяпéрака: ён цяпéрака заслýжаны парцізáн.*

Націскны галосны гук [е (ʻе)] у становішчы пасля папярэдняга зычнага пераважна ў розных марфалагізаваных умовах у канцавым закрытым і адкрытым складах: *усé свaé, дачцэ́, табé, дражджэ́й, дзяцéй, людзéй, у аднэ́й хáці, якéе-нéбуць лíсьця, такéе спакóйные, якéя трáвы, бярэ́ш, кладзéш, нажнéш, нажмé, цячэ́, нясéм.*

Націскны гук [е (ʻе)] у становішчы пасля папярэдняга зычнага ў некаторых выпадках у межах асновы: *чэ́цьвера, рашчэ́дрыцца, патрэ́п'е, грэ́блі, ужэ́, э́ты парцéнік, пляменьніцы, ткáлі ў éлку, давéзьлі, нанéсьлі, пацéрлі, ні налéялі, малéнькай, слабéнька.*

Галосны гук [о (ʻо)] у некаторых лексіка-граматычных умовах у канцавых складах з флектыўным націскам: *вяснóю, пад вакнóм, малакóм, з мужыкóм, цьвятóў, мяхóў, мёд той*, у *той магáзін, такóга, другóму*, у *аснаўнóм, па аднóй пасьцíлцы, сваё, я ёй паказáла, штоп я ёй камáндавала, удвóх, бярóм, ідóм.*

Націскны гук [о (ʻо)] у становішчы пасля папярэдняга зычнага ў асобных выпадках у межах асновы: *кóлесь, на рóбрах, на кóліна* ʻкалена', *тры кілóметры, прынёс, па адзёшкі.*

Лабіялізаваны націскны галосны гук [о] перад білабіяльным зычным [ў] у межах асновы слова, дзе ў іншых тыпах беларускага маўлення гуку [о] адпавядае [а]: *адбывóўся*, аднак як рэпрэзентатыўная асаблівасць: *давáў, гадавáў, зьбівáў, знаў, дастáў, назáўтра, казáў, наклáў.* Акрамя таго, у іншым становішчы, але пры наступным [ў]: *поўчасá*, аднак паслядоўна і рэгулярна: *паўбýлкі, часá паўтарá, паўпіхáем, маўчý, баўтáецца, паўзýць, настаўляюць, даўнó.* Адзінкава пры іншых умовах: *разóйдуцца.*

Спалучэнне двух галосных гукаў [а] на марфемнай мяжы: *паабéдаць, паабдзірáлі, самаарганізóўваліся, саапшчáю*, але: *паставáлася, паткладáлі, пачарóдна.*

[1] Гук [ʻе], які рэалізуецца ў гэтым становішчы, акустычна не заўсёды з'яўляецца аднастайным. На слых ён часам успрымаецца не толькі як выразны гук [ʻе] поўнага ўтварэння, але і як гук з дадатковым адценнем галосных, накшталт [ʻеа] ці [ʻеі]. Прынцып неаднастайнай якасці рэалізуемага пераднаціскнога галоснага не першага складу захоўваецца таксама ў становішчы пасля націску. У тэкстах гукі з дадатковымі адценнямі іншых гукаў або сярэднія паміж гукамі [ʻе] і [ʻа], [ʻе] або [ʻі] ці іншыя перадаюцца толькі пры ўмове, калі немагчыма адназначна вызначыць іх акустычную якасць.

[2] Дыяпазон гучання гэтага ўстаўнога галоснага розны: ён успрымаецца ці як рэдукаваны галосны гук, ці як галосны, блізкі да ʻшырокага' [а].

Ініцыяльны ненаціскны [а] пасля галоснага папярэдняга слова (ва ўмовах сандхі), а таксама ў абсалютным пачатку слова: *эта адзьдзе́льные*; *да аго́нь у кудзелёк*; *се́мя адзе́льна*; *то́кі абы́чна ж*; *далжны́ абеза́цельна*; *яго́ абаб'е́ш, што абдзіра́юць*; *аднаму́ на сто́лькі*; *адзі́н вон брат пашо́ў*, але: *а ў заўчы́нку не́ба* 'за аўчынку'.

Наяўнасць вакальных спалучэнняў на стыку слоў, за выключэннем, калі наступнае слова пачынаецца з ініцыяльнага націскнога галоснага [і]: *ры́біну э́ту*; *у е́лку – э́та прасты́е такі́е*; *сьмята́ну э́ту*; *бу́ду іцьці́*; *ён заслу́жаны інвалі́д*; *по́йдзе іржы́ набярэ́*.

Наяўнасць прыстаўнога гука [і] перад зычным гукам у функцыі прыназоўніка, а таксама ў некаторых іншых выпадках у фанетычна не абумоўленых умовах: *выніма́еш ісь пе́чы*; *гна́лі із бурако́ў*; *ідзе́ ізза́ду*; *як ізьдзе́лала*; *на Іспа́са*, але: *там з гасьці́нцаў*; *сыро́к зьдзе́лаецца*.

Іншыя гукавыя адметнасці: словаформы *лі́тар*, *валаса́камі*, *развя́растая* (каша), *сашлі́ся*, *сашы́ць* 'сшыць', *ка́жные* 'кожны', *Сыбо́та Кра́сная* 'перадвелікодная субота', *шты́рхалі* 'штурхаць' і інш.

### У сістэме зычных

Суіснаванне глухога і звонкага зычных у фанетычна слабай пазіцыі ў межах слова: *хлеп*, *штоп*, *мёт*, *гот*, *наза́т*, *тас* 'міса', *грась*, *за́муш*, *што-не́буць*, *клупкі́*, *ба́пка*, *дзе́шка*, *жы́ткая*, *сасе́тка*, *ляхчэ́й*, *ця́шка*, *но́шкі*, *мушчы́на*, *дзе́шка*, *рышкі́*, *саапшча́ю*, але: *штоб*, *тво́раг*, *лёг*, *льнозаво́д*, *мёд*, *інвалі́д*, *я́гад*, *адзі́н раз*, *воз*, *залез*, *калхо́з*, *у ба́бку*, *сало́дкае*, *во́бшчэм*.

Гук [т] у складзе прыстаўкі (прыназоўніка) ***ад*** і іншых (паводле іх арфаграфічнага запісу) перад наступным санорным кансанантам: *атве́ткі*, *атвяда́юць*, *атля́тывала*, *ат'е́халіся*. Акрамя таго: *атабра́ла*, але: *пад'е́ўшые*, *пад'ядзя́ць*, *адрабі́ла*, *адраза́еш*, *ад нявé́сты*, *пад вакно́м*. У іншых фанетычных умовах: *адзьдзе́льные*, *падбіра́юць*, *пад забо́рам*, *паткіда́еш*, *патхо́дзіць*, *патпа́ляць*, *атку́сваць*, *аттá́пліваецца*, *атту́ль*, *атступа́лі*, *атхо́джу*, *пат ка́мень*, *пат пло́там*, *перат са́май вайно́й*, *пе́рат Па́скай*, але: *падпа́львае печ*, *адсю́ль*, *е́дуць ат жаніха́*.

Непаслядоўнае адрозненне зычных па голасе ў пазіцыйна абумоўленых умовах пры ўжыванні службовых аднакансанантных слоў у становішчы паміж двума паўназначнымі або непаўназназначным і паўназназначным: *зь яго́ ж ужэ́*; *ба́цька з ма́цер'ю*; *хто з до́му*; *чаго́-не́буць там з гасьці́нцаў*; *дзе́лалі з то́га*; *штоп зь цябе́*; *і с кілагра́ма*; *ста́лі с са́хара*; *выла́зіць с той ва́нны*; *я ж яго́ пачці́ што і ні зна́ла*; *усьмя́тку ж яйца́ ні дасі́*; *яны́ ш е і Тpaе́цкіе*; *а то ш ісьцяры́чкі*; *к табе́ ш сва́ты*; *яно́ ш тады́*.

Мяккія свісцячыя і некаторыя іншыя гукі ў становішчы перад наступным мяккім зычным: *дзьве*, *адзьдзіра́лі*, *пазьне́й*, *пра́зьнік*, *зьдзе́лаюць*, *зьліва́юць*, *зье́сьці*, *даве́зьлі*, *зь і́мі*, *зь мі́сачку*, *зь мя́са*, *зь цябе́*, *чэ́цьвера*, *чацьве́р*, *аньціска́ецца*, *іцьці́*, *сьмята́ну*, *сьме́ла*, *нане́сьлі*, *е́сьлі*, *хрысьці́лі*, *гасьці́нцаў*, *сьцясьні́цельны*, *кі́сьне*, *расьпіна́юць*, *ісь пе́чы*, *угашчэ́ньне*, *со́льлю*, *ура́ньні*, *сёньня*, *іньцірэ́сна*. Акрамя таго: *ськіда́іш*, *параськіда́лі*, *сь кім*, але: *ру́скіе*, *пане́нскі*, *Дзьмі́траўскіе* (Дзяды), *ляка́рственна*.

Падоўжаны інтэрвакальны зычны: *лушпі́ньне*, *варэ́ньне*, *сьвіньня́м*, *угашчэ́ньне*, *жале́зьзе*, *во́сеньню*, *со́льлю*, *у Ма́льля* 'назва вёскі'.

Гук [м'] у складзе флексіі ў словаформах творнага склону множнага ліку іменных часцін мовы: *чарні́цамі*, *перат Каля́дамі*, *за Па́рычамі*, *ле́нтамі*, *цьвята́мі*, *ша́феркамі*, *дня́мі*, *зь і́мі*, *такі́мі*, *сушо́нымі*.

Мяккі зычны [с'] у складзе постфікса ***-ся*** (і яго варыянтаў) зваротнай формы дзеяслова: *сабіра́юся*, *сабра́лася*, *палучы́ўся*, *явí́ліся*, *стара́ліся*, *ат'е́халіся*, *сашлі́ся*, *парасхо́дзіліся*, *трасяну́лась*.

Цвёрды канцавы зычны гук зыходу асновы ў асабовай словаформе дзеясловаў I спражэння ў 1-й асобе множнага ліку абвеснага і загаднага ладу: *ідо́м пало́ць*, *бу́дам е́сьці*, *по́йдам*, *дава́й вы́ткам*, але: *жнем*, *нажне́м*, *нясе́м*.

Зычныя гукі [дз'], [ц'] у адпаведнасці з цвёрдымі зычнымі гукамі [дз], [ц] у некаторых тыпах беларускага дыялектнага маўлення, а таксама ў нарматыўным маўленні ў запазычаных словах (пераважна праз рускую мову): *парціза́ны*, *ісьцяры́чкі*, *па́рцію*.

Некаторыя цвёрдыя пярэднеязычныя зычныя, акрамя гукаў [дз'], [ц'], у асобных запазычаннях: *на веласыпе́дах*, *маянэ́с*.

Асіміляваныя свісцячыя і шыпячыя, у тым ліку і шумныя зубныя гукі [д] і [т] у становішчы перад шыпячым [ч] і свісцячым гукам [ц]: *жжына́ем*, *раж жа* 'раз жа', *пераешчыта́ю*, *рашчэ́дрыцца*, *ш ча́ем*, *было́ ш чым*, *ні было́ жа ш чаго́*, *прыяжджа́е*, *гушка́есься*, *запрэ́сься*, *упраўля́лісься*, *наніччу́*, *наччэ́*, але: *у дзе́шцы*, *дачцэ́*, *яго́ пачці́ што і ні зна́ла*.

Пратэтычныя і ўстаўныя зычныя [в], [j], [г]: *во́сеньню*, *Во́льга*, *па ву́ліцы*, *вучы́цца*, *вы́вучыў*, *да гэ́тага*; *у гэ́тай ха́це*; *е́тые захо́дзяцца*; *рушні́к е́ты вярну́ўся*; *пато́м е́тые параськіда́лі*; *е́ты сно́п нясе́м*, а таксама: *пад вакно́м*, *йэ́та*.

Гук [j][1] у прыметніках і іншых часцінах мовы, граматычна суадносных з імі, у ненаціскным канчатку назоўнага склону адзіночнага ліку жаночага і ніякага роду, а таксама ў гэтай жа лексіка-граматычнай групе

[1] Гук [j] з'яўляецца адпаведнікам літары ***й***, якой ён абазначаны ў тэкставых запісах.

слоў у вінавальным склоне адзіночнага ліку жаночага роду: *дзеўка меншая*; *яна жыткая*; *яна* (ванна) *такая высокая і бальшая*; *што-нібўць такое жырнае*; *салодкае малако*; *поўненькую машыну*; *у печ... ні ў жаркую*, але: *поўна ж дзярэўня была*; *бела такая* (ванна); *нейка... пагода*; *поўна-поўна й поўна тое кладбішча*; *парцію другў*, *трэцю*, *пяту*, *дзесяту*; *поўненьку хату*.

Гук [j], які прыкрывае націскны галосны [і]: *тудá йіх*; *налівалі йім*; *яны і ўпатраблялі йіх*, але: *у іх еду багата*; *пагналі іх*. Таксама ў аналагічнай пазіцыі, але ў ненаціскным становішчы: *сабіраюся да йіду*. Пры іншых фанетычных умовах: *но ў іх*; *як іх называлі*; *дык іх тут*, *ён іх зьбіваў*. Акрамя таго, зычны [j], як выразна вымаўлены гук, адзначаецца ў іншых умовах: *іцьці ды йесьці*[1]; *тое і йелі*; *і восеньню йе* 'ёсць'; *б'е йету кашу*; *я йеты творах*; *папабрала я йетага лёну*; *на йету бараду*; *во да йетай хаткі*; *чакўшачкі йетые*.

Гук [j] як вынік пераўтварэння галоснага [і] у поствакальнай пазіцыі перад наступным зычным пры адсутнасці паўзы паміж словамі: *ні йдзе замуш*; *увесь бы й страх быў*; *ды й разойдуцца*; *яны й кіпяць*; *яны й пашлі*; *ды й добра*; *тады й зноў*; *ды й далей*; *ужэй гатовяцца*; *усе й пайшлі*; *с таго й гналі*; *поўна й поўна*; *я й ні перашчытаю*; *я й цяпер*; *таксама й ягады*; *сабраліся й пашлі*; *ты йшла*; *ды йшлі*; *усё йшло*; *тады большые йдуць*; *кампанія йшла*; *яны ўсе разам ні йдуць*. Але ў пазіцыі пасля паўзы: *ужо ідзе*; *было і такое*; *хата і вон хата*; *да гэтага і кусок трэцяму*; *трўпку і туды*; *табе і сёньня ні скажу*; *ты йшла і хто сватаў*; *і капусту паткладалі*, *і хрэна*, *і кляновые*, *і дубовые*.

Гук [j], які з'яўляецца вынікам пераўтварэння каранёвага ***і*** ў словах з прыстаўкай, што заканчваюцца на папярэдні галосны: *пайду*, *пойдам*, *не найшлі*, *пайшлі*, *прайшоў*, *прайшлі*, *прыйшлі*, *зайшлі*, *зайгралі*, але: *прышлі*, *пашла*, *пашло*, *прыдзе*. А таксама гук [j] як вынік замены галоснага [і] у поствакальнай пазіцыі ў межах асновы: *у Лампаве – Тройцá*; у тым ліку ў спалучэнні з іншымі фанетычнымі зменамі: *на чорта йна слабенька*.

Наяўнасць гука [j] у складзе неазначальнага займенніка ***нейкі***: *тады там нейкае*; *нейкая баба*; *нейка была пагода*. Аднак толькі формы прыслоўяў ***недзе***, ***нідзе***: *шчэ недзе во ляжыць*; *сусім німа нідзе нічога*; *нідзе ні было нічога*.

Гук [ц] адпаведна зыходнаму зычнаму асновы [к] у назоўніках жаночага роду (назоўнікі на *а*) у давальным і месным склонах адзіночнага ліку: *там дачцэ*, *у дзешцы*, *па капцы*, *па адной пасьцілцы*.

Адсутнасць канцавога гука [ц'] у асабовых формах дзеясловаў І спражэння ў 3-й асобе адзіночнага ліку незалежна ад характару націску: *йдзе*, *прадае*, *пячэ*, *зьдзярэ*, *бярэ*, *кажа*, *выбера*, *абрабатае*, *купае*, *мые*, *прыяжджае*, *набірае*, *будзя*.

Наяўнасць гука [ц'] у дзеяслоўных словаформах 3-й асобы адзіночнага ліку ІІ спражэння з флектыўным і наасноўным націскам: *стаіць*, *сьпіць*, *нагатовіць*, *ставіць*, *прыходзіць*, *аткусіць*, *разявіць*, *адломіць*, але: *гавора*.

Білабіяльны зычны гук [ў] у становішчы перад наступным зычным, калі папярэдняе слова заканчваецца на галосны: *накідае ў тас*; *йета ўжэ ідзе ў кужаль*; *сыроватку ў мех які-небуць*; *адзяюцца ў кажух*; *цыганкі ўсе*; *яго ўжо абрабатае*, аднак: *паставілі у Акалічах*. А таксама ў гэтых жа ўмовах, але пасля папярэдняга зычнага: *сьвіньням жа й ўсё*; *печ ўжэ зразу ні закрываіш*; *тады ш ўсё ж нада*; *і як ў вайну*; *а мо болей ўзялі*. У іншых выпадках ва ўмовах сандхі, у тым ліку пры рэальнай паўзе: *дык усіх*; *так у нас тут кірмаш*; *гот у гэтай хаце*; *нам ужа*[?] *мора па калена*; *цяпер у нас дзярэўня*; *патом ужэ сталі вазіць*; *і ён ужэ*; *блін украсьці*; *падбіраюць*, *у снапкі вяжуць*, *у баню настаўляюць*; *ўсяк было*, *усяго хватала*; *цяпер жа ўсё жалезнае*, *усё механізіравана*; *у нас шчэ тады бацька быў*; *усякіе ткалі*; *ні знаю точна*, *ужо ціпер забылася*.

Гук [ф] у групе запазычаных слоў у розных умовах і становішчы: *шаферкі*, *канфеты*, *фронт*, у *флягу*, *на фермі*.

Выбухны гук [г], які адзначаецца спарадычна і недэтэрмінаваны лексіка-граматычна: *на ґанкі*, *ґорсаць*.

Кансанантная група [чн (чн')]: *абычна*, *точна*, *мучанічнік*, але: *канешне*, *рушнік*.

Спалучэнне гукаў [дн (дн')]: *адна*, *Вялікадня*, *адну*, *днямі*, *за дні два*, *спадніцы*, *о ў задняй хаці*, *пасьледні*, *выгадней*, *выхадны*, *абідна*, *пачародна*, *паднімаць*.

Спалучэнне гукаў [с'ц'] у канцавым складзе слоў з асновай на зычны: *шэсьць*, *кашу як дасьць*, *есьць*, але: *матка як дась копаці*.

Спрашчэнне складу слова і вымаўленне білабіяльнага зычнага гука [ў] адпаведна спалучэнню ***-вы-*** ў іншых тыпах беларускага дыялектнага маўлення і ў літаратурным маўленні: *тады паўнімаіш іх аттўль*.

Скарачэнне складоў у асобных словах: *пійсят*, *шчэ* 'яшчэ' і інш.

Іншыя гукавыя адметнасці: словаформы *палядзець*, *адзельна*, *сусім* 'зусім' і інш.

---

[1] Гук [j] у складзе ётаванага галоснага ў тэкстах не адлюстроўваецца, паколькі тэксты запісаны ў "арфаграфіі гаворкі". У сувязі з гэтым у асобных выпадках нельга адназначна ўстанавіць яго статус у ілюстрацыйных прыкладах. Толькі пры ўмове, што літара ***е*** ўтрымлівае два гукі, можна меркаваць пра вымаўленне дадатковага санорнага ў пералічаных ілюстрацыях. Аднак не выключана, што ў дадзеным выпадку рэалізуецца вельмі выразна вымаўлены гук [j], таму гаворкі пра наяўнасць дадатковага санорнага гука быць не можа.

## У марфалагічным ладзе

Канчатак **-е** або **-і** ў словаформах меснага склону адзіночнага ліку назоўнікаў мужчынскага і ніякага роду, а таксама ў назоўніках жаночага роду з цвёрдым зычным у аснове пры флектыўным і наасноўным націску: *на сталé, у лéсе, на веласыпéдзе, у Лáмпаве, у гэ́тай хáце, на пóчце* і: *у гóрадзі, у калхóзі, у балóці, на мéсьці, на фéрмі, у хáці, у цэ́ркві, на пóчці.*

Канчатак **-ы** (**-і**) у словаформах меснага склонаў адзіночнага ліку назоўнікаў мужчынскага і ніякага роду з фінальным няпарным цвёрдым і мяккім зычным асновы пры флектыўным і наасноўным націску: *на хýтары, у Мáльлі.*

Канчаткі **-ы** (**-і**), **-э** ў словаформах давальнага і меснага склону адзіночнага ліку назоўнікаў жаночага роду з фінальным няпарным цвёрдым, мяккім і зыходным заднеязычным зычным асновы пры флектыўным і наасноўным націску: [дам] *там сястры́, там дачцэ́, там пляме́ньніцы, па вýліцы,* у *бальні́цы, на пéчы, па кáпцы, па пасьці́лцы, у дзéшцы, у бáні, у гразí,* але: *кусóк аднóй дачкé, к Пáске, у сям'é.*

Аднаскладовыя канчаткі **-ой** (**-ёй**), **-ай** (**-яй**) у творным склоне адзіночнага ліку жаночага роду ў іменных часцінах мовы: *туды́ галавóй, перат сáмай вайнóй, я ёй кáмандавала, пéрат Пáскай, зáсланкай закрываіш, за хазя́йкай бéгаюць, адрабíла даяркай, засьцілáюць скáцеркай,* але: *вяснóю, зь ёю, за Зíнаю, с падрýгаю.*

Формы з канчаткам **-я** ў назоўніках ніякага роду са значэннем маладых істот: *дзіця́.*

Канчатак **-ы** (**-і**) у назоўніках мужчынскага, жаночага і ніякага роду ў назоўным, а таксама ў вінавальным склоне множнага ліку неадушаўлёных назоўнікаў пры флектыўным і наасноўным націску: *гаршкí, клункí, рышкí, баравíкі, кусты́, паталкí, махавíкі, хлóпцы, падасíнавікі, гóсьці, булáбушкі, канфéты, бáбы, мíскі, сьцéны, цéрніцы, яéчкі,* але: *хутарá, апя́та, масля́та.*

Канчатак **-оў** (**-аў**) у назоўніках роднага склону множнага ліку: *знахарóў, буракóў, цьвятóў, лíтраў, дзéсяць кілóметраў, узялí прáнікаў, гасьці́нцаў, рэйд парцізáнаў,* але: *памíдóр карзíну.* Пры іншых умовах: *чаты́ры-пяць дней, людзéй, дражджэ́й, бýлак напячы́, трох мíсак, ахáпак пялёнак, вядрó малíн.*

Канчатак **-амі** (**-ямі**) у словаформах творнага склону множнага ліку назоўнікаў: *шáферкамі, ёлкамі, лякáрствамі, валасáкамі, за Пáрычамі, чарнíцамі, пéрат Калядáмі.*

Канчатак **-ах** (**-ях**) у назоўніках меснага склону множнага ліку: *на рóбрах, на перакрóстках, на веласыпéдах, у нéмцах,* у *чакýшачках, у Панкрáтавічах, па царквя́х, у паліцáях.*

Флексія **-ая** (**-яя**) у прыметніках жаночага роду і граматычна звязаных з імі неасабовых займенніках у назоўным склоне адзіночнага ліку: *пшóнная кáша; янá... такáя развáрастая; харóшая бáба; пагóда мóкрая; такáя высóкая і бальшáя* (ванна), але: *пóўна ж дзярэ́ўня былá; бéла такáя* (ванна); *нéйка... пагóда.*

Флексія **-ое** (**-ае**) у прыметніках ніякага роду і граматычна звязаных з імі неасабовых займенніках у назоўным склоне адзіночнага ліку: *тóе чóрнае-чóрнае; штo-нíбýць такóе жы́рнае; салóдкае малакó; мáсла пóснае; катóрае астаéцца,* але: *пóўна-пóўна й пóўна тóе клáдбішча; тóе тóненька.*

Канчатак **-ую** (**-юю**) у прыметніках жаночага роду і граматычна звязаных з імі іншых часцінах мовы ў вінавальным склоне адзіночнага ліку: *якýю карý;* у *другýю хáту;* у *тýю, лýнку такýю; пóўненькую машы́ну,* але: *трэ́цію пáрцію; пáрцію другý, трэ́цю, пя́ту, дзеся́ту; пóўненьку хáту.*

Канчаткі **-ой** (**-ёй**), **-ай** (**-яй**) у родным, давальным, творным і месным склонах адзіночнага ліку ў атрыбутывах жаночага роду: *да йéтай хáткі малéнькай; с той вáнны; бýльбінкі... патóўчанай; гразí такóй; вады́ цёплай; аднóй дачкé, кусóк другóй; адна́ другóй; ёй паказáла; перат сáмай вайнóй; з длíннай (рýчкай); ёй камáндавала; па аднóй пасьці́лцы; у маладóй сям'é; у гэ́тай хáце;* у *зáдняй хáці.* Але ў родным склоне таксама засведчана: *дзе якéя трáвы; э́тай, катóрае дзéці.*

Канчатак **-ым** (**-ім**) у прыметніках і граматычна звязаных з імі іншых часцінах мовы мужчынскага і ніякага роду ў творным і месным склонах адзіночнага ліку: *німá сь кім кíнуць; былó ш чым стрэ́ціць; пагушкáцца нáда на крэ́пкім.*

Канчатак **-ые** (**-іе**) у словах атрыбутыўнага тыпу ў назоўным і вінавальным склонах множнага ліку: *сталы́ длíнные такíе; éтые ш перабóры; сьпецыя́льные сы́рнікі; і клянóвые, і дубóвые, усякіе лíсьце; слáдасьці ўсе кáжные; э́тые бáбы; пяклí э́тые ўсякіе здóбы; палацéнцы такíе во... прасты́е такíе,* але: *сы́рнікі такéе; якéе-нéбуць лíсьця.*

Канчатак **-ымі** (**-імі**) у словаформах творнага склону множнага ліку прыметнікаў і граматычна звязаных з імі іншых часцінах мовы: *сушóнымі, такíмі, зь íмі.*

Канчаткі **-эш**, **-еш**, **-аш** у дзеясловах I спражэння цяперашняга і будучага часу ў 2-й асобе адзіночнага ліку: *бярэ́ш, набярэ́ш, пячэ́ш, нясéш, п'еш, хóчаш, лóжаш, накладáеш, замáзваеш, ськідáеш, вóзьмеш, забівáеш, вымывáеш, чýствуеш,* але: *прарáшчваіш, мéліш, увéрніш,ператáлкваіш.*

Канчатак **-ыш** (**-іш**) у дзеясловах II спражэння ў 2-й асобе адзіночнага ліку: *глядзíш, сýшыш, вáрыш, стáвіш, пасóліш.*

Канчаткі **-е**, **-э**, **-а** ў дзеясловах I спражэння цяперашняга і будучага часу ў 3-й асобе адзіночнага ліку з флектыўным і наасноўным націскам: *ідзé, нажмé, пячэ́, бярэ́, начýе, рабóтае, сьцякáе, аццьіскáецца, дзéлаецца, аттáпліваецца, аставáецца, кáжа, ля́жа, вы́бера,* але: *бýдзя, пóйдзя, дзéлаіцца, падымáіцца.*

Канчатак **-ыць** (**-іць**) у дзеясловах II спражэння цяперашняга і будучага часу ў 3-й асобе адзіночнага ліку пры флектыўным і наасноўным націску: *закіпіць, стаі́ць, хо́дзіць, схва́ціць, выхо́дзіць, лю́біць, ляжы́ць, су́шыць, ба́чыць, уба́чыць, перава́рыцца*, але: *гаво́ра*.

Канчаткі **-ом**, **-ем**, **-ам** у дзеясловах 1-й асобы множнага ліку дзеясловаў I спражэння цяперашняга і будучага часу абвеснага і загаднага ладу адпаведна флектыўнаму ці наасноўнаму націску: *бяро́м, ідо́м, перама́тваем, абніма́ем, зьліва́ем, абніма́ем, дзе́лаем, напіха́ем, вя́жам, бу́дам, по́йдам, дава́й вы́ткам*.

Канчатак **-ым** (**-ім**) у дзеясловах II спражэння цяперашняга і будучага часу ў 1-й асобе множнага ліку з націскам на аснове і флексіі: *кры́шым, паба́чым, сядзі́м, ку́пім*.

Канчатак **-аце** (**-еце**) не пад націскам у словаформах 2-й асобы множнага ліку дзеясловаў I спражэння цяперашняга і будучага часу: *са́мі вы́п'еце*.

Канчатак **-уць** (**-юць**) у дзеясловах I спражэння цяперашняга і будучага часу ў 3-й асобе множнага ліку: *бяру́ць, йдуць, заву́ць, прыду́ць, гуду́ць, разо́йдуцца, пап'юць, зьліва́юць, раскрыва́юць, кіда́юць, дзе́лаюць, закрыва́юць*.

Канчатак **-аць** (**-яць**) з флектыўным і наасноўным націскам у дзеясловах II спражэння цяперашняга і простага будучага часу ў 3-й асобе множнага ліку: *ляжа́ць, жа́раць, паядзя́ць, кіпя́ць, сядзя́ць, разво́дзяць, со́ляць, перахо́дзяць, папрыно́сяць, ста́вяць*.

Канчатак **-це** ў 2-й асобе множнага ліку дзеясловаў загаднага ладу з наасноўным націскам: *прыно́сьце, пагуля́йце тро́шкі*.

Формы інфінітыва на **-ці**, **-чы**: *сьпякці́, це́рці, пра́сьці, укра́сьці, не́сьці, напячы́, ісьпячы́*.

Зваротныя дзеясловы з афіксам **-ся** (**-сь**) у асабовых формах 1-й і 2-й асобы адзіночнага і множнага ліку і афіксам **-ца** (**-цца**) у дзеясловах 3-й асобы адзіночнага і множнага ліку і ў інфінітыве: *сабіра́юся, пыта́йся, станаві́ся, запрэ́сься, аста́уся, сабра́лася, гато́віліся, сашлі́ся, пастава́ліся, трасану́лась, ацьціска́ецца, дзе́лаецца, атта́пліваецца, астава́ецца, рашчэ́дрыцца, перава́рыцца, разо́йдуцца*.

Рэалізацыя дзеяслова ***ёсць*** у варыянтах ***е*** (***йе***), ***есць***: *яны́ ш* [Дзяды] *е і Трае́цкіе, і во́сеньню йе; есьць і брусні́ка, есьць і малі́на*.

### Сінтаксічныя асаблівасці

Дзеяслоў у спалучэнні з назоўнікам, які ўжываецца ў функцыі прамога аб'екта ў форме роднага склону множнага ліку адушаўлёных назоўнікаў: *мы каня́ дзяржа́лі і сьвіне́й*.

Дзеяслоў у спалучэнні з беспрыназоўнікавым назоўнікам мужчынскага роду ў форме роднага склону адзіночнага ліку ў сінтаксічнай функцыі прамога аб'екта канкрэтна-прадметных назоўнікаў: *і капу́сту паткláда́лі, і хрэ́на*.

Канструкцыі з пэўна-колькасным ці зборным лічэбнікам ***двое***, ***трое***, ***чацвёра*** і інш. у форме назоўнага склону: *у ба́цькі чэ́цьвера; у ма́церы было́ тро́е; нас тро́е было́*.

Дзеяслоў у спалучэнні назоўніка (займенніка) у форме давальнага склону з прыназоўнікам ***к*** (***ка***) пры ўказанні на аб'ект (на асобу, на прадмет, да якой скіраваны рух, дзеянне): *е́дуць к няве́сьце; е́дуць... к жаніху́; к табе́ ш сва́ты пашлі́; ба́цюшка прыяжджа́е ўжэ ка мне; падышла́ к куста́м*.

Дзеяслоў у спалучэнні назоўніка ў форме вінавальнага склону для выражэння аб'ектных адносін (для азначэння прасторы ўнутры якой адбываецца дзеянне): *тады́ падпа́львае печ; печ патпа́ляць; печ вы́гарала*.

Дзеяслоў у спалучэнні назоўніка з прыназоўнікам ***на*** ў форме вінавальнага склону для выражэння аб'ектных адносін (указанне на мэту дзеяння): *далжо́н дава́ць не́шта гуля́ць на йе́ту бараду́*.

Дзеяслоў руху ў спалучэнні назоўніка ў форме меснага склону множнага ліку з прыназоўнікам ***па*** для выражэння аб'ектна-акалічнасных адносін (указанне на месца з захаваннем дадатковага размеркавальнага значэння): *а пато́м ужэ́ ста́лі вазі́ць па царквя́х*.

Дзеяслоў у спалучэнні назоўніка з прыназоўнікам ***пад*** у форме вінавальнага склону для выражэння аб'ектных адносін (указанне на месца): *ло́жаш пат ка́мень*.

Дзеяслоў у спалучэнні назоўніка ў форме творнага склону з прыназоўнікам ***пад*** для выражэння акалічнасных адносін (указанне на месца): *пяюць пад вакно́м*.

Дзеяслоў у спалучэнні назоўніка з прыназоўнікам ***у*** (***ў***) для выражэння прасторавых адносін (азначэнне месца або абазначэнне канцавога пункта руху; месца, у межы якога скіраваны рух): *схадзі́ць у Тажы́лавічы; пае́дзеш у го́рат; на́да шчэ ў ту́ю* [хату] *схадзі́ць*.

Дзеяслоў у спалучэнні назоўніка (займенніка) у форме вінавальнага склону з прыназоўнікам ***на*** для выражэння аб'ектных адносін (пры ўказанні на прадмет, з дапамогай якога ажыццяўляецца дзеянне): *дык на э́та* (*на зе́ркала*) *ма́ла гада́лі*.

Іменнае словазлучэнне: назоўнік у спалучэнні з назоўнікам у форме творнага склону і прыназоўнікам *з* (яго фанетычнымі варыянтамі) для выражэння аб'ектных адносін (пры абазначэнні асобы, якая ўзаемадзейнічае з іншай асобай): *ба́цька з ма́цер'ю; зьбіра́юцца ўсе дзе́ўкі... с падру́гаю*.

Іменнае словазлучэнне: назоўнік у спалучэнні назоўніка ў форме вінавальнага склону з прыназоўнікам ***па*** для выражэння азначальна-колькасных адносін: *а грась па калена.*

Канструкцыя: назоўнік у спалучэнні лічэбніка з прыназоўнікам ***на***, які служыць для выражэння колькасці, меры: *я адзін раз як ізьдзелала на дваццаць літраў чыгун.*

Канструкцыя: назоўнік у спалучэнні лічэбніка з прыназоўнікам ***па***, які служыць для выражэння колькасці: *па дзесяць, па дзьвенаццаць снапоў ставілі ў бапку.*

Дзеяслоў у спалучэнні назоўніка ў форме давальнага склону з прыназоўнікам ***к*** для выражэння акалічнасных адносін (пры ўказанні на час, свята): *к вечару; к Калядам... далжна быць, к Паске.*

Дзеяслоў у спалучэнні назоўніка з прыназоўнікам ***у*** (***ў***) у форме вінавальнага склону для выражэння акалічнасных адносін (для азначэння часу): *як ў вайну... атступалі.*

Канструкцыя: назоўнік у форме вінавальнага склону ў спалучэнні з прыназоўнікам ***на***, які ўказвае на адносны час дзеяння: *так у нас тут кірмаш на Іспаса; усьмятку ж яйца ні дасі на Паску; і на Раданіцу* [на могілках] *поўна, і на дзень Мяртвых – поўна; у нас на йеты дзень ходзяць.*

Канструкцыя: назоўнік у форме вінавальнага склону ў спалучэнні з прыназоўнікам ***на***, які выражае колькасна-часавыя адносіны: *прыехала на выхадны дамоў; там на нядзелю можна было ехаць.*

Канструкцыя: назоўнік у форме вінавальнага склону ў спалучэнні з прыназоўнікам ***за***, які выражае колькасна-часавыя адносіны: *яны за ноч там пераходзяць; канешне ўсякае бывала за век.*

Канструкцыя: назоўнік у спалучэнні з прыназоўнікам ***перад*** (*перат*) у форме творнага склону для выражэння акалічнасных адносін (для азначэння часу): *перат Калядамі, перат Паскай.*

Беспрыназоўнікавыя канструкцыі для выражэння акалічнасных часавых адносін: *йетые гады... што-та нету; зьбіраюцца ўсе дзеўкі пасьледні вечар с падругаю.*

Канструкцыя: назоўнік у форме роднага склону ў спалучэнні з прыназоўнікам ***после***, які ўказвае на адносны час дзеяння пасля пэўнай падзеі: *посьле вайны нідзе ш нічога ні можна была дастаць; я адзін рас пашла у госьці і посьле таго ні стала хадзіць і ў госьці.*

Дзеяслоў руху ў спалучэнні назоўніка з прыназоўнікам ***на*** ў форме меснага склону, які ўказвае на сродак перамяшчэння: *на веласыпедах паехалі.*

Дзеяслоў у спалучэнні назоўніка ў форме вінавальнага склону з прыназоўнікам ***на***, які ўказвае на месца знаходжання: *ставілі красты на перакросток; еты сноп нясем на места; жылі на хутары.*

Дзеяслоў у спалучэнні назоўніка ў форме вінавальнага склону з прыназоўнікам ***цераз*** (*церас*) для выражэння прасторавых адносін (абазначэнне месца, дзе адбываецца рух): *кідалі церас хату.*

Канструкцыя: спалучэнне прыназоўніка ***ля*** з назоўнікам у форме роднага склону пры абазначэнні месца знаходжання: *ля рэчкі.*

Дзеяслоў у спалучэнні назоўніка ў форме творнага склону з прыназоўнікам ***за*** пры ўказанні месца: *тут за Парычамі быў фронт; тут о, за Зінаю зразу, стаяла хатка.*

Адметныя прыназоўнікі: ***кругом*** *дуба.*

Іменны выказнік з назоўнікам у форме творнага склону ў выказальнай частцы: *адрабіла на ферમі даяркай; даяркай была.*

**У галіне лексікі**

У мясцовым маўленні ўжываецца істотная колькасць абазначальных сродкаў, якія ўвасабляюць нацыянальную моўную спецыфіку. Гэтыя сродкі тыповыя ў мясцовай гаворцы і нарматыўныя ў сучаснай беларускай літаратурнай мове: *адрабіць, грэбень, гушкацца, добра, засланка, згубіць, зразу, зрэб'е, зусім, кажух, капка* 'кропелька', *кужаль, лушпінне, назаўтра, напячы, прыладзіцца, ручнік*, сёння, *спадніца, трошкі, трэба, упрыгожаны, церніца 'прылада церці лён', цэбар* і інш.

Значную частку мясцовага слоўніка складаюць абазначальныя адзінкі рэгіянальнага тыпу, у тым ліку: *багатыр* 'багаты, заможны', *булабушкі* 'аладкі', *вун* 'вунь', *вывернаць* 'выварочваць', *горсаць* 'мітусіцца, плачучы і просячы літасці', *здалець* 'адолець', *ета* 'гэта', *задняя хата, кайстрыца* 'кастрыца', *кажны раз* 'штораз, кожны раз', *кладбішча, крэпка* 'надта', *лунка* 'спецыяльна прыробленая да печы скрыня на хлеб', *нанітчыць* 'раскласці на ніты', *палядзець* 'пaглядзець', *парценікі* 'порткі', *патрэ'е, пераборы* 'гатунак тканага двухнітовага палатна', *правіць* (*Новы гот*) 'святкаваць, адзначаць свята', *пшонка* 'пшонная каша', *раскладаны стол* 'раскладны стол', *рыжкі* 'грыбы рыжыкі', *скацерка* 'абрус', *сырнік* 'спецыяльны мяшочак для адціскання творагу', *стрэціць* 'сустрэць', *ураньні* 'раніцай', *цыбульнік* 'шалупінне з цыбулі', *штырхаць* 'штурхаць' і інш.

Пэўная частка лексічных маўленчых сродкаў – гэта словы, словаформы, якія пры інтэрпрэтацыі іх статусу з пазіцыі нарматыўнай лексічнай прыналежнасці нельга аднесці да нацыянальнага лексічнага фонду. Спецыфіка асістэмных слоў выяўляецца, з аднаго боку, у характары паходжання, з другога – у асаблівасцях структурнага фанетыка-марфалагічнага ўпарадкавання. З боку зыходнай прыналежнасці да моўнай сістэмы сродкаў такія лексічныя адзінкі па паходжанні адносяцца да рускамоўных. У адносінах да запазычвальнай прыватнай мяс-

цовай дыялектнай сістэмы, да іх месца ў ёй – гэта адаптаваныя на фанетыка-марфалагічным узроўні словы або (значна радзей) фаналагічныя цытаты. Тым самым канцавы прадукт рознаструктурнага ўзаемадзеяння дзвюх моўных сістэм уяўляе сабой інтэграваную лексічную адзінку, спецыфічны моўны гібрыд. Такія словы, складзеныя з разнародных элементаў, у мясцовай дыялектнай сістэме захоўваюць семантыку лексемы мовы-пазычальніцы. Акрамя інтэграваных гібрыдных слоў словаформаў, маюць месца ў сучасных маўленні і гібрыдныя формы кантамінацыйнага характару, але іх аналіз у кожным выпадку вымагае індывідуальнага разгляду. Наяўныя ў сучаснай гаворцы на Бабруйшчыне інтэграваныя лексемы храналагічна розныя. Частка іх – гэта абазначальныя сродкі, у якіх увасабляюцца вынікі гістарычных моўных кантактаў, а значыць, паводле часавага крытэрыю на сёння ў мясцовай гаворцы гэта ўжо лексемы з тыповым нарматыўна-дыялектным, дакладней занальным, статусам. Іншая іх група – такія лексічныя інавацыі, у якіх эксплікуецца характар і спецыфіка моўнай сітуацыі ў Беларусі. Апошнія яшчэ не атрымалі дакладнага лінгвістычнага вызначэння па прыналежнасці да пэўнай моўнай сістэмы. У сувязі з тым, што ў працы мы абмяжоўваемся толькі канстатацыяй факта функцыянавання ў мясцовым маўленні інтэграваных лексічных адзінак асаблівага тыпу, яны пералічваюцца спісачна: *абезáцельна*, *абі́дна*, *абы́чна*, *апя́ць*, *ахраня́ць*, *вóбшчэм*, *гатóвіцца*, *дáжа*, *далжны́*, *ждаць*, *дзéйствавалі*, *дзяржáлі*, *дзярз́уня*, *есьць* 'ёсць', *ізьдзéлаць*, *і́лі*, *інагдá*, *іньцірэ́сна*, *калхóз*, *канфéты*, *крáсіць*, *лéхчэ* 'легчэ', *лу́ччае* 'лепшае', *навéрна*, *нядзéля* 'тыдзень', *няўку́сна*, *пажáлуста*, *палацéнца*, *пачарóдна* 'поочерёдно', *пачці́*, *пóльзаваліся*, *прáзьнік*, *прáнік* 'пернік', *разрашы́ць*, *рáнша* 'раньше', *сáхар*, *слáдасьці*, *стол разьдзьвіжны́*, *сьцясьні́цельны*, *тóчна*, *у аснаўнóм*, *уку́сны*, *умéста* 'замест', *упярóт* 'даўней, раней', *урóдзе бы*, *усё ўрэ́мя*, *усягдá*, *учáсткі*, *упатрабля́лі*, *хазя́ін* 'гаспадар', *цьвяты́*, *чу́ствуеш*, *шчас* 'зараз', *шчытáць* 'лічыць', *штóбы* і інш.

***

Такім па складзе разнастайных асаблівасцей згодна з вынікамі паструктурнага аналізу занатаваных тэкстаў з'яўляецца сучаснае маўленне старэйшага пакалення вясковых насельнікаў Бабруйскага раёна, дакладней яго ідыялект. У выніку аналізу на аснове тэкставых ілюстрацый устаноўлена: для ***сістэмы вакалізму*** мясцовага маўлення пры рэалізацыі галосных няверхняга пад'ёму ў становішчы пасля цвёрдых і няпарных цвёрдых зычных у першым складзе перад націскам не характэрна адрозненне галосных гукаў [а], [о], [е]. У пазіцыі першага пераднаціскнога складу гэтыя галосныя гукі супадаюць у адным гуку – галосным [а]. Тым самым у мясцовым маўленні «працуе» мадэль недысімілятыўнага акання. Прынцып рэалізацыі галосных няверхняга пад'ёму па мадэлі недысімілятыўнага акання ахоплівае ўсе ненаціскныя склады, у тым ліку другі і іншыя пераднаціскныя, а таксама занаціскныя. Апошняе азначае, што сістэма вакалізму мясцовага дыялектнага маўлення характарызуецца поўным недысімілятыўным аканнем. Аднак з матэрыялаў вынікае, што ў гаворцы ў ненаціскным становішчы пасля няпарных цвёрдых зычных у адзінкавых выпадках рэалізуецца гук [е]. Акрамя таго, у канцавым адкрытым складзе ў становішчы пасля цвёрдага зычнага ў абмежаванай колькасці прыкладаў таксама мае месца адрозненне галосных [а] і [о]: *зь éтаго*, *во кары́то*. Такім жа неістотным, невызначальным у межах усёй тэрыторыі раёна было яно і даўней (прыклады тыпу: *сéн*[*о*], *мнóг*[*о*]; карта № 14). Рэалізацыя канцавога [о] у мінулым была выяўлена ва ўскраінных гаворках раёна ў кірунку на паўднёвы ўсход. У тагачасным маўленні формы з вымаўленнем галоснага [о] у канцавым занаціскным складзе суіснавалі з формамі на [а]. Інакш кажучы, сучаснае вымаўленне па характары рэалізацыі галосных няверхняга пад'ёму ў адзначанай пазіцыі нічым не адрозніваецца ад папярэдняга перыяду. Думаецца, наяўнасць такіх фактаў у сённяшнім маўленні з'яўляецца сведчаннем асаблівага дыялектнага статусу бабруйскіх гаворак. Апошнія ў межах тэрытарыяльнай групоўкі дыялектаў беларускай мовы ўваходзяць у склад паўднёвай групы гаворак (ЛГ, карта № 74). Як вядома, у розных разнавіднасцях паўднёва-заходняга вымаўлення ў канцавых адкрытых складах выступаюць галосныя гукі [о], [е]. Відавочна, фіксацыя адзінкавых выпадкаў рэалізацыі занаціскнога галоснага гука [о] у канцавым адкрытым складзе і вельмі паслядоўнае вымаўленне галоснага [е] – гэта адзнакі тыпалагічнай блізкасці ненаціскнога вакалізму бабруйскіх гаворак да ненаціскнога вакалізму розных разнавіднасцей паўднёва-заходняга вымаўлення. Абсалютна неістотная, невызначальная для мясцовага маўлення колькасць наяўных прыкладаў з галосным гукам [о] у канцавым складзе з'яўляецца паказчыкам рэшткавага характару няпоўнага акання ў сучаснай гаворцы на Бабруйшчыне. Адначасова гэта ёсць сведчанне таго, што на сёння дынаміка развіцця сістэмы мясцовага ненаціскнога вакалізму за поўным недысімілятыўным аканнем. І наяўны тып акання абсалютна нічым не адрозніваецца ад таго, што меў месца ў сярэдзіне мінулага стагоддзя (прыклады тыпу: *в*[*а*]*дá*, *в*[*а*]*ды́*... *тр*[*а*]*вá*, *тр*[*а*]*вы́*...; карта № 1; *г*[*а*]*лавá*, *с*[*а*]*ладзі́ць*; *м*[*а*]*лады́*, *г*[*а*]*лубóў*; адпаведна карты № 8, 9; *гóр*[*а*]*да*, *вóл*[*а*]*са*; карта № 12; *гóр*[*а*]*д*, *кóл*[*а*]*с*; карта № 13).

Прынцып рэалізацыі галосных няверхняга пад'ёму па мадэлі недысімілятыўнага акання ў мясцовым маўленні ўвасабляецца і пры рэалізацыі галосных [а], [о], [е] у становішчы пасля мяккіх зычных. Ён з'яўляецца дыферэнцыяльным не толькі для першага складу перад націскам, але і для іншых данаціскных і занаціскных складоў. Аднак у адрозненне ад вымаўлення галосных [а], [о], [е] у становішчы пасля цвёрдых і няпарных цвёрдых зычных недысімілятыўнае яканне ў мясцовым маўленні суправаджаецца рэалізацыяй гукаў ['і] і ['е]. Га-

лосныя [ʻі] і [ʻе] маюць месца ў складах рознай аддаленасці ад націскнога складу. Яны фіксуюцца як у пазіцыі першага пераднаціскнога, так і ў іншых пераднаціскных, а таксама занаціскных складах. Прычым гук [ʻі], як сведчаць ілюстрацыі, у ненаціскной пазіцыі ў першым пераднаціскным складзе вымаўляецца не толькі ў адмоўі ці у формах роднага склону адзіночнага ліку асабовых займеннікаў або ў прыслоўі *ціпéр*, ён адзначаецца таксама і ў іншых словаформах. Паралельна з гукам [ʻі] пры падобных умовах выступае і гук [ʻе]. Яго характар вымаўлення ў першым складзе перад націскам абумоўліваецца якасцю акцэнтаванага галоснага. Гук [ʻе] мае месца пераважна пры націскным [а]. Апошняе сведчыць пра наяўнасць элементаў екання ў мясцовым вымаўленні. Аднак, калі трымацца прыкладаў з тэксту, то выразна прасочваецца, што рэалізацыя гука [ʻе] у пазіцыі першага пераднаціскнога складу не з'яўляецца пануючай. Дыягнастычным для маўлення ў становішчы пасля мяккага зычнага ў адзначанай пазіцыі з'яўляецца ўвасабленне галосных няверхняга пад'ёму па прынцыпу недысімілятыўнага якання. Згодна з наяўнымі матэрыяламі ўжыванне галоснага [ʻе] не мае выразнай лексіка-граматычнай абумоўленасці. У адносінах да структурнай будовы слова найбольш часта гэты гук выступае ў складзе каранёвай марфемы. Разам з тым, улічваючы ўсе факты ўжывання гукаў у першым пераднаціскным складзе пасля мяккіх зычных, можна меркаваць пра варыянтную рэалізацыю галосных няверхняга пад'ёму ў гэтай пазіцыі. Заўважым, што такі ж прынцып размеркавання галосных няверхняга пад'ёму ў першым пераднаціскным складзе ў становішчы пасля мяккіх зычных меў месца і ў мінулым. Згодна з матэрыяламі ДАБМ дыферэнцыяльнай рысай маўлення выступала недысімілятыўнае яканне, але ў адзінкавых выпадках ва ўсіх пазіцыях тут адзначалася еканне (карта № 4), таксама тыповай была і рэалізацыя гука [ʻі] у адзначаных лексіка-граматычных групах слоў[1].

Мадэль недысімілятыўнага якання, дыферэнцыяльная для сістэмы ненаціскнога вакалізму першага пераднаціскнога складу, у мясцовых гаворках адлюстроўваецца ў другім і іншых пераднаціскных складах пры розным характары акцэнтаванага галоснага. Тэкставыя ілюстрацыя сведчаць, што ў пазіцыі не першага пераднаціскнога складу пры рознай якасці націскнога галоснага дыягнастычным для сучаснага маўлення з'яўляецца вымаўленне гука [ʻе]. Прынцып неадрознення галосных няверхняга пад'ёму і супадзенне іх у галосным гуку [ʻе] меў месца і раней, у сярэдзіне мінулага стагоддзя (прыклады тыпу: [*п'е*]*рамы́ць*; карта № 10; [*в'е*] *рацяно́*, [*з'е*]*ленава́ты*; карта № 11). Аднак паміж сучасным вымаўленнем галосных няверхняга пад'ёму ў другім і іншым складах перад націскам і ранейшым выяўлены пэўныя адрозненні. Згодна з ДАБМ у становішчы пасля папярэдняга губнога зычнага вымаўляўся галосны гук [а], тыпу *парамы́ць*, *варацяно́*. Сучаснаму маўленню альтэрнатыўны варыянт рэалізацыі галосных няверхняга пад'ёму ў гуку [а] невядомы. Магчыма, ён не характэрны толькі для прааналізаванага ідыялекта маўлення, але выступае ў яго іншых інварыянтах. Аднак меркаваць пра нешта канкрэтнае з-за адсутнасці запісаў з іншых вёсак раёна пакуль што нельга. Хоць, калі браць да ведама, заўвагі, змешчаныя ў каментарыі (с. 344, н. п. 565), то форма *варацяно́м* ужо і на час збірання матэрыялаў для атласа падавалася з пазнакай «гавораць старыя». Змест заўвагі непасрэдна ўказвае на нетыповасць ужывання ў гэтай пазіцыі галоснага гука [а] у адпаведнасці з іншымі гукамі ў іншых тыпах дыялектнага маўлення ці гукам [ʻе] у беларускім літаратурным маўленні. У сувязі са сказаным можна думаць, што адсутнасць фіксацый з формамі тыпу *варацяно́*, *парамы́ць* у сучасным вымаўленні з'яўляецца і зусім невыпадковай. Калі гэта сапраўды так, то варта меркаваць пра выраўноўванне вымаўлення губных гукаў на ўзор іншых парных мяккіх зычных пры рэалізацыі ненаціскных галосных гукаў у другім і іншых пераднаціскных складах.

У занаціскных складах, у тым ліку і ў канцавым адкрытым складзе, у становішчы пасля мяккіх у мясцовым вымаўленні тыповым і пашыраным з'яўляецца супадзенне галосных няверхняга пад'ёму [о], [е], [а] у гуку [ʻе]. Неадрозненне гэтых галосных і рэалізацыя іх у гуку [ʻе] мае месца не толькі ў межах асновы, але і ў розных марфалагізаваных умовах. Апошняе зусім не азначае, што гук [ʻе] з'яўляецца адзіным рэпрэзентантам галосных няверхняга пад'ёму. У флексіях у адпаведнасці з гэтымі галоснымі выступаюць яшчэ два гукі – [ʻі] або гук [ʻа]. Гук [ʻа] найперш характэрны для пэўных лексіка-граматычных груп слоў тыпу: *зайгра́лі цыга́ням*, *кусо́к трэ́цяму*, *паго́да мо́края* і іншыя, але зафіксаваны ён і ў словаформах накшталт *Ушэ́сьця*, *пры́дзя*. Гук [ʻі] вымаўляецца спарадычна ў ненаціскных асабовых канчатках дзеясловаў І спражэння ў адпаведнасці з больш тыповым і пашыраным тут гукам [ʻе]: *наклада́іш*, *дзе́лаіцца*, а таксама ў словаформе такіх назоўнікаў, як *у бало́ці*, *у хаці*. Але ўсе выпадкі вымаўлення гука [ʻа] або гука [ʻі] у занаціскным канцавым складзе пасля мяккіх у мясцовым маўленні невызначальныя. Дыягнастычным для адзначанай пазіцыі, за выключэннем асобных граматычных словаформаў, з'яўляецца рэалізацыя гука [ʻе]. Увасабленне галосных няверхняга пад'ёму ў занаціскных складах у сённяшнім маўленні нічым асабліва не адрозніваецца ад папярэдняга часу (прыклады тыпу: *во́*[*з'е*]*ра*, *сё*[*л'е*]*та*: *во́*[*з'а*]*ра*; карта № 15; *во́*[*с'а*]*нь*, *хло́*[*п'а*]*ц*; карта № 16). Аднак у параўнанні з мінулым рэалізацыя галоснага гука [ʻа] у постнаціскной пазіцыі не ў канцавым складзе ў межах асновы не выяўлена, адзінкава яна рэпрэзентавана канцавым закрытым складам. У вымаўленні галоснага ў канцавым адкрытым складзе захоўваецца тая ж асаблівасць, што і пры рэалізацыі галосных няверхняга пад'ёму ў занаціскных скла-

[1] Крывіцкі А. А., Падлужны А. І. Фанетыка беларускай мовы / А. А. Крывіцкі, А. І. Падлужны. Мінск: Вышэйш. шк., 1984. С. 236–237.

дах (прыклады тыпу: *у ха́[ц'и], у ле́[с'и]*: *у ха́[ц'е], у ле́[с'е]*; карта № 18; *на лу́зе, на сто́зе*; карта № 74; *аб сы́не*; *пры бра́це, аб сва́це*; карта № 79; *маладо́е (я)*; *но́вае (я) вядро́*; адпаведна карты № 114, 115; *малады́я (е)*; *но́выя ха́ты*; адпаведна карты № 127, 128; *ка́жа, ме́ле, грэ́е*; карта № 149 і інш. карты). Згодна з матэрыяламі ДАБМ формы тыпу *маладо́е (я), малады́я (е), но́выя* ў рэгіёне з'яўляюцца аднолькава ўжывальнымі і ўзаемазамяняльнымі, але на аснове тэкставых прыкладаў гэтага нельга спраўдзіць. Дыягнастычным для сучаснага маўлення з'яўляецца вымаўленне галоснага гука ['а].

Нарэшце, у сучасным бабруйскім маўленні, як і ў некаторых іншых тыпах рэгіянальнага цэнтральназанальнага дыялектнага маўлення, дзеясловы незакончанага трывання ў становішчы пасля папярэдняга зычнага выступаюць з суфіксам **-ва-**, а пад націскам у корані слоў рэалізуецца пераважна галосны [а]. Гэта тыповы па частотнасці ўжывання суфікс, але ён мае спадарожны яму альтэрнатыўны варыянт **-ыва-**. Выкарыстанне суфіксальнага афікса **-ыва-** не з'яўляецца, як дэманструюць тэкставыя прыклады, актуальным і прадуктыўным. Афікс зафіксаваны ў адзінкавых выпадках. Паводле інфармацыі ДАБМ рэалізацыя галоснага гука ў складзе гэтай марфемы наогул характарызавалася поліварыянтнасцю (прыклады тыпу: *раска́з[ва]ць*: *раска́з[ыва]ць*: *раска́з[ува]ць*; карта № 25). Сённяшнія звесткі вымаўленне лабіялізаванага галоснага гука [у] як складніка суфікса **-ва-** інфармацыю атласа не падмацоўваюць. Зрэшты, не спраўджваюць папярэднюю інфармацыі і матэрыялы самога атласа, прысвечаныя вымаўленню галоснага гука ў другім складзе перад націскам у суседстве з губнымі зычнымі (прыклады тыпу: *г[у]лубо́ў, н[у]чува́ць*; карта № 9). Грунтуючыся на дадзеных фактах, можна меркаваць, што з'яўленне дадатковага галоснага гука ў адрозненне ад іншых тыпаў дыялектнага і нарматыўнага маўлення, а таксама ўзаемазамяняльнасць галосных гукаў у складзе суфікса **-ва-** ў сучасным маўленні зменшылася. Акрамя таго, лабіялізаваны галосны [у] пры наяўнасці ў фанетычным ланцугу губнога зычнага ў становішчы перад ім не вымаўляецца, прынамсі, у дадзеным ідыялекце.

Да ліку некаторых адметных рыс сучаснага маўлення належыць рэалізацыя галосных у асобных марфалагізаваных умовах. Сярод такіх словаформаў – дзеяслоўныя формы 1-й асобы множнага ліку цяперашняга часу. У сучасным маўленні жыхароў гэтай часткі беларускіх цэнтральных гаворак суіснуюць варыятыўныя формы з вымаўленнем гука ['е] або гука [о]. Тэкставыя ілюстрацыйныя матэрыялы сведчаць, што асноўным варыянтам галоснага ў складзе ненаціскной флексіі ў становішчы пасля мяккага выступае нелабіялізаваны галосны гук ['е]. Фанетычнае змяненне [е] > [о] тут залежыць ад кансанантнага зыходу асновы. Пры цвёрдым ці няпарным цвёрдым зычным асновы пры націску на канчатку вымаўляецца галосны [о] (формы тыпу *бяро́м, ідо́м*), пры адсутнасці націску на канчатку – галосны гук [а] (напрыклад, *бу́дам*). Кіруючыся наяўнымі фактамі, можна заўважыць, што рэалізацыя [е] або [о] у форме 1-й асобы множнага ліку цяперашняга (будучага простага) часу дзеясловаў I спражэння мае ў сучасным маўленні дастаткова ўніфікаваны характар. Сённяшняе маўленне па ўвасабленні лабіялізаванага або нелабіялізаванага галоснага ў складзе флексіі гэтай дзеяслоўнай словаформы фактычна нічым не адрозніваецца ад папярэдняга часу сярэдзіны мінулага стагоддзя (прыклады тыпу: [*идо́м*] ([*идо̂м*]), [*кладо́м*] ([*кладо̂м*]), [*н'асо́м*] ([*н'асо̂м*]); карта № 150). Праўда, у кірунку на поўдзень ад Бабруйска даўней былі зафіксаваны дзеясловы гэтай формы з мяккім зыходам зычнага асновы. Акрамя таго, лабіялізаваны галоснага ['о] у складзе флексіі меў месца і ў дзеясловах загаднага ладу I спражэння ў 1-й асобе множнага ліку (прыклады тыпу: [*жн'ом*] ([*жн'о̂м*]) і інш.; карта № 167). Адносна іншых выпадкаў лабіялізацыі націскных або ненаціскных галосных у каранёвых марфемах ці ў некаторых выпадках у марфалагізаваных умовах, выяўлена: лабіялізацыя націскнога гука *а* > *о* пры суседстве наступнага білабіяльнага [ў] не характэрна сучаснаму маўленню як яго вызначальная асаблівасць. Пераход акцэнтаванага [а] у [о] у тэкставых прыкладах зафіксаваны адзінкава. У мінулым ён наогул не быў тут засведчаны (прыклады тыпу: *д[а]ў, каз[а́]ў, пр[а́]ўда, наст[а́]ўнік* і інш; карта № 28). Такімі ж адзінкавымі па характары ўжывання з'яўляюцца таксама выпадкі, як *поўчаса́*. З ілюстрацый відаць: у абодвух выпадках з улікам частотнасці вымаўлення [о] замест [а] лабіялізацыйнае ўздзеянне [ў] на папярэдні галосны ў мясцовых дыялектных гаворках не мае дыягнастычнага характару. Таму можна меркаваць, хутчэй за ўсё, не толькі пра рэшткавы характар гэтай з'явы ў сучасным маўленні, але пра яе нетыповасць у мясцовай гаворцы наогул, у тым ліку і ў папярэднія часы.

Сярод асаблівасцей бабруйскага рэгіянальнага маўлення адзначаецца паслядоўная рэалізацыя ініцыяльнага ненаціскнога галоснага [а] на стыку двух слоў, папярэдняе з якіх заканчваецца галосным, а таксама ў пераднаціскным складзе ў абсалютным пачатку слова тыпу: *да агóнь*; *адзі́н вон брат пашоў*. Беручы пад увагу адсутнасць рэдукцыі галоснага да нуля гука ў ненаціскным становішчы, можна меркаваць пра значнасць такой прыкметы, як вакальнасць, у гукавым ланцугу ў мясцовым маўленні. У адрозненне ад пазіцыі ва ўмовах сандхі, а таксама ў абсалютным пачатку слова, на марфемнай мяжы слова спалучэнне двух галосных аднолькавай якасці захоўваецца непаслядоўна. Пры наяўнасці выпадкаў спрашчэння вакальнай групы [аа] да аднаго гука [а] на стыку марфем паралельна фіксуюцца прыклады з іх захаваннем, як: *паабе́даць* і: *паставáлася*. Такім чынам, з аднаго боку, у мясцовым маўленні мае месца тэндэнцыя пазбягаць наяўнасці двух аднолькавых ненаціскных галосных на марфемнай мяжы слова, але ёй пярэчыць іншая тэндэнцыя – захоўваць іх, прычым не толькі на стыку марфем, але і на стыку слоў.

Адметнай рысай сённяшняга маўлення выступае адсутнасць гука [j] і наяўнасць сцягнутага галоснага як паказчыка ненаціскной флексіі ў словах атрыбутыўнага тыпу ў назоўным і вінавальным склонах адзіночнага ліку жаночага і ніякага роду. Аднак формы з аднаскладовым неакцэнтаваным канчаткам у мясцовым маўленні суіснуюць з нясцягнутымі, прычым апошнія найбольш характэрныя для яго і пашыраныя ў вымаўленні. Дамінантным і тыповым двухскладовы канчатак быў у маўленні і ў папярэдні час (прыклады тыпу: *нóвая*: *нóва*: *нóваа*; карта № 113; *нóвае* (*я*) *вядрó*; карта № 115; *маладýю*: *маладý*; карта № 123). Акрамя таго, у сярэдзіне мінулага стагоддзя ў мясцовых гаворках былі адзначаны атрыбутывы, дзе таксама мела месца выпадзенне гука [j], але пры гэтым захоўваўся поўны, ці т. зв. нясцягнуты, ненаціскны канчатак. Паводле звестак ДАБМ прыметнікі з поўным канчаткам як адзінкавыя засведчаны на ўсход у бок ад Бабруйска. Сёння такая з'ява, як наяўнасць двухскладовага канчатка з выпадзеннем [j] у класе атрыбутываў, не ўласціва мясцоваму маўленню. Прынамсі, яна не зафіксавана ў апісаным яго ідыялекце. Памятаючы, што і ў мінулым падобныя прыклады былі адзінкавыя, можна меркаваць пра затуханне гэтай адметнай асаблівасці ў сучасным маўленні жыхароў Бабруйшчыны. Сам жа факт суіснавання формаў з двухскладовым канчаткам і аднаскладовым не толькі лішні раз нагадвае пра адметны тэрытарыяльна-моўны статус бабруйскіх гаворак як гаворак інтэграванага тыпу, але і адначасова выступае сведчаннем адсутнасці выразнай дынамікі змен у маўленні ў бок яго ўніфікацыі па рэалізацыі канчатка аднаго тыпу – з адной галоснай у складзе флексіі або з дзвюма.

Да ліку адметных з'яў сістэмы мясцовага вакалізму належыць наяўнасць пристаўнога гука [і] перад зычным гукам у функцыі прыназоўніка ў фанетычна не абумоўленых умовах (прыклады накшталт: *вынімáеш ісь пéчы*; *як ізьдзéлала*). Звычайна падобныя выпадкі ўжывання прыстаўнога галоснага гука, асабліва перад аднакансанантным прыназоўнікам, адносяць да асаблівасцей інтэрферэнтнага тыпу – вынік рускамоўнага ўздзеяння. Але гэта толькі знешняя ацэнка. Пры такой ацэнцы не ўлічваецца пазіцыйная абумоўленасць ужывання галоснага. З такім жа поспехам засведчаная асаблівасць маўлення можа быць аднесена і да ўласна-беларускай адметнасці. Адзначанае будзе мець месца пры ўмове, калі памятаць, што беларуская дыялектная мова па прыкмеце вакальнасць/кансанантнасць характарызуецца высокай вакалізаванасцю як у прынцыпе, так і ў асобных звёнах фанетычнай структуры слова (словаформы). У маўленні вакалізаванасць праяўляецца ў павелічэнні колькаснага складу фанетычнага слова. Адбываецца гэта за кошт далучэння дадатковых галосных. І хоць часцей наяўнасць дадатковага прыстаўнога галоснага рэгламентавана пазіцыйна, аднак такая пазіцыйная абумоўленасць, прынамсі ў мясцовым маўленні, адносная (параўн. прыклады тыпу *на Іспáса*). Але выпадкі рэалізацыя дадатковага галоснага ў фанетыцы ідыёма суіснуюць з іх адсутнасцю. Здольнасцю павялічваць колькасны склад слова маўленне насельнікаў Бабруйшчыны нічым не адрозніваецца ад іншых тыпаў беларускага рэгіянальнага маўлення, у тым ліку і тых, што належаць да цэнтральназанальных.

Аналіз тэкставага матэрыялу паказаў, што ***сістэму кансанантызму сродкаў мясцовага маўлення*** вылучае шэраг з'яў сістэмнага характару, якія выступаюць як выразныя асаблівасці сучаснага маўлення. Але далёка не ўсё, што надае адрознівальны характар гэтаму рэгіянальнаму маўленню, выступае ў ім як адзіная моўная рыса, якой не характэрны паралельныя варыянты. Сучаснае маўленне найперш вылучаецца суіснаваннем варыянтных адзінак. Адны з гукавых сродкаў з'яўляюцца больш частотнымі і пашыранымі, іншыя ўжываюцца (фіксуюцца) радзей, але яны выступаюць як адзінкі адной моўнай сістэмы і ў сукупнасці вызначаюць склад кансанантных сродкаў маўлення вясковых насельнікаў Бабруйшчыны. Наколькі захавалася пераемнасць у забяспечвальным гукавым інвентары сучаснага маўлення ў параўнанні з тым, што быў зафіксаваны ў сярэдзіне мінулага стагоддзя, дазваляе выявіць супастаўляльны аналіз ілюстрацыйных тэкставых словаформаў з адлюстраванымі ў ДАБМ.

Да ліку сістэмных асаблівасцей у галіне кансанантызму належыць у гэтым рэгіянальным маўленні карэляцыя зычных па звонкасці/глухасці ў слабай фанетычнай пазіцыі. Паводле ўстаноўленых тэкставых прыкладаў (нават калі зрабіць колькасныя падлікі, якія б фіксавалі ўсе выпадкі ўвасаблення дадзенай асаблівасці) вынікае, што сённяшняе рэгіянальнае маўленне мясцовых насельнікаў не характарызуецца паслядоўным адрозненнем звонкага або глухога шумнага зычнага ў пазіцыйна абумоўленых умовах. Інакш кажучы, супрацьпастаўленне звонкіх/глухіх зычных не з'яўляецца ўніфікаваным. Пры адных і тых жа ўмовах у межах словаформы тут мае месца як аглушэнне звонкага зычнага ў становішчы перад глухім або ў канцы слова, так і адрозненне зычных па голасе. Адсутнасць чаргаванняў зычных па ўдзеле голасу выступае не як тэндэнцыя сучаснага маўлення, а як яго тыповая асаблівасць, вядомая мясцовым гаворкам у папярэдні час (прыклады тыпу: *хле*[*б*], *гóра*[*д*], *но*[*ж*], *плу*[*г*], *слу*[*п*], *ко*[*т*], *на*[*ш*], *мо*[*х*]; *кá*[*з*]*ка*, *зага́*[*д*]*ка*, *нó*[*ж*]*ка*, *гý*[*б*]*ка*, *мá*[*с*]*ка*, *шчó*[*т*]*ка*, *кó*[*ш*]*ка*, *шá*[*п*]*ка*; адпаведна карты № 45, 46). Непаслядоўнасць карэляцыі зычных гукаў па звонкасці/глухасці ў гэтым тыпе маўлення выяўляецца не толькі ў пазіцыйна абумоўленых умовах у межах фанетычнага слова. На стыку слоў, паўназначных і непаўназначных, пры розным зыходзе канцавога гука папярэдняга слова – галосны, санорны, шумны звонкі або глухі – пры наяўнасці паміж імі аднагукавога кансананта выразная пазіцыйная абумоўленасць адсутнічае. Напрыклад: *зь яго́ ж ужэ́*; *яны́ ш е хто з дóму*; *штоб зь цябé*; *вылáзіць с той вáнны*. У межах слова на стыку прыстаўкі і кораня ў сістэме супрацьпастаўленых адносін зычных па звонкасці/глухасці надзвычай адметна паводзяць сябе кансананты [д] і [т]. Прынамсі, у становішчы перад

санорным ужываецца не толькі гук [т], паралельна з ім выступае і зычны [д], тыпу: *ат'ехаліся* і *пад'ёўшые*. Аналагічна і пры іншых фанетычных умовах: *падбіра́юць* і *падпа́львае*, *патпа́ляць*; *пад вакно́м* і *е́дуць ат жаніха́*. Такім чынам, можна гаварыць пра суіснаванне ў мясцовым маўленні варыянтаў па рэалізацыі звонкага і глухога зычнага ў адных і тых жа ўмовах. Вызначыць нейкую дынаміку пераўтварэння звонкага зычнага ў розным становішчы і ў розных умовах, у тым ліку і ва ўмовах сандхі, ці на стыку слоў, дастаткова складана, тым самым нельга ўстанавіць нейкія абмежаванні, якія б абумоўлівалі пазіцыйны выбар зычнага. Гэта значыць: адсутнасць уніфікацыі зычных па ўдзеле голасу – такая ж адметнасць сучаснага вымаўлення, якой яна была ў сярэдзіне мінулага стагоддзя.

У адрозненне ад неўсталяванай, ці адносна свабоднай, рэалізацыі звонкага зычнага ў пазіцыйна дыферэнцыраваных умовах увасабленне такой сістэмнай асаблівасці кансанантызму, як функцыянаванне суадносных радоў зычных па цвёрдасці/мяккасці, у гаворках Бабруйшчыны ў прынцыпе нічым не адрозніваецца ад многіх іншых тыпаў беларускага дыялектнага маўлення, а таксама ад літаратурнай беларускай мовы. Практычна гэта азначае, што ў мясцовым маўленні зычныя па прыкмеце наяўнасць/адсутнасць цвёрдасці/мяккасці размеркаваны гэтак жа, як у літаратурнай мове. Яны ўтвараюць суадносныя рады, за выключэннем, зразумела, гукаў [ж], [ш], [ч], [дж], [р], [ц] (не ўтворанага з [т]), а таксама з улікам тых абмежаванняў, што характэрныя для губных гукаў. Разам з гэтым цікава заўважыць наступнае. Пры аналізе фанетычнага інструментарыю маўлення амаль паўсюдна выяўляліся моўныя рысы, якія падмацоўвалі статус бабруйскіх гаворак як гаворак паўднёвай групы. Але паводле карэляцыі па цвёрдасці/мяккасці ў адрозненне ад іншых гаворак паўднёвай групы ў мясцовых гаворках гэтага не назіраецца. Цвёрдыя губныя зычныя ў становішчы перад націскным галосным [а] маюць свае мяккія адпаведнікі. Праўда, з матэрыялаў ДАБМ вынікае, што ў недалёкім мінулым на паўднёвай ускраіне Бабруйшчыны адзінкава былі выяўлены словаформы, у якіх губныя [в], [п] перад акцэнтаваным гукам [а] выступалі ў спалучэнні з [j]. Ілюстрацыйныя формы, змешчаныя ў каментарыях ДАБМ (с. 458), паказваюць: словаформы тыпу *пйаць*, *вйа́не* ужо ў сярэдзіне мінулага стагоддзя тут не былі дыферэнцыяльныя. З агульнай колькасці прыкладаў, прысвечаных рэалізацыі губных перад націскным галосным [а], толькі ў слове *жарабйа́* захоўвалася цвёрдасць губнога. Аднак і дадзеная словаформа не з'яўлялася безальтэрнатыўнай. Паралельна засведчана *жарабя́ты*. Усе іншыя словаформы ўжываліся з мяккім губным: *пяць*, *сьпяць*, *вя́нуць*, *дзявя́тая*, *пя́тка*. Такім чынам, наяўнасць адрознення зычных па цвёрдасці/мяккасці ў класе губных, нягледзячы на літаральна адзінкавыя выпадкі фіксацыі цвёрдага губнога перад акцэнтаваным галосным [а], – гэта выразная асаблівасць не толькі сучаснага маўлення, такой жа дыягнастычнай рысай маўлення была яна і ў мінулым. Апошняе меркаванне дадаткова падмацоўваюць звесткі карты № 51 ДАБМ (прыклады тыпу [*м'*]*а́са*, [*м'*]*а́та*, [*м'*]*аць* і інш.).

Пры адлюстраванні адносін зычных па цвёрдасці/мяккасці варта заўважыць, што досыць нязначныя адрозненні ў параўнанні з іншымі тыпамі дыялектнага маўлення, а таксама са стандартнай фанетыкай у мясцовым маўленні маюць месца і ў асобных марфалагічных формах. Адным з выпадкаў граматычна маркіраванай рэалізацыі цвёрдага зычнага з'яўляецца вымаўленне канцавога зычнага асновы ў асабовай форме дзеясловаў I спражэння 1-й асобы множнага ліку абвеснага ладу. Паводле тэкставых ілюстрацыйных словаформаў у сучасным маўленні насельнікаў гэтага рэгіёна адзначаны варыятыўныя формы 1-й асобы множнага ліку абвеснага ладу як з цвёрдым зыходам зычнага асновы, так і з мяккім. На падставе зафіксаваных тэкставых прыкладаў вызначыць, якія варыянты – з цвёрдым ці мяккім зычным асновы – у колькасных адносінах пераважаць, складана. Можа, больш частотным з'яўляецца ўсё ж варыянт з цвёрдым зыходам асновы. Цвёрды зычны тут рэалізуецца не толькі перад губным націскным галосным [о], але і нелабіялізаваным ненаціскным гукам [а]. Варыянтныя формы 1-й асобы множнага ліку пры фіксаваным флексійным націску з акцэнтаваным галосным [е] маюць у аснове мяккі зычны. Падобная варыятыўнасць апошняга зычнага асновы была характэрна для мясцовых гаворак і ў мінулым (прыклады тыпу: [*ідо́м*] ([*ідо̂м*]), [*кладо́м*] ([*кладо̂м*]), [*н'асо́м*] ([*н'асо̂м*]); карта № 150). Але паводле ДАБМ варыятыўныя формы суіснавалі толькі ў адным населеным пункце раёна паўднёвай лакалізацыі, і выступалі яны выключна з націскным галосным [о]. Галосны [ʻе], як складнік канчатка ***-ем***, у якасці варыятыўнай формы тут не адзначаўся. У іншых абследаваных пунктах дыферэнцыяльным з'яўлялася менавіта цвёрдае вымаўленне кансанантнага зыходу асновы. Лічыцца агульнапрызнаным, што наяўнасць цвёрдага зычнага асновы ў гэтых марфалагізаваных умовах не абумоўлена фанетычна і звязана з дзеяннем закона граматычнай аналогіі. Аднак з пазіцыі выяўлення супрацьпастаўленых адносін зычных па цвёрдасці/мяккасці варта падкрэсліць, што якраз рэалізацыяй цвёрдага канцавога зычнага асновы мясцовае маўленне адрозніваецца ад некаторых іншых тыпаў дыялектнага маўлення і ад літаратурнай мовы. У ліку прыкметных з'яў па ўвасабленні супрацьпастаўленых адносін зычных па цвёрдасці/мяккасці ў марфалагізаваных умовах у мясцовым маўленні выступае рэалізацыя толькі мяккага [м] у складзе флексіі ***-амі*** (***-ямі***) у творным склоне множнага ліку ў субстантыўным скланенні і ***-ымі*** (***-імі***) у такой жа форме ў ад'ектыўным. Па гэтай адметнасці вымаўлення гука [м'] як аднаго са складнікаў канчатка мясцовае маўленне якраз адрозніваецца ад яго іншых рэгіянальных тыпаў, лакалізаваных у межах цэнтральназанальных гаворак. Але наяўныя выпадкі поўнай уніфікацыі па рэалізацыі зычнага гука [м'] у складзе субстантыўнай флексіі і флексіі ад'ектыўнага

скланення ў сучасным маўленні не цалкам адпавядаюць звесткам ДАБМ. Згодна з матэрыяламі атласа на тэрыторыі Бабруйскага р-на, пераважна ў кірунку на ўсход ад Бабруйска ў асобных даследаваных вёсках, былі адзначаны словаформы з цвёрдым зычным [м] у складзе канчатка (прыклады тыпу: *за дама́мы*, *за агаро́дамі*, *за нажа́мы*, *за ха́тамы*, *за вёдрамы*, *за ві́шнямы* і інш.; карта № 104). Зафіксаваныя ў мінулым выпадкі вымаўлення гука [м] з'яўляліся ці адзіным варыянтам у гэтай словаформе, ці мелі альтэрнатыўны варыянт з мяккім зычным [м]. Наколькі поўна захавалася ў сучасным маўленні рэалізацыя цвёрдага [м] у складзе словаформаў творнага склону множнага ліку ў іменным скланенні, сказаць пакуль што немагчыма, бо наяўныя факты рэпрэзентуюць асаблівасці вымаўлення аднаго ідыялекта маўлення.

Да выразных асаблівасцей мясцовага маўлення ў галіне фанетыкі належыць пазіцыйнае асіміляцыйнае змякчэнне зычных. Тыповым для маўлення з'яўляецца асіміляцыя свісцячых зычных перад наступным мяккім зычным. Асіміляцыя па мяккасці, як з'ява рэгулярнага характару, таксама мае месца і ў становішчы [н] перад мяккім зычным. У адносінах да структуры слова – пачатак, сярэдзіна, канец, – пазіцыйная мяккасць свісцячых зычных не мае выключэнняў. Пры гэтым прыпадабненне папярэдняга зычнага да наступнага мяккага адбываецца і ў тым выпадку, калі свісцячыя [з], [с] знаходзяцца перад заднеязычнымі гукамі [г], [к], [х]. Але, як вынікае з тэкставых ілюстрацый, перад кансанантамі [г'], [к'], [х'] зычныя [з], [с] замяняюцца мяккімі, калі спалучэннем зычных пачынаецца слова. Калі яны знаходзяцца ў сярэдзіне слова, прынамсі зычны [с], які выступае як складнік суфікса **-ск-**, захоўваецца цвёрдасць, напрыклад: *ськіда́іш*, *сь кім* і: *ру́скіе*, *пане́нскі*. Наконт апошніх прыкладаў заўважым: падобны, толькі цвёрды, характар вымаўлення свісцячага зычнага [с] быў тыповым і ў мінулым стагоддзі (прыклады тыпу: *ру́скі*, *па-ру́ску*; карта № 58). Фактычная адсутнасць вар'іравання цвёрды/мяккі свісцячы зычны ў пазіцыі перад наступным мяккім пярэднеязычным зычным сведчыць пра высокую ступень паслядоўнасці ўвасаблення пазіцыйнай мяккасці зычных у мясцовым маўленні. Дадатковым доказам высокай ступені палаталізаванасці зычных у мясцовым маўленні (калі трымацца думкі, што для фаналагічнага аналізу цвёрдых і мяккіх зычных вызначальным з'яўляецца іх становішча ў канцы слова і перад зычнымі) сведчыць і тое, што зычны гук [с] у складзе зваротнай часціцы **-ся** тут заўсёды толькі мяккі, ніводнага выпадку яго ацвярдзення не было ўстаноўлена. Мяккім быў гэты гук таксама ў час даследавання гэтай тэрыторыі ў мінулым (прыклады тыпу: *баюся*, *купа́ўся*, *спёкся*, *збяро́мся*, *садзі́ліся*; карта № 165). Асіміляцыйная пазіцыйная мяккасць, але як вынік адлюстравання карэлятыўных адносін паміж шыпячымі і свісцячымі, у мясцовым маўленні мае месца і пры спрашчэнні груп зычных у асобных словаформах. Прынамсі, у форме 2-й асобы адзіночнага ліку зваротных дзеясловаў абвеснага ладу спалучэнне зычных [шс'] у сувязі з прыпадабненнем [ш] пераўтвараецца ў [с':][1], тыпу: *гука́есься*, *запрэ́сься*. Адметным з'яўляецца тут тое, што ў маўленні для дадзенай словаформы па сутнасці не ўстаноўлены выпадкі, дзе б не адбывалася мена шыпячага на свісцячы, які займае пазіцыю перад мяккім свісцячым гукам [с]. Увасабленне групы зычных [шс'] > [с':], уласцівае мясцоваму вымаўленню, як вядома, тыповая з'ява маўлення, пашыраная ў розных тыпах беларускіх гаворак, у тым ліку і ў гаворках паўднёва-ўсходняй занальнай лакалізацыі. Характарызуе сённяшняе мясцовае маўленне і ўжыванне звонкай мяккай афрыкаты [дз] і глухой [ц'] у адпаведнасці з цвёрдым зычным [д] або [т] у некаторых тыпах беларускага дыялектнага маўлення і ў літаратурнай мове ў словах іншамоўнага (пераважна рускамоўнага) паходжання, як, напрыклад: *парцiза́ны*, *ісьцяры́чкі*. Разам з тым, у іншых з устаноўленых выпадкаў у запазычанай лексіцы тут зафіксавана рэалізацыя цвёрдых зычных: *на веласыпе́дах*, *маянэ́с*. Такім чынам, можна адзначыць: пры засваенні запазычанняў ступень іх адаптацыі да фанетыкі мясцовага ідыёма з'яўляецца неаднастайнай. Словы, у якіх маюць месца гукі [д] або [т] у нарматыўным беларускім вымаўленні ці [д'], [т'] адпаведна кадыфікаванаму рускамоўнаму вымаўленню, падлягаюць зменам. У выніку гукавой трансфармацыі ў мясцовым маўленні рэалізуюцца гукі [дз'], [ц']. З'ява дзекання/цекання была дыферэнцыяльнай рысай гэтага мясцовага маўлення і ў мінулым (карта № 56, 57). Да таго ж, як сведчаць матэрыялы выдання «Нарысы па беларускай дыялекталогіі», «у словах іншамоўнага паходжання... у гаворках, якім уласціва дзеканне і цеканне, з адзначаных 103 выпадкаў ужывання ў 99 выпадках зафіксавана вымаўленне [дз'], [ц']»[2]. У адносінах да вымаўлення ў запазычаннях іншых цвёрдых зычных адпаведна парным мяккім сказаць нешта канкрэтна немагчыма і па прычыне невялікай колькасці наяўных ілюстрацый, і з-за адсутнасці дадатковых звестак з мінулага стагоддзя.

Сярод сістэмных асаблівасцей сучаснага мясцовага маўлення – падоўжаны мяккі зычны ў інтэрвакальным становішчы. Пра істотнасць гэтай асаблівасці ў гаворцы сведчыць той факт, што падаўжэнне інтэрвакалізаванага зычнага ахоплівае таксама новую запазычаную лексіку (гл., напрыклад: *угашчэ́ньне*). Акрамя таго, рэалізацыя доўгага мяккага зычнага або доўгага няпарнага па мяккасці зычнага тут не ведае варыянтаў у выглядзе аднаго зычнага або спалучэння зычнага з [j]. Апошняе сведчыць пра цалкам уніфікаваны характар гэтай з'явы ў мясцовым маўленні. Падобным характарам рэалізацыі доўгага інтэрвакалізаванага зычнага ў адпаведнасці з гістарычным спалучэннем *C'j* (*C* – умоўнае абазначэнне зычнага гука) сучаснае маўленне не адрозніваецца

[1] Сімвал : указвае на вымаўленне зычнага як доўгага гука.

[2] Нарысы па беларускай дыялекталогіі / пад рэд. Р. І. Аванесава. Мінск: Навука і тэхніка, 1964. С. 123.

ад папярэдняга часу (прыклады тыпу: *насе́*[*н'н'*]*е*, *во́се*[*н'н'*]*ю* і інш.; карта № 64). Асіміляцыйныя працэсы, як паказчык увасаблення карэлятыўных адносін шыпячых і свісцячых зычных, адлюстроўваюцца і ў кансанантным ланцугу шумных зычных, прынамсі, у становішчы свісцячых перад шыпячымі і наадварот, а таксама пры наяўнасці шумных зубных гукаў [д] і [т] перад наступным [ч], [ц], тыпу: *раж жа*, *ш ча́ем*, *перашчыта́ю*, *прыяжджа́е*, *запрэ́сься*, *наччэ́*. Аднак змены ў кансанантных групах зж > ж:, сч > шч, здж > ждж, чц > ц:, дч > ч:, тч > ч: і інш. у мясцовым вымаўленні не маюць уніфікаванага характару. Пры існаванні выпадкаў пазіцыйнага прыпадабнення вышэйназваных груп зычных устаноўлены і выпадкі іх адсутнасці. Гэта абумоўлівае вар'іраванне ў рэалізацыі двухгукавых спалучэнняў і аднагукавых адзінак – [зж] і [ж:], [сш] і [ш:], [сч] і [ч:], [шс'] і [с':], [чц] і [ц], [дч] і [ч:], [тч] і [ч:].

Тыповай мясцовай дыялектнай асаблівасцю, адлюстраванне якой залежыць ад фанетычнай пазіцыі ў слове – становішчам перад лабіялізаванымі ініцыяльнымі галоснымі [о], [у], – выступае вымаўленне пратэтычнага гука [в] і прыстаўных [г], [j]. Згодна з тэкставымі ілюстрацыямі заднеязычная пратэза [г] ужываецца толькі у групе ўказальных займеннікаў. Апошняе дазваляе гаварыць пра яе лексікалізаваны характар рэалізацыі ў мясцовым маўленні. Аднак, нягледзячы на індывідуальную лексічную замацаванасць пратэтычнага гука [г], яго прысутнасць у якасці прыстаўнога ў групе ўказальных займеннікаў не з'яўляецца адзінай. Пратэза [г] таксама мае свой фанетычны эквівалент [j]. Абодва прыстаўныя гукі існуюць як узаемазамяняльныя і раўнапраўныя. Пры гэтым, зычны [j] у якасці прыстаўнога зафіксаваны і ў наступных выпадках. Як выразна вымаўлены гук, пазіцыйна дэтэрмінаванага характару, ён мае месца перад націскным гукам [і], тыпу: *туды́ йіх*[1]. Акрамя таго, дастаткова паслядоўна рэалізуецца [j] у становішчы перад націскным галосным [е]: *тóе і йéлі*; *на йéту бараду́*, пашыраючыся на формы тыпу *йэ́та*. Такія словаформы, як *йэ́та*, насамрэч не з'яўляюцца нечым адметным і характэрным толькі для сённяшняга часу. Ужыванне пратэзы [j] у групе ўказальных займеннікаў было зафіксавана ў сярэдзіне мінулага стагоддзя. Прычым, калі трымацца інфармацыі ДАБМ, словаформы *йэ́ты*, *йэ́ны* ў асобных н. п. Бабруйскага р-на, размешчаных у кірунку на ўсход, зусім не мелі альтэрнатыўных варыянтаў (карта № 49), яны былі адзіна ўжывальнымі ў маўленні. Наогул жа ўсе выпадкі рэалізацыі пратэтычнага гука [j], дэтэрмінаваныя фанетычнай пазіцыяй, з'яўляюцца сёння варыянтнымі.

Акцэнтуючы дадатковую ўвагу на асаблівасці ўжывання санорнага гука [j], прынамсі, на яго ўвасабленні ў фанетычным ланцугу хацелася б адзначаць і наступнае: у мясцовым маўленні зычны гук [j] выступае таксама ў поствакальнай пазіцыі пасля папярэдняга слова, напрыклад: *ды й до́бра*, *усё йшло*[2]. Адначасова ў становішчы пасля галоснага папярэдняга слова, асабліва пры наяўнасці паўзы, [j] адсутнічае: *ужо́ ідзе́*; *было́ і тако́е*. Пазіцыйным становішчам абумоўлена таксама ўжыванне зычнага гука [j] у словаформах, накшталт *пайду́*, *зайгра́лі*. Аднак, як і ў большасці выпадкаў, наяўнасць зычнага [j] у адзначанай пазіцыі суіснуе з яго адсутнасцю. Што датычыць рэалізацыі такой формы слова, як *Тро́йца*, у адпаведнасці з больш шырока вядомым у іншых тыпах беларускага маўлення варыянтам *Тро́іца*, то вытлумачыць замену [і] > [й] можна артыкуляцыйна-акустычнымі характарыстыкамі гукаў [і] і [й], менавіта блізкасцю ўтварэння і гучання [й] да [і][3], а таксама агульнай тэндэнцыяй да знікнення груп галосных, якая характэрная для беларускай мовы[4].

Наконт ужывання губной пратэзы [в] можна заўважыць: ніякіх адрозненняў у параўнанні з папярэднім часам у сучасным маўленні не ўстаноўлена (прыклады тыпу: [*в*]*о́зера*, [*в*]*у́ха*; [*ву́л'іца*]; адпаведна карта № 47, 48). Ініцыяльны прыстаўны [в] тут вымаўляецца ў дастаткова вялікім корпусе слоў як перад націскнымі галоснымі [о], [у], так і пры адсутнасці націску на гэтых галосных, у тым ліку, калі ненаціскное [о] па прычыне акання трансфармуецца ў галосны гук [а]. Інакш кажучы, пазбаўляючыся пазіцыйнай прымацаванасці і захоўваючыся ў вымаўленні пры іншых фанетычных умовах, гук [в] набывае статус фанемы [в]. У наяўных тэкставых ілюстрацыях [в] пры змене націску і адпаведна дзеянню акання зафіксаваны адзінкава. Гэта сведчыць пра непаслядоўнасць фаналагізацыі губной лабіялізаванай пратэзы ў мясцовым маўленні.

Адметную рысу мясцовага вымаўлення насельнікаў рэгіёна складае наяўнасць у сістэме кансанантыўных сродкаў глухога губна-зубнога гука [ф] у іншамоўных запазычаных словах. Згодна з лінгвагеаграфічнымі звесткамі гэты кансанант у даўніх запазычаннях у мясцовай гаворцы не ўжываўся (прыклады тыпу: [*квасо́л'а*], [*квасо́л'*], [*хвасо́л'*]; карта № 44). Яго мясцовай эксплікацыяй, як відаць са звестак атласа, выступалі спалучэнні зычных з абавязковай наяўнасцю ў іх складзе губнога зычнага [в] у спалучэнні з заднеязычнымі [х] ці [к].

---

[1] Прыстаўны зычны [j] у складзе асабовых займеннікаў і ў словах, якія маюць націскны галосны гук [і], намі адзначаецца пры ўмове яго адлюстравання ў тэкставым запісе. Спецыяльна не агаворваецца дадзеная асаблівасць па той прычыне, што абраны прынцып запісу маўлення – адаптацыйна-арфаграфічны – дазваляе яго не перадаваць, бо гэта ўсведамляецца як агульназразумелы факт. У звязку з гэтым адсутнічае таксама інфармацыя пра ўстаўны [j] у запазычаннях тыпу ***сьпецыя́льные***. Звычайна ў тэкстах абавязкова адлюстроўваецца выразна вымаўлены гук. Пры наяўнасці ў запісах формаў з [j] асобна на такіх фактах засяроджвалі сваю ўвагу і мы.

[2] У такіх выпадках [j] не мае адносін да прыстаўнога гука.

[3] Крывіцкі, А. А. Фанетыка беларускай мовы / А. А. Крывіцкі, А. І. Падлужны. Мінск: Вышэйш. шк., 1984. С. 43.

[4] Фанетыка беларускай літаратурнай мовы / рэд. А. І. Падлужны. Мінск: Навука і тэхніка, 1989. С. 147.

Аднак запісы ўзораў сучаснага маўлення дадзеную інфармацыю не падмацоўваюць. Паводле тэкставых ілюстрацый у мясцовым вымаўленні рэпрэзентантам фанемы ***ф*** выступаюць гукі [ф], [ф’]. Цалкам магчыма, што гэта толькі ідыялектная якасць маўлення. Але як бы тое ні было, ёсць падставы бачыць за такімі звесткамі дынаміку развіцця сродкаў гукавога ладу мясцовага маўлення – засваенне гукавой сістэмай новага сродку – фанемы ***ф***. Разам з тым статус дадзенай фанетычнай адзінкі адметны. У тэкставых запісах не выяўлена ніводнага прыкладу, дзе б мела месца аглушэнне гука [в] на канцы слова або ў становішчы перад глухім зычным, не засведчана таксама і замена заднеязычнага гука [х] на [ф], або гіперкарэктнае вымаўленне тыпу *фўтар.* Гэтым самым падмацоўваецца характарыстыка зычнага [ф (ф’)] як ізаляванага гука ў гукавым ладзе мясцовай гаворкі, інакш кажучы, таго гука, які не мае парнага звонкага.

У ліку своеасаблівых адметнасцей фанетычнага ладу мясцовага маўлення – пазіцыйная дыстрыбуцыя гукаў [у] і [ў]. Галосны [у] вымаўляецца пасля паўзы і зычнага папярэдняга слова, як, напрыклад: *усякіе ткáлі*; *цяпéр у нас*; зычны [ў] – пасля галоснага: *адзяюца ў кажўх*; *йéта ўжэ ідзé ў кўжаль.* Аднак такое пазіцыйнае чаргаванне гукаў [у] > [ў], абумоўленае фанетычным кантэкстам, вытрымліваецца непаслядоўна. Дастаткова часта ў становішчы пасля папярэдняга зычнага таксама рэалізуецца білабіяльны санорны [ў]: *сьвіньнáм жа й ўсё*; *тады ш ўсё ж нáда*; *а мо бóлей ўзялі*; *як ў вайнў* і наадварот: *пастáвілі у Акалíчах.* Вызначыць хоць нейкую залежнасць, якая прадвызначае вымаўленне гука [ў] у адпаведнасці з пазіцыйна чаканымі галосным гукам [у] або зычным [ў], як відаць з ілюстрацый, немагчыма. Усё гэта сведчыць пра паралельнае выкарыстанне гукаў [у] і [ў] у адзначаным гукавым ланцугу, іх узаемазамяняльнасць у вымаўленні. Як вядома, пазіцыйнае чаргаванне гукаў [у] > [ў] знайшло сваё ўвасабленне ў нацыянальным правапісе, аднак маўленчая рэчаіснасць сведчыць: такая рэгламентацыя ў рэальным маўленні далёка не аднастайная.

Сярод іншых адрозненняў, якія характарызуюць стан сучаснага вымаўлення і вызначаюць рэпертуар яго фанетычных сродкаў, выступае рэалізацыя некаторых спалучэнняў зычных. У большасці выпадкаў пры рэалізацыі асобных кансанантных груп захоўваецца папярэдняя традыцыя. Так, напрыклад, гэта мае месца пры ўжыванні спалучэнняў [чн (чн’)] (прыклады тыпу: *малó*[*чн*]*ы*, *малó*[*шн*]*ы*; *ру*[*чн’*]*úк*, *ру*[*шн’*]*úк*; адпаведна карты № 61, 62), пры вымаўленні спалучэння зычных [с’ц’] (прыклады тыпу: *гос’ц’*; карта № 59), пры рэалізацыі кансанантнай групы [дн (дн’)] (прыклады тыпу: *аднá*; карта № 60). Як і ў мінулым, для сучаснага маўлення істотным з’яўляецца суіснаванне варыянтаў у рэалізацыі гукавых спалучэнняў. Прынамсі, варыянтнасць уласціва ўжыванню груп зычных [чн (чн’)]. Спалучэнне [чн (чн’)] або пераўтвараецца ў [шн (шн’)], або застаецца нязменным, але пераважным, калі прымаць за адлік колькасць зафіксаваных прыкладаў, выступае вымаўленне [чн (чн’)]. Тое ж самае мае месца і пры ўвасабленні спалучэння [с’ц’], якое выступае таксама ў адным гуку [с’] ці кансанантнай групе [с’ц’]. Спалучэнню зычных [дн (дн’)] у параўнанні з мінулым гукавая трансфармацыя невядома. У зафіксаваным дыялектным узоры маўлення гэта група зычных існуе як безальтэрнатыўная.

Такім чынам, устаноўленыя шматлікія адметнасці сведчаць, што фанетыка мясцовага дыялектнага ідыёма з’яўляецца сёння дастаткова ўстойлівай, у ёй паслядоўна адлюстроўваюцца і ўвасабляюцца шматлікія моўныя рысы сістэмнага тыпу, якія характарызавалі мясцовыя гаворкі ў мінулым, а таксама дыферэнцыяльныя ўласнадыялектныя асаблівасці. Разам з тым, гукавая сістэма гэтага рэгіянальнага тыпу гаворкі не існуе ў чыстым, ідэальным выглядзе. Нягледзячы на захаванне ў маўленні многіх дыягнастычных асаблівасцей папярэдняга часу, істотная колькасць з прааналізаваных моўных рыс характарызуецца варыянтным ужываннем. Пры чым, варыянтнасць мае месца пры выкарыстанні шматлікіх фанетычных сродкаў. Асабліва паслядоўна яна выяўляецца пры рэалізацыі асобных гукаў у пэўным фанетычным кантэксце (ва ўмовах міжслоўнай паўзы) ці пры вымаўленні кансанантных спалучэнняў у розных структурных частках слова.

Як вядома, змены ў граматыцы, колькасны склад сродкаў, якія вызначаюць асаблівасці марфалагічнага ўзроўню маўлення, абумоўліваюцца ў значнай ступені фанетыкай. Асабліва выразна ўздзеянне фанетыкі, найперш тыпу сістэмы вакалізму, выяўляецца ў галіне словазмянення, у тым ліку і іменнага скланення. Так, устаноўлена: **з ліку марфалагічных асаблівасцей**, адлюстраваных у тэксце, выбар флексіі вызначаецца ў першую чаргу тыпам асновы, у меншай ступені родам назоўніка. Прынамсі, неасабовыя назоўнікі мужчынскага, а таксама жаночага і ніякага роду з асновай на цвёрды зычны ў месным склоне адзіночнага ліку маюць галоўным чынам канчатак ***-е***. Яго ўжыванне не абумоўліваецца характарам акцэнтнай парадыгмы, напрыклад: *на сталé*, але *ў лéсе.* Рэалізацыяй дадзенай флексіі ў гэтай словаформе сучаснае маўленне, магчыма, адрозніваецца ад сярэдзіны мінулага стагоддзя, але не выключана і зусім іншае. Устанаўленне набору флексій, іх колькасны склад у нашым выпадку эксплікуецца занатаваным ідыялектным тэкстам. Пры мэтавым праграмным даследаванні стану сучаснага маўлення, напрыклад, пры ўстанаўленні складу марфалагічных сродкаў, якія яго забяспечваюць, вынік быў бы, відаць, падобным да засведчанага і сярэдзіне мінулага стагоддзя. Так, згодна з інфармацыяй ДАБМ, раней у мясцовай гаворцы было выяўлена паралельнае суіснаванне канчаткаў. Варыянтнасць канчатка як тыповая асаблівасць назоўнікаў II тыпу скланення ў месным склоне мела месца пры аснове на заднеязычны, на зацвярдзелы і цвёрды зычны. Яна была характэрна для розных лексіка-граматычных разрадаў назоўнікаў, у тым ліку і для групы асабовых назоўнікаў мужчынскага роду. У субстантываў з зыходам асновы на заднеязычны варыянтнасць выяўлялася і ў рухомасці націску, і ў змене апошняга зычнага асновы,

і ў характары флексіі (прыклады тыпу: *на лу́зе, на сто́зе*: *на лугу́, на стагу́*; карта № 74). Падобнае адзначалася раней і пры іншых зычных асновы (прыклады тыпу: *на дварэ́, на двару́*; карта № 76; *на канцы́, на ключы́*: *на канцу́, на ключу́*; карта № 77; *на пні*: *на пню*; карта № 78; *аб сы́ну, пры бра́ту*: *аб сы́не, пры бра́це, аб сва́це*; карта № 79). Са звестак ДАБМ вынікала, што варыянтнасць у назоўніках з розным канцавым зычным асновы не з'яўлялася тыповай для ўсіх мясцовых гаворак раёна. Яна была зафіксавана ў асобных з абследаваных на той час вёсках. Прычым, ужыванне аднаго з канчаткаў не з'яўлялася пераважным. Мела месца іх суіснаванне.

У сённяшнім маўленні істотная варыянтнасць характэрна для групы субстантываў I тыпу скланення пры аснове на няпарны цвёрды і на заднеязычны зычны. Найбольшай колькасцю варыянтных флексій характарызуюцца назоўнікі жаночага роду ў форме давальнага і меснага склонаў адзіночнага ліку. Так, пры зыходзе асновы на заднеязычны выбар канчатка залежыць ад націску. Пры акцэнтаванай флексіі ўжываецца *-э* (*-е*), пры націску на аснове – ***-ы***. Але, акрамя выпадкаў рэалізацыі традыцыйных для гэтай формы канчаткаў, у сучасным маўленні выяўлены таксама словаформы тыпу *к Па́ске*. Іх, відавочна, нельга аднесці да ўласнадыялектных. І хоць у дадзеным ідыялекце яны адзінкавыя, тым не менш дзякуючы іх наяўнасці пашыраецца рэпертуар марфалагічных сродкаў мясцовага маўлення. У групе назоўнікаў з мяккай асновай мае месца флексія ***-і***. Фактычна такім жа быў колькасны склад канчаткаў і іх размеркаванне згодна з тыпам асновы і характарам акцэнтнай парадыгмы ў назоўніках жаночага роду ў давальным і месным склонах адзіночнага ліку ў мінулым (прыклады тыпу: *к дузе́, кназе́, на дузе́, на назе́*; карта № 65; *на рацэ́, аб дачцэ́*; карта № 66; *к сцяне́, на сцяне́*; карта № 67; *на мяжы́, у дзяжы́, на шашы́*; карта № 68).

У форме творнага склону адзіночнага ліку іменных часцін мовы ўжываюцца аднаскладовыя тыпу ***-ой*** (***-ёй***), ***-ай*** (***-яй***) і двухскладовыя тыпу ***-ою*** (***-ёю***), ***-аю*** (***-яю*** (флексія ***-яю*** магчыма, але ў тэксце не ўстаноўлена) канчаткі. Аднак для сучаснага маўлення найперш характэрна выкарыстанне аднаскладовага канчатка, двухскладовыя флексіі па колькасці фіксацый неістотныя. Тып аднаскладовага канчатка ў сучасным маўленні залежыць ад якасці націскнога галоснага і характару асновы (прыклады тыпу: *сцяно́ю*: *сцяно́й, мяжо́ю*: *мяжо́й, ха́таю*: *ха́тай, ві́шняю*: *ві́шняй*: *ві́шней*; адпаведна карты № 69–72; *з маладо́й*: *з маладо́ю*; карта № 125; *за но́ваю*; карта № 126; [*йой*]: [*йо́йу*]: [*йе́йу*]; карта № 132). Заўважым: як і сёння, раней таксама мелі месца адзінкавыя ў межах рэгіёна выпадкі ўжывання двухскладовай флексіі. Выкарыстанне яе было характэрна для вёсак, размешчаных на паўднёвай ускраіне раёна. Але ўсе зафіксаваныя двухскладовыя формы выкарыстоўваліся паралельна з аднаскладовымі. Інакш кажучы, у мінулым у цэлым для раёна прадуктыўнай з'яўлялася менавіта аднаскладовая флексія. Сучаснае маўленне адрозніваецца таксама і якасцю націскнога/ненаціскнога галоснага ў складзе канчатка. Паводле ДАБМ пры мяккім зычным асновы пры наасноўным націску былі адзначаны формы тыпу *ві́шней*. У асабовага займенніка жаночага роду ***яна*** ў форме творнага склону ў складзе флексіі былі выяўлены націскныя галосныя ['о] і ['е]. Дарэчы заўважыць, што найбольшая варыянтнасць і па якасці націскнога галоснага, і па колькаснаму складу канчатка ў мінулым была характэрна якраз для гэтай формы займенніка. У адрозненне ад папярэдняга часу сучасная гаворка па рэалізацыі акцэнтаванага галоснага выглядае аднастайна. Сёння пад націскам зафіксаваны толькі галосны ['о]. Такім чынам, можна заўважыць, што ў сучасным маўленні дзейнічае тэндэнцыя да пазбаўлення двухскладовых канчаткаў і замена іх аднаскладовымі, а таксама адбываецца ўніфікацыя формы па характары націскнога флексійнага галоснага.

Сярод субстантываў у форме множнага ліку асаблівай увагі заслугоўвае форма назоўнага і вінавальнага склонаў. Іх адметнасць у мясцовым маўленні выяўляецца ў наяўнасці варыянтных канчаткаў. Тыповым для ўсіх трох родаў з'яўляецца тут канчатак ***-ы*** (***-і***), малую прадуктыўнасць мае флексія ***-а*** (***-я***): яна зафіксавана ў адзінкавых выпадках. Але менавіта яе выкарыстанне выклікае найбольшую цікавасць. Ужыванне флексіі ***-а*** (***-я***) у беларускіх гаворках традыцыйна мела марфалагічныя абмежаванні. Яна рэалізоўвалася ў назоўніках ніякага роду з наасноўным і флексійным націскам незалежна ад такіх граматычных катэгорый, як адушаўлёнасць, зборнасць і інш. Словаформы тыпу *вокна́, балата́* з'яўляліся паказальнымі для паўднёва-заходніх гаворак. Зафіксаваныя ў сучасным маўленні назоўнікі з канчаткам ***-а*** (***-я***) як паказчык родавай прыналежнасці назоўнікаў ніякага роду множнага ліку не быў выяўлены) – *хутара́, апя́та, масля́та* – не належаць да субстантываў ніякага роду. Гэта дае падставы меркаваць, што іх ужыванне не абумоўлена марфалагічнымі фактарамі (родам і тыпам скланення), а выклікана калі не прычынамі экстралінгвістычнага характару, то, мабыць, індывідуальнымі схільнасцямі інфарманта. Адсутнасць марфалагічнай маркіраванасці ў формах тыпу *хутара́, апя́та* дазваляе лічыць іх інавацыйнымі. Назоўнікі з канчаткам ***-а*** ў назоўным і вінавальным склонах множнага ліку, нягледзячы на іх нязначную прадуктыўнасць, тым не менш пашыраюць рэпертуар традыцыйных канчаткаў гэтых словаформаў, а не ўніфікуюць іх. У мінулым для мясцовых гаворак гэтага рэгіёна таксама была характэрная полiварыянтнасць у форме назоўнага і вінавальнага склонаў множнага ліку, але яна ў адрозненне ад сучаснага маўлення была граматычна дыферэнцыяванай. Так, назоўнікі мужчынскага роду ў назоўным склоне множнага ліку пры флектыўным націску ўжываліся з канчаткамі ***-ы*** (***-і***) і ***-э*** (***-е***) (прыклады тыпу: *сталы́, дубы́, лугі́, бакі́*: *сталэ́, дубэ́, луге́, баке́*; карта № 95; *кавалі́, нажы́*: *кавале́, нажэ́*; карта № 96). Іх выкарыстанне, калі кіравацца матэрыяламі ДАБМ, не мела тэрытарыяльнага размежавання. Не было яно таксама абумоўлена прыналежнасцю назоўнікаў да пэўнай лексіка-граматычнай групы. Наогул варыянтныя

формы адзначаліся як у паўночнай, так і паўднёвай частках раёна. У тагачаснай гаворцы з усёй сукупнасці флексій – ***-ы*** (*-і*) і ***-э*** (*-е*) – выступала асобная з іх як адзіная для словаформы ці яны суіснавалі як варыянтныя. Такая ж варыянтнасць была ўласціва і назоўнікам ніякага роду (прыклады тыпу: *сёлы*, *гнёзды* і інш.: *сёла*, *гнёзда* і інш; карта № 97). Але ў параўнанні з субстантывамі мужчынскага роду формы ніякага роду з флексіяй ***-а*** (***-я***) былі вядомы толькі ў вёсках паўднёвага кірунку. Яны таксама мелі альтэрнатыўныя варыянты. У адрозненне ад словаформы тыпу *сёла*, словаформа *бало́та* наогул не была зафіксавана ў тагачасным маўленні. У жаночым родзе ў назоўным склоне множнага ліку канчаткам ***-ы*** (*-і*) былі ахоплены па сутнасці ўсе субстантывы. Толькі ў адным населеным пункце былі выяўлены формы з канчаткам ***-е*** (прыклады тыпу: *дзе́ўкі*, *ху́сткі*: *дзе́ўке*, *ху́стке*). Такім чынам, у мінулым у гэтым тыпе маўлення мела месца складанае ўзаемадзеянне некалькіх груп канчаткаў у назоўніках назоўнага склону множнага ліку, іх рэалізацыя прадвызначалася найперш родавай прыналежнасцю назоўнікаў, у меншай ступені яна залежала ад характару зычнага асновы. З улікам наяўных тэкставых ілюстрацый можна б было выказаць меркаванне, што ў сучасным маўленні ў дадзенай словаформе мае месца ўніфікацыйны працэс, паколькі паказчык родавай прыналежнасці назоўніка не абумоўлівае выбар адпаведнага канчатка. Аднак такую інфармацыю з-за абмежаванай колькасці запісаў варта лічыць папярэдняй. Дастаткова адметным па прычыне наяўнасці варыянтных канчаткаў выглядае ў сучасным мясцовым маўленні родны склон назоўнікаў множнага ліку. Згодна з тэкставымі ілюстрацыямі сёння ў маўленні фактычна захоўваецца размежаванне канчаткаў па родаваму прынцыпу. Так, для назоўнікаў мужчынскага роду II скланення тыповым з'яўляецца канчатак ***-оў*** (***-аў***), ужыванне якога рэгламентавана націскам і характарам асновы (параўн. формы: *бурако́ў*, *гасьці́нцаў*, *парці́занаў*), пры іншым зыходзе зычнага асновы маюць месца ўтварэнні тыпу *дней*, *людзе́й*. Прыкладна такім жа было размеркаванне флексій для гэтай групы назоўнікаў і ў сярэдзіне мінулага стагоддзя (прыклады тыпу: *дней*, *дзён*; карта № 100). Для назоўнікаў жаночага роду характэрны формы з нулявым канчаткам. Нулявы канчатак выяўлены ў субстантаваў за збегам зычных у аснове, апошні з якіх ***-к***, як, напрыклад: *трох мі́сак*, *бу́лак*. Наконт характару флексіі ў назоўніках жаночага роду з іншым тыпам асновы, а таксама ніякага роду сказаць нешта дакладнае немагчыма, паколькі ў запісе былі выяўлены толькі адзінкавыя прылады. У мінулым, па сведчанні ДАБМ, назоўнікі на ***-а*** (***-я***) характарызаваліся паралельным суіснаваннем утварэнняў з нулявым канчаткам і канчаткам ***-аў*** (прыклады тыпу: *хат*, *сцен* і г. д.: *ха́таў*, *сце́наў* і г. д. карта № 100). Разам з тым, грунтуючыся на рэпрэзентаваным матэрыяле, можна зрабіць адназначную выснову: экспансіі канчатка назоўнікаў мужчынскага роду на назоўнікі жаночага роду ў форме роднага склону множнага ліку ў маўленні гэтага рэгіёна не адбываецца. Сфера ўплыву канчатка ***-оў*** (***-аў***) распаўсюджваецца пераважна на катэгорыю назоўнікаў мужчынскага роду.

Адносна канчаткаў іншых словаформаў множнага ліку заўважым наступнае. У творным склоне множнага ліку ў сучасным маўленні зафіксаваны формы з канчаткам ***-амі*** (***-ямі***). Такая ж флексія была тыповай, больш прадуктыўнай і тэрытарыяльна пашыранай у мінулым. Але згодна з даўнейшымі запісамі ў кірунку на ўсход ад Бабруйска гаворкам былі вядомы таксама ўтварэнні на ***-мы***. Гэты канчатак з цвёрдым зычным у яго складзе выступаў ці як адзіны паказчык формы творнага склону, ці суіснаваў як варыянтны. Па прасторавых асаблівасцях пашырэння канчатка ***-ах*** (***-ях***) у форме меснага склону множнага ліку няма ніякай розніцы ў параўнанні з тэрыторыяй распаўсюджання канчатка ў форме творнага склону множнага ліку. У адрозненне ад сучаснага маўлення ў мінулым мела месца розніца ў колькасным складзе канчаткаў меснага склону: сістэма націскных канчаткаў меснага склону раней была больш багатай і разнастайнай. Акрамя націскной флексіі ***-ах*** (***-ях***), тут у гаворках паўднёвай лакалізацыі была зафіксавана флексія ***-ох*** (прыклады тыпу: *у ляса́х*: *у лясо́х*; карта № 105), але як варыянтная да больш пашыранай і тыповай у рэгіёне флексіі ***-ах*** (***-ях***). Формы на (***-ёх***) і на той час не былі выяўлены нават на паўднёвай ускраіне раёна (прыклады тыпу: *аб людзёх*, *у грудзёх*; *у санёх*, *у гасцёх*, *у лапцёх*, *у сянёх*; карта № 106). Такім чынам, ужо ў сярэдзіне мінулага стагоддзя ў тагачасным маўленні прадуктыўнымі былі менавіта субстантывы з націскной флексіяй ***-ах*** (***-ях***). Вар'іраванне акцэнтаванага галоснага ў складзе канчатка было неістотным і распаўсюджана абмежавана. Таму магчыма, што ўтварэнні з ***-ох*** выцесніліся формамі на ***-ах***, і на сённяшні дзень варыянтнасць за кошт вар'іравання націскнога галоснага сапраўды страчана ў сучасным маўленні. Аднак такое меркаванне папярэдняе з-за недастатковай колькасці запісаў з розных куткоў раёна.

У сістэме змянення прыметніка ў сучасным маўленні пры супастаўленні парадыгмаў яго скланення з сярэдзінай мінулага стагоддзя фактычна адсутнічаюць нейкія адметныя мадэлі іх скланення. Пэўныя асаблівасці датычацца асобных падпарадыгмаў, а найперш асобных склонавых формаў у іх межах. Усе адрозненні, якія ўстаноўлены на аснове ілюстрацыйных формаў з тэкставых запісаў, абумоўлены ў першую чаргу з'явай варыянтнасці. Так, для меснага склону адзіночнага ліку ў мінулым былі характэрны тры варыянты націскнога канчатка – ***-ым***, ***-ім***, ***-ом***. Пры чым, канчатак ***-ом*** меў альтэрнатыўны варыянт, ён суіснаваў у тагачаснай гаворцы паралельна з ***-ым***, аднак ніколі не фіксаваўся як адзіны для формы меснага склону. Не адзначаўся ён і ў ненаціскной пазіцыі з лабіялізаваным галосным [у] у сваім складзе (прыклады тыпу: *у жо́ўтым*: *у жо́ўтум*; карта № 118). У гэтым выпадку адзінкава мелі месца формы тыпу ў ***жо́ўтам***. У сучасным маўленні ўтварэнні на ***-ом***, а таксама на ***-ам*** не выяўлены.

Нязначным адрозненнем склонавых формаў прадстаўлена таксама парадыгма прыметнікаў жаночага роду. Так, прыметнікі жаночага роду ў родным, давальным, творным і месным склонах адзіночнага ліку маюць аднолькавыя канчаткі – ***-ой*** (***-ёй***), ***-ай*** (***-яй***). Адрозненні ў іх ужыванні абумоўліваюцца тыпам асновы і характарам націскнога/ненаціскнога галоснага. Аднак нягледзячы на наяўнасць сінкрэтычных канчаткаў, для формаў роднага, давальнага, творнага і меснага склонаў адзіночнага ліку прыметнікаў, сярод іх вылучаецца форма роднага склону. Яна, акрамя аднаскладовага, мае двухскладовы ненаціскны канчатак ***-ае*** і акцэнтаваны ***-ея*** ў становішчы пасля заднеязычнага, як у выпадку *дзе яке́я травы́*. Утварэнні з двухскладовымі флексіямі, акцэнтаванай і неакцэнтаванай, у форме роднага склону адзіночнага ліку фіксаваліся і ў мінулым. Пры гэтым яны адрозніваліся характарам націскнога галоснага (прыклады тыпу: *маладо́й дзе́ўкі*: *маладо́е дзе́ўкі*: *малады́е дзе́ўкі*; карта № 119). Праўда, формы тыпу *маладо́е дзе́ўкі* і *малады́е дзе́ўкі* у маўленні ў межах раёна на той час выступалі як адзінкавыя па распаўсюджванні. Як безальтэрнатыўны варыянт з двухскладовай флексіяй ***-ое*** прыметнікі былі вядомы толькі ў адным населеным пункце (566). Поліварыянтныя формы, дзе існавалі ў якасці паралельных усе тры тыпы канчатка, таксама мелі кропкавае пашырэнне (н. п. 856). Падобнае размеркаванне канчаткаў з боку іх лакалізацыі ў раёне ў ад'ектываў роднага склону адзіночнага ліку было выяўлена і ў ненаціскной парадыгме (прыклады тыпу: *но́вай ха́ты*: *но́вае ха́ты*; карта № 120). Аднак адносна ўтварэнняў на ***-ае*** ў каментарыі (н. п. 855) адзначаецца, што «пры апытанні высвятляецца, што можна сказаць і *хало́днае вады́*» (с. 568). Такім чынам, змест заўвагі ўказвае на тое, што ў мінулым формы тыпу *но́вае ха́ты* былі факультатыўнымі, не з'яўляліся ўстойлівымі і не вызначаліся актуальнасцю па ўжыванні. Меркаваць пра ранейшую вядомасць формаў тыпу *яке́я травы́* цяжка: утварэнні на ***-е́я*** з заднеязычным зычным асновы ў матэрыялах атласа не адлюстраваны. Відавочна адно: пераважная рэалізацыя ў сучасным маўленні формаў прыметнікаў жаночага роду роднага склону адзіночнага ліку з аднаскладовым канчаткам сведчыць пра выраўноўванне парадыгмы жаночага роду па колькасным складзе канчатка і высокую ступень сінкрэтызму, характэрную для дадзенага варыянта скланення прыметнікаў у супрацьлегласць парадыгме мужчынскага і ніякага роду. Пэўная спецыфіка, характэрная для парадыгмы прыметнікаў жаночага роду, выяўляецца таксама ў проціпастаўленасці па канчатку формаў назоўнага і вінавальнага склонаў адзіночнага ліку. Для формы назоўнага склону ўласцівы канчатак ***-ая*** (***-яя***), для вінавальнага – ***-ую*** (***-юю***). Аднак абедзве гэтыя формы ў ненаціскным варыянце скланення, акрамя двухскладовага канчатка, маюць аднаскладовыя. У сучасным маўленні, як тое было ўстаноўлена і ў папярэдні час, формы з аднаскладовым канчаткам колькасна неістотныя (прыклады тыпу: *но́вая*: *но́ва*; карта № 113). Аднак пры вывучэнні гэтай тэрыторыі ў мінулым тут адзінкава былі выяўлены формы тыпу *но́ваа*. Сёння вымаўленне нясцягнутага канчатка з выпадзеннем [j] ужо не фіксуецца. Падобны лёс у адносінах да ступені тэрытарыяльнага пашырэння, да частотнасці ўжывання аднаскладовага канчатка ***-у*** (***-ю***) і двухскладовага тыпу *но́вуу*, *бе́днуу* (н. п. 855; каментарыі с. 572) характарызуе форму вінавальнага склону. Аднаскладовая флексія сёння выступае ў маўленні, аднак нельга сказаць, што варыянты на адзін галосны ***-у*** (***-ю***) з'яўляюцца дыферэнцыяльнымі для гаворкі. Акрамя таго, у матэрыялах ДАБМ у паўночным кірунку ад Бабруйска ў мясцовых гаворках адзінкава адзначаліся формы з галосным гукам ***-а*** ў складзе двухскладовага канчатка, тыпу *но́ваю*. Такія словаформы ў якасці дублетных суіснавалі з іх больш актуальнымі ў тагачасным маўленні і тыповымі ненаціскнымі варыянтамі на ***-ую***. У сучаснай гаворцы яны не зафіксаваны, аднак засведчана як адзінкавае ўтварэнне *трэ́цію па́рцію*. Падаецца бясспрэчным, што наяўнасць гука [і] у гэтым варыянце адлюстроўвае ўплыў суадноснай з ім формы назоўніка: супадзенне канцавой часткі двух слоў відавочнае. Але ў форме *трэ́цію* можна ўбачыць найперш дэлабіялізацыю галоснага гука ['у], калі браць за аснову нарматыўны варыянт яе функцыянавання.

Такім чынам, у адносінах да парадыгмы скланення прыметнікаў жаночага роду можна заўважыць, што аднаскладовы ненаціскны канчатак мае тэндэнцыю стаць універсальным для формы роднага, давальнага, творнага і меснага склонаў, а двухскладовы быць адзіным у назоўным і вінавальным склонах. Іншыя тыпы і варыянты канчаткаў, а гэта гістарычна першыя двухскладовыя флексіі, сёння ў родным склоне колькасна неістотныя. Зусім не выяўлены ў сучасным маўленні двухскладовыя нясцягнутыя канчаткі з адсутнасцю [j] у назоўным і вінавальным склонах. У формах назоўнага і вінавальнага склонаў засведчаны аднаскладовыя, але яны тэрытарыяльна не распаўсюджаныя і нечастотныя па ўжыванні. Усе пералічаныя вышэй асаблівасці ў рэалізацыі флексій прыметнікаў жаночага роду адзіночнага ліку адлюстроўваюць тэндэнцыю на затуханне.

Адносна скланення прыметнікаў у форме множнага ліку заўважым: паміж сістэмай флексій, якія ўжываліся ў маўленні сярэдзіны мінулага стагоддзя і рэалізуюцца у сучасным, істотных адрозненняў не існуе. Пэўныя адрозненні датычацца варыянтаў рэалізацыі асобных гукаў у складзе флексій ці тыпу флексій. Так, у адпаведнасці з тэкставымі прыкладамі, на сёння тыповым канчаткам прыметнікаў у форме назоўнага склону множнага ліку выступае канчатак ***-ые*** (***-іе***). Адзінкава засведчаны таксама формы тыпу *таке́е сы́рнікі*. У мінулым у гэтым тыпе маўлення для формы назоўнага склону множнага ліку прыметнікаў і граматычна суадносных з імі іншых часцін мовы паводле звестак ДАБМ было характэрна суіснаванне націскных і ненаціскных флексій ***-ыя*** (***-ія***), ***-ые*** (***-іе***) (прыклады тыпу: *малады́я* (*е*); *но́выя ха́ты*; *ты́я* (*ты́е*); адпаведна карты № 127, 128; 138). Акрамя таго, у ненаціскным канчатку ў якасці адзіна ўжывальнай таксама была зафіксавана форма тыпу *но́вы*

*хаты*. Як забяспечвальны сродак маўлення яна функцыянавала на паўднёвай ускраіне раёна і была адзначана ў адным н. п. Сёння ўтварэнні, дзе б назіралася фанетычнае спрашчэнне, прынамсі сцяжэнне галосных у складзе флексіі множнага ліку ад'ектываў, а тым самым фармальнае выраўноўванне па канчатку формы прыметніка на ўзор адпаведнай формы назоўніка, адсутнічаюць. Не выключана, што словы з атрыбутыўнай функцыяй з аднаскладовым канчаткам у форме множнага ліку назоўнага склону наогул не функцыянуюць у сучасным маўленні, паколькі і раней утварэнні з такім канчаткам з'яўляліся вузкалакальнымі па распаўсюджанні і непрадуктыўнымі па ўжыванні. З іншых формаў прыметнікаў множнага ліку неістотныя асаблівасці характэрны для творнага склону. Яны датычацца якасці зычнага ў складзе двухскладовай флексіі ***-ымі*** (***-імі***). Сучаснаму маўленню характэрны толькі адзін варыянт зычнага гука – мяккі [м]. У сярэдзіне мінулага стагоддзя ў адным н. п. раёна, які знаходзіцца ў напрамку на ўсход адносна Бабруйска, былі вядомы формы на ***-ымы***. Яны функцыянавалі ў якасці альтэрнатыўнага варыянта да агульнаўжывальных формаў з канчаткам ***-ымі*** (***-імі***). Тым самым прыметнікі, як і адпаведныя назоўнікі, у творным склоне множнага ліку паводле якасці зычнага гука ў складзе канчатка цалкам маюць уніфікаваны характар і карэлююцца паміж сабой. Такім чынам, згодна з вынікамі аналізу асобных формаў з парадыгмы скланення прыметнікаў множнага ліку можна заўважыць: сучасную сістэму канчаткаў вызначае тэндэнцыя да аднастайнасці ў рэалізацыі канчаткаў наогул і асобных кампанентаў у іх складзе. У мінулым сістэма флексій была больш разнастайнай, хоць у максімальнай колькасці формаў была вядома на вельмі абмежаванай тэрыторыі.

Пры аналізе асаблівасцей дзеяслоўнага словазмянення выяўляецца, што ў занатаваным ідыялекце маўлення вельмі выразна прасочваецца дыферэнцыяцыя дзеясловаў на тыпы спражэння. Гэта адрозненне забяспечваецца галосным, які выступае ў складзе канчатка. Так, у дзеясловах І спражэння незалежна ад характару націску – дафлексійны ці флексійны – у канчатку ці яго складзе вымаўляюцца галосныя [е ('е)], [а], у асобных формах рэалізуецца націскны гук [о]. У асабовых формах дзеясловаў ІІ спражэння дыферэнцыяльным кампанентам флексіі выступае галосны [ы ('і)]. Падобнае размеркаванне дзеяслоўных абазначальных сродкаў з'яўляецца ў гэтым тыпе маўлення, натуральна, невыпадковым. Вышэй адзначалася, што ў фанетычным ладзе мясцовай гаворкі ў сістэме вакалізму ў занаціскных складах у становішчы пасля парных мяккіх зычных захоўваецца адрозненне гукаў [о] і [е]. Відавочна, дзякуючы такой вызначальнай асаблівасці мясцовага вакалізму тут мае месца і адрозненне дзеясловаў па тыпах спражэння. Заўважым, што ў тэкставых ілюстрацыях прыклады змешвання галосных у канчатку дзеясловаў І спражэння ў 2-й асобе адзіночнага і множнага ліку, а таксама ў 3-й асобе адзіночнага ліку па сутнасці адзінкавыя. Няма ніякай блытаніны і ў 3-й асобе множнага ліку. Практычна апошняе азначае, што дзеясловы І спражэння ў гэтай словаформе не аказваюць уплыву на дзеясловы ІІ спражэння, адпаведна і не адбываецца замены флексіі ***-аць*** (***-яць***) на ***-уць*** (***-юць***). Усе флексіі ў мясцовым маўленні выступаюць не толькі як размежаваныя ў адпаведнасці з тыпам спражэння, але таксама захоўваюць мяккі зычны [ц] у складзе канчатка. Якраз такое ж размеркаванне флексій у гэтай асабовай форме мела месца і ў мінулым (прыклады тыпу: [*мéл'уц'*], [*кóл'уц'*], [*кáжуц'*], [*дрэ́мл'уц'*], [*сы́пл'уц'*]; [*хóz'ац'*] ([*хóд'ат*]), [*нóс'ац'*] ([*нóс'ат*]), [*кóрм'ац'*] ([*кóрмл'ат*]); адпаведна карты № 156, 157). Праўда, паводле матэрыялаў ДАБМ вынікае, што ў форме 3-й асобы множнага ліку адзінкава былі адзначаны і словаформы са змешваннем тыпу спражэння, аднак яны суіснавалі як варыянтныя. Адсутнасць тэкставых ілюстрацый з цвёрдым зычным у складзе флексіі сведчыць пра ўстойлівасць марфалагічных сродкаў маўлення ў сістэме дзеяслоўнага спражэння. Тым самым яны выступаюць паказчыкам захавання той дыялектнай традыцыі, як гэта было ў папярэдні час (прыклады тыпу: *ідзé* (*ідэ́*); *бярэ́* (*бэрэ́*), *нясé* (*нэсэ́*) і інш.; карта № 148; *кáжа*, *мéле*, *грэ́е*; карта № 149; ён [*хóz'иц'*] ([*хóд'ит*]), [*нóс'иц'*] ([*нóс'ит*]), [*вóз'иц'*] ([*вóз'ит*]); карта № 153).

Аналіз сінтаксічных сродкаў на ўзроўні словазлучэнняў ці сінтаксічных канструкцый дазволіў устанавіць, што ў ***галіне сінтаксісу*** ў сучасным маўленні насельнікаў гэтага рэгіёна выступаюць шматлікія канструкцыя, значная частка якіх была выяўлена ў мінулым на гэтай тэрыторыі і склала яе тэрытарыяльную адметнасць. Так, вынікі аналізу тэкставых матэрыялаў паказалі, што адметнай канструкцый сучаснага маўлення з'яўляецца выкарыстанне ў функцыі прамога аб'екта адушаўлёных назоўнікаў у форме роднага склону множнага ліку. Праўда, згодна з ілюстрацыямі, такія словазлучэнні ў сённяшнім маўленні ў адрозненне ад папярэдняга часу з'яўляюцца безварыянтнымі (прыклады тыпу: *падаíла карóвы*: *падаíла карóў*; *пагнáў валы́*: *пагнáў валóў*; адпаведна карты № 209, 210). Але, думаецца, што дадзеныя звесткі з-за абмежаванай колькасці інварыянтных запісаў не зусім аб'ектыўныя. Ніякіх істотных адрозненняў у параўнанні з папярэднім часам вывучэння гэтага рэгіёна не існуе і ў выкарыстанні вінавальнага або роднага прамога аб'екта, як у прыкладах тыпу: *знайшóў грыб*: *знайшóў гры́ба* (карта № 211). Функцыянаванне прамога дапаўнення, выражанага неадушаўлёным назоўнікам у форме роднага склону, вытлумачваецца, як вядома, невыразным адрозненнем катэгорыі адушаўлёнасці/неадушаўлёнасці ў мясцовых беларускіх гаворках. Істотных змен у гэтым тыпе гаворак у канструкцыях з указаннем на прамы аб'ект не адзначаецца і сёння. Наяўныя тэкставыя матэрыялы дэманструюць адсутнасць канструкцый, дзе б дзеепрыслоўі прошлага часу выступалі ў ролі выказніка, хоць паводле матэрыялаў ДАБМ падобны тып выказніка быў тыповым і характэрным, за выключэннем аднаго крайняга н. п. у паўднёвай частцы раёна, для ўсёй тэрыторыі (прыклады тыпу: *уся адзéжа* (*былá*) *намóкшы* і інш.; карта № 205). Мабыць,

такі тып прэдыката, хутчэй за ўсё, не тое што наогул не ўласцівы сучаснаму маўленню, ён не зафіксаваны па недахопу фактычнага, і найперш сістэматызаванага, праграмным чынам сабранага матэрыялу. З іншых прэдыкатных канструкцый зараз у маўленні шырока ўжываецца іменны выказнік з назоўнікам у форме творнага склону без прыназоўніка, хоць у мінулым дадзены тып прэдыката вызначаўся шматварыянтнасцю, абумоўленай граматычнай формай назоўніка, адсутнасцю/наяўнасцю прыназоўніка і яго характарам (прыклады тыпу: *вучы́цца на до́хтара*: *вучы́цца за до́хтара*: *вучы́цца до́хтарам*; карта № 212). З ліку агульнай колькасці папярэдне ўстаноўленых выказнікавых канструкцый на тэрыторыі раёна найбольш прадуктыўнымі з'яўляліся *вучы́цца на до́хтара* і: *вучы́цца за до́хтара*.

Сярод найбольш распаўсюджаных тыпаў прыназоўнікавых канструкцый, характэрных для сучаснага маўлення, – гэта канструкцыі, утвараныя па мадэлі «дзеяслоў + к + назоўнік», якія маюць аб'ектнае або часавае значэнне, тыпу *е́дуць к няве́сьце* або часавае: *к Каля́дам... далжна́ быць*. Канструкцыі аб'ектнага тыпу з прыназоўнікам ***к*** у сваім складзе ў сучасным маўленні функцыянуюць як безальтэрнатыўныя. Такімі ж распаўсюджанымі і безварыянтнымі былі яны і ў ранейшы час (прыклады тыпу: *пайшо́ў да ба́цькі*: *пайшо́ў к ба́цьку*; карта № 217). Тыповай для сучаснага маўлення з'яўляецца таксама канструкцыя з прыназоўнікам ***па*** ў спалучэнні з назоўнікам у форме меснага склону множнага ліку, што мае лакатыўна-размеркавальнае значэнне, напрыклад: *па царквя́х*. Зафіксавана ў сучасным маўленні і мноства іншых пераважна прыназоўнікавых канструкцый як для выражэння аб'ектных адносін, так і часавых, прасторавых, аб'ектна-мэтавых, аб'ектна-прасторавых і інш. Большасць з іх – гэта агульнавядомыя ў беларускім дыялектным маўленні канструкцыі, асобныя па тэрытарыяльнай прыналежнасці, відаць, лакалізаваныя, але сёння яны з'яўляюцца функцыянальна актыўнымі ў гаворцы.

Адносна моўных асаблівасцей ***у галіне лексікі*** заўважым наступнае. У мясцовым маўленні наваколля Бабруйска захоўваецца істотны пласт слоў, у якіх адлюстроўваецца агульнанацыянальная моўная спецыфіка. Шматлікія з такіх лексем з'яўляюцца дыферэнцыяльнымі ў гаворцы, а таксама нарматыўнымі ў сучаснай беларускай літаратурнай мове. Але разам з тым, калі прымаць да ведама тэкставыя ілюстрацыі, відавочна, што ў паўсядзённы ўжытак насельнікаў раёна ўвайшло многа новых слоў. Яны ў маўленчай практыцы ўжываюцца не толькі для абазначэння новых рэалій, але ў якасці варыянтных эквівалентаў таксама выкарыстоўваюцца замест традыцыйных мясцовых абазначальных сродкаў. Корпус гэтых лексічных інавацый няўласнабеларускі. Апошняе выступае сведчаннем адсутнасці найперш непасрэднага і апасродкаванага кантактаў з кадыфікаванай формай нацыянальнай літаратурнай мовы. Непрысутнасць літаратурнамоўных беларускіх сродкаў у мясцовых гаворках – гэта таксама і прамы паказчык афіцыйнай дзяржаўнай палітыкі, арыентаванай на прыярытэтны статус рускай мовы як у нацыянальна-адукацыйнай сферы, так і ў інфармацыйнай і камунікатыўнай прасторы Беларусі наогул. На падставе тэкставых прыкладаў можна зазначыць, што падобны статус рускай мовы яшчэ не прывёў да істотных фанетыка-фаналагічных зрухаў і марфалагічных змен у структурным уладкаванні мясцовай, як, зрэшты, і іншых беларускіх, гаворак. У гаворцы адаптацыя інавацый адбываецца цалкам па правілах дыялектнай сістэмы. Калі ў адносінах да граматычнай сістэмы гаворкі яшчэ можна гаварыць пра адсутнасць яе трансфармацыі, то, характарызуючы лексічны склад, варта заўважыць наступнае. У лексічную структуру гаворак уліваюцца новыя словы, звязаныя як з новымі формамі земляробства, жывёлагадоўлі, побыту, так і з іншымі галінамі жыццядзейнасці вяскоўцаў. Улічваючы формы адаптацыі новых засваяльных слоў да граматычнай структуры гаворкі, канцавым прадуктам увасаблення якіх з'яўляюцца лексічныя гібрыдныя ўтварэнні, можна зазначыць, што лексічны ўзровень традыцыйнай мясцовай гаворкі набывае спецыфічную форму, узбагачаючы свой фонд за кошт сродкаў пераважна іншамоўнай сістэмы.

*Падрыхтавала В. М. Курцова*

*В. І. Крупко*

## ТЭКСТЫ З ГЛУСКАГА РАЁНА

***Расказвае Л. Г. Васілеўская, 1934 г. н. (ураджэнка в. Заполле Глускага раёна), адукацыя пачатковая***; *запіс зроблены ў в. Карніца ў 2009 г.*

Ро́дам із Запо́льля с-пат Глу́ска. Пат Глу́скам Запо́льле, тут два Запо́льлі, дак адно́ Гаратко́ўскае сюда́ (Гарадо́к), а я Глу́скага Запо́льля радзі́лася [там]. Дзе́-та дваро́ў во́сімдзісят было́, а ў Карні́цу прышла́ чуць ме́ншая [вёска], і ў нас як бы культурне́йша была́, як-ні́як пат Глу́скам. Як гавары́лі

э́тые карні́цкіе, як я прышла́: о, падме́ськая. Падме́ськая: Глуск – э́та мясьце́чка. Падме́ськая, я ўжо была́ як бы культурне́йшая. У два́ццаць гадо́ў вы́шла за́муш, а пражыла́ ж ужэ́ се́мсят пяць, ото́.

## Пра маладосць і каханне

Быў ў мяне́ кавале́р да а́рміі. А ў ва́рмію тады́ ш хадзі́лі ўжэ дзе́-та ў два́ццаць гадо́ў. Як дзевятна́ццаць, у два́ццаць – так забіра́лі. Цяпе́р у семна́ццаць, а тады́ старэ́йшых забіра́лі, у мае́ гады́. Гуля́ла я зь ім до́ўга – тры гады́. А йе́ты прыхо́дзіў, у яго́ былі́ ро́дственьнікі́ ў Запо́льлі. Я яму́ нра́вілася, ён хадзі́ў за мно́ю. Той правядзе́ мяне́ дадо́му ве́чарам, ён ужэ́ ні тро́гае, а у́трам перасьпі́ць, пры́дзя гуля́ць ка мне. Пато́м у ва́рмію пашо́ў і той, і той, аба́два пашлі́. А пато́м е́ты ўпе́рат прышо́ў і стаў хадзі́ць, і стаў хадзі́ць, і стаў хадзі́ць... Я ні хаце́ла, мо́жна сказа́ць, і ні любі́ла, штоб любі́ла, но яго́ сі́льна расхвалі́лі. На Карні́цы э́та быў са́мы пачо́тны жані́х. Не́шта тако́е па мо́ладасьці, зна́еш, які́е э́та шчэ гады́ – дзевятна́ццаць, двацáты год. І вы́шла я за яго́. Але, е́сьлі чэ́сна, дак усю́ жызь таго́ любі́ла. І ён мяне́ – і зна́ю. Так палучы́лася, наве́рна судзьба́.

У Карні́цу прышла́, дзярэ́ўня така́я – дзе-та хат се́мдзесят было́, у ка́ждай ха́це па п'яць дзяце́й было́, па чаты́ры, па п'яць. Стабі́льные се́м'і – ба́цька, ма́ці, пя́цера дзяце́й, сем душ, шэсць душ. А ён быў адзі́н у ма́церы, два, дваі́х, дак адзі́н у Глу́ску ўжо́ жана́ты быў, ста́ршы брат. На то́е ўрэ́м'я і багаце́йшы, і пачатне́йшы, і граматне́йшы. Рабо́тала ў Глу́ску, там была́ ў нас арце́ль, называ́лі па-ста́раму СПАТРЫ́, а пато́м перайменава́лі КІМ. Стру́шку там плялі́, ткалі, шля́пы шы́лі з э́тай стру́шкі. Парабо́тала ско́лькі там, пака́ радзі́ла, до дзікрэ́тнага. І ўсё, і се́ла ў э́тай дзярэ́ўні, а ён рабо́таў у Глу́ску ў горсаве́це. Глуск – э́та ўжэ горсаве́т. Жылі́ тут у Карні́цы з ма́цераю. Тро́е дзяце́й радзі́ла, і пражыла́ ўсю жызь.

***

У яго́ ма́церы былі́ яны́ два. І адзі́н брат пам'ёр, тры́ хло́пцы былі́. А ў маі́х бацько́ў было́ тры дзе́ўкі. Дак адна́ то́жа паме́рла, нас дваі́х с сястро́ю. І цяпе́р жыво́м. І жысь пражыла́ ў э́тай Карні́цы, стро́ілася я пато́м пра́ўда. Радзі́ла дзяце́й тро́е, і ме́ншай было́ тры́ гады́, іспалня́лася і я пашла́ (у нас жа э́тат дзетдо́м у Ве́снаве), і я пашла́ у Ве́снаў у дзетдо́м, прарабо́тала тры́ццаць гадо́ў у дзетдо́ме, тры́ццаць гадо́ў прарабо́тала і пашла́ на пе́ньсію. Ужэ́ на пе́ньсіі цяпе́р да ўжэ даўно́. А пато́м ён пам'ёр ужэ́ сем гадо́ў, а здаро́ўе ўжэ ста́ла, зна́еш, паша́тваццa туды́-сюды́, ста́ла даўле́ньне му́чыць. Дзе́ці э́тые на мене́... У мене́ ж і до́ма: і до́мік харо́шы, і ў до́ме ўсё, усё буква́льна, ні ху́жай ў мене́, як о тут у йіх, зімава́ць я ўжо баю́ся, здаро́ўе падво́дзіць адно́, а друго́е – на́да тапі́ць і гру́пку, і печ, і хо́ладна ў ха́це. І адно́й, дый мо́жна сказа́ць, што ў дзярэ́ўні ўжэ німа́ ніко́га, дзе-нідзе́ два чалаве́кі шчэ стары́е жыву́ць, а то ўсе адзіно́кіе, а то це́раз дзьве, це́раз тры ха́ты пусты́е, пусты́е, пусты́е... На зіму́ я прыяжджа́ю сюды́, яна́ [дачка] адна́ жыве́ тут. Ле́там карто́шку се́ю і буква́льна ўсё: і капу́сту, і сьвяклу́, і марко́ўку, і гаро́х, і кукуру́зу, і агурцы́, і памідо́ры. Зака́ткі йе́тые, я назака́тваю за ле́та, дак на зі́му ўсім хвата́е.

Гаспада́рка ўсягда́, шчэ вот ён пам'ёр, дак у мяне́ была́, чаты́ры гады́ я дзяржа́ла, а цяпе́р ужэ́ ўсё, як ужэ́ ста́ла пераяжджа́ць на зі́му сюда́, дак збыла́ ўсё: і каро́ву, і сьві́ньне ўжэ ні ста́ла купля́ць і да́жа кур і ты́е зьвяла́, гаспада́ркі нет, а то і каро́ва, і цялёнка, і сьвіньне́й па чэ́цьвера, па тро́е. Мо́жна сказа́ць і прадава́ла ма́ла, а дзе́ці парасхо́дзіліся, а пе́рвае ўрэ́м'я, зна́еш, ва ўсіх так, э́та не ве́льмі штоп ці дзе́нех мно́га, ці даста́тка, у васнаўно́м на маём. Кабана́ ўб'ю, кілагра́м тры́ста, да, па тры́ста кілагра́м кабаны́ бі́ла, па дзьве́сьце во́сімсят, за тры́ста, дак як уб'ю, дак таза́мі, вёдрамі, мяшка́мі, машы́ны заста́вяць і павёзьлі зь мяне́ о так от. Тады́ друго́га.

## З мясцовай кулінарыі

На мясару́пку, на рэ́ткую таку́ю машы́нку рэ́жаш мя́са, пато́м дабаўля́еш са́ла, пато́м пры-пра́вы ўся́кіе. Кі́шкі пачы́сьціш, памы́еш, пасо́ліш йіх і шчэ со́ды туда́, кап параéла ўсё э́та. Вы́маеш до́бра, і пато́м талка́еш, зь мясару́пкі вынімáеш усé. Таку́ю тру́пку сьпецыя́льную ро-

бяць, і вот э́ту кі́шку адзяе́ш, адзяе́ш, адзяе́ш, адзе́неш усю́ кі́шку на э́ту тру́пку і пато́м мясару́пкаю от ана́ ідзёт, ідзёт, атту́ль выхо́дзіць, выхо́дзіць бы́стра так. Наро́біш калба́с от такі́ во тас. О! Параздае́ш. Сальцісо́н то́жа дама́шні, о́чань уку́сны, тут ужо́ ў сальцісо́н абы́чна абраза́еш дзе таки́е галаві́зну, шку́ркі, са́ла і пато́м мя́са туда́, і пячо́нку, і сялязёнку, і по́чкі. Уну́транасьці ўсе ва́рыш, а пато́м рэ́жаш апя́ць. Ра́ньша, як ні было́ э́тых мясару́бак, дак уручну́ю саўсі́м рэ́залі, а пато́м ужэ́ паяві́ліся мясару́пкі, да ста́лі ўжэ і рашо́ткі таки́е. Цераз э́ту месару́пку перапу́сьціш, апя́ць туда́ прыпра́вы до́бра дасі́. І сальцісо́н, от напіха́еш сальцісо́н, ну жалу́дак э́ты, яго́ то́жа чы́сьцеш, так як і кі́шкі, выскраба́еш, абдзіра́еш, ён з двух слаёў палуча́ецца. Адзі́н слой у като́рам усе́ э́тые было́, э́та выкіда́ецца, а ве́рхні слой ужэ́ напіха́еш. Ён ка́жацца малы́, а піха́еш і піха́еш, э́та ўсе піха́еш, ну о такі́ во зро́біцца. Тады́ ў печ, папячэ́ш э́тае ўсё, тады́ яго́ выніма́еш, ло́жыш на стол ці там до́ска яка́я сьпецыя́льна ці што, ло́жыш і наве́рх до́ску і пато́м кірпі́ч і ка́мень до́бры – пад гнёт. Ён зро́біцца цвёрды, распрамі́цца атту́ль і такі́ цвёрды. Дзе́цям па куску́ і пае́халі. Э́та вабшчэ́ аб'едзе́ньне, укусьня́ціна, свае́ ўсе ўку́снае.

### Пра свой хлеб

Учыня́лі хлеб: ваду́ лілі́ і рабі́лі це́ста на вадзе́, быва́е сыро́ваткі там падлье́ш, у васнаўно́м це́ста на вадзе́, і ста́віш закваску. Яно́ кі́сьне су́ткі-двое, абы́чна астаўля́лі ў дзе́шца заква́ску, а е́сьлі па-сьве́жаму, дак сьве́жаю ро́біш. Яно́ кі́сьне, тады́ ўжэ кі́слым па́хне, тады́ сы́плеш муку́, ім заме́шваеш, тады́ ста́віш на печ, яно́ патхо́дзіць (штоб у цёплам). Абы́чна ж у дзярэ́ўні пе́чы то́пяць, яго́ паста́віш на печ, там шчэ цяпло́ йдзе́, яно́ падо́йдзя, абаб'е́ш, штоб яно́ се́ла наза́т, ішчэ́ рас падо́йдзя, пато́м заме́шваеш ужэ́ па-настая́шчаму, то то́лькі тро́хі падме́сіш, падчы́ніш, а то заме́шваеш па-настая́шчаму і ўжэ каб яно́ тро́шкі пастая́ла, гавары́лі – штоп сьцяну́лася яно́, пашло́ ў рост. Тады́ от, у каго́ фо́рмы былі́, дак у фо́рмы, таки́е фо́рмачкі былі́, а хто на скаваро́тку. А ўпе́рат яшчэ́ ні ў ко́га нічо́га ні было́, дак і вабшчэ́ былі́ таки́е лапа́ты дзерავя́ные з ру́чкамі, што ў печ. От на э́ту лапа́ту, шчэ мая́ ба́ба, я ўжэ на лапа́це не пякла́, а як мая́ ба́ба і ма́ці, дак на лапа́ту ло́жаць ліст арэ́йніка ці вот траву́ ўся́кую рачну́ю, таку́ю ліставу́ю. Траву́ пало́жаць і тро́шкі муко́ю, ляпёшку плёхнуць, абма́жаш вадо́ю, так штоб яна́ блішча́ла ўся. Шчэ ба́ба і крэ́сьцік нарысу́е такі́ на пе́рвай бу́лцэ і ў печ, а ў пе́чы чаро́н, печ до́бра нато́пліваецца, чаро́н зьмята́юць, каб чы́ста была́, і вот туды́ пхнуць. І соў – яна́ з лапа́ты зляці́ць і ўсё, і так пасаджа́юць, пасаджа́юць. Вот цераз два часы́ хлеб гато́ў, красі́вы такі́, паху́чы.

***

Бу́лкі і цяпе́р пяко́м. Бу́лкі – э́та ўжэ на дражджа́х. У́трам уста́ну, малако́ цёплае, быва́е кіпячо́нае, быва́е так ат каро́вы падо́іш, цёплае малако́. Напрыме́р, літр малака выліва́ю ў мі́скі э́тые бальшы́е, та́зік, дро́жджы, каб мя́ккіе яны́. Вот драждэ́й размо́чыш у кру́шцэ у яко́й, туды́ са́хару тро́шкі, вады́ цёплай, яны́ тут ужэ́ і зашумя́ць, туды́ і мукі́ і во разбалта́еш, разбалта́еш, ста́віш на печ. Ста́віш на печ, там літр малака́, ско́лькі на яку́ю сем'ю́ сматра́, ста́віш на печ. На пе́чы яно́ патхо́дзіць апя́ць, э́тае це́ста. Падо́йдзе, яго́ абаб'е́ш. Яно́ шчэ рас падо́йдзя. Тады́ зьніма́еш сь пе́чы і ўжэ тут ма́сла расто́пліваеш, сьмята́ну кі́даеш, штоб уку́сные бу́лкі былі́. Ма́сла расто́пліваеш, льеш туда́, сьмята́ны кі́даеш тро́хі, пато́м маргары́ну па́чку кі́даю, пато́м ванілі́ну па́ру па́чачкаў, а пато́м са́хару, тры-чаты́ры-п'яць, ско́лькі хо́чаш там, ну я абы́чна так, на тры яйцы́. Тры яйцы́ разьбіва́еш туда́ і ўсе э́тае ме́сіш, заме́шваеш. І апя́ць яно́ падышло́ і тады́ ўжэ магу́ пераме́шваць. Цяпе́р саджу́ ў кастру́лькі. Я яго́ ўжэ не пераме́шваю, як яно́ ужо́ падышло́. Я яго́ тады́ бяру́ по́рцыямі і ў кастру́лькі, у кастру́лькі, у кастру́лькі раскіда́ю. Пато́м яйцо́ разьбіва́ю с са́харам, до́бра яго́, штоп шумо́к. Пазагла́джваю, пазагла́джваю э́тые кастру́лькі. І жар то́жа ў пе́чы разграба́еш па бака́х, што́бы яны́ ні пагарэ́лі, штоб так тро́шкі ача́хла, і ста́віш э́тые кастру́лькі ў печ. Вот у кастру́льках сташ́ць, а паднім́аецца, падніма́ецца, падніма́ецца іс кастру́ляк во так от, во тако́й во вышыні́ бу́лкі палуча́юцца. Дак бу́лкі я і цяпе́р пяку́ на Па́ску.

***

Упе́рат, як ні было́ чым, дык цыбу́льнікам [фарбавалі яйкі]. Цыбу́льнік от наабціра́еш і ў цёплу во́ду, ён пастаі́ць су́ткі, тады́ выця́гаеш е́та ўсе скарлу́пкі і ў е́тай вадзе́ пуска́еш, ва́рыш, і такі́е красі́вые кары́чневые яі́чкі палуча́юцца. А цяпе́р жа кра́скі ўся́кае. Асо́бенна ў сі́ні [калі нехта памёр ў сям'і], у жо́ўты, дак і ні было́ жо́ўтай кра́скі, дак се́на. Бра́лі се́на, там абы́чна на дне апада́е шу́мяць, як гаво́раць, сь се́на, дак от э́ту шу́мяць бра́лі і апя́ць-такі́ замо́чвалі (э́та ўжэ як ні хо́чаш кра́сных). Яны́ ўжэ палуча́ліся так зялёна-жо́ўценькіе, зеленава́тые. Выця́гаеш і ў том ва́рыш, яны́ красі́вые палуча́юцца то́жа.

## Традыцыйныя народныя святы

Ко́ляды, дак цяпе́р прыхо́дзілі і сюда́ шчо́дрыкі [у кватэ́ру да дачкі́]. У дзярэ́ўні ме́ншыя, тады́ такі́е кампа́ніі былі́ – ме́ншые дзе́ўкі і бо́льшые, бо́льшые сабе́, ме́ншые сабе́. І адны́ с аднаго́ канца́ займа́юць, а другі́е с друго́га, і шчэ ві́дна, ужэ́ начына́ем хадзі́ць у шчо́дрыка пат ка́ждае акно́ і сьпява́ць шчо́дрыкі і паздраўля́ць. Дава́лі тады́ хто што, хто там ме́лач яку́ю, хто са́ла вы́нясе, хто калбасы́ вы́нясе, хто што... Назьбіра́ем і тады́ ты́е с той староны́, тые с той со́йдамся, дзярэ́ўню або́йдам. Тады́ ўжэ ідо́м у адну́ ха́ту, дзе́лім ужо́ гро́шы, дзе́лім па ско́лькі пападзе́, а йе́тые ўсе заку́скі паядзі́м, паядзі́м і по́йдам гуля́ць.

А хло́пцы, ой, хадзі́лі і ў дзяды́, і ў мядзьве́дзі, і казлы́ хадзі́лі, і зьвязда́ хадзі́ла. Ваабшчэ́ э́та наваго́дняя ноч трына́цатая, вот э́та па-ста́раму, э́та бы́ла наваго́дняя ноч, дак яе́ ніхто́ ніко́лі не спаў. Сяло́ кішэ́ла людзе́й э́тых. Ой, да, ідо́м да ўстрэ́цімся с казла́мі. А э́тые казлы́ ш да мядзьве́дзі, дак кажухі́ папераваро́чваюць да паро́бяць ма́скі такі́е да ўсе, да ка́жацца стра́шна, да нас як пало́вяць, да ў сьнех (а сьнех о такі́ во быў), да ў сьнех паўто́ўптаюць э́тых дзяце́й – дзевачо́к-падро́сткаў, але ўсе раўно́ ве́села было́. Цяпе́р так не, німа́ таго́.

А са зьвяздо́й хадзі́лі. Э́та ўжэ ў нас ні, у дзярэ́ўні зьвязды́ ні было́, а хадзі́лі з Глу́ска. Дак там жа хадзі́лі самастая́цельные. Пры́дуць чаты́ры чалаве́кі, і зьвязда́ така́я вот. І цяпе́р вот я ў целеві́зар ба́чыла: ла́мпачкі, пяціканe̍чная зьвязда́, і ла́мпачкі ўсе неадзіна́кавые. І кру́цяць (яно́ ні зна́ю, як там што прыстро́ена), кру́цяць э́ту зьвязду́, і йе́тые ла́мпачкі блі́скаюць. Ужэ́ ста́лые лю́дзі хо́дзяць, пры́дуць у ха́ту і паздра́вяць акура́тна ўсех. Ім жа больш кане́шна дава́лі, ужэ́ сты́дна, мало́му дасі́ ме́лач там ці што, а ўжэ йе́тым больш плаці́лі.

Дзяды́ і ба́бы пры́дуць – паздраўля́юць, патанцу́юць. Шчэй і цыга́не хадзі́лі, гада́юць. Цыга́не ўжэ падзяю́ць кажухі́ да пазаўвязваюць платкі́, шаліно́ўкі, як гавары́лі, да ка́рты во́зьмуць да панарысо́ўваюцца. Пры́дуць да па-цыга́нскі: да дай пагада́ю. Ду́раць го́лаву поўчаса́, пака́ ім до́бра гарэ́лкі ні паналіва́юць. Тады́ ж гна́лі гарэ́лку, дак свая́ пачці́ ў ка́ждава, дак як назьбіра́юць – мо не́скулькі буты́лак гарэ́лкі насабіра́юць, тады́ іду́ць п'юць, гуля́юць, вечары́нкі спраўля́лі і гуля́лі.

***

Ва-пе́рвых трэ́ба апара́т, а пато́м э́та про́ста: карто́шку ва́рыш і муку́. І вот карто́шка зва́рыцца, яе́ патаўчэ́ш, мукі́ туда́, ішчэ́ кіпятку́ туда́, запа́рыш, каб яна́ пастая́ла, до́бра запа́рылася, а пато́м запа́рыцца. Дро́жджы асо́бенна развo̍дзіш, штоб яны́ зарабо́талі. Са́хару ўсы́плеш, штоб э́тые дро́жджы зарабо́талі. Дро́жджы рабо́таюць, э́тую ўжэ асту́джваеш бра́гу, разво́дзіш, штоб яна́ была́ рэ́ткая така́я. Разво́дзіш, дро́жджы туда́. Яна́ рабо́тае су́ткі-двое́, ішчэ́ быва́е і тро́е так ужэ́. Вы́рабатацца до́брэ, тады́ пастаі́ць дней ско́лькі, атсто́іцца і ў вапара́т. І гарэ́лка – во! Пяршa̍к, што сьпірт ідзе́. Гна́лі і з бурако́ў, такса́ма із бурако́ў. То́лькі мне ка́жацца, што яна́ чуць бурака́мі па́хла, а так такса́ма, а с карто́шкаю прыятне́йшая, чым з бурако́ў.

## Радаўніца

А Ра́даўніцу ў нас про́ста е́дуць на клады́, там абхо́дзяць магі́лкі, чы́сьцяць, пасыпа́юць, дзета што-та са́дзяць, дзе-та цьвяты́ ста́вяць, вянкі́, усё тако́е. Убіра́юць магі́лкі і бяру́ць с сабо́ю там вы́піць, закусі́ць, памяну́ць там пасядзя́ць і ўсё. Вот перат Па́скай дзяды́ – Паставы́е, перад

вялі́кім по́стам, пато́м дзяды́ перат Тро́йцаю, пато́м дзяды́ ўво́сень, пато́м Пілі́паўскіе дзяды́ – чаты́ры разы́ дзяды́ спраўля́лі.

## Кірмашы

Кірмашы́ ў ко́жным сялі́. На ра́знае сьвя́та ў ра́знай дзярэ́ўні. Напрыме́р вот у нас у Запо́льлі быў кірма́ш – э́та Пакрава́, у Кала́цічах – э́та Ра́даўніца, у Хвасто́вічах і ў Карні́цы – э́та была́ Тро́іца, у Ве́снаве – Ільля́, там Сяле́ц і Се́льцы – э́та Міко́льнік і Міко́ла, ра́зные пра́зьнікі ў ра́знай дзярэ́ўні.

Кірма́ш – у ка́жнай ха́це ўся радня́ сабіра́ецца. Уся́ радня́ сабіра́ецца ў ка́ждай ха́це. А е́сьлі мно́га там радні́, хат, дак от у адно́й пасядзя́ць, пачасту́юцца, пап'ю́ць-пап'ю́ць, у другу́ю іду́ць, у трэ́цюю іду́ць, по́куль не або́йдуць усе́. І ба́цюшка хадзі́ў, ба́цюшку прыво́зяць і гату́юцца на Пакро́вы напрыме́р, а пато́м ба́цюшку прыво́зяць. Ба́цюшка абхо́дзіць усе́ сяло́. Ба́цюшку то́жа адо́рваюць, і ён з малі́тваю прахо́дзіць і памо́ліцца. Крэст сяро́д дзярэ́ўні стая́ў, атпра́віць, атпра́віў, тады́ ўжэ начына́ецца кірма́ш. І так і у Карні́цы было́. Тады́ начына́ецца кірма́ш, тады́ ўжэ п'юць, гуля́юць і два дні. Што хто, што ў каго́. Тады́ ішчэ́ ні было́, э́та ўжэ пато́м, як ста́лі купля́ць, дак ужэ́ па карма́ну купля́й і стаў, а пака́ ж ні было́, дак усе́ сваё там ва́рыш: халадзе́ц (хало́днае), ва́рыш кісе́ль, пячэ́ш блі́нчыкі, пячэ́ш яі́шніцу. Ну вот усе́ тако́е вот, што сам прыду́маеш, усе́ і ста́віш. Халадзе́ц жа на́да сьвіні́на, гавя́дзіна, што е ў каго́, кура́ціны дабаўля́й, у́тку ці гусь зарэ́ж, як было́ сваё ўсе. Сьвіні́ну э́та на́да о́карачак, там но́шкі ці галаві́зьніна, штоб яно́ застыва́ла, с са́ла ж ні зва́рыш. А кісе́ль любы́: і грушо́вы вары́лі, уку́сны. Я любі́ла па мо́ладасьці. Дзі́чкі, про́ста дзі́кіе гру́шы сабіра́лі, сушы́лі. А пато́м ужэ́ як кірма́ш йіх распа́рвалі, заліва́лі кіпятко́м загадзе́, яны́ распа́рацца, тады́ памы́еш, у чыгу́н, у печ. Яны́ пава́рацца. Сі́та тако́е, церас сі́та. Цяпе́р друшла́к гаво́рацць, а тады́ сі́ццы такі́е былі́, церас сі́та прапу́сьціш э́ту і э́тыя гру́шы перамне́ш, штоп туды́ шалуха́ э́та ні йшла. То́лькі такі́е вы́жымкі харо́шые. Тады́ ў печ ста́віш, цяпе́р газ, а тады́ ў печ. Закіпі́ць, крахма́л разво́дзіш і са́хар дабаўля́еш па ўку́су, вот табе́ і кісе́ль.

***

Пачала́ даі́ць [кароў] мо ў гадо́ў пятна́ццаць мне было́. Ма́ці мая́ была́ на фе́рме, дак я хадзі́ла на фе́рму ёй памага́ць інагда́. Ну ма́ла хадзі́ла я, ме́нша сястра́ хадзі́ла, а я ма́ла, патаму́ шта ў нас тады́ се́ялі каксагы́с такі́ быў. Я бра́ла ўча́сткі і была́ зьвеньяво́ю, дак я рабо́тала на каксагы́зе. Даі́ць пачала́ дзе́та гадо́ў у пятна́ццаць, а так былі́ ў мяне́ ба́ба і ма́ці, э́та ўжэ мала́я я ні даі́ла.

***

Ма́сьліца рабі́ла да пасьле́дняга дня, паку́ль і каро́ву [трымала]. Прадала́ каро́ву, шчэ палаві́на халадзі́льніка было́ ма́сла. І цяпе́р е маслабо́йкі, до́ма валя́юцца. Малако́ кі́сьліш, ські́сьліш малако́, сьмята́на атсто́йваецца, сьмята́ну сабіра́еш, у маслабо́йку. А тады́ ш такі́ э́ты зро́блена э́та, з ру́чкаю, і ся́дзеш стук-стук-стук-стук-стук-стук. І вот ужэ́ і чува́ць, як яно́ скла́даецца. Пра́ма ў руцэ́ ашчушча́ецца, што там ні жы́ткая сьмята́на, падбіва́ецца, падбіва́ецца ма́сла. Галу́шку выкіда́еш кілагра́м, змыва́еш яго́ до́бра ў вадзе́, перамы́еш у трох вада́х, ужэ́ яно́ чы́сьценька.

Сыр, е́сьлі такі́ прасты́, дак про́ста тво́рах. Шы́лі клінкі́. У печ ста́віш малако́, яно́ атто́пліваецца, у кліно́к, яно́ сьцякае, сы́варатка. А йе́ты пераме́шваеш тво́рах, штоб ён такі́ быў лі́пкі, штоб ні рассы́пчаты, патсо́льваеш. Э́та як хто, хто ні салёны. То патсо́льваеш і вот у э́там клінку́ ло́жыш. І до́шчачку, і гнёт на яго́ – і вот табе́ сыр. Як такі́ сьве́жанькі тваро́жны. А варо́ны, э́та ўжэ на́да вары́ць: ло́жыш тваро́г у кастру́лю, дабаўля́еш малако́ сла́ткае, соль па ўку́су і мяша́еш і мяша́еш. Яно́ кіпі́ць пamале́ньку, кіпі́ць-кіпі́ць, мяша́еш, до́ўга мяша́еш, тады́ ста́не пух-пух-пух то там, то там. І чуць ужэ́ вы́варылася ўсё. Тады́ выкіда́еш у любо́е што, напрыме́р мі́ска така́я, вылі ва́еш у мі́ску, ста́віш, ахало́джваецца, і пад гнёт яго́ ні на́да. Яно́ ахало́джваецца і выкіда́еш із мі́скі – і сыр. Уку́сны. Мае́ ты́е ра́зы, дак о-ой, любі́лі варо́ные. Ты, ба́бушка, вары́ сыр! Ну йе́ты ён ско́ра і по́рціцца, тваро́жны такі́, а йе́ты ўжэ, што і куплёны.

***

Карóўку – дак рáзные прыкмéты – я сóбственна дóбра і ні знáю, але вот гавóрацьь, што éсьлі штоб жы́рнае малакó, дак нáда вот тут вот глядзéць мéжду рог віхóр каб быў. Э́та бýдзе жы́рнае малакó. І тут дзé-та на сьпінé есьць такáя мéсьціна, што пазнаюць лю́дзі, но я сóбственна ў карóвах ні разьбірáлася, но карóвы дóбрые былі́, дзяржáла іх.

Па лéсе пáсьцілі, э́та ўжэ як стáлі вот цяпéр, дак ужэ́ стáлі пáстбішча, а ты́е рáзы як пóйдзеш па лéсе з э́тымі карóвамі, дак абóйдзеш сьвет. Дзе-нібýць так на бугарóк, дзе на стóйла вы́йдзеш, паляжáць там, паражу́юць жвáку, так казáлі. Жвáчку паражу́юць і апя́ць па лéсе. А цяпéр ужó не пасýць па лéсе. Цяпéр ужó пáстбішча атвóдзяць, да карóў ні дзяржáць, вот ужэ́ ў дзярэ́ўні асталáся адна́ карóва. Усé паздавáлі, усé пазбывáлі, усё. Магазі́н закры́лі, аўталáўка хóдзіць, малакó вóзіць. І вось шчэ́ былó лéтам чаты́ры, а цяпéр я вот званíла тудá, дак ужэ́ гавóрацьь карóвы паздавáлі, адна́ тóлькі карóва асталáся. Ну мóжа, хто шчэ́ кýпіць, там малады́х сям'і́ тры е.

## Ваўкі

Захóдзілі, захóдзілі [ваўкі], шчэ скóлькі папаганя́лі мянé малýю. Пасьля вайны́ ў шкóлу пашлі́, дак кніг ні былó, адна́ кнíга на ўвесь клас. Кóнчацца ўрóкі, дак э́ту кнíгу настáўніца аддáсь і штоб усé яé завучы́лі. А хáта нáша былá с крáю, і ўсе бая́ліся к нам хадзíць. Дак я так, па дзярэ́ўні кнíга э́та хóдзіць з рук у рýкі, з рук у рýкі да вéчара, а я вéчарам пайдý, штоб забрáць э́ту кнíгу. Яна́ ў мянé на вéчар. Ужэ́ ка мне ніхтó ні пóйдзе, я ўжэ чытáю, скóлькі хóчу. Я пайдý кнíгу забірáць, забярý кнíгу, ужэ́ сýмеркі, цямнéе. Ужэ́ ідý, а былó: сусéд ішчэ́ ўбіў ваўчы́цу, дак зíму цэ́лую хадзíлі вайкí. Вот пры́дуць на тóе мéста і сядзя́ць і сем, і п'яць, і дзéсяць, от сядзя́ць і ўсё, стáдаю сядзя́ць. Я як прыдý, як ідý, з-за плóту гля́ну, ужэ́ яны́ сядзя́ць на э́тай, такáя от пель замёршая зімóю, яны́ ўжэ сядзя́ць на пéлі, я бягóм цераз дарóгу перабягý і ўжэ за свой плот забягý і ўсё. А яны́ сядзя́ць і сядзя́ць. А катóры рас прыдý дадóму, а с крáю хáта, а забóр быў ні штакéтам, так от тóлькі. Дадóму бягý, ні бáчу нічóга. Дадóму прыдý, éсьці ш хóчацца ўсягдá, ужэ́ вы́гуляесься ўжэ́ э́та патóм, стáну, і сьвéту ж ні былó, да лáмпу нáда палíць, дак на што мне тáя лáмпа. Я вазьмý кусóк хлéба да сквáрку сáла да стáну да йéм. От, па двары́ ідзёт, сýняцца паўз вóкна воўк. Пашóў, церас плот перакулíўся і пашóў.

І авéчкі пáсьцілі, бáчылі. К аўцáм пры́йдзе, дак крычы́ш-крычы́ш: цюгá-цюгá-цюгá. Баíсься, штоб ні ўкраў аўцý ці ягня́. І карóвы пасучы́ бáчылі. Ой, ваўкóў хватáла.

***

Я́гады зьбірáлі, як казáлі, цяпéр гавóрацьь галубíка, а тады́ гавары́лі ў нас буякí, і чарнíка, і землянíка – ўся́кіе. З я́гад э́та патóм стáлі варэ́ньне вары́ць, а ты́е ж рáзы сáхару ні былó, дак так насыпáлі да смáжылі прóста нічóга ніякóга. Смáжылі ў пéчы, накрывáлі і стая́лі яны́. А брусьнíку дак смáжылі, да шчэ тудá бáба мая́ груш такíх садавы́х насаджáе, цэ́лую зíму былí.

У малíны хадзíлі, но мáла, патамý шта ў нас сíльна былó далёка, далёка быў лес і малíны. Да й такí блýдны лес быў. У другóм [лесе] былí грыбы́ ўся́кіе. Якíе зьядóбные, ўся́кіе зьбірáлі, грыбы́ і цяпéр зьбірáюць. Грыбы́ як начынáюць – бéлые, патóм падасíнавікі, падбярóзавікі, ры́жыкі, лісíчкі, падбалацáнкі, таўстýшкі, цяцéры, рáзные, да рáзные грыбы́.

## З ваенных успамінаў

На Пцічы́ жылí, а вот мой вóзраст купáцца мы так і ні навучы́ліся, патамý што вайнá былá, купáцца начынáюць зь дзéцтва вучы́цца, а вайнá былá, так мы бая́ліся на рэ́чку хадзíць, дак так плáваць і не ўмéем. Там то парцізáны, то нéмцы, усé бая́ліся. Былá ў нас як бы нямéцкая зóна, нéмцы асóба займáлі, а парцізáны тóлькі тайкóм прабірáліся ўвéчара. Пры́йдуць увéчара, сярод нóчы пастýкаюць, дзе ш ты не аччы́ніш – аччы́ніш. Дак палáзяць да пашукáюць, дзе што зь еды́ забярýць. Дзе што якóе там палацéнца вісíць, якáя дзе пасьцíлка, забярýць на парця́нкі. Што абзавéсься, дак кáжа: ты тут у хáце ў цяплé, а нам нáда па лéсе да ўсё. Во так от што схвáцяць,

схва́цяць і іду́ць. А былі́ не́мцы ў нас усё ўрэ́м'я, так то́лькі тайко́м прабіра́ліся парціза́ны, прабіра́ліся і прыхо́дзілі інагда́. А ўжэ як у лес хадзі́лі, дак ба́бы хадзі́лі, дак бра́лі дзяце́й. Дак от мая́ ма́ці хадзі́ла, дак мяне́ малу́ю бра́ла. Дак по́мню адзі́н рас пашлі́ ў я́гады да панабіра́лі дай вы́шлі на даро́гу. Усе́ бая́ліся, згава́рваліся і шлі́ па дваццаць, па тры́ццаць чалаві́к, штоб э́та ўме́сьце іцьці́. Ну вот вы́шлі запо́льцы і кала́цінцы, дак нас там было́ мо підзіся́т чалаве́к ці больш. І ўсе зь ле́су згу́кваюцца, згу́кваюцца: дадо́му пашлі́, дадо́му, дадо́му, і павыхо́дзілі на даро́гу. Вот як по́мню зь дзе́цтва, павыхо́дзілі на даро́гу, вот пра́ма на э́ту дарогу што на Ві́льчу е́дзеш, цяпе́рака асфа́льт, а тады́ ж была́ не граве́йка, а шасе́йка.

Выхо́дзіць із ле́су парціза́н, выхо́дзіць, бо така́я зьвязда́ на ша́пцэ кра́сная. Усе́: дык э́та не́йкі нача́льнік. Гаво́рыць:

– Стой, стая́ць!

І паста́лі.

– Стро́йцеся ў рат па-аднаму́.

Пастро́ілі нас у рад, мо на кіло́метру. Так ужэ́ дзе мацяркі́ э́тых дзяце́й ужо́ ту́ляць, усе́ стаі́м.

– Адку́ль вы?

Яны́ ж зна́лі, адку́ль мы, але адку́ль вы? Усе́ гаво́раць з Кала́ціч. У Кала́цічах ні было́ паліца́яў, а ў нас у Запо́льлі былі́ паліцэ́йскіе. Так э́та была́ ўжо няме́цкая зо́на, дак бая́ліся ўсі. Дак і ты с Кала́ціч, і ты с Кала́ціч і ты, і ўсе, зна́чыць, усе́ с Кала́ціч. Ён вот ішо́ў-ішо́ў (із ме́сных жа не́йкі быў) і падышо́ў к адно́й жанчы́не с Кала́ціч да ка́жа:

– Здра́ствуй, Га́нна.

А ана́-та напу́жана така́я, ана́ ка́жа:

– Здра́ствуйце.

Дак ён ка́жа:

– Ты мяне́ ні пазна́ла?

– Не.

– А я ж у цябе́ ў ха́це быў.

– Ні зна́ю.

– А твой Я́каў дзе? У не́мцаў, мо ў паліца́ях?

– Не! Не-не, не ў паліца́ях Я́каў.

– А як ты жыве́ш?

– Ну, дарма́.

Зна́еш, ба́ба перапу́гана.

– Ла́дна, перадава́й Я́каву сваймý прыве́т да йдзе́це дадо́му. С Кала́ціч вы ні с Кала́ціч, ідзе́це дадо́му. А за кана́ваю там (віда́ць іх) мно́га ляжа́ць. А со́нца тако́е, э́та ж ле́там. С Кала́ціч, ні с Кала́ціч ідзе́це, і штоб ні адна́, ні адзі́н ніхто́ не аглянýўся наза́т. Мы ду́малі, што як ужэ́ крано́мся зь ме́ста, і ўсіх ужэ́ пастраля́юць. То я табе́ гавару́, зайшлі́ дадо́му, цераз рэ́ку перайшлі́, дак ніхто́ не аглянýўся с ыспу́гу. І рэ́ку перайшлі́, ніхто́ не аглянýўся: дзе яны́? Ці яны́ там асталі́ся, ці яны́ пашлі́ куды́, ці яны́ паехалі, ці яны́ ў лес. І ждалі усе́ вы́стралаў, а ніхто́ ні страля́ў у нас і пусьці́лі.

Як ста́лі атступа́ць не́мцы, дак усе́ [паліцаі] вы́браліся, усе́ і пае́халі, хто быў. Пе́рвае ўрэ́мя, як то́лькі начала́ся вайна́, у дзярэ́ўні мо дзьвена́ццаць чалаві́к. Вот када́рые дзе-та ў які́х вярху́шках рабо́талі, вот там напрыме́р, ці пратсяда́цель калхо́за, пратсяда́цель саве́та, там секрата́р які́, там той, там той, дзе хто рабо́таў ула́сьці. А ў паліца́і пашлі́ аднасо́бнікі, яны́ не былі́ ў калхо́зе. Зна́чыць у іх ужэ́ вражда́ была́. Ты́е калі́-та на йіх што́-та. А пато́м ужэ́ як у во́йну, ужэ́ яны́ ка́пнулі, дак пабі́лі мо дзьвена́ццаць чалаві́к, не мо, а дзьвена́ццаць чалаві́к убі́лі такі́х мушчы́н малады́х, харо́шых-та хло́пцаў. Ну пато́м ужэ́ са́мі ару́дувалі, ужэ́ йі́хнае пра́ва было́, ужэ́ усе́ маўча́лі. А пато́м, як ста́лі атступа́ць, дак усі́ і пае́халі. Пато́м дзе хто. Када́рые папа́лі ў Аме́рыку і пасы́лкі сла́лі, ішчэ́ які́е пасы́лкі с Аме́рыкі. Там і на сёньняшні дзень і дзе́ці, і са́мі жыву́ць. Ну са́мі то мо ўжо і ні жыву́ць, а дзе́ці то паастава́ліся. А када́рые (йіх пабра́лі) і па дзе́сяць гадо́ў, і па пятна́ццаць сядзе́лі, уся́к. Дзе́-та палаві́лі цераз некато́ра ўрэ́м'е, па-ўся́каму.

## Як ткалі

Снавáлі па сьцéнах, углы́ набівáлі такíе, снавáлі, патóм зьнімáлі, пераплятáлі, патóм на вярстáк, на навóйку навівáлі, патóм у бёрда і ў нíты перасáджвалі. Тады́ ўжо ўзóры рабíлі тут і ткáлі. Нáда былó і палатнó каб былó, нáда былó, штоб і рушнікí на кут на абразы́, нáда і скáцеркі палатня́ные. І ўсё ш с палатнá былó. Малéнькіх закру́чвалі і гавары́лі, дóбра янó, янó і прáўда былó дóбра. Упéрад яшчэ́, як я вот і маé дзéці расьлí, дак дзе якíе прóстыні старые парвéш дзе што. А тады́ што насíлі, вот і рубáшкі, нíжняе бяльлё якóе былó, усё ш палатня́нае, дак э́тые палатня́ные пялёнкі рэ́залі і гавары́лі – стары́зьніна. Э́та янó мя́кенькае ўжэ і палатня́нае, вы́беленае такóе. І вот малы́х дзéтак спавівáлі ў такóе. Яны́ ні прэ́лі, і здóрава былó.

## Баба-павітуха

Былá мая́ бáба [павітуха] ў вёсцэ, дак янá на дзьве вёскі. І ва ўрэ́мя вайны́ ні былó дактарóў, ні былó нікóга, дак мáла калí начавáла дóма. То ў Калáцічы забяру́ць зімóю, то ў Запóльле забяру́ць к рóжаніцэ. Пры рóдах прысу́тствувала і пасьля́ рóдаў, янá і бáбіла усé. Памéрла, дак яé мо вóсімдзесят уну́каў сабрáлася. З Запóльля – кілóметра ад клáдбішчаў – дак нéсьлі на рукáх. Янá і лячы́ць умéла і дзéцкае ўсе. Вот якí дзяцёнак плáча, як ця́жкія рóды, дак і да рóдаў падлéчыць, і пасьля рóдаў. Кáжа: залатнíк штоб на мéста стаў, і ўсе-ўсе янá ўмéла. І лю́дзі хадзíлі к ёй, янá лячы́ла, напрымéр і скулу́, залату́ху, як янá гавары́ла, і жывóт, і зу́бы загавáрвала. Тады́ з зубáмі пры́дуць, што з такóй чэ́люсьцю: «Бáба Óля, усё, рату́й». Янá нéяк на маладзíк, на мéсяц зу́бы загавáрвала, а я нічóга ні навучы́лася. Не, я не ўмéю.

***

Хрысьцíлі так, як і цяпéр. Забараня́лі, дак забараня́лі [раней хрысціць], э́та ўжэ тайкóм, то там дзе якóга бáцюшку пападу́ць, то ўжо там згавóрацца да як тайкóм. Катóрые расьлí, да ўжэ вялíкіх патóм [хрысцілі]. Храшчэ́ньне янó і есьць храшчэ́ньне, адзінáкавае, як тады́, так і цяпéр. Кум, кумаўя́ – э́та вы́бар, э́та ўжэ кагó хóчаш, кагó намéціш, тагó бяры́. Вары́лі кáшу абы́чна с пшанá. Пшанó і сáхар, я́йца бíлі, штоб янá крэ́пка дзяржáлася, і ў гаршчóк натóпталі, тады́ стáвілі ў печ. Тады́ ўжэ гаршчóк разьбівáлі, а кáша тáя і стая́ла. Кум выкупля́ў. Лóжыць пéрвы, а тады́ лóжаць ўжэ. Як больш за ягó, ён яшчэ́ лóжыць, як шчэ хто бóльшы, ён яшчэ́ лóжыць. Ён ужэ́ разьмéньвае грóшы, каб у ягó ўсягдá былí такíе. А патóм ужэ́ пасьлéдні, уся́ бясéда пералóжыць, і кум пасьлéдні лóжыць, і кум разьбівáе. Надзявáлі жанчы́ны аднó аднаму́ надзявáлі [чарапкі ад гаршка], но ні знáю я э́тага, для чагó янó.

Бáба ішлá ўсягдá ў атвéткі, ужэ́ на трэ́йці дзень. Купáла і шлá ў атвéткі, дак янá ўжэ гатóвіла – што там гатóвіла, і абязáцельна штоп кампóт быў. Грушóвы штоп кампóт, э́та рóжаніцы нáда кампóт піць, а ўжэ астальны́е гатóвілі так, як і вот на гóсьці – хто што. Тры, чаты́ры, пяць мíскі, скóлькі ты хóчаш чагó. Згавáрваліся, ішлí, нéсьлі, частавáліся. К табé б ішлí, дак ты гарэ́лку, а нáша заку́ска і ўсё.

***

Сабірáліся ў хáту, па вóчарадзі. Э́та патóм клу́бы стáлі. А то па вóчарадзі, дак так: éсьлі ў мене́ малáя хáта, а ў цябé вялíка, я папрашу́ цябé, што пусьцí за маю́ вóчарадзь. Тады́ ўжэ памы́ю ў цябé, убяру́, што пасьля сваé э́тай вечары́нкі. Ну і пускáлі так вот. А бывáе так вот у дзярэ́ўні аблюбу́юць адну́ [хату], да там сям'í німá. У нас былá аднá дзéўка жылá, а ў яé хáта вялíка былá, дак усé ў яé, у яé і ў яé. Зімóю так і дроў хлóпцы навязу́ць ёй і дзéўкі памы́юць, і апя́ць вéчар ідзé, і апя́ць у яé. Гарманíст, як у нас быў гарманíст с áрміі прышóў, ён у Гермáніі служыў, дак акардзіóн прынёс, дак ой былá харóшая [вечарынка], а як ні былó акардзіóна, дак так тальянка – гармóшка, і пад балалáйку танцавáлі, уся́к. Тáнцы ж ні цяпéрашнія. Пóлька э́та – янá ўсягдá былá, вальс, факстрóт – éтые тáнцы былí, патóм быў казачóк, былá лявóніха, быў гапáк, кракавя́к, падыспáн. Уся́кіе, уся́кіе тáнцы былí, але ўсе так танцавáлі, э́та цяпéр усé аднó – пашлí

ламáцца да круцíцца, а тады́ харóшые тáнцы былí, красíва гулялі. К нам дак прыхóдзілі с Калáціч усягдá, усягдá прыхóдзілі хлóпцы, дзéўкі то менш хадзíлі, а хлóпцы ўсягдá прыхóдзілі.

### Пра варажбу

Варажы́лі на Каляду́, варажы́лі і на Нóвы гот. У Кóляды ш тры каляды́: пéрвая – э́та пóсная, а патóм навагóдняя калядá – э́та ўжэ багáтая калядá, а патóм вадапóсная – э́та ўжэ крашчэ́ньне. Тры каляды́, і на ўсе варажы́лі. На пóсную – кáшу абезáцельна вары́лі пóсную, ячмéнную. Тады́ на стол стáвіш мáсла э́тага падсóлнечнага, цяпéр боршч з грыбáмі і кампóт ці кісéль. Вот такáя вячэ́ра – пóсная. А багáтая. Багáтая тут ужэ́ калбасá, тут ужэ́ мя́са, тут сáла, тут халадзéц, тут бліны́, тут усё. А вадапóсная – э́та апя́ць пóсная.

Варажы́лі па-рáзнаму. І кáшу пат паду́шку лажы́лі, гавары́лі: су́жаны-рáжаны, прыдзí ка мне, пакажы́ся. А патóм кáшу выкладáлі, расьцілáлі вярóўку такýю ў хáце. Дзéўкі вот сабірáліся, тáя сваю́ ку́чку палóжыць, тáя сваю́ ку́чкамі, і ку́ру прынóсілі ў хáту. І éта ўжэ ку́ра ўскóчыць: ко-ко-ко, тады́ то к аднóй кíнецца, то к другóй, і катóрая, э́та ўжэ так былó: катóрую пéрвая паклюé, тáя ўпéрад зáмуж пóйдзе дзéўка.

Платы́ абдымáлі: кóл-калéц, хлóпяц-удалéц. Усé перашчы́твалі, і як пáрна, знáчыць бу́дзеш у пáры, як пáрнае числó схвáціш. І дрóва прынóсілі, і башмáк кíдалі за варóта: у якýю стóрану паляцíць мыскóм, туды́ ўжэ і зáмуш пóйдзеш. Ой, да што тóлькі ні прыдумля́лі! І сьвéчкі стáвілі пéрад зéркалам, но я то ні стáвіла, я бая́лася. Зь дзячáт у нас дак ні раскáзвалі, а вот сусéд мой, дак усé ўрэ́м'я гавары́ў, што бáчыў у зéркале. І бáчыў хлóпяц сваю́ дзéўку на Йвáна – Купáльле. Между Калáціч і Запóльле ў нас такáя грáтка – ку́сьцікі, ку́сцікі, алéшнічак такí, і такáя градá сухáя, узгóрачак такí, і там скрозь пáпарацъ расьцé. Вот ён хадзíў у той пáпаратнік і ляжáў у дванáццаць часóў нóчы і бáчыў дзíўку – ішлá. І патóм ён у вáрмію пашóў і гавары́ў мне: Люба, вот éсьлі б убáчыў, тóчна п пазнáў, вот тóлькі éсьлі б я ўбáчыў яé. Так паказáлася янá ямý. Дóбра, ну гавóрыць, перапугáўся да поўсьмéрці, ні знаў, куды́ ўжо і бéгчы, а патóм паказáлася і скры́лася. Гавары́ў: бег да дзярэ́ўні, ні панімáў дзе. Штоб убáчыў, пазнáў бы. Патóм ён пашóў у áрмію, забрáлі ягó ў вáрмію, ён служы́ў і рабóтаў на машы́не, шафёрам у вáрміі быў, і падбíў там нéйкага дзя́цьку ці там кагó-та, то такí слу́чай быў. Падбíў, і ягó пасадзíлі. С áрміі ён дадóму ні прышóў, ямý дáлі нéйкі срок, невялíкі, но дáлі срок. Ён сядзéў і зь ім сядзéў мужы́к. І к éтаму мужыку́ прыéхала дачкá íлі пляме́ніца, хтó-та такí, рóтственьнік вóбшчым. К éтаму мужыку́ на сьвідáньне прыйéхала. І гавóрыць, вот як прышлá, зайшлá янá к ямý, і ён убáчыў. Яны́ дружы́лі з э́тым мужыкóм, што сядзéў. Ён хлóпец, но той ужэ́ жанáты быў. Ён кáжа, вот мая́ пры́дзе, дапу́сьцім там пляме́ніца, ка мне. Я, гавóрыць, як убáчыў яé і зрáзу мне стук у гóлаву, дзе я яé бáчыў, я ж яé от ужэ́ бáчыў, но дзе ні прыду́маю. Патóм, гавóрыць, ду́маў-ду́маў і прыду́маў, што янá ямý пакáзвалася. Пабылá тáя на сьвідáньні ў э́тага дзя́цькі, і яны́ пазнакóміліся, э́ты ўжэ пазнакóміў ягó: Міша, вот знакóмся, э́та так і так. Яны́ пазнакóміліся, і, адбы́ўшы срок, э́ты дзя́цька пíша ямý, што прыяжджáй ка мне. Карóчэ, яны́ стáлі перапíсвацца, і éты – што прыяжджáй. А ў ягó дóма сястрá жылá і прымакá ўзялá, а бацькóў ужэ́ ні былó. І ён паéхаў туды́, паéхаў і астáўся. І патóм ужэ́ к сястры́ прыяжджаў зь дзіця́м. Ужэ́ я зáмужам былá, прыéхала са сваéю Гáляю туды́ к мáцяры. Ён ўжэ пачу́ў, што я прыéхала, прышóў ужэ́ стрэ́ціцца са мнóю. Мы дружы́лі, прóста, па-сасéцкі дружы́лі. Ён прышóў менé атвéдаць і я гавару́: Міша, ну што? Дык ён гавóрыць: Люба, усé прáўда, усé збылóся. Вот как убáчыў Лíду, і зрáзу забы́ў, дзе я яé бачыў, ну я ж яé бáчыў, э́ту дзéўку, а патóм прыду́маў, што тóчна я яé бáчыў. І жанíўся ён на ёй. А вот ізь дзéвак дак ні былó такóга слу́чая. Дзéўкі, яны́ ш труслíвыя, хібá пашлí на такóе.

Ой, нагавары́ла, дзéвачка мая́, я табé мех і тóрбу.

*А. У. Ксяндзова*

## ТЭКСТЫ З КРУПСКАГА РАЁНА

***Расказвае Г. В. Лабаноўская, 1953 г. н. (ураджэнка в. Узнацк Крупскага раёна), адукацыя сярэдняя спецыяльная****; запіс зроблены ў в. Слабада ў 2009 г.*

Яго́ [бацьку] у а́рмію ўзя́лі ў тры́ццаць дзевя́там гаду́. Гадо́ў сем быў. Як пашо́ў, гадо́ў сем не было́ яго́. Служы́ў а́рмію, а тады́ вайна́ начала́ся. А вот гэ́ты Ры́гор, дзя́дзька, дык ён зь фі́намі ваіва́ў. Ну, ба́ба Ната́ша ж [маці] то́жа... Яна́ ж была́ ў Герма́ніі. У то́е ўрэ́мя маладзёж лаві́лі. Ста́расты ў дзярэ́ўні былі́, дык закла́дывалі. Яна́ гавары́ла, ско́лькі раз хава́лася – і ў жы́та хадзі́ла, і начава́ла ў жы́ці, каб ні папа́сьці туды́, ў гэ́ту Герма́нію. Ну, усё раўно́ ж, як яна́ ні скрыва́лася, улаві́лі і адпра́вілі. Ну, там іна́ рабо́тала. У По́льшы, наве́рна, сра́зу была́. А тады́ ўжо на́шы вайска́ як асвабажда́лі, у Герма́нію, наве́рна. А ў Герма́ніі, каза́ла, то́жа, як на́шы прышлі́, дык бо́лей бая́ліся на́шых, як гэ́тых не́мцаў. Яны́, ве́дама, дзе́ўкі малады́я. А яны́ разьяро́нныя такі́я былі́!.. Хава́ліся па чардака́х. Хто ўжо не адбарані́ўся, дык у аснаўно́м папрыіжджа́лі зь дзе́цьмі, бярэ́менныя папрыіжджа́лі с вайны́. Вот адна́ была́ ў нас у дзярэ́ўні радзі́ла, а ён такі́ ніўда́лы быў, ой! Да́жа клі́чку да́лі «Не́мец». А які́ ж ён не́мец? Ну, але́ тады́, як падро́с, акруці́ўся, жані́ўся, тро́е дзяце́й. А там як устро́іць вайну́ э́тым ба́бам!.. Ну, а ма́ма там каро́ў даі́ла, во такі́я рабо́ты. Па до́му. Пало́лі, мо́жа, што. Ну, а пато́м ру́скія ішлі́, і палучы́лась так, што наза́д яны́варо́чаліся, дык яна́ год яшчэ́ была́ ў дзе́йствуюшчай а́рміі. Абсьці́рывалі салда́т сваі́х, е́сьці ва́рылі. Нацярпе́ліся, го́ра хватану́ла. Ну, а бая́ліся ж не́шта то́жа, што яна́ не прызнава́лася, што ў э́тай а́рміі была́. Тады́ На́дзя [дачка] дахадзі́ла ўжо. Дакуме́нты, у Падо́льску гэ́ты архі́ў, адпраўля́ла, хай ба пе́ньсію, ка́жа, даба́вілі. Дык не́шта папрыхадзі́лі тады́ ўжо ты́я дакуме́нты, дык яна́ шчытаецца, як ваява́ла.

 Іка́я і́хная жызьнь была́, ні дай Бог... І дзед гарава́ў пад Масквой то́жа. Дваю́радная сістра́ раска́зывала, як ён забіга́ў у Маскву́, там, дзе яны́ жылі́, – выхо́дзіць, мо́жа, дзя́дзька яго там жыў з гэ́тымі сёстрамі дваю́раднымі. Дык от раска́зывала, пла́кала, як ён забіга́ў. Пры шта́бе ён быў, по́чырк жа, гра́матны жа быў. Але ўсё раўно́, хоць і штаб, яны́ ж ваіва́лі ўсё раўно́. Пад стра́хам то́жа былі́. Ну, тады́, як не́мцаў ат Масквы́ атагна́лі, і пашо́ў, і пашо́ў... І ў Герма́ніі... Меда́лі, ардзена́ па хо́ду ўжо дава́лі. Тады́ ўжо то́лькі пажані́ліся з мамай ў со́рак шо́стым.

***

Ма́ма, мно́га нас было́, дык іна́ ні рабо́тала сра́зу. А ба́цька рабо́таў. На гэ́тых паста́х, я ма́лая была, ня по́мню ж яшчэ́. У магазі́не рабо́таў, на по́шце сра́зу рабо́таў нача́льнікам. А так у сельсаве́це ж то́жа рабо́таў, за́мам. Пато́м ціля́т глядзе́ў. По́сьлі ўжо, пе́рад пе́ньсіяй, сто́ражам. Пато́м ужо́ на пе́ньсію пашо́ў, малако́ сабіра́ў. Ну, мно́га нас было́. Гэ́тыя пе́рвыя тро́е паеха́лі ўчы́цца, а я ўжо астала́ся за ста́ршую. А тро́е по́сьля мяне́ яшчэ́. Ста́ршыя – Зі́на, На́дзя, Вале́рык. А пато́м я. А пато́м яшчэ́ за мно́й Во́ва, А́ня і Ва́ля. Ну, дык вот іх на́да было́ глядзе́ць, ме́ньшых. Яны́ тры ў адзі́н год, наве́рна, і паеха́лі ўчы́цца. Ну, а ма́ма рабо́тала на сьвінафе́рме, карто́шку мы́ла сьвіньня́м. У чана́х у э́тых, дык я хадзі́ла памага́ць. Віла́мі, і бальшы́я такі́я катлы́ стая́лі. С у́ліцы ўкі́двалі, і то ня по́ўнасьцю. А мы ўжо атсю́да на ві́лы, а ві́лы цяжо́лыя э́тыя бульбяны́я! І закі́дывалі ў катлы́, ну, і вадо́й мы́лі са шла́нга ў гэ́тых катла́х. Чаго́ ў міне́ і ру́кі баля́ць, мо́жа, ат усяго́ э́тага цяжо́лага.

Гусе́й было́. Гусе́й па́сьцілі. Сабіра́ліся па о́чэрадзі, як каро́ў цяпе́р па́сьцяць. Дык атме́ніваліся, по́мню. Гусе́й там, мо́жа у дваццаці́ ха́тах было́, і ўсе мы па́сьцілі. Пато́м каб на абе́д схадзі́ць ужо́, напрыме́р, адны́ пасу́ць, другі́я дамо́й схо́дзяць паабе́даць. Міня́ліся. А productionsвады́ не было́ там. За дзярэ́ўняй былі́, рэ́чкі не было́. Дык насі́лі вёдрамі зь дзярэ́ўні, на карамы́сла, гусе́й паі́лі. Да́жа каро́вам не было́ дзе піць. Ну, а мы насі́лі за дзярэ́ўню ваду́.

Ну, так іньцірэ́сна было́, як у дзе́цтве се́на мы граблі́, а гэ́тыя ўжо ме́ньшыя хлапчукі́, ну, такі́я раве́сьнікі, кане́й запрага́лі. Жэ́ньшчыны грузі́лі, а мы падграба́лі. Лён бра́лі, уручну́ю,

ма́ме хадзі́лі памага́лі. Капа́лі ўручну́ю бу́льбу то́жа, за плу́гам. Дава́лі тало́ны, хто бо́лей вядзёр накапа́е. Насыпа́еш вядро́, табе́ бума́жку таку́ю даю́ць, калхо́зная піча́ць там. І скла́дываем. І вот бума́жкі э́тыя сабіра́ем, а пато́м ужо́ падбіва́юць ба́бкі, сто́лькі, і дзе́ньгі аплачываюць. Зарпла́та была́ сла́бая.

***

Вот як вы́бары, по́мню, прыіжджа́лі з другі́х дзераве́нь, у клу́бе ўжо та́нцы там да ўпа́да. К нам да́жа прыхадзі́лі. Тады́ ўжо як та́нцы, вы́п'юць, замо́чуць гэ́тыя вы́бары. Вы́бары – э́та о́чэнь бальшы́ быў пра́зьнік. І ўсе ж галасава́лі. Цяпе́р э́ты я́шчык павязьлі́ па дзераўня́х і ўсё. На пе́чы ба́ба сядзі́ць, укі́нуць за э́ту ба́бу, і ўсё. А тады́ ж усі́х, я ні зна́ю, прывазі́лі, ці на ко́нях, ці на машы́нах, ні по́мню ўжо. І і́менна за сем, за во́сем кіламе́траў прыіжджа́лі ўсе. Ну, ужо́ е́сьлі хто ня́моглы саўсе́м… А так э́тыя ўсе́ прыіжджа́лі і́менна на ўча́стак.

***

Ну, Па́сха, дык ужо́… І то, на кла́дбішчы яйцо́ э́та аддаду́ць дзяцёнку. Канфе́т мо́ды не было́, бе́дна жылі́. Яйцо́ е́сьлі, адно́ ці два. Хто багацэ́йшы, два дасьць. А так адно́. Мату́ся і тату́сь [хросная і хросны]… І пато́м ужо́ к э́таму пра́зьніку – што было́ ў па́мяці! – абіза́цельна абно́ўкі шы́юць. Там адна́ ў дзярэ́ўні была́, уме́ла шыць. Дык мацяр'ялу ку́пюць, сі́тцу, і пато́м ужо́ с карма́намі – абіза́цельна пла́цьця с карма́намі! – штоб туда́ я́йца э́тыя лажы́ць. І хто бо́льшы яе́ц э́тых насабіра́іць! І пато́м у біткі́!

У нас і на Па́сху хадзі́лі на кла́дбішча, і на Ра́дуніцу. На пе́рвы дзень Па́схі, ну, так дзе-та часо́ў у дзе́сяць с утра́. Паміна́лі. Я́йца ката́лі, там дзе хто выпіва́ў. Ну, а пато́м на Ра́дуніцу апя́ць. А цяпе́р, як у мо́ду вашло́, на Спа́са яко́га, на Тро́іцу занясу́ць якое яйцо́.

***

Ну, учы́цца на́да было́ куды́ е́хаць. Я на ўчы́цельніцу сра́зу паехала. Но там я ма́ла ба́лаў набра́ла, і там мне пасаве́тавалі, што мо́жна ў це́хнікум у Навапо́льскі на буга́лцера, там ме́ньшы ко́нкурс. Ну, пато́м я туды́ і пае́хала. За Мі́нскам, дзе-та кіламе́траў пі́йся́т у сто́рану Вало́жына, ні даіжджа́я Ра́кава. Тры го́да вучы́лася, пато́м напра́вілі ў Хало́пенічы. С Хало́пеніч сюда́. Ну, тут ужо́ астала́ся. Атрабо́тац ж а на́да было́ тры і́лі два гады́. Ну, а пато́м тут кварці́ру прыдлажы́лі. Дык я ўжо дружы́ла з Лабано́ўскім, і сюда́ тады́ прые́халі.

Ну, вот у іх ужо [у мужа] ўся дзярэ́ўня была́ стараве́рская, Ваўкавы́ск [у Крупскім раёне]. У іх свая́ цэ́рква была́, ра́дышкам, дзе жыў Лабано́ўскі, па сасе́дству. Там і іко́ны, там усё. Я ні ра́зу не была́, ма́лая была́, а яны́ хадзі́лі туда́. Пато́м э́та ўласьць як ста́ла цэ́рквы ўбіра́ць, дык раскра́лі ту́ю цэ́ркаў, хто сабе́, хто крысты́, хто іко́ны, і тады́ развалаклі́ саму́ э́ту цэ́ркаў. І, наве́рна, яго́ брат да́жа на тым ме́сьці і жыве́. Разгаво́р у йіх ні то па-руску, ні то… Ну, у аснаўно́м, як бы мя́хка, дык па-ру́ску, у і́хнай дзярэ́ўні ўсе так гаво́руць. Ну, а ён [муж] служы́ў у а́рміі, дык ён тро́ху ні так. А як стары́я, яны́ дык па-сво́йму. Там сьмесь, але такі́ мя́хкі язы́к, ду́жа мя́хкі.

Ну, у йіх дзе́вяць дзяце́й было́, адзі́н у два́ццаць пяць гадо́ў памёр. Ма́ма раска́зывала, што ён [бацька мужа, дзед Мітрафан] з барадо́й быў, а яна́ [яго жонка] мало́дзенькая така́я, у ша́пачкі, як за́муж ішла́. Ну, але́ дзед у шэ́йсят во́сьмым гаду́ памёр, я яго́ ні по́мню, ні зна́ю. Ну, а ба́ба ж дзевяно́ста сем гадо́ў [пражыла]…

***

Я вабшчэ́-та ду́жа нідзе́ не хадзі́ла, на́да ж было́ дзяце́й э́тых глядзе́ць, за ня́ньку. Пака́ пае́хала ўчы́цца. Ну, а вучо́ба, е́сьлі на та́нцы – прые́дзеш, у выхадны́ калі́ схо́дзіш. То́жа нідзе́ не выска́ківала, не было́ калі́. Тады́ ўжо, як ко́нчыла це́хнікум, рабо́тала ў Хало́пенічах, тады́ ўжо пажані́ліся.

Дагавары́ліся, калі́ пры́дуць [у сваты]. Прышла́ сі́стра́ яго́ з мужыко́м і брат, наве́рна, адзі́н. Ну, стол накры́лі, цётка мая́ прышла́, дзя́дзька. Ну, пасядзе́лі, што там, пагавары́лі, калі назна́чылі сва́дзьбу… Яшчэ́ ро́сьпісі э́тай не было́, дык мы не расьпі́сываліся, у мо́дзе не было́. У нас на ме́сьці не было́ сельсаве́та. По́сьле сва́дзьбы прые́халі сюда́, яшчэ́ мы не расьпі́саныя былі́. І былі́

б, мо́жа, не расьпі́саныя. Участко́вы прышо́ў, па сельсаве́тах жа глідзя́ць. Я, мо́жа, прыпі́саная дзе тут была́. Прышо́ў і ка́жа: «Чаго́ не прыпі́саныя?» Ну, а не прыпі́саныя, зна́чыць, расьпі́сывацца, яго́ ж на́да было́ прыпіса́ць. Ну, дык тады́ ўжо паехалі ў Бобр у сельсаве́т, расьпіса́ліся.

Клу́ба-то не было́, але́ пато́м, як пастро́ілі, дык іньцірэ́сна было́ хадзі́ць. Канцэ́рты былі́ ўся́кія, прывазі́лі да́жа із Ленінгра́да. То ў Лу́камль са́мі е́зьдзілі на «Песьняро́ў». І яшчо́ які́я там канцэ́рты былі́, на като́рыя е́зьдзілі. Аўто́бус калхо́зны быў, е́зьдзілі, е́сьлі куды́ зака́зывалі. І ў Брэст, і ў Ленінгра́д, і ў Маскву́ пае́здкі былі́. А цяпе́р ужо́ ўсё, німа́ тако́га…

*Л. П. Кунцэвіч, Т. М. Трухан*

## ТЭКСТЫ З МСЦІСЛАЎСКАГА РАЁНА

***Расказвае М. Д. Зюзькевіч, 1922 г. н., адукацыя 7 кл.****; запіс зроблены ў в. Каўшова ў 2009 г.*

Я по́мню бо́льшэ по́сьле вайны. Як сама́ хъва́лася ат вайны́ і сестра́ е́зьдзіла пат фронт, вазі́ла ўсё. Мы ні зна́ем, што вазі́лі. Бра́лі с фро́нта пръважа́тага, каб пръважа́ў. А мы на ко́нях пъд'ялжджа́лі туды́, нам у мяхі́ грузі́лі. Ну ні адна́ ж я е́зьдзіла. Пе́ршы раз мно́га е́зьдзіла, бо́льшэ ста чалаве́к. А я шчэ яка́я была́? Ну было́ ўжэ два́ццаць гадо́ў. Але́ на кані́ ні рабо́тала, зъстаўвілі на кані́ рабо́тать. Ну паехала. Пака́ да Вар'янава даехала, у мене́ адзіна́ццаць раз заве́рт с аглоблі вы́скачыў, пъмага́лі старікі́.

А тады́ ўжэ прівы́кла і сама́ ўсё дзе́лала. Прі́дуць: ну едзь сёньня. Сёньня пае́дзець або́з. Саберу́ся, яды́ вазьму́ сабе́. Пе́ршы рас паехалі, го́спадзі мой, то́ка прые́халі там у адну дзярэ́ўню, та́мака ўсё было пабі́та, усё папа́лена, адна́ шко́ла аста́лася зь дзярэ́ўні. У той шко́ле і пі́лі, і гаре́лку гна́лі мушчы́ны ўсе і ба́бы е́тые. Мы зь дзе́ўкай пабылі́ там тро́шку, а тады́ чу́ям: самалёт ляці́ць. Ляце́ў, ляце́ў самалёт, як уда́рыў, у той шко́ле ні астало́ся ні адно́й шы́бачкі. А мы зь ёю вы́скачылі, ста́лі, нас асляпі́ла, і мы ні зна́ем, куда́ йці. А на́шы ко́ні так стая́лі на го́рке. Мы падышлі́ зь ёй, се́лі на калёсы і ўсю ноч прасе́дзялі. Ужэ́ ста́ла сьвіта́ць тро́ху – пае́халі, а або́з разьдзьві́нуўся на дзьве ча́сьці. Пріежа́ю туды́, а пла́чу, перепуга́лася, аж ні магу́. А быў у нас стая́ў лейцена́нт у на́шуй ха́це. Ён падышо́ў ка мне, а я гавару́: «Ты ж кі́нуў нас, а сам пае́хаў зь і́мі, а нас бамбі́лі!» І пла́чу. А мы, гаво́ріць, вечарі́нку гуля́лі. Тады́ панайшлі́, панайшлі́ е́тые лейцена́нты. А ў мене́ быў харо́шы конь. Яны́ гаво́раць: «Твайго́ каня́ забярём, а табе́ дадзі́м хрямё́нькую кабы́лку». Як запла́чу я, ду́маю, як я на храме́нькай е́тай кабы́ле заеду. Лейцена́нт гаво́ріць: «Ні плач, ніхто́ ня во́зьмець». Я і яму́ яды́ брала́, і сабе́ – ня е́ла. Адзі́н дзет падышо́ў, я гавару́: «Да́йце со́лі тро́шкі». Ён мне со́лі прінёс, а я яму́ яду́ аддала́. Або́з раз'е́хаўся.

***

У вайну́ хъва́лася, круго́м жа не́мцы. Стра́шно было́. Яны́ жылі́ ў нас у ха́це. Мы с пако́йным ба́цькаю нано́сім сало́мы. Яны́ сла́лі ні на ко́йках, на палу́ на сало́ме. А тады́ ў пасьле́днюю ноч, як атхадзі́лі яны́, го́спадзі, стра́шно было́, мы зь ба́цькаю ту́ю сало́му но́сім, а яны́ с той сало́мы паўы́лезьлі і ўцека́юць. Шчэ ба́цька і ма́тка была́ – і стаі́м. Сям'я́ ж была́. На гаро́дзе калёсы вы́качілі і пад калёсамі е́тымі сядзе́лі. А ту́та іду́ць е́тые кара́целі ў чо́рных шынялях. Ну, пра́ўда, ні зачапі́лі яны́ нас. Ба́цька з ма́ткай як стая́лі, пріхіну́ліся к пу́ні – ні зачапі́лі. Прашлі́, прашлі́, і бо́льша мы іх ня ві́дзелі. Ускорасьці пераплы́лі це́рас Сош кра́сные э́тые. Іду́ць яны́ ўсе гря́зные, мы пла́чам.

***

Другі́ рас пае́хала зь яе́ сястро́й, Тацьця́най то́жэ, пат фронт. Паве́зьлі праду́кты. А ў нас які́ быў праважа́ты... Пріе́халі, а тут лес, усё лес і лес. Чу́ем, ужэ́ не́мцы дава́й пушча́ць снара́ды ў нас. Праважа́ты наш як бег, так сам лёг у раво́к, а мы ўжэ сядзі́м на калёсах на е́тых. Я се́ла

і кажу́: ніха́й б'юць, я ўжэ нікуда́-нікуда́ ні пайду́. Сяджу́ на калёсах, ні зла́жу. Переста́лі ўжэ біць, таму што мы ўжэ спусьці́ліся ў лес і яны́ ні зна́юць, куды́ снаря́ды пушча́ць. Пріе́халі ў часьць у ту́ю, разгрузі́ліся – і пае́халі. Начава́лі то ў сара́і, то ў е́ўні, дзе кап цяплե́й тро́шку, кап пагрэ́цца. А пасьле́дні раз е́зьдзіла адна́. Абдурі́ў. Гаво́ріць: пае́хаў ужэ́ або́з, дава́й запрага́й каня́ і пае́дзем. Ну і пае́халі. Дае́халі да дзяре́ўні, там переначава́лі і пае́халі. Е́дзем, е́дзем, я пыта́ю ў яго́: а дзе ж або́з? Не́шта ж мы ніко́га ні наго́нім. Дае́халі да адно́й дзяре́ўні, а там, мо́жэ, ха́та адна́ так стая́ла. Там старі́к жыў, заехалі к э́таму. Так хлеп па́хнець іс пе́чкі. Ён папрасі́ў. Мне хле́ба атре́залі цёпленькага. І пріказа́ў е́таму дзе́ду: сматрі́це, што б е́ту дзе́вачку (яна́ ве́рнецца наза́т) узялі́ на́нач. Яе́ каня́ штоб нъпаілі і нъкармі́лі. І наза́ўтрэ штоб запряглі́ і атпра́вілі. Харо́шы быў дзет. Зьдзе́лаў так. Я пріе́хала, хало́дна, маро́з, на пе́чку зале́зла. А ён каня́ пріглядаў у дзе́сяць часо́ў. І ні бая́лася я тады́ нічо́га.

***

Атагна́лі ўжэ ат нас не́мцаў, за Про́ню туда́ загна́лі. Я і за Про́ню е́зьдзіла да́жэ за ту́ю. Ускорасьці вайна́ ко́нчылася. Пе́рвы пріе́хаў паштальён вярхо́м і пріе́хаў пря́ма к нам у ха́ту. А мы ўжэ (салда́ты е́тые іду́ць) набра́лі ў паса́ньне [падо́л] то хле́ба, то што, нясём па кро́шачке, хоць бы даць, пла́чам.

***

По́сле вайны́ было́ ця́шка. Шчэ тро́ху было́ хле́ба, дзе зярня́та яко́е. Ко́ней ні было́, дак мы капа́лі, каб што-ні́будзь папасе́яць пат калхо́з. Рас капа́ем і тут нам аб'яўля́юць: мір-мір-мір. Се́лі ў ку́чу, пла́чам. Сла́ва табе́ Го́спадзі, што мір. Ста́лі патро́ху се́іць. Цярпе́лі го́ладу. Мякі́ну е́лі і ўся́кую траву́ – усё е́лі. Хле́ба ні было́. Шчэ ба́цька-пако́йнік быў, конь быў, пае́дзець, аш у Смале́нск е́зьдзіў на кані́. Прывязе́ць нам ско́лька буха́начак е́тых, па ські́бачке дась. А была́ сям'я́ дзьвена́ццаць душ. Е́тай паро́й нава́рыш шча́ўлю чыгу́н, каро́ва была́, дак хоць жэ тро́шкі забе́ліш. Усю вайну́ каро́ва была́ і конь. І патцёлак быў. Вы́пусьцім, мы бывала ні зна́лі, дзе яны́ хо́дзяць. Пайду́ць – цэ́лы дзень німа́. А на́нач пріхо́дзюць, дво́ру пріво́дзюць. І конь пріхо́дзіць. Каня́ ра́нілі. А як прібе́г, Го́спадзі, ра́няты. Шчэ ра́нілі, не́мцы былі́. Я пъдышла́, запла́кала: мой ты канёчэк. А сасе́дняга каня́ забі́лі. Пло́ха было́ по́сьле вайны́. Дроў ні было́. І на сабе́ насі́лі – усяго́ было́.

***

Вясе́льля ні́якага ў мене́ ні было́. Вы́йшла, пажыла́ тро́ху, дай разашла́ся. Плаха́я жызьня́ была́, ні дай Гаспо́дзечка. Быў плахі́, хоць ён быў і бага́ч. Было́ ў яго́ мёду мно́га. Я таго́ мёду ні ра́зу... Я жыла́, ён мне капе́ечкі гро́шэй ні даў. Рэйту́зы бы́лі парва́ліся, я прасі́ла, ні даў. Як я ты́е сем рубле́й вы́мундзірыла, дак ён да́жэ ў суд пада́ў. Ну я тро́ху пажыла́ там, ніку́ды ні пушча́ў мяне́. А тады́ пріказа́ў, каб мае́ радны́е ні пріхадзі́лі, каб ніхто́ ні хадзі́ў. Ба́цька адзі́н раз ка мне прішо́ў, паглядзе́ў, сказа́ў: ні на́да жыць. Наме́рылася я пакі́нуць яго, уце́ч атту́да. Тро́хі надзе́та была́, я іс ха́ты ста́ла ўхадзі́ць, ён дзьве́ры зачыні́ў, руку́ мне пріжа́ў. Я вы́рвалася і пашла́. Пріхажу́ дво́ру. Прішла́ і бо́льшэ я яго́ ня ві́дзела. По́сле ўжэ я выхадзі́ла за друго́га, у мене́ да́чка ад яго́. Сам мене́ нашо́ў. Прішо́ў ён за мно́ю, се́лі за стол, вы́пілі, што ўзялі́, я й пашла́ зь ім. Пражыла́ то́лька год, ні цэ́лых два гады́, ён памёр. Я вярну́лася ў сваю́ ха́ту, жыла́ с ма́ткай. І дзе́вачку э́ту глядзе́лі. Дзе́ўка мая́ харо́шая, рабо́таець медсястро́ю ў Ленінгра́дзі. Пріежджа́ець яна́ шчас і зяць пріежджа́ець. Зяць мой то́жэ харо́шы.

***

По́сьле вайны́ тра́вы е́лі, мякі́ну е́лі гре́цкую, таўклі́ ў сту́пе. І лі́сьця із лі́пы дра́лі. Ко́нскі трыпу́тнік называ́ецца, мы скублі́ яго́. Расьлі́ кано́плі. Калхо́з да́жэ се́яў кано́плі. Мы бывала пайдзём у кано́плі, там жа паска́ні і кано́плі. Паска́ні е́тые набярём, е́та мачы́лі. То во́жкі, то то́е, то то́е на́да. Мы е́тые кано́плі тро́шку сабе́ на гаро́дзе се́ялі. З е́тых канапе́ль быва́е то́жэ вы́берем, мачы́лі іх, сла́лі, тады́ пря́лі, тка́лі во мушчы́нам то яко́е пінжакі́, то то́е. А са́мі кано́плі таўклі́, се́ялі на сі́тка і е́лі. Яны́ сма́шные былі́. То захо́чам прасно́к спеч які́. Патаўчо́м цыбу́лькі тро́шку

тудь́і, сьпяко́м, пама́жам е́тым – сьмета́на называ́лася – уку́сная. Тады́ ж мукі́ ні было́, э́та сейча́с мука́ э́та бе́лая. А тады́ бу́льбы спа́рыш, яе́ палу́піш і ў сту́пе патаўке́ш, наката́еш е́тых ляпёшачэк – і ў пе́чке пяклі́. І мака́лі ў е́тае. Малако́ мы ні здава́лі, сабе́ ўсё сабіра́лі. Забе́лем, то крупе́ню дзе́лалі, то тваро́х. Малако́ е́та скі́снецца, а тады́ ста́вілі ў пе́чку. Яно́ аттаплівалася. Сы́вараткачка э́та атско́чыць, а тут атваражо́к э́ты. Тады́ яго́ ў друшлячо́к. Сьмята́ны ло́жачку пало́жым – уку́сна. І ма́сла бі́лі. Сабяро́м э́тага малака́, гарла́чыкі былі́. Сьмята́нку саберём у кастру́лячку, яна́ то́шкі пакі́сьне, стано́вім яе́ ў печ. Сьмята́нка атто́піцца, вынімаем яе́, яна́ пастаі́ць, ахаладзі́цца. Сы́раватку э́ту тро́шку сальём, а тады́ калато́ўкаю пакру́цім, яно́ саб'е́цца. Тады́ яно́ пастаі́ць, і мы́лі. Змы́ем, чы́сьцянька ўсё пазмы́ем – і ма́сла. І е́лі, і прадава́лі. На́да бы́ла прада́ць. Ці плато́чэк які́ купі́ць, ці ко́фтачку.

***

У я́гады мы хадзілі на тэй бок за Сож. Чарні́ка, суні́цы. А грыбы́ ту́та расьлі́. Це́пер стра́шна хадзі́ць, паявіліся дзі́кіе сьві́ньня. Папасе́ялі, панасадзі́лі е́тага ле́су. Ра́ньшэ ш ні было́ тако́га. І каро́ў па́сьцілі, а цяпе́р разро́сься е́ты лес. Былі́ грыбы́ падасі́навічкі, ба́бачкі, баравічкі́, радо́вачкі – тож харо́шые гріпкі́. Про́йдзеш тро́шку, то масьля́ткі е́тые. Баравічкі́, тро́шку калі́ ссу́шыш. Варі́лі э́ты куле́ш, скры́шыш у куле́ш, куле́ш сма́шны з грыба́мі.

***

Мы жылі́ на гары́, так ваўкі́ пріхо́дзілі. У нас была́ аўца́, ваўкі́ прішлі́ і вы́цянулі с пу́ні. Зацягну́лі яе́ туды́ на гару́, там і растрабушы́лі. Да́жэ пріхадзі́лі во там за ре́чкаю. Быва́ла зімо́ю прі́дуць, вы́лі. Я ві́дзела ваўко́ў.

***

Тады́ ўсе жылі́ аднаасо́бна, а по́сьле пашлі́ ў калхо́з. Па па́ры ко́ней было́, каро́ва. Гу́мна былі́, пу́ні. У гумно́ скла́двалі зярно́, хлеп, а ў пу́ню се́на ко́ням. Ра́ньшэ каро́вы ні ку́шалі се́на. Трясьлі́ с сало́май папала́м: се́на і сало́мы тро́шку. Усё аддава́лі ко́ням. Во́ўцы былі́. Паграбы́ ры́лі на ву́ліцы. Туды́ быва́ла бо́чкі капу́сты панасячэ́ш, гуркі́ панамо́чыш – і ўсё у по́грабе. Мачы́лі ў бо́чачкі. Бо́чкі былі́, як пяе́цца ў пе́сьні: дзе́нца сасно́ва, а клёпка дубо́ва. Дзёнышкі дзе́лалі, закры́ем. Ба́цька мой і дзет рабі́ў. Быва́ла, про́сіць хто. Бо́чка рассы́плецца. Ён абру́чыкі назапа́сіць с аре́шніка. Ба́цька мой усё дзе́лаў.

***Расказвае Г. М. Сцельчанка, 1936 г. н.****; запіс зроблены ў в. Пячкавічы ў 2009 г.*

Се́на лю́дзі скасі́лі, а паго́ды німа́. На́да касі́ць, двор зараста́ець. Во там во цьвято́чкі. Быва́ла ж у мене́ цьвято́чкі цьвіту́ць е́тые краса́віцы. А сёлета паляжу́, крапі́ва. А што дзе́лаць? Тро́шку прапало́ла. А я іх любі́ла. Быва́ла, всегда́ папапалю́, усё зьдзе́лаю.

Быў у нас калхо́з лу́ччэ Успо́льскага. Рабо́тала я на фе́рмі. Былі́ ў нас сьвінама́ткі, каро́вы, ціля́ты, і ме́льніцы, і бальні́цы, і по́шты, і ўсё. А тады́, як садзіні́лі нас... Мільяне́р быў калхо́з. Тут во было́ абшчэжы́ціе, студзе́нты прыяжджа́лі, жылі́. Тут во была́ стало́вая, вары́лі, гато́вілі. А цяпе́рач ўсё паразлама́лі, параскалаці́лі. Тут во ряд дамо́ў быў, усё паўнічто́жылі. Е́тые студзе́нты тут жылі́ і стро́ілі. А цяпе́р разьбі́тае кары́та. Цяпе́р ско́ра бу́дзець і на Успо́льлі е́та. Саедзіне́ніе е́тых калхо́заў – е́та ўсё ху́дшае. У са́дзік на́да дзіцёнка – аўто́буса німа́, за аднаго́ ні пaго́няць, гаручае е́та пла́віць. Во сядзі́ць у дварэ́, паку́ль е́тые шко́льнікі по́йдуць. Я на фе́рме рабо́тала, паку́ль на пе́нсію пашла́. Тады́ мне да́лі Вецера́на труда́ із залаты́мі бу́квамі. Цяпе́р мале́нькіе кні́жкі, а тады́ во така́я во кні́жка [вялікая].

На мале́ньких парася́тках я рабо́тала. У нас было́ дара́шчыванне. Мне дава́лі сьвінама́тку паро́сную. Яна́ ў мене́ апарасі́цца, я её даглядаю- прігляда́ю. Дара́шчываем да чатырна́ццаці кілагра́м. Тады́ е́тых парася́так мы перадаём на дара́шчываньне. На дара́шчываньні яны́ там ско́лька пабу́дуць, ні ўсе ж яны́ ро́ўна іду́ць, іх перібіра́юць і аддаюць на атко́рм. І тут ужэ́ кілагра́м пад сто яны́ гаду́юцца. А тады́ машы́ну падганя́юць, гру́зюць і пашо́ў на Магілёў.

У нас на фе́рме быў по́грэп, быў няме́цкі камба́ін, бальшы́ такі́. Ён і мыў, і бу́льбу е́ту цягну́ў іс по́граба транспарцёрам. Сам вары́ў і сам цёр. Бу́льбу е́ту патрэ́ць мя́кенечка так. Шэсь чалаве́к нас было́. І ка́ждай у кацёл. Пато́м куляшы́ вары́лі із мукі́. Засыпа́ем прімі́ерна чаты́ры вядры́. Вадо́ю заліва́ець (із камба́іна іду́ць такі́е шла́нгі). Катлы́ е́тые пар даю́ць, і яна́ ва́ріцца. А бальшы́м то́жэ. Была́ така́я ў нас цёрка, дра́чка така́я. Буракі́ закіда́ем, і яна́ пераціра́ець, а тады́ ішчэ́ ў ты́е куляшы́ е́тага кладу́ць.

Харо́шая была́ фе́рма. Бага́ты ў нас быў калхо́з. На фе́рму хадзі́лі тры разы́. Пе́рвы раз усі́х ко́рмім, а ў абе́т ідзём парася́так карміц́ь. А ве́чарам тады́ апя́ць усе́х. Е́зьдзілі е́тые рабо́тнікі на фе́рму і прівo̓зілі нам сьве́жанькае малачко́ ўсегда́. У сем часо́ў яны́ е́дуць, паку́ль каро́ў падо́яць, паку́ль здава́ць малако́, яны́ ўжэ нам біто́н вязу́ць. На малы́х парася́так нам дава́лі дзьве́сьце грам мукі́. А на бо́льшых – палтара́ кілагра́ма. Хвата́ла ўсяго́. А тады́ ўсё разьбі́лась. А тады́ сьвіне́й е́тых забра́лі на Успо́льле. Сюды́ паста́вілі рага́ты скот. Тады́ прішло́ся мне шчэ на цяля́тах рабо́таць. То́жэ было́ чаты́ры гру́пы. Дава́лі нам льносе́мя, куле́ш вары́лі. А цяпе́р жэж се́мя німа́. Дзе яны́ во́зьмуць? Ра́ньшэ ж лю́дзячкі снапка́мі набяру́ць і быў такі́ камба́йнік пахо́дны, нібальшэ́нькі. І но́чны лю́дзі малаці́лі. Пад'яжджа́юць к е́тай ба́бачке, змало́цяць. А е́ты лён на воз, на воз і па по́лю перасце́люць. І лён быў, і се́мя было́. А цяпе́р се́мя яко́е? Се́мя мы вары́лі, для жалу́дка харашо́. І сухо́е малако́ дава́лі. І муку́ дава́лі. Цяпе́р тако́га ні даю́ць.

Каро́вам то́жэ муку́ дава́лі. Бурако́ў жэ мно́га было́, се́ялі. Мы ўдзьвюх рабо́талі на сре́дніх цяля́тках. І мне ва́нну прівo̓зяць, і ей – на дзьве́сьце кілагра́м. Во тако́й паро́й ішчэ́ нам буракі́ е́тые во́зяць із бурто́ў. Усё ў но́рме было́. Сена́ж быва́ла даю́ць, е́сьлі ві́дзяць, што малава́та бу́дзець, дабаўля́юць.

На палявы́е рабо́ты мы ні хадзі́лі. Калі́? Нам у дварэ́ паесьць не́калі было́ звары́ць. Дзіця́м згато́вім, а сам у кула́к да бегака́. Паку́ль по́йдзеш спра́вісся, пры́йдзеш – дзіся́ты час. Дзьвена́ццаты час – на́да беч [бегчы]. А там пяць часо́ў, апя́ць на́да ідзі́ць. А тады́ паку́ль патсьце́леш, пры́дзеш часо́ў у дзе́вець. Калі́ тут што дзе́лаць было?

***

У мене́ было́ чэ́цьвера дзе́так. Аднаго́ ў Аўганіста́н забра́лі. Прішо́ў пабі́ты, пара́неты, паме́р. Сын астаўся ў яго́. У е́тым гаду́ канча́ець інсьціту́т, па электріке пайшо́ў. Ажані́ўся, ма́льчыка іме́ець. Муж ляжы́ць ра́зам іс сы́нам. Памёр у дзевяно́ста фтаро́м гаду́. Як крэ́пка была́, каса́ із рук ні выхадзі́ла. Распа́шнік ні выхадзі́ў. Быва́ла, дзе́так пасаджу́, яны́ паката́юцца па во́чарадзі, а я бу́льбачку абганю́. Цяпе́рь ужэ́ жду з дня на́ дзень. Ужэ́ се́мсят тры, наш род до́ўга ні жыве́. У се́мсят адзі́н, се́мсят два – усе́ на атхо́дзе.

Пе́ньсія мая́ харо́шая. Чаты́рыста пі́йся́т два рублі́. Тады́ харашо́ мы палуча́лі. За прівe̓с дава́лі, за выхадны́е, за стаж плаці́лі. У канцы́ го́да нам усе́ е́тэ дава́лі – усе́ даплa̓ты. Цяпе́рь ужэ́ лю́дзячкі і вадзі́цу во́зюць, і дро́ўцы но́сюць. С Успо́льля к нам па́рня паста́вілі, дак ён к нам тры ра́зы прыяжджа́ець.

***

Я пріе́хала сюда́ ў пі́йся́т чацьвёртум гаду. Там пасёлак быў, у е́ты бок пасёлак быў, тут пасёлак быў. Гро́зы [вёска] по́ўнасьцю былі́, два табуны́ было́ ско́ту. А цяпе́ря што? Лю́дзі ўсе паатышлі́. А ра́ньшэ двор на двару́ было́. Па пі́йся́т со́так у ка́ждага было́ зямлі́. Ха́та на ха́це стая́ла. А цяпе́рь там ат кра́ю два чалаве́кі жыве́, ту́та пусты́е дворы́. А ту́та апя́ць чаты́рі дворы́. У нас ужэ дзе́вяць каро́ў аста́лась вме́ста двух табуно́ў. Усё пазбылі́ лю́дзі. Ко́ней німа́. А ў като́рага чалаве́ка і есь конь, то ён ду́жа ні раскі́нецца. То б'е́цца, то куса́ецца той конь. Да й каму́ на́да? Скаці́ну нажы́ў на чужы́е ру́кі.

Я сюды́ як пріе́хала, у каню́шні было́ па се́мсят ко́ней. На ко́ніках і бу́льбу се́ялі і паха́лі, і засева́лі. Ні было́ ж це́хнікі. Усё каня́мі рабо́талі. Людзе́й было́ по́ўна. Быва́ла касі́ць вы́йдуць – со́рак мушчы́н лог заніма́юць. А січа́с папрасі́ць: во тут адзі́н хлапчы́на і ту́та тры. Папрасі́ць не́кага. І е́тые ўжэ падбі́тые лю́дзі. Асу́нься во тут на даро́зе, ніхто́ ні падбярэ́ць. Нічаво́ німа́, нікаго́.

***

Мужы́к маёй сьвякро́ві с сы́нам былі́ ў нас на кварці́ры, лес валі́лі. А ў мене́ саўсі́м другі́ хло́пец быў. Ні хадзі́ла, ні брадзі́ла – за е́тага пашла́. Запо́іны іду́ць, а с фана́рікам у акно́ сьве́ціць. За чаты́рнаццаць кіло́метраў хадзі́ў ка мне. Жылá я... Ха́тку пастро́ілі, хазя́йства ме́ла – рабаця́шчы быў. У нас жаж ме́ста ро́ўнянячкае, с аднаго́ бо́ку стань – другі́ ві́дна. А сюды́ як пріе́хала, а тут валні́стые е́тые, стра́шнае тако́е ме́ста. Сла́бенька жылі́, ніч́ога ні ме́лі. Сьвякру́ха бальна́я была́. Ні парасёнка, ні курёнка, адзі́н гуса́к хадзі́ў. Пашла́ я на льнозаво́д на рабо́ту. А тады́ ўжэ дзіця́ нашло́ся і я кі́нула. Са сьвякру́хай чаты́рнаццаць гадо́ў жыла́. Яна́ мне і дзе́так гадава́ла. Памага́ла. Я дзяце́й кі́ну і пайду́. Дава́лі нам то́лька два ме́сяцы: ме́сяц да ро́даў і ме́сяц пасьля́ ро́даў. І йдзі. Даю́ць два часы́: час на кармле́ніе і час на абе́т. С льнозаво́да кіло́метра тры́. Прыду́, дзіця́ пакармлю́ і апя́ць пайду́. Так расьці́ла.

А тады́ прадава́лася во тут ста́ренькая ха́тка. У мене́ тро́шку гро́шэй было́, ма́ма з бра́там паткі́нула мне ўзяло́к, і так мы е́ту ха́ту купі́лі. Нам по́лнасцю ні хвата́ла, дапла́чвалі пазьне́й. А тады́ іс саро́й і харо́шую зьдзе́лалі. Лес дава́лі, мы ле́су вы́пісалі. Ну а сам ён усё ўмеў зьдзе́лаць. Мы ўдваі́х во хацёну зьдзе́лалі, ніко́га ні прасі́лі. Вот так во і жызьня́ пашла́.

***

І хрэ́сьбіны рабі́лі, і даве́дкі рабі́лі. На́дзя ў мене́ до́ма радзі́лася, Сяро́жка до́ма, Ве́ра ў бальні́цы і Ко́ля ў бальні́цы. У нас ря́дам медсестра́ была́, акушэ́рка. Усю́ ноч сядзе́ла са мной. Сасе́тка была́. Яна́ ўжэ памёрла, харо́шая была́. Яна́ так паніма́ла ўсё. Бывáла е́сьлі ў цябе́ по́чкі баля́ць, яна́ е́тэ ўсё ў прабі́рку, пракіпяці́ць і яна́ табе́ ўжэ ска́жэць, што ў цябе́ там аса́ткі ў по́чках. Харо́шая была́. Дак е́та ж даваённае вре́мя.

Ма́мка ў даве́ткі прыяжжа́ла, сасе́ткі пріхадзі́лі, і яго́ радня́ пріхадзі́ла. Я бо́чку гарэ́лкі задзе́лала. І тут во ў мене́ ж бу́льба была́. Мушчы́ну аднаго́ прасі́ла, каб ужэ мне па баразёначке разганя́ў. І бу́льбы е́тае капа́ла, на по́грап насыпа́ла, прішла́ перебіра́ць, а тут ужэ́ дзе́цца не́йдзе. А гарэ́лка мая́ яшчэ́ ня вы́хадзілася. Бу́льба мая́ ня вы́капана. Прышлі́ ба́бачкі, бу́льбачку маю́ скапа́лі. Хъзя́ін гарэ́лкі вы́гнаў. І гуля́лі на высацэ́. Цяпе́р ужэ́ э́тага німа́.

У мене́ кума́ ўчы́цельніца. Яна́ ўжэ на пе́ньсіі, у Зале́сьсі ўчы́ла. Ба́цюшку прывазі́лі сюды́ ў Зале́сьсе на кварці́ру. І тут ужэ́ крэсьці́лі. А ме́ньшага крэсьці́лі ў Ча́усах. То́жэ на даму́. У е́тых у трёх адна́ ўчы́цельніца крэсьці́ла. А е́ты ўжэ радзі́ўся, у яе́ но́гі забале́лі. Яна́: «Ку́мачка, ні пріе́ду, пае́ду ў санато́рій». То́жэ ужэ́ мужы́к яе́ памёр. У яе́ па́ра дзе́так было́. Ці яна́ шчас у Рёсне жыве́ць, ці яна́ там із дзіця́мі.

***

Мой мужы́к па пло́тнічаству ў калхо́знай брыга́дзе. Во амба́ры дзе́лаў, дзе які́ ремо́нт на́да. Ён усё ўмеў дзе́лаць. Ён і дзьве́ры збвя́жэць.

Са сьвякро́вай я чаты́рнаццаць гадо́ў жыла́ ўме́сьці. Ужэ́ дзе́ці былі́ бальшы́е. Мы хадзі́лі ўсе ўме́сьці. І сьвякро́ў усегда́ з на́мі хадзі́ла. І сва́дзьбы спраўля́лі, і крэ́сьбіны спраўля́лі, і даве́ткі спраўля́лі – усе́ спраўля́лі.

***

Цяпе́р усе́ пазарасло́. Не́каму се́яць. Нам цяпе́р па гекта́ру зямлі́ да́лі. Се́йце, як хо́чаце. Я ўсё засе́яла, а ўбіра́ць – як пры́дзецца. Зярно́м засе́яла, бу́льбачкай засе́яла. А гря́ды сёлета: цыбу́лькі пасадзі́ла, тры гуро́чкі шнуркоў, іх се́ᵊлета ня бу́дзець. Такі́е во жо́ўтые седзя́ць. Квасо́лькі пасадзі́ла, часнач́ок азі́мы. Цыбу́лька мая́ сёлета – ну што яна́? Наво́зу німа́, земля́ пуста́я. А пра́ўда гаво́рац: на дурно́й галаве́ і валасы́ ні расту́ць. Так і е́тэ: е́сьлі земля́ ніўдабрёна – во так во седзя́ць ду́дачкамі.

***

У мене́ радзі́лась На́дзя. Прышла́ к нам стару́ха адна́. І то́лька пачу́ла яе́ плач. Яна́ круць іс ха́ты і пашла́. А На́дзе маёй так ста́ла пло́ха, яна́ дубо́венькая ста́ла. Дак быў тут у нас аграно́мам рабо́таў старі́к. Тут у яго́ пя́тніца і шчэ мо́жа такі́е дні. Сьвякро́ва за яе́ і к яму́. І вот звадзі́ла, і ўсё прайшло́. Вадзі́цы даў. Ваду́ нагава́ріваець. Ра́ньшэ былі́.

***

Чарні́ку зьбіра́лі, земляні́ку зьбіра́лі. Лес е́ты павы́рубілі, дак ста́ла малі́на. Цяпе́рь, як у мяне́ сядзі́ць пара́чка, крыжо́ўнік, смаро́да, клубні́чка, мне ні на́да іці́ць у лес. На́дзечка, гавары́о, абіра́й, у мене́ шчэ трохгадо́вае варе́нье стаі́ць, нашто́ яно́ мне. А сабе́: са́хар дзьве ло́жкі, вады́ хало́днае – глюко́зы хлебану́ і ла́дна. Із бачка́ бяру́ ваду́ хало́дную, дзьве ло́шкі са́хару кладу́ – глюко́за. Во паляжу́, у ро́це су́шыць. Я два глато́чкі то́лька вады́. Дак ноч ня сьплю. У трэ́цем часу́ то́лька во́чы замыка́ю.

***Расказвае В. А. Пашкова, 1927 г. н., адукацыя 5 кл.****; запіс зроблены ў в. Капачы ў 2009 г.*

Бе́днась была́ така́я. Ма́мка ня рабо́тала ўсю жы́зьню. Пражыла́ яна́ во́сімсят пяць гадо́ў, а стаж у яе́ быў, наве́рна, адзі́наццаць с палаві́наю гадо́ў. Ну як было́ рабо́тацъ? Дзе́ці лузґа́ліся, як лузґанцы́, як той каза́ў. Пяць кла́саў ко́нчыла, рабо́тацъ не́каму, я была́ ста́ршая. Пашла́ на рабо́ту ў саўхо́з. Рэ́зала рэзь: во така́я во па́лка лежа́ла, ат е́тага да е́тага, на е́ту па́лку кладзе́ш сало́му і так во нагу́ю, сярпо́м рэ́залі. А есь хо́чацца. Ма́мка быва́ла сабярэ́ць які́я капе́ечкі і мне паду́шэчак ку́піць, каб у ро́це ня со́хла. Я купля́ла кні́шкі сабе́ і чыта́ла, у мене́ было́ сваі́х тры́ццаць во́сім кніх. На по́лачке, я любі́ла чыта́ць. Начала́сь вайна́. Мы жылі́ на ху́тары. Была́ вайна́, пе́рва фінля́нская. Па́пку забра́лі. На ху́тары было́ чаты́ры до́ма. Харашо́ было́ жыць на хутара́х. І по́мню, як ішо́ў па́пка з вайны́. Я пашла́ вады́, там такі́е рэ́чка і кало́дзеш – Клін. Там цяпе́р німа́ ўжэ ста́рага Кліна́. І мы яшчэ́ жылі́ на ху́тары. І тады́ як узьня́ліся, як узьня́ліся. Врадзі́чэства тако́е было́. На ху́тары яко́е-то іме́нье было́ – усё. Былі́, по́мню, харо́шые гру́шы, я́блыкі. І яны́ прые́халі на машы́ні – усё э́та парэ́залі, вы́разалі там пат карэ́нь. Як вы́рэзалі, палажы́лі, так яно́ там паку́ль і ні згніло́. А тады́ ўзялі́ся зганя́ць с хутаро́ў. Ху́тар так быў кіло́метры два ат нас. Лес там быў у нас, сад – чарнаслі́ўкі, сьлі́ўкі. Я была́ са́мая ста́ршая, а яны́ ма́лые – жа́ўранке. Сем ці во́сім дзяце́й – ужэ́ вот забыва́ю. Адзі́н быў то́ка ў нас ма́льчык, а то ўсе дзе́вачкі былі́. Тады́ ж пе́чкі былі́, га́зу ні было́. Суп з е́тае чэчэві́цы, ні бу́льбы, ніч́ога ні было́. Цяпе́р я ўспамі́нала. Я пале́зла ў пе́чку і ду́маю: увальлю́ хоць ло́жачкі дзьве е́тага су́пу, так ужэ́ мне хаце́лася. Я тады́ ўзяла́ яго і абярну́ла ўвесь. Суп е́ты падняла́, накры́ла і бяго́м за ха́ту, за ву́гал – спуга́лася. Ві́жу: па́пка з ма́мкаю іду́ць. А я стаю́ і так пла́чу, во так во трасу́ся. Па́пка о́чэнь быў харо́шы, ён ніка́да нас ня біў, ніка́да. Я як разраве́лася і ўцека́ць – бярэ́зьнічак быў. Ён крычы́ць: вярні́сь, вярні́сь, вярні́сь. Што тако́е, што ты там натвары́ла? Расказа́ла яму́. Ну ла́дна. Пабе́дацъ тро́ху было́, і до́брэ. Была́ жызьня́. Было́ тру́дна жыць. Я шчэ мала́я была́. Рэзь рэ́залі, хадзі́лі загрэба́ць за възамі. Тады́ ж на ко́нях се́на вазі́лі. Мы з грабе́лькамі заграба́ем се́на. Дзе́ці ма́лые ўсе. Па́пка з ма́мкай по́йдуць на рабо́ту, а я саджу́ся на вакно́, а там во такі́ бярэ́зьнік красі́вы, і пяю пе́сьні на ўсю, скока ў мяне́ есь сі́лы. Яны́ іду́ць з рабо́ты, я там займу́сь на вакне́, но́гі зьве́шаю. Яны́ прыхо́дзяць: што ты тут дзе́лаеш? А я чэ́раз вакно́ і пашла́. У нас там када́-та гру́шы-ду́лі былі́, я́блыкі – усё парэ́залі пат карэ́нь. Там гумно́ было́, ко́ні заганя́лі, бальшэ́ннае тако́е гумно́. По́граб быў. Так было́ краса́ва ўсё.

***

Гаво́рацъ ужо́, што атсту́паюць не́мцы, а мы ў бало́це. Былі́ шпіё́ны. Прябяга́лі туды́, там саабшча́лі. Гало́дные і хало́дные. Ці́ха ста́ла, пераста́ла ўжэ е́та перастрэ́лка. Там былі́ ўжэ старыкі́, мушчы́ны ста́рые, като́рые ня былі́ на вайне́. Яны́ сабра́ліся там утраёх і гаво́рацъ: Ва́ля, пайдзём дамо́й. Я гавару́: я з ва́мі не пайду́. Я пайду́ чэ́раз рэ́чку, і там паграбы́, я пайду́ к сваёй ма́мке. Яны́ ў по́грабі та́ма. Пайду́ і ім скажу́, што ўжо пашлі́ не́мцы. Яны́ пашлі́ сюдэ́й, а пашла́ так вот па бало́ці і сюды́ во к рэ́чке. На́да было́ чэ́раз рэ́чку, у нас там лежа́ла даска́, і па е́тай даске́ перехо́дзілі ве́чарам. Тры старікі́ было́. Яны́ там ра́дом кала́ нас жылі́. Яны́ пашлі́ і то́ка яны́ прайшлі́ нямно́га зь ле́су, вы́шлі, і ішлі́ чалаве́к сем ці во́сім яшчэ́ не́мцаў. І яны́ іх узялі́. Забра́лі яны́ іх і пагна́лі за Хо́дасы. А я пашла́ сюды́. Ні спа́ўшы, дош. Сьціх ужэ́ дош, і я легла́ пад узго́рачкам. Рэ́чка, а я так пад бугаро́к ле́гла і заснула. Патхваці́лася, прасну́лася, гляджу́ – ві́дна, дзень, ціха ўсё. Дай-ка я вазьму е́ту до́ску, вы́цягну і палажу́ чэ́раз рэ́чку і пе-

райду́. То́ка галаву́ пъдняла́, а не́мец на матацы́клі е́дзець во як да е́тае ха́ты. Я спуга́лася, пакаці́лася ўніз. Ён мене́ ні заме́ціў. Не́мцы хаце́лі пераехаць, мост ста́ры, танк абвалі́ўся, і яны́ ўсі ўсё. Ну яны́ ні пагі́блі, то́ка ста́лі ну хто куды́ разьбяга́цца. Я скаці́лася так во ў раво́к е́ты, ну яму́ ня ві́дна было́. У яго́ ні было́ нічо́го, ну то́ка, мо́жа, пістале́т, ён на матацы́кле е́хаў. У та́нку е́тым былі́, ві́дзіма, матацы́клы е́тые. Я скаці́лася, паляжа́ла ці́хенька, ві́джу, што ён завярну́ўся і паехаў наза́д. Тут нідзе́ ён ні прае́хаў. Ні было́ куды́ яму́ прае́хаць. Я тро́ху паляжа́ла, а тады́ я ўжэ пашла́ к ма́мке. Там яны́ ды́хаць не́чым, у по́грабі пішча́ць ма́лые дзе́тачкі, Го́спадзі. Не́мец там сказа́ў: яны́ жжыга́юць усё. Вазьмі́це хоць яку́ю адзе́жыну с сабо́й. Ажно́ і пра́ўда. Бох пажале́ў. На́шу е́ту дзярэ́ўню ні спалі́лі, ім ужэ́ не́кагда было́. А Ма́залава яны́ спалі́лі, да едзі́най ха́ты спалі́лі – згарэ́ла ўсё. Іх пёрлі на́шы с-пат Смале́нска. У нас яны́ ні спра́віліся спалі́ць. А тады́ мы ўжэ ста́лі сабіра́цца ў сваé ха́ткі.

Нас было́ во́сім душ. Ба́бушка была́ – во́сімсят два гады́. Храма́я нага́ была́... Каро́ва была́, пърася́ткі былі́, сьвінама́тка то́ка апарасі́лася. Яна́ гаво́рыць: куды́ я ўжэ пайду́, хай яны́ заб'*ю*ць, нашто яны́ мене́ бу́дуць біць. Яна́ ту́та і была́. Яны́ занялі́ на́шу ха́ту, пра́ўда, нічо́га ня дзе́лалі. Сьвіньня́ ў нас была́, дзьвіна́ццаць парасёначкаў апарасі́ліся, ну пара́дашные ўжэ былі́. Не́мцы пазва́лі яе́: ідзі́ вы́гань е́ту сьвіньню́. Яна́ гаво́рыць: паны́, ня тро́гайце, у яе́ мно́га ду́жа дзяце́й, паказа́ла – во́сім дзяце́й. Сьвіньню́ зарэ́залі, усі́х е́тых парася́так. Парася́так е́тых мы́лі, жарко́е дзе́лалі, пе́чку тапі́лі, чугуны́ ста́вілі. Яны́ ту́тата дні тры шчэ былі́. С-пат Смале́нска пёрлі е́тых не́мцаў і папёрлі. Яны́ пъўцяка́лі.

А старыкі́ то́ка вы́шлі з бало́та, не́мцы іх забра́лі. Ізьдзява́ліся над і́мі. Патрэ́залі ім гало́вы і ўкі́нълі іх у по́граб усі́х трох. А тады́ там ужэ́ лю́дзі сказа́лі што, дак лю́дзі наказа́лі. Прако́п быў, называ́лі яго́, імя́ шчас харашо́ по́мню, усё каза́ў: Ва́ля, пайдзём, чаго́ ты бу́дзеш тут сядзе́ць. Мяне́ любі́лі ўсе ў дзярэ́ўні, я така́я была́ блі́зкая. Я: не, ні пайду. Стару́шка была́ ў яго́. Пабра́лі ко́ні, пае́халі, прыве́зьлі іх, пахарані́лі. Такі́е былі́ га́ткіе. Ну што зь е́тага старыка́ было́ браць? На́да было́ быць такі́м га́ткім, а-я-я́й. А тады́ яны́ пераежджа́лі чэ́раз мост, танк е́ты, а ў та́нку ў іх жэ бы́ла ўсяго́. Дык хто быў сьме́лы, тады́ ўжэ по́сьле, ла́зілі. І кансе́рвы, і тушо́нкі, і ўсё е́та падастава́лі.

***

Прышлі́ ў сваю́ ха́ту. У со́рак трэ́цім ужэ́ гаду́ прые́хаў ужэ́ дзірэ́ктар – паразі́т, ні магу́ ўспо́мніць да́жа, зара́за быў такі́. Прые́хаў на тра́ктары і гаво́рыць ма́мкі: во табе́ мех мукі́, пячы́ хлеб і сушы́ сухары́. Дзе́ўка твая́ пае́дзець (пітна́ццаць гадоў мне было́) у Сібі́р за ската́м. Нашто́ было́ нас гнаць ішчэ́, е́сьлі на Про́ні стъя́лі не́мцы. Раз сказа́ў – усё. Ма́мка напекла́. Печ нато́піць, пяць-шэсь бу́лак сьпячэ́ць, на пе́чы су́шыць. І пасушы́ла мне мех сухаро́ў. Ну ня адна́ я, мно́га е́зьдзілі. Цётка мая́ е́зьдзіла. Ну яны́ ўжэ пасьці́ што ўсе паўміра́лі. Ма́мка спаро́ла на́валачку таку́ю ў кле́тачку і пашы́ла мне спадні́чку і там ко́фтачка, яка́я была́, ну так і пае́халі, та́пачкі такі́е былі́ ста́рэнькіе. Тра́ктар прые́хаў, пагрузі́лі нас, на Хо́дасы прывязьлі́. Тъварня́к. Пагрузі́лі ў тъварня́к. Ка́жды са сваі́м мешка́мі, так во і е́халі мы ў е́тым таварніку́. А хало́дна, прые́халі да Го́меля. Там была́ е́та астано́ўка. Там яшчэ́ мно́га было́. А людзе́й! Усё гна́лі. Хахлы́ былі́ – адны́ мушчы́ны. А ў нас адны́ дзе́ці. Дзяце́й сабра́лі і папёрлі ўсіх. У Го́мелі быў такі́ до́мік, нас ужэ́ ўсі́х сагна́лі, так во к сьце́нке, усі́х папасе́лі, ня то́ка мы, і хахлы́ е́тые. І сядзе́лі мы. І тады́ далжны́ мы палуча́ць паёк, там дава́лі (Аме́рыка пасабля́ла) тушо́нак. Далі́ нам па дзьве ба́начкі е́тае тушо́нкі, хле́ба па тры бу́лкі. І там дажыда́лі по́езд. Сабра́ліся мы е́хаць, пасьле́дняя ноч начова́лі. І наляце́лі шчэ няме́цкіе самалёты, і пачалі́ е́ты Го́мель бамбі́ць. Мы ж е́тае бамбя́жкі ня чу́лі і ні віда́лі. Ну, а ў нас усё-такі стая́лі часавы́е два, як пало́жана, вае́ннае ж врэ́мя. І мы пъдня́ліся ўсе, кі́нулі сваé су́мкі, усе́ кі́нуліся ў дзьве́ры, уціка́ць, бамбя́ць жэ. А ён: куда́? Закры́ў на замо́к дзьве́ры. На ву́ліцы вас жэ паб'я́ць як мух, ідзём за мно́ю. А там бомбаўбе́жышчэ і прысту́пачкі такі́е. Ён дзьве́ры е́тые падня́ў і мы туды́ ўсі, кі́нулі і мяшкі́ сваé кала́ сьце́нак. Ніхто́ нічо́га ня тро́нець, ня бо́йцеся. І мы туды́ ўсі́. Там былі́ із ма́мамі дзе́тачкі, а дзе́тачкі е́тые пішча́ць. Е́та нядо́ўга было́. Ноч ён пабамбі́ў. Забі́лі тады́ пяць чалаве́к і не́скака хат спалі́лі. А тады́ ужэ́

аткры́лі, мы ўжэ вы́шлі, прышо́ў по́езд, і мы пае́халі на Маскву́. У Маскву́ прые́халі на вакза́л. А вакза́лы былі́ забі́ты вае́ннымі. А ско́ка было́ дзеўча́т! І яны́ надзе́ты: вот такі́е ю́пачкі каро́ценькіе, гімнасьцёрачка, рамушо́к, а сапо́шкі, аж гара́ць, глядзі́м, як у зе́ркала – на вакза́ле. А йгра́юць, а яны́ як по́йдуць плiса́ць во так во, аж душа́ ў мене́ трасе́цца. Яны́ былі́ дзень, перанучува́лі, і тады́ іх на Ленігра́д папёрлі. Усі́х іх там палажы́лі. У Маскве́ тады́ салю́т дъва́лі. Мы павы́шлі, так ні віда́лі ні ра́зу. Дні тры ці чаты́ры ні было́ по́езда, мы хадзі́лі па Маскве́. На база́рчык мы хадзі́лі, капе́йкі нам с сабо́ю тро́ху дава́лі. То бу́лачку яку́ю, то дра́нік які́ ку́пім. А па акра́інам былі́ такі́е дзерavéнскіе дама́, ху́жэ, чэм е́та ў нас. І тады́ пъгрузі́лі нас і е́халі мы. А по́езд быў і таварня́к, і ні таварня́к, а вако́н ні было́. А Во́лга е́та, зна́еце яка́я шырыня́, а там во такі́е шпа́лы пад нізо́м, а навярху́ шчэ і по́езд ідзе́ць, то́ка ці́хенька-ці́хенька, чуць-чуць-чуць. Пярэе́халі чэ́раз е́сту, а тады́ на гарэ́ го́рат Къза́нь, во красі́вы, а тады́ ўсё былі́ до́мікі такі́е ма́ленькіе, ці то глінабі́ткі, ці які́е – бе́ленькіе, бе́ленькіе, як во палатно́ бе́ленькае тако́е. Так красі́во, глядзе́лі так во на гару́. А мы сядзе́лі, у вакно́ глядзі́м усё. А тады́ Омск, То́мск – Сі́бір усё. І тады́ нас прыве́зьлі ў Сі́бір. І там лес, ніпрахадзі́мы лес такі́. Туды́ зганя́лі е́тых людзе́й на ка́таргу. Тут нас вы́садзілі, вы́кінулі е́тые су́мкі. Ну арганіза́цыя яка́я-то была́, дзе мы далжны́ былі́ брацъ каро́ву. Прые́хала машы́на, нас пагрузі́лі, а там пастро́ек ні было́ ні́якіх, адзі́н такі́ быў до́мік. Нас туды́ прывязьлі́, згрузі́лі. А мы ж нічо́га ні бра́лі с сабо́ю, ні́якае ні адзе́жы. Ну і спа́лі мы на палу́, пра́ма на го́лум палу́. І я тады́ с сваёй е́тай ю́пачкі, што ў клётачку была́, пашы́ла сабе́ паду́шачку і траво́ю, е́тым се́нам насушы́ла, хоць пад галаву́. Адзі́н быў бальшэ́нны стол і ўсё. І хъзя́йка е́та дала́ нам гру́бачку. Бра́лі мы с сабо́й і хлеб е́ты, і сухары́ бра́лі, і са́ла было́. Дзе-нібу́дзь хадзі́лі і ў шча́вель, і ў грыбкі́. Нас дзержа́лі там да сеньцябра́, і ніхто́ ні даў ваго́на. І мы там сядзе́лі. Ужэ́ як ста́лі грыбы́ е́тые, то хадзі́лі ў лес, то я́гадзіна, то што-нібу́дзь. Мы ўжэ ні галада́лі. Бу́льбу капа́ць. Нас гъня́лі тро́ху на рабо́ту. Там у ваго́нах спа́лі. Там былі́ ўся́кіе: і няру́скіе, белару́скіе. Ну што там даду́ць? Во таку́ю ма́ленькую тарэ́лачку. А мушчы́ны здаро́вые былі́. По́мню: адзі́н малады́ хло́пец, красі́вы быў, а спа́лі на на́рах во, на го́лых на́рах, нічаво́ ні было́. Ну што, ён гало́дны, як воўк. Ён о та́ко лёг і ўзя́ўся за траву́. А там яго́ гнаў на рабо́ту. А ён сказа́ў: курса́к пусто́й, рабо́ты нет (ві́дна няру́скі), пакармі́, пайду́ рабо́тацъ. Ско́лькі ён ні въява́ў, штоб пъдня́ць яго́, пасадзі́ць і ні пъдня́ў. Во як інцьрэ́сна. А былі́ шчэ, ма́мачка, я ні зна́ю, ці яны́ ка́таржнікі, ці што яны́ та́ма, Го́спадзі, як лю́дзечкі жылі́. Ну мы жылі́, ніха́й сабе́ пры не́мцах, ну мы ні гарува́лі. Прыганя́лі іх у ба́ню мыць. Сабра́ліся жэ́ншчыны е́тые: пайдзе́м і мы памы́емся. Прыхо́дзім туды́, а яны́ ўсе ўме́сьці: і мушчы́ны, і жэ́ншчыны, і дзе́вачкі. Ну мы ж ужэ́ ні пашлі́ туды́. А тады́ ўжэ сасе́дка дала́ гру́бъчку, тро́ху калі́ галаву́ то са́мае гла́ўнае памы́ем. Маладзёш гна́лі ў ба́ню, а ў іх сто́ка сплёцена ў въласа́х е́тых. І іх пра́ма табуно́м такі́м, ну памно́га, памно́га. Людзе́й заганя́лі ў е́ту ба́ню і застаўля́лі, штоб ціф не распрастраня́ўся. І ім дава́лі мы́ла яко́е-та, стаго́льніка, і іх мы́лі, а тады́ наза́д. І дзе-та яны́ рабо́талі.

Там во́сень. Прые́хаў хъзя́ін, гаво́рыць: пае́дзем, памо́жаце (у іх агаро́ды бальшы́е) выбіра́ць. Прые́хаў ён на верблюда́х. Ён нас на е́ты верблю́д пасадзі́ў і павёз. Мы там рабо́талі. А я ні зна́ла, што е́тые вярблюды́ плюю́цца. Падышла́ і хаце́ла яго́ пагла́дзіць. А ён як пляхану́ў у ліцо́. Хазя́ін нас забра́ў, і мы капа́лі. Хазя́йка была́ о́чань харо́шая. А са мной была́ падру́га Лі́да. Я зь яе́ бра́там, мы ду́жа дружы́лі са шко́лы. Быва́ла, по́мню, на лагу́ як пры́дзець, каб ма́мка ні віда́ла, ніхто́, схува́ймся. Не́хта ня мо́жэць сам сказа́ць, дак пісьмо́ напі́шэць. Ні такі́е былі́, як цяпе́ра. Я тады́ лісты́ чыта́ю, схува́ю. Каб жэ ні зна́лі, то на чэрда́к забяру́ся, пачыта́ю е́тэ пісьмо́. Ра́ньшэ было́ стро́га.

Капа́лі мы бу́льбу, і по́мню ве́чарам паўжынaлі і ёй (Лі́дзе) прынясьлі́ пісьмо́: перада́й маёй любо́ві ці любі́май, што ім прышло́ ізьвяшчэ́ньне – ба́цьку забі́лі. Ну і я там як ста́ла крыча́ць, як ста́ла рваць на сабе́ ўсё: ма́мка, шэсь дзяце́й, ба́ба. Яна́ ні кьня́ ні магла́ запрэ́ч, яна́ нічо́га. Яна́ быва́ла шы́ець і шы́ець. С тра́пачак, с таго́-сяго́ сабярэ́ць – і пла́цейка. І то́жэ пражыла́ во́сімсят гадо́ў. Ну нідзе́ яна́ ні рабо́тала. Тады́ хъзя́ін запро́х свайго́ верблюда́, мяне́ сюды́, у абшчажы́ціе. У мяне́ атняло́ рэч, і я два ме́сяцы ні разгава́рывала. І тады́ ў мяне́ вы́сыпаліся зу́бы, на не́рвнай по́чве. З на́мі е́зьдзіла врач. Яна́ мяне́ вазі́ла. Яны́ ста́лі чо́рныя і ўсе вы́сыпаліся. І я с тых пор без

зубо́ў. Мы былі́ бо́сые, саўсі́м бо́сые. А там жэ ўбіва́лі, рэ́залі каро́ў – гато́вілі, ні нас. Піта́ліся, чым маглі́ са́мі. Ко́жы ні выдзе́лывалі, а так ужэ́, стара́я ко́жа. Нача́льнік харо́шы быў. І ён парэ́жыць вот такі́мі кружка́мі і тады́ папраб'е́ць дзі́рачкі і шнуро́вачкі, і тады́ ідзе́м, а нага́ коўзь-коўзь па е́таму. Во як хадзі́лі. А пато́м сабра́лі ўжэ нас такі́х во падле́ткаў, а некато́рых аста́вілі. Мы ў сеньцябрэ́ прые́халі. Ні далі́ ніч́ога, прые́халі пусты́е ўсе. Прые́халі на Маскву́. Мышо́к на плячах с сухара́мі, ту́та вядро́, кру́шка была́ с сабо́ю – усё е́та ў нас было́, ну ду́малі ш, каро́ў на́да даі́ць. І такі́е ўзялкі́, і тады́ на́да было́ нам е́хаць мятро́. Я ж е́тага ні зна́ла, што е́та за мятро́. А е́та ж высо́ка-высо́ка, а тады́ ўніз па присту́пачках, а присту́пачкі е́тые са́мі бягу́ць. А я ж ні зна́ла. І ў мене́ е́ты мяшо́к і вёдры е́тые. І я бяго́м бягу́ і бягу́. Жэ́ншчына та́ко мяне́ схваці́ла: дачу́шачка мая́, стой, куды́ ты бягі́ш? Я гавару́: я ж астану́ся, ма́мачка, а ўсе пабе́глі, я ж нічо́ганькі ні зна́ю. – Сто́й са мной, я табе́ сказа́ла, стой! Прышо́ў по́езд, мы паўле́зьлі ўсе, а ён дужа-ду́жа бы́стра ідзе́ць. Канду́кторша е́та: дава́йце быстрэ́й вылеза́ць. Нія́к ня вы́лезеш. Мяшкі́ е́тые. Ну так-сяк вы́лезьлі, тро́ху апчыпа́ліся, пае́халі на белару́скі вакзал, дзе нам ужэ́ бы́ла садзі́цца. Тады́ прые́халі дамо́й. Ма́ці ўжэ і ні дажыда́ла. Так бе́гла, так бе́гла, ну зна́ла, што ўжэ па́пку забі́лі. Прышла́, а іх по́ўна там. Ско́ка ра́дасьці, крыча́ла, ой-ой! А дзе́ці ўсе ма́лые, адзі́н пад адзі́н. Пакрыча́лі, павы́лі, пагавары́лі. Усё на не́рвах. І забале́ла я. Ста́ла жо́ўтъя-жо́ўтъя. А там была́ така́я стару́шка, шэпта́ла. Ма́мка схадзі́ла, яна́ прышла́. Яна́ і на цыбу́лю, і на га́льле, яна́ мяне́. А то во так, э́та мне ўжэ усё дало́. Дало́ знаць, што дзіцёнак го́ркі. Ну тады́ ўжэ ста́лі, астанаві́ліся, ста́лі жыць. А ты́е прые́халі ўжо было́ хало́дна. Ніч́ога ім ні даў ніхто́.

***

Я хоць дзераве́нская была́, но... Хо́дзюць ты́е салда́ты і хо́дзюць. Я ўзяла́ о так о завіза́ла ху́стачку наза́т ко́нчыкі, а тады́ ху́стачку пад бараду́. І так о сядзе́ла ў ваго́не. Тъварня́к і ні тъварня́к, по́лкі, як пасажы́рскі такі́. І быва́ло так о сяджу́. Была́ ў нас Со́ня, зьвяза́лася з адны́м. Усяго́ было́. Нагурува́ліся. Быў тунэ́ль – пійся́т кіло́метраў. А тады́ таварня́к, і мы е́халі ў таварні́ку. І мы пійся́т кіло́метраў е́халі, а які́е мы вы́лезьлі? На астано́ўку прые́халі, і гледзя́ць усе́ на нас. А мы стра́шные былі́, а нады́халіся са́жы е́тае, усяго́. Там стая́ў таварня́к і бо́чкі стая́лі з вадо́ю. Мы ўжэ туды́, мы́ліся-мы́ліся, а ні ўмыва́ецца, е́та са́жа. Ды́хаць не́чым. О, ма́мачка, папро́буйце пад зямлёй е́хаць підзіся́т кіло́метраў у таварніку? О як было́!

*В. М. Курцова*

## ТЭКСТЫ З КАРМЯНСКАГА РАЁНА

***Расказвае Н. М. Стадзеенка, 1937 г. н. (ураджэнка і жыхарка в. Бярозаўка), з 2005 г. жыве ў г. п. Карма, адукацыя базавая****; запіс зроблены ў 2009 г.*

Вот я ў Каме[і]нцы гадо́ў я пі[е]тна́ццаць пе́ла, калі́ ня бо́лей я пе́ла. Пато́м прые́хала ў Карму́, зьліла́сь ў йіхны́ калікці́ў, но я этў сваю вяду́шчаю, Сьціпа́наўну, я йе зна́ла даўно́. Йна прые́хала сюда́, тут ужо́ ба́бак арганізава́ла, но мая́ нага́ бале́ла крэ́пка. Я пу[а]па́ла ў бальні́цу, дзе́лалі мне ў Мі́нску апера́цыю, я с кастылямі сваі́мі хадзі́ла. Сты́дна ня сты́дна – хадзі́ла пець. Ціпе́р я с па́лачкай хаджу́, до́ма так хаджу́, а так баю́ся шчэ хадзі́ць. Год не прайшо́ў, я зьдзе́лала апіра́цыю. Ат цяжо́лай рабо́ты у мі́не храшчы́ е́тые пасьціра́ліся былі́ ўсі. Я хадзі́ла на двух кастыля́х, вапшчэ́ хадзі́ць ні магла́. Пато́м ліжа́ла ў Го́мілі, пато́м ціраз год назна́чылі апіра́цыю. А мне ўжо вы́церпіць... Паме́рць мне ці ўжо што. Тады́ дзе́ці забра́лі у Мінск. Пла́тная апіра́цыя. Зна́іця, чаго́ ско́лькі там чаго́ пайшло́. Сла́ва бо́гу, што я да сіх пор як магу́, так і хаджу́. Як сказа́лі мне, што бу́дзіш шчэ танцава́ць, я пла́кала: го́спадзі, хоць бы по́ўзаць па ха́ці. А ціпе́р кажу́: «Дзе́ўкі, я танцава́ць хачу́».

Я ўсё ўрэ́мя, бу[а]ва́ла на гаро́дзі бу́ду вы[у]шы[у]ва́ць, дзіцёнка калыха́ць, бу́ду пе́сьні пець.

### Пра прэжаныя каласкі, ці пражмо

На гаро́дзі усё се́ялі: і бу́льбу, і капу́сту, і буракі́, гуркі́, марко́ўку, і гаро́х, і боб.

– І боб сеялі нават?

– Кане́шна, ну як се́ілі. Боб, гарох про́ста абта́ркавалі гра́ды. Сажа́лі про́ста пае́сьць дзе́цям.

– А ці парылі дзецям гарох або боб?

– Я васнаўно́м квасо́лю так дзе́лала. Вот квасо́ля разма́чывалась, пато́м я ста́віла ў печ, крышы́ла шква́рачкі, штоб таке́я былі́, і ў печ у чыгуно́к. Іна́ як разапрэ́я, мя́ккая, така́я мя́ккая. Э́та я дзе́лала. А гаро́х про́балі дзе́лаць, на скаўрадзе́ жа́рыць. Вот то́жа разьміка́я гаро́х е́ты, і падліва́лі падсо́лнічнага і́лі жы́ру і то́жа дзе́лалі. Хто хо́ча со́лькі, хто хо́ча чуць-чуць сахарку́. Дзе́лалі ета ўсё.

– А ці смажылі, пражылі каласкі?

– Ой! Мно́га. Як то́лькі пасьпе́я жы́та, так і пражо́нкі. Пражо́нкі ці пражмо́ табе́. Ідзе́ш паўз жы́та калхо́зная ці сваё, нарве́ш [жыта], сьпі́чку запа́ліш, абсма́ліш э́тые вусы́. У руку́ натрэ́ш – у рот, а хоць так хто выбіра́е і есьць. Дзе́лалі э́та ўсё.

### Пра бабку-павітуху і securenaроджанае дзіця

Я то́лькі аднаго́ сы́на радзі́ла до́ма. Мне ста́ла пло́ха. Мужы́к з рабо́ты прые́хаў падвы́піўшы. Пато́м пабе́гаў-пабе́гаў па$^{у}$шука́ў машы́ны. Грязь была́ какра́з. Э́та ў сіньцябрэ́, як я до́чку сваю́ раджа́ла, а ў акцябрэ́ я раджа́ла сы́на. Ня до́чку, а сы́на я раджа́ла до́ма, дык кушэ́рку прывазі́лі дамо́ў. У нас кушэ́рка была́. Кушэ́рка э́та ўсё дзе́лала, а то ба́бкі. Іна́ то́лькі называ́лась ба́бкай. У бальні́цы медсістра́ атраза́ла пупо́чык. Э́та шчыта́лася ужо́ ба́бкай, но мы йе ні бра́лі за ба́бку. Про́ста так пало́жана. А ба́бу мы само́ сабо́й бра́лі. Па зако́ну на́да ба́бку браць. Іна́ у мяне́ ня мы́ла дзяце́й. Ма́ма са мной памы́я. І́на про́ста пры́дзя, пада́ркі прынясе́, гасьці́нцы і пашла́. Пачасту́ім яе́, іна́ й ба́бка.

***

– Як маленькае дзіця першы раз мылі: траву якую дабаўлялі ці што?

– Вот гавары́лі, што на́да як ма́лінькая дзіця́тка пе́рвы раз мыць, капе́йкі класьць. Вот я ні по́мню, кла́лі мае́ ці не. Капе́йкі – штоб усігда́ былі́ з граша́мі. А ціпе́р я чу́ла то́жа ата дные́ ба́бкі, што на́да ціпе́р дзе́так як ража́ць, на́да кні́жку яку́ю-не́будзь пу$^{а}$д галоўку палажы́ць, штоб гра́матны крэ́пка быў. А пато́м быкнаве́нна. У міне́ (ні зна́ю у като́рага-то дзіцёнка) была́ залату́шка. Дык траву́ кла́лі. Е́ту во... Саба́чкі. Як э́та называ́іцца? Чарада́. Тапі́ла я: чараду́ е́ту у вадзі́чку, штоб ужо́ ні было́ залату́хі. А так про́ста вадзі́чкай.

– А калі ўжо маленькае дзіця ў лазню насілі?

– Як ужо́ тро́шкі стане́ паніма́ць. Ужо́ го́дзік. Мы ужо́ свайго́ Ко́лю насі́лі у го́дзік. Ён мой [муж] у асно́ўным [мыў]. Я панясу́ к яму́, мне ж на́да ско́рынька прыці́ць перадзе́ць і ўсё. Я панясу́ і ужо́ адзе́жы тро́ху ські́ну, сама́ ўжо тро́шкі памага́ю пле́чкі це́рці усе́. Дык Ко́ля, сын бо́льшы, у міне́ крэ́пка любі́ў мы́цца у ба́ні. Мы зьдзе́лаім дух такі́ лёгінькі, вадзі́чку. Памы́ім яго́, памы́ім. Я ско́рынька у палаце́нца.

– А венічкам карысталіся?

– Ве́нічкам як ужо́ пабо́льшаюць, ма́лінькага не. Як ужо́ го́дзікаў пяць.

– Дай тро́шкі ве́нічкам пахло́паю. А ён [крычыць]:

– Баю́сь, баю́сь.

А тады́ й пахло́паім. І нарма́льна. Ве́нікі то́лькі бяро́завые. У аснаўно́м бяро́завые. Тады́ шчэ про́бала дзе́лаць дубо́вые ве́нічкі, ну дубо́вые бо́ліі жо́сткіе, а э́та мя́кінькіе такі́е. Я тады́ – ўжо падрасьлі́ дзе́ці – ма́лінькіе ве́нічкі такі́е [дзелала]. Дык яны́ са́мі пале́зуць і хло́паюцца на палку́.

Ве́нікі сабіра́лі то́лькі перад Пятро́м, што́бы і́менна да Пі$^{е}$тра́. Посьлі Пітра́ ужо́ лі́сьця пачына́я асыпа́юцца, а да Пі́тра нядзе́ля там ці дзьве. Мой Ко́ля дзе́лаў так: за́ўтра Пятро́ ён сёдні

ве́нікаў навіза́ў. Прывёз бяро́зак, і мы там навіза́лі ўсі. Візáлі бага́та, таму што ко́жнаю сыбо́ту ба́ню тапі́лі. А як ужо́ стаў зяць у мiне́, дык той вапшчэ́ любіціль мы́цца. І мужы́к мой любі́ў крэ́пка у ба́ні мы́цца. Так што ве́нікаў у нас было́ о́чэ[ы]нь бага́та. І ціпе́р во у майго́ сы́на ба́ня. То́жа вя́жуць ве́нікі. Каро́ў пасу́ць і ве́нікаў э́тых навя́жуць. Зь ве́нікамі, бязь ве́нікаў нікада́ ні хадзі́лі. У мiне́ до́чка і сын ціпе́р у Мі́нску, дык до́чка то́жа[э], каб у ба́ню.

– Лю́дачка, ну памы́йсь ты ўжо у ва́ньні.

– Не, мам.

– До́ча, шэсьць ты́січ, ты што сьмяе́сься. Дзіця́м лу́ччы б хоць што купі́ла.

– Не, мам, я як памы́юсь, мне так здаро́ва. Я зь ве́нікам.

## Пра Троіцу і Купалле

– Ці святкавалі вы Троіцу? Як рыхтаваліся да свята?

– Ну што на Тро́іцу? Перад Тро́іцай мылі́ ўсё. Зьнімáлі што́ры, вымывáлі, вышкрабáлі і на ву́ліцы. Э́та было́ зако́нна візьдзе́ і ўсю́ды было́ тако́я. А пато́м – у нас называ́іцца май. Э́та клён? Да. А мы усё май – на́да ма́ю. Е́дзім у лес, ці е́дзя хто, ці йдзець хто, вязо́м май е́ты. Май мы то́ркалі ў ха́ці. На ву́ліцы з ву́ліцы пато́ркаім лі ха́ты. У хлеў мы нікагда́. А так, як пато́ркаіш, пры́дзіш у ха́ту – зе́лінь круго́м. А пато́м гаво́руць, е́сьлі май бу́дзя бы́стра кру́ціцца – вот два дні і ён начына́я скру́чацца – э́та бу́дзя сухо́я ле́та. А е́сьлі два дні і́лі тры стаі́ць такі́ во сьве́жынькі – дажджлі́вая, з дажджа́мі бу́дзя.

Панатáркаім зялёнага усю́дах і за ка́ртачкамі. Во я ж зь дзярэ́ўні прывізла́ да́жэ[а] сваé ка́ртачкі. Я прывізла́.

– А куды потым трэба прыбраць гэты май?

– Яго́ на́да спалі́ць. І́менна на́да спалі́ць на Купа́ла.

– На Купалу? Чаму?

– Вот на Купа́ла, гаво́руць, ачышча́іцца ўро́дзі бы дом. І і́менна на́да яго́ спалі́ць.

Зна́іця[е], у нас усігда́ дзе́лаюць Купа́льля. У нас там бало́та тако́я і за бало́там тут, на по́лі, дзе́лаюць Купа́льля. Ні йдзе сасо́ньнік, а во бало́та. Сабіра́лі бало́ны – пакры́шкі с трактаро́ў. Ціпе́р жа нійдзе́ нічо́га найці́. А мой жа [муж] рабо́таў на тра́ктары. Сто́лькі бало́наў. Там такі́е ако́пы былі́. Ві́дна, як вайна́ была́, капа́лі е́тые ако́пы. Сто́лькі ако́паў, ако́паў. У е́тых ако́пах былі́ е́тые бало́ны. І вот дзе́ці як наска́чуць [наскачваюць] е́тых бало́наў і накладу́ць так адзі́н на аднаго́ віс́ока-віс́ока. А пато́м у нас бало́та, альшэ́ўнік, як мы гаво́рым. Альшэ́ўнік во так абста́вюць, во так яго́ і запа́ліваюць яго́. Біньзі́нам ліну́ць і запа́ліваюць. Э́та рызі́на трашчы́ць, і тако́я ўжо за́рыва, і дым, і ко́пацць. А дзе́ці круго́м бе́гаюць. І ма́лінькая цяпло́ наклада́юць сьпіцыя́льна – пры́гаць чэраз, цераз цяпло́.

А мы е́зьдзілі – э́та гады́ два наве́рна наза́д – е́зьдзілі у Ка́мінку на Купа́льле. На е́та дык мы купа́лінку вадзі́лі, пе́сьні пе́лі. Карме́нскіе прыіжджа́лі туда́, і мы возьлі бало́та вілі́ вянкі́, са́мі па[у]плялі́ вянкі́ сабе́ красі́вые, у вінка́х былі́. Пато́м ужо́ дзе́ці бе́галі і вянкі́ кіда́лі е́тые. Шука́юць па́параць-кве́тку. Схава́юць там які-не́будзь цьвято́чык, і тэ́я дзе́ці як рассы́пюцца шука́ць па берагу́ э́тай рэ́чкі. Там ня рэ́чка, а во́зірца тако́я. Тады́ гу́льні ус́якіе гуля́юць. На́шы вяду́шчые, като́рые зь дзе́цьмі, вяду́ць гульню́, а мы пе́сьні пе́лі, купа́лінку хадзі́лі, за ру́кі бра́ўшы хадзі́лі. У нас ё Купа́льля.

## Пра сурокі

Я ра́ньшы ня ве́рыла, што́йта бы[у]ва́я ўрок. Бы[у]ва́я ўрок і бальшы́ да́жа ўрок. У мiне́ сасе́дняя дзе́вачка прые́хала ў го́сьці к сасе́цці, а я на двару́ каро́ву даі́ла. А йна прышла́, гла́дзя так во ру́чкай.

– Вой, ба́бушка На́дзя, ка́кая ва́ша каро́ўка харо́шая. Стаі́т, а бабу́шка Ма́ша пашла́ даі́ць, ана́ как дала́ вядро́.

Інá не ўсьпéла сказáць «как далá», інá [карова] «как далá». І во вóчы так во вы́лупіла, на сьцéнку кíдаіцца. Дзіцёнак сурóчыў. Дык вот аднá мне жэ́ншчына гавары́ла: «Вы ні дýмайця, э́та прóста бывáя такáя мінýта». Во другí чалавéк гавóра: вой, якí харóшы дзіцёначак. То што? Ат ягó нічóга ня бýдзя. Вот ні папáла у такýю мінýту. І знаць мóжа нічóга ні знáя. Вот ёсьць мінýта, што ў éту мінýту імéнна штó-та плахóя стáня. Вот з-за чагó гавóруць: нáда зь дзяцьмí чужы́мі [асцярожна], штóбы ні стáла на ўрок дзіцёнку. Я рáньшы ня дýмала. Ёсьць урóк. Тож бáбкі шаптáлі. Я васнаўнóм дзéлала што. Міне́ аднá бáбка навучы́ла. Стакáн ваді́ я брáла, налівáла ваді́. Я слоў ніякіх ні знáла. Вот чэраз нóжкі, во так я чэраз éтые нóжкі тры разы́ перавядý. А патóм кручóк такí ў хáці, што зашчапля́іцца, сказáлі пераліць íменна вадзíчку цераз éту во кля́мачку. Дык я пералью тры рáзы. У аснóўнум я ні хадзíла па шэ́птах éтых. Што гавары́лі, то я й дзелала.

Ат урóка што мне шчэ навучы́лі. Мы ж рубáшкі насíлі тады́, ціпéр во мáячкі. Я ўжо, як бáба стáрая, ні хачý ўжо рубáшкі насíць, тóлькі мáячкі. Дык пóдалам дзіця́ ўжо вы́цірыш-вы́цірыш во так во і кáжыш: «Ат чагó стáла, ат тагó каб і пірастáла». Такíе славá гавары́лі.

Прыхóдзілася і шаптáць, уся́к былó. Пя́цера дзяцéй былó, дык уся́кая былó.

### З расказаў пра здарэнні

#### Пра ваўкоў

Вот я што раскажý. У нас пáпа рабóтаў кóнюхам, а мы жылí на сáмым краю́, во тут, як у лясóк па$^{у}$ва$^{у}$рачáць лі прамóй дарóгі, тýта. Мне навéрна гадóў дзéсіць былó. Прыхóджая нóччы часы́ ў два бáцька.

– Áня, – на сястрý, – Нáдзя, паслýхайці-ка.

А ваўкí ў нéкалькі галасóў, стáрые: у-ýў-у, éтые: у-у-ў-ў... Як завядýць, аж стрáшна. Во ў вакнó слýхаім. Сабáка зь йім. Гавóра: я сам баю́сь. І тýю ноч – ён быў кóнюхам – у ягó папарвáлі жарабёнка. Ён жывы́ быў, но вы́рвалі ямý. Хватáлі за гóрла і нагý ету. І багáта авéчак у нас ваўкí папарвáлі. Авéчак, ціля́т багáта рэ́залі. Старажы́ хавáліся дáйжа. Тады́ былó óчынь стрáшна ваўкóў.

Цётка мая́ йшла у гóсьці к сваéй сястрэ́. Яны́ бéдна жылí, а цётка багацéй. Інá ужó хацéла прасíць, каб штó-та далá цётка ёй. Гавóрыць: азірнýсь, назáд гляджý: два вóчкі сьвіцíцца і ўсё. Дýмаю: ну навéрна хтó-та кýра. А за ёй усьлéд ішóў воўк. Інá азірнýлась. Ён іé ні трóгаў, нічóга. І давялí да сáмые нáшые хáты, ні затрóгалі йе. Інá забéгла к нам, – а мы на сáмым краю́ жылí, а яны́ ў срэдзíні пасёлка жылí, – і так спугáлась. Інá дóўга балéла, дóўга-дóўга балéла. І ў бальнíцы ліжáла. Тады́ стáлі ўжо шаптáць, [яна] трóхі атышлá.

#### Пра вужоў

Раскажý вам пра вужэ́й. Шчас я ні жывý ў хáці. У міне́ там сын, пчóлы ў ягó там. Ён там гарóд мой пáша. Жывé ў Кýчыне[1], а мая́ хáта на Барý. Пасёлак Бор, дзярэ́ўня Бярóзаўка. Прыхóджаю я [дамоў], на аўтóбусі прыéхала. Паляджý: штó-та загнýўшыся так во глядзíць.

– Кóля, ты глядзíш? Хадзí сюды́.

А ў нас па$^{у}$ддувалы́ такíе во на дварэ́, штоб вóздух э́ты прахадзíў. Вуж éты як поўз, так у паддувáла і папóўз у хáту, пад мост тудá. Я гляджý. Ён запóўз, разьвярнýўсь, галавý вы́сунуў у дзíрачку і глядзíць.

– Сынóк, я бóлі начавáць у хáці ня бýду, я ні астáнусь бóлі начавáць.

Я начавáла, прóбала. Раí éтые ўжо лётаюць, я ўжо сьцірaглá. Патóм я на вéлік сéла, паéхала к цёткі сваéй. Я бязь вéліка нікудá, тóлькі на вéліку. Прыіжджáю аттýль. Ён, сын, гавóра: «Мам, аткры́й-ка пóграб». Я аткры́ла. Стаíць буты́лка двухлітрóвая, а ў буты́лцы вуж – во такéнны (паказвае рукамі). Там скруцíўся, во такí во. Я як кры́кнула.

– Мам, ня бо́йсь.

Я ўзіла́ і на лісапе́ту і к цётцы, к дзя́дзьцы паказа́ць. Прыхо́джаю ттуль. Ён [сын] гаво́ра: «Мам, там шчэ дзін сядзі́ць». Ў ха́ту вышлі́. «Сыно́к, дава́й-ка мы аччы́нім я́мку, мо́жа там іх цэ́лая кла́дбішча». Ён ні аткры́ў. Ужо́ запу́хлі ты́е дзьве́рцы, масьні́цы. Ні жыво́м, дык сы́ра. Тады́ каза́ў: «Мам, сто́лькі ўжо вужо́ў. Я пайма́ю на дварэ́, вазьму́ (ра́ньшы біў, а хто́-та сказа́ў, што вужо́ў нільзя́ біць): друг, ідзі́-ка ты пагуля́й, сюды́ ні хадзі́, занясу́ за ба́ню. А у нас чэраз даро́гу ба́ня у ле́се там стаі́ць. Гаво́ра: «Мам, я ціпе́р іх ні чапа́ю». І ма́ліnькіе такс́я во по́ўзаюць. Ніхто́ ня хо́дзя, ні ската́ німа́, німа́ ніч́ога. Па гаро́ду вужо́ў пално́. Таму што лю́дзі ужо́ ні жыву́ць, каро́вы ня хо́дзюць, каро́ў німа́. У нас у дзярэ́ўні, па ўсёй Бяро́заўцы, астало́ся дзьве каро́вы. Бяро́заўка така́я бальшу́шчая і пасёлкі, і ўжо ўсё. Павыжыва́ла ўсё. Так што вужо́ў нава́лам вісьдзе́. І па по́грабу по́ўзалі ма́лінькіе, во такс́я во. Прыно́сіў мне сын ма́лінькага, каза́ў: «Ві́дна йі́хная там гняздо́». Дык мой уну́к узя́ў е́тага вужа́ там то́жа, у буты́лачку і пуга́ў ім дзяце́й. Дык я кажу́: «Ты зна́іш, ціб́е шчэ засу́дзюць».

### Пра пчол

Я [пчол] о́чынь люблю́. Я ні баю́сь уку́са, я лаўлю пчалу́ і сама́ сабе́ саджу́ на балю́чаю нагу́, як я прыі́жджа́ю. Адзі́н год мой сын зрэ́заў гру́шку. Тры гру́шкі падра́д было́, йна ста́ла засыха́ць. Ён узя́ў і зрэ́заў. І ў ма́рці ме́сіцы цёплінька ста́ла і пчо́лы вы́ліцілі. Я на гаро́д вы́шла, гляджу́: пчо́лкі по́ўзаюць. Я йе спайма́ла, штаны́ сьцягну́ла, адну́ пасадзі́ла, другу́ю пасадзі́ла. І там ідзе́ балі́ць, яно́ да́йжа нябо́льна. Руко́й патру́ так тро́хі, жа́ла вы́цягну. У нас нібага́та е́тых пчол, і нідаўно́ ён стаў за імі́ глядзе́ць. Ну каб сядзе́ў там... Як я была́ сама́ там, рой вы́ліця, е́сьлі ні́зінька сеў, я сама́ грабу́. Я яго́ пабры́зкаю вадзі́чкай. У яго́ такі́е лаву́шкі, я у ту́ю лаву́шку скалачу́ іх туды́, закры́ю, пазваню́ яму́. Е́сьлі высо́ка дзе сеў, я званю́ у шко́лу. Тады́ ж ні было́ шчэ е́тых мабі́льнікаў, а адзі́н ціліфо́н быў на пасёлку. Я званю́ у шко́лу – у міне́ сын рабо́тая у шко́лі, – ён на матацы́кле і е́дзя, прыі́жджа́я. І о́чынь люблю́ я іх, я у ко́жны лято́к загляну́, там мно́га тру́тняў, о́чынь мно́га тру́тняў. Яны́, е́тые тру́тні, вылітаю́ць, як са́мая паго́да харо́шая, пака́каюць ві́дна там і наза́д ліця́ць. А ў міне́ такі́ во нож длі́нны, я саджу́сь збо́ку. Як то́лькі тру́цінь ляці́ць, я ўжо нажо́м рас – за галаву́, дало́ў, рас – дало́ў. Я сто́лькі е́тых тру́тняў яму́ навыкіда́ю, пака́ пчо́лы міне́ ні агле́дзюць. Як агле́дзюць пчо́лы, я тады́ ўціка́ць. Адзі́н раз было́ тако́я. Прыляце́ў к нам рой. А сын прые́хаў дзе́-та часо́ў так во ў чаты́ры і́лі пяць, зьняў рой і паве́сіў. У нас така́я над ха́тай, наве́с такі́, там про́валачкі такс́я. Ён за е́ту про́валачку на кручо́к і паве́сіў рой. На про́валаццы у лаву́шцы вісі́ць е́ты рой. Ён гаво́ра:

– Мам, ні тро́гай.

– А куды́ ты бу́дзіш садзі́ць?

– Не тро́гай, мам, я за́ўтры прые́ду, зьніму́, усы́плю у тэй і тэй ву́ль.

А я ж ба́чу, як яго́ ён сы́паў. Ду́маю: е́та ж бу́дзя сядзе́ць ноч, а за́ўтра паку́ль ён у шко́лі тбу́дзіцца. Пайду́-ка я сама́. Я ўзіла́, зьніла́ е́ту лаву́шку пат паху́ во так во. А ён жа йе прывіза́ў. Іна́ ўзіла́ зьдзьві́нулась тро́хі. Яны́ як наляце́лі на міне́! А я ўпе́рад аткры́ла кры́шку, пазьдзьвіга́ла ра́мкі шчытне́й.

Я вам раскажу́, як прыляце́ў рой. У нас ста́ры халадзі́льнік такі́ быў, ён бо́кам ліжа́ў. І на́да ж уляце́ць е́таму ро́ю пад е́ты наве́с і ў е́ты халадзі́льнік. Сеў там. Ко́ля е́тые ра́мкі узя́ў у лаву́шку папаста́віў. Ён гаво́ра: «Мам, яны́, е́сьлі ма́тка там, яны́ нікуды́ ні паліця́ць, буду́ць тут». Пагляджу́: ўжо ма́ла на сьце́нах дзе. Я іх пат па́ху і папёрла. То́лькі прынісла́, дзьве ра́мкі паста́віла, а яны́ как наляце́лі на міне́. Хаце́ла кіда́ць. «Не, ду́маю, памру́, дык памру́, ўсі паста́ўлю». Я ўсі е́тые лаву́шкі туда́. І міне́ так ужо́ апкуса́лі, што я прышла́ дамо́ў і ні зна́ю, што дзе́лаць, што рабі́ць. Ру́кі во такс́я во, ха́ту ні ччыню́, ні зачыню́. Так ру́кі дзяржу́. Пашла́ пазвані́ла: «Ко́ля, прыдзі́, рой твой пуста́віла ў вуль».

Ён прыі́жджа́я. Я во така́я (паказвае), ру́кі дзяржу́.

– Мам, а йдзе пчо́лы?

– У вульлю́ тваé пчо́лы.

А ру́кі во такéя во. І пашла́ мне красната́ така́я во па рука́х, пашла́ ўжо алергі́я. Ён за міне́ на машы́ну, прывёз сюда́. [Кажу яму]:

– Ні вязі́ міне́ ў бальні́цу.

Званю́: «Дзéвачкі, а што́-та мне дзéлаць, як пчо́лы пакуса́лі?»

– А каго́ пакуса́лі? Йдзе той чалавéк?

– У Кармé.

– А хто?

– Стадзéенка Надзéжда, дом адзі́н, кварці́ра два́ццаць.

За пяць міну́т прыляцéлі. Гавару́: «Ру́кі апу́хлі, пашлі́ во такéя во». Іна́ палядзéла, мідсістра́: «Ну, мі́лінькая, на́да было́ шчэ па́ру ча́сікаў паседзéць, дык паку́шала б ты мёду». Іна́ мне упалі́ла два уко́лы. Тро́хі палягло́. До́ўга было́ [рукі] так ні жжаць, як уро́дзі іго́лак там по́ўна.

*В. М. Курцова*

## СУЧАСНАЕ ВЯСКОВАЕ МАЎЛЕННЕ. ТЭКСТЫ З ЧАЧЭРСКАГА РАЁНА І НАВУКОВЫ КАМЕНТАРЫЙ ДА ІХ

***Расказвае М. Р. Крупенькіна, 1936 г. н., адукацыя базавая****; запіс зроблены ў в. Залессе ў 2008 г.*

### Непажаданая нявеста

К на́шай ба́бі Зéні прыхо́дзілі сваты́, іé пасва́талі, но за́муж іна́ так і не вы́шла за Кулі́ніча, свайго́ жаніха́. Было́ так. Быў у нас прысіда́ціль дзед Чапу́х – мо́жа по́мніце пра тако́га, жыў ён дзе Аўсéйцаў, са́мы кра́йні. Ён ска́заў дзéду Яўхі́му – дзед фуражы́рам тады́ быў: «Дава́й людзя́м аці́ру». Ба́ба Зéна прышла́ на хéрму браць аці́ры, а дзед ужо́ ацéру ту́ю разда́ў. Лю́дзі набéглі з пасьці́лкамі і разда́ў. Ма́тка Кулі́ніча прыхо́дзя увéчары. Дзед Яўхі́м ёй:

– Ну што ж ты, сва́цьця, разабра́лі ужо́ лю́дзі.

Іна́:

– Сва́там ты мне не бу́дзеш.

Як ста́лі гуркі́, то ба́ба Кулі́ніха пастая́нна абсыпа́ла гуро́шнікам, цьвіта́мі, сы́на свайго́ Кулі́ніча. А Кулі́ніч сва́таўся зь ёй, ба́бай Зéнай, а узя́ць ні ўзяў. Іна́ асталáся бірэ́мінная. Дзіця́ то́га Зéна загубі́ла. Як памірáла, слáбая былá, сазнáнія стáла ціра́ць, гавары́ла:

– Ой, дзéці, лéзуць ка мне маé дзéці, хло́пцы маé.

– Які́е хло́пцы, цётк?

– Мая́ ты дзéтка, у міне́ ж ішчэ́ б быў хло́піц, а я ж граху́ сабé насабіра́ла на галаву́ сваю́. Я ж згубі́ла éтага дзіцёначка, а ён жа у міне́ у душэ́ астаўся.

Кулі́на не дапусьці́ла Кулі́ніча, штоб ён з ба́бай Зéнай жані́ўся. Іна́ ні дапусьці́ла.

Ці то ад таго́, ці ні ат таго́, бог ім судзьдзя́, яны́ разышлі́ся. І на́да ж тады́ ба́ба зра́зу захварэ́ла. Як ужо́ іна́ хадзі́ла усю́дах па сьвéце, лéкара шука́ла, каб ад вужа́ палячы́цца...

Было́ ж так. Ба́ба Зéна тады́ рабо́тала на хéрмі завéдуюшчай. Ішла́ Зéна на фéрму і так абмары́ў [яе] сон, што іна́ упа́ла на даро́зі. Так зьдзéлана навéрна было́. На даро́зі упа́ла, іé укусі́ў вуж. Іна́, Зéна, на хéрму прышла́ і апу́хла па-стра́шнаму. А чаго́ ішла́? Машнёнак, прыдзьсіда́ціль, загада́ў, каб іна́ – былі́ такéя бачо́начкі – зьбіра́ла сьміта́ну, дзéлала ма́сла і пірадава́ла усё Машнёнку. Іна́ éтага ні ста́ла дзéлаць, і Машнёнак стаў ла́зіць ці́раз замо́к на хéрму, а сто́ражу прыказа́ў: «Ска́жыш, што я, то я цібé уністо́жу». Сто́раж ні гаво́ра. Ба́ба Зéна пашла́ сама́ сьцярэ́жч. Прысьціргла́ яго́. Іна́ ба́ча, што ёй там ні мéста рабо́таць, напіса́ла зая́ву. Паста́вілі на хéрму хазя́іна Мары́ны

Ры́жай. Тут пачына́іцца вайна́, хе́рму разабра́лі, хло́пцаў на вайну́. Так і разышло́ся. Машнёнак по́сьлі вайны́ зноў стаў рабо́тэць прыдзьсіда́цілям, і ён ба́бу Зе́ну мсьціў.

Укусі́ў Зе́ну вуж, і ста́ла так.

Ка́ждая касі́нка на галаве́ у іе́ стая́ла, такая во апу́хшая была́ галава́. А як ужо́ хадзі́ла усю́дах па сьве́це ле́кара шука́ла, каб ад ву́жа палячы́цца! Усю́дах аб'е́зьдзілі. Тады́ пасаве́талі ёй у Ка́мінку (назва вёскі. – *В. К.*), іна́ пашла́.

Ба́ба каза́ла: поўз за ёю вуж. Ражо́к быў на вужу́. Такі́ ўжо бліску́чы, блішчы́ць нівынасі́ма. Ёй на́да было́, каб іна́ ста́ла, узя́ць той ражо́к, но ніхто́ е́тага ні пасаве́таў, іна́ е́тага ні зьдзе́лала. Ста́лі ёй е́та гавары́ць, а іна́:

– Мне было́ так стра́шна, такі́ страх ашы́б, што ні́льзя мне было́ е́та вы́церпець. Я ішла́, аглянусь во так во: ён ра́дам са мной. Да дзярэ́ўні дайшлі́ – вуж прапа́ў. Ужо́ наза́д ішла́ – ні было́ вужа́.

У Ка́мінцы дзед той пашапта́ў, іна́ і вы́лічылася. Як пры́йшла дамо́ў, лігла́ спаць. Су́ткі спа́ла. Ні чу́ла нічо́га: ці хто хадзі́ў, ці хто крычэ́ў, ці стука́ў, ці гру́каў. Іна́ спа́ла.

***

Жылі́ дзьве сястры́. У адные́ сястры́, у старэ́йшые, дума́ паяві́лася. Сістра́ і гаво́ра:

– Я хачу́ паглядзе́ць сама́ на сібе́, ці красі́вая я бу́ду ліжа́ць, як пампу́. Я прыбяру́ся, а ты схадзі́ хвато́графа пазаві́.

Іна́ прыбра́лася і лігла́. Пры́во́дзя сістра́ фато́графа. Той спра́шая:

– Ско́лькі дзе́лаць фатагра́хвій?

Іна́ атвіча́я:

– Дзьве.

Е́ты фато́граф упа́ў і памёр: разры́ў се́рца. Сёстры жы́вы, а чалаве́к пагі́нуў. Ба́чыш, як быва́я.

## Выпадак на хаўтурах

У нас у дзярэ́ўні тако́я ж было́. Мне здае́цца, а чаго́ яго́, то́га пако́йніка, пужа́цца, хоць бы той пако́йнік узя́ў і ўста́ў. У нас як было́. Памёр Іхва́н Кура́ка. Яго́ прыбра́лі, надзе́лі. Усё. Ляжы́ць Іхва́н. А прыхо́дзя Жэ́ня Міро́нчык дзя́дзьку глядзе́ць. Ён у ліспрамхо́зі рабо́таў. І прыхо́джая тро́хі падвы́піўшы. Як прышо́ў, на табурэ́цццы і сеў кала Іхва́на. Ба́бы сідзя́ць і ве́чар і: ды-ду-ду, ты-ду-ду... Жэ́ня сядзе́ў-сядзе́ў кала Іхва́на, задрама́ў і ўпаў. А ба́бы то́жа драма́лі. Яны́ паду́малі, што е́та Йіхва́н устаў і ўпаў. Паўзьлі́ с ха́ты хто як мог. Ба́ба Кулі́нка упаўзла́ на печ. Ба́ба Але́нка: «Ой, чаго́ я прышла́ сюды́?..». Е́ту мыт праня́ў. Іна́ ўсю даро́гу ішла́ і ліла́ зь сібе́. Яўгі́нка ба́ба кліла́: «А... з ва́шымі пахаро́намы».

Наза́ўтрага ужо́ зь йіх ніхто́ ні прыйшо́ў.

***

Гэ́та нікрэ́пка даўно́ было́. Ні ў на́шай дзярэ́ўні, не. Паме́рла ба́ба. А йна наве́рна не паме́рла, а абме́рла. У йе, было́ зо́лата. Яны́ крэ́пка харашо́ жылі́. На ву́шы зо́лата надзе́лі, пе́рсьцінь быў залаты́, надзе́лі. І таке́я хло́пцы ёмкіе наду́маліcь: ткапа́ім ба́бу, забяро́м зо́лата. Зары́лі ба́бу, дамо́ў прышлі́. Пабе́далі. А дзе́ла было́ уво́сінь. Но́чы сыча́с жа начына́юць. Хло́пцы пайшлі́ на кла́даўя, аткапа́лі, гроб даста́лі, ускры́лі – ба́ба уста́ла. Тэ́я хло́пцы – разры́ў се́рца і паме́рлі, а ба́ба прышла́ дамо́ў. Лю́дзі тэ́я, дама́шніе, радзі́цілі, жы́вы, а тых два хло́пцы пахарані́лі. Во і лезь за зо́латам. Яно́ табе́ на́да было́, то́я зо́лата. Рабо́тай. А раз ні хо́чыця рабо́таць, а то́лькі шука́іця лёгкага труда́... Ты б даста́ў то́я зо́лата, прапі́ў і зноў німа́.

## Пра здарэнне са свойскай жывёлай

Па́сьцілі ба́бы каро́ў. Адна́ каро́ва, Дзе́рбавых, астала́ся у ле́се. А тады́ ж у ле́се се́ілі лю́дзі зярно́. Хто жы́та, хто про́са яко́га. Каро́ва увазна́ла шко́ду. Іна́ ве́чарам – раз, атвярну́лася і ў шко́ду, і астала́ся.

Дзéрбавых мáтка прышлá вéчарам у хáту пастухóў і гавóра:

– Ну, ты ж ні дýмаў, што éта карóвы маé німá. Éта німá карóвы твае́.

А пастýшка, бáба Матрýна, як прыгнáлі карóў, пашлá к дзéду Ігнáту.

– Ігнáт, ты знáіш, што карóвы Дзéрбавых ні прыгнáлі.

Ён у страхý нож утóркая, із страхí выцягвая нож і тры салóмінкі.

– Прыбяжы́ць вáша карóва. Ат глáзу, штоб ні лéзьлі к вам у вóчы, к лéсу падыйдзіця, пастóйця там і дамóў, а карóва шчас прыбяжы́ць. Пастухí там трóхі пастаялі, і карóва прыбéгла.

А тады́ ж і ваўкí былí. Такíе зьлюшчые, разарвáлі карóву аднý. Інá бéгла з Кýкліч, ваўкí гнáліся за ёй і разарвáлі. А то. Былá глыбóкая вóсінь. Пóзна. Пáсьцілі карóў, вóчарадзь. І тут воўк. Пастýшкі атганяюць ягó, крычáць. А карóвы, як воўк, тады́ ж стрáшна равýць, бягýць за ім, ваўкóм за éтым. А воўк наклáў лáпу на аднагó бычкá. Ямý боль былá. Прабíў жа кóжу цялёнку. А воўк цікавáў. Дамóў гнáлі, – а ціля́ткі і карóўкі сьцéжачкамы аднá за аднóй ідýць, і ён, бальнéнькі, ідзéць пасьлéдні. І тут воўк зноў з-за éлкі лáпу на ягó. Карóвы зарычэлі сíльна. Пастухí нáчалі ягó пáлкай біць. Цялёнка койяк прыбрáлі дамóў. Зарэзалі тóга цялёнка. Людзі пасавéталі: зарэж і ні мýчай ягó. Зарэзалі, вы́рызалі тóя мéста, дзе лáпы воўк наклáў. Дык лáпы тэя, як усí раўнó там яд які, шчарнéлі. Тóя мéста мíгам шчарнéла. На адны́м бакý наклáў і на другíм. З двух бакóў наклáў.

### Пра паводзіны лясных насельнікаў

Усé зьмéі паідáюць сваíх дзіцéй. Ішлí мы на рабóту – éлка. І што ж? Галюшка так хістáіцца. Мы стáлі і глядзíм. А гадзюка піравíсла: інá ражáя. Дзіцёначак вы́скачыў, і інá хапáя дзіця. Яны́ правóрные [гадзючаняты], бы́стра уцікáюць. Катóры уцёк, той астаéцца жыць. Жанчы́на, што бáчыла éта, Мáнька іé завýць, скóрынька хлеб разьвізáла свой, пóладзінь і гавóра:

– На, еж хлеб, а ні сваíх дзіцéй.

А у нас тады́ пáміць шчэ якáя былá?.. Мы нісмышлёные, мы éтага ні маглí распытáць, чагó ты ямý давáла хлеб.

А то бáчыла: тáя гадзюка шчэ ні ражáла. Па éлцы лáзя так, шукáя мéста. Яны́ вот абізáцільна на éльнік. Тамý што éльнік – такíе тóнкіе галюкі і нíзка ад зямлí, тамý вот яны́ на éльніку éтым.

### Граза ў лесе

Мы, я і сын мой Лёнік, пáсьцілі карóў. На рáнкі. І пáсьціў дзед Калíстраў з Васілём, што цíраз дарóгу жыў. Ён, Калíстра, мне гавóра:

– Гóнім дамóў, давáй карóў пускáць. Чýіш, як гром грымíць. А як я прыганю рáна? Éта ж вы, стары́е, вам нічóга, а мінé бýдуць людзі клясьць: прыгнáла у дзéсіць часóў. Баюся. Не, ні пагóнім. Пацярпíм. Мóжа прóйдзя. Саўсíм блíзка хмáра. А карóвы, як гразá, усé зьбівáюцца кýчачкай. Éсьлі аттýль, як сóнца усхóдзя, ідзéць хмáра, яны́ станóвюцца рáдам зáдам ік хмáры, а пéрадам сюды́. Лёнік мне:

– Мам, давáй стáнім пад éтага дýба.

– Не, сынóк. Нáда станавíцца пад éлачку куда-нéбудзь.

А там стаíць куст арэшніку і умéсьці éлка. Мы тóлькі пад тýю éлачку сéлі, і малáнка як шáхнула, і таўшчэнны дуб – во не апхапíць – напалáм тагó дýба. Éсьлі б мы тóлькі там стаялі, нам бы усё.

### Сустрэча ў лесе

Бáба Зýшчыха, Прóська іé звáлі, усё хадзíла з бáбай Тацянкай у грыбáх. Пóйдуць, бáба умéла брáць баравíкі і знáла, йдзе яны́ растýць. Інá па тых мéстах і бярэць. А Прóська бéгая-бéгая па тых містáх, ды мáла у йе палучáіцца. Раз інá бáбі і кáжа:

Ну, Тацянка, я ужó с табóй пайдý.

– Пашлі́ са мной.

Пашлі́ па Гарэльлю, Бярэзьніку (назвы лясных мясцін. – *В. К.*). Там усі́гда баравікі расьлі́, іна́ набярэ. А у Ку́клічах (назва вёскі. – *В. К.*) ма́ла было́ то́му чалаве́ку, Хве́дзю, Максі́мавіча дзя́дзька, – Максі́м і Фёдар – браты́, яны́ віcóкіе таке́я мужчы́ны былі́ і з баро́дамі – грыбо́ў, і ён прышо́ў у наш лес. Ба́ба Тацья́нка устрэ́цілася зь ім, пагавары́ла, як грыбы́, як што.

– А вы?

Ку́кліцкіе, як по́йдзіш е́тай старано́й, дзе Бу́дзькаў, тады́ на Вужы́ные (назвы лясных мясцін. – *В. К.*), там бра́лі. Е́та Про́ська зірну́ла – ста́ры дзед, сі́вы, спужа́лася. Іна́ грыбо́ў ні прынісла́ ніско́лькі. Тацья́нка прышла́ з грыбо́ў. Про́ська к ёй прыхо́дзя:

– Тацья́нка, як жа ты набра́ла?

– С табо́й жа ра́зам бра́лі.

– А я, Тацья́нка, як устрэ́ціла... Барада́ сі́вая, вот така́я. Я як зірну́ла, як пабе́гла дамо́ў. Хо́дзюць...

– А зна́еш, каго́ ты ў ле́сі спужа́лась? Е́та ж Хве́дар ку́кліцкі.

– Пра́ўда?

Так на е́тым і разышлі́ся. Про́ська прыбе́гла, тры грыбкі́ у карзі́не.

### Пра ёўню

Пра ёўню я зна́ю харашо́. Быў такі́ бальшы́, як у нас, ніб́ытта наве́с. Но ні наве́с, каза́лі гумно́. Гумно́ тако́я бальшо́е, даўжыно́й, як на́ша ха́та, і шырыно́й тако́я бальшо́я. У том гумне́ пе́чка і пало́к, як, напрыме́р, у нас у ба́ні. Тако́я гумно́ сь пе́чкай і по́лкам называ́лі ёўня. Прато́пюць іійе́, як ба́ню прато́пюць, а тады́ ні вады́, ніч́ога ні льлюць. На по́лкі стано́вюць зярно́. Тады́ ж усё-усё се́ілі: і жы́та, і грэ́чку, авёс, ячме́нь, про́са, і усё там малацілі. То́лькі ні малацілі – на со́нцы малацілі, – като́рая на пасе́ў. На ту́ю ёўню прывёз дзед жы́та. Жы́та у нас даўне́й се́ілі усю́дах. Нідзе́ ме́сьцічка, ні кусо́чка пусто́га не было́. Там, кала ле́су на луг, дзе Ляксе́й Це́рхаў жыве́, то усё се́ілі. Усё по́ля было́. На е́ты бок, дзе пітоўнік наро́с, тут усё было́ по́ля. Усё дзялі́лі. Плахо́я – во па тако́й во пало́сацццы (паказвае рукамі. – *В. К.*). І на ду́шы дзялі́лі, ко́лькі у каго́ душ. Дзе́дава пало́ска была́ шыро́кая, патаму́ што у дзе́да бальша́я сім'я́ была́. Прывязьлі́ жы́та. А ба́ба Кацяры́на – сім'я́ была́ бальша́я, іна́ па е́тых рабо́тах ма́ла хадзі́ла, іна́ гато́віла, убіра́ла, усё дзе́лала на сям'ю́ – пратапі́ла ёўню. Дзед сказа́ў:

– Кацяры́н, ты ёўню пратапі́, насо́дзім жы́та, а ура́ньні змало́цім.

Яны́ цёмнінька уста́нуць, пашлі́ змалацілі, а к ве́чару ішчэ́ то́пюць і шчэ со́дзюць. А ба́ба – во́рах чаго́ там намало́цюць – за́ дзінь піраве́я. А ве́ілі – така́я была́ сьпіцыя́льна лапа́тачка – вот так кіда́іш лапа́тачкай, а зярно́ тсыпа́іцца. То́лькі насадзі́лі, ба́ба пратапі́ла ёўню і прыхо́дзя Хрысьці́на Шуга́ліха. Хрысьці́на прышла́ і:

– Яўхі́м, – ні дзя́дзькам ні зва́ла, ніяк. Хазя́ін быў у парціза́нах, яны́ былі́ мне́нія віcóкага, што яны́ камуні́сты, – мне на́да ёўня.

Дзед гаво́ра:

– Хрысьці́н, я прывёз сваё жы́та, насадзі́ў. А за́ўтра Кацяры́на прато́пя ёўню, ты прывязе́ш жы́та, і мы пра́ма на ёўню, і жы́та тваё памало́цім.

На́да ж было́ і малаці́ць. Е́та ж ні пе́рвы раз садзі́лася. Садзі́лі ячме́нь і уся́кую хваро́бу. Уве́чары дамо́ў прыхо́дзя Іва́н, хазя́ін іе́, яго́ дражні́лі Ла́йба. Ла́йба прыхо́дзя, і́на й пажа́лілася:

– Дык ён шчасьлі́вы, ён до́ма астаўся.

А яму́, дзе́ду, ужо́ было́ гадо́ў шэ́йсят.

– Во пашла́, штоб змалаціў за́ўтра жы́та, дык сваё папе́рад насадзі́ў, а ні маё.

Ла́йба прышо́ў ве́чарам і застрэ́ліў дзе́да.

– Як гэта так?

Дзед ліжа́ў, быў наве́с такі́, пад наве́сам. А нас, дзіце́й усі́х, – у я́мку. А ён і ба́цька пад наве́сам. Ба́цька тады́ до́ма не начава́ў. Ба́цька пастая́нна у пітоўніку быў. Хадзі́лі на́нач сьцярэ́жч, штоб

нéмцы ні йшлі. А ні бінóкіля, нічóга у сьвéці німá. Ну якóя былó сабражэ́нія? Ты убáчыш, як той нéміц ідзéць? Нікóга ты ні ўбáчыш.

Прыхóдзюць парцізáны з Лáйбам.

– Паднімáйся, Яўхі́м.

Яўхі́м падня́ўся, як спаў, у бéлай адзéжы. Цётка Зéна усьлéд.

– А ты йдзі ацьцю́ль, а то й табé шчас бýдзя éта, што бáцьку.

Цётка гавóра:

– Я стаю на éты бок дзьвярэ́й, чýю, што ужó вы́стралілі.

Вы́стралілі, аччыня́юць дзьвéры. Аччыні́лі, а мáтка пірасушы́ла адзéжу, у я́мках закóпана у бóчках былá. Адзéжу пірасушы́ла, а павічарэ́ла і не упрáвілась закапáць. Адзéжа ліжáла там кала я́мкі у бóчках. Яны́ забрáлі усё на сьвéце, усё да кáплі, тóлькі тáя пасьцéлька асталáся, дзе мы спáлі у я́мцы. Сундýк закóпаны быў. Сундýк мы тэй вы́цігнулі, захацéла прасушы́ць мáтка, што у сундукý. Бáцькава адзéжа там і выхаднáя. Но усі раўнó забрáлі.

Цётка Зéна аткрывáя дзьвéры:

– Ну што, хлóпцы, на маём бáцьку вайнá ні кóнчылась. Уб’ю́ць і вас.

Вóсіпаў, што калі́сь быў прысідáцілям:

– Замаўчы́, а то шчас табé па éты бок дзьвярэ́й бýдзя.

Усю адзéжу забрáлі, прывязьлі́ у лес. А дзед Васі́ль Калі́страў быў у парцізáнах. Ён кáжа:

– Я як гля́нуў, што Гры́шкаў пінджáк, Гры́шкавы сапагі́ хрóмавые – у ягó, у бáцькі, былі́ харóшые чабаты́, нóвінькіе. Ён адзéжу дýжа-дýжа храні́ў. А там жа і сарóчкі, маткі́н жакéт, такі́ пінджáк быў сі́ні, длiннавáты, і шýбкі, тады́ ж авéчак дзіржáлі – уся́ адзéжа – мiнé началó трусі́ць-калаці́ць. Я вы́рашыў унóччы зьбéгаю сюдá. Раз адзéжу Гры́шкаву забрáлі, то і́хные сям’і́ ужó німá.

Прыбéг, усé цэ́лы, тóлькі адзéжу забрáлі. А яны́ ж бáцьку забрáлі, яны́ ж пасылáлі на старажóўства éта. І дзед сам кала нéмцаў рабóтаў і усé сьвя́зі перадавáў парцізáнам. Усё пірадавáў. Былó дзéсіць авéц – усі́х забрáлі парцізáны, піраéлі. У грыбы́ схóдзя кáжды дзень цётка Зéна, навáруць, нажáруць, насмáлюць. Парцізáны увéчары прыхóдзюць – пад’ідзя́ць. Што ні пад’ідзя́ць, с сабóй забірáюць. І ні ўслужы́ў.

Піражылі́ усё, вайнý піражылі́, пірамлéлі. Пóсьлі вайны́ астáлісь – адзéжы ніякóй. Ніякóй. Усё нáда былó напрáсьць, наткáць. Усё нáда былó зáнава зьдзéлаць. Ця́жкая жыцьцё былó. Крэ́пка ця́жка. Другі́ раз я́кся успóмніш і плáкаць хóчыцца.

### З народнай медыцыны

А вот у нас. Я ж свайгó Лёніка тóжа насі́ла па лячэ́ніях. Я пані́сла, звáлі яé бáба Тóрба. А як бáцька шчэ быў ніжанáты, бáба Тóрба далá ямý жмéню грóшай. Інá зь ім як рáдня былá. У іé радні́ нікóга тут не былó. Хазя́іна убі́ла, шчэ вайнá былá. Парцізáны убі́лі: як бы ён зь нéмцамі быў. Інá жылá аднá. Ці умéла інá калдавáць, ці ні ўмéла, а к ёй усé абрашчáліся лю́дзі. Пашлі́ і мы к ёй. Пашаптáла інá – тóлку ні́якага. Хлóпчык наш як балéў, так і балéя. І у бальні́цу вазі́лі скóлькі раз, і тут. Што ужó дзéлаць!? У бальні́цу павязóм, таблéтак надаю́ць, а тóлку ні́якага. Памірáя дзіцёнак. Ізьвёўся. Такі́ ён вісóкінькі, а такі́ худзю́сінькі быў стрáшна. Тады́ бáцьку прысьні́ўся сон:

– Вы ні туды́ папáлі, прынясі́це-ка мне éтага дзіцёнка, я ягó табé палячý.

А прысьні́лася: гавары́лі на йе Амéльчыха бáба.

Ён устáў, гавóра:

– Маньк, сасні́ўся сон. Давáй схóдзім, знóсім ка Мéльчысі той.

Панясьлі́ мы ка Мéльчысі. Інá і гавóра:

– Вы ж вот ні прышлі́ ка мне папéрад. А інá, Тóрба, пабылá у міні́ і сказáла:

– Што у éтага дзіцёнка ні ё, я ягó ні вы́лячу.

– Я дýмаю: «Вот бы ўстрэ́ціць вас і сказáць».

Бáцька гавóра:

– Вы ж мне прысьнíліся, тагó ж я сюды́ прышóў.

Бáба Амéльчыха стáла ягó лячы́ць. Шчас наклáла травы́ у чыгýн, пастáвіла і усы́пала тры напёрсткі, тры шчапóткі во такíх пóпелу у вадý, а траў накідáла багáта-багáта. І там ямý шаптáла. Усё над купáньнем над гэ́тым, над купéлам шэ́пча і шэ́пча. Тады́ якáя-та вадá у іé стая́ла у буты́лцы паўлітрóвай. Інá той вадзíчкі на рýкі набярэ́, абмы́я ягó.

Униатáлі ягó, надзéлі, прынясьлí дамóў. Амéльчыха і гавóра:

– Глядзíця, éсьлі пóйдзя на лýччаньня, ён бýдзя дóўга спаць. Éсьлі ні палýччая ямý, ён спаць ні бýдзя. Як плáкаў, так і плáкаць бýдзя. Éсьлі палýччая і бýдзя спаць, то ні нáда зáўтра прынóсіць. Ямý бýдзя харашó, а éсьлі не, то прынясíця шчэ і ўрáньні. Мы тóлькі с хáты вы́йшлі, і Ляксéй наш заснýў. Ён спаў. Ужó вéчарам бýдзя сýткі, а ён прашнýўся часóў так у дзéсіць-адзíнаццаць. Прачнýўся і прóся:

– Дáйця мне хлéба.

Ён хлéба зьеў. А бáба Анíсьця і гавóра:

– Нáда ямý хлéба з сáлам даць, штоб ён сíлу якýю набіраў. А йдзе тагó сáла ўзяць? Сáла німá. Назáўтра я рáна устáла. Тут Алéна Гры́шкава жылá. Я пашлá к ёй, гаварý: «Так і так». Бáба Алéна пашлá кусóчык сáла атрэ́зала. Я ёй грóшы, а інá:

– Ідзí, дзéтка, і ніхáй дзіцёнак ачухáіцца. Вот на іé гавары́лі, што інá жáдная. Мóжа камý інá і жáдная былá, а длі нас не.

І ён, як тóга сáла з хлéбам пад’éў, пабéг назáўтрага гуля́ць. Хто ягó зня́я і хто ягó вéдая, што янó ёсьць. Тóлькі такí случáй у нас быў.

***

Там, ідзé саснá пасóджана, карóў запрашчáлі пáсьціць. А травá харашэ́нная там. І ганя́лі туды́. Пагнáлі адны́, а мы там рабóталі. Карóвы падняліся усé і пашлí, а аднá карóва ляжы́ць. Нам іньцярэ́сна, чагó ж éта карóва ляжы́ць. Забалéла чагó? Мы тудá. І бáчым: вуж за нагý, як інá ляжы́ць, абвíўся во так, во так абплёўся за нагý, за сóску і смóкча.

– Ах! Што ж нам дзéлаць?!

Натáльля Камарóва у нас былá сáмая стáршая.

– Натáльля, хадзí-ка ты сюды́.

Карóва мічы́ць, на бакí глядзíць, а не ўстáе: знáчыць вуж не пад’éў. Вуж як пад’éсьць, адпадзé.

– Натáльля, хадзí-ка ты сюды́, штось анцярэ́сная.

Натáльля гавóра:

– Бýдзем стая́ць, пакá ён пад’éсьць і атпáдзя.

А на Шóхаўцы (назва часткі вёскі. – *В. К.*) Раманчы́ха гавóра:

– Лю́дзячкі, ужó другýю нядзéлю карóва з рáнак прыхóдзя – німá малáка. Ну мóжа паўлíтру надаю, німá малакá.

Лáдна, сядзíм дажыдáім. Пад’éў вуж. Атпáў ён і малачкó з рóта – стóлькі наéўся. А мы з капанíцамы. Узя́лі атсéклі ямý капанíцай галавý.

Карóва кáждага рáньня бéгла на тóя мéста, дзе ён ссаў малакó. Прыбяжы́ць, памíкая во так во: мі-і... Як чалавéк. А ён ні прыхадзíў.

## Выйграны гармонік

У нáшых двох гарманíстаў, Тóлік і Сáўка, гармóнь былá на двох аднá. Яны́ друзья́ харóшые, но гармóнь аднá. Тóлік і кáжа:

– Давáй, Сáўка, на хáту палéзам і хто кагó перасíліць, тамý і гармóнь бýдзя.

Залéзьлі на хáту, а ўлéтку, і сьпяць, і сьпяць. Тóліку мáтка падáсьць éсьці, ён паéсьць цíхінька і сьпіць дáляй.

А Са́ўка спаў-спаў і ка́жа:
– Зна́іш, Іва́н, ніха́й табе́ і гармо́нь, а я ўжо спаць не бу́ду.

### Як сын бацьку правучыў

Ба́цьку дзе́да Яўхі́ма Сямён зва́лі. Кузьняцо́м быў. Сямён такі́ быў: як то́лькі разап’е́цца, у стол есьць ні йдзець. Капе́йку зарабі́ў – апрыхо́дая сам. Ба́ба Мары́на, жо́нка яго́, была́ стар́эй за яго́. І ён нашо́ў сабе́ любо́ўніцу – ба́бку Га́нны Ке́ранкінай. Іна́ была́ удава́. У ёй заві́ршалась гар́элка. Іна́, ба́бка Га́нны, гро́шыкі вы́цігня у Сямёна, і любо́ў канча́іцца. Пры́дзя дзед аттýль – ні піць, ні есьць ні йдзець у стол. Ён вінава́ты, прагуля́ў усё. Вот прышо́ў Сямён, а пае́халі бу́льбу капа́ць. Сямён у ха́ту, а сын бу́льбу прывёз. Ён дава́й с сы́нам руга́цца, зь Яўхі́мам. А Яўхі́м: што я с табо́й бу́ду руга́цца, на ці́бе ўр́эмя тра́ціць? Яўхі́м за яго́ – і ў сунду́к (сундукі́ бальш́эя дзе́лалі) укі́нуў і запёр. Прыі́жджая Яўхі́м, другі́ воз бу́льбы прывёз. Сямён крычы́ць: «Бо́ляй е́тага ні бу́дзя. Вы́пусьці, сыно́к».

### Правучаныя карцёжнікі

Там, на ба́цькаўшчыне, як у ву́лачку увахо́дзіш, быў бугаро́к. Дзьве бальш́энные бяро́зы на ім. Іх Міха́лкавы заваці́лі. І на тым жа бугарку́ ба́ня стая́ла, нале́ва, як ідзе́ш у ха́ту. А ха́та была́ паўз са́мінькую даро́гу. Ву́лачка ж ву́зінькая, то́лькі калёсам прае́хаць. На міжніку́ стая́лі ігру́шы. Ц́элы рад. Вы́мірзьлі у саракаво́м ці тры́ццаць дзівя́там, пачалі́ дзі́кіе рэсьць, а былі́ харо́шые садо́вые ігру́шы і я́блакі.Ране́й е́та была́ уся́ дзе́да Яўхі́ма зімля́. Но на́чаліс разо́ры, на́да ацьдз́эліваццa, і Міха́лку адзьдзялі́лі е́ту зямлю́ і сад яму́ атышо́ў. Там, вы́шай, пасо́джаны я́бланкі і ві́шаньнік. У ві́шаньнік ўпіра́лася ку́зьня. Вот сто гадо́ў прашло́, а ціпе́р стань паха́ць, вуглі́ выпа́хаюцца. Ба́ню пастроі́ў Міха́лка. Так яго́ зва́лі, ні Мі́шка, а Міха́лка. Ён быў у пляну́ у Гірма́ніі у ва́йну у чатырна́ццатым-васімна́ццатым гаду́. Зь Гірма́ніі ішо́ў пе́шкам. Па ме́сіцу шлі, па два. Прышо́ў Міха́лка дамо́ў, і ён наве́рна арганізава́ў карцёжнікаў. Ні зна́ю, як то́чна, е́та ма́тка мне раска́зала. І вот Фёдараўны Тацья́ны ба́цька і друге́я сабяру́цца і гуля́юць у ба́ні у ка́рты. Адзі́н раз засе́лі яны́. А жо́нка Хве́дзькі, Ма́рхва іе́ зва́лі, шука́я яго́. Німа́ й німа́ Хве́дзькі. Йдзе Хве́дзька? Прышла́ ў е́ту ба́ню, а яны́ там гуля́юць у ка́рты. Ма́рхва іх запе́рла і ціхо́нька пашла́ дамо́ў. Пашла́, ужо́ каро́ў на вы́ган прагна́ла, усё упра́вілась, прыхо́джая: «Ну як вы тут, хло́пцы? Шчэ пры́йдзіця сюды́? Я вас паб’ю́ усі́х».

А яны́ так сі́льна у ка́рты гуля́лі. А тады́ гуля́ць не́калі было́. На́да было́ ла́пці плесьць. У Вало́савічах (назва вёскі. – *В. К.*) на ла́пці або́ркі чо́рные [прывязвалі]. У нас, які́ лён, таке́я або́ркі. На ла́пці лі́пу лупі́лі і зь іе́ плялі́. Як зьдзе́лала Ма́рхва таку́ю асту́ду, усё, ні пайшлі́ хло́пцы гуля́ць у ка́рты.

### Пра царкву і ваенныя падзеі каля яе

Тут, у Зале́сьці, царква́ і званы́, сі́льна зво́нкіе. Нідзе́: ні ў Чыч́эрску, ні круго́м – такі́х не было́. Як зазьвіня́ць, у Вало́савічах было́ чутно́. Такі́е сі́льные былі́ званы́. Тады́ ж, як напрыме́р, пажа́р – званы́ зьвіне́лі, памёр хто – званы́. Царква́ была́, як ідзе́ш на по́ля, стаі́ць е́та ха́тка. Ц́эрква была́ бальша́я, бальш́энная. Я вот тро́хі по́мню, як сазва́лі усе́х людзе́й к ц́эркві не́мцы. Сі́льна там чыта́я усё – не́мцы тады́ былі́ у на́шым сяле́ – хто ска́жа, хто там йдзе нахо́джаіцца, т́эя, што у парцiза́нах, жывы́ аста́ніцца. Хто ні ска́жа, страля́ць бу́дуць. Харашо́ зна́ю, што кала ц́эрквы сі́льна бага́та было́ людзе́й. А міне́ ма́тка у ц́эркву даўне́й ні вадзі́ла. Сазва́лі людзе́й. А чаго́? Перад тым была́ сі́льна бальша́я піраст́рэлка. Як палучы́лася, што страля́лі. Не́мцы і паліцма́ны (паліцма́ны – на́шы лю́дзі, то́лькі у палі́цыю што пашлі́) устро́ілі гульню́. Гульню́ зьдзе́лалі во, дзе Про́ня жыла́, Ма́рфа – на сяле́. Там на́шы дзе́ўкі зь йі́мы. А сьвя́зі былі́ таке́я. Хрысьці́нкі Шуга́ліхі хазя́ін, Я́шка, быў у парцiза́нах. Е́тые дзе́ўкі – іе́ зва́лі па-ву́лішнаму Мару́ся Сро́лікава, дзе́да Сро́ліка жо́нка (Петрако́м яго́ зва́лі, Пятро́к Сруль) была́ сьвязно́й у парцiза́нах.

С парцiзáнамы былá зьвя́зана і Ду́нька Івáна Каласкóў, ну Дзямíдава. Iнá ж Кулíнiчава шчытáлася тáя Ду́нька, но éта нi рóдная сiстрá, нiхтó iнá iм, Кулíнiчам. Пашлá йна за тóга, Кулíнiчавага бáцьку, а ў йе былá дзéўка. Iнá так i асталáся дзéўка, Ду́нька éта. Яны́, Мару́ся Петракóва i Ду́нька Iвáна Каласкóў Дзямíдава, бы́стра к парцiзáнам i парцiзáнам даклáлi: нéмцы гу́льню устрóiлi. А Тóлiк пакóйны iгрáў. Вальс. А ён так расьця́жна iм вальс. I быў барабáншчык. Нéмцы ж культу́рные, етá ж нi нáшы. Яны́ гавóруць: «Не ну́жан барабáншчык».

Па нóтах танцавáлi. Пагуля́лi, вы́пiлi нéмцы харашó i ляглí спаць у Лук'я́нiхiнай хáцi. Цiпéр тут Васíль Лук'я́наў жывé. Парцiзáны усё éта ужó знáлi. I вот тэй, Я́шка Хрысьцíнкiн, ускóчыў у хáту, зарэ́заў дзéвiць ахвiцэ́раў нéмцаў. Тагó назáўтрага усíх сазвáлi к цэ́ркві i правéрылi, цi ўсе. Аднагó, Хíмiнага сы́на, Васiля́, нi нашлí. Ён у хвасóлi схавáўся. Хíма самá пашлá к яму́ i сказáла: «Сынóчык, Васíль, усíх пастраля́юць, нáда iцíць». Сынóчык éты пашóў. А iх, усíх людзéй, у Дóбрынь завязьлí i у Дóбрынi расстраля́лi. Растрэ́ляных шаснáццаць чалавéк. Вот i бáбы Мáнькi Пáўла, i Хíмiнага, i Кулíнiчыхi сы́на... Багачэ́нна людзéй. А з Дóбрынi адзíн чалавéк уцёк. Нi знáю, цi цiпéр ён жыў. Радня́ быў Лук'я́нчыкам. Ён я́к-та уцёк. Цi тумáн слáўся цi штó, но уцёк i жывы́м астáўся. Ён жыў на Укрáiне. Ён i сюды́ багáта раз прыiжджáў.

## Разбурэнне царквы

Нашу́ царкву́, як пабылá вайнá, былí зьдзéлалi на клуб. Ужó у клуб сабiрáлiся дзéўкi i хлóпцы. А нáша бáба, Зéна Залманцóва, былá камсамóлкай. Ёй клуб i усучы́лi. Загадáлi зьнiшчáць цэ́ркву. Нáда ськiдáць званы́. А як жа бáбi Зéнi аткасáцца? Iнá узiлá – а рабóтала на хвéрмi завéдуюшчай – мáсла надзéлала i прадалá. Былí грóшы. Iнá нанiлá усю́ шáйку – Калíну, Пéцьку i Мiкóлу Су́па, Сьцiпáна Карóбкiна. Яны́ учáсталi, яны́ ду́жа камунíсты шчытáлiсь, выслу́жалiся.

– Нáця вам грóшы, хлóпцы, тóлькi я там нi бу́ду. Мiнé ж бáцька уб'é.

Iнá там нi былá, а грóшы iм заплацíла. А што ж дзéлаць?..

Éтые i Iхвáн Бу́шка званы́ ськiдáлi. А вiкóны клáлi у ку́чу i палíлi. Аднá iкóнка пад нíзам асталáся, iнá дзiрвя́нная былá. Усё папалíлi. I званы́ забрáлi лю́дзi кудá-та у Чычэ́рск. А куды́ iх збáсталi? Нiхтó нi знáя. Мóжа старэ́йшые лю́дзi знáюць. А што мы?

А што дзéлалi камунíсты? Каб пéрад Пáскай iгрáлi i каб усé камсамóлкi былí на гульнí i танцавáлi. А цiпéр? Пагляджу́ я у цiлiвíзар: усé éтые камунíсты стая́ць у цэ́ркві у пéрвым раду́. Гляджу́ i другí раз ду́маю: «Ну во, тады́ вы унiстажáлi людзéй, а цiпéр». Во Шут быў, бáцька ягó званы́ ськiдáў iз цэ́рквы, Бу́шка Iхвáн. Усí шчытáюць, што йны во цэ́ркву разру́шылi, но й iм плóха стáла. У Шу́та нóгi атнялí, нi пры сваём умé стаў Шут. I тóлькi з-за тóга, што цэ́ркву разру́шылi.

## Дабрачая карова

Пóсьлi вайны́, прымéрна сóрак шóсты, сóрак сёмы год быў, есьць стрáшна хацéлi. Пóйдуць жаць, а як жа? Нáда ж к вéчару хоць якóга су́пу жы́тнага навары́ць. Карóўка у нас былá Рабéнька, служы́ла iнá нам дóўга i малакá давáла багáта. Аднó што сьвiньнéй нi былó i уся́ йiдá iшлá за йе, за карóву. У йе забíлiся малóчные сасу́ды крахмáлам. Дрóбнiнькаю тады́ бу́льбу усé нясу́ць ёй, iнá i спóрцiлася. I мы тады́ – дзя́дзя Iгнáт, бáцькаў брат, быў у Чычэ́рску [памог нам] – купíлi нóваю карóву, палавáя. Былá сíвая. Палю́шка ié звáлi. Iнá такáя дабрэ́нная былá карóва. Лю́дзячкi! Што ужó былá карóва! Малакó крэ́пка багáта давáла. Саракваша як тóплiны твóраг, а сьмiтáны!.. Éсьлi два гарлáчыкi сы́мiш, то éта лíтра. Ужó ж мы пажылí с тэ́я карóвы. Но нi аднагó цялёначка нi ўзгадавáлi. Тры дзянёчкi – i памёр, пажывé – i памёр. I шаптáлi, i гавары́лi ву́шы рэ́заць – што нi дзéлалi, но тры дзянёчкi пажывé i памёр.

– Вушы рэзалi? Чаму?

– Гавóруць, як тóлькi ацéлiцца, разрэ́ж ву́ха. Уся́к лю́дзi дзéлалi, у старыну́ усё прымiчáлi. Éта ж цiпéр ўрачы́, а тады́ лю́дзi усё прымiчáлi. Мóжа у кагó ён i вы́жыў. Шчытáлi, што éта ад éтага.

А пасьле́дняю Палю́шка ацялі́ла цёлачку, а то усё бычко́ў. Цёлачку узгадава́лі. Какра́з жані́ўся Ляксе́й. Ма́тка ддала́ ту́ю цёлачку яму́. Во то ж така́я каро́ва была́, дабра́чая, як на́ша.

А як прапа́ла на́ша каро́ва палава́я? Цялі́лася іна́ по́зна усігда́, у ма́і ме́сіцы. Вы́гналі каро́ву, іна́ то́лькі цялі́лася, мо́жа нядзе́льку пабыла́ до́ма. На́да ж карміць до́ма, а йдзе брацъ. Ма́тка каро́ву вы́гнала. Пагна́лісь за ёй каро́вы. Іна́ ускo̍чыла – во так атсе́чана было́ дзе́рава, я́кся се́чана вайстрачо́м. Каро́ва бе́гла, сама́ пераско́чыла, а ві́мем на сук. Вы́мя праварсну́ла на сук адну́ со́ску. Ле́вая была́, кра́йняя, ні пярэ́дняя, за́дняя со́ска. Іна́, со́ска, зараслáся, а шпылёк так аста́ўсь. Як хо́дзя скаці́на, малако́ прыбыва́я і праз шпылёк льле́цца. А лю́дзі хо́дзюць пірагава́раюць-пірагава́раюць. Шчэ гады́ тры вы́жылі з той каро́вай. Раз нішча́сьця тако́я, на́да здаць. Прадалі́ ту́ю каро́ву. І купі́ла ма́тка у До́брыні бе́лінькаю таку́ю. Во, лю́дзькі, малака́ нічо́га ні дава́ла, нічо́гінька. По́йдзя на ра́нкі – лі́тру. Ма́тка ура́ньні йе ні даі́ла. Уве́чары падо́я – лі́тру. Пражыла́ ко́лькі. Вы́рашылі здаць, узя́лі цёлку. Цёлка была́ харашэ́нная ду́жа і малака́ бага́та дава́ла, і даі́лася сла́бінька, но пусто́я было́ малако́.

## Пра скрадзеныя каласкі

А ціпе́р пра каласкі́. Хадзі́лі жаць у калхо́з. Ма́тка тады́ гаво́ра: «Я вады́ с сабо́й брацъ ні бу́ду, вы прынясіце́ мне вады́. Я там натру́ жы́та, дык у ба́начку вам усыплю́ жы́та. Прынясіце́ дамо́ў, уве́чары су́пу нава́рым». Так дзе́лалі. А йна ужо́ ўве́чары тады́ шчэ натрэ́, прынясе́.

Но хо́дзюць ужо́ е́тые Кулі́нічы, Ахрэ́м. Кулі́ніч быў прыцьсіда́ціль, а Ахрэ́м замясьці́ціль. І нашлі́ ма́ткін вузяло́к. Ма́тку судзі́ць, і Аню́ту Канпле́ціху, і Мары́ну Ры́жаю, і каго́-та шчэ чацьвёртага. Пірадалі́ дзе́ла у Чычэ́рск у суд. А ба́бам так. Дзень жнуць, а уве́чары на ве́ілку іду́ць ве́іць. Ве́ілкі таке́я былі́. Вот так круці́лі. Но́ччу яно́ ж ні ве́іцца бага́та. Адну́ ноч паве́ілі – Кулі́ніч забра́ў, сабе́ павёз. На другу́ю ноч вязу́ць Ахрэ́му.

Вызыва́юць іх на суд. Дзень сідзя́ць яны́ у мілі́цыі. Прывізла́ адна́ ба́ба здава́ць ігру́шы. Разьвіза́ўся мех. Вы́шла ма́тка, хварту́к нападбіра́ла. «Пашлі́це шчэ нападбіра́ім». А е́тые ігру́шы, што гнілу́шкі называ́юць, мя́ккіе. Яны́ пашлі́ шчэ нападбіра́лі. Агле́дзіла та́я ба́ба і мех завіза́ла.

Вызыва́юць іх су́дзіць.

– Нашто́ вы бра́лі, нашто́ вы кра́лі?

– Нашто́ мы кра́лі? Нашы́ ж дзе́ці есьць хо́чуць, мы і укра́лі.

– У ціб́е бага́та дзіце́й?

Ма́тка расказа́ла усё. А зь Йігна́там, дзя́дзям, пірагавары́ла усё. Дзя́дзя сказа́ў:

– Ні бо́йціся, гавары́ця усё. Раскажы́ця е́та, не пасо́дзюць. Ма́тка яму́, дзя́дзю, расказа́ла: што наве́ілі, яны́ сабе́ павязьлі́. Ма́тка на судзе́ і сказа́ла:

– Вы нас пу́сьціця ці у Го́міль павізіцё? Як во́зам везьць, е́та харашо́, а як жме́ньку узялі́, дык нас на́да судзі́ць.

Вызыва́юць другі́ раз. Яны́ гаво́руць зноў:

– Нашто́ кра́лі?

Іна́ зноў ім так аб'ясьні́ла. Яны́:

– Да у ціб́е то, баб, язы́к длі́нны. А йна:

– Да наве́рна. Зу́бы ж во павыкі́дала усе́. То́чна, зубо́ў німа́ у мін́е.

– Міне́ бу́дзіце садзі́ць ці што?

А е́тые ба́бы пла́чуць, а ма́тка ні пла́ча.

– Раскажы́ ж ты нам то́лкам, як е́та вы уба́чылі, што ваш прэцьсіда́ціль так і так зьдзе́лаў.

Іна́ так і так. Ім мо́жна. Мы па дзьве́сьця во грам [бяром], па стака́ну су́пу ўве́чары навары́ць, а прыцьсіда́ціль і замясьці́ціль во́зам.

Прыхо́дзюць с Чычэ́рску, вызыва́юць іх сюды́. Ба́ба:

– Садзі́ міне́ у цюрму́, а я напі́шу туда́, куда́ на́да, ско́лькі вы павязьлі́, а сьвідзе́ціляў у нас бага́та, мы ўсе патпі́шымся. То бу́дзя таб́е ці мне.

– Ла́дна, ідзі́ дамо́ў.

І мсьціў Кулі́ніч, ско́лькі быў прыцьсіда́цілям. Но по́тым, калі́ ён стаў у Кра́сным Бе́разі на піка́рні заве́дуюшчым і муку́ ціга́ў усё, у цю́рму яго́ за е́та. Ён жа жы́зьню пража́ыў у шкапу́. Жы́зьню – у шкапу́! Яго́ судзі́ць на́да было́. Усю́дах ро́зыскі паразы́скалі – яго́ нійдзе́ ні нашлі́, ён у шкапу́ до́ма сядзе́ў. Е́та расказва́ла жо́нка яго́, Аню́та Хі́мічава.

***

По́сьлі вайны́ мы усігда́ хадзі́лі зьбіра́ць каласы́. Зярно́, снапы́ зьвязу́ць – мы пашлі́ утраі́х. Тры су́мачкі, тры то́рбачкі насабіра́ем. Глянь-ка – ужо́ жме́нька нам. Абмало́цім. Зіма́ ж упірадзі́, на́да ж жыць. За каласкі́ нас началі́ гання́ць. Ужо́ ж мсьці́ўся прыдзьсіда́ціль за то́е, што данясьлі́. Яго́ зьнялі́ бы́стра. А быў Харла́наў. Тэй ні гання́ўся за людзя́мы. Узя́ў жме́ньку – спо́льзай. Год ад го́да ста́лі украпля́цца у жы́зьні бо́ляй. То баравіко́ў які́х нано́сіш прадасі́, то шчэ што. Тро́шкі ста́лі лу́ччай жыць.

### Пра чараўніцу

У Зале́сьці была́ калдо́ўка. Гэ́та ма́тка Сахве́і Тру́шкавай. І сама́ Сахве́я усё на сьве́ці е́та зна́я, но ні раска́жа. У Сахве́і сваё прыёмы былі́. І здава́ла малака́ іна́ сі́льна пабага́ту. А е́сьлі зганя́я каро́ў, то чыя́-та скаці́на бу́дзя бе́дная. І да́моў ні загна́ць, і к каро́ві ні падступі́цца, ці малака́ ні бу́дзя. Усё е́та у йе ад ма́ткі. То́е ж дзе́лала і ўсё зна́ла Ду́ні Кулі́нкавы ма́тка. Ба́ба Тру́шчыха і іна́, Кулі́нчыха, былі́ сёстры. А чаго́ іна́ зна́ла? Мая́ цётка Хо́ўра, Лабано́вы е́тые, і раска́зала:

– Адзі́н раз іна́ прышла́ к ім і ба́ча: кала каро́вы стаі́ць вядро́, а на каро́ву рушні́к паве́шаны, і з то́га рушніка́ бяжы́ць малако́.

Ну што е́та мо́жна зьдзе́лаць? Як е́та на́да зьдзе́лаць, каб бе́гла малако́, ні зна́ю.

Ма́тка Сахве́і цяжо́ла паміра́ла. І столь узрыва́лі усю. Вот ужо́ паме́рла. Ко́лькі разо́ў так было́. Пачына́юць мыць, іна́ во́зьмя зашаве́ліцца.

– А чаму столь узрывалі?

– Така́я калду́нка была́.

– Кадунка? А што яна рабіла адметнае?

Е́тай ба́бі Тру́шчысі было́ так. Ране́й стара́жы сьціраглі́ по́ля. І на Іва́ну Купа́лу калдуны́ – ім на душэ́ на іх ташні́ць – яны́ далжны́ бе́гаць у по́ля. Е́сьлі на каго́ сярдзі́ты і злы, дзе́лалі заво́і. Як іна́ там? Ці іна́ шэ́пча? Ці йна што? А заво́й дзе́лала так. Во́зьме таку́ю кру́глаю мясьці́ну. Жы́та так палама́я-палама́я ўсё у ку́чку. Е́сьлі чалаве́к іжжа́ў то́я жы́та, дык і захварэ́ў. «Е́та, – гаво́ра, – заво́й жа́ла». Начала́ хварэ́ць – пампрэ́ць чалаве́к.

Ба́бу Тру́шчыху сто́раж пайма́ў, а іна́ хадзі́ла ні чалаве́кам, а сьвіньнёй.

– Як гэта чалавек мог перакінуцца ў свінню?

– А Бог іе́ зна́я, як е́та мо́жна зьдзе́лацца тако́му. Ко́сы у йе, у сьвіньні́, былі́. Сто́раж узя́ў і трэ́заў тэ́я ко́сы. І у е́тые ба́бы, Тру́шчыхі, не было́ кос. А ко́сы у іе́ былі́ кучара́вые, харо́шые таке́я. І по́сьлі іна́ ў жы́зьні пла́тка у ба́ні ні разьвяза́ла і зь людзя́мы ні мы́лася. А лю́дзі усі раўно́ прыгле́дзілі. Вот тады́ ста́рые ко́сы так закру́цюць і насі́лі чапцы́. А іна́ чапца́ ні́колі ў жызьні́ ні завяза́ла. Кос жа у йе ні было́.

Калдуны́ ця́жка паміра́юць. І Тру́шчыха так. Іе́ не хава́лі. Іе́ сабяру́цца харані́ць, іна́ во́зьмя атжы́віцца. Тады́ Тру́шчыха сама́ – іна́ была́ ста́рая-ста́рая – сказа́ла:

– Е́сьлі бу́ду паміра́ць, узарві́це мне столь на пе́чы.

Дзед ійе́, хазя́ін, Іва́на Будуна́ ба́цька, столь узарва́ў, і вот канцы́ ёй.

### З успамінаў пра вайну

Раз у вайну́ нам было́ так. Мы усе́ пае́халі у лес, у Бу́дзькаў (назва мясціны. – *В. К.*). Каро́вы то́жа хадзі́лі па лясу́. Там былі́ за́гарадзі, і каро́вы стая́лі. Каро́ў усі́х паразьбіра́лі, як пае́халі у Сы́чаўку (назва вёскі. – *В. К.*). На́ша астала́ся і заблудзі́лася. Прыбе́гла у дзярэ́ўню, а там ні́кога німа́, усё спа́ліна. Іна́ пары́кала і пашла́ у лес. У ле́сі дзьве нядзе́лі хадзі́ла, а нас у Сы́чаўцы

нашла́. А было́ як. Ба́цьку забра́лі на фронт у со́рак трэ́цьцім гаду́, як ста́лі забіра́ць усе́х во такі́х, като́рые нідзійсьцьві́цільные былі́ на дзійсьцьві́цільнаю слу́жбу. Прычы́на? У на́шага, майго́ ба́цькі, зрэ́нія было́ плахо́я. Васілёк дзед быў у пляну́. С пле́на прышо́ў, на вайну́ папа́ў. Усі́х такі́х бага́та-бага́та забра́лі. Кі́нулі іх ў бой пад Шарсьціно́м (назва н. п. – *В. К.*). Піра́далі ма́ццы: Гры́шка пара́ніны, прывязьлі́ у Нісі́мкавічы (назва вёскі. – *В. К.*). Іна́ туды́. У Нісі́мкавічы то́лькі прыбе́гла, сказа́лі, што усі́х павязьлі́ у Сьвяці́лавічы. Іна́, дамо́ў ні захо́дзячы, туды́. Як бе́гла у Сьвяці́лавічы, ўстрэ́ціла на даро́зі Хве́дзьку Маслако́ва. Ён і гаво́ра:

– Ну, Яўхі́маўна, павязьлі́ Гры́шку твайго́ у Клінцы́, но ён саўсі́м сла́бы.

У Клінца́х ба́цька пабы́ў то́лькі су́ткі і памёр. Пахава́лі яго́ у бра́цкай магі́лі.

Ма́тка то́лькі зь Сьвяці́лавіч прышла́. До́ма пагарава́лі, пагаласі́лі. Іййе́ двоя су́так ні было́ до́ма. Мы усе́ чарадо́й за ма́ткай: «Ты нас кі́ніш, сама́ куда́ по́йдзіш». І мы ж за ёй чарадо́й. А чарадо́й чаго́? Есьць не́чага было́. Во такея Падабе́ды, Яўхі́мы, Хі́мічы на вайну́ ні пашлі́ і усё павычышча́лі у людзе́й. Зна́ю харашо́: зірна́ у нас было́ багачэ́нна. Сто́лькі про́са мы намалаці́лі: пяць бо́чак, ячме́ню – усяго́. Усё ма́тка е́та пазака́пала, а яны́ усё падастава́лі. Яны́ пяць гадо́ў е́лі по́сьлі вайны́ людзкі́ труд, а мы здыха́лі ні е́ўшы. Есьць крэ́пка хаце́лі. Есьць не́чага было́.

Ма́тка вы́шла, а мы усьле́д. Я: «Мам, на́ша Рабе́ня ідзе́ць». Ма́тка – зірк: «А дзе́ткі мае́, а лю́быя... А пра́ўда...».

Каро́ва ідзе́ць, а сьлёзы у йе цяку́ць з вачэ́й...

– Рабе́ня, Рабе́нька!..

Рабе́нька ско́лькі сі́лы у іе́ было́, сто́лькі іна́ бе́гла. Прыбе́гла, абню́хала нас усі́х. Ма́тка пагла́дзіла йе, усе́ пажале́лі.

Нашлі́ быка́, пакры́лі каро́ву. Каро́ва пакры́лася, ацялі́ла цёлачку. Цёлачку аддалі́ ба́бі Га́ньні. Га́ньніна цёлачка цялі́ла бычка́, яго́ паміня́лі на цёлачку. Вы́гадалі. І што было́ с той каро́ўкай. Была́ у Зале́сьці така́я маладзі́ца. Прышла́ іна́ к ба́бі Га́ньні і гаво́ра: «Га́нначка, мне пасаве́талі, і я к табе́ [прышла сказаць], каб ты сваёй цёлаццы вы́мьца падмы́ла, хво́сьціка тро́шкі трэ́зала. Е́та бу́дзя ліка́рства для маёй скаці́нкі».

Ба́ба Га́нна узіла́ е́та усё зьдзе́лала. І што? Тэ́я цёлачкі ні загна́ць дамо́ў. Ста́дам заганя́юць лю́дзі – людзе́й жа багачэ́нна у дзярэ́ўні – а на двор ніяк ні загна́ць. На ву́ліцы піраначу́я. І малачка́ грам ні было́. Пашла́ шука́ць людзе́й ба́ба Га́нна. Сказа́лі на́да йціць у Анто́наўку. Там ідзе́-та за Ба́бічамы (назва вёскі. – *В. К.*) ці йдзе тая Анто́наўка. Пашла́ іна́. Прышла́ к дзе́ду. Дзед той і гаво́ра:

– Дык ты ж сама́ і аддала́ сваё малачко́. Ты ж атрэ́зала хво́сьціка, атрэ́зала з лы́сінкі шэ́рсьці, падмы́ла вы́мца і вадзі́чку ту́ю ёй аддала́.

– То́чна, дзед, так было́. Я ні́чо́га ў бе́лым сьве́ці ні зна́ю. Мне так сказа́лі, я і аддала́.

Дзед:

– Малачко́ тваё мы ве́рнам, і каро́ўку табе́ тваю́. Сёлітні гадо́к ужо́ прапа́ў.

Пабыла́ Га́нна у дзе́да. Дзед што там гавары́ў, што ні гавары́ў, навучы́ў ба́бу Га́нну, штоб іна́ у тэ́я каро́вы та́кжа зьдзе́лала, усё тніла́. Мне ка́жыцца, е́сьлі ні́чо́га ні гавары́ўшы, ні́чо́га ні дзе́лаўшы, е́та усё чуш. Но дзед тэй сказа́ў, што бу́дзя у цібе́ малако́. Ба́ба Га́нна узіла́ уно́ччы е́та усё зьдзе́лала. Дамо́ў прынісла́. Ста́ла каро́ва дамо́ў хадзі́ць. Ні с сасе́дзямы, ні с чым ні заганя́юць. Каро́ва як ішла́, так і дамо́ў. І патро́шкі, патро́шкі начала́ малако́ аддава́ць.

Ба́ба та́я, като́рая прыхо́дзіла:

– Га́нначка ты мая́, я табе́ во ску (скажу́. Іна́ ні гавары́ла *ж*): ты штось маёй каро́ўцы зьдзе́лала.

– Не.

– А чаго́ твая́ каро́ўка на двор ідзе́ць начава́ць, ні на ву́ліцы начу́я.

Ба́ба Га́нна:

– А ніха́й-ка тва́я на дварэ́ ужо́ паначу́я.

– А, не, Га́нначка, мая́ бу́дзя у хле́ві начава́ць.

Вот тако́я было́. А тады́ дзед дада́ў: «Штоб іна́ у цібе́ ні атабра́ла малако́, із страхі́, як куда́ ідзе́ць каро́ва, вы́цягні тры разы́ па тры саломінкі і прынясі́ мне. Іна́ у цібе́ ціпе́р малака́ ніка́гда

ні во́зьмя, но бу́дзя к табе́ прыхадзі́ць на гадаво́я пра́зьнікі пастая́нна, каб ты ёй што-не́будзь дала́: ці кро́шку хле́ба, ці якѐя вады́. Асо́бінна бу́дзя прыхо́дзіць у ха́ту глыну́ць вады́ у цібе́. Ты ні дава́й».

Тако́я было́, я харашо́ зна́ю. Ба́ба Ску бу́дзя гавары́ць:

– Прыдзі́-ка з сваі́мы хло́пцамы мо́жа б мы як-не́будзь загна́лі яе́, каро́ву, на двор.

Дык іна́, та́я каро́ва, пірапрыгне́, ні зачэ́пя чалаве́ка. Ат двара́ іна́ усі ро́ўна по́йдзя. Вот іду́ць каро́вы. Мы тсюль паста́нім, і атту́ль лю́дзі паста́нуць, а у хлеў ні заго́ніш. А як лю́дзі разо́йдуцца, іна́ пры́дзя, на ву́ліцы тут ля́жа кала ха́ты.

А ё яно́ на сьве́ці, німа́ яго́ на сьве́ці, е́тага нічо́гінька мы ні зна́ім. Ма́тка на́ша пражыла́, у цэ́ркву ні ра́зу ні схадзі́ла. Я:

– Мам, усе́ уме́юць малі́цца, а ты ні навучы́ла міне́. Я ні зна́ю да́йжа «Во́тча наш» памалі́цца.

– Я яго́ ні малі́лася, яно́ мне у галаву́ ні захо́дзіла. А у цэ́ркві ж была́, ба́ба вадзі́ла. Усе́ сабяро́мся там, нас сьмех бярэ́ць. Мы абы́ с чаго́й-та сьмяёмсь. Насьмяёмсь, вы́йдам на ву́ліцу. А мале́ньня мне у галаву́ ні захо́дзіла, я яго́ ні ўме́ю, таго́ цібе́ не наўчы́ла.

***

Тахма́ – е́та дзе чамярэ́зьнік расьце́. Вот бальшо́я дзе́рава, а с-пад ні́зу чамярэ́зьнік. Уся́кае усё расьце́, пру́цьця уся́кая. Лесьнікі́ гаво́руць: «Ідзі́ця усю тахму́ высіка́йця, а то́лькі астаўля́йця, штоб радко́м адзнача́лася адна́ сьцібялі́на, штоб адна́ іна́ расла́». А пазьне́й ніліквíдам называ́лі. Хадзі́лі і жо́расьці высіка́лі – бірвяно́ тако́я длі́нная, то́ўстая. Выно́сьлівае дзе́рава. У ле́сі ні называ́юць віcо́кае дзе́рава, а выно́сьлівае. Жо́расьці ішлі́ у строй, а жэ́рдкі бра́лі лю́дзі. Ціпе́р дзе́ці ні паніма́юць, як на́да жо́расьць сеч. А сеч на́да зь е́стага бо́ку, зь е́стага. Тады́ камялёк заваньу́ў і дзе́рава пашло́ па ра́ду, павалі́лася. Жо́расьці павыця́гаіш, а камлі́ на́да апсе́ч, вяршы́нкі пакла́сьць у дро́вы. Вяршы́нка бу́дзя ме́тры два. І кладзе́ш вяршы́нкі радо́к так, а тады́ во так (паказвае спосаб укладкі. – *В. К.*) наве́рх ішчэ́ кладзе́ш. У каміська́х дро́вы ро́ўнінькіе, а пры́дзя чалаве́к брань – там іх шыш, там два аха́пкі дроў. Ме́раюць жа, ско́лькі ме́траў насе́к. Уся́к на́да прыду́маць, каб бо́лей ме́траў выхо́дзіла. Таму што капе́йкі плацíлі. С тапаро́м дзень паігра́іш, а што заро́біш. Тры́ццаць рубле́й за ме́сіц заро́біш. То былі́ бальшэ́я гро́шы.

***

Ушчо́рк – е́та не ў ко́птар. Ушчо́рк – е́та ро́ўнінька зь беражка́мы. Калі́ так ро́ўнінька, называ́юць ушчо́рк, а е́сьлі тро́шкі так вы́шай – у ко́птар.

***

Е́та ціпе́р называ́юць наве́сы, а ране́й шо́пы. Шо́пы – то́лькі кры́ша, сьце́нак ніякіх ні было́. У шо́пах кла́лі каміна́мы, хрэ́сьцікамы такі́мы. Кладзе́ш штук дзе́сіць кірпічы́нак то́рху. Торх жа рэ́заўся кірпічы́намі.

***

Грабёнка – етá плыт, ма́лінькі. Ма́лые плыты́ віза́лі гужбо́й. Вот бяру́ць бярэ́зьнік, такі́ то́нкі да віcо́кі, яго́ круцíлі. Была́ сьпіцыя́льна машы́на така́я, што скру́чала е́ту гужбу́. Тады́ гужба́ ужо́ не лама́лася, крэ́пкая была́. Яно́ ні парве́цца, е́сьлі гужбо́й пазьвя́зваюць. А ма́лые плыты́ зьвя́зваюць у бальшы́. Ён, тэй плыт, мо́жа ме́траў пійся́т бу́дзя. Длі́нны-длі́нны. С шасто́м садзя́цца на плыты́, там ужо́ і бу́дка. Я ба́чыла плыты́ е́тые, як мато́ркай цягну́лі. Дык і длі́нные плыты́. Шаста́мы атпíхаюцца ат бе́рага. Яны́ то́ўстые такѐя, крэ́пкіе, шасты́. Дзе бе́раг, вот Сож ву́зкі, а бе́раг круты́, і тады́ е́тые плыты́ у бе́раг упіна́юцца. Йіх лю́дзі атпíхаюць. Е́тые, што на плыта́х, се́на на пале́ньня наклаđу́ць і там жыву́ць у бу́ццы, паку́ль дацягнуць плыты́ да Го́міля.

## НАВУКОВЫ КАМЕНТАРЫЙ ДА ТЭКСТАЎ З ЧАЧЭРСКАГА РАЁНА

Паводле вынікаў лінгвагеаграфічнай стратыфікацыі беларускамоўнай прасторы тэрыторыя Чачэрскага раёна комплексам сваіх дыягнастычных этнагенетычных дыялектных асаблівасцей адносіцца да сярэднебеларускіх гаворак. Але ў межах іх займаюць ускраіннае становішча на паўднёвым усходзе Беларусі (ЛГ, карта № 75). Згодна з занальным падзелам гаворкі Чачэршчыны комплексам адметнасцей монаструктурнага тыпу вызначаюцца як гаворкі паўднёва-ўсходняй дыялектнай зоны і маюць у межах зоны статус памежных. Па прычыне непасрэднай блізкасці да сучаснай адміністрацыйна-тэрытарыяльнай мяжы з Расіяй мясцовыя гаворкі адносяцца да рэгіёна актыўнага міжмоўнага ўзаемадзеяння (ЛГ, карты № 76, 78, 79). Лінгвагеаграфічна вылучаныя ў сярэдзіне мінулага стагоддзя два тыпы маўленчых сродкаў згодна з іх паходжаннем, дыялектны і занальны, склалі сукупны тып мовазабяспечвальных сродкаў рэгіянальнага дыялектнага маўлення, ці рэгіянальную дыялектную сістэму сродкаў зносін. Аднак гэта сістэма не існуе як ізаляваная дыялектная сістэма забяспечвальных сродкаў маўлення. Сёння яе лексічны рэпертуар пашыраецца за кошт сродкаў рускай і беларускай літаратурных моў. Таму рэальнай сістэмай камунікацыі мясцовых насельнікаў з'яўляецца сістэма, якая акрамя дыялектнага маўленчага рэпертуару ўключае таксама сродкі літаратурных сістэм нацыянальнага моўнага забеспячэння. Сукупныя моўныя сродкі, якія паводле класіфікацыйных адзнак маюць адрозны статус, але выкарыстоўваюцца як сродак маўлення, складаюць камунікатыўную сістэму сродкаў зносін мясцовага насельніцтва. Рэпертуар сродкаў маўленчага забеспячэння асоб сталага ўзросту сярод прадстаўнікоў мясцовага насельніцтва характарызуецца наступнымі моўнымі асаблівасцямі.

### У фанетычным ладзе ў сістэме галосных

Гук [а] у становішчы пасля цвёрдых і няпарных цвёрдых зычных розных складах у адносінах да націску, тыпу склада і якасці націскнога галоснага: *галаву́, абмары́ў, саракваша, пашапта́ў, зашаве́ліцца, чалавек, чарадо́й, за зо́латам, дзіцёначак, вы́стралілі, вы́шай, не ну́жан, грабёнка, нахо́джаіцца, зьдзе́лала, кры́ша, у на́шага, пазака́пала.* Аднак у становішчы пасля няпарных цвёрдых зычных у пераднаціскных і паслянаціскных закрытых складах таксама мае месца гук [ы]: *прыдзьсіда́ціль, Чычэ́рск, ско́рынька, сыно́чык, кусо́чык, вы́рызалі,* але: *прэцьсіда́ціль.*

Гук [а] у пераднаціскных складах у становішчы пасля мяккіх зычных пры любым галосным пад націскам, за выключэннем гука [а]: *палячы́цца, сьцярэ́жч, нядзе́лька, сядзе́ў, вяршы́нка, сабяру́цца, іньцярэ́сная, замясьці́цель.*

Гук [і] у становішчы пасля мяккіх зычных у першым і іншым складах перад націскам пры акцэнтаваным гуку [а]: *іна́, сістра́, ліжа́ць, сьміта́на, на піка́рні, длі нас, сім'я́, сідзя́ць, сьпіцыя́льна,* але: *перадава́ў.* Аналагічна пры падобных фанетычных умовах, але пры іншых націскных галосных: *на міжніку́, пірасушы́ла, пірагавары́ла, піраелі, павічарэ́ла,* але: *пераско́чыла.*

Гук [і] у паслянаціскным становішчы пасля мяккіх зычных у неканцавых і канцавых закрытых складах: *пе́рсьцін, по́ладзінь, пачына́іцца, вы́цігня, у Ка́мінцы, во́сінь, дзе́сіць, ме́сьцічка, чу́іш, се́ілі, цёмнінька, ву́зінькая;* аднак: *по́пелу, зна́еш, вы́церпець, лю́дзячкі, бо́ляй, прыдзьсіда́цілям.*

Гук [і] пасля мяккага зычнага ў першым неакцэнтаваным складзе пры галосным [е] пад націскам у форме роднага склону адзіночнага ліку некаторых займеннікаў, а таксама ў словах ***цяпер, дзеці***: *дзіце́й, іе́, у міне́, цібе́, зь сібе́, ціпе́р.* Акрамя таго, гук [і] у становішчы пасля папярэдняга мяккага зычнага ў складзе часціцы ***не***: *ні навучы́ла, ні схадзі́ла, ні ўзгадава́лі, ні йдзець, ні парве́цца, ні прыніслá ніско́лькі, ні пры сваём, е́та ж ні на́шы; ці ні ат таго́,* аднак: *не бу́ду, не было́, не наўчы́ла, не ў ко́птар, не вы́шла, не лама́лася.*

Гук [а] у паслянаціскным канцавым адкрытым складзе ў становішчы пасля мяккіх зычных у розных лексіка-граматычных разрадах слоў: *нішча́сьця, по́ля, мале́ньня, дзьве́сьця, тако́я гумно́, ця́жкая жыцьцё, тэ́я ла́пы, бальшэ́я, зрэ́нія было́ плахо́я, прыхо́дзя, прато́пя, піраве́я, хо́чыця, ні бо́йціся, гавары́ця,* але: *бальшо́е гумно́; вісо́кае, выно́сьлівае дзе́рава; мо́жа по́мніце; які́е хло́пцы; хло́пцы ёмкіе; во́зьме; узарві́це мне столь.*

Гук [і] у паслянаціскным канцавым адкрытым складзе ў становішчы пасля мяккіх зычных у асобных словаформах назоўнікаў: *аддалі́ ба́бі Га́ньні; к на́шай ба́бі Зе́ні; рабо́тала на хе́рмі; ў бе́лым сьве́ці; бу́дзя у хле́ві; у ле́сі; у дзярэ́ўні,* але: *на Укра́іне.*

Ненаціскны гук [а] адпаведна [у] у іншых тыпах беларускага дыялектнага маўлення і літаратурнай мове ў складзе канчатка ***-аю*** ў прыметніках, атрыбутыўных займенніках, парадкавых лічэбніках, дзеепрыметніках вінавальнага склону жаночага роду адзіночнага ліку: *уся́каю хваро́бу; но́ваю каро́ву; кру́глаю мясці́ну; дзі́сьцьві́цільнаю слу́жбу; дро́бнінькаю бу́льбу; бе́лінькаю таку́ю.*

Націскны гук [о ('о)] адпаведна гуку [і (ы)] у іншых тыпах дыялектнага маўлення і ў літаратурнай мове як кампанент канчатка ў канцавым закрытым складзе ў атрыбутыўных формах слоў мужчынскага і ніякага роду ў месным склоне адзіночнага ліку: *у том гумне́; у том до́ме; у саракаво́м; на маём ба́цьку; ні пры сваём уме́,* але: *на адны́м баку́... і на другі́м; на тым жа бугарку́.*

Націскны гук [о] адпаведна гуку [у] у іншых тыпах дыялектнага маўлення і ў літаратурнай мове як кампанент канчатка ва ўскосных склонах пэўна-колькасных лічэбнікаў *два, тры, чатыры* і інш.: *у нáшых двох гармaнíстаў*; *на двох адна́*, але: *з двух бакóў*.

Націскны гук [о] як кампанент канчатка дзеясловаў 1-й асобы множнага ліку пры цвёрдым і няпарным цвёрдым апошнім зычным асновы, а таксама [ʻо] у становішчы пасля мяккага зычнага ў падобных марфалагізаваных умовах: *павязóм, ідóм, забярóм, бярóм, бягóм, сабярóмся, кладóм, сьмяёмсь*.

Націскны гук [о] адпаведна гуку [а] пад націскам у іншых тыпах беларускага дыялектнага маўлення і ў літаратурнай мове ў каранёвай марфеме: *насóдзім, не пасóдзюць, пасóджана*. А таксама націскны гук [о] адпаведна гуку [ы] у асаблівых фанетычных умовах, як у словах тыпу *разóйдуцца*.

Націскны гук [ʻо] як кампанент канчатка дзеясловаў 2-й асобы множнага ліку ў канцавым адкрытым складзе: *павізіцё*.

Націскны флектыўны гук [ʻе] у канцавым адкрытым складзе ў некаторых дзеяслоўных формах: *прынясіцé, павізіцé*.

Націскны гук [е (ʻе)] у лексемах атрыбутыўнага тыпу ў складзе двухскладовага канчатка ў назоўным і вінавальным склонах множнага ліку, а таксама ў складзе флексіі ўказальнага займенніка ***той*** у гэтых жа словаформах адзіночнага ліку: *сундукí бальшэ́я*; *трэ́заў тэ́я кóсы*; *бýдзя прыхадзíць на гадавэ́я прáзьнікі*; *сьвязí такéя*; *такéя мужчы́ны*; *і другéя сабярýцца*; *такéя абóркі, тэй сундýк*; *тэй плыт*.

Ненаціскны гук [е] як кампанент двухскладовай флексіі ў становішчы пасля мяккага зычнага ў канцавым адкрытым складзе ў словах з азначальнай функцыяй: *ёмкіе, праворные, дамáшніе, нóвінькіе, хрóмавые, харóшые, тóнкіе, вісóкіе, зьлю́шчые*.

Націскны гук [е] у становішчы пасля няпарных цвёрдых зычных у межах асновы ў дзеяслоўных формах прошлага часу (відавочна і ў адпаведных зыходных формах інфінітыва): *крычэ́ў, зарычэ́лі*.

Ненаціскны гук [у (ʻу)] адпаведна [а (ʻа)] у нарматыўным беларускім і іншадыялектным тыпах маўлення ў складзе асабовага канчатка дзеясловаў II спражэння 3-й асобы множнага ліку: *хóдзюць, пратóпюць, станóвюць, нажáруць, насмáлюць, станóвюцца, гавóруць*.

Спрашчэнне групы аднолькавых галосных шляхам іх сцяжэння: *пабéдалі, сабражáлі, сабражэ́нія*.

Наяўнасць прыстаўнога гука [і] перад кансанантным прыназоўнікам, а таксама перад збегам зычных у пачатку слова ў фанетычна не абумоўленых умовах: *із цэ́рквы*; *із страхí выцягвая*; *іжжáў жы́та*; *назáд ішлá*; *я ішлá*; *ётые ігрýшы*.

Адпадзенне галоснага [а] у пачатку слова пераважна перад наступным зычным [д] або [т] незалежна ад характару канцавога складу папярэдняга слова: *зярнó тсыпáіцца*; *мáтка ддалá*; *трóшкі трэ́зала*; *усё тнілá*; *мы тсюль*; *узя́ў трэ́заў*; *ткапáлі*, але: *атрэ́зала шэ́рсьці, аддáла, аттýль*. Іншыя выпадкі адпадзення, а таксама структурнага спрашчэння ці трансфармацыі слова: *спóрцілася*, ʻиспортиласьʼ, *спóльзай*, ʻиспользуйʼ, *шчэ, пійсят, шэйсят*.

## У сістэме зычных

Звонкія зычныя ў фанетычна слабай пазіцыі, у тым ліку ў межах фанетычнага слова, а таксама ў становішчы паміж двума словамі: *вуж, усьлéд, дзед, каб, хлеб, зарэ́ж, стóраж, прыбéг, прывёз, дзя́дзьку, везьць, нíзка, блізка, лёгкага, грыбкí, шýбкі, бáбку, сьцярэ́жч, аблпёўся, із страхí, з той карóвай, з сваíмы, праз шпылёк, пад Шарсьцінóм, перад тым, набéглі з пасьцíлкамі, бéгла з Кýкліч, то ж такáя, нéмцы ж культýрные*, але: *апсéч, аддзэ́ліваца, с сы́нам, с сабóй, с табóй, с тэ́я*.

Гук [дз] у становішчы перад [к] у складзе кансанантнага ланцуга ***-дск-*** (пры яго арфаграфічным запісе): *людзкí*.

Гук [т] у складзе прыназоўніка (прыстаўкі) ***ад*** і іншых (з канцавым гукам [д] у правапіснай традыцыі) незалежна ад якасці суседняга зычнага: *атвічáя, атвярнýлася, атрэ́зала, атнялí, атганя́юць, атжы́віцца, аттýль, аткрывáя, аткапáлі, атпáў, аддзіля́цца, ат дварá*, а таксама: *атышóў, атабрáла*. Але: *аддалá, аддавáць, éта ад éтага, год ад гóда*.

Мяккія свісцячыя ў становішчы перад наступным мяккім зычным, у тым ліку і мяккімі заднеязычнымі: *дапусьцíла, усьлéд, вынóсьлівае, сьмех, расьця́жна, дзьвéсьця, сьпіцыя́льна, пасьцíлкамі, іньцярэ́сна, прáзьнікі, зь éстага, зь сібé, зь Гірмáніі, ськідáць*.

Падоўжаныя зычныя ў інтэрвакальным становішчы: *свáцьця, судзьдзя́, прýцьця, рáньня, па Гарэ́льлю, на лýччаньня, на палéньня*, але: *сазнáнія, зрэ́нія*.

Цвёрды гук [м] у складзе флексіі ў творным склоне множнага ліку іменных часцін мовы: *з капанíцамы, хлóпцамы, беражкáмы, камінáмы, хрэ́сьцікамы, сваíмы, зь йíмы, такíмы*, але: *парцізáнамі, барóдамі, цьвітáмі, кірпічы́намі*.

Цвёрды канцавы гук зыходу асновы ў асабовай словаформе дзеясловаў І спражэння ў 1-й асобе множнага ліку: *павязóм, ідóм, кладóм, вéрнам, вы́йдам, палéзам*.

Мяккі зычны [с'] у складзе постфікса ***-ся*** зваротнай формы дзеяслова, а таксама ў іншых лексіка-граматычных групах слоў з наяўнасцю зваротнага афікса незалежна ад якасці папярэдняга гука – галоснага ці зычнага: *нáчаліс҆ь, ні кóнчылась, аглянýсь, упрáвілась, астáўсь, сьмяёмсь, штось, калі́сь* і: *асталáся, упірáлася, прысьні́ліся, падняліся, наéўся, ізьвёўся, якся.*

Мяккія зычныя [дз], [ц] у запазычаных (пераважна праз рускую мову) словах: *цілівізáр, у парцізáнах, у цюрмý.*

Асіміляваныя свісцячыя і шыпячыя, а таксама гукі [д] і [т] у становішчы перад шыпячымі гукамі і свісцячым [ц]: *шчарнéлі, Зýшчыха, прыіжджáў, іжжáў, па палóсацны, мáццы, цёлацны, на табурэ́ццы, аччыні́лі,* але: *ні с чым, с шастóм.*

Пратэтычны зычны [в] у становішчы перад акцэнтаваным галосным [о] і галосным [у] рознай акцэнталагічнай якасці: *вузялóк, на вýліцы, у вýлачку, вуглі́, Вóсіпаў, вóчарадзь,* а таксама: *вайстрачóм, вікóны.*

Пратэтычны зычны [j] у складзе ўказальных займеннікаў: *стáлі éта гаварыць; ніхтó éтага ні пасавéтаў; éта Йіхвáн устáў; зь éстага*[1].

Ужыванне ў якасці прыназоўніка або ў пачатку слова ў становішчы перад наступным зычным білабіяльнага зычнага гука [ў] ці яго адпаведніка, галоснага гука [у][2]: *цігáў усё; ўстрэ́ціла, а ў йе; кі́нулі іх ў бой; у ві́шаньнік ўпірáлася; бéгла у Сьвяці́лавічы; пашлá у лес; а у цэ́ркві; ці у Гóміль; Тацянка устрэ́цілася; што ужó; усё упрáвілась.*

Білабіяльны зычны гук [ў] адпаведна спалучэнню гукаў [ву] у іншых тыпах дыялектнага маўлення, а таксама ў літаратурнай мове: *наўчы́ла;* а таксама дадатковы склад [ва] у становішчы пасля галоснага гука [у]: *увазнáць.*

Гук [ц] адпаведна гуку [к] у давальным і месным склонах адзіночнага ліку ў назоўніках жаночага роду: *цёлацны, карóўцы, палóсацны, мáццы, на табурэ́ццы.*

Гук [ж] адпаведна гуку [г] (і яго фанетычным варыянтам) у іншых тыпах беларускага маўлення і ў літаратурнай мове ў інфінітыўных формах на ***-чы***: *сьцярэ́жч.*

Зычны гук [ц'] у адпаведнасці з гукам [с':] у іншых тыпах беларускага дыялектнага маўлення ў іменных словаформах назоўнікаў, а таксама ў зваротных формах дзеясловаў у 2-й асобе адзіночнага ліку: *бáба Ані́сьця, у Залéсьці, вýчысьця.*

Гук [j] як вынікператварэння і спрашчэння групы гукаў [ja], характэрнай для іншых беларускіх дыялектных гаворак і літаратурнай мовы: *а ў йе; пашлá йна за тóга; а йна; урáньні йе ні даі́ла; паглáдзіла йе.*

Гук [j] у становішчы перад наступным націскным і ненаціскным галосным гукам [і]: *ужó зь йіх, дзéўкі зь йі́мы, зь Йігнáтам, усé йідá, éта Йіхвáн,* аднак: *ніхтó інá ім, у ié былí.* Акрамя таго, гук [j] у іншых, фанетычна не абумоўленых умовах: *а йдзе брацы; хто там йдзе нахóджаіцца; йдзе Хвéдзька.*

Гук [j] у якасці злучніка як вынік ператварэння галоснага гука [і] у становішчы пасля галоснага папярэдняга слова: *німá й німá; но й ім плóха,* а таксама пры іншых умовах у словах тыпу: *койя́к, дáйжа.* У іншых выпадках: *ійé.*

Гук [j], які з'яўляецца вынікам пераўтварэння каранёвага ***і*** ў словах з прыстаўкай, што заканчваюцца на папярэдні галосны: *вы́йдам, пры́йдзіця сюды́,* у тым ліку: *падыйдзі́ця,* але: *пашóў, прышлá.*

Адсутнасць гука [ф] у запазычаных словах у розных умовах і становішчы: *на хéрму, хвасóль, хвартýк, ахвіцэр, шкап, Прóська, Яўхі́маўна, Мáрхва, Хвéдзю, хватóграфа, хватаграхвій,* але: *фуражы́рам, фронт, Фёдар, Мáрфа, фатóграф.*

Адсутнасць галоснага гука ў формах інфінітываў на ***-ці, -чы***, якія захоўваецца ў іншых тыпах дыялектнага маўлення, а таксама ў літаратурным стандарце: *напрáсьць, везьць, сьцярэ́жч, плесьць, апсéч,* але: *éсьці.*

Спалучэнне гукаў [дн (дн')]: *аднý, пасьлéдні, радня́, лáдна, жáдная, выхаднáя.*

Спалучэнне гукаў [шн] адпаведна [чн] у іншых тыпах беларускага дыялектнага маўлення і ў літаратурнай мове: *рушні́к, гурóшнік, прашнýўся, па-вýлішнаму,* але: *прачнýўся, тóчна.*

Спалучэнне гукаў [с'ц'] у канцавым складзе слоў, у тым ліку і ў назоўніках жаночага роду з асновай на зычны: *напрáсьць, везьць, плесьць, пад'éсьць, паклáсьць, ёсьць, есьць, пачалí рэсьць, жóрасьць.*

Рэалізацыя дзеяслова ***ёсць*** у варыянце ***ё, ёсьць***: *ё янó на сьвéці; што янó ёсьць.*

Некаторыя іншыя адметнасці: формы тыпу *жы́тны* (*сýпу жы́тнага*), *ві́мя* (*ві́мем на сук*), *вісóкі* (*вісóкае дзéрава*), *даўжынá, шырынá, кала* 'каля' і інш.

**У марфалагічным ладзе**

Націскная флексія ***-у*** ў месным склоне адзіночнага ліку ў назоўніках мужчынскага роду пры аснове на цвёрды, няпарны цвёрды і заднеязычны зычны [к]: *пражы́ў у шкапý, плянý, гадý, па лясý, на вужý, ў бакý, у сундукý,* але: *на сялé, у том гумнé.* Акрамя таго, пры іншых акцэнталагічных характарыстыках: *у лéсе* (*// у лéсі*), *на сьвéце* (*// у сьвéці*) і інш.

[1] Згодна з прынцыпам запісу тэксту паводле «арфаграфіі гаворкі» гук [j] у такіх выпадках не адзначаецца, але яго наяўнасць усведамляецца як агульназразумелае.

[2] Гук [ў] у падобных фанетычных умовах па слыхавым успрыняцці гучыць як кароткі гук.

Ненацiскны канчатак *-у* ў давальным і месным склонах адзіночнага ліку ў назоўніках мужчынскага роду пры аснове на цвёрды, няпарны цвёрды і заднеязычны зычны: *к дзе́ду*; *сказа́ў Яўхі́му*; *пірадава́ла Машнёнку*; *сто́ражу прыказа́ў*; *на е́льніку*; *ў Чычэ́рску*; *на маём ба́цьку*.

Ненацiскны канчатак *-і* ў давальным і месным склонах адзіночнага ліку ў назоўніках жаночага, мужчынскага і ніякага роду з асновай на зыходны цвёрды, мяккі і заднеязычны зычны: *аддалі́ ба́бі Га́ньні*, *ба́бі Зе́ні ка́жа*, *е́тай ба́бі Тру́шчысі*, *к цэ́ркві*, *к Аме́льчысі*, *к каро́ві*, *на даро́зі*, *у магі́лі*, *на піка́рні*, *у дзярэ́ўні*, *у жы́зьні*, *у ба́ні*, *у сьве́ці*, *у хле́ві*, *у ле́сі*, *у ліспрамхо́зі*, *у Зале́сьці*, *у Кра́сным Бе́разі*, *у ма́і*, але: *у карзі́не*, *па сьве́це*, *на ба́цькаўшчыне*.

Ненацiскны канчатак **-ы** (**-і**) у месным склоне адзіночнага ліку ў назоўніках мужчынскага і ніякага роду пры аснове на няпарны цвёрды і мяккі зычны: *на со́нцы*, *у ма́і ме́сяцы*.

Націскны канчатак *-э*, ненацiскны **-ы** ў давальным і месным склонах адзіночнага ліку ў назоўніках жаночага роду I скланення (назоўнікі на *-а*, *-я*) пры аснове на няпарны цвёрды і зыходны заднеязычны зычны: *цёлацці падмы́ла*, *маёй каро́ўцы*, *пірада́лі ма́цы*, *на душэ́*; *к хма́ры*, *у адзе́жы*, *на Шо́хаўцы*, *у я́мцы*, *па тако́й во пало́сацы*, *на табурэ́цы*.

Аднаскладовы канчатак **-ой** (**-ай**) у формах творнага склону адзіночнага ліку жаночага роду іменных часцін мовы: *ніяко́й*, *табо́й*, *капані́цай*, *лапа́тачкай*, *ба́бай Тацья́нкай*, але: *за ёю*.

Клічныя формы назоўнікаў з чыстай асновай: *які́е хло́пцы*, *цётк*; *мам*, *на́ша Рабе́ня ідзе́ць*; *Маньк*; *Кацяры́н... пратапі́*; *у цібе́ то*, *баб*; але: *ну*, *Тацья́нка*; *ідзі́*, *дзе́тка*.

Флексія **-амы** (**-ямы**) у творным склоне множнага ліку ў субстантываў, а таксама **-ымы** (**-імы**) у гэтай жа форме ў прыметніках і граматычна суадносных з імі іншых часцінах мовы: *з капані́цамы*, *за людзя́мы*, *сасе́дзямы*, *сьцє́жачкамы*, *пахаро́намы*, *за Ба́бічамы*, *з сваі́мы хло́пцамы*, *хрэ́сьцікамы такі́мы*, але: *парціза́намі*, *баро́дамі*, *цьвіта́мі*, *кірпічы́намі*, *ва́шымі*.

Флексія **-ая** (**-яя**) у назоўным склоне адзіночнага ліку жаночага роду ў словах з атрыбутыўнай функцыяй: *пало́ска шыро́кая*; *цэ́рква бальша́я*, *бальшэ́нная*; *выхадна́я адзе́жа*; *ні пярэ́дняя*, *за́дняя со́ска*; *така́я дабрэ́нная каро́ва*.

Націскны двухскладовы канчатак **-эя**, націскны і ненацiскны **-ые** ў родным склоне адзіночнага ліку жаночага роду ў словах з атрыбутыўным значэннем: *с тэ́я каро́вы*; *і́хные сям'і́ німа́*; *у е́тые ба́бы*; *у адные́ сяcтры́*; *у старэ́йшые*.

Двухскладовыя флексіі: ненацiскныя **-аю** (**-яю**), націскная **-ую** ў вінавальным склоне адзіночнага ліку жаночага роду ў прыметніках, дзеепрыметніках, займенніках, парадкавых лічэбніках: *дро́бнінькаю бу́льбу*; *но́ваю каро́ву*, *уся́каю хваро́бу*; *бе́лінькаю таку́ю*; *таку́ю кру́глаю мясьці́ну*; *пасьле́дняю цёлачку*; *ту́ю каро́ву*, *на другу́ю ноч*, але: *са́мінькую даро́гу*.

Націскны канчатак **-ом** (**-ём**), ненацiскныя **-ым** (**-ім**) у месным склоне адзіночнага ліку прыметнікаў мужчынскага і ніякага роду і ў граматычна суадносных з імі іншых часцінах мовы: у *саракаво́м*, *у адно́м до́ме*, *у том гумне́*, *на том*, *на чом*, *на маём*, *пры сваём*, *у чаты́рнаццатым*, *васімна́ццатым гаду*, але: *на адны́м баку*, *у тры́ццаць дзівя́там*.

Націскны канчатак **-эя** (**-ея**), ненацiскны **-ые** (**-іе**) у назоўным і вінавальным склонах множнага ліку ў лексемах атрыбутыўнага тыпу: *бальшэ́я*, *гадавэ́я*, *такє́я*, *другє́я*, *зво́нкіе*, *мя́ккіе*, *ёмкіе*, *траво́рные*, *дама́шніе*, *но́вінькіе*, *хро́мавые*, *харо́шые*, *то́нкіе*, *віcо́кіе*, *зьлю́шчые*.

Націскны канчатак **-ох** (**-ёх** – патэнцыяльна ў становішчы пасля мяккага зычнага асновы, але ён не быў засведчаны ў запісах) у родным, вінавальным і месным склонах у пэўна-колькасных лічэбніках: *у двох гармані́стаў*; *гармо́нь... на двох адна́*.

Націскны канчатак **-эць**, ненацiскны **-а** (**-я**) у дзеясловах I спражэння ў 3-й асобе адзіночнага ліку цяперашняга (простага будучага) часу: *хварэ́ць*, *пам*р*э́ць*, *ідзе́ць*; *гаво́ра*, *смо́кча*, *піраве́я*, *прыхо́джая*, *прато́пя*, *атвіча́я*, *спра́шая*, *выця́гвая*, *бе́гая*, але: *жыве́*, *натрэ́*, *прынясе́*.

Націскны канчатак **-ом** (**-ём**), ненацiскны **-ам** у дзеясловах I і II спражэння ў 1-й асобе множнага ліку цяперашняга (простага будучага) часу: *ідо́м*, *забяро́м*, *бяро́м*, *бяго́м*, *сабяро́мся*, *сьмяёмсь*, *ве́рнам*, *вы́йдам*, *пале́зам*.

Канчатак **-ым** (**-ім**) у дзеясловах I і II спражэння ў 1-й асобе множнага ліку цяперашняга (простага будучага) часу абвеснага і загаднага ладу: *дзе́ржым*, *памало́цім*, *насо́дзім*, *ткапа́ім*, *дава́й ста́нім*, *го́нім дамо́ў*.

Націскны канчатак **-іцё** (відавочна і яго варыянты) у дзеясловах I (меркавальна і II-га) спражэння абвеснага ладу ў 2-й асобе множнага ліку: *павізіцё*.

Формы на **-ыця** (**-іця**) у дзеясловах I і II спражэння абвеснага і загаднага ладу ў 2-й асобе множнага ліку: *гавары́ця*, *раскажы́ця*, *ні бо́йціся*, *глядзі́ця*, *прынясі́ця*, *пры́йдзіця сюды́*, але: *по́мніце*.

Канчатак **-уць** (**-юць**) у дзеясловах I і II спражэння ў 3-й асобе множнага ліку: *начына́юць*, *атганя́юць*, *забіра́юць*, *выпа́хаюцца*, *пагру́зюць*, *насма́люць*, *нава́руць*, *хо́дзюць*, *прато́пюць*, *стано́вюць*, *нажа́руць*, *стано́вюцца*, *гаво́руць*.

Зваротны афікс ***-ся*** або ***-сь*** ці іх варыянт ***-ца*** (***-цца***) у асабовых формах дзеясловаў цяперашняга і прошлага часу і ў форме інфінітыва: *нáчалісь, ні кóнчылась, аглянýсь, упрáвілась, астáўсь, сьмяёмсь, асталáся, упірáлася, прысьніліся, падняліся, наéўся, ізьвёўся, станóвюцца.*

Формы інфінітыва з асновай на зычны без канцавых галосных ***-і***, ***-ы*** ў іх складзе: *рэсьць, бежч, печ.*

Формы прыслоўяў, суадносныя граматычна з адпаведнымі формамі іменных часцін мовы: *назáўтрага ніхто ні прыйшóў*; *пабéг назáўтрага*; *назáўтрага зазвáлі, хадзíла усюдах.*

## Сінтаксічныя асаблівасці

Канструкцыі: указальны займеннік у форме роднага склону ў спалучэнні пэўна-колькасных лічэбнікаў ***два***, ***тры***, ***чатыры*** і іншых з назоўнікам у форме назоўнага склону множнага ліку адпаведна роднаму ў іншых тыпах дыялектнага маўлення і ў літаратурнай мове: *тых два хлóпцы пахаранíлі.*

Дзеяслоў у спалучэнні з беспрыназоўнікавым назоўнікам мужчынскага роду ў форме роднага склону адзіночнага ліку адпаведна вінавальнаму ў іншых тыпах дыялектнага маўлення і ў літаратурнай мове (для выражэння аб'ектных адносін): *атрэ́зала хвóсьціка*; *напалáм тагó дýба*; *ён хлéба зьеў.*

Дзеяслоў у спалучэнні назоўніка мужчынскага роду ў форме роднага склону з прыназоўнікам ***пад*** адпаведна меснаму склону ў іншых тыпах дыялектнага маўлення і ў літаратурнай мове: *стáнім пад éтага дýба.*

Дзеяслоў ***жаніцца*** (***сватацца***) у спалучэнні назоўніка (займенніка) у форме творнага склону з прыназоўнікам ***з*** (***за***): *ён з бáбай Зéнай жанíўся*; *свáтаўся зь ёй.*

Дзеяслоў у спалучэнні назоўніка ў форме давальнага склону з прыназоўнікам ***к*** для выражэння акалічнасных адносін (пры ўказанні на час, на свята як паказчык адноснага часу): *нáда к вéчару наварыць, к вéчару тóпюць.*

Дзеяслоў у спалучэнні назоўніка ў форме меснага склону з прыназоўнікам ***у*** (пры ўказанні на месца дзеяння): *хадзíлі ў грыбáх.*

Дзеяслоў у спалучэнні назоўніка ў форме вінавальнага склону з прыназоўнікам ***на***, які ўказвае на адрасата: *дзéлалі на сям'ю*; *трáціць на цібé.*

Дзеяслоў маўлення ў спалучэнні назоўніка ў форме вінавальнага склону з прыназоўнікам ***на***, які абазначае асобу: *гаварылі на йе Амéльчыха бáба*; *вот на іé гаварылі, што інá жáдная.*

Дзеяслоў у спалучэнні назоўніка ў форме вінавальнага склону з прыназоўнікам ***на*** для выражэння аб'ектных адносін (пры абазначэнні прадмета, які стаў прычынай (сродкам) дзеяння): *вымя праварснýла на сук.*

Дзеяслоў у спалучэнні назоўніка ў форме творнага склону з прыназоўнікам ***за*** пры абазначэнні аб'екта як мэты дзеяння: *лезь за зóлатам.*

Дзеяслоў у спалучэнні назоўніка (займенніка) у форме давальнага склону з прыназоўнікам ***к*** (***ка***) для выражэння аб'ектных адносін (указанне на асобу, на якую скіраваны рух, дзеянне): *ні прышлí ка мне*; *панясьлí к Амéльчысі*; *сазвáлі к цэ́ркві.*

Дзеяслоў у спалучэнні назоўніка ў форме вінавальнага склону з прыназоўнікам ***у*** для выражэння аб'ектных адносін: *у стол есьць ні йдзець.*

Дзеяслоў у спалучэнні назоўніка ў форме меснага склону з прыназоўнікам ***на*** або з прыназоўнікам ***у*** (***ў***) для выражэння прасторавых адносін (азначэнне месца або абазначэння канцавога пункта руху): *ён жыў на Украíне*; *быў у Чычэ́рску*; *мы усé паéхалі у лес, у Бýдзькаў*; *у Нісíмкавічы тóлькі прыбéгла*; *павязьлí у Сьвяцілавічы.*

Дзеяслоў у спалучэнні назоўніка ў форме меснага склону з прыназоўнікам ***па*** для выражэння аб'ектна-акалічнасных адносін: *інá па éтых рабóтах мáла хадзíла*; *інá па тых мéстах і бярэ́ць*; *а Прóська бéгая-бéгая па тых містáх.*

Дзеяслоў у спалучэнні назоўніка ў форме творнага склону з прыназоўнікам ***пад*** для выражэння аб'ектна-акалічнасных адносін (указанне на месца): *дзед ліжáў... пад навéсам*; *адна ікóнка пад нíзам асталáся*; *кíнулі іх ў бой пад Шарсьцінóм.*

Дзеяслоў у спалучэнні з беспрыназоўнікавым назоўнікам у форме вінавальнага склону адпаведна давальнаму ў іншых тыпах дыялектнага маўлення і ў літаратурнай мове: *мсьцíў бáбу Зéну.*

Канструкцыя: назоўнік (займеннік) у форме роднага склону з прыназоўнікам ***для*** (фанетычна ***дlі***) для выражэння аб'ектных адносін (указанне на асобу (асоб), для якіх нешта робіцца): *мóжа камý інá і жáдная былá, а дlі нас не.*

Канструкцыя: назоўнік з прыназоўнікам ***паўз***, які ўказвае на месцазнаходжанне прадмета: *былá паўз дарóгу.*

Канструкцыя: назоўнік з прыназоўнікам ***каля*** (фанетычна ***кала***) пры абазначэнні месца знаходжання ці месца дзейнасці побач з іншай асобай: *кала хáты, кала лéсу, кала Іхвáна, кала нéмцаў.*

Канструкцыя: назоўнік (займеннік) у форме назоўнага склону ў спалучэнні назоўніка (займенніка) у форме творнага склону з прыназоўнікам ***з*** для выражэння аб'ектных адносін (пры абазначэнні асобы, якая ўзаема-

дзейнічае з іншай асобай): *прыхо́дзюць парціза́ны з Ла́йбам*; (Ганна) *прыдзі́-ка з сваі́мы хло́пцамы*; *ён з ба́бай Зе́най жані́ўся*; *дзед Калі́страў з Васілём.*

Канструкцыя: назоўнік у форме вінавальнага склону ў спалучэнні з прыназоўнікам ***праз*** для выражэння аб'ектных адносін (пры ўказанні на прадмет, праз які ажыццяўляецца дзеянне): *малако́ прыбыва́я і праз шпылёк льле́цца.*

Канструкцыя: назоўнік у форме вінавальнага склону ў спалучэнні з прыназоўнікам ***цераз*** (і яго фанетычных варыянтаў), які ўжываецца для выражэння розных, у тым ліку і прасторавых адносін (указвае на прадмет, праз які што-небудзь праходзіць, пранікае; абазначае месца знаходжання, упоперак якога штосьці размяшчаецца): *ла́зіць ці́раз замо́к*; *з Васілём, што ці́раз даро́гу жыў.*

Канструкцыя: назоўнік у форме вінавальнага склону ў спалучэнні з прыназоўнікам ***на***, які ўказвае на прызначэнне прадмета: *зьдзе́лалі на клуб.*

Канструкцыя: назоўнік у форме вінавальнага склону ў спалучэнні з прыназоўнікам ***на***, які ўказвае на мэту дзеяння: *пасыла́лі на старажо́ўства.*

Назоўнікавыя канструкцыі з родным аб'ектыўным беспрыназоўнікавага тыпу: *у ха́ту пастухо́ў*, але *у Лук'я́ніхінай ха́ці.*

Назоўнікавыя канструкцыі з давальным прыналежнасці: *радня́ Лук'я́нчыкавым.*

Канструкцыя: назоўнік у форме роднага склону ў спалучэнні з прыназоўнікам ***пасля*** (фанетычна ***посьлі***), які ўказвае на адносны час дзеяння: *по́сьлі вайны́.*

Канструкцыя: назоўнік у форме вінавальнага склону ў спалучэнні з прыназоўнікам ***на***, які ўказвае на адносны час дзеяння: *і на Іва́ну Купа́лу калдуны́... далжны́ бе́гаць у по́ля*; *бу́дзя к табе́ прыхадзі́ць на гадавэ́я пра́зьнікі пастая́нна.*

Канструкцыя: назоўнік у форме творнага склону ў спалучэнні з прыназоўнікам ***перад***, які ўказвае на адносны час дзеяння: *пе́рад Па́скай ігра́лі.*

Канструкцыя: беспрыназоўнікавы назоўнік у форме роднага склону адзіночнага ліку ў спалучэнні з азначальным займеннікам ***кожны***, якія ўказваюць на час ажыццяўлення дзеяння: *бе́гла ка́ждага ра́ньня.*

Словазлучэнні, як: *я хачу́ паглядзе́ць сама́ на сібе́*; *ні пры сваём уме́ стаў Шут.*

Канструкцыі з давальным суб'екта: *у ёй заві́рша́лась гарэ́лка*; *ім на душэ́ ташні́ць.*

Пытальная канструкцыя ў складзе з займеннікам ***што*** ў форме роднага склону: *а чаго́ іна́ зна́ла?*; *сазва́лі людзе́й. А чаго́?*

Іменны выказнік з беспрыназоўнікавым назоўнікам у форме творнага або назоўнага склону ў выказальнай частцы: *Во́сіпаў, што калі́сь быў прысіда́цілям*; *Кулі́ніч быў прыцьсіда́ціль, а Ахрэ́м замясьці́ціль.*

Наяўнасць дзеепрыметнікаў прошлага часу залежнага стану, функцыянальная роля якіх выяўляецца сінтаксічна: гэта азначэнне, выказнік у складзе выказальнай часткі іменнага прэдыката або прэдыкат у безасабовым сказе: *Ду́нька... с парціза́намі была́ зьвя́зана*; *адзе́жа... зако́пана у бо́чках была́*; *сунду́к зако́паны быў*; *там, вы́шай, пасо́джаны я́бланкі і ві́шаньнік*; *растрэ́ляных шасна́ццаць чалаве́к.*

Наяўнасць у складзе іменнага выказніка формаў тыпу ***старэй***: *была́ старэ́й за яго́.*

### У галіне лексікі

У мясцовым маўленні ўжываецца значная колькасць абазначальных сродкаў, якія з'яўляюцца агульнымі як для мясцовага маўлення, так і для сучаснай беларускай літаратурнай мовы: *адзе́жа, арэ́шнік, ачу́хацца, бага́та, бугу́р, бугаро́к, ві́шаннік, ву́лачка, вы́ган, гадзю́ка, ду́жа, ёмкі, ёўня, жме́ня, згубі́ць, задрама́ць, захварэ́ць, каме́ль, кучара́вы, павечарэ́ць, пераслі́ліць, право́рны, прымяча́ць, пяка́рня, распыта́ць, спужа́цца, столь, страха́, то́рбачка, уво́сень, уве́чары, хло́пец, хварэ́ць, хіста́цца, хло́пчык, ша́хнуць, шко́да, шука́ць* і інш.

Істотны пласт слоў складаюць лексічныя адзінкі, характэрныя для сярэднебеларускіх гаворак, некаторыя з іх з'яўляюцца рэгіянальнымі набыткамі: *абмары́ць* 'змарыць', *абме́рці* 'страціць прытомнасць, у тым ліку і на працяглы час', *абпле́сціся* 'абвіцца', *аджыві́цца* 'прыйсці ў прытомнасць', *адкасну́цца* 'адмовіцца', *аці́ра* 'мякіна', *галю́ка* 'галіна', *грабёнка* 'малы плыт', *гужба́* 'спецыяльная бярозавая вітка для вязання малых плытоў', *дзіцёнак* 'дзіця', *жа́дны* 'сквапны', *жо́расць* 'высокагатунковае, тоўстае дрэва', *завану́ць* 'накіраваць дрэва ў пэўны бок', *камі́ны* 'спосаб укладкі цэглы-сырцу', *кла́даўе* 'могілкі', *ку́пел* 'прыстасаванне для купання, ванна', *мсціць* 'помсціць', *мяжні́к* 'мяжа', *пабага́ту* 'надзвычай многа', *палу́ччаць* 'палепшаць', *паперад* 'раней, спачатку' *по́ладзень* 'полудзень', *праварсну́ць* 'прабіць, праткнуць', *прысцерагчы́* 'падпільнаваць, падсцерагчы', *ура́нні* 'раніцай', *ушчо́рк* 'роўна з краем', *у ко́птар* 'вышэй за краі, з горкай', *чабаты́* 'боты', *шпылёк* 'шпянёк', *шо́па* 'гаспадарчая пабудова без сцен, але з дахам', *тахма́* 'дрэва, не прызначанае для прамысловых патрэб', *чамярэ́зьнік* 'ніжні, куставы ярус у лесе' і інш.

Пэўную частку лексічных маўленчых сродкаў складаюць пераважна адаптаваныя да мясцовай гаворкі словы, якія паводле класіфікацыйных крытэрыяў адносяцца да рускамоўных адзінак: *аб'ясьні́ць, адзія́ла, анцярэ́сна, атвіча́ць, заве́дуюшчы, замясьці́ціль, бірэ́мінная, разру́шыць, сі́льна, стака́н, спо́рціцца* 'испортиться',

*спо́льзаваць* 'использовать', *украпля́цца*, *устро́іць*, *уча́стаць* 'участвовать', *уністажа́ць* 'уничтожать', *шчыта́цца*, *прысіда́ціль* і інш.

***

Аналіз занатаваных ідыялектных тэкстаў паказаў: у сучасным маўленні старэйшага пакалення вясковых насельнікаў Чачэрскага раёна захавалася істотная колькасць рознаструктурных асаблівасцей уласнадыялектнага, ці этнагенетчнага, і занальнага характару. Яны ў якасці дыферэнцыяльных дыялектных рыс былі адзначаны даследчыкамі пры лінгвагеаграфічным вывучэнні гэтай тэрыторыі і адлюстраваны на картах ДАБМ (1963)[1] ці знайшлі сваё ўвасабленне ў іншых навуковых працах, прысвечаных вывучэнню гэтага рэгіёна. Так, устаноўлена: на фанетычным узроўні маўлення мае месца недысімілятыўнае аканне з асаблівасцямі яго рэалізацыі ў розных канструкцыйных умовах (карты № 1, 4–8, 10–17, 19, 20). Інакш кажучы, у дадзеным тыпе маўлення сёння захоўваецца тое ж неадрозненне ненацiскных галосных [о], [е] і [а] і рэалізацыя іх у гуку [а] у становішчы пасля цвёрдых зычных, як гэта было засведчана ў мінулыя часы. Таксама застаецца ўстойлівай рэалізацыя ненацiскнага галоснага гука [а] як гука поўнага ўтварэння, які не ведае рэдукцыі ў закрытых складах і тым самым характарызуе гаворку як сістэму з моцным аканнем. Да таго ж і занацiскны адкрыты склад з галосным ніжняга пад'ёму [а] з'яўляецца па вымаўленні вельмі выразным. Такой жа па сутнасці засталася і рэалізацыя ненацiскных галосных няверхняга пад'ёму ў становішчы пасля мяккіх зычных. Гэта дысімілятыўнае яканне беларускага, або жыздрынскага тыпу. Яго характар вызначаецца супрацьпастаўленасцю першага пераднацiскнога склада з гукам ['і] і нацiскным галосным [а] іншым складам з ['а] пры любым галосным пад нацiскам. Аднак сённяшнімі тэкставымі матэрыяламі не цалкам падмацоўваецца характар рэалізацыі гука ў складзе прыстаўкі ***пера-***, а таксама вымаўленне гука ў становішчы пасля мяккіх не ў першым пераднацiскным складзе (прыклады тыпу: [*пи*]*рамы́ць*, [*п'е*]*рамы́ць*, [*па*]*рамы́ць* і іншыя варыянты; карта № 10; [*в'и*]*рацяно́*, [*в'ъ*]*рацяно́*: [*з'и*]*ленава́ты*; [*в'е*]*рацяно́*, [*з'е*]*ленава́ты*; [*в'а*]*рацяно́*, [з'*а*]*ленава́ты*; карта № 11). Пакуль што няма магчымасці таксама спраўдзіць і наяўнасць рэдукцыі ў паслянацiскных складах у аснове слова (прыклады тыпу: *го́р*[*а*]*да*, *во́л*[*а*]*са*: *го́р*[*ъ*]*да*, *го́р*[*ы*]*да*, *во́л*[*ъ*]*са*; карта № 12; *го́р*[*а*]*д*, *ко́л*[*а*]*с*: *го́р*[*ъ*]*д*, *го́р*[*ы*] *д*, *ко́л*[*ъ*]*с*; карта № 13). Акрамя таго, зафіксаваныя раней факты суіснавання варыянтаў рэалізацыі галоснага няверхняга пад'ёму [е] у паслянацiскным неканцавым адкрытым і канцавым закрытым складах у гуку ['а] або [е] таксама не цалкам падмацаваліся наяўнымі тэкставымі звесткамі (прыклады тыпу: *во́*[*з'и*]*ра*, *во́*[*з'ъ*]*ра*, *сё*[*л'и*] *та*: *во́*[*з'е*]*ра*, *сё*[*л'е*]*та*: *во́*[*з'а*]*ра*; карта № 15). Гэта на самай справе не сведчыць, што ў адзначаных пазіцыйных умовах наогул не зафіксаваны выпадкі рэалізацыі гука ['а] ці ['е]. Яны ўстаноўлены, аднак выступаюць хутчэй як адзінкавыя факты маўлення, якія суіснуюць з больш пашыранымі і тыповымі. Вызначальным у сучасным маўленні з'яўляецца рэалізацыя ў становішчы пасля мяккіх зычных у розных неакцэнтаваных складах, за выключэннем першага пераднацiскнога, гука [і]. Інакш кажучы, у мясцовай гаворцы адсутнічае адрозненне галосных гукаў ['о] і ['е]. Тым самым сістэме ненацiскнога вакалізму пасля мяккіх зычных, за выняткам канцавога адкрытага складу, вядома абмежаваная колькасць гукавых адзінак. Пераважна па прынцыпу ўвасаблення галосных [о], [е], [а] у становішчы пасля мяккіх зычных рэалізуюцца гэтыя галосныя і ў становішчы пасля няпарных цвёрдых зычных гукаў. Аднак выключнай аднастайнасці пры ўжыванні фанетычных сродкаў у падобных умовах зараз не існуе.

Тыповым для сённяшняга маўлення, як і папярэдняга часу, з'яўляецца рэалізацыя нацiскнога гука [о] у становішчы перад наступным зычным [м]. Лабіялізаваны галосны выступае тут пераважна ў некаторых лексіка-граматычных групах слоў у асобных марфалагічных формах. Ён, у прыватнасці, ужываецца ў складзе нацiскнога канчатка меснага склону мужчынскага і ніякага роду ў лексемах з атрыбутыўным значэннем (прыклады тыпу: *аб маладо́м*; карта № 117). Таксама мае месца як складнік канчатка ў асабовай форме дзеясловаў цяперашняга часу множнага ліку (прыклады тыпу: [*идо́м*] ([*идốм*]), [*кладо́м*] ([*кладốм*]), [*н'асо́м*] ([*н'асốм*]); карта № 150). Аднак нягледзячы на фанетычнае падабенства паміж сабой (у абодвух выпадках гук [о] рэалізуецца ў марфалагізаваных умовах у закрытым складзе), яго з'яўленне, як адзначаецца даследчыкамі, у формах марфалагічнай парадыгмы абумоўлена выраўноўваннем па аналогіі, характар паходжання галоснага [о] розны. У словаформах тыпу *аб маладо́м*, *на том* гук [о] з'яўляецца вынікам ператварэння гука [ы], які ў падобным становішчы і аналагічнай форме характэрны іншым тыпам беларускага дыялектнага маўлення і літаратурнай мове. Формы тыпу *ідо́м* сведчаць аб пашырэнні ў мясцовай гаворцы ў дзеяслоўнай флексіі пераходу пад нацiскам галоснага гука [е] у гук [о], калі, вядома, трымацца меркавання пра паходжанне канчатка ***-ом*** як выніку марфалагічнага выраўноўвання. Падобнае змяненне з'яўляецца ў тутэйшым маўленні такім жа прадуктыўным, як і раней (карта № 150). Мена гука [е] на гук [о] таксама адбываецца і ў канчатку дзеясловаў 2-й асобы множнага ліку ў канцавым адкрытым складзе ў становішчы пасля мяккага зычнага [ц] (прыклады тыпу: [*с'az'иц'о́*], [*ɣл'az'иц'о́*]; карта № 155). Адносна лабіялізацыі ў закрытых складах можна заўважыць: у мясцовым маўленні ў параўнанні з аналагічнай фанетычнай з'явай у іншых дыялектных сістэмах беларускай

[1] У апорную сетку ДАБМ з Чачэрскага раёна былі ўключаны н. п. пад № 638, 894, 924, 925, 927.

мовы лабіялізацыя адбываецца пераважна ў флексійных афіксах. Пры гэтым у іменных атрыбутыўных формах назіраецца ўзмацненне супрацьпастаўлення галосных паводле пад'ёму і адпаведна звужаецца сфера ўжывання гука [ы]. Рэалізацыя галоснага гука [о] згодна з гукам [у] у іншых тыпах беларускага маўлення таксама належыць да асаблівасцей марфалагізаванага характару (прыклады тыпу: *двох*, *двом*; карта № 143). Лабіялізацыя ў гэтым выпадку, як і ў папярэдніх, таксама адбываецца ў складзе флексіі і абумоўліваецца не фанетычна, а мае, як прынята лічыць, марфалагічнае паходжанне. Змяненне гука [у] на [о] у лічэбнікавых словаформах сёння, як і раней, застаецца дыферэнцыяльнай асаблівасцю мясцовага маўлення. Нягледзячы на свабоднае вар'іраванне, у мясцовай гаворцы формаў з галосным гукам [о] або [у], гэта адметнасць пакуль што не зведала ўніфікацыі (карта № 143). У тутэйшай гаворцы з'ява лабіялізацыі таксама зафіксавана ў каранёвай марфеме, але яна мае месца ў асаблівых фанетычных умовах: лабіялізаваны галосны [о] тут з'яўляецца вынікам пераўтварэння акцэнтаванага гука [а] у складзе каранёвай марфемы, як у прыкладах тыпу *насóдзім*. Праўда, з-за недастатковай колькасці наяўных прыкладаў характарызаваць такі тып лабіялізацыі з боку яе пашыранасці і тыповасці немагчыма.

Сярод адрознівальных асаблівасцей сучаснага маўлення мясцовага насельніцтва, як і ў мінулым, выступае ненаціскны гук [а], які ўжываецца ў двухскладовай флексіі ў словах з атрыбутыўнай функцыяй у вінавальным склоне жаночага роду адзіночнага ліку (прыклады тыпу: *нóваю хáту*; карта № 124). Гук [а] як складнік канчатка словаформы вінавальнага склону ў мясцовай гаворцы ў параўнанні з іншымі сістэмамі дыялектных сродкаў беларускай мовы паводле яго фанетычнага статусу з'яўляецца вынікам распадабнення першага галоснага [у] у флексійным афіксе ***-ую***. Вызначэнне прыроды такога змянення з'яўляецца задачай гістарычнай дыялекталогіі. Аднак заўважым, наўрад ці ў сучасным мясцовым маўленні канчатак ***-аю*** можна разглядаць як фанетычны варыянт іншага канчатка, напрыклад, націскнога ***-ою***: ён папросту не існуе ў рэпертуары марфалагічных сродкаў у гэтай словаформе ні ў мясцовым, ні ў беларускім дыялектным маўленні наогул (карта № 124). Разам з тым, наяўны факт дэлабіялізацыі занаціскнога галоснага гука ў параўнанні з іншымі тыпамі дыялектнага маўлення для адзначанай формы фармальна нібы ўраўнаважвае сістэму суадносін галосных у паслянаціскных складах у марфалагізаваных умовах: з'яве лабіялізацыі супрацьпастаўлена з'ява дэлабіялізацыі.

Сярод адметнасцей мясцовага маўлення, якая засталася такой жа, як і ў мінулыя часы, з'яўляецца рэалізацыя гука [у (ʻу)] у складзе дзеяслоўнага канчатка ў 3-й асобе множнага ліку (прыклады тыпу: [*мéл'уц'*], [*кóл'уц'*], [*кáжуц'*], [*дрэ́мл'уц'*], [*сы́пл'уц'*]; [*хóз'уц'*], [*нóс'уц'*], [*кóрм'уц'*]; адпаведна карты № 156, 157). Занаціскны галосны гук [у (ʻу)] выступае тут незалежна ад тыпу спражэння дзеяслова, а таксама ад акцэнталагічнага тыпу асновы з рухомым і нерухомым націскам. Гэта сведчыць, што рэалізацыя галоснага гука [у (ʻу)] у мясцовым маўленні з'яўляецца цалкам уніфікаванай з'явай. Вытлумачыць панаванне гука [у (ʻу)] выключна марфалагічнымі працэсамі ці толькі фанетычнымі пакуль што не стае магчымасці.

Выразнай асаблівасцю гаворкі насельнікаў Чачэрскага раёна, засведчанай у матэрыялах рознай часавай фіксацыі, з'яўляецца адсутнасць карэляцыі зычных па звонкасці/глухасці (прыклады тыпу: *хле*[*б*], *гóра*[*д*], *но*[*ж*], *плу*[*г*], *слу*[*п*], *ко*[*т*], *на*[*ш*], *мо*[*х*]; *кá*[*з*]*ка*, *загá*[*д*]*ка*, *нó*[*ж*]*ка*, *гý*[*б*]*ка*, *мá*[*с*]*ка*, *шчó*[*т*]*ка*, *кó*[*ш*]*ка*, *шá*[*п*]*ка*; адпаведна карты № 45, 46). Неадрознасць зычных па голасе мае месца ў фанетычна слабай пазіцыі, таму існуе толькі супрацьпастаўленне суадносных пар зычных, інакш кажучы мае месца фаналагічнае адрозненне. Неістотнасць голасу як дыферэнцыяльнай асаблівасці мясцовага фанетычнага ладу ў супрацьпастаўленні звонкіх зычных глухім падмацоўваецца таксама азванчэннем гука ў кансанатыўным ланцугу ***-дск-*** (у адпаведнасці з нарматыўным напісаннем) тыпу *людзкі*. Надзвычай паслядоўная рэалізацыя звонкіх зычных як адметнай асаблівасці сучаснай гаворкі дазваляе меркаваць, што, відавочна, адрозненне зычных па голасе не было сістэмнай асаблівасцю ў мясцовым фанетычным ладзе і ў больш аддаленыя гістарычныя часы. Разам з тым цікава заўважыць, што адсутнасць карэлятыўных адносін па звонкасці/глухасці ў гэтым тыпе маўлення не з'яўляецца асаблівасцю татальнага характару, бо не ведае выключэнняў. На марфемнай мяжы прыстаўкі і кораня ў лексемах, дзе ў пазіцыйна абумоўленых умовах у складзе прыстаўкі ў іншых тыпах дыялектнага маўлення, а таксама ў беларускай літаратурнай мове вымаўляецца гук [д], у мясцовай гаворцы рэалізуецца галоўным чынам зычны [т]. Ён выступае не толькі перад шумнымі зычнымі, але і перад санорнымі, акрамя таго спарадычна, суіснуючы з іншымі варыянтамі вымаўлення, фіксуецца таксама і ў становішчы паміж галоснымі (прыклады тыпу *аташóў*). У выніку як бы назіраецца спецыфічная фармальная супрацьпастаўленасць па голасе гука [д] на марфемнай мяжы ў пачатку слова гуку [дз] канца каранёвай часткі. У адных выпадках, як у канструкцыйных умовах ***-дск-***, гук [т] ператвараецца ў гук [дз]. І наадварот: пачатак слова вызначаецца заменай гука [д] на гук [т]. Колькасныя факты, якія б сведчылі пра развіццё супрацьпастаўлення зычных па голасе як новай сістэмнай асаблівасці гукавога ладу мясцовай гаворкі, па сутнасці, адсутнічаюць. Засведчаныя прыклады рэалізацыі звонкага зычнага ў фанетычна слабай пазіцыі адзінкавыя. Яны выяўлены пераважна ва ўмовах сандхі або ў межах фанетычнага слова: як глухія вымаўляюцца асобныя кансананты-прыназоўнікі ці апошні зычны ў складзе прыназоўніка.

Адметнасць мясцовай гаворкі складае наяўнасць сістэмных адрозненняў па цвёрдасці/мяккасці (прыклады тыпу: [*п'*]*аць*, [*в'*]*áне* і інш.; [*м'*]*áса*, [*м'*]*áта*, [*м'*]*аць* і інш.; адпаведна карты № 50, 51; [*п'*]*іць*, [*б'*]*іць*, [*м'*]*íска*;

*гра*[*б'é*], *на* [*п'é*]*чы*, [*м'é*]*сці*, [*в'é*]*чар*; [*с'*]*éрца*; адпаведна карты № 52–54 і інш.). Пры гэтым рад зычных, суадносных па цвёрдасці/мяккасці, у мясцовым маўленні, па сутнасці, нічым не адрозніваецца ад беларускага нарматыўнага маўлення. Гэта азначае, што ў мясцовай гаворцы мае месца такая ж сістэма ацвярдзення губных, шыпячых гукаў, гукаў [р], [ц] і такія ж у прынцыпе асаблівасці супрацьпастаўлення мяккіх і цвёрдых заднеязычных зычных, што і ў літаратурным нацыянальным стандарце. Праўда, у некаторых граматычных формах, як у дзеяслоўных націскных і ненаціскных канчатках ***-ом***, ***-ам*** 1-й асобы множнага ліку, у мясцовай гаворцы маюць месца цвёрдыя зычныя. Іх функцыянаванне, як інтэрпрэтуецца даследчыкамі, абумоўлена выраўноўваннем асновы. Аднак з боку пазіцыйнай асіміляцыі зычных па мяккасці мясцовае маўленне адрозніваецца ад іншых тыпаў беларускага дыялектнага маўлення і літаратурнай мовы. Асімілятыўная мяккасць з'яўляецца тут па сутнасці ўніфікаванай з'явай. Пазіцыйнаму змяненню цвёрдых зычных у мясцовым маўленні падлягаюць не толькі пярэднеязычныя, але і заднеязычныя гукі [г], [к], [х], інакш кажучы, асімілятыўная мяккасць тут не ведае выключэнняў. Яе ўніверсальнасць у гаворцы падмацоўваецца асіміляцыяй шыпячых да свісцячых у форме зваротных дзеясловаў 2-й асобы адзіночнага ліку, у выніку чаго вымаўляецца доўгі па гучанні мяккі свісцячы [с]. Заўважым пры гэтым, выпадкаў, дзе б не адбывалася мяккае вымаўленне гэтага гука, у тым ліку і пры дысіміляцыі ўласна гука [с'] часціцы ***-ся***, не адзначана. А вось наконт якасці рэалізацыі гука [с] у кансанантным спалучэнні [ск'] сказаць нешта дакладнае немагчыма з-за адсутнасці адпаведных фактаў у наяўных тэкставых матэрыялах. Хоць раней, як адзначалася, гук [с] у гэтым становішчы вымаўляўся мякка (прыклады тыпу: *рýські*, *па-рýську*; карта № 58).

Паводле матэрыялаў ДАБМ вызначальным для маўлення мясцовага насельніцтва з'яўлялася функцыянаванне падоўжаных зычных гукаў у інтэрвакальным становішчы (прыклады тыпу: *насé*[*н'н'*]*е*, *вóсе*[*н'н'*]*ю* і інш.; карта № 64). Ужыванне падоўжаных гукаў у сучаснай гаворцы пашыраецца на фанетычна адапатаваныя рускамоўныя паводле стандартнай прыналежнасці лексічныя сродкі. Часам падоўжаны за кошт інтэрвакалізацыі зычны мае месца ў тых лексемах, якія ў іншых тыпах беларускага маўлення яго не ведаюць.

Да ліку асаблівасцей мясцовага маўлення ў галіне кансанантызму, ва ўжыванні якіх адлюстроўваецца захаванасць традыцыі, адносіцца ўжыванне прыстаўных зычных зычных [в] і [j] (прыклады тыпу: [*в*]*óзера*, [*в*] *ýха*; [*вýл'ица*]; [*й*]*э́ты*, [*й*]*э́ны*; адпаведна карты № 47–49). Адносна пратэтычнага гука [в] заўважым: яго ўжыванне мае месца не толькі ў пазіцыйна абумоўленых фанетычных умовах, але і ў выпадках, дзе яны адсутнічаюць. Апошняе сведчыць пра фаналагізацыю прыстаўнога гука [в] у мясцовым маўленні.

Згодна з матэрыяламі ДАБМ мясцовае маўленне насельнікаў раёна вызначала адсутнасць у сістэме іх фанетычных сродкаў глухога губна-зубнога гука [ф (ф')] у запазычаннях (прыклады тыпу: [*квасóл'*], [*квасóл'а*], [*хвасóл'*]; карта № 44). У адпаведнасці з характарам гукавой адаптацыі гук [ф (ф')] існаваў тут у некалькіх варыянтах, рэалізуючыся ў гуках [п (п')], [х (х')] ці спалучэннях зычных [хв (хв')] або [кв (кв')]. Усе гэтыя варыянты на аснове раўнапраўных і структурна не дэтэрмінаваных суіснавалі ў мясцовай гаворцы. Такімі ж спосабамі фанетычнай трансфармацыі фанемы [ф] характарызуецца і сучаснае мясцовае маўленне. Аднак сёння побач з традыцыйнымі мясцовымі эквівалентамі гука [ф (ф')] засведчаны і выпадкі рэалізацыі гука [ф (ф')] як свабодна вар'іруемай адзінкі, што не мае пазіцыйнай ці лексічнай абумоўленасці. Выпадкі ўжывання гэтага чужароднага для мясцовай сістэмы кансанатызму гука сведчаць пра тое, што ў сучаснай гаворцы адбываецца засваенне новай гукавой адзінкі. Праўда, калі трымацца колькасці ўстаноўленых прыкладаў, то варта заўважыць, што прыярытэтнасць па частотнасці ўжывання належыць пакуль што не губна-зубному кансананту [ф (ф')]. І, думаецца, невыпадкова. Вядома, што мясцовая сістэма фанетычных сродкаў маўлення вызначаецца наяўнасцю губна-губнога гука [ў]. Як білабіяльны гук [ў] выступае не толькі ў агульнавядомых пазіцыях, яе літаратурнай мове, але і ў становішчы перад зычным у пачатку слова. Прычым, у становішчы перад зычным ён чаргуецца з галосным гукам [у], суіснуючы з ім у якасці ўзаемазамяняльнага і раўнапраўнага варыянта. Пазіцыйная мена білабіяльнага санорнага на білабіяльны галосны выступае, як думаецца, дадатковым аргументам існавання ў сістэме мясцовага кансанантызму білабіяльнага зычнага [в]. Акрамя таго, мясцовай сістэме фанетычных сродкаў маўлення характэрна ўжыванне фрыкатыўнага звонкага гука [г], які, аднак, не ўтварае адпаведную пазіцыйную пару па глухасці з гукам [х] з-за адсутнасці ў мясцовай сістэме кансанантызму такой сістэмнай асаблівасці, як карэляцыя зычных па звонкасці/глухасці. Апошняе, відавочна, таксама стрымлівае працэс засваення фанемы [ф] і спрыяе, калі не яе поўнай адсутнасці ў сістэме фанетычных сродкаў, то нязначнай прысутнасці.

У сучасным маўленні адсутнічае рэгрэсіўная асіміляцыя па назальнасці ў спалучэннях [дн (дн')], [бм (бм')]. Адпаведна ў словах тыпу *радня*, *адны* і падобных не адбываецца фанетычнага прыстасавання шумных зычных да санорных (прыклады тыпу: *адна́*, *рóдны*; карта № 60). Сучаснаму маўленню, як і раней, невядома спрашчэнне групы зычных [с'ц'] у канцы слова (прыклады тыпу: *гос'ц'*; *рáдас'ц'*; карта № 59). Па сутнасці, у мясцовым маўленні адзіным выпадкам, калі ў кансанантным двухгукавым спалучэнні адбываецца змяненне гука, з'яўляецца спалучэнне [чн (чн')]. Пры рэалізацыі гэтага спалучэння ўстойлівай з'яўляецца папярэдняя традыцыя: [чн (чн')] вымаўляецца ў асноўным як [шн (шн')], ці адбываецца мена афрыкаты на шчылінны гук [ш]. Але ў цяперашні час, праўда, як адзінкавыя, засведчаны выпадкі рэалізацыі спалучэння [чн (чн')] (прыклады тыпу: *малó*[*шн*]*ы*; *ру*[*шн'*]*ик*; адпаведна карты № 61, 62).

Выразнай адметнасцю сённяшняга маўлення, як і ў папярэдні час, з'яўляецца скарачэнне колькаснага складу інфінітываў за кошт адпадзення галоснага ў дзеяслоўным суфіксе (прыклады тыпу: [*б'арéжч*], [*стрижч*]; [*с'ц'арéжч*]; *печ, сеч, цеч*; *пекць, секць, цекць*; адпаведна карты № 178, 179). Гэта таксама сведчыць, што ў сістэме гаворкі мае месца фанетычная ўніфікацыя: усе дзеясловы неазначальнай формы тут функцыянуюць з асновай на зычны.

***З ліку марфалагічных асаблівасцей*** у сучасным мясцовым маўленні выступаюць шматлікія адметнасці, выяўленыя і засведчаныя ў свой час на картах ДАБМ. Так, дастаткова паслядоўна захоўваецца адрозненне націскных канчаткаў адпаведна тыпу асновы – цвёрды, зацвярдзелы, мяккі – у назоўніках I і II скланення ў давальным і месным склонах адзіночнага ліку (прыклады тыпу: *к дузé, к назé, на дузé, на назé*; *на рацэ́, аб дачцэ́*; *к сцянé, на сцянé*; *на мяжэ́, на дзяжэ́, на шашэ́*; *на быкý, аб ваўкý*; *на лугý, на стагý*: *на лýзе, на стóзе*; *у кажухý*: *у кажусé*; *на дварэ́*; *на канцы́, на ключы́*: *на канцý, на ключý*: *на канцэ́, на ключэ́*; *на пні*: *на пню*; адпаведна карты № 65–68 і інш.; № 73–78). У прынцыпе ў назоўніках мужчынскага роду ў давальным і месным склонах адзіночнага ліку з розным тыпам асновы заўважаецца пашыранасць націскнога і ненаціскнога канчатка **-у**. Ён адзначаецца не толькі ў адушаўлёных назоўніках, але і ў іншых лексіка-граматычных групах субстантываў. Пры гэтым дакладная абумоўленасць яго ўжывання, па сутнасці, не прасочваецца. Можна толькі заўважыць, што для назоўнікаў гэтай склонавай парадыгмы характэрна своесаблівая размеркаванасць канчаткаў: месны і давальны склоны з актыўным выкарыстаннем націскной і ненаціскной флексіі **-у** супрацьпастаўляюцца гэтаму ж давальнаму і меснаму, у якіх пры аснове на цвёрды і мяккі зычны выступае канчатак **-і**, пры аснове на зацвярдзелы – **-ы**. Пры гэтым канчатак **-і** (**-ы**) мае месца не толькі ў мужчынскім і ніякім родзе назоўнікаў, але і ў жаночым пры аснове на зыходны цвёрды, заднеязычны і зацвярдзелы зычны. Гэта сведчыць, што ў мясцовым маўленні фактычна не размяжоўваюцца тыпы асноў, а цвёрды варыянт скланення з акцэнтаванай асновай не адрозніваецца ў дадзеных склонах ад мяккага. Безумоўна, ужыванне ненаціскной флексіі **-і** (пасля зацвярдзелых **-ы**) у цвёрдым варыянце гэтых двух тыпаў скланення невыпадковае. Вышэй адзначалася, што мясцоваму маўленню ў становішчы пасля мяккага зычнага характэрна супадзенне галосных гукаў [о], [е] у гуку [і] у занаціскной пазіцыі ў адкрытых і закрытых складах у розных лексіка-граматычных групах слоў. Відавочна, пашыранасць гэтага канчатка і тлумачыцца асаблівасцямі сістэмы вакалізму мясцовага маўлення.

Традыцыйным для сістэмы іменнага скланення застаецца тут і аднаскладовы канчатак у творным склоне адзіночнага ліку (прыклады тыпу: *сцянóй, вадóй*; *мяжóй, зямлёй*; *хáтай*; *вíш*[*н'ай*]; адпаведна карты № 69–72). Цікава, што выпадкаў паралельнага ўжывання адна- і двухскладовага канчаткаў не ўстаноўлена, калі не прымаць у разлік адзінкава зафіксаваную форму асабовага займенніка *за ёю*. Гэта сведчыць, з аднаго боку, найперш пра стабільнасць аднаскладовых флексій у сістэме марфалагічных сродкаў маўлення, з другога, – пра адсутнасць фармальнай супрацьпастаўленасці дадзенай словаформы іншым па колькасці складоў і тым самым пра выраўненасць як склонавай парадыгмы па колькасным складзе канчаткаў у назоўніках I скланення, так і ўніфікаванасць склонавай формы ў сістэме іменнага скланення.

Для сённяшняга маўлення, як і ў папярэднія часы, надзвычай прадуктыўным з'яўляецца канчатак ***-амы*** (***-ямы***) у форме творнага склону множнага ліку субстантываў і ***-ымы*** (***-імы***) у прыметніках і граматычна звязаных з імі іншых часцінах мовы (прыклады тыпу: *за дáмамы, за агарóдамы, за нажáмы* і інш.; *з малады́мы*; *трóмы*; адпаведна карты № 104, 129, 146). Ужыванне флексій з цвёрдым зычным [м] у іх складзе не мае ніякіх стылёвых абмежаванняў, ці з'яўляецца немаркіраваным. Формы на ***-мы*** ў сістэме марфалагічных сродкаў мясцовага маўлення выступаюць ва ўсіх групах скланяльных часцін мовы. Гэта сведчыць пра іх актыўнасць і ўстойлівасць наогул. Аднак нягледзячы на пераважную рэалізацыю ў сучасным маўленні ўтварэнняў на ***-мы***, таксама былі зафіксаваны і выпадкі ўжывання формаў на ***-мі***.

У сістэме змянення прыметніка, як і даўней, не існуе знешняга, абумоўленага гукавымі працэсамі, упадаблення формаў прыметніка вінавальнага склону жаночага роду назоўнікам падобнай формы, а таксама назоўнага склону жаночага і ніякага роду прыметнікаў адпаведнай форме назоўніка. Таму іменныя групы слоў з азначальнай функцыяй захоўваюць двухскладовы канчатак і выступаюць у словаформах у назоўным склоне жаночага і ніякага роду ў фанетычным абліччы, як: *сíвая барадá, пярэ́дняя сóска, гумнó такóя, ця́жкая жыцьцё*; у вінавальным склоне тыпу: *пасьлéдняю цёлачку, дрóбнінькаю бýльбу* (карты № 112–115, 123, 124). Разам з тым нельга не адзначыць супрацьпастаўленасць формаў назоўнага і вінавальнага склонаў: ***-ая*** (***-яя***) / ***-аю*** (***-яю***). Такой жа застаецца і рэалізацыя ненаціскнога канчатка роднага склону адзіночнага ліку ў прыметніках жаночага роду і граматычна суадносных з імі іншых часцінах мовы. Двухскладовая флексія тут суіснуе з аднаскладовай (прыклады тыпу: *маладóй дзéўкі*: *маладыé дзéўкі*; *тыé* (пачатковая форма *тая*); адпаведна карты № 119, 135). У сувязі з гэтым можна заўважыць, што склонавая парадыгма прыметнікаў жаночага роду адзіночнага ліку вызначаецца існаваннем дзвюх груп канчаткаў: двухскладовы мае месца ў назоўным, родным і вінавальным склонах, аднаскладовы – у давальным, творным і месным. Для давальнага, творнага і меснага склонаў канчатак з'яўляецца аднолькавым, што сведчыць пра існаванне сінкрэтызму ў парадыгме прыметнікаў жаночага роду, а тым самым пра мінімальную колькасць адрозных склонавых формаў.

Для формы назоўнага склону множнага ліку прыметнікаў, займенікаў, як сведчаць матэрыялы, характэрна суіснаванне націскной флексіі ***-эя*** і ненаціскной ***-ые***. Праўда, згодна з інфармацыяй ДАБМ, ненаціскная флексія рэалізуецца ў мясцовай гаворцы галосным [а] або [е] у складзе канчатка (прыклады тыпу: *маладэ́я*; *но́выя*; *ты́я* (*тэ́я*); адпаведна карты № 127, 128, 138). З наяўных матэрыялаў вынікае пераважнае ўжыванне фінальнага гука [е] у пазанаціскным адкрытым складзе ў ненаціскным канчатку і гука [а] у гэтай жа пазіцыі, але ў націскным канчатку.

У сістэме спрагальных дзеяслоўных формаў мясцовае маўленне фактычна поўнасцю захавала пераемнасць і асаблівасці ва ўжыванні асабовых канчаткаў дзеясловаў. Так, у сучаснай гаворцы досыць выразна прасочваецца падзел дзеясловаў па тыпах спражэння толькі пры націскным галосным. Аднак у пазіцыі не пад націскам ён фактычна адсутнічае, што вытлумачальна. У мясцовай гаворцы ў адпаведнасці з заканамернасцямі ненаціскнога вакалізму ў паслянаціскным складзе пасля мяккага зычнага вымаўляецца фактычна адзін галосны [і]. Таму не прасочваецца тут і дыферэнцыяцыя дзеясловаў на адпаведныя тыпы спражэння. У 3-й асобе множнага ліку ў ненаціскным становішчы назіраецца супадзенне галосных у гуку [у ('у)] (прыклады тыпу: [*ме́л'уц'*], [*ко́л'уц'*], [*ка́жуц'*], [*дрэ́мл'уц'*], [*сы́пл'уц'*]; [*хо́з'уц'*], [*но́с'уц'*], [*ко́рм'уц'*]; адпаведна карты № 156, 157), таму пануе канчатак ***-уць*** (***-юць***). Праўда, згодна з матэрыяламі ДАБМ, у гэтым раёне засведчана і іншая рэалізацыя галоснага ў складзе канчатка ў дзеясловах II спражэння (карта № 157), аднак у наяўных тэкставых матэрыялах яна не была выяўлена.

Формы дзеясловаў I спражэння 1-й асобы множнага ліку маюць націскны галосны [о] у складзе канчатка, не пад націскам выступае гук [а], але формы з флексіямі ***-ом***, ***-ам*** адзначаюцца толькі пры цвёрдым папярэднім зычным дзеяслоўнай асновы (прыклады тыпу: [*идо́м*] ([*идо̂м*]), [*кладо́м*] ([*кладо̂м*]), [*н'асо́м*] ([*н'асо̂м*]); [*стрыγо́м*], [*п'ако́м*]; [*йадо́м*], [*дадо́м*]; адпаведна карты № 150, 158, 161; а таксама зафіксаваныя выпадкі тыпу *вы́йдам*). Пры мяккім і зацвярдзелым зычным асновы ўжываюцца канчаткі ***-ім***, ***-ым*** (прыклады тыпу: [*м'е́л'им*], [*сы́п'им*], [*зна́йим*]; [*с'аz'им*], [*гл'а́z'им*], [*ро́б'им*]; [*дрэ́м'им*], [*сы́п'им*]; адпаведна карты № 151, 154, 159; а таксама зафіксаваныя выпадкі тыпу *дзе́ржым*). Гэта сведчыць, што ў мясцовым маўленні ўжыванне канчатка ў 1-й асобе множнага ліку залежыць выключна ад якасці зычнага ў аснове. Інакш кажучы, тып спражэння ў мясцовым маўленні не вызначаецца тыпам тэматычнага галоснага ў форме інфінітыва. Націскны гук [о], акрамя рэалізацыі ў акцэнтаваным варыянце 1-й асобы множнага ліку, выступае таксама ў асабовых формах дзеясловаў 2-й асобы множнага ліку, таму, можна зрабіць вывад, што мясцовая гаворка мае тып спражэння з націскным галосным [о ('о)] у 1-й і 2-й асобах множнага ліку. У ненаціскным становішчы ў 2-й асобе множнага ліку пануюць формы на ***-ця*** ў выніку змянення ў канчатку ненаціскнога гука ['е] у гук ['а]. Нарэшце, як і ў мінулым, форма 3-й асобы адзіночнага ліку з націскам на аснове фактычна не ведае на канцы ***-ць*** (прыклады тыпу: *ка́жа*, *ме́ле*, *грэ́е*; [*хо́z'а*], [*но́с'а*], [*во́з'а*]; адпаведна карты № 149, 153), за выключэннем акцэнтаванай флексіі. Ужыванне націскных канчаткаў з ***-ць*** не з'яўляецца адзіным. Сёння ў гаворцы таксама выяўлены і націскная флексіі без зычнага. Разам з тым адсутнасцю ***-ць*** у 3-й асобе адзіночнага ліку дзеясловы ў мясцовай гаворцы супрацьпастаўляюцца форме множнага ліку, у якіх рэалізацыя ***-ць*** мае ўніфікаваны характар.

З іншых дзеяслоўных рыс у сучасным маўленні таксама захоўваецца адсутнасць галоснага ў складзе суфіксаў ***-ці***, ***-чы*** ў форме інфінітываў; ускладненасць дзеяслова ***ісці*** дадатковым элементам ***-ць***, якая абумовіла функцыянаванне формаў тыпу *іці́ць*; зваротныя формы дзеяслова з ***-сь*** ці ***-ся*** незалежна ад папярэдняга гука асновы.

Такім чынам, пры ўжыванні марфалагічных сродкаў сучаснае маўленне кардынальна нічым не адрозніваецца ад маўлення сярэдзіны мінулага стагоддзя. Аднак сёння рэалізацыя шматлікіх марфалагічных рыс вызначаецца варыятыўнасцю. Часам наяўнасць варыянтаў у асобных марфалагічных формах абумоўліваецца фанетычна, аднак далёка не заўсёды. У сучасным маўленні варыянтнасць падтрымліваецца як за кошт элементаў архаічнага тыпу, так і па прычыне ўплыву літаратурнай мовы. Адначасова пры відавочнай варыянтнасці асобных марфалагічных сродкаў у маўленні мае месца і дастаткова паслядоўная ўніфікацыя некаторых граматычных формаў.

У сістэме ***сінтаксічных асаблівасцей*** устаноўлена наступнае. У сучаснай мясцовай гаворцы тыповымі з'яўляюцца прэдыкатыўныя канструкцыі з дзеяслоўнай звязкай ***было*** ў спалучэнні з пэўна-колькаснымі лічэбнікамі і адушаўлёнымі назоўнікамі (прыклады тыпу: *было́* (*былі́*) *два* (*тры*, *чаты́ры*) *браты́*; карта № 208), зафіксаваны тут і канструкцыі з родным адзіночнага ліку пры ўжыванні неадушаўлёных назоўнікаў мужчынскага роду (прыклады тыпу: *знайшо́ў гры́ба*; карта № 211), хоць, як сведчаць матэрыялы ДАБМ, для гэтай мясцовай гаворкі такія тыпы словазлучэнняў не з'яўляюцца дыферэнцыяльнымі. Між тым выкарыстанне падобнай сінтаксічнай канструкцыі сведчыць пра адсутнасць дыферэнцыяцыі назоўнікаў па катэгорыі адушаўлёнасць/неадушаўлёнасць. Хоць істотных змен у гэтым тыпе гаворкі пры ўжыванні канструкцый з указаннем на прамы аб'ект не адзначаецца і сёння, аднак і паслядоўнасць, і аднастайнасць, і рэгулярнасць у яе функцыянаванні адсутнічаюць. Згодна са звесткамі ДАБМ у мясцовым маўленні выяўлена дзеепрыслоўе ў якасці аднаго са складнікаў прэдыката двухсастаўнага і аднасастаўнага сказа (прыклады тыпу: *усі́я адзе́жа* (*была́*) *намо́кшы* і інш.; карта 205). Аднак сучаснымі тэкставымі матэрыяламі адзначаная сінтаксічная рыса не

падмацоўваецца. Магчыма, ужо ў папярэдні час гэта з'ява выступала ў мясцовым маўленні не як дыферэнцыяльная асаблівасць і дзеепрыслоўі выкарыстоўваліся тут толькі пры пэўнай групе непераходных дзеясловаў закончанага трывання, што не дазволіла канструкцыям з прэдыкатыўным дзеепрыслоўем захавацца і функцыянаваць у сённяшнім маўленні. Не выключана і зусім іншае: адсутнасць дастатковай колькасці звестак.

Адметнай тэрытарыяльнай рысай гэтага тыпу маўлення ў галіне сінтаксісу з'яўляецца і дастаткова актыўнае выкарыстанне формаў дзеепрыметніка залежнага стану прошлага часу. Дзеепрыметнік у мясцовым маўленні выступае не толькі як азначэнне, але і ў складзе выказальнай часткі састаўнога іменнага выказніка, а таксама ў якасці прэдыката ў безасабовых сказах. Аднак рэальны статус і, адпаведна, сінтаксічная функцыя дзеепрыметнікаў выяўляецца праз кантэкст. У выказальнай частцы іменнага выказніка таксама зафіксаваны словаформы з прыметнікамі, прыслоўямі вышэйшай ступені параўнання ў іх складзе, што сведчыць адпаведна пра пашыранасць такіх прэдыкатыўных канструкцый у сучасным маўленні.

Устойлівымі ў сённяшняй гаворцы застаюцца і такія сінтаксічныя асаблівасці, як выкарыстанне прыназоўніка ***к*** пры ўказанні на аб'ект накіраванасці дзеяння (прыклады тыпу: *пайшóў к бáцьку*; карта № 217). Дзеясловы са значэннем руху захоўваюць спалучэнне прыназоўніка ***у*** (***ў***) з назоўнікам вінавальнага склону пры ўказанні на мэту (прыклады тыпу: *у я́гады, у грыбы́; у дрóвы*; адпаведна карты № 215, 216); пры дзеясловах ***жаніцца*** (***сватацца***) выступае прыназоўнік *з*. Зараз, як і раней, не страцілі сваёй актуальнасці ў выкарыстанні назоўнікі з прыназоўнікам ***кала*** (каля), ***паўз*** (прыклады тыпу: *бег паўз сад, паўз рэ́чку* і інш.: *бег кала сáду, кала рэ́чкі* і інш.; карта № 221).

Акрамя некаторых згаданых словазлучэнняў і сінтаксічных канструкцый у мясцовай гаворцы ў галіне сінтаксічных сродкаў выяўлены і іншыя спецыфічныя спосабы і сродкі спалучэння слоў. Адметнымі сярод іх з'яўляюцца: дзеяслоўнае словазлучэнне з назоўнікам у форме вінавальнага склону адпаведна давальнаму: *мсьці́ў бáбу Зéну*; родны склон адзіночнага ліку назоўніка з указаннем на час ажыццяўлення дзеяння: *бéгла кáждага рáньня*; спалучэнне назоўніка і прыназоўніка ***на***, які ўказвае на прызначэнне прадмета: *зьдзéлалі на клуб*; канструкцыі з давальным суб'екта: *ім на душэ́ ташні́ць*; пытальныя сказы накшталт: *а чагó інá знáла?* і шэраг іншых. Вызначыць дакладна статус гэтых рэгіянальных сінтаксічных сродкаў маўлення не стае магчымасці. Мабыць, некаторыя з іх належаць да рэшткавых, архаічных і адлюстроўваюць у сучасным маўленні былыя сінтаксічныя адносіны, іншыя асаблівасці можна будзе ахарактарызаваць як новыя сінтаксічныя з'явы рознага паходжання. Але абмежаваная прадстаўленасць сінтаксічнага матэрыялу ў ДАБМ, недастатковая даследаванасць дыялектнага сінтаксісу беларускай мовы ўвогуле пакуль што не дазваляюць дастаткова поўна раскрыць спецыфіку лексічнай спалучальнасці мясцовых абазначальных сродкаў.

Гаварыць пра ўстойлівасць або вызначаць дынаміку развіцця лексічнай сістэмы з боку яе забяспечвальных маўленчых сродкаў на аснове наяўных матэрыялаў не ўяўляецца магчымым. Тут, як сведчаць тэксты, прэзентуецца толькі некаторая, надзвычай абмежаваная колькасць намінатыўных сродкаў, якія стратыфікацыйна належаць розным лексіка-тэматычным групам слоў, у тым ліку і характэрных маўленчаму слоўніку мясцовага насельніцтва. Разам з тым заўважым: у адрозненне ад іншых тыпаў беларускага маўлення ў сістэме мясцовых абазначальных лексічных сродкаў функцыянуе пэўная колькасць лексем, у якіх замацаваліся вынікі міжмоўнага ўзаемадзеяння мясцовых гаворак з гаворкамі рускай мовы. Па часе засваення яны розныя. Акрамя інавацыйных адзінак, з'яўленне якіх у наш час у першую чаргу абумоўлена шырокай прысутнасцю рускай літаратурнай мовы ў інфармацыйна-камунікатыўнай прасторы Беларусі і іншымі прычынамі, у мясцовай гаворцы маюць месца і рускамоўныя запазычанні ранейшага перыяду. Але ўсе такія запазычанні незалежна ад часу засваення захоўваюць выразны мясцовы адбітак. Гэта не толькі фанетычна, але і марфалагічна адаптаваныя лексічныя адзінкі, якія належаць да актыўных сродкаў мясцовай камунікатыўна-дыялектнай моўнай сістэмы. Іх грунтоўны навуковы лінгвістычны аналіз з'яўляецца надзвычай карысным і запатрабаваным. Аднак ажыццявіць даследаванне такіх адметных гібрыдных маўленчых адзінак можна толькі спецыяльным парадкам. Што ж датычыцца захаванасці мясцовага дыялектнага слоўніка з боку яго адпаведнасці матэрыялам ЛАБНГ і ДАБМ, можна заўважыць наступнае: у наяўных тэкставых матэрыялах толькі часткова прэзентуюцца лексічныя адзінкі асобных лексіка-тэматычных груп слоў, сістэмна адлюстраваных у вышэйназваных лінгвагеаграфічных выданнях. Іх супастаўляльнае вывучэнне магчыма найперш як асобнае даследаванне.

*А. І. Лапуцкая*

## УЗОРЫ ВУСНАГА МАЎЛЕННЯ ЖЫХАРОЎ ВАЛОЖЫНШЧЫНЫ

***Расказвае Матыльда Валяр'янаўна Ждановіч, 1930 г. н.**; запіс зроблены ў в. Камень Валожынскага р-на ў 2009 г.*

### Пра паходжанне вёскі

Гавары́лі, што як во гэ́та ўжо вялі́кае было́ мястэ́чка Ка́мінь і касцёлы былі́. Вот у адзі́н с касцёлаў сабіра́лася ве́льмі мно́га людзе́й. А чэ́рці ні хаце́лі, кап сюды́ сабіра́лася мно́га людзе́й. То адзі́н чорт ужо́ нёс ка́мінь, каб заваліць увахо́т у касцёл, каб *лю́дзі* ні йшлі́ ў касцёл. Нясе́ ка́мінь по́зна ш, ні днём, а но́ччу нясе́. Нясе́, а ён зрабі́ўся цяшкі́м, і ён ні мо́жа не́сц'і. Спяша́ецца-спяша́ецца, а тут пе́вень запе́ў. Ён шчэ скарэ́й паспяша́ецца. Другі́ рас запе́ў. Як запе́ў трэ́ці рас пе́вень, то ўжо чартоўская сі́ла ўся прапада́е. Тады́ і ён і кі́нуў гэ́ты ка́мінь. Так і заста́ўся ляжа́ць на тым ме́йсцы, дзе кі́нуў гэ́ты ка́мінь. І ляжы́ць па цяпе́рашні дзень.

### Пра лячэнне ад пуду

Такса́ма яна́ мяне́ навучы́ла. Зна́чыць, у мяне́ пало́халіся ўну́кі, дзе́ці. Дык яна́ ро́біць гэ́ту ваду́ і ро́біць так. Бярэ́ кусо́чак тако́й галі́нкі з дрэ́ва, дзе быў сучо́к і гэ́ты сучо́к вы́біты ў яе́, вы́біты сучо́к. Праз гэ́ту ды́рачку кручка́ пераліва́е ваду́. Пераліва́е дзе́вяць разо́ў і ўве́сь час гаво́рыць адны́ і ты́я ш сло́вы. Гаво́рыць «Здро́вась Мары́я» і лье ваду́ тро́шкі, так пака́ ско́нчыцца «Здро́вась Мары́я». Згавары́ла. Тады́ ў другу́ю пасу́дзіну, туды́ пераліва́е і зноў патро́шкі так, што по́куль «Здро́вась Мары́ю» перагаво́рыць. І гэ́дак дзе́вяць разо́ў пераліва́е. І по́тым ужо́ гэ́ту ваду́ пераліва́е дзе́вяць разо́ў, пыражагна́лася. І піць гэ́ту ваду́ трэ́ба трыма́ глытка́мі. Рас, два, тры. І по́тым гэ́тай жа вадо́й змы́цца прас плечы, ле́ваю руко́й прас пле́чы.

### Пра хлеб

Шчэ лапа́та стаі́ць гэ́та, што хлеп пячы́. Гэ́дак во ма́ма разгла́джвала і тады́ гэ́дак па́льцам. І тады́ зу́бчыкамі гэ́ты хлеп. А Лі́мця на́ша да няда́ўняга ча́су шчэ пякла́ хлеп, во цяпе́р да няда́ўняга. Рашчыні́ла, ну дабаўля́ла, цяпе́р жа бо́льша. Па́мятаеш, як не́калі: сок, мука́. Цяпе́р жа ні дабаўля́юць, мо́жа, і дро́жджы там. А ў ма́мы была́ кі́сля ў дзе́сцы. І дзе́шка стая́ла ў ма́мы. І гэ́та ўсё было́. І гэ́та яна́ пякла́ гэ́ты хлеп. І вы́мя і тады́ шчэ па ве́рсе памажа. І такі́ сма́чны. Які́ сма́чны гэ́ты хлябо́чак быў! Ой, як любі́лі мы е́сці, а яшчэ́ тады́ да гэ́тага хле́ба дайсць ма́сла ці смята́ны! Ой, як ужо́ сма́чна было́ е́сці! Няма́ цяпе́р гэ́ткага хле́ба сма́чнага. Ды ўся ядá яка́я была́, чы не́калі мы так жылі́, як цяпе́р жывём. Дык слоў няма́. Усё было́ гэ́ткае сма́чнае. Я кажу́, што, дзе́ткі, я ўжо гэ́ткага ні зраб*лю́*, гэ́ткага сма́чнага, як ма́ма рабі́ла.

### Пра лячэнне замовамі

Зна́чыць, трэ́ба падзьму́ць на бал*ю́*чае ме́сца. Там, дзе ро́жа, ці васпале́нне гэ́тага во́ка там, або́ ву́ха. Быва́е там дзе васпале́нне. Паду́ць на гэ́та ме́сца тры разы́ і ўдыхну́ць, і больш ужо́ ні выдыха́ць і ні ды́хаць. Бес перапы́нку сказа́ць… І пасля́ гэ́тага «О́йча наш» вы́гаварыць уве́сь. По́тым адпачы́ць і зноў, другі́ рас, і трэ́ці рас. Ну і гаво́раць жанчы́ны, што памага́е. Ну, я ні зна́ю. Я лічу́, што і мне памагло́. Я ні зна́ла, што мне рабі́ць, насто́лькі часа́лася во́ка. У мяне́ катара́кта ў ле́вым баку́, у ле́вым во́ку, мо́цная. У пра́вым то́лькі пачына́ецца. Зрок прапа́ў мо́цна. Дык такса́ма васпалі́лася так, што я ні магла́ ўжо: і чэ́шыцца, і ні дакране́сся да гэ́тага во́ка. Яна́ ка́жа: «Дава́й я табе́ загавару́». Ну до́бра, я была́ ў касце́ле, яна́ мне загавары́ла. По́тым, гэ́та было́ ве́чарам, мне ляхчэ́й ста́ла, я ўжо спа́ла. Пашла́ да яе́ ра́ніцай, яна́ мне загавары́ла і по́тым ве́чарам зноў. Ну і прайшла́. Ніч́ога я больш ні рабі́ла, каб я што-ні́будзь рабі́ла, але́ мне ста́ла ляхчэ́й. Тады́ чэ́шуцца во́чы, але́ ўжо ні так, але́ гэ́та ўжо прахо́дзіць.

### Вербная нядзеля

Нядзе́лю да Ве́рбнай нядзе́лі, чы хто ране́й, ламáлі вéрбы, зрэ́звалі іх, шукáлі. Тóлькі шукáлі, ўсё хацéлі, каб вéрбы былі́ з лістóчкамі, алé бывáе і с кóцікамі рáзам. І гэ́та вярбá стаі́ць у хáця ў вадзé. Янá за гэ́ты час распускáе лістóчкі. Знáчыць янá ўжо харóшая. На Вéрбную нядзéлю заўсёды звя́звалі стóлькі вéтачак, скóлькі ў хáця чалавéк, скóлькі ў хáця душ. Пяць – знáчыць пяць вéтачак. Бóлей – больш, у кагó меньш – меньш звя́звалі гэ́тыя вéтачкі. І да гэ́тых вéтачак абавяскóва брáлі ядлóвяц і цяпéр бярýць ядлóўчык. І мáма мая́ абавяскóва брáла гэ́ты сáмы мірт, які́ брáлі на вясéлле. Абавяскóва гэ́та далжнó былó быць. А далéй ўпрыгóжвалі хто чым, як хто, які́я кветáчкі рóбленыя. Мáма мая́ тады́ ні купля́ла. Тады́ мóжа ніхтó ні купля́ў тых кветáчак. Жывы́х кветачак на вéрбніцу нямá. То мáма рабíла з бумáгі. Янá прыгóжыя магла́ зрабі́ць, такі́я харóшынькія, рóбленыя такі́я. Рáдаваліся, які́я прыгóжыя кветáчкі. Мáма рабíла гэ́тых кветáчак нéкалькі. Янá ні любíла, каб мнóга было́. Прывя́звала да гэ́тай вярбы́ і ўжо гэ́тыя квéткі. Квéткі выглядáлі нам нáтта прыгóжа, як нам здавáлася. І гэ́тыя вéрбы нéслі ў касцёл. Пóтым у касцёл нéслі гэ́тыя вéрбы свянцáлі і тады́ прынóсілі дадóму. І ўжо ўсіх чалавéк дóма бíла мáма вярбóй і казáла: «Ні я б'ю, вярбá б'е, за ты́дзянь-Вялі́кдзянь. Яéчка малявáнае, парасётка надзявáнае!». Вось гэ́тыя слóвы мáма гавары́ла. І вярбý гэ́тую стáвілі таксáма на пóкуці, дзе там абрáс, каля́ вакнá. У нас жа ні так як у праваслáўных: ні ўпóперак абрáс, а рóўненька. І там гэ́та вярбá ўвесь час вісéла і яé ні выкідáлі, вярбý. Вярбá былá цэ́лы гот і яé стáвілі на вакнé як лéтам красá. Знáчыць, стáвіцца на вакнé вярбá. Янá атпýджвала навальні́цу, грат рáзам са свéчкай грамні́чнай стáвіцца. І гэ́та вярбá былá ў нас. Мóжа, яé спáльвала мáма, тады́ як пачынáлася ўжо другáя Вéрбніца. За гот цяпе́р гэ́тыя вéрбы мнóгія прынóсяць у касцёл. Цяпéр прынóсілі да Вярбі́цкага. Ён спáльвае, бярэ́ гэ́ты пóпял. Гэ́ты пóпял патрэ́бін для папéліцу 'народная назва каталіцкага свята'. Гэ́ты пóпял, ні прóста любы́ пóпял, а гэ́ты пóпял з вéрбаў. А ранéй янá стая́ла, напэ́ўна, мáма спáльвала, бо я ні пóмню, кап сабірáліся мнóга вéрбаў. І абавяскóва ў кóжнай хáця паві́нна былá быць гэ́та вярбá. У нас, у катóлікаў, у кóжнай хáця далжнá быць вярбá пéрад Вельканóцам, пéрат Пáсхай. Вось такí быў абрáт.

*Л. В. Леванцэвіч*

## ТЭКСТЫ З ВЁСКІ ЗДЗІТАВА БЯРОЗАЎСКАГА РАЁНА

***Расказвае Васілій Паўлавіч Васілеўскі, 1936 г. н.****; запіс зроблены ў 2008 г.*

Ні́колы жыны́лыся так. Значáла хлóпэц выбырáе ді́вчыну. Пудобрáв мо якýю. До гэ́тыі пойдý вжэ́ в сваты́ запывáтысь. Пýйдэ вонá, ны пýйдэ, алэ пойдý побáчу. Бырэ́ дружкі́, два, самогóнку, бýлочку хлíба і ідýть у запóйіны. Прышлы́, вы́пылы, ну договáруюцца вжэ. Éслі соглáсна, на когдá бýдэ свáдьба, на які́й дэнь, чырыз скóлько врэ́мені. А як нысоглáсна, то на другі́ і трэ́йті дэнь прынóсыть грóшы за самогóнку, тýю, шо вы́пылы. Скýлько там буты́лок і поскýлько вонá булá тогдá, тáя самогóнка. Вонá сплáчуе. Оплаты́ла, і всё, бýльш ныхтó до ныкóго ны касáецца. Як соглáсна, то ідýть шэ рóблять бýльшы запóйіны. Поззывáють родны́х, котóры блы́зкі і ідýть у запóіны. На дрýгі дэнь гэ́то вжэ. На запóінах п'ють, гуля́ють. Об'я́зують когó матéрыей, когó ручныкóм. Сваты́в і друшкі́ в пырыв'я́звають ручныкáмы, даю́ть подáркі. Запы́ткі зробы́лы, поросхóдылыся. Батькі́ договáрвающца, на колы́ бýдэм робы́ты вісі́льле. Наколы́ успíем. Жынýть самогóнку, нагнáлы. Прыйшóв той дэнь, шо свáдьба і рóблять свáдьбу.

Пы́рыд вісí́льлем рóдственнікі молодóго ідýть по хусткі́, іскупля́ты. Для молодóго молодáя платóчка (хýстку) у кармáн уклáдвала, коб выднó булó, шо молоды́й.

Молода́я в'е собі́ вынка́ з бірві́нку́ і тры кусо́чкі ле́нты сы́ню, ро́зову чы голубу́ю і бі́лу вплі́тае. І на кольцо́, на пырстэ́ня плылы́ вынца́ з бірві́ нцу́ і ле́нточкі. До вісі́льля плылы́ квіткі́, робы́лы з бірві́нку або шпара́гусу. Для молоды́х до сва́дьбы і для молоде́жы.

Начына́ецца вісі́льле. Пыклы́ корова́я в субо́ту, в п'я́тныцу рошчыня́лы, а в нымі́лю вісі́льле начына́лося. Корова́я пыклы́, хто був у па́ры, і коб батькі́ булы́ жывы́йі. Ужэ́ як розвыде́ны чы помэ́р хто, ныхай бох крые, то ны бра́лы за корова́йныц. Ужэ як ны було́ ныко́го, то бра́лы быз па́ры. У ха́ті коло корова́я мушчы́ны ны прысу́ствовалы. Мушчы́ны коло корова́я нычо́го ны робы́лы, у ха́ті моглы́ прысу́ствоваты. Замысы́лы, спыклы́, украша́лы: робы́лы тры ро́зочкі, мі́сяца, со́нцэ, тры бары́лкі (бы ча́рочкі), тры корова́йчыкі кла́лы. Кла́лы по поря́дочку, кла́лы так, шо б молоды́м попа́ло всёго́ по одному́, як вы́рыжуть сырэ́дыну. Для прыхожа́н, шо попадэ́. Пыклы́ і бу́лку хлі́ба с корова́ём.

Голле́ втыка́лы: тры тройча́ткі і дві двойча́ткі молоду́й, молодо́му дві тройча́ткі і тры двойча́ткі. А як забыра́лы молоду́ю, то мыня́ють мі́сьтямы двойча́тку і тройча́тку. Од молодэ́і быру́ть тройча́тку, а од молодо́го двойча́тку і мыня́ють. Утыка́ють у корова́й. Загота́вліван голле́ ча́шнык. Зара́нне ходы́в. Запы́ткі булы́ і намі́чався ча́шнык. Ты вжэ ча́шныком бу́дэш. А я вжэ іду́ в лі́с, выбыра́ю, шоб ро́вна була́, загота́вліваю лозу́. Прынысу́ дохаты, почы́шчу і сушу́ на ха́ті. Пото́м, як начына́ецца высі́лле прыно́шу до молодо́го. Для корова́я голле́ окру́чвалы ті́стом, опыка́лы пы́рыд огне́м. Утыка́лы у корова́й. Украша́лы овсо́м і бума́гою, калы́ною і цвіта́мы з бума́гі. Убра́лы, накрыва́ють чырво́ною ху́сткою. Спыва́ють:

Мідві́дь борода́тый  
Господа́р бога́тый,  
Выко́чвай бо́чку  
Шчо з мэ́дом у кутo̗чку.

Вжэ друшко́ ніс мэд і буты́лку горы́лкі. До́лжэн угошча́ты корова́йныц.

Выпыва́ють по ча́рочцы горы́лкі, йідя́ть мэд.

Корова́й накрыва́ють чырво́ною ху́сткою. Чырво́нэ украша́е, кра́снэ. Убра́лы, вы́нныслы у комо́ру і поста́вылы. Як ху́тко пры́йдуть по молоду́ю, ста́вять убра́ного корова́я на стул. Ста́вять і корова́й молодо́го і спыва́ють:

Наш корова́й вы́шчый,  
Наш моло́дый хоры́шчый.

Ра́зом поста́вять, да оды́н бу́дэ ны́шчы. А дру́гі вы́шчы. Бо ро́вных ры́хтык ныхто́ ны ро́быть, ны выміра́ють.

Пы́рыд вісі́льлем даю́ть два-тры мэ́тры пэ́ркелю дружку́. Друшко́ скла́двае, змо́твае пэ́ркель у жмачо́к такі́й. І трэ́йчы кі́дае на молоду́ю тым жматко́м. Тры разы́ обвыдэ́ корова́й і кі́нэ на молоду́ю чырыз корова́й. Вона́ возьмэ́ швыргнэ́ наза́д. Вун кро́хі розмота́е, побу́льшае, опя́ть тры разы́ обвыдэ́ корова́й і кі́дае. Вона́ наза́д откі́нэ. Трэ́йті раз возьмэ́ розго́рнэ ужэ́ по́уностю. Шэ раз тры разы́ обвыдэ́ і кі́нэ. Молода́я вжэ ны откі́двае. Гэ́то покрыва́ють молоду́ю. Як зні́муть фату́ молоду́й, то вона́ тэ́е полотно́ ві́шала на шы́ю свікро́ві, тэ́е покрыва́ло.

***Расказвае Вера Аляксандраўна Васілеўская, 1934 г. н.****; запіс зроблены ў 2008 г.*

А мы на Купа́лу ні́колы, як шэ дывча́тамы булы́, по́сле войны́. Поі́халы хло́пцы, повызлы́ зірно́ здава́ты у Блу́дэнь. Ста́вку. І нашлы́ снара́да, тако́го большо́го. І вложы́лы Мі́шы Марты́новому в вуз того́ снара́да. І прывызлы́ додо́му. І була́ кана́ла вы́копана така́я. Тут, дэ коло Лю́сі, така́я глубо́ка. Ну і того́ снара́да у кана́лу, а на Купа́лу тут, дэ вжэ за́рэ фе́рма гэ́та но́ва, палы́лы завсігда́ Купа́лу. Тут поса́дкі ны було́. Туды́ дале́й була́ поса́дка. Палы́лы гэ́ту Купа́лу і вста́вылы того́ снара́да у ту́ю Купа́лу. Накла́лы большу́ю-большу́ю Купа́лу, бы сара́й, і вста́вылы того́ снара́да, і запалы́лы ту́ю Купа́лу. А пото́м, гэ́того, ужэ́ як розгоры́лась та́я Купа́ла. Хто куды́ повтыка́лы вжэ. І як рвану́в той снара́д, та́я Купа́ла вжэ розлыті́лась вся. І вэсь ого́нь. І всі вночы́ лю́ды посхва́чувалысь. Повыбіга́лы, шо гэ́то дэ зробы́лося. О така́я ду́рость була́. Гэ́то ж і тогды́ і мы́ны ку́лькі рва́лы дытэ́й, як нахо́дылы снара́ды. Тож узро́слы вжэ хло́пцы: по вусімна́ццэть,

по дівітна́ццэть літ булы́. І гэ́так во зде́лалы ужэ́. Ныхто́ ныц ны нака́зував, ны сварыв, ны ныц. Батькі́ то вжэ дава́лы пото́м, як дові́далыся. А то ж ныхто́, ны зна́лы.

***

Начына́ють іты́ жы́то жа́ты. Бырýть ска́терть, у кото́руй пырогі́ святы́лы на Вылы́кдэнь. Гэ́то ба́ба моя́ так де́лала. Я ны зна́ю. І вкру́чуе ту́ю бу́лочку і іду́ть ужэ́ в по́лэ. Помо́ляцца бо́гу і зажына́ють жы́то. Жнуть тэ́е жы́то і спыва́ють пе́сні:

Ой лі́то, мое́ лі́то,
Ны жа́тэе мое́ жы́то.
Молоды́ца жы́то жа́ла,
Пуд мыжо́ю дытя́ кла́ла.
Як вы́рвався во́вк з лі́су:
– Помога́й молоды́ца.
Молоды́ца, дытя́ пла́чэ.
– Ныхай пла́чэ, воно́ сты́хнэ,
Хто е ўдо́ма, поколы́шэ.
– Рад бы я ёго́ колыха́ты
Да бою́сь, коб ны взя́ты.
Рад бы я ёго́ поносы́ты,
Да бою́сь, коб ны вкусы́ты.
– Іды́, вовчо́к, в дубро́воньку,
Возьмы́ собі́ коро́воньку,
Лы́сую, пудла́сую,
Свыкро́вчыну, вла́сую.
Бо моя́ полова́я, моя́ до́ля лыха́я.

Гэ́то спыва́ють, гэ́ту пі́сьню. Пото́м ужэ́ молоды́і спыва́ють дівча́та. Як ужэ́ іду́ть конча́ты жа́ты. Вэ́чором іду́ть додо́му. Тогды́ всэ сыло́ рымыні́ло. Ужэ́ всэ сыло́, як жы́то жнуть, спыва́ло. І спыва́ють пе́сні молоды́і дівча́та:

Іду́ я доро́гою,
Пушчу́ го́лос дубро́вою.
Ныхай моя́ ма́ты чу́е,
Вычэ́роньку нам готу́е.
Вычэ́ронька-галушычкі́,
Пості́ль бі́ла-подушычкі́.
Вычэ́ронька налытая́,
Пості́ль бі́ла послатая́.

Да всі в го́лос спува́ють. Да хорошэ́ було́. Всэ забу́лось. Всэ прошло́.

***

Був колхо́з. Сі́ялы лён. Поло́лы лён. Пото́м убыра́лы, сла́лы вручну́ю. Всэ: і поло́лы, і тэ́рлы. Була́ така́я машы́нка, шо тэ́рлы той лён мушчы́ны. А жэ́ншчыны трыпа́лы і здава́лы в госуда́рство. А платы́ты нычо́го ны платы́лы. Поста́влять трудодэ́нь. І всё. І гэ́так о прожыва́лы. Пу́йдэш на робо́ту, покі́нэш малы́і ді́ты. Всі гэ́так жэ́ншчыны робы́лы. Бо ны було́ ны са́діка, ны ныц. А гоны́лы на робо́ту. Вы́йдэш і ды́вышся на по́лэ. С по́ля ды́вышся, чы ха́та ны горы́ть, ді́ты ны запалы́лы. Раз прышо́в до мынэ́ брыгаді́р. Да за плэ́чы:

– Ве́ра, дэ твоі́ ді́ты?

– Кажу́: До́ма, а шо тако́е?»

– «Глянь на ха́ту».

Я ду́мала, ха́та горы́ть. А воны́ обо́е, Ва́ня і На́дя, сыдя́ть на ко́мыны і обо́е в ко́мын загля́дають, шэ малы́і. І вун ка́жэ на мынэ́: «Ны крычы́ но, бы́жы, но ны крычы́. Бо попа́дають». Кажу́: «Як упаду́ть на зэ́мню, мо оста́нуцца жывы́і, а як у ко́мын попа́дають, то поду́шацца ты́і ді́ты».

От гэ́так раз було́. Пото́м лу́бын поло́лы. Лу́бын такі́ колю́чы був, обрыва́лы. Колы́ я гля́нула – горы́ть. Я кажу́: «Ой, бабы́, у́ліца на́ша горы́ть». Гля́нулы, Яку́бчыкув, ны зна́ю, кото́рый, Са́ша чы Мі́ша, путпалы́в сара́я. І горы́ть го́ндэ о в дірэ́вні. Біжымо́, біжымо́. Пудбіга́ем, ужэ́ і но́гі ны быжа́ть. Стра́шна жызнь була́.

Кукуру́зу вручну́ю поло́лы, пото́м сырпа́мы жа́лы. Возы́лы на фе́рму, ля скоты́ны дава́лы. Всэ вручну́ю робы́лы і зада́рма.

*Л. В. Леванцэвіч*

## МЯНУШКІ ВЁСКІ ЗДЗІТАВА БЯРОЗАЎСКАГА РАЁНА

*Запісалі: Ніна Міхайлаўна Курыловіч, Лідзія Міхайлаўна Шэльпук, Алена Міхайлаўна Жуковіч, Леванцэвіч Лена Васільеўна.*

Я́зэп, Грэ́па, Фома́, Лука́, Анто́н, Пота́п, Я́ков, Се́ня, Ганько́, Пола́я, Кла́ра, Гэ́ля, Юля́, Зо́ся, Е́ва, По́ля, Я́дзя, Ве́ня, Ню́ра, Лю́ся, А́да, Лі́ля, Ду́ня, Калэ́нык, Спірыдо́н, Сымо́н, Ллян, Улля́на, Арка́дій, Гарасэ́м, Зыны́вья, Пылы́п, Катры́нка, Насту́ся, Барба́ра, Павлы́на, Пытру́сь, Ворфоломі́й, Андры́й, Оно́прый, Салімо́н, Мала́ша, Кузьма́, Мыкы́та, Ліво́н, Ты́мох, Пара́ша, Сымэ́н, Хрысты́нка, Матру́на, Домыны́ся, Порхі́рый, Самсо́н, Нэ́сцёр, Рыго́р, Домы́нка, Дымня́н, Базы́ль, Марты́нчык, Мака́рчык, Дыны́с, Оста́п, Ма́рко, Я́нко, Мы́хало, Даны́ло, Яны́ско, Васылёк, Вдо́ська, Ва́нька, Ва́ська, Мар'я́нка, Сарафі́мка, То́дурка, Жэ́нька, Гале́нка, Гры́шка, Ко́стык, Па́влік, Пытру́сык, Ма́нічка, Мішы́нька, Ма́рточка, О́лічка, Мыха́сько, Боры́ско, Стыпа́нко, Миколя́йко, Андрэ́йко, Мыха́лочко, Лука́шко, Па́вылко, Мар'яны́шка, Мыкола́шска, Базыля́нчык, Рома́нчык, Пылы́пчык, Мар'янчу́к, Семенчу́к, Грыпу́к.

Васе́й, Каля́й, Сціпа́ніч, Сыргі́чык, Ме́хал, Прокопэ́ц, Сыдо́рык, Катю́ш, Войва́н, Катрыны́ца, Мыронэ́ц, Гале́нточка, Мане́чко, Вдо́сюха, Гану́ля, Олі́сь, Шу́рыха, Ку́тіха, Су́ра, Місе́й, Максы́м, Лэ́вко, Люба́ша, Мару́ся, Мыкэ́ця, Давыдо́с, Надёха, Ла́дік, Омылю́сь, Анто́хось, Оксэ́нін, Бо́рчын. Мі́шчын, Да́шчын, Ме́йшын, Максём, Максе́мко, Васі́люшка, Пытро́ля, Оле́ська, Бось, Гузь, Бэнь, Гер, Прус, Шыш, Лляш, Жур, Пліс, Бут, Грэч, Цёд, Шоб, Вуйт, Руль, Біть, Смэрть, Калэ́нык, Э́лько, Зэ́лько, Шмэ́шко, Гіге́шко, Хвэ́сько, Шмэ́рко, Матэ́вко, Хотько́, Пасько́, Волоско́, Ту́рко, Шанко́, Панько́, Не́мко, Німко́, Качко́, Лляшко́, Гна́лько, Бурды́ло, Зу́рка, Хо́йлыха, Горбы́вка, Ха́йка, Ля́пыха, Ба́бка, Ло́знюха, Кошы́лька, Ко́чка, Чу́ханка, Коло́дка, Шпо́ка, Мэ́йчыха, Козі́ка, Вры́нька, Вінцю́ля, Чу́йка, Ты́рка, Лыбыда́, Городня́нка, Холя́выха, Поро́хнявка, Маку́х, Мовшу́к, Цыбу́к, Бовтру́к, Чума́к, Клыму́к, Гіпсу́к, Халю́к, Лысю́к, Савчу́к, Кардю́к, Марцу́к, Жытля́к, Самосю́к, Швытру́н, Гыру́н, Бая́н, Брыга́зін, Камыдо́н, Бо́рман, Го́пман, Кача́н, Поло́зім, Джы́нджэр, Ку́чар, Ныштубэ́р, Ныштубэ́рыха, Жумні́р, Шаба́ш, Ойчэна́ш, Ку́ліш, Гланды́ш, Ба́быч, Товка́ч, Копа́ч, Чыле́й, Чыле́іха, Се́ец, Мі́сяц, Вэ́рос, Е́жыль, Е́жылыха, Ковзі́ль, Войты́ха, Комысь, Цяврэ́ць, Соловэ́сь, Божэмі́й, Банады́шчык, Рыбоцё́л, Ва́лет, Шво́роб, Буянэ́ц, Хо́нон, Ба́лах, Чэ́рах, Му́ха, Шуля́к, Су́чка, Буга́й, Козёл, Бу́сэнь, Вовчы́ха, За́йчык, Кі́цінька, Каба́нчык, Бо́ндар, Бо́цьман, Мэ́лнык, Во́йцік, Кова́ль, Шынка́р, Су́дар, Гу́сар, Я́рцовка, Нывля́нка, Хры́шанка, Пысо́чанка, Жа́бырка, Восхо́днянка, Лысы́чанка, Споры́вка, Соколі́вка, Старомлы́нка, Огоро́днянка, Шахтёрка, Кіта́ец, Цыга́н.

Кашпіро́вскій, Міхалко́вскій, Антоно́вскій, Ізбі́цкій, Глазо́вскій, Гладко́вскій, Дубро́вскій, Павло́вскій, Ю́рскій, Глі́нскій, Кашы́рный, Цві́рскій, Блышча́чый, Заку́раный, Семе́йный, Лёгкій, Ру́скій, Святы́й, Ры́жый, Катышку́в.

*І. І. Лучыц-Федарэц*

# ГАВОРАЦЬ У АКРОПНЕ

Вёска Акропна цяпер уключана, як і Бурмáкі, у вёску Нямéржа Драгічынскага раёна. Відаць, правільней было б называць яе Акропнае, бо ў мясцовыя гавораць: *гэ́ты чоловíк з Окрíпного, жыву́ ў Окрíпному* (у форме прыметніка).

Запісы зроблены ад інфармантаў: Лучыц Вольгі Іванаўны, 1925 г. н., і Шаламіцкай Людмілы Мікалаеўны, 1951 г. н.

Характэрнымі для фанетыкі гаворкі вёскі з'яўляюцца:

1) дыфтонг і͡э, які вымаўляецца пераважна пад націскам у становішчы пасля папярэдняга мягкага зычнага ў адпаведнасці з гукам ***а***. Першы элемент дыфтонга па гучанні з'яўляецца кароткім і невыразным, а другі – больш працяглым і выразным. На гэты кампанент падае націск (падрабязней пра гэта гл.: Д. С. Целянцюк. Аб дыфтонгу і͡э ў гаворках Пінскай вобласці // Працы Інстытута мовазнаўства АН БССР. Вып. І. Мінск, 1954. С. 118–120). Аднак сёння ў мясцовым маўленні паралельна з дыфтонгам у падобных умовах рэалізуецца таксама галосны гук ***а***. Ён выступае пераважна ў запазычаных (рускамоўных) словах. Гэты дыфтонг перадаецца ў артыкуле літарамі ĕ, Ĕ.

2) Гук [і], які стаіць пасля мяккай зычнай, пазначаецца літарай ***і***, пасля цвёрдай – літарай ***и***.

3) Вузкае націскное ***э*** пасля ***к*** перадаецца літарай ***е***.

4) Аглушэнне зычных перад глухімі – няпоўнае, і часам цяжка яго вызначыць (параўн. *стэ́шка/стэ́жка* 'сцежка').

### Нябесныя свяцілы, час

Усí лю́дэ жыву́ть на Зымнí. Мо́жэ дэсь там хтось жывэ́ і на мо́рэ, алэ́ ў нас – на зымнí.

Колэ́сь нам шэ ў по́льскій шко́лэ вучíтіль роскáзуваў, шо éсьця такéйі місьця́ на Зымнí, дэ лю́дэ жыву́ть і на дэ́рвовэ. Зымнĕ нáша вылíка, мíсьця мно́го, осо́бынно зáрэ, ĕк сёла пустíють, молодёжэ ниĕкійі нымáйішка, усí ў городáх. Зáрыска од шко́льніку і мэ кáжымо гэ́нчі раз: Зымлé – йім там у шко́лэ покáзують зэ́мню кру́глу – на коло́чковэ зылíзному вонá кру́тыца.

Колэ́сь, ĕк подлогэ́й у хатáх ны було́, а оно́ тик з глэ́нэ, то і на ĕго́ то́жэ казáлэ зымнĕ. Бáтько, бáло ('бывала')[1], ĕк у кого́ з нас хліб вэ́падэ з рук на зэ́мню, скáжэ: поднымэ́ ĕго́, похýхай ('падуй'), коб смíтьте одпáло, поцылу́й ĕго́ і зьзіж!

Ĕѓэто колэ́сь ('як калісьці'), то спáтэ ляжэ́лись рáно: лíтом ро́блять, по́ке ны стáнэ поночíтэ. Хазя́йка вáрыть лёхку вычэ́ру: затíрку, напычу́ть картóплю ў жёровэ чы пойідĕть моло кá кéслого, дай ляжĕцца спáтэ, бо трэ́ба рáно ўставáтэ.

Ĕк вэйдиш увэ́чырэ на двір, то за пого́дию на нэ́бовэ побáчыш стилька зо́рій, шо й, му́сыть, йіх ныхто́ нико́лэ ны полíчыть. Гэ́нче з йіх пáдають, то кáжуть: ĕк побáчыш, шо зорá пáдае, бу́дыш шчаслэ́ви. А ĕк на моро́з, то зо́рэ ро́бляца ĕснэ і мырготе́ть.

С пíўночэ почынáють спывáтэ пíўні і спывáють до днĕ. Помáлу розвíднюе. Лю́дэ ўстають на до́свитку – шэ é на нэ́бэ такáя зорá, шо свíтыть свитлí і вонá бíльша за ўсіх зо́рій ('Венера').

А ĕк ужэ́ стáнэ выдно́, то гэ́то рáнок. Бабэ́ до́ять коровэ́, пастушкé йіх забырáють і жыну́ть на пáшу, а пуд вэ́чор, колэ́ стáнэ вычорíтэ, прыганĕють скотэ́ну додо́му. Лíтом дэнь жывэ́ до́ўгі, то коровэ́ прыганĕють на рáнке на пáру часо́ў, коб господэ́ня моглá коро́ву вэ́дойітэ. Алэ́ ĕк пасу́ть скотэ́ну далĕко од сылá, то гэ́нчэ там на пасовэ́сковэ ро́блять зáгородь ля скотэ́нэ, а бабэ́ прыхо́дять (чы типэ́р – прыйіжчĕють) з вíдрамэ і до́ять корíў там. Ĕк смэ́ркнэ, усí збырáюца ў хáту на вычэ́ру.

[1] Тут і далей каментарый наш. – *І. Л.-Ф.*

Йі́лэ штэ́рэ ра́зэ: сні́далэ, полу́дналэ (каля 12-ці гадзін), обі́далэ (каля 16-ці гадзін) – каза́лэ на гэ́то обі́д або подвычо́рок, ну і вычэ́ралэ (ёк ужэ́ ў кого́ полу́чыца – ра́ньші чы пізьні́).

Чёс послья́ ра́нку называ́лэ дополу́дне (або дополу́дня), пото́м – поўднё, а по́сля – с поўднё.

До́брэ, ёк увэ́чырэ чы ўночі́ сві́тыть мі́сяц; ёго́ ді́лять по ква́драх. Зра́зу жывэ́ молодэ́к – то́нынькі сырпо́к – ка́жуть: ужэ́ зийшо́ў молодэ́й мі́сяц (або молодэ́к), пото́м чырыз тэ́ждинь – по́ўня, пото́м трэ́тя ква́дра і – старэ́йі дні (у гэ́тэ дні до́брэ капу́сту зложэ́тэ ў бо́чку).

– А гурке́ колэ́ кла́стэ?

– Колэ́ наспі́ють, тоді́ й кладу́ть: у бо́чку ўсё, шо трэ́ба, добаўле́лэ; со́лэ насэ́плють у клыно́к, і вона́ там у бо́ццэ посьціпе́нно ростае́.

А шэ каза́лэ: удэ́нь – увэ́чырэ (до пі́ўночэ) – уночі́ ('ноччу'). С пі́ўночэ жывэ́ до́свиток. Ёк ра́зом дэнь і ни́ч, – гэ́то су́тке. Шіздысёт міню́т – час (одэ́нь час, два, трэ, штэ́рэ часа́, п'ёть часо́ў). Каза́лэ і часэ́ – вонэ́ пока́зують, кі́лька за́рэ часо́ў. Часэ́ гэ́нчэ ('іншыя') но́сять на руці́, у кішэ́ні, на шэ́йі. За́рыска ў нас у ха́тэ двое часи́ў. А ў кого́ ны було́ часи́ў, то чёс познава́лэ по ті́ні ('паводле ценю'), а молодэ́йі мі́ралэ кулака́мэ – алэ́ трэ́ба ві́датэ, у кі́лька часо́ў со́нцэ схо́дить і захо́дить: ка́жни кула́к – одэ́нь час.

Чёс таксамо шчыта́лэ днёмэ, тэ́жнямэ, місяца́мэ, рока́мэ. На рік моглэ́ сказа́тэ: год або́ лі́то, алэ́ ёк кому́ було́ мно́го рокі́ў, то каза́лэ: ба́ба була́ (дёдько буў) у года́х; літа́ мойі́ молодэ́йі, дэ вытэ́ поді́лыся? Так ху́тко мыну́лэ, вро́ді вас і ны було́... Лі́тюсь – гэ́то ў про́шлому году́, позалі́тюсь – у позапро́шлому, а за́рэ мэ жывэ́мо – у гэ́тому году́. Алэ́ ска́жуть і так: ужэ́ два ро́ке, ёк на́шыйі Саве́тэ ('Лізаветы') ныма́ на гэто́му сві́тэ. Одэ́нь рік, два, трэ, штэ́рэ ро́ке, п'ёть рік або п'ёть літ.

## Надвор'е

Высно́ю жывэ́ тыплі́, ёк зымо́ю, алэ́ последня высна́ була́ холо́дна: тыпло́ ныёк ны прыхо́дило. Гэ́нчого днё ўсё ўрэ́мнё ішо́ў дошч. На дні́, колэ́ було́ тыпло́ і грі́ло со́нцэ, каза́лэ пого́да (або погі́дливо) на дворі́, а ёк дошч, то – ниго́да, заниго́дылось. А ёк два-трэ тэ́жні ныма́ дошчу́, то ка́жуть: роспого́дилось. Гэ́нчого днё со́нцэ прыва́руе – гэ́то на дошч.

Ёк лі́том счёста ('часта') йдуть дошчі́, то ка́жуть, шо лі́то мо́крэ (або дождждлі́вое), холо́днэ, а на тёплэ лі́то – хоро́шэ лі́то (або лі́тычко). Жыву́ть і таке́йі дні, шо на дворі́ пого́да, пычэ́ со́нцэ, шэ й віе ві́тёр – гэ́то сухові́й. Прыя́тно, ёгэ́то жывэ́ жара́ (або спыко́та) жаро́тьте, а тут шэ вітёро́к повыва́е. На мі́цни ві́тёр ка́жуть вытрэ́ско: ох, і вытрэ́ско ўчо́ра буў!

Сло́во бу́йни ска́жуть на чолові́ка нырво́вого, энергі́чного, круто́го, на тако́го ше́хвороста.

Холо́дни ві́тёр у нас пошчі́ за́ўшэ дмэ с пі́ўночэ. Тоді́, хоч го́кна заклее́нэ, сёромно́ з гокна́ тёгнэ хо́лодом. Хтось бу́дэ йтэ і поке́нэ двэ́рэ очэ́нянэ чы забу́дуца зачынэ́тэ лю́хту ў ко́мыновэ, то одра́зу почу́йіш, ёк ду́е сквозьнёк.

Мно́го (або мнэ́го) хмарэ́й на нэ́бовэ – ка́жуть: хмарэ́сто, а ёк ідэ́ чо́рна, вылі́ка хма́ра, то гэ́то ту́ча йдэ. Хму́рни дэнь – колэ́ нэ́бо сі́рэ, со́нцэ зусі́м ны пока́зуйіца, счёста йдэ дошч, мже́чка мжэть. А ёк дошч пошо́ў, пото́м пырыста́ў, а пото́м зноў пошо́ў, то гэ́то – позяха́ло. Вылі́кі дошч называ́йіца проли́й: ёк с ці́ўке льле́цца (або дошч вылі́кі), та́бэ ('ні́бы') з выдра́. Попа́ўшэ под ёго́, промо́кныш навылёт (або до нэ́тке). У таке́й дошч мо́жэ й грім грымі́тэ і мыга́е. Сло́во пыру́н то́жэ ка́жуть, алэ́ оно́ ('толькі') у проклёнах: коб тыбэ́ пыру́н лёснуў (або забэ́ў)!

Вылі́кі дошч ідэ́ вылі́кімэ ка́плямэ; на лу́жах од йіх одлі́тають бульке́. Водянике́ на йіх ны ка́жуть, бо водянике́ жыву́ть там, дэ ті́ло опа́ранэ (водо́ю гарэ́чыю чы огнэ́м), а пухирі́ позбыга́ють тоді́, ёк натрэ́ш но́гэ ту́хлямэ но́вымэ або на доло́ні чы на па́льцах од грабэ́ль чы выло́к з ныпрывэ́чке, бо мі́цно чёвыш доло́нію на дыржака́ (адз. л. дыржёк).

І дошч, і сьніг у нас іду́ть. Ішо́ў мо́кри сьніг допоўднё, а пото́м пырыста́ў ітэ́, і пошо́ў дошч. Пэ́рші сьніг до́ўго лыжэ́тэ ны бу́дэ. Гэ́нчі раз ду́е мі́цни ві́тёр, то позабыва́е сьніг у шчылю́бынэ ('шчыліны') под ла́тэ і намытэ́ ёго́ на вэ́шках – на ёго́ ка́жуть: досу́джій сьніг.

Сьніг з дошчэ́м – гэ́то хлёпавыца. А слота́ на сьніг ны ка́жуть. Ёк хто п'ёни пappend

Пося́ моро́зу ста́нэ тыпло́ – гэ́то одлэ́га. Тоді́ з стріх ка́пае вода́, яка́я за нич замэ́рзнэ, і з стріх звиса́ють суплі́, а по культу́рному – сосу́льке. Гэ́нчі раз пося́ дошчу́ чы одлэ́гэ жывэ́ моро́з, доро́га замэ́рзнэ, ста́нэ слэ́сько йтэ, то гэ́то гололёдіца. Лужі́ чы са́жолка подмэ́рзнуть звэ́рху, ро́бляца, бы сьцікло́; ка́жуть: зашэ́рхло (або усё зашэ́рхае) за ни́ч. Бі́льшым моро́зом усё покрыва́йіца гэ́ниём – і стрі́хэ, і дэ́рво (або высáда), і корчі́ (‘кусты’), і плотэ́. Сьніг то́жэ жывэ́ ра́зни. Зра́зу він пу́хкі, лёгінькі, ба́ло (‘бывала’), понамі́тае вылі́ке гу́рбэ; а ёк роста́нэ, а пото́м зноў замэ́рзнэ, то ро́быца твэ́рди, зашэ́рхли.

Па́водку вылі́кіх у нас ны було́, бо ныма́ рікэ́, а там, дэ нэ́шчі (‘ніжэй’), то з выснэ́ во́да стоёла. У Пого́ні (паміж вёскамі Акропна і Бурма́кі) на́вить лі́том стоёла вода́. То там чыриз гэ́тэ боло́то робэ́лэ колэ́сь кладке́ з опырэ́нджамэ (‘парэнчы’) да й ходэ́лэ по йіх. І мэ́ ходэ́лэ по йі́х – так було́ блэ́шчі (‘бліжэй’) і хутчі́ ў школу.

### Паверхня зямлі

Дэ було́ вэ́шчэ (‘вышэйшае’) мі́сьце, його́ называ́лэ пагу́рок, а на доро́гу сыри́д по́ля каза́лэ пырыва́лке. Грудо́к у боло́тэ ны міг бу́тэ, бо гэ́то така́я мале́нька, мнёхка трава́ на рі́мному мі́сьці. Пра́ўда, у сусі́дніх сёлах каза́лэ на вэ́шчэ мі́сьце груд, грудо́к. Одкрэ́тэ простра́нство зва́лэ поло́ня. У лі́сэ вызначёлэ дылі́нке, а од пожару́ рошчышчёлэ по́лосэ – трі́бэ.

Ничо́га (‘дрэнная’) зымнё (чы по́лэ) зва́лася ныу́до́бка або пысо́к. У Лосэ́нцах на горі́, дэ за́рэ ростэ́ молода́я хвойіна́, настоёшчі пысо́к: доро́га йдэ сыри́д пыску́ – пышчуга́, – там, ёк йі́диш во́зом, то пысо́к буў по са́мэ коло́дыцэ (‘калодка ў коле’). У гэ́нчых місьцёх пысо́к жывэ́ с камі́ньчыкамэ – гэ́то жвір, а тыпэ́р ка́жуть на його́ гра́вій. У кар’е́рэ, дэ быру́ть рэ́зыц (‘жоўтая пясчаная зямля’), жывэ́ на́дто чэ́ста вода́. Крэ́мінь і ў нас е́сьця. У одно́му сылі́ його́ на́дто мно́го на по́лэ – сыло́ так і называ́йіца Крымно́.

Ызэ́на – нэ́ське мі́сьце. Ка́жуть: ны сі́й там нэц (‘нічога’), бо та́м нэц ны вэ́ростэ: там нызэ́на. А ў лі́сэ нэ́ське мі́сьце называ́йіца лужэ́чок. А ёк воно́ вылі́ке, то гэ́то ўжэ боло́то. Там ко́сять сі́но. У сі́новэ на боло́тэ було́ мно́го хвошчёйке (‘хвошч палявы’), і ёк сі́но грыблэ́, то стара́лыся згрыбстэ́ до за́ходу со́нца, бо гэ́та хвошчёйка на́дто лама́лася. Бу́хта – боло́то, шо гнэ́цца (‘дрыгва’). Я там одного́ ра́зу топэ́лася: ста́ла йтэ, а воно́ гнэ́цца-гнэ́цца, і коб я ны вэ́скочыла сти́ль, то ўтопэ́лася б. А каля́ Лосэ́нцу було́ боло́то быз дна; там вода́ нэ́гдэ ны пырыйма́лася. Сму́гэ – у нас була́ така́я ме́сносьть. С пра́вого бо́ку доро́гэ, ёк подйіжджёйіш до Старосі́льля (зараз вул. Шаўчэнкі ў Драгічыне), е́сьця Смо́ляж – сму́га (‘паласа’) боло́та з водо́ю; колэ́ ста́лэ колхо́зэ, то йійі́ роскопа́лэ і зробэ́лэ са́жолку, коб було́ дэ напойі́тэ колхо́знэ коровэ́.

Купэ́ньне склада́лося з мо́ху і травэ́; воно́ було́ мнёхке. Ку́пыну зрі́зувалэ і высу́шувалэ і пото́м на йій сыді́лэ, ёк у клу́ні ві́ялэ збожыну́. Яру́га – нэ́ське мі́сьце з водо́ю, шо ны мо́жна пройі́хатэ. Од ді́довыйі клу́ні до ті́точке Наста́сі була́ яру́га; йійі́ зва́лэ Ли́ска. Там за́ўшэ стоёла ржёва вода́.

Вэ́жар – у нас гэ́то мі́сьце, дэ вэ́горіло (трава́, корчі́).

Ёк усту́пыш у во́ду, а там мнёхко і до ногэ́ лі́пыца му́ля (‘іл’), то ка́жуть: тут грёзко.

По́сля вылі́кого дошчу́ ро́бляца лужі́ там, дэ нэ́шчі (‘ніжэй’). На доро́зэ лужі́ жыву́ть у вэбоёх (‘калдобіна’). А калю́га – гэ́то роска́льле: усё роста́ло чы ўсё мо́крэ, скрізь кал (‘гразь’) – быз кало́шу ўжэ ны про́йдыш ныку́дэ.

На стоёчій воді́ ў лужко́вэ чы ў са́жолцэ ростэ́ поплаву́ха (‘мякотніца’); вона́ стэ́лыца по воді́ – ба́ло, на йій бабэ́ чы дыу́ке́ поло́тна стэ́лють, а та́я трава́, шо ў боло́тэ стойі́ть – осока́.

Глубо́ка вода́ – тая́, шо дна ныма́; у ріці́ вона́ кру́тыца. Алэ́ ў ка́жний воді́ е́сьця бэ́рог. Він жывэ́ стро́ми, ёк зра́зу глубо́ко, або плэ́тынькі – з його́ ны одра́зу бо́ўтныш у во́ду з голово́ю, а покро́хэ йдэш по пысо́чковэ ўсё глэ́бші й глэ́бші.

Пошчі́ за́ўшэ на воді́ жыву́ть фа́лі, осо́бынно ёк ві́тёр. Вода́ му́тна мо́жэ бу́тэ ў роўчаку́. А колэ́ во́ду с пыско́м чы з лу́гом розвору́шыш, то ка́жуть, шо тэ йійі́ скаламу́тиў. Шэ ска́жуть: мынэ́ каламу́тыть (або мынэ ну́дыть), му́сыть, бу́ду блюва́тэ.

Було́ чу́тэ і ў нас сло́во крынэ́ца. Му́сыть, з йийі́ выті́кае чэ́ста вода́. Рікэ́ вылі́кійі ў нас ныма́, оно́ кана́лэ поко́панэ даўно́ ўжэ. А мэ́нчі, гу́шчі ('вузейшы') і плэ́тчий, ёк кана́л, – гэ́то ріў, роўчёк. Чыри́с кана́л чы ріў во́зом пырыйішчёлэ на пырыйі́здцэ ('брод'), а для людэ́й, коб пырыхо́дытэ поло́жать кла́дку (чы дырвэ́ну якую-ныбу́дь то́ўшчу). Каля са́жолкэ чы го́зыра ў тому́ мі́сьці, дэ бабэ́ поло́шчуть одэ́жу, ро́блять помо́сьцікэ.

Сло́во бродэ́тэ каза́лэ про бродёгу (або бродя́шчій чолові́к) і про бра́гу: бра́га бро́дыть.

## Рух. Перамяшчэнне ў прасторы

Ко́лія зро́быца на доро́зэ, ёк чёсто йі́здять воза́мэ. Гэ́нчого ра́зу збэ́ўся чолові́к з доро́гэ, заблу́дыца, да й пойі́дэ напрошке́ чыріз по́лэ чы луг і то́жэ зро́быть ко́лію. А ёк пройі́дэ санка́мэ, то оста́ныца слід. Ну, а ёк ны було́ прослі́дку, то ка́жуть, шо пэ́рші чолові́к йі́хаў цылюхо́м.

Шыро́ка доро́га, убэ́та, гла́дка, з прыса́дию з двох бокі́ў – гэ́то гостэ́ниц. Планова́я доро́га (відаць, палявая дарога) одхо́дыла од гу́лыцэ сыла́ до лі́су, а доро́га за сыло́м, за хата́мэ, по які́й возэ́лэ гни́й, называ́лася по загумэ́ньню. З плановэ́йі доро́гэ до ўса́дьбэ чы до ху́тора буў зайі́зд.

Там, дэ хо́дять оно́ пышко́м чы на ро́вырэ йі́здять, – гэ́то стэ́шка (або стэ́жка). А коля Гныльцё шэ з войнэ́ доро́гу вэ́ложылэ з дэ́рва – була́ така́я трасу́чка, шо й зу́бэ могле́ повылі́татэ, ёк йідэ́ш.

Чыри́з бі́р проло́жанэ дорогэ́. Е́сьця там і о́дна крыжова́я з роскрыжова́ньнем. Колэ́ кал на доро́зэ замэ́рзнэ, а сьні́гу шэ ныма́, то ка́жуть: одна́ гру́да позамы́рзала (або замэ́рзло) голошчо́ком, быз сьні́гу. А шэ ёк гэ́та доро́га вэ́бойіста, то по йий зусі́м нычо́го йі́хатэ – усі́ ґізу́нтэ вэ́трасэ.

Доро́гэ ў нас ны прокладалэ. Ке́далэ ('пакідалі') на доро́гу мі́сьце, і вона́ сама́ робэ́лася.

По́йіздом йі́дуть по зылі́зний доро́зэ (або по чыгу́нцэ) по рэ́йсах. Тудэ́, кудэ́ колэ́сь по́йізда ны було́, колэ́сь йі́здылэ воза́мэ, а хто бога́тчі, то на ровырёх. За́рэ йі́здять аўто́бусом, алэ́ после́днім чёсом йіх ма́ло пуска́ють – оно́ па́ру раз на тэ́ждынь.

Ба́ло, йі́дыш во́зом чы й пышко́м ідэ́ш і чу́йіш, ёк дзво́нить дріт помі́ж стоўба́мэ. І так було́ інтіре́сно йтэ, а за́рэ ёго́ з аўто́буса ны почу́йіш.

Ідэ́ш, ба́ло, сам по до́ўгій доро́зэ, аж ску́чно зро́быца, то зраді́йіш ('узрадуешся'), ёк судо́сыш ('сустрэнеш') кого́ подоро́жного: высилі́ йтэ.

Вызэ́ш дро́ва з лі́су, кінь зусі́м ужэ́ прыста́ў ('стаміўся'). Ду́майіш, ха́й собі́ кро́хэ постойі́ть. А він пото́м ныёк ны хо́чэ на́вить нава́жытысь і тро́нутыся з мі́сьця, хоч тэ ёго́ забэ́. Алэ́ ёк ужэ́ тро́ныца, то йдэ ху́ткім ша́гом, бо хвата́йіца, коб хутчі́ прыйтэ́ додо́му.

На со́совэ (Наз. скл. сос 'шаша') поро́жни віз на́дто ж тарахтэ́ть і дрыготэ́ть так, шо аж кишке́ вытиліпае. Потёгныш конё бычём і він быго́м быжэ́ть. Чолові́к до́ўго быго́м бі́жтэ ны мо́жэ, осо́бынно, колэ́ чолові́к старэ́й. Старэ́йі лю́дэ хо́дять пома́лыньку і стара́юца йтэ по рі́мний доро́зэ. А круго́м бі́гае оно́ соба́ка.

Гэ́нчі чолові́к і ў свойі́й ме́сности мо́жэ заблудэ́тысь і круга́ вылі́кого зро́быть, коб дойтэ́ додо́му; тоді́ він прыстано́выца, постойі́ть і обіза́тільно спомыта́йіца, ёк ёму́ йтэ. На́вить ёк бэ кого́ знако́мого судосэ́ў, то ны спыта́йіца, кудо́ю ёму́ додо́му: шэ лю́дэ поду́мають, шо з ума́ тро́нуўся.

Колэ́сь бабэ́ ў нас ходэ́лэ ў одві́дке, ёк кото́рась там прывыдэ́ ('нарадзіць') дытэ́ну. На йийі́ каза́лэ порожі́льля. Прыхо́дылэ поба́чытысь, прыно́сылэ, шо моглэ́. А ёк кото́ра побыжэ́ть до сусі́дке і йийі́ до́ўго ныма́, то ка́жуть, шо пошла́ й заба́вылась. Дэ́хто ска́жэ забарэ́лась.

Колэ́ хтось кудэ́сь счёста хо́дыть, то ка́жуть: уна́диўся (бы за́йіц у капу́сту). На чолові́ка, які́й рату́ючысь, утыка́е, тыпэ́р ка́жуть біглёц, а колэ́сь сказа́лэ б: уті́к і хава́йіца (у лі́сэ по корчёх) або та́йно хава́йіца ў клу́ні ў сі́новэ. А бродёга бродя́жнічае – колэ́сь ходэ́лэ вонэ́ та́бэ старці́, алэ́ ста́рыц стойі́ть і про́сить, коб шо далэ́, а бродёга пырыско́чыть чыри́з плит дай нарвэ́ собі́, шо хо́чэ, а то й укра́дэ.

Бо́чка с капу́стию чы з гурка́мэ зра́зу стоёла ў сцёпцэ ('істобка'), а ёк ста́нэ холодні́, то йийі́ пырыно́силэ або пырыко́чувалэ ў ші́пку ('прыбудоўка да хлява для рознага сельскагаспадарчага начыння, дроў'), дэ вона́ стоёла і зымо́ю, ти́лько йийі́ обклада́лэ соло́мию або коро́стию, коб

капу́ста мэнч промі́рзала. А высно́ю, ёк бо́чка опорожнэ́цца, то з йийі́ вылыва́лэ роси́л і ста́ўлялэ под стрі́ху там, дэ з йийі́ сьті́кае вода́. І бо́чка ны бу́дэ россыха́тысь.

Зымо́ю, ёк жывэ́ моро́з, ро́быца слэ́сько. На стэ́сцэ замэ́рзнэ лід. Там, дэ его́ оно́ кро́хэ, то колэ́ на его́ насту́пыш, він хробошчэ́ть та́бэ шкло, а ёк водэ́ було́ більш, то зро́быца бі́льшэ слэ́ське мі́сьце – молодэ́йі іду́ть дай ('ды') ко́ўзаюца, а старэ́йі, выдо́мо, обхо́дять гэ́тэ мі́сьце. Бо дэ ж йім ко́ўзатись, вонэ́ лэ́дьшо йдуть, мо́жна сказа́тэ – штабыльга́ють ('прыкульгваюць'), а ны хо́дять. Була́ і ў нас ко́ўзанка на вэ́гонэ каля ва́шого ді́да, там ко́ўзалися, а за́рэ ката́юцца на коньках. Ёк хто ны ўмі́е ко́ўзатись, то зра́зу па́дае і ла́зыть на кара́чках. Гэ́так і п'ёныца ла́зыть на кара́чках, бо ны мо́жэ стоётэ на ногах.

Лі́том ста́ршэ робэ́лэ ді́тюм го́йдашке: зачэ́пыть воро́ўчыну за гулэ́ну ('галіна') чы за ба́льку ў клу́ні, а знэ́зу прычэ́пыть до́шчычку, коб мо́жна було́ сыді́тэ дай го́йдаюца. А колэ́шуть колэ́ску, дэ лыжэ́ть мала́я дытэ́на. Ба́ло, ма́тэ спа́тэ хо́чэ, то вона́ но́гу на воро́ўчыну і «гу́та-гу́та», по́ке дытэ́на ны сті́шыцца і ны заснэ́.

Ке́датэ камі́ньне мо́жна сто́ячэ на мі́сьці. А ке́нутэ да́лі ў нас ка́жуть попустэ́тэ; ху́тко, рапто́во ке́нутэ – гэ́то шпурну́тэ ка́мыня чы шо-нэ́будь гэ́нчэ.

Пхну́тэ могла́ на́вить нывíстка свыкру́ху, ёк та́я була́ на́дто нычо́га (або врэ́дна) і нывíстцэ чыри́з йийі́ ныёкійі жы́зні ны було́. Могла́ схватэ́тэ стару́ю за грудке́ і тоўчэ́ е́ю об стыну́. А шэ тоўчэ́ мо́жна кутю́ чы про́со ў сту́пэ. Мэ ў сту́пэ тоўклэ́ бу́ке ('сцябліны тытуню') і розбаўлёлэ тыті́н (або лэст), бо быз бу́ку він на́дто ж мі́цни, у го́рлэ дырэ́.

Ёк стоўпа́ ў пло́товэ чёсто хита́тэ, то він росхита́йица і вэ́падэ з ёмэ ('яма'). Хита́тись можэ́ зуб або і чолові́к, ёк ідэ́ п'ёни чы хво́ри.

«Насца» у нас ны ка́жуть, а гово́рать так: я ёму́ ёк даў ного́ю под сра́ку, то він вэ́литіў аж на ґа́нок.

На моро́зэ трэ́ба ворушэ́тэ па́льцамэ і провырётэ, чы вонэ́ ны помэ́рзлэ, доткну́тыся руко́ю, тоді́ поба́чыш, змэрз чы не́.

На мэ́лого хло́пца ді́ўка ныко́лэ ны крэ́кнэ: ны чыпэ́ мынэ́! А на ныньа́выдного вона́ так га́ркнэ, шо ёму́ ныко́лэ більш на схо́чыца йийі́ чыпэ́тэ.

Акалічнасці месца: тут, ту́тычка; там, та́мычка; гэ́ндэ 'вунь', оне́ там 'вось там', оне́дычка 'тутака'.

*П. А. Міхайлаў, С. І. Фацеева*

## ДАЎГІНАЎЦЫ ПРА СВАЁ ЖЫЦЦЁ...

Пададзеныя ніжэй тэксты былі запісаны студэнткай завочнай формы навучання факультэта беларускай філалогіі і культуры ўстановы адукацыі «Беларускі дзяржаўны педагагічны ўніверсітэт імя Максіма Танка» Ірынай Іосіфаўнай Лапко ў 1994–1995 гг. пры выкананні кантрольнай працы па беларускай дыялекталогіі. Усе тэксты занатаваны ад жыхароў в. Даўгінава Вілейскага раёна Мінскай вобласці, што знаходзіцца на старым тракце, які злучае Полацк з Мінскам і вядомы яшчэ з X ст. У вёсцы зараз мірна суіснуюць прыхільнікі каталіцкага і праваслаўнага веравызнання. У іх цікавых і змястоўных апавяданнях пра сваё жыццё, як у калейдаскопе, праходзяць каларытныя малюнкі вясковага побыту, мясцовых звычаяў і традыцый, узораў народнай мудрасці і дасціпнасці. Прапануемыя тэксты – гэта не проста ўзоры сучаснага дыялектнага маўлення. Яны крыніца нашых ведаў пра духоўную культуру мясцовага насельніцтва. У такіх невялічкіх апавяданнях адлюстравана нацыянальная адметнасць і духоўны свет носьбітаў гэтай мовы, менталітэт народа.

Тэксты падаюцца ў спрошчаным графічным запісе. Мяккасць папярэдняга зычнага пазначаецца ётавымі галоснымі або мяккім знакам. Паколькі асіміляцыйная мяккасць зычных з'яўляецца нормай мясцовага маўлення, то і ў тэкстах яна не адлюстравана.

***Расказвае Магдалена Мікалаеўна Мяржынская, 1910 г. н.***

**Чаму так вёска называецца**

Яшчэ́ даўне́й стары́я каза́лі, што ў мястэ́чку былі́ ш на́тта до́ўгія ву́ліцы. За гэ́та, му́сіць, і назва́лі Даўгі́нава. А яшчэ́, то ці пра́ўда гэ́та ці ма́нюць, але ш даўгі́наўскія ба́бы, дзе́ўкі былі́ пе́кнымі і ко́сы насі́лі до́ўгія. Вот і назва́лі Даўгі́нава, з-за і́хніх ко́саў.

***Расказвае Альберт Мікалаевіч Пратасевіч, 1920 г. н.***

Я ўжо і до́бра ня по́мну, хто мне́ каза́ў, алі́ ш зна́ю то́лькі, што яшчэ́ як жылі́ жыды́, у іх было́ на́тта мно́га кра́мак. Жыды́ былі́ на́тта бага́тыя. А ўжо ш бядне́йшыя – па́рапкі, хто хаце́ў, ішлі́ ў пазы́кі да жыдо́ў, ну аддаўжа́лі, бо жы́ць жа не́як трэ́ба было́. Ну іх і назва́лі даўгі́наўцы. Му́сіць з-за даўго́ў.

***Расказвае Іосіф Казіміравіч Надольскі, 1929 г. н.***

Гэ́та я пачу́ў ат сваёй ба́пкі, а яна́ ат сваёй. Зна́ю то́лькі, што даўне́й, калі́ былі́ паны́, ня было́ гэ́тага Даўгі́нава, дзе цяпе́р мы жывём. Была́ до́ўгая вёска на ме́сцы, дзе цяпе́р, прыме́рна, даро́га, што ідзе́ на Ві́таўцы. Та́м і жылі́ лю́дзі. Алі́ ш Бох пакара́ў іх за не́шта і пасла́ў на і́х хваро́бу – хале́ру. Ста́лі ме́рці лю́дзі як му́хі. Каза́лі, што ніво́ннага дня́ ні прайшло́, кап хто ні памёр. Ну а нат кім Бох злітава́ўся, то ты́я пачалі́ стро́іць дамы́ ўжо на но́вым ме́йсцы. Алі́ найпе́рш паста́вілі на гэ́тым ме́йсцы крыш, каплі́чку ў ахвя́ру Ма́ткі Бо́скай, кап яна́ пажале́ла і заступі́лася. Стая́ла каплі́чка прыме́рна там, дзе цяпе́р Падга́йскі жыве́ць. Як прышлі́ камуні́сты, то буры́лі ўсё, ну і каплі́чка здранцве́ла, заста́ўся адзі́н слуп, ды і той ні вы́дзіржаў, правалі́ўся. Даўгі́нава яшчэ́ заве́цца, бо до́ўга лю́дзі памі́ралі.

***Расказвае Вольга Аляксандраўна Цыгалка, 1920 г. н.***

**З гісторыі касцёла**

Хачу расказа́ць пра гісто́рыю касцёла даўгі́наўскага. Пе́ршы касцёл бы́ў малы́ і драўня́ны. Другі́ то́жа драўня́ны і згарэ́ў. Было́ то́лькі дзве́ ву́ліцы, анна́ называ́лася Ю́рздаўка, цяпе́р Піяне́рская. Друга́я называ́лася До́ўгая. І з гэ́тай на́звы До́ўгая заве́цца мя́стэчка Даўгі́нава. Гэ́та было́ за ча́сам панава́нна Літвы́, як По́льшча з Літво́й была́ палу́чаная. На гэ́ты час у касцёле ў Даўгі́наве працава́ў ксёнц Льво́віч. Калі́ пад два́ццаць гадо́ў вы́сланы паэ́т Зан варо́чаўся с сы́лкі чэ́рас Даўгі́наў, то хаце́ў затрыма́цца на выпачы́нак і скірава́ўся да ксіндза́ Льво́віча. Паэ́т За́н пазна́ў, і ксёнц пазна́лі адзі́н другóга, што былі́ ў маладо́сці блі́скамі кале́гамі. Зан зазна́чыў ксяндзу́, што чаму́ ш тут гэ́ткі ма́лы і гэ́ткі бе́нны касцёл, што трэ́ба адбудава́ць касцёл каме́нны. Алі́ Льво́віч сказа́ў, што круго́м лю́дзі такі́я бе́нныя, няма́ за што́ вы́будаваць касцёл. Калі́ гэ́дак размаўля́лі, За́н вы́няў і падарава́ў залату́ю табаке́рку і сказа́ў, што гэ́та бу́дзіць пе́ршы піача́так. Калі́ За́н атхо́дзіў ат ксіндза́, ксёнц спадарава́ў яму́ залато́ўку і сказа́ў, што хва́ціць табе́ ўжо тула́чыцца па све́це, што хай гэ́та бу́дзіць пе́ршы пача́так, кап ты́ купі́ў аспада́рку і аспадарава́ў на е́й. Табаке́рка ў За́на была́ с тако́га паво́ду, ён ру́скаму купцу́, о́чэнь вялі́каму, аткры́ў залату́ю капа́льню. Калі́ та́я капа́льня запрацава́ла, с пе́ршага здабы́тага зо́лата купе́ц сказа́ў вы́ліць За́ну табаке́рку. Гэ́та быў пе́ршы пача́так фунда́цыі касцёла каме́ннага ў Даўгі́наве.

***Расказвае Рэгіна Адольфаўна Надольская, 1928 г. н.***

**Мясцовыя этнонімы**

Нас, далгі́наўцаў, празва́лі лю́дзі з другі́х вёсак казяні́, бо на́тта ш мно́га ў нас даўне́й было́ ко́с.

Міку́лінцаў мы завём вале́ты, бо там кавале́ры малы́я ро́стам былі́.

Ваўкала́ўцаў завём капту́рнікі, бо шы́ліся та́м пе́кныя каптуры́.
Бараўча́н завём ны́ркі, алі́ ш вот чаму́, забы́лася.

***Расказвае Вольга Аляксандраўна Цыгалка, 1920 г. н.***

**Жніво**

У нас сяго́ння зажы́начкі.
Дась нам пан гарэ́лачкі,
Дась нам пан гарэ́лачкі.
А спады́ня дась сы́ра,
Кап жы́та радзі́ла.

Ні пачына́лі ў панядзе́лак, бо гэ́та непамы́слы дзе́нь. Перш чым жа́ць, трэ́ба паражыгна́ць по́ле, тры ра́зы ў зямлю́ пасту́какць сярпо́м і сказа́ць не́йкія сло́вы, ня по́мню які́я, кап ні бале́ла спі́на. Тады́ аспады́ня зажне́ць у гэ́тым ме́йсцы тро́шкі, зро́біць снапо́к. Гэ́та аспадаро́к. Нажына́лі мэ́ндлік. Мэ́ндлік стаўля́лі па дзе́сяць снапо́ў, або́ па два. Ідучы́ дамо́ў, на рука́х не́слі аспадара́ і ста́вілі на́ куці пад абраза́мі. Ён стая́ў дату́ль, паку́ль у по́лі ні вы́сахніць жы́та, ні ста́нуць яго́ вазі́ць у стадо́лу. Гэ́та ток, дзе склада́лі жы́та.

Як то́лькі ве́злі пе́ршы вос жы́та, аспады́ня выхо́дзіла і каза́ла, што кап аспада́р ішо́ў у ха́ту і ўзя́ў аспада́ра. Аспада́р та́к і рабі́ў. Ён уво́зіў пе́ршы вос у стадо́лу і ўно́сіў гэ́тага аспада́ра. По́тым жы́та на тарпе́ склада́лі. Туды́ ш кла́лі і снапо́к-аспада́р.

***

Адыхо́дзілі дамо́ў ве́чарам, як ужо́ схалада́іць. Тады́ ўжо ш так до́бра жне́цца, алі́ ш ужо́ раса́ прападзе́ць. Сабіра́імся грумадо́й, кап маглі́ напірамéнку пець. Пе́лі во яку́ю пе́сню:

Ой пара́ дамо́ў, пара́.
Сцюдзо́на раса́ па́ла.
Мне́ дамо́ў ні хо́чыцца
К свякро́ўцы варо́чацца.
Свя́кроўка ні ма́мачка,
Ні ска́жыць – дзіця́тачка.
Ні ска́жыць – дзіця́тачка,
Ні ска́жыць – нажа́лася,
Ска́жыць, што ў баразне́ κача́лася.
Ні ска́жыць – змары́лася,
А ска́жыць, што ляні́лася.

*Запісала І. І. Лапко*

***Расказвае Караліна Чэславаўна Ягела, 1933 г. н.***

Вот по́мню до́бра, што шнур зва́ўся сядзі́ба. І ўжо́ на гэ́тай сядзі́бе мы канча́лі жы́та жаць, ну і дажа́ліся да ле́су. Ужо́ астало́ся зусо́м нямно́шка, і ма́ма ка́жыць, што ўжо цяпе́р бу́дзім крушко́м, крушко́м жа́ць. Круго́м і круго́м хадзі́лі жа́лі: ма́ма, тады́ за ма́май Амі́лка, тады́ ўжо я. Та́к мы жа́лі аш паку́ль ні аста́ўся невялі́чкі клачо́к жы́та. Ма́ма тады́ ўзіла́ гэ́ты клачо́к і завіза́ла ўзло́м. І на што яна́ гэ́та рабі́ла і што́ яна́ гавары́ла, мне́ ўжо ні ў па́мяці.

***

Найма́лі на падзённае, плаці́лі па два зло́тых, кармі́лі. Ту́т і няве́сткі жа́лі, а ма́ці анна́ е́сці рабі́ла. Дзяце́й навя́звалі паяса́мі каля́ кало́дзіжа, каля́ слупко́ў, каб нідзе́ яны́ хаця́ ні ішлі́. Ну цяпе́р, здае́цца, усё расказа́ла.

*Запісала І. І. Лапко*

*Расказвае Ніна Пятроўна Кратовіч, 1940 г. н.*

Раскажу́ пра жніво́, што я запо́мніла. У са́мым ка́нцы пакі́нем крух жы́та і тады́ хо́дзім адзі́н за анны́м удзвю́х ці ўтрох каля́ кру́га і пакро́жацца рэ́жым жы́та. Тады́ збіра́ім у адзі́н сноп. Раскапа́ім зямлю на ме́сцы круга́, хле́ба с со́ллю туды́ пало́жым, закры́ім. А тады́ аспады́ня кача́іцца на гэ́тым ме́йсцы.

*Расказвае Магдалена Мікалаеўна Мяржынская, 1910 г. н.*

## Куцця

Прыка́звалі, што на́да, кап на куццю́ бы́ло двана́ццаць патра́ў. Кап усе́-ўсе былі́ по́сныя. Мо́жа хто́ і выдумля́ў з багаце́йшых, алі так абыкнаве́нная куцця́ адбыва́лася. Усе́ стара́ліся купі́ць сяло́ткі. А сяло́тка са́мая найле́пшая была́ шмальцо́ўка. Яна́ была́ са́мая найжырне́йшая, са́мая наймякчэ́йшая, з малако́м у сярэ́дзіне. Ну і крупяну́ю ка́шу вары́лі. Гэ́та ў ка́жнай ха́це. Грыбы́ су́шаныя вары́лі, зва́лі полі́ўка. Кісялі́ вары́лі, аўся́ны кісе́ль і ж журaві́н. Напіка́лі бу́лычак з мукі́, по́сных. Націра́лі ма́ку. У мі́се труць і труць гэ́ты мак, а тады́ гэ́та малако́ ат ма́ку прысало́дзяць і гэ́тых бу́лычак намача́юць у мак. Тады́ ў такі́я, даўне́й называ́ліся мі́сы глыбо́кія – лату́фкі, пакладу́ць гэ́тых бу́лычак. Гэ́та ўжо была́ дзяці́ная яда́. Мы так тады́ гэ́та е́лі.

А тады́ паку́ль садзі́цца ма́ма ка́жыць, што на́да каб звёздачкі на не́бе паяві́ліся. Як звёздачкі пая́вюцца, мы ўжо ш глядзі́м праз акно́. Нам та́к хаце́лася скарэ́й гэ́тых бу́лычак і сяло́ткі. Як пая́вюцца звёздачкі, тады́ мы, усе́ гэ́дак чы́ста вы́матыя, ляці́м скарэ́й за сто́л. Ма́ма ўжо ў тако́й чы́сцінькай бе́лінькай ху́стаццы, завіза́ўшы яе́ пад бараду́. Вот усе́ пася́дзім. Я ш забы́лася сказа́ць яшчэ́, што ма́ма надзе́ніць фартушо́к. У яе́ хоць і кужэ́льны, алі́ ш такі́ бе́лінькі.

Стол засла́ны абру́сам чы́сцінькім. Пад абру́сам се́на. На се́не пало́жаць апла́ткі. Тады́ падыма́іць хазя́ін апла́тку, і ад яго́ ло́міць ма́ма, а тады́ ўся сім'я́ мі́жду сабо́й ло́міць, гэ́та кап усе́ ў зго́дзе жылі́. Паражыґна́юцца ўсе і апла́тку гэ́ту з'яду́ць. Апла́тку гэ́ту як з'яду́ць, тады́ мы, дзе́ці, у во́кны. Сту́каім у шы́бы і ка́жым: «Маро́с, маро́с, прыдзі́ да на́с куццю́ е́сці».

Тады́ пачына́лі куццю́ е́сці, крупяну́ю ка́шу і дале́й усё ў пара́дак. Куццю́ як адбу́дзім, падыхо́дзіць ужо́ пад двана́ццаць часо́ў, тады́ ўжо, на́м як далекава́та да касцёла, то хто на кані́, хто пе́шшу на пастэ́рку усе́. Астава́ўся до́ма хоць хто́ адзі́н.

*Расказвае Караліна Чэславаўна Ягела, 1933 г. н.*

## Прачыстая

У каго́ памру́ць дзе́ці, то ка́жуць, што нямо́жна я́блыкаў е́сці да Спажы́. На Спажу́ Ма́тку Бо́ску забра́лі анёлы. Бох іх вы́правіў, каб забра́лі яе́ душу́ і це́ла. У гэ́ты дзе́нь све́нцяць зёлкі, я́блыкі. Лю́дзі яшчэ́ ка́жуць, што як прышла́ Спажа́, то ўжо хле́ба дзіжа́. А яшчэ́ міш Спо́ш усяды́ бацяны́ збіра́юцца адліта́ць.

*Расказвае Браніслава Канстанцінаўна Цыгалка, 1928 г. н.*

## Масленіца

На гэ́та свя́та калы́ску ве́шалі на бра́ме на ву́ліцы і калыха́ліся на лён, каб быў до́бры і пе́лі пе́сні:

Ускалыхні́це высо́ка,
Каб я ві́дзіла далока,
Дзе мой мі́ленькі гуля́іць,
Шаўко́вай ху́сткай маха́іць.

Дзве́ станаві́ліся падбіва́лі калы́ску, а чаты́ры сядзе́лі. Гэ́тыя дзве і гэ́тыя дзве напераме́нку пе́лі і ка́ждая хаце́ла пакалыха́цца, каб вялі́кі лён вы́рас.

### Ілля

А на Іллю казáлі так: «Іллѧ́ нарóбіць гніллѧ́. Іллю́шачкі хоць бы дзве, хоць бы тры, а пятру́шачкі аніво́дненькай». Яшчэ́ раскажу́ пра гу́льні, у які́я гуля́лі на Вількáнац.

### Гульня «Хто спрытней»

Сабірáліся сярóт вёскі і клáлі латóк, дóўгі, з мéтры чаты́ры. Клáлі ягó с пакáтам, на плот, а нóсам стáвілі ў зямлю і па ім кацíлі я́йкі. Гэ́та я́йка як пакóціцца і скóлькі я́ек кранéць на зямлі́, стóлькі гэ́ты чалавéк і забірáў. А як ні кранéць, тады́ прáма аткáчвалася. Гэ́дак гульню прадаўжáў другі́, трэ́ці, чацвёрты. Некатóрыя вы́грывалі, а некатóрыя праі́грывалі. Тут трэ́ба мець смікáлку. Пакаці́ць я́йка, каб янó і ў тóе далóся, і ў тóе. А катóрае мі́ма прóйдзе, аткóціцца і ля́жыць.

### Гульня «Біткі»

Хлапцы́ мéлі, знáлі смікáлку. Яны́ вóзьмуць вóскам аблі́юць я́йка і пафарбу́юць. Тады́ янó ні знáчна, штó заваскавáнае. Гэ́ты хлапéц с кáждым брáўся ў бі́ткі гуля́ць і выгравáў ва ўсі́х.

*Запісала І. І. Лапко*

***Расказвае Яўгенія Пятроўна Жаўтко, 1937 г. н.***

### Будслаўскі фэст

Кóжны гот, лéтам, лю́дзі амáль з усягó свéту пяшкóм ідýць у Бýцлаў, на фэст. Тут збірáіцца больш сóтні адны́х тóлькі ксяндзóў, нáват пáпа ры́мскі. Усí́х людзéй тут аш кі́шыць. Тáм, дзе цяпéр гэ́та бýда стаі́ць, ранéй былó балóта і лес кругóм. С Варшáвы прыéхалі закóннікі, скóлькі іх былó – ні знáю. Яны́ сплаўля́лі лес і на гэ́ту бýцлаўскую ракý. Янá ш былá, бóжа-бóжа, якóй тáмака. Гэ́та цяпéр павысыхáла ўсё, зрабíлася нікуды́. Гэ́та ўжо тáта раскáзаваў, дзед раскáзаваў, і цяпéрака, во як я былá ў Бýдзе, то нáват раскáзаваў гэ́ту гістóрыю ксёнц Завальню́к, ну што з Мі́нска.

Ну, дык гэ́тыя сплаўля́лі ш дрэ́ва, куды́ – ні знáю, бо нáтта ш вялíкі лéс бы́ў. Ім ні былó нідзé ні начавáць, нічóга. Яны́ зрабíлі такýю бýтку, каб ужó мóжна былó прысéсці, аддыхнýць і трóхі апсушы́цца, бо і пéчка нéйкая ш там былá. І адзі́н рас як даў дош, настóлька вялíкі, што яны́, дзéтка, прамóклі да ні́ткі. Ну яны́ ні мóгуць ужó тáмака гэ́дак вы́сушыцца. Яны́ малíліся і плáкалі, бо былí ш далёка ад гэ́тай бýткі. А калí ш прыхóдзяць яны́ ў гэ́ту бýтку, аш глідзя́ць, што з’явíлася там цудóўная Мáтка Бóска. Вот гэ́ты абрáс Мáткі Бóскай Буцлáўскай паслужы́ў, каб назывáлася Бýда, бо паўстáла з бýткі. А лю́дзі сю́ды прыхóдзяць малíцца, бо з’явíлася ш Мáтка Бóска. Цяпéр і з Масквы́ і, Бóжа мой, адусю́ль сюды́ ідýць. Па дарóзе іх лю́дзі кóрмюць, бярýць нáнач. Цяпéр на Беларýсі гэ́та сáмы вялíкі касцёл, ды ні прóста касцёл, а ўжо базы́ліка. Сюды́ нáват прыяжжáў кардынáл, ды ўжо ён сказáў, што ўжо гэ́та Мáтка Бóска сáмая цудóўная. Нáват узя́лі абрáс і па ўсí́х касцёлах беларýскіх янá абышлá. Казáлі яшчэ́, што як янá ўжó зрабíлася ў гэты́м цýдзе, то калí ўжо хто што папрасíць хóча, дык нá калéнках паўзéць да гэ́тага абрáза. Пры́дзіш дамóў, глядзíш янó тáк і зрабíлася. А пóсля ўжо началí ісцí або паўсцí і клясцí другí́х. Вот адзí́н рас дзя́цька нéйкі паéхаў, пчóлы прапáлі ў ягó, і так ужо ўзлавáўся, што афаравáўся, і стаў клясцí, што ці кап ты аслéп, ці што. Прыхóдзіць дамóў, аш аслéп брат. Тады́ ўжо Мáтка Бóска раззлавáлася за гэ́та. Цяпéр ні памагáіць.

***Расказвае Браніслава Канстанцінаўна Цыгалка, 1928 г. н.***

### Народныя звычаі

Яшчэ́ вéдаю, што як кýрыца нясéць я́йка і янó разлі́éцца, то трэ́ба тады́ тры разы́ перакíнуць праз мушчы́нскую калашы́ну.

***

Калї выганя́іш пе́ршы рас карову ў по́ле, трэ́ба на паро́х яйко́ пакла́сці і сказа́ць: «Ідзі́, каро́ва, у по́ле і вярні́ся кру́глая, як яе́чка». І праганя́лі каро́ву свянцо́най ве́рбачкай, каб уро́кі ні бра́лі.

*К. Ф. Руц*

## ТАК ГАВОРАЦЬ МАЕ ЗЕМЛЯКІ

***Расказвае Таццяна Аляксандраўна Гарбар, 1930 г. н.****; запіс зроблены ў в. Беражное Столінскага р-на ў 2008 г.*

### Выпечка вясельнага каравая

Корова́й вжэ рошчыня́лі, а пото́м носі́лі і спова́лі: «А де та́я корова́йніца, шо в печ корова́й несла́? Шо і в кішэ́ню, свої́м де́тям на вэчэ́ру...» І мужыко́ў тэй лопа́тою, шо саді́ть корова́й, по голове́, по голове́ лопа́тою тоє́ю. Ну, бі́лі мужыко́ў, шоб воны́ вэрх ма́лі.

Молоду́ сажа́лі, ек наража́лі. Шы́шэчкі такі́е робі́лі там да ўкра́швалі, ішчэ́ і так іх робі́лі, бо ішчэ́ ш всем роздава́лі. Прыежжа́лі по скры́ню, ко́лесті скры́ні булі́, так вжэ саді́ліса за сто́лы і всем вжэ ты́е шы́шэчкі роздава́лі. То́жэ спова́лі пе́сню: «Ходе́те, суседо́чкі, до мэ́не корова́я гіба́ті, ешчэ́-ешчэ́ не згіба́лі, роді́ноньку дожыда́лі. Суседо́чкі мое́, да ходе́те вы ко мне корова́я гіба́ті, ешчэ́-ешчэ́ не згіба́лі, роді́ноньку дожыда́лі.

### Хрышчэнне дзіцяці

А обра́т хрысті́н. Мы свое́ де́ті вжэ хрысті́лі. Пэ́рвую, то вжэ ба́тюшко хрысті́ў у цэ́ркві. То вжэ хрысті́лі кума́ і кум. І должны́ кумы́ «Ве́рую» ўметь молі́цца, да «Ве́рую» – э́то сі́мвол ве́ры, так як гімн называ́ецца за́рэ, то э́то «Ве́рую» була́. Так от вжэ де́ржыть кума́, а пото́м вжэ кум де́ржыть, і «Ве́рую» ба́тюшко спра́швае. Як уме́ете «Ве́рую» – то хрысті́те, а ек не ўме́ете – так вон! Вы́вуч молі́тву, і тогда́ ста́неш вжэ хрысті́ть.

***Расказвае Марыя Афанасьеўна Наточы, 1924 г. н.****; запіс зроблены ў в. Беражное Столінскага р-на ў 2008 г.*

### Вячоркі

Ну, булі́ ко́лесті вэчоркі́. Бэру́ я куде́льку, ідо́м мы пра́сті ўвэ́чэры. А вжэ ш як екі́ хло́пэц тебэ́ лю́біть, так бэрэ́ руча́йку да й ся́де ззаду. Руча́йка – э́то ты́е ні́ткі, шо в'емо́, вэрэтяно́. Ну вжэ ек ідо́м додо́му, вжэ вон іде́ за тобо́ю доха́ты. За́йдомо вжэ доха́ты, вжэ стоімо́. Холодно́ ш, но́гі мэ́рзнуть. Постоімо́ тро́ха, постоімо́, вон іде́ доха́ты. Ну, вжэ на дру́гі де́нь, вэ́чор вжэ мы змоўля́емса, куда́ ш іті́: то до тое́, то до тое́ това́ркі. Прыхо́діть той зноў хло́пэц. Мы э́тые мы́чкі мы́чомо, э́ты лён буў. Да бэро́м да мы́чомо э́ты лён такі́мі, у мэне́ шчэ э́та гры́блёнка е, шчэ е на пэчэ́, мы́чомо э́тые мы́чкі. Да вжэ йдом з ты́мі мы́чкамі на вэчоркі́ да й прадо́м. О, да́ле вжэ прыйдомо́... П'ятніца прыхо́діть, бэро́м коно́плі мном нога́мі. Ну, булі́ такі́е коно́плі вэлі́кіе. Да те́рлі э́тымі те́рніцамі. Да вжэ воны́ такі́е жо́рсткіе. Йдом по клу́нях, мном увэ́чэры, ноча́мі мном.

Ну, а хло́пэц вжэ йде́ с ты́мі грэбэня́мі, а мы стоімо́. Помэ́рзнемо, вжэ іті́ доха́ты. А влётку то до́брэ с хло́пцэм стоя́ть, бо но́гі не мэ́рзнуть. Ко́лесті не така́ жы́тка була́, як тепэ́ра: була́ і голо́дная, і де́ті булі́ голо́дные. Ду́маю, да пойду́ жы́то жать лю́дям, да даду́ть кусо́чок хле́ба, да прыду́, да скажу́: «Де́точкі, больш молока́ е́ште, мэнш хле́ба бэрэ́те». А тепэ́р шчо, шчо хоч е, тепэ́рэ ш пе́нсію бэру́... Да й в колхо́з жэ ш ході́ла. Да в колхо́зі по́йдомо, да от жно́м жы́то – ну дава́йте пэрэку́рым, ся́дом, ек запоё́м, то ўсе по́ле розрыва́ецца, ох спова́ла. А шо, ты не зна́еш, ек тоды́ васе́льле було́. Э, ты не зна́еш.

## Дажынкі

До́жынкі пра́зновалі, а буў Сагано́віч. А мы булі́ на ху́торы, э́тое була́ Браткова́я, я. Йдом вжэ жать жы́то, ко́су бэро́м. Жы́то бэро́м гэ, а коб соло́мы собе́ доха́ты, вона́ жне, а я кошу́ за е́ю. Ну, да вжэ во́зьмомо гэ́того вэнка́, вжэ несо́м прэдседа́телю, то мо нам да́сть, шо овэ́чку зарэ́жуть. Вжэ мы во́зьмомо во́дкі та́мэ. Дава́й спова́ть і вы́п'емо, да вжэ пое́м дожон у хата́х, о. Да вжэ всё. Да о́то так булі́ мы. Бага́то люде́й, хто ході́ў на робо́ту. Збіра́ліса на екі́х столо́ў п'ять, чоты́ры. Да такó жа́лі жы́то. А ко́лесті жы́то жа́лі, хо́дімо гэ́тымі ноча́мі і так ме́раём, коб ко́лько було́ ш. Да вы́жнемо по екі́х п'ять со́ток, больш, то нам больш вжэ запла́тять.

## Каляды

А на Коля́ткі то́жэ ході́лі. По́йдомо, ну а за́йдомо – дава́лі спова́ті. Ек запое́м, то выно́сять гро́шы. Шо оді́н гот, то назбіра́лі то́рбу віна́. А шо ш? А я не п'ю віно́, а Ната́лка п'е і Со́ня Про́хорыха п'е, то воны́ мне не хоте́лі дава́ть. А я собе́ взяла́ тры буты́лкі дэй го́ді, а вы шчо хо́чоте робі́те. Бу́ло на Коля́ткі, ході́ла, спова́ла-спова́ла я.

## Паводка

От я була́ на ху́торы. А шо ш у мэне́ ха́ты не було́, потсара́йчык буў такі́. А де́ті ш булі́ малы́е. Ну, ка́жуть, вода́ вэлі́ка йде, вэлі́ка вода́ тоды́ була́. Ну, мы вжэ вста́лі – прыхо́діть участко́вы. Сту́кають у двэ́ры: «Устава́й, Мары́я, бо вэлі́ка вода́ йде, дава́й коро́ву!» Во́зом э́той Зуц Рома́н. Ну, а я пошла́ вжэ ш пэшко́м. Ну, взяла́ я гэ́того се́на скі́нула, коро́ву прыв'яза́ла до во́за і завэзла́. Осе́ ко́ле ле́су булі́ ш хаты́, там до тое́ Ву́жулкі Ма́ні. Прыв'яза́ла ту коро́ву, ду́маю, покі́ну ее́ ту́та да побэгу́ вжэ ш доха́ты тудо́ю на грэ́блю. Ну, пошла́ доха́ты, там побула́. Ну, ду́маю, вжэ ш ра́нок, пойду́ коро́ву подою́. Пошла́ я доі́ть – вжэ й се́на нема́, забра́лі тэ се́но. Коро́ва то е. Я – ху́стку з головы́, коро́ві на ро́гі – і повэла́ на ху́тор тудо́ю. Оно́ шо пэрэвэла́ дзве гэ́тых кана́ўкі – і вода́ шам, так шла бы́стро. Коро́ва ў мэне́ ў хлеве́ стоі́ть. Е́де ўчастко́вы. Ну, прыежжа́ють, на мэне́ крыча́ть: «На́шо ты коро́ву забра́ла?!» А я кажу́: «То вы коро́ву спаса́лі, а мэне́ не спаса́лі з де́тьмі. Я ўтоплю́с і коро́ва хай то́піцца!» О, всё, коро́ва ў мэне́ вдо́ма стоі́ть. Прыежжа́ють зноў, участко́вы прыежжа́е по коро́ву. А я кажу́: «Да куды́ ты ту коро́ву забэрэ́ш у дуба́х? Вона́ тебэ́ вто́піть». І так я остала́са, і ста́ла спада́ть вода́.

## Пра лодку

У мэне́ ло́дка була́. О, я ло́дкой уме́ю до́брэ е́хать. Ну, да вжэ ш я по хлеб пое́ду, да вжэ ш хле́ба куплю́. То сама́ пэкла́, але то по соль у магазі́н. То прые́ду ло́дкою, да забэру́, да е́ду, а де́ті в шко́лі тут ночова́лі воны́ двое́. А ек зіма́, то вжэ де́ті йдуть у шко́лу с ху́тора, а я ж іду́ до йі́х навстрэ́чу. А ек ека́ кру́ча, то вжэ воны́ оста*ю*цца, а я йду́ гука́ю вжэ йі́х: «Га́ле, О́ле!»

## Як я заблудзілася

А рас такі́ буў такі́ тума́н, екра́з на Стрэ́тенне було́ гэ́тэ де́ло. Пошла́, вой такі́ буў тума́н, гэ́бы па́даў до́шчык. Не прышлі́ де́ті додо́му, а я прышла́ сюды́ до Бэрэжно́го. Нема́. Гука́ю. Воны́ ночова́лі ў шко́лі. Я ігі́ доха́ты – не зна́ю, де я. І пошла́ я, пошла́ й пошла́ – заблуді́лас. Зайшла́ я туды́ аж до Ке́рэнскіх, до ле́су. Ну, од йі́х, ду́маю, бу́ду ігі́ оттуль. Я ж зна́ю. Не, не попа́ла туды́, попа́ла вжэ до ле́су, до тое́ са́мое, де коро́ва була́. Зайшла́ я в не́ку ха́ту. Я ду́мала, шо вжэ я в Хо́томлі. Зайшла́ я в ха́ту – не зна́ю, куды́ я зайшла́. Дівлю́са, ду́маю, гэ́бы екі́ тума́н у вочах. А гэ́то буў поко́йнік той, Гры́ша, э́той во. Кажу́: «Зна́ете шо, я заблуді́ласа». А вон ка́жэ: « Ночу́й». «Як ночу́й? У мэне́ ж де́ті там, да й у мэне́ ш сестра́ була́ кале́ка. Пойду́ я доха́ты». Вон вы́шоў за мной. А э́то вэ́тёр мне вжэ в зад, я э́то ха́та ека́я пра́мо бу́де. Іду́ я, йду – нема́ ха́ты. До двох часо́ў но́чы блуді́ла. То йшла́ я в коне́ц, зайшла́ до водока́чкі. Ду́маю, э́то вжэ рыпхо́з, там вжэ я чуть

ба́чу свет. Стой, де я? э́то вжэ я на Лобско́й, в Цві́ліні. Я тым Цві́ліном, Цві́ліном іду́ скрозь. От ба́чу вжэ Вы́дрына Я́мка. Отту́дова я вжэ зна́ю, там вжэ моя́ гэ́тая я́мка. Туды́. То я вжэ ко́ле ха́ты. Захо́жу я, а ма́ті ка́жэ: «Де ты хо́діш?» Кажу́: «Так заблуді́ласа!» О тот мо́кра була́. То́лько сне́гу було́ тоды́ ўпа́ло, в том году́. Коб я сюды́ пошла́ до рэкі́, то я втопі́ласа б, але мэне́ бог созда́ў, шо я так повэрну́ла де вжэ прышла́ доха́ты. Вот екэ́.

*К. Ф. Руц*

## ПАЛЕШУКІ ПРА СЯБЕ І СВАЁ ЖЫЦЦЁ

Вёска Струга Столінскага раёна знаходзіцца прыблізна за восем кіламетраў на поўдзень ад раённага цэнтра і з'яўляецца цэнтрам сельсавета. Вядомы даследчык Ф. Д. Клімчук вылучае падгрупу сярэднепагарынскіх гаворак як пераходную паміж брэсцка-пінскімі і ўсходнепалескімі гаворкамі, да якой і адносіць маўленне жыхароў вёскі Струга, а таксама г. Століна, г. п. Рэчыца, вёсак Малыя Вікаравічы, Варані, Бухлічы і некаторых іншых. Адметнасцю сярэднепагарынскіх гаворак, на думку навукоўца, на фанетычным узроўні з'яўляюцца: 1) вымаўленне на месцы старажытнага націснога ѣ «закрытага» **ê**; 2) на месцы **о** ў новых закрытых складах – **ô** «закрытага»; 3) адсутнасць дзекання-цекання, аднак як факультатыўны варыянт часам ужываюцца гукі, сярэднія паміж **д** і **дз**, **т** і **ц** і інш. [1, с. 12]. Вёска Верасніца Жыткавіцкага раёна Гомельскай вобласці знаходзіцца прыблізна за дзевяць кіламетраў ад г. п. Тураў. Гаворка адносіцца да мазырскай (усходнепалескай) групы гаворак паўднёва-заходняга дыялекту беларускай мовы.

***Расказвае Вольга Васільеўна Лукашэвіч, 1947 г. н.****; запіс зроблены ў в. Струга Столінскага р-на ў 2009 г.*

### Пра сябе

Я роді́ла шэ́стеро дêток. Ну, однэ́ вжэ Бог забра́в, а пя́теро жывы́е: тры хло́пцы і две де́вочкі. Всê взро́слые, все по робо́там. Чэ́твэро детé́й в Брэ́сті жыву́ть, хло́пцы строі́телямі ро́бять, дочка́ одна́ – швэя́ (быᵘла́ конді́тером, а пото́м пошла́ швэé́й: у го́роді ме́сто нэ на́йдеш), дру́га тут у селé жывэ́, магазі́нны тéхнікум зако́нчыла, а за́рэ дêток догледа́е, трôе дêток у ее́. А я вжэ на пéнсіі з девяно́сто седьмо́го го́да. Жыву́ сама́. Му́жа нêма́, чэтвёрты ті пя́ты гôд пôйшо́ў, як помёр. От такэ́ се́льскэ жыттё: нôгі ко́рмять, ру́кі ко́рмять… А ў мôлодо́сті поштальёном ході́ла, два́ццать чоты́ры гôды пôштальёном быᵘла́.

### Пра шляхі зносін

У нас у Сто́ліні быᵘў ры́нок. Гандлева́ть у нас у вёсцы ніхто́ ніко́лі не гандлева́ў. У магазі́нах у нас гандлева́лі. Мо́жэ, колі́ і прыежа́лі. Шчэ мо́ста не було́, мост по́сле чэрно́буля зробі́лі, пото́м і дôро́гу пôстро́іли. А так мы хôді́лі пэшко́м у Сто́лин, на Ма́нькêвічы, пэрэвôзілі по рэкé нас на ло́ццы. Пôйдом с тôрбою, набэро́м харчо́ў на ты́день, пото́м доха́ты йдом. Як розліва́ла рэка́, то ло́ткамі е́зділі. На ло́тках і хлеб нам прыво́зілі.

### Народная мудрасць

Ра́нчэ сварылі́са. За́рэ вжэ не так сва́рацца, як ко́ліся сварылі́са. А чôго за́рэ сварыццца: землі́ хвата́е – бэры́ ско́лько влéзе. Ото́ як то́лькі нап'е́цца хто, тоды́ на ёго́ сва́рацца. От ко́лесся сварыліса за заго́ны, за ме́жы, за сенако́сы, а тепэ́р свобо́да всему́: узя́ў со́ткі, побі́ў, пото́м скосі́ў, комба́йном выку́опаў, доха́ты прывёз.

Свобо́дно ў нас усé, алé лі́шня та свобо́да другі́ рас быᵘва́е. Тепэ́рошнёму чэлове́ку тро́хі трэ́ба дісцыплі́ну. Пті́цы на́да свобо́да, а чэлове́ку трэ́ба шоб пова́гу до друго́го маў, бо за́рэ ж

за́вість заеда́е оді́н одного́: у того́ е машы́на, а ў друго́го ее́ нема́ і ото́ тако́ вот. Як гору́ють, то ма́ють. А от як седі́ш да п'я́нствуеш, то ніч́ого і мать не бу́деш. Одны́ жыву́ть на тэ́е, шо ма́ті з ба́тьком даю́ть, а другі́е са́мі заробля́ють. А мы бэз батькоу̃ і постро́іліс і поробі́ліс, і воны́ то́жэ таксáмо. От чэлове́ка все заві́сіть, од одного́ ёго́.

**Пра сваіх дзяцей**

Колі́ шла на рôбо́ту ті ў пôле, детéй своі́х у ха́ті оставля́ла самы́х, бо ні ба́бы, ні дêда ў іх не бы$^у$ло́: батькі́ мое́ і му́жовы ра́но помэ́рлі. Колі́ пры́деш доха́ты, то вжэ ска́ску ім розка́жэш ті гісто́рыю яку́ю, шоб воны́ не скуча́лі. Бы$^у$ло́ і ігру́шкі ім дерэвя́ные робі́ў муж. Як вдо́ма самы́е седе́лі, гра́лі ў хо́ванкі, у сле́пчыкі, гэ́то колі́ завя́жэш во́чкі да шука́еш другі́х (а другі́е каза́лі «тёпло-холодно́»), догоня́лі оді́н одного́. А зімо́й де́ті з гôркі ката́ліс. Са́нок ра́нчэ не бы$^у$ло́, ката́ліс на куфа́йках, а пото́м вжэ самы́е са́нкі рôбі́лі з де́рэва. А ката́ліс там, де за́рэ дôро́га, там ра́нчэ така́ пэшча́на на́сып бы$^у$ла́, называ́лас грэ́бля, там шчэ о́зеро е невэлі́кэ, о.

***Расказвае Таццяна Апанасаўна Бобрык, 1940 г. н.****; запіс зроблены ў в. Верасніца Жыткавіцкага р-на ў 2009 г.*

**Пра дзеда і бацьку**

Зна́еце, шо я вам роскажу́. Я хоце́ла ў архі́ў піса́ць ў Мінск, но, ка́жуць, ве́льмі до́рого. Моя́ дзе́вічча фамі́лія Добродзе́рэвец. Тако́е фамі́ліі нет, вона́ одна́ едзі́нственна була́ ў Верэсні́цы. І я зна́ю отку́да по прэда́нію мой дзет. А прэда́ння таке́ було́, шчо пры прыго́нномі пра́ві ёго́, прапра́дзеда, вы́менялі ў Росі́і на соба́ку, прывезлі́ сюда́. І фамі́лія гэ́та сложы́лас Добродзе́рэвец, гэ́то робі́лі до́бро по дзе́рэву. Дзет буў сто́ляр. Ба́цька мого́ в войну́ забра́лі не́мцы, бо парціза́ны схопі́лі одного́ неме́цкого офіцэ́ра. З ба́цьком забра́лі шчэ чолове́к дзе́сець на́шых. Іх завезлі́ ў по́льскі ла́гер «Частохо́л». Усе́ верну́ліса с того́ ла́гера. І ба́цько мой ішо́ў доха́ты, попа́ў до ру́скіх, а докуме́нтоў не було́ в ёго́. І ба́цька отпра́вілі ў ру́скê лагера́. По́сле войны́ шло сле́дство. Я да́жэ сле́доваціеля по́мню, шчэ ж ма́ма була́, фамі́лія ёго́ Вороб'ёў. Ма́ці спра́швала ў ёго́: «Скажы́, роскажы́, ты ж зна́еш, дзе вон». А вон ка́жэ: «Нет, мне про́сто далі́ сле́цтво весці́». Вон роспросі́ў у нас про ба́цька, хто вон, шчо вон. І ніяќіх больш весце́й у нас не було́ про ба́цька. А я ўжэ в гэ́тые го́ды піса́ла ў «Кра́сны крэст» і мне два го́ды шлюць пісьмо́. Ото́ прыйшло́ неда́вно: «Не мо́жэм нічэво́». І от тако́ погі́нуў мой ба́цько. Я до гэ́тых пор не зна́ю, шо з ім, дзе вон. За́рэ моя́ фамі́лія Бо́брык. Бо́брыкі – гэ́то мастера́ то́жэ, со шку́ры ша́пкі робі́лі. Бо́брыкоў у нас у дзерэ́ўні то́жэ мно́го.

**Пра сваё жыццё**

Случы́лосо так. Було́ хло́пцоў і мно́го ў мене́, но я за іх іці́ не хоце́ла. Не ты́е, шо я хоце́ла. І так случы́лосо, шо мне вжэ два́ццаць трэ́йці год. Дзе́ўкі ўсе вы́ехалі оцсю́ль. А я в шэсна́ццаць гот пошла́ на фе́рму. І ў восемна́ццаць гот мене́ вжэ хоце́лі в па́рцію ўзяць (до́брэ вучы́ласа в шко́лі), возі́лі ў Го́мель, але́ я не пошла́. А ма́ці була́ бе́дная, за ба́цька мы нічо́го не получа́лі, бо вон не погі́нуў жэ на войне́. Ма́ці нас так тру́дно годова́ла.

Ўжэ мне два́ццаць пе́рвы гот – я рэшы́ла поступі́ць зао́чно вучы́цца. Ву́вучыла всю програ́му. А буў у мене́ друг, не кавале́р, а про́сто друг. Вон мене́ ўсегда́ зваў Тацця́на с трудодня́мі. Вон почу́ў, шо я хо́чу поступі́ць, дай пута́е. А я кажу́: «Хо́чу, вжэ ш всю програ́му ву́вучыла». А вон ка́жэ: «Гэ́то тры-чоты́ры го́ды вучы́цца, а колі́ ты за́муш по́йдзеш?» А я гэ́тэ ў го́лову ўзяла́ да оста́віла гэ́ту вучо́бу. Да́льшэ робі́ла на том свіна́рніку. Так получы́лос, шо ўжэ і два́ццаць трэ́йці гот пошо́ў мне. Кавале́роў ўжэ такі́х не було́. Піса́ў одзі́н хло́пец з а́рміі, з бра́том служы́ў, піса́ў, шо прые́ду. У мене́ і фотогра́фія ёго́ е.

От ко́ле коло́дзеса чэ́рпаю я во́ду ў коры́то… Ідзе́ хло́пец. Такі́ красі́вы, высо́кі, чэрня́вы. Я ёго́ не зна́ла. Постоя́лі мы ко́ле коло́дзеса, поговоры́лі і вон пойшо́ў. А я ста́ла, ўслед гледжу́ да

ду́маю: «От хло́пец! Да не мне, молоды́ ш…» На п'яць гот мене́ молоды́. Вон робі́ў пастухо́м. Ка́жды дзень прыхо́дзіў у свіна́рнік, до́ўго стоя́ў. Ніхто́ не знаў, чого́ вон прыхо́дзіць сюды́, і я не зна́ла. Ве́чэром ко́ле клу́ба потхо́дзіць до мене́ і зо мной доха́ты ўжэ йдзе. Я ёму́ кажу́, шо не ходзі́ больш за мной, тобе́ шчэ на́да ў а́рмію, а я ш стар́эйша за цебе́. Седзе́лі одзі́н раз, а я кажу́, шо дава́й роста́номса, а само́й так не хо́чэцца, бо люблю́ ш. Пойшла́ доха́ты. Вон одышо́ў тро́хі да як запое́ пе́сню. А я стою на га́нку, пла́чу... Не́як прышо́ў, сказа́ў, шо бу́дом жэні́цца. Куды́ жэні́цца – п'яць гот а́рмія. Але́ рэшы́ла, хоч дзіця́ з любі́мым роджу́. І дру́гого февраля́ була́ на́ша сва́дзьба. Ўсе каза́лі, шо я ёго́ обдуры́ла. Жыць нам не було́ дзе. До а́рміі ў нас дзе́вочка родзі́лас. Забра́лі ёго ў Мі́рны служы́ць, там, дзе радзіа́цыя. Я ўсе пі́сьма ёго́ з а́рміі сохрані́ла, і вон прывёз ты́е, шо я ёму́ напі́сала. Ну, вон прышо́ў з а́рміі. Я іду́ на фе́рму, а мене́ ўстрэча́е прэцседа́целя колхо́за. Да ка́жэ, шо вон чуў, шо мужы́к мой прыйшо́ў з а́рміі, шоб прышо́ў да получы́ў лес на ха́ту. А ніхто́ нам ру́бліка не даў ні едзі́ного, ніхто́ нам не помо́г. Ха́ту самы́е ўдвох поста́вілі. Я шчэ одну́ дочку́ народзі́ла, як ха́ту стро́ілі. Пото́м, як дзіця́ці буў одзі́н ме́сяц, покі́нула её і пошла́ зноў на фе́рму робі́ць.

**Літаратура**

1. Клімчук, Ф. Д. Гаворкі Заходняга Палесся / Ф. Д. Клімчук. – Мінск: Навука і тэхніка, 1983.
2. Крывіцкі, А. А. Дыялекталогія беларускай мовы / А. А. Крывіцкі. – Мінск: Вышэйш. шк., 2003.

*Н. В. Сівіцкая, У. М. Сівіцкі*

## УЗОРЫ ГАВОРАК ГЛЫБОЦКАГА РАЁНА

***Расказвае Зоя Сцяпанаўна Грыгаровіч, 1925 г. н.****; запіс зроблены ў в. Сеты ў 2007 г.*

### Пра чараўнікоў

У Касаро́ўшчыне быў чараўні́к. Э́та да́ўна-да́ўна было́, ні пры мне. Дык ён благо́е рабіў, абы-што́. А ў Во́саве быў чалаве́к, като́ры яго́ ды атрабля́ў, яго́ныю гэ́тую ўсю бале́сь атрабля́ў. У нас было́ с Касаро́ўшчыны дзьве ба́бы. Адна́ жэ́ншчына жа́ла там у яго́. Се́лі палу́днаваць і паста́вілі во́тку. І йіна́ на яго́ ўсьпіла́, ну, ка́жыць, будзь здаро́ў. На яго́, ра́зам сядзе́ў. Як схваці́ў жыво́т, ба́ба счарне́ла. Жо́нка крычы́ць на яго́: «Атрабля́й», а ён ка́жыць «Яшчэ́ ні пара́». А тады́ атрабі́ў. «Ваўкі́» во цяпе́р у нас тут празыва́юць касаро́ўцаў – за што? Се́ла сва́дзьба за стол, ён прышо́ў у ха́ту. Вы́лізьлі ўсе з-за стала́ і пашлі́ выць як ваўкі́ каля́ ле́су – пашлі́ ў лес, уся́ сва́дзьба. Каля́ ле́су як ваўкі вы́юць і вы́юць. За гэ́та празыва́юць іх «ваўкі́», і цяпе́р празыва́юць. Лю́дзі як лю́дзі, пашлі́ каля́ ле́су й вы́юць. Врэ́мя прайшло́ – і ні́чо́га. А мой дзет – была́ тут сва́дзьба, сюды́ у Се́ты за майго́ дзя́цьку йшла ба́ба. Пае́хаў жа ён, скры́ню атту́ль павязе́ць – ста́ршый сват. «Вот, – ка́жыць, – выважу́, сабра́ўся, ай, пае́ду я з гэ́тай Касаро́ўшчыны, ужо́ надае́ла», – сьмяе́цца. – Пае́ду дамо́ў, скры́ня ш упаро́т, пае́ду». А ён стаі́ць, ка́жыць: «Прые́дзіш» – «А, ні прые́ду». Паку́ль за ноч – ліцо́ зьвярну́ла набо́к і расьпёрла. І пае́хаў да яго́. «А ты ш каза́ў ні прые́дзіш! А я табе́ сказа́ў, што прые́дзіш.» Во як было́.

Пра яго́ яшчэ́ раска́звалі. Геле́на така́я была́ Слесару́к тут у нас за́мужам. У яе́ было́ дзьве сястры́, йіна́ трэ́цяя. А як радзі́лісі ма́льчыкі, ўсе ўміра́лі. Тады́ што. Узя́ў ба́цька пае́хаў ле́пшага іска́ць чараўніка́. Прывёз, зна́еце адку́ль? – з Бу́бнаў, а дзе ты́е Бу́бны, саўсём ні зна́ю. І сказа́ў [прывезены чараўнік]: «Да́йця мі́ску вады́», паста́віў на́ куце, а вы, ка́'ыць[1], ідзі́ця на ву́ліцу і капа́йця кругом. І вы́капалі ко́стку – ко́нская ці каро́ўская, вы́капалі ко́стку. «Цяпе́р, – ка́жыць, –

[1] Сімвал ' абазначае адсутнасць гука.

Мікі́та, бяры́ гэ́ту ко́стку і ве́шай над чале́сьнікам». Как паве́шаў, сра́зу лёг гэ́тат чараўні́к [што навёў порчу], сра́зу лёг, захварэ́ў. Ну, тады́ ж даўне́й было́ – стра́жнік, ура́днік, прые́халі, ка́жаць: «Ну, Мікі́та, гэ́та ш ужо́ ня ве́рнеш, а што ты чалаве́ку...» – «А што, – ка́жыць, – ён мне рабі́ў?» – «Ну, як-нібу́ць...» Вы́цінуў гэ́ту ко́стку. Тады́ ўжо падня́ўся, а то хварэ́ў. А гэ́тат чараўні́к, като́ры яго́ атрабля́ў, на́да было́, ка́жыць, ня вы́цінуць, а закапа́ць – сра́зу ўсё яму́. Э́та пра́ўда было́.

***

Адна́ раска́завала – пі́рад Я́нам яны́ пашлі́ ў ба́ню удзьвёх, глядзі́м – а з другой ба́ні ляці́ць ба́ба – надзе́ла кажу́х – то́лька кажу́х, на го́лае це́ла – і на тэй бок. Прашла́, тра́пка, цадзі́лка, што малако́ цадзі́ць, раса́, во гэ́дак во гэ́тай тра́пкай і тады́ ў вядро́ гэ́ту расу́. Во гэ́дак каро́ў по́рцілі. А мы, ка́жыць, як спужа́лісі! І баі́мся з ба́ні выхадзі́ць. Э́та на Я́на бальшынство́ по́рцілі каро́ў. Гэ́та есь зако́н – пі́рад Я́нам, ці яка́я куцьця́, ці пі́рад вялі́кім сьвя́там – ісьці́ чаго́-нібудзь пазыча́ць. Ну нас быў такі́ брат мой дваюрадны малы́, ідзе́ць йіна́. Ка́жыць: «Цёця, ні дава́й нічо́га, На́дзя йдзе́ць!» Прыхо́дзіць: «Ай, мо́жа ў вас які́я ёсь бліску́чыя бума́жачкі, ці што, вот мая́ ўну́чачка ёлачку хо́чыць ста́віць». Ма́ма ка́жыць: «Німа́ ў нас нічо́га». Нільзя́ дава́ць нічыво́. Рас – ужо́ ў калхо́зе было́ – на Ра́даўніцу сабра́лісі ўсе, ідзе́ць йіна́: «Мо́жа, мушчы́ны, у вас у каго́ ёсьць сьпі́чкі, вот печ патце́пліць німа́ сьпі́чак». А адзі́н мушчы́на, ну што – торк сьпі́чкі свае́. І ве́чарам каро́ву ні загна́ць у хлеў усі́м кага́лам. А ў гэ́нага чалаве́ка сістра́ была́ – уда́лая ба́ба. «Я, – ка́жыць, – таку́ю тваю растаку́ю, заб'ю цябе́! Паспро́буй што-ніб́удзь зрабі́ць – заб'ю!» Але́ ўсё ро́ўна.... Як со́нца за́йдзіць – нільзя́ пазыча́ць. Каро́ва ацялі́лася – фсё, ня йдзі пазыча́ць, нільзя́.

**Хрэсьбіны**

– Як выбіралі кума з кумой?

– Ну, гэ́та з радні́. І так, біз радні́, і чужы́я хры́сьцююць. У нас так на́да, кап ста́лыя былі́ кумы́. А ў стараве́раў на́да ма́ленькіе кумы́ кап былі саўсём – во́сім-дзе́сіць лет – вот такі́е.

– У нас жанатыя кумы павінны быць?

– Не, біз ра́зьніцы. Я дзе́ўкаю хрысьці́ла. З радні́ бо́лі бяру́ць.

– Калі дзеці паміралі, што рабілі?

– Гэ́та было́. У іх умі́ралі, ні сра́зу умі́ралі дзе́ці, а такі́е былі́ бале́зьненныя і ўміралі. Гэ́та гавары́лі, што цыга́нка ім зрабі́ла гэ́так. Бра́лі кумо́ў. Ну, вот вы́йшаў ба́цька на ву́ліцу – ідзе́ць гэ́тат чалаве́к – ты будзь мне ку́мам – найдзённы кум. Ці кума́. Зна́чыць, любы́. Адна́ жанчы́на каза́ла: рабёнка ні вынасі́лі празь дзьве́ры – праз акно́ на́да перадава́ць куме́.

– На хрэсьбіны пяклі кашу?

– Сухары́ – э́та ба́пка нісла́ ўжо ка́шу. Вялі́кую мі́ску напячэ́ць сухаро́ў які́х там, а тады́ бу́дзіць усі́м дава́ць, бу́дуць гро́шы – за ка́шу бу́дуць плаці́ць. Бу́дзім ба́біну ка́шу дзялі́ць. Усі́м – Іва́ну, мне, ўжо ўсім даюць, ну і ско́лька хто пало́жыць – капе́йкі даюць, ніхто́ іх ні шчытаў, ні каза́лі, ско́лька. Ба́бі дава́лі, э́та за ба́біну ка́шу. Стаі́ць мі́ска бальша́я. У цябе́ ўзя́лі ві́лку, укало́лі – пажа́ласта, ба́бінай ка́шы паспыта́йце, ці до́брая ба́біна ка́ша? Ці до́бра ба́ба сьпікла́, ці звары́ла? Ай, хва́люць жа ш. Ужо́ ба́ба – маладзе́ц ба́ба, хоць стара́я, але́ до́бра. Йіна́ сама́ дзялі́ла.

У мяне́ То́лю хрысьці́лі – тры дні ґуля́лі. Перахрысьці́лі мы яго́ – ён радзі́ўся ў Глыбо́кім – перахрысьці́лі там у Глыбо́кім, у январы́, два́ццаць васьмо́га январа́, а тады́ хрэ́сьбіны сабра́лі. Тры дні, гармані́сты, ха́та была́ другая – танцава́лі тры дні.

– З вёскі маглі прыхадзіць на хрэсьбіны другія людзі?

– Не. Гэ́та ні сва́дзьба. То́лька прыглашо́ныя. На хрэ́сьбіны ні прыхадзі́лі, не, ніхто́. Ну, рабя́ты ш прыбягу́ць.

– Як бабку праважалі?

– Ба́пку? А на бара́ну садзі́лі. Зімо́й жа – са́ні, запрагу́ць, а тады́ там мо́жа яку́ю бара́ну. Ба́пку са́дзяць на бара́ну і павязьлі́ ката́ць па дзярэ́ўні. Мушчы́ны ўпрага́юцца і папёрлі па дзярэ́ўні.

Гарэ́лкі вязу́ць і даю́ць хоць каму́. Фстрэ́цілі каго́: «Вы́пійце за на́шага новараждзённага тако́га і тако́га». Ду́жа вазі́лі на бара́не ба́бу гэ́ту, вазі́лі, ах ей! А йіна́ во́зьміць до́бры прут і паганя́іць гэ́тых «кане́й». А во тут у нас фстрача́лі. Хрысьці́лі тут аднаго́, Ва́ньку. А ў мяне́ ніко́га нет – у ха́ту прышлі́! Кажу́: «Німа́ ў мяне́ ніко́га» – «А нам до́бра й ба́пка!» І мне – я сто грам гарэ́лкі вы́піла: «Вы́пійця за Ва́ньку!» – «Каб здаро́вы быў, і бальшы́ рос, і разу́мны! Вы́п'ю за Ва́ньку!»

На хрэ́зьбінах пяю́ць ба́пкі:

Ці ве́даеш, ба́пка,
Ці ве́даеш, лю́пка,
За што пада́ркі бярэ́ш,
За што пада́ркі бярэ́ш?
Што хадзі́ла ча́ста
І насі́ла сма́чна
Да радзі́чкі сваé́й,
Да радзі́чкі сваé́й.

Мужыку́ пяю́ць:

Дзя́куй таму́ кавалю́, кавалю́,
Што зрабі́ў ён нам гульню́, нам гульню́
Малато́чкам ня сту́каў, ня сту́каў, ня сту́каў,
Ён у ру́чкі ня ху́каў, ня ху́каў, ня ху́каў,
Дзя́куй таму́ кавалю́, кавалю́, кавалю́,
Што зрабі́ў ён нам гульню́, нам гульню́, нам гульню́.

### З жыццёвых успамінаў

Ну, у нас гавары́лі, што радзі́ўся баху́р. Ну, зна́лі чый. І пашо́ў той чалаве́к у хрэ́зьбіны да яго́. Пашо́ў, як хрысьці́лі э́тага рабёнка. Жана́ты э́тый чалаве́к быў, йіна́ за́мужым, і мужы́к быў. А яны́ то́жэ такі́е былі́ – на та́нцах гато́вы былі́ пабі́цца – ну, э́та даўне́й было́. Го́рдые, мушчы́ны харо́шые, красі́вые. А жо́нка гэ́тага, като́ры пашо́ў – ка́жыць, заб'ю́ць яго́. Што ён, ка́жыць, чаго́ ён пашо́ў? А ён пашо́ў, палажы́ў дзе́сіць рубле́й на ба́біну ка́шу, – дзе́сіць рубле́й э́та до́рага, э́та по́сьле вайны́ было́. І яго́ – зна́еце, лю́дзі ні дурны́я – так прыгласі́лі, так уґасьці́лі – як ніч́ога ні быва́ла. Ніхто́ ні злава́ў, ніч́ога, прыгласі́лі, за стол пасадзі́лі, і ён там адбы́ў как чалаве́к. Во! Яго́ как до́брага па́на ува́жылі – ну што ўжо, нашто́ ш паднімá́ць гэ́тат бунт, ці там было́, хто там то́чна зна́іць. Маладзе́ц. Ма́ліц о́чэнь харо́шы.

### Казка пра Трышку

Прышо́ў чалаве́к з база́ру з го́раду і ка́жыць: «Пры́дзіць січа́с да нас Тры́шка і бу́дзіць усі́м кры́шка!» Лю́дзі спужа́лісі – што рабі́ць? «Усі́х, – ка́жыць, – бу́дзіць ці біць, ці душы́ць». Адна́ ба́ба гаво́рыць: «Я пайду́, у жы́та ся́ду, бу́ду пірапёлкай пець, мо́жа пці́чку Бо́жую хоць пажале́іць». Мушчы́на ка́жыць: «А я пад варо́тцы, бу́ду ма́лінькім саба́чкам браха́ць, мо́жа ні зачэ́піць». А ба́ба ка́жыць: «А я пайду́ у чаро́т – у трысьні́к – і бу́ду як ву́тачка із вуценя́тамі, дзяце́й мо́жа пажале́іць». Глідзя́ць – ідзе́ць Тры́шка, галава́ вялі́кая, патхо́дзіць блі́жы – купі́ў чалаве́к бачо́нак на база́ры, на галаву́ надзе́ў і йдзець. Дык во йкі быў Тры́шка – бу́дзіць усі́м кры́шка!

***Расказваюць В. С. Анашкевіч, 1935 г. н., Л. М. Анашкевіч, 1935 г. н., М. І. Анашкевіч, 1940 г. н., Л. Д. Цалка, 1945 г. н.****; запіс зроблены ў в. Шо ў 2007 г.*

### Пра вёску Шо

Во́зера Шо і рака́ Со́ша. Дзе пуп Яўро́пы – там во́зера. Не́йкі пан ту́така жыў. Па́ня жыла́ у дварэ́, йіна́ была́ глуха́я. А пу́тнікі шлі, заблудзі́лісі і пыта́юцца, йіка́я гэ́та вёска. А йіна́ ні

пачу́ла, крычы́ць: «Шо?» – шо яны́ гаво́руць? А яны́ апя́ць ей: «Йіка́я гэ́та дзярэ́ўня?» – А йіна́ апя́ць: «Шо?» – пыта́ецца, – што? Што яны́ гаво́руць? Ну вот з гэ́тага і пашла́ на́зва дзярэ́ўні Шо. Пан жыў, фамі́лія была́ яго́ Шо. Гэ́дак і гэ́дак ка́жуць.

### Пра вёску І́весь

Там то́жа пан жыў такі́й. Гавары́лі, што адра́зу было́ во́зера то́лькі. А тады́ як ста́лі стро́іць. Во́зера і весь – ну, весь гэ́та як бы вёска ране́й. Ну і ста́лі называ́ць вёску Весь і тады́ ўжо і на́зва пашла́ – во́зера і весь, во́зера і вёска, на́зва так і пашла́ – І́весь. А тады́ ўжо і саўхо́з быў.

### Жаніцьба Цярэшкі

На Каля́ды Цярэ́шку жані́лі. Як Каля́ды, тады́ на пе́рвый дзень – сёмага. Як сьцямне́іцца, тады́ сабіра́ліся, дзе была́ бальша́я ха́та. Тады́ ш яшчэ́ сьве́ту ні было́, пры ла́мпі, да́жа й лучы́на йшчэ й была́ тады́. Цэ́лую ноч танцава́лі. Снача́ла та́нцы, а тады́ ўжо выбіра́лі «ба́цьку», «ма́тку» і злуча́лі па́ры. По́льку як заігра́юць, так поўчаса́ даёш! Даўне́й таку́ю круту́ху – і цэ́лую ноч.

Прыхо́дзіць маладзёш на та́нцы, танцу́юць. Выбіра́юць «ма́тку» і «ба́цьку». А тады́ ўжо като́ры хло́пец там із дзе́ўкай лю́біцца, ці што – гэ́так ужо́ зна́юць – «ма́тка» патхо́дзіць да «дачкі́», да дзяўчы́ны: «А ці бу́дзіш ты з гэ́ным жані́ць?» А «ба́цька» патхо́дзіць да ма́льца: «А ці бу́дзіш ты з гэ́най жані́ць?» – «Ну, сагла́сна». «Ба́цька» вядзе́ць на ха́ту «сы́на», а «ма́тка» – «дачку́». «Ляво́ніху» йгра́юць, кру́цюцца. Пар пітна́ццаць гэ́ткіх злу́чуць, а тады́ стано́вюцца ў рат – с аднаго́ бо́ку ма́льцы, з гэ́нага бо́ку дзіўча́ты. За ру́кі бяру́цца. Вот сло́вюцца круго́м гэ́ных «бацькі́», тады́ ло́вюць «дзяды́» «бап» круго́м гэ́тага. І пасяро́д вяду́ць і пяю́ць «цярэ́шку». Тады́ танцу́юць, падво́дзюць дамо́ў гэ́тыя «дзяды́» «жо́нак» сваі́х. Ну а наза́ўтрае ма́льцы нясу́ць гарэ́лку, дзе́ўкі нясу́ць кілбасу́, стол у ваднэ́й ха́ці, ну і гуля́юць гэ́дак. Гэ́та ўжо днём. А тады́ та́нцы апя́ць.

Даўне́й жа ш прыхадзі́лі ня то́лькі ш маладзёш. Усе́, і мушчы́ны – по́ўна ха́та – гэ́тые глідзя́ць ужо́ на сваі́х сыно́ў, на сваі́х дачо́к. А выбіра́лі «ба́цьку» і «ма́тку» са старэ́йшых, като́рые жана́тыя. Танцу́юць, танцу́юць, а тады́ гармані́ст заігра́іць «цярэ́шку» – во тады́ начына́юць выбіра́ць «ма́тку», «ба́цьку». А быва́іць, хто ня хо́чаць іс кім жані́ць, упіра́юцца, як хто ня лю́біць каго́. Як ужо́ дру́жаць жа тро́ху, ну дык с ахо́тай жа жэ́ніш, табе́ даду́ць «дзе́да» каго́ ты лю́біш. А як даду́ць тако́га, што ня хо́чыш, тады́ хава́ешся.

### Песні-«цярэшкі»

Цярэ́шка, таку́, таку́,
Што ў цябе́ ў мяху́, у мяху́?
Іго́лачкі, шпі́лечкі, залаты́я пярсьцёначкі.
Дзет ба́бу тапі́ць вядзе́ць,
А ба́ба крычы́ць, ня йдзе́ць,
Дзет ба́бу шупо́х на дно –
«Ой, дзе́дзечка, мне тут дабро́».

***

Цярэ́шка-цярэ́жала,
На пе́чы ня ўле́жала,
Ой, пайду́, пайду́,
Мо́жы, я дзяду́льку найду́.
Ой, біда́, біда́,
Ой, да́лі staро́га дзіда́.
А як жа ш гало́ўка балі́ць,

А як жа старо́га лаві́ць?
Сьнімі́ці ручу́ з акна́
Ай, да́йце дзяду́льку, як я.
Ой, сьня́лі ручу́чку з акна́,
Ай, да́лі дзялу́льку, як я.
Ай, дзе́дзічка, да́йся, да́йся,
На другі́х не загляда́йся,
Другі́я з ума́ зьвяду́ць,
С табо́й нам разлу́ку даду́ць.
Другі́я не пе́ршыя,
За мяне́ хужэ́йшыя.
Як пайду́ я каро́ўку даі́ць,
А за мно́ю Давы́д бяжы́ць.
Давы́да-Давы́дзіла,
Я цябе́ ня ві́дзіла.
Кі́ну я даёначку
Давы́ду ў гало́вачку.
Кап цябе́ каду́к задра́ў,
Як ты мне фарту́х падра́ў.
Гэ́та мне тату́сь купі́ў,
Кап мяне́ Пятру́сь любі́ў.

**Калядныя звычаі, гульні і забавы**

Куцьця́ пе́рат Каля́дамі была́. По́сная куцьця́. Перш было́ двіна́ццаць по́сных блют. Пе́рад Но́вым го́дам куцьця́. І пе́рат Кшчэ́ннем то́жа куцьця́ была́. Пе́рат Ражаство́м, пе́рат Каля́дамі прыно́сюць се́нца на стол кладу́ць, тады́ насто́льнічкам бе́лым закрыва́юць – э́та ш Ісу́с Хрысто́с радзі́ўся у карму́шацці на се́нцы. Ва́руць ка́шу, кісе́ль – по́снае. Тады́ садзя́цца, на э́тым се́ні паяду́ць, а гэ́та усё астае́цца на́нач – усе́ блю́да астаю́цца. Наза́ўтрае тады́ сьніма́юць гэ́та ўсё. А се́нца гэ́та нясу́ць скаці́ні – аве́чачкам, канькý, каро́ўцэ абіза́цельна даду́ць паесьці. А тады́ йішчэ́ гэ́тага се́нца як са́дзюць куры́цу на я́йках – на э́тым се́нцы на́да садзі́ць, тады́ каршу́н ніко́лі ні дзярэ́ць гэ́тых ку́рак. А ка́шу гэ́ту – ку́ркам нясу́ць – сьве́чачка гары́ць, гэ́та ку́ркам нясу́ць. Бліны́ ш пяку́ць на Раждзество́, перва-на́перва бліны́ пяку́ць і даюць тады́ аве́чкам. І паку́ль са́дзяцца е́сьці на Раждзістьво́, паяду́ць, а тады́ ціга́юць се́на і глідзя́ць, като́рая даўжэ́йшая сеніна́, ма́ма мне расказывала, у таго́ бу́дзіць лён са́мы бо́льшы.

– А чаму скаціне даюць?

– А таму́, што Ісу́с Хрысто́с радзі́ўся у я́сельках, калі́ скаці́нкі. Са́мы пе́рвы блін як сьпяку́ць на Раждзістьво́ даюць аве́чкам, таму́ што ён у аве́чках, у карму́шачцы...

– Хто кіраваў калядным застоллем?

– Хазя́ін. Бацькі́. Сьве́чку паста́вюць, Бо́гу памо́люцца – усе́ садзя́цца е́сьці.

Зва́лі сваі́х, умёршых. І ў ба́ні, быва́іць, мы́юцца: «Прыхадзі́це, Дзяды́, мы вам вады́ кі́нулі, прыхадзі́ці мы́цца. І прыхадзі́ці к нам на вячэ́ру». Гэ́та ўжо старэ́йшыя, ня дзе́ці, а ўжо ба́цька, пыме́рна, наш і ма́ці зва́лі. Палі́лі сьве́чку, пе́рад іко́най станаві́лісі іс ка́шай і гавары́лі, што прыхадзі́ці – памі́на́лі і́мі, като́рыя Дзяды́, і гавары́лі, кап на вячэ́ру. Малы́е сядзі́м, а сьмех не́йкій бярэ́ць, ба́цька лы́шку дзерав́янную – як дась па лбе!

Ма́ма мая́ то́жа каза́ла, як у ба́ні мы́лісі, то кажды́й рас каза́ла, што на́да ш, кап там вады́ астало́ся, што Дзяды́ пры́йдуць мы́цца. Вядро́ вады́ ста́вілі на пало́к, я по́мню, і ве́нік кла́лі. Гэ́тай вады́ ўжо ніхто́ ні чапа́іць.

***

А як на Но́вы гот – я по́мню, як ма́ма то́жэ – бага́тая ўжо куцьця́ зва́лась – тады́ ўсе садзі́ліся е́сьці, то́жа све́чку – і зва́ла заўсягды́ маро́за. Ста́ніць у вакне́ й гаво́рыць: «Маро́с, маро́с, хадзі́ куцьцю́ е́сьці». А мала́я: «Дзя́куй, дзя́куй, еў, сеў на ко́ніка й пае́хаў». А я по́мню, што ма́ма гавары́ла, што на́да маро́за звац таго́, што кап ні памаразі́ў пасе́вы. Тады́ гаво́рац, як пазаве́ш маро́за на куцьцю́, тады́ ўжо і ні змаро́зіць пасе́вы. Задо́брыць яго́.

***

А маладзёш варажы́ла. Палятў́уць куды́, аха́пак дроў прыпру́ць– украду́ць, пашчыта́юць, калі́ ў па́ру, тады́ вы́йдзіць за́муш, калі́ ні ў па́ру – не. Тады́ ка́жын ат сябе́ пасы́піць жме́нічку дабра́. І вы́пусьцюць куры́цу. І гэ́та куры́ца дзіўбане́ць – гэ́та вы́йдзіць за́муш. А ў не́катарую напаску́дзіць – ну, хахо́чуць тады́. Гэ́дак дык і я варажы́ла. Была́ Ґа́ля Часо́віч, На́дзя і я. І ў Жэ́ньнькі ў гэ́тай мы гэ́дак сабра́ліся на куцьцю́. І мы гэ́дак то́чна пасы́палі і то́чна – пе́ршаю уклю́нула На́дзіну. Тады́ ўжо маю́. А тады́ Ґа́ліну. Гэ́дак і палучы́лася. Мы так і вы́йшлі за́муш. Куры́ца была́ ў Алёксаву ды напаску́дзіла ку́чку. Як хвацíў за хвост гэ́ту куры́цу, як жа́рнуў!

Па вадзе́ ш пуска́лі – ваду́ і тады́ све́чку, не́як нале́плівалі бума́жак – іме́ньне усякае і тады́ пуска́лі гэ́ту све́чку па вадзе́. Ці э́та бума́жына загары́цца, дык то́жа за́муш вы́йдзіш.

А я ха́ту памілá і лігла́ спаць. І ні зна́ла, што ма́ма пат крава́ць паста́віць ваду́. Ні гавары́ла ні сь кім, лігла́. І сасьні́лася – пашла́ во да іх (я і заму́ш вы́шла у і́хную ха́ту) – парсючка́ купі́ла, ў мяшо́к і дамо́ў прынісла́. Ікра́с у гэ́ну зіму́ й за́муш вы́йшла.

***

– Чаму не можна нічога рабіць у святыя вечары?

– Ні шыць, ні дзю́рак ніякіх зашыва́ць – ну тады́ на скацíну вліяла, калі́ дзю́рачку яку́ю зашы́іш, то каро́ўка ця́шка це́ліцца, то сьві́начка ця́шка паро́сіцца. Ду́жа лю́дзі гэ́та саблюда́лі.

Ма́ма мая́ даўне́й гавары́ла, што ба́цька е́йны ў сьвяты́ ве́чар стаў віць вяро́ўкі. А ба́бушка мая́, жо́нка яго́, гаво́рыць: «Ня ві ты вяро́ўкі, Анто́н, што ты ро́біш, у нас жа ш скацíна ўся – аве́чкі там пакры́тые былі́. Радзі́ліся ягня́ты і но́шкі былі́ пакру́чаныя. Бярэ́мінныя то́жэ ду́жа ўважа́лісі. Бывала, вліяла і на дзяцей.

***

Ні казу́ ні вадзі́лі, нічо́га гэ́тага ў нас ні было́. Так хадзі́лі на сяло́, арэ́хі насі́лі, арэ́хамі адзі́н аднаго́ ўгашча́лі. Ну і ўга́давалі – цо́тка ці лі́шка. Вот во́зьмеш у жме́ньку арэ́хаў – цо́тка ці лі́шка? Е́слі ска́жаць – лі́шка, а ты во́зьмеш па́ру, тады́ ён аддае́ць, а калі́ ўгада́еець, тады́ ты яму́ аддае́ш. Гульня́ гэ́ткая. І стары́я гуля́лі. Але́ арэ́хі на́да былі́ кап былі́ лясны́я.

– Чаму на Каляды арэхамі угашчалі?

– Ёсьць леге́нда, што Ма́ці Бо́жая хава́лася пад ляшчы́ніну, пад арэ́шнік.

***

У фант інцірэ́сная была́ гульня́. Вот адзі́н стаі́ць, а гэ́тыя усе́ сідзя́ць. А ён вот ско́ранька: «Варо́на фу, стол фу, ха́та фу». Варо́на літа́іць, э́та на́да падыма́ць. А стол жа ш ні ляці́ць, па ашы́пцы – і пады́міць хто. Вот зь яго́ фант – хусьці́нку зьдзяру́ць з галавы́, у карзі́нку, у таго́ ша́пку зьдзяру́ць, мно́га фа́нтаў. Ну й тады́ гэ́тые ўсе пасадзя́цца, вы́беруць судзьдзю́, каторы ня ві́дзіў, які́я фа́нты, завя́жуць яму́ во́чы: «Ну, што гэ́таму фа́нту прысу́дзіш?». Стары́ Міхалчо́нак быў у нас. А ўжо ушчы́пюць гэ́тага [суддзю], кап ён знаў ужо́, чый фант: «Гэ́таму фа́нту на́да вы́йсьці на ву́ліцу і крыча́ць: «Жані́цца хачу́!» А ён удаве́ц. І крычы́ць: «Жані́цца хачу́, жані́цца хачу́!» Но тут хахо́чуць тады́. «Гэ́таму фа́нту на́да гусі́ным ша́гам пахадзі́ць». Ско́рчыцца да йдзець: «Га-га-га». Ну, нахахо́чымсі, кап вы зна́лі, як сьме́шна!

*Н. В. Сівіцкая*

## З НАРОДНАЙ ПЕДАГАГІЧНАЙ СПАДЧЫНЫ

***Расказвае С. А. Долгая 1921 г. н.**; запіс зроблены ў в. Кашталянаўшчына Глыбоцкага р-на ў 2007 г.*

### ЗАБАЎЛЯНКІ

1.
Ішóў бай па сцяне́,
Нёс сямёра лапцéй –
І дзіцёнку па лапцёнку,
І жане́, і сабé,
Бáяць ці не?

2.
Вірабéйка памёр,
Яму́ вéчны пакóй.
А ліс́іца галас́іла,
Му́ха клёцкі мяс́іла,
Камáр дóскі часáў,
Мядзвéдзь я́мку капáў,
Вірабéйку хавáў.

3.
– Чык-чык сарóка,
Дзе былá далёка?
– Бы́ла ў пáна на таку́.
– А што чу́ла?
– Талаку́.
Пáні сы́на радз́іла
Як сóнейка ўсхадз́іла,
Прóці пéчы седзючы́,
Тóнкі ку́жаль прадучы́.
Паткац́іўся вугалёк,
Загарэ́ўся кужалёк,
Шáпкай ваду́ нас́ілі,
Тóнкі ку́жаль гас́ілі.

4.
– Чык-чык сарóка,
Дзе былá далёка?
– Бы́ла ў пáна на таку́.
– А што чу́ла?
– Талаку́.
Пáні сы́на радз́іла,
На кóніка садз́іла.
Кóнік варанéнькі,
Сынóк маладзéнькі.
Кóнік пахіл́іўся,
Сынóк укул́іўся,
Кóнік ні нап́іўся,
Сынóк утап́іўся.
Пашл́і бáбы за вадóй,
Нашл́і сы́на з барадóй.

5.
– Ты́нцы-лы́нцы, балалáйка,
Ты́нцы-лы́нцы, заіграй-ка!
– Ты́нцы-лы́нцы, ні хачу́,
Ты́нцы-лы́нцы, спáць хачу́.

6.
– Ты́нцы-лы́нцы, куды́ éдзіш?
– Ты́нцы-лы́нцы, у гарадóк.
– Ты́нцы-лы́нцы, што паку́піш?
– Ты́нцы-лы́нцы, рукавóк.

7.
Чыры́к-чыры́к барáна,
Паéдзім да пáна.
Пáна дóма ні нашóў,
Завярну́ўся і пашоў.

8.
Зарэ́жым барáна,
Паéдзім да пáна,
Паéдзім да Бóга,
Зарэ́жым другóга.

9.
– С́іка-сíка, падáй лы́ка.
– Наштó лы́ка?
– Пу́гу віць.
– Наштó пу́га?
– С́іку біць.

10.
– Лáсіца, лáсіца, дзе былá?
– У лес хадз́іла.
– Што раб́іла?
– Арэ́шкі зьбірáла.
– Чаму́ мне ні далá?
– Забы́лася.
– А ні забывáйся!

11.
Сарóка-варóна кáшу мішáла,
Дзéткам давáла:
Гэ́таму далá, гэ́таму далá, гэ́таму далá,
А гэ́таму ня вы́пала.
Бяжы́, мы́шка, у крын́іцу
Па халóдную вадз́іцу.
Тут пень, тут калóда,
Тут мох, тут балóта,
А тут крын́іца,
Халóдная вадз́іца.

12.
Бы́лі ў бáцькі тры сыны́,
Усé тры звáлісь Вас́ілі,
Адз́ін дрóўцы сячэ́ць,
Друѓі трэ́скі нясéць,
Трэ́ці ся́дзіць на камéні,
Дзéржыць ду́дку на рамéні:
«Ой ты, ду́дачка мая́!
Вісялу́шачка мая́!
Вісял́іла мяне́
У чужóй старане́,
А чужáя старанá
Хлéба-сóлі ні далá».

13.
Кукарэ́кі, пітушóк,
Пашы́ў бáпцы кажушóк.
Як пашы́ў, так надзéў,
І на бáпку паглядзéў.
Пашлá бáпка даíць Зóрку,
Зóрка яé рагáмі,
Бáпка яé нагáмі,
Як дасць кулакóм:
«Прападз́і ты з малакóм!»

**ДРАЖНІЛКІ**

1.
Баця́н, баця́н даўгано́сы,
Прада́ў бо́ты, а сам бо́сы.

2.
Баця́н, баця́н, кле, кле,
Твая́ ма́тка ў пе́кле,
А ба́цька на пло́це
У чырво́ным капо́це.

3.
– Як цябе́ заву́ць?
– Як кру́пы дзяру́ць.
– Кру́пы дзяру́ць дра́чкай,
Цябе́ заву́ць сра́чкай.

4.
– Што тут напі́сана?
– Кабы́ла лы́сая,
Жарабя́ сьляпо́е,
Зьеў воўк або́е.

*Г. М. Стральчук*

## ГАВОРЫЦЬ МАЯ СТОЛІНШЧЫНА

***Расказвае Марыя Рыгораўна Стральчук, 1929 г. н.**; запіс зроблены ў в. Вялікі Лес Столінскага р-на ў 2009 г.*

### Пра ткацтва

Ба́ло збіра́ліса ў хаты́ зымо́ю і пра́лі кудэлькі́ дэўкі́, а хло́пцы збіра́ліса, то сэды́лі, то віхры́лі, то нэкото́рые вэрэтёна робі́лі, кото́ры ўміў і ўсё. Да прадэ́м, да співа́ем вэ́чор, да і ўсё. А чо ш ты бу́дэш танцова́ты? Пра́лі, то ужэ́ ж бу́дэш пра́сты. Нэма́ колі́. Вэчора́мі э́то збіра́ліса зымо́ю. Свеиы́ты нэ було́ чым, да робі́лі такі́е, лямпочкі́ называ́лі, да наллю́ть туды́ карасі́ны. Да і сві́тыцца на туй карасі́ны. Сві́тымо, прадэ́м. Або́ лучы́ну на пры́пэку ло́жымо. Погоры́лі ш. Ны́мэц попалі́ў хаты́, а дэ яка́ ха́та стоя́ла, да збэрэ́мса да прадэ́м. Усэ́ ш погоры́ло, коп прыкры́ты ты́ло чым було́. Колхо́зу нэ було́ ў нас. Лю́ды жылі́ однолі́чно. Ныя́кого колхо́зу. Э́то колхо́с стаў по́сля войны́. А гэ́то шы до войны́ і по́сле войны́ пра́лі і пра́лі. І як колхо́с стаў. Лён сы́ялі на по́лю. Са́мі сы́ялі. Ужэ́ і колхо́с стаў, да сы́ялі. Як ві́рвэмо лён, да поколо́тым прача́мі, а пото́м постэ́лемо, да вы́лежыцца. Да бэрэ́м лён э́той (э́то ўжэ пры колхо́зу), да бэрэ́м лён. Покопа́ють такі́е рові́, да су́шымо. Да тэрныца́мі трэм, а пото́м трэпачка́мі трэ́племо да обдыра́емо. Да обдэрэ́м, да ўжэ прадэ́мо той лён. Да понапра́даем ілну́ да ўжэ ччэмо́. Ужэ́ снуе́м. Такі́е булі́ сну́ўныцы. Да снуе́м, да ўжэ на вороты́ло, да ччэмо́. А то называ́ецца стаў. А на ставу́ ўжэ вороты́ло, шо на пра́жу ту́ю нака́чваемо, шо напрадэ́м. Да нака́чваем ту́ю пра́жу. Ско́тым э́ту пра́жу, шчы трэ́ба іі́ па́рыты да тоўкты́, да ві́сушыты, а пото́м на тэ вороты́ло кача́ты. Да ско́тымо, да ўжэ ччэмо́ на тум ставу́. Стаў такі́ зро́бляны да і бэ́рдо. Да «уй!» э́то вэлі́ка пробле́ма. Бэ́рдо, шо сажа́ем ныткі́ ш у бэ́рдо, а на бі́лiцы прыбіва́емо ўжэ як ччэмо́, да прыбіва́емо, а чо́ўнык, шо закіда́емо цы́ўку. Цы́ўка, шо ўжэ намо́тваем ныткі́. Да як ччэмо́ да ўжэ закіда́емо ў просі́сьт. Ужэ́ полотно́ ро́біцца.

А прач, як трэмо́ лён да б’емо́, як на по́лю повірыва́емо да б’емо́ лён, сы́м’е обіва́емо прачо́м рука́мі. А ўжэ як трэмо́, да ўжэ лён посу́шымо на э́тых рова́х. Прач буў зро́блены з дэрэві́ны. Прач такі́ нэвэлі́кі. Прачы́ ны́дэ і ў нас лежа́ть.

Ужэ́ як поло́тна поччэмо́, поло́тна, пото́м бэрэ́м на дворы́ ўмоча́емо, сы́племо луг, по́пэл сы́племо да ўмоча́ем у по́пэл да тя́гнэм по грудку́. Да воно́ вісыха́е; да ві́сохнэ, да і зноў умо́чымо, да смі́чэм по грудку́, а пото́м ужэ́ ві́белімо, шо называ́ецца ві́белім, да ўжэ ры́жэмо, да шы́емо сорочкі́. Сорочкі́ і сподныцы́, і хусткі́, шчо хоч робі́лі с то́го полотна́. Бо ж нэ було́ нычо́го: погоры́ло ўсэ на сві́ты ў войну́. А ткáлі і по́сля войны́, шы до́ўго тка́лі. По́сля войны́ і ра́дна, і насту́лныкі, і ручныкі́ – усэ́ тка́лі. Там робо́ты – мо́рэ. Росказа́ты ўсю э́ту робо́ту...

### Пра пахаванне

Чоловíк умірáе – забірáецца ўжэ до Дрáкі, на мóліца, чэ́рэс сошý. Там чоловíк жыў, *лю́*ды там жылí. Хамíлія Крýпка, а Дрáкамі іх назывáлі. А ўжэ там мóліца. Потóм ужэ́ обмівáлі, убірáлі, на лáўку клáлі. Бо ж умрэ́, да жывэ́ шчы дэнь і нуч, ночýе ў хáты сво*ю́й*, а потóм ужэ́ трунý прывэзýть, крэстá зрóблять. На сáмэ дно – стрýжок, як трунý рóблять удóма – стрýжок, а не – да крóшкі сы́на полóжать і ў подýшэчку сы́на напхáють да полóжать. Да лóжать штаны́, да лóжатьноскí, да сорóчку, колí мужчы́на, усэ́, шчо трэ́ба лóжать: і шáпку лóжать. Грóшы ўжэ сы́палі як хорóнять, як ужэ́ ўпýстять у я́мку да ўжэ і кíдають грóшы, а потóм пэсóк кíдають. Нэзамýжну деўчы́ну бі ды́ўку ўбірáють: бíле плáтте, вэнкá, усэ́ налóжвають, бі як ідэ́ роспíсватыса чы вэнчáтыса; то так і ўбірáють, хоть і нэ ды́ўка да і ды́ўчынка, то тóжэ так: і вэнóчка, і плáттечко бíленькее, усэ́ лóжать. А хлóпца ўбірáють як молодóго, квэткí прышывáють. А вэдьмарý – мак. Кладýть мак, шоб вун нэ ўстаў да нэ ходы́ў, да мак сы́плють для гэ́того. А с тэ́ю своéю сы́лою хай шчо хóчэ там рóбіть. Покóйныку з'я́звають рýкі, покá нэ закля́кнуть, а на гóчы лóжать копэйкí, як ды́ўляцца. Як рот нэ роззя́ўляны, то нэ пуд'я́звають, а як роззя́ўляны, то пуд'я́звають полотéнцэм чы хýсткою. Штаны́ мужчы́ны, косцю́ма налóжвають, пуд ныс штаны́ налóжвають і мáйку ўкладáють, настýлныка кладýть, ручныкá кладýть у гроп. Мужчы́ны мáло, а жонóчыны багáто накладýть.

Лáўкі становíлі, да сяды́ліса лю́ды, як похорóнять да помінáють. А як вынóсять, то опсы́плють жы́том хáту да і ўсё, шоб у хáты булá жызь, шоб жылí – для гэ́того жы́том. Покóйныка вы́нэсуть – і зрáзу сы́плють жы́то. Як болéзь нэ опáсная, то годэ́жу носы́лі, а як якá опáсна болéзь, то пáлять, усэ́ спáльвають.

Потóм – у цэ́ркоў. У цэ́ркоў, да бáтюшко отпрáвіть да на мóліца провэдэ́, да і на мóліцах отпрáвіть колó могíлі, посвя́тыть.

Копэйкí кíдалі покóйныку, коб за мíсцэ заплаты́ў, бо гэ ж нэ плáтять жывы́е, да дають покóйныку. Крэсты́ зрáзу стáўлять. А ўжэ як похорóнять, то ужэ́ чэ́рэс ты́ждэнь чы чэ́рэс кýлько, чы чэ́рэз булш лóжать ужэ́ колóду, прыкладáють на могíлу, а крэстá – зрáзу. Такí ў людэ́й обíчай, шчо ўмэр і колóду клáсты, да шоб і, як скóро мóліца закладýть, да коб нэ выкóппалі. А ш чогó ш тоды́ робíтымуть? Тоды́ с цімэнтóвого нычóго нэ буló, с цімéнту. А дóўго лежы́ть дуп.

Потóм – за столí. Помíють рýкі – да за столí, наготóўлянэ ўсэ. Да помэнýть да і пошлí по домáх. Куттю́ робілі с сáхару да с хлíба. Хліб буў чóрны, то робілі ш чóрного, а як стаў бíлі – з бíлого. Сы́плють сáхар да вóду ллють – гэ́то назывáецца куття́, пэ́рша куття́. На другí дэнь ідэ́м до нэбýйшчыка, нэсэ́м кутт*ю́*, сны́данне ёмý ўжэ нэсэ́м і там колó ёгó ўжэ посны́даем, а потóм прыхóдым додóмі да ужэ́, хто буў на похоронáх, зовэ́м до столá, шоп ты́е ш помэнýлі. От як, напрымэ́р, умрэ́ ў нэды́лю, то ўжэ помінáем у нэды́лю другýю. А як умрэ́ ў понэды́лок, чы ў оўтóрок, то тóжэ ў нэды́лю помінáем. Потóм ужэ́ – сороковэ́. Год вíдэ – тогды́ годовэ́е. Прáвім у цэ́ркві, помінáем покóйныкуў і за стул ідýть помінáты. Дэды́ пэ́рэт Пілíпоўкою одны́е; тэпэ́р на Трýйцу, пэ́рэт Трýйцой ў суббóту – другíе Дэды́, а потóм, мýсыть, пэ́рэд Вэлíкім Пóстом Дэды́ ў суббóту тóжэ. Усы́ Дэды́ ў суббóту. Трóе Дэдýў і ўсы́ ў суббóту. А ўжэ на Вэлíконне, у чэтвэ́р пóсле Пáсхі – Нáўське Вэлíконне. Нэжывы́м ужэ́ прáвіть у цэ́ркві бáтюшко, на клáдьбішча ідэ́, на клáдьбішчах свя́тыть, усы́ клáдьбішча свя́тыть.

### Пра каравай

Жонкí пэчýть коровáя: мáты крэ́сная. Éслі ўдовá, то ны, да шукáють, коб нэ ўдовá, бэрýть жонóчыну. Спэчýть да ўжэ́ нарáдьваты дэўкí збірáюцца, подрýгі. У нэды́лю – свáдьба, а ў суббóту ўвэ́чэры рáдять. Нарады́лі коровáя, зáрэ на стул постановíлі, як жэ жонкí, далí повэчэ́раты і вóткі постáвілі, усёгó на стул. С тíста нычóго нэ выпэкáлі, тýлько коровáй, а на коровáю – шышкí, по бокáх накóла – шышкí. А вы́рызвалі з лозы́ такí дóўгіе, дві двóхчастые і однý трóхчастую і ўтыкáлі, і прыя́звалі квэткí ў тры рады́. Купля́лі квэткí і накóла ш такíмі лéнтамі із бумáгі ўся́кої вы́рызвалі, об'я́звалі. Бы хвартухá зрóблять: попрышывáють однэ́ віз однэ́ і э́того коровáя об'яз-

вають. Квэткі́ ўсы навэрху́, а шо об'я́звають – пуд цвэта́мі. А шчы на корова́й з барві́нок вэно́чка зв'ю́ть, нако́ла, шо ўжэ спэ́чаны, опклада́ють. А барві́нкі ты́е зэлённэнькіе. Воны́ зыма́ і лі́то е́сця. Ко́лісь ныдэ́ нэ було́, то до Тырву́укі ходы́лі. Да зымо́ю, як у кого́ вэсы́лле, до сныг прокопалі, рва́лі і, бува́ло, Тырву́ука ска́жэ: «Положы́тэ кусо́чок хлі́ба туды́, дэ рва́лі.»

Ужэ́ жэны́х ідэ́ до молодо́і – вэзэ́ корова́я. Корова́й нюс як е, то хрышчо́ны ба́тько, а ны – то ня́кі дя́тько чы сват, чы брат, мо, стары́йшы е. Пры́іхаў молоды́ до молодо́і, прывю́с корова́я, на стул станоўля́ть і свого́ станоўля́ть і стоя́ть на столу́, пока́мусь нэ пры́ідуть з вэнца́. Як пры́ідуть з вэнца́, корова́і прыбіра́ють, бо трэ́ба ш станові́ты еду́ людя́м, тарэлкі́, то корова́і выно́сять у кладу́уку. А пото́м, як ужэ́ забіра́ють молоду́ю, тоды́ ўно́сять обо́два корова́і і ўжэ пудныма́ють, чый ві́шшы бу́дэ. Уно́сять ды́шку. У ды́шцы – пра́нікі, коўбаса́, во́тка. І молоды́ станові́цца, наліва́ють воды́ ў стака́н, а до́лжон пэрэкі́нуты чэ́рэс ха́ту ў тэ́шчы. Як пэрэкі́нэ – до́брэ, а як нэ пэрэкі́нэ – пло́хо. Бач, нэкото́рые роскіда́юцца. А тэпэ́р усы́ роскіда́юцца.

Ужэ́ ў ла́ткі плэ́шчуть да ра́дые. «Наш, наш ві́шшы!» – ды́ўчын рут крычы́ть, як ды́ўчын ві́шшы. То як ды́ўчын рут стоі́ть блі́сько ко́ло жэныха́, то той рут су́нуть на ныс, коб наш буў ві́шшы, ды́ўчын. А да́лей ка́жуть: «Нэха́й жэныху́ў бу́дэ ві́шшы, хай ужэ́ его́ го́нор!» Гэ́тые молоды́е хапа́ють пудныма́ты корова́я і того́, шо дэржы́ть. А гэ́тые ўжэ тя́гнуть уны́с, нэ даю́ть. Чудя́ть абі́шчо. На гі́нчому вэсы́ллі ды́ўчын ві́шшэй, на гі́нчому – жэныху́ў ві́шшы. Як попадэ́.

Молоды́ ўжэ забіра́е ды́ўку до сэбэ́, і свого́ корова́я забіра́ють, а так ночу́е корова́й у ды́ўкі. Ры́жуть ужэ́, як поі́дуть. То наш рут сяды́цца за стул і ды́ўчыного ўжэ ры́жуть. А ў нас Іва́н за ды́ўку служы́ў. То ры́залі го́ндэ, як ужэ́ ў нас булі́. Ужэ́ круго́м і́здыў, а ўжэ пірогу́ў нэ було́. Ры́залі, да обма́звають то са́жою, то смэта́ною. Шуты́лі: «Пэ́ршы дру́жок корова́й ры́жэ, а ў его́ со́пэль лі́зэ – да ўжэ ўма́жуть – да́йтэ помэлі́шчэ, путтэ́рты соплі́шчэ!». Да і гро́шы кі́дають, да́рать, на тарі́лку кладу́ть. І ры́жуть ужэ́ корова́я гэ́того на кусо́чкі і бэру́ть ужэ́. Повіма́ў гэ́ты голі́нкі, да я на гору́ позатыка́ла, да було́ заты́канэ до́ўго. А гэ́тые цвэты́ то ў гу́кна бра́лі, як ўстаўля́лі, ужэ́ воны́ ныкуды́чны, на други́ нэ іду́ть. А гэ́тую ло́зу позатыка́емо, да і кому́ трэ́ба, то бэрэ́м оды́н у одно́го. Бэру́ть, бо ж ра́ньчэй жэ ш усы́ корова́і пэклі́. Оды́н у одно́го свої́ бэру́ть, а чужы́е – то ны.

Співа́лі таку́ пі́сню:
Стоя́ў корова́й у жы́ты,
Да доку́ль ёму́ служы́ты,
Стоя́ў у субо́ту, у понэды́лок,
А ў оўто́рок да ножу́ў со́рок:
Трэ́ба его роздэлі́ты.

**Радзіны**

Як ужэ́ ста́нуть бра́ты схва́ткі, ужэ́ іду́ть шука́ты бабе́й до ро́жэніцы. Ну, ужэ́ бэру́ть э́ты схва́ткі, бэру́ть. Ну, ужэ́ назбіра́ють бабе́й да Бо́гу мо́ляцца… А бульш шо ж бабы́ зро́блять. Дожыда́ють, пока́ заро́дыть. Му́чыцца, му́чыцца, ужэ́ і бабы́ ты́е позму́чваюцца, то ўжэ бэру́ть утіра́льніка да пуд'я́звають пуд ру́кі да ўжэ бы пудві́сьвають. Ужэ́ на рука́х ії́ дэ́ржать на тум утіра́льніку. Ужэ́ ш пуд'я́жуть да вона́ стоі́ть. А так нэ мо́жэ ны стоя́ты, ны лежа́ты. Да ўжэ і начнэ́ роды́тыса. І сто́я, і ле́жа – як хоч, як прыхо́дыцца ўжэ. Крычы́ть, крычы́ть да і, як прыхо́дыцца, ужэ́ і ро́дыть. Ужэ́ поба́чать, шо ўжэ ш гэ́так му́чыцца, то піч запа́лять (нычо́го ж нэ було́ да піч), запа́лять да ўжэ нагры́ють воды́, да ўжэ заро́дыцца, то забэру́ть гэ́ты бабы́, да мі́ють, купа́ють. Ну, шчы пупові́ну гэ́тую зая́жуть яко́й ны́ткою (яка́ е ны́тка, тако́й і зая́звають), да́лей ужэ́ одры́жуть ножо́м (нэ було́ ш чым, да ножо́м одры́жуть), да бэру́ть дытя́ купа́ють. А пупові́ну, як хто куды́. Хто пут пору́г зако́ппаў, а хто дэ-нэ́будь зако́ппаў. Пут пору́г – ну, шоб дытя́ доха́ты нэ заблуды́лосо ныдэ́ да ішло́. Ну, а да́лей купа́ють да ў пэлёнкі. Гі́нчэ крычы́ть, а гі́нчэ моўчы́ть, як до дытя́та яко́го. Бы за́рэ хо́дять. Пото́м ужэ́ груди даю́ть, коп посса́ло. То нэкото́рэе ссэ, а нэкото́рэе шы ж нэ хо́чэ, кру́тыцца, нэ ўмі́е, а як і́сты схо́чэ, то нагу́чыцца да і ссэ. Ну, да ўжэ

ро́жэніцу ло́жать до́брэ. Да лежы́ть ро́жэніца, пока́ оду́жае. А дытя́ пудно́сять до ії́, да ўжэ ко́рміть дытя́. У колібі́ль кла́лі. Такі́е колібі́лі булі́: ві́шалі за ба́льку на сто́лю. Да така́ колібі́ль була́: штыры го́чэпкі, а там полотно́м опшы́тая. Простэ́лють у колібі́льцы да і ло́жать, да і ўжэ колі́шуть. Да і нэха́й спіть, колі́шуть. Колібі́ль ліпш, нэж лу́жэчкі. Там воно́ бі по воды́ кача́ецца. А гэ́та колібі́ль трыбу́шыть дытя́. Ужэ́ каля́скі за́рэ ста́лі, да ў каля́сцы нэ так трасэ́. А ў э́тому лу́жэчку ш трыбу́шыть вэ́льмі. О так і годова́лі.

Ужэ́ начына́е рожа́ты – ужэ́ ро́жэніца. Ныкуда́ нэ шла: больна́я. А шо поко́йнык? Шо ш про поко́йныка каза́ты? Ой, это́ лю́ды так ба́ялі, шо бэрэ́мэнна, то, як пу́йдэш до поко́йныка, то дытя́ бу́дэ жо́ўтэе ліцо́. Э́то нэпра́ўда. Ходы́лі і бэрэ́мэнные. Я ходы́ла бэрэ́мэнная до поко́йныка, і онё які́ чырву́н. А чого́ пэрэступа́ты чэ́рэс гра́блі? Нэ трэ́ба пэрэступа́ты. Ко́лісь на поро́зы сы́клі шонэ́буть, то, то нэ поло́жэно бэрэ́мэннуй пэрэступа́ты, дэ сэчу́ть на поро́зы. Нэ трэ́ба, бо бу́дэ, мо́жэ бу́ты, гу́бка насэ́чана, як дэ сэчу́ть, да пэрэступа́еш. Насэ́чана бу́дэ гу́бка вэ́рхняя. Нэ мо́жна бу́ты кумо́ю. А як ідэ́ш хрысты́ты дытя́, то тра запіна́ты хвартуха́, пуд'я́зватыса, коб дытя́ обэрэгты́, да і коб нэ поўро́чылі. Нэ мо́жна ў коло́дяз дывы́тыса, бо дытя́ бу́дэ с уро́цтвамі. Як бэрэ́мэнна шчо про́сыть чы позыча́е, то нэ трэ́ба отка́зваты, бо бу́дэ нэдо́брэ, як ужэ́ хто отка́жэ. Ба́ло каза́лі, шчо як бэрэ́мэнна на́йдэ батуга́ да во́зьмэ ёго́ ў ру́кі, то наро́дыть хло́пчыка: бі як гэ́то бату́г, да з ім хло́пчыкі гра́юцца чы това́р лі́том або́ го́сэнню пасу́ть. То як на́йдэ батуга́, обяза́тельно прывэдэ́ хлопчы́ска. От як о!

*Т. М. Трухан*

## ТЭКСТЫ З ВЁСКІ ЗАМОШША ЛЮБАНСКАГА РАЁНА

***Расказвае Вольга Георгіеўна Трухан, 1934 г. н.****; запіс зроблены ў 2008 г.*

***

Перабра́ла ўсе гуркі́, пераглє́дзела. Ка́жацца, ніdзе́ на сьве́це вялі́каго ні было́, усе́ мале́нячкіе, за́вясь то́лькі. А ўчо́рэ Ко́ля прые́хаў, і я ні папыта́ла на като́рум ён раду́ пабе́х, прышо́ў у се́нцы, ды пыта́е: «дзе соль?» і ба́чу есь гуро́к мале́нькі, ні вялі́кі яшчэ́. Дак я прыду́малаcа: я ж ото́ вы́брала, да е́так шча́цельно перабра́ла, а дзе ён атарва́ў гурка́, дзе-то ён нашо́ў по́сьле мяне́. Да сёне ду́маю: ну, ужэ́ е́тэ зе́ле паўкіда́ла ўсе́, што вы́брала, парва́ла ў ку́чу, а тады́, ду́маю, пайду́ зазірну́ агурцо́ў. Пашла́, узяла́ вядзёрко пяцілітро́вэ то́лькі, да падвяза́ла на пярэ́днік, бо яны́ ж гу́сто, цяпе́р гэ́ты гуро́чнік ідзе́ ўверх усе́. Да хаця́ дзе які́ бальшава́ценькі, дак атарву́ Ю́лі, штоб на ба́нку. Як ста́ла, дак яны́ па тры ўме́сьце і туд-сюд і цэ́лы кашэ́ль агурцо́ў набра́ла на э́туй гра́цэ. А я ж ра́зам іх перабіра́ла: ге́ту, а тады́ ту́ю граду́. Э́так са́мо і там. А тады́ пайшла́ шчэй на гаро́т. Там німно́шко. Там жэ пазьне́й садзі́ла, але́ было́ штук мо пятна́ццаць ці ко́лькі. Ужэ́ адзі́н бальшы́ да́жэ пакі́нула на жаўтля́к на сямяна́.

***

Ля кусто́ў зе́ле было́, па разо́ры там ат пло́ту, да ўкро́п. Я ж яго́ ні се́яла, панасява́ўса э́ты ўкро́п сам. То там ка́льва, то там, то панасяе́цца. Дак я паўкіда́ла. Што яны́ бу́дуць, як чарвякі́, разарва́ла. Дак сёня Во́ва прые́хаў, карто́шку ўсю забра́ў і ты́е бурачкі́ ко́зам.

***

Трэ́ба змало́ць к Са́шы Хо́дзінаму вязьці́. Прайшо́ў до́жджык, а жы́то палёхшы было́. Тут жэ вятры́ ўсё ў нас, с по́ўдня, як ка́жуць. Да́жэ як і дажджы́, і яка́я мяце́ліца, дак усе́ атсю́ль во мяцэ́, с Про́ся. Дак я во адзі́н дзень, забы́ла като́раго дня, то́жэ раса́ была́ вялі́ка, дак я ду́маю: пайду́ яго́ тро́хі атхілю́, штоб каласкі́ ні ві́сялі на карто́плі. Я яго́ тро́хі атхілі́ла, мо менш, як да палаві́ны. А да́ле ста́ло ўжэ патсыха́ць, ло́міцца, дак я ўжэ пакі́нула – пашла́ карто́шку пало́ць да абе́да. Да

абе́да папало́ла, пато́м жара́ ўдзень, больш я ні магла́ пало́ць е́тые карто́шкі. Прышла́, перакусі́ла, атдахну́ла, папіла́ табле́ткі, а пато́м абра́тно на карто́шкі да ве́чара. Да васьмі́ часо́ў ці мо ў паўдзявя́таго прышла́. А наза́ўтрэ ўжэ абра́тно пашла́ карто́шку пало́ць зра́зу, ра́нкам, штоб тро́хі паку́ль ужэ́ е́та сьп'ёка, штоб ні ла́зіць. Бо ба́чу, што ні падо́ляю, штоб да абе́да пало́ць. Папало́ла тро́хі, а рады́ шыракава́тые ў нас жэ карто́шка паса́джана. Зе́ле ні асо́бо ў карто́шкі, дзе-нідзе́ там папраска́кало: лебядзі́на, там е́тэ што бярэ́цца ве́льмо, яно́ як гарашо́к, нападо́бе гарашка́, але́ яно́ го́ршэ за гарашо́к, не́йке тако́е лі́пке вот, дзяржы́цца за пярэ́днік ці за што. Паўцяга́ла тро́хі яго́. Ад ра́нку пруста́ла, ужэ́ ў галаве́ маро́чыць, як п'я́на, ні зна́ю ў які́ бок ісьці́. Пакі́нула, ужэ́ дава́й пама́лу разгляда́ць на маты́чку абапіра́ючыса. Прышла́ дамо́й, паляжа́ла, пато́м табле́тачкі папіла́, перакусі́ла – ужэ́ чаты́ры часы́. Да чатыро́х ужэ́ ні йшла. У чаты́ры часы́ як пайшла́, то, ні зна́ю, у во́сім ці ў поўдзявя́таго ўвайшла́ ў ха́ту. Но́гі ж гра́зные, я то ў е́тых рызі́навых башмачка́х пало́ла, наскі́, дак но́гі папаце́лі, гра́зные. Памы́ла но́гі, увайшла́ ў ха́ту, паляжа́ла ў пе́рву во́чарадзь. Тады́ дава́й падыма́цца, паста́віла чай, папіла́ ча́ю, папіла́ табле́ткі абра́тно, паляжа́ла і да за́ўтрашняго. А наза́ўтрэ, за тры дні патро́ху, і перабра́ла ге́ты заго́нчык. Гамо́няць усе́: е́то бальна́я, карто́шкі матыку́е, хто ўво́сень матыку́е? А тут жэ раткі́ шыракава́тые, дак яно́ е́тэ і́мпартнэ зе́ле, як мак дро́бнянячке, дак я яго́ грабяну́ туда́-сюда́, да пераграбу́, дай і выбіра́ць німа́ чаго́. Яно́ ж мале́нячке шчэ. Але́ паку́ль выбіра́ць карто́шку, бу́дзе вялі́ке, тады́ ш трудне́й.

Сяго́ня ўтрам ду́маю: пайду́ і ў пе́рву чаргу́, от раса́, жы́то сырава́тэ, каласкі́ е́тые до́брэ атво́дзіць во на заго́нчык ужэ́ ў ту́ю сто́рану, а то палянглі́ на рат карто́шкі, трэ́ба ж і разо́ру вы́палаць і радо́к э́тай карто́шкі ўжэ. Дак я маты́каю, штоб пабо́льш займа́ло, да атхілю́, а ко́раню нага́мі тро́хі патапчу́, дак яно́ і ляжы́ць нарма́льно туды́ ў ту́ю сто́рану ўжэ на заго́н. Цяпе́р атхілі́ла ўжэ да ка́нца заго́нчыка – усё, зрабі́ла ге́ту рабо́ту, а тады́ за маты́чку і праматыкава́ла е́ту разо́ру на ўвесь заго́нчык да са́мых гарбузо́ў. І рабо́та зро́блена, як той Во́ва ка́жэ. Паку́ль карто́шку выбіра́ць ні бу́дзе тако́е рабо́ты.

А тады́ дзе прасьціра́ць, дзе зала́таць – вот табе́ і рабо́та.

***

Учо́рэ прышла́ ў абе́т Хве́ня, як ба́цька ско́рая забра́ла. Дак яна́ прышла́ да ка́жэ: каза́ў Пе́ця, што ско́ра ля вас стая́ла, дак я, ка́жэ, ду́маю пайду́ пагляжу́. Я ж ве́даю, што ты пало́ла карто́шкі, дак мо е́то цябе́. Не, кажу, дзе́да забра́ла. Каза́ў, што ўпаў у вiráндзе. Я прышла́ з заго́нчыка, то ён ско́ру вы́зваў і ка́жэ: зьбіра́й што на но́гі, што на сябе́ перадзе́ць. Цяпе́рачы, я яго́ ўжэ сабра́ла, атпра́віла. Фе́ня ка́жэ: «Во́ля, ні йдзі, ні палі́ карто́пель, нашто́ ты по́леш, нашто́ іх пало́ць, зарэ́цца, пераграбе́цца і зе́ле ні бу́дзе». Кажу́: «Хве́нячка, ні вучы́. Я ге́так ні магу́. До́брэ, як у цябе́ хвата́е не́рваў, я так ні магу́. У мяне́ цярпе́ня німа́. Штоб я лягла́, і зна́ю, што ў мяне́ зе́лье на заго́не». Ка́жэ: «Сьп'ёка така́я». А я кажу́: «Мая́ дарага́я, я на со́нцы зарабі́ла пе́ньсію, дзя́куй Бо́гу. А я со́нца ні баю́са, каб Бог даў то́лькі сьвяці́ло». Пабыла́ тро́шкі, пасядзе́ла зь е́ю, тады́ кажу: «Трэ́ба шавялі́цца». Дак яна́ ка́жэ: «Мяне́ Пе́ця ні пуска́е». Фе́нячка, я табе́ скажу́ пра́мо: а ты ні хо́чэш і пало́ць. Каб ты хаце́ла? Што ты за хазя́йка, што Пе́ця цябе́ ні пуска́е? І мяне́ ні пуска́юць. І адно́ гамо́ніць, і друго́е прабіра́е. А ба́цько: хто цяпе́р по́ле карто́плі? А я кажу́: «Ці ты мне ка́жэш, ці ты маўча́цьмеш, то мне адзіна́каво». Як е́то я ля́гу ляжа́цьму, а зна́ла, што ў мяне́ зе́лье на заго́не. Кажу́: «Ужэ́ як ляжа́цьму да ні падыму́са, то тады́ бу́дзе на заго́не зе́лье, як ні падо́ляю, хоць і с ка́плямі, ці із валідо́ламі, але́ шчэ дзьві́гаюса, шчэ й забу́ду, што й балі́ць». А ляж от тут во, дак ляжа́ць ні мо́жно. Ляж на пле́чы, дак як на шыпа́х на які́х. Дак што́-то за ляжня́. Каб жэ лёх да атдыха́ў, а я горш устаю ляжа́ўшы, чым на заго́нчыку. А я е́сьлі з маты́чкаю дзьві́гаюса, нарма́льно прыду́ дадо́му, вот як. Е́то ўжэ як пот ве́льмо ва́ліць, паго́да, со́нцэ пячэ́ – ні магу́ наўціра́цца, ужэ́ саслабе́ю. Во перабра́ла ка́жную баразёначку, ка́жны ку́сьцічак. І зна́ю то́е, што які́е ні бу́дуць: вялі́кіе, нівялі́кіе, але́ ве́даю, што мая́ душа́ ўжэ спако́йней. А то я ля́гу, бу́ду ляжа́ць, а што б бушава́ло зе́лье на заго́не. А вот дзе-нідзе́ папраска́квало е́то бо́льшэ за карто́шку – ма́ло, я разо́ў два патро́шку выно́сіла зе́лье. А ат разо́ры дак мой разо́ў тры вы́шла. Дак е́то ні зе́лье.

***

Вот як ро́бім, дак е́сьці ні хо́чацца. Ужэ́ сасма́гнеш тро́хі, пап'е́ш цёплага ча́ю, быва́е с пра́нікам, быва́е з ва́фляю. Ба́цько ка́жэ: «Там малако́ кі́слэ, сало́тке». «А дзе яно́ есь?» – на яго́. Дак яно́ ж у халадзі́льніку. Ко́ля прыу́ёз – ён гэ́так. То я кажу́: «То ты ж мо каза́ў два па́чкі, а той ужэ́ тры». – «Дак яшчэ́ то́е, што й Тама́ра прыво́зіла. Дак ён пру́гае кі́слэ ў аснаўно́м. Жыры́ бальшы́е, дак і ўрэ́днэ яму́ е́тэ малако́ піць. Як во ў ха́це была́, дак я на яго́ кажу́: «Ко́ля, ні пі. Жы́рнэ, табе́ заўліі́е, ты німно́шко ча́ю ў малако́ дабаўля́й – ні так врэ́днэ было́ б. А ён жэ лю́біць ка́шы, ён табе́ макаро́ны, ён табе́ ма́нку. А карто́шкі ні вары́. Е́то мо раз звары́ла карто́шкі, як пачала́ капа́ць, а то ні хо́чэ. Ры́саву ка́шу есь – любу́ю.

Алёшка пры́дзе да ка́жа: а мы ка́жную ра́ніцу карто́шкі. І яды́ нам німа́ бяс карто́шкі. А ён, ба́чыш, ні хо́чэ. Алёшка ка́жэ: я кру́шку малака́, а быва́е і дзьве с карто́шкаю пад'е́м, і я да бе́ду дбаць ні дба́ю. А ба́цько ні хо́чэ. І прася́ну ка́шу вару́. Учо́ра ма́нку вары́ла. Яму́ дава́й любу́ю ка́шу. А карто́шкі ні хачу́.

***

Не́йкі ж аранда́тар найма́ў да заплаці́ў. А яму́ ўжэ прыхо́дзіла бума́га на сут. Засу́дзяць – ніздзе́ ж ні рабі́ў. Ада́ле ж убі́ўся к э́таму аранда́тару, да е́зьдзіў, там кра́сілі дзе́-то, у не́йкум калхо́зе. Ужэ́ аліме́нты заплаці́ў. Ці той што найма́ў да заплаці́ў за яго́, ці як е́то. А яму́ паве́стка ўжэ была́ на сут. А ўжэ аліме́нты як заплаці́ў, то ні засудзі́лі. Папрапада́лі – дай усё. Е́хаў з зарабо́так, ні ве́даю, дзе ён быў, зае́халі к ёй на машы́не (цюхлякі́ былі́ на машы́не) і ка́жэ: дай пяць ты́сяч. Суня́ў машы́ну, забяга́е і дай пяць ты́сяч яму́. Ада́ле ўжэ зарабі́ў у Дарасіно́ ско́лькі ты́сяч, дак ужэ́ дзьве па́лкі каўбасы́ ма́цяры купі́ў.

***

Ма́біць ба́цько адзі́н дзень узя́ў саво́к і падзёўб э́ты кусо́чак травы́ ля ву́ліцы. Высе́каў э́тые адува́нчыкі. Ён то́лькі ліст пазьбіва́ў, а карэ́нье ге́то стаі́ць. Дак я і гамані́ла: што ты зрабі́ў, ты мне бо́льшу рабо́ту зрабі́ў, ко́рань трэ́ба выцяга́ць. Якое твае́ дзе́ло, чаго́ ты туды́ пашо́ў. А тады́ на яго́ нагамані́ла, а я ба́чу, што пазьбіва́ў. Дак ён маты́чкаю апсе́каў, дак ён маты́чку і прынёс, забра́ў, стая́ла ў бу́цэ. А, наве́рно, мо і со́вача браў е́таго. Ён і кі́даў на со́вач той е́тые адува́нчыкі, сьсека́ў. С тых пор німа́. Або́ там на ву́ліцы пакіну́ў ля пло́ту. Дак цяпе́р жэ во ўбо́рка. Дак ге́тые со́вачы трэ́ба. Пры́б'е дро́начак, дак і рабі́ць есь чым. А так шука́й дзе чым рабі́ць. Чаго́ ж я кажу́, закрыва́йце бу́тку ці што. Дак ні вядро́ ні паставі́ць, ні кастру́лька на пло́це ні павісі́ць – нічо́го на сьве́це. Е́то ж ты́е го́ды і ба́нкі, і шкля́нкі – усё на пло́це. На кало́х пачапля́юць і пасо́хне. А цяпе́р ніхто́ на сьве́це ні чапля́е. Мы́еш пасу́ду, кастру́лькі, там што, э́тай тра́пачкай, што шару́еш, і выціра́й, нясі́ і прыбіра́й. Ні пабу́дзе, нікагда́ ні павісі́ць нічо́го. Кры́шка прапа́ла с кастру́лі лімінёвае, дай зь вялі́кае, зь дзявяцілітро́вае. Пахвата́юць усё. Вот ні прыбра́ла не́дзе і ўсё. А што б лапа́ткі, ні пакіда́й дзе лапа́ткі. Ні бу́дзе ні лапа́тка стая́ць, як ты́е го́ды. Капа́юць, лапа́тку уто́чыць там, дзе капа́е, – пашлі́ на абе́т. А цяпе́р пакі́нь, то ні бу́дзе чым і капа́ць. Цяпе́р жэ ў людзе́й зно́шваюцца, а жа́дные на е́тые гро́шы. Е́сьлі лапа́тку купі́, дак, зна́еш, яна́ дарага́я. Дак вот прынясу́ць гато́вэ, дак та́я жанчы́на забярэ́, у като́рае німа́, за буты́лачку. За не́што ж піць трэ́ба.

***

Я замяча́ю, што німа́ абрэ́зкаў, – бі́лаў по́ўно. І до́скі былі́ тры́, длі́ные до́скі, дак то́лькі адна́ до́ска. Вот зато́е, што ўсе аткрыва́еш на́сьце, вот пазіра́й. А яны́ табе́ паўбіра́юць усе́. А калі́ зрабі́ць дзьве́ры ці варо́та які́я – німа́ ні дасо́к, нічо́го ў баб. Да́жэ вот Лахаі́ха ў гэ́тые Ры́пчыны дзьве́ры (рабі́ла ў хлявы́ дзьве́ры) дава́ла свае́ мацяр'я́лы. Не́йдзе нацяга́лі, далі́ Лахаі́се, і яна́ зрабі́ла дзьве́ры ў хлявы́.

***

По́ўно зубо́ў часныку́, рашчэ́пляные ўве́рсе. Ну, е́такіе, што не́йкіе есь аш сі́ніе, такі́е гало́ўкі харо́шые. Я паткіда́ла, штоб вам браць было́. А ба́цько вы́кінуў с каро́пкі сушы́ць, дош пашо́ў

і замачы́ў. То́чна, ду́маю, мо хто быў і ты́е вялі́кіе гало́ўкі паўбіра́ў, што рашчэ́пляные ўсе былі́. Ні аднае́ ні́ма і рашчэ́плянае. Цяпе́р ні пакі́неш нічо́го. А на днях узя́ў вы́няс часно́к малу́ю жо́ртачку, насі́лку, што на дро́нку. На плот палажы́ў, да на дро́ва – хай схне. І ўзяў каро́пку э́ту, што ў бу́цэ, на даро́шку рассу́нуў. А каро́пку ту́ю паста́віў ля часныка́. Ада́ле дош як улі́ў, та́я каро́пка мо́кра, той часно́к мо́кры – о, ссушы́ў. Дней два ці ко́лькі і было́ мо́крэ, а тады́ ўжэ паго́да была́, дак вы́сах.

***

Як ма́ма жыла́ ў На́дзі, да дзяце́й глядзе́ла На́дзіных. І ў шко́лу вадзі́ла. Е́то ў го́рат вадзі́ла ў шко́лу. Вон дзе астано́ўка была́ і на аўто́бус павядзе́ зімо́ю і там сядзі́ць паку́ль атву́чыцца адно́ і друго́е. І за іх тады́ ў аўто́бус, вядзе́ дадо́му. На́дзі было́ за што глядзе́ць. Яна́ і памага́ць, і дагляда́ць, і ха́та замы́кана была́ – ма́ці за замо́к служы́ла. Там на гаро́дзе, што падо́ляе рабі́ла. Ужэ ш у во́зрасьце, ні маладзе́нька. А На́дзя сабра́ласа і на база́р, а ён на рабо́ту. А ма́ма дня́мі до́ма. І худо́ба была́, сьві́не, ко́зы, гу́сі. Кана́вы пры до́му, курэ́й чарада́ – не́што ш трэ́ба было́ рабі́ць. Сама́ таргу́е на ры́нку. Гало́днэ, то падо́хло б усе́. Усе́ ж на ёй было́, на ма́ме. По́сьле Ра́дуніцы ці да Ра́дуніцы пазвані́ла На́дзя: Во́ля, трэ́ба было́ як пае́хаць да на магі́лкі паглядзе́ць да папрыбіра́ць, а то пазаро́стае ўсе там. Я нек зра́зу да кажу́: Во́ля ат'е́зьдзіла, ужэ́ самы́х трэ́ба вазі́ць да вадзі́ць. Папае́зьдзіла, кажу, Во́ля німа́ло. Дай і на клады́ ж е́зьдзіла. Прасі́ла то Ко́лі, то То́лі. Цяпе́р па́мятнікі рабі́ць, то злажы́ласа, хоць у мяне́ ма́ма і грады́ ні вы́палала, а сядно́ кажу́: дава́йце ўтраі́х усе́ паро́ўну. Вы до́чкі і я дачка́, хоць і на баку́, ра́зьніцы німа́.

Зна́чыць так. Прайшло́ ўрэ́м'е, е́то яшчэ́ тады́ было́, як ма́ма яшчэ́ дзябе́лейша была́. Гарбузы́ ў нас прыніма́лі. Ба́цько мо быў у На́дзі, мо ара́ў, мо што (папае́зьдзіў і ара́ць ба́цько туды́, і баранава́ць, і абганя́ць – усё) і сказа́ў, што ў нас прыніма́юць гарбузы́. А сасе́тка, кума́ На́дзіна, гарбузо́ў мно́го было́, а худо́бы ні было́. Німа́ дзе гарбузо́ў дзець. Та́я ма́ма прыво́зіць с тае́ кумы́ На́дзінай мужыко́м машы́ну гарбузо́ў. А я была́ на рабо́це. Нашла́ ж мяне́ на рабо́це ма́ма і ўжэ вядзі́ абе́даць даць і е́таму чалаве́ку. Хоць і ма́ма. Вы ж вязяце́ гарбузы́, то хай бы дала́ што ў то́рбу ці ў карзі́ну, да штоб вы перакусі́лі дзе. А ма́ма мяне́ дату́ль шука́ла, паку́ль нашла́. А я ш то ні адна́ рабі́ла, а ў гу́рце. Хапа́ла е́так, штоп пе́ньсію зарабі́ць. Дак я ўжэ як-ні́будзь баржэ́й прыляце́ла сюды́ дадо́му, дала́ перакусі́ць дай атпра́віла. Е́ўце, кажу́, мне ш трэ́ба на рабо́ту, хто ж за мяне́ бу́дзе рабі́ць. Дак вот яка́ по́мач мне была́ то́лькі. Прые́хала да граду́ вы́палала, то гэ́таго ніка́гда́ ні было́.

А я гэ́таго ні шчыта́ла. Кажу́: усё што п по́раўну было́. Я пазаво́зіла, бач, і пакрыва́ло – усе́, на́це-на́це, хай ат мяне́ бу́дзе, як харані́лі.

А яна́ (два ты́дні ні пае́дзеш, ні даве́даеса) дак калі́ дзе каго́ ўгле́дзіць, ка́жэ: ні е́дзе ні адна́, ні другая. Я ж мо ні конь была́. І своя́ рабо́та, і хазя́йство было́: і каро́ва, і цялу́шка, і бык. Адны́х гаўя́т тро́е. А сьвіне́й? Дзьве сьвінама́ткі. Ні зна́ла як ірва́цца. І пе́ньсію зарабі́ць. Адно́ атпа́сьціць трэ́ба было́ – тры дні. На́нач ваго́ны каза́лі выгружа́ць, цыме́нты да ўсе. Лячу́ на́нач, штоб навярста́ць. Ні прапушчу́.

Дак цяпе́р мне ўжэ пра магі́лкі ты́е ўспамі́нае. На во́сьмы дзіся́так гадо́ў – е́то паду́маць то́лькі. Пае́хаць жэ ні вапро́с, каб жэ было́ на чом е́хаць.

***

Е́то за ўсю жысь быў такі́ слу́чай. Наўбі́рала гуркоў, шчэ ж ты́е го́ды бо́льшые закрыва́лі. Цэ́лу вы́варку гуркоў. Ашпа́рыла іх. І іх тро́хі лепш палажы́ць, яны́ як-то мякчэ́йшые ў ба́нку, а рука́ ні ле́зе. Е́таю лапа́тачкаю грабу́-грабу́, што цяпе́р варэ́не мяша́ем. Палажы́ла шэсь ба́нак: і часно́к, і ліст – усе́ прыпра́вы. І трэ́ба забы́цца ву́ксус улі́ць. Але́ ш што ш худо́ба. Усе́ ж хвата́еш, а на рабо́ту лята́ла. А ўсе ш по́сьле рабо́ты. Закры́ла шэсь ба́нак агурцо́ў. А пяцілітро́ву ба́нку так, ці як пры́дзяцца. Аснаўно́е заката́ць. Іх пазакрыва́ла і пакуля́ла дагары́, і накры́ла. Наза́ўтрэ прыхо́жу, ду́маю, трэ́ба іх ужэ́ пастаўля́ць ты́е ба́нкі, паўно́сіць. Павярну́ла адну́, кры́шка астае́цца, расол лье́цца, другу́ю і трэ́йцю, і чацьвёрту, і п'я́ту, і шо́сту – і ўсе да аднае́. Чаго век ні было́.

А што такóе? Аднагó вýксуса ні ўлілá. Без вýксуса закатáла. І прапáла рабóта. Вот як закáткі. А цяпéр дóбрэ. Налажы́ў так і харашó.

***

Я ў палікл́íніке былá на Урэ́чы. Прышлá с палікл́íнікі, увайшлá ў вакзáл, сядз́íць чалавéк пасрэдз́í вот вакзáла. А я падышлá і сéла тут у дзьвярáх, штоб пазірáць, кал́í аўтóбус падóйдзе. Адáле ён пасядзéў трóшкі і патхóдзіць ка мне дай пытáе: а вы куды́ éдзяце? Дак я кажý: у Замóшэ. А мне ў Дарасінó, ён гéтак. Да кáжэ: а вы дóўго бýдзеце сядзéць тут? Кажý: аўтóбуса ажыдáцьму, пакýль ісьц́íме. Дак ён: вот умéсьце і паéдам. Ніхáй маé вéшчы пастаяць. Віднó тóрбу дóбру в'ёз, мо з адзéтку. Бо ён éхаў к сястры́. А ў сястры́ дачкá (ягó плям'ян́іца), з мужыкóм жывýць. Дак ён мо в'ёз чагó. А то так сýмачка нібальшэ́нька, там дáжэ канхвéты – мне давáў, но я ні захацéла, ужэ́ як прышóў ён із магаз́íна. Схадз́íў у магаз́íн да прышóў. Дак гавары́лі. Дак ён і кáжэ: а вы знáяце Пáўлавых? Я, кажý, знáю. Валóдзю і Вóлю. Я ў Шы́лкіна Вóлі, éто ў Арсéнявае, быў на свáдзьбе. І я пазнакóміўса з Вóляю. Янá мне нрáвіласа. Я б яé ўзяў бы п і зáмуш. Éсьлі бýдзяце в́íдзяць, дак перадáйце прывéт ат мянé. Фéдзя завéцца сказáў. Хвéдар ці як ён сказáў. Ён давáй гавары́ць: éсьлі б рáньшэ німнóга, то я вас ўзяў бы б у Мінск і палажы́ў бы у прэзідзéнску бальн́íцу. Ну ўжэ я на пéньсіі, но я яшчэ́ рабóтаю. Хлóпцы мне яшчэ́ дал́í рабóту – ахрáнікам. Два сабáкі ў мянé, я іх кармлю́. Я німнóго падзарабáтваю. Ужэ́ спрáшываў пра Сідарэ́нкаваго Сáшу. От што ні жэ́ніцца і шчэ Алéнка вот жывé, то янá ў Салігóрске – ён éтак. Навéрно перазвóньваецца. Дак я зь'éжджу к ёй, давéдаюса і Алёнку. І Валóдзя друх. Мы зь ім óчань у харóшых атнашэ́нях. Дак я дýмаю: ну прáвяльно, як рабіў дзé-то па строіцельству з э́тым нач́áльствам, ён жэ нач́áльнікам быў нéйкім, дак э́тые кварц́íры кляпáлі. Ён із М́íнска éхаў к сястры́, Кáця завéцца. А таé Кáці мужы́к пам'ёр. Калóда на ягó казáлі. Ён мне раскáзваў éто. Éду к ім, яшчэ́ перавéдаю.

***

Івáна Канёвых (éто ж браты́ яны́) загóн быў. Івáн жэ тóжэ браў зéмлю, да сéяў паўз Кóлю. Кóля і Івáн. Патóм ужэ́ Івáн паќíнуў, ні стаў сéяць, да травý пасéяў на сéно – карóва былá. А патóм ужэ́ збыў карóву, атказáўса і ат таé зямл́í. Дак Кóля зан́яў ужэ́ Івáнаў загóн. Шырóко і вéльмо длíно. Éто ўжэ друѓí ўкос скас́íў Кóля. А ён жэ пасабляў нам картóшку і разóрваць, іваз́íць. Дак я бáчыла вы́ганчыкам ён éхаў адз́íн дзень, друѓí дзень, кас́íў э́то. А тады́ я дýмаю: пагóда, ужэ́ саждáўшы, ні вéдаю кóлькі дней, ён ужэ́ далжóн сёня-заўтрэ́ сéно грапц́í. Дак я грáблі ўзялá і пашлá туды́ на палóсу. Прыхóжу, сéно ні грэ́блянэ, нікóго німá. І так нікóго і бакавы́х людзéй. Сéна ні былó, э́то хто картóшку сéяў, хто жы́то. Што раб́íць? Іц́í назáт? Дýмаю, мо яны́ прыéдуць. Вазьмý да бýду падгрэ́баць трóхі з бакóў, варóчаць, дзе падгрэ́баць. Як варóчаць да варóчаць, да падгрэ́баць, да штоб тады́ ужэ́, як прыéдзе, штоб меньш былó грапц́í ямý. А янó ні вéльмо такóе густóе былó, што німá дзе дзявáць. Я ягó зграблá і ўсё дýмала: вот прыéдуць, вот прыéдуць – німá. Як грапц́í да грапц́í – éто дзень і пакýль ні кóнчыла палóсу. Дак варт жа былó. Ён э́так слýхаў. За тóе варт, што ні то што памагáў, але кал́í ні скажы́, тады́ прыéдзе. Дак ён назáўтрэ ўжэ забірáў сéно. Дак ён і кáжэ: я ат цябé грóшы вазьмý? А я табé плац́íў за сéно? Дýмаш я забы́ў – ён гэ́так. Не! Я пападгрэ́бала дóбрэ ў валóк. Гýсто янó ляжáло, штоб кал́í і прыéдзе па сéно – меньш грапц́í былó. І хвасты́ пападгрэ́бала, усю палóсу.

***

Яны́ (гурќí) дóўго, éты радóк, што я пасадз́íла ранéй там. Я ўзялá вядрó картóнавэ, да крýшку, да дýмаю: схажý ў Гарáськавых балóтцэ да начэ́рпаю вады́, да прынясý, да палью́. Да палілá, а то засхлó, спляскáло, засхлó і яны́ ні ўзышл́í б, с́íлы ні былó ім вы́лязьці з éтае зямл́í. А тады́ пóсьле гéтаго ўжэ шчэ адз́íн пасéяла, алé там птýшкі ў дзьвóх местáх паўклёўвалі, як стáлі, мáбіць, усхóдзіць, варóны – éто я дýмаю. Алé хвáціць і гéтых, нашто яны́.

І гéтые палівáла. Цяпéр жэ дажджы́ нéйкіе был́í такíе, што кал́í хмарýк нáйдзе, дак як л́íне, як зь вядрá якóго. Дак і éта зямл́я як зьлéжыцца, гэ́ты гурóчак і ні падóляе ўзысьц́í, кал́í дзе

і пралáзіць, дак жóўцянькі – сíлы ні хватáе ў ягó. Я палілá, то вот паатхóдзілі, паўсхóдзілі. Цяпéр і пазьнéйшые бýдуць.

***

Ты ш пóмніш мо Ямнэ? Ну дзе хадзíлі ў буякí, то пóмніш жэ?

Там палóсу мéралі сенакóсу. А ці éто за буракí, той я самá ні вéдаю. Нам палóса папáла харóша. Сéна былó мнагавáто, паграблí, у сташкí пакíдалі. Ну ў кýчы éтые сташкáмі. Із Дарасінó, мáбіць жэ рабíла іс хлóпцамі, узялí кóхці éтые, трáктар прышóў па сéно, а другí трáктар (кóхці) ідзé за ім грузíць сéно. То за ўсю жысь мне éтак павязлó. Вот папáлі такíе хлóпцы, што рабíла я зь íмі, дак янí ўсе пагрузíлі. Нáшэ сéно пагрузíлі, прывязьлí і скíдалі ў скíрду, тут Арсéнева дарóшка былá. Адзíн на матацыкле прыéхаў пасабляць, а другí на трáктары. Алé дóбрэ бáцько даў і замачыцць. Дак вéдалі, якáя я былá рабóтніца зь íмі. Уважáлі. І ціпéр у бальнíцы бáцько, дак катóры ў бальнíцы ляжыць, абязáцельно прывéт перадáсь і папытáе: як здарóўе?

***Гутарка Трухан Вольгі Георгіеўны 1934 г. н. з Трухан Аляксеем Рыгоравічам 1937 г. н.**; запіс зроблены ў 2008 г.*

Я дýмаў, што і Тамáра паéхала. Рáна канá вывóдзіў, дак бáчыў – Тóля паéхаў. Дак я дýмаю: ужэ на Мінск. Акáзваецца, ён на рыбáлку. То ўжэ сёне сушы нóчвы – дзяржы. Ужэ ён прывязé, брат ты мой, цэнтнераў два рыбы.

***

– Ну што? Жыто ўжэ пасушыла?
– А скóлькі тагó жыта?
– Як скóлькі? Мяшкóў дзéсяць жа нажáла?
– І палавíну ні нажáла, што ў прóшлум гóдзе.

***

Я дýмаў, што ён дóма, пайдý пагулáю. А ягó німá. Учóрэ жыто жжаў. Прыéхаў зноў з Паўстыня. У ягó гектáраў сéмдзесят ці сто. У ягó і прэс éты салóму цюкавáць, і капáлкі, і саджáлкі, пагрýжчык. Калхóзу лéтась вазíў сéно з Пагóськаго. Шчэ лéтась, мне казáў, ні былó Кóлі, дак аттýль зьвязьлí ў Дарасінó. Ён сваéю цéхнікаю і салóму пакруцíў у Дарасíн. Míша яму званíў. Дак кáжэ: сáмо завіхáюса малацíць. У Дарасíн яшчэ і цяпéр бýдзе кáждаму памагáць. Éтаго калхóза ніхтó і ні жджэ цяпéр. Хацá б яшчэ ў сенцябры прышóў калхóзны жаць. Салярку давáй, за салярку сажнé, грóшы за грóшы. Салярка грóшы стóіць. І ён знáе, кóлькі стóіць. Вынес каністру, залíў і сажáў. Яшчэ прыéхаў назáўтрэ і напазáўтрэ. У нядзéлю ж дож быў. У панядзéлак вярнýўса і сажáў. Слáва Бóгу, што сажáў. Дай сухóе. Я ні сушыў, аддáў Хóдзінаму, дак ён мне і змалóў, штоб ні цягáць. Я на воз, да Хóдзінаму, памалóў, хоць бы што, сухóе жыто.

***

– Зноў высыпало зéлье. Дак я ж былá выпалала.
– Мы ж выпалалі. Чысто і харашó. А цяпéр, пакýль выбірáць, зноў зарасьцé.
– Я выпалала да зялíначкі, німá нідзé і кáльва. А отó ізнóў высыпало.
– Я ж табé кажý: у менé ў агарóтчыку зелянéе, хоць выбірáй. У мянé і лéтась о так во. Янá забалéла, ні былó, дак я ўжэ сам. Выкапаю, а тады зграбý картаплянік. Дак я патрóшку: вот выкапаю баразён кóлькі, а тады падбярý іх, у пóграб занясý кашалём, а тады зграбý. Дак іх чым палóць – выкапаў. А счас стáло зéляно, хоць палí картóплі.

***

Míша папытáў картóшкі ў бáцька. Дак хібá ш бáцько аткáжацца. Прыяжджáй, дадзíм, есь. Дак ён, прáўда, прыéхаў, дак яшчэ і ў мянé папытáў: я дýмаў, цётка Мáня дась мне картóшкі, а ў яé цяпéр слáбые картóшкі, янá парáіла, што éто ў вас харóшая картóшка, казáлі. У нас былá напрóці Барсукóвых на том загóнчыку. Мы абрабíлі éту зéмлю і пéрвы гот садзíлі там. Хто ні йшоў, так усé пазірáюць і кáжуць: о-о-о, штоб на такýм пяскý да парасьцí éтак картóшцэ харóшуй.

Міша ка́жэ: я вам дам ме́лкае мяшэ́чэк, а вы да́йце бальшо́е. Я хо́чу завесьці́ сыні́шкам. Бяры́, мяня́й. У нас жа худо́ба была́, сьвіне́й чарада́. То ці яны́ ме́лкае з'ядзя́ць ці бальшо́е, то адзіна́каво. Яшчэ́ як сьвіня́м, то ме́лка яна́ спарне́йша. Вось узя́ў мяшо́к бальшы́, като́ры шы́йсят кілагра́м зярна́ насыпа́ецца. Я пале́зла ў по́грап, наклада́ю кашалі́, падаю, ён тут бярэ́ і ў мяшо́к. Мяшо́к на паро́зе стаі́ць – і ўсе трамбу́е, і усе́ падкала́чвае, штоб бо́льш уле́зло. І ён гэ́ты мяшо́к бальшы́ так наластава́ў, што як мо́жна завяза́ць. І ён удваі́х з жанчы́наю. Жанчы́на заве́цца Лю́ба яго́, і зь е́таю Лю́баю сває́ю. Дак што ж е́тые Лю́бы, яны́ ж век такі́х мяшко́ў ні падыма́лі. Дак ён узя́ў за адзі́н рог, а яна́ за е́ты хвост, што заўя́зваюць, там узя́цца ўжэ німо́жно яго́. Сьці́снуў, што німо́жно ўзя́цца. Яны́ про́йдуць шаго́ў чаты́ры-п'яць – пало́жаць мяшо́к е́ты, про́йдуць – абра́тно пало́жаць. Вы́нясьлі на ву́ліцу, ужэ́ ні ве́даю, як яны́ там у машы́ну палажы́лі, у бага́жнік ці ўжэ ў срадзі́ну. Вось прыво́зяць карто́шку нам адда́ць ме́лку. Дзе яны́ і такі́ мяшэ́чэк узялі́? Прынясьлі́ той мяшэ́чэк, вы́сыпалі – там німа́ на што пазіра́ць. Ра́зьве е́то ні жа́днасьць? Я ні шкаду́ю ніч́ого. Но ты ж абяшча́ў як падмяні́ць ці замяні́ць. А ба́чыш які́ прыўёз!

***

Но́рмы шчэ ж рабі́ла. Дак лён падыма́лі ўво́сень. Ні было́ калі́ ўдзень прыбра́ць э́ту капу́сту. Дак я папрасі́ла ба́цька с утра́, яшчэ́ да рабо́ты, паста́вілі дзе́шку ў по́грап. Я прышла́ с рабо́ты, да сьві́ня пакармі́ла, да худо́пку е́ту ўсю. Што, ду́маю, рабі́ць. Чу́ю лю́дзі гамо́няць, што капу́сту на сяле́ зрэ́зваюць. Дак я тапо́рык, да за плёнку, да дава́й е́ту капу́сту сьсе́каць, да ў ку́чкі. А відната́ – по́ўнік, по́мню быў, што про́сто і́гла зьбіра́й. Там жэ і пахарашы́ла. Панасі́ла ў мяшкі́, ты́е ж го́ды палатня́ные е́тые льня́ные мяшкі́ харо́шые былі́, шыро́кіе. Да панасі́ла ў по́грап. Папуска́ла е́тые мяшкі́, злажы́ла ў дзе́шку. Тады́ ўжэ ба́цько прышо́ў с канюшні, да пасо́біў налі́ць, да со́лі жо́ўту е́ту мі́ску, што ў нас і цяпе́р есь, у га́зе стаі́ць. Е́ту мі́ску со́лі гаро́ю на ту́ю бо́чку. Капу́ста была́, то як ка́мень. Расо́л зь яе́ ці капу́сьнік чы́сьцянькі, про́сто пахаці́ць. Капу́ста аж жаўтава́та яка́ тро́шкі, цьвёрда. Дак як атрэ́ж нажо́м, аж лю́бо пазіра́ць на ту́ю капу́сту. Пасьці́ ўсю дзе́шку і зь'е́лі за зі́му. Така́я ўда́чная была́ капу́ста.

*І. Шаўчук*

## ТЭКСТЫ З ВЁСКІ АМЯЛЬНАЯ ІВАЦЭВІЦКАГА РАЁНА

Вёска Амяльная (мясцовае *Мэлна́йа*) знаходзіцца ў паўднёва-ўсходняй частцы Івацэвіцкага раёна. Гаворка вёскі – заходнепалеская з шэрагам асаблівасцей.

На месцы *ę галосны [а] вымаўляецца ў пераднаціскных складах: *узала́*, але *за́йец*, *па́мець.* У разглядаемай гаворцы гістарычны ***о*** захоўваецца ў пераднаціскных складах пасля цвёрдых зычных і ў канцавых адкрытых складах: *доро́га*, *голова́*, *се́но.*

У гаворцы вёскі адзначаецца галосны ê, які ў вымаўленні набліжаецца да ***і***. Ён вымаўляецца на месцы *ѣ: *лêс*, *сêно*, *снêг*, а таксама ў новых закрытых складах на месцы ***о*** пад націскам: *вêл*, *корêвка.* У дадзенай гаворцы *і захоўваецца пасля губных і пярэднеязычных: *робі́ті*, *мі́ска*, *лі́па.*

Гук [ы] захоўваецца пасля губных зычных у націскным і першым пераднаціскным складах: *вы*, *грыбы́*, *бык.*

Перад этымалагічнымі *ѣ, *е губныя вымаўляюцца цвёрда: *до мэнэ́*, *бэда́*; перад *і, *ь вымаўляюцца мякка: *лові́ті.*

Зычныя ***д***, ***т***, ***з***, ***с***, ***н*** перад гістарычным *е цвёрдыя: *дэ́рэво*, *сэло́.* Перад этымалагічным *і – мяккія: *зімá*, *ні́ва.*

Назіраецца ацвярдзенне мяккіх губных перад этымалагічным націскным *ę з выдзяленнем эпентычнага зычнага [н]: *мн'а́со*, *мн'а́та.*

Гаворцы характэрны губна-губны зычны [w].

У спалучэннях *гы, *кы, *хы заднеязычныя перайшлі ў мяккія: кароткі, ціхі. Перад этымалагічным *е яны цвёрдыя ў прыметніках ніякага роду адзіночнага ліку.

Зычныя [р], [ц] паслядоўна зацвярдзелі.

Шыпячыя [ш], [ч], [ж] заўсёды цвёрдыя: *ша́пка, шчо, жы́то.*

Зычныя на месцы спалучэння «мяккі зычны + ьј» у інтэрвакальным становішчы вымаўляюцца падоўжана: *з'э́л'л'э.*

Форма клічнага склону назоўнікаў жаночага роду адз. ліку пашырана з канчаткам ***-о***: *ма́мо, ба́бо.*

У назоўніках мужчынскага і ніякага роду адіночнага ліку другога скланення з мяккай і зацвярдзелай зычнымі ў аснове ў творным склоне фіксуецца канчатак ***-ем***: *коне́м.*

Назоўнікі жаночага і мужчынскага роду адзіночнага ліку першага і другога скланення з асновай на зацвярдзелы зычны ў месным склоне ўжываюцца з канчаткамі ***-е***, ***-ы***: *на мэжы́.*

Асабова-ўказальныя займеннікі трэцяй асобы ***ён, яна, яно, яны*** маюць наступныя фанетычныя варыянты: *вона́, воно́, воны́.*

У інфінітыве зваротныя дзеясловы выступаюць з постфіксам ***-са***: *мы́цiса, бры́цiса.*

Дзеясловы з асновай на галосны ў інфінітыве маюць суфікс ***-ті***: *спа́ті, каза́ті.*

Для гаворкі характэрна выкарыстанне злучніка і часціцы ***чы***: *чы буw ты до́ма.*

## Родiны

Роді́лосо дітя́ – гэто́ ра́дость у ха́ту. Вэлі́ка ра́дость була́. Со́рок дён ро́жэніца нэ должна́ іте́ w цэ́ркву, бо нэчы́стая. По́сле сорока́ дён дітя́ хрысті́лі, пото́м нэсу́т у цэ́ркву, ба́тюшко wво́діт. Молі́тву чыта́е, прычашча́е. По́сле гэ́того ма́ті мо́жэ ході́ті w цэ́ркву. Пото́м прыхо́дят додо́му, збіра́ют родню́ і гуля́ют крэ́зьбіны.

Колі́ заро́діцца wну́чка, то ба́ба говоры́ла: «Коб росла́ здоро́вэнька, коб ха́ту мэла́, вэ́сь пора́дочок вэла́, коб пе́чку топі́ла, пірогі́ сма́чны пэкла́, коб хоро́шою хозя́йкою була́». І з ра́дості ба́ба бра́ласа wбо́кі і танцова́ла.

А колі́ ро́діцца хло́пчык, то ёго́ до́лжэн поздраwля́ті дед: «Коб ко́ні годова́w, коб зэ́мэльку паха́w, коб хоро́шым хозя́іном буw, коб усэ́ маў і де́ті ґодоваw».

## Як жалі жыто

Як ішлі́ жа́ті жы́то, то одэва́ліса по-пра́знічному у всэ бе́лэе. Спова́лі пе́сні:

Широ́кая ні́ва
Жэ́нчыкоw потомі́ла.
Нэ так жы́то жну́чы,
Як доро́гою іду́чы (гэ́то спова́лі днём).
Пыд вэ́чор зноw спова́лі:
Ой, пове́сю я ду́ду
На зэлёному ду́бу,
Да нэха́й ду́да гра́е
Да нэха́й ма́ті чу́е
Мне вэчэ́ру готу́е

Як сухэ́е жы́то було́, то w снопы́ вэза́лі, а як вла́жнэе, то на помнёт кла́лі, на пэрэвя́сло. А колі́ воно́ посо́хнэ, то мужчы́ны вэза́лі ёго́ w снопы́. Ста́wлялі w дэся́ткі – дэ́сэть снопэ́w, або w сорокэ́wкі – со́рок снопэ́w, або w ко́пы – шэйся́т снопэ́w. На wсэ́ накла́далі ша́пку, коб нэ замочы́w до́ждж, коб обте́кало.

### Сваты

Жэніхо́ва родня́ прыхо́дзіт до молодо́е. Осо́бенно бэру́т хро́сну ма́ті, пэку́т піро́га́ і прыно́сят молодэ́й. Колі́ молода́я согла́сна іте́ за жэніха́, то вона́ розрэ́звае піро́га́ і роздае́ подру́жкам і прыгова́рвае, хто скорэ́й з'е́ст, той за́муж ху́тко пэ́йдэ за е́ю. А пото́м накрыва́ют стола́ і часту́юцца.

А пэ́ршым до́лгом як сваты́ захо́дят у ха́ту ма́ті жэніха́ гово́рыт так: «Дэ́нь до́бры вам, чы трэ́ба мы ва́м, як трэ́ба – прыме́тэ, а як нэ трэ́ба, то гоне́тэ». А молодо́е ма́ті отвэча́е: «Трэ́ба, сваткі́, вы нам трэ́ба». І дае́ ім ме́сцэ се́сьті. Молода́я да́жэ пода́ркі дае́. Згова́рваліса, колі́, у які́ дэнь бу́дэ вэсе́лле. Оно́, коб нэ w пэ́ст, коб до поста́.

### Вэселле

Ма́ті молодо́го і молодо́е хо́дят у ка́жду ха́ту з піро́го́м і прыглаша́ют спэкте́ корова́й. А са́ма главна корова́йніца – гэ́то хрышчо́на ма́ті, колі́ вона́ w па́ры.

Молода́я прыглаша́е своі́х подру́жок наража́ті корова́й. По́сле гэ́того іх угошча́е. У субо́ту пэклі́ корова́й, а w нэде́лю начына́лосо вэсе́лле. Молоду́ю наража́лі іе́ подру́гі, сажа́лі на дэжу́, пе́сні спова́лі:

Ты пэ́йдэш (і́мя молодо́е) у чужы́е лю́ді,
Ох, жа́ль ма́тцы бу́дэ,
Бо та́м стэ́жэчкі нэ выбі́ваны,
То ты бу́дэш блуді́ті,
А усе́дочкі нэзнако́мые
Тэбэ́ бу́дут суді́ті (гэ́то спова́ют го́сті).
А подру́жкі молодо́е отвэча́ют:
А я стэ́жэчкі повыбі́ваю
Ра́но по во́ду ідучы.
А з усе́дамі обозна́юса
Густэ́е жы́то жну́чы.
А я з усе́дамі обозна́юса,
Той нэ бу́дут мэнэ́ суді́ті

Пото́м прыежджа́е молоды́. Молоду́ю сажа́ют за стэ́л. Вона́ сажа́е ка́й сэбэ́ своі́х подру́жок у дру́жкі. А молоды́ прыво́зіт дружкэ́w. Дру́жкі молодо́е ка́жут, кэ́лька трэ́ба гро́шэй за молоду́ю. Дру́жкі даю́т гості́нцы дружка́м молодо́го, хто плато́чка, хто ручніко́м пэрэвя́звае, хто ле́нточкою. По́сле гэ́того молоды́ обхо́дзіт вокру́г стола́ тры ра́за по схо́ду со́нца, а молода́я выдвіга́е пра́вую но́гу. І колі́ молоды́ нэ хо́чэ, коб вона́ была́ гла́wна w ха́ті, то вэ́н збіва́е но́гу, а колі́ не, то пэрэступа́е. По́сле гэ́того саді́ліса wсе за стэл, выпіва́лі по ча́рцы і збіра́ліса е́хаті w цэ́ркву вэнча́тіса. Пока́ е́дут до цэ́рквы молоды́ і молода́я е́халі ка́жды со своею роднёю. Е́халі на ко́нях. Ко́лі ба́тюшко повэнча́е, то wжэ́ е́дут на одно́м коне́. І той цэ́лы дэ́нь гуля́ют у молодо́е. Пэ́рэд ху́ткім од'е́здом прыно́сят корова́й у ха́ту на стэл і да́рат молоду́ю. По́сле гэ́того збіра́юцца і молоды́ забіра́е молоду́ю до сэбэ́. Молоды́ до́лжэн вы́купіті wсэ прыда́нэе молодо́е w іе́ родно́го бра́та. Бра́т молодо́е саді́цца на ку́фэр і зага́двае молодо́му цэ́ну за сэстру́ і за прыда́нэе.

Вэ́н гово́рыт:

Мы іе́ годова́лі,
Ей прыда́нэ собіра́лі.
А ты, бу́дь до́бры вы́куп.

У понэде́лок е́дут у пэрэзо́w до молодо́го. Ідэ́ wся родня́ молодо́е. Ко́лі молода́я прыежджа́е до молодо́го, свэкро́w здыма́е ей фату́ і завя́звае ху́стку. З е́ю е́халі прыда́ночкі – дэwча́та і бра́т, які́ оддава́w прыда́нэ. Іх гостю́ют. По родню́ молодо́е е́халі два чолове́ка. Іх пэрэвя́звалі ле́нтамі. А w гэ́тэ врэ́мя родня́ молодо́е дэ́літ корова́я. Пото́м по іх прыежджа́ют і воны́ е́дут до молодо́го. Садя́цца за стэл і ху́тко пэ́рэд од'е́здом прыно́сят корова́й і да́рат молодо́го (ёго́ родня́).

### Як рабілі каравай

Вэсе́лле начыналáсо w нэде́лю. У субóту хрóсная мáті, кóлі воná w пáры, рошчыня́ла коровáй. І гэ́то былá wся́ іé забóта на коровáі. Нэ мэнш як чáс воná ёгó мэсі́ла. Потóм вэн подыхóдіw і ёгó сажáлі w пэ́ч. Часá двá коровáй пэ́кса, а коровáйніцы w гэ́ты час робі́лі шы́шкі для ёгó. Шы́шкі мáзалі яйцóм. Іх робі́лі з прэ́сного тéста. Потóм коровáй вымáлі і наклáдвалі на ёго шы́шкі і знов засóвалі w пэ́ч.

Быw такі́ обрáд. Для коровáя трэ́ба былó тры голі́ны. Іх вырэ́звалі тóко з вішэ́нь. Две голі́ны булі́ по два рожны́, а трэ́йтяя – на тры. Гóлле тóжэ обмáзвалі тéстом і сажáлі w пэ́ч, коб запэклóсо.

На вэсе́ллі молоды́ забірáw голі́ну на тры рожны́, а молодáя – на два. Голі́нкі дэлі́w хрóсны бáтько молодóго.

Наражáті коровáй собірáласа молодё́ж. Іх угошчáлі. Мáці хрышчóна сповáла, колі́ вымáла коровáй:

Коровáю-рáю,  
Я з тобóю грáю:  
Як ры́ба з водóю,  
То я так з тобóю.

*І. С. Шпакоўскі*

## МАТЭРЫЯЛЫ З ПІНСКАГА РАЁНА

*Песні запісаны ў 70–80-я гады ў вёсках Мясяцічы і Шаломічы ад* ***Вольгі Феадосьеўны Колбы, Міхаіла Фаміча Калба, Івана Калба, Соф'і Палкоўскай, цёткі Настулькі.***

### Прыказкі і прымаўкі

А коб ты головою положыв!  
Бэз Бога нэ до порога.  
Бэз працы нэ стоять палацы.  
Вам шчыдрэц, мні млынэц, коўбасы конэц.  
Вовк собакы нэ бойіцца, но звягы ёго.  
Вовка ногы кормлять.  
Высокый до нэба, а дурный – як ны трэба.  
Вэдлюг постэлі вытягвають ножкы.  
Вэлыкый до нэба, а дурный як нэ трэба.  
Голый як луд, а острый як міч.  
Горуй, нэбожэ, то й Біг поможэ.  
Горэ сыроті і бородатому.  
Дай коню по оброку, да й бый по боку.  
Двох – рада-порада, а трэтёго нэ надо.  
Думка за горы, а смэрть за плэчыма.  
Дурня нэ пашуть, нэ сіють, дурэнь сам родыцца.  
Ёму за каршын ны капае, ны льлье, за шыю ны тычэ.  
З доброго куста добра капуста.  
З мора вітёр, а з поля – гість.  
З уруны стожка ныгдэ нэ кладуть.  
За однэ літо выробыв полэ так, шчо як яечня стало.  
Завтрыком тількы собак кормлять.  
Злодэй цап – і ёго зловылы.

Зыма горуе на літо, а літо на зыму.
Зымля любыть, шчоб выробылы.
Зэмля любыть, шчоб выробыв.
Із доброго семя добрэ всэ.
Йіхало да возылосо – тпру, стало – зачыпылосо, ны за пінь, ны за колоду – за дівчыну молоду.
Кінь на чотырох ногах, да й той спотыкаецца, а в чоловіка язык одын, то й нэ дыво.
Клоччэ, вовна – абы кышка повна.
Коваль куе, а жаба лапу суе, кажэ: подкуй і мэнэ.
Копійка копійку прыводыть.
Крутнёю-мутнёю світ пройдэш, алэ назад нэ вэрнэсса.
Куй залізо, покуль гарячэ.
Луччэ вдома хліб-капуста, чым у війску кура пуста.
Муж як постіл, но сунь його за стіл.
На злодэю шапка горыть.
На твойму (свойму) смітныку і півэнь пэвный.
Надопік, як гірка рэдька.
Назад з моглыц нэ нэсуть.
Налытів, як шуляк.
Нова – новынка, щоб ны боліла ны голова, ны спынка.
Ны полюбыть на бруднэ – полюбыть на чыстэ, труднэ.
Нэ вір ныкому – ніхто зрадыть.
Нэ радуйса вэлыкому багатству, нэ смутыса вэлыкуй бідності.
Нэ славна хата угламы, а славна пырогамы.
Нэ славный чоловік ліцом, да славный умом.
Нэ суй носа до чужого вопроса.
Нэмылого гостя нэмылы пырогы.
Оробэй малый, да й той зло мае.
От пуп начынывса круп, да нэ круп, а быцятыкы.
От своє пропадэ, а коб украсты.
Посынів – як свынячый тато.
Пропало, шчо з воза впало.
Пэкучэ дэрэво і здоровэе пэрэедае.
Рання пташэчка зубкы тэрэбыть (протырае), а пізьня очкы.
Ржа і залізо пэрэедае.
Рыба шукае глыба, а чоловік де луччэй.
Сів як колюн у цвытах.
Скачы, вражэ, як пан кажэ.
Сорочка на тобі плавом плавае.
Тогді нэділя, колы сорочка біла.
У рыці, да нэ в руці.
Утрох нэ дружы і ныкому правды нэ кажы.
Хата – загата, конця юй нэмае.
Хліб, сіль да вода – то й ымае голода!
Хоч до вола, абы вдома нэ було.
Хоч жінка – свынка, да грошэй скрынка.
Хоч ломоніс, абы Біг прыніс.
Хто правду кажэ, то бэз вэчэры спаты ляжэ.
Чоловічэ, буйса Бога – лытыть мыска до порога.
Як помажэш, так пойідэш.
Якый був, то був, хліба-солы роздобув.

## Песні

1.
**Ой, чарочка, ты, чарочка выновая**,
З кым тыбэ я буду пыты, молодая?
Ой, пойду я з мылэнькым у садочок,
Нашчыплю я вышынёк-ягодочок.
Гнула, гнула вышэньку, ны нагнула,
Розослала шовков платок да й заснула,
Розослала шовков платок да й заснула,
Як прыйіхав мылынькый, то й ны чула;
– Й устань, устань, моя мыла, пробудыса,
Да й на мою колясочку подывыса;
Ой, у мынэ колясочка ны простая,
Ой, у мынэ колясочка золотая,
Ой, у мэнэ коныкы вороныйі,
Ой, у мэнэ кучырыкы золотыйі.
Ой, у мэнэ кучырыкы золотыйі,
Ой, у мынэ літа молодыйі.

2.
**Ой, тыха-тыха да Лозыцкая вулыца,**
Іпічэ ж тыхішая станэ, як я буду выйіжжаты,
Як мэнэ тута нэ будэ,
Як я буду звідты выйіжжаты,
Я вылю хлопцам в золотыйі дудкы граты.
Одын грае, а другый нотуе!
– Ох, чого ж та девча з Лозыч мандруе?
Чы вона із гора, чы з вылыкого лыха,
Чы ны сподобала в Лозыч собі жыныха?
Ох, вона ны з гора, ны з вылыкого лыха,
Да нэ сподобала в Лозычах собі жыныха.

3.
**Садітэса, молодыцы, в плавыцы**
Да нажнэмо шовковойі травыцы
Да позастылаем всі лозыцкы вулыцы.
Ныхай та травыца по вулыцах буяе,
Ныхай та дывчына по Лозычах гуляе,
Ныхай та травыца по вулыцах спіе,
Ныхай та дывчына по мылому мліе,
Ныхай та травыца по вулоньках родыть,
Ныхай той козачок до дівчны ходыть.

4.
– **Мусыть, тыбэ, сынку, та дівчына любыть** –
По мойму садочку свойі слідочкы губыть.
Мусыть, тыбэ, сынку, та дівчына прыварыла,
Шчо тобі, сынку, да йийі вычэра мыла.
– Ох, я ныц ны йів, а водыцы напывса,
На тую дівчынку всю нічку дывывса.
Ох, я ныц ны йів, оно рыбу з очамы,
Ох, сам жэ я ны знаю, шчо в дівчыны за чары.

5.
**Ой, піду ж я да й у чыстэе полэ**,
Да там муй братко на пшэнычэньку й орэ.
– Да покынь, братко, на пшыныцу й ораты
Да ходы, братку, мою долю шукаты.
Ой, доля, доля, дэ ж ты поділась –
Чы в огні згоріла, чы в воді втопылась
Як в огні згоріла, то й лыжы у попэлы,
Колы втопылась, то плывы [з водою].
– В огні ны згоріла, й а в воді нэ втопылась,
– Ото й тобі, сэстро, така доля судылась.

6.
**Розкололаса да сухая лышчына**,
Ой, да ж покохаласа з козаком дівчына.
Ой, розкололаса на чотыры половыны,
Да й покохалыса обое, молодыйі.
Да покохалыса обое молодыйі,
Да поныдужалы лыхойі годыны.
Ой да дівчына лыжыть у мамонькы в коморы,
А козак-бідняк в зэлёнуй дубровы.
Ой, дівчына й лыжыть у мамонькы в подушках,
А козак-бідняк пры зылёных лужках.
Ох, для дівчыны мыдок-пыво носять,
А козак-бідняк холоднойі воды просыть.
– Ох, моя мамонько, вжэ я буду нэжыва,
Понысы козаку да хоч шкляночку пыва.
Як жэ він жыв будэ, то й нас ны забудэ,
Як він умрэ, то спасенье душы будэ.
У ныділю рано во всі звоны зазвонылы.
– Выйды, мамонько, вжэ козака схоронылы.
А як шчэ ж хоронять, то й мынэ нарадітэ,
Гэй, шчэ й в одну ямку з йім положітэ;
Ой, да положітэ разом головамы,
Шчоб була розмова на тым світы мэжду намы.

7.
**Ішлы чумакы чотыры года**,
Нэ бачылы прыгідонькы зроду нікогда.
Ох, одын чумак упав да й лэжыть;
Ныхто його нэ пытае, шчо в його болыть.
– Болыть у мэнэ жывіт, голова,
Остаюцца сывы волы, жінка молода.
Ох ты отаман, ты вэлыкый пан,
Бэры бэры мойі грошы давай раду мні,
Нэ стае грошэй, продавай волы.
Ратуй, ратуй, отаманэ, хлопэц молодый.
Крыкнулы волы на зэлёный гай,
Ой крыкнулы сывы волы з пашы ідучы:
– Помэр, помэр наш хазяйін ныкому нэ жаль.

– Ох вы чумакы, вы браття мойі,
Вы копайтэ могылоньку по глазах свойіх.
Сталы чумакы могылу копать,
Прылэтіла зозулэнька да й стала ковать.
Гэто ж нэ зозуля, гэто ж рідна мать,
Прыпала к сырій зэмлі, начала рыдать.

8.
**Ох, росла ж у лузы чырвона калына**.
– Да чого ты плачэш, молода дівчыно?
– Да того я плачу, да того, шчо знаю,
Шчо ты мэнэ бырэш – я посагу ны маю.
– Молода дівчына, ты ны буйса нычого –
Ны будэ докору й од мынэ ж молодого,
– Як ны докорыш ты – докорыть твоя маты,
Шчо нычого ныма, ны трэба було браты.
– Выганаяють волы пастушкы з оборы.
Спыть моя нывістка да й у новуй коморы.
– Встань, моя ж нэвістко, коб здорова ты ны встала,
Попасы той товар, шчо од тата ж прыгнала.
Попасы той товар, шчо од тата прыгнала,
Да і шчэ ту корову, шчо мамонька даровала.
– Ой, коб жэ я мала свою власну корову,
Тогді б я погнала на зэлёную дуброву.
Ох, коб жэ я мала ой, власну тылыцу,
То б і я погнала б на шовкову травыцу.

9.
**– Чы ты будэш по мні, мыла, тужыты**,
Як я пойду до войска служыты?
– Ой, ны буду, мылый, ны буду,
Як выйідэш за ворота, то й тыбэ я забуду.
Да ны вспів мылый да на коныка сісты,
Як ны стала мыла да ны пыты, ны йісты.
Ны зайіхав мылый да за ліс, за долыну.
– Ох, вырныса, мылый, я быз тэбэ згыну.
– Ой, ны вырнуса, моя мыла, ны вырнуса,
Як пойду до войска, то слёзамы оболлюса,
Оболлюса, оболлюса дрібнымы слёзамы,
Шчо гуляе моя мыла з дытюкамы.

10.
**Ручынькы давала, тры разы вмывала**,
Бодай жэ, я того кохання ны знала.
Шчаслывый той бувае в Бога,
Хто кохання нэ знав, –
Нічынька спокійна, а дэнь роботлывый.
Піду я в садочок наламлю голячок,
Прытопчу, прыламлю мылого слідочок;
Шчоб вітёр ны звіяв, а роса ны змыла,
Шчоб мого мылого друга ны любыла,
Шчоб мого мылого друга ны любыла.

11.
**Зылэный дубочок на гай похылывся**.
Був добрый сыночок, покуль ны жэнывся.
А як ожынывся да взяв собі жінку,
То став забуваты про рідну сторінку.
– Ты думаеш, мамо, шчо я ны журуся –
На рідну сторінку я скоро вырнуса.
Ой, мамо, ты мамо, якая ж ты стала –
Я дав «здрастуй», а ты ны одказала.
– Сыночок муй рідный,
«Здоров» ны сказала –
За дрібнымы слёзамы тыбэ ны познала.

12.
**Ой п'ють люды горілочку**,
А вы, гусы, воду.
Трудно жыты на чужыні
Та й быз свого роду.
Болыть моя головонька,
Нічым ізв'язаты;
Ой, далёко до мамонькы,
Нікым наказаты.
Ой, зв'яжу головоньку
Шовковым платочком,
Накажу я до мамонькы
Чорным вороночком.
Шовков платок, шовков платок
Головкы ны зв'яжэ,
Чорный ворон, чорный ворон
Правдонькы ны скажэ.
Ой, вырву з рожы квітку
Да й пушчу на воду.
Плывы, плывы з рожы, квітка
Й аж до мого роду.
Плыла, плыла з рожы квітка
Й на бэрожку стала,
Вышла маты воду браты
Квіточку й познала.
Ой чого ж ты, з рож квітка,
Да зов'яла?
Мусыть, моя дочка мыла
Ныдужа й лыжала?

13.
**Маты сына выражала** –
Місяцом опаразала,
Зіркою да застягнула,
Долою(!) да й обгорнула.
– Да з Богом да, дытя,
З Богом да з усімы святымы,
Із Трійцою, із Мыколою,
Із шчасцічком, да із долёю!

14.
**Ой, на горі куры**,
Куры-чубатуры.
Ой, коб жэ мні чоловік
Моейі натуры.
(До мойій натуры.)
Шчоб гарілку ны пыв,
Табаку ны нюхав,
Чужых жінок ны любыв,
Одну мынэ слухав,
Чужых жінок ны любыв,
Одну мынэ слухав.
Ой, коб жэ мні молодуй
(Ой коб мэні молодуй)
Вэчора дождацца,
То пошла б я до кумы
Новостей спытацца (дознацца),
То пошла б я до кумы
Новостей спытацца.
Ой, заходю до кумы,
Глянула в оконцэ –
Сыдыть мылынькый муй,
Як яснэе сонцэ,
Сыдыть мылынькый муй,
(Сыдыть муй чоловік,)
Як яснэе сонцэ.
Кума водку налывае,
Нысэ із півня лытку.
(Нысэ рыбку.)
Я ж, як дура, ны стэрпіла,
(А я ж дура ны стэрпіла,)
Да й выбыла (побыла) шыбку,
Я ж, як дура, ны стэрпіла,
Да й выбыла шыбку.
Ой, прыходю ж я додому,
Яка ж бо я стала:
(Ой, яка ж я стала:)
Білэнькою хусточкою
Головку зв'язала.
Як прыходыть муй мылэнькый,
Бы (Як) чорт із болота,
Я ж пытаю: «Дэ ты був?»
Кажэ: «На роботі».
Ой, коб мыні молодуй
Раночку дождаты,
То пошла б я до кумы
Новостей пытаты.
Ой, заходю до кумы,
Кума шчэ ны вмыта.
– Чого ж в тэбэ, моя кумка,
Шыбочка побыта?
– Була в мынэ курка,
Курка полохлыва,
Ізлякаласа мынэ –
Шыбочку побыла.
– Будэ тобі курка
Голову клёваты,
Як ты будэш моёго
Мужыка впускаты.

15.
**Як у нашому сэлі**
Да случылась новына:
Полюбыла Катэрына
Господарського сына,
Полюбыла Катэрына
Господарського сына.
Ох пойіхав той сын [Сымон?]
Да й у полэ ораты –
Його жінка Катэрына –
Й у корчомку гуляты,
Його жінка Катэрына –
Й у корчомку гуляты.
Ой, Сымон орэ
Да й у край поглядае –
Другы жонкы обід нэсуть
А моейі нэ мае,
Другы жонкы обід нэсуть
А моейі нэ мае.
Выпрагае Сымон волы
Да зганяе в дуброву;
Сам одівса, сам одівса
Да й ступае додому,
Сам одівса, сам одівса
Да й ступае додому.
Ох прыходыть жэ Сымон
Да до своейі хаты,
Пытаецца свойіх діток:
– А дэ вашая маты?
Пытаецца свойіх діток:
– А дэ вашая маты?
– Ой пошла наша маты
Да й у луг по калыну,
Сама вона говорыла:
– Вжэ я вас покыну,
Сама вона говорыла:
– Вжэ я вас покыну;
Ох пошла наша маты
Да в луг по тэлята,
Сама вона говорыла:

– Я нэ вашая маты,
Сама вона говорыла:
– Я нэ вашая маты.
Ох заходыть жэ Сымон
Да до новойі скрыні –
Нэма сукон, нэма грошэй,
Да нэма Катэрыны.
Нэма сукон, нэма грошэй,
Да нэма Катэрыны.
Луснув той Сымон
Да й у полы рукамы:
– Діткы мойі малэнькыйі,
Да загыну я з вамы.
– Діткы мойі малэнькыйі,
Да загыну я з вамы.
Прыудартэ, морозы,
Да на густыйі (зэлёныйі) лозы;
Скарай, Божэ, Катэрыну
За дытячыйі слёзы,
Скарай, Божэ, Катэрыну
За дытячыйі слёзы.

16.
**– Чырвона калына,**
Чом ны розцвытаеш?
Молода дівчыно,
Шчо й за думку маеш?
– Ох, як жэ мні думку,
Думу ны думаты,
Полюбыла хлопца –
Быруть у солдаты.
– Чырвона калына,
Зылёны лысточкы,
Зожды мынэ, мылая,
Чотыры годочкы.
– Ох, я рада була б
Чотыры зождаты,
(Да шчэ й штыры ждаты,)
Хочуть мынэ маты
За другого оддаты.
– Ой, як хочэ маты
За другого оддаты,
То прышлы пісьмо (пісёмко)
До мынэ, солдата.
Нічку я ны спала –
Пісёмко (пісьмыцо) пысала,
Да й мойму мылынькому
В солдаты (в армію) послала.
Мылый розбырае,
Пісёмко (пісьмыцо) чытае,
Свойму командіру
До ножок падае.
– Ой ты ж, командіру,
Одпусты додому:
Полюбыв дівчыну –
Достаныцца кому?
– Ны пустю, козачэ,
Бо ты довго будэш,
Напыйся водыцы –
Девчу прызабудэш.
– Холодна водыца
У зубы заходыть,
Любая дівчына
З пам'яті ны сходыть.
– Ны пушчу, козачэ,
Ны пушчу самого,
Дам тобі, козачэ,
Коня вороного;
Вороного коня,
Золотэ сыдэльцэ,
Пойідь до дівчыны,
Розвысылы сэрцэ.

17.
**Ой, сыру ж наш білый,**
Ой, зятю наш мылый,
Да любы ж нашу дочку,
Як голуб да голубочку. (2 р.)
Як голуб да голубочку,
У вышнёвому садочку,
Як голуб да голубочку
На дубовым, на лысточку.
Да ны бый йійі на юлоньцы,
Да набый іі в комороньцы;
Да ны бый дубцэм, бо болітымэ,
Покарай йійі словцэм – розумітымэ.
– Будэм быты да дубыною,
Шчоб була господынёю,
Будэм быты да нагайкою,
Шчоб була да хазяйкою.

## НАЗВЫ РАЁНАЎ

Акц. – Акцябрскі
Арш. – Аршанскі
Асіп. – Асіповіцкі
Астр. – Астравецкі
Ашм. – Ашмянскі

Бабр. – Бабруйскі
Бар. – Баранавіцкі
Барыс. – Барысаўскі
Бераст. – Бераставіцкі
Беш. – Бешанковіцкі
Браг. – Брагінскі
Брасл. – Браслаўскі
Брэсц. – Брэсцкі
Буда-Каш. – Буда-Кашалёўскі
Бых. – Быхаўскі
Бял. – Бялыніцкі
Бяроз. – Бярозаўскі
Бярэз. – Бярэзінскі

Віл. – Вілейскі
Віц. – Віцебскі
Валож. – Валожынскі
Ваўк. – Ваўкавыскі
Верхнядзв. – Верхнядзвінскі
Ветк. – Веткаўскі
Воран. – Воранаўскі

Ганц. – Ганцавіцкі
Гарад. – Гарадоцкі
Гл. – Глускі
Глыб. – Глыбоцкі
Гом. – Гомельскі
Гор. – Горацкі
Гродз. – Гродзенскі

Дзярж. – Дзяржынскі
Дзятл. – Дзятлаўскі
Добр. – Добрушскі
Докш. – Докшыцкі
Драг. – Драгічынскі
Дрыб. – Дрыбінскі
Дубр. – Дубровенскі

Ельск. – Ельскі

Жаб. – Жабінскаўскі
Жлоб. – Жлобінскі
Жытк. – Жыткавіцкі

Зэльв. – Зэльвенскі

Іван. – Іванаўскі
Івац. – Івацэвіцкі
Івян. – Івянецкі
Іўеў. – Іўеўскі

Кір. – Кіраўскі
Калінк. – Калінкавіцкі
Кам. – Камянецкі
Капыл. – Капыльскі
Карм. – Кармянскі
Карэл. – Карэліцкі
Касц. – Касцюковіцкі
Клім. – Клімавіцкі
Кліч. – Клічаўскі
Клецк. – Клецкі
Кобр. – Кобрынскі
Краснап. – Краснапольскі
Кругл. – Круглянскі
Круп. – Крупскі
Крыч. – Крычаўскі

Лід. – Лідскі
Лаг. – Лагойскі
Лёзн. – Лёзненскі
Лельч. – Лельчыцкі
Леп. – Лепельскі
Лоеў. – Лоеўскі
Лун. – Лунінецкі
Люб. – Любанскі
Лях. – Ляхавіцкі

Мін. – Мінскі
Маг. – Магілёўскі
Маз. – Мазырскі
Маладз. – Маладзечанскі
Малар. – Маларыцкі
Маст. – Мастоўскі
Мёр. – Мёрскі
Мсцісл. – Мсціслаўскі
Мядз. – Мядзельскі
Навагр. – Навагрудскі
Нараўл. – Нараўлянскі
Нясв. – Нясвіжскі

Пін. – Пінскі
Паст. – Пастаўскі
Петр. – Петрыкаўскі
Пол. – Полацкі
Пруж. – Пружанскі
Пух. – Пухавіцкі

Раг. – Рагачоўскі
Рас. – Расонскі
Рэч. – Рэчыцкі

Саліг. – Салігорскі
Свісл. – Свіслацкі
Светлагор. – Светлагорскі
Сен. – Сенненскі
Слаўг. – Слаўгарадскі
Слон. – Слонімскі
Слуцк. – Слуцкі
Смал. – Смалявіцкі
Смарг. – Смаргонскі
Старадарож. – Старадарожскі
Стаўб. – Стаўбцоўскі
Стол. – Столінскі

Тал. – Талачынскі
Уздз. – Уздзенскі
Ушацк. – Ушацкі

Хойн. – Хойніцкі
Хоц. – Хоцімскі

Чав. – Чавускі
Чач. – Чачэрскі
Чэрв. – Чэрвеньскі
Чэрык. – Чэрыкаўскі

Шарк. – Шаркаўшчынскі
Шкл. – Шклоўскі
Шум. – Шумілінскі
Шчуч. – Шчучынскі

# ЗМЕСТ

## ТЭКСТЫ З БЕЛАРУСКІХ ГАВОРАК

